**2.** недоверчивый. Нсл. 19.
**3.** неверный, неверующий во Христа. Нсл. 19.
**•бязьве́рка**-*ркі-рцы, ж.* **1.** лишенная доверия. *Ср. бязьверак.*
**2.** злочестивая женщина, неуважающая святыни. Нсл. 19. *Бязьверка ты, табе й серады няма.* Нсл.
**3.** недоверчивая. *Бязьверка гэта й роднай матцы не павера.* Нсл.
**•бязьве́рнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —неверный, неверующий во Христа. Нсл. 19. *Жыды бязьвернікі.* Нсл.
**•бязьве́рыца,** *-цы-цы, ж.*—недоверие. МГсл.; Нсл. 19. *Чым я ў цябе заслужыў на бязьверыцу?* Нсл.
**•бязьве́рыцца,** *-руся-рышся*—лишаться доверия. Нсл. 19. *Часта маніш, сам бязьверышся.* Нсл. *Соверш.* **абязьве́рыцца** —лишиться доверия. Нсл. 19. *Раз зманіў, назаўсёды абязьверыўся.* Нсл. *Соверш.* **зьбязьве́рыцца**—(совершенно, **С.**) лишиться доверия. Нсл. 195. *Ты мне зьбязьверыўся раз, другі раз ніколі не пазычу.* Нсл.
**•бязьве́чча**-*ча, предл.-чу; мн. ч.-чы-чаў, ср.*—изувечье, Нсл. 19. увечье. Гсл.; БНсл. *Бязьвечча сабе зрабіў.* Нсл.
**•бязьве́чыць**-*чыш-ча, несоверш., перех.*—изувечивать. Нсл. 19; Ксл. *Ср. безвека биеть.* Смаленск. Праўда, 1229 г. *Як прыступіла, дык і ўзяўся бязьвечыць бацюту.* Кр. Сяло Беш. (Ксл.). *Біўшы так, ты бязьвечыш дзяцё.* Нсл. 19. *Соверш.* **абязьвечыць**—изувечить. Ар.; Шсл.; Гсл. *Ня сунь рукі ў цапы, бо сам сябе абязьвечыш.* Ст. *Прич.* **абязьве́чаны** —изувеченный. Ар.; Шсл.; Нсл. 346; ЗСД. *На векі абязьвечаны чалавек.* Ст.
**•бязьве́чыцца,** *возвр., несоверш.*—изувечиваться. Нсл. 19. *Маладзёны бязьвечацца, ня хочучы ў маскалі.* Нсл. *Соверш.* **абязьве́чыцца**—изувечиться. Нсл.; Ар. *Падыймаючы цяжкое супроць сіл, сам бязьвечышся.* Нсл.
**•бязьві́ніць**-*ню-ніш-не; повел.-нь-ньма, несоверш., перех.*—оправдывать, не находить вины, Гсл. оправдывать осужденного в вине. Нсл. 18. *Чыста вінен, а ты яго бязьвініш.* Нсл. *Бязьвініў, што гэта добра.* Дзьве Душы, 114. *Разам вінаваў і бязьвініў сябе за тое упушчэнства.* Тм. 119. *Соверш.* **абязьвініць**—оправдать осуждаемого, обвиняемого другими. Нсл. 346. *Людзі ўдалі, а Бог абязьвініў.* Нсл. *Прич.* **абязьвінены**—оправданный. *Мікола ўсьведамляў, што радасьць ад гэтае рэакцы ня можа быць абязьвінена й пахвалена.* Дзьве Душы, 123.
**•бязьві́ньне,** *нареч.*—без вины(невинно, **С.**). Нсл. 18. *Бязьвіньне церпім.* Нсл.
**•бязыдэйнасьць**-*ці, ж.*—безыдейность.
**•бязыдэйны**-*ная-нае*—безыдейный.
**•бязыме́нны**-*ная-нае,* **1.** безымянный.
**бязыме́нны палец**—безымянный палец. *Трыма палцамі левымі — малы̀м, бязыме́нным і сярэднім — правую руку із надвор'я пагладзіць.* Кіт. 73б11.
**2.** анонимный. НТ2.(БНсл.).
**бязыме́нны лік**—отвлеченное число. БНсл.
**•бязыме́ньнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—аноним. НТ2(БНсл.)
**•бязымёнка**-*нкі-нцы, ж.*—что-л. безымянное. Бранск(Тихонов 35).
**•бяло табе́,**—*см. под белы.*
**•бялоха**-*охі-осе, ж.*—имя белой коровы. НК: Очерки, 357.
**•бялок**-*лка, м.*—белок. Ар.; Шсл. *Жаўток есьць, а бялка ня любе.* Ст.
**•бялосьць**-*ці, ж.*—белый цвет чего-л., белизна. Нсл. 41; Гсл.; ЗСД. *Бялосьць палатна.* Нсл. *Бялосьць ейных ручак.* Гсл.
**•бяле́ня**-*ні-ні, ж.*—имя белой коровы. НК: Очерки, 357.
**•бяле́т**-*ету, предл.-еце, м.*—билет. Шсл.; Вял. *Далі яму воўчы бялет.* Ст. *Уменьш.* **бяле́цік**-*іка, предл.-іку.* Шсл. *Малѐнькі бялецік.* Ст.
**•бяле́ць**-*ѐю-ѐеш-ѐе, несоверш.* **1.** белеть (становиться белым). Ар.
**пабяле́ць**—стать несколько белым. Ар.
**2.** бледнеть.
**зьбяле́ць,**—побелеть. Гсл.; Ар. *Ці ты, мая дачушачка, сем нядзель хварэла, чаму гэта, рожа кветка на вадзе зьбялела?* Из песни, Войш. *См. спалатнѐць. Отгл. имя сущ.* **зьбяленьне**-*ня, предл.-ню,* **1.** побеление. Гсл.
**2.** бледность. Гсл.
**•бялёны**-*ная-нае,* **1.** покрытый белой краской. *Стаяць стаўпы бялёныя, на іх шапкі зялёныя*(*бярэзы*). Рапан. 353.
**2.** заправленный сметаной, молоком. (Ксл.); НК: Очерки, Но. 38. *Бялёная поліўка.* НК: Очерки, 13.
**•бяле́ць**-*ѐю-ѐеш-ѐе, несоверш.* **1.** белеть (становиться белым). Ар. *Соверш.* **пабялець** —стать несколько белым. Ар.
**2.** бледнеть.
**•бяля́к**-*якà, предл.-якỳ, мн. ч.-кі-коў-комкі-камі-кох, м.*—белый заяц. Астапова Чаш. (Ксл.); Нсл. 41. *Беляка забіў у ваўсе.* Нсл.
**•Бяля́не-ян**(*один* *Белянін, жена* *Бяля̀нка*) —жители гор. Белае. Дсл.
**•бяля́нка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** гриб горкушка, молочай, Нсл. 41. гриб молочай. Ксл. *Бялянак у лесе ня браў.* Горбава Лёз. (Ксл.).
**2.** девица белая лицом. *Ср. бялянaчка.*
**•бяля́начка**-*чкі-чцы,* **1.** *уменьш. к бялянка 1. Белая ты бялянaчка, красная суравежачка, ці баішся ты марозу?* Аляксандраўка 1мгл. (Косіч 238).
**2.** *уменьш. к бялянка 2,*—девица белая лицом. Нсл. 41. *Бялянaчку палюбіў.* Нсл.
**•бяля́нкі**-*нак, мн. ч.*—белки в глазах. Нсл. 41. *Заліў свае бялянкі,*—т.е. опьянел. Нсл.

•**бяля́скі**-*каў, мн. ч.*—забор из столбиков или тонких планок. Растсл. *Ср. баляска 2, балясьнік 1.*

•**бяля́сы**-*сая-сае*—беловатый, Гсл.; Растсл. с белыми пятнами (о животных, **С.**) Нсл. 41. *Бялясы конь.* Нсл. *Бялясы лоб у жарабяці.* Нсл. *Ср. ст.* **бялясшы**—имеющий более белизны в шерсти. Нсл. 729. *Мой конь бялясшы за твайго; тым толькі й распазнаць можна іх.* Нсл.

•**бяля́сшы,** *ср. ст. к бялясы.*

•**бяля́ва**-*вы-ве, ж., раст.*—белянка весенняя.

•**бяля́вая**-*ае*—блондинка. БНсл.

•**бяля́васьць**-*ці, ж.*—беловатость. *І глядзеў у мутную бялявасьць акна.* Адамчык: Арж. колас.

•**бяля́вы**-*вага,* **1.** блондин. БНсл.

**2.**—*см. под белы.*

•**бялі́ць**-*лю, бѐліш-ле, несоверш., што* **1.** делать белым, покрывая мелом, известью и т.п.; производить побелку (белить, **С.**) Шсл.; Ар. *К сьвяту белім хату й печ.* Ст. *Соверш.* **пабяліць**—покрыть белой краской. *Прич.* **пабе́лены**—покрашенный белой краской. *Заставіў пояс золатам шыт, наконча сярэбранае, а пражка зялезная пабеленая.* Гордз. Акты XVII, 2.

**2.** заправлять суп молоком или сметаной. Ар.; Шмсл. *Не бялі шмат крупніку.* Ст. *Соверш.* **забялі́ць**—заправить суп молоком или сметаной. Ар. *Забялі крупнік.* Ст. *Забяліць капусту, грыбы.* Нсл. 161. *Прич.* **забе́лены**—приправленный молоком, сметаной. Ксл.; Ар. *Забеленай крупені не бярэць.* Сураўні Сур. (Ксл.). *Грыбы не забелены.* Нсл. 161. *Ядуць забеленую зацірку.* Ст. *Соверш.* **прыбялі́ць**-*лю, прыбеліш-ле.* Нсл. 496. *Прыбяліла б, але сьмятаны няма.* Нсл. *Прич.* **прыбе́лены**—подбеленный сметаной или молоком. Нсл. 496. *Капуста прыбеленая.*

**3.** снимать кожу с убитой овцы, козы, кролика, зайца. Ар. *Хто будзе бяліць барана?* Ар.

**абяліць, а**), *соверш к бяліць 3. Дзядуля абяліў авечку.* Ар. *Прич.* **абелены.** Ар. *Абеленая авечка.* **б**) снять кору, чтобы была видна белая древесина. *Калі абеліш пугаўё, дык яно будзе лягчэйшае.* Слопішча Шацк. (Шсл.).

**4.** делать белым, подвергая особой обработке, белить, Ксл.; Ар. выполаскивать (не только, **С.**) и высушивать на солнце новый холст. Шсл. *Скуты беляць попелам.* Кураеды Беш. (Ксл.). *Бабы панѐсьлі бяліць палатно.* Ст. *Зімỳ прала, вясну ткала, лецечка бяліла.* Косіч, 243. *Край Дунаю палотны бяліла.* Росуха Імгл. (Косіч 61). *Соверш.* **вы́бяліць.** *Выбялілі палатно.*

**убе́леваць**-*лvirtual*

**убе́леванньне**-*ня, предл.-нню; мн. ч.-ні-няў, отгл. имя сущ. к убелеваць, убелевацца,* —старание довести до надлежащей белизны. Нсл. 648. *За ўбелеваньням палатна шмат часу страцілі.* Нсл. *Соверш.* **убялі́ць**-*лю, убѐліш-ле.* Нсл. 648. *Прич.* **убе́лены**—доведенный до надлежащей белизны. Нсл. 648.

•**бялі́цца,** *бѐліцца, страд. к бяліць 1, 2, 3, 4.*

**убе́левацца**-*лююся-люешся,* **1.** быть доводиму до надлежащей белизны. Нсл. 648. *Мае палотны сёлета ўбелеюцца, убяліліся хораша.* Нсл.

**2.** умываться или притираться белилами. Нсл. 648. *Паня наша ўбелюецца, убялілася сядні, знаць гасьцей чакае.* Нсл. *Соверш.* **убялі́цца, а**) быть доведену до надлежащей белизны. Нсл. 648. **б**) *соверш. к убелевацца 2. Паненка , як убялілася, дык і папрыгажэла.* Нсл. 648.

•**бялкі́**-*коў-ком; мн. ч., предл.-ках, единств. ч. нет., презр.*—глаза. Нсл. 729. *Пралупі свае бялкі, дык і абачыш.* Нсл.

•**бялю́га**-*югі-юзе, ж.*—рыба белуга. Шсл. *Бялюга зламіла пяшкура.* Жораўкі Сьміл. (Шсл.).

•**бялю́к**-*юкỳ, предл.-юкỳ, м., бот.*—венечник. НТ6(БНсл.).

•**бялю́сенькі,**—*см. под белы.*

•**бянёха**-*ёхі-ёсе, ж.* **1.** нянька, балующая ребенка. Нсл. 25. *Даў Бог бянёху, усё цацкаецца а бянёхаецца з малым.* Нсл.

**2.** *общ.*—не сходящее с рук дитя. Нсл. 25. *Уменьш.* **бянёшка**-*шкі-шцы*—ребёнок, любящий забавляться на руках. Нсл. 25.

•**бянёханьне**-*ня, предл.-нню, ср., отгл. имя сущ. к бянёхаць, бянёхацца.* **1.** няньчение дитяти (на руках, **С.**) Нсл. 25.

**2.** медленное занятие чем-л. Нсл. 25. *Да вечара будзе гэта бянёханьне.* Нсл.

•**бянёхаць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.* **1.** няньчить, качать ребёнка на руках. Нсл. 25.

**2.** играть с вещью, подобно как с ребёнком или с куклою. Нсл. 25. *Бянёхаеш шклянку, пакуль зьбянёхаеш.* Нсл. *Соверш.* **зьбянёхаць**—испортить или разбить "бянёхаючы". Нсл. 25. *См. бянёхаць 2.*

•**бянёхацца**-*аюся-аешся, несоверш.*—возиться, забавляться с кем или с чем, подобно как с ребёнком или игрушкой. Нсл. 25. *Перастань бянёхацца зь дзяцём, ідзі на работу.* Нсл. *Досіць табе бянёхацца зь лялькамі, пара вучыцца шыць.* Тм.

•**бянёхі**-*хаў, единств. ч. нет.*—шалости, баловное обращение с кем, чем-л. Нсл. 25. *Бянёхі не давядуць да дабра.* Нсл.

•**бянтэжыць**-*жу-жыш-жа, несоверш., перех.* **1.** путать, спутывать, перемешивать, разбрасывать в разные стороны. Ар.; Вал.

**2.** сбивать с толку. Гсл.; Нсл. 25. *Не бянтэж дзеўкі.* Нсл.

**3.** конфузить, Нсл. 25. называть какими-л. обидными, бранными словами. Вал.

**зьбянтэжыць, 1.** *соверш. к бянтэжыць 1. Вецер зьбянтэжыў бабкі (снапоў)*—поразбросал снопы. Вал. *Град зьбянтэжыў збожжа.* Яцкава Вал. **2.** сбить с толку. *Зьбянтэжылі хлапца.* Нсл.
**3.** сконфузить. Нсл. 25.

•**бянтэжыцца,** *-жуся-жышся, несоверш.* —конфузиться, сбиваться с толку, путаться. Нсл. 25. *Не бянтэжся, гавары.* Нсл. *Соверш.* **зьбянтэжыцца.** Нсл. 25. *Зьбянтэжыўся да сьлёз.* Нсл.

•**бяроза, бярэза(** Ар.)-*зы-зе, ж.*—береза.

**бярэзіна**-*ны-не,* Гсл.; НК.: Очерки, Но. 902 —одно березовое дерево. Шсл.; Ар. *Сьсек добрую бярэзіну на калёсы.* Ст. *Берка цячэць із бярэзіны.* Навікі Беш. (Ксл.). *Уменьш.* **бярэзка**-*зкі-зцы.* Ар. *Собир.* **бярэзьзе**-*зя, предл.-зю*—берёзовый лес. Лугі Пар. (Дсл. 26).

•**бярозавік, бярэзавік,** Ар.-*іку, предл.-іку, м.* **1.** весенний сок берёзы, употребляемый как напиток. Шсл.; Косіч 257; Нсл. 729. *Напіся бярозавіку, калі ня хочаш вады.* Ст. *На Пятроўку да заквасу бацьвіньня зьберлі вядзёр дзесяць бярозавіку.* Нсл. *Бярозавік сёлета дужа салодкі, добра зьберці дзежку на квас.* ЗСД 233. *Уменьш.* **бярозавічак, бярэзавічак.** *Пачастуй татульку бярозавічкам.* Нсл. 729.
**2.** плод яблони, получившийся от прививки когда-то березы. НК.: Очерки, Но. 813.

•**бярозавы, бярэзавы,** Ар.-*вая-вае*—берёзовый. Ар.; Шсл. *Жалі пад бярозавым гаям.* Ст.

**бярозавы(бярэзавы) жук**—майский жук или хрущ. *Во калі цёпла: ужо лётаюць бярозавыя жуке.* Ст.

**бярозавая каша**— (на смех): наказание розгами. Ар.; Шсл. *Чаго табе даць: мо' бярозавае кашкі?* Ст.

•**бярозка(бярэзка)**-*зкі-зцы, ж., раст.* **1.** вьюнок призаборный, Гсл. и полевой. Шсл. *Увесь лён спляла бярозка.* Ст.
**2.**—*см. под бяроза.*

•**бяроста, бярэста**-*сты-сьце, ж.*—берёста. Шсл. *Вярэнька сплецена зь бяросты.* Ст. *Одна* **бярэсьціна.** Ксл. *Падай бярэсьціну зацепліць печку.* Сянно (Ксл.).

•**бяроставы, бярэставы**-*вая-вае*—берестовый. Шс *Пастух зрабіў ьяроставую трубу.* Ст.

•**бярэза,**—*см. под бяроза.*

•**бярэзавік,**—*см. под бярозавік.*

•**бярэзьнік**-*іку, предл.-іку, м.*—березовый лес, НК.: Очерки 467. берёзовая роща. Шсл.; Ар. *Каровы пагналі ў бярэзьнік.* Ст. *Бярэзьнікам пяе над галавой.* Лойка: Л. песьня. *Уменьш.* **бярэзьнічак**-*чка*—берёзовы лесок. Ксл. *За беленькім бярэзьнічкам талалайчык сьвішча (язык).* Сьвіціна Беш. (Ксл.).

•**бярэжа кабыла**—кобыла жеребная. Высачэрт Пар. (Дсл.).

•**бярэма**-*ма, предл.-ме; мн. ч. бярэмы-маў, ср.*—охапка, сколько можна понести в руках перед собою, НК.: Очерки, Но. 722; Ельн.(Дсл. 26). ноша в обхват руками, Нсл. 25. охапка, Ксл. ноша. Гсл. *Прынясі дзьве бярэмы дроў.* Рудня Аз. (Ксл.). *Набраў бярэма, як падняць.* Нсл. *Уменьш.* **бярэмца**-*ца, предл.юцу; мн. ч.-цы-цаў.* Нсл. 25. *Бярэмца сена.* Нсл.

•**бярэста,**—*см. под бяроста.*

•**бярэць,** *соверш. узяло, безлич.,—см. под бёрці.*

•**бярдзе́чнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —мастер, изготовляющий бёрда. Дсл. 25.

•**бярлог**-*ога, предл.-озе, м.*—берлога. Ар.

•**бярловы**-*вая-вае*—смолотый из невеянных семян. Нсл. 25. *Бярловая мука.* Нсл.

•**бярно**-*на̀; мн. ч. бёрны-наў, ср.*—бревно. Гсл.; Вят., Вост. (Даль); МГсл.; Ксл. *Ледзь паднялі бярно на хату.* Рыбчына Сур. (Ксл.). *См. бярвіно. Уменьш., ласкат.* **бярнушко**-*ка̀; мн. ч.-кі, ср.,* Нсл. 25. *и* **бярну́шка**-*шкі-шцы, ж.* Ксл. *Яна вельмі таўстая гэта бярнушка.* Лятоўшчына Куз. (Ксл.).

•**бярнушковы**-*вая-вае*—состоящий из бревёшек. Нсл. 25.

•**бярну́шка,**—*см. под бярно.*

•**бярвіно**-*на̀; мн. ч.-вёны-наў, ср.*—бревно. Шсл. *Бярвіно ляжыць ды буцьвее на дварэ.* Ст. *Бярвіно ледзь усьцягнулі на козлы.* Ст. *Кілун гэты ня дасьць рады бярвіну̀.* Ст. *Скацілася бярвіно ды дало па назе.* Ст. *См. бярно. Уменьш.* **бярвінцо**-*ца; мн. ч.-венцы. Собир.* **бярве́ньне**-*ня, предл.-ню*—брёвна, Ар.; Шсл.; Гсл. куча бревён. Нсл. 25. *Нацягалі на хату бярвеньня.* Ст. *Калі б да гэтага бярвеньня ды яшчэ толькі, вось бы хата была.* Нсл. *Расьпілуй гэтае бярвеньне.* Пужалава Аз. (Ксл.).

•**бясха́тнасьць**-*ці, ж.*—бездомность. *Ср. бясхатны.*

•**бясха́тны,** *-ная-нае*—бездомный(без крова, избы, Даль). Ксл.; Нсл. 24; Вят., Вост. (Даль). *Пажалець надабе бясхатнага чалавека.* Горбава Лёз. (Ксл.). *Бясхатны бабыль.* Нсл.

•**бясхле́біца**-*цы-цы, ж.* недостаток в хлебе. *Блага жыць пры бязьлесіцы, яшчэ гарэй пры бясхлебіцы.* Нсл. 21.(*под бязьлесіца*).

•**бясхмарны**-*ная-нае*—безоблачный. Ксл. *Дзень быў бясхмарны.* Бабінічы Віц. (Ксл.)

•**бясхвосты**-*тая-тае*—бесхвостый.

•**бяседа**-*ды-дзе, ж.*—пирушка, Шсл.; Ксл. пир, пиршество. *Бяз хлеба й солі благая бяседа.* Самін Пух. (Шсл.). *У майго суседа была̀ ўчора бяседа.* Бесьцьвена Сян. (Ксл.)

•**бясконна I,** *нареч.(к бясконны I)*—не по очереди. Нсл. 21. *Бясконна выступаеш.* Нсл.

•**бясконна II,** *нареч.*—не верхом, а пешком. Нсл. 20. противоконно. *Бясконна прыбыў.* Нсл.

•**бясконны I**-*ная-нае*—внеочередный в игре, Нсл. 21. вобще внеочередный. Бясконны ход. *См. бесканоўны.*
•**бясконны II**-*ная-нае,* **1.** пеший. Нсл. 21. *Бясконнага яго выправілі.* Нсл.
**2.** безлошадный.
•**бясконца,** *нареч.* **1.** бесконечно. Ар.; Шсл. *Ідуць сабе, гады ідуць, бы карагод бясконца.* Гарун (ст. "Ідуць гады"). *Як сталі йсьці жаўнеры, дык бясконца йдуць а йдуць.* Ст. *Не магу ж я цярпець такога палажэньня бясконца!* Корзюк. *Любы так бясконца мне яны.* Жылка, 21.
**2.** чрезвычайно, необыкновенно. Ар. *Бясконца добры.* Ар. *Бясконца благі.* Ар. *Памер далёка ад бацькаўшчыны, каторую так бясконца кахаў.* Бацк. Но. 49-50/435-436.
•**бясконцасьць**-*ці, ж.*—бесконечность. БНсл.
•**бясконцы**-*цая-цае*—бесконечный. МГсл.; Ар.; БНсл. *Мне трэба бясконцую сьцежку меж бору.* (Ускалось, Но. 11). *Зару соцыялізмы ты ж разьдзьмухаў пад стогн нявольнікаў мілённы і бясконцы.* Падсонечны(Ускалось, Но. 7, 10). *Валёй страха нябёс, бясконцы шлях і ліры корба.* Жылка. *Паваенная Францыя была паралiжаваная бясконцымі ўрадовымі крышамі.* Бацьк. Но. 1-2/437-438. *Учую твой голас у сьпевах бясконцых.* С. Музыка 188.
•**бяскостачны**-*ная-нае*—бескостный. *Розинки безкосточные.* П.П. 2:3 (З 12 книг Библии).
•**бяскосты**-*тая-тае*—бескостный. Нсл. 21; БНсл. *Бяскостая рыба.* Нсл.
•**бяскосы**-*сая-сае*—неимеющий косы. Нсл. 21. *Што ж ты бяскосы прышоў сена касіць?* Нсл.
•**бяскаятны**-*ная-нае*—нераскаянный. Нсл. 21. *Бяскаятны грэх, грэшнік.* Нсл. *Бяскаятная тва душа.* Нсл.
•**бясклопатны,** *-ная-нае*—беззаботный. Нсл. 21; МГсл.; Шсл.; БНсл. *Бясклопатнага дня няма.* Нсл. *Бясклопатны чалавек.* Нсл. *Нареч.* **бясклопатна**—беззаботно, (Гсл.) без сует, без горя. Нсл. 21; БНсл. *Жыву сабе бясклопатна.* Нсл.
•**бясклясавасьць**-*ці, ж.*—бесклассовость.
•**бясклясавы**-*вая-вае*—бесклассовый.
**бясклясавае грамадзтва**—бесклассовое общество.
•**бяскрыжы,** *-жая-жае*—не имеющий креста. Нсл. 21. *Бяскрыжая царква.* Нсл.
•**бяскрыл**-*ла, предл.-ыле, м., зоол.*—киви. ЗТ.(БНсл.)
•**бяскрышны,** *-ная-нае*—бескризисный. *Ср. крыш.*
•**бяскрыўдны,** *-ная-нае*—справедливый, безобидный.(БНсл.); Нсл. 21. *Бяскрыўдная плата.* Нсл. 21. *Блукаў усьмех бяскрыўднага чалавека.* Цялеш(Ярылаў агонь). *Нареч.* **бяскрыўдна**—безобидно. Нсл. 21; Ксл.; БНсл. *Бяскрыўдна падзяліліся дабром.* Труханавічы Чаш. (Ксл.). *Рассудзіў бязкрыўдна і на тую і на другую старану.* Нсл. 21.
•**бясквотна,** *нареч.* (*к бясквотны*)—беспроцентно. Нсл. 21. *Жыд ніколі не пазыча бясквотна.* Нсл.
•**бясквотны,** *-ная-нае*—беспроцентный. НСл. 21.
**бясквотная вера**—беспроцентное одолжение(кредит, С.) Нсл.
•**бясквітна,** *нареч.* (*к бясквітны*)—без письменного вида, Нсл. 21. без расписки, квитанции, без ордера. *Бясквітна не дазваляй сячы лесу.* Нсл.
•**бясквітны**-*ная-нае*—неимеющий письменного вида, Нсл. 21. без ордера. *Бясквітныя даўгі.* Нсл.
•**бяскудлы**-*лая-лае*—не имеющий *"кудлы"*—патлы, космы. *У бяскудлага не пажывішся хахлом. Послов.* Нсл. 21.
•**бяскульбачны,** *-ная-нае*—неоседланный. Нсл. 21. *Прыехаў конна на бяскульбачным каню.* Нсл.
•**бяскутны**-*ная-нае*—не имеющий дома своего(квартиры, комнаты, С.), бесприютный.(БНсл.); Нсл. 21. *У нашым сяле няма бяскутных радзімаў.* Нсл.
•**бяскыпці**-*цяя-цяе*—неимеющий когтей. Нсл. 21. *Бяскыпцяя курыца.* Нсл.
•**бяспортачнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—мальчик, который еще ходит без штанов. Ксл. *Бач, колькі бяспортачнікаў набралася.* Асінова Аз. (Ксл.)
•**бяспамяціць**-*ячу-яціш-яце, несоверш., перех.*—лишать кого-л. памяти. Нсл. 23. *Б'ючы па галаве, ты яго бяспамяціш, абяспамяціш.* Нсл. *Соверш.* **абяспамяціць**—лишить кого-л. памяти. Нсл. 23.
•**бяспамяціцца**-*ячуся-яцішся, несоверш., собир.*—лишаться памяти. Нсл. 23. *За гэтым клопатам толькі бяспамяцішся, абяспамяціўся.* Нсл. *Соверш.* **абяспамяціцца.** Нсл. 23.
•**бяспамяцьце**-*ця, предл.-цю, ср.* **1.** забвение. Нсл. 23. *Бяспамяцьце напала на мяне.* Нсл.
**2.** амнезия. НТ4.
•**бяспаншчына**-*ны-не, ж.*—состояние имения или поместья без владетеля; безначалие. Нсл. 23. *Ідзе бяспаншчына, там кажны сабе пан.* Нсл.
•**бясплодны,** *-ная-нае*—бесплодный(не дающий плода, потомства). МГсл.
•**бясплоцьны**-*ная-нае*—бесполый.
•**бяспроспу,** *нареч.*—беспросыпа, непробудно. Нсл. 23. *Сьпіць бяспроспу.* Нсл. *См. бяспроспу.*
•**бяспроспы,** *нареч.*—непробудно, беспросыпа. Гсл.; МГсл. *См. бяспроспу.*
•**бяспросу,** *нареч.*—без приглашения. Гсл.; Нсл. 24. *Прышоў бяспросу, дык і сядзі ціха.* Нсл. *Бяспросу ня сунь носу. Послов.* Ст.
•**бяспрашпартны,** *-ная-нае*—беспаспортный.

●**бяспра́ўнасьць**-*ці, ж.*—беззаконие. Ксл. *Ён любе бяспраўнасьць.* Бабінічы Віц. (Ксл.)
●**бяспра́цна,** *нареч.(к бяспрацны)*—не трудясь, без работы. Нсл. 23. *Жыць, сядзець бяспрацна.* Нсл.
●**бяспра́цны**-*ная-нае*—праздный, безработный; бывающий без трудов. Нсл. 23. *Бяспрацны хлеб.* Нсл. *Бяспрацны заработак.* Тм.
●**бяспрыгодны**-*ная-нае*—негодный в дело. Нсл. 23. *Ад бязрукага помач няпрыгодна.* Нсл. *Даў касу ды бяспрыгодную.* Тм.
●**бяспрыгля́дны**-*ная-нае,* **1.** безнадзорный, Ксл. состоящий без надзора, неприсматриваемый. Нсл. 23. *Бяспрыглядная работа йдзець блага.* Нсл. 23.
**2.** беспризорный. *Бяспрыгляднае дзяцё доўга ня жывець.* Княжыцы Куз. (Ксл.). *Нареч.* **бяспрыглядна**—без надзора. Нсл. 23. *Двор пакінуў бяспрыглядна.* Нсл.
●**бяспры́хаматны**-*ная-нае*—не подверженный суеверию. Нсл. 23. *Чалавек бяспрыхаматны, ня вера бабскім забабоеам.* Нсл. *Ср.* *пры́хамаць.*
●**бяспрыкла́дна,** *нареч.(к бяспрыкладны)*—беспримерно. БНсл.
●**бяспрыкла́днасьць**-*ці, ж.*—беспримерность.
●**бяспрыкла́дны**-*ная-нае,* **1.** дураковатый, Шсл. не могущий служить примером, (Шсл.) строптивый, неодобрительный, Нсл. 23. беспримерный(в отрицательном смысле). *Лукаш нейкі бяспрыкладны мужчына.* Забалоцьце Сьміл. (Шсл.). *Бяспрыкладны дзяцюк.* Нсл. *Бяспрыкладнае жыцьцё вядзеш.* Тм.
**2.** беспримерный. БНсл.
●**бяспрыму́сны,** -*ная-нае*—непринужденный. Нсл. 23. *Бяспрымусны ўчынак.* Нсл. *Бяспрымусная работа.* *Нареч.* **бяспрымусна**—без принуждения, Ксл. непринуждённо. Нсл. 23. *Усе гэта зрабіў ахвотна, вяспрымусна.* Нсл. *Ён жа бяспрымусна хату зрабіў.* Амілянова Лёз. (Ксл.)
●**бяспрыну́кны,** -*ная-нае*—неожидающий, нетребующий понуждения. Нсл. 23. *Я госьць бяспрынукны, ня люблю марыць гаспадара.* Нсл. *Бяспрынукная жняя.* Нсл.
●**бяспрытомнасьць**-*ці, ж.* **1.** отсутствие памяти(рассудка, С.) Нсл. 23. *У бяспрытомнасьці зрабіў, сказаў.* Нсл.
**2.** отсутствие. *Ср.* *прытомнасьць 1.*
●**бяспрытомны**-*ная-нае,* **1.** лишенный памяти или присутствия ума, Нсл. 23. невменяемый. Ксл. *Бяспрытомны кінуўся на яе.* Труханавічы Чаш. (Ксл.). *Бяспрытомны можа й сказаў.* Тм.
**2.** отсутствующий. *Ср.* *прытомны 1.* *Нареч.* **бяспрытомна**—не в присутствии рассудка или памяти. Нсл. 23. *Бяпрытомна памер.* Нсл.
●**бяспрыту́льнасьць**-*ці, ж.*—бясприютность. БНсл.
●**бяспрыту́льны,** -*ная-нае*—неимеющий пристанища, Нсл. 23. бесприютный. МГсл.; БНсл. *Бяспрытульны сірата.* Нсл. *Нареч.* **бяспрыту́льна**—без приюта, Ксл.; БНсл. без пристанища. Нсл. 23. *Бяспрытульна век пражыў.* Горбава Лёз. (Ксл.). *Валочыцца бяспрытульна.* Нсл.
●**бяспрыця́мны**-*ная-нае,* **1.** ненаблюдательный. Гсл.; Нсл. 23; БНсл. *Які ты бяспрыцямны, нічога ня бачыш, што каля цябе дзеецца.* Нсл.
**2.** рассеянный, непомнящий, (Нсл. 23). *Бяспрыцямная галава твая.* Ксл.
●**бяссонны**-*ная-нае*—бессонный.
●**бяссоньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—бессонница.
●**бяссорамнасьць**-*ці, ж.*—беззастенчивость; бесцеремонность, наглость. *Ср.* *бяссорамны.*
●**бяссорамны**-*ная-нае,*(**бессаромны** Нсл.; Ксл.)—бесстыжний, Ксл. бесстыдный, Нсл. 24; БНсл. беззастенчивый; бесцеремонный, наглый. *Архіп сусім бессаромны стаў.* Выгары Куз. (Ксл.). *Бессаромная твая галава, сораму ня знае.* Нсл.
●**бяссму́тны**-*ная-нае*—беспечальный. Нсл. 24. *Бяссмутная галава.* Нсл. *Нареч.* **бяссму́тна**—беспечально. *Пражыў бяссмутна.* Нсл. 24.
●**бясстра́тна,** *нареч.(к бясстратны)*—без потери, Нсл. 24. безубыточно. БНсл.
●**бясстра́тны,** -*ная-нае*—безубыточный. Нсл. 24; БНсл. *Бясстратны торг.* Нсл. *Бясстратная купоўля.* Нсл. *Бясстратнае вясельле.* Нсл.
●**бяссумле́ву,** *нареч., област.*—без сомнения. Віл. *Уменьш.* **бяссумлеўку.** Віл.
●**бяссумлеўны**-*ная-нае, област.*—несомненный. Віл.
●**бяссу́мна,** *нареч.(к бяссумны)*—несомненно, БНсл. без сомнения, не сомневаясь. Нсл. 24. *На гэта бяссумна можна здавацца.* Нсл.
●**бяссумны**-*ная-нае*—несомненный. Нсл. 24; БНсл. *Бяссумная ўмова.* Нсл.
●**бяссурочны**-*ная-нае*—небоящийся изуроченья. Нсл. 24. *Бяссурочны хлапец, і чорнае вока не ўрачэць.* Нсл.
●**бясшлю́бны,** -*ная-нае*—безбрачный. БНсл
●**бясшча́сны,** -*ная-нае,* —несчастный, (Прышчанск. в. Росл. Дсл. 2) неудачник. БНсл.
●**бясшча́сьце**-*ця, предл.-цю, ср.*—несчастье, Дсл. 25. неудача. БНсл. *У нас вялікае бясшчасьце.* Красьн. (Дсл.)
●**бясьхі́бна,** *нареч.*—метко, верно, безошибочно. Гсл.
●**бяськішэнны,** -*ная-нае*—бескарманный. Нсл. 21. *Бяськішэнная сьвітка.* Нсл.
●**бяські́шкі**-*кая-кае*—неимеющий живота, тощий, бессильный. Нсл. 21. *Ідзе бяськішкаму падняць гэты цяжар.* Нсл.
●**бясьпе́чна,** *нареч.*—безопасно. *Противоп.* **небясьпечна.**

•**бясьпе́чнасьць**-*ці; мн. ч., род.-цяў, ж.* —безопасность. МГсл. *Подле сьпісаньня, паданага арга̀намі бясьпечнасьці.* Бацьк. Нр. 15/499. *Маеш даваці а бясьпечнасьць лісты заручныя.* Стт. 90. *Противоп.* **небясьпечнасьць.**

**грамадзка́я бясьпе́чнасьць**—общественная безопасность.

**паграажаць бясьпечнасьці**—ставить под угрозу безопасность.

•**бясьпе́чнік**-*іка, м.*—безопасное место.

•**бясьпе́чны**-*ная-нае*—безопасный. *Кажнаму вольны й бясьпечны прыступ да справядлівасьці.* Стт. 244. *Противоп.* **небясьпечны.**

•**бясьсі̇́ліць,**—*см. под сіліць.*

•**бясьсі̇́ліцца,**—*см. под сіліцца.*

•**бясьціха́ньня,** *нареч.*—без умолку. Шсл.; Гсл. *Бясьціханьня ўсё просе: дай а дай есьці.* Ст.

•**бясцэньне: за бясцэньне[купіў, прадаў]** —за бесценок. *Купіў за бясцэньне.* Нсл. 25.

•**бяшчу́лы,** *-лая-лае*—нечувствительный, несострадательный. Нсл. 25. *Бяшчулае сэрца.* Нсл. *Бяшчулая душа.* Нсл. *Бяшчулы чалавек.* Нсл.

•**бяшчу́р,** *нареч.*—весьма, очень много. Шсл. *Вой, вой! Што таго народу на месьце — бяшчур!* Ст.

•**бячэйка**-*йкі-йцы; мн. ч., род. бячэек* —деревянный(не обязательно деревянный, **С.**) ободок решета(и т.п., **С.**) Сянно (Ксл.).; Мікалаева Куз. (Ксл.). *См. абячайка, абічайка 1.*

•**бзовы**-*вая-вае*—бузинный. Нсл. 25. *Бзовы цьвет.* Нсл.

•**бзоўнік**-*іка, предл.-іку, м.*—бузинный кустарник. Нсл. 25.

•**бзды́чка**-*чкі-чцы, ж., област.*—лампочка, в каторой горит фитилек без стекла. Ксл. *Засьвяці бздычку.* Максімова Куз. (Ксл.)

•**бзумклі̇́вы**-*вая-вае, звукоподр.*—подобный звуку гудящей пчелы и других подобных насекомых. *Я чую....пчалы бзумклівы гуд на сонечным пакосе.* Сяднёў (Бацьк. Но. 46-47/530-531).

•**бзьдзюль**-*ля̀, предл.-лю̀; мн. ч.-лі̇̀-лёў-лёмлі-лямі-лёх, м.*—полевой клоп(насекомое), Нсл. 25; БНсл. древесной клоп, Дсл. 27. полевой клоп, вонючка. *Ксл. На сунічыне пасядзеў бзьдзюль, дык ня можна ў рот узяць.* Пацкава Сян. (Ксл.)

•**бзы́каць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., насм.*—сердиться, волноваться и бегать. Шсл. *Няма чаго бзыкаць, ніхто цябе не баіцца.* Ст.

•**бзы́каць**-*ае, несоверш.*—жужжать, гудеть. БНсл. *Бзыкалі мухі.* Гартны: Сокі цаліны, 56. *Гулі мухі і бзыкалі авадні.* Тм. 176.

•**біягра́фа**-*фы-фе, ж.*—биография.

•**біяхі̇́ма**-*мы-ме, ж.*—биохимия.

•**біолёг**-*ёга, предл.-ёгу, зват.-ёжа, м.*—биолог.

•**біолёгія**-*іі-іі, ж.*—биология.

•**біофі̇́зыка**-*ыкі-ыццы, ж.*—биофизика.

•**бі̇́бікі біць**—баклуши бить. Вк.(ЛБ. 558); Ксл. *Кінь ты бібікі біць.* Беліца Сян. (Ксл.)

•**бі̇́бла**-*лы, дат., предл.-ле, ж.* **1.** толстая пористая бумага. Ар.

**2.** промокательная бумага, пропускная бумага.

•**бі̇́бля**-*лі-лі; мн. ч., род.-ляў, ж.*—библия. Варлыга: Назіраньні 15. *Рабін сядзеў над Бібляю.* Сержп. II, 85. *Галаву падымаю, на Біблю кладу.* Дсл. 27.

•**біблятэка**-*экі-эццы, ж.*—библиотека. Варлыга: Назіраньні 15. *См. кніжня.*

•**біблі̇́йны**-*ная-нае*—біблейский.

•**бія́к**-*якà; предл.-якỳ; мн. ч.-кі̇̀-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—та часть цепа, которой ударяют по колосьям; молотило. Ар. *См. біч.*

•**біза́нцкі**-*кая-кае*—византийский.

•**бізу́н**-*унà; мн. ч.-ны-ноў-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—ременная плеть, Нсл. 25; Красьн. (Дсл. 24) всаднический кнут с короткой рукояткой, перевитой тонкими ремешками, сработанный с ремешков, НК: Очерки, Но. 762; Ар. арапник. Пск. (Даль); Ар. нагайка. Ар. *Сплёў бізун у шэсьць столак.* Ст. *Голы, як бізун.* Ст. *Дай яму бізунà.* Даль; Ар. *Уменьш.* **бізунок**-*нкà, предл.-нкỳ. мн. ч., дат.-нком, мн. ч., предл.-нкох.* Нсл. 25. *Глядзі, бізунок паходзіць!* Нсл. *Уменьш.* **бізуне́ц**-*нцà, предл.-нцỳ, мн. ч., дат.-нцом, мн. ч., предл.-нцох.* Нсл. 25.

**бізу́нчык**-*ка, уменьш. к бізунец.* Нсл. 25.

•**бінда́с**-*са, м.* **1.** вид топора для отбивания толстых щеп, колун. Ксл. *Біндасам адськяпі.* Мікалаёва Куз. (Ксл.).

**2.** великан. Нсл. 26. *См. бінда 3.*

**3.** *бранное*—болван. Ксл. *Эх, ты біндàс!* Лазаватна Сур. (Ксл.).

•**біндавокі**-*кая-кае*—имеющий высунувшееся на глазу бельмо. Нсл. 26. *Купіў біндавокага каня.* Нсл.

•**бі̇́ндус**-*уса, предл.-усу, зват.-усе, м.*—слово бранное о возрастном молодом человеке. Нсл. 26. *Прысіль ты гэтага бі̇ндуса што-лень рабіць.* Нсл.

•**бі̇́нды біць**—баклуши бить. Нсл. 26. *См. брынды біць, бібікі біць.*

•**біндзюга́йла**-*лы, общ.*—праздношатающийся, ничем не занимающийся. Нсл. 26. *Біндзюгайла гэты нічога ня робе, толькі біндзюгаецца.* Нсл.

•**біндзюга́цца,** *-àюся-àешся*—праздношататься, бить баклуши, Нсл. 26. лодырничать. *Самае што касіць, а яны біндзюгаюцца.* Юрсл. *Ня робе, а біндзюгаецца каля работы.* Нсл.

**перабіндзюга́цца,** *соверш.* —перебродиться от праздности, Нсл. 398. устать или проголодаться от праздного шатанья. *Перабіндзюгаўся, есьці захацеў, а ці зарабіў жа што?*

**разьбіндзюгáцца,** *соверш.*—предаться лености и шалостям. Нсл. 545. *Дзеці твае разьбіндзюгаліся, ні на пса ня годны.* Нсл.

•**біньдзю́к**-*юкà, предл.-юкỳ; мн. ч.-кì-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* **1.** телега на железных осях, верх, коробка телеги, Ксл. большая глубокая телега. Растсл. *Запражы не калёсы, а біньдзюк.* Спаская Сір. (Ксл.).
**2.** *бранное*—мальчишка ленивец и шалун. Нсл. 26. *Біндзюка гэтага пара вучыць.* Нсл.

•**бі̇рка**-*ркі-рцы, ж.* **1.** палочка для нанесения нарезов, отмечающих счет, Ар.; Гсл.; Нсл. 26; Ксл. палочка с нарезами вместо цифровых обозначений даты, количества денег или вообще с заметкой на память. Шсл. *Бірка твая ня верная.* Нсл. *Татарын імне даў бірку ад аўчыны.* Ст.
**2.** плашечка вершковой длины из расколотых чурок, не превышающих толщины мизинца, служит для игры *"у біркі"*. НК: Очерки, Но. 274.
**3.** палочка, употребляемая вместо пуговицы. Юрсл. *Я, як малàя былà, дык гузікаў і ня знала: бірку прычэпіш — і добра.* Юрсл.
**4.** бранное слово о рябом. Нсл. 26. *См. насяканік.*

•**біркавáць**-*кỳю-кỳеш-кỳе; повел.-ỳй-ỳй-ма, несоверш.* **1.** делать на палке нарезы вместо цифровых записей. *Я буду лічыць, а ты біркуй.* Нсл. 26. *Соверш.* **забіркаваць,** *перех.*—сделать зарубку, заметить (Нсл. 26). *Забіркую табе гэта на сьпіне тваей.* Нсл.
**зьбіркаваць,** *соверш., перех.* **а)** наделать много знаков на палке вместо цифровых записей.
**б)** (*перен.*)—наделать много знаков ударами плетью или розгами. Нсл.
**2.** замечать что-л. на стене мелом или углем. Нсл. 26. *Шмат ты штось біркуеш на мяне.* Нсл. *Соверш.* **убіркаваць**-*кую*—открыть начет на ком. Нсл. 45. *Войта пан убіркаваў.* Нсл.
**набірковаваць**-*вую-вуеш-вуе; повел.-вуй-вуйма, несоверш., перех.* **1.** насчитывать (считая, прибавить лишнее, сверх нормы, С.). Нсл. 298. *Карчміт заўсёды лішняе набірковуе на нашага брата, ня жыў, калі не набіркуе.* Нсл.
**2.** (*перен.*)—порядочно сечь. Нсл. *Глядзі, як нашаму брату набірковуюць, набіркавалі старỳю, будзе й табе знак.* Нсл.
**набіркаваць**-*кую-куеш-куе, соверш. к "набіркаваць"* в обоих знач.

•**біркавáцца**-*кỳюся-кỳешся-кỳецца, несоверш.*—браться на палке, кому падет жребий. Нсл. 26. *Будзем біркавацца, каму ў дарозе дзяржаць перад.* Нсл. *Соверш.* **убіркавацца**—подвергнуться начету. Нсл. 45. *Войт наш убіркаваўся.* Нсл.

•**бі̇рма,** *нареч., укрепляет значение действия* (берці, С.)—грабительски. Нсл. 26. *Бірма бярэць.* Нсл.

•**бі̇руболка**-*лкі-лцы, ж.*—пуговица. Ксл. *Ушый біруболку ў сарочку.* Гарнакі Сян. (Ксл.).

•**бірýк**-*укà, предл.-укỳ, зват.-ỳча; мн. ч.-кì-коў-ком-кі-кàмі-кох, м.* **1.** волк, Нсл. 20. волк-одиночка.
**2.** *мн. ч., вин.-коў*—бранное слово, вор, подозреваемый в хищничестве. Нсл. 26. *Бірук з катніх рук.* Нсл.
**3.** угрюмый человек. Зьверавічы Красьн.(Дсл. 27).

•**бі̇рыч**-*ча, предл.-чу; мн. ч., род.-чаў,* **1.** глашатай. Гсл.
**2.** полицейский чиновник, объявлявший народу распоряжение властей. Гсл.

•**бі̇скуп**-*па, предл.-пу, зват.-пе, м.*—епископ (особенно римско-католический, Нсл.) Гсл.; Нсл. 26; Ар. *Сам біскуп будзе імшыць у касьцеле.* Ст.

•**бі̇скупаў**-*ава-ава*—принадлежащий к *"біскупу"*. Нсл. 26.

•**бі̇скупскі(біскýпскі,** Нсл.)-*кая-кае*—относящийся к *"біскупу"*. Нсл. 26. *Біскупскія людзі.* Нсл.

•**бі̇скупства(біскýпства,** Нсл.)-*ва, ср.* **1.** епископство римскокатолическое. Нсл. 26.
**2.** имение, принадлежащее епископу или епископской кафедре римско-католической. Нсл. 26.

•**бі̇скýпшчына**-*ны-не,*—имение, принадлежащее римско-католическому епископу. Нсл. 26.

•**бі̇тка**-*ткі-тцы, ж.* **1.** яйцо, разбитое о другое яйцо в игре *"у біткі"*. С.; Янк.І; Ар. **Ар.** *Ён бітак прыносіў на Вялікдзень па капе.* Янк. І. *Хто выгуляе яйцо на Вялікдзень, дык гэта бітка.* Тм. *Бітка борзда псуецца.* Дварэцк, Чаш. (Ксл.).
**2.** палка, которой играют в *"пігара"* Янк. І.

•**біткі**-*кая-кае*—расторопный, бойкий. Іг.

•**бі̇тма,** *нареч.*—битком. Гсл.; Нсл. 26. *Бітма набіта царква людзёў.* Нсл.

•**бітвá**-*вы̀-вè; мн. ч. бітвы-ваў,* **1.** битва. МГсл.; Ар.; Шсл. *Зараз бітвà будзе.* Ст.
**2.** драка. Янк.І; Ар. *Даўней ня было ў Барбораве кірмашу, каб ня былà бітвà!* Янк.І. *Будзе ў нас бітвà.* Лупекі Стдуб.(Косіч 247).

•**бітýха**-*ухі-усе, ж. к бітун.* Аш.

•**бітýн**-*унà, предл.-унỳ, зват.-ỳне; мн. ч.-ны-ноў-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—драчун, Гсл.; МГсл.; Нсл. 26. драчливый. Ксл. *Зьвязаць гэтага бітунà.* Раманаўка Сян. (Ксл.). *Трэба ўняць гэтага бітунà, каб ня біўся.* Нсл.

•**бі̇ты**-*тая-тае,—см. под біць.*

•**бі̇тыва, бі̇цьцева:** *біцьцева, бітыва шукае*—лезет в драку, старается поссориться. Дсл. 27. *Ён проста біцьцева шукае.* Дсл. *Ах, ты бэстыя, гад, кроў маю сьсеш. — А ты бітыва шукаеш.* Дсл.

•**бівáць,**—*см. под біць.*

•**біць,** *б'ю, б'еш, б'ець, б'ем, б'іцè, б'юць; повел.-бі, несоверш., перех.* **1.** бить, колотить. Ар. *Ё каго біць, але няма каму.* *Послов.* Забалоцце Сьміл. (Шсл.).

**2.** бить, наносить поражение. *Біць ворага* (*на вайне*).
**3.** бить, убивать. *Рыбак восьцямі біў рыбу.* Войш.
**4.** бить, стрелять. *Заўсёды ходзе бор сьцярэгчы і птушкі біць з стрэльбы Тарас.* Тарас на Парнасе.
**5.** бить, издавать звуки, отбивать удары. *Гадзіньнік б'ець восьмі.* Дз.
**6.** о злаках: молотить. *А ў ваўторак снапоў сорак пшанічанькі б'ю, б'ю.* Из песни.

**біць, зьбіць масла**—бить, сбить сливочное масло. Ар.

**біць дровы**—колоть дрова(если в длину). Ар.; МГсл.; Ксл. *Надабе біць дровы.* Сабалёва Куз. (Ксл.).

**біць у ладкі, а)** бить в ладоши. Ар. **б)** рукоплесать, аплодировать.

**біць на тое**—клонить речь к тому-то. Шсл. *А ён усё б'ець на тое, каб яму дасталося болей.* Ст.

*Прич. и прилаг. из прич.* **біты, 1.** бывший под наказанием. Нсл. 26. *Бітаму сабаццы кія не паказуй.* Нсл.
**2.** *о дровах:*—колотый, расколотый. Ар. *Бітыя дровы.* Ар.

**•біцьцева,**—*см. под бітыва.*

**•біцьцё**-*ця, дат., предл.-цю; мн. ч.-ці-цяў, ср.* **1.** биение.

**біцьцё сэрца**—биение сердца. *Біцьцё пульсу.*

**бівáць**-*аю-аеш-ае; прош. вр. біваў, многократ. к біць 1, 2, 3, 4.*

**абабіць,** *абаб'ю, соверш.* **1.** побить. Гсл.
**2. абабіць,** (Шсл.), **абіць,** (Ар.)—обить; прибив, покрыть, обтянуть чем-л. *Скрыню абабілі зялезам.* Ст.
**3.** (обить, Ксл.), околотить. Шсл.; Ксл. *Абабіў капы зь дзьве жыта.* Астроўна Віц. (Ксл.). *Абабіць снапы.*

**абабіты,** *прич. к абабіць во всех трех зн. Як засяюдь, дык сьцелюць першы абабіты снапок.* Ст. (Шсл. *под* аббіваць).

**абабіцьце**-*ця.* МГсл., *отгл. имя сущ. к абабіць 1, 2, 3.*

**аббіваць,** *несоверш. к абабіць в 2-ом и 3-ем зн. Соверш.* **аббіць,** *абаб'ю-б'еш-б'ець-б'ем, б'іцè каго-што*—побить. Гсл.; МГсл. *Аббіў ты мяне — і я цябе абаб'ю.* Гсл.

**аббіць абмежак, узьмежак**—скосить *"абмежак, узьмежак",* (Гл.) мелкая сенокосная работа. НК: Очерки, Но. 887.

**аббіць парогі**—надоесть частым приходом, посещением. НК: Бабы, Но. 52. *См. нацерці парогі.*

**абівáць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* (*к абіць*) — *аббіваць. Соверш.* **абіць,** *абаб'ю, абаб'ешець*—абабіць 2.

**адбівáць,** *несоверш.* **1.** отбивать, откалывать ударом. Ар.; Гсл.
**2.** отражать. Гсл.
**3.** клеймить дрова, бревна (и т.п., С.) Шсл.; Ар.
**4.** отсаживать, ударившись. Ар.
**5.** делать оттиск в типографии. Гсл.
**6.** оттаптывать. Нсл. 371. *Кажны дзень туды ходзячы, ногі сабе адбіваю, адбіў.* Нсл.
**7.** привлекать от другого к себе, Нсл. 371. переманивать. Дсл.
**8.** колотить сильно, молотить. Дсл. *Васілька не адбівае добра цэпам: застаецца зярнё.* Дсл.
**9. адбіваць рукі**—отрясать руки. Дсл. *Пачаў дзед адбіваць ад сірот рукі.* Дсл.

**адбівáньне,** (Гсл.), *отгл. имя сущ. к адбіваць 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7. Соверш.* **адбіць,** *адаб'ю, б'еш, б'ець, б'ем, б'іцè; повел. адбі,* **1.** отбить, отколоть ударом. Гсл.; Ар.
**2.** (*к адбіваць в 2-ом зн.*)—отразить. Гсл.; Ар.
**3.** (*к біваць в 3-ем зн.*)—поставить клеймо на дровах, деревьях и т.п. Шсл.; Ар. *Лясьнік ужо адбіў дровы, можна вазіць.* Ст.
**4.** (*к адбіваць в 4-ом зн.*)—отсадить ударившись. Ар. *Усе грудзі адбіў, як ськівуўся зь пéчы.* Ст.
**5.** (*к адбіваць в 5-ом зн.*) *Адбі імне карэктурны ліст.*
**6.** (*к адбіваць в 6-ом зн.* Нсл. 371)—оттоптать.
**7.** (*к адбіваць 7*)—привлечь от другого к себе. Нсл. *Дзяцюкі адбілі ад Лаўрэна дзеўку.* Ст.
**8.** запечатлеть(передать, воплотить в чем-л., С.) МГсл.

**адбіты,** *прич. к адбіць 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8. Отгл. имя сущ.* **адбіцьцё**-*ця, предл.-цю; мн. ч.-ці-цяў, ср.* **1.** отражение.
**2.** отбой. Нсл. 371. *Адбіцьця няма нам ад іх.* Нсл.

**дабівáць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** продолжать бить до конца. Нсл. 135.
**2.** *перен.*—приводить до конечного расстройства. Нсл. 135; Дсл. *Дабіваеш, дабіў нас сваім бязулствам.* Нсл.
**3.** оканчивать что-л. Нсл. 135; Ксл. *Дабівайце сядні касьбу, арбу.* Нсл. 135.

**дабіць,** *соверш. к дабіваць 1,2,3.*

**забіваць,** *несоверш.*—убивать. Ар.; Шсл.; Ксл. *Біце колькі ўлезе гэтаму гаду, толькі на сьмерць не забівайце.* Ст. *Соверш.* **забіць, 1.** убить. Ар.; Шсл.; Нсл. 159; Гсл. *Калі заб'еш бабра, ня будзеш мець дабра. Послов.* Нсл. *Лясьнік польскі забіў чалавека ў лесе за ягады.* Дз.
**2.** проконопатить(дыру, С.) Ксл. *Забіць пакульлям дзірку.* Кузьміно Сян. (Ксл.).

*Прич.* **забіты. 1.** убитый. Нсл. 159; Ар. *Знайшлі на дарозе забітага Жыда.* Нсл. *Сьпіць як забіты.* Нсл.
**2.** сильный, необыкновенный. Нсл. 159. *Забіты злодзей, п'яніца. Отгл. имя сущ.* **забіцьцё**-*ця, предл., -цю; мн. ч.-ці-цяў*—убийство. Гсл; Нсл.159. *Забіцьцё чалавека.* Нсл.

**зьбіва́ць,** *несоверш.*—сбивать. Ар. *Хлапцы паленьням зьбіваюць ігрушы.* Ст. *Зьбіваць, зьбіць шапку з галавы.* Нсл. 195.
**2.** избивать. Ар.; Шсл. *За што ты яго зьбіваеш, зьбіў так?* Нсл. 195.
**3.** озадачивать, затруднять разными вопросами, отклоняя от предмета, Нсл. 195. сбивать. *Ня зьбівай яго, няхай гавора.* Нсл.
**4.** отделять решетом колосья и сорныя семена от чистого зерна. Нсл. 195. *Зьбіраць, зьбіць жыта, пшонку.* Нсл.
**5.** опровергать.
*Соверш.* **зьбіць,** *заб'ю, заб'ѐш, заб'ѐць, заб'ем, заб'іцѐ, заб'юць; повел. зьбі,* **1.** (*к зьбіваць в 1-ом зн.*)—сбить. Ар. *Зьбіў дулю.* Ар.
**2.** (*к зьбіваць в 2-ом зн.*)—избить. Ар.; Шсл. *Зьбіў, зьбіў малога на гаркі яблык.* Ст. *Наехаўшы, бязьвіньне яго зьбіў а зраніў.* Гордз. Ак. XУII, 3.
**3.** (*к зьбіваць в 3-ем зн.*)—заставить спутаться в чем-л.; привести в замешательство.
**4.**(*к зьбіваць 5*)—опровегнуть.
**5.** соединить, прибив друг к другу, сбить, сколотить.
**зьбіць рогі,**—*см. под рог.*
**набіва́ць**-*дю-деш-де; повел.-дй-дйма, несоверш.* (*к набіць*) **1.** заряжать(оружие). Гсл.; Ар.; Сахны Сян. (Ксл.); Нсл. 739. *Набіваць, набіць стрэльбу.* Нсл. *Паляўнічы набіваў стрэльбу.* Ар.
**2.** *несоверш. к набіць 7. Отгл. имя сущ.* **набіваньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў* —заряжание(оружия). Ар. *Соверш.* **набіць, 1.** зарядить(оружие). Гсл.; Ар.; Ксл. *Набіў стрэльбу.* Сахны Сян. (Ксл.).
**2.** побить, поколотить. Гсл.; Ар.; Шсл.; Нсл. 739; Ксл. *Мяне хацелі набіць, але я ўцёк.* Застадольле Сян. (Ксл.). *Патыліцу табе наб'ю, калі пусьціш каня ў шкоду.* Нсл. *Набіў хлапца, няхай не наругаецца.* Ар. *За што ты набіў хлапца майго?* Ст.
**3.** о дровах: наколоть (дров), раскалывая поленья в длину. Ар.
**4.** набить, настрелять в каком-л. количестве.
**5.** укатать.
**6.** *к біць, о злаках*—намолотить. *Набіла пшаніцы чатыры капіцы.* Из песни, Ар.
**7.** надбить, надбавить.
**набіць цану**-надбавить цену против других.
*Прич.* **набіты, 1.** заряжённый. Ар.; Нсл. 739. *Набіты леварвэр.* Ар. *Ня дурэй каля набітае стрэльбы.* Нсл.
**2.** поколоченный. Ар.; Дсл; Нсл. 298. *Чаму ня плакаць набітаму?* Нсл. *За маё жыта дый мяне ж набіта.* Нсл.
**3.** (о дровах): наколотый. Ар. *У павеці тры грады набітых дроў.* Ар.
**4.** *о птицах:*—настрелянный.
**5.** укатанный. Нсл. 298; Дсл. 429. *Набітая дарога.* Нсл. *Не набітаю дарогаю цяжка ехаць із вазамі.* Тм. *Во дарожка набітая — жвырок возяць.* Дсл.
**набіты дурань,** (Нсл. 298)—об очень глупом, тупом человеке.
**пабіва́ць**-*дю-деш-де; повел.-дй-дйма, несоверш.* (*к пабіць*) **1.** побеждать, Нсл. 422. побивать. *Нашы Туркаў пабіваюць.* Нсл.
**2.** *Многократ.*: бить, колотить. Нсл. 422. *Прышоўшы п'янѝ дамоў, усіх пабівае.* Нсл. *Соверш.* **пабіць, а**) победить, **б**) разбить. Ар.; Нсл. 422. *Асьцярожна йдзі, не пабі гаршкоў.* Нсл. *Альбо хораша грай, альбо іскрыпку паб'ю.* Нсл. **в**) убить, умертвить всех, многих, **г**) повредить во многих местах(ударами, толчками) побить. *Пабіў сабе ногі, рукі.* Ар. **д**) (праз засеяньне, расьліны) уничтожить, повредить, побить(о неблагоприятной погоде, стихийном бедствии). *Град пабіў збожжа.*
**пабіць на раны,** *безлич.*—поделаться от неизвестной причины язвам, ранам. Шсл. *Чыста ўсю нагу пабіла на раны.* Ст.
*Прич.* **пабіты, 1.** побежденный,
**2.** разбитый. *Пабітае шкло.* Ар.
**3.** повреждённый. *Пабітыя плечы, рукі.* Ар. *Отгл. имя сущ.* **пабіцьцё**-*ця̀, предл.-цю̀, ср.*—побои. *За пабіцьцё чалавека судзяць.* Нсл.
**падбіва́ць,** *несоверш.* **1.** прикреплять, прибивать что снизу, Ар.; Шсл. подбивать. *Надабе падбіваць падноскі ў ботах.* Лагавая Аз. (Ксл.).
**2.** подшивать с изнанки. Ар. *Нашто было падбіваць подбіўку, калі й так цёпла?* Ар.
**3.** подзадаривать, (МГсл) с лукавым намерением, Нсл. 439; Дсл. 619. подстрекать. Шсл.; МГсл. *Нашто табе падбіваць яго к таму? Сам папрабуй.* Нсл.
**4.** взбивать(подушку). Шсл.
*Соверш. падбіць, падаб'ю,* **а**) прикрепить, прибить что снизу. Ар.; Шсл. *Падбіў падноскі.* Ст. **б**) подшить с изнанки. Ар. *Падбіў подбіўку да манынаркі.* Ар. **в**) подзадорить, подстрекнуть,(Шсл.); Нсл. 439. *Ня купіў бы гэтага каня, калі б мяне не падбілі.* Нсл.
**падбіць клінкі каму**—подзадорить. Нсл. *Падбілі другія, а ён дурань паслухаў.* Ст. **г**) взбить(подушку). Шсл. **д**) ударив по чему-л., повредить; подбить. Ар. *Яму падбілі вока.* Ар. **е**) подвести итог.
**перабіва́ць, 1.** расстраивать сделку, Шсл. помешать кому-л., приобрести что-л., сделав это раньше его; перехватить. Ар. *Чалавек умовіўся купіць, дык няма чаго яму перабіваць.* Ст. *Отгл. имя сущ.* **перабіваньне**-*ня, предл.-ню*—надбавка цены в торге. *Пашло на перабіваньне.* Нсл. 398.
**2.** *несоверш. к перабіць 2.*
**3.** *несоверш. к перабіць 3,*—менять с уроном. Нсл. 398. *Перабівае быкі на бараны.* Нсл.

**4.** *несоверш. к* *перабіць 4.*

*Соверш.* **перабіць**-*б'ю-б'еш-б'еўь-б'ем-б'іцè; повел.* *перабі,* **а)** расстроить сделку; перехватить, **б)** повредив кость, сломать. Нсл. 398. *Ногі пераб'ю, не хадзі сюды.* Нсл, **в)** (*к перабіваць 3*)—обменять с уроном, Нсл. 398 **г)** *перабіць рукі*-ударить по рукам(при покупке-продаже, сделке), что значит, что соглашение произошло: товар продан, сделка состаялась.

**прабіва́ць**-*аю-аеш-ае,* *несоверш.* (*к прабіць*). *Соверш.* **прабіць**—пробить ударом(ударами), проломить, продыравить что-л., сделать отверстие и т.п. *Галавою муру не праб'еш.* Вк.(ЛБ 2566).

**прыбіва́ць, 1.** *несоверш.* (*к прыбіць 1,2,3*). *Соверш.* **прыбіць, 1.** набить, прикрепить на поверхность чего-л. Ар. *Прыбіў да дзьвярэй картачку з прозьвішчам.*

**2.** прикрепить к чему-л. гвоздями; приколотить. Ар.

**3.** прибить, прижать, придавить к земле (дождем, градом.) Ар. *Ральлёй прыбіта зло.* Салавей: Сіла, 33.

**4.** избить, не совсем убить.

**разьбіва́ць, 1.** *несоверш. к разьбіць в 1-ом зн.* *Маскалі разьбіваюць крамы, магазыны.* Войш.

**2.** *несоверш. к разьбіць в 5-ом зн.*—растрясать покосы сена для более хорошей просушки, что ручным способом делается рукояткой грабель. Ар.; Шсл. *Пойдзем зараз сена разьбіваць, мо' да вечара яшчэ высахне.* Ст. *Соверш.* **разьбіць,** *разаб'ю-б'еш-б'еуь-б'ем-б'іцè* **а)** разбить, расколоть, разломать на куски. Ар. *Разьбіў балонку ў вакне.* Ар.,—разгромить, разнести. *Маскалі разьбілі краму.* Войш.

**б)** разбить, повредить ударом, ушибом (какую-л. часть тела). *Зваліўся з акна й разьбіў сабе галаву.* Ар. **в)** (о дровах): расколоть(по длине). Ар.; Ксл. *Разьбіць палена.* Ар. *Гэта палена без даўбешкі не разаб'еш.* Слабада Чаш. (Ксл.).

г) победить,

д) растрясти покосы сена. Ар. *Сена прасохла зьверху, цяпер трэба разьбіць, каб усе высахла.* Ар.

*Прич.* **разьбіты, 1.** разбитый. Ар. *Міса разьбіта.* Ар. *Разьбіта галава.* Ар.

**2.** *о дровах*:—расколотый. Ар. *Разьбітая калодка.* Ар.

**3.** *о сене*—растрясенный. Ар. *Пракосы сена разьбіты.* Ар. *См.* *раструшаны 2* ( *под трусіць*).

**выбіва́ць,** *несоверш.* **1.** *к выбіць 1, 2, 3, 4, 5.*

**2.** отбивать холст. Шсл. *Бабы выбіваюць палатно.* Ст. *См.* *пярыць.* *Соверш.* **выбіць, а)** вышибить. Ар.; Гсл. *Павярнуўся й выбіў локцям талерку з рук.,*—с боем вытеснить, выгнать противника, **б)** разбить давлением. Ар. *Рукою выбіў акно.* Ст. *См.* *выціснуць*(*под ціскаць*), **в)** вытесать что-л. из камня. Шсл. *Дзед выбіў тачыла.* Ст. **г)** ударяя, чистить от чего-л.; выколотить. *Дыван у пыле, надабе яго выбіць.* **д)** ударами, падением воды сделать углубление. *Кàпаючы із страхі, вада выбіла ямкі ў каменю.*

**убіваць,** *несоверш.* **1.** вбивать, вколачивать. Ар.; Нсл. 647. *Убіваць гвозд у сьцяну, калок у зямлю.* Нсл.

**2.** (*каму*)—насильно давать(навязывать, Шсл.). Нсл. 45; Шсл. *Ня хоча браць, дык сілком няма чаго ўбіваць.* Ст. *Чужое дзяцё ўбіваюць імне ў рукі.* Нсл. 647.

**3.** *каму,*—внушать. Нсл. 45. *Ня ўбівай яму ў галаву таго.* Нсл. *Соверш.* **убі́ць,** *уб'ю, уб'еш, уб'еуь, уб'ем, уб'іцè, уб'юць* **а)** вбить, (Ксл.) вколотить. Ар. *У зямлю ўб'юць.* Кіт. 53613. *Падай імне, сынку, клявец: надабе гвозд убіць.* Адамова Сян. (Ксл.), **б)** (*каму*)—насильно дать(навязать), Шсл.; Нсл. 45. *Ня было ў мяне ахвоты купляць гэта парасё, але проста неяк убілі імне яго.* Ст. *Убіў імне ў рукі, што хочаш рабі.* Нсл. *Сваю работу ты ўбіў імне.* Тм. 150, **в)** (*каму*)—внушить. Нсл. 45. *Хоць як, ня ўб'еш яму таго.* Нсл.

•**бі́цца,** *б'юся, б'ешся, б'еуца, б'емся, б'іцèся; повел.* *біся, несоверш.* **1.** драться, (Шсл.) биться. Гсл.; Ар. *Годзе табе ўжо біцца.* Азярэцк Сян. (Ксл.). *Біцца ў грудзі.* Ар. *Дзяцюкі б'юцца.* Ар. *Сварыцеся, толькі ня біцеся.* Ст. *За што ты б'ешся?* Ар.

**біцца ў вадчыненыя дзьверы**—ломаться в открытую дверь. Ар.

**2.** о сердце: бить в ритмическом движении, пульсировать, биться. *Аж сэрца б'еуца, так спалохаўся.* Ст.

**3.** сражаться.

**4.** о дровах: колоться. *Дровы добра б'юцца.* Ар.

**5.** иметь свойство разбиваться, биться. *Шкло б'еуца.* Ар.

**абіва́цца,** *несоверш.* (*к абіцца*)—обиваться. *Соверш.* **абіцца,** *абаб'еуца*—получить повреждения с краев, обиться. Ар. *Парог абіўся.* Ар.

**адбівацца,** *несоверш.* *к* *адбіцца 1,2,3,4.* *Соверш.* **адбіцца,** *адаб'юся,* **1.** отбиться, отколоться. Ар. *Ручка адбілася ад коўні.* Ар.

**2.** отразить нападение, защититься от нападения, отбиться.

**3.** (*ад каго*)—отделиться, отстать(от тех, с кем находился вместе, отбиться, С.) Шсл.; Ар. *Ягнё адбілася ад чарады.* Ст. *Сусім ён адбіўся ад свае сям'і.* Ст.

**4.** (*ад чаго*)—отказаться, отойти от какой-л. сделки, предприятия. *Не адбівайся ад куплі гэтага каня, ён варты таго; адаб'ешся, жалець будзеш, калі іншыя купяць.* Нсл. 371.

**5.** суметь избавиться, освободиться, отделаться от чего-л.

**адбіцца ад рук**—отвыкнуть, начать чуждаться, избегать. *Кот адбіўся ад рук: і блізка не падходзе.* Ст.

**разбура́цца,** -*а̀ецца, несоверш.*—разрушаться, разбрасываться. Шсл. *Соверш.* **разбуры́цца**—разрушиться, Шсл. развалиться. Ксл. *У печкі комін разбурыўся.* Сянно (Ксл.). *Разбурыўся наш стог.* Ст.

**узбу́равацца,** (Нсл.), **узбура́цца**-*а̀юся-а̀ешся, несоверш.*—взволновываться, возмущаться. Нсл. 653. *Соверш.* **узбуры́цца**-*ру̀ся-рышся*—взволноваться, возмутиться. Нсл. 653. *Рака ўзбу̀руецца, узбурылася ад ветру.* Нсл. *Усі супроць мяне ўзбу̀руюцца, узбурыліся.* Нсл.

•**буса́йла**-*ла-лу-лу-лам-лу, м.* **1.** дерзкий шалун, Гсл. возрастный шалун, буян, развратник. Нсл. 39. *Нічым ня уймеш гэтага бусайлу.* Нсл. *Бусайла перацягнуў Пятрыка па плячох папірашкаю.* Гарецкі: Песьні, 76.

**2.** гуляка, (Гсл.) пьяница. Нсл. 39. *Ср. бусаць.*

•**буса́к**-*ака̀, предл.-аку̀; мн. ч.-кі-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—барон. Ксл. *Бусаком цягалі лён із вады.* Сьвеча Беш. (Ксл.)

•**бусава́ць**-*су̀ю-су̀еш-су̀е; повел.-су̀й-су̀йма, несоверш.* **1.** пьянствовать, шутить пьянствуя. Нсл. 39. *Нашы бусуюць у карчме.* Нсл.

**2.** бушевать, повесничать. Нсл. 39. *Ня бусуй, сорамна.* Нсл.

•**буса́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, несоверш.*—пьянствовать. Нсл. 39. *Зьбяруцца ў карчме дый бусаюць.* Нсл.

•**бу́сел**-*сла, предл. и зват.-сьле, м.*—аист. Гсл.; ПНЗ; Ст.; Ксл.; Вост. (Даль); НК: Очерки, 370; Нсл. 39. *Бусел прыляцеў: ужо будзе цёпла.* Ст. *Ходзе, як бусел па балоце.* Ст. *Замоўкне бусел-клекатун.* Купала: Тая незаб. вясна. *На балоне бусла клёкат.* Кавыль: Ростань 7.

•**бусьлянё**-*няці, твор.-нём; мн. ч.-няты, ср.*—птенчик аиста. Шсл. *У гнязьдзе няма аднаго бусьляняці.* Ст. *Зараз вывядуцца бусьляняты.* Ст.

•**бу́сенькі,**—*см. под бусі.*

•**бу́сець**-*ею-ееш-ее; повел.-ей-ейма, несоверш., каго ў што, дет.*—целовать. Гсл.; Нсл. 39; Ксл. *Даволі яго табе бусець!* Вулянавічы Сян. (Ксл.). *Бусей у руку̀ тату.* Нсл. *Соверш.* **пабу́сець**—поцеловать. Гсл.; Нсл. 39. *Пабусей мяне.* Гсл. 35.(*под буся.*) *Пабусею табе ў руку̀, толькі купі.* Нсл. *Прич.* **пабу́сены,** *дет.*—поцелованный. Нсл.

•**бу́сецца**-*еюся-еешся, дет.*—целоваться. Нсл. 39. *Глядзі, як дзеці бусеюцца.* Нсл. *Соверш.* **пабу́сецца**—поцеловаться. Нсл. 39. *Пабусейцеся мяжсобку.* Нсл. *Деепр. прошл. вр.* **пабусеўшыся.** Ар. *Яны ўжо пабусеўшыся*—они уже поцеловались. Ар.

•**бу́ся**-*сі, ж., дет.*—поцелуй, МГсл.; Ар.; Нсл. 39. поцелуйчик. Гсл. *Дай жа імне бусю.* Гсл. *Якая харошая буся!* Нсл.

•**бу́сі,** *дет., несклон.*—поцелуй. *Нсл. 39. Дай мне бусі.* Нсл. *Уменьш.* **бу́senькі.** Войш.; Ксл. *Дай імне буські.* Ст. *Уменьш.* **бу́сенькі**-*каў, единств. ч. нет., дет.*—целование, поцелуй. Нсл. 39. *Бусенькаў не пад'ясі.* Нсл.

•**бусла́й**-*ая̀, предл.-аю̀, зват.-а̀ю; мн. ч.-аі̀-аёў-аём, мн. ч., предл.-аёх, м. — бусайла.* Нсл. 39.

•**бу́слаў**-*ава-ава*—аистовый. Шсл. *Ськінулі зь бярэзы буслава гняздо.* Ст. *Дзеці пабралі буславы яйцы.* Тм.

•**бусу́ха**-*у̀хі-у̀се, ж., област.*—бранное слово; бранливая, сварливая. Мамошкі Пар. (Дсл.)

•**буські,**—*см. под бусі.*

•**бусьля́нка**-*нкі-нцы, ж.*—аистово гнездо. БНсл.

•**бу́сю,** *вместо повел.*—поцелуй. Нсл. 40. *Бусю мяне, тату.* Нсл.

•**бушава́ць**-*шу̀ю-шу̀еш-шу̀е, несоверш.* **1.** бушевать(дурно проявлять какое-л. движение, силу, С.). Шсл. *Вол бушуе, вясну чуе.* Из нар. песни. *Пачаў нешта вецер бушаваць.* Ст. *Бычок бушуе.* Ст.

**2.** буянить, Ксл. буйствовать. *Соверш.* **забушаваць**—начать "бушаваць." *Забушавала кіпучая весялосьць.* ЗСД. 285.

•**бу́шма**-*мы-ме, ж., област.*—брюква. Пабітае Юхн.(Дсл. 45.)

•**бутара́ж**-*жу, предл.-жу, м.*—скандал. Ксл. *Паднялі вялікі бутараж.* Дрыкольле Куз. (Ксл.)

•**бутары́сіца**-*цы-цы, ж., област.*—вьюга. Ксл. *Сядні на вуліцы бутарысіца.* Вяжышча Беш. (Ксл.)

•**бутава́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ.*(*к бутавацца*)—тяжёлый труд. Юрсл. *Хапіла бутаваньня над шулам.* Юрсл.

•**бутава́цца,** *буту̀юся, буту̀ешся, несоверш.*—тяжело до изнеможения работать. Юрсл. *Буталіся ўдваіх цэлы дзень, ледзь выкапалі, — гэткі вялізарны пень быў.* Юрсл. *Ср. батавацца.*

•**бутэл-ечка**-*лька,—см. под бутля.*

•**бутэлькавы**-*вая-вае*—разливаемый или разлитый по бутылкам. Нсл. 40. *Бутэлькавае піва.* Нсл.

•**бутле́ць**-*ѐе — буцьвѐць. Ср. бутлы. Соверш.* **збутле́ць**—истлеть, сгнить. Ксл. *См. збуцьвѐць*(*под буцьвець*). *Крыж на магілцы збутлеў і рассыпаўся.* Вядрэнь Чаш. (Ксл.)

•**бу́тля**-*лі, дат., предл.-лі, ж.*—бутыль. *Бутля з малаком пабілася.* Чашнікі (Ксл.). *Купілі бутлю газы.* Дукора Сьміл. (Шсл.). *Гарэлачная бутля.* Нсл. *Уменьш.* **бутэлька**-*лькі-льцы, ж.*—бутылка. Ар.; НК: Очерки, 91; МГсл.; Шсл. 40; Ксл. *Бутэлька гарэлкі. См. пляшка.*

•**бутэлечка**-*чкі-чцы, уменьш.*(*к бутэлька,* Ар.)—стекляный пузырек. Нсл. 40. *Шкіпінару бутэлечку купі.* Нсл.

•**бу́тлы**-*лая-лае*—подгнивший от сырости, от воды. Шсл. *А гэта, здыхата, сена ўжо бутлае.* Слопішча Шацк. (Шсл.).

•**бутуром,** *нареч.*—кверху ногами. Дсл. 45. *Сваё дзяцё хоць тырчма, хоць бутуром, ён не пажаліцца.* Дсл.

•**бутурáць,** *-àю-àеш-àе, несоверш., перех.* —гонять, беспокоить. Дсл. 45. *I пачàў воўк па кустох бутураць барана.* Дсл. *Дзецi бутураць — спакою за iмi нетуцi.* Дсл.

•**бутурнýцца**-*нýся-нèшся, соверш., област.* —перекинуться( С.). Дсл. 45. *Дзьве цурачкi з пад пня бутурнулiся, яны ўсьмiхнулiся.* Ельн. (Дсл.).

•**бувальнiца**-*цы-цы, ж.*—полотно с примесью или целиком из хлопчатобумажных ниток. Ксл. *Мае бувальнiцы ўдалыя.* Веляшковiчы Лёз. (Ксл.).

•**буўдыр**-*ок,—см. под баўдыр.*

•**буўдырнiк,**—*см. под баўдырнiк.*

•**буўдырыць**-*ру-рыш-ра, несоверш., перех., звукоподр.* **1.** лить(много, сильно С.) Нсл. 38. *Досiць табе буўдырыць.* Нсл. *Ср. буўдыр* (*под баўдыр*). *Соверш.* **набуўдырыць**—*налить*(*таким образом,* **С.**) Нсл. 38. *Набуўдырыў пуза.* Тм.

**2.** возмущать(жидкость, С.) Нсл. 38. *Ня буўдыр квасу.* Нсл. *Соверш.* **узбуўдырыць** —возмутить. Нсл. 38. *Нашто ты ўзбуўдырыў гарэлку?* Нсл.

**3.** (*от баўдыр, буўдыр 2*)—строить на скорую руку, Нсл. 38. строить в роде лачуги (*"буўдыра"*). *Буўдырыць, збуўдырыць хату.* Нсл. *Соверш.* **збуўдырыць** —построить наскоро. Нсл. 38.

•**буўцян, буцян,** Красьн. (Дсл)-*янà, предл.-янè; мн. ч.-ны-ноў-ном-ны-намi-нох, област., м.*—аист. Гсл.

•**буўцяновы ножкi**—пятилистник болотный, *раст.* Гсл.

•**бýцар**-*ры, ж., област.*—дурь. Дсл. 45. *У яго ў галаве шмат такi буцары.* Дсл.

•**буцэнькi**-*каў, единств. ч. нет.*—салазки. НК: Очерки, 377.

•**буцян,**—*см. под буўцян.*

•**бýцьвець,** *-ее; повел.-èй-èйма, несоверш.* —гнить от большой сырости. Шсл. *Бярвiно ляжыць ды буцьвее на дварэ.* Ст. *Соверш.* **збýцьвець**—сгнить от сырости. Шсл. *Бярвiно збуцьвела пад карою.* Матарова Сьмiл. (Шсл.).

**пабýцьвéць,** *соверш.*—подгнить от сырости. Шсл. *Пабуцьвеў зруб у студнi.* Ст. *Пабуцьвела бярвеньне, лежачы на дажджу.* Ст.

•**бýццам,** *област. — быццам.* Растсл.

•**буч,** *бучà,* (Ар.), **бучá**-*чы,* (Вк.; НК.)—заставной рыболовный снаряд — коническая плетёнка из прутьев, с открытым устьем. Ар.; Вк.; НК: Очерки, 505. *См. прутня.*

•**бýчна,** *нареч.*—крупно, ботело. *Ср. ст.* **бучнéй.** *Ідзе часта пасаджана цыбуля, там радзi, парадзi, вырываючы, каб бучней расла.* Нсл. 746.(*под радзiць*).

•**бучнéць**-*èю-èеш-èе; повел.-èй-èйма, несоверш.*—толстеть от лучшего питания. *Соверш.* **пабучнéць**—потолстеть. *Як пачалi ляпей карове даваць, дык адразу паправiлася, пабучнела.* Ст. *Ср. бучны.*

•**бýчны**-*ная-нае*—крупный, ботелый. Нсл. 40. *Бучны ячмень.* Нсл. *Бучная пшонка.* Нсл.

•**бýчыць**-*чу-чыш-ча, несоверш., перех., област.*—бить. Дсл. 45. *Як пачалi старасту бýчыць.* Бельск. у. (Дсл.).

•**бы,** *союз сравнения*—словно, Вят., Вост. (Даль),—как, как бы. *Ідзець, бы шклянку вады на галаве нясець. Послов.* Рапан. 145. *Чыстая вада, бы шкло.* Сцк. *Бярэць голымi рукамi вугальле i сыпе яго ў крысы свае адзежыны, бы якiя арэхi або яблыкi.* "Божым шляхам", Но. 3, стр. 13. *Так працуе, бы кот плача. Послов.* Рапан. 103. *Перастаў музыка граць, а ваўкi, бы сонныя, пасунулi ў лес.* Слц. *Вiд, бы ральля, увесь зморшчыўся.* Слц. (Серж. 87). *Адну (думку), бы пшчолы матку, я кунежу.* Кавыль: Думы,3. *Зьбеглiся людзi, пачалi званiць, бы на пажар.* Жгунь Гом. (Сержп: Отчет, 15). *Пад ступой рыпяць пяскi, бы сьнег аб полаз.* Салавей. *I голас у любай, бы ў лесе зьвiнючай, блiскучай крынiчанькi.* Гарун (ст. "Мая люба".) *Гады iдуць, бы карагод бясконца.* Тм.(ст. "Iдуць гады"). *I войстры пах травы i цьвiлi, i воўчых ягад горкi сок паветра вогкае паiлi, бы ў навальнiцу дождж пясок.* Крушына: Лебедзь 10. *Стала дзiўна: — гады гэтак шпарка прашумелi, бы ўвосень лiсты.* Жылка, 49.

•**быб,** *союз, в начале желательных предложений*: только бы. Нсл. 40. *Быб дзень прайшоў.* Нсл.

•**бык,** *быкà, предл. быкỳ;* Ст.-*кì-коў-ком-кì-камi-кох, м.*—бык. Ар. *Сялом купiлi заволнага быка.* Ст. *Уменьш.* **бычок**-*чкà; мн. ч., дат.-чком, мн. ч., вин.-чкì, мн. ч., предл.-кох*—бычёк. Ар. *Карова прывяла бычка.* Ст.

**бычэчак,** *уменьш. к бычок. Было ў iх пяць авечачак, шосты бычэчак.* 3 байкi, Мгсл.

•**быкаў**-*ава-ава*—бычачий. Шсл. *Быкаў хвост.* Ст. *Быкавы рогi.* Ст.

•**было,** *в знач. наречия.* Употребляется с дательным пад. личного местоимения и с инфинитивом.

**1.**—надо было, следовало, когда высказывается мнение, что следовало что-либо совершить, что, однако, небыло сделано. *Така было й вам абiды не стварыцi.* Лiст рыскае рады 1271-80 г. *Княжа, табе было тае абiды пасьцярэчы.* Тм., строчка 72. *Дагнала я свае леты ў калiнавым мосьце: — Зьвярнiцеся, мае леты, хоць да мяне ў госьцi. — Хацелi б зьвярнуцца, ня маем да кога, было табе шанаваці здароўейка свога.* Из песни, Войш. *Табе было, княжа, сядзецi ў Пскове на княжэньнi, а намесьнiкi табе Пскова не дзяржацi*(*так казалi Псковiчы князю Андрэю Алiгiрдавiчу 16-га стг.*). *А ня чорт цябе нёс на дзiравы мост, было табе дзяржацiся за сабачы хвост.* Клiх. 51. *Нашто табе было браць*

*дзяціныя цацкі.* Ст. (Шсл. *под браць* ). *Было яму ня бегчы.* Мікалаёва Куз. (Ксл. *под бегчы* ). *Ср.* ПОС 44.

**2.** дательный падеж местоимения может только подразумеваться. *Было ня браць малога, а мне што?* Гарэцкі: Песьні, 30. *Ці вылезьлі табе вочы, ці ты сватаў мяне ночы? Было сьветла запаліці.* Новыя Івойценкі Імгл. (Косіч, 24).

**•быліб I. 1.** *союз; употр. для присоединения предложений цели:*—только бы, Нсл. 40. лишь бы, только для того чтобы. *Хоць гразь пеляскаць, быліб сваё зыскаць.* Нсл. *Гэта не работнік, а дзяньдзівір: глядзіць, быліб дзень прайшоў, ды да нас не дайшоў.* Нсл. 129( *под дзяньдзівір*).

**2.** *союз.*—лишь бы только. *Быліб сьняжок падпаў, дарога будзе.* Нсл. 40.

**•быліб II,** *частица.*—только бы, Нсл. 40. лишь бы. *Быліб грошы дастаць.* Нсл.

**•быстра́**-*ры̀-ры̀, ж.*—название быстрой коровы. Ар.

**•былі́на**-*ны-не, ж.*—стебель травный. Нсл. 40. *Былінаю сьцебануў.* Нсл. *Уменьш.* **былі́нка**-*нкі-нцы.* Нсл. 40. *Саломы ні былінкі няма.* Нсл. *Собир.* **быльлё,** (Ксл.)-*ля, предл.-лю, ср.* **1.**—голые стебли. Гсл. *Усе сена падабраў, адно быльле засталося.* Нсл.

**2.**—стеблистая трава, Нсл. 40. жесткая стеблистая трава. Ксл. *Быльлё скасіў.* Лятоўшчына Куз. (Ксл.). *Поле быльлям зарасло.* Нсл.

**3.**—солома. Нсл. 40. *У пшонцы адно толькі быльлё.*

**•быльнёг**-*нягу̀, предл.-нязѐ, м.—быльлё 2* (*под быліна* ). *Быльнягом парос курган.* Крушына: Творы 161. *Вятры ўзрываюць быльнёг на мяжы.* Трус(Калосьсе, Но. 1, 1935 г, стр. 22).

**•бы́льнік**-*іку, предл.-іку, м., собир.*—жесткая стеблистая трава, Ксл. стеблистая трава. Нсл. 40. *Парос адзін быльнік.* Пяцігорск Беш. (Ксл.). *Там нічога не расьцець, толькі адзін быльнік.* Ст. *У хлеў нарваў быльніку.* Ст. *Быльніку накасіў.* Нсл. *Уменьш.* **бы́льнічак**-*чку, предл.-чку*—мягкая стеблистая трава. Нсл. 40. *Быльнічку нажні каню.* Нсл.

**•бырк,** *междомет. — бурдынц.*

**•быстра́к**-*ака̀, предл.-аку̀, зват.-а̀ча; мн. ч.-кі-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* **1.**—мальчик с быстрым дарованием. Нсл. 40. *Хлапец твой быстрак, зараз поймецца, што абача.* Нсл. *Уменьш.* **быстрэчак**-*чка, предл. и зват.-чку*—мальчик с большим дарованием, остроумный. Дсл. 46. *Гэты сын у яго быстрэчак.* Дсл.

**2.**—быстротечь, самая быстрая струя реки, Нсл. 40. быстрина. *Лу̀чыў на быстрак, і пацягнула.* Нсл.

**3.** гусиное перо крайнее от верха крыла. Нсл. 40. *Быстрак ня так добры да пісьма.* Нсл.

**•быстравокі**-*кая-кае*—быстроглазый.

**•быстрэчак**—*см. под быстрак.*

**•бы́стры**-*рая-рае*—быстрый. МГсл.; Ар. *Я тую быстру рэчку хочу-пераскочу.* Расуха Імгл.(Косіч 11). *Быстры руча̀й.* МГсл. *Быстрая вада.* Ар.

**•быстрыня́**-*ні̀-ні̀; мн. ч. быстры̀ні-няў, ж.*—быстрота. МГсл.; Ар.; Нсл. 40. *У самую быстрыню ракі пусьціўся.* Нсл. *На быстрыні жыцьця.* Г. Радзімы, Но. 40(1047).

**•бы́ська**-*ські-ську, м., дет.*—бычок. Нсл. 40. *Быську накарміце.* Нсл.

**•быт,** *быту, предл. быце, м.*—бытие, существование. *Каб мне маладзенькай быту не разьбілі.* Из песни.

**быту не даваць**—дословно: не давать жить, не давать покоя. *См. збыту не даваць.*

**•бы́тае**-*ага*—прошедшее. Гсл.

**•бы́ты**-*тая-тае*—былой. Нсл. 40; БНсл. *Гэта бытае дзела, было дый пра̀йшло.* Нсл.

**•быва́лашні**-*няя-няе*—бывалый, Ксл. бывший прежде. имевшийся. *Я ня ўмею пабывалашняму пяяць.* Стаішча Чаш. (Ксл.).

**•быць I.** *В наст. вр. формы 3-его лица ед. числа,* **ё, ёсьць, ёсьцека,** *употр. для всех лиц ед. и мн. числа.*

*Буд. вр. бу̀ду-дзеш-дзе; повел. будзь, будзьма; прошл. вр. быў, была̀, было, былі̀, тоже с отрицанием: ня бы̀ў, ня была̀, ня было, ня былі̀.*

**1.** *несоверш.*—быть, существоввать. Ар.; Ржевский у. (Гринькова: Тудовляне 316, 24); Северск. 38. *Ці ведаюць, як да̀ўна былі̀ людзі на сьвеце? — Людзі былі̀ ад стварэньня сьвету.*

—иметься. *Даўней у Вялікалітве было шмт болей дзікое жывёлы, чымся цяпер ё. У Гаўрэля былі каровы й козы, а цяпер ё адно каровы. Жыў дзедка, жыла бабка, было ў іх пяць авечачак, шосты бычэчак.* Из байки, Мл.

**2.** находиться, присутствовать где-либо.

**быў на каню і пад канём,** (*послов.*)—прошел огонь и воду и медные трубы. Н.(ЧЧ, 107); Ск.(ЛБ 3919); Іг. *Яўген быў на судзе за сьветку.* *Соверш.* **зьнябы́цца**—затосковать, загрустить долгим отсутствием откуда-либо. Ар. *Зьнябыўся з дарогі.* Ст. *Соверш.* **набы́цца**—побыть долго. *Нядоўга ты ў нас набыўся.* Нсл. 299. *Досіць доўга сякіра мая ў вас набылася.* Тм. *Соверш.* **убы́ць**-*буду-будзеш-будзе; прош. вр. убыў, убыла̀, убыло, убылі̀*—пережить, выжить. *Не вялікая шкода, абачымся, як жывы ўбудзем.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 1-2/437-438).

**бывáць**-*аю-аеш-ае, многократ.; повел. бывáй-áйма-áйце,* **1.**—бывать, иметься, попадаться.

**2.**—бывать, случаться, происходить. Ар. *Бывала й варона кукавала, а цяпер і зязюля ня кукуе.* Бесьцьвена Сян. (Ксл.).

**бывайце здаровы!** (Дсл.)—прощайте, до свидания! Ар.; БНсл.

**3.** бывать, время от времени приходить, Ксл. приезжать куда-либо.

**бывáйце!**—прибудьте, посещайте. Дсл. 45. *Бывайце к нам калі-колечы.* Выгары Куз. (Ксл.).

**абыцца,** *абудуся, абудзешся, соверш.* —привыкнуть к чему-либо. *Спачатку людзі ня вельмі й бралі да галавы тую страляніну, бо гэта ж не пяршыня, што яна блі́жылася, то дáлілася і, часам, досыць нядоўга. Прывыклі й абылі́ся.* Дудзіцкі(Бацьк., яно. 49-50/435-436). *Несоверш.* **абывáцца**-*дюся-дешся.*

**адбывáць,** *несоверш., перех.*
**1.**—выполнять относящееся к службе, Нсл. 37. отбывать, исполнять какую-либо повинность, связанную с пребыванием где-либо. *Адбываць, адбыць варту.* Нсл.
**2.** отправлять, сбывать с рук кого-либо, спроваживать( отделываться, **С.**) Нсл. 371. *Абяцанкаю толькі адбываеш мяне, ды не адбудзеш, не пайду з хаты, пакуль не аддасі.* Нсл.
**3.**—угощать. Нсл. 371. *Чым ты будзеш адбываць гасьцей? — Ёсьць чым адбыць.* Нсл.
**4.**—удовлетворять. Нсл. 371. *Як хочаш адбывай яго за шкоду; а не адбудзеш, пойдзе справа да суду.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **адбывáньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў,* **1.** выполнение. Нсл. 371. *Адбываньне службы.* Нсл.
**2.**—сбывание. Нсл. 371. *Адбываньне дакучлівых гасьцей.* Нсл. *Соверш.* **адбыць, 1.**—отбыть(исполнить какую-либо повинность, связанную с пребыванием где-либо, Ар.) Ксл.; Ар. *Адбыў свой тыдзень на стойцы.* Нсл. 371.
**2.**—отделаться. Ар.; Ксл. *Дзякуям не адбудзеш, дзень жаць будзеш.* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.). *Дзякуям не адбыць — трэба заплаціць.* Ар.
**3.**—угостить. Нсл. 371. *См. адбываць. Прич.* **адбыты, 1.**—выполненный. Нсл. 371; Дсл. *Мой рад адбыты.* Дсл.
**2.**—сбытый, спроваженный. Нсл. 371. *Адбыты дакучнік.* Нсл.
**3.**—угощенный. Нсл. 371. *Госьці адбытыя хлебам—сольлю і добрым словам.* Нсл.

**адбыцца**-*адбудзецца, соверш.* **1.**—побывать. Ксл. *Усі адбыліся ў нас.* Даўгое Беш. (Ксл.).
**2.**—состояться. *Усі вясельлі адбыліся.* Альшанікі Беш. (Ксл.). *Несоверш.* **адбывáцца**-*дюся.*

**забывáцца**-*дюся-дешся, несоверш.*—забывать. Нсл. 161; Ар.; Ксл. *Не забывайся нас.* Нсл. *Соверш.* **забыцца,** *забýдуся, перех. или на каго-што,* — забыть(перестать помнить, утратить воспоминание о ком-чем-либо, Ар.) Шсл.; Нсл. 161., позабыть. Гсл.; Ар. *Сваіх прыяцеляў мы ніколі не забудземся. Я й забыўся, што ён сказаў.* Чашнікі (Ксл.). *с союзом "што" или с инфин.*
—забыть(упустить из виду, не вспомнить в нужный момент, Ар. ) Шсл.; Нсл. 161. *Не забудзься сказаць нашым, што госьці будуць заўтра. Нешта забыўся я сказаць табе.* Нсл. *Забыўся падзякаваць.* Ст. *Соверш.* **прызабыцца**—несколько, немного призабыть. *Як глянула ў хату, схамянулася — на полю дзяцё прызабылася.* Росуха Імгл.(Косіч 23).

**збывáць,** *несоверш. каго-што,* **1.**—сбывать, сваливать с рук, Нсл. 197. освобождаться, избавляться, отделываться от кого-либо, -чего-л. *Збываць, збыць бяду.* Нсл. 197.
**2.** (сбывать, **С.**), продавать. Нсл. 197; Шсл. *За нішто збываеш, збыў коні.* Нсл. *Прич.* **збываны, 1.**—неприятный, которого хотелось бы сбыть с рук. Нсл. 197. *Вы ў нас госьці ня збываныя, гасьцюйце.* Нсл.
**2.**—бывший в продаже или назначенный в продажу. Нсл. 197. *Збываныя коні. Соверш.* **збыць,** *збуду-дзеш-дзе. Нічым збываем, збылі гасьцей.* Нсл. 197.
**2.** (сбыть, **С.**), продать. Нсл. 197. *Добры быў конік, але давялося збыць.* Ст.

**збывацца**-*аецца, несоверш.*—сбываться, осуществляться, исполняться. *Соверш.* **збыцца,** *збудзецца; прош. вр. збыўся, збылáся-лося-лі́ся; повел. збудзься, збудзьмася*—сбыться, осуществиться, исполниться.

**пабывáць,** *несоверш.*—побывать. *Я ўчора на таргу пабываў, я ж табе вяночак старгаваў.* Север Сур.(Шэйн І-2, 496). *Соверш.* **пабыць**-*буду-дзеш-дзе; прош. вр.* **пабыў, пабылá**-*ло-лі́*—побыть, пробыть.

**перабывáць,** *несоверш.* **1.**—жить, пребывать(быть где-либо, находиться в каком-либо состоянии, положении, **С.**). Нсл. 399. *Чаго табе валачыцца? перабывай у мяне.* Нсл.
**2.**—переживать что-либо, подвергаясь чему-либо(преодолевать, выносить, **С.**) Нсл. 399. *Як-колечы перабывай зіму, а вясну лацьвей перабыць.* Нсл. *Соверш.* **перабыць**-*буду-будзеш-будзе; прош. вр.-быў-былá-было-былі́,* **1.**—прожить(какое-л. время, каким-л. образом, **С.**) Нсл. 399. *Праз восень перабыў у мяне, перабудзе й перазь зіму!* Нсл. *Не ўрадзіў мак, перабудзем так. Послов.*
**2.**—пережить(выжить, **С.**). Нсл. 399. *Каб як зіму перабыць, а там што-колечы прыдумаем.* Ст.

**перабывацца**-*дюся-дешся*—с трудом переправляться чрез что-л. Нсл. 399. *Як-колечы перабывайцеся на тый бок.* Нсл. *Соверш.* **перабы́цца**-*будуся-будзешся; прош. вр.-быўся-былася-былося-былися*—с трудом переправиться чрез что-л. Нсл. 399. *Нядаўна шмат падводаў перабылiся пераз раку, а цяпер нiяк не перабудзешся.* Нсл.

**прыбы́ць,***прыбудзе, соверш.*—увеличиться, прибыть. *Спор iм ад Пана Бога прыбудзе.* Кiт. 29а15. *На том дзераве яшчэ так веле прыбудзе.* Тм. 13367. *Несоверш.* **прыбыва́ць.** *Хто глядзiць, любячы, на наўчонага чалавека, яго ачом яснасьцi прыбывае.* Кiт. 136 10.

**4.** (*у чым*)—заключаться в чем-л., состояться в чем-л., сводиться к чему-л. *Запраўдная няволя жыдоўская ў Ягiпце была ў тым, што яны былi да яе прывыкшы. См.* *замыкаць у сабе*( *под мкаць*).

•**быць II,** *союз.*—будто. *Ча ты махлюеш, быць я табе паверу?* Марцiнкава Куз. (Ксл, *под махляваць*).

•**быцьцё**-*цяˋ, предл.-цюˋ, ср.* **1.**—бытьё(бытие, Ксл.; Гсл.)жизнь, Нсл. 40. существование *Людзкое быцьцё.* Нсл. *Ласкат.* **быцьцейка**-*ка, предл.-ку, ср.* НК: Старцы, 80.

**2.** состояние, быт. Нсл. 40. *Благое наша быцьцё: няма чым i папраўiцца.* Нсл.

**3.** бытность, присутствие. Гсл.; Нсл. 40. *У маiм быцьцю так-сяк робяць.* Нсл.

•**бы́цца,** *союз., област.*—будто. Дсл.(*под будто* ). *См. быццам.*

•**бы́ццам,** *союз и частица* **1.** *сравнительный союз; употребляют в сравнительных обращениях и в сравнительных предложениях* : будто, МГсл.; Ксл.

словно. *Яна стаiць, быццам тая былiнка ў полю.* Стрэлкi Беш. (Ксл.). *Думкi, быццам iскры прыску, узьлятаюць да нябёс.* Крушына: Лебедзь 28. *А ў iх шалiкi зьвязаны, хто iх знае — ня вузлом: нейкай шпiлькай прышпiляны, быццам накрыж казялком.* Тапчэўскi: Пан. iгрышча. *Наталя моўчыкам, быццам застыглая, усё рукамi коўдру абiрае.* Бацьк., Но. 11-12/447-448. (*Вецер*) *прыпаў да зямлiцы, быццам дзесь загiнуў.* Гарун( ст. "Вецер"). *Тады прайшоўся яшчэ разы з два па пляцформе, быццам баяўся, каб чаго не забыцца, быццам што ўспамiнаў.* ЗСД 177. *Мацi ўсплакала, быццам буры б'юць, а сястрычанька — ручаї цякуць, маладая жонухна, бы раса пала.* М. Багд.: Сон-трава. *Ты жыцьцём, быццам жытняй мяжою, пастyпаеш свабодна i пэўна.* Жылка 62. *Быццам сонцам зямля пасьля буры, я асьвечан маiм пачуцьцём.* Жылка 50. *Нейкiя трызьнi плятуцца дзяўчыне — быццам яна не ў дварах ахмiстрыня, быццам яна ня жыве ў вахвiцыне, быццам яна няма ведама хто, хочацца сэрцу ня ведама што.* Гарун: Варажба. *Ну й праклятыя ж сяднi мароз! Новы кажух прабiрае, быццам кажух — не кажух, а папера.* Гарун: Варажба.

**2.** *частица.*—будто, как будто. *Чалавек сядзiць высокi, але быццам з тога сьвету.* Гарун: Шчасьце М. *Рукавiчкi маляваны, толькi боты быццам клiн.* Тапчэўскi: Пан. iгрышча. *Навокал людзi быццам скамянелi.* Крушына: Лебедзь 48.

•**бычок**-*чкаˋ-чкуˋ, м.* **1.** великолитовский (белорусский) танец, танцуется с теми же фигурами, что и кадрыль, за исключением 1, 2, и 3-ей фигур. Шсл.

**2.**—*см. под бык.*

•**бюрократ**-*ата, предл.-ату, зват.-аце, м.*—бюрократ.

•**бюрокра́тка**-*ткi-тцы, ж.*—женщина бюрократ.

•**бюрократы́зма**-*змы-зьме, ж.*—бюрократизм; бюрократы, чиновничество.

# Г

•**го-о-о!**—восклицание для остановки лошадей при молотилке. Шсл. *Го-о-о!... стой.* Ст.

•**гогаль**-*ля, предл. и зват.-лю; мн. ч., род.-лёў, вин. гогалі, м.* **1.**—гоголь.

**2.** *перен. мн. ч., вин.-лёў*—смелый, отважный человек, молодец. Нсл. 115. *Гогаль твой мужык, на ўсе адважны.* Нсл. *Гогалям ходзе, нікому ня спусьце.* Нсл. *Жонка твая гогаль баба.* Тм.

**3.** франт, Растсл. щеголь. *Уменьш.* **гагалёк**-**лька;** *мн. ч., дат.-льком, мн. ч., предл.-льках*—щеголь. Нсл. 115. *Паніч гагалёк.* Нсл.

**гагалёчак**-*чка, уменьш.*—голубчик. Нсл. 115. *Гагалёчак мой маленькі.* Нсл. *Тваe дзеці як гагалёчкі.*

•**гогат**-*ату, предл.-аце, м.* **1.** тихое ржание, Гсл. ржание лошади на призыв или при приходе человека, которого она знает. Нсл. 115.

**2.** хохот на все горло, Нсл. 115 неумеренный хохот. Ксл.; Гсл. *Во! паднялі гогат на ўсю хату.* Нсл. *Гогат паднялі зь яго за гэта.* Замшына Лёз. (Ксл.).

•**гогаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., перех.*—бить одно о другое, особенно издающее гул. Нсл. 115. *Гогаць гарлячы.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **гоганьне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў*—толчок одного звонкого предмета о другой. Нсл. 115. *Гоганьне гаршкоў.* Нсл. *Соверш.* **гогнуць**-*ну-нешне*—стукнуть(особенно о что-либо издающее гул, **С.**) Нсл. 115. *Гогнуць па гаршку.* Нсл. *Гогнуць кулаком у сьпіну.* Тм. *Гогні яго па галаве!* Тм.

**разгогаць**—разбить(особенно что-либо издающее гул, **С.**) Нсл. 115. *Разгогаць гаршчок.* Нсл. *Коўзаючыся, галаву сабе разгогаў аб лёд.* Нсл.

•**гогнуцца**-*нуся-нешся, несоверш., возвр.*—удариться. Нсл. 115. *Гогнуся галавою аб стол.* Нсл. *Соверш.* **разгогацца**—разбиться(чему-либо издающему гул, **С.**) Нсл. 547. *Міска разгогалася, зьляцеўшы з паліцы.* Нсл.

•**год**-*ду, зват. годзе; мн. ч. гады, год*—год. Ар.: МГсл. *Пяць год яму служыці меў.* Гордз. Ак., XVII, 4. *Шасьцьдзясят год Богу маліўся.* Кіт. 13б1. *Кукавала зязюля людзём даўгіх-даўгіх год.* Лойка: Л. песьня. *Гады йдуць.* Гарун(ст. "Ідуць гады"). *Мінула ўжо колькі год.* Сяднёў(Бацьк., Но. 46-47/530-531). *А ты ведаеш, колькі год расьцецъ дзерва? Сто год!* Гамолка.

**перастýпны год**—високосный год.

**гады ў рады**—очень редко. НК: Очерки, 530; Нсл. 116. *Гады ў рады бывае ў нас.* Нсл. *Да цёткі прыяжджала гады ў рады, як кажуць, і то на які дзень-два.* Ю. Жывіца("Прыйсьце", Но. 1).

*Уменьш.* **гадок**-*дка, предл.-дку; мн. ч., дат.-дком, мн. ч., предл.-дкох*—**годик.** Нсл. 116; Шсл.; БНсл. *Ня чуць сына год, ня чуць і другі, на трэйці гадок едзе сынок.* Барадзінка Імгл. (Косіч 49). *Дзяўчынцы пашоў шосты гадок.* Ст. *Трэйцім гадком застаўся сіратою.*

**гадочак**-*чка, предл.-чку, уменьш. к гадок. Хоць бы яна яшчэ гадочак пакрасавалася ў дзеўках.* Косіч, 233. *І гадочку разам не пажылі.* Ст.

•**годна,** *нареч.* **1.** хорошо, выгодно, Нсл. 116. надлежащим образом. *Годна зроблена.* Нсл.

**2.** достойно, подобающим образом; так, как следует.

**3.** *в знач. безличн. глаг.*—стоит. Нсл. 116. *Годна цябе выбіць за гэта.*

•**годнасьць**-*ці; мн. ч., род.-цяў, ж.* **1.** достоинство. Нсл. 116; Ксл. *То ё міласьць, то ё і годнасьць.* Кіт. 11169. *Чым узьвялічаць тваю годнасьць?* Нсл. *Не вялікая годнасьць вашага брата.* Нсл.

**людзкая годнасьць**—человеческое достоинство.

**2.** стоимость. Нсл. 116. *Годнасьць каня твайго не аднолькавая з маім.* Нсл.

**3.** способность, выгодность. Нсл. 116. *Подле годнасьці твае работы ты й хлеба кавалка ня варт.* Нсл.

•**годні**-*няя-няе*—годовой. Нсл. 116. *Годні работнік.* Нсл. *Годняя служба, плата.* Нсл. Как частица, *годні* сочиняет слова, как: *двугодні, трыгодні* и т.п. *Мелі за сабой тысячагоднія гісторы.* "Бацьк.", Но. 3(439).

•**годны**-*няа-нае,* **1.** достойный. Нсл. 116; Ксл.; Стт. 1529. *Годны сьці чалавек.* Нсл. *Хіба пакаецца, то да ласкі Божай і да маей прычыны годны будуць, а не пакаецца, то ня будзе годны.* Кіт. 29а11, 12. *Чатыры рэчы чалавеку добрыя, за каторымі ласкі Божай годзен будзе.* Кіт. 36а11, *Калі хто таго пытаньня ня ўмее пытаць і адказаць, той чалавек імамам быць ня годзен.* Кіт. 4а10. *Ласкі Божай годзен будзе.* Кіт. 85б1. *Ты Пан Бог адзіны, Ўсемагучы й годзен ад усёга стварэньня кланеньня.* Кіт. 135б9. *Суннэт то ест: хто чыніць ... ласкі Божай годзен будзе.* Кіт. 46а8,9. *Вèдама, яна годна яго.* Жукаўка Лёз. (Ксл.).

**2.** достойный (заслуженный, справедливый. **С.**) Нсл. 116. *Ты годны, каб цябе ў маскалі здаць за твае штукі.* Нсл.

**годны павагі**—достойный уважения.

**годны спадкаемца**—достойный преемник.

**годны веры**—заслуживающий доверия. Стт. 1529.

**гаднéйшы, 1.** *ср. ст. к годны,*—достойнее. Нсл. 116. *Ён гаднейшы за цябе.* Нсл.

**2.** способнее, выгоднее. *Выбер гаднейшы серп.* Нсл. 116. *Прев. ст.* **найгаднейшы** —самый достойный; самый выгодный.

•**годзе,** *нареч.* **1.** довольно, будет, полно, Гсл. полно, довольно, Нсл. 115. довольно, Ксл.; МГсл. довольно, перестань. Растсл. *Годзе песьні пець.* Росл. *Ой лізўне, годзе табе ўжо лізацца: пазнàюць.* Ст. *Годзе табе ўжо бегаць.* Летцы Куз. (Ксл.). *Годзе табе ўжо брахаць!* Ст. *Не пакуль годзе, пакуль усё.* Ск. *Устань, устань, салавеечка, годзе табе спаці.* Водзьвінка Імгл. (Косіч, 57).

**2.** довольно, вдоволь. Нсл. 115. *Насьміяліся годзе.* Нсл.

**дый годзе**—да и только. Гсл. *Насланьне нейкае, дый годзе!* Васілёнак ("Полымя" 1967, Но. 12, стр. 194). *Яму кажы, а ён ня слухае дый годзе.* Ст. *Нейкае дзіва дый годзе.* Гарун (ст. "Іванку").

•**годзе, гадзіла,** *безлич.,—см. под гадзіць.*

•**гожа,** *нареч. к гожы,* **1.** надлежащим образом. *Гожа зроблена, пашыта.* Нсл. 116.

**2.** *в знач. безличн. глаг.*—следует, стоит. Нсл. 116. *Гожа цябе за гэта абсьцёбаць розкамі.* Нсл. *За гэтакую ашуку і ў турму пасадзіць гожа.* Нсл. 388.

**2.** уместно. *Сэдэку* (*араб. убожніну*) *хоць бы па байрам у колька дзён аддаў — гожа; а фітрэ калі перад байрам нэмазам* (*араб. перад малітваю на Байрам*) *аддасі, то гожа.* Кіт. 20б10.

•**гожшы**-*шая-шае, ср. ст. к гожы. Дай гожшую сякіру.* Нсл. 116.

•**гожы**-*жая-жае,* **1.** способный к употреблению, годный, Ксл.; Нсл. 116. употребительный. Католін Росл. (Дсл.). *Калі маеш, дай гожую касу, гожую сякіру.* Нсл. *Куды ты гожа!* Купіна Віц. (Ксл.). *Чатыры рэчы шайтанў гожыя ест.* Кіт. 1а6. *Гэтыя словы няхай будуць у азану* (*араб., туканьне пяцьцём на малітву*)*: да нэмазы* (*араб., малітвы*) *гожыя ест.* Тм. 90а2. *Сядзіць на рагожы, а кажа, што ў паны гожы.* *Послов.* Рапан. 155. *Ср. ст.* **гожшы.** *Дай гожшую сякіру.* Нсл. 116.

**2.** достойный (заслуженный, справедливый, **С.**) Нсл. 116; Гсл. *Гож бізуна за такую работу.* Нсл.

**3.** почтенный, заслуживающий уважения. Нсл. *Ён чалавек гожы й пасьцівы.* Нсл.

**4.** красивый. Ксл. *Гожая дзеўка Пятрусёва.* Мянюцева Сян. (Ксл.).

•**гой I,** *гоя, общ.* **1.** храбрец, герой. Нсл. 116; Гсл. *Ой! ты гой у нас на ўсё.* Нсл. *Гой маладзец! Гоя сына маеш.* Нсл.

**2. гой-баба**—бой-баба. Ксл. *Да жонкі ягонай патыкайся: гой-баба!* Азярышча Лёз. (Ксл.). *Твая жонка гой-баб* Нсл. 116.

•**гой II,** *междомет.* **1.** ах! ой! Нсл. 116. *Гой бяда!* Нсл.

**2.** означает насмешку. Нсл. 116. *Гой баюся цябе дужа.* Нсл.

•**гойда**-*ды-дзе, ж.*—высокая, тонкая женщина. Ксл. *Ідзець, як гойда.* Гарадок (Ксл.).

•**гойдалка**-*лкі-лцы, ж.*—качели. *Ср. гойдаць.*

•**гойдаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—качать (качели, колыбель). Вост. (Даль). *См. гайдàць. Соверш.* **прагойдаць**—прогулять. Міх. *Дзядзька прагойдаў кабылку.* Міх.

•**гойдацца**-*аюся-аешся, несоверш.*—ритмически колебаться из сторону в сторону или сверху вниз; качаться. *Гойдаюцца сосны над аднаселяй, шумяць, гамоняць.* Цялеш: Дзесяць 18. *См. гайдàцца.*

•**гойканьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к гойкаць.*—гик (гикание, **С.**) МГсл.

•**гойкаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** выкрикивать, Ксл. гикать. *Сваццці пачалі пяяць і гойкаць.* Асінаўка Беш. (Ксл.).

**2.** аукать. МГсл.

•**гойнік**-*іку, предл.-іку, м., бот.*—крестник. З. Верас.

•**гойсаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—бегать, скакать, резвиться. *См. гайсàць. Соверш.* **адгойсаць**—прожить таким образом. *Прич.* **адгойсаны**—проведённый таким образом. *Гукàю дух адгойсаных вякоў.* Кавыль: Думы 13.

•**гойшаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—неумеренно обращаться с чем-л. *Цяпер жыта гойшае, а просьле будзе пухці бяз хлеба.* Ст.

•**гойчыць**-*чу-чыш-ча, несоверш.*—колыхать, убаюкивать, пестовать кого-л. Гсл.

•**гок,** *отглаг. частица, значти.* **1.** быстрый удар. Нсл. 116. *Гок гаршком аб стол.* Нсл. *Гок гаршчок аб гаршчок.* Тм.

**2.** нечаянное падение. *Дзяцё гок воб зямлю.* Нсл.

•**гоканьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к гокаць*—стучание. Нсл. 116. *Гоканьне ў дзьверы, па стале.* Нсл.

•**гокаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** стучать. Нсл. 116. *Галавой гокай воб сьцяну.* Нсл. *Соверш.* **загокаць**—начать стучать. *Нехта ў вароты гокае, загокаў.* Нсл.

**2.** *перех.*—бить. Нсл. 116. *За што ты яго так гокаеш?* Нсл. *Соверш.* **адгокаць**—отбить, Нсл. 342. отколотить чем-л, нанося звучные удары. *Соверш.* **згокаць**—разбить. Нсл. 202. *Згокала гаршчок.* Нсл.

**гокнуць**-*ну-неш-не, однкрат. к гокаць 1, 2. За што ты яго так гокнуў?* Нсл.

•**гокнуцца**-*нуся-нешся, несоверш., возвр.* —удариться. Нсл. 116. *Гокнуцца галавою аб сьцяну.* Нсл. *Дзяцё гокнулася воб зямлю.* Нсл. 116.

•**голад**-*ду, предл.-дзе, мн. ч. нет.*—голод (острое ощущение потребности в пище, сильное желание есть). Ар.; Шсл. *З голаду*

*статак і салому із страхі паеў.* Ст.

**прагнаць першы голад**—заморить червяка. Ар.

•**голас**-*су, предл.-се; мн. ч.-сы́-соў-сом, мн. ч., предл.-сох, м.* **1.** голос.

**пусьціць голас**—подать голос, Гсл. громко запеть, воскликнуть, чтобы далеко было слышно, что голос. раздавался. *Пушчу голас дуброваю.* Гсл. *Уменьш.* **галасок.** *Пара маці, дачку 'ддаці — галасок зьмяніўся. Галасочак на лясочак, ціха мова, розна.* ПНЗ 46.

**галасочак,** *уменьш. к галасок.*

**2.** тон. *Як пяюць гэту сьвятую песьню гурбай, дык во як хораша, такі голас жаласны ды харошы.* Стдуб. (Косіч, 13).

**жаласны тон**—минорный тон.

**голас галасу́е**—голос раздается. *Пушчу голас па дуброве; няхай голас галасуе, няхай мая маці чуе.* Из песни.

•**голасна,( галасно,** Сакуны), *нареч.* **1.** громко, Чачот 65; Сакуны 79. во весь голос. Нсл. 117; БНсл. *Чытай малітву голасна.* Нсл.

**2.** *безлич.*—слышно. Нсл. 117. *Што ў вашым баку голасна?* Нсл.

•**голда**—*ды-дзе, ж.*—польба. Ксл. *Надабе сядні сеяць голду.* Замошша Сян. (Ксл.).

•**голка**-*лкі-лцы, ж.*—игла, Ар.; Гсл.; Ксл. иголка. Гсл.; БНсл.; Янк. II. *Абачыў войстрыя, як голкі, вочы Рыгоравы.* ЗСД 94. *Дай ценшую голку,* Каралёва Выс. (Ксл.). *Віднютка, хоць ты голкі зьбірай.* Дудзіцкі (Бацьк., Но. 49.50/435-436). *Голкамі паролі.* Кл.: Каліна 148.

**як з голкі зьняты**—с иголочки. ВК. (ЛБ 2904). *Уменьш.* **голачка.** Чачот 65.

•**голм**-*му, м.*—высокий речной берег горбом. Цымборскі.

•**голь**-*лі, ж.*—ветвь. *Кажная голь, як гэты сьвет, на том дзераве.* Кіт 13365. *Уменьш.* **голька**-*кі-цы*—ветка с дерева, Вост. (Даль, 382я2 веточка.

**галіна́**-*ны̀-нѐ*—одна ветка. Гсл.; Шсл.; Ар. *Як маю казаць, як веле галін* (*на дзрве*): *акружылі ўсе нябёса.* Кіт. 125а4. *На кажнай галіне птах сядзіць.* Тм. 134а5. *Галіну̀ зламіў у дулі.* Шсл. *Уменьш.* **галі̇нка**-*нкі-нцы. Собир.* **гольле,** Растсл., **гальлё,** Ар.; Гсл.; Шсл. ветви, Растсл.; ПНЗ; Гсл. куча ветвей. Нсл. 117. *Датыкнуўся да гальля таго дзерава.* Кіт. 75а11. *Вазьмі адсюль гальлё.* Нсл. *Назьбіраў воз гальля.* Ст. *Ласкат.* **гольлейка**-*ка. Я марозу не баюся, гольлейкам абгараджуся.* Аляксандраўка Імгл. (Косіч 238).

•**гольнік**-*ку, предл.-ку, м.*—подмаренник ручейный. Ксл. *Каля канавы дзе-колечы гольніку знойдзем.* Раманаўка Сян. (Ксл.).

•**гольшы,** *ср. ст. к голы*—беднее.

•**голць**-*ці, ж.*—гололедица со снегом. Гсл.

•**голы**-*лая-лае,* **1.** нагой, Гсл. голый. Ар. *Яны разьдзеліся ды ляжаць голыя.* Мехава Аз. (Ксл.).

**2.** (крайне, Гсл.; Ар.) бедный. Гсл.; Нсл. 117; Ксл. *Гол, як сакол.* Нсл. *Голы, як бізун.* Гсл. *У голага не пазычыш.* Сянно (Ксл.). *Гол, як кол, послов.*—гол, как перст. Ар.; Нсл. 26. *Ср. ст.* **гольшы**—беднее. *А мужык быў голы, цяпер яшчэ гольшы.* Багушэвіч (ст. "Немец"). *Прев. ст.* **найгольшы**—беднейший, самый бедный. *Ласкат.* **голенькі**—бедненький, бедняжка. Нсл. 116. *Голенькі вох, а к яму Бог. Послов.,* Нсл. *Увелич.* **галю́сенькі, 1.** голёхонький, совершенно голый.

**2.** совершенно бедный. *Пагарэў, галюсенькім застаўся.* Нсл, 118. *Бусенькі, бусенькі — абое галюсенькі.* Войш.; Ксл.

**гола,** *нареч. к голы 1, 2. Прев. ст.* **галей**—беднее. Нсл. 117. *Чым галей, тым сьмялей.* Нсл.

**3. голая**—бесприданная. Нсл. 117. *Голую замуж выперлі.* Нсл.

**гольма голы, 1.** совершенно голый. Нсл. 117. *Гольма голы ходзе.*

**2.** совершенно бедный. Нсл. 117. *Гольма голую ўзяў.* Нсл.

**голы доўг**—долг без процентов. *А а голых даўгох, за праўнымі запісы на йменьне ўцеклага ўнесеных... так ся разумеці маець.* Стт. 71.

**голая паве́сьць**—голословное заявление. Гордз. Акты ХУІІ, ХХХУІ. *Пра̀ва літоўскія таго ня знаюць, абы на голую павѐсьць мелі каму казаці прысягаці.* Горд. Акты ХУІІ, ХХХУІ.

•**гом,** *гому, предл.-ме, м.*—крик и шум, смех, говор, нестройные шумные голоса. *Абышлося бяз гому, бяз крыку.* Нсл. 118.

•**гомалка**-*лкі-лцы, ж.*—малый сухой сыр в форме яйца или шара. Янк. II. *Надабе Сьцепану̀ гомалак паслаць.* Янк. II. *Любе, каб гомалку зьесьці.* Тм.

•**гоман**-*ну, предл.-не, м.* **1.** говор, оживленный (и громкий, С.) разговор, Шс громкий говор. Вост. (Даль). *У хаце гоман, аж нічога не разабраць.* Ст. *Досіць гоману аб гэтым па ўсім сяле.* Нсл. 118. *Падняліі̇ гоман, як Жыды ў школе.* Тм. *На лузе чуць гоман касцоў.* Чашнікі (Ксл.).

**2.** шум, крик. Ксл.; Нсл. 118. *Падняўся крык і страшэнны гоман.* Кацькава Сян. (Ксл.).

•**гомзала. гамза́ла**-*ла, общ.*—говорящий, поющий в нос; гнусавый. Янк. I. *Гомзала нейкі.* Янк. I. *Гамзала — гэта хто гамзае.* Тм.

•**гон: даваць гон**—сильно гнать. Дсл. *І даець ён гон свайму каню.* Красьн. (Дсл. 156).

•**гонар**-*ру, предл.-ру, м.*—чванство. Нсл. 118. чванство, ревнивая охрана своего достоинства. Шсл. *Ён із гонарам!* Нсл. *У Мікіты вялікі гонар.* Ст. *Што Тодар, то гонар. Послов.* Ст. *Гонару свайго яму не панесьці.* Пятніцкая Беш. (Ксл.).

•**гонда**-*ды-дзе, ж. — ґонта. Гондаю накрый, дык да сьмерці перакрываць ня трэба будзе.* Янк. I. *Одна* **ганьдзі̇на.** Янк. I. *Вазьмі тую ганьдзіну.* Янк. I.

•**гоня**-*ні-ні, ж.*—в старину мера длины. Гсл.

•**гоні**-*няў*, Ар. *единств. ч. нет.* **1.** часть полосы около 60-80 саж. длиною прив-спашке. Ар. *Я ўзараў двое гоняў.* Латыгаль Сян. (Ксл.). *Адсюль возера ў чатырох гонях.* Машчоны Сян. (Ксл.). *См. вератнік.*
**2.** расстояние шагов в сто. Дсл. *Прайшоў толькі трое гоні.* Ельн. (Дсл.).
•**гонка,** *нареч. к гонкі*—быстро. Ксл. *Вада бяжыць гонка.* Бешанковічы (Ксл.). *Ср. паганко.*
•**гонкі**-*кая-кая,* **1.** одереве: ровный, прямой, сучья которого начинаются на значительной высоте. НК.: Очерки, Но. 672; Ар. *Але лес такі гонкі!* Ст. *Якая гонкая хвойка!* Тм. *У гэтага пана дужа гонкі лес.* Дсл. *Гонкая ліпка.* Ар. *Русалкі гушкаюцца на гонкіх бярэзках.* Цэлеш (Ярылаў агонь). *Гонкія хвоі калыхаліся шапкамі ў лесе.* Тм.
**2.** *перен.*—быстро происходящий. *Асабліва падабаў Лясьніцкі канчатак песьні — такі халодны, гонкі, як восенскі вецер.* ЗСД. 131. *Ср. паганкі.*
•**гоньчык**-*ка, м.* **1.** гончая собака. Нсл. 118. *Добры гоньчык!* Нсл. *См. ганчак.*
**2.**—*см. под ганец.*
•**гоны,** *гонаў, единств. ч. нет.* **1.** — *гоні.*
**2.** сплавливаемый по реке лес. Нсл. 118. *Гоны гоняць.* Нсл.
•**гоп,** *междомет.* **1.** гоп. Ксл.; Ар. *Ён стаяў, стаяў; тады гоп на каня — дый паехаў.* Баравыя Куз. (Ксл.). *Не кажы "гоп", пакуль не пераскочыў. Послов.* Войш. *См. гуп. Уменьш.* **гопачкі.** Шсл. *Гопачкі на ручкі (да дзяцяці).* Ст.
**2.** восклицание при ударе. Шсл. *Па ім паленам гоп а гоп!* Ст.
•**гопаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—сильно бить кого или тяжёлым предметом. Шсл. *Гопае цэпам па пустых снапох.*
•**гопнуцца**-*уся, гопнешся, соверш.*—сильно, с отзвуком шлёпнуться о землю или удариться о предмет. Шсл. *Як гопнуўся аб лёд, дык ледзь устаў.* Ст.
•**гор,** *гору, м.*—вышина (относительно пространства над землей, С.) Дсл. выс *См. гарыня.*
**к гору**—навзничь. Дсл. *Хоць к гору кладзіся, хоць бокам.* Зьверавічы Красьн. (Дсл.).
•**гора**-*ра, предл.-ру, ср.*—горе. Ксл.; Ар.; Дсл. *Каб я а вы ня зналі тога гора.* Дсл. *Гэта ня гора, а тое гора, як усе гола.* Тм. *Гора, як імецца, дык і страх мінецца.* Тм. *Прыдзе гора — нагаруешся.* Госьміра Сян. (Ксл.). *Гора пасьціла коні*—плохой пастух был у лошадей. Дсл. *Не чалавек, а гора.* Тм.
**гора прыняць**—испытать горе. Дсл.
**гора трапаць**—испытать горе. Тм.
**заліцца ў гору**—испытать большое горе. Тм.
**гора ў край!**—не беда. Гсл. *Уменьш.* **горачка.** Шсл. *Вось горачка ты маё, дзе ж гэта грошы мне дастаць!* Ст. *Ня ўсё па гору смуціцца.* Гарэцкі: Песьні, 64.

•**горад**-*ду, предл.-дзе; мн. ч.-ды, м.* **1.** крепость. Вайсковыя статуты 16-17 стг.; Стт. 1529. *Стаяньне пад горадам.* Вайсковы статут 17 стг.
**2.** замок. Стт. 1529. (*Вітаўт*) *спусьціцца з гораду* (*з краўскога замку,* **С.**) *і ўцячэць у Немцы й Прусы.* Увар. сьпіс. лет., 89. *Умацаваныя гарады* — "крепости" *будаваліся на граніцах беларускае этноґрафнае тэрыторы.* П. Урбан: Спроба рэгабілітацы гісторыі Беларусі ў БССР.
•**горае,** *соверш.* **пагорала,** *безлич.*—становиться (стать, **С.**) хуже. Нсл. 119. *Горае, пагорала нам жыць за маладым панам.* Нсл. *Замуж пашла — шчэ й пагорала, журбы-клопату шчэ й паболела.* Жукова Імгл. (Косіч 35).
•**горай, горш, горшы, горы, гарэй,**—*см. под блага.*
•**горан**-*рна, предл.-рне, м.*—горн (печь для нагревания или переплавки металлов; печь для обжига керамических изделий, грнило, **С.**) Ксл.; Міх.; Нсл. 118. *У горне нейдзе закапаўся кавалак зялеза.* Ст. *Надабе місы насіць у горан.* Бешанковічы (Ксл.). *У горне зялеза нагрэй.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Палажы вугальля ў горан.* Нсл.
•**горача,** *нареч.,—см. под гарачы.*
•**горб**-*ба; мн. ч., дат.-бом, мн. ч., предл.-бох, м.*—горб, уродливая выпуклость на спине человека. Ар.
•**горка,** *нареч. к горкі, гаркі,* **1.** горько (об ощущении горечи). *Горка праглынуць, але жаль пакінуць. Послов.* Нсл. 732.
**2.** досадно, невыносимо. Нсл. 732. *Горка імне цярпець гэта ад сына.* Нсл.
**3.** очень (крайне, **С.**) необходимо. Нсл. 119. *Горка трэба.* Нсл. *Горка прыдзі.* Нсл.
**гарчэй,** *ср. ст. к горка 1, 2, 3. Гарчэй за перац.* Нсл. 732. *Гарчэй за цябе ніхто не дадзеў імне.* Тм.
**найгарчэй,** *прев. ст. к горка 1, 2, 3. Уменьш.* **гаркава**—горьковато. Гсл.; Нсл. 119. *Гаркава ў роце.* Нсл. *Увелич.* **гаркусенька.**
•**горка-дольны,** *-ная-нае*—горемычный, злополучный, горестный. *Пра мяне, пра горкую ды гавораць — няма нашае бяздольнае, няма горка-дольнае.* Шапачка Імгл. (Косіч 58).
•**горкі,** Ксл.; Ар. **гаркі,** Вял.; Дсл. **1.** горький (имеющий особый неприятный едкий вкус, **С.**) Ксл.; Вял.; Дсл.; Ар. *За гаркую гарэлку.* Прышч. в., Росл. (Дсл.). *Гаркі яблык.* Вял. *Салодкім псуюць, а горкім лечаць.* Алексінічы Сян. (Ксл.). *Ср. ст.* **горкшы**—горьче. Нсл. 732. *Я люблю горкшую рэдзьку.* Нсл. *Уменьш.* **гаркавы**—горьковатый. Ксл.; Нсл. 119. *Прыладзілі гаркавы кісель.* Дзямідавічы Чаш. (Ксл.). *Гаркавая капуста.* Нсл. *Увелич.* **гаркусенькі**—горькохонький. Нсл. 119; Ар.
**2.** полный горя, очень тяжёлый, горький. *Гаркая доля. Ср. ст.* **горшы**—горбче. *Палын, палын трава горкая, мая доля яшчэ горшая.* Из песни.

**3.** тот, на которого долю выпало много горя; несчастный, горемычный. *Горкі сіраціна.* Нсл. 732. *Пра мяне, пра горкую ды гаворацъ — няма нашае бяздольнае.* Шапачка Імгл. (Косіч 58).
**4.** досадительный. Нсл. 732. *Горкі ты чалавек! чаго табе ад мяне хочацца?* Нсл.
**5.** маловозрастный, малосмышленный. Шсл. *Куды табе жаніцца — ты яшчэ горкае дзяцё.* Ст.

•**горклы**-*лая-лае*—прогорьклый. Нсл. 119. *Горклы хлеб.* Нсл.

•**горкшы**-*шая-шае, ср. ст. к горкі, гаркі*—горьче. Нсл. 732. *Люблю горкшую рэдзьку.* Нсл.

•**горкці**-*кну-кнеш-кне, несоверш.*, о еде—становиться горьким на вкус, горькнуть. *Соверш., перен.* **агоркці,** *прошл. вр. агорк-кла-клі,* **1.** чрезвычайно дочадить. Ар. *Агорк ты імне сваім крыкам!* Ар. *Агоркла чытаючы.* Войш.
**2.** сильно надоесть, опротиветь. Шсл.; Ар. *Агоркла мне жыцьцё такое.* Ст. *Соверш.* **згоркці**-*кну*—прогорькнуть. *См. згарчэць.*

**прыгаркáць**-*áю-áеш-áе, несоверш., о еде*—становиться несколько горьким. *Соверш.* **прыгоркці(прыгоркнуць,** Шсл.)—прогорькнуть несколько. *Вось прыгорклі яблыкі, дык сусім ня той смак.* Ст.

•**горла**-*ла, у горле; мн. ч.-лы-лаў, ср.* **1.** горло, Шсл. часть шеи у человека и животных, заключающая в себе начало пищевода и дыхательных путей. Ар. *У рот і нос вады ўзяць, штоб тая вада ў горла заходзіла.* Кіт. 71а8. *Усё ўсадзіў бы ў сваё горла.* Ст.

**горла спаласнуць**—выпить рюмку-две водки, НК.: Пит. 74. промочить горло. *Увелич.* **горлішча.** Нсл. 119. *Горлішча сваё распусьціў.* Нсл.
**2.** *перен.*—жизнь. Стт.; Нсл. 119. *Горла сваё трачу, калі гэта ня праўда.* Нсл. *Нікому ня жаль чужога горла.* Тм.
**3.** крикун. Нсл. 119. *Перастань, дурное горла!* Нсл. *См. гарлапан.*

•**горна,** *нареч.*—грустно, печально. Янк. II. *Адна, дык і горна.* Янк. II. *Бо як на сэрцу горна... спакайней у хаце зорнай, чымся ў куце гаспадарскім.* Броўка: Збор твораў, II, 1957.

•**горшае,** *соверш.* **пагоршала,** *безлич.*—становиться (стало, **С.**) хуже. Нсл. 119. *Я ж думала, што палепшае, ажно ж пагоршала.* Дсл. *Было ліха, дый пагоршала.* Нсл. 437. *Надварэ горшае, пагоршала.* Тм. *Нашаму хвораму яшчэ пагоршала.* Ст. *См. горае, пагорала.*

•**горшаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—ухудшаться. Ксл. *Мая дачка ўсё горшае — як відаць, памрэць.* Амілянова Лёз. (Ксл.). *Соверш.* **пагоршаць**—притти в хужшее положение. Нсл. 437. *Жыцьцё нам пагоршала.* Нсл. *Тата не ачуняў, а пагоршаў.* Нсл.

**гаршэць**-*эе, несоверш.*—становиться сильнее (о морозе, дожде и т.п., **С.**) Нсл. 119. *Мароз гаршэе.* Нсл. *Соверш.* **пагаршэць, 1.** стать сильнее. Нсл. 119. *Дождж пагаршэў.* Нсл.
**2.** сделаться горьче, печальнее. Дсл.

**пагаршэла**—жизнь сделалась печальнее. Дсл.

•**горшчык,**—*см. под гаршчок.*

•**горшы,**—*см. под благі.*

•**гортаць, гартáць,**—*см. под гарнуць.*

•**горы ляжаць**—лежать навзничь. Глыбокае Красьн. (Дсл.). *См. к гору.*

•**госьця**-*ці-ці, ж.; мн. ч., род. госьцяў, мн. ч., вин. госьці*—гостья. Ар. *Уменьш.* **госьціца**-*цы-цы; мн. ч., вин. госьціцы.* Ар. *А мая ж ты госьціца!* Ар. *Пачаставала свае госьціцы.* Ар. *Ласкат.* **госьцейка**-*йкі-йцы, мн. ч., вин. госьцейкі.* Гсл.; Нсл. 120. *Ужо твая госьцейка ў дарозе.* Косіч 248. *Госьцейку дарагую і прыняць няма чым.* Нсл. *Я госьцейкі свае частаваць буду.*

•**госьць,** *госьця, госьцю, твор. госьцям, предл. и зват. госьцю; мн. ч. госьці, госьцяў, м.*—гость. Ар. *Пячы яечню госьцю.* Ст. *Кажнаму госьцю сваю пасьцель.* Рапан.: Прык. 339. *Ёсьць на сьвеце станца такая, што мяне, як госьця сустракае.* І. Калясьнік: Смак хлеба. *Ярэмка з Косьцям быў першым госьцям.* Старавялікал. калядка (Божым Шляхам). *У родзічаў сваіх ты будзеш госьцям.* Н. Тарас (Ускалось, Но. 7, 13). *Трэба дома бываць ня госьцям.* Брыль (Літаратура й мастацтва, 3. 1. 1969). *Жыд стаў першым у хаце госьцям.* Багушэвіч. *Потым у вочы ўсе засьмяюць: "Панна ночы ды госьцяў прыймае! ручкай гусара з кален падымае".* Гарун: Варажба. *Ласкат.* **госьцейка.** *Ох вы, госьцейкі мае, вы любоўненькkiя!* Жукова Імгл. (Косіч, 34). *Уменьш.* **госьцік**-*іка, предл.-іку.* НК.: Игры, 61, Очерки, Но. 315; Ар.; Нсл. 120. *Каток мыецца, госьціка вяшчуе.* Гсл. *Любыя госьцікі мядок п'юць.* Касьцюковіцкі р. Калінінскае акр. (Наш Край, 1928, Но. 6-7). *Дзякуем вам, госьцікі.* НК.: Пособ. 116. *Уменьш.* **госьцічак**-*чка, предл. и зват.-чку.* Нсл. 120. *Ты ў мяне дарагі госьцік, госьцічак.* Нсл.

**бываць у госьці**—посещать кого-л. Дсл. *Чаму к імне, татулька, у госьці ня бываеш?* Дсл.

**у госьці пайсьці [паехаць]**—в гости пойти (поехать).. Ар. *Уменьш.* **у госьцікі.** Войш. *К мамачцы ў госьцікі захацелася.* Из песни, Войш.

•**гоўтацца**-*аюся-аешся, несоверш.*—раскачиваться. *Недалужна гоўтаўся човен.* ЗСД. 221. *Соверш.* **агоўтацца**—привыкнуть к чему-л., сродниться с чем-л., Дсл. освоиться, Ксл.; Шсл. прийти в нормальное состояние, успокоиться, Гсл. прийти в себя. Растсл. *Зразу яму здалося дзікім, а потым агоўтаўся, і нічога.* Сьвярдлы Беш. (Ксл.). *Агоўтайся ды жыві памалéньку.* Ст.

•**хлапе́цкі**-*кая-кае*—относящийся, свойственный мальчику, подростку, отроку; мальчишеский, отроческий. *Гэта хлапецкая гульня.* Ст. *Хлапецкая шапка.* Ст. *Хлапецкая работа, гульня.* Нсл. 679. *Хлапецкая бурса, школа. Ср. дзяцюцкі.*

•**хлапі́на**-*ны-не, ж.*—сосновый лес, имеющий(крупные и) мягкие слои. Дсл. 960; Нсл. 679. *На гары жарына, а ў балоце хлапіна.* Дсл.

•**хлапня́к**-*якỳ, м.*—мелкий корявый сосновый лес. Абухова Бел. у. (Дсл. 960)

•**хлеб**-*ба, предл. и зват.-бе, м.*—хлеб(печёный). Ар.

**пражаны хлеб**—гренки.

**хлеб у сваім пусе**—хлеб, приготовленный из муки, зерно для которой не провеивалось. Шсл. *Цяпер яны пачалі ляпей жыць, а ўперад дык душыліся аднэй бульбаю ды хлеб елі ў сваім пусе.* Ст. *Уменьш.* **хлябе́ц**-*бцà, предл.-бцỳ, зват. хлèбча, м.*—хлебушко. Нсл. *А ці хлябèц мой пушон?* Тм.

•**хлебасьлі́вы(хлебасольлівы, С.)**-*ваявае*—хлебасол. Дсл. 959. *Паня добрая, хлебасьлівая.* Дсл.

•**хле́бна,** *нареч.*—много, достаточно хлеба. *Калі хлебна, дык і ўедна.* Нсл. 680.

•**хле́бнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** рабочий по печению хлеба. Сьпісаньне сяброў брацтва віленскага.

**2.** доставляющий хлеб. Нсл. 680. *Папоўскі трэбнік — хлебнік.* Нсл.

**3.** пользующийся пищей. Нсл. 680. *Хлебнікаў у мяне досіць, але памагачых мала зарабляць хлеб.* Нсл. *Уменьш.* **хлебнічак**-*чка*—дитя требующее питания. Нсл. 680. *Былі б хлебнічкі, а хлеб будзе, Бог дасьць.* Нсл.

•**хле́бніца**-*цы-цы, ж.*—квашня, в которой замешивают хлеб. Ксл. *Мая хлебніца папсавалася — хлеб не ўдаецца.* Заронава Куз. (Ксл.).

•**хлехата́ць,** *хлехачỳ-чаш-ча, несоверш.* —клокотать, Міх.; Нсл. 679; Кур. (Опд) издавать *"гук падобны да бульканьня вады".* Варсл. *Тата, як разануў баранчыка нажом па горле, дык аж кроў захлехатала.* Міх. *Кроў хляхоча ў горле.* Нсл. *См. лехатаць. Соверш.* **захлехатаць**—начать клокотать. Нсл. 679. *Кроў захлехатала ў горле.* Нсл.

•**хлехату́н**-*унà, предл.-унỳ, зват.-ỳне; мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—хохотун-часто смеющийся, скорый к смеху, **С.**). Ксл. *Рагоча, як хлехатун.* Латышы Беш. (Ксл.).

•**хлеў,** *хлèву, предл.-вè,* (Ар.), **хле́ве.**(Шсл.), *зват. хлèве; мн. ч.-вы̀-воў-вом, мн. ч., предл.-вох, м.*—хлев, хлева, в хлеве и в хлеву. *Ля хлеву ў мяне гола, ані паленца дроў.* Вышынскі: Хата пад ліпою(Беларус, Но. 155). *Конь іржэ стоячы ў хлеве.* Ст. *У хлеве стаяць каровы.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Уменьш.* **хлявок,** *хляўкà, предл.-ўкỳ, зват. хлèўку; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох.* Ар.; Ксл. *Загані, Іване, авечкі ў хлявок.* Аськершчына Беш. (Ксл.).

**хлявушок**—*шкà, хлявушкỳ, зват. хлявỳшку; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—хлев меньшего размера нежели *"хлявок".* Ар. *Уменьш.* **хляўчу́к**-*укà — хлявок.* Шсл. *Сьвіньні заганіце ў хляўчук.* Ст.

•**хлёхат**-*ату, предл. и зват.-аце, м.*—клокот. Нсл. 679. *Хлёхат крыві.* Нсл.

•**хлёп,** *отглаг. частица; означает* **1.** быстрый удар по щеке: хлоп, Нсл. 768. шлёп. *Ні за тое, ні за сёе, хлёп мяне па шчацэ.* Нсл.

**2.** быстрое оседание. Нсл. 678. *Хлёп, і сеў уперад за гасьцей.* Нсл.

•**хлёпаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** плескать, идя по воде, по грязи, Шсл. шлёпать. *Не падкасаў портак ды хлёпае па вадзе.* Ст.

**2.** *перех.*—трепать, бить по щекам. Нсл. 679. шлёпать. *За што ты яго так хлёпаеш, хлёпнуў?* Нсл.

**3.** (*неперех.*)—падать задом, мягкой частью тела, шлёпать. *Дзяцё часта хлёпае.* Нсл. 679.

**4.** хлопать, ударять хлыстом или плетью в воздухе. Нсл. 579. *Ня хлёпай, часам па воку хлёпнеш.* Нсл.

•**хлёпнуць, 1.** *однкр. к хлёпаць 2, 3, 4,*—шлёпнуть.

**2.** брызгнуть влагою. Дсл. 959.

•**хлёпнуцца**—удариться, падая, Нсл. 679. шлёпнуться.

•**хлёптаць(хлябта́ць,** Варсл.**, хляпта́ць,** МГсл.), *хлёпчу-чаш-ча, несоверш., перех.* —(обыкновенно о скоте)—есть со звуком что-л. жидкое, Аш. локать. МГсл. *Матуля, матуля, кот крупеню хлёпча.* Аш. *Сабака языком хлебча і ваду і страву.* Варсл. *Лыска хлебча зацірку.* Тм.

•**хлёр**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—хлор. БГсл.

•**хлёрохо́рма**-*мы-ме, ж.*—хлороформ.

•**хлёрофі́ль**-*лю, предл.-лю, м.*—хлорофилл.

•**хля́ба**-*бы-бе, ж.* **1.** дождь с мокрым снегом, слякоть сверху, Вост. (Даль.) мокрый снег. Юрсл. *Хляба пашла — ні паказацца нікỳды.* Юрсл. *Увелич.* **хля́бішча**-*ча. Куды пацягнешся такою хля̀бішчаю?* Юрсл.

**2.** очень дождливая погода, МГсл. продолжительный сильный дождь, очень мокрая погода. Нсл. 680. *У гэтакую хля̀бу чорт мяне панясець із двара.* Нсл. *На доўга пашла хляба.* Нсл.

•**хлябя́ны**-*ная-нае*—хлебный. Нсл. 680. *Хлябя̀ны квас.* Нсл.

•**хлябяста́ць**-*яшчỳ-èшчаш-èшча, несоверш.* —сильно, неумеренно смеяться, хохотать. *На вуліцы дзяўчаты хлябешчуць.* Варсл.

•**хлябсту́ха**-*ухі-усе, ж., пагудна — женск. к "хлябстун". Хлябстуха ты, ці ёсьць тут із чаго сьміяцца?* Варсл.

•**хлябісту́н**-*уна̀, предл.-уну̀, зват.-у̀не; мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м., пагудна*—человек, имеющий привычку часто и громко смеяться. Ар.

•**хлябі́нішча**-*ча, област.*—великан. Дсл. 961. *Як ты можаш памясьціцца тут, гэткі хлябінішча?* Смол. у. (Даль).

•**хлябно,** *нареч.*—есть много хлеба, урожай на хлебные злаки. Войш. *Калі грыбно, дык і хлябно. Послов.* Войш.,—зн. часто проходят дожди, от чего хорошо растут грыбы и злаки.

•**хлябту́н**-*уна̀, предл.-уну̀, зват.-у̀не; мн. ч., дат.-нох, м.*—пустомеля. Ксл. *Ах, ты хлябтун!* Мазалова Куз. (Ксл.).

•**хляк**-*ка̀, предл.-ку̀, зват. хля̀ча; мн. ч.-кі̀-коу̌-ком-кі-ка̀мі-кох, м.* (*гукаперaймал.*) Нсл. —невыхолощенный самец — свинья. Гсл.; Нсл. 680; Юрсл. *Хлякі̀ грызуцца, аж пена з роту цячэць.* Нсл. *См. кнур.*

•**хля́нуць**-*ну-неш-не, однкр.*—хлынуть. Нсл. 680. *Хлянула вада, кроу̌ з носу.* Нсл.

**прыхля́нуць,** *соверш.*—прихлынуть. Нсл. 515. *Вада разам прыхля̀нула.* Нсл.

•**хляп,** *межд.* **1.** о стуке при открытии или закрытии двери, Дсл. 961. хлоп. Нсл. 750. *Рыбак за̀раз, хляп, века.* Смол. у. (Дсл.). *Баконка хляп а хляп!* Нсл. *Акно хляп, і разьбілася балонка.* Тм.

**2.** звук от удара чем-л. мягким и мокрым. Варсл. *Хляп! Балотам па сьцяне!* Варсл.

•**хля́па**-*пы-пе, ж.* **1.** изморозь(дымка испарений в холодную сырую погоду, С). Дсл. 961. *Пашла хляпа.* Дсл.

**2.** плохая погода: дождь, снег, грязь. Варсл. *Я у̌ гэткую хляпу не адважуся ехаць у дарогу.* Варсл.

**3.** *презр.*—широкий рот. Шсл. *Усё у̌брау̌ бы у̌ сваю хляпу!* Ст.

**4.** отворот на одежде, обшлаг. Варсл. *П'яны̀я адзін аднаго за хляпы тузаюць.* Варсл.

•**хля́паньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ.*(*от глаг. хляпаць*)—хлопанье дверью или окном. Нсл. 750. *Хля̀паньне баконкі дадзела; ідзі падапры, каб акна не разьбіла.* Нсл. *Хля̀паньне балонкаю, аконцам.* Тм.

•**хля́пацьць**-*аю-веш-ае, несоверш.* чым.—стучать, Дсл. 961. хлопать, стучать, Смл. (Даль) производить стук при запирании, хлопать. Нсл. 750. *Хляпае дзьвярмі, прыадчыне ды ізноу̌ зачыне.* Малюкіна Пар. (Дсл.). *Аконьніца, непадпертая, хляпае; ідзі падапры.* Нсл. *Баконка, на клямку не зачыненая усё хляпае.* Тм. *Однкр.* **хля́пнуць, 1.** стукнуть(о двери), Дсл. 961. хлопнуть. Нсл. 750. *Аконьніца хля̀пнула.* Нсл. *Дзьверы хляпнулі.* Дсл.

**2.** ударить со звуком. *За што ён табе хля̀пнуу̌?* Варсл. *Однкр.* **захля́пнуць, 1.** засунуть со звуком железную задвижку или запереть дверь железной задвижкой. Нсл. 734. *Мяне выгнала вон паня й дзьверы захляпнула клямкаю.* Нсл.

**2.** затворить, Нсл. 734. захлопнуть. *Захляпні акно, бо сьцюдзёны вецер цягне.* Нсл.

•**хляпта́ць,**—*см. под хлёптаць.*

•**хляпту́ха**-*у̀хі-у̀се, ж., област.* **1.** хлопотунья. Дсл. 961. *Гаспадыня — хляпту̀ха, ці гатова бау̌туха?* Дсл.

**2.** женщина со слабым здоровьем. Мікола Ядрэвічы Дух. (Дсл. 961).

•**хля́сканьне**-*ня, предл.-ню, действие по глаг. хляскаць.*

•**хля́скаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—шлепать, ударять. *Ср. хляскаць, пляскаць. Однкр.* **хля́снуць**-*ну-неш-не*—шлёпнуть, (Дсл. 961) ударить, стегнуть. Юрсл. *Хля̀сну̌у̌ супоняю ля кален.* Юрсл. *Ср. ляснуць, пляснуць. Однкр.* **адхля́снуць, 1.** отдать удар за удар. Нсл. 382. *Ты мяне хля̀сьнеш, а я цябе лепі адхля̀сну.* Нсл.

**2.** ответить колкостью на колкость. Нсл. 382. *Я не мау̌чэла ёй, а адхля̀снула дабранька.* Нсл. **ахля́снуць, 1.** запасть со звуком. Нсл. 191. *Пасадка захля̀снула.* Нсл.

**2.** покрыться каким-л. липким веществом. Нсл. 191. *Гля захліпці. Дзірачка захляснула.* Нсл.

•**хля́снуцца**-*нуся-нешся, соверш.*—удариться, стукнуться. Юрсл. *Няхай сабе цемна, ідзі сьмела: там нічога няма, ня хлясьнешся.* Юрсл.

•**хлясь,** *междом.* **1.** отгл. частица означающая быстрый удар, Дсл. означ. быстрый удар по щеке. Нсл. 680. *Хлясь! У вадно, хлясь! У другое вуха.* Нсл.

**2.** отголосок треска, щелк! Нсл. 680. *Па̀садка̀ хлясь!* Нсл. *Клямкаю хлясь—хлясь! А мы баяліся адперці.* Тм.

•**хляшчом,** *нареч., област.* —открыто. Растсл.; ПНЗ.

•**хляу̌ні́к**-*іка̀, предл.-іку̀, зват.-і̀ча; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—особый вид домашнего "нячысьціка", который ведается со скотом только в хлеву, то покровительствуя животным, то изводя их, НК: Пособ. Но. 95; НК: Очерки, Но. 539; Дсл. 961. хлевный дух. *Ксл. Хляу̌ніка яны спалохаліся.* Стасева Выс. (Ксл.).

•**Хлі́мон**-*она, предл.-ону, зват.-оне*—Филимон. Бяльсл. *Хлімон ужо араць паехау̌.* Слабада Крыч. (Бяльсл.).

•**хліп,** *отгл. частица,* **1.** тихий плач. Нсл. 679. *Яна у̌ куце хліп а хліп!* Нсл.

**2.** мерцание огня. *Агонь хліп! і пагас.* Нсл. 679. *Агонь хліп, і цемна стала!* Варсл.

•**хлі́паньне**-*ня, предл.-ню,* **1.** всхлипывание. Ар.; Нсл. 679. *Пакінь сваё хлі̀паньне, ды хадзі есьці.* Нсл.

**2.** дрожание слабого огня.

•**хлі́пацьць(хлі́пці, С.)**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** всхлипывать. МГсл.; Ар.; Нсл. 679; Ксл.; Варсл. *Годзе табе у̌жо хлі̀пацьць, ідзі есьці!* Ст. *Перастань хліпацьць.* Нсл. 679. *Хліпу, хліпу — хліпучы̀, горка заплакау̌.* Дсл. *Дзяцё у̌ калыбцы сплакалася, змаглося, дык толькі хліпае.* Варсл. *Як яго з вады вы̀хапілі, дык ён прыдых-*

*нуць ня мог, а толькі хліпаў.* Тм. *Соверш.* **нахлїпаць**—наплакать(всхлипывая, С.). Дсл.471. *Нахліпала сабе, ажно вочы чырвоныя.* Дсл. *Соверш.* **нахлїпацца**—наплакаться(всхлипывая, С.). Шсл.; Дсл. 471. *Дзяцё няма ведама, колькі нахліпалася, пакуль маці прышла.* Ст. *Досыць ты па матцы нахліпалася.* Дсл. *Соверш.* **дахлї-паць**—окончить плач. Дсл. 183. *Дахліпала ты гавыла? Соверш.* **пахлїпаць,** — тихо поплакать. Дсл. 690. *Пахліпала троху.* Дсл. *Соверш.* **расхлїпацца**—расплакаться (всхлипывая, С.). Нсл. 560; Ар. *Расхліпалася, як бы яе білі.* Нсл.

**2.** о свете, огне: мерцать. Варсл. *Чаму твая газьніца хліпае? Папраў яе.* Варсл. *Лішне падкручаная лянпа.* Цялеш: Дзесяць. *Заходзячы, хліпае над узгоркам сонца.* Корзюк. *Воддаль на ўзгорку хліпаў млявы агоньчык.* Акула.

**хлїпнуць**-*ну-неш-не, однкр.* **1.** всхлипнуть, Нсл. 679. *Ані хліпні!* Нсл.

**2.** бледно, дрожаще сверкнуть, свойственно огню. *Сьвечка хліпнула й пагасла.* Нсл. 679.

**захлїпаць,** *соверш.* **1.** начать всхлипывать. Дсл. 258; Ар.; Нсл. 679, 190. *Ні слова не скажы яму, зàраз захліпае.* Нсл. *Ужо й захліпаў, вельма жаласьлівы.* Ст.

**2.** замерцать. Шсл. *Нешта захліпала лянпа.* Ст. *Соверш.* **захлїпці**—погаснуть вдруг. Нсл. 190. *Сьвечка захліпла.* Нсл.

**адхліпа́ць**-*àе, несоверш.*—отлипать, отставать(чему-л. слабо держащемуся, С.). Нсл. 382. *Скарынка ад хлеба адхліпàе, адхлїпнула.* Нсл. *Соверш.* **адхлїпці**-*пну-пнеш-пне,* **1.** отстать. Нсл. 382. *Скарынка ад хлеба адхліпла.* Нсл.

**2.** отпасть. Нсл. 382. *Падошвы ад ботаў адхліплі.* Нсл. *Кіт(ад акон) адхліп.* Тм. *Гліна адхліпла.* Тм.

**захліпа́ць**-*àю-àеш-àе, несоверш.* **1.** покрываться каким-л. липким веществом. Нсл. 190. *Вочы захліпаюць, захліплі сьнегам, возалкам.* Нсл.

**2.** залепляться. Нсл. 190. *Дзірачка захліпàе, захліпла.* Нсл. *Однкр.* **захліпнуць**-*ну-неш-не*—залипнуть вдруг. Нсл. 190 *Дзірачка захліпнула.* Нсл.

•**хлїпацца**-*аецца, страд. к хліпаць*

**захліпа́цца**-*àюся-àешся, несоверш.*—плакать захлебываясь. Нсл. 190. *Плача захліпаючыся.* Нсл. *Соверш.* **захліпнуцца**-*нуся-нешся*—захлебнуться. Растсл.: ПНЗ.; Нсл. 190. *Захліпнуцца вадою, гарэлкаю, сьлязьмі.*

•**хліпясьлївасьць**-*ці, ж., собства (подле прм. хліпясьлівы)*—слезливость, Гсл. плаксивость. МГсл.

•**хліпясьлївы**-*вая-вае*—слишком чувствительный, вдруг готовый плакать, Нсл. 679. плаксивый, слезливый. *Які ён хліпясьлівы, не даткніся да яго ні дзелам, ні словам, зараз заплача.* Нсл. 679. *Ср. ст. хліпясьліўшы.*

•**хлїпнуць,**—*см. под хліпаць.*

•**хліпу́чы**-*чая-чае*—такой, как мерцающий огонь. *Цела маладое, сэрца хліпучае, а галоўка ясьненькая(сьвечка).* Рапан. 341. *Ср. ст. хліпучшы. См. хліпаць в 2-ом знач.*

•**хліпце́ць(хліпе́ць, С.), 1.** о слабом и неровном горении. Дсл. 959. *Сьвечка хліпціць!*

**2.** о слабом проявлении жизни. Дсл. 959. *Хворы ледзь хліпіць.* Дсл.

•**хлїпы**-*паў, мн. ч.*—оторванные свисающие белья одежды. Варсл. *Хлапцы Захарку падзерлі сарочку, дык толькі хліпы хліпаюцца.* Варсл. *Ср. хліп.*

•**хлісь,** *отгл. частица; означает*: быстрый удар хлыстом или чем-л. гибким. Нсл. 679. *Хлісь яго дубцом па плячу.* Нсл.

•**хлуд**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.* **1.** мелкий хворост, Ксл. сухой хворост. Дсл. 960; Нсл. 679. *Хлудам заслаць зямлю пад сена, каб ня гніло здолу.* Нсл.
*Хлуду наваліў цэлы воз.* Тм. *Хлудам цеплім печ.* Тм. *Завалена хлудам студня.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 376-377). *Начлежнікі запалілі хлуд.* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *Уменьш.* **хлудзе́ц**-*дца*—сухой прут. Дсл. 960. *Хлудцом яго паганяй!* Дсл.

**2.** мусор и нанос измельченных органических предметов(травы, тростника, прутьев), образующийся на озерных и речных кустистых берегах во время разлива, Гсл. нанос растительных остатков(плавунов) на корни, кусты и в залив. НК: Очерки, 489.

**3.** заноза. Ксл. *Сын захлудзіў нагу; дай голку выняць хлуд.* Астроўна Віц. (Ксл.).

**4.** деревянный сруб колодца. Ксл.; Шсл. *У студню ўпусьцілі дубовы хлуд.* Ст. *Надабе новы хлуд у студню.* Купіна Віц. (Ксл.).

**5.** *собир.*—дощечки, приготовленные для бочарного ремесла. Варсл. *Палажы хлуд на траме.* Варсл.

•**хлудзїна**-*ны-не, ж.*—хворостина. Нсл. 679. *Выжані хлудзінаю гусі зь ячменю.* Нсл. *Уменьш.* **хлудзінка.** Нсл. 679. *Хлудзінкаю сьцебані каня.* Нсл.

**2.** полено из "*хлуда*". *Вун тая хлудзіна над вадою гнілая.* Купіна Віц. (Ксл.).

•**хлуя́,** *хлуї, общ., бранное*—дурак, ворона. Нсл. 679. *Хлую гэтаму(хлуї гэтай) няма чаго даваць такую работу, толькі папсуець.* Нсл.

•**хлудзе́ц,**—*см. под хлуд 1.*

•**хлуз,** *собир.* — *хлуд 1.* Юрсл. *К хлузу надабе закінуць таўстых дроў.* Юрсл.

**хлузїна**—хворостина. Юрсл. *Колькі якіх хлузін падпаліш, а на іх тору як уськінеш, дык і есьці наварыш, і духу будзе.* Юрсл.

•**хлуп**-*па, предл.-пе, м.*—туловище птицы; затылок, спина. Растсл.

•**хлус**-*са, предл.-су, зват.-се*—врун, БНсл.; Іг.; Сц. тот, кто *"хлусе"*.

•**хлуса́**-*сы̀, общ.* Вар. (Даль) **1.** тот, кто *"хлусе" 1-4.*, причудник-ица. Ар.
**2.** врун, врунья.
•**хлусі́ць,** *хлушу̀, хлусіш-се,* **1.** попусту молоть языком. Гсл. *Датуль хлусілі, пакуль перакусілі. Послов.* Рапан. 247. *Ня хлусі ты дармà, ніхто цябе ня слухае.* Заронава Куз. (Ксл.).
**2.** говорить вздор. Кур., Вар., Вост. (Даль).
**3.** дурачиться. Ар.
**4.** шутить, трунить. Кур., Вар. (Даль).
**5.** лгать, Шсл. врать. Іг.; Сц. *Толькі, стрэўшыся зь няпраўдаю, ня хлусілі б яны лісьліва.* Яр. Пархута. *См. брахаць.*
**6.** спешно немного есть. НК: Очерки, 59. *Троху хлусе, каб ня было нашча сэрца.* НК: Очерки, 59.
•**хлу́ска**-*кі, дат., предл. хлусцы, ж.*—спешная, скромная еда. НК: Очерки, 59.
•**хлусьлі́вы**-*вая-вае*—кто часто *"хлусе"*, склонный *"хлусіць".* Ар.; Вост.(Даль). *Ср. ст.* **хлусьліўшы.**
•**хлусьня́**-*ні-ні, ж., действие по знач. глагола хлусіць. Нельга ашукаваць жонак. Лягкàя хлусьнѝ неаднойчы цяжкім каменям на сэрца ляжа.* Лявонь 32.
•**хлыбаснуць,** *-ну̀-нèш-нèць-нèм-ніцè*—выпить водки. *Музыка любе хлыбаснуць.* НК: Дуран 193.
•**хлы́нканьне**-*ня, предл.-ню, действие по глаг. хлынкаць, област.*—бродяжничество. *З хлы̀нканьням хлеба не пад'ясі.* Юрсл. *См. бадзяньне.*
•**хлы́нкаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—бродить без дела, бродяжничать. Брсл. *Хлынкаў бы а хлынкаў, абы не рабіць.* Юрсл.
•**хлы́нкацца**-*аецца, несоверш., страд. к хлынкаць.* Юрсл. *Хлы̀нкалася б табе, каб хто за цябе ў касе стаяў.* Юрсл.
•**хлюп,** *отгл. частица, означает:* **1.** быстрое падение в грязь. Нсл. 680. *Хлюп, рукамі ў балота.* Нсл.
**2.** быстрое занятие места. Нсл. 680. *Цябе не прасілі тут сесьці, а ты, хлюп, — і сеў.* Нсл.
•**хлю́па**-*пы-пе, ж.* **1.** дурная мокрая погода, слякоть, (Гсл.); Нсл. 680.
**2.** грязь, Нсл. 680. жидкая грязь, иногда со снегом. Варсл. *Чаго ты па хлюпе ходзіш?* Нсл. *А ён убіўся ў нейкую хлюпу ды боўтаецца.* Варсл.
•**хлюпа́к**-*акà, предл.-аку̀, зват. хлюпàча; мн. ч.-кі̀-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—нездорового телосложения человек. Нсл. 680. *Хлюпака гэтага няма чаго пасылаць на такую работу.* Нсл. *Уменьш.* **хлюпачок**-*чкà, предл.-чку̀, зват. хлюпàчку, мн. ч.-кі̀-коў-ком, мн. ч., предл.-кох*—не твердый на ногах, слабенький телосложением мальчик. Нсл. 680. *Хлюпачок гэты бадай, каб вырас.* Нсл.
•**хлю́панкі**-*нак, мн. ч.*—загрязненные края верхней одежды. Нсл. 680. *Не разьвесіла сушыць сваіх хлюпанак.* Нсл. *Хлюпанкамі сваімі і мяне запэцкаў.* Нсл.
•**хлю́паньне**-*ня, предл.-ню, действие по глаг. хлюпаць*—хождение по грязи. Нсл. 680. *Ня люблю хлюпаньня, валей удварэ пасяджу.* Нсл.
•**хлю́паць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** ходить по жидкой грязи, Варсл. плескаться, идя по воде, по грязи. Шсл.; Ар. *А ён ня выбірае лепшае дарогі, але хлюпае сярод вуліцы ў каламусе.* Варсл. *Абыйдзі бокам, ня хлюпай па балоце.* Ст.
**2.** падать в грязь, или падать мягкой частью тела. *Дзецянё часта задком хлюпае.* Нсл. 680. *Однкр.* **хлю́пнуць, 1.** упасть(в грязь, С.). Нсл. 680. *Пакаўзнуўся й хлюпнуў у балота.* Нсл.
**2.** хлебнуть, выпить. Нсл. 680. *Ты ўжо нейдзе хлюпнуў.* Нсл. *Соверш.* **абхлюпаць,** *перех.*—обрызгать грязью. Ст. *Абхлюпала спадніцу што й не пазнаць.* Ст. *Прич.* **абхлюпаны**—обрызганный грязью. Шсл. *Абхлюпаная сьвіта.* Ст. *Соверш.* **захлю́паць**—забрызгать грязью. *Хлюпаеш, захлюпаў, ідучы, кажух.* Нсл. 680(*под хлюпаць*). *Прич.* **захлю́паны**—загрязненный(нижний край одежды), Растсл. забрызганный грязью. *Соверш.* **ухлюпаць**—(совершенно, С.) загрязнить нижние края одежды. Нсл. 699. *Новенькую сьвітачку ўхлюпаў.* Нсл. *Прич.* **ухлю́паны**—запачканный грязью(о нижних краях одежды, С.). Нсл. 669. *Ухлюпаную сьвітку павесь, каб прасохла.* Нсл.
•**хлю́пацца**-*аюся-аешся, несоверш., возвр.*—небрежно идти по грязи, марая нижние края одежды. Нсл. 680. *Сорам табе, што ты хлюпаешся, захлюпаўся так.* Нсл. *Однкр.* **хлю́пнуцца**—упасть, свалиться во что-л. жидкое, вязкое, или упасть мягкой частью тела. *Маленькі хлюпнуўся, ходзячы.* Нсл. 680. *Соверш.* **абхлю́пацца**—обрызгаться грязью. Шсл. *Соверш.* **захлю́пацца.** Нсл. 680—забрызгаться грязью. *См. хлюпацца. Соверш. ухлюпацца, 1.* (совершенно, С.) загрязнить снизу свою одежду. Нсл. 669. *Ідзі, ды падыймай адзежу, каб ня ўхлюпацца.*
**2.** (*перен.*)—опьянеть. Нсл. 669. *Ты як толькі пойдзеш туды, заўсёды ўхлюпаешся.* Нсл.
•**хлюпачок,**—*см. под хлюпак.*
•**хлюпяндзе́й**-*ėя, м.*—небрежно ходящий, загрязнивающийся. Нсл. 680. *У хлюпяндзея гэтага рук няма крысы закасаць.* Нсл.
•**хлюпяндзе́йка**-*йкі-йцы,— женск. к "хлюпяндзей".* Нсл. 680. *Рукі б адсохлі хлюпяндзейцы гэтай, калі б паднялася троху.* Нсл.
•**хлю́пнуць,**—*см. под хлюпаць.*
•**хлю́пнуцца,**—*см. под хлюпацца.*
•**хлюпчэць**-*чыць, несоверш.*—литься(о дожде). Нсл. 680. *Дождж хлюпчыць.* Нсл.
•**хлюст**-*ста, предл.-сту, зват. хлюсьце, м.* **1.** прохвост, Гсл. лгун и подлиза, Шсл. обманщик, проходимец. Варсл. *Зь яго толькі добры хлюст, а болш нічога.* Ст.

*Ну й хлюст жа з гэтага баўтрука!* Варсл.
**2.** в карточной игре: (четыре, Нсл.) карты одной масти у игрока. Гсл.; Нсл. 680. *Чатыры дзясяткі старшыя за хлюст.* Нсл.

•**хма́ра**-*ры-ры, ж.*—туча. ПНЗ; Растсл.; Ар.; Ксл.; Шсл.; Гсл.; Дсл. 962; Нсл. 680. *Хмара заходзе ад лесу чорная.* Дсл. *Насунула хмара.* Ст. *Найшла хмара: відаць будзе дождж.* Жабяньцяі Куз. (Ксл.). *Месяц, як у хмары будзе.* Кіт. 122б14. *Уменьш.* **хмарка**-*ркі-рцы*—тучка. Ар.; Нсл. 680. *Сонца ў хмарку схавалася.* Нсл.

**хма́рына,** -*ны-не* —надвинувшаяся (большая, С.) туча, Нсл. 680. одна туча. *Хмарына насунула.* Нсл.

**хма́рынка**-*нкі-нцы, уменьш.*(*к хмарына*) —тучка(одна, С.). Нсл. 680.

•**хма́рна,** *нареч.*(*к хмарны*) **1.** пасмурно. Нсл. 680; БНсл.; Растсл.; Гсл. *Было хмарна, але дажджу ня было.* ЗСД. 98. *Вонках хмарна.* Нсл.
**2.** (*перен.*)—мрачно(пасмурно, угрюмо, С.). Нсл. 680; Пархв. *Нешта ён глядзіць хмарна.* Нсл.
**3.** облачно. БНсл.

•**хма́рнасьць**-*ці, ж.* **1.** мрачность. *Нікне хмарнасьць на відзе панурым, і вясёлкай я зьвязан з жыцьцём.* Жылка, 50.
**2.** облачность. БНсл.

•**хма́рны**-*ная-нае,* **1.** покрытый тучами, Ар.; Гринькова IУ. пасмурный. Нсл. 681. *Хмарны дзень.* Шарыпіна Беш. (Ксл.). *Надвор'е хмарнае.* Мест. Белагубцова Ржэўск. п.(Гринькова IУ). *Хмарнае надвор'е.* Нсл. *Хмарнае неба.* Тм.
**2.** мрачный, угрюмый, пасмурный, (*перен.*). Докшыцы; Пархв.; Нсл. 681. пасмурный, мрачный. Дсл. 962. *Сядні гаспадар нейкі хмарны.* Докшыцы. *Хмарны від.* Нсл. *А жана сядзіць, як хмарны дзень.* Дсл. *У яго быў хмарны работнік.* Дзьве Душы, 16.
**3.** облачный.

•**хма́р-ына**-*ка-ынка,—см. под хмара.*

•**хма́рыць**-*ру-рыш-ра, несоверш.*—хмурить, морщить(лоб, С.). Нсл. 680. *Пан хмарыць, нахмарыў лоб, відаць злы.* Нсл. *Соверш.* **нахма́рыць**—нахмурить, поморщить. Нсл. 680.

**прыхма́рыла,** (Дсл. 72), *безлич., соверш.* —нашли тучи, заволокло, Нсл. 515. о появлении тучь. Дсл. 725. *Прыхмарыла, прыпарыла, дождж будзе.* Нсл. *К паўдню а к вечару прыхмарыла.* Дсл.

•**хма́рыцца**-*уся-рышся, несоверш.* **1.** становиться пасмурным, Растсл. хмуриться. Нсл. 680. *Неба хма́рыцца.* Нсл. *Соверш.* **захма́рыцца,** Нсл. 680. покрыться тучами. Шсл. *Неба захмарылася.* Нсл.
**2.** хмуриться, принимать пасмурный вид(становиться хмурным, угрюмым, С.). Нсл. 680. *Пан хмарыцца, нахмарыўся, начуўшы гэта.*

**нахма́рыцца,** *соверш.* **1.** нахмуриться, принять пасмурный вид(стать хмурным, угрюмым, С.). Нсл. 680.
**2.** покрыться тучами, Гсл. стать пасмурным, сумрачным. *Безлич.* **хма́рыцца,** *соверш.* **нахмарыцца**—делается пасмурно, тучи находят, хмурится. Нсл. 680. *Вонках хмарыцца, нахмарылася.* Нсл.

•**хме́лішча**-*ча, предл.-чу, ср.*—место, где растет(или рос) хмель; хмельник. Стт. 1529. *Ср. вінішча.*

•**хмель,** *хмелю, предл. и зват. хмелю; мн. ч. хмялі-лёў-лём, мн. ч., предл.-лёх, м.*—хмель. Ар.; Ксл. *Дзе ты, хмелю, зімаваў, што не разьвіваўся?* Из песни. *Нарві шышачак хмелю.* Марчонкі Сур. (Ксл.). *Уменьш.* **хмялёк**-*лька, предл.-льку, зват. хмельку.*

•**хме́льны**-*ная-нае*—вызывающий состояние опьянения, хмельной. Шайтан прывозіць да хмельнага напітку. Кіт. 1б13.

•**хмяле́ць**-*ёю-ёеш-ёе; повел.-ёй-ёйма, несоверш.*—хмелеть. *Соверш.* **захмяле́ць**—стать пьяным, опьянеть.

•**хмялёк**-*лька, предл.-льку, зват. хмельку; мн. ч. хмялькі-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*
**1.**клевер пашенный. Ксл. *Хмялёк на полю паказаўся.* Гарадок (Ксл.).
**2.**—*см. под хмель.*

•**хмялі́на**-*ны-не, ж.*—действие хмеля, водки, Дсл. 962. состаяние опьянения. *Гэта, хіба, у галаве ў мяне хмяліна водзе.* Ельн. (Дсл.).

•**хмурэць**-*эю-эеш-эе, несоверш.*(*к хмурэць*). *Соверш.* **ахмурэць, ахмырэць, 1.** заскучать, затосковать. Ксл. *Чаго ты ахмурэў?* Стрэлкі Беш. (Ксл.).
**2.** ослабеть, заболеть. Ксл. *Ён нешта усім ахмырэў.* Слабада Чаш. (Ксл.).

•**хмурэе,** *соверш.* **нахмурэла**—заволакивает, заволокло тучами. Ар.

•**хмыз**-*зу, предл.-зе, м.*—хворостник, кустарник, мелкая поросль, молодежник Вят., Вост., Кал. (Даль) кустарник. Гсл. *Пакорна, як хмыз ці гной чужога поля,.... гібеў мой люд.* Жылка 35. *Собир.* **хмызоўе**-*ўя, предл.-оўю, ср. Яны*(*чаранкі*) *узноў шпарка ўляталі ў гушчарны сьцень узьбёражжаў, але ніколі, дзе хмызоўе лазы.* Юхнeвіч: Цётка. *Уменьш.* **хмызок**-*зка; мн. ч.-кі-коў-ком-камі-кох. У хмызок пабег заяц, а за ім сабакі.* Башары Расьн. (Бяльсл.).

•**хмызоўе,**—*см. под хмыз.*

•**хмы́зьнік,** (Варсл.)-*іку, предл.-іку, зват.-іча, м.*—кустарник, Юрсл. густая, невысокая заросль на лугу, болоте, вдоль рек и в приозерных луках, в которой в мокрых местах бывает лозняк, а на несколько возвышенных — ольшаник и кустарник волчих ягод(*"крушыньнік"*). НК: Очерки, Но. 867. *У хмызьніку бабы: бабы бяруць грыбы.* Дсл. 962. *Па хмызьніку хадзілі нейкія цені.* ЗСД 251. *Гэта быў глыбокі, заліты густа-зялёным хмызьнікам роў.* ЗСД 330. *Насеклі вазок хмызьніку.* Юрсл. *Уменьш.* **хмы́зьнічак**-*чку.* Юрсл. *Увесь аборак зарос хмызьнічкам.* Юрсл.

•**хмы́ліць**-*ле(ліць)*, *несоверш., перех.*—выражать мордой ярость(о лошади). Нсл. 681. *Не падходзь да жарабяці, кабыла морду хмыле, укусе.* Нсл.

•**хмы́ліцца**-*люся-лішся-іцца, несоверш., возвр.* **1.** показывать злое, гневное лицо. Нсл. 681. *Калі што не па табе, ты зараз хмылішся, захмылішся.* Нсл.

**2.** лукаво, злобно улыбаться. Нсл. 681. *Нічога ня кажа, толькі хмыліцца, гледзячы з пад лобу.* Нсл.

**3.** о лошади: заварачивать назад уши. Шсл. *Хмыліцца кабыла, яшчэ ўбрыкнѐць.* Ст.

**захмы́ліцца,** *соверш.(к хмыліцца 1, 2).*

•**хмы́ра**-*ры, общ.*—угрюмый человек, смотрящий из подлобья. Нсл. 681. *Да хмыра гэтага прыступіцца страшна.* Нсл. *Жонка твая хмыра; ня любе, кали госьць прыдзе.* Тм.

•**хмы́рыць**-*ру-рыш-ра, несоверш., перех.* —хмурить, морщить. Нсл. 681. *Хмурыць від.* Нсл. *Соверш.* **нахмы́рыць**—нахмурить, наморщить. Нсл. 681. *Нахмурыць від.*

•**хмы́рыцца,** *несоверш., возвр.*—показывать мрачное недовольное лицо, хмуриться, морщиться. Нсл. 681. *Скажы, чаго ты хмырышся, нахмырыўся?* Нсл. **нахмырыцца.** Тм.

•**хні́пала**-*лы, общ.*—плакса.

•**хні́паць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—поплакивать. Ск.

•**Хрол**-*ла, предл. и зват.-лу, м.*—Флор. Нсл. 683; БНсл.

•**хром**-*му, м.*—хром.

•**хромолітогра́фа**-*фы-фе, ж.*—хромолитография.

•**хромолітогра́фны,** *-ная-нае*—хромолитографический.

•**хроматы́зма**-*мы-ме, ж.*—хроматизм.

•**хроматы́па**-*пы-пе, ж.*—хромотипия.

•**хроногра́ф,** *м.*—хронограф.

•**хронолёг**-*ёга, предл.-ёгу, зват.-ёзе, м.* —хронолог.

•**хронолёгія**-*гіі, ж.*—хронология.

•**хронолёгічны,** *-ная-нае*—хронологический.

•**хрономэтра**-*ры-ры, ж.*—хронометр.

•**хроно́скоп,** *м.*—хроноскоп.

•**хроніка**-*ікі-іцы, ж.*—хроника.

•**хронт,** *хронту, предл. и зват. хронце, м.*—фронт. *Я стаў пасылаць сына, дык ён быў на хронце, разгультаіўся, ня йдзець ..... А другі бацька пытаецца: "На якім хронце?" - "У нейкіх Карпатах."* Дзьве Душы, 152.

•**хроп I**-*пу, предл. и зват.-пе, м.* **1.** хриплые звуки, издаваемые человеком во время сна, храп. Ар.

•**хроп II.** *частица от глаг. храпсьці.* **1.** ломание с треском, Дсл. 967. хруп. *Нехта хроп, хроп у лесе.* Дсл.

**2.** удар. Нсл. 684. *Хроп галавою аб сьцяну.* Нсл.

**3.** разрушение, хруп. Нсл. 684. *Хроп лёд пад нагамі, я й спалохаўся.* Нсл. *Хроп вось на самай дарозе!* Тм.

•**хропат**-*ату, предл. и зват.-аце, м.*—храпение(храп, С.). Нсл. 683. *Заснуўшы хропат падняў.* Нсл.

•**хропаць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.* **1.** ломать с треском. Нсл. 683; БНсл. *Ня хропай лучыны.* Нсл.

**2.** громко, звучно бить. Нсл. 683.

**3.** *(неперех.)*—трещать, хрустеть. Нсл. 683. *Лёд хропае.* Нсл.

**4.** *(неперех.)*—производить треск, шум. Нсл. 683. *Чым ты там хропаеш, хропнуў?* Нсл.

**хропнуць**-*ну-неш-не, однкр.(к хропаць 1)* **1.** переломать с треском. Нсл. 683.

**2.** *(неперех.)*—переломаться с треском. Нсл. 683. *Вось хропнула.* Нсл.

**3.** *(к хропаць 2)*—ударить со звуком. Нсл. 683. *Хропні яго добранька, каб перакуліўся.* Нсл.

**4.** *(к хропаць 3)*—хрустнуть. Нсл. 683; Гсл. *Лёд хропнуў пад нагамі.* Нсл.

**5.** *однкр. к "хропаць" 4.*

**пахропаць,** *соверш.(к хропаць 1)* **1.** переломать с треском. Нсл. 683. *Пахропаў кій свой на ім.* Нсл.

**2.** *(к хропаць 2)*—ударить со звуком.

**3.** *соверш. к хропаць 3, 4.* Нсл. 683.

•**хропет**-*ету, предл. и зват.-еце, м.* **1.** хрустение, Дсл. 967. хруст.

**2.** треск от хождения по чему-л. хрупкому, Дсл. 967. хруп. *Чуцен хропет.* Дсл.

•**хропнуць,**—*см. под хропаць.*

•**хропнуцца,** *-нуся-нешся, возвр., однкр.* —треснуться. Нсл. 683; БНсл. *Хропнуўся галавою аб вушак.* Нсл.

•**хропсьць,** (Юрсл.), **храпсьці́,** (Ар.), **храпці,** (Шсл.), *храпу̀,* (Ар.), *храпѐш,* (Ар.; Юрсл.),

**храпе́ць,** (Юрсл.), *храпѐм-піцѐ-пу̀ць; прош. вр. хроп, храплà, храпло, несоверш.*—храпеть. Ар.; Шсл.; Гсл.; Юрсл. *Храпець, як пшонку прадаўшы.* Юрсл. *Кінуўся на ложак ды давай храпці, як пшонку прадаўшы.* Ст. *Храпці на ўсі застаўкі, поговор.*—сильно храпеть. Ар. *Соверш.*

**храпану́ць,** *-ну̀-нѐш-нѐць-нѐм-ніцѐ*—хорошо поспать, выспаться. *Храпануў дык храпануў: сонца з абедзьдзя даўна павярнула.* Юрсл. *Соверш.* **захрапці́,** *прош. вр. захроп-храплà-храпло-храплѝ*—начать храпеть. *Захроп асіплы ад зморы паравік.* ЗСД 177.

•**хропсца,** (Юрсл.), **храпсьці́ся,** *страд. к хропсьць, храпсьці.*

•**храбаста́ць,** (Варсл.), **храбуста́ць,** (Шсл.) —*башчу̀(бушчу̀,* Шсл.)-*шчаш-шча или* **храпаста́ць**-*пашчу̀-шчаш-шча, несоверш., перех.*—жрать что-л. раскалывая зубами (кусая с хрустом, С.) Шсл. *Сабака храбушча косьці.* Слопішча Шацк. (Шсл.). *Сьвіньня храпошча жалуды.* Ст. *Дзеці яблыкі храбошчуць.* Варсл. *Соверш.* **пахрабустаць, пахрапастаць, 1.** поесть(хрустя, С.) Шсл.

*Глядзі, каб карова не пахрапастала капусты ў возе.* Ст.

**2.** побить, поламать на мелкие части. Шсл. *Як шпурнуў, дык на драбны́я кавалачкі пахрастаў міску.* Ст.

•**храбуста́ць,**—*см. под храбаста́ць.*

•**храк**-*ка̀, предл.-кỳ, зват. хра̀ча; мн. ч.-кі̀-коў-ком-кі̀-ка̀мі-кох, м.*—самец свиньи. *Злавіў ён, пашоўшы, храка і давай яго гнесьці.* Дсл. 967. *См. гляк, кнур. Уменьш.* **храчок**-*чка̀.* Дсл.

•**хра́каўе**-*ўя, предл.-ўю, ср.*—отхаркиваемая мокрота. БНсл.

•**хра́каць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—отхаркивать(мокроту). БНсл.

•**Хралоўшчына**-*ны-не, ж.*—молебствие Флору и Лавру. Нсл. 683.

•**Хралы́**-*лоў-лом, только в мн. ч.*—праздник Флора и Лавра. Нсл. 683. *Гэта на Хралы было.* Нсл.

•**хранї́чны**-*ная-нае*—хронический.

•**Французз**-*ўза-ўзу, зват.-узе, м.*—Француз. Дсл. 952; Бяльсл.

•**храп,** *м.*—переносица, переносье. Гсл.; БНсл.

•**хра́па I**-*пы-пе, ж.* **1.** ноздра у животного. Ар.; Ксл. *З храпы кроў пацякла.* Дсл. 966. *Якая храпа ў твайго каня!* Купіна Віц. (Ксл.). *Ня бі каня па храпах!* Лужасна Куз. (Ксл.)

**2.** (*презр.*)—рожа. *Храпу табе наб'ю.* Нсл.

**3.** *только в мн. ч.* **храпы**-*паў*—нос в унижительном смысле. НК: Под нос., Но. 13. *Будзь здароў! Храпы розна, нос далоў*—привет при чхании. НК: Под нос. Но. 13.

•**хра́па II**-*пы-пе, ж.* **1.** мелко изрубленная трава для корма животных. Ксл. *Мы кармілі сьвіньні храпаю.* Луб'ева Аз. (Ксл.)

**2.** *обычно в мн. ч.* . **храпы**—овощные черенки в листьях и капустные кочерыжки. НК: Очерки, Но. 716. *Собир.* **хра́п'е**-*п'я, предл.-п'ю,* **1.** изрубленная ботва для животных. Ксл. *Храп'я насячы.* Даўгое Беш. (Ксл.)

**2.** собрание кочерыжек. Нсл. 684. *Уменьш.* **хра́пка**-*пкі-пцы, ж.* **1.** кочерыжка капусты. Дсл. 967; Нсл. 684; Тул., Арл., Вар. (Даль). *Храпкамі выкарміў сьвінку.* Нсл. *Упусьці коні на гарод — няхай храпкі грызуць.* Красьн. п., Смол. у. (Дсл.). *См. качан.*

**2.** (*бранное*)—старуха, хреновка, хрычевка, карга. Смл. (Даль.) *Гэткая старая храпка.*

•**храпаста́ць,**—*см. под храбастаць.*

•**хра́п'е I,**—*см. под храпа II.*

•**храпка,**—*см. под храпа II.*

•**храплі́вы**-*вая-вае*—храпящий. Шсл. *Купіў ты сабе нейкага храплівага каня.* Слопішча Шацк. (Шсл.).

•**храпсьці́,**—*см. под хропсьць.*

•**храпу́ха**-*ухі-усе, ж.* **1.** ворчливая баба. Дсл. 967. *Унімай сіпуху, храпуху.* Ельн. (Дсл. 967).

**2.** змея. Дсл. 967. *Зьмія ты сіпуха, храпуха.*

•**хра́пы I.**—*см. под храпа I.*

•**хра́пы II,**—*см. под храпа II.*

•**храсьці**-*нỳ,—см. под храстаць.*

•**храсток I**-*тка̀, предл.-ткỳ, зват. хростку; мн. ч., дат.—тком, мн. ч., предл.-ткох, м. анат.*—хрящ. Ар.; Варсл. *У гэтым мясе шмат храсткоў.* Варсл.

•**храсток II**-*тка, м., анат*—крестец. Нсл. 683. *Храсток самы баліць.* Нсл. *Уменьш.* **храсточак**-*чка.* Нсл. 683. *Храсточак дзяцяці пераломіш.* Нсл.

•**храсток III**-*тка̀, м.*—стебель растения в самом начале его развития из семени, клубня, корневища, луковицы; расток. Варсл. *Нашы гуркі ўжо храсткі папускалі.* Варсл.

•**храстоўнік**-*іка, предл.-іку, м.*—крестовник. Бяльсл. *Храстоўнік — трава зь няшырокім лістам, квіцець жоўтым кветам.* Пірагова Імсьць. (Бяльсл.).

•**храста́ць,** *несоверш., перех.*—бить рукой по лицу. Нсл. 684. *Храстаючы так, переносіцу зломіш.* Нсл. *Однкр.* **храсну́ць**—ударить. Нсл. 684; Дсл. 968. *Храсьні яго па мордзе, каб крывёю абліўся.* Нсл. *Як храсьне кіям.* Дсл.

•**храстковы I,** *прилаг.*(*к храсток I*)—хрящевой. БНсл.

•**храстковы II,** *прилаг.*(*к храсток II*)—крестцовый.

•**храсткі́**-*коў-ком, мн. ч., предл.-кох, анат.*—крестец, (МГсл.; Бяльсл.) крестцовая кость,(конечная, нижняя часть позвоночного столба, состоящая из пяти сросшихся позвонков, примыкающих к костям, С.), позвонки. Нсл. 683. *Папар імне храсткі.* Нсл. *Уменьш.* **храсточкі**-*чкаў.* Нсл. 683. *Храсточкі мае баляць.* Нсл.

•**хрась,** *междомет.*—означает быстрый удар. Дсл. 968; Нсл. 684. *Нехта хрась мяне хлабазінаю па сярэдзіне.* Дсл. *Хрась яго ў морду, і кроў палілася.* Нсл.

•**хра́сьці**(**храснуць,** Нсл.)-*сну-сьнеш-сьне, соверш.* **1.** задерживаться(сгустившись, С.), говорится о жидкости, текущей сквоз узкий проход. Дсл. 968; Нсл. 684. *Кроў у горле храсьне, захрасла.* Нсл. 684.

**2.** засариваться (в узком проходе, С.). Ар.; Нсл. 684; Дсл. 968. *Гарэлка ня ільлецца, рылца храсьне, захрасла.* Нсл.

**3.** *несоверш.*(*к захрасьці 3*)—застревать, заседать в узком проходе.

**захра́сьці,** (Нсл. 191)-*сну-сьнеш-сьне, соверш.*(*к храсьці I*) **1.** затвердеть и застрять. ПНЗ; Ар.

**2.** засориться. Нсл. 684; Ксл.; Гсл.; Ар. *Жаролы ў цыцках каровы захрасьлі.* Ар. *Каля халаджэньніка рулька захрасла — не цячэць саматужка.* Глебаўск Сян. (Ксл.)

**3.** засесть(в узком проходе, С.). Нсл. 191., застрять. Дсл. 968. *Костка захрасла ў горле.* Нсл. *Костка ў горле захрасла.* Дсл.

**4.** быть заглушену. *Аграст захрас у садовым куце.* НК: Очерки, 414.

•**храсцо**-*ца̀, предл.-цỳ, ср., анат.*—прилегающая к тазу часть "сярэдзіны", крестец, как у людей, так и у животных. НК: Очерки, Но. 493.

•**храсцы́**-*цоў-цом, мн.ч.,предл.-цох, единств. ч. нет.* **1.** крестец. Ксл. *Ад даўгое работы загнуўшыся баляць храсцы.* Лужасна Куз. (Ксл.)

**2.** четвёртая среда Великого поста. Войш. *На Храсцы, кажуць, каўбаса із селядцом на азяродзе важыцца, а хто пойдзе басы глядзець, той дастане чырвоныя боты.* Войш.

•**храчок,**—*см. под храк.*

•**хрэн**-*ну, предл. и зват. хрэне, м.*—хрен. Ар.; Дуброва Беш. (Ксл.).

•**хрэньнік**-*іку, предл.-іку, зват.-іча, собир.*—ботва хрена. Ксл. *Хрэньніку яны ня будуць есьці.* Лужасна Куз. (Ксл.).

•**хрэст,** *хрысту, хрысту, з хрыстом, на хрысьце, м.*—крещение. Ар.; Гсл.; МГсл. *Пад хрэст павезьлі.* Гсл. *Дзяцё ўжо павезьлі да хрысту.* Ст.

•**хрэсты**-*таў, мн. ч.*—трефы(масть карт). Шсл. *Хадзі хрэсты!* Ст. *См. хрэсьці; жолудзь, жалуды.*

•**хрэсьбіны**-*наў, единств. ч. нет*—крестины. Ар.; Яноўшчына Беш. (Ксл.); Шсл.; Гсл. *Прасіў тата на хрэсьбіны.* Нсл. 683.

•**хрэсьці**-*цяў, единств. ч. нет.*—трефы, трефовая масть карт. Гсл. *См. жалуды, жолудзь, хрэсты.*

•**хрэсцы**-*цаў, единств. ч. нет.*—среда на крестопоклонной неделе(половина поста). Мікольск, м.(Демид-Веров. II, 1896, 3); Шсл. Слово происходит от пирога, который пекут в виде креста. *См. храсцы 2.*

•**хрэшчык**-*ыка, предл.-ыку, зват.-ыку, м.*—маленький хлеб в виде креста, спеченный к "хрэсцам". Шсл. *Трэба маку ў каго дастаць ды сьпячы хрэшчыкаў к хрэстам.* Ст.

•**хру́мскаць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.*—есть с треском. Варсл. *Конь авес хрумскае.* Варсл.

•**хру́мстаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., перех.*—грызть, раскусывать, жевать так, что хрустить. Ар.; БНсл. *Соверш.* **пахрумстаць**—поесть с хрустом. Ар.

•**хрумсьце́ць,** *хрумшчу̀, хрумсьці̀ш*—хрустеть. Ксл. *Добра пасохлі сухары, аж хрумсьцяць.* Бешанковічы (Ксл.).

•**хрумце́ць,** *-ціць, несоверш.*—хрустеть, трещать. Гсл.

•**хру́ніць**-*не*—хрустеть. Салова Пар. (Дсл.). *Адмя̀ча: сьнег хруніць.* Дсл.

•**хрушч,** *хрушча̀, предл.-чу̀, зват. хру̀шчу; мн. ч.-чы-чоў-чом-чы-чамі-чох, м.* **1.** жук, бескрылое насекомое; майский жук. Вят., Вост. (Даль).

**2.** приколка для волос. Ксл. *Прыгожую хрушчу купіла.* Лужасна Куз. (Ксл.)

**3.** лесной гриб(плохого качества, С.) Варсл. *Благі грыб хрушч, а безь яго пушч. Послов.* Варсл.

**4.** печенье из крученного теста, Варсл. хворост(печенье). *Сядні цётка пякла хрушчы. Уменьш.* **хрушчык**-*ыка, предл.-ыку*—хрустик, хворост(печенье). Шсл. *На хрэсьбіны напяклі хрушчыкаў.* Слопішча Шацк. (Шсл.).

•**хрыбе́т(хры́бет,** Дсл., **хры́біт,** Нсл.)-*бта(біта,* Нсл.), *на хрыбце(хрыбіце,* Нсл.); *мн. ч.-ты̀-тоў-том, мн. ч., предл.-тох, м.*—хребет. Нсл. 683; Ар.; Ксл.; БГсл. *Усытога каня круглы хрыбет.* Гарывецк Сян. (Ксл.). *Дай яму ў хры̀біт.* Нсл. *Не жалей хрыбіта яго.* Тм.

•**хрыбе́тная косьць** — позвоночный столб. Ксл. *Хрыбетную косьць пашкодзіў.* Баркова Куз. (Ксл.). *См. зятняя косьць.*

•**хрыбе́тнікі**(*один* **хрыбе́тнік**)—позвоночные животные. ЗТ. (БНсл.).

•**хрыбціна,** (Дсл. 967)-*ны-не, ж.*—позвоночный столб. Гсл. *Лу̀чыла па хрыбціне.* Дсл.

•**хрызалі́т,** *мин.*—хризолит.

•**хрыпа́ты**-*тая-тае*—страдающий хрипотой, хриплый. *Хрыпаты Паўлюк памер.* Варсл.

•**хры́пка**-*пкі-пцы, ж.*—хрипота. Нсл. 683. *Хрыпка на цябе напала.* Нсл.

•**хры́пці**-*пну-пнеш-пне, несоверш.*—хрипнуть.

**ахрыпці**—охрипнуть. Шсл. *Гэтак можна ахрыпці, калі будзеш крычэць на ветру.* Ст. *Я ахрыпшы.* Ст. *Ахрып Архіп.* Ст. *Многократ.* **ахрыпа́ць**-*аю-аеш-ае*—терять голос. Дсл. *Маладыя свацечкі ахрыпаюць.* Красьн. (Дсл.).

•**Хрыстос,** *Хрыста̀, предл. Хрысту̀, зват. Хры̀сьце*—Христос.

**Хрыстос ускрэс!**—Христос воскресе! Ар.

**дзеля Хрыста**—Христа ради.

•**Хрыстоў**-*ова-ова*—Христов.

**Нараджэньне Хрыстова**—Рождество Христово.

•**хры́ста**-*сты-сьце, ж. — расхрыста.* Нсл. *Ай, ты хрыста ніколі не засьцянешся.* Тм.

•**хрысьце́нь**-*ня, предл. и зват. хрысьцѐню; мн. ч.-ні-нёў-нём, мн. ч., предл.-нёх, м.*—ходящий с обнаженной грудью. Нсл. 683. *Хрысьценям ходзіш, не зашпіліўшы сарочкі.* Нсл.

•**хрысьцяні́н**-*іна, предл.-іну, зват.-іне, м.*—християнин. Варлыга: Назіраньні, 15. *Хто ёсьць у карчме? А там збор-дружына: жыды, хрысьцяне й цыганы̀.* Нсл. 196(*под збор-дружына*).

•**хрысьця́нка**-*кі, дат., предл. хрысьцянцы, ж.*—християнка. *Ты зь вечара хрысьцянка.* Гараны Імгл.(Косіч 29).

•**хрысьця́нскі,** *-кая-кае*—христианский. *Навернуты на хрысьцянскую веру.* Нсл. 300(*под навернуты*). *Хрысьцянскі ўчынак.* Нсл. 671(*под учынак*).

•**хрысьця́нства**-*ва, ср.*—християнство.

•**хрысьці́ны**-*наў, единств. ч. нет*—крестины. Шсл.; Нсл. 683. *Пайду к куму на хрысьціны.* Ст. *У нашага суседа хрысьціны гуляюць.* Нсл.

**•хрысьціць,** *хрышчу, хрысьціш-це, несоверш., перех.* **1.** крестить, Ар.; МГсл.; Шсл.; совершать над кем-л. таинство крещения. Нсл. 683. *Хай сабе злуецца, я не бядую: хрысьціць дзеці ў яго ня буду!* Ст. *Прич.* **хрышчаны**—подвергшийся таинству св. Крещения, крещённый. *Дзяцё памерла ня хрышчанае.* Ст. *Соверш.* **ахрысьціць** —окрестить. Ар.; Шсл. *Кумы ахрысьцілі дзяцё.* Ст. *Прич.* **ахрышчаны**—окрещенный. Ар. *Наша малое яшчэ не ахрышчана.* Ст.

**2.** полагать знамение креста. Нсл. 683. *Ты лобу свайго ніколі ня хрысьціш, не перахрысьціш добра.* Нсл. *Соверш.* **перахрысьціць.** Нсл. 683; Войш. *Перахрысьціла маці Тодара.* Крушына: Калыханка(Зьніч, 1954, Но. 27).

**•хрысьціцца,** *хрышчуся, хрысьцішся, возвр., несоверш.* **1.** креститься. Войш.; Шсл. *Углядаліся на абразы, хрысьціліся.* Дудзіцкі(Бацьк. Но. 49-50/435-436). *Ён даўна ўжо да царквы ня ходзе, і хрысьціцца, мусіць, забыўся — во як цяпер!* Ст. *Пачаў пасьпешна хрысьціцца.* Цэлеш(Ярылаў агонь). *Соверш.* **перахрысьціцца**—перекреститься. *мяэйчы перахрысьціўся.* Бацьк. Но.3/439. *Маці перахрысьцілася.* Цэлеш(Ярылаў агонь).

**2.** принимать крещение. Ар. *Соверш.* **ахрысьціцца**—принять крещение. Ар.

**•хрышчоны**—крещенный, принявший християнство. Ар.

**хрышчоны бацька, хрышчоная маці** —крестный отец, мать. Ар.; Шсл. *Хрышчонага бацьку трэба паслухаць, памагчы яму.* Ст. *Хрышчэнік прышоў у госьці да хрышчонае маткі.* Ст. *Хрышчоная матка сказала.* Мікольск М.(Демид: Веров., 1896, II, 736).

**хрышчоны ліст**—метрическая выпись рождения и крещения. Ст. Акты.

**•хрышчэнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —крестник. Шсл.; Міх. *Хрышчэніку даў пару яец на Вялікадне.* Ст. *Я свайму хрышчэніку даў гасьцінца.* Міх.

**•хрышчэніца**-*цы-цы, ж.*—крестница. Міх.; Шсл. *Мая хрышчэніца ўжо вялікая; гасьцінца ёй ня трэба.* Ст.

**•Хрытон**-*она, предл.-ону, зват.-оне, м.* —Харитон. Бяльсл. *У Хрытона няшчасьце: карова прабілася на кол.* Імсьц. (Бяльсл.).

**•хто, каго,** (*област.*) **кага́,** (Вял.), **каму, каго(кага́), кім, на кім,** *местоим.* **1.** *вопросительное*: кто.

**2.** *неопределенное*: кто-либо. *Уставуем: есьлі бы хто з прыгоды, страляючы на зьвер, каго забіў; другое, есьлі бы каму, страляючы з ручніцы да шапкі, куля, узяўшы похват у бок, каго зраніла, вязеньням каран ня будзець, ведзь жа галаўшчыну блізкім яго заплаціці будзець павінен.* Стт. 407.

**3.** *относительное. Шчасьлівы, хто ў сваім краю.*

**•хто хоця, каго хоця, каму хоця, зь кім хоця, пры кім хоця**—кто угодно, кого, кому угодно и т.д. *Едзе на карку ў яго хто толькі хоця.* ЗСД. 70. *За каго хоця, за того вольна будзець аддаваціся.* Стт. 154. *Лес раздаюць каму хоця.* ЗСД. 237. *Апрача мяне, хто хоця бяры.* Нсл. 366(*под* апроч). *Няхай княжа, хто-хоця.* Дзьве Душы, 150.

**хто-колечы, каго колечы, каму колечы** —кто либо, кого-л. и г.д.

**хто-лень, каго-лень**—кто-л. и г.д.

**хто любя, каго любя, каму любя** —любой, любая, любое и т.д. Ар. *Бяры із сабою каго любя.* Ар.

**•хтось, кагось, камусь, зь кімсь, на кімсь**—кто-то. Раст.: Северск. 100; Гсл.; Нсл. 684; Бяльсл.-некто. *Камусь аддаў, але ня помню.* Нсл. *Кімсь паслаў, але ня ведаю кім.* Тм. *Хтось душыў мяне за горла.* Гарун: К. Паўлючонка. *І я плыву сваей ракой, жыцьцём якую хтось назваў.* Гарун. *Ізноў пусьціў хтось у рух вашы кросны.* Машара (Калосьсе, кн. I, 1935 г.,стр. II).

**•хтосьці, кагосьці, камусьці** *и т.п.* — *хтось. Просяць спагады ў кагось.* Кавыль: Ростань II. *Прыйдзе хтосьці.* Кавыль: Пад зорамі 15.

**•хтотака,** *местоим. вопросительное*— кто. *Жаноцкі голас папытаў у пусьціню цемных сенцаў: "Хтотака?".* Адамчык: Арж. колас. *Ср. тутака.*

**•хвоя,** *хвоі, мн. ч., род. хвояў, ж.*—сосна. БНсл.; Мар'янфельд Беш. (Ксл.); Рэч.(Пет., II, 27)—сосна обыкновенная. Шсл. *З аднае хвоі вышла тры бярвіне й верхавіна.* Ст. *Уменьш.* **хвойка**-*йкі-йцы, мн. ч., род.-ек(-йкаў)*—сосна. ПНЗ; Растсл.; Шсл. *Араць пайду пад хвойку.* Ст.

**•хвойка,**—*см. под хвоя.*

**•хвойнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—сосновый лес. Шсл. *Хвойнік навокал ды густы, як шчотка.* Колас: Грыбы. *Хвойнік яшчэ дзяржаў радкую расу, мусіць на дождж.* Адамчык: Арж. колас. *Знайшлі галаву ў хвойніку.* Мікольск М.(Демид-Веров. 96).

**•хваёвы**-*вая-вае*—сосновый. *Над ім лёгка калыхаліся хваёвыя лапкі.* Адамчык: Арж. колас.

**•хворасьць**-*ці, ж.*—болезненное состояние. Нсл. 677. *За хворасьцю ня можа зрабіць.* Нсл.

**•хвоська,** *хвасток,—см. под хвост.*

**•хворы**-*рая-рае*—больной. Ар.; Нсл. 677. *Ён яшчэ ляжыць хворы, мо' зараз папраўіцца.* Ст. *У хворага Пятруся пачырванелі вусны.* Чарнагосьці Беш. (Ксл.). *Ср. ст.* **хворшы.** Нсл. 677. *Тата хворы, стаў хворы, як учора быў.* Нсл.

**•хворыш**-*ша, предл. и зват.-шу, м.*—болезненный припадок. Нсл. 676. *Хворыш яго вазьмі.* Нсл.

**•хвост**-*та, у хвасьце; мн. ч., дат.-том, мн. ч., предл.-ох, м.* **1.** хвост. Ар.

**хвастом накрыцца**—после совершенного неправильного поступка выглядеть как-будто ничего предосудительного не случилось. Ар.; Віцебшч. *Я яго адукаваў, а ён мяне кінуў і хвастом накрыўся.* НК. *Бачыць — чорт хвастом накрыўся і падаўся у балота.* Дуб.(Калосьсе, Но. 3/20, стр. 150). *Прышый кабыле хвост, калі ў яе свой ёсьць*—о чем-л. совершенно ненужным. Ар. *Ласкат.* **хвоська**-*кі*—коротенький хвост(у зайца, овцы, козы). НК: Под. пос., Но. 34. *Ня круці ты хвоськай, хвоськай караценькай.* НК: стр. 41. *Уменьш.* **хвасток**-*ткà, предл.-ткỳ, зват. хвостку; мн. ч., дат.-ткам, мн. ч., предл.-ткох,*—хвостик. Ар. *Пайшоў каток пад масток — злавіў рыбку за хвасток.*

•**хвоська, хвасток,**—*см. под хвост.*

•**хва,** *хвы, ж.*—дрянь, мелочь. Нсл. 676. *Вы ўсі хва супроці мяне.* Нсл. *Набралася хвы тут шмат.* Нсл.

•**хвабрыка**-*ыкі-ыццы, ж.*—фабрика. Север.(Косіч 87); Нсл. 676. *У хвабрыку дзяцюка ўзялі.* Нсл. *Палікарп служа на хвабрыццы.* Ст. *У Клімавічах будуюць новую хвабрыку.* Самацевічы Касьцюк. (Бяльсл.).

•**хвабрыка́нт**-*нта, предл.-нту, зват.-нце, м.*—фабрикант.

•**хва́брычак**-*чка, м., област.*—(маленькая, С.) фабрика. Дсл. 956. *На прыкрасі стаіць хвабрычак новы.* Дсл.

•**хвабрычны,** *-ная-нае* —фабричный. *Жыцьцё камечыцца памеж тога каменьня, хвабрычным дымам дыміцца штодня.* Крушына: Творы, 40.

•**хваёвы**-*вая-вае*—сосновый. Шсл. *Над ім лёгка калыхаліся хваёвыя лапкі.* Адамчык: Арж. колас.

•**хвазану́ць**-*нỳ-нèш-нèць-нèм-ніцè, однкр.*—хватить(ударить). Шсл. *Хвазануў яго па галаве.* Ст.

•**хвала́**-*лы̀, ж.* **1.** хвала. Шсл.; БГсл. *Адзін зьеж вала — усё роўна адна хвала.* *Послов.* Загай Пух. (Шсл.). *Катораму Богу хвалу чыніш?* Кіт. 4а4. *Хвалу аддаваць будзеце.* Тм. 15, 10.

**2.** слава. Нсл. 676. *Ад Бога міласьць, а ад людзёў хвалу мае.* Нсл. *Каб аб табе хвала, па ўсім сьвеце чулà.* Нсл.

•**хва́лда,** *област.* **хванда.** Шсл., *ж.*—фалда. Нсл. 676; Шсл. *Сьвітка з хвалдамі.* Нсл. *Даўней сьвіты насілі з хвандамі, а цяпер гэтак ня шыюць.* Ст.

•**хвале́ндыш**-*ша, предл. и зват.-шу, м.*—самохвал. Нсл. 676. *Хвалендыша такога рэдка знайсьці.* Нсл. *См. хвалько.*

•**хваліва́рак**-*рку, м.*—фольварк, небольшое имение. Ар.; Шсл. *Каля нас дык усі панскія хваліваркі пааддавалі на сёлы, толькі большыя двары пакінулі на радаспы.* Ст. *Да сёлетняга году хваліварак дзяржаў пасэсар.* Ст. (Шсл. *под* пасэсар). *См. дварэц.*

•**хва́ля**-*лі-лі; мн. ч., род.-ляў, ж.* **1.** вал, волна, зыбь,( **С.**) Гсл. волна. МГсл.; Ар.; БНсл.

**2.** ветер с дождем. Гсл.

**3.** дама в игральных картах. (**С.**) Гсл.

•**хвалі́сты**-*тая-тае*—волнистый, волнообразный. БНсл. *Разьліваецца ўваччу хвалістае.* ЗСД 245.

•**хвалі́ць**-*лю-ліш-ле, несоверш., перех.* **1.** хвалить. Ар.; Нсл.; БГсл. *Хоць за плот валіць, але сваё хваліць.* *Послов.* Навасёлкі Пух. (Шсл.). *Сябе не хвалі і людзёў ня гань.* Капейна Сьміл. (Шсл.). *Соверш.* **пахваліць**—похвалить.

**2.** славить, прославлять, Нсл. 676. воздавать поклонение. Дсл. 956. *Жывіце ды Бога хваліце.* Нсл. *Пана Бога стварыцеля неперастаньне хвалі.* Кіт. 7а6. *Кажнага дня Пана Бога павінен хваліць.* Кіт. 8а2.

**выхваля́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма, несоверш.* **1.** превозносить похвалами, Нсл. 100. восхвалять, (Гсл.) расхвалять. *За што ты так яго выхваляеш, выхваліў?* Нсл. *Пан Бог ня любіць, хто ест пышны і сам сябе выхваляе.* Кіт. 13а1.

**2.** славить, прославлять. *Жывем, Бога выхваляючы.* Нсл. 100. *Пана Бога неперастаньне выхваляй.* Кіт. 23б12.

**выхваліць,** *соверш. к выхваляць в обоих знач.* *Прилаг. из прич.* **выхвалёны, 1.** восхваленный. Нсл. 100. *Гэтаж выхвалёны твой так зрабіў табе.* Нсл.

**2.** прославленный. *Няхай будзе выхвалёны на векі.* Нсл. 100. *Отгл. имя сущ.*

**выхваленьне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў,* **1.** восхваление. Нсл. 100. *Нявольнікаў карміў сваімі стравамі, не жадаючы ад іх платы ані выхваленьня.* Кіт. 12а6.

**2.** прославление. *Выхваленьне Бога.* Нсл.

**ухваліць,** *соверш., перех.*— восхвалить. Нсл. 669. *Дужа ты ўхваляеш, ухваліў гэтага каня, ды перахваліў.* Нсл. *Прич.* **ухва́лены**—превознесенный похвалами. Нсл. 669. *Вось што нарабіў твой ухвалены сын.* Нсл. *Адна была ўхвалёна, а другая зганёна.*

•**хвалі́цца**-*лю́ся-лі́шся, несоверш., возвр., кім-чым*—хвалиться, (БНсл.) хвастаться. Ар. *Няма тут чым хваліцца.* Ст. *Не хваліся — Богу маліся.* *Послов.* *Завада ест, хто даўшы сэдэку(убожніну, араб.), хваліцца.* Кіт. 9б6. *Соверш.* **нахваліць,** *перех.*—похвалить. *Соверш.* **пахвалі́цца**—похвалиться. Ар.

**выхваля́ць**-*я̀ю-я̀еш-я̀е; повел.-я̀й-я̀йма, несоверш.* **1.** превозносить похвалами, Нсл. 100. восхвалять, (Гсл.) расхвалять. *За што ты так яго выхваляеш, выхваліў?* Нсл. *Пан Бог ня любіць, хто ест пышны і сам сябе выхваляе.* Кіт. 13а1.

**2.** славить, прославлять. *Соверш.* **нахваліцца**—вдоволь похвалиться. *Ты хвалішся сваімі дзецьмі, але яны яшчэ малы̀я; тады нахвалішся, як яны падрастуць ды будуць добрымі людзьмі.* Нсл. 676. *Соверш.*

●**даўзрослы**-*лая-лае*—не совсем возрастный, не достигший полного возраста. Нсл. 136. *Даўзрослы ўсё яшчэ ня дуж.* Нсл.

●**даўжо, даўжо ж.**—ну да. Шсл. *Даўжо ж, хіба, і ты паедзеш з імною.* Ст.

●**даўжэнны**-*ная-нае,* **1.** очень длинный. *Даўжэнны пусьціла канец.* Нсл. 136.

**2.** очень долгий. Нсл. 136. *Які цяпер даўжэнны дзень!* Нсл.

●**даўжэр**-*ры-ры, ж.* — *даўжыня.* Шсл. *Ого гэтакую даўжэр прайці!* Ст.

●**даўжэразны**-*ная-нае*—весьма длинный. Шсл. *Узяў даўжэразны кій ды як дасьць!* Ст.

●**даўжэць**-*эю-эеш-эе; повел.-эй-эйма, несоверш.* **1.** становиться длиннее. Нсл. 136. *Аборка даўжэе.* Нсл.

**2.** становиться дольше. Ар. *Дзень увясну даўжэе.* Нсл. *Соверш.* **падаўжэць, 1.** стать длиннее. Нсл. 136; Ар. *Аборка падаўжэла.*

**2.** стать дольше. Нсл. 136; Ар. *Ноч узімку падаўжэла.* Ар.

●**даўжбі̂т**-*іта̀, предл.-іту̀, зват.-і̂це; мн. ч.-ты̀-тоў-том, мн. ч., предл.-тох, м.*—должник, дебитор. Смал. ліст каля 1240 г.(Шахматов: Курс, 69); Дз.

●**даўжбі̂тка**-*ткі-тцы, ж.*—должница.

●**даўжыня́**-*ні-ні, ж.* **1.** долгота. Гсл.; Ар.

**2.** длина. Ар.; ПНЗ; Шсл.

●**даўжы́ць**-*жу̀, доўжыш-жа, несоверш., перех.* **1.** удлинять, увеличивать длину чего. Нсл. 136. *І не даўжы і не караці кажуха, а зрабі подле меркі.* Нсл. *Можна яе караціць і даўжыць.* ЗСД. 120. *См. доўжыць. Соверш.* **падаўжы́ць**—удлинить. Нсл. 136. *Падоўжыш кажух, дык і ня стане аўчынаў.* Нсл.

**2.** длить. Нсл. 136. *Даўжы Бог век твой.* Нсл. *Соверш.* **прадаўжыць**—продлить. Нсл. 136. *Прадаўжы, Божа, табе яшчэ веку.* Нсл.

**даўжэньне**-*ня, предл.-ню, действие по глаг. даўжыць 1, 2., даўжыцца.* **1.** удлинение. удлинение.

**2.** продолжение. Нсл. 136. *Адклалі толькі на даўжэньне часу.* Нсл. *За даўжэньням часу шмат страцілі.* Нсл.

●**даўжы́цца**-*жуся, доўжышся*—длиться. Нсл. 136. *Няхай век твой доўжыцца да праўнукаў.* Нсл. *Соверш.* **прадаўжыцца**—продлиться. Нсл. 522. *Век твой прадоўжыўся, і праўнукаў дажыў ты.* Нсл. *Соверш.* **здоўжыцца,** *каму*—показаться долгим. Ар. *Здоўжылася нам гэта падарожжа.* Ар.

●**да́ўка,** *нареч.*—терпко. Нсл.; Гсл. *Даўка есьці нясьпелыя ігрушы.* Нсл.

●**даўкасьць**-*ці, ж.*—терпкость, (Гсл.) вяжущее вещество чего-л. глотаемого. Нсл. 126. *Даўкасьць яблыка.* Нсл.

●**даўкі**-*кая-кае,* **1.** терпкий(на вкус). Гсл.; Нсл. 126. *Да̀ўкі яблык.* Нсл. *Дулькі даўкі.* Гсл.

**2.** (*о вони*). *Хаваецца ў шэрых стаўпох даўкага* (*ад пі̂пкі*) *дыму.* Лынькоў: Воўчы лог.(Калосьсе, 1935 г., Но. 2, стр. 96). *Ён хапіў паветра — яно было даўкае, настоенае смалою.* Адамчык: Арж. колас. *Казыча ў горле даўкі пыл.* Лойка: Л. песьня.

**3.** (*перен.*)—о тягостном, мрачном настроении; о тяжелом, неприятном состоянии, в котором находится кто-л. *Асела на сэрцу нешта цяжкое, даўкае.* ЗСД. 90. *Гатова была̀ парваць цяжкі̂ пласт даўкага страху.* Тм. 167.

●**даўмяв-а́цца**-*а̀юся-а̀ешся, несоверш.*—додумываться. Юрсл. *Ужо не маленькі, пара самому да ўсёга даўмявацца.* Юрсл. *Соверш.* **даўмецца,** (Варсл.), **даўміцца,**(Юрсл.; Дсл.; Гсл.)—догадаться, (Гсл.; Дсл.; Варсл.) додуматься, Юрсл. сообразить. *Нічога не даўмелася тады Ганутка.* Марціновіч(Беларус, Но. 159). *Мы даўміліся, што рабіць надабе.* Дсл. *Даўміўся такою сьцюжаю без паліта выпраўляцца.* Юрсл. *Я доўга ня мог даўмецца, чаго гэты чалавек ад мяне хоча.* Варсл. *Соверш.* **здаўмецца**—сообразить. Шсл. *Як жа гэта я раней не здаўмелася так зрабіць?* Ст. *Ягапа здаўмелася, што гэты негаваркі̂ чалавек вельмі галодны, і што яму трэба даць есьці.* Дудзіцкі(Бацькаўшчына, Но. 376-377). *Гледзячы на яе, Лявон не адразу здаўмеўся, што гэта варушыцца ягоная жонка.* Дудзіцкі("Бацьк.", Но. 1-2, 437-438).

●**даўм-ецца**-*іцца,—см. под даўмявацца.*

●**да́ўна,** *нареч.*—давно. *Вось толькі мы яшчэ маўчым, хоць да̀ўна пабойні муляюць.* Танк (Калосьсе, Но. 3-20, стр. 133). *Да̀ўна, надта да̀ўна...езьдзіў Ярыла.* Я.Г-кі: Казкі, Но. 2, стр. 7. *Збудзе ў душы абраз да̀ўна пражытага часу.* Дзьве Душы, 103. *Ср. ст.* **да́ўней,** Гсл., **даўне́й,** Шсл. *Даўнѐй — дурнѐй. Послов.* Ст. *Прев. ст.* **найда́ўней(-е́й).**

●**даўнамінулы,** *-лая-лае*—давнопрошедший. Гсл.

**даўнамінулы час,** *грам.*—давнопрошедшее время.

●**да́ўнасьць**-*ці, ж.*—давность. Шсл.; Ар. *На зямлю ўжо зайшла даўнасьць.* Ст.

●**даўне́йшы**-*шая-шае*—(давний), давнишний. Шсл.; Ар. *Ён мае даўнейшыя грошы.* Ст. *Яшчэ даўнейшы хлеб ямо.* Ст.

●**даўне́цца**-*ѐецца, несоверш.*—продолжаться долгое время. Нсл. 126. *Доўг твой даўнеецца, задаўнеўся.* Нсл. *Соверш.* **задаўне́цца, зада́ўніцца**—продолжиться. Нсл. 126.

●**да́ўніна,** (Гсл.; Нсл.), **даўніна́,** (Нсл.; Ксл.; Ар.)—старина. Гсл.; Нсл. 126; Ар.; Ксл.; МГсл. *У даўніну ня так было.* Нсл. *Да̀ўніну ўспамянуў.* Нсл.

●**даўніць**-*ню-ніш-не, несоверш., перех.*—затягивать на долгое время(срок, Ксл.). Нсл. 126; Ксл.; Гсл. *Ня добра да̀ўніць доўг.* Нсл. *Што гэта ты да̀ўніш із падачкамі?* Ходцы Сян. (Ксл.). *Соверш.* **зада́ўніць**-*ню-ніш-не*—затянуть на долго. Нсл. 166. *Прич.* **зада́ўнены**—затянутый, существующий долгое время. Нсл. 166. *Зада̀ўнены доўг.* Нсл. *Многократ.* **задаўня́ць**-*я̀ю-я̀еш-я̀е:*

*повел.-яй-яйма*—затягивать на долго. Нсл. 166. *Няхай не задаўняе работы.* Нсл.
•**да́ўніцца**-*ніцца, несоверш.*—затягиваться на долгое время. Гсл. *Соверш.* **зада́ўніцца** —затянуться на долгое время. Нсл. 126. *Доўг твой задаўніўся.* Нсл. *Многократ.* **задаўня́цца,** -*яюся-яешся*—затягиваться на долгое время. Нсл. 166. *Другім аддаеш даўгі, а мой задаўняецца.* Нсл. *Даўгі, калі задаўняцца, то часта прападаюць.* Нсл.
•**даўны**-*ная-нае*—давний, давнишний. *У даўныя часы жыў хлопчык наймя Клёнік.* Я. Г-кі: Казкі, Но. 2, стр. 14.
•**даўспадобы**—нравиться, по вкусу. *Гэты конь мне даўспадобы.* Варсл.
•**дацопаць,**—*см. под цопаць.*
•**даце́рці**-*ірàць,—см. под церці.*
•**дац-ягаваць(дац-яга́ць)**-*ягцi,—см. под цягні.*
•**дацямна́,** *нареч.*—до тёмного. Шсл.; Ар. *Жалі аж да цямнà.* Нсл.
•**дацяка́віць(дацiка́віць),**—*см. под цякавіць.*
•**дацяка́віцца(дацiка́віцца),**—*см. под цякавіцца.*
•**даць,**—*см. под даваць.*
•**дацы́баць,**—*см. под цыбаць.*
•**да́ча**-*чы-чы, ж.* **1.** ссуда деньгами. Дсл. 159. *Свой із сваім пераз дачу стаў нялюб.* Дсл. **2.** деньги, которые жених платит невесте. Дсл. *Дачу слаўную даў маладой малады; малады дужа багаты.* Глыбокае Красьн. (Дсл.).
•**дачак-а́ць**-*àцца,—см. под чакаць.*
•**дачасава́ць,**—*см. под часаваць.*
•**дача́сна,** *нареч.*—преждевременно. БНсл.
•**дача́сны,** -*ная-нае*—временный, (Гсл., БНсл.) на время определенный. Нсл. 144. *Гэты сьвет — мешканьне дачаснае ест.* Кіт. 93 стр. 14. *Жыцьцё наша дачаснае.* Нсл. *Дачасны ўраднік.* Нсл.
•**да часу,** *нареч.*—временно. Ар.; Нсл. 144. *Ён тут да часу.* Нсл.
•**да́чка**-*чкі-чцы, ж.* **1.** дача, выдавание назначенного. Нсл. 127. *Дàчка грошы.* Нсл. *У першую дачку ня ўсё аддаў.* Нсл. *Ср. дачкі, падачкі.*
**2.** надел, полоса луга. Бяльсл. *Мне лўчыла дàчка, што зь яе набраў воз сена.* Лешчынка Імсьць.(Бяльсл.). *Нешта няўпраўка ў нашага Максімà: усі пакасілі, а яго дàчкі стаяць.* Тм.
•**дачка́**-*кі, дат., предл. дачцэ, вин. дачкỳ; мн. ч. дачкі̀-чок*—дочь. Ар., МГсл.; Шсл.; Пск. (Иеропольский); Раст.: Смоленск. 150. *Дачка ня бацькава карысьць, я ж яе гадавала й кукобіла.* (Косіч, 233). *Чысты Бог...ад сыноў, ад дачок, ад усёга чысты.* Кіт. 37б17. *Шынкар любе п'яніцу, а дачкі за яго не аддасьць.* *Послов.* Рапан. 127. *Дачку аддаў сваю замуж.* Нсл. 144. *Пазнàюць нашу дачку і ў вандарачкỳ.* *Послов.* Рапан. 265. *Мелі адну дачку вельмі харошую.* Н.(Афанасьев, IУ, 1914, 286). *Злазь, мая дачка!* Касьцюковіцкі р. Калінінскае акругі(Наш Край, 1928, Но.6-7, стр. 47). *Зьмеевы дачкі размаўляюць прамеж сабою.* Погар(Афанасьев: Нар. рус. сказки, 1, 153). *Луг, шаўковыя падушкі, яблына й крыніца — гэта ўсё былі дачкі зьмеевы.* Тм. *Ласкат.* **дачу́хна**-*ны-не, ж.* (Гсл.)—доченька. Смал. (Дсл. 184). *Шамнулі вазочкі на дварэ, — паглядзі, мамачка, ці не па мяне? — Па цябе, дачухна, па цябе.* Горц.(Кот. 208). *Павѐзла й дачухну сваю із сабою.* Нсл. 144. *Хочуць яго дачухну забраці.* Нсл. 740. *А чаму, дачухна, міла ня ўсьміхнешся?* Гарун: Два каханьні. *Ласкат.* **дачу́шка**-*шкі-шцы,* (Гсл.)—дочка, доченька. Ар.; Шсл.; Дсл. 184. *Дачушка ў дварэ госьціцца.* Дсл. *Ідзі, дачушка.* Горц.(Кот. 208). *Была̀ адна дачушка, але й тую Бог забраў.* Ст. *Галасіла маці над дачкой у хаце:"Ах, мая дачушка!"* Гарун: Два каханьні.
**дачу́шачка**-*чкі-чцы, уменьш. к дачушка.* Ар. *Расплакалася дачушачка, перад матухнай стоячы.* Жукова Імгл.(Косіч, 35).
•**да́чкі,** *дàчак(одна* **да́чка**)—подати. Любавский: Очерк. *Ср. дачка, падачкі.*
•**дач-ува́цца**-*ỳцца,—см. под чуцца.*
•**дачча́нка**-*нкі-нцы, ж.*—дочь брата, племянница. Сьхідзель Гордз.
•**дачыне́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—дело до другого лица, Шсл. касательство, отношение. Гсл.; БНсл. *Няма абмылы ў маім сьцьвярджэньню! Праз спадак жа культуры буржуазнай даволі сказàна і зразумела. Але якое маюць дачыненьне да спадку гэтага твае ўсе казкі — ня ведаю і, больш таго, не разумею.* Дуб. (Калосьсе, Но. 3-20, стр. 152). *Да гэтае справы ня маю дачыненьня.* Гсл. *Зьвярніся: ё к табе дачыненьне.* Ст. *Ня было ніякага дачыненьня.* Менск. *Да яго ніякага дачыненьня ня маю.* Варсл.
•**дашчу́рка**-*ркі-рцы, ж., област.*—дощечка. Шсл. *Няма ніякае дашчуркі, на чым пакрышыць сала.* Ст.
•**дэбаць, ды́баць.** Бяльсл. *Ён дэбае, дык за вярсту чутна.* Хведараўка Краснап.(Бяльсл.).
•**дэдукца**-*цы-цы, ж.*—дедукция.
•**дэду́кчны**-*ная-нае*—дедуктивный.
•**дэзарганіза́тар**-*ара, предл. и зват.-ару, м.*—дезорганизатор.
•**дэзарганіза́тарскі,** -*кая-кае*—дезорганизаторский.
•**дэзарганізава́ць**-*зўю-зўеш-зўе, соверш. и несоверш.*—дезорганизировать.
•**дэзарганіза́ца**-*цы-цы, ж.*—дезорганизация.
•**дэзынфэ́ктар**-*ара, предл. и зват.-ару, м.* —дезинфектор.
•**дэзынфэ́кца**-*цы, ж.*—дефинфекция.
•**дэзынфэкчны,** -*ная-нае*—дезинфекционный.
•**дэзынфікава́ць**-*кўю-кўеш-кўе, несоверш. и соверш.*—дезинфицировать.
•**дэїзма**-*мы-ме, ж.*—деизм.

•**дэкаграм**-*ма, у дэкаграме, м.*—декограмм.
•**дэкадэнт**-*нта, предл.-нту, зват.-нце, м.*—декадент.
•**дэкадэнты́зма**-*змы-зьме, ж.*—декадентство.
•**дэкуш праўда!**—в самом деле, действительно правда. Вк.
•**дэлега́т**-*а̀та, предл.-а̀ту, зват.-а̀це, м.*—делегат.
•**дэлега́тка**-*ткі-тцы, ж.*—делегатка.
•**дэлега́ца**-*цы-цы, ж.*—делегация.
•**дэлега́цкі**-*кая-кае*—делегатский.
•**дэлегачны**-*ная-нае*—делегационный.
•**дэмобілізава́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ніняў*—демобилизация(действие).
•**дэмобілізава́ць**-*зу̀ю-зу̀еш-зу̀е, соверш.*—демобилизовать.
**дэмобілізава́ны**—демобилизованный.
•**дэмобіліза́ца**-*цы-цы, ж.*—демобилизация.
**асобавая дэмобілізаца**—демобилизация личного состава.
•**дэмобіліза́чны,** -*ная-нае*—демобилизационный.
•**дэмогра́фа**-*фы-фе, ж.*—демография.
•**дэмонстрат**-*ата, предл.-ату, зват.-аце, м.*—демонстрант.
•**дэмонстратка**-*ткі-тцы, ж.*—демонстрантка.
•**дэмонстрава́ць**-*ру̀ю-ру̀еш-ру̀е, соверш. и несоверш.*—демонстрировать.
•**дэмонстра́ца**-*цы-цы, ж.*—демонстрация.
•**дэмаралізава́ць**-*зу̀ю-зу̀еш-зу̀е, соверш. и несоверш., перех.*—деморализировать. *Прич.* **дэмаралізава́ны**—деморализованный.
•**дэмараліза́ца**-*цы-цы, ж.*—деморализация.
•**дэмаго́г**-*ога, предл.-огу, зват.-ожа, м.*—демагог.
•**дэмагогія**-*іі, ж.*—демагогия.
•**дэмагогі́чны,** -*ная-нае*—демагогический.
•**дэмакра́т**-*ата, предл.-ату, зват.-аце, м.*—демократ.
•**дэмакратызава́ць**-*зу̀ю-зу̀еш-зу̀е, соверш. и несоверш., перех.*—демократизировать.
•**дэмакратыза́ца**-*цы-цы, ж.*—демократизация.
•**дэмакраты́зма**-*змы-зьме, ж.*—демократизм.
•**дэмакраты́чны,** -*ная-нае*—демократический.
•**дэмакра́ца**-*цы-цы, ж.*—демократия.
•**дэнацаналіза́ца**-*цы-цы, ж.*—денационализация.
•**дэфіцыт**-*ыту, у дэфіцыце, м.*—дефицит.
•**дэфля́ца**-*цы-цы, ж.*—дефляция.
•**дэпрэся**-*сі-сі, ж., у розных знач.*—депрессия.
•**дэпрэсны**-*ная-нае*—депрессивный.
•**дэраш**-*ша, предл.-шу,* .— пегая лошадь.
•**дэс,** *дэсу, предл. и зват. дэсе, м.*—узор на ткани. Ксл. *На тваёй коўдры прыгожыя дэсы.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).
•**дэса́нт**-*нту, предл.-нце, м.*—десант.
•**дэспот**—деспот.
•**дэспотызма**-*мы-ме, ж.*—деспотизм.
•**дэспотычны**-*ная-нае*—деспотический.
•**дэцэнтраліза́ца**-*цы-цы, ж.*—децентрализация.
•**дэцыгра́м**-*ма, предл.-ме, м.*—дециграм.
•**дэцылі́тра**-*ры-ры, ж.*—децилитр.
•**дэцымэтра**-*ры-ры, ж.*—дециметр.
•**дба́йлівы**-*вая-вае*—заботливый, старательный. *У дбайлівай гаспадыні ў згорненым у кучку прыску тліўся жар.* Акула, 523. *См. рупасьлівы, рупатлівы.*
•**дба́йнасьць,** (МГсл.)-*ці, ж.*—заботливость. *См. рупата, рупнасьць, рупасьць.*
•**дба́ла,** (Нсл. 127), *нареч.*—заботливо, (Бяльсл.) старательно. БНсл. *Дбала робе, стараецца. Добры гаспадар дбала ставіцца да статку: ён у пару накормлены й напоены.* В. Хутары Краснап.(Бяльсл.).
•**дба́ласьць**-*ці, ж.*—прилежание, неусыпность, Нсл. 27. заботливость, старательность. (БНсл.). *Дбаласьці ў рабоце ня было.* Нсл. *См. рупнасьць, рупасьць.*
•**дба́лы**-*лая-лае*—попечительный, досужий, Нсл. 127. заботливый, Бяльсл. старательный. (БНсл.). *Ён дбал, але нядуж.* Нсл. *Дбалы гаспадар не прапусьце часу.* Тм. *Рыгор — дзяцюк дбалы, у яго ўсё зроблена ўпару.* Бабінічы Імсьць.(Бяльсл.). *Ср. ст.* **дба́льшы**—заботливее( С.), старательнее. Нсл. 127. *Ён дбальшы за цябе.* Нсл. *Прев. ст.* **найдба́льшы.**
•**дба́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ.* **1.** (*к дбаць 1*)—забота, сосредоточенность мыслей на исполнении чего-л. С. Гсл.; БНсл. *Гаспадару аб усім трэба мець дбаньне. Нсл. 127. См. рупата, рупасьць.*
**2.** *отгл. имя сущ. к дбаць 2.*
•**дбаць,** *дба̀ю, дба̀еш, дбае; повел.-а̀й-айма, несоверш.* **1.** заботиться. МГсл.; Нсл. 127; Шсл.; Вост., Кур. (Даль); Варсл.; Бяльсл; Ст. 1529, сл. *Як дбаеш, так і маеш. Послов.* Дукора Сьміл. (Шсл.). *Хто дбае, той і мае. Послов.* Ст. *Хто ўсяго шмат мае, той ні аб чым ня дбае. Послов.* Навасёлкі Пух. (Шсл.). *Хто мала мае, мала дбае.* Смл. (Даль). *Хто ня мае, тый ня дбае. Послов.* Нсл. 127. *Тый нічога ня мае, хто сабе ня дбае.* Сохана Імсьць.(Бяльсл.)
**2.** обращать внимание, принимать во внимание. Стт. 1529, сл. *А лісты гаспадарскія запаведныя, есьлі бы хто а ніх ня дбаў.* Стт. 1529, 1, 12.
**3.** *с отрицанием "не"* — **нядбаць,**—не обращать внимания, пренебрегать, (Нсл. 330) не заботиться. (Тм.) *Нядбаю я на тваю грозьбу.* Нсл. 127. *Ён ні на што нядбае.* Тм. *Шайтан рэк:"Я тых людзей не магу зьвесьці, каторыя нядбаюць а маемасьць."* Кіт. 61а12.
**занедбава́ць**-*бу̀ю-бу̀еш-буе, несоверш.* (*к занядбаць*). *Соверш.* **занядба́ць**—запустить, забросить, МГсл. пренебречь, оставить в пренебрежении. (Гсл.). *Глядзі, не занядбай таго, што я табе казаў.* Нсл. 177. *Занядбай а тым, што яна брахала на*

*цябе.* Тм. *Ён занядбаў грамадзкую працу.* Варсл. *Прич.* **занядба́ны,** Нсл. 177. оставленный в небрежении. *Отгл. имя сущ.* **занядба́ньне**-*ня, предл.-ню*—нерадение, халатность, Гсл. оставление в небрежении, Нсл. 177. нерадение, небрежение. БНсл. *Маё расказаньне ў занядбаньню мае.* Нсл. *Добрая рэч ляжыць у занядбаньню.* Нсл.

**прыдбава́ць**-*баю́(-бава̀ю), баѐш( бава̀еш), баѐць( бава̀е), несоверш.* (*к прыдбаць*) —приобретать. *Соверш.* **прыдба́ць**-*дю̀-дѐш-дѐ*—приобрести. Растсл.; ПНЗ; Раст: Северск. 149; Гсл. *Калі ён што й мае, дык прыдбаў сваім мазалём.* Варсл. *Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут.* Колас: Н. Зямля. *Ледзь прыдбаў тую крошку сена дамоў.* Ст. *І чаго я тут прыдбаю?* С. Музыка 229. *Паставіў вас за япіскапаў, пасьціць царкву Божую, каторую Ён прыдбаў собскай крывёй Сваёй.* Луцк.: Дзеі Апост. 20: 28. *Ды ў лесе прыдбалі там ня мала.* Лойка: Л. песьня. *На гэтай сьцежцы калісьці ён шмат чаго сустрэў, бачыў і прыдбаў, але шмат чаго й страціў.* Шакун: Сьлед, 15. *Неразумны гэтае ночы забѐруць ад цябе душу̀ тваю, каму ж застанѐцца тое, што прыдбаў?* Татарыновіч: Ванэлі 308. *Прич.* **прыдба́ны**—приобретенный. *Нялюдзтва ўсё, прыдбанае спрадвеку, было чужым.* Салавей: Сіла, 81. *А ён ляжаў на ложку, прыдбаным сусім нядаўна.* Я. Васілёнак("Полымя", 1967 г., Но. 12, 191). *Отгл. имя сущ.* **прыдба́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, м.*—приобретение.

●**дхаць,** *дхаю, дхаеш, дхае, несоверш.* **1.** дышать. Нсл. 783. *Гарэлкаю дхаеш.* Нсл. *Соверш.* **надха́ць.** Нсл. 783. *Рэдзькаю надхаў, дхнуў.* Нсл.

**2.** веять. Нсл. 783, дуть. *Халодны вецер дхае, дхнуў.* Нсл.

●**д'ямантовы**-*вая-вае*—алмазный. *Ногі іх парловыя былі, іншых — д'ямантовыя.* Кіт. 1146б.

●**д'ямэнт**-*нту, предл. и зват.-нце, м.*—алмаз. *Сёмае неба із шчырага д'ямэнту.* Кіт. 1326б.

●**для́кацца**-*аюся-аешся; повел.-айся-аймася, несоверш., осуд.*—быть где-л. дольше, чем нужно, задерживаться, мешкать. Ар.; Міх. *Вы, дзяцюкі, ня длякайцеся там: бачыце сонца нізка, а копы ня зьнесены.* Варсл. *Дзе ён там длякаецца?* Ар. *Ён длякаецца абы дзень да вечара.* Міх. *Соверш.* **адлякацца,** *презр.*—замешкаться, задержаться, промедлить. Войш. *Сухалеты любілі, што ў Вішневе не адлякаецца.* Войш. *Соверш.* **задля́кацца,** *презр.* замешкаться. Ар.; Міх. *Задлякаўся з канём.* Купала. *Пашоў і задлякаўся.* Ар. *Ён пашоў, задлякаўся й спазьніўся на вячэру.* Міх. (*Чорт*) *карыстае з прыпадку, калі Бог дзе-лень задлякаецца, і тады стараецца ўварваць у чалавека што-лень і на сваю долю.* Атраховіч: Блр. прыказкі (Узвышша, Но. 6, 1927, стр. 142). *Ср. бавіцца, забавіцца. Бавіцца можна й за работай, а длякацца без патрэбы.*

●**дма́ньне**-*ня—ню, отгл. имя сущ.к дмаць, дмацца*—вздувание. Нсл. 134. *Дманьне агню.* Нсл.

●**дмаць,** *дма̀ю, дма̀еш, дма̀е-а̀ем-а̀ецеаюць; повел.* **дмай**(**дзьмі**), *несоверш., перех.* —дуть, вздувать. Нсл. 134; Гсл.; Дсл. 169; БНсл. *Сталі дмаць лучыну.* Дсл. *Дзьмі агонь.* Дсл. *Дмай, дзьмі агонь.* Нсл. *Я ня ўмею дмаць, дзьмі сам.* Тм. *См. дзьмуць. Соверш.* **узадма́ць**—вздуть, говоря аб огне. Нсл. 53. *Узадзьмі агню.* Нсл.

**надма́ць,** *соверш.* **1.** надуть, наполнив воздухом или другим газом, сделать упругим. *См. надзьмуць(под дзьмуць).*

**2.** надуть своим духом, настроить. Нсл. 305. *Надмаў яго пасвойму.* Нсл. *Соверш.* **надыма́ць**-*дю-а̀еш-а̀е; повел.-а̀й-а̀йма,* **1.** надувать. Нсл. 306. *Надымаць кавальскі мех.* Нсл. *См. надзімаць 1(под дзьмуць).*

**2.** (обидевшись, делать недовольное лицо, С.), надувать губы. Нсл.

●**дма́цца,** *дма̀юся, дма̀ешся, несоверш.* **1.** дуться(раздуваться; наполняться воздухом, С.). Дсл.

**2.** (*перен.*)—надмеваться, Нсл. 134; БНсл. важничать, гордиться. *Дмайся, дзьміся, колькі хочаш, а мы цябе да̀ўна знаем.* Нсл.

**3.** *на каго, и без дополнения,*—дуться, обижаться, сердиться (Нсл. 134). *Дмайся, дзьміся, як хочаш, а на тваім ня будзець.* Нсл. *Соверш.* **абадма́цца**-*му̀ся-мѐшся-мѐцца-мѐмся-міцѐся-муцца,* **1.** раздуться, умереть от излишества, околеть. *Будзі ты яго, бо ён абадзьмецца спаўшы.* Дсл.

**2.** обоспаться, Дсл. околеть от излишества. *Люты сьвёкар абадзьмецца.* Дсл. *Люты сьвёкар паўночнай вады нап'ецца, к сьвету абадзьмецца.* Тм.

**надма́цца,** *надзьму̀ся, надзьмѐшся, соверш. к дмацца, надымацца.* Нсл. 134, **1.** вздуться, увеличиться в объёме. *См. надзьмуцца(под дзьмуцца).*

**2.** надуть губы, рассердиться. *Надмаўшыся й за стол не пашоў. Нсл. 306. См. надзмуцца 2(под дзьмуцца). Несоверш.* **надыма́цца**-*а̀юся-а̀ешся; повел.-а̀йся-аймася,* **1.** надуваться. Нсл. 306; Гсл. *Пузыр не надымаецца, знаць, дзірка ёсьць.* Нсл. *См. надзімацца(под дзьмуцца).*

**2.** надмеваться, напышаться, Нсл. 306. чваниться, быть спесивым. Гсл. *Надымаецца, надзьмулася, як бы што добрае.* Нсл. *Чаму багатыру не надымацца супроці нашага брата небаракі?* Нсл.

**3.** сердиться, пыхтеть от гнева. Нсл. 306. *Не надымайся, а еж, што даюць.* Нсл.

**надыма́ньне**-*ня, предл.-ню*—стремление к напышенности, напышенность. Гсл. *отгл. имя сущ. к надымацца 1, 2, 3.*

●**дму́хаць,**—*см. под дзьмуць.*

●**дно,** *дна, на днѐ.* **1.** дно, почва под водой моря, реки, озера и т.п.

**2.** (*мн.* **дны**)—дно, днище. Ар.; Шсл. *З цэбра выскачыла дно.* Ст. *У вусім судзьдзю трэба новыя дны.* Ст. *См. дона 1.*
**3.** крышка для деревянной посуды(бочки и проч.). Юрсл. *Накрыла гуркі дном і прыклала зьверху каменям.* Юрсл.

•**днець**-*днее, прош. вр. днела, безлич.*—рассветает. Ар.; БНсл. *Як днець пачало, Адам абрадаваўся.* Кіт. 78а1. *На дварэ стала днець.* Слопішча (Шсл.). *Пачанѐць ужо днець: вісажэр далоў апусьціўся.* Курманава Імсьц.(Бяльсл.). *Соверш.* **абаднець**-*ее.* Ксл. *Ужо й абаднела.* Храпавічы Куз. (Ксл.). *Соверш.* **абадня́ць,** (*област.* **абудня́ць**) Лукнова Бельск.п. — *абаднець.* Сымонаўка Бельскі п.(Дсл.).

**абаднець**-*ѐю-ѐеш-нѐе, соверш.*— провести весь день, Ксл. очутиться в свете нового дня. Варсл. *Ён абаднеў, позна паехаўшы.* Асіпова Аз. (Ксл.). *Абаднелі мы, дзень нас засьпеў.* Дсл. *Мы абаднелі, як выяжджалі зь лесу.* Варсл.

•**днецца**-*днеецца, прош. вр. днелася, безлич.* — *днець, днее. Ужо днелася, як мы выяжджалі з дому.* Варсл. *Пачало ўжо днецца, як я ўстала — ледзь пасьпела ўправіцца з работаю.* Камароўка Крыч. (Бяльсл.).

•**днява́ць(днюва́ць,** Нсл. 134)-*днюю, днюеш, днюе, днюеце, днююць*—оставаться на день где-л., Дсл. 170; Шсл. дневать. *Давялося днявацъ у гэтым сяле.* Дсл. *Яны днююць і начуюць у полю.* Дсл. *Дзе днюе, там і начуе.* Ст.

•**днѝна**-*ны-не, ж.*—время от восхождения до захождения солнца. Нсл. 134. *Няхай бы ночы, а то ў днѝну ўкралі коні.* Нсл. *Якая вялікая дніна, а мы яшчэ сьпім.* Тм.

•**дніць,** *безлич.*—рассветает. Шсл. *Здаецца ўсталі рана, а покуль зьберліся ехаць, стала дніць.* Амельна Пух. (Шсл.). *См. днеець, днее.*

•**дну́шка**-*шкі-шцы, ж.*(**днушка**-*ка, ср.* Ар.) —(специальная, **С.**) небольшая круглая или четыреугольная дощечка для резки на ней овощей и мяса. Шсл.; Ар. *Крышы капусту на днушцы.* Ст. *См. дона 2.*

•**дроб**-*ба, предл. и зват.-бе; мн. ч. драбы-боўбом, мн. ч., предл.-бох, м.* **1.** малая частица чего-л. раздробляемого, крупина. Нсл. 146. *Дроб солі.* Нсл. *Дай хлеба й дроб цукру.* Ст. *Купі валей цукру ў драбох.* Ар. *Уменьш.* **драбок**-*бка̀*—маленький кусочек(соли, сахара и под.), Шсл.; Ксл. зернышко чего-л. раздробленного. Нсл. 146; Ар. *Даў драбок солі.* Даўгое Беш. (Ксл.). *Укінь яшчэ драбок солі.* Ст. *Драбок солі.* Смл. *Ані драбка солі няма.* Нсл.

**драбочак**-*чка, уменьш. к "драбок".* Ар. крошечка. Нсл. 146. *Выслужыла хлеба кусочак, солі драбочак.* Из свад. песни. Нсл.
**2.** (*мат.*)—дробь.

•**дробавы**-*вая-вае*—дробный, состоящий из дроби, содержащий дробь. НТ(БНсл.).

•**дробязь**-*зі, ж.* **1.** мелочь. Шсл.; Гсл.; Бяльсл. *Ігрушы — адна дробязь.* Ст.
**2.** мелкий скот. Гсл.; Бяльсл.

•**дробка**-*бкі-бцы, ж.*—крошка, щепотка. Нсл. 146. *Дробка солі.* Нсл. *На дробкі пабіў.* Нсл. *Уменьш.* **дробачка**-*чкі-чцы, ж.*—щепотка, МГсл. тоже, что *"драбочак".* Нсл. 146. *Дай хоць дробачку солі.* Нсл.

•**дробнасьць**-*ці, ж.*—мелкозернистость. Нсл. 146; БНсл. *Дробнасьць пшаніцы.* Нсл.

•**дробны I,** *прилаг. к дроб*—мелкозернистый.

•**дробны II,**—*см. под драбны̀.*

•**дробы**-*баў, единств. ч. нет.*—лестница различной длины с густыми жердочными поперечками, которая привешивается к стене поперек; в *"дробы"* закладывают сено лошадям. НК: Очерки, 360.

•**дрогка,** *нареч.*—тряско. Гсл.; Нсл. 146; Бяльсл. *Па грудзе ехаць дрогка.* Нсл.

•**дрогкі**-*кая-кае,* **1.** тряский. Нсл. 146; МГсл.; Дсл. 186. *Дрогкая дарога.* Нсл. *Дрогкі конь.* Нсл.

**дрогкія калёсы**—телега, которая сильно трясет. Зьверавічы Красьн. (Дсл.).
**2.** топкий. Дсл.

**дрогкае месца**—топкое место. Католін Росл. (Дсл.). *Ср. ст.* **дрогшы**—более тряский. Нсл. 733.

•**дрозд-пяву́н,** *дразда̀-пявуна̀, м.*—дрозд певчий. ЗТ(БНсл.)

•**дрожджы**-*джаў, единств. ч. нет.*—дрожди. Ар.; Нсл. 146; Шсл. *Глядзіць, як мыш із дрожджаў.* Нсл. *Пірагі сьпяклі на дражджах.* Ст. *Надабе купіць дрожджаў.* Ар. *Як на дражджох!* Бабынічы Імсьц.(Бяльсл.).

•**дром(дрэм, С.),** *дрому, предл. и зват. дроме, м.*—сонливое состояние, грёзы. Дсл. 185.

•**дрон**-*ону, предл. и зват.-оне, м.*—дранка. Смал. г. (Дсл.). *Новыя харомы цёсам аббіты, дронам пакрыты.* (Дсл.).

•**дронджыкі**-*каў, единств. ч. нет.*—телега для возки бревен. Ксл. *Кладзець бярно на бронджыкі.* Біклажа Беш. (Ксл.).

•**дронкі**-*каў*—шарики для игры *"у дронкі".* Гсл.

•**дросень,**—*см. под драсён.*

•**дрот**-*ту, предл. и зват.-це; мн. ч. драты-оўом, мн. ч., предл.-ох, м.*—проволока. МГсл.; Ходцы Сян. (Ксл.); Нсл. 146; Шсл.; ПНЗ; Ар.; Вост. (Даль). *Клетка з дроту.* Нсл.

**драцѝна**-*ны, ж.*—кусок проволоки. Гсл. *Собир.* **дроцьце**-*ця, предл.-цю.* Бяльсл. *Бацька купіў дроцьця гаршкі аплятаць.* Людагошч Імсьц.(Бяльсл.). *Раськідаў дроцьце — сам зьбірай.* Юрсл.

•**дротавы**-*вая-вае*—сделанный из проволоки, проволочный. Нсл. 146. *Дротавая клетка.* Нсл.

•**дро-вы,** (Смл., Даль)-*ваў(-ў), единств. ч. нет. твор. дрыўмі̀*—дрова. Ар.; МГсл.; Раст.: Северск. 137; Смл. (Даль). *Пад'едзь із дрыўмі на дрывотнік.* Ар. *Едучы з дрыўмі.* С. Музыка 214. *Паедзем у дровы. Дрывамі*

*закідалі ўсю павець.* Ст. *Хочам ехаць у дровы.* Пірагова Імсьц.(Бяльсл.).

•**дроўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—корова, отелившаяся в три года. Шсл. *Наша Рагуля — дроўка.* Амельна Пух. (Шсл.). *Уменьш.* **драву́шка**-*шкі-шцы, ж.*—корова первостенка, Прышчы Росл. (Дсл.) молодая корова, Варсл. первотёлка.

•**дроцьце,**—*см. под дрот.*

•**дрочыць**-*чу-чыш-ча*—гладить по голове, Пск.(Иеропольский) проявлять нежность, любовь; ласкать.

•**драб**-*ба, предл.-бу, зват.-бе, м., ист.* **1.** пеший воин. Гсл.; БНсл.

**2.** остов повозки. Бяльсл. *Драб ёсьць, каткі ёсьць, цяпер ужо мала чаго не стаець, каб калёсы зрабіць.* Арцёмаўка Міласл.(Бяльсл.).

•**драба́**-*бы̀, ж.* **1.** гуща с кваса. Шылавічы Духаўш.; Сымонаўка Бельск. (Дсл.)

**2.** худой, дряхлый человек. Смал. (Даль).

•**драба́к**-*ака̀; мн. ч.-кі̀-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—пружинная борона. *У нас ёсьць свой драба̀к.* Бачэйкава Беш. (Ксл.). *См. дарбун, дзярба̀к.*

•**драба́ка**-*а̀кі-а̀цы, ж.*—пружинная борона. Ксл. *См. драбак.*

•**драбе́йка**-*йкі-йцы, ж.*—лубок в решете. Ц. с. Зьвяровічы Красьн. (Дсл. 184); Смал. п. (Дсл.).

•**драбяза́**-*зы̀, собир.* **1.** мелкие предметы, Шсл. мелкота, маленькие, мелкие существа или предметы. Варсл.; Бяльсл. *Пабяжы на ток зьбѐрці драбязу.* Пяцігорск Беш. (Ксл.). *Назьбіраў аднае драбязы(грыбоў або чаго іншага).* Ст.

**2.** мелочь, мелкие деньги. Нсл. 146. *Усю драбязу высыпаў.* Нсл.

**3.** малые дети. Ар.; Нсл. 146; Варсл. *Што ж яна загадае ўдавой застаўшыся з гэтаю драбязою.* Варсл. *Абсыпаўся драбязой гэтай.* Ар. *Засталася ўдава із драбязою.* Нсл.

•**драбя́зак**-*зку, предл. и зват.-зку,* м. **1.** тоже, что *"драбяза"* в 1-ом и 3-ем зн. Нсл. 146. *Прынясі драбязку трэсачак.* Нсл. *Маці памерла, няма каму дагледзець гэтага драбязку.* Нсл.

**2.** мелкий скот. Нсл. 146. *Драбязак у дварэ застаўся.* Нсл.

•**драбя́зна,** *нареч.*—подробно.

•**драбя́знасьць**-*ці, ж.,* (Гсл.) подробность.

•**драбя́зны**-*ная-нае* подробный.

•**драбязьзё**-*зы̀, предл.-зю̀, собир.*—мелочь (мелкие вещи, С.) Нсл. 146. мелкота, маленькие, мелкие вещи или предметы. *Падбяры гэта драбязьзё!* Нсл.

•**драбя́зьліва,** *нареч.*—мелочно. Ар.

•**драбя́зьлівасьць**-*ці, ж.*—мелочность. МГсл. *Ср. драбязьлівы.*

•**драбя́зьлівы**-*вая-вае*—мелочный. Ар.

•**драбясьцё**-*цы̀, предл.-цю, собир., ср.*—мелкий лес, особенно жерди, приготовляемые на крышу под солому. Віленск., Горадзенск. й Ковенская губэрні.(Нсл. 146). *Купі, пане, маё драбясьцё.* Нсл.

•**драбі̂на**-*ны*(**драбіна́**-*ны̀,* Ар.),*ж.* **1.** лестница. Нсл. 144; Растсл.; Ар.; Шсл.; МГсл.; БНсл. *Па драбіне палез на гару.* Ст.

**2.** ясли для кормления скота в виде лестнички, прикрепленные к стене под острым углом. Шсл. *Залажы за драбіну сена авечкам.* Ст. *См. драбіны 2.*

**3.** (**драбіна́**)—длинная телега без кузова, передок и задок, которой соединены продольными брусьями, дроги. Ар.

**драбі̂нка**-*нкі-нцы,* **1.** небольшая лестница. Ар.; БНсл.

**2.** *уменьш. к драбіна̀ в 3-ем знач.* Варсл. *Дзядзька паехаў на кірмаш на новай драбінцы.* Варсл. (*Едучы*) *аж падны̀ўся на драбінцы.* Гарун: Канец Паўлючонка.

•**драбі̂нны**-*ная-нае, прилаг. к драбіны.* НК: Очерки, 372. *Драбі̂нны адзёр.* НК: Очерки.

•**драбі̂ны**-*наў(-н), единств. ч. нет.* — *драбіна ўшыркі панарада, але доўжшая за яго на аршын і болей. Ужываюць вазіць снапы, сена, гарох і салому. Яны з бакоў і на'т сьпераду маюць краты, аднолькавае работы з хлеўнымі драбінамі, прыладжаныя наўскаса̀ навонкі і дольнімі канцамі туга ўпушчаныя ў накладкі.* НК: Очерки, 372, **1.** большая телега для возки сена, снопов и под., Ксл. деревенская (всякая, С.) рабочая телега. Гсл. *Янка ў драбінах паехаў па сена.* Сьвеча Беш. (Ксл.)

**2.** тележный состав без колес. Нсл. 144; БНсл. *Драбіны купіў, а каткі̀ ёсьць свае.* Нсл.

**3.** лестница, прикрепленная к стене, за которую закладывают корм скоту. Ксл. *За драбінамі яшчэ ляжыць сена.* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *См. драбіна 2. Ср. ясьлі.*

**4.** позвоночные кости животных, ребра. Нсл. 144. *Высах сусім, адны драбіны засталіся.* Нсл. *Конь твой адны драбіны.* Нсл.

**драбі̂нкі**-*нак*(*-нкаў*), *единств. ч. нет.,* **1.** телега(небольшая, С.). Навікі Беш. (Ксл.), тележка. Гсл., *уменьш. к "драбіны" в 1-ом, 2-ми 3-ем знач. Запрэглі жарабка̀ ў новыя драбінкі.* Ст.

**2.** все, имеющее форму лесенки, напр., боковые решетки в ящике телеги вместо досок. Гсл.

•**дра́бкі**-*каў*—легкая повозка. Сянно (Ксл.).

•**драбнота**-*ты-це, ж. собир.*—малые дети. Дсл.

•**драбнаслой,** *-ою, предл. и зват.-ою, м.* —тонкие слои дерева. Варсл. *На верхнюю дошку іскрыпкі выбірай елку-драбнаслой.* Варсл.

•**драбне́ць**-*ѐю-ѐеш-ѐе; повел.-ѐй-ѐйма, несоверш.*—мельчать. Ар.; Ксл.; Нсл. 146; БНсл. *Нешта пачалі̀ авечкі драбнець.* Каўпякі Беш. (Ксл.). *Наводны статак у нас драбнее.* Нсл. *Зярняты драбнеюць ад сухмені.* Нсл. *Соверш.* **здрабнець**—измельчать. Нсл.; БНсл. *Пшаніца здрабнела.* Нсл. *Прич.* **здрабнелы** —измельчавший. Нсл.; БНсл. *Здрабнелая пшаніца.* Нсл.

•**драбне́ецца,** *безлич.*—представляться слишком малым. Нсл. 146. *У мяне драбнееца ў ваччу.* Нсл.

•**драбнячком,** *нареч.*—часто, очень мелко. Ксл. *Драбнячком польку гуляў.* Стаішча Чаш. (Ксл.).

•**драбні́ца**-*цы-цы, ж.* **1.** мелочь. МГсл.; Ксл.; БНсл. *Ён помне ўсякую драбніцу.* Сянно (Ксл.)

**2.** мелочь, мелкие деньги. Ар.

•**драбні́ць**-*ню-ніш-ніць, несоверш., перех.* —дробить, мельчить(размельчать **С.**). Ксл.; Нсл. 146; БНсл. *Не драбні вельмі солі — буйна̀я спарнейшая.* Асташова Чаш. (Ксл.). *Не драбні круп — буйнь̀ія спарнейшыя.* Нсл. *Соверш.* **здрабні́ць**—измельчить. Нсл. 206. *Нашто ты здрабняеш, здрабніў клёцкі?* Нсл. *Прич.* **здробнены**—измельчённый. *Многократ.* **здрабня́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма. Соверш.* **падрабні́ць**—измельчить. БНсл.

•**драбны́**-*на̀я-ное.* Вял.; Дз.; Мядзел.(Танк); **дробны**-*ная-нае.* Ар.; Кур, Пск. (Даль); Ржэўскі п. (Гринькова: Тудовляне); Смал. г.(Дсл.)—мелкий. Вял.; Дз.; Мядзел.(Танк); Ар.; Нсл. 146; Даль. *Драбныя яблыкі.* Дз. *Драбное жыта.* Дз. *Драбны дождж.* Вял. *Драбныя грошы.* Дз. *Драбныя дзеткі.* Вял. *Ср. ст.* **драбнейшы** —мельче, более мелкий. *Прев. ст.* **найдрабнейшы**—самый мелкий, мельчайший. Ар. *Уменьш., ласкат.* **дробненькі.** Ар. *Дробненькія вішні.* Смл. *Увелич.* **драбню́сенькі**—совершенно мелкий. Ар. *Драбнюсенькі дождҗык.* Нсл. *Драбнюсенькі, як мак.* Нсл. *Нареч.* **дробна**—мелко. Ар.; Нсл. 146. *Таўчы дробна.* Нсл. *Ср. ст.* **драбней**—мельче. Ар. *Драбней маку рассыпся й то ня дам.* Ст. *Прев. ст.* **найдрабней.** Ар. *Уменьш., ласкат.* **дробненька.** Ар. *Увелич.* **драбню́сенька**—совершенно мелко. Ар.

•**драбну́шкі,** *мн. ч., род. драбнушак( драбнушкаў), единств. ч. нет.*—ясли. Ц. сяло Шэптава Бельск.(Даль 184).

•**дра́бы**-*баў, единств. ч. нет.* **1.**(длинная телега без кузова, передок и задок которой соединены продольными брусьями, **С.**)—дроги. МГсл.; Нсл. 144; Ксл.; БНсл. *На драбах сена не прывязеш.* Кляшчына Беш. (Ксл.). *Труну на драбы паставілі.* Нсл.

**2.** ребра, кости, Гсл.; Нсл. 144. торчащие ребра. Шсл.; Ар.; Алексінічы Сян. (Ксл.). *Які ён худы, адны драбы.* Нсл. *Адкуль тое малако ў каровы будзе, калі ў яе адны драбы.* Ст.

**3.** (*ист.*)—пехота. Гсл.

•**дра́гаць**-*аю, несоверш.*—стучать с дрожанием. Ар.; Шсл. *Пагледзьце, што там у хлеве драгае.* Ст.; Крамяні Пух. (Шсл.). *Калёсы драгаюць.* Ар. *Соверш.* **задрагаць**—начать "дра̀гаць". Ар.

**адрагаваць(адрага́ць, С.)**-*гую-гуеш-гуе; повел.-уй-уйма, несоверш., перех. Адрагаваюць цела.* НК: Очерки, 371. *Соверш.* **адра́гаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма*—повредить "драгая" (стуча с дрожанием).

•**дра́гка,** *нареч.*—тряско. Ар. *Драгка ехаць.* Ар.

•**дра́гкі**-*кая-кае*—тряский. Ар. *Драгкая дарога.* Ар. *См. дрогкі.*

•**дражджовы**-*вая-вае*—дрожжевой. БНсл.

•**дражджоўня**-*ні-ні, ж.*—дрожжевой завод. БНсл.

•**дражджа́**-*джы̀*—бадровь, мел, закваска, испод брожженого напитка, особ. пива для ускорения брожжения в хлебенном, Пск., Твер.(Даль 509) гуща, осевшая в жидкости. Нсл. 146. *Гарэлка ўся, адна дражджа засталàся.* Нсл.

•**дражні́ць**-*ню-ніш-не, несоверш., каго-што,* **1.** дразнить. Шсл.; Ар.; МГсл.; Тмб. (Даль 504); Нсл. 144. *Не дражні сабак ты, ціхенька йдзі.* Ст. *Соверш.* **падражні́ць, а)** подразнить. Ар.; Шсл. *Падражніў сабаку.* Ар., **б)** подзадорить. Нсл. 446; БНсл. *Дождҗык толькі падражніў зямлю.* Нсл.

**2.** растравлять. Нсл. 144. *Не дражні болькі: удражніш, ня борзда загоіцца.* Нсл.

**дражне́ньне**-*ня-ню, отгл. имя сущ. к дражніць в 1-ом и 2-ом зн.*

**дражненьне малацьбы**—игра, состоящая в подражании молотьбе. НК: Очерки, Но. 576.

**удражні́ць,** *соверш.* **1.** раздражить, разъярить. Нсл. 652. *Удражніш сабаку, укусіць.* Нсл.

**2.** растравить. Нсл. 652. *Не ўдражні каўтуна.* Нсл. *Удражніў скўлу, дык яна есца. Прич.* **удражнены, 1.** раздраженный, разъяренный. Нсл. 652. *Удражнены сабака пакусаў.*

**2.** растравленный. Нсл. 652. *Удражненая рана ня борзда гоіцца. Отгл. имя сущ.* **удражне́ньне**-*ня, предл.-ню*—растравление. Нсл. 652. *Удражненьне раны.* Нсл.

•**дражні́цца**-*нюся, дра̀жнішся, несоверш.* —дразниться, Шсл.; Ар. дразнить, Дсл. дразниться, делать насмешки, передразнивая. Нсл. 144. *Не дражніся, а то й цябе будуць дражніць.* Нсл. *Дра̀жніцца зь дзяцём.* Ст. *Зубы вышчырыў, быццам сьмяецца; язык высалупіў, быццам дра̀жніцца.* Дсл. *Соверш.* **падражні́цца**—подразниться. Ар.; Шсл.

•**дра́ка**-*акі-аццы, ж.* **1.** железный инструмент на подобие циркуля для более плотного припуска бревна во время постройки. Сьвеча Беш. (Ксл.). *Возьмі драку — будзем ставіць драку.* Тм. *Уменьш.* **драчка.** Варсл. *Цесьлі згубілі драчку.* Варсл.

**2.** выемки в бревнах, произведенные вышеуказанным инструментом для более плотного прилегания друг к другу. Асінаўка Беш. (Ксл.). Варсл. *Тата прадзірае бярно, а дзядзька выбірае драку на бярне.* Варсл. *Каб бёрны штчытна прыходзілі адно да аднаго — выбіраюць драку.* Сьвеча Беш. (Ксл.).

•**дра́ла**—бегом, БНсл.; Нсл. 144. удрать, пуститься в бегство. Гсл. *Я адтуль драла барждҗэй.* Нсл. *Драла дзярнуў, даў.* Нсл.

•**дра́лам,** *нареч.*—бегом(убегая, С.). Нсл. 145; БНсл. *Дралам пабег, уцёк.* Нсл.

•**дра́ма**-*мы-ме, ж.*—драма.

•**драма́,** (*област. произношение* **дрыма, С.**)-*мы̀, ж.* **1.** дремота. Дсл. 185; Бяльсл. *Пачаў сон малайца таміць, і з ног драма валіць.* Дсл. *См. дрымота.*

**2.** растение, служащее лекарством для сна. Дсл. 186. *На гэтым лузе найбольшы (замест найболей, С.) дрымы.* Смал. (Дсл.).

•**драмату́рг**-*ўрга, предл.-ўргу, зват.-ўржа*—драматург.

•**драмату́ргія**-*іі-іі, ж.*—драматургия.

•**драматургічны,** -*ная-нае*—драматургический.

•**драматызава́ць**-*зўю-зўеш-зўе, несоверш., перех.*—драматизировать.

•**драматызаца**-*цы-цы, ж.*—драматизация.

•**драматы́зма**-*мы-ме, ж.*—драматизм.

•**драматы́чны,** -*ная-нае*—драматический, драматичный.

•**драмава́ць** , -*мўю-ўеш-мўе, несоверш.*—дремать, подремывать. Гсл. *Соверш.* **задрама́ць**-*млю, задрэмеш-ме.* Ар.

•**драмлі́вы**-*вая-вае*—наклонный ко сну, к дремоте. Дсл. 185. *Санліва поле, драмліва.* Смал. (Дсл.).

•**драмлю́г,** *м.*—хищная птица из семейства соколиных, содержалась для охоты. Ст. 1529, сл.

•**драму́тка**-*ткі-тцы, ж.*—легко поддающаяся дремоте. Гсл.

•**дрангі́ль,** междометие означающее мгновенное колебание. Нсл. 145. *Стол дрангіль, і зь місы плісь.* Нсл.

•**драні́ца**-*цы-цы, ж.* **1.** дранка(дощечка). Ар.; БНсл.; Варсл.

**2.** *только в мн. ч.* **драніцы**—кровельный материал из длинных узких дощечек, Ар.; Шсл.; Ксл.; Гсл. дранка. *Дàўна крылі стрэхі драніцамі.* Варсл. *На істопку дастаў драніц.* Ст. *Хата пакрыта драніцамі.* Мікалаёва Куз. (Ксл.). *Дзерава й драніцы сабе браў і дом збудаваў.* Гордз. Ак. XYII, 2.

•**драні́чнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—мастер изготовляющий дранку. Варсл.

•**драні́чны**-*ная-нае*—дранковый. БНсл.

•**дранку́лі**(*одна* **дранку́ля**)-*ль*—ружейная картечь(крупная дробь, С.). НК: Игры, Но. 39. *Уменьш.* **дранку́填лькі**-*каў(-ляк)*,(*одна* **дранкулька**)—ружейная картечь, НК: Очерки, 528; Ар. вид дроби, небольшие пули. Ксл. *Аддай мне гэтыя дранкулькі, а я табе дам пораху.* Баравыя Куз. (Ксл.).

•**драннь**-*ні, собир.*—кровельный материал из длинных узких дощечек. Шсл. *Хата пакрыта дранньню.* Рудзенск Сьміл. (Шсл.).

•**драньнё**-*нѐ, у драньню*—дор, Дсл. 184. гонт. Юрсл.

•**дра́ньнік**-*іка, предл.-іку, м.*—блин из тертого картофеля. *Кажны дзень драньнікі.* Хведараўка Краснап.(Бяльсл.).

•**дранчу́к**-*укà, м., област.*—яичница на сковороде. Ц. с. Барада Пар. (Дсл.).

•**драп**-*пу, предл. и зват.-пе, м.*—болезнь, более собачья, зуд. Нсл. 145; БНсл. *Хварэць на драп.* Нсл. *Сабака драпу набраўся.* Нсл. *См. сьверб, драчая.*

•**драпа́к**-*кà, м., област.*—пружинная борона. Вішкавічы Чаш. (Ксл.). *См. дзярбак.*

•**дра́пала**-*лы, общ.* **1.** царапающий-щая. Нсл. 145. *Драпала гэты падрапаў рукі.* Нсл.

**2.** выдирающийся откуда-л. Нсл. 145. *Ня ўседзе драпала гэты, дзярэцца з улоньня далоў.* Нсл.

•**драп-ану́ць**-*нўць,—см. под драпаць.*

•**дра́паньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ.* (*к драпаць, драпацца*)—царапание когтями(всякое, С.). Нсл. 145., царапание. Вост. (Даль); БНсл. *Зьвера няма, толькі драпаньне відаць.* Нсл.

•**дра́паць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** царапать. МГсл.; ПНЗ; Нсл. 145; Вост. (Даль); БНсл. *Кот драпае падушку.* Нсл. *Сялàк, нешта думаючы, драпаў патыліцу.* Варсл. *Прич.* **дра́паны**—царапанный, имеющий царапины, Нсл. 145. оцарапанный. БНсл. *Пакажы драпаную рукỳ.* Нсл. *Соверш.* **задра́паць**—схватив когтями, растерзать. Нсл. 164. *Ліс задрапаў зайца.* Нсл. *Прич.* **задра́паны**—разорванный(растерзанный, С.) когтями. Нсл. 167. *Курыца задрапаная каршуном.* Нсл. *Соверш.* **падра́пацъ**—поцарапать. Нсл. 446; БНсл. *Падрапаць цела, скуру.* Нсл. *Прич.* **падра́паны**—поцарапанный. Нсл. 446; Растсл.; БНсл. *Усі рукі падрапаны катом да крыві.* Нсл.

**2.** драть. Нсл. 145; Вост. (Даль). *Грэбенчык драпае галаву.* Нсл.

**3.** тихонько уходить, Нсл. 145. поспешно уходить. *Куды ты ўсё драпаеш?* Нсл., —старательно идти. Шсл. *Драпаў, драпаў, ледзь прышоў парою дамоў.* Ст.

**драпану́ць, дра́пнуць,** *однкр.* **1.** (*к драпаць 1,2*). *Кот драпануў рукỳ.* Нсл. 145.

**2.** (*к драпаць 3*). Нсл. 145, улепетнуть. *Дзеўка драпанула двору.* Маластоўка Краснап.(Бяльсл.). *Наша цешча нèкуды драпнула, драпанула.* Нсл. *Адам, як уцякаў ад паліцы, дык драпануў раўком у балота.* Варсл. *Вырваўся ды як драпанець — толькі й бачылі яго.* Ст.

**абдра́пацъ,** *соверш.* (*к драпаць 1,2*). *Кот абдрапаў рукі.* Нсл. 346. *Кот капцюрамі абдрапаў імне палец.* Бяльсл. *Прич.* **абдрапаны**—оцарапанный. Нсл. 346; Бяльсл. *Абдрапаны від.* Нсл. *Не магу курдопы чысьціць: палец абдрапаны, баліць.* Арцёмаўка Міласл.(Бяльсл.).

**адра́пацъ,** *соверш. к драпаць 1,2. Кот адрапаў рукỳ.* Нсл. 360. *Прич.* **адрапаны**—оцарапанный. Нсл. 360. *Адрапаная рука разбалелася.* Нсл. *Однкр.* **адра́пнуць**—оцарапнуть. Нсл. 360. *Кот адрапнуў від.* Нсл.

•**дра́пацца**-*аюся-аешся, несоверш.* **1.** царапаться. Нсл. 145; Вост.(Даль); Дсл. 189. *Кот драпаецца лапамі.* Нсл. *Грэбенчык драпаецца.* Нсл. *Як каты, драпаюцца.* Дсл. *Однкр.* **дра́пнуцца**—царапнуться. Нсл. 145. *Дра̀п-*

*нуўся ногцямі.* Нсл. *Соверш.* **адра́пацца**—оцарапаться. Нсл. 360. *Адрапаўся аб сук.* Нсл. *Однкр.* **адра́пнуцца**—оцарапаться. Нсл. 360. *Неасьцярожна адрапнуўся аб сук.* Нсл.

**2.** чесаться, драть себя ногтями. Нсл. 145. *Ня драпайся, надрапаеш больку.* Нсл.

**3.** выдираться из засады, лезть куда-л. Нсл. 145, скрестись. *Кот драпаецца вон.* Нсл. *Сабака драпаецца ў хату.* Тм.

**4.** карабкаться(взбираться, С.). Нсл. 145; Бяльсл. *На сьцяну, на дзерва драпацца.* Нсл. *Ня драпайся ты на гэту ігрушу, там нічога няма — ўсё ўжо абарвалі.* Вушакі Чэрык. (Бяльсл.).

**абдра́паваццa**-*пуюся-пуешся, несоверш.* —оцарапываться. Нсл. 346. *Дзяцё, седзячы ля яграсту, абдрàпуецца, абдрàпалася.* Нсл. *Соверш.* **абдрапацца.** Нсл. 346.

•**драпа́ч**-*ачỳ, предл.-чỳ, м., бот.*—ворсянка. Верас. *См. шчаткі.*

•**драпа́чка**-*чкі-чцы, ж.*—сапожный инструмент вытирать деревянные гвозди в сапоге. Бяльсл. *Падай драпачку гваздочкі выцерці ў боце, бо ногі будуць муляць.* Тур'я Чэрык. (Бяльсл.).

•**драпачы́(драпачэ,** Шсл.)-*оў, мн. ч.*—пружинная борона. Шсл. *Драпачамі дзяруць дзярно.* Скрыль Пух. (Шсл.). *См. дзярбак, драпак, драпач.*

•**драпе́жаньне**-*ня, предл.-ню, ср.* **1.** жестокое телесное наказание. Нсл. 145.

**2.** грабительство. Нсл. 145. *Войта здàлілі за драпежаньне.* Нсл.

•**драпе́жнасьць,** (Гсл.)-*ці, ж.*—хищность.

•**драпе́жнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** грабитель, обдирало. Гсл.; БНсл.

**2.** хищник. БНсл.; Варсл. *Драпежнікі бываюць вялікія й малыя.* Варсл.

•**драпе́жнічаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* (БНсл.) —быть хищником.

•**драпе́жны**-*ная-нае*—хищный. Нсл. 145; БНсл. *Драпежная птушка.* Нсл.

•**драпе́жыць**-*жу-жыш-жа, несоверш.* **1.** драть, сечь жестоко. Нсл. 145. *Аканом ні зà шта нас драпежа.* Нсл.

**2.** грабить, брать взятки. Нсл. 145. *Паддàных маіх драпежыш.* Нсл.

**3.** драть, портить. Варсл. *Куры драпежаць грады.* Варсл.

•**драпе́ства**-*ва, предл.-ве, ср.* **1.** грабительство(грабёж, С.). Гсл.; Нсл. 145; БНсл. *Драпествам зголіў нас.* Нсл.

**2.** хищничество. БНсл.

•**дра́піна,** -*ны-не, ж.*—царапина. БНсл. *Уменьш.* **дра́пінка**-*нкі-нцы.* БНсл.

•**драпу́н,** -*унà, предл.-унè, зват.-ỳне, м.* —тычковая фасоль. Бяльсл. *Пад вокнамі расьцець драпун.* Хведараўка Краснап. (Бяльсл.).

•**драсён(дросень**-*сьня,* Шсл.), *м.*—трава горчак, почечуйная трава. Шсл.(*под дросень*). БНсл. *Там — прыветныя рамонкі і драсён, і каласы.* Крушына: Творы, 62. *На балотцы ўзяўся дросень.* Ст.

•**дратава́нка**-*нкі-нцы, ж.*—плеть, свитая из пеньковых волокон и обвитая для крепости отдельно свитой веревочкой. Шсл.; Варсл. *Добра ўкàпнуў яму дратаванкі.* Ст.

•**дратава́ць І**-*тỳю-тỳеш-тỳе; повел.-тỳйтỳйма, несоверш., перех.* **1.** делать что-л. из проволоки. Нсл. 146. *Дратаваць клетку.* Нсл.

**2.** креплять, связывать что проволокою. Нсл. 146. *Майстра гаршкі дратуе.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **дратава́ньне**-*ня, предл.-ню*—оплетение проволокою. Нсл. 146. *Дратаваньне клеткі, гаршка.* Нсл.

**3.** свитую плеть, веровочку обвивать для крепости отдельно свитой веревочкой, Ар. вить из трех витушек. НК: Очерки, Но. 757; Ар.

**4.** сечь кнутом, Нсл. 146. сильно избивать плетью или веревкой. Шсл. *Разбойніка дратавалі нядаўна.* Нсл. *Як стаў яго дратаваць, дык ледзь жывога пусьціў.* Ст.

**дратава́ны, 1.** *прич.* (*к дратаваць І*)—плетенный из проволоки. Нсл. 146. *Дратаваная клетка.* Нсл.

**2.** (*к дратаваць 2*)—укрепленный проволокой.

**3.** (*к дратаваць 3*)—витый из трех витушек. НК: Очерки, Но. 757; Ар.; Ксл. *Дратаваная пуга. Я зьвіў сабе дратаваную пугу.* Сянно (Ксл.).

•**дратава́ць ІІ**-*тỳю-тỳеш-тỳе, несоверш., перех.* — топтать посевы, траву. Шсл.; Ар.; Ксл. *Коні дратуюць Апанасава жыта.* Чараўкі Сян. (Ксл.). *Коні ходзяць па жыце — дратуюць яго.* Ст. *Соверш.* **здратава́ць** —истоптать посевы. Ар.; Шсл. *Коні здратавалі ячмень.* Ст. *Прич.* **здратава́ны** —истоптанный(о посевах). Ар.; Шсл. *Чыста ўся пшаніца здратавана.* Ст. *Здратаванае жыта мітусіцца ў ягоным аччу.* Цялеш: Дзесяць, 34.

**задратава́ць,** *соверш.*—засечь подковой заднюю мягкую часть копыта или ободрать кожу на ноге другим копытом. Шсл. *Конь задратаваў у дарозе капыты.* Раўнапольле Сьміл. (Шсл.).

**задратава́цца** — *задратавàць.* Шсл. *Конь задратаваўся.* Раўнапольле Сьміл. (Шсл.).

•**дра́тва**-*вы-ве*: *мн. ч., род.-ваў, ж.*—прочная просмоленная или навощенная нитка для шитья обуви, кожаных изделий. дратва. Ар.; Шсл.; Ксл. *Падай мне дратву — трэба боты шыць.* Сянно (Ксл.).

•**драты́(дратэ)**-*оў-ом, у дратох, единств. ч. нет., м.*—веялочные сита. Шсл. *Устаўце дратэ каласаваць амеці.* Харавічы Сьміл. (Шсл.).

•**дравасе́чы**-*чага, м.*—дровосек, колющий дрова. НК: Под.пос.34. *См. сякач 2.*

•**драву́шачы,** -*чая-чае*—молоко, сыр, масло от первотёлки (*"дравушкі"*) получаемые.

**драву́шачае масла**—коровье масло от *"пярвосьценкі"* коровы. Прычшы Росл. (Дсл.).

•**драву́шка,**—*см. под дроўка.*

•**драцоўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—лопата. Навасёлкі Сян. (Ксл.). *Тутацькі трэба драцоўка.* Навасёлкі Сян. (Ксл.).

•**драця́к**-*яка̀, предл.-кỳ, зват.-я̀ча; мн. ч.-кі̀-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м. — дратава̀нка.* Варсл. *Драцяк — пуга, зьвітая з трох столак(аборачак).* Варсл. *Пастушок начапіў новы драцяк.* Тм.

•**драцяны́**-*на̀я-ное*(**драця́ны,** Гсл.; Растсл.)—проволочный. Растсл.; Ар.; Вят.; Кур.; Варн. (Даль); Шсл. *Паглядзеў, што няма ўжо драцяное загарадзі.* Адамчык: Арж. колас. *У яго пужка ды драцяная.* Росуха Імгл.(Косіч 59). *Купілі драцяны̀я сіты.* Ст. *Пуга крэпкая, усяроўна як драцяна̀я.* Ст.

•**драціна́,**—*см. под дрот.*

•**драч**-*ча̀, предл.-чỳ, зват. дра̀чу; мн. ч.-чы-чоў-чом-чы-ча̀мі-чох, м.* **1.** птица коростель. Пацкава Сян. (Ксл.); Нсл. 145; Шсл.; Дсл.; Гсл.; БНсл.; Бяльсл. *На балоце крычыць драч.* Ст. *Уменьш.* **драчык.** Дсл. *Драчык у васаццэ крычыць.* Дсл.

**2.** плотницкий инструмент для обозначения линий паза. Ст. *Пазыч мне драча: бартаваць брярвеньне буду.* Ст.

**3.** кнут. Ксл. *Вазьмі драч із сабой, тады каняга лепей пабяжыць.* Вяжышча Беш. (Ксл.).

•**драчона**-*ны-не, ж.* **1.** род лепешки, выпекаемой из только лишь вкисшего теста, жиже хлебного, но гуще блинного. Драчоны смазываются сверху маслом, салом или медом. НК: Очерки, 8.

**2.** лепешка из сырого картофеля с салом, Ксл.; БНсл. толстая лепешка с салом, Гсл. не очень крутое тесто, сжаренное на сковороде. Смал. (Дсл.). *Госьці елі драчоны.* Асіпова Аз. (Ксл.). *Пякуць драчону.* Смал. (Дсл.). *Драчона дужа смачна̀я.* Ельн. (Дсл.). *Надзяры бульбы, дык я табе сьпяку смачнỳю драчону.* Слаўнае Імсьц. (Бяльсл.).

**3.** лепешка из пшеничной муки с яйцами и салом или маслом. Бяльсл. *Дай мне кавалак драчоны, твая матка дужа смачна пячэць.* Балакеры Імсьц. (Бяльсл.).

**драчоніна**-*ны.* НК: Очерки, 8—одна *"драчона".*

•**дра́ча**-*чы-чы, ж.* **1.** мёрзлая, не покрытая снегом земля. Юрсл. *Па дра̀чы ўраз вобуй рассыпецца.* Юрсл.

**2.** снег на дороге, замёрзший после оттепели. Юрсл.

•**драчая́**-*аі̀-аі̀, ж.*—болезнь, состаящая в зуде всего тела. Нсл. 145. *Драча̀я цябе бярэць, што ты ўсе скрабешся.* Нсл.

•**драчэць,** *безлич.*—чесаться, зудеть. Шсл. *У вусе вельма драчыць.* Ст. *Нешта драчыць у горле.* Ст. *См. сьвярбець.*

•**дра́чка**-*чкі-чцы, ж.* **1.** тёрка, Гсл. кухонная тёрка. Смл.; Ксл.; Дсл. 135; БНсл.; Бяльсл.; Юрсл.

**драчка круп**—тёрка крупы. Дсл. *Драчка зламілася, і бульбы надзерці няма чым.* Васілеўка Хоцім. (Бяльсл.). *Зьдзяры бульбу на драчку.* Леніна Сур. (Ксл.)

**2.** щетка с деревянными гвоздями, на которой чешут лён. Ксл. *На гэтай драчцы ўжо ня спусьціш лёну.* Шчарбакі Сір. (Ксл.)

**3.**—*см. под драка I.*

•**дра́чкі**-*чак, единств. ч. нет.*—щетка для чесания льна, *дра̀чка 2. Мама прывязала драчкі да столу: будзе абдзіраць лён.* Варсл.

•**драчы́,** -*оў-ом, у драчох* (*один драч*) —оладьи из тертого сырого картофеля. Бяльсл. *Сядні я пякла драчы.* Хведараўка Краснап. (Бяльсл.).

•**дрэбязь**-*зі, ж. — дробязь.* Шсл. *Што гэта за яблыкі — нейкая дрэбязь.* Матарова Сьміл. (Шсл.).

•**дрэбы**-*аў — драбы.* Шсл. *Вось жа захудаў статак: адны дрэбы тырчаць!* Ст.

•**дрэгаць**—колотить при езде. Шсл. *Вось жа дрэгае на калёсах!* Войстрава Сьміл. (Шсл.). *См. дра̀гаць.*

•**дрэпаць**—чесать, царапать. Шсл. *Кот дрэпае ў дзьверы.* Ст. — *дра̀паць.*

•**дрэпацца**—царапаться. Шсл. *Што ты ўсё дрэпаешся ў галаве?* Ст. — *дра̀пацца.*

•**дрэц,** *дрыца̀, мн. ч.-цỳ, м.*—помещение для охотника за медведем на дереве, палати. Дсл. 186. *Сеў на драцу.* Дсл.

•**другое,** *вставное слово*—во вторых. *См. под першае.*

•**другодзень,** *нареч.*—второй день. Нсл. 146. *Другодзень чакаем яго.* Нсл. *У другодзень прыедзеш,*—т.е. завтра или далее. Нсл.

•**другосьценка**-*нкі-нцы, ж.*—корова второго отеления. НК: Очерки, 3.

•**Другая Прачыстая**—праздник 8 сентября. Шсл. *На гэтым тыдні будзе другая Прачыстая.* Ст.

•**другадзенны**-*ная-нае*—вторничный.

•**дру́гадзень**-*дня, м.*—вторник. Гсл.; Пц.; Кацельня Пц.; Магілеўшч.; Ст.; Слабада, Крывулькі і інш. Люц. пав.; Дсл. 187; БНсл. *Сядні дрỳгадзень.* Дсл.

•**другадзїчка**-*чкі-чцы, ж.*—животное, имеющее два года. НК: Очерки, Но. 540, двулетняя тёлка. Мікалаёва Сір. (Ксл.).

•**другажэнец**-*нца, предл.-нцу, зват.-нча, м.*—женатый на другой. Дсл. 187.

•**друга́к**-*ака̀, предл.-акỳ, зват.-а̀ча; мн. ч.-кі̀-коў-ком-кі-ка̀мі-кох, м.* **1.** двулеток (говорится о жеребенках, Нсл.). Лужасна Куз. (Ксл.); Нсл. 146. *Прадай імне свайго другака̀.* Нсл.

**2.** животное по другому году. Дсл. *Майго другака воўк зьеў.* Дсл.

**3.** второй рой, вышедший из улья в известное лето. Дсл. 187. *Другака свайго агроб.* Дсл.

**4.** второй, вторичный. Гсл. *Уменьш.* **другачок**-*чка̀,* **1.** жеребенок — самец по второму году. НК: Очерки, 355; Нсл. 146.

•**ду́жацца**-*аюся-аешся, несоверш., зь кім* —бороться, МГсл. схватившися друг с другом, стараться осилить противника, бороться. Ар.; Шсл.; Вост. (Даль). *Дзяцюкі дужаюцца.* Ст.

**паду́жацца зь кім**—*посостязаться* (*помериться,* **С.**) силами, Нсл. 191; Шсл. побороться. *Ну, хлопцы, хто з імной падужацца хоча, падходзь сюды!* Ст.

•**дужэль,***дужаля̀, предл.-лю̀, зват.-жэлю; мн. ч.-лі̀-лёў-лём, мн. ч., предл.-лёх, м.*—борец. Рымавічы Аш.

•**дужэразны**-*ная-нае*—весьма сильный. Шсл. *Ён дык дужэразны: адзін хвою падыйме.* Ст.

•**дужэц**-*жцу̀, предл.-жцу̀, м., бот.*—шалфей аптекарский. Верас.

•**дужэць**-*эю-эеш-эе; повел.-эй-эйма, несоверш.* **1.** становиться крепче, сильнее, Ар.; Шаркі Куз. (Ксл.); Нсл. 148; Дсл. 191. становиться громче, сильнее и пр. Гсл. *Хлапец, што расьцець, дужэе.* Нсл. *Вецер так і дужэе.* Дсл.

**2.** становиться здоровее, приходить в большую силу, Нсл. 148. поправляться после болезни. Дсл. *Просьле хваробы, тата дужэе, падужэў.* Нсл. *Соверш.*

**аду́жаць**—поправиться после болезни. Дсл. *Наш Міхась адужаў просьле гаручкі.* Дсл.

**3.** (*перен.*)—богатеть. Дсл. *Нашы селакі ўсё дужэюць.* Дсл.

**падужэць,** *соверш.* (*к дужэць I*) **1.** стать крепче, сильнее. Ар.; Шаркі Куз. (Ксл.); Нсл. 448. *Вецер падужэў.* Нсл.

**2.** стать здоровее, прийти в большую силу. Ар.; Шаркі Куз. (Ксл.); Нсл. 148. *Тата просьле хваробы падужэў.* Нсл. *Падрасьцець, дык падужэе.* Шсл.

•**ду́жка**-*жкі-жцы, ж.* **1.** птичья грудная кость с развилинкой, Ксл. грудная кость у птиц на подобие двух разжатых пальцев; душка. Нсл. 147. *У вераб'я дужка меншая, чымся ў шпака.* Сянно (Ксл.). *Разломім з табою дужку, хто з нас даўжэй будзе жыць.* Нсл.

**2.** согнутая в круг розга(ребро) у плетенной корзины. Еўлічы. *См. лук в 2-ом зн.*

**3.** дверная скобка. БНсл.

**4.**—*см. под дуга.*

•**ду́жкі**-*каў, единств. ч. нет,* **1.** борьба, когда *"дужаюцца".* Ар. *Пойдзем у дужкі.* Ар.

**2.** (*грам.*)—скобки. *Узяць у дужкі.*

•**дужы́,** (Дз.), **ду́жы,** (Шсл.; Ар.; Нсл.)-*жа̀я-жое, именная* (*краткая*) *форма* **дуж-жа, 1.** сильный, Ар.; Шсл.; Нсл. 147; Дз.; Вост., Вят., Твер, Кал. (Даль) силен, здоров. Гсл. (*Бог*) *ест моцны й дужы.* Кіт. 75 б. 6. *Дужы, як мядзьведзь.* Ст. *З дужым ня біся, з багатым ня судзіся. Послов.* Дукора Сьміл. (Шсл.). *Хто дуж, той і пруж* (прав). *Послов.* Ст. *Ці дуж ты, ці здароў?* Нсл.

**2.** крепкий. Нсл. 147. *Дужы рэмень.* Нсл.

**3.** *в знач. сказуемого,* **дуж,** *дужа, дужа*—в состоянии. *Хто не грашыць словам, той дасканалы муж, які дуж закілзаць і ўсе цела.* Луцк.: Пераклад лісту апост. Якава, 3:2.

**4.** *с отрицанием "не"*: **ня дуж, а**) не в состоянии. *Сам вельмі зьнішчаў*(*старая хорма*) *і ня дуж з тэй зямлі дані даваці.* Гордз. акты, XYII, 3. *І можа толькі той збаіцца падзей вялікіх нашых дзён, у кім жыцьця ня б'е крыніца, хто сьпіць і здолець ня дуж сон.* Жылка, 26. **б**) не соответствующий силами. Нсл. 331. *Хлапец яшчэ ня дуж на гэту работу.* Нсл. *Ср. ст.* **ду́жшы**—сильнее, более сильный. Ар.; Нсл. 148; Трэпана Грэбля Ягоцінскага раёну, Прылуцкае акругі(Курило: Матеріяли до укр. діялектольогії). *Ён дужшы за мяне.* Нсл. *Хто дужшы, той пружшы.* Нсл. *Хто быў дужшы, той грунт лепшы карыстаў.* С. Музыка, 102. *Прев. ст.* **найду́жшы**—самый сильный, сильнейший. Ар.

**дужа,** *нареч.* **а**) очень. НК: Старцы, 92; Гсл. сильно, очень, ПНЗ. очень, весьма. Нсл. 147; Дсл. 206; Малады Туд(Гринькова IУ, 323, 325). *Нешта ж у вас дужа сьцюдзенянька.* НК: Старцы, 92. *Дужа ты патрэбен, як пятая нага сабаку.* Нсл. *Дужа прасіў прысьці.* Нсл. *У вусім ім было нешта дужа старадаўняе.* Цялеш(Ярылаў агонь). **б**) здорово, сильно, крепко, (Нсл. 147); Гсл. *Дужа падцягнуў.* Нсл. **с**) громко. Гсл. *Прев. ст.* **дужэй**—крепче, сильнее, Нсл. 148. сильнее, громче. Дсл. 191. *Цягні дужэй.* Нсл. *Дужэй трэба біць.* Нсл. *Крычы дужэй.* Дсл. *Во мы̀ зараз дамо нурца з табою ў вадзяную глыб, у вадзяное гаспадарства — дзяржыся ж дужэй за мой пояс.* Смал. (Дсл.).

•**ду́йма.** *нареч., укрепляет глагол дзьмуць.*

**дуйма дзьмець**—сильно дует. Гсл.

•**дука́р**-*ара̀, предл.-ару̀, зват.-ару; мн. ч.-ры-роў-ром; мн. ч., предл.-рох, м.* **1.** дока. Гсл.

**2.** фокусник. Гсл.; Сакуны 79.

•**дука́т**-*ата, предл. и зват.-це, м.*—(даўнейшая срэбная, адлі залатая манэта, **С.**)—червонец. Гсл.; Нсл. *Ня дуката заробіш, ня дуката страціш. Послов.* Нсл. *Пан дукатамі так і сыпе.* Тм. *Уменьш.* **дука́цік.** Нсл. *Не пажалей нам даць дукаціка на гэтую справу.* Нсл.

•**дукава́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ.* (*к дукаваць*)—наставление, убеждение. *І чаго гэта, мальча, ды да цябе не даходзе ніякае дукаваньне?* Юрсл.

•**дукава́ць**-*кую-куеш-куе; повел. куй-куйма, несоверш., перех., област.*—наставлять, доказывать, убеждать. Юрсл.; Іг. *Што ты мяне дукуеш?* Іг. *Дукую-дукую сына, а ён і слухаць ня хоча.* Юрсл.

•**дукава́цца,** -*куюся-куешся , несоверш.*-кривляться. Шсл. *Ня дукуйся ты надта!* Ст.

•**ду́крыць**-*ру-рыш-ра, несоверш.*—понимать, Ксл. смекать. *Мая малая ўжо нешта дукрыць.* Горкі Аз. (Ксл.). *Соверш.* **наду́крыць,** *перех.*—настроить кого. Ксл. *Гэта ён яго надукрыў.* Бікложа Беш. (Ксл.).

*Соверш.* **удукрыць**—вбить в голову, Ксл. втемяшить. *Удукрыў, дык палкай ня выбіць.* Луб'ева Аз. (Ксл.).

**уду́крыцца,** *соверш.*—влезть в голову, Ксл. втемяшиться. *Дурню як удукрылася ў галаву, што ён майстра.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**ду́ла,** *предл.-ле; мн. ч. дулы, ср.*—залив реки, соединяющийся с рекой или отделенный от реки наносным песком. Дсл.

•**дуле́лы**-*лая-лае*—гнилой. Дсл. 191.

•**дуле́ць**-*лее, несоверш.*—гнить (в *"дуле"* или как в *"дуле"* **С.**). Дсл. 191. *Сена дулее ад дажджу.* Дсл. *Дулее сухая быліна ў пяньцэ.* Дсл.

•**дулёука**-*ўкі-ўцы, ж.*— *дуля 2.* Юрсл. *Дулёўкі ўрадзілі — па хунту.* Юрсл.

•**ду́ля**-*лі-лі; мн. ч., род.-ль(-ляў)* **1.** груша (дерево, родящее большие груши). Гсл.; Ар.; ПНЗ; Юрсл. *У нашым садзе дзьве дулі, а на гумнішчу — ігруша.* Ар. *Зьмерзла чатыры дулі.* Юрсл.

**2.** плод дерева *"дулі"*, Ар.; Шсл.; ПНЗ. большая груша. НК: Очерки, Но. 72; Русінава Сян. (Ксл.) *На зіму насушылі дуль.* Ст.

**3.** шишь(кукиш, **С.**). Ар.; ПНЗ; Шсл.; Ксл.; НК: Очерки, 72. *Вось табе дуля пад нос.* Нсл. *На, табе дулю ў нос!* Ст. *Падвязі, памей к нам ласку. — Вох, разумны йдзе знашоўся! Маеш дулю, пане Грыцу! Не з такім, браток, зышоўся!* Гарун: Кан. Паўлючонка.

**4.** кулачный удар в лицо. НК: Очерки, Но. 72.

**ду́ліна**-*ны-не*—одна *"дуля" в 1-ом и 2-ом зн.* НК.: Очерки, Но. 72. *Купіў дуліну, няхай сядзіць.* Юрсл. *Ці хочаш дуліну: цьвердавата, але дужа салодкая.* Тм.

**ду́лька**-*лькі-льцы, уменьш. к дуля 1, 2.* Ар.; Шсл.; Нсл. *Пасадзіў пяць дуляк, можа прымуцца.* Юрсл. *Што й пад дулькаю, пад ігрушкаю сядзіць галуб із галубкаю.* Жукова Імгл.(Косіч 60). *Падбіраць дулькі.* Нсл. 148. *На, ізьеж дульку.* Ст. *Нашы дулькі яшчэ цьвярдыя.* Ар.

**дулечка**-*кі, уменьш. к "дулька".* Ар.; Нсл. 148.

•**дулу́ках,** (*из далоўках*), *нареч.*—внизу. Тв.-Рж. (Даль). *Ляжы не вярціся, у дулуках будзеш!*—лежи смирно, упадешь. Рж. (Даль).

•**дулу́кі,** (*из далоўкі* **С.**), *нареч.*—вниз. Ксл. *Зваліўся Сяргейка зь печы дулукі й крычыць.* Селішча Гар. (Ксл).

•**ду́лька**-*лькі-льцы, ж.*—очень мелкое волокно, которое сыпется при растрясании льна. Варсл. —прыль, мусор. *Зьмяці, дачушка, дульку й выкінь на сьметнік.* Варсл. *Ср. дула, дул-елы-ець.*

**2.**—*см. под дуля.*

•**дум I,** *дума, предл. думу, зват. думе, м.*—думчий. Дсл. 192. *На пярэймы ім сьвяты Полхва; ён із думамі, з баярамі, із сваімі войстрымі мячамі.* Дсл.

•**дум II,** *дума, предл. и зват. думе, м.* —дюйм Дсл. 192. *Восьмі дум, дзевяць дум(як мераюць дзервы).* Ц.с. Высачэрт Пар. (Дсл.).

•**дума́**-*мы; мн. ч.-мы-маў, ж.* **1.** дума, мысль. Ксл.; Нсл. 148; Шсл. *І задумала я думу вялікую.* Вярхоўе Беш. (Ксл.). *Нейкая цяжкая дума залезла ў галаву.* Ст. *Думае думу вялікую, паняў радзіну багатую.* Из песни, Нсл. *Уменьш.* **думка**-*мкі-мцы*—раздумье, дума. Нсл. 148. *На думках сядзіць.* Нсл. *Думка думку паганяе.* Тм. *І ў думцы ў мяне ня было гэтага.* Тм. *Першы(перш) было гэтае ў думках.* НК: Пособ. 131. *Ласкат.* **ду́мухна**-*ны-не*—думушка. *Задумала думухну.* Горц.(Кот. 208).

**2.** **дума́**—дума(орган управления, **С.**). МГсл.; Ар.; Нсл. 148, совет городской или общественный. Нсл. 148.

**месцкая дума́**—городская дума. Нсл. 148.

**гаспадарствавая дума́**—государственная дума. *Дума пастанавіла.* Север.(Раст.: Северск. 156).

•**дума́р**-*ара, предл.-ару, зват.-ару; мн. ч.-ры-роў-ром, мн. ч., предл.-ох, м.* (*ирон.* **С.**) —непонятливый, (Бяльсл.) несообразительный. *Ай, які ж ты думар, ніяк у галаву ня возьмеш.* Хведараўка Краснап. (Бяльсл..). *Ср. дум І.*

•**ду́маць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** думать, (Шсл.) полагать, считать, предполагать. Ар. *Яшчэ нешта ён думае.* Ст. *Прич.* **ду́маны**-*ная-нае* (*или: думан-ана-ана*)—думан. *Ці думана ж гэта, каб аб Пакровах пашоў сьнег.* Дсл. 191. *Соверш.* **зду́маць што**—выдумать, придумать, изобрести. Варсл. *Ня дурань здумаў прыказку.* Варсл. *Соверш.* **паду́маць**—подумать. *А яна пагледзела на яго збоку й падумала, што ён адылі прыгожы, а потым адвярнулася й памысьліла: "Ты разумны цяпер разважаць, а йдзе ты сам быў уперад, вайсковы Беларус".* Дзьве Душы, 177. *Соверш.* **узду́маць на каго** *или с прибавленным предложением дополнения,* **1.** вспомнить. Шсл. *Седзячы ў месцкім садку на лавачцы, Абдзіраловіч уздумаў на Іру.* Дзьве Душы, 178. *Ніяк ня ўздумаць, дзе гэта было.* Ст.

**2.** вздумать(неожиданно задумать, пожелать что-л. сделать).

**2.** предеваться раздумью.

**3.** (*праз каго-што*)—думать, заботиться, беспокоиться.

**вы́думаць,** *соверш., перех.*—выдумать, изобрести, (Шсл.) создать воображением; измыслить то, чего не было. *Выдумалі новую машыну.* Ст. *Несоверш.* **выдумля́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма*—выдумывать (измышлять, **С.**) Гсл.; Ар. *Пялі песьні, каторыя самы ж і выдумлялі.* ЗСД. 63. *Вось ён байкі выдумляе, як зладзеяў моцна б'юць.* С. Музыка, 80.

•**ду́мацца**-*аецца, безлич., несоверш.*—думаться. Ар.; Шсл. *Усяляк думаецца чалавеку.* Ст.

**ду́мацца**-*аюся-аешся, несоверш.* — *думаць. А ты як думаешся, так яно й будзе.* Ст.

**дадумацца**-*аюся-аешся*, *соверш.*—додуматься. *Наапошку я дадумаўся, чаго ён ад мяне хоча.* Варсл. *Несоверш.* **дадумляцца**-*яюся-яешся*—додумываться. *Як я яму гэта сказаў, дык ён стаў дадумляцца, калі гэта было.* Варсл.

**задумацца**-*аюся-аешся*, *соверш.*—задуматься. *Несоверш.* **задумляцца**-*яюся-яешся*—задумываться. МГсл. *Сама яна потым задумлялася.*

**надумацца**, *соверш.*—надуматься. *Несоверш.* **надумляцца**—надумываться.

•**думна**, *нареч.* **1.** думается. Нсл. 148. *I так і сяк думна.* Нсл.

**2.** удивительно, сомнение наводит, беспокоит. Нсл. 148. *Мне дужа думна тое, што яго яшчэ няма.* Нсл. *Вох, і думна мне, што яго няма.* Из песни, Зямцы Бельск. п. Смл.

**3.** (думается, **С.**), желается. Дсл. 192. *Як вам думна, прышліце па мяне.* Дсл. *Сват і кажа каралеўне:" Калі думна йсьці замуж, давай нам слова".* Смал. (Дсл.).

•**дум-ка-ухна**,—*см. под дума.*

•**думчы**-*чага*—советник. Ц. с. Леташнікі Росл. (Дсл.). *Цяпер зьберлі думчых санатараў.* Смал., Ельн. (Дсл.).

•**дундуля**-*лі*, *общ.*—болван, верзила, остолоп, долговязый. Раз. (Даль).

•**дундзіць**-*дзіш-дзе*—с азартом сосать. Шсл. *Вунь цялё карову дуньдзе.* Слопішча Шацк. (Шсл.).

•**дупель**-*пля*, *предл.-плю*, *ср.*—дупло. Шсл. *У ігрушы выгніў дупель.* Ст. *См. дуплё.*

•**дуплё**-*ля*, *предл.-лю*; *мн. ч.-лі-ляў*, *ср.* **1.** дупло(пустое место в стволе дерева, **С.**). Гсл.; Ар.; Дсл.; БНсл. *У гэтай елцы дуплё.* Дсл.

**2.** ругательное слово. Дсл. *Маўчы ты, дуплё.* Дсл.

•**дуплявы**-*вая-вае*, (БНсл.)—с дуплом. *У дуплявым дубе малцы расклалі агонь, дык ён згарэў знутра й паваліўся.* Негін Касьцюк.(Бяльсл.).

•**дуплясты**-*тая-тае*—дуплистый. БНсл. *Дуплястае дзерва.* Нсл. 148.

•**дуплінясты**-*тая-тае*—пустой, дупловатый, Дсл. 192. с дуплом. *Прысьнілася потым сыном, што схаваны скарб у дуплінястай ліпе, што ля ракі.* Ельн. (Дсл.).

•**дупліняты**-*тая-тае*—пустой, дупловатый, Дсл. 192. с дуплом. *Дуплінятая іва.* Ельн. (Дсл.).

•**дур**, *дуру*, *предл.-ру*, *предл.*—сумасбродство, блажь, дурь, Ар. сумасбродные глупые мысли. Дсл. *У яе дур вялікі сядзіць. Божа мой, Божа мой, што ты гэта, Марка, уздумаў, які ты гэта дур на галаву сябе навалок?!* Смал. (Дсл.).

•**дуронік**-*іка*, *предл.-іку*, *зват.-іча*, *м.*—(тот, кто шалит, **С.**), шалун (не в укоризненном, а скорее в ласкательном смысле). НК: Пособ. Но. 62; Гсл.; Парх. *Вецер косы ночы заплёў, дуронік.* Дуб. *Ці няма ў вас дуронікаў?(пытаецца старац у гаспадыні).* НК: Старцы, 84. *Вецер-дуронік па полю гуляе.* Рунь, 7.

•**дуроніца**, *-цы-цы*, *ж.*—шалунья. Гсл., *женск. к "дуронік".* Парх.

•**дуронства**-*ва*, *ср.*—шалости, баловство. *Выбіраў найнебесьпячнейшыя пляны, даходзячы рэдчас да ані непатрэбнае рызыкі й дуронства.* ЗСД. 315. *Таго дуронства падахвіцэр ня чуў.* Гарэцкі: Песьні, 52.

•**дуроны**-*ная-нае*—баловень, шалун(не в укоризненном, а скорее в ласкательном смысле), НК: Пособ., Но. 62; Пархв. баловной. Пархв. *Дуроная наша Надзька!* Янкі Беш. (Ксл.).

•**дурань**-*рня*, *предл. и зват.-рню*; *мн. ч., род.-рняў*, **1.** дурак, Нсл. 148; Шсл.; Ар.; Гсл.; Ксл. глупец, Гсл.; Ар.; Ксл. дуралей. *Вырас да неба, а дурань, як трэба*, *послов.*—велика Федора да дура. Ар.; Іг. *Яны пабудзілі дурня.* Н. (Афанасьев, I, 1913, 209). *Дурань даець, а разумны бярэць.* Нсл. 148. *Дурань кашы навара, калі крупы ёсьць.* *Послов.* (Косіч 53).

**ненадсяваны дурань**, (Смл.)—совершенный, абсолютный дурак. Ар.

**дурня клеіць**—дурака валять. Будслаўе.

**бабін дурань**—маменькин сынок. НСл. 3.

**чысты дурань**—набитый дурак. Ар.; Іг.

**2.** карточная игра в дурачки. Нсл. 148; Ар. *Будзем гуляць у дурня.* Нсл.

•**дурасліва**, *нареч.* (*к дурасьлівы*)—шаловливо. *Вочкам бліснуў дурасьліва.* С. Музыка, 151.

•**дурасьлівы**-*вая-вае*—тот, кто часто "дурэе", Варсл. шаловливый. *Зваўся хлопчык наш Савось. Вой, і быў жа дурасьлівы!* Колас("Каласкі", Но. 60-61, 1958 г.). *Вось дурасьлівы гэты хлопец, і часінкі не насядзіць спакойна.* Варсл.

•**дурасьвет**-*ета*, *предл.-ету*, *зват.-еце*, *м.*—хвастун. Бяльсл. *Чаго не набрэша дурасьвет гэты.* Хведараўка Краснап.(Бяльсл.). *Ср. прайдзісьвет.*

•**дурасьць**-*ці*, *ж.*—глупость, МГсл. дурь, Шсл. дур. *Ой, глядзі: выжану ўсю дурасьць ізь цябе.* Ст. *Усе дурасьць робе.* Ст.

•**дурата**-*ты*, *ж.*—(глупый поступок; глупая мысль, **С.**) глупость. Нсл. 148; Шсл.; Дсл. *Ляксей свае дураты ня кідае.* Ельн. (Дсл.). *Есе дурата, ато трэ было б сваё канюшыны пакінуць на насеньне.* Ст.

•**дураваньне**-*ня*, *предл.-ню*—шалости, глупые поступки. Нсл. 148. *Ня Божае кароньне, а сваё дураваньне.* *Послов.* Нсл.

•**дураваць**-*рую-рўеш-рўе*; *повел.-руй-руйма*, *несоверш.*—шалить, дурачиться. Нсл. 148; БНсл. *Ня дуруй!* Нсл. *Дуруеш, паніч.* Нсл.

**здураваць**, *-рую-руеш*, *соверш.*—оплошать. Ар. *Сама здуравала — лядашчыцу зьлюбавала.* Няўзорава Стдуб.(Косіч 10).

•**дураве́й**-*ёя*(-*яя ?* **С.**), *предл. и зват.-ею, м.* — *дурань.* Бяльсл. *Гэта можа зрабіць толькі дуравей, у якога мазкоў няма.* Слаўнае Імсьць.

•**дурэзьлівы**-*вая-вае,* — шаловливый. Шсл. *Міхалёвы дзеці вельма ж дурэзьлівыя.* Дукоршчына Сьміл. (Шсл.).

•**дурэц**-*рца̀, предл.-рцу̀, м.*—растение наркотического, одуряющего свойства; багун, дурман. Нсл. 148.

•**дурэць**-*эю-эеш-эе; повел.-эй-эйма, несоверш.*—шалить, (Шсл.); Ксл. *Андрэй, ня дурэй — хвартух падзярэш: мне татулька купіў, каб Янулька любіў.* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.). *Залішне дурэеш, дзяціна!* Ст. *Благія дзеці дурэюць.* Варсл. *I пашоў меж хвоек ён(вецер) дурэць, гуляці.* Гарун (ст. "Вецер"). *Андрэй, ня дурэй, не дзяры капоты; ні ты праў, ні ты ткаў, ні твае работы.* Ар. *Соверш.* **здурэць**—(утратить способность ясно воспринимать и понимать окружающее, происходящее, **С.**), одуреть. Нсл. 207. *Ці ты здурэў, ці што, што так зрабіў?* Нсл. *Здурэў я, што не парадзіўся з табою.* Нсл. *Соверш.* **надурэцца**—нашалиться. Шсл.; Ар. *Ну, малы̀я, надурэліся за дзень досыць — цяпер пашлі спаць!* Ст.

•**дурэцька**-*цькі, общ.* — *дуронік, дуроніца. Той дурэцька, хто часта дурэе.* Варсл.

•**дурдола**-*лы, общ.*—болван (о бестолковом, глупом человеке, **С.**). Нсл. 148. *Якогась дурдолу прыслалі.* Нсл.

•**ду́рдаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—с трудом будить крепко спящего. Ар. *Соверш.* **разду́рдаць.** Ар.

•**дурлі̂вы**-*вая-вае — дурасьлівы.* Бяльсл. *Дурлівая дзеўка: Ціха не пасядзіць, усіх падыме.* Высокі Бор Краснап.(Бяльсл.).

•**дурносьць**-*ці, ж.* — *дурасьць.* Варсл. *Маладосьць — дурносьць. Послов.* Варсл.

•**дурнота,** (Варсл.)-*оты-оце, ж.* **1.** глупость. *Зарабіў бы грошы, каб не своя дурнота.* Ст. *Бог абраў дурноту сьвету.* Луцк.: 1-шы ліст да Кар. 1:27. *Вы (думы) мае сьцежкі перазь лябірынт дурноты.* Машара(Калосьсе, 1, 1935 г., стр. 10). *Загаварыў бы, прызнаўся б у дурноце сваей, дык ўсе й скончылася б добра.* Сяднёў: Корзюк. *Вось жа боўдзіла — паказаў сваю дурноту!* Тм.
**2.** *общ.*—глупыш. *На сына: ізноў застудзіцца, ля рэчкі ходзячы, дурнота гэткая.* Вышынскі: Хата пад ліпою.

•**ду́рна,** *нареч.*—глупо. Ар.; Дсл. 193. *Ня бойцеся, па̀ненка, мы дурна ня зробім: мы дойліды не якія-лень.* Дсл.

•**дурнап'я̀н**-*яну, предл. и зват.-яне, м.* **1.** белена. Верас; Гсл.; Шсл.; Ар.; Нсл. 148. *У пшаніцы шмат дурнап'яну.* Ст. *Панаядаліся бліноў з дурнап'янам, дык ледзь не паўміралі.* Ст.
**2.** дурман.

•**дурнап'я̀нкі**-*нак(одна дурнап'янка)* — *дурніцы.* НК: Очерки, 479.

•**дурнапы́шка**-*кі, общ.*—глупый гордец. Нсл. 148. *Ніхто яшчэ не наўчыў гэтую, гэтага дурнапышку.* Нсл.

•**дурнава́ць**-*ну̀ю-ну̀еш-ну̀е; повел.-ну̀й-ну̀йма, несоверш.*—глупо делать, Нсл. 148. глупить. *Дурнуеш, што спраціўляешся.* Нсл. *Соверш.* **здурнава́ць**—глупо сделать, Нсл. 206. сглупить, оплошать, дать маху. *Здурнаваў, што ня ўзяў таго, што давалі.* Нсл. *См. здураваць* (*под дураваць*).

•**дурне́ць**-*ѐю-ѐеш-ѐе; повел.-ѐй-ѐйма, несоверш.*—глупеть. Нсл. 148; Дсл. 193; Ар.; Варсл. *Не разумнееш, а дурнееш.* Нсл. *Што старэе, то дурнее.* Дсл. *Соверш.* **здурне́ць,**
**1.** оглупеть. Шсл. *Пад старасьць сусім чалавек здурнеў.* Ст.
**2.** одуреть, Ар. обезуметь. МГсл.
**3.** сойти с ума. Ар. *Соверш.* **падурнець а)** стать несколько глупее, **б)** поглупеть многим. Шсл. *Падурнелі вы ці што: што вы робіце?* Ст.

•**дурні̂ла,** (Шсл.), **дурніла́,** (Ар.)-*лы-лы, общ.*—(большой, Ар.; БНсл.) дурак. Шсл.; Ар. *"Дурніла" — слова таго ж значаньня, што й "дурань", але болей зьнява̀жліва.* Варсл. *Гэны дурніла мне авечкі руспудзіў.* Варсл. *Слухай, што кажа гэты дурніла.* Ст. *Дурніла нейкая: разявіў рот ды пазірае.* Ст.(Шсл. *под разяўляць*).

•**дурніна́**-*ны̀-нѐ, ж.*—глупость, глупый поступок, глупая мысль, речь. Ар.

•**дурні̂шча**-*чы, общ.*—дурачище. Шсл. *Дурнішча ты, ідзі, што-колечы рабі.* Ст.

•**дурні̂ца**-*цы, общ.* **1.** глупенький(-кая, **С.**), Гсл.; Нсл. 148., неразумный, несведущий, наивный(о детях). *Дурніца ты, дурніца! Хто цябе возьме другі!* Нсл. *Вось нейкі дурніца ён.* Ст.(Шсл. *под нейкі*). *"Дурніца"— тое самае, што й "дурань", але ў ласкаўшай вымове.* Варсл. *Дурніца ты, куды ж ты пабег, ціж ты зайца дагоніш?* Варсл.
**2.** ягода, очень похожая на чернику, но имеющая одуряющее, наркотическое свойство. Она сама по себе безвредна, но ростя между багуном, напитывается наркотическим его свойством. Нсл. 148.

•**дурні̂ць**-*ню-ніш, несоверш., перех.*—делать глупым. *Ня дурні ты Масквы, яна й бяз тога дурная. Послов. Соверш.* **адурні̂ць** —одурачить. Шсл. *Хоча мяне адурніць.* Слопішча Шацк. (Шсл.).

•**дурні̂цца**-*нюся-нішся*—дурачиться. Шсл. *Даволі табе ўжо дурніцца.* Ст.

•**дурні̂цы**(*одна дурніца*)—гоноболь, голубика(ягоды), НК: Очерки 479. голубика, Гсл.; Ксл.; Дсл. 193. ягоды очень похожие на чернику, но имеющие одуряющее наркотическое свойство. Нсл. 148. *См. п'яніцы.*

•**дурні̂чка: на дурні̂чку**—даром. *Гадае на дурнічку.* Дсл.

●**дурні́чнік**-*іку, предл.-іку, м.*—самое ростение, на котором выростает ягода голубика. Гсл.; Дсл. 193. *Там расьцець высокі дурнічнік.* Ельн. (Дсл.). *У тым лесе расьцець дурнічнік.* Смал. (Дсл.).

●**дурны́**-*ная-ное,* **1.** глупый. Ар.; Гсл.; Шсл.; Дсл. 193. *Дурны̀, як бот. Послов.* Ст. *Пашлі дурнога — за ім другога. Послов.* Ар. *Ай, ду̀рны сваты, ду̀рны, пазаехалі ў гумны, вераю абымалі, сьвіньню цалавалі — думалі, што дзеўка, ажно сьвіньня белка.* Свад. песня. Дсл.

**2.** *в зн. сущ.*—умалишенный-ная. Гсл.; Ар.; Нсл. 148. *Дурны поп хрысьціў.* Нсл. *Нареч.* **дурна**—глупо. *Дурна, што ня ўзяў із сабою палудня.* Ст.

●**дур-трава́**—белена. Географ. Смоленск. губ. Шестакова(Дсл. 194).

●**ду́рус**-*са, предл.-су, зват.-се, м. — дурань.* Бяльсл. *Гэткага дуруса, як Сапрон, і ў сьвеце ня знойдзеш.* Маластоўка Краснап. (Бяльсл.).

●**дуры́**—непроходимые места, трущобы. ( **С.**). Дсл. 194. *Усі горы, дуры̀ ізьезьдзіў.* Смал. (Дсл.).

●**ду́рык**-*ыка, предл. и зват.-ыку, м.*—дурачок. Бяльсл. *Ты дурыкаў шукаеш? Няма іх тут, апрача̀ цябе.* Хведараўка Краснап. (Бяльсл.).

●**дуры́ла**-*лы, общ.*—большой дурак. Нсл. 148. *Дурылу няма чаго пасылаць.* Нсл. *Дурыла свае гадоўлі.* Л. *Уменьш.* **дурылка**-*лкі,* **1.** глупенький-кая. Нсл. 148. *Дурылка маленькі.* Нсл.

**2.** шутник-ица, смехотвор. Нсл. 148. *Дурылка гэты насьмяшыў усіх сваімі штукамі.* Нсл.

●**дуры́ліца**-*цы-цы, ж.*—дурища, Нсл. 148. дура.

●**дурылда́**-*ды̀, общ. — дурыла.* Нсл. 148. *Дурылда̀ гэты, што ня возьме, папсуець.* Нсл.

●**дуры́нда**-*ды-дзе*—дура взбалмошная. Дсл. 194. *А ня дай жа, Божа, такое дурынды.* Дсл. *См. лапатлівы-вая.* Ар.

●**дуры́ць**-*ру̀-рыш-ра, несоверш., перех.* **1.** одурачивать(дурачить, МГсл.), обманывать, (Гсл.), Нсл. 148. надувать. Гсл. *Ты дурыш мяне.* Нсл. *Ня дуры яго гарэлкаю.* Тм. *Соверш.* **задурыць**—одурачить, сбить с толку. *Задурыў ты маю галаву сваёю закукаю.* Нсл. 733.

**2.** (*галаву*)—так беспокоить, что беспокоенный становиться менее сообразительным. *Ня дуры ты мне галавы сваімі чаравікамі!* Ст. *Ня дуры імне галавы.* Ар.

**надурыць галаву**—забить голову. Шсл. *Добра̀ й так надурыў галаву за вечар.* Ст. *Надурылі яны мне галаву за дзень.* Ст.

**3.** потворствовать. *Ня трэба дурыць малы̀я дзеці, бо потым цяжка будзе іх адвучаць.* Варсл. *Соверш.* **здуры́ць**—избаловать. Ар.

**разду́раваць**-*рую-руеш-руе; повел.-руйруйма, несоверш.*—разбаловывать. Нсл. *Не раздуруйце вы дзяцяці ўсякімі гасьцінцамі.* Ст. *Соверш.* **раздуры́ць**—избаловать. Шсл. *Раздурылі ката ў хату пушчаць, цяпер ня хоча на ток іці мышы лавіць.* Ст. *Прич.* **разду́раны**—избалованный. Шсл. *Якія ж раздураныя вашы дзеці: маці шчэ ня ўсьпела бліна із скварады зьняць, а яны барджэй хапаюць!* Ст.

●**дуры́цца**-*ру̀ся-ры̀шся-ры̀цца, несоверш., возвр.* **1.** забивать(себе, **С.**) голову. Нсл. 148. *Ня дурыся ты гэтаю галаваломняю.* Нсл.

**2.** капризничать, (Дсл.) привередничать. Ар. *Ня дурыся — казала мне маці.* Кавыль (Бацьк., Но. 49-533). *Еж, ня дурыся.* Ар. *Кабыла дуры̀цца.* Дсл.

●**душа́**-*шы̀-шы̀, вин. душу̀, ж.*—душа. Дсл.; Ар. *Што душа мае, тым і прымае. Послов.* —чем богаты, тем и рады. Ар. *Квалѐй душы і крапчэй душы няма нічога да суднага дня.* Дсл. 197.

**душа заплакала**—расчувствовался, растрогался. *Ня вытрываў Іларывонавіч — у самага, значыцца, душа заплакала.* Дсл. 196.

**душы паслухаўшы, біць**—бить со всей силы, соразмеряя удар, чтобы не лишить жизни. Дсл. 197. *Надабе яго біць, душы паслухаўшы.* Смал. п., Ельн. у. (Дсл.).

**ідзець на душу̀**—приходиться по вкусу. Дсл. 196. *Салодкі мёд на душу̀ ня йдзець.* Дсл.

**душа дубам(дыбам,** Дсл. *ошибочно*)—выхожу из себя от гнева, ругаюсь. Дсл. 197. *Душа дубам у мяне, а яму й гора мала.* Дсл.

**ад душы,** *у знач. прсл.*—искренне, от всего сердца. Ксл. *Ласкат.* **ду́шухна.** Дсл. 197.

**2.** подпорка внутри скрипки. НК: Дудар, 194. Внутри скрипки, под правой стороной *"кабылкі"*, помещена не постоянная, а передвижная *"душа"* (подпорка), устанавливаемая на месте при помощи тонкого снурка, концы которого выходят наружу чрез *"эсы"* и связываются под нижней декой. НК: Дудар, 194. *Музыка іскрыпку ладзе, бо душа адвалілася.* Варсл.

**3.** щепочка между клещами в хомуте для должной широты его. Варсл. *У гэтым хамуце душа зламілася.* Варсл.

●**душагу́б**-*ба, предл.-бу, зват.-бе,* **1.** губитель. Гсл. *Такіх душагубаў надабе вучыць.* Дзьве Душы, 153.

**2.** убийца. Гсл. *Душагубу гэтаму ня доўга забіць жонку.* Нсл.

●**душагу́бка**-*бкі-бцы, ж.* **1.** губительница. Гсл.

**2.** убийца. Гсл. *Душагубка гэта не адно дзецянё загубіла.* Нсл.

**3.** голое, без пришитых бортов, судно (лодка, **С.**). НК: Очерки, 512.

**4.** *"душагубка"* с пришитым к ней досчатыми бортами, собственно лодка. НК: Очерки, 502, 512.

5. лёгкий, узкий чёлн. Бяльсл. *Я ня сяду ў гэтую душагубку, у ёй можна перакуліцца.* Барысавічы Клім. (Бяльсл.).

•**душагу́бны**-*ная-нае,* **1.** погибельный для души. Нсл. 148. *Душагубную пачынаеш справу.* Нсл. *Душагубная твая прызвычайка.* Нсл.

**2.** злой, разбойнический. Нсл. 148. *Душагубнае біцьцё.* Нсл.

•**душагу́бства**-*ва, предл.-ве, ср.*—убийство. Гсл.

•**душае́мца**-*цы, м.* —ангел смерти. *То ест душаемца Езраіл.* Кіт. 125а6, 138б12.

•**душаспасёны**, -*ная-нае*—душеспасительный. Гсл.; Нсл. 148. *Душаспасёныя малітвы.* Нсл.

•**душа́цца**-*дюся-деш*ся-*деецца; повел.-айся-аймася, несоверш.*—(давать клятву, говоря *"да душы"* **С.**) божиться, клясться. Нсл. 148. *Ён душаецца, што ня браў.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **душа́ньне**-*ня, предл.-ню*—божба. Нсл. 148; Ксл. *Ніхто душаньню ягонаму ўжо ня вера.* Асінаўка Выс. (Ксл.). *Соверш.* **задуша́цца** —забожиться. Нсл. 733. *Соверш.* **падуша́цца** —побожиться, поклясться. *Падушайся, што заўтра гэтай парой ты прыдзеш да мяне.* Дзьве Душы, 74.

•**душкурава́ць**-*рўю-рўеш-рўе, несоверш., област.*—шутить. Варсл. *Ён сядзеў з намі да познае ночы — душкураваў, сьміяўся.* Варсл.

•**душкурэнь**-*рня̀, предл.-рню̀, м.*—шутник, пустомеля, шут (*перен.*) Варсл. *Дзе гэты душкурэнь, там і сьмеху поўна.* Варсл.

•**ду́шна,** *нареч.* **1.** душевно, усердно, от души. Пск. (Даль).

**2.** душно. Шсл.; Ар.; Бяльсл. *Сягодні душна.* Ст. *Сядні дужа душна, мабыць, дождж будзе.* Стары Дзедзін Міласл. (Бяльсл.).

•**душні́к**-*іка̀, предл.-іку̀, м.*—отверстие для прохода воздуха, вентилятор. Шсл. *У капцу яшчэ трэба зрабіць душнік.* Ст.

•**ду́шны**-*ная-нае*—душевный. Нсл. 149. *Душны мой прыяцель.* Нсл.

•**душы́ць**-*шу́*-**шыш-ша,** *несоверш., перех.* **1.** душить, давить за горло. Шсл.; Ар. *Схапіў ды давай яго душыць за горла.* Ст. *Дзе цябе чэрці душаць? Ідзі ў хату.* Ст.

**2.** притеснять. Нсл. 149; Шсл.; Нсл. 149. *Душаць нас падачкамі рознымі.* Нсл. *Паны душылі даўней людзёў то паншчынаю, то адработам.* Ст. *Соверш.* **здушы́ць**—насильственно положить конец чему-л.; прекратить что-л. при помощи вооруженной силы; подавить. Ар.

**задушыць,** *соверш.* **а)** задушить, удушить, **б)** (*перен.*)—удушить, подавить, не дать развиться.

**прыдушы́ць,** *соверш.* **а)** придавить. *Яго ў лесе прыдушыла калодаю.* Ст. **б)** притеснить.

•**душы́цца, 1.** быть убиваему удушением. *Соверш.* **задушы́цца**—задохнуться(умереть от недостатка воздуха, от дыма, удушливого газа, **С.**). МГсл.

**2.** (*перен.*)—сильно кричать, орать. Шсл. *Чаго ты душышся на ўсё горла!* Ст.

**3.** (*перен.*)—ссориться. Шсл. *Сядзяць у хаце ды душацца цэлы дзень.* Ст.

**4.** много работать. Шсл. *Аж душацца людзі за гэтаю работаю — і ўсё ім мала!* Ст.

•**ду́цік**-*іка, предл. и зват.-іку, м.*—название полного ребенка. Дсл. 194. *"Які ты дуцік!" кажуць жанкі.* Дсл.

•**дуць,** *дўю, дўеш, дўе, несоверш., устар.* **1.** дуть. Дсл. 194. *Ах ты дуй, ах ты дуй, мая міла, не бядуй.* Из нар. песни. *Вось ён, як узяў сваю карнатку, ды стаў дуіць — дуіў, дуіў, так што сьцяў усё на шмецьце.* Ельн. (Дсл.). *См.* *дзьмуць.*

**2.** бить. Дсл. *Соверш.* **адду́ціць.** *Аддуіў сына палкаю.* Дсл. 194. *Соверш.* **прыдуціць.** Дсл.

**3.** идти. Дсл. *Дуў ён пехатою вярсты тры-чатыры.* Ельн. (Дсл.).

•**ду́чка**-*чкі-чцы, ж.*—оловянный или глиняный шарик для игры, состоящей в том, что игроки поочередно бросают шесть шариков в небольшую ямку в земле; бросивший четное число выигрывает. Ксл. *Гуляючы ў дучкі, час правёў.* Вішкавічы Чаш. (Ксл.).

•**ды I,** *союз присоединительный.* Употребляется с наречиями *"так", "яшчэ" и без них. Придает присоединенному предложению или члену предложения характер добавляемого известия: да; с наречиями "в добавок", "притом", "еще" и т.п.* (*Нішчылі*) *вуніяцкія кнігі, ды так старана, што цяпер вуніяцкая кніга ё надзвычайнай рэдкасьцяй.* ("Беларус", у Менску, 1924, стр. 115). *Аддаў мяне замуж, ды за дударонка.* Ц. с. Інькава Пар. (Дсл.).

**2. ды,** *частица с отрицанием "не",* **ды не**—да нет. *Кажуць, ты хочаш купіць зямлю ў пана — ды не, я ня буду купляць: ён дорага хоча. Ды не, ня йдзі, ня трэба.* Васілёўка Хоцім.(Бяльсл.).

•**ды II,** *област.* **да,** *частица укрепительная. Употребляется перед словами, служащими для укрепления.*

*Татачка мой да ты родненькі, парадзь імне ты парадачку.* Водзьвінка Імгл.(Косіч 240). *Суботухна нядзелюхне гадзіла, субралася Маланчына радзіма. Прыехала сем цётак ды на каравай....прыехала сямёх братоў ды на каравай....прыехала сем сёстраў ды на каравай....жоват будзе, прыгож будзе ды наш каравай.* Гарэцкі: Нар. Песьні, 14.

•**дыбаром,** *нареч.*—дыбом. Гсл., ершом, стоймя в неравном порядке. Дсл. 198. *Валасы дыбаром узьняліся.* Палуж Краснап. (Бяльсл.). *Дыбаром выласы сталі із страху — і шапка з галавы, брык!* Дсл. *Дыбаром хустку надзела.* Дсл. *Дыбаром зачасала валосьсе.* Тм. *Глядзі ж: я папаўзу каня рэзаць, як падымецца мая шэрсьць дыбаром, тады мне скажы.* Дсл.

●**дыбаць(дыба́ць,** ПНЗ; Вят., Вост.,Даль)*-аю-аеш-ае(а̀ю-а̀еш-а̀е); повел.-ай-айма(а̀й-а̀йма), несоверш.* **1.** букв. ступать, приподнимаясь на ножные пальцы, подобно дитяти, начинающему ходить, Нсл. 149. несмело идти, как бы на цыпочках. Гсл. *Дыбай, малѐнькі, да мяне.* Нсл.
**2.** идти медленно, Нсл. 119. медленно брести, Ксл. чуть идти. ПНЗ. *Дыбаеш, як не сваімі нагамі.* Нсл. *Архіп дыбае дамоў.* Сянно (Ксл.). *Вiдаць, але далёка дыба̀ць.* *Послов.* Ар. *Отгл. имя сущ.* **дыбаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—медленная(слабая, Ксл.) походка. Ксл.; Нсл. 149. *На доўга будзе твайго дыбаньня.* Нсл. *Як гэткае дыбаньне, дык валей сядзець.* Рудня Меж. (Ксл.). *Соверш.* **дадыбаць**—медленно дойти. Нсл. 137, 149. *Ледзь дадыбаў.* Нсл. *Соверш.* **падыбаць**—поковылять. Шсл. *Стары̀ падыбаў зь кійком пама̀ленькy.* Ст.
●**дыбкі, дыбанькі, дыбачкі,** *междомет.* для возбуждения дитяти становиться на ноги. Нсл. 149.
**стаць на дыбкі**—стать на ноги ( о начинающем ходить ребенке).
●**дыга́йла**-*ла(-лы), м.* **1.** идущий как приседая, чем умедляется походка. Нсл. 149. *Дыгайла наш пакуль дадыгае.* Нсл.
**2.** *имеющий длинные ноги и большой шаг.* Нсл. 149. *З дыгайлам гэтым не спаромішся йсьці.* Нсл.
●**дыганьне**-*ня, предл.-ню, ср.*—медленная нескладная походка с пригибанием колен. Нсл. 149.
●**дыгаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** медленно и как бы за каждым шагом приседая идти. Нсл. 149. *Чаму ты ня йдзеш хораша, а дыгаеш?* Нсл.
**2.** делать реверанс. Нсл. 149.
●**дыгі**-*аў, единств. ч. нет.*—реверанс. Нсл. 149.
●**дых,** *ды̀ху, предл. дыху, м.*—дыхание. Ар.; Бяльсл. *Дыху больш не хапае бегчы за ім.* Палуж Краснап.(Бяльсл.). *На га̀ле сібер, аж хапіў, запіраў дых, нямелі з холаду пальцы.* Капыловіч: Хлеб("Беларус", Но. 157).
●**дыхаліца**-*цы-цы, ж., област.*—лошадиная болезнь. Дсл. 199.
●**дыхальны**-*ная-нае*—дыхательный. БНсл.
●**дыхалцы**-*цаў, единств. ч. нет., област.* —дыхание. Дсл. 199. *Стары̀ касіць ня можа: дыхалцы займае.* Дсл.
●**дыханьне**-*ня, предл.-ню,* **1.** дыхание. Гсл.; Нсл. 149. *Дыханьне запѐрлася.* Нсл.
**2.** (*перен.*)—жизнь. Нсл. 149. *Каб табе дыханьне такое, як гэта праўда.* Нсл.
●**дыхавіца**-*цы-цы, ж.* **1.** одышка. Гсл.; Шсл.; Ксл.; Ар.; БНсл.; Бяльсл. *Рабіў, рабіў, пакуль дыхавіцы сабе не нагнаў.* Ст. *Нагнаў каню дыхавіцу.* Ст. *Дыхавіца ў грудзёх.* Купала: Спад. 9. *Дыхавіца падпала каню.* Нсл. 149.
**2.** удушье. МГсл.; Ксл.
**3.** астма.
●**дыхавічны,** -*ная-нае*—удушливый(такой, как при удушье, С.). Ар. Іг. *Дыхавічны чалавек, конь.* Іг.

●**дыхаць(дыхці)**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** дышать. Ар.; Шсл.; Вят. (Даль); Дсл. 199. *Ледзь дыхае чалавек.* Ст. *Як аб'еўся я куцьці, ні сапсьці, ні дыхці, ні дамоў дайсьці.* З батлейкавае сцэны. *Однкр.* **дыхну́ць.** Нсл. 149—дохнуть. Ар. *Калі б яму так дыхаць цяжка было, як ён нам дыхну̀ць не даець.* Нсл.
**2.** (*перен.*)—жить. Нсл. 149; Дсл. *Мала яму дыхаць на сьвеце.* Нсл. *Нам можна дыхаць.* Смал. у. (Дсл.). *Соверш.* **дадыхаць** —дожить. Нсл. 732. *Няма надзеі, каб ён дадыхаў да сьвету.* Нсл.
**аддыха́ць,** *несоверш.*—передыхать. Ар. *Два разы рэкшы, аддыхаў; потым два разы мовіць аллягу акбар(араб.) і зноў аддыхне.* Кіт. 90б1. *Соверш.* **аддыхну́ць**-*ну̀-нѐш-нѐць-нѐм-ніцѐ*—передохнуть. Ар.
**3. здыха́ць,** *несоверш.* **а)** издыхать, околевать(о животных). Нсл. 207. *Конь здыхае.* Нсл. **б)** (*презр. о человеке*), испускать последнее дыхание, умирать. Нсл. 207. *Здыхай, здохні ты ад мяне!* Нсл. **в)** мереть, сохнуть. Нсл. 207. *Здыхае з голаду, а рабіць ня хоча.* Ст. **г)** сохнуть, тосковать. Нсл. 207. *Здыхаеш па ім.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **здыха́ньне**-*ня, предл.-ню,* **1.** падеж на животных. Шсл. *Няма на цябе здыханьня, на такога каня!* Ст.
**2.** издыхание, последние минуты жизни; говор. презрительно. Нсл. 207. *Здыханьня на цябе няма.* Нсл. *Хіба перад здыханьням перастанеш.* Нсл. *Соверш.* **паздыха́ць** —передохнуть, Ар. околеть. Нсл. 455. *Коні, каровы паздыхалі бяз корму.* Нсл.
**здохці,** *соверш.* **1.** *к здыхаць 1.* Нсл. 207. *Карова здохла.*
**2.** (*к здыхаць 2*). Нсл. 207. *Здохнеш, пакуль я за цябе выйду.* Нсл.
**3.** (*к здыхаць 3*). Нсл. 207. *За тваім бязульствам і мы здыхаем, здохлі з голаду.* Нсл.
**падыхаць,** *соверш.* (*к дыхаць 1*)—подышать. Ар.; Нсл. 149. *Несоверш.* **падыха́ць** —повевать. Шсл. *Падыхае сьвежы ветрык.* Ст. *Млоснаю нямотаю падыха̀ла летнае неба, цемнае й душнае.* Дзьве Душы, 109.
**выдыха́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е; повел.-а̀й-а̀йма, несоверш.* **1.** выдыхать, дыханием выталкивать воздух из легких. Ар. *Однкр.* **вы́дыхнуць**—выдохнуть. Ар.
**2.** переносить болезнь. Ар. *Яшчэ тую больку выдыха̀е.* Ст. *Соверш.* **вы́дыхаць**-*аю-аеш-ае*—перенести болезнь. Ар. *Ледзь вы̀дыхаў хваробу.* Ст.
**уздыха́ць,** *несоверш.*—вздыхать. Шсл.; Ар. *Нічога ня кажа ён, толькі цяжка ўздыхае.* Ст. *Соверш.* **уздыхну́ць**-*ну̀-нѐш-нѐць-нѐм-ніцѐ*—вздохнуть. Шсл.; Ар. *Цапочкам узмахнець, цяжанька ўздыхнець.* Из свад. песни, Ст. *За работаю няма калі лягчэй і ўздыхнуць.* Ст.

●**дыхацца,** *дыхаецца, безлич., несоверш.* —дышаться. *Тут лёгка дыхаецца.* Ар.

**задыхацца**-*аюся-аешся, несоверш.* **1.** задыхаться, испытывать стеснение в дыхании от недостатка воздуха, запыхаться, (МГсл.)

**2.** задыхаться, умирать от недостатка воздуха, от дыма, удушливого газа. *Соверш.* **задыхнуцца**-*нуся-нешся*—задохнуться. Ар.

●**дыхля**-*лі-лі, ж.*—трясина. Бяльсл. *Тут дыхля, надабе йсьці ціха, бо калі праваліўся, дык сам ня вылезеш; як яна "дыхае", як я йду.* Бяседавічы Хоцім.(Бяльсл.). *Уменьш.* **дыхлінка**-*нкі-нцы, ж.*—топина на болоте, где можно провалиться. Дсл. 199.

●**дыхляк**-*яка, предл.-яку, зват.-яча; мн. ч.-кі-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—бранное на слабосильного мужчину, парня. Шсл. *Дыхляк ты, не з тваею сілаю тут управіцца!* Ст.

●**дыхляціна**-*ны-не, ж.*—мясо павшего животного. Шсл. *Купіў нейкае дыхляціны ды хоча, каб усі елі.* Ст.

●**дыхніца**-*цы-цы, ж.*—дыхательное горло, гортань. БНсл.

●**дыхнуць,**—*см. под дыхаць.*

●**дыхт,**—*см. под дыхту даць(под даваць, даць).*

●**дыхтоўны**-*ная-нае*—плотный, крепкий (о материале). Нсл. 149. *Дыхтоўная хустка.* Нсл. *Дыхтоўнае сукно.* Тм.

●**дыхта**-*ты, ж.*—фанера. Шсл. *Наклеілі паперу на дыхту.* Скрыль Пух. (Шсл.).

●**дыхтант**-*нту, м.*—диктант.

●**дыхтаваньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—диктовка.

●**дыхтаваць,** -*тую-туеш-туе, несоверш.* —диктовать.

●**дыхтавы**-*вая-вае*—фанерный. *Сяло, ідзе была дыхтавая хвабрыка, было вылучна вялікалітоўскае.* Васілёк(Калосьсе, Но. 3-16, 1938 г., стр. 130).

●**дыдалям,** *нареч.*—прахом. Шсл. *Хай яно дыдалям пойдзе!* Ст.

●**дыягноза**-*зы-зе, ж.*—диагноз.

●**дыялёг**-*ёгу, м.*—диалог.

●**дыямэнт**-*ту, предл. и зват. дыямэнце, м.*—алмаз. Гсл.; Нсл. 149. *Сьмешным выдаецца мне, што поэзя — дыямэнт прозы.* Кавыль (Бацьк. Но. 1-2/437-438). *Знашлі жуковіну з дыямэнтам.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, Но.2 з 1935 г.). *Думкі-дыямэнты, кветкі жыцьця, песьні — вас гэтак люблю!* Гарун. *Ты была маею песьняю, дыямэнтам пачуцьця.* Крушына: Лебедзь, 30.

●**дыямэтра**-*ры-ры, ж.*—диаметр.

●**дыяпазон**-*ону, предл.-оне, м.*—диапазон.

●**дыза**-*зы-зе, ж.*—девочка-подросток, тонкая и высокая. Міх.; Варсл. *А гэта ж дыза яшчэ бегае зь дзецьмі.* Варсл.

●**дый,** *союз.* Употр. для присоедиения однорядных членов предлож. или целых предложений: да и. Ар.

*Ён узяў кіёк дый пашоў.* Н.(Афанасьев Сказки, I, 1913, 210). *Каб дый зь неба суглядалі, хлеба й солі засылалі.* Из песни нищего, НК: Старцы. *Сеў дый паехаў.* Гсл. **а)** Употр. для присоединения предложений или отдельных членов предложений, дополняющих прежде выраженную мысль: да и. *Як пашлі, дак пашлі, дый зайшлі ў самы гушчэр.* Ст. *Ёй нічога не хацелася рабіць, дый работа падала зь яе рук.* Колас: В. Чурыла. *Бо я ня думаў бачыць у вас нічога, апрача Ісуса Хрыста, дый укрыжаванага.* Луцк.: 1-шы ліст да Карынц. 2. **б) дый годзе,**—*см. под годзе.*

●**дык** (*област.* **дак**) **1.** *наречие. Употребляют в начале предложений, содержащих в себе вывод из прежде сказанного*: так. *Маланка (ськеміла): Юля, дык мы пойдзем.* Макаёнак: Каб людзі... *Дык што ж нам рабіць?* Гсл.

Употребляют как соотносительное слово в главном предложении, когда дополнительные предложения условного или временного типа. *Як пяюць гэту песьню, дык во як хораша.* Стдуб. (Косіч 13). *Табе не казалі, дык я табе кажу.* Нсл. 149. *Па ім калі й чорт пабяжыць, дык нагу заскабіць.* НК.: Старцы, 72. *Калі ня брэша, дык праўду кажа.* *Послов.* Рапан. 146. *Во ў нас такі гулявы ёсьць, калі трэба, дык змаўляй з Богам.* НК.: Пособ. 133.

**2.** *нареч., област.* Употребляют в сравнительных предложениях и обращениях с союзом *"як", к которому, как и к "дык",* может добавляться *"і"(як і... дык і). Каб дый зь неба суглядалі, хлеба й солі засылалі!... Як і бацек, дык і матак, як і цётак, дык і дзядзек. Як і брацьцяў, дык і сёстраў.* Из песни нищего, НК.: Старцы, 80. *Ср. так і б.*

**3.** *союз.* **1.** так. Гсл.; Шсл.; Ар.; Нсл. 149. Употр. для присоединения предложений результата: так, вследствие того, пто-

**4.** *союз.* Употребляют для присоединения слова или несколько слов, связанных смыслом с всем прежде сказанным и объсняющим выраженную мысль. *Яшчэ дадам: быў прыехаўшы да нас Карусёнак ізь Вільні, дык нашы не маглі зь ім нагукацца, так было цікава.*

**5.** *союз для соединения против. предложений со значением "но". А што! казаў я табе не сябраваць ізь імі, дык ты ня слухаў. Вось і маеш цяпер бяду! Проклець нейкая гэты сабака: жэрці жарэць, а брахаць, дык ня хоча.* Ст. (Шсл. *под* проклець).

**6.** *союз.* Употребляется в начале предложения, содержащего общий вывод из предыдущего: итак. *Дык вы цяпер даведаліся, як было і чаму так было. Дык што Бог злучыў, няхай людзіна не разлучае.*

**7.** *частица.* Употребляют в начале вопросительной или восклицательной реплики, чтобы указать на вывод из предыдущего, прежде сказанного: так. *Дык чый жа гэта, калі ня твой?* Нсл. 149. *Дык калі мы пабачымся? Дык што ты скажаш на гэта?* Ст. **а**) употребляют в начале реплики, которая подсуммирует прежде сказанное. *Дык у дру́гадзень усе даведаемся.*

**8.** *частица. Употребляют, упоминая лицо, предмет и т.п., подчеркивая их настоящие качества: так.* *Во гэта дык пральля — дзьве шпулі за вечар!* Ст. **а**) употребляют для укрепления слова или несколько слов, к которым относится.

**9.** *частица ограничительная.* Употребляют для указания количества, меры, времени, близких к чему-л. *Пашло так за тыдзень. Яму было так год асьмінанцаць.*

**10.** *частица*: то. Гсл.; Нсл. 127. *Калі надыйдзе бяда за бядою, дык, хіба ты не ўбаронішся.*

Употребляется при повторении глаголов, укрепляя их значение. *Ідзець яна дык ідзець — аж у лесе стаіць палац.* Н. (Афанасьев III, 1914, 105). *Як пашлі, дык пашлі, дый зайшлі ў самы гушчар.* Ст.

•**ды́каць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—читая заикаться. Нсл. 149. *Што ты ня чытаеш, а ўсе дыкаеш.* Нсл.

•**ды́к жа,** *частица,*—так вот же, однако же. Гсл. *Дык жа ён там быў.* Варсл. *Дык жа было начай: Ня так як ты кажаш.*

•**дыкжэ,** *частица подчеркивания*: именно, вот именно. Ар. *Дыкжэ гэтак было.* М. *Кажуць, што коні падаражэлі. Дыкжэ ён заплаціў за свайго дорага.* Ар.

**дыкжэ яму**—ему то. Ар.; Іг.

**дыкжэ яна** (*і пад*)—она то и т. п.

**дыкжэ ад яго**—от него-то. Ар. *Дыкжэ ад яго й мусілі бараніцца*—от него-то и принуждены былі защищаться.

•**дыкшто,** *нареч., област.*—ничего, пусть. Ар. — *дармà 4.* Варсл. *Пятрусь пусьціў каровы ў канюшыну! Дыкшто, няхай ходзяць, тата дазволіў.* Ар. *Дыкшто, калі ён на мяне і сказаў, імне гэта не сьвярбіць і не баліць.* Варсл.

•**дыктáтар**-*ара, предл. и зват.-ару, м.*—диктатор.

•**дыктату́ра**-*ры-ры, ж.*—диктатура.

•**дыл,** (Варсл.), *дылу, у дыле, м.*—пыль. *Уменьш.* **дылок**-*лкà; мн. ч., род.-лком, мн. ч., предл.-лкох*—пылинка. Варсл. *Дылок мукі асеў на стол а лавы.* Варсл.

•**ды́ла,** *ды́ла, предл.-ле, ср.*—дышло. БНсл.

•**ды́лда**-*ды, общ.*—худой, высокий человек, Русінава Сян. (Ксл.) высокий, неповоротливый, (Дсл. 198) дурно сложенный человек, (в Вил., Ковен., Гродн. и Минск. губ.); Нсл. 149. долговязый, (Бяльсл.) верста, оглобля, жердяй. Вост. (Даль). *Які ён дылда!* Нсл. *Варочаешся, як дылда.* Тм. *Вось дзе вырасла дылда дурная!* Ст. *Во нейкі дылда пашоў і сягае па цэлым сажню.* Бяльсл. *Выцягнула(кабыла, паваліўшыся ад болю), як дылда, свае нязграбныя ногі.* Гарэцкі: Песьні, 60.

•**дылема**-*мы-ме, ж.*—дилемма.

•**дылетáнт**-*нта, предл.-нту, зват.-нце, м.*—дилетант.

•**дылетáнтка**-*нткі-нтцы, ж.*—дилетантка.

•**дылетантызма,** -*мы-ме, ж.*—дилѐтантизм.

•**дылетанцкі**-*кая-кае*—дилетантский.

•**дыле́ць, дылі́ць,** *несоверш.*—чуть сыпаться.. Варсл. *Пачынае дылець сьняжок.* Варсл. *Соверш.* **падылі́ць(пады́лець, С.)**-*лю-ліш-ле*—покрапать, еле попорошить, Ксл. слегка попорошить снежку. Шсл.; Варсл. *Дожджык чуць-чуць падыліў дарогу.* Беліца Сян. (Ксл.). *Падыліў троха сьняжок.* Ст.

•**дылёука**-*ўкі-ўцы, мн. ч., род. дылёвак* (*дылёўкаў*), *ж. — дыля.* Шсл.; БНсл. *Нарэзалі на вокны дылёвак.* Ст.

•**ды́ля**-*лі-лі, ж.*—толстая доска, Гсл.; БНсл. толстая доска в 3 дм. и больше. Шсл. *З аднае калоды вышла чатыры добрыя дылі.* Дукора Сьміл. (Шсл.).

•**дылі́,** *нареч., област.*—затем. Церахоўка Гомельск. акр. (Наш Край, 1928, Но. II, 48). *См. адлі.*

•**дылігойда, 1.** припев, рефрен к песне *"Сіўка-варонка". Сіўка-варонка, дылігойда.* Зь дзяцінае песьні, Дсл. 198.

**2.** ругательное слово. Дсл. 198. *Гэткая дылігойда — ня ўмееш рабіць.* Дсл. *Ну, ты дылігойда, ідзі сюды.* Тм. *Яна ўжо дылігойда запраўдная.* Тм.

•**дылі́-дыль,** *междомет.*—подражание скрипке. НК: Дудар, Но. 9.

•**дылі́каць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., дет.*—играть на скрипке. НК: Дудар, Но. 9.

•**ды́льгаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.*—медленно идти. Міх. *Соверш.* **пады́льгаць**—медленно пойти. Міх. *Я гляджу, аж Кляймонаў чапяльнік падыльгаў ад тае пярэклеці.* Міх.

•**дыль-дыль!,** *междомет.*, звукоподражание быстрой и лёгкой походке. Варсл. *Я гляджу, аж нехта, дыль-дыль! ад мае клеці.* Варсл.

•**ды́лька**-*лькі-льцы, ж., дет.*—скрипка. НК: Дудар, Но. 9.

•**дымаку́рка**-*ркі-рцы, ж.* **1.** *"курашка" в 1-ом зн.* НК: Очерки, 432, Но. 514.

**2.** (*перен.*)—курная изба. НК: Очерки, Но. 514.

•**дыме́ньнік**-*іка, зват.-іча, м.*—коптильщик.

•**дыме́ньніца**-*цы-цы, ж.*—коптильщица.

•**дыме́ць,** *дыміць, несоверш.*—порошить. Шсл. *Ат, троха дыміць сьняжок.* Ст.

•**дымі́ць**-*млю, ды́міш, ды́ме, несоверш.* **1.** дымить. Нсл. *Печка дыміць.* Тм. *Соверш.* **надыміць,** (*перех.*)—наполнить дымом.

2. (*перех.*)—коптить(мясо, сало, рыбу). *Соверш.* **удыміць**—прокоптить.

•**ды́мка**-*мкі-мцы, ж.*—узор из ломанных линий на ткани(и ткань с таким узором, С.). Ксл.

**ткаць у дымкі**—ткать таким узором. *Удымкі ткаць — за кроснамі нельга спаць, бо папсуеш.* Гарнова Сян. (Ксл.). *Буду ткаць удымкі.* Заазер'е Сян. (Ксл.).

•**дымлёны**-*ная-нае*—копчённый. *Дымлёны кунпяк.*

•**дымляніна**-*ны-не, ж.*—копчённое мясо, ветчина.

•**ды́мна I,** *нареч.* (*к дымны*)—дымно. *Вой у полю курна а дымна, за туманом сьвету ня відна.* Из песни.

•**ды́мна II,** *нареч.* (*област.*, **думна С.**)—неприятно, в высшей степени тяжело. Дсл. 199. *Стала зайцу дымна й мутарна ад нашых ганчакоў, яны дужа, браце, палазісты.* Дсл. *Пойдзем і з двара, калі дымна прыдзець.* Дсл.

**дымна імне**—тяжело на сердце. Смаленш.

•**ды́мніца**-*цы-цы, ж.* **1.** курная изба. Веляшковічы Лёз. (Ксл.).

2. коптильня.

3. дымоход. Бяльсл. *Мабыць, нешта ў дымніцы завалілася — дым ня йдзець у комін. Палезь ты палядзі на гару, што там такое.* Галічы Міласл. (Бяльсл.).

4. (*бот.*)—дымянка. Бяльсл.

•**ды́мны,** -*ная-нае*—дымовой. *Стоўп дымны.* Кніг 12 Б.,П. П. 3:6.

•**ды́на**-*ны-не, ж., физ.*—дина.

•**дына́ма**-*ма, предл.-ме, ср.*—динамомашина.

•**дынамамэтра**-*ры-ры, ж.*—динамометр.

•**дынамі́зма**-*мы-ме, ж.*—динамизм.

•**дынамі́т**-*іту, предл.-іце, м.*—динамит.

•**дынамі́чны**-*ная-нае*—динамический.

•**дына́ста**-*сты-сьце, ж.*—династия.

•**дынасты́чны**-*ная-нае*—династический.

•**ды́нда**-*ды-дзе, ж.*—босоножка. Сержп. (БНсл.).

•**ды́ндаль**-*ля, предл. и зват.-лю, м.*—бездельник, лентяй. БНсл.

•**дындава́ць,** -*дўю-дўеш-дўе, несоверш.* —бездельничать, лентяйничать. БНсл.

•**ды́ні**-*няў, единств. ч. нет.*—самое нижнее место живота. Варсл. *Гэны п'яны схапіў Баўтрука загрудзі ды каленам пад дыні.* Варсл.

•**дыплём**-*ёму, предл.-еме, м.*—диплом.

•**дыплёмат**-*ата, предл.-ату, зват.-аце, м.*—дипломат.

•**дыплёма́тка**-*ткі-тцы, ж.*—дипломатка.

•**дыплёматычнасьць**-*ці, ж.*—дипломатичность.

•**дыплёматычны,** -*ная-нае*—дипломатический.

•**дыплёма́ца**-*цы-цы, ж.*—дипломатия.

•**дырэктар**-*ара, предл. и зват.-ару, м.*—директор.

•**дырэктарскі**-*кая-кае*—директорский.

•**дырэкца**-*цы-цы, ж.*—дирекция.

•**дырдоха**-*охі-осе, ж.*—длинноногая девочка-подросток. *Усадзі гэту дырдоху, няхай прадзець.* Нсл. 149.

•**ды́рда**-*ды-дзе, общ.* **1.** человек высокого роста и особенно имеющий длинные ноги, Нсл. 149. "коломенская верста", (БНсл.) долговязый-ая, Гсл. верзила. БНсл. *Які ж ён вялікі дырда.* Нсл.

2. (высокая, С.) девчонка шалунья, вышедшая из детского возраста. Нсл. 149. *Пасадзі гэту дырду, няхай не сваволе; пара ўжо вучыць яе.* Нсл.

•**ды́рдас,** -*аса, предл.-асу, зват.-асе, м.* —мальчик шалун, вышедший из детского возраста. Нсл. 149. *Дырдаса гэтакага вучыць пара.* Нсл. *У людзёў гэтакія дырдасы коні пасуць.* Тм.

•**ды́рдзіцца**-*дзішся, несоверш.*—букв. вытягивать ноги перед смертью; умирать, Нсл. 149; Ар.; Ксл.; Дсл. протягивать ноги, умирать, Гсл. издыхать(о человеке). Говориться презр. об умирающем злом человеке. Нсл. 149. *Ужо й дырдзіцца пачаў.* Сянно (Ксл.). *Наш дабрадзей дырдзіцца.* Нсл. *Соверш.* **здырдзіцца,** (Смл. Даль)—протянуть ноги, умереть, Гсл.; Нсл. 149. околеть, издохнуть(о людях). Ар.; Шсл.; Ксл. *А бадай ты здырдзіўся!* Гсл. *Пан наш сядні здырдзіўся.* Беліца Сян. (Ксл.). *Усе не даждуцца, калі старая здырдзіцца.* Ст. *Калі ты здырдзішся ад нас?* Нсл.

•**дысана́нс**-*су, предл.-се, м.*—диссонанс.

•**дысана́нсавы**-*вая-вае*—диссонансный.

•**ды́са**-*сы-се, ж.*—трубка в кузнечном мехе, которой дуют в горнило. Міх.

•**дысэртант**-*нта, предл.-нту, зват.-нце, м.*—диссертант.

•**дысэрта́нтка**-*ткі-тцы, ж.*—диссертантка.

•**дысэрта́ца**-*цы-цы, ж.*—диссертация.

•**дысгармоня**-*ні-ні, ж.*—дисгармония.

•**дысгармонны,** -*ная-нае*—дисгармонический.

•**дыскрэдытава́ць**-*тўю-тўеш-тўе, несоверш.*—дискредитировать.

•**дыскрымінава́ць**-*нўю-нўеш-нўе, соверш. и несоверш.*—дискриминировать.

•**дыскрыміна́ца**-*цы-цы, ж.*—дискриминация.

•**дыскрыміна́чны,** -*ная-нае*—дискриминационный.

•**дыскваліфікава́ць,** -*кую-куеш-куе*—дисквалифицировать.

•**дыскваліфіка́ца**-*цы-цы, ж.*—дисквалификация.

•**дыску́ся**-*сі-сі, ж.*—дискуссия, диспут, прение.

•**дыску́сьны**-*ная-нае*—дискуссионный.

•**ды́спут,** (Нсл. 149)-*ута, предл.-уце, м.*—диспут.

•**дыспутава́ць**-*тўю-тўеш-тўе, несоверш.* —диспутировать.

•**дысыміля́ца**-*цы-цы, ж.*—диссимиляция.

•**дысыміля́чны,** -*ная-нае*—диссимилятивный.

•**замі́нак**-*нку, предл.-нку, м.* **1.** помеха. Н. *Я хачу быць на акадэме, але напэўна ня ведаю, ці буду, бо можа будзе які замі́нак.*(Др. Ворса).
**2.** мешающий предмет. Варсл. *Гэта вялікая шапа толькі замінак у хаце.* Варсл.
•**заміна́ць**-*аю-аеш-ае, каму*—мешать, Ар.; Шсл.; Міх. мешать, служить помехой. Гсл. *Не замінала тэй дзеяльнасьці разнавер'е з Маскоўцамі.* Дзьве Душы 122. *Адыйдзі, не замінай рабіць.* Ст. *Вон з адрогі, не замінай!* ЗСД 305. *Прычыны, што заміналі й замінаюць спаўненьню пастаўленых мэтаў.* Асьвета, Но. 1, 1927, стр. 4. *Адыйдзі ты адсюль, не замінай!* Ст.(Шсл. под *адсюль*). *Отгл. имя сущ.* **заміна́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў*—помеха. Гсл.
•**заміна́цца**-*аюся-аешся*—страдать от *"замінаньня"*—помехи. Гсл.
•**замірак**-*рку, предл.-рку, м.*—мировое удовлетворение. Нсл. 174. *Замірку яшчэ ня даў.* Нсл.
•**замі́раваць**-*рую-руеш-руе; повел.-руй-руйма, несоверш., перех.*—преклонять к миру удовлетворением. Нсл. 174. *Замі-равай яго; а не заміры́ш, скураю ад-кажаш.* Нсл. *Соверш.* **заміры́ць**-*ру-рыш-ра*—преклонить к миру удовлетворени-ем. Нсл. 174.
•**замірэньне**-*ня, предл.-ню, ср.* **1.** примирение. Ксл.; Нсл. 174; БНсл. *Трэйці год судзяцца без усякага замірэньня.* Пяцігорск Беш. (Ксл.).
**2.** перемирие. Шсл.; Гсл.; БНсл. *Усё вайна а вайна, хай бы хоць якое было замірэньне.* Ст. *Замірэньне даў Бог: войскі звара-чаюцца.* Нсл. 174.
•**замірга́ць**—*см. под* *міргàць.*
•**замір'е**,-*р'я, предл.-р'ю, ср.*—перемирие. Іг.
•**заміры́ць**—*см. под* *замі́раваць.*
•**замітруваць**-*ую-уеш-уе, соверш., обл.*—засуетиться, побежать порывисто. Дсл. 244. *Замітрувала баба — госьці прыехалі.* Дсл. *прыехалі.* Дсл.
•**замітусі́цца**—*см. под* *мітусіцца.*
•**замковы**-*вая-вае,* **1.** к замку относящийся. Нсл. 174; Ар. *Замковая зямля, старожа.* Нсл.
**2.** замочный. Нсл. 174. *Замковая дужка адламілася.* Нсл.
•**замкне́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч. ні-няў, ср.*—запор. *Акно ў тае хароміны было пад замкненьням.* СТТ. 492.
•**зам-кну́ць**-*ыкàць( у сабе)*—*см. под* *мкаць.*
•**зам-кну́цца**-*ыкàцца*—*см. под* *мкацца.*
•**замле́лы**-*лая-лае,* **1.** находящийся в обморочном состоянии.
**2.** изнемогший от сильного чувства.
**3.** расслабленный.
•**замле́ньне**—*см. под* *млець.*
•**замле́ць**-*явàць,*—*см. под* *млець.*
•**замля́віць**—*см. под* *мля́віць.*
•**замнога [за́мнага],** *нареч.*—многовато, Нсл. 174 слишком много. *Замнога ты просіш за свой тавар.* Нсл. *Зàмнага даў, перасуліў.* Нсл.
•**за́мста**-*сты-сьце, ж.*—забвение(забытиё, С.); какая-то забывчивость, как бы умственное затмение, Гсл. забвение. Дсл. 244. *Нашла на мяне такая зàмста: забыўся, як завуць начэльніка.* Дсл. *Як у зàмсьце — а ніяк ня ўспомню.* Гсл. *Зь сенажацяў, гацяў роднае старонкі, з панад гэтых, чорных зàмстай, хмар яна прыйдзе вольным гоманам сасонкі.* Дуб. *Гэта замства на лятункі мае.* Тм. *Незабыўныя гады, пылам замсты не-замеценыя.* Крушына: Лебедзь 42.
•**замсьці́ць, замсьці́ла I,** *безлич.*—напала забывчивость, необъяснимое забвение, Гсл. произошло помрачение памяти, Дсл. 244 забылось, запамятовалось, вышло из памяти. Раз., Тамб. (Даль).
•**замьці́ць II,** *замшчу̀, замсьціш-ціць, соверш. каму*—отомстить. Шсл. *Замшчу я табе за твае зладзейства.* Ст.
•**замшы́цца**-*шыцца, шацца, 1-ого и 2-ого лица нет, соверш.*—покрыться мхом, Гсл. замшеть.
•**замудрава́ць**—*см. под* *мудравàць.*
•**заму́жжа**-*жа, предл.-жу, ср.*—замужество. Сукрэмна Сян. (Ксл.). *Нядобрае, маладзіца, мае замужжа.* Ст.
•**заму́жка**-*жкі-жцы, ж.*—замужняя женщина. Пархв.; Гсл.; БНсл. *Ён здаўна прывык яе знаць, як замужку.* ЗСД 325.
•**заму́лела,** *безлич.—см. под* *мỳлець.*
•**замур-ововаць**-*авàць*—*см. под* *муравàць.*
•**замур-ововацца**-*авàцца*—*см. под* *муравàцца.*
•**заму́рзаць**—*см. под* *мỳрзаць.*
•**заму́рзацца**—*см. под* *мỳрзацца.*
•**заму́так**-*тка, м.*—засиженное яйцо. *Гэта ня сьвежыя яйцы, а замỳткі.* Хведараўка Краснап. (Бяльсл.).
•**замуці́ць**—*см. под* *муці́ць.*
•**заму́чыць**—*см. под* *мỳчыць.*
•**замчыста,** *нареч.*—крепко, прочно, с надежным ограждением. Нсл. 176. *Двор замчыста пабудаваны.* Нсл.
•**замчы́стасьць**-*ці, ж.*—прочное, крепкое устройство. Нсл. 176. *Замчыстасьць току, двара.* Нсл.
•**замчы́сты**-*тая-тае*—устроенный с надежным ограждением. Нсл. 176. *Замчысты двор.* Нсл. *Замчысты ток.* Тм. *Наш панадворак замчысты.* Варсл.
•**замчы́шча**-*ча, предл.-чу; мн. ч. чы-чаў, ср.*—место замка, БНсл. место, где находится или был замок.
•**замыгце́ць**—*см. под* *мігцèць.*
•**замыі**-*ыяў, мн. ч.*—луговое место, испорченное в летне время разливом реки, занесенное песком и тиною. Дсл. 244. *Замыі касіць няма чаго.* Дсл.
•**замыка́ць, замыка́ць у сабе**—*см. под* *мкаць.*

•**замыка́цца**—*см. под мкацца.*
•**замы́ліць**-*лю-ліш-ле, соверш., перех.*—нарочно закруглить лезвие, острый конец кола и проч. Шсл. *Замылі сякірку.* Ст.
•**замы́сьліць**—*см. под мы̀сьліць.*
•**замы́сьл-евацца**-*іцца*—*см. под мы̀сьліцца.*
•**зан-осіць**-*ѐсьці*—*см. под нѐсьці.*
•**зан-осіцца**-*ѐсьціся*—*см. под нѐсьціся.*
•**занагарадзі́ць**-*джу̀-дзіш-дзе, соверш.*-—вознаградить. Нсл. 176. *Што згубіў, нічым не занагародзіш.* Нсл. *Несоверш.* **занагараджа́ць**, -*а̀ю-а̀еш-а̀е*—вознаграждть. Нсл. 176. *За маё дабро мне ліхім занагараджаюць.* Нсл.
•**занагараджэньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—вознаграждение. Нсл. 176. *Занагараджэньне за крыўду.* Нсл.
•**зана́дта**, *нареч.*—чересчур, слишком(чрезмерно, С.) Гсл., слишком, более нежели много. Нсл. 176; Шсл.; БНсл. *Занадта вялікі.* Нсл. *Занадта ўжо расходзіўся ты.* Ст.
•**занараві́цца**—*см. под нараві̀цца.*
•**занату́р-ыўшыся**-*ыцца*—*см. под нату̀рыцца.*
•**зана́ужыць[вулей]**—наполнить сотамияулей). Маркоўцы Вял.
**занаўжаны[вулей]**—наполненный сотами улей. Тм.
•**зане́каць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, соверш.*—*начать говорить* "не"—нет, отрицать. *Ён ня стаў на'т гу̀каць із селака́мі, адразу занекаў... замахаў сваімі маленькімі ручкамі.* ЗСД 100.
•**занепада́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е; повел.-а̀й-а̀йма, несоверш.*—клониться к упадку, (БНсл.) недомагать, прихварывать. Гсл. *Конь занепадае, заняпаў на заднія ногі.* Нсл. 177. *Пад старасьць я занепадаць стаў.* Нсл. *Соверш.* **заняпа́сьці**-*паду̀-падзѐш-падзѐць-дзѐм-дзіцѐ-дуць*—придти в упадок; опуститься, Гсл. склониться к упадку. БНсл. *Кабыла заняпала.* Дсл. 246. *На чужой старонaчцы заняпаў душой.* Гарун (ст. "Песьня").
•**зан-евальня́ць**-*яволены-яволіць*—*см. под няволіць.*
•**заняха́-еньне**-*ены-іць*—*см. под няха̀іць.*
•**занядба́ліць**—*см. под нядба̀ліць, нядба̀йліць.*
•**занядб-а́ньне**-*а̀ць*—*см. под дбаць.*
•**занядý́жаць**—*см. под нядý̀жаць.*
•**заняме́лы**-*лая-лае*—онемевший. Гсл.; БНсл.
•**заняме́ць**—*см. под нямѐць.*
•**заняпа́д**-*ду, предл.-дзе, м.*—упадок. МГсл.; БНсл.
•**заняпа́лы**-*лая-лае*—пришедший в упадок. *Стаў падобны да нейкага заняпалага сьвятога.* ЗСД 308.
•**заняпа́сьці**—*см. под занепада̀ць.*
•**заня́так**-*тку, предл.-тку, м.*—занятие. МГсл.; Ар.; Шсл. *У кажнага ё свой занятак.* Ст. *Яна была̀ ў гэтым часе захопленая важным заняткам.* ЗСД 80. *Самы сабе знаходзілі тэмы на гутаркі й занятки.* Цэлеш: Ярылаў агонь.
•**занява́жыць**—*см. под ва̀жыць 4.*
•**занявíньне**, *нареч.*—невинно, незаслуженно. Нсл. 176. *Занявѝньне цярплю.* Нсл.
•**занявíсьнець**—*см. под нявѝсьнець.*
•**заняўздолець**—*см. под няўздолець.*
•**за́няць**-*ці, ж.*—занятие. Дсл. 246. *Ён усё ў за̀няці.* Дсл.
•**заня́ць**—*см. под іма̀ць.*
•**занíдзьбець**—*см. под нѝдзьбець.*
•**за́нізка**-*зкі-зцы, ж.* **1.** зерно, бусина от ожерелья. Нсл. 177. *Занізкі пасыпаліся.* Нсл.
**2.** шнурок, нанизанный коральками. Нсл. 177. *Занізкі парваліся.* Нсл.
**3.** пузыри, образующиеся в жидкости. Нсл. 177. *Гарэлка крэпкая, калі занізкі ёсьць, як траханеш.* Нсл.
**4.** жирные кружки на влаге. Нсл. 177. *Мяса ня сытае, ніводнае занізкі няма ў страве.* Нсл. *См. ска̀лка.*
**занíзачка**-*чкі-чцы, уменьш. к занізка* во всех смыслах. Нсл. 177.
•**за́нізь**-*зі, ж.*—место на ткани, сплошь покрытое бусами, жемчугом, Даль бусы. *Занізь пурпурна-лілёвых караляў, занізь пэрлаў на морскім дне.* Дуб.: Наля 26. *Жменя рамонкавых пялёсткаў на дзьве занізі, быццам вецер сьмехам парасплёскаў.* Крушына: Творы 166. *Уменьш.* **занізка**—бусина, Магілёўшч. пронизи, особенно кораллы. Вост.(Даль, IУ изд., 1520). *Шнюрок парваўся. і занізкі рассыпаліся.* Іванаўка Хоцім. (Бясл.).
•**заніта́ва́ць**—*см. под ніта̀ва̀ць.*
•**зану́дзіла**, *безлич.*—*см. под ну̀дзіць.*
•**зану́-дзіць**-*джа̀ць*—*см. под ну̀дзіць.*
•**зану́дзіцца**—*см. под ну̀дзіцца.*
•**занур-а́ць**-*ы̀ць*—*см. под нуры̀ць.*
•**занур-а́цца**-*ы̀ца*—*см. под нуры̀цца.*
•**заныгціца**-*цы-цы, ж.*—ранка на пальце от задранной от ногтя кожи с мясом. Бясл. *У мяне на палцу занызгціца, ды вельмі ж балюча.* Хведараўка Краснап. (Бясл.).
•**заны́дзець**—*см. под ны̀дзець.*
•**заны́дзьвець**—*см. под ны̀дзьвець.*
•**заподаўна**, (Нсл.) **1.** слишком давно. *Заподаўна ты не аддаеш імне доўгу.* Нсл. 180.
**2.** тем более. Нсл. 180. *Табе пасьнедаўшы хочацца есьці, а імне заподаўна, як я ня сьнедаў.* Нсл.
•**запозна**, *нареч.* (Гсл.; Нсл. 180)—слишком поздно.
•**запозны**-*ная-нае*—запоздалый. БНсл. *Ср. позны.*
•**запоіны**, (Кот. 202)-*наў, единств. ч. нет.*-—помолвка и угощение по этому случаю, Гсл. пиршество по заключении свадебных условий, Нсл. 180 первая свадебная беседа, когда жених в доме невесты угощается со

сватами и родными. Шсл. *На запоінах была толькі радзіма.* Нсл. *У сыботу да нас сваты прыдуць на запоіны.* Ст. *Ляксеева Вольга замуж выходзе, ужо запоіны былі.* Жабяньцяі Сур. (Ксл.).

•**запойства**-*ва, предл.-ве, ср.*—периодическое пьянство, НК: Піт. 82 запой.

•**запойца**-*цы, предл.-цу, твор.-цам, м.*—периодический алкоголик. НК: Піт. 81.

•**запон**-*ну, предл.-не, м.* **1.** портьера, занавес из тяжелой материи на дверях или окнах.

**2.** занавеска. *Із жанкàмі без запону будзе стаяць.* Кіт. 8367. *Ад кажнага запону да запону пяцьсот год дарогі.* Тм. 120а1. *Скора перайшоў тыя запоны, голас прышоў.* Тм. 120а2. *О дочки ерусалимовы... яко запоны Соломоновы.* () кн. Ст. Закона. *Уменьш.* **запонак.** *Бадàй у вусіх покуць, як здàўна шанаванае месца, прыкрыты запонкамі.* Запруднік (Беларус, Но. 61).

•**запонны**-*ная-нае, прилаг. к запон.* **1.** *портьерный.*

**2.** занавесочный.

•**запорка**-*ркі-рцы, ж.*—место ареста, заточения. Дсл. 247. *П'янỳ сядзіць у запорцы.* Дсл.

•**запорышча**-*ча, предл.-чу; мн. ч.-чы-чаў, ср.*—женская болезнь, остановка, прекращение месячных кровей. Нсл. 180. *Запорышчам жонка хворая.* Нсл.

•**запорышчны**-*ная-нае, прилаг. к "запорышча"*—к *"запорышчу"* относящийся. Нсл. 180. *Запорышчная кроў, хвароба.* Нсл.

•**запогатаві,** *нареч.*—тем паче. Нсл. 180. *Калі табе, то імне запогатаві.* Нсл.

•**запага́ніць**—*см. под пагàніць.*

•**запага́ніцца**—*см. под пагàніцца.*

•**западаба́ць**—*см. под падабàць.*

•**запа-да́ць**-*сьці*—*см. под пàдаць.*

•**запа́дка**-*дкі-дцы, ж.*—тюрма. Нсл. 177. *Датуль краў, пакуль у западку лỳчыў.* Нсл.

•**за́падзь**-*дзі; мн. ч., род.-дзяў*—тяжёлая почва на северной стороне холма, Варсл. поле покотое на север, где обычно рож растет с метлицей. Даль, ІУ изд. 1526. *На гэтай западзі, дык хіба можа авес калі парасьцець.* Варсл.

•**запаз-ва́цца**-*ывàцца*—*см. под звàцца.*

•**запа́зушша**-*ша, предл.-шу, ср.* (НК: Игры 37) — *заўлоньне.*

•**запазьнíць**—*см. под пазьнíць.*

•**запазьнíцца**—*см. под пазьнíцца.*

•**запазы́чанасьць**-*ці, ж.*—задолженность. *Ср. запазы̀чыцца* (*под пазычаць* ).

•**запазы́чыць**—*см. под пазычыць.*

•**запаз-ыча́цца**-*ы̀чыцца*—*см. под пазычàць.*

•**запакава́ць**—*см. под пакавàць.*

•**запакава́цца**—*см. под пакавàцца.*

•**запакíдзішча**-*ча, предл.-чу; мн. ч.-чы-чаў, ср.*—заброшенное состояние. Дсл. 247. *Старàя жывецъ у запакідзішчу.* Дсл.

•**запа́л**-*лу, предл.-ле, м.*—вспышка, мгновенное раздражение, горячка. Нсл. 178. *У запале ня помне, што робе.* Нсл. *З запалу выцяў.* Нсл.

•**запалохаць,**—*см. под палохаць.*

•**запалане́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—пленение, нашествие. Нсл. 180. *Запаланеньне запраўднае ад блашчыц.* Нсл.

•**запалане́ць,**—*см. под палан:ецъ.*

•**запаланя́ць**-*яю-яеш-яе, несоверш., перех.* **1.** брать в плен. Нсл. 180. *Нѐпрыяцелі нашых, а нашы нѐпрыяцеляў у вайну запаланяюць.* Нсл.

**2.** грабить. Нсл. 180. *Не баючыся Бога маё дабро запаланяюць, запаланілі.* Нсл.

**запаланíць**-*ню-нішіне, соверш. к запаланяць 1,* **1.** взять в плен. Нсл. 180. *Шмат Пранцузаў запаланілі.*

**2.** *соверш. к запаланяць 2,*—ограбить.

•**запаласка́ць,**—*см. под паласкаць.*

•**запалаве́цца,**—*см. под палавецца.*

•**запалаць,**—*см. под палаць І.*

•**запале́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—воспаление. МГсл.; Шсл.; Ар.; БНсл. *Хварэе на запаленьне лягкі̀х.* Ст.

•**запал-я́ць**-*іць,*—*см. под паліць.*

•**запа́льчыць**-*чу-чыш-ча, соверш., перех.* —зарубить *"палцы"* в бревне, чтобы оно входило в паз (*"чапялу"*) другого бревна. Варсл. *Я сьцяну запальчыў, можна ўстаўляць вужакі.* Варсл.

•**запа́лы**-*лая-лае*—впалый. *Далёка запалыя вочы іскрыліся чорным агнём.* ЗСД 89. *Паказала глыбака запалыя вочы.* ЗСД 343. *Гэтыя аконцы, бы запалыя мерцьвяковы вочы, жудасна пазіралі.* Лынькоў: Воўчы лог (Калосьсе, Но. 2, 1935 г, стр. 98).

•**запамога**-*огі-озе, ж.*—вспомоществование, Шсл. материальная поддержка, Варсл. оказание помощи. *Малàя зь дзевак запамога.* Ст. *Ён мае запамогу ад дзядзькі.* Варсл.

•**запамаг-а́ць**-*чы̀,*—*см. под памагаць.*

•**запамага́цца,**—*см. под памагаць.*

•**запамажэньне**-*ня, предл.-ню,* **1.** вспоможение, Нсл. 180. оказание помощи, поддержки. *Запамажэньне даць беднаму.* Нсл.

**2.** пособие.

•**за́пан**-*ну, предл.-не, м.*—фартук. Бясл. (*У Палешак*) *сарочкі — як белы сьнег, на плячох і "зàпан" (хвартух) цікава вышытыя ніткамі розных колераў і ўзораў.* Жыздр. (Максимов, С.: Белорусская Смоленщина с соседями. Живописная Россия, т, III, 429). *У нас зàпан завецца, не хвартук.* Ц. с. Мужылава Акуліцкае в. Бранск. (Будде: Тула-Орел, 86). *Дзе ж гэта мой запан, як жа я пайду бяз запана.* Іванаўка Хоцім. (Бясл.).

•**запанава́ць,**—*см. под панаваць.*

•**запане́лы,** *-лая-лае*—почувствовавший себя барином. *Запанелы ня помне, як бегаў босенькі.* Нсл. 178.

•**запане́ць**-*ёю-ёеш-ёе; повел.-ей-ейма, соверш.*—стать паном, ПНЗ. почувствовать себя барином, загордиться, зачваниться, разнежиться. *Запанеў Мікола, ні зь кім ня хоча гаварыць.* Ст. *Запанеў, пірага захацеў.* Нсл. 178.

•**за́пар,** *нареч.*—подряд, непосредственно один за другим. *Паляўнічы выстраліў запар два разы.* Варсл. *Два тыдні запар у Маскве выступаў Беларускі Вялікі Тэатр.* Бацьк. Но. 1-2 (615-616).

•**запароха**-*охі-осе, ж.* **1.** засорение, пылинка попавшая в глаз. Нсл. 180. *Ніякае запарохі няма ў воку.* Нсл. *Уменьш.* **запарошка**-*шкі-шчы*—засорение. Нсл. 180. *Запарошка вока.* Нсл.

**2.** *перен.*—укоризна. Нсл. 180. *Ніякае запарохі няма на сумленьню.* Нсл.

**запарошына**-*ны-не, ж.*—тоже, что *"запароха"* в обоих знач. Нсл. 180.

•**запарой,** *нареч.*—не вовремя. *Ня ўзрушайся запарой! — пачаў раптам супакоеваць Міхалка. Можа як-колечы пройдзе ўсё гэта...* Цэлеш: Дзесяць 21.

•**за́парам,** *нареч.* **1.** одним приёмом. Шсл. *Запарам выпіў чарку.* Ст.

**2.** непрерывно повторяя. Шсл. *Запарам два разы схадзіў у той канец.* Ст.

•**запарушы́ць,**—*см. под парышыць.*

•**запа́рыць,**—*см. под парыць.*

•**запа́с**-*су, предл.-се, м.*—собрание жизненных припасов и других предметов, необходимых на будущее время, Нсл. 178. запас. Шсл.; Ар. *Запа̀с бяды ня чыне. Послов.*—запас пить-есть не просит.

**у запас**—про запас. *Хто галодны будзе (забароненае) есьць, але недаволі і ў запас ня браць, Пан Бог адпусьціць.* Кіт. 6868. *А гэта няхай будзе ў запас.* Ар.

•**запа́саваць**-*сую-суеш-суе, несоверш. каго, што*—выгонять весной первый раз скот в поле. Н. (Демид: Веров); Шсл. *пастух запасавае ў Івана.* Войстрава Сьміл. (Шсл.).

•**запа́сіна**-*ны-не, ж.* **1.** рабочее орудие. НК.: Очерки, Но. 682.

**2.** дупликат того и другого предмета. НК.: Очерки, Но. 682.

**3.** всякий хозяйственный снаряд, сработанный дома, собственными усилиями. НК.: Пособ. Но. 8.

•**запа́сіць,** *запа̀шу, запасіш-се, несоверш., перех.*—запасать. Нсл. 178; БНсл. *Запасіць, назапасіць на зімỳ дроў, хлеба, лык.* Нсл. *Соверш.* **назапа́сіць**—запасти. Нсл. 178. *Назапась сена да Міколы, дык ня бойся зімы ніколі. Послов.* Скрыль Пух. (Шсл.). *Соверш.* **прызапасіць**-*пашу-пасіш-пасе*—приготовить на запас, Шсл. запасти несколько. *Прызапасіў корму на ўсю зімỳ.* Ст. *Соверш.* **узапа́сіць**-*ашу-асіш-асе, повел.-ась-асьма, соверш. каго, чаго*—обеспечить себя чем-л. на случай необходимости, запасти. *Узапасіў дроў на зімỳ.* Ст.

•**запа́сіцца,** *запа̀шуся, запасішся, несоверш., возвр.*—запасаться. Нсл, 178. *Здаецца запасіліся, назапасіліся сенам, а ня стала пад вясну.* Нсл. *Соверш.* **назапа́сіцца**—запастись, обеспечить себя запасом. Нсл.

•**запаску́дзіць,**—*см. под паскудзіць.*

•**запаску́дзіцца,**—*см. под паскудзіцца.*

•**запа́сьліва,** *нареч.*—с запасом. Ксл. *Запасьліва ў яго з дрыўмі — яшчэ леташнія ё.* Вярхоўе Беш. (Ксл.).

•**запа́сьлівасьць**-*ці, ж.*—свойство по знач. прилаг. *"запасьлівы"*—бережливость, хранение запаса, Нсл. 178. запасливость.

•**запа́сьлівы**-*вая-вае*—запасливый. Шсл. *Во дзе запасьлівы чалавек: усяго ў яго знойдзеш.* Ст.

•**запа́сьнічаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—хранить, беречь запас. Нсл. 178.

•**запа́сьвіць,**—*см. под пасьвіць.*

•**запа́шка**-*шкі-шцы, ж.*—род аренды. МГсл.

•**запа́шнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—соучастник в обработке земли, Гсл. земледелец, обрабатывающий, за половину урожая, своей снастью хозяйскую землю. Варсл. *Наш сусед прапытуе добрага запашніка.* Варсл.

•**запаты́лак**-*лка, м.*—клинок, забиваемый под кольцо (*"баньку"*) для укрепления шейки косы на рукоятке. Варсл. *Пабі запатылак, каб каса не ча̀палася.* Варсл.

•**за́паведзь**-*дзі, мн. ч., род.-дзяў, ж.*—объявление о имеющихся сочетаться браком Ар.; Нсл. 180. *Тры за̀паведзі вышла.* Нсл. *Далі на за̀паведзі.* Ар.

•**запаве́тра**-*ра, предл.-ру, ср.*—поветрие, быстро распространяющаяся эпидемия. *Запаветра яго вазьмі.* Нсл. 180. *Запаветра яго ганяе ўсюдых.* Тм. *Увелич.* **запаве́трышча**-*ча, предл.-чу*—поветрие (быстро распространяющаяся эпидемия, С.), заразительный воздух. Нсл. 180. *Запаветрышча нейкае на каровы.* Нсл.

•**запаве́трыць**-*ру-рыш-ра, соверш.*—заразить воздух, завонять. Гсл. *Здыхатою запаветрыла.* Гсл.

•**запаве́трыцца,**—*см. под паветрыцца.*

•**запаўдня́,** *нареч.*—после полудня. Нсл. 180. *Сонца ўжо запаўдня̀, а палуднаваць не даюць.* Нсл.

•**запаўз-а́ць**-*ьці,*—*см. под паўзьці.*

•**запачы́нак**-*нку, м.*—отдых. Нсл. 181. *Запачынку няма спакойнага ні ўдзень, ні ночы.*

•**запачы́вак**-*ўку, м.*—отдых. Нсл. 181. *Запачыўку не даюць.* Нсл. *См. супачынак.*

•**запачыва́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ніняў*—отдохновение (с оттенком почтения, С.) Нсл. 181. *Пан пашоў на запачываньне.* Нсл.

●**запачыва́ць**-*дю-даеш-дае*—покоиться (с оттенком почтения, С.) Нсл. 181. спать. *Запачывай з Богам.* Нсл. *Соверш.* **запачы́ць**-*ыну-ынеш-ыне,* Нсл. 181. *Пан запачыць пашоў. См. супачываць, супачыць.*
●**запачы́ць,**—*см. под запачываць.*
●**запэ́ўне,** *нареч.*—наверное, без сомнения. Нсл. 178. *Запэўне ён цяпер у дварэ.* Нсл.
●**запэ́ўніць,**—*см. под пэўніць.*
●**запэ́ўніцца,**—*см. под пэўніцца.*
●**запэ́ўны (запеўны,** Нсл.)-*ная-нае*—несомненный, верный. Нсл. 178. *Запэўны прыбытак.* Нсл.
●**запэцкаць,**—*см. под пэцкаць.*
●**запэцкацца,**—*см. под пэцкацца.*
●**запх-а́ць**-*нуць,—см. под пхаць.*
●**запхну́цца,**—*см. под пхацца, пхнуцца.*
●**за́пек**—*место для спанья за печкой (около печи).* Бясл. — *запечак. Уменьш.* **за́печак(запе́чак,** Нсл.)—часть крестьянских полатей (*"полу",* С.) около печи, куда сваливают одежду, хлам, и где играют дети, Шсл. место устраиваемое, особенно для детей, за печью. Нсл. 179. *Ну, дзеці, марш у запечак, ваша там месца, а ня каля столу.* Ст. *Вылазьце, дзятва, з запечка.* Нсл. *Выскачыў карпечка з запечка. Послов.* Нсл. *Багатую сястру на куце пасадзілі, а бедную проці печкі, на запечку.* Дсл. 24.
●**запе́каць,**—*см. под пекаць.*
●**запелескава́цца,**—*см. под пелескавацца.*
●**запе́ра**-*ры-ры, ж.*—диафрагма. Бясл. *Пазасыхалі запёры ў кабанчыка.* Хведараўка Краснап. (Бясл.).
●**заперадзі́ць**-*джу-дзіш-дзе, соверш., перех.* —опередить, обогнать. *Не тваім канём заперадзіць мяне.* Нсл. *Несоверш.* **запераджа́ць**-*дю-даеш-дае*—опережать, обгонять. Нсл. 178. *Запераджай, заперадзі падводы, шыбчэй паедзем.* Нсл. *См. выперадзіць.*
●**заперач-а́ць**-*ыць,—см. под перачыць.*
●**заперачы́цца,**—*см. под перачыцца.*
●**запе́рхавацца, 1.** закашливаться. Нсл. 179. *Часта нешта ты стаў заперхавацца.* Нсл.
**2.** останавливаться во время рассказа. Нсл. 179. *Не заперхавайся, кажы па праўдзе!* Нсл.
**запярхну́цца,** *соверш. к заперхавацца 1,* **1.** закашляться. Нсл. 179. *Запярхнуўся, аж вырвала.* Нсл. *Чаго ты гэта запярхнуўся?* Тм.
**2.** остановиться во время рассказа. Нсл. 179. *Казаў, казаў дый запярхнуўся.* Нсл.
●**зап-е́рці**-*ірдць,—см. под перці.*
●**зап-е́рціся**-*ірацца,—см. под перціся.*
●**за́перць**-*ці; мн. ч.-ці-цяў, ж.*—заточение. Дсл. 247. *Сядзіць жонка ягоная ўсё дома, слова ў заперці.* Дсл.
●**запе́т-аваць**-*аць,—см. под петаваць.*
●**запе́тавацца,**—*см. под петавацца.*
●**запе́ць,**—*см. под пець.*
●**за́печак,**—*см. под запек.*
●**запе́чак**-*чку, м.*—небольшое пространство между печью и стеной, чтобы последняя не загоралась. Шсл. *Кот залез у запечак.* Крамяні Пух. (Шсл.).
●**запе́чкі**-*каў, мн. ч.*—деревянный сруб, на котором ложится печь. Бясл. *Да печы зроблены моцныя запечкі.* Машавая Бялынкавічы (Бясл.).
●**запе́чнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—домосед. *І слухаць не хачу аб гэтым запечніку — кажа дзяўчына.* Я. Г-кі: Казкі, Но. 2, стр. 3. *См. даматур.*
●**запе́чча**-*ча, предл.-чу; мн. ч.-чы-чаў, ср.* —отступ, пространство между печью и прилегающими к ней стенами. НК: Очерки, 245; Шсл. *Паклалі анучы сушыць у запечча.* Дукарка Сьміл. (Шсл.).
●**запяя́ць,**—*см. под пець, запець.*
●**запяка́нік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —трудолюбивый человек. Дсл. 247. *Во гэты запяканік не зьдзяньгубіць.* Дсл.
●**запяка́нка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** водка, настоенная на разных кореньях и употребляемая в виде лекарства. Нсл. 178. *Каб адзяржаць запяканку, гаршчок з гарэлкаю, налітаю на карэньне, абмазуюць хлебным цестам і становяць у печ.* Тм. *Ад жывата выпі гарэлкі з запяканкаю.* Нсл.
**2.** строгое наказание. Нсл. 178. *Далі хлапцу добрую запяканку.* Нсл.
●**запя́каць,**—*см. под пякаць.*
●**запяка́ць,**—*см. под пячы.*
●**зап-яка́цца**-*ячыся,—см. под пячыся.*
●**запяле́скаць,**—*см. под пялескаць.*
●**запяле́скацца,**—*см. под пялескацца.*
●**запяра́з-аваць**-*аць,—см. под перазаць 1.*
●**запяра́з-авацца**-*ацца,—см. под перазацца.*
●**запярэсьціцца,**—*см. под пярэсьціцца.*
●**запярха́ць,**—*см. под пярхаць.*
●**запярхну́цца,**—*см. под заперхавацца.*
●**запя́ткі**-*ткаў (-так); мн. ч.*—края пят. Нсл. 182. *Пабег, аж запяткі затрашчэлі.* Нсл. *Запяткі свае адбіў, бегаючы за табою.* Тм. *Вытну й запяткі задзярэш.* Тм.
●**запя́тнік**-*іка, м.*—запяток у обуви. Нсл. 182. *Запятнік скрывіўся ў боце.* Нсл.
●**зап-я́цца**-*інацца,—см. под пяцца.*
●**запяча́тав-аны**-*аць,—см. под пячатаваць.*
●**запіха́лка**-*лкі-лцы, ж.* — *абарэчка.* НК.: Очерки 502. *См. абор.*
●**запіх-а́ць**-*нуць,—см. под пхаць, піхаць.*
●**запіна́шка**-*шкі-шцы, ж.*—закрывало лица.
●**запіна́ха**-*ахі-асе, ж.*—простыня, которой закрывают колыбель, Ксл. занавеска, занавесь. *Я сёлета сшыла да калыбкі новую запінаху.* Вяжышча Беш. (Ксл.). *Ср. запнуць, апінянка.*
●**запіна́ньне**-*ня, предл.-ню*—препятствие. Нсл. 179. *Не рабі імне запінаньня ў вясельлю.* Нсл.
●**зап-іна́ць**-*нуць,—см. под пяць II.*

**•запінка**-*нкі-ницы, ж.*—остановка, Нсл. 179. задержка. *Запінку зрабілі ў сватаўстве.* Нсл.

**•запірка**-*ркі-рцы, ж.*—приспособление для запирания чего-л. Ар. *Такі ты гаспадар, як запірка ад пустога хлява.*

**•за́піс**-*су, предл.-се, м.* **1.** запись. МГсл.
**2.** внесение в книгу. Нсл. 179. *Трэба йсьці к дзяку, няхай запіс зробе ў кнізе аб нашым вянцу.* Нсл.
**3.** внесение в судебные книги, что в государстве великолитовском (белорусском) имело значение нотариальное; передача кому-л. права на какое-л. имущество посредством записи. Статут 1529 г.
**4.** духовное завещание. Нсл. 179. *Ніякага запісу па сьмерці не знайшлі.* Нсл.
**5.** письменная сделка всякого рода. Нсл. 179. *Запісы мяжсобку ўчынілі.* Нсл.

**•запіс-аваць**-*аць,—см. под пісаць.*

**•запіса́цца,**—*см. под пісацца.*

**•запісны́ ліст,**—*см. под ліст.*

**•запішка**-*шкі-шцы, ж.* — *абарэчак.* НК.: Очерки, 502. *См. абор.*

**•запішчэць,**—*см. под пішчэць.*

**•запіткі**-*ткаў, мн. ч.* **1.** напитки. Нсл. 179. *Розныя запіткі там былі.* Нсл.
**2.** попойка по окончании условий. Нсл. 179. *Тут без запіткаў не абыйдзецца.* Нсл.

**•запіва́ньне**-*ня, ср.*—запой. МГсл. *См. запойства.*

**•запіўкі**-*каў, единств. ч. нет.* **1.** финальное питьё. НК.: Очерки, 94., Но. 20. **2.** *перен.* —конечное дело. НК.: Очерки, Но. 202.
**3.** заключительное слово о чем-л. НК.: Очерки, Но. 202.

**•заплоцьце**-*ця, предл.-цю, ср.*—место за забором. Шсл. *У заплоцьцю парасла вялікая крапіва.* Бор Сьміл. (Шсл.).

**•запладзіцца,**—*см. под пладзіцца.*

**•запла́каць,**—*см. под плакаць.*

**•запла́та**-*аты-аце, ж.* **1.**—вознаграждение, мзда. Гсл.; Нсл. 179. *Просячы а вечныі заплаты.* Зізані: Толкование. *Бог табе заплата.* Нсл. *Хто што заслужыць, то яму заплата будзе.* Кіт. 130а7. *Дарагой цаны заплата.* Крушына: Лебедзь 60. *Яны не знаходзяць заплаты.* У. Краўчанка. *Няма такое заплаты, што даець забыцьцё аб ізрадзе.* Цётка: Шан. род. слова. *Чым цяжшы воз да хаты вязуць яны, і чым цяжэй ступаюць ногі, тым заплату даюць гарэлку даражэй.* Кл.: Каліна 16.

**заплата пенежная**—денежные платежи. Стт. 1529.

**2.** уплата. *Маець Міска заплаціці пяцьдзясят грошы, каторай заплаце зляжыў ясьмі рок чатыры нядзелі.* Гордз. Акт. XVII, Но. 19.

**•запла́тны**-*ная-нае,* **1.** любящий вознаграждать. Нсл. 179. *Заплатны пан.* Нсл.
**2.** верный, несомненный в платеже, Нсл. 179. уплатный. *Заплатны доўг.* Нсл. *Гэта заплатныя грошы.* Тм.

**•запла́віць,**—*см. под плавіць.*

**•заплаці́ць,**—*см. под плаціць.*

**•запл-е́сьці**-*ятаць,—см. под плесьці.*

**•запля́йміць,**—*см. под пляйміць.*

**•запля́йміцца,**—*см. под пляйміцца.*

**•запля́скаць,**—*см. под пляскаць.*

**•заплі́гаць,**—*см. под плігаць.*

**•запліка́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к заплікаць*—застегивание. Гсл.; Нсл. 179. *Купіць аплікоў на заплікаиньне.* Нсл. *Ср. аплік. См. зашпіляньне.*

**•запліка́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.* —застегивать. Гсл.; Шсл.; Застадольле Сян. (Ксл.).

*Ня туды заплікаеш, заплікні хорашанька, роўненька.* Нсл. *Соверш.* **заплікну́ць**, *-ну-неш-неньць-нем-ніце*—застегнуть (крючки) Бясл.; Гсл.; Шсл.; Застадольле Сян. (Ксл.).; Нсл. 179. *Не заплікнуць сьвіты: рукі памёрзьлі.* Ст. *Прич.* **заплі́кнуты**—застегнутый. Шсл.; Нсл. 179. *Нагавіцы не заплікнутыя.* Ст. *Кабат твой не заплікнуты.* Нсл.

**прыпліка́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—пристегивать, прикалывать. Нсл. 507. *Прыплікаць, прыплікнуць істужку.* Нсл. *Соверш.* **прыплікну́ць**-*у-неш-неньць-нем-ніце,* **1.** застегнуть, приколоть. Нсл. 507.
**2.** сказать колкость. Нсл. 507. *Я яму добра прыплікнуў.*

**распліка́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—расстёгивать. Шсл. *Распплікайце яму бардзей каўнер ды вады ў рот уліце.* Ст. *Соверш.* **расплікну́ць**, *-ну-неш-нець*—расстегнуть. Шсл. *См. зашпіляць, прышпіляць, расшпіляць ( под шпіляць).*

**•запліка́цца**-*аюся-аешся, несоверш., возвр.* —застёгиваться. Шсл.; Застадольле Сян. (Ксл.); Нсл. 179. *Заплікайся, заплікніся роўненька.* Нсл. *Соверш.* **заплікну́цца**-*нуся-нешся-нецца-немся-ніцеся*—расстегнуться. Шсл.

**•заплічка**-*чкі-чцы, ж.*—застёжка. Бясл. *Заплікні сьвітку на запліччкі.* Палуж Краснап. (Бясл.). *См. зашпілка.*

**•за́плут**-*уту, предл.-уце, м.*—потеря ориентировки. Юрсл. *Нашоў нейкі заплут, ня ведаю, у які бокісьці двору — і ўсё.* Юрсл.

**•заплу́т-аваць**-*аць,—см. под плутаць.*

**•заплу́т-авацца**-*ацца,—см. под плутацца.*

**•заплутуха́ць,**—*см. под плутухаць.*

**•заплутаха́цца,** Юрсл., **заплутуха́цца,**—*см. под плутухацца.*

**•запл-ы́сьці**-*ываць,—см. под плысьці.*

**•заплю́хаць,**—*см. под плюхаць.*

**•заплю́с-каць**-*нуць,—см. под плюскаць.*

**•заплю́шчыць,**—*см. под плюшчыць.*

**•запрос**-*су, предл.-се, м.*—требование высокой цены (, более, чем даная вещь или работа стоит, С.) Нсл. 181. *Запрос ня б'ець у нос.*

•**запрабава́ць,**—*см. под* *прабаваць.*
•**запрага́ць**-*а́ю-а́еш-а́е, несоверш., перех.* —запрягать. Ар.; Нсл. 181. *Запрагай лепшага каня.* Нсл. *Соверш.* **запрэгчы,** *запрагу̀, запражэш-жэць-жыцѐ, запрагу̀ць*—запрячь. Ар.; Нсл. 181; Гсл. *Не запрогшы, не кажы "но".* Нсл. *Прич.* **запрэжаны**—запряжённый. Ар. *Ужо коні запрэжаны.* Лупекі Стдуб. (Косіч, 248). *Коні запрэжаны да̀ўна.* Нсл.

**прыпрагаць,** *несоверш.*—пристягивать, припрягать. Нсл. 508. *Кульгавага каня прыпрагаеш да здаровага; прыпражы лепшага.* Нсл. *Соверш.* **прыпрэгчы**-*прагу̀-пражэш-пражэць-пражэм-пражыцѐ; прошл. вр.* *прыпрог, прыпрэгла-прэглі* —припрячь. Нсл. 508. *Прич.* **прыпрэжаны** —припряжённый. Нсл. 508. *Прыпрэжаны конь закульгаў.* Нсл.
•**запрад-ава́ць**-*а̀ць,—см. под* *прадаваць.*
•**запрадав-а́цца**-*а̀цца,—см. под* *прадавацца.*
•**запрапа́сьціць,** *-па̀шчу-па̀сьціш-пасьце, перех., соверш. к* *запрапашчаць. Несоверш.* **запрапашча́ць, 1.** девать. Нсл. 181. *Куды ты запрапашчаеш, запрапасьціў тапор мой?* Нсл.
**2.** вводить в невыгодное положение или место. Нсл. 181. *На гэтым месцу ты й нас і сябе запрапашчаеш, запрапасьціў.* Нсл.
**3.** подвергать несчастью. Нсл. 181. *Запрапашчаеш, запрапасьціў роднага свайго сына.* Нсл.
•**запрапа́сьціцца**-*пашчуся-пасьцішся, соверш., возвр.*—пропасть без вести, потеряться. Нсл. 181. *Тапор запрапасьціўся нейдзе.* Нсл. *Несоверш.* **запрапашча́цца** —пропадать без вести, теряться. Нсл. 181. *Куды запрапашчаешся што дзень.* Нсл.
•**запрапашчоны**-*ная-нае, област.*—пропащий, Гсл. потерянный из виду. Нсл. 181. *Запрапашчоная сякіра знашлася.* Нсл.
•**запрапашчэньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ніняў, ср.*—безвыходное положение. Нсл. 734. *Во, якое нам тут запрпашчэньне! ні двору ехаць ня пушчаюць, ні коні карміць няма чым, ні самым няма чым жывіцца.* Нсл.
•**запра-сі́ць**-*ша̀ць,—см. под* *прасіць.*
•**запраторыць,** Шсл.-*ру-рыш-ра; повел.-тор-торма, соверш., перех.*—забросить так, что нельзя найти, Міх. хорошо запрятать, Варсл. запропастить, запрокудить, заложить, запрятать куда-л. и позабыть. Кур. (Даль, IУ изд. стр, 1554). *Дзе ты запраторыла мой андарак?* Міх. *Ён каўбасы добра запраторыў, каб маскалі не знашлі.* Варсл. *Жывую сілу не запраторыш ты ў магілу.* Колас: НЗ, XIX.
•**запра́віць,**—*см. под* *правіць II.*
•**запра́ўднасьць,** *-ці, ж.*—действительность. *Цяперашнія даклярацы аб маналітнасьці камуністычнага руху не адказуюць запраўднасьці.* Бацьк., Но. 4(539). *См.* *дойснасьць.*
•**запра́ўдны,** *-ная-нае*—действительный, МГсл. настоящий (истинный, подлинный, С.) МГсл. *У імшарах нарадзіўся запраўдны партызанцкі аддзел.* Хмара (Б. Ускалось, 1955, Но. 5, 12). *См.* *дойсны.*
•**запра́ўды,** *нареч.*—действительно, МГсл. действительно, по истине, МГсл. на самом деле, Шсл.; Ксл.; Ар.: Нсл. 181. воистину, подлинно. *Не, мая зязюлька, запраўды я сядні прыду к табе.* Пушкары Сян. (Ксл.). *Калі ты запраўды ня вінен, дык чаго ж чырванееш?* Ст. *Гэта запраўды так было.* Нсл. *Запраўды выкапаў галаву.* Каралеўшчына Н. (Демид: Веров. 106). *Ты запраўды заблытаўся.* Макаёнак: Каб людзі ня журыліся. *См.* *дойсна.*
•**запрацава́ць,**—*см. под* *працаваць.*
•**запрацава́цца,**—*см. под* *працавацца.*
•**запрыгоніць**-*ню-ніш-не, соверш.*—обратить в рабство, поработить. Варсл. *Расійская царыца Кацярына запрыгоніла нашых селакоў.* Варсл.
•**запрыя́зьніцца,**—*см. под* *прыязьніцца.*
•**запрызвыча́іць,**—*см. под* *звычаіць.*
•**запрызвыча́іцца,**—*см. под* *звычаіцца.*
•**запсава́ць,**—*см. под* *псаваць.*
•**запсава́цца,**—*см. под* *псавацца.*
•**запсе́ць,**—*см. под* *псець.*
•**запухна́вець**-*ее, соверш.*—покрыться всклокоченной шерстью. Дсл. 248. *Конь запухна̀веў.* Дсл.
•**запу́да**-*ды-дзе, ж.* **1.** группа людей, загоняющих зверя во время облавы. Маркоўцы Вял.
**2.** действие производящих *"запуду".* Маркоўцы Вял. *Ср.* *пудзіць.*
•**запу́кала,** *безлич.—см. под* *пу̀кае.*
•**запукчэць,**—*см. под* *пукчэць.*
•**запу́ліцца,** *соверш., област.*—заняться чем-л., углубиться в какое-л. занятие. Дсл. 248. *Дзеці запуліліся.* Дсл. *Што так сядзець? надабе запуліцца.* Дсл.
•**запуска́цца,**—*см. под* *пусьціцца.*
•**За́пускі**-*каў, единств. ч. нет.*—заговение. Шсл. *У чацьвярток будуць запускі.* Ст. *Дзяржалі й шынкавалі гарэлае віно году 1538 ад запускаў масьляных індыкта 11 да запускаў масьляных індыкта 12.* Гордз. Акты, ХУІІ, 2.
•**запустошыць,**—*см. под* *пустошыць.*
•**запустава́ць,**—*см. под* *пуставаць.*
•**запу-сьці́ць**-*шча̀ць,—см. под* *пусьціць.*
•**запусьці́цца,**—*см. под* *пусьціцца.*
•**запушы́ць I,**—*см. под* *пушыць.*
•**запушы́ць II**-*шу̀-шыш-ша, соверш., перех., област.*—забросить. Шсл. *Куды запушы̀лі сьвіту маю?* Скобраўка Пух. (Шсл.). *Нейдзе запушанна шапка.* Тм.
•**запушы́ць III,** *соверш., каго за што, област.*—выбранить, отделать кого за что-л. Дсл. 248. *Матка мяне запушыла: не хадзі па гасьцёх.* Дсл.
•**запы́х**-*ыху, предл.-ысе, м.*—тяжелое дыхание от скорой ходьбы или бегания. Нсл 182. *Із запыхам бег, прыбег.* Нсл.

•**запыхаце́ць,**—*см. под* **пыхацець.**
•**запыха́цца**-*аюся-аешся, несоверш.*—быстро, глубоко, неровно дышать от трудной или быстрой ходьбы, от гнева, волнения и т.п., Гсл. задыхаться. Бясл.
•**запы́кацъ,**—*см. под* **пыкаць.**
•**запылі́цца,**—*см. под* **пыліцца.**
•**запын-я́ць**
•**запы́рскаць,**—*см. под* **пырскаць.**
•**запы́шка**-*шкі-шцы, ж.*—задышка. Бясл. *Аж запышку нагнаў сабе, бегшы.* Палуж Краснап. (Бясл.).
•**зародак**-*дку, предл.-дку, м.*—зародыш, МГсл. эмбрион. БНсл.
•**зародкавы**-*вая-вае*—зародышный, зачаточный. БНсл.
•**зарок**-*ку, предл.-ку, м.*—клятвенное обещание воздержаться, Гсл. зарок.
•**зарочны**-*ная-нае*—давший зарок, обет. Варсл. *Мая бабуля была̀ зарочная ў сераду ня прасьці.* Варсл.
•**за́ра,** *нареч.*—тотчас, сейчас. Ар. *Зара пакажу.* Ар. *См.* *зараз.*
•**зара́**-*рьì-рьì, ж.* **1.** заря. МГсл. *Плаці, як зара зàймецца.* Кіт. 87б16. *Ужо стала брацца на зарỳ.* Ст. *Уменьш.* **зарыца.** Дсл. 283.
**2.** зарница. МГсл.
**3.** звезда. МГсл. *См. гвязда.*
**4.** *лишь в мн. ч.* **зоры**—звезды.
•**заработак**-*тку, предл.-тку, м.* **1.** заработок, Шсл. плата за работу. Ар. *Не вялікі тут заработак.* Нсл. 183.
**2.** *обычно в мн. ч.* **заработкі**-*ткаў*—работа по найму. *Бацька паехаў у заработкі.* Ст.
**ісьці, ехаць у заработкі**—идти, ехать на заработки. *Думалі ехаць у заработкі, але застанавіліся.* Ст.; Шсл.
•**заработачны**-*ная-нае,* **1.** выгодный по прибыли. Нсл. 183. *Заработачны год.* Нсл.
**2.** доходный. Нсл. 183. *Заработачнае рамяство.* Нсл.
•**зраб-і̂ць**-*ляць,—см. под* **рабіць.**
•**зарабі̂цца,**—*см. под* **рабіцца.**
•**зарагата́ць,**—*см. под* **рагатаць.**
•**зарахма́ніцца,**—*см. под* **рахманіцца.**
•**зарадава́цца,**—*см. под* **радавацца I.**
•**зара́дзіць I,**—*см. под* **радзіць I.**
•**зара́дзіць II, зара́джаны,**—*см. под* **рàдзіць II.**
•**зара-дзі̂ць**-*джàць,—см. под* **радзі̂ць.**
•**зара́дзіцца,**—*см. под* **рàдзіцца.**
•**зара-дзі̂цца**-*джàцца,—см. под* **радзі̂цца.**
•**за́раз,** *нареч.*—сейчас, Шсл. тотчас (, в самом скором времени, говоря о предстоящем действии, событии, Ар.) МГсл. сию минуту. Нсл. 183; Гсл. *Прыляцеўшы, зàраз зачаў сячы нèпрыяцельскае войска.* Н. (Афанасьев, I, 1913, 211). *Зàраз прыдзе.* Нсл. *Сулейман зàраз расказаў усім людзём забраціся да мечыці.* Кіт. 20а1. *Паждзы, я зараз прыду.* Ст.
•**заразом,** *нареч.*—вместе (с этим, С.), одновременно. Нсл. 282. *Усі заразом выехалі.* Нсл.

•**зара́за**-*зы-зе̂, ж.* **1.** зараза. *См. ліпучка.*
**2.** *перен.*—скверный человек; бранное слово. Шсл. *Зараза ты халерная, чаго ты да мяне лезеш?* Ст.
**3.** *бот.*—заразиха. БНсл.
•**зараза́ць, зарэзаць,**—*см. под* **рэзаць.**
•**зара́зіць,** *зарàжу, зарàзіш-зе, соверш.*—заразить. Нсл. 182. *Сваею дурною хваробаю й нас зарàзіць можаш, жывучы разам.* Нсл. *Несоверш.* **заража́ць**-*аю-аеш-ае*—заражать. МГсл.
•**зара́зіцца**-*жуся-зішся, соверш.*—заразиться. Нсл. 182. *Несоверш.* **заража́цца**-*аюся*—заражаться.
•**зара́зьлівасьць**-*ці, ж.*—заразительность. Нсл. 182; БНсл. *Зарàзьлівасьць хваробы.* Нсл.
•**зара́зьлівы**-*вая-вае,* **1.** заразительный. Нсл. 182; БНсл. *Гэта зарàзьлівая хвароба.* Нсл.
**2.** оскорбительный. Нсл. 182. *Зарàзьлівае слова сказаў.* Нсл.
**3.** вспыльчивый, склонный к обидчивости. Нсл. 182. *Зарàзьлівае мае сэрца, зàраз і ўразіцца.* Нсл.
•**зара́зьлівы**-*вая-вае,* **1.** заразительный. Нсл. 182; БНсл. *Гэта зарàзьлівая хвароба.* Нсл.
**2.** *от рàзіць 2*—оскорбительный. Нсл. 182. *Зарàзьлівае сказаў слова.* Нсл.
**3.** вспыльчивый, склонный к обидчивости. Нсл. 182. *Зарàзьлівае мае сэрца, зàраз і ўразіцца.* Нсл.
•**зара́зьліва,** *нареч.* **1.** *к заразьлівы 1*—заразительно. Гсл.
**2.** *к заразьлівы 2*—оскорбительно. Гсл.
•**заразьні̂ць**—*см. под* **разьні̂ць.**
•**зара́іць**—*см. под* **рàіць.**
•**зарака́цца**-*аюся-аешся, несоверш.*—зарекаться. *Заракалася сьвіньня ў гарод лазіць. Послов.* Варсл. *Соверш.* **зарачы́ся**-*куся, зарачэшся; прош. вр. зарокся.*
•**зара́ла**-*ла; мн. ч.-лы, ср.*—сказочное какое-то существо; когда детям не спится ночью, и ждут, не дождутся они утра — их утешают: *"Борзда, дзеткі, прыдзе зарàла".* Дсл.
•**зара́на,** *нареч.*—рановато, Нсл. 182 слишком рано. *Зарана яшчэ ехаць, даедзеш.* Нсл. *Зарàна яшчэ табе жаніцца.* Нсл.
•**зарандава́ць**—*см. под* **рандавàць.**
•**заранёў,** *нареч.*—ранее надлежащего. Ар.
•**зара́ня[зара́ні,** Нсл.**],** *нареч.*—ранее надлежащего. Гсл.; Нсл. 182.
•**зарані̂ца**-*цы-цы, ж.*—утренняя звезда, (Шсл.) Венера. Ксл.; Вост. (Даль), Кал. (Тм.). *Зараніца ўжо патухла.* Клятное Пух. (Шсл.). *Прашу Спадара Бога й Прачыстае Маткі, і зары-зараніцы.* Із замовы. Навасёлкі Пух. (Шсл.). *Зараніцаю хай даль жаўрэе.* Салавей: Сіла 57. *Ноч цямнела, зараніцы бліскалі рэдка.* Дзьве Душы 18. *Я бягу па вадзіцу з зараніцай.* Бародзінка Імгл. (Косіч 236).

●**зара́нка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** утренняя звезда, Дсл. 250; Гсл.; Нсл. 184; Воджа Бр.(Красьневіч у "Крывіч" 1926 г., Но. 11-12) Венера. Ксл. *Позна мы ўсталі малаціць: ужо заранка ўзышла, борзда будзе дзень.* Сьвярдлы Беш. (Ксл.). *Уменьш.* **заранaчка**-*чкі-чцы.* Нсл. 184. *Ні вaднюсенькае заранaчкі ня відаць на небе.* Нсл.
**2.** зпитет к "*дачка*"(дочь). Дсл. 249. *Ты гасьцюй, гасьцюй, дачка, ты гасьцюй заранaчка.* Дсл.
●**зара́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—рассвет, заря. БНсл. *Якое ўжо зараньне, а ты яшчэ ня выспаўся.* Нсл.
●**зара́ньні,** -*няя-няе*—предрассветный.-Бнс.
●**зарас-та́ць**-*ьцi*—*см. под* *расьцi*.
●**за́расьнік**-*іку, предл.-іку, м.*—заросль. Ар.; Шсл. *У зарасьніках пачалi пераклікацца бакасы.* Шакун: Сьлед 10. *Каровы ўбіліся ў зарасьнік.* Ст.
●**заратава́ць**—*см. под* *ратавàць.*
●**зараўнава́ць**—*см. под* *раўнавàць.*
●**зара́ць, 1.**—*см. под* *арàць.*
**2.** *несоверш., безлич.*—светать, Нсл.; Шсл.; Дсл. 283; Гсл. рассветать. *Пачало зарэць.* Ст. *На дварэ зараць пачало.* Нсл. *Яны зьвярнуліся да местачка, як пачало ўжо зарэць.* ЗСД 338. *Як тая зорачка зарала, так наша Марынка вышывала; зарала зоранька ясьненька, вышывала Марынка крàсьненька.* Горц.(Кот. 203). *Отгл. имя сущ.*
**зара́ньне**-*ня, предл.-ню*—рассвет, наступление утра. Гсл.
●**зара́цца**—*см. под* *арàць.*
●**зарэз**-*эзу, предл.-эзе, м.* **1.** заклание ножом. Нсл. 183.
**2.** убой на мясо домашних животных. Ар. *Адлучылі вала дзеля зарэзу.* Нсл.
**3.** рана от пореза. Нсл. 183. *Зарэз разбалеўся.* Нсл.
**4.** упрямый, упорный в стремлениях. Дсл. 249. *Сабака зарэз — ноч ганяе зайца: зь лесу не даклічашся.*
**5.** человек очень увлекающийся хорошим или дурным делом. *Ён касіць зарэз.* Дсл. *Ён зарэз у карты гуляць.* Дсл.
●**зарэзаць**—*см. под* *рэзаць.*
●**зарэзіна**-*ны-не, ж.* **1.** плохая лошадь, которая от кнута не ускоряет бега. Дсл. 249. *Не бяжыць кабыла — хоць аблупі, такая зарэзіна.* Дсл.
**2.** упорная, упрямая женщина. Дсл. 249. *Дзеўка зарэзіна — маткі ня слухае.* Дсл.
●**зарэчча**-*ча, предл.-чу, ср.*—место за рекой. Гсл.
●**зарза́ць**—*см. под* *ірзàць.*
●**заржаве́лы**-*лая-лае*—покрытый ржавчиной, ржавый. *Адамкнула заржавелыя замкі.* Лынькоў: Воўчы Лог(Калосьсе, Но. 2, 1935, стр. 98).
●**зармі́цца,** *соверш., област.*—рассердиться. Дсл. 248. *Ён як зарміцца — Божа ж мой!* Дсл.
●**зар-ва́ць**—*см. под* *ірвàць.*
●**зар-ва́ць II**-*ывàць*—*см. под* *ірвàць.*
●**зарва́цца I**—*см. под* *ірвàцца.*
●**зар-ва́цца II**-*рывàцца*—*см. под* *ірвàцца.*
●**зарубі́ць**—*см. под* *рубі́ць.*
●**зарудзяні́цца,** —*нюся-нішся, соверш.* -—сделаться красивым, багровым. Дсл. 249. *Зарудзянілася неба.* Дсл.
●**зару́жжа**-*жы, ж., бот.*—лютик ползучий. Гсл.; Бясл.; Верас. *Заружжа расьцець у лузе, квет яе рыжы.* Хведараўка Краснап. (Бясл.).
●**зару́ка**-*ўкі-ўццы, ж.* **1.** (гарантия, С.) ручательство. Нсл. 183; БНсл. *Даць грошы пад заруку.* Нсл.
**2.** *юрид.*—денежный штраф, указанный в постановлениях суда для случаев их нарушения. *Будуць лі на лісьцех дзельчых паложаны якія абавязкі, зарукі а няўзрушаньню таго дзелу, тагды такія зарукі кажны подле свайго абавязку з рассудку праўнага заплаціці вінен будзець.* Стт. 370. *А тае зарукі, на лісьце апісанае, палавіца на нас гаспадара, да скарбу земскага Вялікага Княства Літоўскага, а другая палавіца на дзеці, патомкі або блізкія забітага... А хоця бы й не забіў, але раніў або бой чараз заруку ўчыніў, тот также ў заруку ўпадаваець.* Стт. 90.
●**заруме́н-ены**-*іць*—*см. под* *румèніць.*
●**заруме́ніцца**—*см. под* *румèніцца.*
●**зару́мзаць**—*см. под* *рўмзаць.*
●**зару́мзацца**—*см. под* *рўмзацца.*
●**заруне́ць**—*см. под* *рунèць.*
●**зару́пе, зару́піла,** *безлич.*—*см. под* *рўпе.*
●**зару́піцца**—*см. под* *рўпіцца.*
●**зару́сьць.** *соверш., област.*—зареветь, заплакать(в голос, С.) Дсл. 250. *Ваўкі зарулі ў лесе: ці не гняздо.* Дсл. *Дзеўка зарулà, як ехала пад вянец.* Дсл.
●**заручонка**-*нкі-нцы, ж.*—помолвленная, невеста од обручения до свадьбы. Горц. *Уменьш.* **заручоначка**-*чкі-чцы, ж.* *Заручоначка Марынка, заручылася ў сыботу.* Горц.(Кот. 203).
●**заручоны**-*ная-нае*—обрученный, Нсл. 183 жених и невеста от обручения до свадьбы. *Ср. заручэнец, заручонка. Яна малада заручона, хто ж яе заручыў?* Кажамякі Імгл. (Косіч 28).
●**заруч-а́ць**-*ыць*—*см. под* *ручàць.*
●**заруч-а́цца**-*ыцца*—*см. под* *ручàцца.*
●**заручэнец**-*нца, предл.-нцу, зват.-нча, м.*-—помолвленный, жених от обручения до свадьбы. *Ср. заручонка.*
●**зару́чнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—-дружка жениха, бывший при "*заручынах*" и долженствующий быть при свадьбе, как свидетель помолвки молодых. Нсл. 183. *Заручнікі едуць.* Нсл. *Прыехалі заручнікі; ды чаму ж яны бяз дудачкі. Наша Тацянка ня ўдованька, захоча пагуляць, таткаў двор раўнавàць* Из свад. песни, Нсл. *Уменьш.* **заручнічак**-*чка, предл.-чку.* Нсл. 183.
●**зару́чны ліст**—документ о "*заруке*".

•**зару́чыны**-*наў, единств. ч. нет.*—обручение, Гсл.; Ар.; Косіч234; Ксл. помолвка. Растсл.; ПНЗ. *Сядні заручыны.* Дсл. 249. *Ужо й заручыны згулялі.* Нсл. 183. *На заручынах каралевіч расказаў, як яго выгналі з дому.* Н.(Афанасьев I, 1913, 212). *Ужо звалі на заручыны.* Ст.

•**зарызыкава́ць**—*см. под рызыкава̀ць.*

•**зарыка́ць**—*см. под рыка̀ць.*

•**зары́мсьціла,** *безлич.—см. под ры̀мсьціць.*

•**зарыпе́ць**—*см. под рыпѐць.*

•**зарыштава́ць**—*см. под рыштава̀ць.*

•**засонак**-*нку, предл.-нку, м.*—спячка, состояние душевного оцепенения, бездеятельность, пассивность. *Гэтае пытаньнне быццам пабудзіла Васіля із засонку.* Шакун: Сьлед 2. *Бобік быццам прачхнуўся із засонку.* Шакун: Сьлед 19.

•**зас-е́сьці**-*ядàць—см. под сѐсьці.*

•**засоўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—дырка, в которую входит "пругло". Бягомля.

•**за́саб,** *нареч.*—друг при друге. БНсл.

•**заса́да**-*ды-дзе, ж.*—запруда. Жучк.: Топонимика 14. *На рацэ зрабілі засàду.* Жучк.: Топонимика.

•**за́садка[заса́дка,** Варсл.)-*дкі-дцы, ж.*—отгороженное место в хлеву, для помещения откармливаемых свиней. Варсл.; Міх. *Кормнага парсюка пасадзілі ў зàсадку.* Міх.

•**заса́дыш**-*ша, предл.-шу; мн. ч., род.-шаў, м.*—последняя и меньшая булка хлеба. Ксл. *Алена пасадзіла засадыш у печ.* Хадулава Куз. (Ксл.).

•**заса-дзі́ць,**—*см. под садзі̀ць.*

•**засаката́ць**—*см. под саката̀ць.*

•**засаладзі́ць**—*см. под саладзі̀ць.*

•**зас-опці**-*апсьці-апці—см. под сапсьці̀.*

•**засапсьці́ся**—*см. под сапсьці̀.*

•**засаромяцца**—*см. под саромяцца.*

•**засароміцца**—*см. под сароміцца.*

•**за́сарам,** *нареч.*—стыдновато. Нсл. 185. *Табе зàсарам гэта гаварыць.* Нсл.

•**засарамаці́ць**—*см. под сарамаці̀ць.*

•**засарамаці́цца**—*см. под сарамаці̀цца.*

•**заса́рпаць**—*см. под сàрпаць.*

•**заса́рпацца**—*см. под сàрпацца.*

•**за́саўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—задвижка. МГсл.; Ар.; Міх.; Шсл.; БНсл. *Нà нач засунулі дзьверы зàсаўкаю.* Ст. *Трэба да дзьвярэй прыбіць зàсаўку.* Чашнікі (Ксл.).

•**за́сха,** *засхі, засе, ж.* **1.** засуха. Нсл. 187. *Засха на полю.* Нсл.

**2.** сухота, внутренний жар. Нсл. 187. *Ад засхі ў роце язык паськяпала.* Нсл.

•**засе́д**-*ду, предл.-дзе, м.*—присест. *За адным заседам вячэра з абедам.* *Послов.* Рапан.: Прык. 249.

•**засе́яньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў*—засеянное поле. *У засеяньне на ґрунцех дворных жытам і ярынамі ўвязаньне давана быці маець.* Стт. 276.

•**зас-е́яць**-*явàць—см. под сѐяць.*

•**засе́дзець**—*см. под сядзѐць.*

•**засе́дзіцца**-*джавацца—см. под сядзѐць.*

•**за́седзь**-*дзі, ж.*—зачаток, первоначальная форма чего-л., способная к дальнейшему развитию, росту(у насекомых и птиц). Чухны Крэўск. в. Аш. *Адзін: Мухі ўзімку затым ё, што ўвосень доўга цёпла было, дык не паздыхалі. Другі(гледзячы на адсталую ад сьцяны паперу): Заседзь нейдзе ёсьць.* Чухны Аш.

•**за́сек[засе́к,** Шсл.) Пск.(Иеропольский)-*ку, у засеку, м.*—закром. Нсл. 188; НК: Очерки, Но. 554; Гсл.; Шсл.; Ксл.; Растсл.; ПНЗ; Иеропольский; Дсл. 254. *См. аруд. У яго поўныя засекі рознага збожжа.* Нсл. *Поўны засек аўсу.* Вулянавічы Сян. (Ксл.). *Насыпалі цэлы засѐк грэчкі.* Ст. *Уменьш.* **засечак**-*чка, предл.-чку.* Шсл.

•**заселяпа́ць**—*см. под селяпàць.*

•**за́сена**-*ны-не, ж.*—тенистое место. НК: Очерки, Но. 898.

•**засе́нак**-*нка, м.*—чулан, перегородка в сенях, для хозяйственных припасов. Нсл. 188. *Пакладзі кажух у засѐнак.* Нсл.

•**за́сень**-*ні; мн. ч., род.-няў, ж.*—тень. *Сонца ўстае ў зàсені густа-зялёных ліп.* Лойка: Л. песьня. *Добра ўлетку пасядзець у засені.* Вяжышча Беш. (Ксл.). *Гранітны рыцар срэбнай статуэткай суцьмяніцца ў засені гальля.* Кавыль: Думы 19. *Сядай, бабуля, у засень на травіцы.* Дуб: Чые рукі найпрыгожшыя? *Уменьш.* **за́сенка**-*нкі, дат., предл. засенцы*—тень. Ксл. *Жнеі селі абедаць у засенцы.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**засердава́ць**—*см. под сердава̀ць.*

•**засердава́цца**—*см. под сердава̀цца.*

•**зас-е́сьці**-*ядàць—см. под сѐсьці.*

•**засе́тнік**-*ка, предл.-ку, м.*—помещение за сушильнею — "асецьцю". Ксл. *Вотрына ляжыць у засетніку.* Зямковічы Сян. (Ксл.).

•**засе́вак**-*ўку, м.*—семя, нужное или употребляемое на сеяние. Нсл. 188. *Пазыч жыта на засѐвак.* Нсл.

•**засе́ўкі**-*вак(-ўкаў), единств. ч. нет.*—первый день посева. Варсл. *На засѐўкі мы варылі ґруцяную кашу із салам.* Варсл.

•**засе́ўраць**—побыть весною на ветре, влияние обнаруживается загаром и загрубением кожи на лице. *Пабыў дні два ў лесе, а глядзі від як засеўраў.* Дсл. 251.

•**засе́ціна**-*ны, дат., предл.-не, ж.—засетнік.* Ксл. *У таку, як малоцяць, дык мякіну кладуць у засеціну.* Выгары Куз. (Ксл.).

•**засе́цьце**-*ця, предл.*-цю; *мн. ч.-ці-цяў, м.—засетнік. Гэта ж у мяне цячэць засецьце.* Тур'я Чэрык. (Бясл.).

•**засе́чак**-*чка, предл.-чку,* **1.** отделение портмонэ, кошелька. Шсл. *Партманэцік на тры засечкі.* Ст.

**2.**—*см. под зàсек.*

•**засё́рбаць**—*см. под сёрбаць.*

•**засё́так**-*тку, предл.-тку, м.*—помещение за сушильней — "асецьцю". Ксл.

•**засядла́ць**—*см. под сядлàць.*

*займалася.* Міхайлавец Стдуб.(Косіч, 10). *Аблаташылі ігрушу ящчэ зь вечара.* Юрсл.
**2.** плод грушевого дерева, родящего мелкие плоды. Ар.; Дсл.; Харобрычы, Курило, 40. *Ігрушы цяжка, шумна падалі.* Крушына: Калыханка(Зьніч, 1954, Но. 27). *Любі жану, як душу, а трасі, як ігрушу.* *Поговор.* Дсл.(*под груша*). *Вісіць ігруша — есьці нельга, бо ў сярэдзіне агонь.*(*электрычная лямпачка*). Рапан: Прык: 365. *Вярзець ігрушу на вярбе.* *Послов.* Рапан.: Прык. 140.

**ігрушка**-*шкі-шцы,* *уменьш. к* *ігруша в обоих знач.*

**ігрушыца**-*цы-цы,* *уменьш. к* *ігруша в обоих знач.* *Ёсьць у полі край дарогі сухая ігрушыца.* Сямешкава (Раст.: Северск. 131).

•**ігрышча(ігры́шча,** НК.; Дсл.)-*ча, предл.-чу, мн. ч.-чы-чаў, ср.*—вечеринка с музыкой и танцами; танцевальный вечер. Ар.; НК.: Дудар, 175; Косіч 59; Дсл.; Гсл. *Дзеўкі зь дзяцюкамі будуць спраўляць ігрышча.* Ст. *Пойдзем на ігрышча.* Дсл. *Сьвяточнае ігрышча.* Дсл.(*под* *Аннушка*). *Пусьціць дзеўкі на ігрышча.* Нсл. 538(*под* *пускаць*). *Мар'я, ці пойдзеш ты да Каўканава на ігрышча?* Лахманы Аз. (Ксл.). *Ішоў музыка зь ігрышча да дому.* (Демид.: Веров). *Ён сядні на ігрышчу разбараніў бітуноў.* Васілёк (Калосьсе, Но. 3/16, 1938 г., стр. 131). *Вось ігрышча, дык ігрышча, не такое, як у нас.* Багушэвіч. *Адылі ж і тут бываюць гульні і ігрышчы.* Гарэцкі: Песьні II. *Абы сьвята, ён на ігрышчах.* Тм. 68. *Ведзьмы справілі ігрышча, ведзьмы маладыя.* Гарун: Казка. *Тут* (*у карчме*) *ігрышчы адбывалісь.* С. Музыка 133. *Ідзеш у край, дзе сьмерць спраўляе сваё ігрышча.* Купала: Новы Год.

•**ігры́ца**-*цы-цы,* **1.** *жен. к* *ігрэц.*
**2.** *област.*—певица. Ваніна Ржэўскі п.(Гринькова IУ); Пск. (Даль).

•**ї́хні**-*няя-няе.* Нсл. 226; Ар.; Раст.: Северск.; Шсл. **іхны**-*ная-нае,* Нсл. 226., *местоим. принадлежит.*—их, им принадлежащий, им свойственный. *Іхні конь і жывець у нашым аўсе.* Нсл. 226. *Іхнія дзеці лазяць у сад.* Тм. *Аддай іхняму брату.* Тм. *Іхні конь кусьлівы.* Дукора Сьміл. (Шсл.). *Я ня іхнай натуры.* Нсл. 226. *Ня іхнымі рукамі гэта зрабіць.* Тм. *Усё ў іхнай волі. ЗСД. 237. Іхну гаворку пачуў увесь лес.* Гарун: Белр. марш. *Пры іхным*(*маланак*) *сьвятле Андрэй абачыў дзьве труны.* Дудзіцкі („Бацькаўшчына", Но. 45-46/431-432). *Іхным заданьням было спаўненьне пляну.* Бацьк. Но. 1-2/437-438.

•**іхныя,** *іхных, іхным, зь іхнымі, у іхных, единств. ч. нет.*—члены семейства того лица, к которому обращаются с речью. Ар.

•**ідэя**-*эі-эі, ж.*—идея.
•**ідэя́л**-*ялу, предл. и зват.-яле, м.*—идеал.
•**ідэялёг**-*ёга, предл.-ёгу, мн. ч., дат.-ёжа, м.*—идеолог.
•**ідэялёгія**-*іі-іі, ж.*—идеология.
•**ідэялізава́ць**-*зую-зуеш-зуе, несоверш., перех.*—идеализировать.
•**ідэялі́зм**-*му, предл. и зват.-ме, м.*—идеализм.
•**ідэялістычны,** *-ная-нае*—идеалистический.
•**ідэяльны**-*ная-нае*—идеальный. *Нареч.* **ідэяльна**—идеально.
•**ідэйнасьць**-*ці, ж.*—идейность.
•**ідэйнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—идейный человек.
•**ідэйніца**-*цы-цы, ж.*—идейная женщина.
•**ідэйны**-*ная-нае*—идейный.
•**іду́чы**-*чая-чае,* **1.** идущий. Гсл. *Калі вось Езус падняў вочы і абачыў вялізарныя грамады, да Яго йдучыя, сказаў Піліпу.* Тат.: Ванэлі, 404.
**2.** текущий. Гсл.; Нсл. 224. *У йдучым годзе.* Нсл. *У йдучым годзе на ўсе добры ўрод а ўмалот.* Гсл.
•**ідучы́,** *деепр. наст. вр.*—идя. Гсл.; Ар.

•**ідзе́,** *нареч. места*—где. Растсл.; НК.: Дудар; Нсл. 224; Дсл.; Мікола Ядрэіч Духаўшч. пав.; Холашчава Красьн. п. цс.; Данькова Сьміл. п.; Мядзьведаўка Смал. п.; Самашкова Смал. п. цс.; Хоцькава Сычаўск. цс.; Баўтушына Ельн. п. і Цурыкоўская воласьць Смал. п. (Раст.: Смоленск 135, Бранск: Тихонов, 233). *"Былі злучы дзеля зьвязаньня дададаных проказяў месца з галоўнаю: кьде, где, ідзе, ідзеже."* Нарысы па гіст. блр. мовы, М. 1957, стр. 410. *"Важна адзначыць, што ў найусходнейшых гаворках мовы беларускае* (*прыкл. у Горацкім р-не Магілеўскае акругі*) *дагэтуль даволі часта сустракаецца варыянт гэтага злуча — "дзе, ідзе"* ( *з "іде, ідеже"*)*". Я хачу ведаць, ідзе ты жывеш.* Тм., стр. 412.

Нужно заметить, что, во-первых, Горецкий пайон не есть самым восточным, но только восточным; во-вторых, *"ідзе"*, с *"і"* в начале употребляется не только в Горецком районе, но и в других белорусских уездах; в-третьих употребляется не только для связания дополнительных предложений места с главным; кроме того, *"ідзе"* употребляют, как наречие вопросительное, наречие места и в значении частицы, что видно из приведенных примеров:
**1.** *вопрос. наречие.* *Ідзе ты хадзіла?* Красновічы Сураск. (Сержп.: Отчет, 12). *Ідзе ж ты ўплёткі падзяваў?* Косіч, 241. *А йдзе ж тваe прочкі будуць?* НК.: Сбяги, 8. *А ладачкі, ладкі, а йдзе былі?* Нсл. 264. *А йдзе ты быў?* Нсл. 224. *Ідзе ты быў?* Парэцк. (Дсл. *под* *болото*). *Ідзе яно падзелася?* Дсл. ( *под* *гаўкала*). *Ідзе тваё дзяцё? Накрычэўся, цяпер у калыбцы.* Дсл.( *под* *абадмацца*). *А йдзе цябе аблысілі гэтак — галава, як калена.* Зімніца Клім. (Бяльсл.). *Ідзе ты памѐсьціш грэччыну?* Нсл. 744.

В вопросительно-восклицательных предложениях, выражающих жаль, удивление по причине отсутствия чего-л.: *Ідзе ж тая краса дзелася, ідзе ж мая дзевачка?* Лупекі Стдуб.(Косіч 235). *А йдзе пекла? А ўв Альбрэхтаве.* *Послов.* Нсл. 396. *Ідзе гэта было, каб нашага брата шанавалі.* Інькава Парэцк. (Дсл.). *А дзед-дзядуленька, а йдзе твая бабуленька?* Дсл. *А йдзе ж ты тады быў, як тваю сьвэтку пярун біў?* Імсьц. *Ой, ідзе расла, ідзе кахалася?* Козіна Пуців. (Халанскі, 133). *Цяперанька вы й самі йдзіцѐ; а йдзе вас улетку знайсьці?* НК.: Старцы, 74. *А йдзе ж тая ліпіначка, што лыкі дзяруцца, а йдзе ж тая дзяўчыначка, што людзі сьмяюцца?* Раст.: Северск. 130.

**2.** *нареч. места; обычно с частицами "во, вун".* *Во йдзе яны! Вун йдзе дзяцюкі апынуліся! Няма йдзе падзецца.* Нсл. 224. *Ідзе селязень быў, ідзе вутка была, і жылі-былі на розных месцах.* Каменская вол. Навасільск п.(Будде-Тула-Орел, 14). *Вун ідзе гліна.* Чычанёўск. в. Арл.(Будде: Тула-Орел, 55). *Ср.* *нейдзе, няйдзеб, нійдзе. Цікуй курыцу, бо яна зьнясецца ня ведама йдзе.* Гуліна Сян. (Ксл.).

**3.** *неопределенное; то же, что* *йдзе-колечы.*

*А йдзе ночанька спаткае, а йдзе дожджайка прамоча.* НК.: Старцы, 78. *Харошая дзеўка ня выказуецца: яе абачаць хоць ідзе.* Нсл. 83. *Калі йдзе чалавек спатыкнецца, там граў музыка, а калі ён пàнець* (*падзець*), *там пазваны ёсьць ці дудар ці музыка.* НК.: Дудар, 170.

**4.** *относительное; употребляют, как союз:* **а)** в дополнительных предложениях места, иногда с наречиями *"там, туды"* в главн. предложении.

*А йдзе дудар грае, старац долькі ня мае.* Тм. *А йдзе старац пяець, туды музыка ня йдзець.* Тм. *А йдзе трапачы трапалі, там і грошыкі прапалі.* *Послов.* НК.: Пасоб., 147. *Ідзе грэх, там і кàята.* Нсл. 224. *А ў нашых аканомаў шаўковыя хусткі: А, йдзе былі гаспадары, тама сталі пусткі.* *Асачыце курыцу, ідзе яна нясецца.* Нсл. 369. *Ідзе бяспаншчына, там кажны сабе пан.* Нсл. 23(*под* *бяспаншчына*). *Спадар Бог сказаў: Дожджу, ідзі туды, ідзе цябе ждуць. А ён не пайшоў, ідзе ждуць, а пайшоў, ідзе жнуць. Дожджу, ідзі, ідзе цябе просяць. А ён пайшоў, ідзе косяць.* Смал. п.(Дсл. *под* *дождж*). *Паеж маю куцьцю, а йдзе сабакі забрэшуць, туды замуж пайду.* Харомск. Давідгарадоцкага р.(на Палесьсю), Полесье, стр. 66.

*В дополн. предложениях места:* *Не магу я там рабіць, ідзе мой міленькі арэць.* НК.: Част., 30. *Ня выкідавайся дужа, ідзе не патрэба.* Нсл. 83. *Ідзе была вада, тамака цяпер па пояс трава.* Сакуны, 51. **б)** *в дополнительных определенных предложениях:* *Шукала шэрая перапѐлачка свайго ѓнязьдзечка, ідзе ляжала яе яечка.* Чаўпня Стдуб. (Косіч, 26). *Набяры кайстрыцы, ідзе лён труць.* Доўжа Куз. (Ксл.). *Вышла ў тое сяло, ідзе радні, як Мардвы.* Дсл.( *под* *апаланяць*). *Вось табе пакажу імшарыну, ідзе табе лавіць рыбу.* Смал. п. (Дсл.). *Кідайце душу ў вагнёвую раку, йдзе ёсьць агонь-полымя.* НК.: Старцы, 95. *Глянуў на тую бярэзу, ідзе дзеўка зь дзяцюком засілілася.* Ельн. (Дсл.). **в)** *в дополнительных предложениях:* *Я хочу ведаць, ідзе ты жывеш. Бача вока, ідзе пячэцца кока.* Нсл. 17( *под* *бачыць*). *Я скажу, іде он есть, іде ана зарыта.* Архангельскае Зямлянск. пав. Варанеск. губ.(Гринькова У, 108). *Пакажы, іде куры сядять.* Арл. (Будде: Тула- Орел, 36).

**5.** *в значении частицы. Иногда с дат. падежом и с инфинитивом глагола для выражения печали, неуверенности в чем-л., совершенной невозможности чего-л.:* *Ідзе табе, дурню, пілнаваць?* Ром. III. *Нешта ў вас дужа сьцюдзёненька, азызнуць можна. А йдзе ж гэтую стадолу натопішся.* НК.: Старцы, 92.

**6.** откуда. *А йдзе ж узяўся малы дзяцінка.* Інькава Парэцк. (Дсл.).

•**ізрабі́ць,**—*см. под* *рабіць.*

•**ідзесь,**—*см. под* *дзесь.*

•**ідзі́ць,** *ідỳ, ідзѐш, ідзѐць, ідзѐм, ідзі́це, област.*— итти. Растсл.

•**ізьгінуць,**—*см. под* *гінуць.*

•**із, ізь,**—*см. под* *з.*

•**ізглажа́ць**-*ае*—изглаживать. *Дзеля наўчоных просьбы ўсе грахі ізглажае Пан Бог.* Кіт. 4863.

•**ізграшыць,**—*см. под* *грашыць.*

•**ізда́цца,**—*см. под* *даваца, здаваца.*

•**іздацца, здацца**—казаться. *Любіў хлопец дзеўку чатыры гадочкі, і здалося хлопцу чатыры дзянёчкі.* 45.

•**ізмазаць,**—*см. под* *мазаць.*

•**ізма́заць,** *ізмажу-жаш-жа, соверш.*—вытереть. *Калі борзда пакаецеся, ізмажа Пан Бог той грэх ад вас.* Кіт. 1566.

•**ізмы́лішча**-*ча, дат., предл.-чу, мн. ч.-чычаў, ср.*—обрывистый берег, подмытый водою. Ксл. *Во, якое ізмылішча тут!* Парадон (Ксл.).

•**ізмокці,**—*см. под* *мокці.*

•**ізмыць,**—*см. под* *мыць.*

•**ізноў,** *нареч.*—опять, МГсл. снова. МГсл. *Ізноў увыйшла каралеўна.* Н. (Афанасьев, 1, 1913, 211). *Ізноў захварэў.* ПНЗ. 26. *Ізноў тое самае.* Ст. *Ты йзноў паб'еш непрыяцельскае войска.* Н. (Афанасьев 1, 1913, 211). *Ізноў прышлі мы ў тое самае месца.* Воўсішча Сян. (Ксл.). *Уменьш.* **ізноўку.** (*Сонца*) *раз блісьне дзе-ня-дзе- і паўсім, і ізноўку свой від захавала.* Гарун(ст. "Мае думкі"). *Бо цябе ізноўку не знайду ля дому.* Я. Макаль(Б. Ускалось, 1954, Но. 4, 29). *Уменьш.* **ізноўку, зноўку.** *І рады я, што зь ім я зноўку.* Лойка: Л. песьня.

•**ізнадвор'я,**—*см. под* *знадвор'я.*

•**ізрабі́ць,**—*см. под* *рабіць.*

•**ізра́да,**—*см. под* *зрада.*

•ізра́длівы,—*см. под зрадлівы.*
•ізраднік,—*см. под зраднік.*
•ізра́дніца,—*см. под зрадніца.*
•ізра́дзіць, *ізраджаць,—см. под зрадзіць.*
•ізрадзтва,—*см. под зрадзтва.*
•ізрэб'е-*б'я, предл.-б'ю, ср.* **1.** третий, худший сорт волокна льна. Ксл.; Міх. *Панясу ізрэб'е прасьці.* Альшанікі Беш. (Ксл.). *Як ізрэб'е туман.* Кавыль: Пад зорамі, 48.
**2.** полотно(ткань) из волокна *"ізрэб'я".* Ксл.; Міх. *З гэтага ізрэб'я пашыем нагавіцы.* Альшанікі Беш. (Ксл.).
•ізрэбны,—*см. под зрэбны.*
•ізрэбны-*ная-нае,* **1.** *прилаг. к "ізрэб'е".*
**2.** пошитый из полотна *"ізрэб'я".* Міх. *Зірнула на ізрэбныя порткі.* Акула, 293. *Ізрэбная кашуля калаватая.* Міх. *Выме томік з пад ізрэбнай крысы.* Кавыль: Душы, 25.
•ізруб, (Варлыга: Назіраньні, 17), **зруб,** (Ар.) —деревянное соокружение из нескольких венцов, скрепленных в форме четырехугольника; сруб. Ар.
•ізводзіць, *ізьвесьці,—см. под весьці, зводзіць II.*
•ізваяваць,—*см. под ваяваць.*
•ізваліцца,—*см. под валіцца.*
•ізьгі́нуць,—*см. под гінуць.*
•ізье́сьці,—*см. под есьці.*
•ізьве́сьці,—*см. под вѐсьці, зьвѐсьці.*
•ізьвяза́ць,—*см. под вязаць, зьвязаць. Тры нагі ізьвяжы.* Кіт. 266б.
•ізьв-і́ты-*і̀ць,—см. под віць.*
•іжгу́р-*ура̀, предл.-уру̀, мн. ч.-ры-роў-ром-ры̀-ра̀мі-рох, м.*—ерш. НК.: Очерки, 493.
•і́к, *і̀ка, предл. і̀ку, зват.* **і́ча,** *мн. ч.* *`ікі-каў, м.*—иканье. НК.: Очерки, 65, Но. 126.
•ікла́ты-*тая-тае*—с большими клыками (клыкастый, С.). Шсл. *Чорт ты іклаты, чаго ты чэпішся да міне.* Ст.
•іклы(*один клык*), *іклаў, мн. ч.*—клыки. Шсл. *Свае іклы злосна шчэрыць.* Дуб.(Калосьсе, Но. 3-20, стр. 159). *У сьвіньні вялікія і̀клы.* Ст.
•ілга́ць, *ілжу̀-жэш-жэць-жэм-жыцѐ, несоверш.*—лгать. Нсл. 224; МГсл. *Гладка ілжэць, з'ілгаў.* Нсл. *См.* *маніць. Отгл. имя сущ.* **ілганьне**-*ня, предл.-ню,* **1.** лганьё.
**2.** ложь. Нсл. 224. *Пакінь ілганьне, а кажы праўду.* Нсл. *См. мана. Соверш.* **з'ілгаць,** *з'ілжу̀, з'ілжэш, з'ілжэць-эм-ыцѐ*—солгать. Нсл. 224.
•ілгу́ха-*у̀хі-у̀се, ж.*—лгунья. *См. манюка.*
•ілгу́н-*уна̀, предл.-уну̀, зват.-у̀не, мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох*—лгун, лжец. Нсл. 224; МГсл. *См. маныш, манюка.*
•ілжэцца, *ілжэцца, безлич.*—лжется. Нсл. 224. *Каму ня йме́цца, таму ілжэцца.* Нсл.
•ільга́, (Гсл.), **льга,** (Нсл.), *нареч.*—возможно, можно. Гсл.; Нсл. 274. *Прытульле ёсьць, дзе супачыць ільга.* Жылка, 47. *Шляхі ягоныя вялікія, ці льга загарадзіць?* Крушына("Зьніч", 1953, Но. 23). *Каб льга было, пацалаваў бы мілую птушачку.* Колас: Прылёт птушак. *Дзеляць усё чыста на два сьветы або, як кажа Дубоўка, на "нельга" і "льга".* Бацьк. Но. 38-39(573-574). *Гэта мова апрычоная, калі льга так сказаць.* Тм. *Як жа накш льга было?* Акула 255. *Ці льга было адгадаць, што нясе будучыня?* Тм. 293. *Ціж льга забыцца ўсю тую чмуту й паніжэньне, што былі спадарожнікамі польскіх акупантаў?* Тм. 302. *Калі льга будзе, прыедзь дамоў у госьці.* Ст. *Ня льга табе было прысьці да мяне.* Нсл. *Сказаць то льга, ды як гэта зрабіць.* Нсл. *Такімі мы заўсёды хацелі вас, Немцаў, бачыць, каб з вамі як зь людзьмі льга было пагаварыць.* Акула, 165. *Калі праз матар'яльны бок, дык і тут жыць льга.* Зь лісту В. Шыманца, паходзячага з Н. *Ці льга будзе дзівіцца, калі прачытаем, што Робэрт Бэрнс быў сябра "роднае партыі?"* Бацьк. Н. 10(545).
•ільлецца, *ільлюцца*—3-ее лицо к *"ліцца".*
•Ільлёў Воз, *Ільлёвага Возу*—созвездие Большой Медведицы. Ксл. *Ільлёў Воз ужо на паўдні.* Сялец Чаш. (Ксл.).
•ільля́нішча, (Варлыга: Назіраньні, 17)—земля, бывшая или находящаяся под льном.
•ільляны, (Варлыга: Назіраньні, 17), **лянны,** (Ар.)-*ная-ное*—льняной. Ар.
•ільлю, *ільлèш, ільлèць, ільлèм, ільліцè, ільлюць, 1-ое лицо наст. вр. к ліць.*
•ільсьлі́васьць-*ці, ж.*—льстивость. Гсл.
•ільсьні́цца-*нюся-нішся, несоверш.*—лосниться, блестеть. *Шоўк ільсьніцца пад рукой.* Крушына: Лебедзь, 29.
•ілцы́, *единств. ч. нет.-цоў-цом, мн. ч., предл.-цох*—вожжи. Ксл. *Кіруй каня ілцамі, а не вачамі.* Саўчонкі Куз. (Ксл.).
•іма́м-*а̀ма, предл.-а̀му, зват.-а̀ме*—имам.
•імамства-*ва, ср.* **1.** сан имама.
**2.** исполнение обязанностей или занятии имама. *Імамства чынілі.* Кіт. 90б14.
•іма́мські-*кая-кае, прилаг. к імам*—имаму принадлежащий, ему свойственный.
•і́масьць—ее милость(мость). Гсл.
•імаве́рнасьць-*ці, ж.* **1.** вероятность. Гсл.
**2.** доверчивость. Гсл.
•іма́ць(гіма́ць, Ск.), *іма̀ю, іма̀еш, іма̀е. Несоверш., перех.* **1.** брать, хватать(схватывать, С.). Нсл. 224. *Імай яго рукою.* Нсл. *Ня так імаеш, як трэба.* Тм. *А есьлі па том вонаму пану, у каго слуга ўцячэць, прыгадзілася яго відзеці на таргу, тагды ўжо вон сам ня маець яго імаці, ніжлі таго прыказцы свайго іскаці маець.* Стт. 462.
**2.** ловить. *Імайце нам лісіцы, лісенята.* Кніг 12 Б., П. П. 2:15. *Слугі за расказаньням панскім злодзея імаці не хацелі.* Стт. 463. *Гімай каня. Соверш.*

**імаць матку**—ловить матку(вчелиную). НК.: Очерки, 427. *Соверш.* **няць,** *іму̀, імѐш, імѐць, імѐм, іміцѐ, іму̀ць, перех.* **1.** взять, хватить. Гсл. *Імай, імі яго рукою.* Нсл. 224. *Я іму яго, але ён выскоўзуецца з рук.* Тм. *Ідзе каса не магла няць — у кусьце, каля пня, там статак знаходзе багаты корм.* НК.: Очерки, 465. *Саха не няла сухое*

*зямлі.* Сакуны, 72. *Радкога жыта ня можна няць сярпом.* НК.: Очерки, Но. 93. *Радкое збожжа й каса ледзь можа няць.* НК.: Очерки, 450. *И нях его и не пустихъ его.* П. П., 3:4 (З 12 кніг Б.).

**2.** ударить, хватить. Нсл. 343. *Імі яго кулаком у хрыбет.* Нсл. *Няў па мордзе.* Нсл. *Няў, аж зубы сьцяў.* Нсл.

**3.** тронуть(вызвать сочувствие, взволновать, умилить, **С.**). Нсл. 343. *Нічым яго ня можна няць.* Нсл. *Нічым ня імеш, ні просьбаю ні грозьбаю. Послов.* Нсл. 122(*под грозьба*). Гсл.

**4.** *с отрицанием "не"*—не постичь, не успеть в чем-л. *Калі чорт сам ня ймець, дык бабу пашлець.* Гсл.

**няць,** *іму̀, імѐш веру,* (*употр. обычно с отрицанием,* **С.**)—верить. Нсл. 343; Гсл. *Не ня ему веры.* Пск. Палея 1477 г., 183.(Кар.: Яз. Пскова 57). *Абдзіраловіч намагаўся супакоіць свайго любага Міколу, але той мала няў веры ў няпэўныя словы ягоныя.* Дзьве Душы, 181. *Ня йму таму веры, каб гэта была праўда.* Нсл. *Ня ймуць веры — не бажыся. Послов.* Тм. *Не хачу няць веры гэтаму.* Ст. *Ня йму табе веры ні на грош.* Ст. *Болей нікому ня ймела яна веры.* Дзьве Душы, 24. *Разважаў: ці ж яна кахае яго, калі пакідае яго аднаго, так лёгка ймець веры, што ў яго галава баліць, як трэба ехаць.* Тм. 25. *Іванька маладый ды жаніцца едзе. Татухна родненькі яму веры ня йме, на выбор, на выбор коніка дае.* Старадуб(Жив. Старина, 1910, 1, 98).

**ня можна веры няць**—не можно поверить. *Ня можна таму веры няць.* Нсл. 343. *Безлич.* **імець.** Нсл. 224. *Чаго цябе ймець, няло за жывот? Чаго ты крычыш?* Нсл. 224. *Соверш.* **няло**—взяло, хватило. Нсл. 343. *За сэрца няло. Няло цябе, як ты хораша пяеш.* Тм. *Няло! За тры капейкі піва, а шуму на ўсё сяло! Послов.* Тм.

**абня́ць,** *абы̀йму, абы̀ймеш, абы̀йме, абы̀ймем, абы̀ймеце, абы̀ймуць; прош. вр. абняў-няла̀-лі̀,* **1.** обнять, объять(охватить руками, выражать ласку, нежности и т. п.). Ар. *Абыйме шыю пара рук.* Гарун.

**2.** (*перен.*)—распространившись по всей поверхности чего-л., закрыть со всех сторон; окутать, завалочь, охватить(о пламени, тьме и т.п.) — обнять. *Абняла ноч.* Смал. п. (Дсл.),—обладеть кем.-л., обуять(о чувствах). *Як абняў жах, — ня помню, як прыбегла дамоў.* Дсл.

**3.** осмыслить, постигнуть. *Не мага абняць усяго.* Дсл. *Несоверш.*

**абыйма́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е; повел.-а̀й-а̀йма каго-што,* **1.** обнимать(охватывать руками, выражать ласку, нежность и т. п. **С.**). Гсл.

**2.** *несоверш. к абняць 2. Абнімала цемна ноч у зялёненькім лужку.* Дсл.

**адня́ць,** *адыйму̀, ады̀ймеш, ады̀йме, ады̀ймем, ады̀ймеце, ады̀ймуць, прош. вр. адняў-няла̀-няло, соверш., перех.* **1.** отнять. Ар.; Нсл. 361. *Апошняе адыймаеш, адняў у мяне.* Нсл.,—уменьшить количество чего-л. Нсл. 361. *Што ўжо тут адыймаць, аддай усе! Не! Троху адыйму.* Нсл.

**адыйма́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е; повел.-а̀й-а̀йма, несоверш. к адняць 1,2.* Нсл. 361; Дсл. *Апошняга каня адыймаюць.* Дсл. *Отгл. имя сущ.* **адыйманьне**-*ня, предл.-ню, мн.ч.-ні-няў,* **1.** отнимание, отнятие. Гсл. *Адыйманьне собскасьці.* Нсл.

**2.** *мат.*—вычитание.

**даймаць**-*аю-аеш-ае, несоверш. к даняць 1, перех.* **1.** добирать не донятое. Нсл. 138. *Да капейкі даймаюць падачкі.* Нсл.

**2.** давать себя чувствовать. *Даймаеш, даняў ты мне да жывога.* Нсл. 138. *Мароз даймае добра.* Нсл. 138. *Усё толькі адзін кашаль і даймае, старасьць, мусіць....* Гарун: Сьвята.

**3.** *несоверш. к даняць 2,*—производить впечатление.

**даня́ць,** *дайму̀, доймеш-ме; прош. вр. даня̀ў-яла̀-яло-ялі̀,* **1.** *соверш. к даймаць в 1-ом знач. Даняў ты мне добра; век не забудуся.* Нсл. 140. *Вясельліка даняло, каб яму дыхнуць не дало.* Варсл.

**2.** произвести впечатление.

**займа́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, повел.-а̀й-а̀йма, несоверш. к заняць, перех.* **1.** занимать какое-л. место или время. *Глядзіце, каб ніхто не займаў майго месца.* Ст.

**2.** брать в аренду участок поля, луга. Ар. *Паехалі займаць сенажаць.* Ар.

**3.** *в особенном знач.*—залучать животных в стадо. Шсл.; Ар. *Займайма каровы ды ганіма дамоў.* Ст.

**4.** *несоверш. к заняць 4.*

**5.** *безлич., займае(заняло) мову, духі*—занимает(заняло) речь, дух. Ар.; Шсл. *Агапа стагнала, як ёй вельмі займала духі.* Дудзіцкі(Бацьк. Но. 49-50/435-436).

**заняло мову**—перестать владеть языком. Варсл. *Хвораму заняло мову.* Варсл. *А каб табе заняло, сьціхні ты! Бачыш: і заняло яму і маўчыць.* Ст. *Як даў яму ў плечы грымака, дык аж духі заняло.* Ст.

**заня́ць,** *займу̀, зоймеш, зойме; прош. вр. заня̀ў-няла̀-няло̀-нялі̀,* **1.** занять какое-л. место или время. *Хтось заняў мае месца.* Ар. *Гэта работа шмат часу заняла.* Ар.

**2.** взять в аренду участок луга, поля. Ар. *Ніхто яго санажаці ня зойме.* Ар. *Заняў лаву лугу ў Вішнеўшчыне.* Ар.

**3.** залучить животных в стадо. Ар. *Заняў авечкі й пагнаўся.* Ар.

**4.** обладеть какой-л. территорией, занять.

**заня́ў холад**—сделалось холодно. Дсл.

**здыйма́ць,** *област.* **здыма́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, несоверш., перех.*—снимать. Ар.; Гсл.; Шсл. *Соверш.* **зьняць,** *здыйму̀, зды̀ймеш, зды̀йме, зды̀ймем, зды̀ймеце, зды̀ймуць; прош. вр. зьняў, зьняла̀-лі̀. Пан Бог ліджбу здыйме.* Кіт. 35б11.

**падняць,** *падыйму, падыймеш-дыйме-дыймем-дыймеце-дыймуць; прош. вр. падняў-няла-няло-лі, соверш., перех.* **1.** поднять, подниму, Ар. вспахать залеж, целину, пар. *Надабе аблогу падняць на лён.* Русінава Сян. (Ксл.). *Несоверш.* **падыймаць, падымаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** поднимать. Ар.
**2.** производить первую запашку поля, лежавшего под паром (залежью, целиной, С.). НК.: Пособники, Но. 46. *Я падымаў сядні аблогу.* Косы Віц. (Ксл.).

**падыймаць і ставіць**—водружать.

**паняць,** *пайму, поймеш, пойме; прош. вр. паняў-няла-няло-лі, соверш.* **1.** взять. (*Гвідон*) *як ужо стар быў, жонку паняў.* З павесьці Бова Каралевіч. *Прыгожую сабе паняў жонку.* Нсл. 467(*под* *панімаць*).
**2. паняць сваю волю**—проявить самостоятельность. *Твая жана маладая сваю волю паняла, твае кані вараныя пазаежджавала.* Из песни.
**3. паняць моду**—предаться чему-л. Ар.
**4.** *относительно реки*—наводнить. Нсл. 467. *Несоверш.* **панімаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** брать в супружество. Нсл. *Ня ўсё ж багатыя панімаюць багатых.* Нсл.
**2.** *о реке*: наводнять. Нсл. 467. *Рака*

**прыйманьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к прыймаць,* **1.** принятие. Нсл. 518. *Прыйманьне падарку.*

**прыйманьне прызначаньня**—принятие назначения. *Прыйманьне рады. Прыйманьне прысягі.*
**2.** прибирание. Нсл. 518. *Прыйманьне судзьдзя із столу.* Нсл.
**3.** прием. Нсл. 518. *Прыйманьне рэчаў подле лічбы.*

•**прыймаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** принимать.
**2.** убирать.
**3.** получать.
**4.** принимать под свое руководство.
**5.** принимать ответственность. Нсл. 505. *Я гэтага на сябе ня прымаю.* Нсл. 505.
**6.** терпеть, сносить, Нсл. 505. претерпевать, Нсл. 518. принимать. *Прыймаць кару, муку.* Нсл. 518. *Ніхто ня ведае, што я прыймаю ад яго.* Тм. *Богу толькі ведама, што я ад яго прымаю, прыняў.* Нсл. 505-7.

**прыняць,** *прыйму, прыймеш-ме-мем-меце-муць; прош. вр. прыняў-няла-ло-лі,* **1.** *соверш. к* *прымаць. Пан Бог просьбу прыйме.* Кіт. 3611.
**2.** *соверш. к* *прыймаць 2,*—взяв, убрать, унести. *Прымі із столу судзьдзе.*
**3.** *соверш. к* *прыймаць 3,*—получить.
**4.** принять под свое руководство; принять.

**прыняць двор, 1.** принять имение.
**2.** принять усадьбу. *Прыняць сялібу.*

**прыняць гаспадарку**—принять хозяйство.
**5.** включить в состояние чего-л., в участие в чем-л. *Прыняць да школы, да гуртка, да таварыства.*
**6.** допустить к переговорам, к беседе: принять. *Ён мяне прыняў у васабістай справе* (...по личному делу).

**прыняць хварца**—принять пациента, больного.
**7.** принять какое-л. отношение к чему-л., принять. *Ведамку прынялі з асьцярогаю* —известие было принято с опасанием. *Згадзіцца на што*—принять.

**прыняць пасуленьне**—принять предложение. *Прыняць рэзолюцу.*
**8.** принять иное вероисповедание. *Прыняць хрысьцянства, праваслаўе, каталіцтва.*
**9.** *соверш. к* *прыймаць 4, 5, 6.*

**прыняты,** *прич. к* *прыняць 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8.*

**суймаць,** *несоверш. к* *суняць.*

**суняць,** *суйму-меш-мець-мем-міце, прош. вр. суняў-няла-няло-нялі каго-што, соверш.* **1.** остановить, прекратить, сдержать действие, проявление чего-л.; унять. *Выяжджаючы на вялікую дарогу, Гужэвіч суняў дэраша.* Дудзіцкі(Бацьк. Но. 49-50/435-436).
**2.** унимать говорящего(кричащего, плачущего, С.). Шсл. *Суніміце вы дзяцё, хай ня крычыць.* Ст.
**3.** останавливать-ться. Шсл. *Сунімеце малатарню.* Ст. *Суніміся, ня едзь, пагаворым троха.* Ст.
**4.** заставить, перестать кричать, шуметь, плакать; унять. *Суймі дзеці, хай ня крычаць так. Ты ж, як матуля, прытуліш і прымееш, ашукаеш ласкай і тугу сунімеш.* Гарун(ст. "Літаньне адзіноце").

**сунімаць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех. Прасіць устаць, ня крычаць, сунімае.* Гарун: Варажба,—унимать. МГсл. *Соверш.* **прысуняць**-*суйму-суймеш-суйме; прош. вр. прысуняў-няла-няло-нялі* —приостановить лошадь на короткое время, Шсл. вообще приостановить. *Прысуймі каня, пагукаем троха.*

**вымаць**-*аю-аеш-ае*: *повел.-ай-айма, несоверш. к выняць, перех.*—вынимать. Нсл. 86; Ар. *Вымай гаршкі, хлеб із печы.* Нсл.

**выняць,** *выму-меш-ме, соверш.* **1.** вынуть. Гсл.; Ар.; Нсл. 86; ЗСД 255. *Выняла пярсьцёнак зь кішані.* Н. (Афанасьев, IУ, 1914, 287). *Я цябе зь пяску маю выняць.* Кіт. 8164. *Дурань выняў адзін бохан.* Крамушоўка Н.(Демид: Веров, 92). *Наталя выняла кніжачку.* Ю. Жывіца("Прыйсьце", Но. 1).
**2.** изъять. Ст. 1529 сл. *Дзеці й імнеьея ў яе з рук выняці.* Стт. 1529, УІ, 16. *Прич.* **выняты.** Ар.

**уздыймаць,** *област.* **уздымаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** *несоверш. к* *узьняць,* — быстро, энергично поднимать. *Ні сьвет, ні зара уздымаюць, узьнялі з пасьцелі.* Нсл. 53.
**2.** *несоверш. к* *узьняць 2, 3.*

**узьня́ць,** *уздыйму̂,-меш-ме; прош. вр. узьня̂ў-няла̀-няло-нялі̂, соверш., перех.* **1.** быстро, энергично поднять. Ар.; Ксл. *І, посьле, узьнімі галаву.* Кіт. 12063. *Узьнімiце гэтыя думкі.* Тухінка Сян. (Ксл.).
**2.** запахать(плугом, сохой) твердую землю. *Узьняць папар.* НК.: Очерки, 440. *Узьнімуць папар.* Тм. 441.
**3.** неожиданно затеять что-н. Ксл.; Ар. *Яны ўзьнялі сварку мяжсобку.* Вейна Сян. (Ксл.).

**уня́ць,** *уйму̂-мѐш-мѐць-мѐм-міцѐ-уйму́ць, прош. вр. уня̂ў, уняла̀, уняло, унялі̂, соверш., перех.*—отнять. *Кавалак здароўя ўнялі імне.* Нсл. 226(*под кавалак*).

•**іма́цца,** *іма̀юся, імаешся,* **1.** браться, Нсл. 224. хвататься. *Не за сваю работу ймаешся.* Нсл. *Імайся за свой бок, а не за мае дзеці. Поговор.* Нсл.
**2.** понимать, (Нсл. 224) постигать, успевать в чем-л. *Ці ймаецца мой сын навукі? Імецца троху.* Нсл. 224.

**ня́цца,** *іму̂ся, імѐшся, імѐцца, імѐмся, іміцѐся, імуцца, соверш.* **1.**(приняться, Гсл.), взяться, схватиться. Нсл. 344. *Гора як імецца, дык і страх мінецца.* Дсл. *Каб ты няўся за жывот свой, а не за дзеці мае.*
**2.** постичь, начать усваивать, Гсл. понять, постичь умом. Нсл. 344. *Няцца навук.* Нсл. *Няўся ўсялякае работы.* Тм. *Няўся чытаць, адылі пісаць.* Гсл. *Зь вялікаю цяжкасьцю кіруецца Хомка няцца караню навукі.* Гарэцкі: Песьні, 39. *Памаскоўску чытаць-пісаць умеюць, а па беларуску няцца хочуць.* МГсл., перадмова, IУ. *Змалку ён і чытаньню-пісаньню добра няўся.* Дзьве Душы, 63.
**3.** удариться. Нсл. 344. *Няўся лобам аб вушак, аж гуз ускочыў.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **ня́цьце,** (Ксл.), **няцьцё,** (Нсл.)—понятливость, (Нсл. 343) сообразительность(в чем-л., С.). Ксл., успевание. *Ніякага нѐцьця ў маладзіцы няма.* Янавічы Сур. (Ксл.). *На благое ё няцьцё, а на добрае няма.* Нсл. 343.

**не даваць няцьця веры**—не верить. *Імне ніколі няцьцё(ця̀, С.) веры не даюць.* Нсл. 343.

**імѐцца,** *безлич., обычно с отрицанием*—вериться. Нсл. 224. *Мне ня ймецца штось, каб гэта была праўда.* Нсл. *Табе ня ймецца, што баліць.* Тм. *Сьмяецца, каму ня ймецца. Послов.* Нсл.

**ня ймецца веры,** *безлич.*—невериться. *Ня ймецца веры, што было яно ў яго жыцьцю.* Гарэцкі: Песьні, 84.

**абня́цца,** *абыйму̂ся, абы̀ймешся, абы̀ймецца, абы̀ймемся, абы̀ймецеся, абы̀ймуцца; прош. вр. абня̂ўся, абняла̀сянялося-нялі̂ся, соверш.*—обняться. *Несоверш.* **абыйма́цца**-*а̀юся-а̀ешся; повел.-а̀йсяа̀ймася*—обниматься.

**займа́цца**-*а̀юся-а̀ешся, несоверш.,* чым **1.** заниматься(делом, работой). *Займіцеся вы чым, ня дурэйце.* Ст.
**2.** заниматься, начинаться, наступать(о паявлении дневного света, о заре и т. п.). *Стала на дзень займацца.* Я.Г.: Казкі, Но. 2, стр. 6.
**3.** водиться с кем, связываться. Шсл. *З благім чалавекам валей не займайся.* Ст. *Соверш.* **заняцца,** *займу̂ся, зоймешся чым,* **1.** заняться(делом, работой). Шсл. *Заняўся работаю, няма калі й паесьці.* Ст.
**2.** *соверш. к займацца во 2-ом знач. Плаці, як зара займецца, покі сонца на копію ўзыйдзе.* Кіт.

**здыйма́цца,** *област.* **здыма́цца**-*а̀юсяа̀ешся, несоверш.*—сниматься. Гсл. *Соверш.* **зьня́цца,** *здыйму̂ся, зды̀ймешся, зды̀ймецца, зды̀ймемся, зды̀ймецеся, зды̀ймуцца; прош. вр. зьняўся, зняла̀ся-лосялі̂ся,*—сняться.

**падня́цца,** *парыйму̂ся-мешся; прош. вр. падня̂ўся, падняла̀ся-лося-лі̂ся, соверш.* **1.** подняться.
**2.** взяться за какое-либо дело. *Лякай падняўся ўткнуць шпільку, каторую баба дала.* Н. (Афанасьев, III, 1914, 105). *Маюць сардэчне, каторыя падыймуцца, за таго мэйііта(араб. нябожчыка) Пана Бога прасіць.* Кіт. 49б16.

**падыйма́цца**-*а̀юся-а̀ешся,* **1.** *несоверш. к падняцца 1,*—подниматься. Ар.; Ксл.
**2.** *несоверш. к падняцца 2,*—браться за что-л.

**прыма́цца**-*аецца-а̀юцца, несоверш.*—начинать расти(приживаться, приниматься, С.). Нсл. 505. *Яблынкі прымаюцца.* Нсл.

**напрыймацца, 1.** напринимать вдоволь.
**2. напрыймацца гора**—нагореваться. *Напрыймаўся я тут гора.* Нсл. 315. *Соверш.* **прыня́цца,** *пры̀ймецца, пры̀ймуцца,* **1.** укорениться, дать ростки, приняться. *Пасаджаныя кветкі прыняліся.* Ар. *Прич. прош. вр.* **прыня́ўшыся.** Ар. *Парэчкі былі прыняўшыся добра.* Ар.
**2.** *да чаго,*—приняться за что. *Пашоў да кухні і прыняўся да свае работы.* Н. (Афанасьев I, 1913, 211).

**суйма́цца**-*а̀юся-а̀ешся, несоверш. к суняцца. Соверш.* **суня́цца,** *суйму̂ся-мѐшсямѐмся-міцѐся; прош. вр. суня̂ўся-няла̀сялося-лі̂ся,* — уняться. *Пад вечар бой суняўся нясьціханы.* Ар.; Вольскі: Паланянка. *Суйміся, ня плач. Хтось суняўся каля нашых варот.* Ст. *Яна ірванулася наперад, потым быццам сунялася.* ЗСД. 167. *Суняўся на траўлівым прагалку.* Дудзіцкі (Бацьк., Но. 49-50/435-436). *Прич. прош. вр.* **суняўшыся.** *Ён ужо суняўшыся, ня плача.*

**выма́цца**-*ма̀ецца,* **1.** *несоверш. к выняцца,*—выниматься.
**2.** быть способным, иметь свойство извлекаться, выдвигаться. Ар. *Гэты прыскрынак вымаецца.* Ар.

**вы́няцца,** *вы̀ймецца, вы̀ймуцца*—вынуться. Ар. *Выняўся нейкі капыт.* Мікольск М.(Демид.: Веров. III).

**уздыймáцца,** *област.* **уздымáцца,** *несоверш. к узьняцца.*

**узьняцца,** *уздыймуся, уздыймешся, соверш.*—быстро, с силою подняться. Ар. *Узьняўся вялікі вецер.* Баркова Куз. (Ксл.). *Віхор узьняўся. Мехава Аз. (Ксл.). Жывым узьняўся ў выш.* Гарун(ст. "Навука").
**2.** *о растениях*—скоро вырасти высоким. *Узьнялося жыта па калена на Узьнèсеньне.* НК.: Очерки, 455. *Прич. прош.л. вр.* **узьняўшыся.** Ар. *Вялікі вецер быў узьняўшыся.* Ар.

•**ïмбрык**-*ка, зват. імбрыча, м.* **1.** чайник. *Уменьш.* **імбрычак**-*чка, предл.-чку, зват.-чку, м.*—чайник. МГсл.; Ар.; Ксл. *У імбрычку стаіць гарбата.* Чараўкі Сян. (Ксл.)
**2. ïмбрык да кавы**—кофейник. МГсл.

•**імгненьне**—мгновение. МГсл.

•**ïмя,** *род., дат., предл.* *імені, твор.* *імям, мн. ч.* *імёны-наў, нам, ср.*—имя. МГсл.; Ар.; Раст.: Северск 135. *Шануем мы бацькоў імёны.* Жылка, 25.

**налажыць імя**—наречь. Смл.

•**імéнны**-*ная-нае*—именованный. МГсл.

•**імжáка(мжака,** Ксл.)-*кі, дат., предл.* *імжацы, ж.*—мелкий дождь, Ксл. мелкий с туманом дождик, Шсл. изморось. *На дварэ нейкая імжака йдзе.* Ст. *Учора была мжака.* Санікі Беш. (Ксл.). *Мжака ўжо перастала.* Кузьміно Сян. (Ксл.). *См. імжа.*

•**імжэль(мжэль,** Растсл.; ПНЗ.)-*лі, мн. ч.-ляў, ж.*—мгла, Растсл.; ПНЗ. изморось.

•**імжэць**-*жу̀-жы̀ш-жы̀ць, несоверш.*—моросить. Шсл.; Ксл. *Які там дождж; троха імжыць.* Ст. *Надвор'е благое — імжыць як у восень.* Латыгаль Сян. (Ксл.). *Даль дажджамі імжыць.* Сяднёў: Сястры. *Імжыць сьвятло.* Кавыль: Пад зорамі, 20. *Соверш.* **заімжэць**—заморосить(о дожде). *Мусіць на цэлы дзень заімжэў дождж.* Ст.

•**імжлïвы**-*вая-вае, прилаг. к імжа. Прасьевала імжлівыя дажджы.* Лойка: Л. песьня.

•**імжы́ць(мжыць,** Нсл.; Даль), *імжыць, безлич.* **1.** моросить. Тул., Тмб. (Даль).
**2.** *перех.*—смыкать, жмурить, Нсл. 284. жмурить глаза. Тверщ. (Даль). *Мжыць, замжыць вочы.* Нсл.

•**імжы́цца,** Нсл., *імжы̀цца, імжацца, несоверш.* **1.** моросить. Ксл.; Гсл.; БНсл. *Сядні дождж імжыцца.* Мянюцева Сян. (Ксл.).
**2.** смыкаться(о глазах). Нсл. 284. *Вочы мжацца, замжыліся ў цябе, спаць хочаш.* Нсл. *Соверш.* **замжыцца.** Нсл. 284.
**3.** *безлич.*—мерещеться. Нсл. 284. *У ваччу мжыцца.* Нсл.

•**імклïва,** *нареч. к імклівы*—стремительно. *Ты за зорамі імкліва імкніся.* Дуб. *Дзьвіны шырокай глыбіні плывуць імкліва.* Салавей: Сіла, 15. *А ліпы падымаліся маўкліва, дарогу абступаючы, імкліва з гары на горку ў далеч бягучы.* Лойка: Л. песьня. *Хмары...імкліва расьцярушаваліся і высака зьнікалі.* Корзюк(Конадні, У-УІ, 39).

•**імжá**-*жы̀, дат., предл.-жы̀, ж.*—мелкий дождь, Растсл. изморось. Гсл. *Павыносілі ў неба гальлё вялізныя, і зь яго сыпалася за каўнер Дзімку калючая сьнежная імжа.* Капыловіч: Хлеб(Беларус, Но. 157). *Я агорнуты сьнежнай імжою.* Жылка, 62. *Пачалася імжа.* Корзюк.

•**імклïвасьць**-*ці, общ.-цяў, ж.*—стремительность. *Падбіта нязломных імклівасьць.* Салавей: Сіла, 54. *У такое надвор'е ....ня бывае шырокае імклівасьці.* ЗСД. 98. *Уваччу ў яе гарэў агонь гордае імклівасьці.* Тм. 99.

•**імклïвы**-*вая-вае*—стремительный. *Спыніў Кайдан імклівую арду.* Ар.; Вольскі: Паланяка. *Акорды, акорды.... пялёсткі зьлятаюць у вашых павевах, імклівых і гордых.* Дуб. *Гукі аркестры спляталіся цяпер із дружна-імклівым хорам людзкіх галасоў.* ЗСД 24. *Вырываліся ўгару стаўпы злосна імклівага полымя.* Тм. 168.

•**імкнéньне,** *предл.-ню, ср.*—стремление. *Тваё жыцьце, тваё цярпеньне — да вёснаў сонечных імкненьне.* Салавей: Сіла, 37. *Імкненьне сьветлае, высокае нясі ў наш родны край.* Крушына(Зьніч, 1952, Но. 20, 5).

•**імкнýць,** -*ну̀-нѐш-нѐць-нѐм-нïце-нуць*—стремиться, стремить, направлять, устремлять куда-л.(мечту, мысль). *Жыцьця струмень імкне да вас.* Салавей: Сіла, 9. *Думак, што імкнуць у бацькаў край, ня выперадзіш, ветру быстракрылы.* Лойка: Л. песьня.

•**імкнýцца,** -*ну̀ся-нѐшся*—стремиться. МГсл.; Ксл. *Імкнецца, ліха ведае куды.* Балдыкава Аз. (Ксл.). *Імкнецца сьцерці знакі апрычонасьці.* Бацьк. Но. 3, 439.

•**імнé,** *дат., предл. падежи к "я". См. я.*

•**імпэт**-*ту, м.*—(порывистость, С.), натиск, стремительность. Гсл.

•**імсьлïвасьць**-*ці, ж.* **1.** мстительность.
**2.** злопамятность. МГсл.

•**імсьліві**-*вая-вае*—мстительный. МГсл. *А поўначы на іх напалі імсьлівыя людзі.* Дзьве Душы, 4. *Стася на часіну пачула нейкае імсьлівае здаваленьне.* Юстапчык. *См. помсьлівы. Пакрыўджаная прырода імсьцілася.* Рамановіч(Конадні, Но. 2, 20).

•**імшá**-*шы̀-шы̀, ж.*—обедня(обыкновенно у католиков, С.). Шсл.; Варлыга: Назіраньні 17. *Парадзілі імшу закупіць.* Уселюб Н. (Демид.: Веров., 94). *Валей ты закупі імшу да Найсьвятшае Маткі Боскае.* Тм. *Па маці адправілі імшу.* Ст. *Думаю пайці да царквы закупіць імшу на свайго лютара, нязбожніка.* Уселюб Н.(Демид.: Веров., 94). *Антыхрыст служыць вернікам імшу.* Кавыль: Думы, 40. *Табе (Сталіну) там правяць чорную імшу.* Падсонечны(Ускалось, Но. 7, 10).

•**імшал**-*лу, предл.-ле, м.*—требник (у католиков). *Подле Маркса-Леніна чырвонага імшалу Табе(Сталіну) там правяць чорную імшу.* Падсонечны (Ускалось, Но. 7, 10).

•**імшар**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—моховое место, болото. Гсл. *См. імшара.*

•**імша́ра**-*ры, дат., предл.-ры, ж.*—моховое болото. Ксл.; Варлыга: Назіраньні, 17. *На імшарах расьцець мох.* Баранаўка Куз. (Ксл.). *У імшарах нарадзіўся запраўдны партызанцкі адзьдел.* Хмара(Б. Ускалось, 1955, Но. 5). *Густы імшарнік.* Салавей: Сіла, 82.

•**імшэньнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —хата, конопаченная мхом, без печки. В такой хате помещается одежда, разная домашняя утварь, пчелы.

•**імшэць**-*эю-эеш-эе*—покрываться мхом.

•**імшоны,**—*см. под імшыць II.*

•**імшы́ць I**-*шу́-шы́ш-шы́ць, несоверш., перех.* —служить обедню(у католиков).

•**імшы́ць II**-*шу́-шы́ш-шы́ць*—конопатить мхом, Гсл. класть мох при постройке. Косіч 80; Варлыга: Назіраньні, 17. *Прич.* **імшоны** —конопаченный. Дсл. *Імшоная хата.* Дсл.(*под амшыць*). *Соверш.* **амшы́ць**-*шу́-шы́ш*—проконопатить. Ксл.; Дсл. *Трэба амшыць хлеў.* Дубнікі Сян. (Ксл.). *Соверш.* **замшэць**—покрыться мхом. *На ім(доме) зымшэла пад дажджамі дранка.* Лойка: Л. песьня.

•**імшы́сты**-*тая-тае*—мшистый. *Нёман, палошчучы імшыстыя берагі, каціў на заход хвалі.* Дудзіцкі(Бацьк. Но. 49-50, 435-436).

•**імчацца**—мчаться. МГсл.

•**іноси,** *нареч.* **1.** пусть себе. Нсл. 225. *Інося табе, ды ня мне.* Нсл.

**2.** *частица,*—изволь, пожалуй(нерешительное согласие, С.). Нсл. 225. *Інося, прыеду.* Нсл. *Інося, няхай і так.* Нсл.

**3.** иное дело. *Інося, як ты знаеш, а хто ня знае, таму ня то.* Нсл. *Інося там, дзе кіпарысы.* Дуб. *Пазнала, што рабіць — Інося....* Дуб.

•**іна́к,** *нареч.*—иначе. *Чалавек так, а Бог інак. Послов.* Нсл.

•**інакшыць,**—*см. под накшыць.*

•**іна́чыць**-*чу-чыш-ча; повел.-ч-чма, несоверш., перех.* **1.** делать на иной образец. Нсл. 225. *Іначыць работу.* Нсл.

**2.** переменять. Нсл. 225. *Іначыць сваё слова.* Нсл.

**ад'іначыць,** *соверш.*—переменить, изменить. Нсл. 385. *Ад'іначыць парадак.* Нсл. *Прич.* **ад'іначаны**—измененный. Нсл. 385. *Ад'іначаным спосабам гэта зроблена.* Нсл. *Соверш.* **зыіначыць**—изменить. *Зыіначыць парадак. Прич.* **зыіна́чаны**—измененный, МГсл. переменный. Нсл. 221. *Зыіначаны парадак, і пайшло усім другое.* Нсл. *Соверш.* **перайначыць**—видоизменить, Гсл. изменить. Нсл. 403. *Прич.* **перайначаны**—измененный. Нсл. 403. *Мае словы перайначаны.* Нсл.

•**інбі́рнікі**-*каў*—слащавое приготовление из имбира, в ромбоидальной форме. НК.: Очерки, 38.

•**інды́к**-*ка̀, предл.-ку̀, зват. інды̀ча, мн. ч.-кі̀-коў-ком-кі̀-ка̀мі-кох, м.*—индейка. Ар.; Ксл. *А сват ходзе, харабрue, як індык.* Купіна Віц. (Ксл.).

•**інды́чка**-*чкі-чцы, ж.*—самка индейка.

•**інстыкт**-*ту, предл. и зват.-це, м.*—инстинкт. Нсл. 225. *Гэта ўжо інстыкт, апалы рэфлекс, выраблены паўвяковым страшным жыцьцём, якое мог пераэжыць толькі той, хто меў гэты інстыкт.* Блр. Голас, Но. 178.

•**іншэць**-*эю-эеш-эе, повел. іншэй-эйма, несоверш.*—становиться иным, изменяться. Нсл. 225. *За новым аканомам парадак іншэе, паіншэў.* Нсл. *Соверш.* **паіншэць,** Нсл. 225.—несколько измениться. *См. іншэць.*

•**ї́ншы**-*шая-шае*—другой, не такой, как этот(или как прежде отличающий от этого, или от прежнего); иной. Ар.; Гсл.; Нсл. 225; Вят., Вост. (Даль). *Іншы стаўся парадак.* Нсл. *Пан Бог, акром яго іншага Бога нямаш.* Кіт. 6611.

**2.** *нареч., област.*—иначе. Растсл. *См. начай.*

•**ї́ншыць,** *-шу-шыш-ша, несоверш., перех.* **1.** переменять. Нсл. 225. *Свае слова іншыш.* Нсл.

**2.** подменять, тайно, незаметно заменять одно другим. *Соверш.* **зьіншыць, 1.** переменить.

**2.** подменить(тайно, незаметно заменить одно другим, С.). Нсл. 221. *Зьіншыў тое, што я сабе выбраў.* Нсл. *Прич.* **зьіншаны, 1.** переменённый. *Зьіншанае слова.* Нсл. 221.

**2.** подмененный. Нсл. 221. *Зьіншаны тавар.* Нсл.

**зьінша́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, повел.-а̀й-а̀йма, многократ., перех.* **1.** переменять.

**2.** подменять. Нсл. 221. *Ня зьіншай майго тавару.* Нсл.

•**ї́ншыцца**-*шуся-шышся,* **1.** переменяться, изменяться.

**2.** подменяться, незаметно сменяться чем-л. другим. *Соверш.* **зьї́ншыцца, 1.** перемениться.

**2.** подмениться, незаметно смениться чем-л. другим. *Зьіншаецца, зьіншыўся колер.* Нсл. 221. *Многократ.* **зьінша́цца**-*а̀юся-а̀ешся, повел.-а̀йся-а̀ймася,* **1.** переменяться, изменяться.

**2.** подменяться, многократно, незаметно сменяться чем-л. другим. *Ср. зьіншацца в 2-ом знач.*

•**інтарэс**-*су, предл. и зват.-се, м.*—дело(к кому, С.). Гсл.; Нсл. 225. *Інтарэс маю да цябе.* Нсл.

•**ї́рха, ї́рхі, ї́рсе, ж.** **1.** очищенная от шерсти ленточка из овчины, вкладываемая в шов полушубка(тулупа, С.). Шсл. *Забыўся ірхі ўлажыць ды шые.* Ст.

**2.** такая же ленточка, нашиваная спереди полушубка справа и слева, как украшение. Шсл. *Абарвалася ў кажусе ірха.* Ст. *Ср. ірша̀.*

•**ірхава́ць**-*хýю-хýеш-хуе, несоверш., перех.* —нашить в полушубке *"ірхі".* Шсл. *Соверш.* **аб'ірхава́ць**-*хýю-хýеш-хýе, перех.* Шсл. *Кажух гатоў, толькі яшчэ аб'ірхаваць.* Ст.

•**ірдзе́ль**-*ля, общ.* **1.** ярко-красный. Гсл.

**2.** краснощекий. Гсл.

**3.** пышащий-щая здоровьем, Ксл. краснощекий, здоровый мужчина, краснощекая здоровая женщина. Нсл. 225. *Ірдзель дзеўка.* Нсл.

•**ірдзе́нь**-*ня, общ.* — *ірдзель.* Нсл. 225. *Чырвоны, як ірдзень.* Нсл.

•**ірдзень**-*ні, мн. ч.-няў, ж.*—румянец. Іг. *На шчоках ірдзень.* Іг.

•**ірдзе́ць**, *-ѐе, повел., -ѐй-ѐйма, несоверш.* —рдеть. Шсл. *Крывёю ірдзее раса.* Колас: Адплата, 3. *Ірдзее на палянах суніцаў раньні жар.* Калачынскі: Лясная казка.

•**ірдзецца**-*дзіцца, несоверш.* — *ірдзець.* Шсл. *Раса аж ірдзіцца на траве.* Ст. *Соверш.* **заірдзецца**—закраснеться. *Баба аж заірдзелася ад злосьці.* Ст.

•**ірза́ць**, *іржý, іржэш, іржэць; прош. вр. ірзаў, несоверш.*—ржать. Гсл.; МГсл.; ПНЗ, 9; Шсл. *Конь ня йдзе, конь іржэ, упінаецца.* Росуха Імгл.(Косіч 254). *Конь іржэ стоячы ў хлеве.* Ст. *Прыходзе пад ноч конь, іржыць бедалака.* Вышынскі: Хата пад ліпою(Беларус, Но. 155). *У лесе жарэбчыкі іржуць, дамоў ня йдуць(ваўкі).* Рапан. Прык.: 354. *Хоць Сіўка не вязе, ды іржэ. Послов.* Рапан 159. *Коні пачалі ірзаць.* Воўсішча Сян. (Ксл. 237). *Яшчэ будзе вараненькі весела ірзаці.* Гарун: Белр. марш. *Соверш.* **зарза́ць.** Дсл. 248.—заржать. *Зарзалі кабылы.* Дсл. *Вышаў вол, заірзаў як конь, надзьмуўся як мех(гусак).* Рапан. 345. *Конікі зарзалі.* Сур. Северск.(Шэйн, 1-2, 497).

•**іржа́ І**-*жы-жы, ж., област.*—рожь на пне. Ск. *См. жыта.*

•**іржа́ ІІ**, *іржы̀-жы̀, ж.*—ржавчина. *Восень....сыпе іржою зь бялёсых бяроз.* А. Змагар(Прыйсьце, Но. 1). *Плугі чакалі ськіваў чорных, каб змыць іржу.* Танк(Калосьсе, Но. 3/20, стр. 130); МГсл.; Растсл.; Косіч 80; Шсл.; Нсл. 225; Ксл. *Сэпаратар іржа паела. Сутокі Лёз. (Ксл.). Грызе, есьць мяне, як іржа зялеза.* Ст. *Іржа зьела касу.* Нсл. *Грызець, як іржа зялеза.* Рапан.: Прык. 74. *У талым сьнезе прэлая зямля, як іржа рудая на зялезе.* Крушына: Лебедзь, 41. *Паіў Сібір мяне іржой крыніц.* Кавыль: Думы, 59.

•**іржа́нка**-*нкі-нцы, ж.*—ржаная солома. Ск. *Прынясі іржанкі на Куцьцю.* Ск.

•**іржаны̀**-*ная-нае*—ржаной. Ск. *См. жытні.*

•**іржавець**-*вее, несоверш.*—ржаветь. Варлыга: Назіраньні, 17.

•**іржа́вы**-*вая-вае*, **1.** покрытый ржавчиной, ржавый. Варлыга, Назіраньні, 17. *Сілялі іржавымі бляшанкамі ваду.* Рамановіч (Конадні, Но. 2, 20).

**2.** с такой водой (о болоте). *Вадзянік вылез із іржавага багна.* Каласкі, 1955, Но. 29-30, стр. 15. *Канавы наліваў іржавай крывёй.* Лойка: Л. песьня.

•**іржэўнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—злаковые пни, оставшиеся посьле снятия ржи, Ксл. пни сжатой ржи. *Іржэўнік — гэта пні пажатага жыта.* Аськершчына Беш. (Ксл.). *І жаўрукі на струшчаны іржэўнік не рассыпаюць зерняткі хвалы.* Кавыль: Вясна(Блр. Думка, Но. 2). *Шоўкам зялёным рунь разьляглася сярод іржэўнікаў.* Рунь, 7.

•**іржышча**-*ча, предл.-чу; мн. ч.-чы-чаў, ср.* **1.** пеньки ржаных стеблей, НК.: Очерки, 439, Но. 878, 445. ржаная стерня, оставшиеся на поле стебли сжатой ржи. Гсл.; БНсл.; Варлыга: Назіраньні, 17. *Аб іржышча пакалоў ногі.* Гсл. *Колькі на небе зорак, толькі на зямлі дзірак(іржышча).* Рапан. 346. *Будзе золатам адсьвечаваць іржышча.* Адамчык: Арж. колас. *Асеньні вечар над іржышчамі свой смутак атрасаў.* Крушына: Калыханка ("Зьніч", 1954, Но. 27). *Іржышчам, як сілом, ловіць ён лісьце за сялом.* Салавей: Сіла, 66.

**2.** поле после снятия ржи. Ксл. *Я сёлета бульбу запахаў на іржышчу.* Пустыр Сір. (Ксл.).

•**іржышчны**-*ная-нае, прилаг. к іржышча* —полученный из ржаной стерни. *Іржышчнае сена.* НК.: Очерки, 462.

•**ірлава́ць**, **рлава́ць**, (Нсл.),-*лую̀-луѐш-луѐць-луѐм-луіцѐ, несоверш.* **1.** кричать по орлиному. Нсл. 563. *Арлы рлуюць.* Нсл.

**2.** растиряться. Нсл. 563. *Дужа ты рлуешся тут!* Нсл. *Два арлы рлуюць, адно яйцо гадуюць. Загадка: хрышчоныя бацькі на хрысьце хрышчанага дзецяняці прымаюць яго адно ад аднаго.* Нсл.

•**ірмі́цца**—гореть, загоряться каким-л. чувством. Смл.

•**ірмі́цца**—пылать страстью. Смаленш. *Соверш.* **заірміцца.** Смл.

•**ірша́**-*шы̀-шы̀*, .—полоска овчины, очищенная от шерсти и идущая на оторочку. Ксл. *Няма чым іршыць — іршы не хапіла.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Ср. ірха̀.*

•**іршы́ць**-*шý-шы̀ш-шы̀ць, несоверш., перех.* —обкладывать что тесмою. Нсл. 225. *Іршыць, аб'іршыць кажушок.* Нсл. *Соверш. абіршыць.* Нсл. 225. *Прич.* **аб'іршаны** —окаймлённый мехом. Нсл. 356. *Аб'іршаны кажушок.* Нсл.

•**іртаві́на**, *-ны-не, ж.*—санный полоз. Бранск(Тихонов, 50). *Ср. ірты.*

•**іртýць**-*ці, ж.*—ртуть. Навасільскі п.(Будде: Тула-Орел, 122). *Жывыя, быццам іртуць, вочы твае цьвітуць.* Сяднёў: Сястры. *См. жывое срэбла.*

•**іўрты**-*оў*(*одна ірта*)—лыжи. *Еўлічы; Моз.; Ксл.; Арл.; Трубч.* (*Даль*)*; Гсл.*(**іўрта** —лыжа); НК.: Очерки, 378; Бранск(Тихонов, 50). *Іван зрабіў сабе іўрты і цяпер ходзе па сьнезе.* Баравыя Куз. (Ксл.).

•**ірвакі**-*каў, единств. ч. нет.*—рвота. МГсл.; Нсл. 735. *Засып ірвакі пясочкам.* Нсл.

•**ірвальня**-*ні-ні, ж.*—женщина а также мужчына, рвущие лён. Аш. *Юзавы ірвальні казалі.* Аш.

•**ірваць**-*вў-вѐш-вѐць-вѐм-віцѐ; прош. вр. - ірвȁў, ірвȁла, ірвȁлі, несоверш., перех.* —рвать Н.; Лунінец; ЗСД. 16; Шсл.; Нсл. 225; Няпрахіна Карачэўск.(Будде: Тула, Орел, 73); Дсл. *Ірві краскі сабе.* Нсл. *Ірві, ды караня ня прырві.* (Косіч, 260). *Пусьці каня, няхай ірвець траву.* Нсл. *Пайшлі ірваць лён.* Ст. *У прудкаўскім гаю грыбы ірвала.* Дсл. *Там я красачкі ірвала.* Навасёлкі Стдуб.(Косіч 10). *Ірвуць цела жывое.* Гарун: Белр. марш. *Зь ёю ў жыце ірваў я валошкі.* Кавыль; Пад зорамі, 66. *Загаласіла і пачала ірваць на сабе валасы.* Цялеш(Дзесяць, 13). *Вятры ірвалі ніць.* Салавей: Сіла, 34. *Однкр.* **ірвануць**-*ну-нѐш-нѐць-нѐм-ніце*—рвануть. ЗСД 167. *Соверш.* **нарваць**—срывая, набрать в каком-л. количестве. Ар. *Дзяўчына нарвала ў лесе травы каровам.* Ар. *Нарвалі кветак.* Ар.

**абарваць,** — оборвать, сорвать со всех сторон, кругом. *Абарвалі яблыкі.* Ар. *Чыста ўсю адзежу абарваў у лесе.* Ст. *Прич.* **абарваны**—оборванный. *Ходзе абарваны, як той старац.* Ст. *Несоверш.* **абрываць**-*аю-аеш-ае,* — обрывать. *Нашто табе абрываць ніткі?* Ст.

**адарваць**-*ву-веш-вець-вем-віце, соверш., перех.*—оторвать. Ар. *Прич.* **адарваны,** 1. оторванный. Ар.; Нсл. 360; Дсл. *Адарваны ад работы.* Нсл.

2. о выделенном члене семьи. Дсл. *Дачка замуж аддадзёна — кавалак адарваны.* Дсл. *Ты ў нас ужо адарваны кавалак.* Нсл. 360. *Несоверш.* **адрываць**-*аю-аеш-ае*—отрывать.

**зарваць I, зырваць,**-*рвў-рвѐш-рвѐць - рвѐм-рвіцѐ, соверш., прош. вр.-рваў-рвала - рвалі,* 1. сорвать, дернув; отделить от ветки, стебля(что-л. растущее). Ар. *Зарваць ігрушу.* Ар.

2. сорвать, дернув, рванув, отделить (что-л. прикреплённое). *Зарваў дзьверы із завесаў.* Ар.,—рывком, резким движением снять(что-л. надетое, висящее на чем-л.). *Зырваў шаль із шыі. Безлич. пры кляцьбе.* Шсл. *Ціха, каб табе зарвала яно!* Ст.

3. снять со службы, оторвать от постоянной работы.

**зрываць**-*аю-аеш-ае* 1. *несоверш. к* *зарваць у 1-ым а 2-ім зн.*,—срывать. *Дзеці зрываюць краскі.* Ст. *Зрываць запінахі з акон.*

2. *несоверш. к зарваць у 3-ім зн.*,—снимать со службы, отрывать от домашних работ. Шсл. *Ніхто цябе зрываць із службы ня будзе.* Ст.

•**зарваць II,** *зарвў-вѐш-вѐць-вѐм-віцѐ, соверш.* 1. задеть, досадить, Гсл. приостановить, затронуть. Нсл. 183. *Калі ні йдзець, заўсёды мяне зарывае, зарвець.* Нсл. *Прич.* **зарваны, а**) задетый. Гсл. *Затронутый сильно.* Нсл. 183. *Ён ня сам а зарвапны кінуўся біцца.* Нсл.

б) спрошенный на уроку (экзамене, Нсл.) учителем. Гсл.; Нсл. 183. *Зарваны з арытмэтыкі, з лаціны.* Нсл.

2. *о корове*—перестать давать молоко Ар. *Падласка зарвала.* Ар.

3. захватить. Нсл. 183. *На гэтым гамў, хто зарваў, то таму. Послов.* Нсл.

4. *безлич.*, употребл. при проклинании. Шсл. *Ціха, каб табе зарвала яно!* Ст.

5. *безлич. зарвала*—прекратило. Іг. *Дзень у дзень хадзіў да нас, а то зарвала.* Іг.

**зарываць,** *несоверш. к зарваць,* 1. приостанавливать, затрагивать. Нсл. 183.

2. *несоверш. к зарваць 2.* Ар. *Чарна зарывае.* Ар.

3. *несоверш. к зарваць 3,*—захватывать. Нсл. А83. *Кажан сабе зарывае патрохі.* Нсл.

4. делать вопросы при допросе. Нсл. 183. *Няхай не зарывае мяне, я ўсе скажу па праўдзе.* Нсл.

**падарваць,** *соверш.*—надорвать, повредить что-л. от чрезмерного усилия. Ар. *Падарваў здароўе, возячы камяні,* Ар. изнурить, измучить физически или нравственно. Ар. *Падарваў каня.* Ар. *Несоверш.* **надрываць**-надрывать.

**парваць**-*вў-вѐш-вѐць-віцѐ,* 1. изорвать всё, много.

2. схватить рывком. *Воўк парваў гусь і панёс.*

3. схватить. Нсл. 476. *Кашаль парваў мяне.* Нсл. *Злы дух парваў яго некуды.* Нсл.

**парываць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* 1. затрагивать, задевать. Нсл. 476. *Ён як стракаецца з імною, заўсёды парывае мяне.* Нсл.

2. *несоверш. к парваць 2,*—схватывать. Нсл. 476. *Трасца парывае, парвала яго.* Нсл. *Сьмех парывае.* Тм.

**перарваць,** *-рву-рвѐш-рвѐць-рвѐм-рвіцѐ; прош. вр. рваў, рвȁла, соверш.* 1.разорвать на двое, на части, перервать. Ар. *Перарваў шнюр.* Ар.

2. прекратить, приостановить на некоторое время(дело, занятие и т.п.); прервать. Ар.

**перарываць,** *несоверш. к перарваць 1, 2.*

**прарваць,** *соверш.*—вырывая некоторые, сделать менее густым(об овощах на грядах). Ар. *Надабе прарваць буракі.* Ар. *Несоверш.* **прарываць**—прорывать.

**прырваць,** *соверш.* 1. немножко оторвать. *Ірві, да караня ня прырві.*

2. оторвать что-л. близко. Нсл. 509. *Деепр. наст. вр.* **прырваны**—лопнувший в начале или конце. Нсл. 509.

**прырываць,** 1. *несоверш. к прырваць I.*, немножко отрывать.

**2.** отрывать что-л. близко. Нсл. 509. *Шыючы, ты часта прырываеш нітку.* Нсл.

**разарва́ць**-*вў-вѐш-вѐць-вѐм-віцѐ; прош. вр.-рваў-рва̀-ла, несоверш.***1.** разорвать. Ар.
**2.** растерзать. *Деепр. наст. вр.* **разарва́ны**—разорванный, Ар. растерзанный. *Несоверш.* **разрыва́ць**—разрывать. Ар.

**вы́рваць,** *соверш.*—вырвать рывком, резким движением удалить, извлечь. Ар. *Вырваць зуб.* Ар. *Несоверш.* **вырываць**—вырывать. Ар.

**урва́ць**-*вў-вѐш-вѐць-вѐм-віцѐ; прош. вр. урваў, урва̀ла,* **1.** укоротить(сделать короче по длине, по протяженности, **С.**), сократить(уменьшить, ограничить в количестве, в объеме, **С.**). Нсл. 664.
**2.** сделать менее продолжительным по времени, сократить сроки чего-л. *Сьв. Варвалі ночы урвалі.* Нсл. 664. *Урваць здароўе, прыбыткі.* Нсл. *Деепр. наст. вр.* **урва́ны, 1.** оторванный. Нсл. 664. *Урваная аборка.* Нсл.
**2.** отнятый. Нсл. 664. *Урваны час ня зьвернеш.* Нсл.
**3.** *в знач. прилаг.*—урывочный. Нсл. 664. *Хіба урваным часам зраблю.* Нсл.

**урыва́ць, 1.** *несоверш. к урваць 1.*
**2.** *несоверш. к урваць 2. Ня ўрывай імне часу.* Нсл. 664.

•**ірва́цца**-*вўся-вѐшся; прош. вр. ірва̀ўся, ірва̀лася, несоверш.*— рваться. Н.; Нсл. *Ніткі ірвуцца.* Нсл. *Однкрт.* **ірвануцца.** *Ірвануўся да варотаў.* Цялеш: Дзесяць, 26. *Соверш.* **нарва́цца**—рвав что-л., наработаться. *Досыць мы лёну нарваліся.*

**абарва́цца,** -*вўся-вѐшся-вѐцца-вѐмся -віцѐся; прош. вр. абарва̀ўся-абарва̀лася-лися, соверш.*—истрепать свою одежду. *Абарваўся, аж сорамна глядзець.* Ст. *Несоверш.* **абрываацца.** Шсл.

**адарва́цца,** -*вўся-вѐшся-вѐцца-вемся -віцеся; прош. вр. адарваўся, адарвалася, несоверш., ад чаго,* **1.** оторваться(отделиться от чего-л. вследствии натяжения, рывка, движения, **С.**). Шсл. *Ад біла адарвалася калыбка.* Крамяні Пух. (Шсл.).
**2.** оторваться, перестать делать что-л. *Цяжка адарваца ад любовай работы* —оторваться, перестать смотреть на кого, что-л.

**адрывацца,** *несоверш. к адарвацца I.*

**дарва́цца**-*вўся-вѐшся, соверш.* **1.** добраться, получить доступ к чему-л. сильно желаемому. *Дарваўся да гарэлкі.* Дсл. *Дарваўся да чуба, да гарэлкі.* Нсл. 142.
**2.** усердно приняться за работу(за что-л., **С.**) Шсл. *Як дарваўся, дык, як бачыш, скончыў касіць.* Ст.

**дарыва́цца**-*а̀юся-а̀ешся, несоверш.*(*к дарвацца 1,2*). *Дарываецца да барады мае.* Нсл. 142.

•**зарва́цца I, зырва́цца**-*рвўся-рвѐшся-рвѐцца-рвѐмся-рвіцѐся*—сорваться, освободиться, разорвав привязь пута.

**зрыва́цца**-*а̀юся-аешся,* **1.** *несов. к зарвацца(зырвацца).*
**2.** отходить от службы, от постоянной работы. Шсл. *Нашто табе было зрывацца з дому?* Ст.

**зарвацца II,** *соверш. к зарывацца. Несоверш.* **зарывацца**—задираться. Нсл. 183. *Зарываецца, зарваўся з імною біцца.* Нсл.

**падарва́цца,** -*вўся-вѐшся-вѐцца-вѐмся -віцѐся; прош. вр.-ва̀ўся-ва̀лася-ва̀ліся, соверш.* **1.** надорваться, повредить себе внутренние органы от чрезмерного усилия, напряжения. Ар.
**2.** *перен.*—надорваться, измучиться нравственно, потерать душевные силы. Ар.

**падрыва́цца**-*аюся-аешся, зват.-айся-аймася, несоверш.*(*к падарвацца 1,2*)—надрываться. МГсл.; Ар.

**парва́цца,** -*вўся-вѐшся-вѐцца-вѐмся-віцѐся,* **1.** порваться. Ар.
**2.** *з чаго,*—сорваться, вскочить. *У нэмазе* (*араб. малітве*) *заснуў, а зо сну парваўся да нэмазу.* Кіт. 8468. *Калі зо сну парваўся да абраканьня, то нэмаз не запсуе.* Тм. 84б10.
**3.** броситься с дракою. Нсл. 476. *Парываецца, парваўся к імне з кулаком.* Нсл. *На каго ты парываешся?*
**4.** (стремиться освободиться, вырваться, **С.**), рваться. Нсл. 476. *Парываецца, парваўся пайсьці.*
**5.** сильно предаться какому—л. чувству. Нсл. 476. *Парываецца, парвалася, плачучы, крычачы, сьмяючыся.* Нсл.

**парыва́цца**-*а̀юся-а̀ешся, несоверш.*—порываться, стремиться, пытаться что-л. сделать. Гсл. *Отгл. имя сущ.* **парыва́ньне**-*ня, предл.-ню*—порывание, стремление к чему, желание сделать что-л. *Не маглі ўжо яны распаляць адзін у вадным парываньні, імкненьні.* ЗСД. 50.

**перарва́цца**-*вецца, соверш.*—перерваться, разорваться на двое, на части. *Несоверш.* **перарыва́цца, 1.** перерываться. Шсл. *Ценкая нітка дык перарываецца.* Ст.
**2.** сильно кричать, орать. *Крычыць, аж перарываецца.* Ст.

**прарва́цца,** *соверш.*—прорваться. *Несоверш.* **прарывацца**—прорываться.

**прырва́цца,** -*вўся-вѐшся-вѐцца-вѐмся -віцѐся; прош. вр. прырваўся, прырвалася, соверш.* **1.** *страд. к "прырваць". Ніткі прырываюцца, прырваліся ў кроснах.* Нсл. 509.
**2.** придраться. Нсл. 509. *Прырываецца, прырваўся к імне біцца.* Нсл.
**3.** с жадностью приступить к чему-л. Нсл. 509.

**прырывацца, 1.** *несоверш. к прырвацца 1.*
**2.** *несоверш. к прырвацца 2, 3.* Нсл. 509.

**разарва́цца,** *соверш.*—разорваться, разделиться на части, стать разорванным. Ар. *Несоверш.* **разрыва́цца**—разрываться.

**вы́рвацца,** *соверш.*—вырваться. Ар. *Несоверш.* **вырывацца**—вырываться. Ар.

**урва́цца,** *соверш.*—прерваться(прекратиться, С.). Нсл. 664. *Урвуцца табе твае хабары.* Нсл. *Несоверш.* **урыва́цца**—прерываться, прекращаться. *Урываецца мае шчасьце, здароўе.* Нсл.

**уварва́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к уварвацца,*—вторжение. Ар.

**уварва́цца,** -*ву̀ся-вѐшся-вѐцца-вѐмся; прош. вр. уварва̀ўся, уварва̀лася, соверш.* —вторгнуться. Ар. *Несоверш.* **урыва́цца**-*а̀юся-а̀ешся*—вторгаться.

•**іскра,** (Ар.), **скра,** (Нсл.)-*ры-ры, мн. ч.-раў, ж.* — мельчайшая частина горящего вещества, искра. *Хоць бы скра была яго сумленьня.* Нсл. *Собир.* **іскрые**-*ыя, предл.-ыю. Яго па калені ўсыпаў іскрыям.* Рагач. (Ром. III, 161).

•**іскра́к**-*ака̀, предл.-аку̀, зват.-а̀ча, мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—зусешенка в носу. *Іскрак з носа выкінуць.* Кіт. 43а5.

•**іскрыня**-*ні-ні, мн. ч.-няў, ж.* **1.** большой сундук. *Палотны, сарочкі, адзежу хаваюць у іскрынях.* Міх.

**2.** *в колодце*—четырехугольное приспособление в виде сундука без крышки и дна на дне колодца. Ар.; Міх.

**3.** (*в мельнице*)—приспособление на мельнице, куда сыплется мука из-под жернова. Міх. *Уменьш.* **іскры́нка**-*нкі-нцы*—ящик. *На гарэ крутой там гараць агні, сьвяты вечар! А із тых агнёў іскрына ўпала, сьвяты вечар! Іскрынка ўпала — крыніна стала, сьвяты вечар!* Я. Гладкі: Дудар, стр. 30.

**паштовая іскрынка**—почтовый ящик.

**іскрыначка**-*чкі-чцы, уменьш. к іскрынка* —ящичек, ларец.

•**іскры́пка**-*кі, дат., предл.-цы, ж.*—скрипка. Міх. *Пакажацца музыка з іскрыпкаю.* Гарэцкі: Песьні, 5. *Або грай, або йскрыпку аддай. Послов.* Рапан. 91. *Ён быў добрым музыкам, і меў добрую іскрыпку.* Я.Г.-кі: Казкі, Но. 2, стр. 10. *Пакратаў струны іскрыпак.* Кавыль: Думы, 56. *Я пад ягоную іскрыпку....на ліры выславіў цябе.* Крушына: Творы, 146. *Палцы смыка і струн іскрыпкі ня краталі здаўна.* Салавей. *Ой, чаму ж, матуля, жыцьцё йскрыпку дала?* Гарун (ст. "Матчын дар."). *Уменьш.* **іскры́пачка**-*чкі, дат., предл.-чцы, ж. Паслухай, як ён выцінае на іскрыпачцы.* Сьвярдлы Беш. (Ксл.). *Ласкат.* **скрыпуля**-*лі. Над скрыпуляю, над собскай ты цяпер не гаспадар.* С. Музыка, 135. *Жывая іскрыпка*—жена и дети. НК.: Дудар, 187.

•**ісла́м**-*а̀му, предл. и зват.-аме, м.*—ислам, магометанская религия.

•**ісла́мскі**-*кая-кае, прилаг. к іслам,*—Мослем, Могаммедан. Кіт. 88а15.

•**і̇снасьць**-*ці, ж.*—сущность, суть. *Пан Езус жыве і існасьць Яго.* Уселюб Н. (Демид.: Веров II, 1896, 29). *Існасьць у віне.* Кавыль: Думы, 22. *На існасьць дзён глядзеў нях-мура.* Кліш.: В. Каліна. *См. істасьць, іста 2. Музыка была самой існасьцяй і ўвабрала ўсё ад нараджэньня й па гэтую часіну.* Корзюк. *З гэных пялёсткаў паўстане спрадвечная існасьць.* Дуб.: Наля 45.

•**існава́ць**—существовать, быть. Гсл. *Отгл. имя сущ.* **існава́ньне**—существование, бытие. Гсл.

**існу́ючы, 1.** существующий. Гсл.

**2.** существуя. Гсл.

•**ї̇сны**-*ная-нае*—истый, настоящий, Гсл. подлинный, сущий.

•**іспод**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.—низ вообще (находящийся под чем-л.* **С.**), дно печи, нижная часть какого-л. сосуда, вещи, предмета. Гсл.

**сы́спаду,** (Скар. III, Ц.), *нареч.*—снизу(с нижнего места, находящегося под чем-л., "*с -ісподу*" **С.**). Ар.; БНсл.

•**исподак**-*дка, предл. и зват.-дку, м.*—блюдечко. Гсл.

•**исподкі,** (Гсл.), **сподкі,** (Ксл.; Нсл.)-*дак, -дкаў(одна іспoдка, сподка)*—вязаные рукавицы, варежки, МГсл. рукавицы, сшивные из сукна или вязаные из суконных ниток, свойлоченных потом. НК.: Очерки, 113. *Адзень сподкі, бо сьцюдзена.* Доўгае Беш. (Ксл.). *Узімку ў сподках добра.* Гарнова Сян. (Ксл.). *Кісьлячыя сподкі купіў.* Нсл. 605. *Дзед Ігнат здымае свае паўпудовыя сподкі, дастаець капшук і неўзабаве сам ён увесь хаваецца ў шэрых стаўпох даўкага дыму.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, 1935 г., Но. 2, стр. 96). *Единств. ч.* **іспотчына**-*ны-не.* НК.: Очерки, Но. 246. *Ласкат.* **істопчынка**-*кі,* **істопчыненка**-*нкі.* НК.: Очерки, Но. 246.

•**исподні, сподні,** (Ар.; Нсл.)-*няя-няе*—находящийся под чем-л. *Сподняе сена гнільлю пахне.* Нсл. 605. *Сподняя скарынка.* Тм. *Даставай сподні мяшок. Надзень споднюю сарочку.* Ст. *У цябе відаць сподні спаднік.* Сянно Беш. (Ксл.).

•**іспол**-*лу, предл. и зват.-ле, м.* **1.** часть реки вверх по течению от плотины. *У нас благі іспол.* Сутокі Лёз. (Ксл.).

**2.** широкий и длинный(искуственный, **С.**) пруд, нередко среди деревни. НК.: Очерки, 486.

•**іспадзе́нь**-*дня̀, предл.-днѐ, зват. іспадню, м.*—нижний жёрнов. НК.: Очерки, 327.

•**іспалі̇ць,**—*см. под паліць.*

•**іспа́ш**-*шы, дат., предл.-шы, мн. ч.-шаў, ж.*—потрава, порча скотам засеянного поля. *Коні езныя, рабочыя...на іспашы маюць быць займаваны.* Стт. 467. *Не маець за іспаш стада браці; бы й засьпеў на іспашы, маець адагнаці да таго пана, чые стада ёсьць, а іспаш маець абвесьці людзьмі староньнімі і акопаваці з тымі ж людзьмі; тагды тый павінен іспаш заплаціці, чые стада шкоду ўчыніла. Ведзьжа вызваляе толькі стада сьвярэпее, абы на іспашы ня было займавана.* Стт. 467. *Твае коні кажны раз іспаш мне робяць.* Нсл. 225.

•**іспоткі** — *ісподкі.*

•**іспотчына,**—*см. под ісподкі.*

•**іспра́ва**-*вы-ве, ж.*—выполнение. *Па ісправе дзела, варочайся барждджэй двору.* Нсл. 225. *Прасіў у нас ісправе галаўніка.* Ліст. пск. кн. Івана Аляксандравіча 1463-5(ИОРЯС, 117, 34, 1912, стр. 350).

•**ісса́ць,** (Шсл.), **ссаць,** (Ар.)-*сỳ-сèш-сèць-сèм-сіцè-сỳць, несоверш., перех.*—сосать. Шсл.; Ар. *Дзяцё ісьсець цыцку.* Ст. *Пакорнае цялётка дзьве маткі ісьсець.* Ст.(*под пакорны*). *Соверш.* **пассаць.**

•**іскума́ць,**—*см. под скумаць.*

•**ісшы́ць,** *ісшыю-шыеш-шые, соверш.* —сшить. *Парвалася конская папруга — трэба ісшыць.* Ст.(Шсл. *под папруга*).

•**істопка**-*пкі-пцы, мн. ч.-пак, -пкаў, ж.* —помещение при хате(вход из сеней) для хранения зимою овощей(квашеной капусты, такой же свеклы и т.п.), а летом молока, сметаны и т.п. Бывает теплое(но не отапливаемое) зимою и холодное летом. Иначе называется *"варыўнёю".* Войш.; Сакуны, 12. *Восень сьвірны поўны збожжам, а скляпы а істопкі бульбаю, гароднінаю а садавінаю.* Я.Г.: Лемантар, 86.

•**істота**-*оты-оце, ж.*—письменный документ гражданского акта. По каждому гражданскому акту, по каждой сделке ....составлялись соотвественные документы, которые в случае надобности и представлялись в суд. Они назывались иногда истотами: *"меў лічбы на тую сенажаць каторыя істоты"* Гордз. акты, XVII, стр. XXXI.

•**істотны**-*ная-нае, прилаг. к "істота".*

•**ї́ста,** *ї́сты, ї́сьце, ж.*

**1.** основной капитал. Гсл.; Вят., Вост. (Даль).

**2.** суть, сущность. Гсл. *Толькі выказаць істу ейную штука ня сусім лягкая.* Смутніца. *См. існасьць, істасьць.*

•**ї́стае,** *ї́стага, в знач. сущ.* — *іста.* Вят., Вост. (Даль).

•**ї́стасьць**-*ці, ж.* 1. сущность, суть. *Істасьці ў іх ня дойдзеш.* Лужасна Куз. (Ксл.). *См. існасьць, іста 2.*

**2.** чистосердечие. *Істасьці ў вас ані на каню няма.* Нсл. 225. *Я к вам з усею істасьцю, а вы ка мне з усею хітрасьцю.* Нсл.

•**іструб,**—*см. под струб. См. струб.*

•**істрыня́**-*ні́-ні̇, ж.*—острота. Іг. (Адам.).

•**істрэць**-*эю-эеш-эе, повел. істрэй-эйма, несоверш.*—остановиться острее.

**пайстрэць,** *соверш.*—стать несколько острее.

•**істры́ць**-*рỳ-рыш-ра, несоверш., перех.*

**1.** острить(делать острым, С.). Дсл. НК.: Очерки, 384, Косіч, 74.

**істрыць зубы**[*на каго*]—точить зуб (зубы), злобиться на кого-л., стремиться причинить вред, неприятность кому-л. *Ён даўно на мяне істрыць зубы.* Нсл. 225. *Прич.* **войстраны**—остренный. *Войстраны нож.* Нсл. 63. *Соверш.* **заістрыць**—заострить. Дсл. 246. *Соверш.* **найстрыць**-*ру, найстрыш-ра,* **1.** наострить, сделать острым. Косіч 74. *Найстрылі мы зь ім ірты.* А. Вожык (Беларус, Но. 194).

**2.** наострить, сделать острым в каком-л. количестве.

**пайстры́ць,** *соверш., перех.*—поострить. Ксл. *Пайстры мне ножык.* Кузьміно Сян. (Ксл.). *Пайстры тапор.* Нсл. 225. *Соверш.* **выйстрыць**—хорошо, достаточно наострить. *Выйстры тапор.* Нсл. 225.

**2.** точить, оттачивать.

**зайстрыць,** *соверш.* **1.** заострить. Нсл. 169. *Зайстрыць кольле.* Нсл.

**2.** зачинить, зачинять (карандаш). *Дай складанчыка алавік за̀йстрыць.* *Прич.* **за́йстраны, 1.** заостренный. Нсл. 169; Дсл. *За̀йстраны кол.* Нсл.

**2.** зачиненный. *Зайстраны алавік.*

**звойстраваць**-*рую-руеш-руе, несоверш.* —истачивать, сглаживать жало, острие. Нсл. 200. *Ня звойструй сякіры; звойстрыш, сячы ня можна будзе.* Нсл. 200. *Соверш.* **звайстрыць**—источить. Нсл.

**перавойстраваць**-*рую-руеш-руе; повел.-руй-руйма, несоверш., перех. Соверш.* **перавойстрыць**-*ру, перавойстрыш-ра, соверш.* —чрез долгое или неправильное острение иступить жало. *Сякіру перавайстрылі.* Нсл. 399. *Прич.* **перавойстраны**—переточенный, испорченный излишним точением. *Нож перавойстраны.* Нсл. 399.

**айстрыцца, (істрыцца),** *войстрыцца, войстрацца (істрыцца-ацца), страд. (к істрыць)*—оттачиваться, становиться острым. *Сякіра добра войстрыцца.*

**2.** *перен.*—становиться внимательнее, умнее, осторожнее. *Што жывець чалавек, то войстрыцца.* Нсл. 67. *Соверш.*

**перавайстры́цца**-*руся, перавойстрышся,* **1.** чрез долгое точение иступиться. *Сякіра перавайстрылася, адцягаваць трэба.* Нсл. 399.

**2.** переумничать, перемудрить. *Дужа ты войстры, глядзі, каб не перавайстрыўся часам на шыла; а шылам патакі ня ўхопіш.* Нсл.

**звойстравацца,** *возвр., несоверш.*—истачиваться. Нсл. *Нож звойстрываецца.* Нсл. *Соверш.* **звайстрыцца**—источиться. *Сякіра звайстрылася.* Нсл. *Звайстрыўся на адзін канец.* Нсл.

**найстры́цца,** *на̀йстрыцца, соверш. к айстрыцца(істрыцца) 1, 2.*

•**іство**-*ва, ср.* **1.** природное основное чего-л., суть, сущность. *Стаю памеж здратаваных дарог, Іством жывы, душой укрыжаваны.* Кавыль: Думы, 32.

**2.** природа.

•**істу́жка**-*жкі-цы, мн. ч.-жак, -жкаў, ж.* —лента. ЗСД. 145; НК.: Очерки, 131; МГсл.; Варлыга: Назіраньні, 17. *У мяне ёсьць зялёная й чырвоная істужка.* Рыбчына Сір. (Ксл.).

*Падзерла каптан на істужкі.* Ст. (Шсл. 130). *Зяленіцца луг, перарэзаны срэбнаю істужкаю Дзісенкі.* Сіндрэвіч(Беларус, Но. 169). *Цягнулася бясконцая з выкрутасамі істужка.* Няміга(Бацьк. Но. 16/500). *Надзяюць на галаву вянок, да яго прышываюць шмат разнакаляровых істужак.* Горц. (Кот., 207). *Мой дух глядзіць з вышынь на Божы сьвет. Істужкі рэк, грамады гораў.* Золак(Прыйсьце, Но. 1). *Над гэтай істужкай агню каціўся вал дыму.* Тат.: Кво вадыс, 281.

•**іступа́ць,** *несоверш.*—соступать. *Соверш.* **іступі́ць**-*плю-піш-пе*—соступить. *Тыя ангелы на зямлю іступяць.* Кіт. 1168.

•**і́сты**-*тая-тае*—истый, подлинный, настоящий, действительный. *А за тую віну астачу маемасьці праціўнага да столу нашага гаспадарскага ўзяці маець, каторую ўжо тот істы таковы праціўнік вечне траціць павінен будзець.* Стт. 272. *Гдзе бы хто наеселы рэчы свае рухомыя даў каму ў захаваньне, а іншы із стараны, даведаўшыся а тых рэчах у захаваньню, прапаведаўся ку тым рэчам мянуючы, іж тот істы, хто тыя рэчы злажыў, яму доўжан.* Стт. 337. *"Выслухаўшы жалабы й адпору старон і водле зазнаньня таго істага Якава Быка....прысудзіў ясьмі на том Міску за клячу сорак грошы."* Нсл. 19. *Тут Міска ня "ответчик", але сьветка; калісь ён быў зрабіўшы шкоду, алк за яе заплаціў. "Того ўсяго маець тот істы Міска Заяцу заплаціць пяцьдзясят грошы. Тут Міска "ответчик".* Нсл. 19.

•**ісца́**-*цы-цы, ж.*—подкожный зуд на пятах или ладони. *Ісца не даець супакою.* Сянно (Ксл.). *Ісца спакою не даець.* Нсл.

•**зьі́сьніць**-*ню-ніш-не, соверш., перех.*—осуществить. *У міне ё думка й хацеў бы яе зьісьніць.* Гарун: Пан Шаб.

•**ісьпе́ць,**—*см. под* *пець.*

•**ісьпі́ца**-*цы, дат., предл.*-*цы, ж.*—спица. *сьпіцы ў коле дубовыя.* Красьніца Чаш. (Ксл.).

•**ісьсесьці,**—*см. под* *сесьці.*

•**ісьце́ц,** *ісца̀, предл. ісцу̀, зват. ішча, мн. ч., дат. ісцом, мн. ч., предл. ісцох, м., юрид.* —ответчик. *Маець у ісцоў сваіх пенязей іскаці. А есьлі бы тот ісьцец ня меў чым плаціці, тагды ў том доўгу маець суд яго самога выдаці.* Стт. 322. *Калі б хто купіў якое дзядзіцтва ... а на том жэ бы іменьню хто іншы доўг меў, первей запісаны, покі яшчэ было не прадана, а маўчаў а тот доўг дзесяць лет чараз даўнасьць земскую, а правам ня іскаў; тот ня маець таго доўгу на том іменьні сматрэць, але маець ісца ў сваіх пенязях іскаці. А есьлі бы тот ісьцец ня меў чым плаціці, тагды ў том доўгу маець яго за шыю прыняці.* Стт. І-ы (Товстоліс, Суть, 5) ... *тому подлуг запісу яго першага тот доўг на том жа першам іменьню маець быці дзержан, а тот, каторы ў дзяржаньню таго дзедзіцтва, воны доўг маець заплаціці таму, хто першы запіс маець, а сам маець тых пенязей і кождага іншага накладу на ісцу доісківаці.* Стт. ІІ(Товстоліс, Суть, 6).

*А паклі бы колька даўжбітоў з рознымі даўгі да аднаго іменьня зьбегліся, а іменьне бы ужэ за тыя даўгі не стаяла, тагды хто будзе меці першы слушны і праўны запіс, і ў дзяржаньню тога іменьня за тым першым запісам быў, а тое бы іменьне большае сумы ня стаяла, тагды тот за першым запісам сваім пры таковам іменьню застаці маець, а тыя з астатнімі запісы маюць пенязей сваіх на ісцу даходзіць, а гдзе бы ісьцец умер, тагды на іншай маетнасьці яго.* Стт. 3-і(Товстоліс: Суть, 9). *Калі б хто чужое йменьне ў вапецца дзяржаў, а быў бы ў суду а даўгі пакаиан, таковы із собскага йменьня плаціці маець а ў нястачы йменьня й маемасьці, рухомых рэчаў, і на самом ісьцу маець быці адправа ўчынена, а йменьне, каторае бы ў вапецца дзяржаў, ад таго вольна будзець.* Стт. 314.

•**ісьцёпка**—изба чрез сени, под одной крышей с жилой избой, часто без печи и полатей. НК.: Дудар, Но. 42.

**ісьцёпка**-*кі*—изба чрез сени, но под одного крышею с жилою избою. НК.: Сбяги, Но. 18.

•**ісьці́,** (Шсл.; Ар.; Нсл.), **іці,** (Шсл.), *іду̀, ідзѐш, ідзѐць, ідзѐм, ідзіцѐ, ідуць, прош. вр. ішоў, ішлі̀, ішлі̀, несоверш.*—идти. Ар.; Нсл. *Не тады сабакі карміць, як на паляваньне йсьці. Послов.* Навасёлкі Пух. (Шсл.). *Пара ўжо й да хаты йці.* Ст. *Гэта ня йшло, ня ехала. Послов.*—это все равно. Косіч 79.

**ісьці ўгрудкі(ісьці ў загрудкі,** Іг.) —вступая в драку, хватать за грудь (хвата за одежду у груди, **С.**). Гсл.

•**ісьці ў заклад**—держать пари. Ар.

**ісьці на выперадкі**—состязаться. Ар. *Многократ.* **хадзіць**, *хаджу, ходзіш, ходзе,* **1.** ходить. Ар. *Хаджу ўсё ды гляджу, дзе што робіцца.* Ст.

**2.** *о скоте, птицах*—пастись. Бяльсл. *Коні ходзяць на канюшыне.* Ар.

**3.** *предлагая, в картах*: ходить. *Хадзі ў казыра ўперад.* Бяльсл. *Повел.* *хадзі*—ступай, Дсл. 963. ходи.

**хадзіць с касой**—косить. *Такую ежу еўшы, ня няўздолееш з касой хадзіць.*

**да ветру хадзіць**—ходить в отхожее место. Ар.; Шсл. *Хворы сам ня можа й да ветру хадзіць.* Ст.

•**ісьці за двор,**—*см. под* *двор.*

•**хадзіць па калядзе,**—*см. под* *каляда.*

**абходзе,** *абыходзе, абыходзіла, безлич., употр. тоже с предметом в 3-ем лице:*—трогает, обидно. Ар. *Мяне дужа абходзіць, абыйшло, што ты ўцекам ад нас адышоў.* Нсл. 354. *Мова твая мяне абходзіць, абыйшла.* Тм. *Так гэта мяне абходзе, як леташні сьнег*—мне это совершенно безразлично. ВК.(ЛБ. 10). *Старому абходзіла, што ў яго рады ня пытаюць.* Варсл. *Прынёсшы з надворку сырых дроў, пачала жаліцца, што няма чым цепліць, што муж — ці яму абыходзе, каб дзе прыкупіў.* Адамчык: Арж. колас. *Соверш.* **абышло.** *Старому абышло, што яго не паклікалі.* Варсл.

**абходзіць,** *несоверш., перех.* **1.** проходить вокруг чего-л., обходить. Ксл.; Ар. *Кот, нюхаючы, абходзіў навокал капы., воен.* —заходить в тыл противнику с фланга, с флангов. *Нашы абходзілі непрыяцельскі аддзел, каб абступіць яго.*
**2.** обходить по всему пространству чего-л.; побывать всюду, переходя от одного к другому; подходить поочередно к каждому. *Лясьнікі абходзілі ўвесь лес.* Ар.

**абысьці,** *абыйду, абыйдзеш, абыйдзе, абыйдзем, абыйдзеце, абыйдуць, соверш.* (*к абходзіць, в 1-ом зн. к ісьці*) **1.** пройти вокруг чего-л. *Гаспадар абышоў навокал свае сялібы.* Ар. *Абыйшлі навокал сяла і не знайшлі сьлядоў.* Карма Куз. (Ксл.), *воен.* —зайти в тыл противнику с фланга, с флангов.
**2.** *соверш. к* *абходзіць.* Ар. *Абыйшлі ўвесь лес, а кароў няма.* Дабрамысьль Лёз. (Ксл.). *Соверш.* **абхадзіць**-*джў, абходзіш, абходзе*—исходить всё, побывать всюду. *Абхадзіў усю зямлю.*

**абыходзіць,** *несоверш.* — показываться на поверхности почвы, всходить(о посевах). *Жыта ўжо абыходзе.* Ар. *Соверш.* **абыйсьці** —показаться над поверхностью почвы, взойти. Варсл. *Ён жа, дзівіся: апратка ў дзірках, у гнідзе, сьцьвіла, ў хаце трава абыйшла.* Гарун(ст. "Іванку").

**адходзіць,** *несоверш.* **1.** *скуль,*—уходить. МГсл.; Ар.
**2.** *ад каго, чаго*—удаляться(в сторону, С.), отходить, пройти какое-л. расстояние от чего-л. Ар. *Не адходзь ад нас далёка; адыйдзеш, заблудзіш.* Нсл. 382.
**3.** оставлять свои позиции, отступать, отходить. Ар.
**4.** оттавать(о почве и т. п.); восстановить чувствительность(о замерзших, оцепеневших частях тела), отходить. *У сакавіку цяплее, зямля адходзе.* Ар. *Я вельма зьмерз у рукі, але ўжо адходзяць.* Ар.
**5.** терять силу(о морозе, угаре, С.). *Мароз адходзе, адыйшоў.* Нсл. 382. *Чад адходзе.* Нсл.
**6.** протаптывать по траве на сенокосе межу. Шсл. *См. адыйсьці.*
**7.** становиться мягким лезвию, тупиться. Шсл. *См. адыйсьці. Адходзіць* (*адышоў*) *розум, адходзіць* (*адысьці ад розуму*), *—см. под розум. Соверш.* **адыйсьці,** *адыйдў, адыйдзеш, адыйдзе, соверш. к адходзіць в 1-ом зн.*
**2.** *соверш. к адходзіць в 2-ом зн.*
**3.** *соверш. к адходзіць в 3-ем зн. Немцы адышлі за Бярэзіну.* Ар.
**4.** *соверш. к адходзіць в 4-ом зн. Пацяплела, зямля адышла.* Ар.
**5.** *соверш. к адходзіць в 5-ом зн. Адышоў мароз.* Дсл.
**6-7.** *соверш. к адходзіць*—протоптать по траве на сенокосе межу. *Роўненька адыйдзі мяжу.* Лядцо Пух. (Шсл.).
**8.** *о косе:* **адходзіць**—стать мягким лезвию, затупиться. Шсл. *Зусім адышла каса: ані не бярэ травы.* Ст.
**9.** увольниться. *Чабатар зь немарасьці пачаў піць, і ўсі вўчанікі ад яго адышлі.* Дсл.
**10.** об окончании роста ягод. *Адышла суніца.* Дсл.
**11.** умереть. *Хворы адышоў.* Дсл. *Соверш.* **дайсьці,** *дайду, дойдзеш, дойдзе*—дойти. Ар.

**даходзіць**-*джу-дзіш-дзе, несоверш.*—доходить. Ар. *Танкі так і не дайшлі да забалацьця.* Дудзіцкі(Бацк. Но. 49-50/435-436). *Божай удзячнасьці дойдзем.* Кіт. 9а9. *Спасеньне дайшло.* Тм. 18а8. *Месца таго чым жа дайшла?* Тм. 96б3.

**дайці,** *дайшоў*—убить. Когда убьют зайца, лисицу, то кричат: "*дайшоў!" Огого дайшоў!*

**дайці**—поспеть. *Збожжа дайшло — пара жаць. Соверш.* **дахадзіць**-*джу, даходзіш-дзе, перех. и чаго,* **1.** окончить обход. Дсл. *Татулька прыход дахадзіў.* Дсл.
**2.** своими действиями достигнуть плачебного результата. *Ён свайго даходзе, ён сваe галованькі ня зносе.* Дсл.
**3.** окончить службу. *Іван дахадзіў войтам.* Дсл.

**заходзіць**-*джу-дзіш-дзе, несоверш.* **1.** уходить далеко в какое-л., за какие-л. пределы. Ар. *Вун куды Немцы заходзяць, аж да Акі.*
**2.** входить, проникать куда-л. *Грыбнікі заходзяць у наш лес.*
**3.** заходить, переходить. *Нашто было заходзіць загранiцу?* Ар.
**4.** ходить обходом, заходить. *Заходзіць адзаду, сьпераду, з боку.*
**5.** заходить, уходить за предмет. *Сонца за лес заходзе.* Ар.
**6.** опускаться за горизонт(о солнце, месяце, звездах). *Сонца заходзе.* Ар.

**зайсьці**, *зайдў, зойдзеш, зойдзе, зойдзем, зойдзеце, зойдуць, соверш.* (*к заходзіць в 1-ом зн.*) **1.** уйти далеко. *За дзьве гадзіны зойдзем да Крэва.* Ар.
**2.** *соверш. к заходзіць в 2-ем зн.*—войти, проникнуть куда-л. *Гусі зайшлі на чужую сенажаць.* Ар.
**3.** *соверш. к заходзіць в 3-ем зн.*—зайти, перейти. *Немцы зайшлі за Дзьвіну.*
**4.** *соверш. к заходзіць в 4-том зн.*—подойти обходом. зайти. *Няўпрыцям ён зайшоў нам з боку.*
**5.** зайти за предмет. *Месяц зайшоў за балку.*
**6.** опуститься за горизонт. *Сонца зайшло.* Ар.
**7.** *каго*—постараться предварительно склонить кого-л. на свою сторону. *Трэба зайці войта, каб ён ня высунуў нашага сына ў некруты.* Нсл. 190.

**заходзе,** *соверш., зайшло, безлич.*—неметь, цепенеть. *Вада сьцюдзёная: у рукі заходзе, зайшло.* Ар.

**зыходзіць,** *несоверш. к зыйсьці*—сходить.

**зыйсьці**, *зыйдў, зыйдзеш, зыйдзе, зыйдзем, зыйдзеце, зыйдуць, соверш. з чаго*—идя, спуститься вниз; сойти. Гсл.; Ар. *Ангелы зь неба зыйдуць.* Кіт. 30а9.

**находзіць**-*дзе, несоверш.*—подходить, прибывать. *Ухапавайце, ухапіце сена: дождж находзе.* Нсл. 669(*под ухапаваць*). *Схапавай, схапі баржджэй хусьце з паркану, дождж находзе.* Нсл. 625(*под схапаваць*). *Соверш.* **найсьці.**

**паходзіць,** -*джу-дзіш-дзе* , *несоверш.*—происходить.

**пахадзіць**-*джу-паходзіш-дзе, соверш.*—ходить некоторое время, походить.

**падходзіць, падыходзіць, 1.** *несоверш. к падыйсьці*—подходить. Ар.; Ксл.
**2.** *о тесте*: подниматься, вздуваться. Ар., Шсл. *Як доўга сядні хлеб не падыходзе, пара б ужо садзіць.* Ст. *Соверш.*

**падыйсьці**, *падыйдў, падыйдзеш, падыйдзе, падыйдзем, падыйдзеце, падыйдуць,* **1.** подойти. Ар.; Ксл.; ЗСД. 181, 182, 235, 303, 322, 326. *Я глушка на лева вушка, падыйдзі бліжэй.* Нсл.
**2.** *чым,*—подтечь снизу. *Пуня падыйшла вадою.* Дзяды Сір. (Ксл.).
**3.** *о тесте,*—подняться (вздуться, Ар.) Шсл. *Хлеб падышоў, будзем садзіць.* Ст.

**пайсьці**, *пайду, пойдзеш, пойдзе, соверш. к ісьці,* **1.** пойти. Ар. *Лясьнік пашоў у лес.* Ар. *Да неба ня пойдзе.* Кіт. 18а13. *Пан Бог кажа ім да ласкі сваей Божай пайсьці.* Кіт. 2163.
**2.** *ад каго-чаго,*—уйти. *Яны пайшлі ад нас.* Ар.
**3.** *па кім,*—родиться, стать похожим на кого-л. *Сын па бацьку пайшоў.* Ар. *Ср. удавацца, удацца ў каго.*

**пахаджаць,**-*аю-аеш-ае, повел.-ай,-айма, нв.*—расхаживать. *На дварэ пахаджае кароль.* Н. (Афанасьев, 1, 1913, 210).

**пераходзіць**-*дзіш-дзе, несоверш.* (*к перайсьці*) **1.** *што або праз што,*—переходить. *Пераходзілі рэкі а балоты.*

**пераходзячы,** *нареч.* — переходя. *Пераходзячы праз сенажаць, урасіўся.* Ар.
**2.** *о дожде, граде, снеге*: перепадать.

**дождж ідзець пераходзячы**—дождь перепадает, идет с перерывами. Ар.

**перахадзіць каго**—превосходить. Ар.; Гсл. *Дзеці бацькоў пераходзяць.* Ар. *Соверш.*

**перайсьці**, *перайду, пярэйдзеш пярэйдзе, пярэйдзем, пярэйдзеце, пярэйдуць,* **1.** *што або праз што*—перейти. Ар. *Перайшлі праз ручай і апынуліся заграніцаю.*
**2.** пройти, окончиться, перекратиться(об осадках). *Паджджы ў нас, пакуль дождж пярэйдзе.* Ар.
**3.** *перен., каго*-превзойти. *Сын бацьку перайшоў.* Ар. *Вучанік перайшоў вучыцеля.* Дубіна Вал.

**перайці на веру**—принять католическое или иное вероисповедание. Шсл. *Васілёк перайшоў на каталіцкую веру.* Ст.

**праходзіць**-*джу-дзіш-дзе, несоверш. к прайсьці*—проходить. *Соверш.* **прайсьці,** *прайду, пройдзеш, пройдзе*—пройти. Ар. *Надабе прайсьці паглядзець гавяды.* Амельна Пух. (Шсл.). *Соверш.* **прахадзіць**-*джў, праходзіш-дзе,* **1.** провести некоторое время в ходьбе, проходить. *Дзень прахадзіў, шукаючы каня.* Ар.
**2.** *у чым,*—ходить в чем-л. или как-л. в течение какого-л. времени, проходить. *Пяць год прахадзіў у гэтых ботах.* Ар.

**прыходзіць, прысьці,** (Ар.), **прыці,** (Шсл.; Нсл.)—прийти. Шсл. *Мае дзядзька к нам прыці.* Ст. *Не пасьпеў прыці на пару.* Нсл. 516. *Безлич., с отрицанием*: **ня прыходзе,** *соверш.* **ня прышло**—неприлично. *Ня прыходзіць імне там быць із вамі.* Нсл. 336. *Ня прышло табе гаварыць гэта імне.* Тм.

**сходзіць,** *соверш.* **зысьці.**

**схадзіць**-*джу-дзіш-дзе, соверш.*—пойти куда-л. и, побыв там, вернуться обратно; сходить. *Каб ты схадзіў лапаты (заняў лапату) да суседа.* Ар.

**выходзіць**-*джу-дзіш-дзе,* **1.** *несоверш. к высьці,*—выходить. Ар.
**2.** быть обращенным куда-л., в какую-л. сторону, выходить. *Вокны выходзяць на вуліцу.*
**3.** уходить. МГсл. *Яны ўжо выходзяць ад нас.* Ар.
**4.** *в 3-ем лице ед. ч., наст. вр.*—следует. *Із славаў вашэцевых выходзе, што надабе ехаць.* Ар.
**5.** *в 3-ем л. ед. ч., наст. вр.* **выходзе**—стало быть, следовательно. *Соверш.* **высьці, выйці,** *выйду-дзеш-дзе,* **1.** выйти. Ар.; Нсл. *Маці некуды вышла.* Ст.

**2.** израсходоваться, издержаться, выйти. Ар.; Шсл. *Вышаў увесь корм.* Ст.
**3.** случиться(в результате какого-л. действия, хода, С.). Шсл. *Так вышла і нічога ня зробіш.* Ст.

**выйшаўшы,** *прич. наст. вр.*—вышедши, был вышел(перед тем, чем что-л., произошло). *Пан выйшаўшы з двара.* Нсл. 83. *Соверш.* **вы́хадзіць**-*джу́-дзіш-дзе, соверш.* —обойти всё, побывать во многих местах; исходить.

**уходзіць**-*джу-дзіш-дзе,* **1.** *несоверш.* (*к ўвыйсьці*)—входить. Ар.; Н.(Афанасьев, II, 1913 г., 210); Ксл. *Уходзе ён у хату.* Чартовічы Сур. Север.(Шэйн, II, 418). *Уходзіць у новую хату.* Нсл. 570. *Пераз вушы вужы, гады ўходзяць і выходзяць.* Кіт. 130а3.
**2.** *в 3-ем л. ед. ч.* **уходзе**—идет, есть к лицу. *Табе гэта шапка ўходзе.* Ар.
**3.** *каму, да каго-чаго*—подходить, соответствовать. *Яму ба́кі ня ўходзяць.* *Соверш.* **увыйці**-*выйду́,* (Рэдзькіна Ржэўскага пав. Гринькова: Тудаўляне, стр. 307), **увыйду́,** (Вял.), *увы́йдзем, увы́йдзе, увы́йдзем, увы́йдзеце, увы́йдуць, прош. вр. увыйшоў, увышоў,* Вял.; П. Новыя Млыны на Сейме. Курило: Матеріяли —войти. *Соверш.* **ухадзі́ць**-*джу́-дзіш-дзе, употр. в прошлом вр.*—быть в довольстве относительно нарядов.

**узыходзіць,** -*джу-дзіш-дзе, несоверш.* —восходить, подниматься вверх. Ксл. *Узыходзіць на гару.* Ар. *Соверш.* **узысьці.**

**усходзіць**—восходить, появляться над горизонтом(о небесных светилах). *Сонца ўсходзе.* Ар.

**узыйсьці,** *узыйду, узыйдзеш, узыйдзе, узыйдзем, узыйдуць, прош. вр. узышоў, соверш. к узыходзіць, усходзіць*—взойти. *Узышоў на званіцу.* Ар. *Узышло сонца.* Крылцова Сян. (Ксл.). *Як узыйду рана на зары, узрадую дробныя дзетачкі.* Места Погар Стдуб.(Косіч 68).

•**ісьці́ся,** *ідзеца, страд. к ісьці. Вось узялося на пагоду і будзе лёгка ісьціся дамоў.* Адамчык: Арж. колас. *Тут добра йдзеца.* *Многократ.* **хадзі́цца,** *ходзіцца.*

**абходзіцца,** *з кімсь, з чымсь, несоверш.* **1.** обращаться с кем-л., чем-л. Ар. *Кінь стрэльбу, бо ты зь ёй ня ўмееш абходзіцца.* Азярэцк Сян. (Ксл.). *Ніхто так не абходзіцца з бацькам.* Ст. *Ураднік ізь людзьмі добра абходзіцца.* Варсл.

**абходжаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—обращение.
**2.** *кім, чым,*—довольствоваться малым, уметь прожить, выйти из положения, ограничиваясь тем, что имеется в расположении. Ар. *Так-сяк абходзьцеся сваім, ня лезьце ў доўг.* Нсл. 354.
**3.** *без каго-чаго,*—обходиться без кого-чего. Шсл. *Дзядзька без чужніка абходзіцца ў гаспадарцы з работаю.* Варсл. *Абходзяцца без найміта.* Ар.
**4.** стоит, говоря об издержках. Ар. *Вясельле нам ня танна абходзіцца.* Нсл. 354. *Соверш.* **абхадзі́цца,** *абходзіцца,* —привыкнуть ходить в чем-л. *Гэты бычок, як абходзіцца, дык добра пойдзе ў сасе.* Варсл.

**абысьці́ся,** *абыйду́ся, абы́йдзешся, абы́йдзеца, абыйдзецеся, абыйдуцца; прош. вр. абышоўся, абышлася, абышліся, соверш.* **1.** (*к абходзіцца 1*)—поступить с кем-л. каким-л. образом, обойтись. Юрсл. стр. 14(*под абыйціцца*). *Ня хораша ён із табою абышоўся.* Ар.
**2.** *соверш. к абходзіцца в 3-ем зн., кім-чым,*—обойтись. *Пошару ня будзем купляць, абыйдземся сваім.* Ар.
**3.** *без каго-чаго, соверш. к абходзіцца ў 3-ім зн.*—обойтись. Шсл.; Нсл. 354. *Безь цябе там абыйдуцца.* Кляшчына Беш. (Ксл.). *Абыйдуся, абыйдземся й безь цябе.* Ст. *Абыйдземся бяз цукру.* Ар.
**4.** *соверш. к абходзіцца в 4-ом зн.*—обойтись. *Падарак твой абыйшоўся мне даражэй, чымся купля.* Нсл. 354. *Дорага абышлося ім ігрышча.* Ар. *Першы дзень, як у поле выганяюць, ля кароў стой а стой, пакул яны абыйдуцца, бо босца пачнуць.* Юрсл.
**5.** привыкнуть. Юрсл. стр. 14(*под абыйціцца*).

**адходзіцца,** *ад каго чаго, несоверш. к адыйсьціся*—отлучаться, отходить на время; отходить недалеко. Ар.

**адыйсьціся,** *адыйдуся, адыйдзешся,* —отойти на небольшое расстояние; отлучиться. Ар. *Ад народу адыйдуся, сьлізамі абальлюся.* Дсл. *Адыйдзіся адгэтуль, стань вундзе.* Ар. *Ср.* *адхінуцца.*

**даходзіцца**-*іцца, зав. к даходзіць*—доходить. Нсл. 144. *Ня добрыя аб табе даходзяцца чуткі.* Нсл. *Соверш.* **дайсьціся** (**дайціся,** Нсл.). *Дайшліся да мяне нядобрыя аб табе ведамкі.* Нсл. 144. *Маё да мяне дайшлося.* Нсл.
**2.** выявиться, обнаружиться. *Ці дайшлася ваша кража?* Варсл.
**3.** *безлич. дайшлося*—довелось. БНсл. *Дайшлося табе зь мяне сьміяцца.* Нсл. 144.

**заходзіцца**-*джуся-дзішся, несоверш.* —завертывать, приходить по пути. *Затым што сяліба іхная блізка да дарогі, дык да іх падарожныя заходзяцца.*

**зайсьціся,** *зайдуся, зойдзешся, зойдзеца, зойдземся, зойдзецеся, зойдуцца, соверш. к заходзіцца в 1-ом зн.* **1.** зайти по пути куда л. или к кому-л. *Ідучы да Крэва, зайшоўся да Вішнёўкі.* Ар.

**захадзі́цца I**-*джу́ся-дзі́шся,* **1.** устать от хождения. Гсл.

**зыходзіцца**-*джуся-дзішся, несоверш.* (*к зыйсьціся*) *зь кім*—сходиться. Ар.

**зыйсьціся,** *зыйдуся, зыйдзешся, зыйдзеца, зыйдземся, зыйдзецеся, зыйдуцца, соверш.* (*к зыходзіцца*), *зь кім*—сойтись. Ар.; ЗСД. 134.

**праходжацца,** *-джуюся-джуешся* —прохаживаться, прогуливаться. Адзельск. *Ср. праходак. Соверш.* **прайсьці́ся,** *прайдуся, пройдзешся*—пройти немного или не спеша, прогуляться, пройтись.

**ня прыходзіцца, ня прышлося, ня пры́дзецца,** *соверш., безлич. с отрицанием,* **1.** не следует, не дело. Нсл. 336.

*Ня прыходзіцца, ня прышлося табе ўчыць мяне, бо я больш за цябе знаю.* Нсл. 336.
**2.** не йдет, некстати. *Імне ня прыходзіцца гаварыць яму гэта; а валей ты скажы.* Нсл. 336.

**прыходзіцца, 1.** *несоверш., 1 и 2-го лица нет.; о времени*: совпадать. *Вербная нядзеля прыходзіцца, прышлася на самае Дабравешчаньне.* Нсл. 515.
**2.** равняться, быть в уровень с кем. Нсл. 515. *Куды ты прыходзішся, прыйшоўся да яго?*
**3.** быть в пору; быть соответствующим чему-л., подходящим в каком-л. отношении, приходиться. *Твая сьвітка ня прыходзіцца імне, вузкая.* Нсл. 516.

**прыйсьціся,** (Ар.), **прыйціся,** (Нсл.)*-йдуся-йдземся-йдзецца.* **1.** *соверш. к прыходзіцца I.*—совпасть. Нсл. 515.
**2.** *соверш. к прыходзіцца 2. Прыйшлася сьвіньня да каня, ды шэрсьць не такова.* Нсл. 515.
**3.** *соверш. к прыходзіцца 3. Боты твае прыйшліся імне як раз на ногі.* Нсл. 516.
**4.** прийти, приводя с собой другого, других. *Чаго ты прийшоўся сюды із сваімі сябрукамі?* Нсл. 516.

**расходзіцца, разыходзіцца**-*джуся-дзішся, несоверш. к разыйсьціся*—расходиться. Ар. *Соверш.* **разыйсьціся,** *разыйдусядзешся,* **1.** разойтись. Ар.; ЗСД. 134. *Разыйдзіецея па зямлі.* Кіт. 2866.
**2.** раствориться в жидкости. *Цукер ня ўвесь разышоўся ў гарбаце.* Ар.

**выйціся,** *соверш., 1 и 2-ого лица нет*—остаться (от какого-л. времени, С.) Шсл. *Ад зімы троха вышлася сена.* Ст.

•**ісьці́зна**-*ны-не, ж.*—основной капитал, правый иск, истинная принадлежность, Нсл. 225. искомая по суду собственность. Ксл. *На каго бы маемасьць ляжачая або рухомая спала, павінні будуць, есьлі а суму пенязей пазычоную пазавуць, ісьцізну із савітасьцю заплаціці.* Стт. 329. *А гдзе бы а тое нябудучы яшчэ да права пазваны, (ацец) зьмер, тагды (сын) больш ня маець плаціці, адно ісьцізну, а савітасьці, він і накладаў нічога ня малець плаціці.* Тм. *Маю ісьцізну другому прысудзілі, другому аддалі.* Нсл. *Ісьцізны свае не дайшоў у Віцебску.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Што Пан Бог учыніў вам на пажытак, штоб управілі тых сірот, покі яны на ногі паўстануць, і карміце іх із таго, але ня ісьцізны, што пройдзе з пажыткаў.* Кіт. 1064.

•**ісьцізнае**-*нага, в зн. сущ.*—истинная принадлежность. *А пак лі бы ў чыём схаваньню таковыя рэчы ўзяты былі ад каго гвалтам, тагды на абжалаванам тот, у чыём схаваньню было, даходзіці маець; а навязка таковых рэчай таму, чыя была собскасьць, з самога ісьцізнага ад таго, у каго ўзята, зыскаўшы, вернена быць маець.* Стт. 336.

•**ї́сьціна**-*ны-не, ж.*—истинный, правильный долг(основной капитал, С.). Шсл., истинное количество чего-л. взятого одолженного, истинник. *Хаця б ісьціну зыскаць, а чужога мне ня трэба.* Ст. *Не хачу я твае квоты, аддай маю ісьціну.* Нсл. 225.

•**ї́сьціць,** *ї́шчу, ї́сьціш, ї́шча, несоверш., каму,* **1.** поступать по чистой совести. *Ні ў чым ты мне ня ісьціш.* Нсл. 226.
**2.** *перех.*—исполнять(осуществлять, С.) в точности. *Так ты ісьціш, уісьціў свае слова?* Нсл. 225. *Соверш.* **зысьціць,** *перех.* —исполнить верно(осуществить, С.). *Ты ніколі ня зысьціш слова.* 221.
**3.** отдавать взятое или одолженное. *Ня толькі квоты не даець, дый самага доўгу ня ісьціць.* Нсл. 226. *Але найболей у ёй(музыцы) было таго, чаго яшчэ ня было: страху, мукі, смутку чалавека, што гэтак мучыцца й шукае свайго зьішчэньня.* Корзюк. *Соверш.* **выісьціць,** *перех.* **1.** отдать сполна занятое. *Ты мне й ранейшага доўгу ня выісьціў ды ізноў просіш.* Нсл.
**2.** исследовать, открыть истину. *Нічога, паночку, па мне ня выісьцілі, што табе на мяне наказалі.* Нсл.
**3.** удовлетворять. *За крыўду ня хоча мяне ісьціць, уісьціць.* Нсл. 226.

**заісьціць**-*ішчу-ісьціш-ішча, соверш.* **1.** возвратить должное. *Заісьціць доўг.* Нсл. 169.
**2.** удовлетворить за что-л. *Заісьціць крыўду.* Нсл. 169.

**уісьціць,** *уішчу, уісьціш, уішча, перех.* **1.** *соверш. к ісьціць в 1-ом зн.*—исполнить.
**2.** *соверш. к ісьціць в 4-ом зн.*—удовлетворить,
**3.** *соверш. к ісьціць в 3-ем зн.*—отдать занятое. *Уісьціць каму доўг.* Нсл. 655.

**уішчаны,** *прич. к уісьціць 1, 2, 3. Уішчаны доўг.* Нсл. 655.
**4.** *чым,*—обеспечить. *Ня маець быці з таго вязеньня выпушчан, аж пярвей сябе рукаемствам уісьціць.* Стт. 92.

•**ї́сьціцца,** *ї́шчуся, ї́сьцішся, ї́сьціцца, несоверш.* **1.** исполняться(осуществляться, С.). *Мае слова ісьціцца, выісьцілася.* Нсл. 226.
**2.** выплачивать свой долг. *Хачу табе выісьціцца,ды ня змога мая разам аддаць, буду патроху ісьціцца.* Нсл. 226.

**3.** оправдываться, делаться верным, справедливым. Нсл. 221. *Соверш.* **зысьціцца** —оправдаться, оказаться верным, справедливым. *Мае слова зысьцілася.* Нсл. 221. *Ведамка зысьцілася.* Нсл.

**4.** *страд.*,—быть взносиму, уплачиваться.

**выісьціцца,** *выішчуся, выісьцішся,* **1.** *соверш. к* *ісьціцца в 1-ом зн.*—исполниться (осуществиться, **С.**) Нсл. 226.

**2.** *соверш. к* *ісьціцца в 2-ом зн.*—выплатить долг. Нсл. 226.

**уісьціцца,** *уішчуся, уісьцішся,* **1.** обеспечить. *Гдзе бы хто, каму даўшы на сябе запіс а ў том ня уісьціўшыся, зьмер.* Стт. 328. *Маець рукаемства паставіці, людзей добрых, аселых, і ўісьціціся імі і іх маемасьцьмі, іж ня зьнікнець у тых лецех, як на лісьце (зялезным) яму назначана.* Стт. 93.

**2.** *соверш. к* *ісьціцца в 4-ом зн.*—быть уплаченну. *Доўг мог гады за тры уісьціцца сусім.*

**адісьцевацца,** *ад'ішчуся, ад'ішчуешся, ад'ішчуецца,* *многократ.*—возвращать исподволь взятое в долг. *Не хачу ніякае квоты; ты хоць патроху ад'ісьцевайся, пакуль сусім ад'ісьцішся.* Нсл. 385. *Соверш.* **ад'ісьціцца,** *ад'ішчуся, ад'ісьцішся, ад'-ісьціцца*—возвратить взятое в долг. Нсл. 385.

•**ісшыць,**—*см. под шыць.*

•**ішчэ,** *нареч., област.* — *яшчэ.* Ар. *Мы ішчэ ня сьнедалі.* Сешча Пух. (Шсл.). *Ішчэ пасьпееш.* Тм.

•**Іва́н**-*ана̀, предл.-ану̀, зват.-а̀не; мн. ч.-ны-ноў-ном.-оў-на̀мі-нох, м.*—Иван. Аш.

•**Іваноў,** *-нова-новы*—принадлежащий Ивану, Иванов. *Каня Йвановага ціўун забраў у хлеў.* Аш.

•**іў,** *междомет.*—звукоподражание для передачи голоса лошади при лягании. Шсл.; Ар. *Во зараз конь убрыкне: іў, іў!* Ст.

•**іцьвіны**(*одна* **іцьві̇на**), *мн. ч.-ін*—связь головки саней с *"капылом"*, в санях связи между первыми *"капылами"* и загнутыми канцами полозьев. Сакуны 26. *Зламіў ён іцьвіну ў дарозе.* Галтухі Сур. (Ксл.). *Паламіліся іцьвіны ў санёх — трэба новыя.* Навасёлкі Пух. (Шсл.).

# К

•**кох,** *коха, предл. косе, зват. коша, м.*, клохтание курицы, водящей цыплят. *Нешта кураняты пішчаць, а коха курыцы ня чутно.* Нсл. 249.

•**кох,** *междомет.*—ох, болезненный стон. *Жонка кох, а гаспадар вох.* Нсл. 249.

•**кохаць,** *звукоподр.-аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** клохтать, свойственно курице, водящей цыплят. *Курыца кохае, кохнула ў гародзе.* Нсл. 249.

**2.** *перен., о людях*: охать, суетиться, хлопотать о чем-л. *Цэлы дзень кохае, як курыца каля куранят.* Нсл.

**кохнуць**-*ну-неш-не,* **1.** *однкр. к "кохаць" в 1-ом зн.* Нсл. 249.

**2.** *несоверш.* **па кім**—питать страсть к кому-л., питать страсть, привязанность и как бы охать, если чувство встречает какие-л. препятствия или неблагоприятные условия. Гсл. *Кохне па дзяўчыне, па дзетках, па мужу.* Гсл. *Кохне па дзяўчыне.* Нсл. 249. *Кохне па дзяцёх.* Тм. *Кохне па матцы, па мужу.* Нсл.

•**кохлік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—коклюш. *Дзяўчынку маю забівае кохлік.* Асіноўка Беш. (Ксл.).

•**козыт**-*ыту, предл. и зват.-ыце, м.*—щекотание( о теле). Гсл.

•**кок,** *отгл. частица в знач.* ударил. *Кок! Яйцо й разьбілася.* Дсл. 332.

•**кокаць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.*—бить яйцо или что-л. круглое. *Ня кокай яйца, бо качаць ня будзе чаго.* Дсл. 332. *Соверш.* **адкокаць, 1.** отбить, отколотить. *Адкокалі яму ўсі нялёгкія.* Дсл.

**2.** отмолотить. *Адкокалі рана — ідзем із току завідна.* Дсл.

•**кока**-*ка, предл.-ку, ср.* (Ар.), *кока, кокі, коццы, ж.* (Шсл.), *дет. На, Іванька, еж коку.* Ст. *Курыца кока ня зьнесла.* Нсл. 241. *Чырвоненькае кока.* Тм.

•**кокат**-*ата, предл. и зват.-аце, м.* **1.** ветвь. Растсл.

**2.** сук. Растсл.; ПНЗ.

•**кокаць**-*кця, предл. и зват.-кцю, мн. ч., род.-цяў, м.*—коготь(у животных, птиц, С.). Гсл., коготь или ноготь. *Сам із кокаць, а барада з локаць. Послов.* Нсл. 241. *Лучыў у кокці.* Тм. *Уменьш.* **кокцік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—коготок. *У сваe кокцікі злавіў.* Нсл. 241.

•**кол,** *кала, на кале, зват. коле, мн. ч. калы, мн. ч., дат.-лом, мн. ч., предл.-лох, м.*—коль. *Сарока сакатуха папад кольлю.* Лужкі Стдуб.(Косіч 32). *Собир.* **кольле**-*ля, предл.-лю*—колья.

•**кола**-*ла, мн. ч.-лы-лаў, ср.* **1.** колесо, Ар.; Шсл.; Гсл. колесо мельничное. *Купі новае кола ў калёсы.* Мікалаёва Куз. (Ксл.). *Кола паправіць надабе.* Нсл. 241. *Кола ў вальні.* Тм. *Кажан чорт на сваё кола ваду цягне. Послов.* Нсл. *Уменьш.* **колца**-*ца, предл.-цу, мн. ч.-цы-цаў*—колечко. Ар.

**2.** круг. Гсл. *Заяц даў кола.* Пятніцкая Беш. (Ксл.).

•**коламазь**-*зі, ж.*—колесная мазь. Гсл.

•**колас**-*са, предл. и зват.-се, мн. ч.-сы-соў-сом, мн. ч., предл.-сох, м.*—колос. Ар. *Колас, што зярнят ня мае, дагары лоб задзірае. Послов. (пра задаваку).* Войш. *Собир.* **калосьсе**-*ся, предл.-сю.* Косіч 83. *Уменьш.* **каласок**-*ска, предл.-ску, мн. ч., дат.-ском, мн. ч., предл.-скох*—колосик. Ар. *Бацька пісаў ліст свайму сыну: Мой каласок! Сонейка-каласок. Закаціся за лясок. Сонейка нізенька, нам да хаткі блізенька.* Из песни пастушкоў. Ар. *Пара, маці, жыта жаці, каласок сьхіліўся.* ПНЗ 46.

**каласочак**-*чка, предл. и зват.-чку, уменьш. к каласок.* Ар. *У полю пшаніца каласочкі кліча.* Жыгалкі Стдуб.(Косіч 26).

•**колаварат**-*ата, предл. и зват.-аце, м.*—ворота о двух сплошных половинках, вертящиеся вокруг укрепленного посреди улицы столба и одновременно пропускающие идущих или едущих и взад и вперед; такие ворота делаются в конце деревни для охранения посева от скота, Нсл. 736. дверь или ворота, вращающиеся около столба. *Зачыняйце колаварат а то статак у шкоду пойдзе.*

•**колер**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—цвет(чего-л.). МГсл.; Гсл. *Чырвоны колер, вінны смак, каменна сэрца. Чаму так?* Загадка(вішня), Ар. *Колер белы, чырвоны, сіні.* Нсл.

•**колерны**-*ная-нае*—цветной. Колерная хустка. Нсл. 241. *Колерны запон.* Тм.

•**колка,** *колкі-лцы, ж.*—колики. *Мяне схапіла колка.* Турэц Сьміл. (Шсл.) *См. колька I.*

•**колкі**-*кая-кае*—колючий. МГсл.; Гсл.

•**колька I**-*кі, дат., предл. кольцы, ж.*—поместное колотье в теле, НК: Очерки, Но. 146. колики. Ар.; Лужасна Куз. (Ксл.). *Колька падпала ў бок.* Нсл. 242. *См. колка.*

•**колька II,** (Ар.), **колькі,** Гсл.; Раст.: Смоленск 141.—сколько. Нсл. 242. *Абрацi й пастанавіці віжоў толькі-колькі патрэбна будзець.* Стт. 1529 г. *Вольна плаціць колька хочаш вахтаў(араб. разоў).* Кіт. 88а2. *Колькі ты даў яму?* Нсл. *Колькі ні гавары яму, ён ўсё сваё.* Нсл. *Колькі ў вас зямлі?* ЗСД. 49. *Колькі вы зьбіраеце збожжа?* Тм. *А колькі радасьці...* Тм. 6. *Дзіва, сена колькі таго аднаго. На ўсю зіму стане*

•**калю́гавіна**-*ны-не, ж.*—углубление от колес на дороге, колея. Ар.; Міх. *См. калюга.*

•**калю́жны**-*ная-нае, прилаг. к калюга. Калюжны шлях праракаюць трэфы.* Кавыль: Думы, 16. *Выгнанца шлях калюжны.* Кавыль: Думы, 32.

•**калю́жына**-*ны-не, ж.*—рытвина, выбоина, яма на дороге, Ар. то же, что *калюгавіна.*

•**калю́кі**-*каў, мн. ч.*—колики (стреляющие боли) при различных болезнях. *Лячу Прахору калюкі: Калюкі, каліцеся, парыцеся, ад Прахора адчапіцеся.* Із замовы, Навасёлкі Пух. (Шсл.).

•**калю́чка**-*чкі-чцы, ж.* **1.** колики. *Калючка падпала.* Нсл. 243.
**2.** *общ.*—любящий колоть словами. *Калючка нягодны, кажнага ўколеш або ўкусіш.* Нсл. 243.

•**калю́чка**-*кі, ж.*—шип. МГсл.

•**камора**-*ры,* (Растсл.; Гсл.), *дат., предл.-ры, ж.* **1.** кладовая при сенях. Пачаевічы Чаш. (Ксл.); Шсл. *Сала стаіць у каморы.* Ст. *Юрка сьпіць у каморы.* Ст.
**каморка**-*ркі-рцы,* **а)** *уменьш. к камора.* **б)** ноздря. У них (грибов) много *"каморак"* — ноздрей, отделений. Дсл. 42. ( под *бубехі*).
**2.** камера. Гсл.

•**каморнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —камергер. *Іно яго каралеўская міласьць, за жалабаю князя Курпскага, каморніка яго каралеўскае міласьці Міхайлу Нарбута...зь лісты, мандаты яго каралеўскае міласьці...паслаці рачыў.* Ліст праз аграбленьне Немцамі Курбскага. (Янчук: Нарысы, 68).

•**камабой**-*оя, предл. и зват.-ою, м.*—каменобоец, рабочий занимающийся разбиванием камня в щебень. Пруж.; Вал.

•**камаклёў**-*ёва, предл. и зват.-ёве, м.*—каменотёс.

•**камалом**-*ома, предл.-ому, зват.-оме, м.* —каменолом.

•**камаломня**-*ні-ні; мн. ч.-ні-няў, ж.*—каменоломня.

•**каманьдзер**-*ра, предл. и зват.-ру, м.*—командир. Шсл.; Нсл. *Ён служыць за каманьдзера.* Ст.

•**каманьдзерка**-*ркі-рцы, ж.*—женщина командир. *Каманьдзерка гэта нікому ня дасьць задрамаць.* Нсл. 736.

•**камары мак таўкуць**—первые по весне ройные метанья комаров. НК.: Очерки, Но. 876.

•**кама́шы**-*шаў(один камаш)*—ботинки (с голенищами, Ар.). Заронава Куз. (Ксл.).

•**камачос**-*са, предл.-су, м.*—каменотёс. Вал.

•**камэда**-*ды-дзе, ж.*—комедия. Шсл. *Камэда зь ім — дый годзе!* Ст.

•**камэдыя́н**-*на, предл.-ну, зват.-не, м.*—комик. Міх.

•**камэдыя́нец**-*нца, предл.-нцу, зват.-нча, м.*—комедиянт, фокусник. Шсл. *Камэдыянцы паказавалі ў Сьмілавічах усялякія штукі.* Ст.

•**камэдыя́ніцца,** -*нюся-нішся, несоверш.* —показавать фокусы, фокусничать. *Дзяцюкі папіліся й сталі камэдыя́ніцца.* Міх.

•**каме́ль**-*ля, предл.-лю̀; мн. ч.-лі̀-лёў-лём-лі̀ля̀мі-лёх, м.* **1.** нижняя часть ствола у пня, Сянно(Ксл.) толстый конец(ствола дерева и т. п.). Гсл.
**2.** нижняя часть снопа, куля и т. п. *Уменьш.* **камлю́к**-*юка̀; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох.*
'**камлю́к**-*юка̀; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* **1.** похожий на *"камель"*, приземистый, здоровый мужчина, женщина.
**2.**—*см. под камель.*

•**ка́менка**-*кі, дат., предл. каменцы, ж.*—каменная печка. *Узьлі вады на каменку.* Селішча Гар. (Ксл.).

•**каме́нны**-*ная-нае, прилаг. к камень*—состаящий из камня, каменный. Ар.; МГсл.

•**ка́мень**-*меня, предл. и зват.-меню; мн. ч.-мяні̀-нёў-нём-ні̀-ня̀мі-нёх, м.* **1.** камень. *Каменя гэтага ніяк не падыймеш.* Нсл. 228. *З пад каменя вада цячэць.* Тм. *Як цяжка каменю па вадзе плыці, так горка майму сыночку без мацеры жыці.* Тм. *Доўга сядзеў памеж камянёў.* Цэлеш: Ярылаў агонь. *Узбоч мільгаюць, быццам таксама бягуць на сустрач....прыдарожныя камяні.* Марціновіч(Беларус, Но. 159). *Гляджу ляжыць хлапец памеж камянёў.* Цэлеш(Ярылаў агонь).
**кінуць каменям на каго**—упрекнуть в чем-л. позорным. *На беларускую дзяўчыну ніхто йшчэ каменям ня кінуў і не паважыцца кідаць. Собир.* **каме́ньне**-*ня, предл.-ню.* Гсл.—множество камней. *Каменьням закіда̀ць.* Нсл. 228. *Капала карэньне з пад белага каменьня.* Из песни, Нсл.
**каменьніка**-*ка, предл.-ку, ласкат. к каменьне. Зьбяры гэта каменьніка на жлукту.* Нсл. 228. *Каменьніка падлажы пад бакі, каб не валілася на бок.* Тм. *Уменьш.* **каме́нчык**-*ыка, предл.-ыку, зват.-іча, м.*—камушек, Шсл.; Ар. камешек. *Хлапцы гуляюць у каменчыкі.* Ст.
**2.** литовская (белоруская) мера веса, составляющая 40 литовских фунтов и равная с русским фунтом и 17 1/2 лотом. Словарь Горбачевского(Гордз. акты, ХУІІ, стр. 54).

•**ка́меньніца,** -*цы-цы, ж.*—бесплодная женщина. *Знаць яна каменьніца, што дзяцей ня родзе.* Нсл. 228.

•**каме́чыць**-*чу-чыш-ча, несоверш.*—комкать, превращать в комок. *У руках камечыць шапку.* Рамановіч(Канадні, Но. 2, 23).

•**каме́чыцца.** *Жыцьцё камечыцца памеж таго каменьня.* Крушына: Творы, 40.

•**камёза**-*зы, общ.*—лобатый-тая. Гсл.

•**камёзасьць**-*ці, ж.*—комолость. Гсл.

•**камёзы**-*зая-зае*—комолый, безрогий. Гсл.

•**камёлак**-*лка, предл. зват.-лку, м.*—толстячок, крепенький, хорошо сложенный мальчик. *Бегае, як камёлак, камёлачак.* Нсл. 243. *Уменьш.* **камёлачак**-*чка, предл. и зват.-чку.* Нсл. 243.

•**камя́га**-*ягі-язе, ж.* М. Туд Ржэўскі п.(Гринькова IУ) **1.** рыболовное судно — саженной длины корыто, из толстово древесного ствола, доходящего в диаметре до арш. и более, с прилажеными вдоль бортов объемистымі *"крыльямі"*, которыми бывают или цельные бревна толщиною верш. в 4, или брусья той же толщины. НК.: Очерки, 513.

**2.** челн, выдолбленое из дерева длинное корыто, к которому по обе стороны для устойчивости прикрепляют доски. Ваяводкі Віц. (Ксл.); Мал. Туд (Гринькова IУ).

**3.** корыто(поить скот, Ксл.). МГсл. *Гані каровы да камягі!* Сураж (Ксл.).

**4.** жолоб. Пісараўка Імгл.(Серж.: Отчет, 91).

•**камя́к**-*якà, предл.-якỳ, зват.-я̀ча, мн. ч.-кі̀-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* **1.** ком. Шсл. *Мука ўся ў камякох.* Ст. *Уменьш.* **камячок**-*чка, предл.-чку, зват. камячку, мн. ч., дат.-чком, мн. ч., предл.-чкох. Сьціснулася ў камячок.* Каласкі, 1955, Но. 29-30, 1.

**2.** густая картофельная каша, преимущественно с постным маслом или с маком. Гсл.

•**камяне́ць**-*ѐю-ѐеш-ѐе*—обращаться в камень, каменеть. *Соверш.* **скамянець**-*ею-ееш-ее*—окаменеть. Гсл. *Каб ты скамянеў!* Ар. *Ваўкі, як стаялі разявіўшы рот, так і скамянелі.* Слуцак (Сержп., 3). *Навокал людзі быццам скамянелі.* Крушына: Лебедзь, 48.

**скамяні̇́ць**-*ню-ні̇ш-ні̇ць, соверш., перех.*—окаменить. *Ср. скамянець.*

•**камяні̇́ца**-*цы-цы, ж.*—каменное строение вообще и жилой дом — по преимуществу, НК.: Очерки, Но. 470. каменный дом. Гсл.

•**камярдзёлак**-*лка, предл. и зват.-лку, м.*—крепыш. Шсл. *Хлапец здаровы, як камярдзёлак.* Ст.

•**камячы́ць**-*чỳ, камечыш-ча, несоверш., перех.*—мять (комкать, С.), мять. Шсл. *Ср. камяк.*

**камячыць кулакі**—сжимать кулаки. Ст. *Давай камячыць на яго кулакі.* Ст. *Соверш.* **пакамячыць**-*чу-чыш-ча, перех.*—помять. Шсл. *Пакамячыў шапку, аж нельга надзець.* Ст. *Прич.* **пакаме́чаны.** Шсл. *Уся адзежа пакамечана.* Ст.

**скамячы́ць,** *соверш., перех.*—смять. Шсл. *Скамячыў сьвітку ды кінуў у куток.* Ст. *Прич.* **скамечаны**—смятый. Шсл.

•**камячы́цца**-*чỳся, камѐчышся, несоверш.*—мяться. Шсл. *Адзежа валяецца ды камѐчыцца.* Ст. *Соверш.* **пакамячыцца**—помяться. *Пакамячыўся жакет, валяючыся.*

**скамячыцца,** *соверш.*—смяться. Шсл. *Шапка скамячылася, валяючыся.* Ст.

•**камізэлька**-*лькі-льцы, ж.*—жилетка, Ар.; НК.: Очерки, 108; Бешанковічы (Ксл.); Шсл. жилет. Гсл.

•**камінок**-*нкà, предл.-нкỳ, зват. камі̇́нку, мн. ч., дат.-нком, мн. ч., предл.-нкох, м.*—стекло в лампе. Бадр.; Ір.; Шсл. *У лянпе ляснуў камінок.* Ст. *Закỳраў камінок у лянпе.* Ст.; Шсл.

•**камі̇́нак**-*нка, предл. и зват.-нку, м.*—в избах пред печью очаг. *Раскладзі трэсак на камінку.* Нсл. 243. *На камінку корч палае.* Колас. *Сядзіць перад камінкам.* Капыловіч: Хлеб (Беларус, Но. 157). *На камінку смалякі пасыхаюць.* Кавыль: Пад зорамі, 19. *См. камянок.*

•**камянок**-*нка, м.*—очажек. *Расклась*ці *агонь на камянку.* Нсл. 243.

•**камі̇на́р**-*арà, предл.-арỳ, зват.-а̀ру; мн. ч.-рѝ-роў-ром-роў-ра̀мі.рох, м.*—трубочист. Гсл.

•**каміся**-*сі-сі, ж.*—комиссия. *Учора мяне паслалі ў камісю.* Белагузава (Бузук: Невель, стр. 14).

•**камлёт**-*ёту, предл. и зват.-ёце, м.* **1.** суконная или шерстяная ткань, Гс плотная шерстяная ткань, камлот.

**2.** женская одежда иэ этой ткани. Гсл.

•**камлы́га**-*ы̀гі-ы̀зе, ж.*—ком, глыба земли. Нсл. *Камлыгаю балота пусьціў у лоб, заляпіў вочы.* Нсл. *Собир.* **камлыжжа**-*жа, предл.-жу*—сбор, множество глыб. *Камлыжжам закідаў.* Нсл. 244. *Уменьш.* **камлы́жка**—комок, небольшая глыба. Нсл. 244. *Як ён даскародзе, ты грабелькамі паразьбівай з краю камлыжкі, падграбі зямлю з лажка.* Гс *Камлыжкамі сьнегу закідаў.* Нсл. *Камлыжкаю лỳчыў у вока.* Нсл.

•**кампора**-*ры-ры, ж.*—камфора. *Шчэз проста, як кампора.* С. Музыка 112.

•**кампа́ньнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** собеседник. *Войт разагнаў нашых кампаньнікаў.* Нсл. 244.

**2.** соучастник. *Бяруцца за заводцаў, прыймуцца й за кампаньнікаў: валей уцякайма адгэтуль.* Нсл. 244. *Ср. кумпаня.*

•**камуні̇́стая**-*ае, сущ.*—коммунистка. *Ср. камуністы. Уменьш.* **камунісьціца**-*цы-цы, ж. Ср. камунісьцік.*

•**камуні̇́сты**-*тага, сущ.*—коммунист. Шсл. *Запісаўся ў камуністыя.* Ст. *Кітайскія камуністыя пачалі выдаваць свой тэорэтычны часапіс.* Бацьк. Но. 3(439). *Уменьш.* **камунісьцік**-*іка, предл.-іку, зват.-ча.* Шсл. *Наш Рыгор — камунісьцік.*

•**камчы́ць,**—*см. под комчыць.*

•**камы́**-*моў, мн. ч., дат.-мом, мн. ч., предл.-мох, м.* **1.** кушанье в виде шариков, не превышающих величины кулака, приготовляемых из разварённого и растолчённого боба, гороха, картофеля. НК.: Очерки, 19.

**2.** картофельная каша, иногда с горохом, бобом, Ксл. каша из бобов с картофелем. Шсл. *Уперад зварацъ боб, тады бульбу скрабаную; усё разам стаўкуць у казане і завецца гэта камамі.* Альшанікі Беш. (Ксл.). *Нашы ўжо стаўклі камы.* Матарова Сьміл. (Шсл.).

**3.** гутая картофельная каша с салом или маслом. Гсл.

**канопельныя камы** — *суслы.* НК.: Очерки, 29.

**камы з душой**—клёцки с кусочками сальца внутри, т. е. пельмени, в которых вместо мяса завернуты кусочки сала. Ар.

•**канопллі**-*пель, единств. ч. нет.*—конопля. Ар.; МГсл.; Шсл. *Куры выграблі ўсе канопллі.* Ст. *Шугі, шугі, галубы, на дзедавы канопллі.* Косіч 5. *Выскачыў, як із канапель ўсяроўна.* Ст. *Уменьш.* **канапе́лькі,** *одна* **канапелька.** *Старэнькі дзедка канапелькі сее.* Косіч 5. *А чаму ты, канапелька, не зялёна стаіш?* Северщ. (Косіч 5).

•**канада́**-*дьі-дзѐ, общ.*—плаксливый, бывающий часто недовольным; надоедающий просьбами, сопровождаемыми жалобами, сетованиями, иногда плачем. Міз. *См. канадзіць.*

•**кана́дзіць**-*джу-дзіш-дзе, несоверш.*—пенять, плакаться, жаловаться.

•**каназобка**-*кі, предл. и зват.-цы, ж.*—лукошко (ручная корзинка из лубка или прутьев, С.). *Падай сюды каназобку, Марыся!* Астроўна Віц. (Ксл.).

•**канапа́дзь**-*дзі, ж.*—сгусток коломази. Ксл. *Каля колаў канападзі вазьмі.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**кана́па**-*пы-пе, ж.*—диван. Гсл.

•**канапе́лісты,** -*тая-тае*—коноплянный цветом. *Канапелістая хустка.* Нсл. 241. *Канапелістая птушачка.* Нсл.

•**канапе́лька**-*ѐлькі,—см. под канопллі.*

•**канарэз**-*за, предл.-зу, м., бранное,* **1.** волк. Нсл. 244.

**2.** жестокий к лошадям. *Ня дай, Божа, які ён канарэз.* Нсл. 244.

•**кана́рхаць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** читать каноны и провозглашать стихиры. Гсл.

**2.** со слезами и настойчиво вымаливать, Гсл. с пением или нараспев просить. В старину, даже еще в конце XУII стол., бедные ученики пением кантов снискивали себе пропитание. *Даўно канархаець, просячы есьці.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **канарханьне**-*ня, предл.-ню, ср.*—слезливое настойчивоевыпрашивание, Гсл. настойчивое упрашивание, сопровождаемое плачем нараспев, усильно просячим чего-л. *Дадзеў сваім канарханьням.* Нсл. 229. *Соверш.* **закана́рхаць**—начать "канархаць". *Даўно ты еў, а ўжо ізноў заканархаў.* Нсл. 229.

•**кана́ш**-*ша́, предл.-шу́, зват. канашу́; мн. ч.-шьі-шоў-шом, мн. ч., предл.-шох, м.*—человек, имеющий одинаковый "кон" — судьбу с другим, есть ему "*канаш*".

•**кана́шка**-*кі, дат., предл. канашцы, ж.*—женск. к *канаш.* Смоленщ.

•**кана́ва**-*вы-ве, ж.*—канава. МГсл.

•**канава́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к канаваць*—определение судьбы, судьба, рок. Дсл. *Такое яму канаваньне ад Бога.* Нсл. 244.

•**канава́ць**-*ную-нуеш-нуе, несоверш., перех.*—определить (предопределить, С.), Ксл.; ЗСД. назначить. Дсл. *Каму Бог якую сьмерць кануе, накануе, так і памірае кажан.* Нсл. *Прич.* **канава́ны**—определенный судьбою. *Гэта яму канаваная сьмерць.* Нсл. 244. *Яму такое канаванае жыцьцё.* Нсл. *Соверш.* **аканаваць**-*нуюнуеш-нуе; повел. -нуй-нуйма*—обречь. *Аканаваў прадаць цяліцу на падачкі.* Стралкі Беш. (Ксл.). *Соверш.* **наканаваць, 1.** предопределить. *Што Бог наканаваў, таго ніколі ня мінеш.* Нсл. 309. *Доля наканавана яму падзяліць долю сваіх жаўнераў да канца.* Акула 434.

**2.** назначить, определить. Дсл. *Табе гэта ўжо наканаваць надабе.* Лук'янова Сян. (Ксл.). *Накануйце, якія каровы рэзаць.* Дсл. *Над Беларусьсю — срэбраны ветах, і Беларусь мая — папараць кветка. гэта сыны ёй наканавалі, тыя, што маці сваю шанавалі.* Панізьнік. *Прич.* **наканава́ны**—искони определенный, предназначенный Богом. *Яму сьмерць такая наканавана.* Нсл. 309. *Наканаваны дзень.* Нсл. *Наканаванага ня мінеш.* Нсл. *Яны* (*навіны*) *пасыпаліся на яго ў наступньія дні, быццам так было ўжо яму наканавана.* Дсл. *Але, але, — азваўся Віктар, — ня ведаем мы наканаваных людзём дарогаў.* М. Вольны (Б. Ускалось, Но. 6, 24). *Бацькі нашыя так жылі, дзяды так жылі, дык і нам, відаць, так жыць наканавана.* ЗСД 109. *Месца ваша ў ніцалозьзі, ганьба вам наканавана, бо пры вашай падпамозе Бацькаўшчына ўкрыжавана.* Дуб. *Дачыненьні... зводзяцца на трагічна-наканаваную разьвязку.* Гарэцкі (Гіст. блр. літ.).

*Нареч.* **наканава́на.** *Мне наканавана бадзяцца ўвесь век па сьвеце, а сканаць у бацькавай хаце.* Гсл. *Каму наканавана ў якім часе памерці, дык нійдзе ад сьмерці не схаваешся.* Барыс.(Шейн: Мат. II, 362).

*Наканавана толькі жыць: нічога ня зробіш.* Рыбчына Сір. (Ксл.). *Так ужо, відаць, наканавана чалавеку: запамінаць толькі новае, нязвыклае.* І. Новікаў (Полымя, Но. 12, 1967, стр. 146).

*Отгл. имя сущ.* **наканава́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—Божее определение, предназначение, фатальность, предначертание судьбы, неизбежное в жизни. Гсл. *Відаць такое яму ад Бога наканаваньне.* Нсл. 309. *Від*

*падзеяў страшэнна закручаны, сыну ўсё ж наканавана жыць.* Крушына: Творы, 90. *Соверш.* **уканаваць што**—постановить очередь, определить(установить, С.). *Як пан уканаваў, няхай так і будзе меж нас.* Нсл. 655. *Прич.* **уканаваны**—определенный, заведенный(установленный). *Уканаваным парадкам трэба рабіць, а не пасвойму.* Нсл. 655.

•**кана́ць**-*аю-аеш-ае,* **1.** (умирать, Нсл.) испускать последнее дыхание, Шсл.; Ар. кончаться. Гсл.; Смл., Кур.(Даль). *Наш Ёська канае.* Сукрэмна Сян. (Ксл.). *Канае, а зольле хапае.* Нсл. 244.

**2.** служит проклятием. Шсл. *Каб ты канаў так!* Ст. *Прич. наст. вр.* **кана́ючы**—умирающий, испускающий последнее дыхание. *Ведай, якім способам маеш да канаючага чалавека прыйці.* Кіт. 48а6. *Отгл. имя сущ.* **кана́ньне**-*ня, предл.-ню*—кончина, предсмертные минуты умирающего. Гсл.; Ар. *Каб табе такое кананьне, як гэта праўда.* Нсл. 244. *Перад кананьням прызнаўся.* Нсл. *Няма на цібе ніякага кананьня!* Ст.; Кіт. 34а9. *Соверш.* **скана́ць, а)** скончаться. *Сканаў чалавек — і ўсё табе тут!* Ст. *Тата канае, сканаў.* Нсл. 244. *Сканаў Габрусь у чужыне.* Гарун: Габруська. **б)** служит проклятием. *Каб ён сканаў!* Воўсішча Куз. (Ксл.). *Отгл. имя сущ.* **скананьне**-*ня, предл.-ню*—кончина. МГсл.

**3.** *перен.*—сильно страдать от боли. *Ходзе й канае рукою.* Вяжышча Беш. (Ксл.).

**4.** *перен.*—желать чего-л. сильно. Нсл. 244. *Канаеш, не дажджэшся.* Нсл. *Аж канае, ня можа даждацца.* Ст.

•**кана́цца,** -*дюся-дешся-децца, несоверш.*—прехватывать поочередно руками палку от одного конца до другого, чтобы определить, кому первому играть, начинать какую-л. работу и т.п.; решать жеребьевкой. *См. кідаць на жэрабя. Ср. кон, канаваць.*

•**канды́ба**-*бы, общ.* **1.** человек с ковыляющей походкой, Гсл. хромоногий. *З кандыбаю йдучы, ня борзда дойдзеш.* Нсл. 229.

**2.** не скорый в ходьбе и работе. *Кандыба гэты, як не сваімі рукамі робе, не сваімі нагамі ходзе.* Нсл. 229.

**3.** слабосильная лошаденка, кляча. Гсл.

•**канды́баць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—идти хромая или не скоро, ковылять, прихрамывать; кое-как плестить. Гсл. *Ну, бардзей кандыбай!* Нсл. 229. *Соверш.* **дакандыбаць**—дойти таким образом. *Пакуль ты дакандыбаеш да двара!* Нсл. 229.

•**кане́ўнік,**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** злодей, наводящий лошадиную порчу. НК.: Пособ. 151.

**2.** конокрад. НК.: Очерки, Но. 858. *Што цыган, то канеўнік.* Нсл. 244.

**3.** любитель лошадей, лошадейный барышник. НК.: Очерки, Но. 858.

•**кане́ц**-*нца̀, мн. ч., дат.-нцом, мн. ч., предл.-нцох, м.* —конец.

**з канца ў канец**—из конца в конец. *Гэты сьвет напоўніўся сьветласьці з канца ў канец.* Кіт. 108б4.

•**кане́чнасьць**-*ці, ж.*—необходимость.

•**кане́чны**-*ная-ное*—необходимый, непременный. Ар. *Нареч.* **канечне**—непременно, Ар. непременно, обязательно. Ар.; Гсл. *Канечне посьнікай трынанцаты дзень.* Кіт. 21б14. *Канечне трэба гэтак зрабіць.* Ст. *Не канечне папу яечня: зьесьць і дзяк, а поп будзе так.* Послов. Нсл. 244. *Ён канечне захацеў іх палавіць.* Н. (Афанасьев, IУ, 1914, 287).

•**ка́ня**-*ні, дат., предл.-ні, ж.*—лунь, Ксл. звукоподражательное название птицы из породы коршунов; ее появление и крик предказывают дождь. Гсл. *Каня крычыць — дождж будзе.* Рыбчына Сір. (Ксл.). *См. канюх в 4-ом см.*

•**каня́к**-*якў, предл.-якў, зват. каня̀ча, м.*—коньяк.

•**каніна**-*ны-не, ж.*—лошадиное мясо. Ар.; Шсл. *Татары дык ядуць каніну.* Ст.

•**ка́нка,** *канкі, канцы, ж.*—клистирная трубка, клейстир. *Канку трэба прыставіць, даўно на двор дзяцё ня ходзе.* Нсл.

•**канпрэс**-*су, предл. и зват.-се, м.*—компрес. Шсл. *Хвораму на галаву палажылі канпрэс.* Ст.

•**кантра́хт**-*хту, предл. и зват.-хце, м.*—обязательство за определенную суму выполнить(выполнять) какую-л. работу (работы) подряд.

•**кантра́хтар**-*ара, предл. и зват.-ару, м.*—порядчик.

•**кантрахтава́ць**-*тўю-тўеш-тўе, повел.-тўй-тўйма, несоверш.*—подряжать. МГсл. *Соверш.* **закантрахтавать.** БГсл.

•**кантынэнт**-*нту, предл. и зват.-нце, м.*—материк(континент, С.). МГсл.

•**кантычка**-*чкі-чцы, ж.*—сборник духовных песень, псалмов. Гсл.

•**канвэрт**-*рту, предл. и зват.-рце, м.*—конверт. Ар.; МГсл. *Абдзіраловіч дастаў скрыначку зь лістамі й канвэртамі.* Дзьве Душы, 188. *На канвэрце надпіс.* Дальны (Калосьсе 2, стр. 84). *Уменьш.* **канвэрцік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча. У канвэрціку пісулька.* Цэлеш: Ярылаў агонь.

•**канвульсі**-*сяў*—падучая болезнь. МГсл.

•**ка́нькала**-*лы, общ.*—попрошайка. *Адкасьніся ты, які канькала.* Нсл. 229. *Канькала гэта хоць у каго выпрасіць.* Нсл. *Дай гэтаму канькале.* Нсл.

•**ка́нькан ьне**-*ня, предл.-ню*—неотступная просьба, особенно нараспев, клянканье. *Ня слухай ты яго канькання.* Нсл. 229. *Канькан ьням сваім вушы пратрубіў.* Нсл.

•**ка́нькаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—канючить, вымаливать, Гсл. клянчить, канючить, Смл. (Даль) с плачем нараспев выпрашивать. *Цэлы дзень канькае есьці.* Нсл. 229. *См. канархаць в 2-ом см. А Юрка*

*прышоў безь нічагутка, і ня канькаў, і не прасіў.* Гарэцкі: Песьні, 40. *Соверш.* **заканькаць**—запросить чего-л., начать неотвязчиво просить. *Заканькала баба грошы.* Дсл. 238.

**2.** находящийся на конце, вконце чего-л.; являющийся концом, конечный, крайний. *Ён апынуўся на канцавой станцы, адкуль цягнікі нікуды ня йдуць.* Корзюк.

•**канцы I,** *перех.*—смерть. *Канцы прыходзяць.* Іг. *Будуць табе канцы.* Іг.

•**канцы II,** *предлог с род. пад.*—вконце, на краю. *Канцы грэблі стаяць вербы, што я іх садзіла.* Из нар. песни.

•**канцыляра**-*ры-ры, ж.*—канцелярия. *Пісар сядзіць адзін у канцыляры.* Ст. *Згарэла канцыляра, і ўсе паперы пагарэлі.* Ст.(Шсл. *под* *папера*). *Пісара ня было ў канцыляры.* Ст.(Шсл. *под* *памочнік*).

•**канча́льны**-*ная-нае,* **1.** кончательный. Нсл. 245. *Адзіноства адзяржала канчальную шчэліну.* Бацьк. Но. 4(539). *Скажы канчальнае слова.* Нсл. 245. *Нареч.* **канчальна**—окончительно.

**2.** являющийся пределом, границей чего-л.; предельный.

•**канча́не**(*один* **канчанін**)—живущие на концах деревни, Запрудзьдзе Сян. (Ксл.) жители окраин деревни. Шсл. *Тыя канчане прывялі к нам коні пасьціць.* Ст.

•**канча́р**-*ара̀, предл.-ару, зват.-а̀ру, мн. ч.-рыроў-ром-ры̀-ра̀мі-рох, м.*—отрезок веревки, шнура, доски, концовой отрезок чего-л. *Адарваў канчар вяроўкі.* Скрыль Пух. (Шсл.). *Каб папасьці дзе які канчар дошкі.* Ст.

**2.** окурок. Ар. *Зьбірае канчары й кура.* Ар.

•**канча́так,** -*тку, предл. и зват.-тку, м.* —окончание. МГсл.; Гсл.; Ар.

•**канча́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, повел.-а̀й-а̀йма, несоверш., перех.*—оканчивать. Ар. *Соверш.* **скончыць**-*чу-чыш-ча, перех.*—окончить, кончить. *Скончыў свае панаваньне.* Гарун: (ст. "Восенскі сьпеў"). *Скончы з імною справу, няхай будзе канец.* Нсл. 245. *Скончылі будаваць яго дом.* Мішкава Куз. (Ксл.).

•**канча́цца**-*аюся-аешся, несоверш.*—оканчиваться. Нсл. 736; Ар. *Служба Божая канчаецца.* *Соверш.* **скончыцца**-*чуся-чышся*—окончиться. Ар. *Отгл. имя сущ.* **сканчэньне**-*ня, предл.-ню.*

**сканчэньне сьвету**—конец света. Ар. *Будзе сканчэньне свету.* Ст.

•**канчу́к**-*у̀ка, предл.-уку̀, зват.-у̀ча, мн. ч.-укі̀-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* **1.** нагайка, Гсл. ременная плеть. *Канчуком сьвіснуў па плячох.* Нсл. 245. *Уменьш.* **канчучок**-*чка, предл.-чку, зват. канчучку, мн. ч., дат.-чком, мн. ч., предл.-чкох. Глядзі — канчучок па сьпіне паходзе.* Нсл. 245.

**2.** отрезок веревки, шнура, доски. Шсл. *Нейкім канчуком завязаў мех.* Ст.

•**канчу́р**-*ура̀, предл. и зват.-уру̀, зват.-у̀ру, мн. ч.-ры̀-роў-ром-ры̀-ра̀мі-рох, м. — канчар у і-ым зн.* Іг.

•**каню́х**-*юха̀, предл.-юху̀, зват.-ю̀ша, м.* **1.** кучер, форрейтор и помощник их для чистки, ухода и выправки лошадей, НК.: Под. пос. 42; 59.—(работник, занятый уходом за лошадьми, С.), конюх. МГсл.; Ар.; Шсл.

**2.** лошадный пастух, водящий лошадей по ночам весною и летом на подножный корм. *Канюхі, канюшкі, відаць, заспалі, што дагэтуль коні няма.* Нсл. 245. *См. начлежнік.*

**канюшок**-*шка̀, предл.-шку̀, зват. канюшку, мн. ч., дат.-шком, мн. ч., предл.-шкох, уменьш. к "канюх" в 2-ом см.*—мальчик, пасущий лошадей. Гсл. *Падаўна час маленькаму канюшку прачхнуцца.* Гарэцкі: Песьні, 56.

**3.** торговец лошадьми. Шсл. *У канюха вымяняў сабе каня.* Ст.

**4.** птица. Шсл. — *ка̀ня,* Гсл., ястреб. Міколск М.(Демид.: Веров. 113). *Канюх крычыць на дождж.* Ст.

•**каню́шы**-*шага, сущ.*—досмотрщик пастух лошадей. *Нешта наш канюшы не жанець коні з гоньніцы.* Сакуны 77. *Канюшы ранюсенька выганяе коні.* Сакуны 36.

•**канюшы́на**-*ны-не, ж.*—клевер. Ар.; МГсл. *Палявец пазабіраў коні на канюшыне.* Ст.(Шсл. *под* *палявец*).

•**капок**-*пка, предл.-пку, мн. ч., дат.-пком, мн. ч., предл.—пкох, м.*—отдельная капля кушанья, упавшая на стол. НК.: Очерки, Но. 121.

•**капота**-*оты-оце, ж.*—капот(платье), Шсл. род верхней одежды. Гсл. *Надзень во хоць гэту капоту.* Ст. *Андрэй, ня дурэй, не дзяры капоты, ні ты праў, ні ты ткаў, ні твае работы.* Из дет. песни, Ар.

•**каповішча**-*ча, предл.-чу, мн. ч.-чы-чаў, ср.*—место собрания "*капы*" в 3-ем см. *Каповішча кажны падкаморы ў павеце сваім назначыці і сёла тых, хто ся там станавіці будзець, апісаці маець.* Стт. 467.

•**ка́па**-*пы, дат., предл.-пе, ж.*—кожаная покрытка на хомуте. Ар. *Лімар прышыў к хамуту новую капу.* Вішкавічы Чаш. (Ксл.).

•**капа́ I**-*пы̀, мн. ч. копы, коп, ж.* **1.** численный состав единиц в 60 штук, и такою мерою повсеместно исчисляются снопы, кули, копны сена, фрукты, куриные яйца и вообще строго раздельные предметы одного и того же рода. НК.: Очерки, Но. 571; Ар.; Ксл.; Шсл.; Гсл. *Я нажаў дзесяць коп жыта.* Халамер'е Аз. (Ксл.). *Прадалі капу яец. Ст.*

**капа грашоў**—60 грошей. Даўгяла: Места Сьвіслацкае 1560 г.(Наш Край, 1928, Но. 6-7, стр. 34).

**соценная капа** - "*капа*" в 100 единиц. НК.: Очерки, Но. 571.

**2.** корна. Ар.; Шсл.; Гсл. *Сена вяжуць у копах.* Ст.

**3.** род суда, при котором собрание местных жителей рассматривало совершенное в окрестности преступление и выносило решение. Таковые суды существовали до XУII в. включительно в белоруском государстве, известном под именем "Великого Княжества Литовского". *А есьлібы ўкрыўджаны зладзействам хацеў шкоды сваяе даходзіці капою, тагды ўсі ў той аколіцы вокал на мілю з усіх чатырох старон, маюць казані падданым сваім на капу сходзіціся. А то ся маець разумеці ўперад на тыя месцы, дзе дагэтуль копы ня бывалі.* Стт. 467. *Што капа на іспашы прысудзяць шкоды, тот пан, чые быдла занята, маець плаціці.* Тм.

**копка**-*пкі-пцы, уменьш. к капа 1,2.*

**копачка**-*чкі-чцы, уменьш. к копка 1,2. Умею ядронае жыта жаці, у копачкі класьці.* Кажамяка Імгл.(Косіч 28).

**капіца**-*цы-цы, ласкат. к капа 1, 2. Набіла пшаніцы чатыры капіцы.* Из песни, М.

•**капайла**-*лы, общ.*—медленно работающий-щая или медленно собирающийся-щаяся в путь. *Капайла гэты пакуль вылезе з хаты.* Нсл. 245.

•**капа́льня-ні-ні,** *общ.*—тот, та, которые выкапывают корнеплоды(картофель, свеклу и пр.). Войш.

•**капа́льны**-*ная-нае*—ископаемый. МГсл. *См. копанік.*

•**капа́нікі**-*каў, единств. ч. нет.*—сани, в которых ободы из выкопанных в лесу кривых корней. Гарэцкі: Песьні 8. *Прымасьціўся ў дзіравых капаніках.* Гарэцкі: Песьні 8.

•**капаніца**-*цы-цы, ж.* **1.** мотыка. Растсл.; ПНЗ; Горадна Стол. (Полесье 178).

**2.** выкопанный ров, вырытый пруд. Гсл.

•**капалка**-*лкі — капачка.* НК.: Очерки, 394.

•**капа́нь**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-нёў-нём, мн. ч., предл.-нёх, м.*—такое дерево, корень которого дает стволу крючковатость. Более тонкие *"капані"* употребляются на кочергу, *"кісялёўку"*. НК.: Очерки, Но. 356.

**капане́ц**-*нца̀, предл.-цу̀, зват.-нча, мн. ч., дат.-нцом, мн. ч., предл.-нцох, м.* **1.** *уменьш. к* **капань.** НК.: Очерки, Но. 356.

**2.** *мн. ч.* **капанцы̀**-*цоў-цом, мн. ч., предл.-ох, единств. ч. нет.* — *копані в обоих см.* НК.: Очерки, 375.

•**ка́паны**-*ная-нае*—очень схожий, как две капли воды. *Капаны дзядзька.* Нсл. 229. *Капаная матка.* Тм. *См. копаны.*

•**капаруля**-*лі, дат., предл.-лі, ж.*—навозный крюк. *Вазьмі капарулю і йдзі скопаваць гной.* Навасёлкі Сян. (Ксл.).

•**ка́паць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш.*—капать. Ар.; Шсл. *Капае із страхі.* Ст.

**ка́пнуць**-*ну-неш-не,* **1.** *однкр. к "капаць". Капка капнула із шклянкі.* Ар.

**2.** *чым*—стегнуть кнутом. Шсл. *Дай я яму хоць раз пугаю капну.* Ст.

•**капа́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, несоверш., каго-што* —рыть. Ар.

**2.** копать. МГсл.; Ар.

**3.** копать, выкопывать. *Капаць бульбу буракі.* Ар.

**капаць дол**—копать могилу. Ар. *Соверш.*

**вы́капаць,** *перех.*—выкопать. *Джэбраіл, Міхаіл дол выкапалі.* Кіт. 96а8.

**закопаваць**—закапывать. Ар. *Соверш.*

**закапа́ць**—закопать, поместить в выкопанное углубление, засыпать сверху чем-л. сыпучим. Ар.

•**капа́ч**-*ча, предл.-чу̀, зват. капа̀чу, мн. ч.-чы̀-чоў-чом-чох, м.* **1.** орудие, представляющее собой острую лопатку, перпендикулярно насаженную на палку — употребляется для рыхления почвы, окучивания, выкапывания корнеплодных растений. Ар.

**2.** крюк для сбрасыванья навоза з телеги. Гсл.

**3.** сельскохозяйственная машина для выкапывания корнеплодов.

**4.** землекоп. Максимов: Белор. Смоленщина, 447. *Ад нас хадзілі ў капачы.* Ар.

**5.** рабочий, копающий навоз для вывоза яго на поле. НК.: Пасоб, 117.

•**ка́пачка,**—*см. под капля.*

•**капа́чка**-*чкі-чцы, ж.*—земледельческое орудие для вскапыванья земли, состоит из древка (1 арш.), имеющего железную насадку с тонкою лопастью, овальной вверху и сужающейся внизу. НК.: Очерки, 394.

•**капа́чны**-*ная-нае, прилаг. к капач.*

**капачныя вілы**—вилы для подъема навоз в хлеву или для скидыванья его с воза на поле. НК.: Под. пос. 33.

•**капэля**-*лі-лі, ж.*—капелла. *Дале п'яная капэля едзе, смаліць нешта ў гусьлі.* Дуб.(Калосьсе, Но. 3, 20, стр. 159).

•**капе́ж,** *капяжа̀, предл.-яжу̀, зват. капѐжу, мн. ч. капяжы̀-жоў-жа̀мі-жох, м* место на крыше, откуда падает вода. Жыткавічы ля Мозыра; Ар. *Куры п'юць ваду з пад капяжа.* Ст. *См. капле.*

•**ка́пельку,** *нареч.*—немножко (о чем-л. жидком, **С.**). Шсл.; Ар. *Выпіў капельку малака.* Ст.

•**капе́ц**-*пца̀,* (ПНЗ; Рстл.)-*пцу, зват. копча, мн. ч. капцы̀-оў-ом-цы-амі-ох, м.* **1.** межевой знак, (Гсл.) в виде небольшой насыпи (конуссобразной формы, иногда со столбиком на ней, Ар.), а также вообще всякая (подобная, **С.**) земляная насыпь. Ар.; Шсл.; Заазер'е Сян. (Ксл.); Гсл. *Ціпер граніцы ніхто ня зьверне: парабілі капцэ.* Ст. *У іх за сялом нейкія капцэ: мабыць там пахаваны забітыя жаўнеры, як была вайна з Прарнцузам.* Ст.

**2.** присыпаная землей куча картофеля на зиму. Ар.; Шсл.; Заазер'е Сян. (Ксл.). *Палавіца бульбы памерзла ў капцы.* Ст.

•**капя́к**-*ка̀, предл.-ку̀, зват. капя̀ку, мн. ч.-кі̀-коў-ком-кі-ка̀мі-кох, м.*—копна снопов, сложенная колосьями внутрь. *Во, колькі капякоў!* Гарадок (Ксл.).

**•капялю́ш**-*юша̀, предл.-юшу̀, зват.-юшу, мн. ч.-шы̀-шоў-шом, мцм.-шох, м.* — *брыль в 1-ом см. Вунь поп ідзець у капялюшу.* Ст.

**•капіеўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—кирилловский алфавит, кирилица, реформированая, в конце XYII в. великолитовским (белорусским) ученым Галяшом Капіевічам-Капіеўскім; в России известна под именем "гражданки", "гражданского алфавита". *"Капіеўка"* принята великолитвинами, болгарами, сербами, русскими и украинцами.

**•капішон**-*она, предл. и зват.-оне, м.*—капюшон. Ар.

**•капком капаць**—ногою рыть. *Гуляе Гарыня багатыр і горы капком капае.* Ржевский у. (Афанасьев: Нар. рус. сказки, I, 1897, 183).

**•ка́пка**-*пкі-пцы, ж.* **1.** крапинка, пятнышко. Гсл.

**2.**—*см. под капля.*

**•каплё**-*ля, предл.-лю, ср., собир.*—место, где капает или льется с крыши вода. Нсл. 229. *См. капеж.*

**•ка́пля**-*лі-лі, ж.*—капля. Ар. *Уменьш.* **капка**-*пкі-пцы. На галаву капнула капка вады.* Ст.

**капачка**-*чкі-чцы, уменьш. к капка*—капелька. Ар.

**капачкі падабраць**—иметь удивительное сходство. Гсл.

**•капліца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—часовня. МГсл.; Ар.; ПНЗ; Растсл.; Рудня Аз. (Ксл.); Шсл.; Куршчына. *Служэньне ў гэту нядзельку будзе на могілках у капліцы.* Ст. *Вось (у Слуцку) магільнік і капліца.* Рамановіч (Бацьк., Но. 49-50/435-436). *Колькі разоў лучалі нашы людзі на нядобрыя здарэньні каля капліцы.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, Но. 2, 1935 г., стр. 99). *Уменьш.* **каплічка**-*чкі-чцы. Стаяла старэнькая каплічка на курганку.* Дзьве Душы, 49.

**•капры́с**-*су, предл.-се,* **1.** каприз. МГсл.; Ар.

**2.** прихоть. МГсл.

**•капшу́к**-*ука̀, предл.-уку̀, зват.-ўча, мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—вышивной или из цветной материи мешочек для курительного табака, с небольшими кисточками на двух углах. Отверстие мешочка *"засморгаваецца"* (затягивается) снурком с кистями по концах. НК.: Пособ., Но. 65.,—маленький мешочек, в усты стягивающийся снурками; служит для хранения табака, кремня, кресала, или денег мелочи, Ар.; НК.: Очерки, 128. кисет, мешочек, сумочка (с курительными принадлежностями, деньгами и т. п.). Гсл.; Шсл.; Вят. Даль. *Скураны, напханы рубанцамі золата капшук, вырабу смаленскіх мастакоў, прымацаваў ён пры сваім сядле.* Жамойда(Б. Ускалось, 1954 г., Но. 4, стр. 18). *Поўны капшук табакі.* Чарніца Лёз. (Ксл.). *Клаў на кавалак жоўтай газэціны махорку зь вялікага скуранога капшука.* Дудзіцкі(Бацькаўшчына, Но. 376-377). *Выняў скураны капшук, расшураваў, расьхінуў, набраў трыма палцамі махоркі.* Дудзіцкі, Тм.

**2.** всякий маленький, меньше малой сумы, мешочек. Ар.

**3.** кокон. Гсл. *Уменьш.* **капшучок**-*чка̀, предл.-чку̀, мн. ч.-чкі̀-чкоў-чком, мн. ч., предл.-чкох.* Ар.

**4.** *насм.*—обдутый, толстый мужчина. *Капшук ты, бардзей ты варушыся.* Ст.

**•капта́н**-*ана̀, предл.-анѐ, зват.-а̀не, дат., предл.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.* **1.** кафтан. Падрэзы Чаш. (Ксл.); Гсл.; Нсл. 229. *Ішоў бай па сьцяне, у чырвоным каптане, ці баіць, ці не?* Ар.

**2.** большая *"катанка".* Шсл. *Падзерла каптан на істужкі.* Ст.

**капта́нік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча,* **1.** *уменьш. к каптан в 1-ом зн.* Ар.

**2.** лёгкая *"катаначка".* Шсл. *Пашыла каптанік із брыжамі.* Ст.

**•капту́р**-*ура̀, предл.-уру̀, зват.-ўру, мн. ч.-ры̀-роў-ром, мн. ч., предл.-рох,* Ар. *м.*—(женская) шапочка с приподнятыми вверх наушниками и надшейником. НК.: Очерки, Но. 257.

**2.** чепчик у замужних женщин и грудных детей. Гсл.

**3.** абажур. Гсл.

**4.** капор. МГсл.

**5.** верхная часть кухонной печи, переходящая в дымоход.

**•капту́рнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—монах вообще, как православный, так и католический, обязанный покрывать голову клобуком. *У каптурнікі запісаўся.* Нсл. 245.

**•капу́ста**-*сты-сьце, ж.* **1.** капуста. Ар.; Лужасна Куз. (Ксл.).

**2.** кислые щи. Ар. *Мама, налі мне капусты.* Лужасна Куз. (Ксл.).

**ад'есьці капусту**—окончить половину еды. НК.: Очерки, 14.

**•капца́н**-*ана̀, предл.-ану̀, зват.-ане, мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—оборванец. Ск. *Чага гэты капцан прычапіўся да нас?* Нсл. 229.

**•капцюр**-*юра̀, предл.-юру̀, зват.-ю̀ру, мн. ч.-ры-роў-ром-ры-ра̀мі-рох, м.* **1.** коготь. Ар.; Гсл.; Ксл. *Вадзянік расплёў яе косы і чэма сваімі капцюрамі.* Я. Г. Казкі, Но. 2, 85. *Запусьціў капцюр у скуру.* Колас("Каласкі", Но. 60-61, 1958 г.). *Мама, ча? Мама, курыца капцюр зламіла.* Вайводка Віц. (Ксл.).

**2.** презр.—ноготь. Ар.; Шсл. *Ну й капцюры твае, як у ката.* Ст.

**•капы́л**-*ы̀ла, зват.-ы̀ле, мн. ч.-лы-лоў-лом, мн. ч., предл.-лох, м.*—крюковидная насадка на саженном почти шесте, плоское и острее лезвие которой устроено поперечкою. *"Капыл"* употребляется вместо сохи, при вспахиваньню *"лядаў".* НК.: Очерки, 392.,—(род земледельческого

орудия), мотыка. *Капылом капыляць ляды.* Жалудова Лёз. (Ксл.).

**2.** вертикальная стойка в полозьях, поддерживающая пол саней. *Капылы новыя пастаў, дык будуць сані.* Гарадок (Ксл.),—одна из палок, посредством которых к полозьям прикрепляется короткий брусок, вставленный в полозья и служащий опорой для кузова саней.

**3.** сапожная колодка, Ар. колодка для натягиванья. Гсл. *У нашага шаўца ё толькі вялікія капылы.* Падрэзы Чаш. (Ксл.)

**падганяць пад адзін капыл**—подгонять под одну меру, размер. *Кажны чалавек і шчасьлівы і нешчасьлівы па свайму — тут нельга падганяць усіх пад адзін капыл.* Цялеш: Дзесяць, 58.

**капы́льле**-*ля, предл.-лю, ср., собир.* **1.** стропила с натуральными крюками. НК.: Пособ. Но. 13.

**2.** *собир. к* капыл *в 1-3 см.*

**з капыльля далоў**—(при пьянстве) свалиться с ног, не держаться и в сидячем положении. НК.: Піт., 74. *З капыльля зваліўся.* НК. 52.

•**капы́стка**-*сткі-стцы, ж.*—мешалка в виде длинной лопатки. Растсл.

•**капы́т**-*ыта̀, предл. и зват.-ыце, мн. ч.-ты̀тоў-том, мн. ч., предл.-тох, м.*—копыто. Гсл.; Нсл. 246; Ар.; Ксл. *У каня капыты вялікія.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Выняўся нейкі капыт.* Міколск М. (Демид: Веров III). *Замест конскіх капытоў, яна выразьліва пачула стукат свайго сэрца.* Ю. Жывіца("Прыйсьце", Но. 1). *Капыты задзерці, з капытоў дацца*—окочуриться. Іг. *Уменьш.* **капы́цік**-*іка, предл.-іку*—копытце. *Капыцікам (конь) зямлю кроe.* Из песни, Нсл. 246.

•**капы́цiцца**-*цішся, несоверш.*—оступаться (о лошади). Шсл. *Конь бягучы капыціцца.* Ст. *Конь на чатырох нагах капыціцца.* *Послов.* Нсл. 246. *Соверш.* **скапыціцца**—оступиться (о лошади), **1.** споткнуться (о лошади, Шсл.); Гсл. *Скапыціўся жарабок.* Ст. *Конь скапыціўся.* Нсл. 246.

**2.** подохнуть, умереть. Шсл. *Як хапіў яго жывот, дык адразу й схапыціўся.* Ст.

•**кароза**-*зы-зе, ж.*—сойка. Гсл. *См.* карэза.

•**кароза**-*зы-зе, ж.*—иволга. МГсл.

•**карожыцца**-*жуся-жышся, несоверш.* **1.** внешним видом, болезненными движениями проявлять признаки серьёзного заболевания. *Як ён карожыцца, хіба надта баліць.* Гсл.

**2.** подвергаться судороге. Гсл.

**3.** грубо капризничать, обнаруживать нахальное самодурство(куражиться, **С.**). *Ці глынуў на грош гарэлкі, і пачаў карожыцца.* Гсл.

•**кароль**-*ля, предл.-лю, зват.-лю, мн. ч.-лі̀-лёў-лём-леў-ля̀мі-лёх, м.*—король. Ар. *Ой, каролю, каролю, чым мяне даруеш?* Карскі III-1, 372; Кіт. 19б13.

•**Кароль,** *Караля̀, предл.-лю̀, зват. Каролю, мн. ч.-лі̀-лёў-лём-лёў-ля̀мі-лёх, м.*—Карл. Ар.

•**каромісел**-*сла, предл. и зват.-сьле, м.* **1.** орудие для носки двух ведер(воды и т. п.), накладываемое на одно только плечо, НК.: Очерки, 89. коромысло, Бешанковічы (Ксл.) коромысло, на котором в ведрах воду носят. *Ня лезь, а то каромíслам вытну.* Нсл.

**2.** палка скрепляющая *"вобжы"* у *"сашча".*

**3.** плечевая кость, рамо. *Каромісел зламіў сабе.* Нсл. 247.

**4.** кляпыш, (*в 1-ом см.,* **С.**). НК.: Очерки, Но. 699.

•**каромісла**-*ла, ср.* **1.** коромысло(для ношения ведер воды и под., **С.**). Бешанковічы (Ксл.); Шсл. *Каромíслам ваду лягчэй насіць.* Ст.

**2.** пояс Ориона. *Пара малаціць, каромісла ўжо высака.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**карона**-*ны-не, ж.*—корона(венец монарха).

•**кароста**-*сты, предл.-сьце, ж.*—чесотка. Ар.; Гсл.; Шсл.; Пацкава Сян. (Ксл.); Вят. (Даль). *Дзеці хварэюць на каросту.* Ст.

•**каросьлівы**-*вая-вае*—чесоточный. Ар. *Каросьлівыя рукі.* Рудня Аз. (Ксл.). *Раськінуў рукі каросьлівыя, ніколі ўважна не памытыя.* Гарэцкі: Песьні, 64.

•**кароткі**-*кая-кае*—короткий, краткий. *Гаварыў бы каток, ды язык караток.* Нсл. 247.

**кароткія рукі**—руки коротки у кого, нет возможности делать что-л. *Ср. ст.* **каротшы**—короче. *Левай, каротшай (нагою) папіхаў.* Кулакоўскі: Дабраселцы. *Твой пояс каротшы за мой.* Нсл. 247. *Мы шляхам каротшым пойдзем у зямлю.* Гарун(ст. "Ноктурно"). *Прев. ст.* **найкаротшы**—самый короткий, кратчайший. *Увелич.* **карацюсенькі**—коротехонький. *Цяпер карацюсенькі дзень.* Нсл. 247. *Нареч.* **коратка** —коротко, кратко. *Ср. ст.* **караце́й** —короче. Ар.; МГсл.

•**карова**-*вы-ве, ж.*—корова. *Уменьш.* **кароўка**-*ўкі-ўцы*—коровка. *Ідзе прапала кароўка, там няхай і вяроўка, послов.* —снявши голову, по волосам не плачут. Войш. *Зьеў кароўку, еж і вяроўку, послов.* —тоже.

•**карові**-*вяя-вяе*—коровий. *Каровяе малако.* Ар.

•**кароўня**-*ні-ні, ж.*—хлев для содержания коров и быков — коровник. *Загані бугая ў кароўню.* Нсл. 37.(*под* бугай).

•**кароўнік,** -*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —скупщик коров. Ксл. *Кароўнік скупляе на сяле куры.* Гарывецк Сян. (Ксл.).

•**кароўніца** — *малочніца.* НК.: Под пос. 43.

•**кароўны**-*ная-нае*—молочный (коровьего молока). Пісараўка Імгл.(Сержп.: Отчет, 9). *Разгаўляюцца больш "кароўным",*—зн. молочным. Косіч 20.

•**ка́ра**-*ры-ры, ж.*—наказание. Гсл.; Ар.; Шсл. *Наслаў Бог гэткую кару на нас.* Ст. *Кара з табою.* Нсл. *Кара Гасподня на нас.* Нсл.
**кара сьмерцю**—смертная казнь. МГсл.
**2.** взыскание(наказание за невыполнение или нарушение чего-л.).
•**кара́**-*ры̀-ры, мн. ч. коры-раў, ж.*—кора. Ар. *Единств. ч.* **карына́**-*ны̀.*
•**кара́б**-*а̀ба, предл. и зват.-абѐ, м.*—корабль.
•**караба́ты,** (Шсл.), **карба́ты,** (Ар.)-*тая-тае*—покоробленный, морщинистый. Шсл.; Ар. *Надта ж карабатае тваё сукно.* Ст. *Баба ўжо старая, карабатая.* Ст.
•**караба́ціць,** (Нсл.), **карба́ціць,** Ар.; Гсл.-*а̀чу-а̀ціш-а̀це, несоверш., перех.*—коробить, допускать коробиться. Ар.; МГсл. *На сонцу карабаціш, скарабаціш лубкі.* Нсл. *Ср. корпаць. Отгл. имя сущ.* **карбачаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—искривление неровных форм, образование выпуклостей и впадин от высыхания и т. п. причин. *Гэтыя дошкі дрэнныя, з карбачаньням.* Гсл. *Соверш.* **пакарбаціць**—покоробить. *Прич.* **пакарбачаны**—покоробленный. *Пакарбачан, як бы зморшчыўся.* Гарэцкі: Песьні.
**скарабаціць,** (Нсл.), **скарбаціць,** *перех., соверш. к карабаціць, карбаціць.* Нсл. 247.
•**карбаваная рыба**—вяленая, провееная рыба, с подрэзами по бокам. Кур. (Даль).
•**караба́ціцца,** (НК), **караба́ціцца,** (Ар.)-*цішся, несоверш.*—коробиться(о досках и под., С.); НК.: Очерки, 226. *Лубкі, на сонцу лежачы, карабацяцца.* Нсл. 247. *Дошкі карба̀цяцца.* Ар. *Соверш.* **пакарба́ціцца**—покоробиться. Ар. *Соверш.* **скараба́ціцца,** (Нсл.), **скарба́ціцца,** (Ар.)—скоробиться. Ар. *Жонка мая скарабацілася, зн. зацяжарыла.* Нсл.
•**карабе́ль**-*ля, предл.-лю, зват. кара̀блю. Па сінім мору карабель плыве.* ПНЗ 44.
•**карабе́нь**-*ня̀, предл.-ню, мн. ч.-нї-нёў-нём-нї-ня̀мі-нёх, м.*—короб. *Вясна красна, што ты нам вынесла? Вынесла карабень яец — дробным дзетачкам на забаву.* Гарцава Стдуб.(Косіч 257).
•**карагод**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.* **1.** хоровод, МГсл.; Косіч, 87; Растсл.; Воўсішча Сян. (Ксл.); Шсл.; Вост., Вят. (Даль) хоровод, круговая пляска. *Чаго ты сядзіш? Хадзі з намі ў карагод.* Нсл. 736. *Тут і бабы, тут і ўнучкі, усі ўзяўшыся за ру‹ч›кі, пайшлі ў вечны карагод. Слава Богу ў род і род.* Из вялікод. песьні, Нсл. *Ой, хто ў нас карагод завядзець?* Козіна Пуців. Халанскі, 187. *Дзеці вэнь на вуліцы гуляюць у карагод.* Ст.
**2.** толпа людей. Войш; Гсл.; Дсл. *Хлапцы карагодам ходзяць, віншуючы па сяле.* Нсл. 736. *Брацы, як у добры год, пойдзем ад хаты да хаты. Завядзем тут карагод, ці галыш, ці хто багаты.* Из песни, Нсл. 736. *Будзе стаяць ля варот карагод старых.* Ельн. (Дсл.). *Як ён прыехаў на сход, то пераверыўся, што князь навет кіруе ўвесь карагод (тых, што зьберлія на сход).* Дзьве Душы, 26. *Як пушчу яго (звон) у ход, склічу ў міг карагод.* Купала: Песьня званара(Спадчына, Ню Ёрк 1955, 106).
**3.** ряд чего-л., напр. ряд свай. Смл.; Кал. (Даль).
**карагод бабак**—один или несколько рядов снопов *"бабак". "Карагод"* содержит круглое число *"коп".* НК.: Очерки, 453. *Стаяць карагоды бабкаў аўсу.* НК.: Очерки, 449. *Бач, карагод бабак наставіў.* Гарадок (Ксл.). *Вясновых хвояк карагод жывіцай стаму гаіў.* Лойка: Л. Песьня. *Ідуць сабе гады, ідуць, бы карагод бясконца.* Гарун(ст. "Ідуць гады".
**4.** вереница. Гсл.
**5.** шум(толпы, С.), беспокойство, общая распря. *Ня йдзі да ранды: там карагод справілі.* Нсл.
•**карагоднік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—участник хоровода,—*карагод. Ср. карагодніца.*
•**карагодніца**-*цы-цы, ж.*—участница *"карагоду"*—хоровода. *Да яна ж была карагодніца.* Козіна Пуців.(Халанскі, 187).
•**карагодны,** -*ная-нае*—беспокойный, многохлопотный. *Талакою жаць карагоднае дзела, затое разам збожжа зьбярэш борзда з поля.* Нсл. 736. *Нареч.* **карагодна**—хлопотно. *Спраўляць у сваім дварэ сьвячу ня толькі каштоўна, колькі карагодна.* Нсл.
•**карагодзіць**-*джу-дзіш-дзе,* **1.** *несов.*—кружиться, ходить кругом кого-л., вертеться около чего-л. *Доўга я карагодзіў каля яго, пакуль грошы свае спагнаў.* Нсл. 736.
**2.** колобродить, говорить вздор, блуждать, не сосредоточиваясь ни на чем (о мыслях, воспоминанях).
**накарагодзіць,** *соверш. к карагодзіць в 2-ом см.* Нсл. 736.
•**карагодзіцца**-*джуся-дзішся, несоверш.* **1.** хорохориться, ерепениться. Гсл.
**2.** суетиться(как бы водя хоровод). Гсл.
**3.** дружить. Гсл.; Ар. *Яны зь ім карагодзяцца.* Ар.
•**караголь**-*ля, предл. и зват.-лю, м.*—ястреб перепелятник. *Як высака караголь палячэў.* Валькі Сур.(Ксл.).
•**карадлївы**-*вая-вае*—боящийся всякой неприятности, обидчивый, чувствительный. *Карадлївы якатун.* Нсл. 150(*под якатун*). *Які ты карадлівы, сказаў табе слова, а ты й заплакаў.* Нсл. *Карадлівага толькі дакраніся, то й закрычыць.* Тм.
•**кара́дзіцца,** (Гсл.), **карадзїцца,** (Нсл.)-*джуся(джу̀ся)-дзішся-дзіцца*(Нсл.) **1.** корчиться, ежиться, боясь боли; корчиться, преувеличивая вид своих мучений, своей боли, что , что-н. выиграть. Гсл. *Карадзішся, якобы баліць.* Нсл.
**2.** представляться бедным, скаредничать. *Не карадзься, а пастаў гарэлкі.* Нсл. 229.
•**каралеўства**-*ва, мн. ч.-вы-ваў, ср.* **1.** королевство.

2. *перен.*—раздолье. *Табе тут каралеўства, а ня жыцьцё.* Нсл. 247.

•**каралёвыя мысы або насы**—коленная часть с хрущами и сухожильем(в пище, С.). НК.: Очерки, 36.

•**каралёў нос**—коленный состав убитого животного. *Адсячы мне каралёў нос.* Нсл. 247.

•**каралява́ць**-*люю-люеш-люе, повел.-люй-люйма, несоверш.* 1. быть королем.
2. жить в раздольи и роскоши. *Ён каралюе, а мы гаруем.* Нсл.

•**караляве́цкі**-*кая-кае, прилаг.*(*к Каралявец*)—кенигсберский. *Купцы каралявецкія(Сымон а Балцар) на тот рок перад каралём ся яго міласьці станавілі.* 1935 г. Літ. Мэтр. II, А(8), а, 262.

•**кара́лі**-*ляў*—бусы, Шсл. бусы, ожерелье. МГсл. *Пачапі каралі на шыю.* Падрэзы Чаш.(Ксл.). *Вось як прыбралася: надзела каралі!* Ст.

**кра́лі**, -*ляў*—разнообразные шейные ожерелья, начиная от зерен чуть не бисерных и доходя до ореховой величины. НК.: Очерки, 131. *"Кралі"* разделяются на: простыя крали, гарнаты, *крыва́выя маціцы, парловыя маціцы і бруштын.* Тм. *Цэлую нізку краляў рассыпала.* Нсл. 339(*под нізка*).

•**караліца**-*цы-цы, ж.*—королева. *Веран будзець караліцы.* Зь лісту князёў а баяр Ноўгарад-Северскіх 1388 г. *Валадзіслаў... кароль польскі...паставіў нас апяканьнікам мужом і людзём Вялікага Ноўгараду, і мы таму каралю і Ядвізе караліцы...сім лістам сьлюбуем.* Акты Зап. России, 1, Но. 10 (25 IУ 1389 г.). (*Быў*) *кароль вугорскі із сваею караліцаю.* Пахвала Вітаўту.

•**карамза́ты**-*тая-тае*—низкорослый и кривой. Шсл. *Сьсек карамзатую елачку.* Ст.

•**карамжа́**-*мжы́, общ.* 1. низкорослый, искривленный, заскорузлый (обычно о кустах и деревьях). Ар.
2. *перен.*—такой же человек.

•**карамжа́к**-*ака, предл.-аку́, зват.-а̀ча, мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-ках, м.*—карамжа. Ар.

•**карамжа́ты**, -*тая-тае*—низкорослый, корявый, заскорузлый. *Карамжатая бярэзка.* Ар. *Ср. карамза̀ты.*
2. *перен.*—о низкорослом, как бы недоразвившимся физически человеке. Ар.

•**кара́н**-*на, предл. и зват.-не, м.*—коран.

•**каранаты**-*тая-тае*—тупой. *Каранаты калок.* Барс., Пл., Лепл. (Юхн.) *Нареч.* **каранаа́та**—тупо. *Ты каранаты засек палена.* Барс., Пл., Лепл. (Юхн.)

**закаране́лы**—закоренелый. МГсл.

•**каранёвы**-*вая-вае*—полученный, сделанный из корня. *Гбаныя палазы, а не каранёвыя.* Нсл. III(*под гбаны*).

•**каранік**-*іка̀, предл.-іку̀, зват.-ї̀ча, мн. ч.-кі-коў-ком-кі-ка̀мі-кох, м.*—род улья. *Хто бы каму ў дому альбо ў на дзераве з вульля або з караніка паставенага пчолы выбраў альбо з вульлём узяў, маець заплаціці тры рублі грошай.* Стт. 383.

•**кара́ны**-*ная-нае, прилаг. к каран. Мыляціся ў пяцьцю караным, нэмаз (араб. малітву) псуеш.* Кіт. 84а14.

•**каранта́й**-*ая, общ.*—низкий ростом. *Зяць карантай.* Нсл. 247. *Жонку карантая ўзяў.* Нсл.

•**кара́н**-*ьне-ы,—см. под кара̀ць.*

•**карасі̂**-*сёў-сём-сі̂-ся̀мі-сёх, мн. ч., м.*—железные пластинки под деревянными осями, чтобы оси не перешиpалися колесями. *У яго восі на карасёх.* Павульле Чаш.(Ксл.).

•**карасі̂на**-*ны, ж.*—керосин. Ар.

•**кара́сканьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ.*(*к караскаць, караскацца*)—карабканье. *Пакінь сваe карасканьне, ня ўзьлезеш.* Нсл. 230.

•**кара́скаць**-*аю-аеш-ае, повел., несоверш., перех.*—тащить в гору. *Куды ты яго караскаеш на печ; ён адтуль зваліцца.* Нсл.

•**кара́скацца**-*аюся-аешся, несоверш.* 1. карабкаться, лезть. *Караскацца на дзерва.* Нсл. 230. *Соверш.* **ускараскацца**—вскарабкаться. *Ускараскацца на дзерва.* Нсл. 230.
2. придираться, (Нсл.),—приставать, Гсл. привязываться. *Не караскайся к імне, любачка, я цябе не чапаю.* Нсл. 230. *Соверш.* **адкара́скацца**-*аюся-аешся; повел.-айся-аймася, ад каго.* Янк. I.—отвязаться, (Шсл.) отделаться, избавиться от кого-л. отвязаться, отойти. *Такі назола, чарку возьме (вып'е), дык ужэ не адкараскацца, прыстане, як смала.* Янк. I. *Я ніяк ня мог адкараскацца ад гэтага п'яніцы.* Міх. *Чаго прычапіўся, адкараскайся!* Мікалаёва Куз. (Ксл.). *Адкараскайся ад мяне.* Нсл. 230. *Не адкараскацца ад благаты гэтае.* Ст.

•**карата́йка**-*йкі-йцы*—род мужской одежды. Дсл.(*под "одежда"*).

•**карата́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, повел.-а̀й-а̀йма, несоверш., перех.*—проводить время, сокращать время(желая, чтобы скорее прошло, С.). *Ні то, ні сё, каратаеш век свой.* Нсл. 247. *Над калыбкай маці ночку каратае, хворае дзяцятка цеша, забаўляе.* Колас. *Горка ж яму жытачку тую каратаць.* Косіч(Б. Ускалось, Но. 6; 29). *Соверш.* **скарата́ць**—провести время, сократить время. *Як нёбудзь скаратали зіму.* Косіч 257. *Трэба мне жыта жаці дый зь нялюбым век каратаці.* Жукова Імгл.(Косіч 34). *Каратаў бяду батраком.* Акула, 304. *Ці ня лепш ужо нічога ня думаць ды каратаць бяду.* Акула: Птушка, 142.

•**крушы́ньнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—волчьи ягоды(кустарник). НК.: Очерки, Но. 345, 467, Но. 867.

•**крушына**-*ны-не, ж.*—крушина. Шсл. *Ня еж крушыны, бо зубы пакрышацца.* Ст.

•**крушына**-*ны*—небольшое лиственное дерево или кустарник с ломкими ветвями, из коры которого получают настойку, применяемую как слабительное, а из плодов — краски. Академ. Словарь Рус. Языка.

•**крут,** *крута, предл. круту, зват. круце, м.*—хват, проворный, изворотливый. *Крут хлапец.* Нсл. 255. *Крут маладзец, быўшы ў вадзе, і стаў сухі.* Нсл.

•**крутаду́х**-*ýха, предл.-ýху, зват.-ýша, м.* —большой плут(ловкий и хитрый обманщик, нечестный в отношениях с людьми человек, С.). Ар.; Міх.

•**крут-ану́ць**-*нýць,—см. под круці́ць.*

•**крутасьве́т**-*èта, предл.-èту, зват.-еце, м.*—пройдоха, обманщик. Шсл. *Ня вер ты гэтаму крутасьвету.* Ст.

•**крутасьве́тка**-*ткі-тцы, ж.*—пройдоха, обманщица. Шсл. *Думаешся крутасьветка гэта табе праўду скажа?* Ст.

•**крутатола**-*ла, мн. ч.-лы-лаў, ср.*—карусели. В Слуцком у. устраивают следующим образом *крутатола* — карусели: к вбитому во льду колу прикрепляют жердь, за которую держится катающийся на коньках, другой же, стоя у кола, вертит жердь. Еўлічы.

•**кру́таць,**—*см. под круці́ць.*

•**кру́тка,** *нареч.*—ловко. Гсл.

•**крутня́**-*ні, ж.* **1.**—вращение. *Можа боль ад вытню праніка, ад крутні верацена.* Крушына ("Б.", 1955, Но.24/254).

**2.** плутовство, Ар.; Гсл.; Шсл. плутовство, плутовский изворот. Нсл. 255. *Зь ім толькі адна крутня.* Ст. *На крутню пашло.* Нсл. 255. *Крутнёю ня выкруцішся.* Нсл.

**крутня́-мутня́**—плутовство, обман. *Ці аддалі грошы? Не, сына нямашака ўдвары, а безь яго, кажуць, ня ведаюць, як было — крутня-мутня.*

**крутню-мутню паганяць** прибегать к плутовству. *Крутню-мутню паганяеш.* Нсл. 255.

•**крутнуць,**—*см. под круціць.*

•**круту́ха**-*ýхі-ýсе, ж.* **1.** метель. *Ну й крутуха на дварэ!* Макаравічы Беш. (Ксл.).

**2.** род танца. *Давай крутуху, музыка!* Сяргейкі Сян. (Ксл.).

•**крутцы́**-*цоў-цом, мн. ч., предл.-цох, м.* —толстые веревки, которыми подплетают лапти. Станіславова Сір. (Ксл.).

•**круты́**-*тàя-тое*—крутой. МГсл.

•**круце́лка**-*лкі-лцы, ж.* **1.** деревянная (всякая, С.) завертка у дверей для запирания их. *Запры на круцелку дзьверы.* Нсл. 255.

**2.** станок, на котором крутят, навёртывая цевки. Нсл. 255.

**3.** обманщица, жен. к *круцель. Сьвет ня бачыў такое круцелкі.* Нсл. 255.

•**круце́лства**-*ва, ср.*—плутовство. МГсл. *Круцелства зрабіў.* Нсл. 255. *Бяз круцелства не абыйшоўся.* Нсл. *Тут няма ніякага круцелства.* Ст.

•**круце́ль**-*цяля̀, предл.-цялю̀, зват.-цѐлю, мн. ч.-цялі̀, лёў-лём, мн. ч., предл.-лёх, м.* **1.** свиток. *Як пайшлі глісты, дык, ах Божа мой, круцялямі!* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.).

**2.** перевязка из лозы или прутьев, для укрепления чего-л., лоза, прут, свитый спиралью, служит для перевязки.

**3.** *круцёлка в 1-ом и 2-ом знач.* НК.: Игры, 35, Но. 19.

**4.** нечестный игрок, или плательщик. НК.: Игры, Но. 19; Ар.

**5.** мошенник, плут, Гсл. обманщик, плут, Нсл. 255; Міх. обманщик. Пустынкі Сян. (Ксл.). *Ня вер гэтаму круцялю й на грош!* Ст. *Бог не цяля — бачыць круцяля. Послов.* Рапан.: Прык. 57.

•**круцёлка**-*лкі-лцы, ж.* **1.** пуговка или маленький досчатый кружек на сквозной оси в центре — состовляют детскую игру раннего возраста. НК.: Игры, 35.

**2.** юла(волчок, С.), известный кубик с ножкой внизу и ручкой вверху, НК.: Игры, 35. волчок(юла, С.). Ксл.; Шсл. *Хлапец зрабіў сабе круцелку.* Ст.

**3.** круг на валике для поднятия груза. Шсл. *Круцёлкаю цягаем ваду із студні.* Ст.

**4.** вертушка(вращающийся предмет или инструмент, С.). МГсл. *Круціцца, як круцёлка.* Яноўшчына Беш. (Ксл.).

**5.** *перен.*—о вертящимся без нужды где-л. или около кого-л. Ар. *Чаго ты ўсё круцішся? Круцёлка ты!* Ар. *Бегае па сяле круцёлка гэта ды пляцець плёткі.* Воўсішча Сян. (Ксл.).

•**круця́ка**-*кі, общ.* **1.** ветренный человек, ветреник, ветропрах. Міх.

**2.** плут, обманщик. *Яго ўсюдых просяць і дорага плацяць, бо ў яго рабоце хвальшу няма; ведаюць, што ён ня круцяка які.* Войш. *См. круцель 5.*

•**круцяльство**-*ва, мн. ч.-вы, ср.*—мошенничество. НК.: Игры, Но. 43. *См. круцельства.*

•**круцігалоўка**-*кі, дат., предл.-цы, ж.* **1.** вертишейка, птица. *Круцігалоўку маладую злавілі.* Лужасна Куз. (Ксл.).

**2.** хвостатая личинка земноводных животных(лягушек, жаб), головастик. Ар. *См. апалонік, палойнік, палонік.*

•**круці́ць,** *кручу̀, крỳціш-це, несоверш., перех.*—вертеть, (Гсл.; Шсл.) вращать, (МГсл.) крутить, приводить в круговое кружение. *Нашто ты круціш ручку?* Ст. *Ня круці вітушкі.* Ар. *Многократ.* **крутаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** усильно стараться сделать что-л. или достигнуть чего-л. *Крутаў, крутаў, ня ўзяў.* Ар.

2. *каля каго, чаго*—с трудом склонять кого-л. к чему-л. *Круталі, круталі гэнага*(*каля гэнага?*) *спадманца, каб ажаніўся з* (*спадманенай ім*) *дзеўкаю.* *Соверш.* **укру́таць,** (Ар.), *перех. или у што*—с трудом склонить к чему-л.; привести, принудить, подвергнуть чему-л. *Укруталі зладзюгу ў турму.* *Однкрт.* **крутану́ць**-*нў-нѐш-нѐць-нѐм-ніцѐ*—круто повернуть.

**крутну́ць, 1.** *однкрт. к* *круціць в 1-ом см.* *Крутнуць катком, верацяном.* Нсл. 235. *Каб табе ў мазкох крутнула.* Нсл.

2. повернуть, Гсл. повернуть чем-л. мгновенно. *Крутнуць головою, вусам.* Нсл.

3. повернуть дело на изворот. *Крутнуў мазкамі.* Нсл. 255.

4. сплутовать. *Гэта ўжо ты крутнуў.* Нсл. 255.

•**круціць, 1.** *перен.*—плутовать. Гсл.; Ар.; Шсл. *Каб табе ў мазкох круціла, як ты заўсёды круціш.* Нсл. 255. *Ня круці, кажы праўду.* Ст.

2. хитрить, делать лукавые извороты. *Ты ўсё круціш, ніколі ня скажаш праўды.* Нсл. 255. *Круцячы сьвет пройдзеш, але назад ня зьвернешся.* *Послов.* Нсл. *Круці, ня круці, трэба памярці.* *Послов.* Ст.

3. нести, гнать, подобно крутящему вихру. *Ліха цябе туды круціць.* Нсл. 255.

4. не давать должного. *Круцель гэны ўсім круціць і нам скруціў грошы.* Ар.

**круце(круціць),** *соверш.* **закруціла,** *безлич.* 1. вызывать головокружение. *Чыжык, чыжык, дзе ты быў? За ракою віно піў. Выпіў чарку, выпіў дзьве, закруціла ў галаве.* Нсл. 255. *Круціць, закруціла ў яго ў мазкох.* Нсл.

2. вихром уносить. *Куды цябе круціць?* Нсл. 255.

**абкруці́ць,** *несоверш., перех.* **1.** обвернуть. *Абкруці шыю шалікам.* Ст.

2. обмануть. Шсл. *Такі абкруціў мяне ён, не дадаў рубля.* Ст.

**абкручаваць**-*чую-чуеш-чуе, несоверш.*(*к абкруціць 1, 2*).

**закруці́ць**-*учў-ўціш-ўце, соверш. каго-што, у што,* **1.** завернуть. *Закруці сыр у паперу.* Ар. *См. завярцець.*

2. придать кому-л. согнутое положение, подверхнув в сторону, вверх и т.п. *Закруціў вусы.* Ар.

3. завинтить. *Закруці крант.* Ар.

4. о мятели. Дсл. 240. *Закруціла, завыла ўсі дарогі, замяла.*

**закруціць носам**—выразить недовольство. *Закруціў носам, бы хрэну панюхаў.* Дсл. 240. *Несоверш.* **закручаваць**-*чую-чуеш-чуе, повел.-уй-уйма,* **1.** завертывать. МГсл.; Ар.

**2.** *несоверш. к* закруціць *в 2-ом см.* *Кажны раз закручуе вусы.* Ар.

**3.** *несоверш. к* закруціць *в 3-ем см.*, завинчивать. Ар.

**накруці́ць,** *накручў, накрўціш-це, соверш., што на што,* **1.** намотать обвивая вокруг чего-л., накрутить.

2.—завести(часы). *Забыўся накруціць гадзіньнік.* Ар.

3. *перен.* (*што да чаго*)—сделать, придумать, изобразивать и т. п. что-л. очень сложное, замысловатое, необычное; наговорить, написать много чего-л. сложного, замысловатого.

4. мотая навить, замотать.

**накручаваць**-*чую-чуеш-чуе, несоверш. к накруціць в 1, 2, 3 и 4-ом зн.*

**накруці́ць,** *соверш. к* *круціць I,* **1.** вращательным движением изменить положение кого, чего-л., повернуть. *Пакруці ключ у замку.* Ар. *Куды ты круціш шрубок? Пакруці налева.* Ар.

2. *соверш.*(*к* *круціць 4*). *Чорт яго пакруціў на гэту дарогу.* Нсл. 255.

3. *перен. соверш. к* *круціць 5*—не отдать должного многим или многое. *Ён шмат каму пакруціў.* Ар.

**перакруці́ць**-*учў-ўціш-ўце, соверш., перех.* **1.** ложно истолковать, извратить. МГсл. *Перакруціў мае словы.* Ар.

2. изменить, переиначить, исказить.

3. закрутить слишком сильно; слишком сильным или продолжительным кручением испортить. *Перакруціць трубу, крант.* Ар.

**перакру́чаваць**-*чую-чуеш-чуе, каго-што, несоверш. к* перакруціць *в 1, 2 и 3-ем см.* Ар.

**скруці́ць,** *скручў, скрўціш-це, соверш., перех.* **1.** крутя свернуть, скрутить. *Скруціць панчохі, шкарпэткі.* Ар. *Скруці анучы ў хатуль і занясі.* Бель Выс. (Ксл.), —сделать, изготовить крутя или свертывая. *Скруціць папіросу.* Ар.

**скруціць дудку**—надрезав кору на ветви дерева(обычно лозы), крутя отрезок коры, изготовить *"дудку".* Ар. *Эх, скручу я дудку, такое заграю, што ўсім будзе чутна ад краю да краю.* Бурачок: Дудка.

2. *соверш. к* *круціць в 5-ом см.*, не отдать должного. *Во, жулік, скруціў!* Берасьні Беш. (Ксл.). *Каб табе ў мазкох круціла, як ты скруціў мне грошы, пазычыўшы.* Нсл. 587.

**вы́круціць,** *вы̀кручу, вы̀круціш-це, соверш., перех.* **1.** вывернуть, (Нсл. 84) вывертеть. *Выкруці трубу.* Ар. *Надабе выкруціць лямпачку.* Ар. *Дурэючы выкруціў сабе руку.* Нсл.

2. выжать воду, крутя что-л. намоченное (в особенности белье после стирки, С.). Шсл. *Добра выкруці анучку, каб сухая была.* Ст.

3. изворотами обмануть. *Таргач ня жыў, калі ня выкручуе чаго ў нашага брата, заўсёды хоць капейку, а выкруце.* Нсл. 84.

**выкручаваць**-*чую-чуеш-чуе, каго-што, несоверш. к* *выкруціць в 1, 2 и 3-ем см.* *Ня выкручуй рукі.* Ст.

**укруціць,** *укручу, укруціш-це, соверш., перех.*—ввинтить. *Укруціць лямпачку.* Ар. *Несоверш.* **укручаваць**-*чую-чуеш-чуе.*

**ускруціла,** *безлич.*—(слишком, С.) рано подняло со сна. Ар.; Шсл. *Чаго цябе гэтак рана ўскруціла!* Ст. *Ні сьвет, ні зара так рана цябе ўскруціла.* Нсл. 72.

**ускруціць,** *соверш.*—слишком рано поднять со сна кем-л. невидимым. *Ускруціла яго нячыстая да поўначы.* Ст.

•**круціцца,** *кручуся, круцішся, несоверш.* **1.** вертеться, Гсл. кружиться. МГсл.; Ар. *Ня круціся ў вадзін бок, бо галава закруціцца.* Ар. *У мяне ў галаве круціцца.* Нсл. *Люба глядзець, як яны ў скоках круцяцца.* Нсл. *Колца ў машыне борзда круціцца.* Ар. *Круціцца як той чорт.* Ст. *Соверш.* **абкруціцца**—обвернуться. *Абкруцілася вяроўка каля плоту.* Вядрэнь Чаш. (Ксл.). *Соверш.* **закруціцца, а)**—начать кружиться, закружиться. *Як даў я яму паўхеніча, дык ён і закруціўся.* Нсл. 431(*под паўхеніч*).
**б)** кружась, дойти до головокружения. *Ад гэтага мазголеньня твайго і ў галаве ягонай закруціцца.* Нсл. 287(*под мазголеньне*). *Соверш.* **накруціцца, а)** накружиться, навертеться(напр. в танце, С.). Шсл.; Ар. *Накруціўся, аж галава баліць.* Ст. *Ты яшчэ не накруцілася, дай жа мне паскакаць.* Нсл. 739.
**б)** натаскаться по разным местам, ветреничая. *Ён яшчэ не накруціўся, ізноў пакруціўся некуды.* Нсл. 739.
**в)** насуетиться, ходя. *Накруціўся я ўсюдых, пакуль заладзіў гэтую справу.* Нсл.
**г)** появиться, выступить(о слезах). *Сьліза накруцілася ў яе.* Ар.
**д)** навернуться(о беде), Шсл. случайно оказаться, подвернуться. Ар. *Адкуль гэта бяда накруцілася на нас?* Ст. *Соверш.* **скруціцца, а)** крутиться. *Аборка скруцілася.* Ар. *Як даў, дык ён аж скруціўся.* Ар.
**б)** быть поврежденну слишком сильным, неправильным ввертыванием, многократным повертыванием. *Ключ, замок скруціўся, адамкнуць ня можна.* Нсл.
**2.** постоянно находиться где-л., около кого-чего-л. *Ня круціцеся тут.* Нсл. *Круціцца нейдзе па сьвеце.* Нсл. *Хто круціцца, тый жыць вучыцца.* *Послов.* Нсл.
**3.** легкомысленно пребывать с кем-л. *Кацярына з усімі дзяцюкамі круціцца.* Пустынкі Сян. (Ксл.).
**4.** стремиться куда мимо воли других, опешить по ветренности. *Круціцца, ліха ведае куды.* Нсл. *Соверш.* **пакруціцца.** *Пакруціўся на край сьвету.* Нсл.

**выкруціцца,** *выкручуся, выкруцішся, соверш.* **1.** вывинтиться, вывернуться. *Лямпачка выкруцілася.* Ар.
**2.** вывернуться, извернуться, (МГсл.) ловко выйти из затруднительного положения; уклониться, увильнуть от чего-л. *Выкручуйся, ня выкручуйся з нашых рук.* Нсл. 84. *Ледзь выкруціўся зь бяды.* Ст. **выкручавацца**-*чуюся-чуешся,* **1.** *несоверш. к* **выкруціцца** *в 1-ом и 2-ом см.*
**2.** *страд. к* **выкручаваць** *в 1-ом и 2-ом. см.* *Ніяк ня выкручуецца труба.* Ст.
**3.** ломаться, (Шсл.) кривляться, паясничать. *Даволі табе ўжо выкручавацца.* Ст. *Выкручуецца, як тое чарцянё.* Ст.

**ускруціцца,** *ускручуся, ускруцішся, несоверш.* **1.** (слишком, Ар.) рано встать. Ар.; Шсл. *Ускруцілася сядні мая гаспадыня яшчэ да пеўняў.* Ст. *Ні сьвет ні зара ўскруціўся ехаць.* Нсл. 72.
**2.** внезапно возыметь намерение к чему-л. *Ускруціўся жаніцца.* Нсл. 72.

•**круць I,** *отгл. частица,*—употр. для выражения действия в быстром повороте. *Круць і выскачыў.* Нсл. 255. *Круць, верць, у чарапочку сьмерць.*(*смажаная каўбаса на скварадзе*). Нсл.

•**круць II**-*ці, ж.*—крутизна, круча. *Узьехаў на круць гары.* Нсл. 255.

•**круцьцю,** *нареч.* **1.** употребляя извороты. *Круцьцю нёварацьцю.* *Послов.*—(т.е, вертясь, не возвращаясь назад). Нсл. 225.
**2.** плутовски, плутуя. *Круцьцю забагацеў.* Нсл.

•**круч, 1.** круча, обрыв. Гсл.
**2.** вир, глубокое место в реке. Гсл.

•**кручонка**-*нкі-нцы, ж.*—лоза, прут, свитый спиралью, служит для перевязки. *Лазовыя кручонкі.* НК.: Очерки, 368. *См.* *круцель в 2-ом см.* — *вітка.*

•**кручнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—приспособление для вешания одежды, состоящее из столбика с крючками вверху или из пластинки с крючками; вешалка (полка или стойка).

•**кручо,** *собир., см. под* *крук* *в 4-ом см. и под* *крукі.*

•**крыга**-*гі, дат., предл.* *крызе, ж.* **1.** льдина. Шсл.; Ар.; Растсл.; МГсл. *Ужо пайшлі крыгі па Дзьвіне.* Астроўна Віц.(Ксл.). *Крыгі пайшлі па раццэ.* Нсл. 255. *За крыгамі перавозу няма.* Нсл.
**2.** рыболовный снаряд, употребляемый в травянистых местах. По строению она напоминает два полоза *"капанцы"*, соединенные друг с другом в противоположной от загиба стороне, и служащие как бы рамами, на кой туго натянута густая сетчатая ткань, вязаная или тканая, НК.: Очерки, 498. рыболовная передвижная ловушка с широким открытым заходом или небольшая передвижная сеть для ловли рыбы втроем в траве охватом или у берега, Шастовічы, Балажэвічы, Канатоп(Нараўлянск. р., Крывіцкі, Полесье 169) снаряд для ловли рыбы, которым управляют три человека; сетчатые бока сдвигаются и раздвигаются.

*Крыгаю цяжка лавіць рыбу, сецьцю лепі.* Нсл. 255. *Заходзь із крыгаю зь берагу.* Лядцо Пух. (Шсл.). *Па зарослых рэках рыбу ловяць крыгамі.* Пятніцкая Беш. (Ксл.).

•**крыгалом**-*му, предл. и зват.-ме, м.* **1.** —ломка льда водою с наступлением весны. *Гляне вясна, зашуміць крыгалом.* Жальба.

**2.** время ломки льда водою с наступлением весны; ледокол.

•**крыха́,** *крыхі, крысе, ж.*—кроха. *Уменьш.* **крышка**-*шкі-шцы*—крошка. **крышачка**-*чкі-чцы, уменьш. к крышка. Крышачка зуба.* Няпрахіна Карачэўск.(Будде: Тула-Орел, 73). *Па крышачцы.* Хопаўка Карачэўск.(Тм. 78).

•**крыху́,** *нареч.*—немного. Ар.; Гсл. *Карова дае толькі крыху малака.* Клятное Пух. (Шсл.). *Уменьш.* **крышку.** МГсл.—немножко. Ар.

**крышачку,** *уменьш. к крышку.* Ар.

•**крыя́ць**-*яю-яеш-яе, повел.-яй-яйма, несоверш.* **1.** начать выздоравливать, крепнуть силами. *Ледзь крыяе, акрыяў троху.* Нсл. 253.

**2.** воодушевляться, окрыляться. *Соверш.* **адкліяць**-*яю-яеш-яе*—поправиться после тяжелой болезни. *Наш хворы троху адкліяў.* Дсл. *См. акрыяць. Соверш.* **акрыяць,** **1.** ожить(окрепнуть, С.), окрылиться. *Наша жыцейка па дождж ыку акрыяла.* Высачаны (Ксл.).

**2.** окрепнуть силами, воспрянуть духом, Шсл. исполниться душевного подъема, воодушевиться, окрылиться. *Акрыяў пасьля хваробы ды ізноў за сваё.* Ст. *Сабінка сарамліва чырванелася. Потым, крыху акрыяўшы, прамовіла.* Цэлеш(Рылаў агонь). **пакрыя́ць,** *соверш.*—пожить здоровым, Нсл. 459. пожить в добром здоровье. *Просьле маіх рук ня даўга пакрыяе ён.* Нсл. 459.

•**крыж,** *крыжа̀, предл.-ыжу̀, зват.-ы̀жу, мн. ч.-жы̀-жоў-жом, мн. ч., предл.-жох, м.* **1.** крест. Ар.; НК.: Игры, Но. 15; МГсл.; Гсл.; Шсл.; Варашылы Куз. (Ксл.); Дсборник ІУ, 179. *Ой на тэй на Мядзьведжай Гары падмывае Дзьвіна тры крыжы.* Зь песьні вяліцкіх плытнікаў, Віцьбіч (Бацьк. 49-50, 435-436). *А ты, стары збуцьвелы крыж, у думках хлопца не стаіш.* Клішэвіч(ст. "Каліна"). *Дзяк забыўся ўзяць крыж.* Нсл. 256. *Крыж пацалаваў.* Нсл. *Паваліўся крыж, што стаяў ў вулцы.* Ст. (*Сымона*) *прысілілі несьці крыж Ягоны.* Луцк.: Мацьвей 27:32. *Крыж Перадславы Сьвятой для народу зігцеў.* Каласкі, Но. 70-71.

**2.** изображение креста. Нсл. 256. *Пры пасьвячаньню хат, сьвятар крыжы крэйдаю піша на сьценах.* Нсл. 256. *Рыза ўся ў залатых крыжох.* Нсл.

**3.** накрест сложенная подставка, на которую ставят квашню, для замеса хлеба. *Дзяжу з рашчынай ставяць на адумысловы "крыж", тут дзеецца замеса цеста.* НК.: Очерки, 40. *Паставіць дзяжу на крыж.* Нсл.

**4.** крестец у человека и животных, НК.: Игры, Но. 15; Ар.; Шсл. крестец у животных. Гсл. *У каровы на крыжу мяса дык нічога няма.* Ст. *Крыж дужа баліць.* Нсл. 256. *Выцяў калом каня па крыжу, аж прысеў.* Нсл. *Уменьш.* **кры́жык**-*ка, предл.-ку, м.* **1.** крестик. Ар.; НК.: Игры, Но. 15; Шсл.; Нсл. 256; Шсл. *Згубіў крыжык.* Ст.

**крыжычак-чка,** *предл. и зват.-чку, уменьш. к крыжык.* Ар. *На істужцы крыжычак вісіць.* Нсл. 256.

**2.** копна в виде креста, в которые складывают яровой хлеб в снопах(овес, ячмень), преимущественно по 10 снопов, иногда по 15, Ксл. накрест сложенные снопы. Шсл. *Злажылі снапы ў крыжыкі.* Расна Сян. (Ксл.). *Ячмень сохне ў крыжыках.* Ст.

**3.** *мн. ч.* **крыжыкі**—узор крестиками при тканье, вышиванье. *Выткала пояс у крыжыкі.* Ар.

•**крыжовік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —рубль с изображением креста. Нсл. 256. *См. крыжак в 2-ом см.*

•**крыжовы,** (Нсл.), **крыжавы,** (Ар.; Ксл.)-*вая* (*ва̀я*)-*вае*(*вое*)—накрест лежащий, перекрестный. *На дарогах крыжавых вецер галосе.* Яз. Пушча. *Крыжовая дарога,*—т.е. дорога пересекающая другую накрест. Нсл. *У нас крыжавая дарога.* Крывое Беш. (Ксл.). *Праехалі крыжавую дарогу.* Ар. *Ля крыжавых дарог жыла дзяўчынка Сьліма.* Я.Г.-кі: Казкі, Но. 2, стр. 14.

**2.** крестный. *Спадар....з крыжам быў падняты, якася Сам самахоць на аўтару крыжавым дзеля спасеньня народу людзкога зь няволі дзявальскае абрае Айцу нябёскаму.* Малітвы 1695 г.

•**крыжоўка**-*кі, дат., предл. крыжоўцы, ж.*—перекресток. *Ідзі да крыжоўкі.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**крыжа́к**-*ака̀, предл.-аку̀, зват.-а̀ча, мн. ч.-кі̀-коў-ком-коў-камі-кох, м., ист.*—крестоносец. *Даўней, кажуць, тут крыжакі ваявалі.* Нсл. 255.

**2.** рубль с изображением креста. *Аднаго крыжака меў, і таго ўкралі.* Нсл.

•**кры́жам,** *нареч.*—накрест, крестообразно. Ар. *Крыжам ляжаў перад абразом.* Нсл. 256. *Крыжам расьцягнуўся, паляцеўшы.* Нсл. *Дарога будзе крыжам ісьці, а ты едзь проста.* Тм.

•**крыж-на́-крыж,** *нареч.*—накрест. Шсл. *Перавязаў крыж-на-крыж.* Ст.

•**крыжава́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к крыжаваць, крыжавацца,* **1.** распинание Нсл. 255.

**2.** крестообразное положение, принимаемое великолитовскими(белорусскими) женщинами, лежа в церкви пред иконами, в роде эпитимии. Нсл. 255. *Не паможа табе й крыжаваньне твaё.* Нсл.

•**крыжа́ваць,** *-жу́ю-жу́еш-жу́е,* *повел.* *-жу́й-жу́йма,* *несоверш., перех.* **1.** распинать. *Збаві-целя крыжавалі, укрыжавалі за нас грэшных.* Нсл. *Соверш.* **укрыжаваць.** *Деепр. наст. вр.* **укрыжава́ны**—распятый на кресте. *Збавіцель за нас грэшных укрыжаваны.* Нсл. 656. *Прачыстая дзева...на ўкрыжаванага сына свайго глядзела.* Малітвы 1695 г. *Бо я ня думаў бачыць у вас нічога, апрача Ісуса Хрыста, дый укрыжаванага.* Луцк.: І-шы ліст да Карынц. 2:2. *Отгл. имя сущ.* **укрыжаваньне**-*ня, предл.-ню* —ерестное распятие. Гсл. *Збавіцель цярпеў укрыжаваньне за нас.* Нсл. 656. (*Хрыста*) *з крыжам на Голгофу вялі на ўкрыжаваньне.* Малітвы 1695 г.
**2.** исписывать крестами. Шсл. *Маланка аж крыжуе неба.* Ст.
**3.** растягивать кого-л. накрест, садясь на распростершие руки и ноги, или привязывая у кого-л. руки и ноги для телесного наказания. *Глядзі, як злодзея крыжуюць, раскрыжавалі.* Нсл. 255. *Соверш.* **раскрыжава́ць**-*жую-жуеш-жуе. Раскрыжаваўшы, па руках і ногах сьцёбалі.* Нсл. 556. *Деепр. наст. вр.* **раскрыжава́ны** —положенный крестообразно. *Яго беднага раскрыжаванага білі розкамі.* Нсл.
**крыжава́цца**-*жу́юся-жу́ешся,* *несоверш.* —принимать крестообразное положение тела. *Крыжуешся ў царкве, а ліха чыніш меж людзьмі.* Нсл. 256. *Соверш.* **раскрыжавацца, 1.** принять крестообразное положение тела. *Так наляцеў наўзнак, аж раскрыжаваўся.* Нсл. 556.
**2.** лечь крестообразно, ниц, как делают в Белоруси женщины пред иконами во время богослужения. *Шмат бабаў, раскрыжаваўшыся, ляжаць, аж праходу за імі няма.* Нсл. 556.

•**крыжаві́на**-*ны-не, ж.*—крестец. МГсл.

•**крыжавы́,**—*см. под крыжовы.*

•**крыжніца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—густые льдины льда (т.е. нагромаждение их, С.), плавающие по реке.

•**крыкня́**-*ні-ні, ж.*—крик, кричание. Н. *Падыймецца крыкня.* Н.

•**крыкнуць,**—*см. под крычэць.*

•**крыксу́ха**-*ўхі-ўсе, ж.*—крикунья. Ар.

•**крыксу́н**-*унà, предл.-унў, зват.-ўне, мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—крикун. Ар.; Нсл. 253. *Замкні горла гэтаму крыксуну.* Нсл. *За крыксуном гэтым нічога ня чутно.* Нсл.

•**крыло**-*лà, мн. ч.-лы, ср.* **1.** крыло. *Семдзесятсот год кажнае крыло.* Кіт. 109а І. *См. скрыло. Собир.* **кры́льле.** *Распусьціў крыльле.* Кіт. 111б 9, 118б 6, 118б 9, 119а 6. *Ласкат.* **крыльліка.** *На крыльліку, здаецца, вылядела б... Дзьве Душы, 18. Уменьш.* **крылцо**-*ца, мн. ч. крьілцы-лцаў*—крылышко. *У яе вырасьлі крылцы.* Я.Г.-кі: Казкі, Но.2, стр. 6. *Захавай мяне, Божа, пад сакалінае крылца.* Гарадок Імгл.(Косіч, 235).
**2.** отвал плуга. Ксл. *У плузе праравалася крыло.* Сьвеча Беш. (Ксл.).
**3.** небольшая пристройка около гумна, по длине стены; служит для ссыпаньня мякины. Шсл. *Зачыні крыло, а то сьнегу надзьмець у мякіну.* Амельна Пух. (Шсл.).

•**крыля́ч**-*ача̀, предл.-ачу̀, зват.-а̀чу; мн. ч.-чы̀-чоў-чом, мн. ч., предл.-чох, м.*—рыболовная ставная ловушка с одним или двумя противоположнымі глухими заходами и с одним или двумя крыльями (сетью). Зьдзітава Бярэзаўск.(Крывіцкі, Полесье 169).

•**кры́лка**-*ка, предл.-ку, мн. ч.-кі-каў*—крылышко. Гсл.; Нсл. 256. *Крылка цярэшкі прыгожае.* Нсл. *На сінім мору ляцела лябёдка, крылкам апусьцяся, пер'ікам асыпяся.* Нсл.

•**крымі́нальны,** *-ная-нае*—уголовный. Акін. 191.

•**кры́мсаць**-*аю-аеш-ае,* *повел.-ай-айма, несоверш.*—небрежно, как попало резать на куски, кромсать. *Крымсаць па хрыбце.* Крывіч Но.7, стр. 16. *См. кремсаць.*

•**крыні́ца**-*цы-цы, ж.*—родник, вытекающий из берегового склона рва, реки, озера и пруда, НК.: Очерки, 483. родник. Гсл.; Ксл.; Нсл. 253; Жучк.: Топонимика, 13. *См. крынка,*—родник, выходящий с горного склона, Веляшковіцкая в. Віц.(НК.: Очерки, Но. 130) источник ключевой воды..ф1 Растсл. источник, ключ. ПНЗ. *У крыніцы халодная вадзіца.* Нсл. *У нашым гародзе крыніца.* Раіны Аз. (Ксл.). *У нашым караваю з трох крыніц вада.* Расуха Імгл.(Косіч 237). *А ў полю крыніца, каля яе вадзіца.* Козіна Пуц.(Халанскі 202). *Гаючых крыніцаў ёсьць многа.* Машара. *Уменьш.* **крынічка**-*чкі-чцы, ж.*—родничек. Нсл. 253; Ар.
**крынічанька**-*нькі-ньцы, уменьш. к крынічка.* НК.: Очерки, 483. *Ласкат.* **крынічанька**-*нькі-ньцы.* Нсл. 253. *А йдзе тая крынічанька, што галуб купаўся? А йдзе тая дзяўчынанька, што я заліцаўся?* Из песни, Нсл.

•**крыні́члівы,** *-вая-вае*—исполненный родников. Нсл. 253. *Крынічлівае месца.* Нсл.

•**крыні́чнік**-*іку, предл.-іку, зват.-іча, м.* —вероника ручейн., *раст.* Гсл.

•**крыні́чны**-*ная-нае, прилаг. к крыніца,* НК.: Очерки, Но. 130. родниковый. Гсл.; Ар.; Нсл. 253. *Крынічная вада.* Нсл.

•**кры́нка**-*нкі-нцы, ж.*—родник. Жучк.: Топонимика, 13. *См. крыніца.*

•**Крынкі**-*нак*—местечко в Сокольском уезде.

•**крыпаць піpoг**—заделывать в пирог начинку. НКП. 147.

•**крысо**-*сà, мн. ч. крысы-саў, ср.*—пола. *Далікатнае ножкі вырыс з расьхіснутага крыса.* Крушына: Творы, 113. *Адно й другое крысо ўзьнялося ўгару.* Корзюк (Конадні, У-УІ, 38).

●**крыса́**-*сы́, мн. ч. кры́сы-саў, ж.*—пола (одежды). Шсл. *У сьвіце адарвалася крыса.* Ст. *Адхінуўшы крысо паліта, стродка прамовіў:...* Цялеш: Дзесяць, 74. *Бярэ голымі рукамі вугальле й сыпе яго ў крысы свае адзежыны.* "Божым Шляхам" Но. 3, стр. 13. *Выме томік з-пад ізрэбнай крысы.* Кавыль: Думы, 25. *Крысаю сваe вопраткі агарнула яго.* М. Змагар. *См. крысо.*

●**крыса́ла**-*ла, предл.-ле, мн. ч.-лы-лаў, ср.* Северск.(Раст. 68)—стальная пластинка для высекания огня из кремня, огниво. *См. красала.*

●**крыш**-*шу, предл. и зват.-шу, м.* **1.** быстрый перелом болезни, кризис, Нсл. 256. крутой перелом, тяжелое переходное состояние, кризис. *Крыш яму прышоў.* Нсл. *Ср. крыша, перакрыш.*

**2.** сокрушение костей, смерть. *Бярвіно звалілася із сьцяны, як ён тут стаяў, чуць яму крышу ня было; каб крышачку бліжэй, і крыш быў бы яму.* Нсл.

●**крыша́н**-*ана̀, предл.-анѐ, зват.-а̀не, мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.* **1.** отрезок крошенной свеклы, редьки и т.п., или ботвье свеклы, лука. Ар.

**2.** очищенная свареная картофелина. Шсл. *На сьнеданьне наварылі крышаноў.* Ст. *Мне й аднаго крышана не пакінулі — самы ўсё паелі.* Ст. *Сала ўзяў з крышан.* Ст.

**3.** *мн. ч.* **крышаны́**-*ноў*—картофельный бульон(суп, **С.**). Ксл. *Налівай крышаны.* Яноўшчына Беш. (Ксл.).

●**крышан-у́ць**-*ны,—см. под крышыць.*

●**крышэньне,**—*см. под крышыць.*

●**кры́шка**-*шкі-шцы, ж.*—кроха, крошка. *Якое іх жыцьцё: як прыдзе вясна, дык крышкі хлеба няма, дзеці так і чэўраюць.* Ст. (Шсл. *под* чэўраць). *Крышкі, зьедкі зьбіралі.* НК.: Старцы, 93.

●**кры́шку,**—*см. под крыху̀.*

●**крышталёвы**-*вая-вае,* **1.** кристальный, из чистого белого стекла сделанный. Нсл. 253. *Крышталёвую чарку разьбіў.* Нсл.

**2.** хрустальный. БГсл.

●**крышта́ль**-*а̀лю, предл. и зват.-а̀лю, м.* **1.** стекляный граненный сосуд. Нсл. 253. *Выбачай, паночку, што дзярвяным карцом падаю піць: у нас крышталю няма.* Нсл.

**2.** кристалл.

**3.** (стекло высокого качества, обладающее особенным блеском и способностью сильно преломлять свет, **С.**), хрусталь. МГсл.

●**крышы́ць**-*шу̀, кры́шыш-ша, несоверш., перех.* **1.** (превращать в крошки, Ар.) крошить. Ар.; Шсл.; Нсл. 255; Гсл. *Крышы хлеб у місу.* *Соверш.* **адкрышы́ць**-*шу̀-шыш-ша, чаго,* **1а)** отломать немножко, Нсл. 374. отломать что-л. очень мелкое или тонкое. Дсл. *Адкрышы мне сыру.* Нсл. *Адкрышыла кавалак зуба.* Дсл.

**2а)** отделать (строго отчитать кого-л.. **С.**) как следует. Дсл. *Я, браце, нікоменькаму спуску ня дам — адкрышыла яго, як быць надабе.* Дсл. *Прич.* **адкры́шаны**—отломленный (маленький кусочек, **С.**) Нсл. 374. *Адкрышаны кавалачак хлеба, сыру.* Нсл.

**2.** сорить крошками. Ар. *Ня крышы ты хлеба на стол.* Ст. *Ня крышы хлеба.* Нсл. 256.

**3.** резать ножем (на мелкие части что-л., особено овощи, картофель, Ар.) Нсл. 256; Гсл. *Крышы гуркі ў халаднік.* Ар. *Крышыць буракі.* Нсл.

**4.** *перен.*—крушить, разорять, уничтожать. *Бура ўсё ломе, крышыць.* Ст. *Калі гэтак будзе хвароба крышыць, дык усе людзі могуць вымерці.* Ст. (Шсл. *под* вымерці). *І сіла крышыла лёд.* Салавей. *Однкрат.* **крышану́ць**-*ну̀-нѐш-нѐць-нѐмніцѐ*—сильным ударом поразить. Нсл. 256. *Трасца крышанула.* Нсл. *Вецер крышануў дзерва.*

*Соверш.* **перакрышы́ць,** *перех.*—переломить вдруг. Нсл. 404. *Якое таўстое дзерва перакрышыў вецер!* Нсл.

**кры́шаны,** *прич. к* крышыць *в 1, 2 и 3 ем см.* *Буракі яшчэ ня крышаны а печ даўно цепліцца.* Нсл. *Крышанае бацьвіньне ляпей, чымся сечанае.* Нсл.

**крышэньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к* крышыць *в 1, 2 и 3-ем см.*—крошение. Нсл. 256; Ар. *Крышэньне хлеба, буракоў.* Нсл.

**кры́ша,** *соверш.* **перакрышыла,** *безлич.*—крушит, разрушает(о болезненном припадке). Нсл. 256. *Блага мне, ломе мяне й крыша.* Нсл. *Каб цябе перакрышыла!* Тм.

**накрышы́ць, 1.** *соверш. к* крышыць *в 1-ом см.*, накрошить в каком-л. количестве. *Накрышыў місу хлеба.*

**2.** *соверш. к* крышыць *в 2-ом см.*, насорить крошками. Ар. *Дзеці хлеба накрышылі на стол.* Нсл. 310.

**3.** *соверш. к* крышыць *в 3-ем см.*, нарезать мелко(в каком-л. количестве, Ар.). Нсл. 310; Ар. *Накрышыць буракоў.* Нсл.

**накры́шаны,** *деепр. наст. вр. к* накрышыць *в 1, 2, 3 см.* *Накрышаны хлеб не зьмятай на мост.* Нсл. 310.

**накрышы́ць,** *соверш. к* крышыць *в 1, и 3 знач.*, окончить крошить. Ар. *Ці ты ўжо накрышыла бацьвіньне? Але, накрышыла.* Ар. *Прич.* **пакры́шаны**—покрошенный. Нсл. 459; Ар. *Пакрышанае бацьвіньне рассыпала.* Нсл.

●**крышы́цца, кры́шыцца,** *несоверш.*—крошиться. Ар.; Шсл.; Нсл. 256. *Хлеб кры̀шыцца, пакрышыўся.* Нсл. *Пірог крышыцца.* Ар. *Во нешта крыша мае зубы, чыстая бяда зь імі.* Ст.

**адкрышы́цца**-*ыцца, соверш.* **1.** отламливаться(чему-л. мелкому, **С.**). Дсл.; Нсл. 375. *Зуб адкрышыўся.* Дсл. *Бераг ад гаршка адкрышыўся.* Нсл.

**2.** *перен.*—отделиться от семейства. Нсл. 375; Дсл. *Сястрыца мая адкрышылася ад таткавага двара.* Нсл. *Пятрок ад нас адкрышыўся.* Дсл.
**3.** дать ловкий одпор, на брань, злословие. Дсл. *Пачаў лаяць мяне. Я, браце, ад яго адкрышыўся.* Дсл. *Соверш.* **пакрышы́цца, кры́шыцца.** Нсл. 256; Ар.

**выкры́шавацца,** *-шуюся-шуешся, несоверш. к выкрышыцца*—отпадать частичками. Нсл. *Зуб выкрышуецца, выкрышыўся.* Нсл. *Соверш.* **вы́крышыцца**—искрошиться. Нсл. *У Івана выкрышыўся зуб.* Ст.

•**крывота**-*оты-оце, ж.*—несправедливые отношения. *Адным чынам: бядота, дык і крывота.* Марціновіч (Беларус, Но. 159).
•**крывотліві**-*вая-вае*—завистливый. Моз.
•**крывабокі**-*кая-кае*—кривобокий. *Другі — крывабокі.* Цэлеш(Ярылаў агонь).
•**крывабе́г**-*гу, предл.-е̂гу, зват.-ежа, м.*—кровообращение. Гсл.
•**крыважэрнасьць,** *-ці, ж.*—кровожадность. Гсл.
•**крыважэрны,** *-ная-нае*—кровожадный. *А вочы іхныя(крумкачовы) прагныя, крыважэрныя.* Цялеш (Дзесяць, 8).
•**крыважэрца**-*цы, общ.*—кровожадный. МГсл.
•**крывакутнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—косоугольник. МГсл.
•**крываногі**-*гая-гае*—кривоногий. МГсл.
•**крываножка**-*кі, дат., предл. крываножцы, ж.*—женщина с кривымі ногами. *Бабка крываножка на золаце скача(качарга).* Рапан. 329.
•**крываньдзя́ка**-*я̂кі, предл.-я̂ку*—хромой, *презр.* Шсл. *Крывандзяка ты, куды ты лезеш!* Ст.
•**крывапіўца**-*цы, безлич.*—кровопийца.
•**крывапры́сяга**-*ягі-язе, ж.*—клятвопреступление. Гсл.
•**крывапры́сяжнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча*—клятвопреступник. МГсл.
•**крывапу́ск**-*уска, предл.-у̂ску, зват.-шча, м.* **1.** лошадный кровопускатель. Нсл. 737. *Крывапускі ходзяць па сяле, трэба пазваць, каб кроў пусьцілі каню.* Нсл.
**2.**-*у̂ску,*—трава тысячалистник, которую нарочито кладут в нос, чтобы возбудить из него кровотечение во время головной боли. Нсл. 737.
•**крывасмок**-*ока, предл.-оку, зват.-оча, м.*—кровопийца. МГсл.
•**крыва́вец**-*у̂ца, предл.-цу, зват. крываўча, м.*—сердолик. Нос (Записки Рус. геогр. О-ва по отд. этнографии, У, 1873, 47); Нсл. 252. *Пярсьцёнак із крываўцам.* Нсл.
•**крыва́вікі**-*каў ( один* **крывавік)**—блины растворенные на крови. Ксл. *Крывавікі ўчыняюць на сьвежай крыві.* Альшанікі Беш. (Ксл.).
•**крыва́віць**-*а̂ўлю-а̂віш-а̂ве, несоверш., перех.* **1.** ударять до крови, Нсл. 252. окровавливать. Гсл. *Колькі разоў ты мяне крывавіў, акрывавіў.* Нсл. *См. крывяніць 1.*
**2.** марать в крови. Нсл. 252. *Крывавіць, акрывавіць рукі, хусьце.* Нсл. *См. крывяніць 2.*

**акрыва́віць,** *соверш. к крывавіць 1, 2.* Нсл. 252. *Прич.* **акрываўлены**—окровавленный. Нсл. *Акрываўленымі рукамі бярэшся за хлеб.* Нсл.

**накрыва́віць**-*аўлю-авіш-аве, соверш., перех.* **1.** (залить кровью, С.) окровавить. Нсл. 309.
**2.** замарать кровью. *Накрывавіць рукі.* Нсл. 309.
**3.** окрасить кровью. *Накрывавіць ваду.* Нсл. 309. *Прич.* **накрываўлены, 1.** залитый или испачканный кровью, окровавленный.
**2.** (немного, С.) запачканный кровью. *Сарочка накрываўлена.* Нсл. 309.
**3.** окрашенный кровью. Нсл. 309. *Накрываўленае вады ніхто піць ня будзе,* Нсл.
•**крыва́віцца**-*а̂ўлюся-а̂вішся, несоверш., возвр.* **1.** окровавливаться.
**2.** мараться в крови (, кровью, С.) Нсл. 252. *Ня крываўся каля мяса.* Нсл. *Соверш.* **акрыва́віцца**-*а̂ўлюся-а̂вішся. Акрываві ўшыся, садзішся за стол.* Нсл. 252.
•**крыва́вы**-*а̂вая-а̂вае,* **1.** *прилаг. к кроў,*—кровавый, состоящий из крови, кровавый. Ар.; Нсл. 252. *Крывавы сьлед,* Нсл. *Крывавыя каплі.* Нсл. 252.
**2.** с кровью. *Мяса крывавае.* Нсл. 252.

**крыва́выя маціцы (кралі)**—ожерелье, состоящее из гладких зерен темновишневого цвета. НК.: Очерки, 131.
•**крыва́ўка**-*у̂кі-у̂цы, ж.*—кровавый понос, дезинтерия. Гсл.; Ар.: Заазер'е Сян. (Ксл.).
•**крыва́ўнікі** ( *один* **крываўнік**)-*каў*—колбасы, начиненные кровью, которая смешивается то с грудными внутренностями то с растительными предметами — крупою, мукою, картофелем. НК.: Очерки, 51,
•**крываўніца**-*цы-цы, ж., раст.*—кукушкин лён. Гсл. *См. перакус.*
•**крыве́ць**-*ею, соверш.* **скрыве́ць**—показывать вид неудовольствия. Міх. *Дзяцё згалела й скрывела.* ( *галець* — прихварывать).
•**крывя́нікі** ( *один* **крывянік**)-*каў* — *"драчоны"* и *"ладкі"* — пекутся из того же уторного теста, взболтанного различной мукой, к чему прибавляется еще кровь убойного животного. НК.: Очерки, 9.
•**крывя́ніць**-*ню-ніш-не, несоверш., перех.* **1.** ударять до крови, Нсл. 253. окровавливать. *См. крывавіць 1.*
**2.** пачкать в крови. Нсл. 253. *Рукі свае крывяніш, укрывяніў.* Нсл. *См. крывяніць 2. Соверш.* **накрывя́ніць,** *перех.*—окрасить кровью. Нсл. 739. *Мыючы свой нос, накрывяніў ваду.* Нсл.

**укрывяніць,** *соверш. к* *крывяніць 1, 2.* Нсл. 253.

●**крывяніцца**-*нюся-нішся, несоверш., возвр.*

**1.** окровавливаться.

**2.** мараться в крови. Нсл. 253. *Каля мяса рукі крывяняцца, укрывяніліся.* Нсл. *Соверш.* **накрывяніцца,** *соверш., возвр.*—окраситься кровью. *Вада накрывянілася ад тваіх нячыстых рук.* Нсл. 739.

**3.** становиться ярко-красным, как бы окрашиваться кровью. *Над лесам крывавілася неба.* ЗСД 164.

**укрывяніцца,** *соверш. к* *крывяніцца 1, 2, 3.*

●**крывянка**-*нкі-нцы, ж.*—кушание, испеченное в толстой кишке из крови, муки и крупы. Шсл. *Нашы дык вельма любяць есьці крывянку.* Ст.

●**крывімяшаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—кровомешение. МГсл.

●**крывінка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** капелька крови. Шсл. *У ім і крывінкі няма: такі бляды.* Ст.

**2.** кровяное тельце.

●**крывіньдзя,** *общ.*—часто обнаруживающий-щая лицом неудовольствие. Ар.; Міх. *Чаго ты крывішся? Крывіньдзя ты!* Ар.

●**крывісты**-*тая-тае*— (многокровный, много крови содержащий, С.) кровистый, Нсл. 253. полнокровный, кровистый. Гсл. *Крывістая жыла.* Нсл.

●**крывіточа**-*чы-чы, ж.*—кровотечение. МГсл.

●**крывіцкі,** -*кая-кае*—великолитовский, белорусский. *З табой ніколі не памрэць крывіцкі род.* Салавей: Сіла, 93. *О Вільня родная, каханая, цябе зальле крывіцкі рух.* Жылка.

●**крывіць,** *крыўлю, крывіш-ве, несоверш., перех.* **1.** прямое делать кривым, Шсл. косым, Нсл. 253. кривить, искривлять, МГсл. перекатывать. *Крывіць, скрывіць рот, вочы.* Нсл. *Роўненька вядзі каня, ня крыві ў бок.*

**2.** обижать. Шсл. *Ня можна, дзеткі, крывіць старога чалавека!* Ст. *Ср.* *крыўда. Хай каралі нятрывалыя, я ж душою ня крывіў. Ня крывіў душой, каханая, чорным часма пець ня мог.* Крушына: Лебедзь, 28. *Соверш.* **скрывіць,** Нсл. 253. —скривить. Ар.

**крыўляць**-*яю-яешяе, несоверш.*—передразнивать. Нсл. 253.

●**крывіцца,** *крыўлюся, крывішся, несоверш.*

**1.** коситься, делаться кривым, косым (, кривиться, С.,) Нсл. 253. *Вароты крывяцца, скрывіліся.* Нсл.

**2.** показывать вид неудовольствия, негодования, Нсл. 253; Ар.; Міх. обижаться, Шсл. перекатываться в гримасе, кривиться ( о лице, рте, губах). *Няма чаго глядзець, што ён крывіцца.* Нсл. *Няма чаго на свайго бацьку крывіцца.* Ст.

**3.** морщиться от боли. Нсл. 253. *Дзяцё крывіцца нешта, можа галоўка баліць.* Нсл.

**скрывіцца,** *соверш. к* *крывіцца 1, 2, 3.* Нсл. 253; Ар. *Скрывіўся, як серада на пятніцу.* Нсл.

●**Крывіч**-*ча, предл.-чу; мн. ч.-чы-чоў-чом-чамі-чох* ( *от* *кроў, крыві*)—великолитвин, белорус. *Ср.* Нсл. 737: "Крывічы может быть произведено от *"крыві", и в таком случае может значить: кровные, единокровные". Мы, з брат-дзеці, ад аднае крыві, ад аднаго дзеда, ад аднаго прадзеда паходзім.* Нсл. 737.

*Толькі нам, Крывічом-Беларусам, можна выткаць падобны абрус.* Случчанін. *Варшавы "гжэчныя" сыны тварылі суд над Крывічамі і катавалі бязь віны.* Кавыль: Ростань, 39. *Быў гатоў ісьці на сьмерць я і пакуты, каб не памерлі Крывічы, каб не насілі вечна путы, чужыя войстрачы мячы.* Тм. *Я зьвярнуўся не адзін а з сынам — нашчадкам Крывічоў.* Салавей: Сіла, 93.

●**Крывічанін**-*іна, предл.-іну, зват.-іне, мн. ч.* *Крывічане, м.*—великолитвин, белорус. *См.* *Крывіч.*

●**Крывічанка**-*нкі-нцы, ж.*—великолитвинка, белоруска.

●**крывіччына**-*ны-не, ж.* **1.** совокупность всего подлинно великолитовского (белорусского).

**2. Крывіччына**—Великолитва, Белорусь. *Скажу, уклякшы: Крывіччына сьвятая! Ты не памрэш, Крывіччына!* Салавей: Сіла, 93.

●**Крывічы,** -*чоў-чом-чы-чамі-чох,*—Великолитва, Белорусь.

●**крывуля**-*лі-лі. ж.* **1.** кривой предмет. Шсл. *Бярэзіна — нейкая крывуля.* Ст.

**2.** изгиб, кривизна. Гсл.

**3.** человек с тяжелым характером. Гсл. *Уменьш.* **крывулька**-*кі, дат., предл.* *крывульцы, ж.*—искривленная продолговатая вещица, напр. ложка, палочка с крючком и т.п. Нсл. 253. *Крывулька крывая, а ўсіх корме* (*лыжка*). Рапан. 324. *Палец крывулька.* Нсл. *Нос, як крывулька.* Нсл.

**крывулечка**-*чкі-чцы, уменьш. к* *крывулька.*

●**крывуліца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—что-л. кривое. *Кіну крывуліцу цераз тын на вуліцу, сякачыкі сякуць, Андрэй павагачае* (*лыжка, язык, зубы*). Рапан. 324.

●**крывы**-*вая-вое,* **1.** кривой. Ар.

**2.** косой (, косоглазый, С.) Нсл. 253; МГсл. *Крывы глядзіць сюды, а бача там.* Нсл. *Рыжага а крывога бойся, як пса злога.* *Послов.* Нсл.

**3.** *перен.*—неспокойный, недовольный ничем. *Крывому нічым ня ўгодзіш.* Нсл. *Крывое дзяцё ўсё крыўляецца.* Тм.

●**крыўда**-*ды, дат., предл.-дзе, ж.*—обида. МГсл.; Ар.; Шсл.; Нсл. 252. *Рабі так, як кажуць: крыўды табе ня будзе.* Ст.

*Жонцы крыўда стала.* Н. (Афанасьев, IУ, 1914, 84). *Бог зьвідзіць няхай маю крыўду, якую цярплю ад цябе. Крыўды Бог не даруе.* Тм.

•**крыўдава́ць**-*дўю-дўеш-дўе; повел.-дуй-дуйма, несоверш. на каго, на што, за што*—обижаться. Ар.; Шсл. *Няма за што крыўдаваць на чалавека.* Ст. *Яна быццам крыўдавала на самую сябе, што ня можа ляпей зрабіць.* ЗСД 134. *Ды я, Васільку, ня крыўдую.* Тм. 240. *Грэх, чалавеча, на жыцьцё крыўдаваць.* ЛНУ 11. *Ну, выбачайце, ня крыўдуйце; калі што блага, дык даруйце.* Колас (НЗ, 1952, 101). *Твой жа брат селянін крыўдуе: апошнія, кажа,, гарцы зьбіраеш.* ЛНУ 44. *Ня крыўдуй на мяне, сыночку, пішы ўсё, што ў цябе там у месьце.* Сачанка: Ліст да маці (Беларус, Но. 177). *Хочаш крыўдуй, хочаш не, толькі шчыра табе скажу: на'т просьле гэтае нашае гутаркі я зрабіў бы так, як і тады.* Макаёнак: Каб людзі... *Ня крыўдуй, старшыня, але жыць у мяне табе нельга.* Тм. *Вычувалася нейкая крыўда да тых сяброў з дванаццатае роты, што не пайшлі разам у горы, а засталіся зь Немцамі. Адылі ня было часу крыўдаваць.* Акула, 176. *Соверш.* **закрыўдава́ць** *на каго, на што, за што*—обидеться. Шсл. *Так-жа закрыўдаваў на міне кум, што бяда!* Ст.

**пакрыўдава́ць,** *соверш.*—пообижаться. Ар.; Шс *А дарма: ён пакрыўдуе ды на тым і скончыцца.* Ст.

•**кры́ўдзіць**-*джу-дзіш-дзе, повел.-дзьдзьма, несоверш., перех.*—обижать. Ар.; Шсл.; Гсл.; Нсл. 252. *Нашто крыўдзіш малога?* Ст. *Соверш.* **пакрыўдзіць,** *перех.*—обидеть. Ар.; Шсл. *Пакрыўдзіў ён міне, хай яго Бог пакрыўдзе!* Ст. *Пакрыўдзе малога.* Колас. *Прич.* **пакрыўджаны**—обиженный. Ар.; Шсл. *Ён пакрыўджаны сваймі братамі.* Ст.

**скрыўдзіць,** *соверш., перех.*—обидеть. Нсл. 252; Гсл. *Бог не паможа, калі сіроты крыўдзіш, скрыўдзіш.* Нсл. 252. *Деепр. наст. вр.* **скрыўджаны**—обиженный. Гсл.

**укры́ўдзіць,** *соверш., перех.*—сильно обидеть. Шсл.; Ар. Нсл. 656. *Малога ўкрыўдзілі, дык гаркімі сьлязьмі плача.* Ст. *Аднаго батрака ўкрыўдзіш, другі ня пойдзе служыць.* Нсл. *Деепр. наст. вр.* **ўкрыўджаны,**
**1.** (сильно, Ар.) обиженный. Нсл. 656. *Укрыўджаныя батракі жаляцца на цібе.* Нсл. *Ад натуры ўкрыўджаны ня мае розуму.* Нсл.
**2.** потерпевший. *Укрыўджаная старана маець а то праціўную сваю старану да суду належнага пазваці.* Стт. 358. *У статуце 1588 г., ў значаньню* "потерпевший" *ужываецца вылучна "укрыўджаны", каторага прыклады сустракаюцца множасьць разоў. Отгл. имя сущ.*

**укрыўджаньне**-*ня, предл.-ню*—сильная обида. *Укрыўджаньне маю ад цябе, ня ўсі грошы аддаў за службу.* Нсл. 656.

•**кры́ўдлівы**-*вая-вае*—склонный к обиде других. Нсл. 253. *Крыўдлівы чалавек кажнага крыўдзе.* Нсл.

•**кры́ўдны**-*ная-нае,* **1.** обидный. Ар.; Нсл. 253. *Крыўдны падзел.* Нсл. *Крыўднае слова.* Нсл.
**2.** склонный к обиде других, обидливый. Нсл. 253. *Крыўдны чалавек.* Нсл. *Крыўдныя людзі.* Нсл. *Нареч.*

**крыўдна, 1.** обидно, несправедливо. Нсл. 253. *Крыўдна падзяліў.* Нсл.
**2.** обидно, неприятно. Ар.; Нсл. 253. *Мне крыўдна, што ты так кажаш.* Нсл.

•**крыўдніца**-*цы-цы, ж.*—обидчица. *Ср. крыўднік.*

•**кры́ўднік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—обидчик. *Муж быў крыўднік людзкі.* Кітаб, перап. Больскім("Узвышша" Но. 4, 1927 г., стр. 143).

•**крыўленьне,**—*см. под* крывіцца.

•**крыўленьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к* крывіцца *в 2-ом и 3-ем см.*—обнаружение неудовольствия или чувства боли. Нсл. 253. *Не гляджу я на твaё крыўленьне.* Нсл. *Многократ.* **крыўля́цца**-*яюся-яешся*—приготовляться к плачу. Нсл. 253. *Ср.* крывіцца *3. Дзяцё крыўляецца, спаць хоча.* Нсл.

**накрывіўцца, накры́віцца,** *соверш.*—наклоняться на одну сторону. Нсл. 309. *Воз накрывіўся на бок.* Нсл. *Деепр. наст. вр.* **накрыўлены,** (Скар. III Ц.)—наклоненный на одну сторону. *Ср.* накрывіцца. *Несоверш.* **накрыўля́цца(накрыўліванцца).**

•**крыўля́ка**-*кі, общ.* **1.** плакса. Нсл. 253. *Уймі ты гэтага крыўляку.* Нсл. *Дастанецца табе крыўляку за твaё крыўляньне.* Нсл.
**2.** передразнивающий-щая постоянно других. Нсл. 253.

•**крыўл-я́ньне**-*яць,*—*см. под* крывіць.

•**крыўля́цца,**—*см. под* крывіцца.

•**крыўля́ць**-*яю-яеш-яе, несоверш.*—передразнивать. Нсл. 253. *Ня крыўляй другіх а сам на сябе паглядзі.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **крыўля́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—передразнивание. Нсл. 253. *Ад каго ты навучыўся крыўляньня другіх?* Нсл. *Соверш.* **перакрыві́ць**-*ыўлю-ывіш-ве, перех.*—передразнить. Шсл. *Яно ўмее кажнага перакрывіць, як хто гавора.* Ст.

**выкрыўля́ць**—искривлять. МГсл.

•**крыць,** *крыю, крыеш, крые, повел. крый, крыйма*(*крэй, крэйма,* Ар.), *несоверш., перех.*
**1.** крыть. Нсл. 256; Ар. *Яны будуць крыць дом бляхаю.* Ар. *Будынак панскі гонтамі крыюць.* Нсл. *Будзем крыць ток.* Ст.
**2.** закрывать, накрывать. *Крый дзяцё, каб не ўраклі.* Нсл. 256.
**3.** (*относительно Бога*)—оберегать кого, что-л., охранять кого-л. от опасности; хранить. *Ці не градавая хмара, няхай Бог крые.* Любча Н.

**крэй Божа**—спаси Господи. Ар. *Усімі сіламі памажыма ратаваць нашых арыштаваных, бо крый Божа чаго.... гэта будзе такая страта, такая страта; каб вы толькі маглі ведаць!* Дзьве Душы, 142. *Няхай Бог крые, яшчэ й гэтага трэба навучыцца.* (Косіч, 229).

**няхай Бог крые, ратуе**—пусть Бог сохранит, избавит. НК.: Піт Но. 27. *Няхай Бог крые-ратуе ад гэткага жыцьця.* НК.: Пасоб., 135. *Крый цябе, Божа, скажаш пану гэта.* Нсл. 256. *Краў бы, дык баюся, бо, крый Божа, пападуся.* Гарун: Шчасьце М.

**адкрыва́ць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* (*к* *адкрыць*). *Соверш.* **адкры́ць, 1.** освободить от чего-л. покрывающего, делающего невидимым; открыть(воз, ребенка, постель и т.п.). *Адкрый бабкі — хай сохнуць.* Селішча Гар. (Ксл.).
**2.** сделать известным что-л. ранее скрываемое, тайное, неизвестное; открыть. *Адкрый сакрэт.* Ар.

**адкрыва́ць, адкрыць руду**—пускать, пустить кровь. Дсл. *У ваччу пачало нешта мітусіцца — руду сабе адкрыла.* Дсл.

**акрыва́ць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш., перех.*—покрывать со всех сторон. Гсл. *Соверш.* **акры́ць.** *Рашчыніла яна ўчора зь вечара хлеб, раставіла дзяжу на гарэнь, акрыла старым паўкажушкам, посьцілкаю.* Міско: Хлеб(Беларус, Но. 174).

**накрыць,** *соверш. к* *крыць в 1-ом и 2-ом см.* *Хату ўжо накрылі.* Ар. *Накрый дзяцё коўдраю.* Войш.

**раскрыва́ць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* (*к* *раскрыць 1, 2*), *перех.*

**раскры́ць**-*ыю-ыеш-ые; повел.-ый-ыйма, соверш.* **1.** тое ж, што *адкрыць I,* з тэй розьніцаю, што *адкрываюць* із аднаго боку, а *раскрываюць* із двух або колькіх бакоў; сделать видным, обнажить, раскрыть. **2.** снять кровлю. Гсл.

**укрыва́ць,** *перех., несоверш. к* *укрыць.*

**укрыць,** *соверш., перех.*—хорошо, тщательно накрыть. Ар.

•**кры́цца,** *крыюся, крыешся*—накрывать себя чем-л.

**закрыва́цца**—прикрываться, ссылаться. Ст. 152, Сл. *Таковы ня маець ся перад правам тымі лісты нашымі закрывацi і да нас адзывацi.* Ст. 1529, Сл.

**накрыва́цца,** *несоверш.*(*к* *накрывацца*) —накрываться. *Соверш.* **накры́цца**—накрыться. Ар.

**раскрыва́цца**-*аюся-аешся, несоверш. к* *раскрыцца. Соверш.* **раскры́цца**-*ыюся-ыешся; повел.-ыйся-ыймася*—освободиться от каго-л. покрова, оказаться не прикрытым; раскрыться. *Деепр. наст. вр.* **раскрыўшыся.** Ар. *Сьпіць раскрыўшыся.* Ар.

**укрыва́цца,** *несоверш. к* *укрыцца.*

**укры́цца,** *соверш.*—тщательно накрыться, закутаться. *Крыйся, укрыйся добранька.* Нсл. 256.

•**крыцьво**-*ва́, ср., дзеяньне подле дзсл.* *крыць.* Войш. *Крыцьво хаты.*

•**крычэць**-*чу́-чы́ш-чы́ць, несоверш.*—кричать. Ксл. *У ладным ліку "Апытаньнікаў" адцемлены такія дзеясловы із самагукам а асновы, як крычэць*(*у Но. 1, 2, 6, II, 15, 21, 23, 24, 29, 31, 32, 43 і 50*). Раст.: Говоры Смл. 131. *Хлопчык пачаў крычэць.* Я. Г-кі: Лемантар, 54. *Ну й крычэла ж яна на мяне!* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Малец пачаў крычэць.* Сташчна Чаш. (Ксл.). *Однкрт.* **кры́кнуць**-*ну-неш-не.* Ар. *Соверш.* **закрычэць**—закричать. МГсл.

•**ксьці́ны**-*наў, единств. ч. нет*—(домашнее празднество по случаю крещения ребенка., С.)—крестины. Нсл. 257; Гсл.; Косіч 250; ПНЗ. *Прасілі на ксьціны.* Нсл. *См.* *хрэсьбіны.* *Уменьш.* **ксьці́нкі**-*нак.* Нсл. 257. *Нам ксьцінкі даў Бог.* Нсл.
**2.** *перен.*—наказание розгами. Нсл. 257. *Бяз ксьцін, ксьцінак не абыйдзецца сягодні.* Нсл.

•**ксьці́цель**-*ля, предл. и зват.-лю, мн. ч.-ляў, м.*—креститель. Нсл. 257. *На сьв. Ивана Ксьціцеля.* Нсл. *См.* *хрысьціцель.*

•**ксьціць,** *кшчу, ксьці́ш, ксьці́ць, несоверш., перех.*—крестить, совершать таинство св. крещения. Гсл.; Нсл. 257. *Дзяцё пара ксьціць, аксьціць.* Нсл. *См.* *хрысьціць.* —обращать в християнство, совершая таинство крещения. *Деепр. наст. вр.* **кшчоны, 1.** крещенный. Нсл. 263. *Дзяцё яшчэ ня кшчона.* Нсл. *См.* *хрышчоны.*
**2.** християнский. Нсл. *Увесь кшчоны народ.* Нсл. *Соверш.* **аксьціць.** Нсл. 257. *Деепр. наст. вр.* **акшчоны**—окрещенный. Нсл. 362. *См.* *ахрышчаны.*

**пераксьціць,** *соверш., перех.* **1.** *заст.*—перекрестить обряд(таинство св., С.) крещения над(христианином, С.) иноверцем. Нсл. 404. *Дзяцё ўжо пераксьцілі.* Нсл.
**2.** совершить таинство св. крещения над нехристианином. *Пераксьцілі Жыдзіцу.*
**3.** осенить(крестным, С.) знамением. Нсл. 404. *Дзіцё соннае ўздрыгуецца, пераксьці яго.* Нсл. *Пераксьці свой нос, каб вялік рос.* *Послов.* Нсл. *См.* *перахрысьціць.*

•**ксьці́цца,** *кшчуся, ксьцішся, несоверш.* —креститься, принимать св. крещение. Нсл. 257. *Жыд сядні ксьціўся, аксьціўся.* *См.* *хрысьціцца.* *Соверш.* **аксьці́цца.** Нсл. 257.
**аксьціцца.** Нсл. 257.
**2.** налагать на себя знамение креста. Нсл. 257. *Соверш.* **пераксьціцца.** Нсл. 257. *Пераксьціся і нічога ня бойся.* Нсл. *См.* *перахрысьціцца.*

•**кволасьць**-*ці, ж.* **1.** (хилость, С.) слабость. Гсл. *Ён* (*цымбалісты*) *пазнае душой людзкую кволасьць.* Крушына: Лебедзь, 47.
**2.** хрупкость. Гсл.

•**кволець**-*ею-ееш-ее, повел.-ей-ейма, несоверш.* **1.** становиться свободнее. *Вяроўка кволее, пакволела, адцягуецца.* Нсл. 232.
**2.** становиться слабее, хрупче, Ксл. слабеть, Нсл. 232. хиреть. *Кволее дзецянё, а памагчы ня можаш.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Тата што дзень кволее.* Нсл. *Соверш.* **скволець**—ослабеть, сделаться слабым. Нсл. 582. *Стары сусім скволеў, з пасьцелі не ўстаець.* Нсл.

●**ла́зілка**-*кі, дат., предл. лазілцы, ж.*—лестница. Ксл. *Прынясі лазілку — дулі будзем абіраць.* Балотнікі Куз. (Ксл.).

●**ла́зіць**—*см. под лезьці.*

●**ла́зка**-*зкі-зцы, ж.*—суковатая елина, прототип лестницы. Сакуны 32.

●**лазу́н**-*на̀, зват.-лазу̀не, мн. ч.-ны̀-ноў-номны-намі-нох, м.*—сосунок. Ксл. *Адыймем мы ад каровы лазуна, ато яна аж пахудала.* Люкавічы Чаш. (Ксл.).

●**лазьбе́нь**-*бня̀, предл.-бню̀, мн. ч.-бнѝ-бнёўбнём-бнѝ-бнямі-бнёх, м.*—кадочка, выдолбленная из липового дерева, или сделанная из луба, употребляемая пчеловодами пры подчищении и обирании ульев, для складки меда, Нсл. 264. коробья, кадушка с крышкой вместо сундука, Кур. (Даль). род коробка из ладов, обручная укладка с крышкою и поперечным по ней запорам, кадочка, служащая в деревнях вместо сундука. *Прынёс цэлы лазьбень мёду.* Нсл. *А бортнікам вольно на лезіва лык альбо луб'я на лазьбень узяці.* Стт. 377.

●**лазьбі́ны**-*наў, единств. ч. нет.*—подрезание меда и пирушка по этому случаю. Ар.; Гсл. *Паедзем да Лужышча на лазьбіны.* Ар.

●**ла́зьня**-*ні, дат., предл.-ні, ж.*—баня. МГсл.; Ар.; Пісараўка Імгл.(Сержп.: Отчет, 5); Шсл.; Курына Куз. (Ксл.); Вят., Вост.(Даль); НК: Старцы, Но. 54; НК: Очерки, 288; Нсл. 264; Дсл. 22(под *баня*). *Парыцца ў лазьні.* Нсл. *У хаце так душна, як у лазьні.* Нсл. *Уменьш.* **лазенька**-*нькі-ньцы.* НК: Под.пос. 52. *Уменьш.* **ля́зенка**-*нкі-нцы, ж.* НК: Очерки 288—банька. Нсл. 264. *Лазенка наша дужа маленька, чалавекам тром толькі ўлезьці ў яе.* Нсл. *Ужо была ноч, і ў сяле ўсе спалі, толькі ў ваднэй лазенцы гарэў агоньчык.* Халопенічы Круп.

●**лазьні́к**-*іка̀, мн. ч. дат. -ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—лозняк. *Нічы лазьнік туліўся ніжэй зь берагу да вады.* Гарэцкі: Песьні 25.

●**ла́зы**-*заў, один лаз*—место для пролезания(напр. в улье). НК: Очерки 429.

●**лажоныя пшчолы**—пчелы, у которых выбран мёд. Стт. 1529.

●**лажбе́ль**-*бяля̀, предл.-бялю̀, зват.-бѐлю, мн. ч.-бялѝ-лёў-лём-лёў-лямі-лёх, м.*—неповоротливый толстяк, брюхач. Шсл. *Лажбель ты, паварочуйся барджэй! Амельна Пух.* (*Шсл.*).

●**лажня́**-*нї-нї, ж.*—посуда для мёда. Гсл.

●**лажы́ць**—класть. Гсл. *Соверш.* **аблажы́цьжу̀, аблoжыш-жа, перех.** 1. покрыть (сплошной массой, обволочь, обложить, С.) Шсл.; Бяльсл. *Хмары аблажылі ўсё неба.* Ст. *Дождж будзе, неба хмарамі аблажыла.* Горня Хоцім.(Бяльсл.).

2. свалить дерево. Шсл. *Аблажылі гэткую хвою!* Ст. *См. спусьціць.*

3. побороть, повалить на землю. Ксл. *Мядзьведзь яго й аблажыў.* Мамойкі Беш. (Ксл.). *А мужчына, скажу вам, быў — быка мог аблажыць.* Вышынскі: Хата пад ліпаю(Беларус, Но. 155). *Аблажыць медзьвядзя.* НК: Очерки 534.

**залажыць,** *соверш.* 1. заложить, поместить куда-л. за что-л.

2. положить не на место, так что трудно найти.

3. *безлич.*—о болезненном ощущению тяжести в ушах, носу. *Прич.* **заложаны.** *Нос заложаны. Соверш.* **злажыць**-*жу, зложыш-жа, перех.* 1. сложить, положить в месте, в одно место, положить в определенном порядке.

2. перегнув, свернув и т.п., придать какую форму, уменьшить объём; сложить; согнув, изогнув придать какое-л. положение, вид(рукам, ногам). *Ляж спаць, рукі злажыўшы.* Кіт. 11062.

3. сложить части чего-л. Шсл. *Разбурыў гадзіньнік, цяпер жа злажы яго.* Ст.

4. выдумать, солгать.

5. сочинить произведение. Шсл., составить(книгу). Гсл. *Во гэта нехта добрую кніжку злажыў.* Ст.

6. вырубить сплать. *Серадня, зладзюга, так злажыў усё*(*высек бярэзьнік*). Вышынскі: Хата пад ліпаю.

7. **злажыць рок**—установить, назначить, определить(срок). *Заплаце злажыў ясьмі рок у нядзелі.* Гордз. Акты XУII, Но. 19. *Прич.* **зложаны,** 1. сложенный.

2. солганный, выдуманный. Нсл. 209. *Усе няпраўда, усе зложана гэта.* Нсл.

3. составленный, сочиненный *Отгл. имя сущ.* **злажэньне**-*ня, предл.-ню,* —выдумка, Нсл. 209. *Гэта, паночку, злаженьне на мяне, а то ўсё няпраўда.* Нсл. *Соверш.* **налажы́ць,** 1. наложить.

**налажыць імя**—наречь, Смл. дать имя. Дсл. *Жонка нарадзіла імя, налажыла яму імя Иван.* Дсл. *Усім прозьвішча наложым і пачнем мы на кулачыкі, дый атў малцаў зь места.* Смл. (Дсл.).

2. побить. Дсл. *Я яму налажыў.* Дсл.

**налажыць галавой**—погибнуть, умереть. *За слова тваё галавой налажыць.* Салавей: Сіла гневу 7. *Прич.* **наложаны**-*наянае*—груженный(воз), с грузом. *Воз парожні маець уступаваці возу наложанаму.* Стт. 374.

**пралажыць дарогу**—провести путь. *Пралож, пралож дарожачку да сяла.* Касьцюковіцкі р. Калінінская акр.(Наш Край, 1928, Но. 6-7, 59).

**разлажы́ць**-*жу̀, разложыш-жа, каго-што, соверш.* 1. разложить.

2. развести(огонь, С.) Ар.; Селядцова Беш. (Ксл.). *Пастухі разлажылі на балоце агонь, а капа загарэлася.* Селядцова Беш. (Ксл.).

**узлажы́ць**-*жу̀, узложыш-жа. соверш. к ускладаць, 3.*—надеть(белье, головный убор, на плечи большой платок). Ар. *На мэйшта*(*арабізм. нябожчыка*) *маеш узлажыць два саваны.* Кіт. 4961.

2. надеть(приладить, укрепить, прикрепить) какой-л. предмет на чем-л, на что-л.
3. возложить, торжественно положить.
**вылажы́ць**—изложить. Стт. 1529. *Яка есьць у кнігах пісанага права вылажана.* Тм.

•**лажы́цца**-*жу̀ся-жышся*—ложиться. *Як лажыцца, дык ня можна набыцца; а як уставаць, дык разьлік браць.* *Послов.*(*о ленивом*). Войш. *На пасьцелі лажачыся гадзіну глядзеў на кнігу.* Кіт. 1461.
2. (*перен.*) *Лажыцца зморай праца на рукі загрубелыя.* Крушына: Творы, 14. *Соверш.* **аблажы́цца, 1.** обложиться, обложить себя чем-л., расположить во множестве вокруг себя. *Сядзіць, аблажыўшыся кнігамі.*
2. положить что-л мимо кармана. *Згубіў грошы — аблажыўшыся.* Дсл. **злажы́цца**-*жу̀ся-жышся, соверш.* —прицелиться. *Злажыўся стрэльбай — клянусь! ня паліць, як рамзель з другога не пячэць...* Тарас на Парнасе. *Гарэшка злажыўся леварвэрам на Карповіча.* Дзьве Душы 92.

•**ла́йба**-*ы, ж.*—баржа, Ксл. большая ладья, барка. Гсл. *У Вяліжу будавалі вялікія судны-барліны, стругі, пастругі, шкуны, пакуль не зьмянілі іх драбнейшыя лайбы.* Віцьбіч(Бацьк., Но. 49-50/435-436). *Лайбы ў гару часта цягнуць лямкаю.* Маркаўшчына Віц. (Ксл.). *За бяртом лайбы мэлёдычна хлюпалі хвалі.* ЗСД 110.

•**лайба́**-*бы̀, ж.*—ругательство. Нсл. 264. *У вадным куце ўзьняўся глухі гоман, нейкая баганіна, хрыпаты сьмех і лайба.* Дзьве Душы 66. *Якая гэта лайба! Ня так трэба яго лаяць.* Нсл.

•**лайно**(**лайна,** Кіт.)-*на, ср.* **1.** связка белья, Ксл. связка стирального белья сколько может поднять женщина. Нсл. 264. *Лайно хустаў.* Нсл. **лайніна**-*ны-не, ж.*—отрезок полотна для прикрытия чего-л. Шсл. *Во яшчэ палатна застанецца і на лайніну.* *Уменьш.* **лайнінка**-*нкі-нцы.* Шсл. *Накрый дзяжу хоць гэтаю лайнінкаю.* Ст.
2. как и в слав., помет, навоз, особенно свиной. Нсл. 264. *Парасяты ў лайно закапаліся.* Нсл. *Лайна чалавечае будзе.* Кіт. 4364. *Лайна прысхнець на целе або на адзежы, то тэгрэт фэрз*(*араб., род рэліг. права*) Кіт. 72а3.

•**ла́йнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—бездельник. Шсл. *Ай лайнік ты, што ты робіш?* Крамяні Пух. (Шсл.).

•**лакта́ць,** *лакчу̀, локчаш-ча, несоверш., перех.*—локать, хлебать, Гсл. пить, как бы лакая; хлебать, говорится укоризненно. Нсл. 271. *Малако бяз хлеба локчаш, палоктаў.* Нсл. *Няхай сабакі локчуць памыі.* Нсл. *Соверш.* **палактаць.** Нсл. 271.

•**ламота**-*ты, дат., предл.-це, ж.*—ломота. (*Праца ля цяпла прыводзе*) *галоўкі ламоту.* НК: Очерки 53. *Сымон учыніў малітаўку ад ручак ламоты.* НК: Старцы 81.

•**ламаніна**-*ны-не, ж.* **1.** головоломное дело. Нсл. 271. *Ламаніну дзеля галавы задаў.* Нсл.
2. ломота. Нсл. 271. *Ламаніна ў касьцёх.* Нсл.
3. беспокойство, ощущаемое при исправлении чего-л., особенно ломкого. Нсл. 271. *Ламаніна рэчаў, коні, людзёў.* Нсл.

•**лама́нцы**(**ламанцы̀,** Нсл.)-*цаў, мн. ч.*—опресноки из муки и картофеля, Шсл. кушанье из лепешек, испечённых до суха, поломанных и залитых конопляным молоком и таким образом поджаренных. Нсл. 271. *Ламанцы памачалі ў мак.* Дукарка Сьміл. (Шсл.).

•**ламавоз**-*за, предл.-зу, м.*—ломовик(ломовой извозчик, С.) МГсл.

•**лама́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е; повел.-а̀й-а̀йма, несоверш., употребляют ограниченно, в отношении к овощам.* **1.** ломать. Ар. *Загнулася гаспадыня ў баразьне, бацьвіньне на абед ламаць.* Гарэцкі: Песьні 62. *Мама пайшла капусту ламаць.* Ар.
**ламаць рукі**—ломать руки, о жесте, выражающем сильное горе, волнение и т.п. *Малада дзяўчына дурны розум мае, па садочку ходзе, ручанькі ламае.* Ар. *Прич.* **лама́ны**—ломанный. Ар. *Тут бацьвіньне ламанае.* *Однократ.* **ламану́ць**-*ну̀-нѐш-нѐць-нѐм-ніцѐ-ну̀ць,* **а**) ударить. Нсл. 271. *Ламануў па галаве.* Нсл.
**б**) побежать. Нсл. 271. *Ламануў, аж пыл ды дым.* Нсл.
**в**) рвануть. Нсл. 271. *Конь ламануў разам.* Нсл. *Соверш.* **заламаць**—заборонить посев поперёк. Варсл. *Авес я ўжо заламаў і пераваλок.* Варсл. *Соверш.* **налама́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, чаго*—наломать. Ар. *Наламала бацьвіньня.* Ар. *Прич.* **налама́ны,** —наломанный. Ар. *Ля ляхі стаяў кош наламанага бацьвіньня.* Ар.
2. *печать,*—верстать, располагать набор по страницам. *Соверш.* **зламаць.** *Заўтра будзем часапіс ламаць.* *Прич.* **зламаны** —сверстанный. *Газэта зламана.*
**прыломаваць**[**прыламліваць,** Нсл.]-*мую-муеш-муе; повел.-муй-муйма, несоверш. да чаго*—приучить к какой-л. работе или ремеслу. *Прыламуй дзяўчыну да рамяства.* *Соверш.* **прыламаць,** *перех.*—приучить к какой-л. работе или ремеслу. Нсл. 503. *Прыламаць маладога каня да арбы.* Нсл. *Прич.* **прылама́ны, 1.** приученный к работе или ремеслу. Нсл. 504. *Хлапца маю да кажнае работы прыламанага.* Нсл.
2. сломленный в конце. Нсл. 504. *Прыламаная голка.* Нсл. *Прыломаны гвозд.* Тм.
3. надломленный, искривленный. Нсл. 504. *Прыломаны нос.* Нсл.

•**ламацьцё**-*ця, предл.-цю, ср.*—ломота. Шсл. *Ламацьцё ў плячох, нельга й паварушыцца.* Ст.

•**ламáцца**-*дюся-дешся, страд. к ламáць,* **1.**—быть ломанну. *Гародніна лёгка ламаецца.* *Соверш.* **абламáцца**—обломаться. *Абламалася цэлае прасла плоту.* Крамяні Пух. (Шсл. 4). *Соверш.* **наламáцца, 1.** приучиться(с трудом) к чему-л. Шсл.; Нсл. 311. *Троху наламаўся гýкаць папольску.* Ст. *Хлапец наламаўся малаціць.* Нсл. *Конь наламаўся к сасе.* Нсл.

**2.** набедствоваться, возясь. Нсл. 311. *Наламаўся я з гэтым дубінаю канём, пакуль прыўчыў хадзіць у сасе.* Нсл.

**прыламавацца**-*муюся-муешся, повел.-муйся-муймася, несоверш. к прыламáцца.* —приучиться к чему-л. *Соверш.* **прыламáцца**-*дюся-дешся*—приучиться к чему-л. Шсл.; Нсл. 503. *Прыламаўся хлапец малаціць.* Нсл. *Жарабок прыламаўся к сасе.* Нсл. *Во, як прабыў трох ў месьце, дык прыламаўся жыць далікатней.* Ст.

•**ламéсіна**-*ны, ж.*—отломанная часть ветви. Лань Нясьв. *Як вазму я ламесіну ды адаб'ю цябе.* Лань Нясьв.

•**ламзьлíвы**-*вая-вае*—любящий говорить без нужды, лишнее а нередко несколько вредное. Ар. *Ср. лэмзар.*

•**ламі-галава**-*вы, общ.*—сорви-голова, чрезвычайный шалун, отважный, дерзкий, неуважительный человек. Нсл. 271. *Уймі ты гэтага, гэтую ламі-галаву.* Нсл. *Гэтаму ламі-галаве нічога ня зробіш.* Нсл.

•**ламíць,** *ламлю, ломіш-ме, несоверш., перех.* **1.** ломать. Нсл. 271. *Вецер дзярэўе ломіць.* Нсл. *Соверш.* **адламíць**—отломать. Ар.; Ксл. *Адламіў бачок талеркі.* Нсл. 32(под *бачок*). *Плешачка адламілася, гваздок не дзяржыць.* Нсл. 419(под *плешачка*). *Адламі імне скарыначку хлеба. Баравая Куз. (Ксл.).* *Соверш.* **зламíць.** Нсл. 271. *Рамёнак зламіў.* Нсл. 554(под *рамёнак*). *Соверш.* **пераламíць**-*млю, пераломіш-ме, перех.*—переломить. *Гбануў і пераламіў.* Нсл. 110(под *гбануць*).

**пераламіла, пераломе,** *безлич.*—невидимая сила сломила. *Каб цябе пераламіла! калі цябе пераломіць.* Нсл. 405. *Багдай цябе пераламіла.* Красновічы Сураск. (С.ержп.: Отчет, 10).

**2.** делать что-л., не обращая ни на что внимания. Нсл. 271. *Ломіць з пляча, ні на што не глядзіць.* Нсл.

**3.** бежать. Нсл. 271. *Ломіць не азіраючыся з усіх ног.* Нсл.

**абломлеваць**-*млюю(-млеваю), несоверш.* —обламывать. Шсл. *Траву ірві ў градах. толькі капусты не абломлевай.* Ст. *Соверш.* **абламíць.**

**наломлеваць**-*люю-люеш-люе,* **1.** надламывать. Нсл. 311. *Наломлеваць, наламіць нож, касу.* Нсл.

**2.** ломить во множестве. *Соверш.* **наламíць**-*млю, наломіш-ме*—надломать, Нсл. 311. надломить, сделать надлом. Гсл. *Соверш.* **наламíць**—наломать во множестве. *Прич.* **наломлены, 1.** надломленный. Нсл. 311. *Наломлены нож.* Нсл. *Асадка наломленая.* Нсл.

**2.** наломленный во множестве.

•**ламíна**-*ны-не,* (Сакуны)—одна часть чего-л. поломанного?

•**ламíцца,** *ламлюся, ломішся, несоверш.* —ломаться. *Соверш.* **абламíцца**—обломится. Ксл. *Ганак абламіўся.* Хмяльнік Беш. (Ксл.). *Соверш.* **адламíцца**—отламаться. *У касы пятка адламілася.* *Соверш.* **наламíцца, 1.** надломиться. Нсл. 311. *См. наломлевацца, 1.*

**2.** быть наломану во множестве.

**наломлевацца**-*лююся, несоверш.* **1.** надламываться. Нсл. 311. *Нож наломлюецца, наламіўся.* Нсл.

**2.** быть ломану во множестве.

•**лантýх**—большой мешок(соляной, напр.) Гсл.

•**лантýх**—живот, внутренности.

•**лантухí**-*хоў, мн. ч.*—внутренности. МГсл.

•**ланьнё**-*ня, предл.-ню, собир., ср.* **1.** связка перемываемого белья. НК: Очерки, 138.

**2.** ворох грязного белья. НК: Очерки, 138. *См. лайно.*

**ланíна**-*ны-не, един. ч. к ланьнё 1, 2.* НК: Очерки 138.

•**ланьня́**-*ні-ні, мн. ч., род.-няў, ж.*—охапка. *Паеду за Дняпро, прывязу чатыры ланьні дроў.* Дсл.

•**ланцýг**-*гà, предл. ланцузè(ланцугý), мн. ч. ланцугі-гоў-гом-гі-гамі-гох, м.*—цепь. Ар.; Растсл.; ПНЗ; Шсл.; Ксл.; МГсл.—железная цепь. Нсл. 264. *Каня важаюць на ланцугу.* Жалудова Лёз. (Ксл.). *Мядзьвядзя водзяць на ланцугу.* Нсл. *Добрага сабаку на ланцугу дзяржаць.* Нсл. *Уменьш.* **ланцужок**-*жкà, предл.-жкý, зват. ланцýжку, мн. ч.-жкі-жкоў-жком-жкі-жкамі-жкох, м.*—цепочка. Ар.; Ксл. *Купіў гадзіньнік із ланцужком.* Ар.

•**ланцýжка**-*жкі-жцы, ж.*—танец, исполняемый одними девицами, сост. из кругообразных фигур. Шсл. *Цяпер няхай музыка паграе нам ланцужку.* Ст.

•**ланцýжнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** злодей, закованный цепью. Шсл.

**2.** (*перен.*) вороватый(нечестный, плутоватый, хитрый, С.) человек. Шсл.

**3.** служит бранью. Шсл. *Гіцаль ты, ланцужнік!* Ст.

•**лап!** *междомет.*—хвать! БГсл.

•**лапонік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—разливная ложка. Ксл. *Лапонік у шапе.* Даргейкі Сян. (Ксл.).

•**ла́па**-*пы, дат., предл.-пе, ж.* **1.** ступня у животных и птиц, лапа. Ар

**2.** *презрит.*—рука. Ар.; Нсл. 264. *Дай яму па лапах.* Нсл. *Не тваімі лапамі гэта рабіць.* Нсл. *І ты сюды лапу сваю ўмачыў.* Тм.

**3.** хвойная ветвь. *Гэтыя аконцы... жудасна з-пад навіслых лап старых ялін і рассахатых галін хвоі.* Лынькоў: Воўчы лог.(Калосьсе, Но. 2, 1935 г, стр. 98).

**ла́пка**-*пкі-пцы,* **1.** лапка, Ар. ножка небольшого животного или небольшой птицы. Нсл. 265. *Гуска лапку адмаразіла.* Нсл. *Кацянё дурэе із сваймі лапкамі.* Ст.

**2.** *дет.*—ручка у детей раннего возраста, примерно колебельных, НК: Игры, Но. 4. ручка. Нсл. 265. *Лапкі зьмерзьлі.* Нсл. *Дай лапкі памыю.* Нсл.

**3.** небольшая еловая или сосновая ветвь, Ар. ветка еловая. Нсл. 265. *Лапак насячы надабе на жыдоўскія будкі.* Нсл. *Лапкамі ўслана дарога.* Тм. *Над ім лёгка калыхаліся хваёвыя лапкі.* Адамчык: Арж. колас. *Пуховы сьняжок так прыгожа вісеў на лапінах хвой.* Цялеш: Дзесяць, 13.

•**лапа́ная,** *в см. сущ.*—картежная игра, в которой меняют карты для составления пар и в которой одна карта должна быть лишняя, беспарная. Оставшегося с нею называют свинкою. Нсл. 265.

•**лапаносы**-*сая-сае*—с приплюснутым носом. Нсл. 265; Ксл. *У яе нос лапаносы, як лапата, хоць хлеб садзі ім у печ.* Сукрэмна Сян. (Ксл.). *Лапаносы чорт.* Нсл.

•**лапаны́**-*ноў-ном, мн. ч., предл.-нох,*(*один ла̀пан*)—взятки. Нсл. 265. *Дастанѐцца табе за твае лапаны.* Нсл.

•**лапа́ны**-*ная-нае*—взятый несправедливо, взятками. Нсл. 265. *Лапанае ня пойдзе на карысьць.* Нсл.

•**лапа́та**-*а̀ты-аце, ж.*—лопата(только для сажания хлеба в печь), Шсл. всякая деревянная лопата. Ар. *Зрабіла букату на ўсю лапату.* Ст. *Мама будзе садзіць хлеб; я прышоў лапаты*(*зн. пазычыць лапаты*). Ар.

**лапатка**-*ткі-тцы,* **1.** *уменьш. к лапата.*

**2.** лопатка — часть тела(плоская, широкая треугольной формы кость в верхней части спины, Ар.) Шсл.; Ар. *Баліць у мяне памеж лапатак.* Ст.

**3.** окорок из лопатки. Шсл. *Лапаткі з парсюка будзем цяпер есьці, а сьцягнякі пасолім.* Ст.

•**лап-ата́ць,**-*ачу̂-очаш-оча, несоверш.* **1.** лепетать, тараторить, Гсл. говорить бойко, резко, неумолчно, бестолково или невнятно, Ар.; Ар.; Вят, Ряз., Твер. (Даль). болтать вздор. Нсл. 271. *Макрына лапатала, лапатала ды раптам змоўкла.* ЗСД 159. *Макрына пачала наіўна лапатаць аб сваім дальшым жыцьцю.* ЗСД 158. *Лапоча, сам ня ведае што, аж слухаць няма чаго.* Нсл. 271. *Не лапачы, бо нічога не разабраць.* Ст. *Што ён лапоча?* Ар. *Соверш.* **адлапата́ць,** *бранн.*—сказать быстро. Дсл. *Адлапатаў пану лекцу.* Дсл. *Соверш.* **залапата́ць**—заболтать. Нсл. *Ён сваё залапатаў.* Нсл. *Залапочаш ты ў мяне інакш.* Тм.

**залапата́цца, залапачуся-почашся,** *несоверш.*—заболтаться, залепетаться. Нсл. 173. *Ах залапатаўся доўга.* Нсл.

**2.** *на каго* (возводить напраслину таким образом, С.), клеветать. Нсл. *Соверш.* **налапата́ць** *на каго.* Нсл. 271. *Ты ўжо налапатала на мяне!* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **лапата́ньне**—*ня, предл.-ню,* **1.** лепетание, болтовня. Нсл. 271. *Цэлае даабедзьдзе ўсе ў лапатаньню праводзіш.* Нсл.

**2.** *на каго*—клеветание. Нсл. 271. *Твайго лапатаньня ніхто не паслухае.* Нсл. *Соверш.* **налапатаць**—*"лапатаць"* некоторое время. *Палапачы яшчэ, пакуль па зубах возьмеш.* Нсл. 462. *Соверш.* **пралапата́ць**—проболтать. Нсл. 524. *Ты сваё пралапатаў, цяпер я сваё скажу.* Нсл. *Соверш.* **пралапатацца** —проболтаться(проговориться, С.) Нсл. 524. *Глядзі не пралапачыся перад панам.* Нсл. *Соверш.* **разлапата́ць**—разболтать о чем-л. тайном(и не тайном, С.) Нсл. 549. *Ён усё разлапоча, што тут дзеялася.* Нсл. *Соверш.* **разлапатацца**—разболтаться(увлечься болтовнёй, Шсл.; Нсл.). *Дужа ты разлапаталася, хоць бы троху памаўчэла.* Нсл. *Сьціхні ты, разлапатаўся на ўсю хату!* Ст. *Соверш.* **узлапата́ць,** *презрит.*—заговорить громко, с жаром. Нсл. 53. *Ці ўжо ізноў узалапатаў?* Нсл. *Соверш.* **узлапата́цца**—разлепетаться, пусититься в неприятный рассказ, Нсл. 53. увлечься болтовнёй. *Нешта ты сядні ўзлапатаўся.* Нсл.

•**лапаткі**-*так*(*одна лапатка*)—молодой, неразвившийся еще струк стручковых растений. Ар. *Віецца пасоля з павіслымі стручкамі-лапаткамі.* Гарэцкі: Песьні 63. *Гарох яшчэ ў лапатках.* Ар.

•**лапатлі́вы**-*вая-вае*—взбалмошный. Ар. *Ведама, наш Вінцук лапатлівы.* Ар.

•**лапатня**-*ні-ні, мн. ч., род.-няў, ж.* **1.** треск от ломки. Нсл. 271. *Якаясь у лесе лапатня чутна.* Нсл.

**2.** пустые, вздорные разговоры. Нсл. 271. *Калі б што добрае гукалі, а то лапатнёй займаецеся.* Нсл.

**3.** (*перен.*)—сплетни. Нсл. 271. *Ат, гэта ўсё лапатня.* Нсл.

•**лапа́тнік**-*іка, предл.-іку, м.*—угол в сенях, в котором стоит лопата, вода и т.п.

•**лапа́тнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—рабочий с лопатой. НК: Под. пос., 34.

•**лапату́ха**-*у̂хі-у̂се, ж.* **1.** болтунья, таранта. Ар., *ж. к лапатун.* Шсл. *Сьціхні ты лапатуха!* Ст.

**2.** лопотящая(дающая звук, треск? С.), выпуклость в косе, происходящая от неумелого клепания. Шсл. *Вось майстра: узяўся кляпаць касу ды нагнаў лапатуху!* Ст.

•**лапату́н**-*уна̀, предл.-уну̂, зват.-у̂не, мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—болтун, таранта. Ар. *Лапоча лапатун гэты.* Ст.

•**лапаце́нь**-*тня, предл.-тню, мн. ч.-тнì-тнёў, мн. ч., предл.-тнёх, м.* **1.** доска в жерновах шириною в 3 верш., один конец которой неподвижно укреплен, а другой может подниматься и опускаться, — расположенная под помостом, в отступе от него вершк. на 6, НК: Очерки 327. часть мельничного постава,мелящая зерна. Вяжышча Беш. (Ксл.).
**2.** говорун, мелящий вздор, нелепости. Нсл. 271. *Лапацень гэты ўсяго нагавора.* Нсл.
**3.** *общ.*—неумолчный болтун,-нья, Нсл. 271. кто лопочет, болтун, таранта. Пск., Твер. (Даль). *Лапацень наша ўзноў залапатала.* Нсл.
•**лапацець,** *лапачу̀-аціш-аціць. несоверш.* **1.** мелко и часто *"лопаць"*—хлопать.
**2.** быстро бежать(о лошадях), Шсл. производить частый стук во время бега. *Ну й лапацяць коні; аж тут чуць!* Ст.
**залапацець,** *соверш.* **1.** начать *"лапацець"*, мелко и часто *"залопаць"*—захлопать.
**2.** быстро побежать(о лошадях), Шсл. часто застучать, побежав. *Коні спудзіліся ды як залапацяць — толькі й бачылі іх!* Ст.
**3.** зашуметь листьями. Дсл. 142. *Залапацела асінка ад ветрыку.* Дсл.
•**ла́паць**-*пця, предл.-пцю, мн. ч.-пці-пцёў, у лапцёх, м.*—лапоть. Ар.; Шсл. *А каля іхных ног у вялікіх лапцёх прымасьціліся два.* Гарэцкі: Песьні 29. *Спалохаўся, што хлапчук у лапцёх, напоўадзеты вёскі сын, у роднай мове ўчыцца змог?* Купала.
**абуць у лапці**—провесть в денежных делах; обманом довести до нищенства. Шсл. *Не абірайце гэтага п'яніцу за старшыню: абуе ён вас у лапці.* Ст. *Абулі мяне ў лапці з гэтым канём.* Доўжа Куз. (Ксл. под *абуць*). *Уменьш.* **ла́пцік**-*іка, предл.-іку, м.*—лапоток. МГсл. *Абуў новыя лапцікі.* Ст.
•**лапе́за**-*зы, общ.*—аляповатый-тая, с широким расплывшимся лицом и особенно носом, Нсл. 265. аляповатый, некрасивый. Гсл. *Во якую лапезу ўзяў за жонку!* Нсл. *Увелич.* **лапе́зішча**-*ча, общ.*—рожа, очень широкое, некрасивое лицо. Нсл. 265. *Лапѐзішча дурное!* Нсл. *Якая лапезішча твая нявестка.* Нсл.
•**лапе́заваты**-*тая-тае — "лапеза"* в меншей степени. *Лапезаваты хлапец, від.* Нсл. *Лапезаватая нявестка.* Нсл. *Лапезаватае дзяцё.* Тм.
•**лапе́зны**-*ная-нае*—аляповатый. Ар. *Нареч.* **лапе́зна**—аляповато. МГсл.
•**лапе́шка**-*юкі, дат., предл. лапѐшчы, ж.*—часть ложки без ручки. Варошчына Куз. (Ксл.).
•**ла́пік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** заплата в одежде и обуви, НК: Очерки 203, Но. 288. заплата, МГсл.; Нсл. 265.( *латка* Растсл.) заплатка, Растсл.; Ксл.; Смл. (Даль); Раст.: Смоленск 149. *Колькі ў цябе лапікаў на спадніку?* Купіна Віц. (Ксл.). *Лапік на лапіку, аголка ня была(галоўка капусты).* Нсл. *Боты з лапікамі.* Тм. *У лапіках ходзіць.* Тм.
**2.** (*перен.*)—часть земли, Нсл. 265. небольшой участок земли. Раст.: Смоленск 151. *На маім лапіку асяліўся.* Нсл. *На гэтым лапіку добра пшонку пасеяць.* Тм. *Апошні лапік няскошанае сенажаці.* ЗСД 140.
**3.** (*перен.*)—часть чего-л., какого-л. пространства. *На небе плылі... хмары, з памеж якіх выглядалі лапікі сьвежасіняга неба.* ЗСД 357. *Конь узьбіўся на чужую пожню і выскуб ужо добры лапік.* Гарэцкі: Песьні 56.
•**лапікла**-*ла, мн. ч.-лы-лаў, ср.* **1.**—*лапік,* Ксл. большая заплатка. Шсл. *Набраў трыма палцамі махоркі, насыпаў на пакамечанае лапікла газэціны.* Дудзіцкі (Бацькаўшчына, Но. 376-377). *Кажух увесь у лапіклах.* Цяпіна Чаш. (Ксл.). *Няма лапікла залапіць порткі.* Ст.
**2.** место, малый участок земли, часть земли. Нсл. 265. *Места так было усеяна ямамі ад бомбаў, што здавалася б, не знайшоў бы меж іх цэлага лапікла, каб можна было сесьці.* Акула 138. *Уменьш.* **лапіклачка**-*ка, ср. Уся зямля была падзеленая на маленькія лапіклачкі, што зелянеліся гароднінаю.* Акула 136.
•**ла́піць I**-*плю-піш-пе, несоверш., перех.*—налагать заплату, заплаты, Растсл.; Гсл.; НК: Очерки, Но. 288.; Нсл. 265. заплатывать, Шсл.; Смл. (Даль) ставить заплаты. Раст.: Смоленск 149. *Маці лапіць сарочку.* Ст. *Адну дзірку лапіць, а другая глядзіць. Послов.* Нсл. *Прич.* **ла́плены, 1.** заплатанный. НК: Очерки, Но. 288; Нсл. 265. *Лапленая сарочка.* Нсл. *Лапленыя локці.* Тм. *Кажух на плячох лаплены.* Вольны.
**2.** о скотине: —пегий. НК: Очерки, Но. 288. *Лаплены конь. Соверш.* **зала́піць,** *што*—заплатать. Нов. Сяло Беш.(Ксл.).; Шсл.; Бясл. *Я залапіла сарочку, можаш надзяваць.* Забалоцьце Расьняе(Бясл.). *Пустым сло̀вам дзірку не залапіш. Послов.* Рапан.: Прык. 153. *Залапіў кажух.* Ст. *Падаруйце палаценцам залапіць каленца.* Просьба старцава, Нсл. *Прич.* **залаплены**—заплатанный. Ксл. *Ён заўсёды ў залапленым ходзе.* Бешанкавічы (Ксл.). *Кравец увесь залаплены.* НК: Очерки 434. *Соверш.* **падла́піць**—несколько заплатать. *Прич.* **падлаплены**—несколько заплатанный. *Той стаяў у падлапленых портках і босы. Соверш.* **пала́піць**—заплатать. Нсл. 265. *Палапіць страху, павець.* Нсл.
**2.** *каго*—обнимать. НК: Очерки, Но. 288.
**аблапіць, 1.** покрыть заплатами. *Прич.* **абла́плены**—покрытый заплатами. Дсл. *Апрані лезучы хату, аблаплены кажушок.* Дсл.
**2.** *аблапіць, каго*—обнять. *Мядзьведзь вось-вось аблапіць.* С. Музыка 190.

•**лапнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—..... *Ратуючыся ад злоснага й дужога сабакі, воўк забіўся пад лапнік густое елкі і адтуль анрызаўся.* Цялеш: Дзесяць 91.

•**лапу́н**-*уна̀, предл.-унѐ, зват.-ѝне, мн. ч.-уны̀-оў-ом-ны-амі-ох, м.*—тонкая, хлебная лепешка, по величине блина, из кислого хлебного теста. НК: Бабы, Но. 9.—ком теста, величиною в кулак, несколько просаливается, распластыватсяя по величине сковороды, на которой и ставится в печь, на подготовленныее уголья. Когда *"лапун"* запекся сверху и снизу, его кладут *"дапякацца"* в печное устье. Толщина *"лапуна"* бывает в пальца два, НК: Очерки 7. вид лепешки. Ксл. *Я зьеў толькі адзін лапун.* Баравыя Куз. (Ксл.).

**пячы лапуны**—бить дитя ладонью по мягкой части тела. НК: Бабы, Но. 9; НК: Очерки, Но. 29.

•**лапурка**-*ркі-рцы, ж.*—ручка у детей раннего возраста, примерно колыбельных. НК: Игры, Но. 4. *Уменьш.* **лапуронка**-*нкі-нцы, ж.*—ручка у детей раннего возраста, примерно колыбельных. НК: Игры, Но. 4.

•**лапча́сты**-*тая-тае*— с большой лапою, лапкою. *Хінучыся адна да аднае зашапацелі лапчастыя.* Змагар: Лесавікі.

•**лапы́рка**-*ркі, дат., предл. лапырцы, ж.*—ложка. Ксл. *Памый лапырку — есьці надабе.* Пушкары Сян. (Ксл.).

•**ласоха**-*охі-осе, ж.*—женщина, любящая лакомства, сластёна, Нсл. 265. лакомка. *Ласоха гэта ўсю сьмятану паела, а нам сыраквашу пакінула.* Нсл.

•**ласонік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—лакомство(сласти, лакомое блюдо, С.) НК: Очерки 36. *Отгл. имя сущ.* **ласаваньне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў, ср. Цераз сваё ласаваньне ласку страціў.* Нсл. 265.

•**ла́саваць**-*сую-суеш-суе, повел.-суй-суйма, несоверш. што або без дап.* **1.**—лакомиться. Ар.; НК: Очерки, Но. 32; Нсл. 265; Гсл.; Смл., Вят., Вост. (Даль). *Вы ласуеце ў дварэ, а мы ў полю галадуем.* Нсл. *Будзе табе ад мамы, што ты ласуеш, паласавала сьмятану — мёд.* Нсл. *Соверш.* **пала́саваць**—полакомиться. Нсл. 265. *См. ласаваць. Соверш.* **прала́савацьт** *што на што*—избережать, истратить на лакомства. Нсл. 524. *Праласуеш грошы на макоўнікі ды пернікі, а хлеба ня будзе за што купіць.* Нсл.

**2.** жадно смотреть. Ск. *Кот глядзіць на мяса й ласуе яго.* Ск.

•**ла́савацца**-*суюся-суешся, несоверш.*—лакомиться. Войш.; Ар. *Соверш.* **пала́савацца**—полакомиться. Ар. *Соверш.* **заласавацца**—чересчур полакомиться. *Еж, бабуся, не заласуйся і двор не запасуйся.* Водзьвінка Імгл.(Косіч 254).

•**ла́сік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—(маленький, С.) лакомка. Нсл. 264. *Ласік маленькі бараначкі любе.* Нсл.

•**ла́сікі**-*каў, единств. ч. нет.*—лакомства, лакомык яства. Нсл. 264. *Усі грошыкі страціў на ласікі.* Нсл. *Ласікаў не пад'ясі.* Нсл.

•**ласі́ньнік**-*іка, предл.—іку, зват.-іча, м.*—камышеобразная трава. НК: Очерки 461.

•**ла́сіца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—небольшое хатное животное семейства куньих с тонким и гибким телом, ласка. *Хто ласіцай стане, таго мышы баяцца будуць. Послов.* Рапан.: Прык. 27. *Ла̀сіца — невялічкая дзярлівая жывёла, належа да радзімы куніцаў.* Тм.

•**ла́сіцца**-*шуся, несоверш. да каго*—ласкаться. Гсл.; Нсл. *Нешта та ласішся да мяне; ці не прасіць чаго хочаш?* Нсл.

•**ла́ска**-*скі-сцы, ж.* **1.** полученное даром. **2.** даровая услуга. *За вашу ласку я ўжо пакажу вам, як людзі кісель із малаком ядуць.* Косіч 229. *Ласка была ў тым, што незнаёмага падарожнага хораша прынялі ў доме.*

**3.** благодать. *Учынюшчы сьнег агню, ласку ўчыні над уметам*(*араб., царквою*) *Магамэда!* Кіт. 116а. (*Бог,* **С.**) *пакрыўца — усіх пакрываю, сваею ласкай умет*(*араб., царкву*) *тваю ўвѐсялю.* Кіт. 122а. *Тут ся наўчаем, іж ня так за нашым стараньням што добрае стаецца, як далёка болей за помаччу Божаю а за ласкаю Яго сьвятою ўсе добрае чынім.* Зізані: Толкование. *Вер, што цераз усеміласьцівую ласку супоўнае дараваньне адзяржыш.* "Малітвы пры сьвятой літургі" 1965 г.(Б. Шляхам, Но. 1-124, стр. 7). *Хто будзе дзяржаці справы твае,* (*Бог,* **С.**) *яму ўчыню ласку Сваю.* Кіт. 120б. *Айцу і матцы яго із ласкі Сваей дасьцьім Пан Бог спасеньне.* Кіт. 2б17. *Стварыцелю, ласкі Тваей жадаю.* Тм. 4а17. *Калі Ты, Пан мой, мне ласкі і помачы Сваей ня ўчыніш, як Тваё адзіноства знаць маю?* Тм. 4б1. *Хто бы быў сам ласкавы, Пан Бог ласку Сваю над нім ўчыніць, а хто не перасьцерагаў ласкі людзкой, той чалавек ласкі Божай ня будзе мець..* Тм. 10б17, 11аа1. *Іса*(*араб., Ісус*) *рэк: Табе няхай ласка Божа будзе, і матка мая!* Кіт. 96а16. *Каб і волю Тваю чулі, каб і ласку Тваю зналі.* НК: Старцы 79.

**4.** милость. Ар.; Нсл. 265; Шсл.; Гсл. *Ласкі твае прасіць ня буду.* Ст. *Як панская ласка!* Нсл. *З ласкі жывець.* Нсл. *З ласкі і за прывільлям караля яго міласьці.* Стт. 1. *Ласка твая, што ўсяго наўчыўся, у жыцьцё, і ў людзей, і ў цябе ўлюбіўся.* Гарун(ст. "Літаньне адзіноцe"). *Мне ж, калі так ваша ласка, чару мёду паднясеце.* Гарун: Шчасьце М. (*Прымаюць плату*) *што ласка будзе.* НК: Пособ.

**5.** доброе расположение(к кому, Гсл.) Нсл. *Ён у ласцы ў пана.* Нсл. *У нашай Парасқі ні гневу, ні ласкі. Послов.* Цішчанка("Беларусь", 1959, Но. 2). *Старшы, Сымановіч, знаў Гаршка яшчэ тады, як ён быў у ласцы ў вархімандрыта.* Дзьве Душы 73.

**убіцца ў ласку**—втереться в расположение. Ар.; Іг.
**6.** взаимное расположение. *У ласцы мяжсобку жывуць.* Нсл. 265. *У ласцы не пераэкывеш.* Тм.
**7.** *употребляют, как безлич. глагол*—угодно. Нсл. 265. *Ласка мая, дам, ня ласка — ня дам.* Нсл.
**8.** одолжение. Гсл.; Ар. *Зрабі ласку, купі абаранак вязку. Поговор.* Дз. *Вялікую ласку зробіш, калі прыдзеш.* Нсл. *Зрабі мне ласку.*
**зрабіць ласку**—сделать одолжение. Ар.; Дз.; МГсл.
**чыніць, учыніць ласку**—сделать одолжение. *Учыні імне ласку.* Нсл. 699.
**калі ласка**—пожалуйста. МГсл.,—сделать милость, милости просим.
**здацца на ласку пераможцы**—сдаться на милость победителя.
**ласкі ўчыненьня, учыненьня ласкі**—благодательствование.
•**ласката́ньне**-*ня, предл.-ню*—щекотание. Нсл. 271. *Ласкатаньням ледзь не задушыў.* Нсл.
•**ласката́ць I**-*чў, ласкочаш-ча, несоверш., перех.*—щекотать. МГсл.; Нсл. 271; Ксл.; Вят. (Даль). *Не ласкачы — памру із сьмеху.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Не ласкачы дзяцё! бачыш, заліваецца ад сьмеху.* Нсл. *См. казытаць. Соверш.* **заласката́ць**—защекотать. Нсл. 173. *Нешта заласкатала пад пахаю.* Нсл. *Да сьмерці можна заласкатаць.* Тм. *Соверш.* **паласката́ць,** *перех.*—пощекотать. Нсл. 462. *Паласкатаць пад пахамі.* Нсл.
•**ласката́ць II**-*аю, (ласкачў-аеш-ае)*—говорить, болтать громко, резко, Нсл. 271. бойко и резко говорить, сокотать, как сорока, пустословить. Вят., Вост. (Даль). *Ласкатай, ласкачы, пакуль па зубах возьмеш.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **ласката́ньне**-*ня, предл.-ню*—резкий, неуместный говор, трескучая болтовня. Нсл. 271. *За ласкатаньням тваім нічога ня чутно.* Нсл. *Соверш.* **заласката́ць, 1.** застрекотать. Нсл. 173.
**2.** (*перен.*)—заговорить резко. Нсл. 173. *Заласкатала, як сарока.* Нсл. *Соверш.* **наласката́цца**—вдоволь наговориться резко. *Ласкатуха нашая ня борзда наласкочыцца.* Нсл. *Соверш.* **наласката́ць**—наговорить, наболтать резко. Нсл. *Яна тут шмат чаго наласкатала.* Нсл. *Соверш.* **паласката́ць**—(резко переговорить, С.), перечислить упреки, недовольствия. Нсл. 462. *Ня ўсё ты яшчэ паласкатала.* Нсл.
•**ласката́цца,** *ласкачўся, ласкочашся, несоверш.*—щекотать других. Нсл. 271. *Не ласкачыся, вельмі ласкочашся.* Нсл.
•**ласкату́ха I**-*ўхі-ўсе, ж.*—щекотуха. Вят., Вост.(Даль).
•**ласкату́ха II**-*ўхі-ўсе, ж.* **1.** болтунья, говорящая громко, резко. Нсл. 271. Вят., Вост.(Даль). *Аглушыла ўсіх ласкатуха гэта.* Нсл.
**2.** бранчивая женщина. Нсл. 271. *Ласкатусе гэтай угамону няма.* Нсл.
•**ласкату́н I**-*унà, предл.-унў, зват.-ўне, мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох. м.*—щекотун.
•**ласкату́н II**-*унà, предл.-унў, зват.-ўне, мн. ч., дат.—ном, мн. ч., предл.-нох. м.*—болтун (говорящий громко, резко, С.) Нсл. 271, трещотка(болтун-нья). *За ласкатуном гэтым не задрэмеш.* Нсл. *Уменьш.* **ласкатунок**-*ункà, предл.-нку, зват.-ўнку, мн. ч., дат.-нком. мн. ч., предл.-нкох*—дитя неумолчно говорящее, щебетливый ребенок. Нсл. *Ой ты ласкатунок маленькі!* Нсл.
•**ласка́васьць**-*ці, ж.*—свойство по знач. прилаг. *"ласкавы"*.
•**ласкаве́ць**-*èю-èш-èе, несоверш.*—укрощаться, делаться снисходительнее, Нсл. становиться ласковее. *Пан ласкавее, паласкавеў. Соверш.* **паласкавець.** Нсл.
•**ласка́вы**-*вая-вае,* **1.** милостивый и благодушный. Ар. *Хто бы... быў сам ласкавы, Пан Бог ласку сваю над ім учыніць.* Кіт. 10б16. *Які ты ласкавы стаў.* Ст.
**2.** оказываемый *"з ласкі"*, т. е. даром, бесплатно. *Ласкавыя памочнікі.* НК: Пособ. 106. *Ласкавая памога.* Тм.
**3.** получаемый *"з ласкі". На ласкавым хлебе жывець.* Нсл.
**4.** принимаемый *"з ласкі". Недалужныя ласкавыя памочнікі.* НК: Пособ., 107. *Ср. ст.* **ласкаўшы.** *Пачакаўшы, будзе Бог ласкаўшы. Послов.* Рапан: Прык. 65. *Нареч.* **ласка́ва.**
•**ла́скі,** *ласак*—ластовицы, вставки под мышкой в рубахе. Раст.: Смоленск 149.
•**ласкучынюшчы,** *-чая*—благодательствующий. *І Іса(араб. Ісус) Я Твой Бог, ведаю і естэм ласкучынюшчы.* Кіт. 95а13.
•**ла́ставічы**-*чаў, мн. ч.*—веснушки. Ксл. *Спораваў гнезды ластавак, дык ластавічы на абліччу.* Лужасна Куз. (Ксл.). *См. рабаценьне,-ціньне.*
•**ла́стаўка**-*кі, дат., предл. ластаўцы, ж.* **1.** ласточка. Ар.; Шсл.; Рудня Аз. (Ксл.).; МГсл. *Ластаўкі лётаюць нізка: мусіць будзе дожджс.* Ст.
**ластавянё**-*няці, мн. ч.-няты, ср.*—птенец ласточки. *Наслухалася няўрымсьлівых ластавянят.* Е. Лось: Дома.
**2.** вставной треугольный кусок материи в брюках. Ксл. *Шый нагавіцы з ластаўкай.* Купіна Віц. (Ксл.).
•**ласу́ха**-*ўхі-ўсе, ж.*—женщина лакомка. Шсл.; Ар.; МГсл. *Ласуха гэтая адна выпіла ўсё малако.* Ст.
•**ласу́н**-*нà-нў, зват. ласўне, мн. ч.-ны-ноў-ном-ноў-намі-нох, м.*—лакомка(мужчина). Ар.; Стралкі Беш. (Ксл.); Шсл.; Смл., Рск. (Даль); МГсл.; НК: Очерки, Но, 32; Нсл. 265. *Я ведаю: на сыр ты ласун.* Ст. *Ласун гэты праласаваў на пірагі свае грошы.* Нсл

*Уменьш.* **ласунок**-*нка̀, предл.-нку̀, зват. ласу́нку, мн. ч., дат.-нком, мн. ч., предл.-нкох, м.*—маленький лакомка. Нсл. 265; Ар. *Ласунок гэты маселца любе.* Нсл. *Сынок у мяне вялікі ласунок.* Падлазьнікі Куз. (Ксл.).

•**ласунок**—*см. под ласун.*

•**ласу́нак**-*нку*—лакомый предмет, лакомство. НК: Очерки, Но. 32; Ар.; НК: Пособ., Но. 27.

•**ласы**-*сая-сае,* **1.** (доставляющий вкусовое наслаждение, **С.**), лакомый. Ар.; Косіч 53, Растсл.; НК: Очерки, Но. 32.

**ласы кавалак**—лакомый кусочек, вкусное кушание. НК: Бабы, Но. 16.

**2.** падкий до чего-л.(имеющий особое пристрастие к чему-л., **С.**) ПНЗ, лакомый, говоря о лице, охочий к лакомству. Нсл. 265; Смл.; Ст.; Ар. *Нареч.* **ля́са**—лакомо. Ар.; Шсл. *Кот вельма ласа пазірае на сала.* Ст.

•**ласько**-*ка̀, предл.-ку̀, мн. ч.-кі-коу́-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—(мужчина, **С.**) лакомка. Нсл. 265. *Ласько на пірагі, на гарэлачку зь мёдам.* Нсл.

•**ласьціць,** *ла̀шчу-чыш-ча—лашчыць 2. Вецер урваўся празь весьніцы, ласьцячы вуха шапнуў.* Жылка 28.

•**ля́шчыць**-*чу-чыш-ча, несоверш., перех.* **1.** делать кого-л. ласковым к себе. Нсл. 266.

**2.** ласкать(проявлять нежность, любов, оказывать ласку кому-л., **С.**) Нсл. 266; МГсл.; Ар. *Як ні лашч яго, нічым ня ўлашчыш: ён усё ў вір глядзіць.* Нсл. *Ката лашчым, а ён капцюры выпушчае. Послов.* Нсл. *Дзеці лашчаць сабаку.* Ар. *Колькі часінаў ён глядзеў на яе здалеку, праняты бязьмерным жалям, лашчыў яе ціхім, поўным адданай пяшчоты пагля-дам.* ЗСД 170. *Соверш.* **абла́шчыць**—обласкать. Дсл. *Паня дзяцё аблашчыла.* Дсл. *Прич.* **аблашчаны.** Дсл. *Пайшоў ад пані аблашчаны.* Дсл.

**залашча́ць**-*да̀ю-а̀еш-а̀е, несоверш.*—умилостивлять. *Ср. улашча̀ць. Соверш.* **зала́шчыць**-*чу-чыш-ча, перех.*—умилостивить оскорбенного. Нсл. 172. БНсл. *Яго нічым не залашчыш.* Нсл. *Прич.* **зала́шчаны**—ласками и угождениями, склоненный к прощению обиды. Нсл. 172. *Залашчаны бацька, пан.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **зала́шчаньне**-*ня, предл.-ню*—умилостивление. *Соверш.* **палашчыць,** *перех.*—поласкать. Нсл. 460. *Ня хочаш, каб я палашчыў цябе, пажалеў.* ЗСД 328. *Палашчы дзяцё.* Нсл. *Соверш.* **прылашчыць**—приласкать. Растсл.; ПНЗ; МГсл.; Раст.: Северск. 149; Шсл.; Нсл. *Плаксуна гэтага нічым ня прылашчыш.* Нсл. *Ні разу ня прылашчыш ты дзяцяці.* Нсл. *Прылашчыў сабаку, — і ня брэша.* Ст.

**3.** ласкать, доставлять кому, чему-л. приятное ощущение.

**4.** быть лестну. *Перавозьнік Саўка любіў Лясьніцкага. Можа лашчыла старое сэрца думка, што вось асьвячоны дзяцюк, а ня чураецца яго.* ЗСД 107.

**улашча́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, повел.-а̀й-а̀йма, несоверш. к улашчыць, перех. Не кажы нічога, сынку, адно сілкуйся аладкамі, улашчала маці.* Цэлеш: Ярылаў агонь. *Соверш.* **улашчыць, 1.** привести ласками в хорошее расположение духа после гнева или ярости(неприятности, **С.**) Нсл. 656. *І медзьвядзя ўлашчыць можна.* Нсл. *Улашчыць пана.* Нсл.

**2.** умилостивить. Імсь. *Прич.* **ула́шчаны, 1.** приведенный в ласковое расположение духа после гнева или досады(неприятности, **С.**) Нсл. 656. *Улашчанае дзяцё.* Нсл.

**2.** умилостивленный.

•**ля́шчыцца**-*чуся-чышся, несоверш.*—ласкаться, МГсл. ласкаться, показывать ласку. Нсл. 266. *Кот лашчыцца, прылашчыўся да мяне.* Нсл. *Сабака лашчыцца* (Ар.) *да чалавека.* Ст. *Стала паня лашчыцца да дзяцюкоў.* Лыньскоў: Воўчы лог(Калосьсе, Но. 2, 1935 г., стр. 97). *Соверш.* **падлашчыцца**—приласкаться. *"Вазьмі падлашчыся да маткі, адкрадзі ключ і мяне выпусьці", сказала птушка.* Н.(Афанасьев: Сказки I, 1913, 209). *Соверш.* **пала́шчыцца, 1.** поласкаться, ласкаться некоторое время.

**2.** помириться. Ксл. *Мікола з Апанасам палашчыліся і цяпер жывуць дружна.* Вейна Сян.(Ксл.).

**3.** сделаться снисходительнее. Нсл. *Пан палашчыцца, даець жыта на сяўбу.* Нсл. *Соверш.* **прылашчыцца**—приласкаться. Ар.; Нсл. 503. *Ня ўмееш ты да яго прылашчыцца.* Нсл. *Прылашчыўся да яе, забраў грошы ды ўцёк сам.* Ст.

**злашчавацца**-*чуюся-чуешся, несоверш.*—делаться ласковее, милостивее. Нсл. 208. *Пан трохі злашчаваецца, злашчыўся: не такі злы, як быў.* Нсл. *Соверш.* **злашчыцца.** Нсл. 208.

**улашча́цца**-*а̀юся-а̀ешся, повел.-а̀йся-а̀ймася, возвр., несоверш. к улашчыцца*—умилостивляться. *Соверш.* **ула́шчыцца**-*чуся-чышся, возвр. Бацька ўлашчыцца, дасьць грошы на пояс.* Нсл. 652.

•**латока**-*кі, дат., предл. латоццы, ж.*—низина. Ксл. *Мы выкасілі латоку.* Беш. (Ксл.). *Сярод гор латока.* Вішкавічы Чаш. (Ксл.).

•**латоцьце, латаць**—*см. под лотаць.*

•**ля́та**-*ты, ж.*—жердь, Растсл. жердь крыши, НК: Очерки 251. длинная жердь, перекладываемая в горизонтальном направлении поперек стропил.(, т. е., **С.** решетина для зарешечивания крыши поверх стропил). Ксл., длинная решетина. Нсл. 265. *Надабе купіць жэрдзя на латы.* Хацімшчына Куз. (Ксл.). *Купіць хату пад латы.* Нсл. **лаціна**-*ны, ж., един к лата*—решетина. Лужасна Куз. (Ксл.); Шсл. *Не стаець аднае лаціны на хлеў.* Ст.

•**лата́к**-*ака̀, предл.-аку̀, зват.-а̀ча, мн. ч.-кі-коу́-ком-кі-камі-кох, м.* **1.** *улицы,*—водосточная канава.

**2.** *на поле, луге,* — осушительная канава.
**3.** водосточная труба.

**латак цур'я**—рытвина. *Уменьш.* **латачок**-*чка̀, мн. ч., дат.-чком, мн. ч., предл.-чкох, м.*—желоб, длина которого колеблется между 1 и 8 верш. С одного конца желоб имеет вершковый цилиндр, стесанный в усеченный конус и по длине просверленный насквозь: этим концом *"латачок"* вгоняется в просверленную дыру весенного дерева. Остальная часть его(он же *"язычок"*), соструганная до плахи, имеет чистый вид желоба с двума нарезками на конце, чтобы удерживать *"пачопку"* от привешенной на *"латачок"* посудины. НК: Очерки, Но. 386.

•**латашыць I**-*шу̀, латошыш-ша, несоверш., перех.* **1.** жестоко, немилосердно рвать овощи, фрукты. Ар. *Забраўся ў садок ды давай латашыць яблыкі.* Ст. *Ср. ганашыць. Соверш.* **налаташыць,** *чаго*—много и жестоко нарвать фруктов, овощей. Ар. *Вось налаташылі яблыкаў!* Ар.
**2.** делать жестокую потраву. *Коні вунь латошаць грады.* Ст.

**залаташы̍ць**-*шу̀, залатошыш-ша, соверш., перех.* а) порвать фрукты, овощи. Ар. б) сделать жестокую потраву. *Жартачкі: гэтак грады златошаны — нічога не парасьце.* Ст. *Пастух статкам златашыў усю грэчку.* Ст.
**3.** колотить ногами. Шсл. *Латошыць пад сталом нагамі, як дурань.* Ст.

•**латашы̍ць II** *страху, несоверш.*—покрывать *"латамі"* решетинами. *См. златашыць страху. Соверш.* **златашыць страху** —покрыть *"латамі"*. Уваравічы Гом.(Наш Край, 1928, Но. 11, стр. 43).

•**лататы̍, латата́**—бегство, бег, при котором высоко поднимаются и широко раскидываются ноги, при чем слышится звонкое шлепание ступней. НК: Сбяги. Но. 19.

**лататы зада́ць**—быстро удрать. Шсл. *Як задаў лататы — толькі й бачылі.* Ст.

•**лата́ць,** *мн. ч. латаці—см. под лотаць.*

•**ла́тка**-*кі, дат., предл. ла̀тцы, ж.* НК: Очерки 78; Сьвярдлы Беш.(Ксл.). *"Латка"* встречается наровне с большими горшками и, подобно им, от ведерной вместимости доходит до ёмкости питейного ковша. Главным образом в *"латцы"* пражуцца й тушацца розныя пячысты, ечны, пражаніны. НК: Очерки, 78.,—большая миска, Растсл. широкий, развалистый сосуд по форме тарелки, блюдо. *У латцы прагуць пражаніну.* Сьвярдлы Беш. (Ксл.). *Бульба з баранінай у латцы.* Косіч 53. *Налі мне ў латку крупені.* Вароньві Сір. (Ксл.). *Уменьш.* **лату̍шка**-*кі, дат., предл. латушцы, ж.* **1.** тоже, что *"латка"*, но менших размеров, Ар. миска, Глебаўск Сян. (Ксл.) глинянная мисочка с краями вогнутыми внутрь. Шсл. *Прымі ты латушку із столу.* Глебаўск Сян. (Ксл.). *Налі ў латушку сырокквашы.* Клятное Пух. Шсл.).
**2.** нижная вьюшка, металлический диск, которым закрывается дымоход и поверх которого накладывается вьюшка. Ксл. *Латушка закінулася, дык пераз адну юшку дух выходзе.* Аляксандрава Гар. (Ксл.).

•**ла́тва,** *нареч.*—легко(не трудно, С.), хорошо. Гсл. *Ср. ст.* **лацьвей**—легче, приятнее, Гсл. лучше. Гсл.; Сянно (Ксл.); Шсл. *Лацьвей табе: табе сыны памогуць.* Ст. *Лацьвей, калі дасьпех у ўсіх справах.* Пятніцкая Беш. (Ксл.).

•**Латва́**-*вы̀, ж.* **1.** одна из станций железн. дороги в б. Могилевской губ. *30-га жніўня Аршанскі рэволюцыйны аддзел займае станцы Воршу, Шклоў а Латву.* Документы и материалы по ист. Белоруссии, ІУ. У Менску 1954, б. 105.
**2.** Латвия.

•**латунок**-*нка̀, предл.-нку̀, зват. лату̀нку, мн. ч., дат.-нком, мн. ч., предл.-нкох, м.*—вид кафтана. Ксл. *Надзявай свой латунок ды бяжы барждж*э*й.* Вяжышча Беш. (Ксл.).

•**латушка**—*см. под латка.*

•**латушні̍к**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —картофельная бабка. Шсл. *Ужо сьпёкся латушнік.* Крамяні Пух. (Шсл.).

•**ла́ва**-*вы-ве, мн. ч., род. лаваў, ж.* **1.** скамья, Гсл. длинная(непереносная, Ар.) скамья. Ар.; Шсл. *Я сядні на лаве лягу спаць.* Сташчча Чаш. (Ксл.).

**лаўка**-*кі, дат., предл. лаўцы, ж.* **1.** *уменьш. к лава, 1.* Ар.; МГсл. *Дзеці бегаюць па лаўцы.* Ст.
**2.** скамейка(класная, в церкви, Ар.) Абрэзкава Сян. (Ксл.). *Уменьш.* **ла́вачка**-*чкі-чцы*—скамеечка. Гсл.
**2.** полоса луга. Ар.; Вішнева Вал. *Заняў лаву сенажаці.* Ар.

•**лаві̍ць,** *лаўлю, ловіш-ве, несоверш., перех.* —ловить. Ар. *Соверш.* **злаві̍ць**—поймать, изловить. *Прич.* **злоўлены**—пойманный, изловленный. *Соверш.* **улавіць,** *перех.* —поймать. Ксл. *Я ўлавіў у жыце зайца.* Кураеды Беш. (Ксл.). *Хлопцам надабе даць перайма, што каня ўлавілі.* Ст.(Шсл. под *перайма*).

•**лаўба́**-*бы̀, дат., предл.-бѐ, ж.*—лов, ловля. Гатавічы ля воз. Нарачча. *Лаўба ўдалася — шмат рыбы налавілі.* Гатавічы. *Лаўба рыбы.* Тм.

•**лаўкі,** *лавак(лаўкаў), одна лаўка,* **1.** ряд поставленных снопов ярового хлеба, так, что каждые три снопа накрыты горизонтально четвертым.,
**2.** в колодези, *единств. ч. нет. — іскрыня 2.*
**3.**—*см. под лава 1.*

•**лаўні̍к**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—член суда, Гсл. член городского совета, седевший в старину во время заседания на скамье - *"лаве"*.

•**лаўні̍к**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—помощник войта(во время крепостничества), заступник его во всех случаях. НК: Под. пос. 57.

●**лаці́на**-*ны-не, ж.*—латинский язык, Нсл. 266. латынь. *Моцны ў лаціне, так і чэша па лаціне.* Нсл. *І без лаціны жывуць на сьвеце.* *Поговор.* Нсл.

●**лацініца**-*цы-цы, ж.*—латинский алфавит. Тарашкевіч, Б.: Б. граматыка, Вільня 1929 г., 49.

●**лацінскі**-*кая-кае*—латинский. Ар.

●**лаці́ньнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** знающий хорошо латинский язык. Нсл., латинист. *Такога лаціньніка, як ён, цяжка знайсьці.* Нсл.

**2.** католик латинского обряда, римо-католик.

●**лаціньніца**-*цы-цы, ж. к лаціньнік 1, 2.*

●**ла́ціць,** *лачу, лаціш-це, несоверш., перех.* —прибивать *"латы".* Хацімшчына Куз. (Ксл.); Шсл. *Ужо канчаюць лаціць пуню.* Ст.

●**лацня́ць**-*я́ю-я́еш-я́е, несоверш.*—находить способы сделать какое-л. дело наилучшим образом; обдумывать, изобрести лучший способ. Дсл. *Ня ведаю, Спадару: лацняйце як лепі, — вам відаць лепі.* Дсл. *Валяецца, як ашмётак, хвароба яго скарэжыла — як ашмётак лацняе, ідзе сесьці.* Дсл.(под *ашмётак*).

●**ла́цьвіна**-*ны-нге, ж.*—толстая жердь. Растсл.; ПНЗ.

●**лацьвей,** *нареч.*—легче. Дсборник ІУ, 180.

●**лацьвіць**-*вю-віш-ве, несоверш.*—облегчать. МГсл. *Соверш.* **палацьвіць**—облегчить. *Отгл. имя сущ.* **палацьвеньне**-*няню*—облегчение. МГсл.

●**лачба́н**-*на́, зват.-не, мн. ч.-ны-ноў-номны-намі-нох, м.*—кувшин. Ксл. *У лачбане квас.* Даўгое Беш. (Ксл.).

●**лэмзар,** *рэдка* **ле́мзар**-*ра, предл. и зват.-ру. м.*—пустомеля, словам которого неможно придавать значения. Войш.

●**лэпаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—хлопать. Нсл. 274. *За што ты яго лэпаеш?* Нсл. *Однократ.* **лэпнуць**—хлопнуть. Нсл. 274. *Лэпні яго па лысіне.* Нсл. *Соверш.* **залэпаць** —ухлопать, убить. Нсл. 173.

●**ле́бедзь**-*дзя, предл. и зват.-дзю, мн. ч.-дзідзяў-дзям-дзі, м.* **1.** лебедь. Нсл. 266. *У нашага пана лебедзі вядуцца.* Нсл.

**2.** говорится к мужчине, попавшемуся под ответственность приятель. Нсл. 266. *Цяпер ты, лебедзю, у маіх руках.* Нсл.

**ле́бедзік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** *уменьш. к лебедзь* . Нсл. 266. *Дзедзік мой лебедзік.* Нсл.

**2.** *ласкат.*—голубчик. Нсл. 266.

**ле́бедзічак**-*чка, предл. и зват.-чку, уменьш. к лебедзік 2.*—голубчик. Нсл. 266. *Дай, лебедзічку, табакі.* Нсл.

**лябедзька**-*дзькі, предл. и зват.-дзьку, ласкат. к лебедзь.*—голубчик, (иногда, С.) говоря с угрозою. Нсл. 266. *Злаўлю я цябе, лебедзьку.* Нсл.

**ляюе́дзюхна**-*ны, общ. к лебедзь,*—лебедок, лебёдушка. Нсл. 266. *Ах ты мая лябедзюхна.* Нсл. *Дзедзюхна, мой лябедзюхна.* Нсл.

**лебедзянё**-*няці, мн. ч.-няты*—птенец лебедя, лебедёнок. Ар.

●**лебях**-*ху, предл.-ху, зват. лебяша, м.*—ругательство. ПНЗ. *Ср. ля́бех.*

●**легкадумнасьць**-*ці, ж.*—легкомысленность, Шсл. легкомыслие.

●**легкадумны,** *-ная-нае*—легкомысленный. МГсл.

●**ле́гчаць**-*аю-аеш-ае,* **лягчэць**-*эю-эеш-эе,* (Ар.; Нсл. 266) **1.** уменьшаться, относительно веса. Ар. *Як старэю, дык лягчэю.*

**2.** становиться легче. Ар.; Нсл. 266. *Работа лягчэе.* Нсл.

**3.** уменьшаться в силе проявления, слабеть. *Надвор'е лягчэе.* Нсл. 266.

**палягчэць,** *соверш. к лягчэць 1, 2, 3.* Нсл. 266; Ар. *Як дровы высахлі, дык палягчэлі. Работа палягчэла.* Нсл. *Палягчэла жыць, дык і весялей стала.* Ст. *Надвор'е палягчэла.* Нсл.

**ле́гчае, палегчала, 1.** делается(стало, С.) легче. Нсл. 266. *Легчае, палегчала на сэрцу.* Нсл.

**2.** становиться(стало, С.) слабее. *Легчае, палягчэла на дварэ.* Нсл. 266.

●**ле́гчы,** *ля́гу, ля́жаш-жа, повел. ляж, ляжма, соверш.*—лечь. Ар.; МГсл. *Соверш.* **зьлегчы,** *зьля́гу, зьляжаш-жа*—заболеть, лечь в постель; серьезно заболеть; слечь. *Мой бацька ў атрушні злыбяды за волю зьлёг — жыцьцё аддаў.* Салавей: Сіла 35. *Соверш.* **пале́гчы,** *палягуць,* **1.** лечь (многим). *Усе спаць палеглі.* Ар.

**2.** *о растениях,*—пригнуться стеблями к земле, полечь. Ар. *Палягла яра пшонка на пяску.* Навасёлкі Стдуб.(Косіч 249). *Палягла канюшына.* Ар.

**аблегчы,** *абляжа, аблягуць; прош. вр. аблёг-ляглà,лягло-ляглі, соверш.* **1.** облечь, расположиться вокруг чего-л.

**2.** *перех.*—осадить. *Баяра вароты аблеглі, пасыпалі золата на зямлі, хочуць цьсьцёў двор ізваяваці, ды яго дачухну забраці.* Из свад. песни. Нсл. 740.

**3.** *1-ое лицо аблягу, 2-ое абляжаш; мн. ч. абляжам, абляжаце*—заболеть, слечь. *Аблягла мая гаспадыня.* Ст. *Несоверш.* **абляга́ць**-*а́ю-а́еш-а́е каго, што*—осаждать. *Аб'ежчыкі аблягаюць нас, гарэлкі хочуць іскаць, ці не вязем да места.* Нсл. 740.

**аблегчыся,** *соверш.*—облокотиться. Гсл.; Ар.; Бясл. *Аблёгся на руку, дый задумаўся.* Брылёўка Краснап. (Бясл.). *Прич. прош. вр.* **аблёгшыся**—облокотясь. Ар. *Несоверш.* **абляга́цца**-*а́юся-а́ешся, повел.-а́йся-а́ймася на каго, на што,* **1.** опираться локтями, облокачиваться. Нсл. 348.; Гсл.; МГсл.; Дсл. *Отгл. имя сущ.* **абляга́ньне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў*—облокачивание. Гсл.; Нсл. 347; Дсл. *Не адвыкнеш ніяк ад абляганьня.* Дсл. *За тваім абляганьням на стол і другому прыступіцца да столу ня можна.* Нсл. *Ня хараша сядзіш, аблягаючыся на стол.* Нсл. *Не аблягайся*

•**магнэз**-*эзу, предл. и зват.-эе,* (Гсл.), **магнэс**-*эсу, предл. и зват.-эсе* (Ар.; Шсл.; Нсл. 277; Ксл.)—магнит. Ар.; Гсл.; Кляшчыно Беш. (Ксл.). *Як магнэсам цягне яго туды.* Ст. *Магнэс цягнець.* Нсл.

•**магнэзавáць**-*зýю-зýеш-зýе, повел.-зýй-зýйма, несоверш., перех.*—магнитизировать. Гсл.

•**магнэс,**—*см. под магнэз.*

•**магутнасьць**-*ці, ж.*—могущество. Гсл.

•**магýтны,** *-ная-нае*—могущественный. Гсл.; Ксл. *Лес магутны, рака шырокая плачуць.* Іванова Куз. (Ксл.). *Магутны жыхар.* НК.: Пособ., 94. *Нареч.* **магýтна**—могущественно.

•**магучы**-*чая-чае,* **1.** могучий.

**2.** мощный, могущественный, имеющий власть. Нсл. 287. *Ты магучы нас і пакараць і памілаваць.* Нсл. *Бог магучшы за ўсіх.* Нсл.

**3.** богатый. Нсл. 287. *Ён магучы мужычок.* Нсл. *Нареч.* **магуча, а)** сильно. Нсл. 287. *Магуча паціснуў.* Нсл. **б)** много. Нсл. 287. *Магуча ты сядні пацягнуў.* Нсл. **в)** богато. Нсл. 287. *Жывець магуча.* Нсл.

•**магчы́,** *магý, можаш, можа, несоверш.* **1.** мочь. Ар.; Шсл.; Гсл. *Калі буду магчы, дык зраблю.* Ст.

**2.** *3-ее лицо ед. числа наст. вр.* **можа,**—может быть. Ар.; Растсл.; Шсл.; Нсл. 287; Ксл. *Можа на двое варожа. Послов.* (Ляцкі, 21). *Можа ты маніш.* Нсл. *А можа й так пройдзе.* Нсл. *Пагляджу, а можа й мала будзе.* Чараўкі Сян. (Ксл.). *Выгартаюць жар (можа дзе галавешка, каб не закурылася).* Горадна (Полесье, 182). *Хочаце можа, Ігнаце, пагрэцца.* Гарун: Варажба.

*Отгл. имя сущ.* **мажэньне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў, ср.*—возможность, сила. Нсл. 287. *Мажэньня няма.* Нсл.

.**падмагáць**-*дю-деш-де, повел.-дй-дйма, несоверш., каму*—пособлять, Нсл. 444. помогать. *Падмагайце, пажажыце коням на гару ўзьвезьці вазы.* Нсл. *Соверш.* **падмагчы.** Нсл. 444.

•**магчы́ма,** *нареч.*—возможно, допустимо. Гсл.

•**магчы́мы**-*мая-мае*—возможный, допустимый, могущий быть.

•**магчымасьць**-*ці, ж.*—возможность. Гсл.; Ксл. *Якая тут магчымасьць, ні каня, ні кароўкі?* Дубнікі Сян. (Ксл.). *Пралетарыяту пастаноў СНК...стварае яшчэ большыя магчымасьці.* Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапісу блр. мовы. В Минске, 1934 г., стр. 9.

•**мах**—миг. МГсл.

•**мах,** *междометие*: означает мгновенное движение, вместо *махнуў.* Нсл. 283.

•**маховы**-*авя-вае*—моховой. *Маховы дыван.* ЗСД. 80.

•**махала**-*ла, мн. ч.-лы-лаў, ср.* **1.** ветвь или хворостинка для отогнания животных, Нсл. 282. предмет для отмахивания. Шсл. *Адганяй махалам куры, гусі, вароны, сьвіньні.* Нсл. *І махалам ад іх не адмахаешся.* Нсл. *Вось жа куры лезуць у грады: хоць ты махалам на іх махай.* Ст.

**2.** маятник. МГсл.

•**махам,** *нареч.*—мгновенно. МГсл. *Яны махам крутнуліся ў бок.* Дзьве Душы, 92.

•**махáнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—механик.

•**махавікі́**(*один* **махаві́к**)-*коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—грибы, растущие на моху, поросшем сосняком, НК.: Очерки, 30, Но. 65. грибы, отличающиеся от *"масьлякоў"* лишь тем, что имеют табачный покров и растут на болотинах, хотя и в соседстве с болотными соснами. НК.: Очерки, 473.

•**махавы́ сажань**—довольно неточная мера. Если иметь в виду расстояние между растянутыми в сторону руками возрастного человека, по концы пальцев, то сажень едва будет доходить до 2 и 2 арш. НК.: Очерки, Но. 930.

•**махáць**-*аю-аеш-де, повел.-дй-дйма чым, несоверш.* **1.** делать движения, взмахи по воздуху, махать. Ар.

**2.** махая чем-л., давать знак. Нсл. *Пан палкаю махае, сварыцца, што мы ў гаросе сядзім.* Нсл. *Соверш.* **замахáць**—начать *"махаць".*

**3.** итти скоро, бежать. Нсл. *Як ты борзда махаеш, з табою іці ня справішся.* Нсл.

**махнýць**-*нý-нёш-нёць-нём-ніцё,* **а)** *однкр. к махаць 3.* Нсл. 282. *Махнуў, аж пыл падняўся.* Нсл.

**б)** *перех.*—наскоро выслать. Нсл. 282. *Махні яго куды-колечы дні на два.* Нсл. *Махні каня свайго назад.* Тм. *Соверш.* **абмахáць** *што*—оббежать, скоро обойти. Нсл. *Абмахаў усю аколіцу, пакуль даіскаўся.* Нсл. *Усі сёлы абмахаў.* Нсл.

**4.** *што,*—скоро делать. Нсл. *Не па нашаму ты махаеш сваю работу.* Нсл.

**5.** мотать(нерасчетливо тратить, **С.**). Нсл. 282. *Соверш.* **размахаць.** Нсл. *Махае, размахае бацькава дабро.* Нсл.

**6.** врать. Нсл. 382. *Нашто табе махаць, калі гэта ня праўда?* Нсл. *Соверш.* **змахнýць** *-нý-нёш-нёць-нём-ніце*—соврать. Нсл. *Ты заўсёды махаеш, змахнеш.* Нсл. *Соверш.* **падмахнýць, 1.** надуть, обмануть. Нсл. 443. *Падмахнуў мяне Жыд на мерцы.* Нсл.

**2.** своровать. Нсл. 443. *Ты ўжо тут падмахнуў нешта.* Нсл.

**абмáхаваць**-*хую-хуеш-хуе каго, несоверш.*—обманывать. Нсл. 349. *Таргачы абмахуюць нашага брата часта.* Нсл. *Однкр.* **абмахнýць**-*нý-нёш-нёць-нём-нiцè, каго*—обмануть, Нсл. 349. надуть, поддеть. Гсл. *Ты мяне ня раз абмахнуў, ды цяпер не абмахнеш.* Нсл. *Вы ж мяне абмахнулі, за добры жупан далі дзіравую сьвітку.* Гсл.

**адмахáць, 1.** наскоро или быстро исполнить работу. *Бач колькі лугу абмахалі.* Дсл.

**2.** о быстром движении, быстрой езде. Дсл. *Адмахалі вёрстаў сто.* Дсл. *Я сядні абмахаў дваццаць вёрстаў.* Вейна Сян. (Ксл.).

●**махацца**-*аюся-аешся*, **1.** шататься. Нсл. *Махаюся патроху.* Нсл. *Однкр.* **махнуцца**-*нуся-нешся-нецца-немся-нiцеся.* Нсл. 282. *Ён тут махнуўся, што-колечы падмахнуў.*
**2.** тереться. Нсл. *Чаго ты тут махаешся?* Нсл.
**3.** обороняться(отмахиваться, С.). Нсл. *Соверш.* **адмахацца.** Нсл. **1.** отбиться. Дсл. *Махалам махайся не адмахаешся ад iх.* Нсл. *Пшчолы як уязьвiлiсь — нiяк не адмахаешся — хоць у ваду лезь.* Дсл.
**2.** устать после сильной физической работы, притомиться от старости. Дсл. *Адмахалiся ручанькi, стамавалiся ножанькi, псюк пад каменкамi кусае.* Дсл. *Соверш.* **замахацца, 1.** заколыхаться. Нсл. 174. *Галiны на дзерве замахалiся.* Нсл.
**2.** утрудиться, устать. Нсл. 174. *Замахацца на рабоце.* Нсл. *Соверш.* **замахнуцца**—сделать движение рукой с целью ударить. Дсл. *Соверш.* **падмахнуцца**-*нуся-нешся-нецца-немся-нiцеся, соверш.*—ошибиться, обмануться по скорости. Нсл. 443. *Падмахнуўся, перадаў троху за каня.* Нсл.
**абмахавацца**-*хуюся-хуешся, повел.-хуйся-хуймася, несоверш.* **1.** махать мимо, не впопад. Нсл. 349. *Абмахуешся каторы раз.* Нсл.
**2.** ошибаться в счете или расчете. Нсл. *З таргачамi заўсёды абмахуешся.* Нсл. *Соверш.* **абмахнуцца, 1.** промахнуться. Гсл.; Ксл.; Юрсл. *Ага абмахнуўся, хацеў удырыць, але ня лучыў.* Нсл.
**2.** ошибиться(в счете или расчете, Нсл.) Гсл.; Ксл.; Юрсл. *На гэтым ён абмахнуўся.* Жабяньцяi Сур. (Ксл.). *Як табе памагала абмахнуцца?* Нсл. *Здаецца й глядзелi — i абмахнулiся: купiлi кульгавага падсьвiначка.* Юрсл.
**3.** попасть в просок. Гсл.
●**махiр**-*ра, предл. и зват.-ру, м.*—пройдоха, мошенник, ловкач. НК.: Подпос, Но. 42.
●**махлярства**-*ва, предл.-ве, ср.*—плутовство, МГсл. плутовство, мошенничество. Ар.; Мiх.
●**махляваты**-*тая-тае*—плутоватый. Нсл. 282. *Махляваты дзяцюк.* Нсл. *Махляватая дзеўка.* Нсл. *Махляватая справа.* Нсл.
●**махляваць**-*люю-люеш-люе, повел.-люйлюйма, несоверш.*—плутовать. Нсл. 282; Ар.; Ксл.; Шсл.; Ряз. (Даль.). *Ча ты махлюеш iмне, быць я табе паверу?* Марцiнкава Куз. (Ксл.). *Няма чаго махляваць: колькi старгавалiся, дык i плацi.* Ст. *Не махлюй!* Нсл. *Махлюеш, кажы праўду.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **махляваньне**-*ня, предл.-ню*—плутовские извороты. Нсл. 282. *Пакiнь махляваньне, а прызнайся валей у ўсiм.* Нсл. *Соверш.* **змахляваць**—сплутовать, смошенничать. *Змахляваў такi ён iмне рубля.* Ст.
●**махляр**-*ра, предл.-ру, зват.-ру, мн. ч.-ры-роў-ром-роў-рамi-рох, м.*—плут, Ар.; Шсл.; Нсл. 282. мошенник. Ар. *Глядзi, чалавеча, каб гэты махляр цябе не падмахнуў.* Ст. *Самасей ходзе на волi, зладзюга, махляр, прайдзiсьвет.* Макаёнак: Каб людзi....
●**махлярка**-*ркi-рцы, ж.*—плутовка. Ар. *См. махлёўка.*
●**махлёўка**-*ўкi-ўцы, ж.*—плутовка. Нсл. 282. *Цябе махлёўку усi знаюць.* Нсл. *См. махлярка, ср. сяброўка.*
●**махнуць,**—*см. под махаць.*
●**махнуцца,**—*см. под махацца.*
●**махнытка**-*ткi-тцы, ж.*—головня, еще не погасшая, размахиваемая для разведения огня. Нсл. 282; Сакуны 82. *Махныткаю занёс агонь.* Нсл.
●**махра**-*ры-ры, ж.* 1. бахрома. Нсл. 292. *Махрою абшыта хустка.* Нсл.
**2.** мохор, обношенный край чего-л. холщевого. Нсл. 292. *Махра валочыцца.* Нсл. *Мохры вiсяць з пад адзежы.* Нсл.
●**махрачы**-*чоў-чом, мн. ч., предл.-чох*—бахрама. Аш.
●**махрутка**-*ткi-тцы, ж.*—замухрытка. Ксл. *Ня будзь ты махруткаю.* Сухарукава Аз. (Ксл.).
●**мае**—мои; моей(род. п. ж. рода). Гсл. *Сярод вас, мае вы дзеткi, мае суджанай няма.* Гсл.
●**маемасьць**-*цi, ж.*—имущество, состояние. БНсл.; МГсл.; Ст.—акты, имущество. Гсл. *У 1528 г....дзяржаўца меў абраць двух зямлян "годных веры", каторыя мелi аб'ехаць усi (панскiя) дворы, перапiсаць....колькасьць людзёў у iх, iхныя сохi i наагул "маемасьць".* Любаўскi: Очерки,
*Адбыўся падзел партыйнае маемасьцi.* Зiмёнка(Беларус, 154). *У Рыме трэ' было спратаваць людзёў, што выдавалiся небясьпечнымi, абдзiраць iх маемасьць.* Кво вадыс, 265.
**ляжачая маемасьць** —недвижимое имущество. Ст. Акты.
**рухомая маемасьць**—движимое имущество. *Спадыбаецца ўсяе маемасьцi.* Цялеш(Дзесяць, 13).
●**маёвы**-*вая-вае*, **1.** майский. МГсл.; Ар.; Нсл. 277; Лужасна Куз. (Ксл.). *Маёвы жук.* Нсл. *Маёвае гуляньне.* Нсл. *Сяднi цёпла, як маёвы дзень.* Тм.
**2.** зелёный. Нсл. 277. *Маёвы колер.* Нсл. *Маёвая хустка.* Тм.
●**мадзець**-*ею-ееш, мадзее; повел.-дзейдзейма, несоверш.* Ряз. (Даль.); Мчэнскi п.(Будде: Тула-Орел, слов.)—кое-как перебиваться, Нсл. 277; Гсл. прозябать(о людях, С.). Ксл.; Гсл. —вести унылую, безрадостную жизнь, пустое существование, прозябать. Вiц. (Нiк). *Прышоў Бог да тэй да пеклы, дый пытаецца ў дзябла: "Як тутацька маешся, чорцюхна? Нiшто, Спадару, якнi-як мадзеем....таксама й наша жыцьце: Хвала Божухну, троху мадзеем.* НК.: Старцы, 92. *Ня жывем, а мадзеем.* Нсл. *Мадзею патроху.* Нсл. *Як-колечы ма-*

*дзею.* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Ат! Мадзеем патроху, бяз хлеба не сядзім.* Гсл. *Як-ніяк мадзеем!* Віцебш. (НК.). *У імкненьню да сонца жыцьцё не мадзее.* Салавей(Ускалось, Но. 10, стр. 10). *Асуджаны....маўчаць і мадзець.* Машара(Калосьсе, кн. 1, 1935 г., стр. 12). *Отгл. имя сущ.* **мадзе́ньне**-*ня, предл.-ню* —прозябание, жалкое существование. Гсл.

•**мадзі́ца**-*цы, област.*—молодица. Растсл.

•**мазоленьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к мазоліць, мазоліцца,* **1.** натирание мозолей. Нсл. 287.

**2.** долгое держание в руках. Нсл. 287. *Мазоленьне работы толькі.* Нсл.

•**мазоліць**-*лю-ліш-ле, несоверш., перех.* **1.** натирать мозоли. Нсл. 288. *Не мазоль сваіх рук.* Нсл.

**2.** небрежно или медленно работать. Нсл. 288. *Доўга ты мазоліў мае боты.* Нсл.

**3.** держать, не выпуская из рук. Нсл. 288. *Мазоліў грош, пакуль згубіў.* Нсл.

•**мазоліцца**-*люся-лішся, несоверш.* **1.** забавляться, заниматься с кем или с чем. Нсл. 288. *Досіць табе мазоліцца зь ім, няхай ідзець пагуляе.* Нсл. *Перастань мазоліцца з грашмі.* Нсл.

**2.** медленно и небрежно заниматься. Нсл. 288. *Тры дні мазолішся над гэтай пустой работаю.* Нсл.

•**мазоль**-*заля́, м.*—мазуль. Ар.; ПНЗ.

•**мазалёвы**-*вая-вае,* **1.** приобретенный трудом, усилием. Нсл. 287. *Мазалёвыя грошы.* Нсл. *Ці імкнуцца да сьвятыні паставіць "сьвечачку на свае мазалёвыя" (грошы).* Севершч.(Косіч 57).

**2.** требующий трудов, усилия. Нсл. 287. *Мазалёвы заработак.* Нсл. *Мазалёвая праца.* Нсл.

**3.** имеющий мозоли, Нсл. 287. мозолистый. *Мазалёвыя рукі.* Нсл.

•**мазалява́ны,** *-ная-нае*—приобретенный трудом, усилием. Нсл. 287. *Мазаляваны кавалак хлеба.* Нсл. *Мазаляваны грош.* Нсл.

•**ма́заньне,**—*см. под мазаць.*

•**ма́заць,** *ма̀жу-жаш-жа, повел. маж-жма, несоверш., перех.* **1.** покрывать слоем чего-л. жидкого или жирного, мазать. (МГсл.); Ар. *Соверш.* **зма́заць, ізмазаць,** *перех.* **а)** стереть совсем с поверхности чего-л. *Ніхто таго рээстру ня зможа.* Кіт. 55а16. **б)** изгладить, уничтожить. *Калі борзда пакаецеся, ізмажа Пан Бог той трэх ад вас.* Кіт. 15б6. *Пэўне добрасьць змажа грахі.* Кіт. 23б14. *Пан Бог тысяча грахоў кажа змазаць.* Тм. 35б6. *Пан Бог таму чалавеку кажа усе грахі змазаць.* Тм. 74а13.

**2.** смазывать блины и т. п. салом или маслом. Ар. *Дзеці вельма любяць мазаць блінэ.* Ст.

**3.** намазывать. *Мазаць хлеб маслам. Соверш.* **вы́мазаць,** *перех.*—израсходовать, используя для мазания.

**ма́заньне**-*ня, предл.-ню,* **1.** *отгл. имя сущ. к мазаць 1, 2, 3, 4. Мазаньне колаў дзёгцям.*

**2.** помазание. Нсл. 277. *Мазаньне мірам.* Нсл.

**абма́заваць**-*зую-зуеш-зуе, несоверш. к абмàзаць. Соверш.* **абма́зать,** *перех.*—покрыть, намазать поверхность чего-л. со всех сторон каким-л. веществом; обмазать.

**зама́заваць,** *несоверш. к замàзаць. Соверш.* **зама́заць**-*àжу-àжаш-àжа, перех.* **1.** залепить чем-л. вязким, клейким. Нсл. 174. *Замазаць печку глінаю.* Нсл.

**2.** зачернить, что бы нельзя было прочитать. Нсл. 174. *Замаж, што напісана.* Нсл.

**3.** умышленно скрыть, замазать. *Як-лень трэба замазаваць, замазаць гэту паскудную справу.* Нсл. *Прич.* **замазаны, 1.** заклеенный чем-л. вязким, клейким. Нсл. 174. *Дзірка замазана.* Нсл.

**2.** затертый. Нсл. 174. *Замазанае пісаньне.* Нсл.

**3.** загрязненный. Нсл. 174.

**4.** умышленно скрытый, замаскированный. *Ліхая справа замазана.*

**памаза́ць,** *соверш.* **1.** (*к мазаць 2*). *Памаж блін здорам.* Ар.

**2.** *соверш. к мазаць.*

**3.** намазать. *Памаж хлеб маслам.* Ар.

**4.** мазать мазилкой. Нсл. 277. *Мазаць, падмазаць колы.* Нсл. *Соверш.* **падмазаць.** Нсл. 277.

•**мазэпа**-*пы, общ.*—запачканный чем-л. черным или от природы черный. Нсл. 277. *Урадзіўся, як чорт, мазэпа, мазэпаю.* Нсл. *Мазэпаю ходзіш дасюль;-ня ўмыешся.* Нсл. *Ідзем гэтта, ня сядзім у хаце, як Мазэпа.* ЧЧ (Б. Студіс II-1, 1969, стр. 69).

**мазэпка**-*пкі, общ.*—черная лицом девочка или черный лицом мальчик, замарашка. Нсл. 277. *Вымый ты гэтага, гэту мазэпку.* Нсл.

**мазэпчык**-*ыка, предл.-ыку, м.*—черный лицом мальчик или замарашка. Нсл. 277. *Мазэпчык наш ніколі ня мыецца.* Нсл.

•**мазголеньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к мазголіць, мазголіцца,* **1.** возня с каким-л. предметом. Нсл. 287. *Будзець гэтага мазголеньня на цэлы дзень.* Нсл.

**2.** удары частые, особенно в голову. Нсл. 287. *Ад гэтага мазголеньня твайго і ў галаве ягонай закруціцца.* Нсл.

**3.** умащение головы, говор. с укором. Нсл. 287. *Мазгаленьне галавы.* Нсл. *На мазголеньне цэлую ложку масла ўзяла.* Нсл.

•**мазголіць**-*лю-ліш-ле, повел.-ль-льма, несоверш., перех.* **1.** бить, особенно в голову. Нсл. 287. *Мазголіўшы так хлапца, можна ашалапуціць.* Нсл. *Соверш.* **замазголіць** —запачкать чем-л. жирным. Нсл. 175. *Дзяцё сьлінаю замазголіла сарочку.* Нсл. *Соверш.* **размазголіць**—разбить. Нсл. 287. *Размазголіў сабе галаву.* Нсл. *Соверш.* **намазголіць.** Нсл. 287. *Намазголіла валасы, аж цячэць масла.* Нсл.

2. мазать, мастить, приглаживать. Нсл. 287. *Досіць табе мазгаліць галаву сваю.* Нсл.

3. марать чем-л. мазким. *Белую сарочку мазголіш, умазголіў.* Нсл. *Соверш.* **умазголіць**—запачкать, замарать.

•**мазголіцца**-*люся-лішся, несоверш., возвр.* **1.** возиться с каким-л. предметом. Нсл. 287. *Досіць табе мазголіцца з косьцю, бяры мяккое.* Нсл.

**мазголіцца з грашмі,**—зн. забавляться ими. Нсл. *Соверш.* **замазголіцца**—замаслиться. Нсл. 175. *Дзяцё замазголілася косткаю, кашкаю.* Нсл.

2. мазаться, марать лицо свое. Нсл. 287. *Мазголішся, умазголіўся косьцю.* Нсл. *Соверш.* **умазголіцца.** Нсл. 287.

3. намащаться, говор. укоризненно или насмешливо. Нсл. 287. *Досіць табе мазголіцца!* Нсл. *Соверш.* **намазголіцца.** Нсл. 287. *Намазголілася, аж валасы блішчаць.* Нсл.

•**мазгатáць**-*аю-аеш-ае и -ачу, мазгочашча, несоверш.* **1.** *перех.*—бить, разбивать. Нсл. 287. *Мазгатаў яго, пакуль размазгатаў галаву яму.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **мазгатáньне** *-ня, предл.-ню*—битье по голове. Нсл. 287. *Такім мазгатàньням галаву праломіш.* Нсл. *Соверш.* **размазгатáць,** *перех.*—разбить. Нсл. 287. *Мазгатаць, размазгатаць гаршчок.* Нсл. *Соверш.* **памазгатáць,** *перех.*—побить, раздробить. Нсл. 465. *Косьці табе памазгатаю, калі будзеш лазіць сюды.* Нсл. *Соверш.* **прамазгатáць**-*тàю-тàеш-тàе и -ачỳ-чаш-ча, перех.*—пробить до мозга, до крови. Нсл. 526. *Галаву табе прамазгатаю, прамазгачу. Ня лезь да мяне.* Нсл. *Прич.* **прамазгатáны**—пробитый до мозга. Нсл. 526. *Сьцеражы сваю галаву, каб ня была прамазгатана.* Нсл.

2. стучать, добиваясь. Нсл. 287. *Не мазгатай так, вароты разломіш.* Нсл. *Мазгатай, мазгачы галавою.* Тм.

3. молоть вздор, болтать, толковать по пустякам. Смл., Пск., Тверс., Вят. (Даль). *Ён усё мазгàціць*—несет чепуху. Даль.

•**мазгатня́**-*ні-ні, ж.*—головоломное, запутанное дело. Нсл. 287. *Тут мазгатня нейкая ёсьць.* Нсл. *Адлезь ад мяне з гэтаю мазгатнёю.* Тм.

•**мазгачы́**-*чоў-чом, мн. ч., предл.-чох, единств. ч. нет.*—мозг. (*презр.*). Нсл. 287. *Галаву праламлю і мазгачы пацякуць.* Нсл. *Я б табе даў, але жалею мазгачоў тваіх.* Нсл.

•**мазгі́(мазгі,** Ар.)*-гоў-гом, мн. ч., предл.-гох, единств. ч. нет.*—мозг. Ар.; Сьвярдлы Беш. (Ксл.); Шсл. *Крỳціць мазгамі.* Нсл. 287.

•**маздáн**-*анà, предл.-ану, зват.-àне, мн.ч.-нỳноў-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—глупая голова. Шсл. *Вось маздан дурны: паламаў гэткае добрае пугаўё.* Ст. *Нашто ж ты слухаў гэткага маздана дурнога?* Ст.

•**мáзева**-*ва, ср.*—мазь. Навасілск.(Будде: Тула-Орел, слов.). *Ср.* *мелева.*

•**мáзка**-*зкі-зцы, ж.* **1.** мазилка для мазания сковороды во время печения блинов и т. п. Ар.

2. короткая палочка с тряпкой на конце, служащая для вычерпывания и намазывания дегтя. НК.: Очерки, 374.

•**мазкі́**-*коў-ком, мн. ч., предл.-кох, единств. ч. нет.*—мозг. Нсл. 287. *Чатырыста мазкоў вышарпае.* Кіт. 167. *Адлезь — удыру, аж мазкі пацякуць.* Нсл. *Пакруціў сваімі мазкамі*—похитрил. Нсл. *У цябе мазкоў няма ў галаве.* Тм.

•**мазýль**-*уля̀-улю, зват.-ỳлю, мн. ч.-лі̀-лёўлём, мн. ч., предл.-лёх, м.*—мозоль. Шсл. *Мазуль намуляў на назе.* Скрыль Пух. (Шсл.).

•**мáзур**-*ра, предл. и зват.-ру, мн. ч.-раў, м.* **1.** замараха, Шсл. ходящий не мывшись, с замаранным лицом. Нсл. 277. *Мазур ты, ізноў умазаўся, як той чорт!* Ст. *Памый ты гэтага мазура.* Нсл.

2. от природы черный лицом. Нсл. 277. *Ён і радзіўся такім мазурам.* Нсл.

•**Мазýр**-*урà, предл.-урỳ, зват.-ỳру, мн. ч.-рыроў-ром, мн. ч., предл.-рох, м.*—мазур, мазовецкий поляк.

•**мáзурам,** *в см. нареч.*—замаравшись. Нсл. 277. *Памыйся, пакуль ты будзеш мазурам хадзіць.* Нсл.

•**мазь,** *мазі̀, ж.*—то, чем мажут что-л., напр. колеса, НК.: Очерки, 374. мазь для смазки колес, Нсл. 277. густое жирное вещество для смазки чего-л. *Мазі ня ўзяў із сабою ў дарогу.* Нсл.

•**мазьдзі́ць,** *мажджỳ, несоверш., перех.*—бить по голове. Нсл. 287. *За што ты яго так мазьдзіш?* Нсл.

•**мазы́**-*зоў, мн. ч., предл.-зох, мн. ч.*—пятна на рубахе от пота или нечистоты. Нсл. 277. *Мазы ў сарочцы не адмыліся.* Нсл.

•**мажэньне,**—*см. под магчы.*

•**мажджэр**-*джара(-джэру), предл.-джарỳ, зват. мажджэру, мн. ч. мажджары̀-оў-омры-àмі-ох, м.*—(малая кухонная, Ар.) ступка(чугунная, медная). Ксл.; М.; Ар.; Іг.; Еўлічы, медная или чугунная иготь(ступка, С.). Нсл. 287. *Стаўчы перац у мажджару.* Градкі Сур. (Ксл.). *У жыцьці, ці ў якім мажджэры?* Дуб. *Стаўчы ў мажджэру солі.* Нсл. *Уменьш.* **мажджэрык**-*ыка, предл.-ыку*—иготка. Нсл. 287. *У мажджэрыку солі стаўчы.* Нсл.

2. небольшая мортира. Нсл. 287.

•**мажджэра**-*ры-ры, ж.*—ручная пушка. НК.: Очерки, Но. 975.

•**мажджэрыць**-*ру-рыш-ра, несоверш.*—толочь, разбивать на мелкие части. Нсл. 287. *Соверш.* **размажджэрыць,** *перех.* Нсл. 287. *Размажджэрыў сабе косьць.* Нсл. *Галаву тваю рахмажджэру, калі злаўлю другі раз у садзе.* Нсл. 550.

•**мажно,** *безлич., см. под мажны.*

●**мажнéць I**-*èю-èеш, èе, повел.-èй-èйма, несоверш.*—богатеть. Нсл. 287, становиться зажиточнее. Ксл. *См.* *замажнець. Пакрысе мажнець сталі.* Камышкі Лёз.(Ксл.). *Ад добрага парадку мужычкі мажнеюць, а ад благога галеюць.* Нсл. *Соверш.* **памажнець**—стать зажиточнее. *За маладым панам мужычкі сталі мажнець, памажнелі.* Нсл.

**узмажнець,** *соверш.*—сделаться зажиточнее. Нсл. 54. *Пры маладым панку наша сяло ўзмажнела.* Нсл.

●**мажнéць II**-*èю-èеш-èе, несоверш.*—становиться сильне, крепче. *Соверш.* **узмажнець**—стать более взрослым на вид, физически окрепнуть, возмужать. Іг.

●**мажны́**-*ная-ное,* **1.** внушительной наружности, широкоплечий. Барб.; Іг. *Гэта чалавек мажны.* Іг. *Жанчына гэтая была не такая мажная й здаровая, як цётка Матрона.* Кулакоўскі: Дабраселцы.

**2.** влиятельный. *Хочам то меці, абы кажны з падданых нашых, як мажнога стану, так і меншага, хто бы каня купіў, тагды пры такой куплі маюць быць барышнікі.* Стт. 186. *Для таго права суць пастанаўлены, абы мажному й патужнаму ня ўсе было вольна чыніці.* Стт. 15. *Ср. ст.* **мажнейшы, 1.** более внушительной наружности.

**2.** более внушательный. *Шляхціч супроці асобы стану вышшага й мажнейшага заручнага лісту патрабаваў.* Стт. 90. *Нареч.* **мажно(можна,** Ар.) **1.** можно, Нсл. 287. есть условия возможности для осуществления чего-л., возможно. *Мажно й так зрабіць.* Нсл.

**2.** можно, разрешается, позволительно. *Ці можна пасьціць на гэтай канюшыне?* Ар. *Ср. ст.* **мажнéй, 1.** сильнее. Нсл. 287. *Пацягні мажней вяроўку.* Нсл.

**2.** возможнее. Нсл. 287. *Табе мажней гэта зрабіць, як мне.* Нсл. *Увелич.* **мажнюсенька**—очень возможно, легко. Нсл. 287. *Гэта мажнюсенька зрабіць.* Нсл. *Па лёдзе яшчэ мажнюсенька праехаць.* Нсл.

●**мáжы**-*жаў, единств. ч. нет.*—телега для возки снопов, сена. Мічурына Сян. (Ксл.).

●**май I,** *мàю, у мàю, зват. мàю, м.* **1.** май(месяц). Міх.; Ар.; Гсл.; Шсл.; Міх. *Халодны сяголета май.* Ст. *Май коням сена дай, сам на печ уцякай. Послов.* Ст.

**2.** *собир.*—зелень(березки, Міх.) для украшения двора в праздник Св. Духа. Косіч, 12; Міх., березки и другие распустившиеся деревья, уставленные пред окнами дома в день Сошествия Св. Духа; айр зелёный, обыкновенно в этом же рассыпаемый по полу и по дорожкам, Нсл. 277. зелень, которою украшают избы и дворы на Троицкий день. Шсл., ветви и целые деревья, которыми украшают дома и улицы на Духов день. Гсл., срубленные молодые березки, клен и липа, которыми в субботу перед Духовым днем украшают церкви и дома. Дсл. 5.(*под Аер*). *Мужчыны йдуць у лес сячы "май", бабы а дзеўкі жаць явар на лугох, зьбіраць травы а кветкі ў лесе. Увечары* (*наконадні Сьв. Духа*) *усюдых ля варот і на панадворку цэлы лес убітых у зямлю кляноў, бярозкаў, дубкоў і інш. У хатах уся бажніца таксама прыбрана зялёным вецьцям і пераважна кветкамі пахнючай какалушы.* Косіч 12. *Прывязі воз маю да царквы.* Нсл. *Наламалі маю хату прыбіраць.* Ст. *Дзяцюкі пашлі ў май*(знач. в лес нарезать зелени). Ст. *Единств. ч.* **маінá**-*ны̀-нè, мн. ч. маїны. На дварэ пасядзілі чатыры маіны.* Міх.

●**май II,** *мн. ч. майма, повел. накл. от мацъ, мецъ.*

●**майнáчыць**-*чу-чыш-ча, повел.-àч-àчма, несоверш.*—колебаться(в решении чего-л.), в выборе одного или другого, Ар. быть в нерешительности. *Нашы майначаць, ехаць на кірмаш ці не.* Ар. *Отгл. имя сущ.* **майнáчаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—нахождение в нерешительности.

●**майстáт**-*àту, предл. и зват.-àце, м.* **1.** величественность. *Кажны майстат розны блеск выдае, адзін аднаго сьветласьцяю асьвяча.* Кіт. II 46.

**2.** престол. *Яны на майстатах пасядаюць.* Кіт. 56а4.

●**майстроўка**-*ўкі, дат., предл. майстроўцы, ж.*—женщина мастер, мастерица.

●**майстроўня**-*ні-ні, ж.*—мастерская. Гсл.

●**майстроўскі**-*кая-кае*—мастерской. Нсл. 277. *Майстроўскі твой нож.* Нсл.

●**мáйстра**-*ры, дат.-ру, твор.-рам, предл.-ру, зват.-ру, мн. ч. майстрове-оў-ом-оў-амі-ох, м.*—мастер. Ар.; Ксл.; Нсл. 277; Гсл. НК.: Под. пос., Но. 42. *А майстра зрабіў Дзёмка.* Напіс на зване на званьніцы Вялікае Мікалаўскае царквы ў Вяліжу із сяр. 17 стг. Віцьбіч (Бацьк. Но. 49-50, 435-436). *Сусед наш добры майстра да ўсяго.* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *Майстра шчыра поркаўся.* ЗСД. 365. *Гукніце абедаць майстру.* Нсл. *Майстра на жарты які, на хіхоты.* Гарун: Варажба. *Уменьш.* **майстрок,** *майстрыкà, предл.-рыкỳ.* Ар.

**майстрочак**-*чка, предл. и зват. предл. и зват.-чку, уменьш. от майстрок.* Нсл. 277; Ар. *Будзь ласкаў, майстрочку, зрабі добранька.* Нсл.

●**майстрáт**-*ту, предл. и зват.-це, м.*—магистрат. Нсл. *Ідзі да майстрату.* Нсл. *У майстраце засядае.... Нсл.*

●**майстратовы,** -*вая-вае*—магистратский. Нсл. 277. *Майстратовы вартаўнік.* Нсл. *У майстратовым судзе разьбярэмся.* Нсл.

●**майстраваньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к майстраваць 1, 2,* изготовление какой-л. вещи. Нсл. 277. *З майстраваньня твайго нічога добрага ня выйдзе.* Нсл.

●**майстравáць**-*рỳю-рỳеш-рỳе, повел. майструй-ỳйма-уйце, несоверш. што і без доп.*—(делать, работать по части какого-л. мастерства, ремесла, Ар.), мастерить.

Ар.; Ксл.; Шсл.; Растсл.; ЗСД. 100, 365; МГсл. —заниматься каким-л. ремеслом. Нсл. 277. *Наш Сьцёпка любе майстраваць.* Воўсішча Сян. (Ксл.). *Тыдні тры майстраваў у нас.* Нсл. *Возьме тапор дый майструе.* Жукова Імгл.(Косіч 31).

**2.** устраивать что-л. Нсл. 277. *Што ты тут майструеш?* Нсл. *Соверш.* **замайстрава́ць, 1.** начать заниматься мастерством. Нсл. 174. *Шавец яшчэ на гэтым тыдню замайстраваў у нас.* Нсл.

**2.** (*перех.*)—заработать майстерством. Нсл. 174. *За тыдзень замайстраваў рублі два.* Нсл. *Соверш.* **змайстраваць**—смастерить. Ар. *Калёсы сам змайстраваў.* Нсл.

•**майстрава́цца,** *несоверш., страд. к майстраваць.*

**адмайстрава́цца**—кончить работу(мастерство, С.). Нсл. 376. *Шавец адмайстраваўся ў нас.* Нсл. *Соверш.* **замайстравацца** —усидчиво заняться мастерством. Нсл. 174. *Замайстраваўся й палуднаваць ісьці ня хоча, пакуль сконча работу.* Нсл.

•**майстраў,** *-ава-ова*—мастеров(мастерский,С.) Нсл. 277. *Дзяцюкі майстравы.* Нсл.

•**мак,** *мàку, предл. мàку, зват. мàча, м.* —мак. *Не ўрадзіў мак, перабудзем так.* *Послов.* Дз.

•**ма́кам,** *у знач. прс.* **1.** рассыпаясь подобно маку, ухаживая. Нсл. 278. *Макам сьцелецца перад ёю.* Нсл.

**2.** крышка, конец, гибель. *Ну, гэта ўжо дык макам.* (Ад.). *Загінуў я макам.*

**3. макам сесьці**—остаться безвозвратно, слишком засидеться. *Пайшоў і макам сеў там.* Нсл. 278.

•**макарон**-*ону, предл. и зват.-оне, м.*—кушание из мучнистых пластинок в роде вермишели, Гсл. макароны, Ар.; Ксл. лапша и кушание из лапши, Нсл. 277. вермишель. *Макарону ўлі зьесьці.* Стасева Выс. (Ксл.).

**2.** суматоха. Нсл. 277. *Нарабіў ты меж іх макарону.* Нсл.

•**макарона**-*ны, дат., предл.-не, ж.*—лапша, заливаемая молоком. НК.: Очерки, 17.

•**макароньнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—тот, кто делает и продает макароны.

•**макароньніца**-*цы-цы, ж. к макароньнік.*

•**макаросіць**-*ошу-осіш-се, повел.-сь-сьма, несоверш.,перех.* **1.** крошить, ломать на мелкие части. Нсл. 277. *Не макарось так дробна буракоў.* Нсл.

**2.** смешивать, приводить в беспорядок. Нсл. 277. *Сам ня ведаеш, нашто макаросіш, памакаросіў ты маю работу.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **макарошаньне**-*ня, предл.-ню,* **1.** приведение в беспорядок. Нсл. 278. *Макарошаньне работы.* Нсл.

**2.** суета, безпокойство в обществе, суматоха. *Меж імі макарошаньня нарабілі людзі.* Нсл.

**намакаросіць,** *соверш. к макаросіць 1, 2.* Нсл. 2. *Прич.* **намакарошаны**—перерушанный. Нсл. 463. *Ніткі памакарошаныя, не разблытаеш.* Нсл. *Макарошаную работу разабраць трэба.* Нсл. *Соверш.* **змакаросіць,** *перех.*—смешать, привести в беспорядок. Нсл. *Змакаросілі маю работу.* Нсл. *Соверш.* **намакаросіць**—нашуметь, наделать тревоги. Нсл. *Намакаросіў толькі, а парадку ніякага не зрабіў.* Нсл. *Соверш.* **узмакаросіць,** *перех.*—(быстро, С.) привести в беспорядок. Нсл. *Узмакаросіў хусьце, валасы.* Нсл.

•**макаросіцца**-*ошуся-осішся, несоверш.* —приходить в замешательство, смущаться. *Соверш.* **змакаросіцца**—смешаться, смутиться. Нсл. *Змакаросіўся й нічога не сказаў.* Нсл. *Соверш.* **узмакаросіцца** —(быстро) придти в безпорядок, взъерошиться. Нсл. *Узмакаросіліся мае валасы. Узмакаросіліся пшчолы.* Нсл.

•**ма́кавіна**-*ны-не, ж.*—верхушка дерева (макушка). Нсл. 278. *Собир.* **ма́кавіньне**-*ня, предл.-ню*—срубленые верхушки дерев. Нсл. 278. *Макавіньня набраў цэлы воз.* Нсл.

•**ма́кавы**-*вая-вае, прилаг. к мак,*—маковый.

**ма́кавая расінка**—маленькая крошка. Шсл. *Яшчэ макавае расінкі ня было ў роце.* Ст.

•**ма́каўе**-*ўя, предл.-ўю, собир., ср.*—стебли мака. Міх. *Макаўкі сярпом паадразаў ды забраў дамоў, а макаўе злажыў у кучу.* Міх. *Собир.* **ма́каўе**-*ўя, предл.-ўю,* **1.** срубленные верхушки дерев. Нсл. 278. *Макаўя набраў воз.* Нсл.

**2.** отрезанные верхушки конопляных стеблей с семенами. Нсл. 278. *Макаўе пасадзіце на асець.* Нсл.

•**Макаўе**-*ўя, предл.-ўю, ср.*—день 1-ого августа, праздник братьев Маккавеев, (Нсл. 277) в который освещаются овощи. Гсл. *На Макаўе грэх жаць.* Нсл. *Гэта было аб Макаўю.* Тм.

•**ма́каўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—маковка. Міх. *Макаўкі сярпом паабразаў.* Міх.

•**ма́каўка**-*ўкі-ўцы, ж.* **1.** верхушка дерева (макушка, С.). Нсл. 278; Шсл. *Галуб сеў на самай макаўцы бярэзы.* Нсл. *Хвоя валілася ды трэснула яму па галаве макаўкаю.* Ст.

**2.** темя у человека. Нсл. 278. *Выцяў па макаўцы.* Нсл. *Макаўку натаўку табе.* Нсл. *Макаўку прабіў.* Тм.

**3.** *област.*—маковка, плод, семенная коробочка мака. Ар.

•**мака́целіца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—чернильница. Ксл. *Вунацькі твая макацеліца, чаго лезеш у маю?* Бараўляны Куз. (Ксл.).

•**ма́кацер**-*тра, предл. и зват.-тру, м.*—глиняная посудина для тёрки мака(конопли, С.). Шсл. *Цэлы мàкацер нацерлі маку.* Скрыль Пух. (Шсл.). *См. макацёр.*

●**макацёр**-*тра, предл.-трỳ, зват.-тру, м.* Нсл.—глиняный сосуд, в котором трут мак, конопли и т. п., Ксл.; Гсл.; Шсл. высокая глиняная посуда, Растсл. обыкновенный гладкий бабочник, НК: Очерки. высокий сосуд, в котором трут мак, конопли. *Пазыч макацёр, каноплі сьцерці.* Марчонкі Сур. (Ксл.). *Няма свайго макатра, у чым маку сьцерці.* Ст. *Повен макацёр заліўкі.* Нсл. 278. *Лапша ў макатру печаная.* Тм.

●**макля́к**-*якà, предл.-якỳ, зват.-я́ча, мн. ч.-кі-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—мокрая почва.

●**макрáць**-*ці, ж.*—мокрота. *Наганяла нас паня, што мы ў макрàць жыта жалі.* Дсл.

●**макрэдзь**-*дзі, ж.*—...... *Мароз ацер ізь віду халодную макрэдзь.* Вышынскі: Хата пад ліпою.

●**макрэць**-*эю-эеш-эе, несоверш.*—становиться мокрым. *Стаяў, чуючы, што ў яго макрэе лоб.* Адамчык: Арж. колас. *Соверш.* **замакрэць**—стать мокрым.

●**макрэцца** — *макрэць. Соверш.* **замакрэцца**—стать мокрым. Варсл. *Адлога будзе, бо сьцены замакрэліся.* Варсл.

●**макрыня́**-*ні-ні, ж.*—мокрота. Ар.; Войш. *Наша хата стаіць на макрыні.* Войш.

●**макрывы**-*вая-вае*—.............
*Макрывая сенажаць.* НК.: Очерки, 400.

●**макры́ца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—мокрица(травянистое, сорное растение с лежащими стеблями и мелкими белыми цветками, растущее в сырых местах, С.). Шсл.; Ар. *Макрыца заглушыла ўсю капусту.* Ст.

●**макýха**-*ỳхі-ỳсе, ж.*—жмыхи. ПНЗ.

●**макýлінка**-*нкі-нцы, ж.* (букв. маленькое зерня мака), мелчайшая вещь. Ар. *Разьдзьмухае вецер макулінкі попелу.* Акула, 462.

●**макýра**-*ры, общ.*—презрительно о человеке вялом или неуклюжем. Нсл. 288. *Не пайду я за гэтага макуру.* Нсл. *Ці ты ня бачыш, сьляпая макура?* Тм.

●**макýшка**-*шкі-шцы, ж.*—головка мака. *Добры мак, вялікія макушкі.* Ст.

●**малое**-*лога, в знач. сущ.*—ребенок, дитя. Нсл. 279. *Вазьмі малога на ўлоньне.* Нсл. *Малое ды большаму завада. Послов.* Нсл.

●**малодзіва**-*ва, предл.-ве, ср.*—молозиво. Шсл.; Янавічы Сур. (Ксл.). *Напяклі малодзіва.* Ст.

●**малой бяды,** *в см. нареч.*—неважно. Ар. *Малой бяды, што ён ня прышоў.* Ар. *См. такой бяды.*

●**малойчык,**—*см. под маладзец.*

●**малоць,** *мялю, мелеш-ле, несоверш., перех.* —молоть, дробить, размельчать зерна (превращая в муку). Ар.

**малоць языком**—пустословить, болтать. Ар.; Шсл. *Баба меле языком.* Ст.

●**малочніца**-*цы-цы, ж.*—ведающая дойкой коров. НК.: Под пос. 43.

●**маладосьць**-*ці, ж.*—юность, МГсл. молодость. Гсл.; ЗСД. 127, 390; Шсл.; Нсл. 288, 289. *Згубіў ты маю маладосьць.* Ст. *Каб табе гаркая маладосьць была!* Ст. *Маладосьць мая мінула.* Нсл. *Маладосьць — буйносьць. Послов.* Нсл. *Дай, Божа з маладосьці грызьці косьці, а пад старасьць мякіш. Послов.* Нсл. *Маладосьць — дурносьць*—молодо — зелено. Веейш. *Быў ён з маладосьці прыгожы.* Дзьве Душы, 64.

●**маладáя**-*дое, в знач. сущ.* **1.** невеста во время свадьбы. Ар.; Косіч 234; Шсл.; Ксл.; Нсл. 288. *Прывезьлі маладую.* Бель Выс. (Ксл.). *Маладую павезьлі да вянца.* Нсл.
**2.** *см. малады.*

●**маладні́к**-*ікà, предл.-ікỳ, зват.-ìча, мн. ч.-кì-коў-ком-кі-кàмі-кох, м., собир.*—молодняк(молодые животные, птицы, молодой лес.)

●**маладýха**-*ỳхі-усе, ж.*—женщина недавно вышедшая замуж. НК.: Тры, Но. 14; Гсл.; Міх.; Барс. *Бярэзы-маладухі выглядаюць з-за хвой.* Калачынскі: Лясная казка.

●**маладушша**-*ша, ср.*—малодушие. МГсл.

●**маладчáнка**-*нкі-нцы, ж.*—наёмная годовая работница. НК.: Дудар, Но. 33.

●**малады́**-*дая-дое,* **1.** молодой, юный. Ар. *Ср. ст.* **малодшы**—моложе, младший. Гсл. *Жыві, каб жыцьцё даць другім, малодшым.* Гарун(ст. "Ноктурно").

**малады**—молодой, юный. *Ср. укр. молодий*—юный. З укр. "нацдем." терм. *Ісхаку два сыны нарадзіліся — Езаў старшы, Якуб малодшы.* Кіт. 99а17. *Малодшыя лезлі на сьцяну.* Карандэй(Бацьк. Но. 1-2, 437-438).
*Тлеюць будучыя дзеі малодшых пакаленьняў.* Негнявіцкі("Бацькаўшчына" Но. 45-46, 431-432). *Родны ж брат Піліна Пестрака (малодшы) прымаў удзел у грамадзкім русе.* Хмара(Б. Ускалось, 1954, Но. 4, 41). *Прев. ст.* **наймалодшы.** *Наймалодшы ня мог уціхамірыцца.* Заставін(Бацьк., Но. 49-50, 435-436). *Малодшы, наймалодшы кажацца ўзглядам людзёў а жывёлы.* Нсл. 738. *Пашлі малодшага сына.* Нсл. *Малодшаму й пастаяць можна.* Тм. *Запражы малодшага каня.* Тм. *Малодшы сын гаспадаром быў.* Р. Кут, 12.

*Ср. ст.* **маладзейшы,** *прев. ст.* **наймаладзейшы,** *говорится о растениях*—моложе. Нсл. *Выбяры маладзейшых грыбоў усмажыць на скварадзе.* Нсл. *Уменьш.* **малажля́вы**—моложавый. Ар. *У яго малажлявы від.* Ар. *Ласкат.* **маладзéнькі.** Ар. *Ласкат.* **маладзéнечкі**—младешенький. Гсл. *Увелич.* **маладзю́сенькі.** Ар.
*Паляцела б я, маладзюсенька, пад бацькавы сені.* Анушына Стдуб.(Косіч 9). *На маладое*: эти именем называются странные часто прихоти беременной.
Следует отметить, што деревляне чтут эти прихоти настолько, что хозяева не решаются, напр. укорить садовой, огородной или гороховой даже тогда,

когда она поймана на месте, и не отнимут похищенного. НК.: Очерки, Но. 818.

**2.** *в знач. сущ.* **малады́**—жених во время свадьбы; **маладая**—невеста во время свадьбы. Ар.

●**маладзенец**-*нца, предл.-нцу, зват.-нча, м.*—молодожон. НК.: Игры, Но. 14.

●**маладзе́ц,** *малайца̀, предл.-айцу̀, зват.-ойча; мн. ч.-айцы̀-цоў-цом-цоў-цамі-цох, м.* **1.** молодец, (МГсл.) хват. Ар.; ПНЗ. 16; Нсл. 288. *Каб яшчэ пяцёх такіх малайцоў, вось бы й скасілі луг.* Нсл.

**2.** говорят и о женщинах. *Маладзец дзеўка на ўсякую работу!* Нсл. *Малайцы жнейкі дажалі жыта.*

**3.** статный молодой человек. Нсл. 288. *Некруты маладзец у малайца.* Нсл. *Уменьш.* **малойчык**-*ыка, предл.-ыку*—молодчик. Нсл. 289. *Гэткага малойчыка хто ня будзе любіць?* Нсл. *Зашумелі яліначкі а поўначы, затужыўся бел малойчык на вайну йдучы.* Зь песьні, Нсл. *Каб цябе, малойчык, ліхая гадзіна, выраклася мяне ўся мая радзіма.* Из песни.

●**маладзён I**-*на, предл.-ну, зват.-не, м.* —молодой человек, юноша. Барс.; Кацельня, Пц. *Ці ўборздзе прыедзе маладзён?* Купіна Віц. (Ксл.). *Сем дзён маладзён. Послов.* Нсл. *Як пагляджу — маладзён вы яшчэ.* Вышынскі: Хата пад ліпой(Беларус, Но. 155). *Дай вадзіцы, маладзёне.* Зорка, Но. 36(554). *Уменьш.* **маладзёнак**-*нка, предл. и зват.-нку*—молокосос. Шсл. *Я ж табе не маладзёнак — шкелі рабіць із мяне!* Ст.

●**маладзён II,** *прилаг.*—молоденек. Нсл. 288. *Маладзён ты яшчэ на гэту работу.*

●**маладзяцінка**-*нкі-нцы, ж.*—новорожденный скот. Дсл. *Гаспадыня даглядае маладзяцінкі.* Дсл.

●**маладзік**-*ка̀, предл.-ку̀, зват. маладзі̀ча, мн. ч. маладзікі̀-оў-ом-оў-а̀мі-ох, м.* **1.** новолуние. Ар.; Растсл.; Гсл.; Ксл.; Шсл.; Нсл. 289; Карачзўскі(Будде: Тула-Орел, слов.) *Маладзік настаў у серяду.* Суднікі Куз. (Ксл.). *На маладзіку пасеяў.* Нсл. *Маладзік малады, у цябе рог залаты, ты на сьвеце ходзіш, няўжо ты майго мілага ня бачыш.* Старое Задубеньне(Косіч 38).

**2.** молодой человек. Нсл. 289; Міх. *Ты яшчэ маладзік супроці нас.* Нсл. *Табе ня прыходна маладзіку гэтаму ўступіць.* Нсл. *Мы старыя, а вы маладзікі, пусьці, цётка, нас на кут.* Нсл.

**маладзічок**-*чка̀, предл.-чку̀, зват. маладзі̀чку; мн. ч., дат.-чком, мн. ч., предл.-чкох, уменьш. к маладзік.* Нсл.

●**маладзі̀ца**-*цы-цы, ж.*—женщина, Растсл. молодая замужная женщина. *Яна добрая маладзіца.* Купіна Віц. (Ксл.). *Тэкля ўдалая маладзіца!* Ст. *Як я была дзевачкай, хадзілі к імне з гарэлачкай, а як стала маладзіцаю, ня сталі хадзіць і з вадзіцаю. Послов.* Нсл. 289. *Ідуць у брусьніцы дзеўкі, маладзіцы.* Колас: Грыбы. *Цяжка жыці, цяжка быці на чужыне маладзіцы.* Из песни.

**2.** почетное название молодой замужней женщины, выбранной в руководительницы невесте при свадебном пиршестве. Нсл. 289.

**маладзічка**-*чкі-чцы, уменьш. к маладзіца 1, 2.* Нсл. 289.

●**маладзі̀цца**-*джу̀ся, малодзішся, несоверш.*—молодеть. *Соверш.* **абмаладзі̀цца** —посвежеть, поздороветь, позеленеть. Дсл. *Абмаладзілася траўка па дожджыку.* Дсл.

●**маладзьга́,** *-дзьгі-дзьзе, собир., пагудна* —молодежь. Смаленшч. *Нейкі чужы маладзюк на возе.* Дудзіцкі, "Бацьк." Но. 1-2, 437-438.

●**малайца,** *у зн. выгук.*—молодец, хват. Нсл. 289. *Ай, да малайца!* Нсл.

●**малайчына**-*ны, м.*—молодчина. Нсл. 289; Шсл.; Ар. *Малайчына ты, калі так!* Ст. *Які быў малайчына, ды памер.* Нсл.

●**малако**-*ака̀, предл.-аццэ, ср.*—молоко. Ар.

**сьсіданае малако**—кислое молоко со снятой сметаной. Ар.

**салодкае(прэснае,** Ар.) малако—сладкое молоко. НК.: Очерки 28.

**прэснае малако**—сладкое молоко. Ар.

—молоки. Ар.

●**малакроўе**-*ўя, предл.-ўю, ср.*—малокровие.

●**малакроўны**-*ная-нае*—малокровный.

●**малалетны**—малолетний. МГсл.

●**маламожнасьць**-*ці, ж.* **1.** несостоятельность. Гсл.

**2.** немощность. Гсл.

●**мала-мала,** *нареч.*—слишком мало, ничтожное количество. Шсл. *А мала-мала што не стае.* Ст.

●**мала-мальна**—маломальски, сколько-нибудь, хотя мало. Іг. *Ср. мальна(падмальны).*

●**мала-многа,** *нареч.*—более-менее. *Кажная работа мала-многа пажытачна.* Нсл. 452.(*под пажытачны*). *См. мала-веле.*

●**мала́нка,**—*см. под мала̀ньня.*

●**маланкаю,** *у знач. прс.*—молниеносно.

●**мала́ньня**-*ні, дат., предл.-ні, ж.*—молния. Ксл. *Учора бліснула маланьня. Мост, як маланьня, так прэндка пярэйдзе.* Кіт. 268. *Мост, як маланьня блісьнець, так прэндка пярэйдзе.* Тм. 25616. *Уменьш.* **мала́нка**-*кі, дат., предл.-цы, ж.*—молния. Ар.; Прусаўкі Аз. (Ксл.); Шсл.; МГсл.; Нсл. 288. *Маланка бліс*ь. Нсл. *Жыгаець усюдых, як маланка тая.* Тм. *Ня грому бойся, а маланкі.* Ст.

●**маларочны**-*ная-нае*—краткосрочный.

**маларочная пазыка**—краткосрочная ссуда.

●**маласьць**—малость. МГсл.

●**ма́ла што I,** *в знач. сущ., ср.*—безделица. Нсл. 279. *Мала што купіў.* Нсл. *Мала чым адбуду.* Тм. *Мала чаго не дабраў.* Тм.

•**ма́ла што II,** *в знач. нар.* **1.** мало ли что. Ар.; *што падлыжнік гавора.* Нсл. 274. *Мала што людзі дзеюць і пра мяне і пра цябе.* Нсл. 133. *Мала што дзейкаюць людзі.* Ст. (Шсл. *под дзейкаць*).
**2.** чуть-чуть. Нсл. 279. *Мала што ня лучыў у вока.* Нсл.
•**малата́рня**-*ні, дат., предл.-ні, ж.* **1.** молотилка. Ар.; Шсл.; Ксл. *Малатарня добра малоце.* Аксянці Чаш. (Ксл.). *Добра ў каго ё свая малатарня: ня трэба цягацца з дабром па чужых таках.* Ст.
**2.** *перен.*—говорун-ья, Шсл. болтун-ья, пустослов. *Сьціхні ты малатарня: ляпае ды ляпае цэлы дзень языком!* Ст.
•**малава́жаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—малое значение. Гсл. *Гэта імне малаважаньне.* Гсл.
•**мала-веле,** *нареч.*—более-менее. Ар. *См. мала-многа.*
**2.** немного.
•**малаці́ць,** *малачу̀, малоціш-це, несоверш., перех. і без дат.,*— молоти́ть, выколачивать зерна из колосьев, мешелок. Ар. *Малаціць авес.* Вял.
**малаціць акалотам**—молотить, ударяя снопами о что-л.(бревно, доску, скамью и т. п.). Ар. *Тата акалотам малоце жыта на сяўбу.* Ар.
**малаціць языком**—пустословить, болтать. Шсл. *Малоце языком, як тая малатарня.* Ст. *Соверш.* **адмалаціць, 1.** окончить молотьбу, отмолотить. Дсл. *Нашы адмалацілі ў пана — прышлі па грошы.*
**2.** о сильной усталости от тяжелой, физической работы. Дсл. *Адмалаціў патыліцу, ажно пот цячэць.* Дсл.
**3.** побить сильно, нанося многие удары. Дсл. *Грудзі адмалацілі.* Дсл.
•**малацьба́**-*бы, ж.*—молотьба. Ар.
•**малацьбі́т**-*іта̀, предл.-іту̀, зват.-і̀це, мн. ч., дат.-том, мн. ч.-тох, м.,* НК.: Очерки, Но. 378—молотильчик. Ар.
•**малача́й**-*аю̀, предл.-аю̀, зват.-а̀ю, м.*—одуванчик. З. Верас. *См. багатка.* Любча(Верас).
•**малача́сны,** *-ная-нае*—кратковременный, Нсл. 279. краткосрочный. МГсл. *Малачаснае жыцьцё наша.* Нсл.
•**мале́льны**-*ная-нае*—молитвенный. *Хацелася стаць перад ёй на калены і ў малельнай радасьці сузіраць бясконца гэта непераможнае хараство.* ЗСД. 212.
•**мале́нскі**-*кая-кае*—свойственный ребенку(детский, С.). Нсл. 278. *Маленскімі займаецца справамі.* Нсл.
**2.** малый. Нсл. 278. *Не маленскі час правёў ў вас.* Нсл.
•**мале́нства**-*ва, ср.* **1.** детство. Гсл. *Янка Купала ўходзе ў наша сьведам'е із самага маленства.* Івашын("Бел. Голас", жнівень 1962). *Прайшло маленства.* Гілевіч. *Гады маленства, вы мяне вялі ў бор.* Кавыль: Думы, 29. *З маленства навекі душой палюбіў зялёнае поле.* А. Бачыла. *Чаму з маленства ня ўмеў шанаваці цябе, мой край?* Гарун. *Ён із маленства краў.* Нсл. 278. *Паўстаюць дні маленства з гоманам Палесься.* Крушына: Творы, 41. *Я тут правёў свайго маленства дні.* Пушча(Калосьсе, 2, стр. 93). *Ах, гэтыя перапказы вольнай творчасьці паэты ў лепшую пару яго жыцьця, пару маленства!* Гарэцкі: Песьні, 14. *Ёсьць і у Хомчыным маленстве залаценькія дзянькі.* Тм. 64. *У маленстве ён бачыў вялікі пажар.* Дзьве Душы, 100.
*І я знаходжу сваю дарогу у хорам сьветлы майго маленства.* Салавей: Сіла, 63. *Павінен я кінуць, зрачыся ўсяго, што з маленства мне міла.* Дубоўка. *Яны мне блізкія з маленства ад першых золакаў былі.* М. Чарняўскі. *Былі й іншыя прычыны, што з маленства зраднілі яго зь беларускім сялом.* Васілеўскі(Полымя, 1929, УІ, 186). *Ён сіліўся перабіраць у памяці ўсё перажытае: ...гады маленства...* Дудзіцкі ("Бацьк." Но. 1-2, 437-438). *Тут, яшчэ ў маленстве было спазнана, як прыгож бязьмерна сьвет дзівосны.* "Бацьк.", Но. 49-50, 435-436. *Тыя песьні ад першай маленства зары назаўсёды мне ў сэрца запалі.* М. Чарняўскі: Род. Беларусі. *Знаёмае ўсе тут з маленства, прырода, усьмехі, людзі.* Швэд: Сьцежкі, 12.
**2.** малость(незначительное количество, С.). Нсл. 278. *Маленства даў.* Нсл.
•**мале́ньне,**—*см. под маліць-цца.*
•**малец,** -*лца, предл.-лцу, зват.-льча, м.*—мальчик, подросток.(Нсл. 278). *Расхапаныя малцамі, баранкі, пернікі.* Нсл. 560.(*под расхапаны*). *Бацька прыгоне малца к сасе й касе.* НК.: Дудар, 186. *Ой, будзе, мальцы, ліха вас!* НК.: Игры, Но. 26. *Стары Жыд міргнуў на мальца.* Тапчэўскі: Пан. ігрышча. *Малца вазьмі із сабою.* Нсл. *На! Вязі малцу свайму гасьцінца.* Нсл. *Наш малец наўзяўся, малаціць, касіць.* Тм. 426.(*под паўзяцца*). *Добра гадаваліся хлопчыкі. Ігналік падыймаўся на ногі дужым і харошым малцам.* Дзьве Душы, 6.
**2.** прислужник(слуга). Нсл. 278. *Прышлі за мною свайго малца.* Нсл. *Ну, а мальцы-ліжы пальцы, вось яны, вось дзяцюкі.* Купала: Адвечная песьня. *Ідзець малец абстрыканы і гудзець.* Дсл.(*под абстрыканы*).
•**мале́цтва**-*ва, собир.*—мальчуганы(ребятишки, С.). Нсл. 278. *Малѐцтва гэта накарміць трэба.* Нсл.
•**мале́ча**-*чы, общ.*—малолетний-няя. Нсл. 278. *Ты яшчэ малеча; табе малечы ня трэба гэтага ведаць.* Нсл. *Азірнецца, ці ня пройдзе міма які хлопец — быццам таму хлопцу дужа яна ў галаве, такая малеча.* Гарэцкі: Песьні, 66. *Ср. галеча.*
**2.** *собир.*—мальчуганы(ребятишки, С.). Нсл. 278. *Малечу гэту водзе ўсюдых із сабою.* Нсл. *Паправілі матчын гандаль, даўшы троху ў каршэнь гарэзьлівай малечы.* Гарэцкі: Песьні, 77.

•**малёгаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—усиленно просить, молить, клянчить. Іг. *Як ні малёгаў — не далі.* Іг. *Пачаў Зубрыцкі малёгаць, каб аддалі яны свайго хлапца да хлопску ў месцкую.* Калюга: Нядоля Заблоцкіх. *Гэтак во налёгаў, ды прымазваўся, ды так маркотна пазіраў на Рамана, што той і зьмяк.* Зьніч, 1952, Но. 20, 7.

•**маля́р**-*ярà, предл.-ярỳ, зват.-яру, мн. ч.-рырoў-ром-роў-рàмі-рох, м.* 1. живописец. *Маляр намаляваў патрэт, абраз.*

2. красильщик(маляр). Ксл. *Ён наняў маляра малявацъ кухар.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.).

•**маляроў**-*ова-ова,* 1. принадлежащий живописцу. Нсл. 279. *Маляроў сын, двор.* Нсл.

2. принадлежащий красильщику.

•**маля́рка**-*ркі-рцы, ж.* 1. женщина живописец.

2. красильщица.

•**малярня**-*ні-ні, мн. ч.-няў, ж.*—рабочая живописца. Нсл. 279. *Гаспадар у малярні.* Нсл.

•**маля́рскі**-*кая-кае*—свойственный живописи и живописцу; относящийся к живописи и живописцу. Нсл. 279. *Малярскі заработак.* Нсл. *Малярскае рамяство.* Нсл. *Малярская слава.* Нсл.

•**малярства**-*ва, ср.*—живопись. МГсл. *Вывучыў ясьмі яго малярству.* Гордз. Ак., XYII, 4.

•**малява́ць**-*люю-люеш-люе, несоверш., перех.* 1. изображать, расписывать красками, Ар.; Нсл. 278. рисовать. *Пападзе які алавік або вугаль ды малюе.* Ст. *Малявацъ санкі, дугу.* Нсл. *Соверш.* **памалява́ць**—покрасить. Ар. *Памаляваў вокны.* Ар.

2. писать, создавать произведение живописи. *Не такі чорт страшны, як яго малююць. Послов.* Нсл. 278. *Соверш.* **намалявацъ, а**) написать(картину, портрет). *Маляр намаляваў абраз.*

б) нарисовать.

3. оговаривать, описывать. Нсл. 278. *Добра ты мяне перад людзьмі малюеш.* Нсл. *Прич.* **маляваны, 1.** изображенный красками(крашенный, нарисованный, С.). Нсл. 278,—разрисованный. Расуха Імгл.(Косіч, 236). *Маляваная рыбка на стале.* Нсл.

2. раскрашенный, Нсл. 278. расписной. *Маляваныя санкі.* Нсл. *Маляваныя стаўпы.* Нсл. *Маляваны стол у папа.* Тм. *Цімоху нашаму бяда лучылася, зьгінула скрынка маляваная. І дачушка каханая.* Из свад. песни, Нсл. *Справіў маляваны вазок.* Ст. *Караваю мой маляваны, ды хто ж цябе маляваў, ці багі цябе малявалі, ці малыя бажанятачкі? Малявалі мяне зорачкі, да Расуцкія дзевачкі.* Расуха Імгл.(Косіч, 236).

3. писанный(красками). *Як хараша маляваныя абразы ў маляра!*

**малява́ненькі,** *прилаг.* 1. *ласкат. к маляваны 1, 2, 3.*

2. красивенький. Нсл. 278. *Маляваненькі, як ангілчык.* Нсл.

4. *в см. прилаг.*—воображаемый. Нсл. 278. *Маляваны яблык зьясі.* Нсл. *Паезьдзім на маляваным каню.* Нсл. *Маляваная праўда, зн. няпраўда.*

**маляваньне**-*ня, предл.-ню,* 1. рисование. Нсл. 278. *Харошае маляваньне.* Нсл.

2. крашение.

3. писание, изображение красками.

**замалёваваць**-*вую-вуеш-вуе, несоверш.*—покрывать особой какой-л. краской. Нсл. 174. *Замалёвавай, замалюй усе гэта сіняю краскаю.* Нсл. *Соверш.* **замалява́ць** *-люю-люеш-люе.* Нсл. 174. *См. замалёвавацъ.*

•**малі́к**-*ікà, предл.-ікỳ, зват.-іча, мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—затылок, шея. Нсл. 278. *Далі ў малік.* Нсл. *Па маліку заробіш.* Нсл. *Нацерлі троху малік.* Тм.

•**малімонік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, общ.*—прихотник-ица, особенно к вкусным кушаниям. Нсл. 278. *Які, якая ты малімонік! Хлеба аднаго ня хочаш есьці.* Нсл. *Уменьш.* **малімонічак**-*чка, предл. и зват.-чку*—лакомка ребенок. Нсл. 278. *Малімонічак наш панічок, сьмятанку любіць.* Нсл. *Уменьш.* **малімончык**-*ыка — малімонічак.* Нсл. 278.

•**малімонікі**-*каў, единств. ч. нет.* 1. сласти, легкие кушанья, обыкновенно приготовляемые для детей. Нсл. 278. *Ты толькі малімонікі любіш.* Нсл. *Не малімонікамі ж цябе карміць.* Нсл.

2. *перен.*—ласкательство. Нсл. 278. *Досіць вам мяне малімонікамі карміць.* Нсл. *Дадзелі імне вашы малімонікі.* Нсл.

•**малімоніць**-*ню-ніш-не, несоверш., перех.*—нежить, как бы представляя кого малым, Нсл. 278. баловать. *Матка мяне не малімоніла, не змалімоніла; я змалку да ўсяго прывык.* Нсл. *Соверш.* **змалімоніць.** Нсл. 278.

•**малімоніцца**-*нюся-нішся, несоверш., возвр.* 1. нежиться, подобно малым детям. Нсл. 278. *Няма чаго малімоніцца, ты ўжо вялікі, пара брацца за работу.* Нсл.

2. чваниться, церемониться. Нсл. 278. *Еж, не малімоніўшыся.* Нсл. *Соверш.* **замалімоніцца.** Нсл. 174. *Соверш.* **змалімоніцца.** Нсл. 278. *Змалімоніўся і ня еў.* Нсл. *Соверш.* **памалімоніцца,** *возвр.*—поупрямиться; показать, что не нравится предлагаемое. Нсл. 463. *Памалімонішся, ня будзеш есьці ды пасьля скулу зьясі.* Нсл.

•**малімонічаць,** *-аю-аеш-ае , несоверш.*—прихотничать, быть разборчиву в кушанье, Нсл. 278. быть разборчивым, привередливым, капризным. *Калі малімонічаеш, то значыць не галодны.* Нсл.

●**малімонка**-*нкі-ньцы, ж.* **1.** женщина прихотливая, разборчивая в пище, в яствах. Нсл. 278. *Паненка малімонка, нашага хлеба ня возьме есьці.* Нсл.
**2.** церемонная или чванливая женщина. Нсл. 278. *Малімонка гэта з намі й гаварыць ня хоча.* Нсл.
●**малімонны**-*ная-нае*—чванный, церемонный. Нсл. 278. *Мы не малімонныя людзі. Што даюць, ямо.* Нсл.
●**маліновы**-*вая-вае*(*куст, ягады, колер, хварба*)—малиновый(куст, ягоды, цвет, краска). Ар.
●**маліноўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—малиновый платок. Ксл. *Я буду купляць маліноўку.* Зяшковічы Сян. (Ксл.).
●**маліна**-*ны-не, ж.*—малина(кустарник и ягоды). Ар. *Уменьш.* **малінка**-*нкі-нцы.* Ар. *Ласкат.* **малініца**-*цы-цы. Ты калініца, ты малініца.* Хахлоўка (ПНЗ. 44).
●**малі̃навік**-*іка, предл.-іку, símat.-іча, м.* —питейный мед, настоенный на малине. Нсл. 278. *Штоп малінавіку паставіў госьцям.* Нсл.
●**малі̃ньнік**-*іка, предл.-іку, símat.-іча, м.* **1.** заросли малины, малинник.
**2.** питейный мед, настоенный на малине. Нсл. 278. *Штоп маліньніку паставіў госьцям.* Нсл. *См. малінавік.*
●**маліта́н**-*ну, предл. и símat.-не, м.*—бумазея. Шсл. *Набрала на спадніцу малітану.* Ст. *См. малып, мультан.*
●**маліта́навы**-*вая-вае*—бумазейный. Шсл. *Малітанавая катанка.* Ст. *См. мультановы.*
●**малі̃таўка**-*ўкі-ўцы, ж.* **1.** молитвенница, предстательница пред Богом. Нсл. 288. *Божая маці малітаўка ў Бога за нашы душы.* Нсл.
**2.** *см. малітва.*
●**малітаўка II**-*ўкі-ўцы, ж.*—складка. Ксл. *Пабрала ў малітаўкі ўвесь кусок.* Даўгое Беш. (Ксл.).
●**малі̃таўнік**-*іка, предл.-іку, símat.-іча, м.* **1.** молитвенник, молитвенная книжка. Нсл. 288. *Сьвятар малітаўнік свой забыўся.* Нсл.
**2.** молитвенник, предстатель перед Богом. Нсл. 288. *Усі сьвятыя, малітаўнікі нашы ў Бога, няхай табе памагаюць.* Нсл.
●**малі̃тва**-*вы-ве, мн. ч.-ваў, ж.*—молитва.
**малітву чыніць**—творить молитву. *Стаў жа Лазар малітву чыніць.* НК.: Старцы, 93. *Пачаў жа багаты малітву чыніць.* Тм., 94. *Уменьш.* **малі̃таўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—краткая молитва. Нсл. 288. *Прачытай малітаўку.* Нсл. *Малітаўку чынілі.* НК.: Старцы, 81.
●**малі̃твіць**-*вю-віш-ве, несоверш.*—давать разрешительную молитву. Нсл. 288. *Татулька малітвіць прыехаў.* Нсл.
●**ма́ліць**-*лю-ліш-ле, каго-што, несоверш.* **1.** уменьшать. Лебедзева Мал., умалять. БНсл.; Нсл. 279. *Ня маль ботаў, памаліш, цесныя будуць.* Нсл. *Соверш.* **памаліць.** Нсл. 279.
**2.** представлять кого-л. малым. Нсл. 278. *Няма чаго яго маліць, калі яму пятнан цаты год.* Нсл.
**змалі̃ць,** *соверш. к маліць I,*—умалить. БНсл.; Лебедзева Мал. *Змàліў скрыню на нішто.* Лебедзева Мал.
**2.** *соверш. к мàліць 2.* Нсл. 278. *Матка змаліла сваю дачку.* Нсл.
●**ма́ліцца**-*люся-лішся*—представлять себя малым, малолетним. Нсл. 279. *Пара жаніць, а ты ўсё малішся.* Нсл.
●**малі̃ць**-*лю, моліш-ле, несоверш.* **1.** (молить, **С.**), умолять. Нсл. 288. *Маліці Бога.* Кіт. 17а13. *Отгл. имя сущ.* **мале́ньне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў,* действие по глаг. *маліць,*—горячая(страстная,С) просьба Нсл. мольба. МГсл. *Не патрабую твайго маленьня, я й без малèньня твайго зрабіў-бы гэта.* Нсл. *Ср. маліць. Соверш.* **умалі̃ць,** Нсл. 288—умолить. *Колькі ні маліў яго, не ўмаліў пазычыць грошы, ня даў ні капейкі.* Нсл.
**2.** учить детей молиться Богу, подсказывая им молитву. Нсл. 288. *Малі, памалі дзеці Богу.* Нсл. *Соверш.* **памаліць.** Нсл. 288. *См. маліць 2.*
●**малі̃цца**-*люся, молішся, повел.-лі̃ся-лі̃мася, несоверш.* **1.** молиться Богу. Нсл. 288. *Шасьцьдзясят год Богу маліўся.* Кіт. 1361. *Як ты будзеш дзеці вучыць маліцца Богу, калі сам ня ўмееш маліцца.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **мале́ньне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў, ср.* действие по глаг. *маліцца*—молитвословие. Нсл. 288. *Без маленьня дзяцём дала есьці.* Нсл. *Без маленьня сеў за стол.* Нсл. *Ср. маліцца.*
**2.** усердно просить кого о чем. Нсл. 288. *Ці прасіся, ці маліся, ня будзе па тваім.* Нсл.
**адмаля́цца**-*яюся-яешся, несоверш.*—отпрашиваться от чего-л.(умоляя, **С.**). Дсл. *Начал старшы адмаляецца.* Дсл. *Соверш.* **адмаліцца**—отпроситься.
**памаліцца, 1.** *соверш. к маліцца I.* Нсл. 288. **2.** *соверш. к маліцца 2.* Нсл. 288. *Памаліся яму добранька, можа й дасьць.* Нсл.
●**мална́**-*ны, м.*—могометанский священник, мулла, имам. Ар.; Шсл. *Вэнь мална галёкае з бажніцы.* Ст.
●**ма́льнасьць**-*ці, ж.*—малость, маловажность. Нсл. 279. *Мальнасьці не аддаў.* Нсл. *Усё да мальнасьці пабраў.* Тм.
●**мальны**-*ная-нае*—небольшой, маловажный(незначительный, **С.**). Нсл. 279, маловажный, ничтожный. Тул. (Даль). *Мальны застаўся доўг.* Нсл. *Мальное што не дадаў.* Нсл. *Мальныя засталіся рэчы.* Тм. *Нареч.* **мальна, 1.** мало ли, маловажно. Нсл. 279. *Мальна, што ён гавора.* Нсл.
**2.** чуть-чуть, Нсл. 279. едва не. *Мальна не зваліўся.* Нсл. *Мальна ня зьмерз.* Нсл. *Мальна ня цэлы рубель перадаў.* Тм. *См. за малым.*

**3.** *в см. сущ.*—небольшое, малое количество, безделица. Нсл. 279. *Мальна чаго не дабраў.* Нсл. *Мальна што засталося за імною.* Нсл.

•**малы́**-*лая-лое,* **1.** малый. Ар.; Шсл.; Раст.: Северск, 135. *Пакрыўдзе малога.* Колас ("Каласкі", Но. 60-61, 1958 г.). *Уменьш., ласкат.* **малю́хны**—крошечный. Нсл. 279. *Малюхны баранаачак.* Нсл. *Малюхная голка.* Тм. *Увелич.* **малюсенькі**—малёхонький. Ар.; Нсл. 279. *Малюсенькі гаршэчак.* Нсл.

**2.** краткий, непродолжительный, малый по времени. *Малы час.*

**3.** *в см. сущ.* **малы**-*лога*—ребенок. Нсл. 279. *Малы плачаць.* Нсл. *Пакармі малога.* Тм. *Малога пакладзі ў калыбку.* Ст. *Малыя пайшлі адгэтуль вон!* Ст.

**мале́нькі,** *уменьш., ласкат. к малы 1, 2, 3. Ср. ст.* **меншы** *к малы 1, 2.* Ар. *Прев. ст.* **найменшы** *к малы 1, 2.*

**малы палец**—мизинец. *Трыма палцамі левымі — малым, бязыменным і сярэднім — правую руку ізнадвор'я паглядзіць.* Кіт. 73б11.

**за малым, за маленькім**—едва не, чуть не. Ар. *За малым(за маленькім) у студню не ўваліўся.* Ар. *Нареч.* **мала, 1.** мало.

**2.** недолгое время. *Я там быў мала.*

**мала які, якая, якое**—мало ли какой. *Мала якая там была гаварня. Усяе гаварні не праслухаеш.* Нсл. 115(*под гаварня*).

**мала што**—мало-ли что. *Мала што людзі кажуць.*

•**малюнак**-*нку, м.*—рисунок. МГсл.

•**малюпа́сенькі,** -*кая-кае*—крошечный. Нсл. 279. *Якая малюпасенькая шпілечка.* Нсл.

•**малюпа́тка**-*ткі-тцы, ж.*—крошечка, крохоткое. Нсл. 279. *Дзяцё малюпатка.* Нсл. *Уменьш.* **малюпа́тачка**-*чкі-чцы.* Нсл. 279. *Дай хоць малюпатачку чаго.* Нсл.

•**малюпа́ткі**-*кая-кае — малюпа́сенькі.* Нсл. 279. *Уменьш.* **малюпа́ценькі,** Нсл. 279 —крохотный. МГсл.

•**малюпа́цiцца**-*па́чуся-па́цішся, несоверш., возвр.*— представлять себя маленьким, крошечным; нежиться подобно малютке. Нсл. 279. *Дужа ты малюпацішся.* Нсл. *Досіць табе малюпаціцца, вазьмі грабелькі.* Тм.

•**малюшкі**-*шак(-шкаў), одна малюшка,* **1.** сушеная мелкорыбица. НК.: Очерки, 36; НК.: Бабы, Но. 24.

**2.** сборная годовая мелкорыбица. НК.: Очерки, 493.

•**мамошка**-*шкі-шцы, ж.*—наложница. Нсл. 279. *Мамошку ў сябе дзяржыць, а жаніцца ня хочаць.* Нсл.

•**ма́ма**-*мы-ме, ж., обыкновенно в обращении к матери или в речи детей или с детьми о матери,* **1.** мама. Ар.; Нсл. 279. *Няхай мама сама сюды твая прыдзець.* Нсл.

**2.** *насм. или с упреками*—взрослая девица. Нсл. 279. *Ты ўжо хвала Богу мама, пара замуж аддаваць, а ня ўмееш прасьці.* Нсл.

**ма́мачка**-*чкі-чцы, уменьш., ласкат. к мамка*—маменька. Нсл. 279. *Мамачку сваю пакідаю.* Нсл. *Уменьш., ласкат.* **мамка**-*мкі-мцы.* НК.: Очерки, 205—маменька. Нсл. 279. *Мамка мая родная, жаль мне мамку кінуць.* Нсл. *Ня плач: мамка прыдзе, дасьць есьці.* Ст. *На мамку ён (войт) бізун нясець.* НК.: Под. пос. 55. *Ласкат.* **мамухна,** (Ржэўскіп. Гринькова ІУ)—мамушка. Растсл.; Ар.

**2.** маменька. Ар.; Нсл. 279. *Паеду, мамухна, паеду у тую дарогу часную, па тую Лукірку красную.* Імгл.(Косіч 240). *Прыяжджай к імне мамухна.* Нсл. *Жыві мая мамухна безь мяне.* Расуха Імгл.(Косіч 242). *Уменьш., ласкат.* **маму́лька.** *А маму́лька о-ё-ёй!* Нік. Част. 644. *Успомне мамульку.* Гарун: Варажба.

•**мамэнт**-*нту, предл. и зват.-нце, м.*—момент. Ксл. *У вадзін мамэнт стала горача.* Сялец Чаш. (Ксл.).

•**ма́мка**-*мкі-мцы, ж.* **1.** кормилица(кормящая грудью, С.). МГсл.

**2.** *см. мама.*

•**ма́мчыць**-*чу-чыш-ча, несоверш., перех.* —быть кормилицей грудью. *У іх усіх свае дзеці былі, свае пакінуўшы чужыя мамчылі.* Кіт. 129а5.

•**мамы́ліць**-*лю-ліш-ле, несоверш., перех.* —мять, надувать губы от неудовольствия. Нсл. 279. *Малой бяды імне, што ты мамыліш, замамыліў губы свае.* Нсл. *Соверш.* **замамыліць,** Нсл. 279—надуть, закусить губы, надуть губы от неудовольствия. Нсл. 279. *Ня люба відаць, што ты замамыліла морду.* Нсл. 279. *Прич.* **замамылены**—искривленный, надутый. Нсл. 279. *Замамыленыя губы.* Нсл. *Соверш.* **намамы́ліць**—надуть. Нсл. *Ня дужа глядзім, што ты сядзіш намамыліўшы губы.* Нсл. *Прич.* **намамы́лены**—надутый от досады. Нсл.

•**мамы́ліцца**-*люся-лішся, несоверш.*—надуваться, показывать лицом, особенно губами неудовольствие. Нсл. 279. *Досіць табе мамыліцца, хадзі есьці.* Нсл. *Соверш.* **замамы́ліцца, 1.** поморщиться, закусить губы, выразить движением губ недовольствие или замешательство, Гсл. надуться, принять суровое выражение от неудовольствия. Нсл. 174. *Такая натура, як замамыліцца, то й есьці ня пойдзе.* Нсл.

**2.** сконфузиться. Гсл. *Замамыліўся, як сказалі праўду ў вочы.* Гсл. *Соверш.* **намамы́ліцца**—надуться от гнева. Нсл. *Не глядзі на тое, што яна намамылілася.* Нсл.

•**мамы́ль**-*ыля̀, предл.-ылю, зват.-ы̀лю; мн. ч.-лі-лёў-лём-лёў-лямі-лёх, общ.*—сердитый, надувший губы. Нсл. 279. *Мамыль наш грыбы надзьмуў.* Нсл. *Мамылём сядзіць, есьці ня йдзець.* Тм.

•**мані́ць**-*ню̀-ніш-ніць, несоверш.*—лгать. МГсл.; Дз.; Шсл.; Міх.; Ксл. *Багатаму красьці, а старому маніць.* *Послов.* Рапан.: Прык. 12. *Ну, што ты маніш, гэтага ж ня было!* Воўсішча Сян. (Ксл.). *Калі маніць, дык гладка.* *Послов.* Рапан. 146.; Скрыль Пух. (Шсл.). *Пакажыце, дзе дарога зь пекла гэтага з агню, бо загінем, не маню.* Грахоўскі: Лясная казка. *Соверш.* **змані́ць**—солгать. *Няпраўда твая, зманіў.* Ст. *Што ступіць, то й зма̀ніць.* Рапан.: Прык. 160.

•**мана́**-*ны̀, ж.*—ложь. Дз.; Ксл.; Шсл.; МГсл.; Міх. *Мана ўсё, што пра нас кажуць.* Лужасна (Ксл.) *Вы мае сьцежкі перазь лябірынт людзкое маны.* Машара(Калосьсе, кн. I, 1935 г., стр. 10). *Гэта ж мана, няпраўда!* Ст. *З маной сьвет пройдзеш, ды назад ня вернешся.* *Послов.* Рапан 237. *Люблю цябе, што ты на ўсякую ману з другога боку зазірнуў.* Клішэвіч: В. Каліна. *Шмат напісалі там красамоўнае лухты і проста маны праз камуністычную дзеяльнасьць нябожчыкаву.* Дзьве Душы, 190. *Не магу глядзець на ўсё гэта — на ўсю гэтую ману.* Цялеш: Дзесяць, 31. *Дзе каханьне, там і згода без маны і крывадушша.* Крушына: Творы, 167. *Раз зманіў-другі раз не паверяць.* Рапан.: Прык. 209. *Аддасі і застанецца нявыгойлівая рана. Ці ня лепш адно — зманіць.* Крушына: Лебедзь, 60. *Соверш.* **прымані́ць**—подолгать(прилгать, С.). Шсл. *А ён такі: што праўду скажа, а што прыма̀ніць.* Ст.

•**мані́цца**-*нюся-нішся*—иметь намерение, намеряться. Ар. *Ты пісаў мне пра Сыцылю, дзе і Аўлі маняцца асесьці на старасьць.* Кво вадыс, 263. *Маняцца браць удзел.* Бацьк. Но. 49/533. *Цэзар маніцца даведацца да Остыі.* Тат.: Кво вадыс, 246.

•**манта́ч**-*ача̀, предл.-ачу̀, зват.-а̀чу; мн. ч.-чы-чоў-чом-чоў-ча̀мі-чох, м.* **1.** плут, обманщик. Нсл. 280. *Ня бачылі яшчэ такога мантача, як ты.* Нсл.

**2.** мот. Нсл. 280. *Што ні дай гэтаму мантачу — усё прапусьціць.* Нсл.

•**манта́чка**-*чкі-чцы, ж.*—плутовка, обманщица. Нсл. 280. *Хто табе мантачцы паверыць.* Нсл.

•**манта́чыць**-*чу-чыш-ча, несоверш.* **1.** обманывать, врать. Нсл. 280. *Што ні кажаш, усё мантачыш.* Нсл.

**2.** *перех.*—мотать, проматывать. Нсл. 280. *Цяпер мантачыш грошыкі а потым жалець будзеш.* Нсл. *Соверш.* **змантачыць**—промотать, утратить, потерять. *Змантачыў час.* Нсл. 280. *Соверш.* **вымантачыць**-*чу-чыш-ча, повел.-ч-чма, перех.*—выманить, МГсл. выпросить обманом, лестью. Нсл. 86. *Вымантачыла грошай на кабат.* Нсл.

•**манту́ліць**-*лю-ліш-ле, несоверш.*—притворяться бедным, чтобы живиться чужим. Нсл. 280. *У людзёў мантуліш, чаму ж свайго ня маеш?* Нсл. *Ён цэлы век свой мантуліць.* Нсл.

•**манту́лка**-*лкі-лцы, ж.*—любящая жить на чужой счет, ходить, напрашиваться на чужой обед(не только на обед, С.). Нсл. 280. *Манту̀лка ў сваім дварэ не паабедаець, усё па мантулах ходзіць.* Нсл.

•**манту́льнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—любящий жить на чужой счет. Нсл. 280. *Мантульнік гэты любіць чужое піць, а свае ніколі не паставіць гарэлкі.* Нсл.

•**манту́лы**-*лаў, единств. ч. нет.* **1.** похоронный обед по умершем. Нсл. 280. *Памер і мантулы паелі.* Нсл.

**2.** угощение по случаю поминовения или какого-л. празднества. Нсл. 280. *На мантулы звалі.* Нсл. *Гэта табе ад мантул.* Тм.

**3.** даровая попойка. Нсл. 280. *Любіш хадзіць на чужыя мантулы.* Нсл.

**4.** выгоды жизни, легкие доходы. Нсл. 280. *Мінуліся мантулы.* Нсл.

•**мань**-*ня̀, предл. и зват.-ню, мн. ч.-ні-няў*—лжец, лгун. Іг.; Шсл. *Мань ты нясусьветны, што ты плявузгаеш?* Ст. *Як ты мань, калі б такі другі падлыгайла, то ўвесь сьвет прайшлі б.* Нсл. 443. *Мані пляскалі мне ў ладкі.* Кавыль: Думы, II.

•**маньне: ціхім маньням**—тихой сапой. Смаленш.

•**маньце́ль**-*цяля̀, предл.-цялю, зват.-цѐлю, мн. ч.-лі-лёў-лямі-лёх, м.*—лжец. Шсл.; Іг. *Вось дзе маньцель; маніць і не чырванее!* Ст. *См. мань, манюка, маныш.*

•**маньце́лька**-*лькі-льцы, ж.*—лгунья. Шсл.; Іг. *Ня слухайце, дзевачкі гэтае маньцелькі; маніць яна вам!* Ст.

•**маныня́рка**-*ркі-рцы, ж.*—пиджак. Ар.

•**маны́ш**-*ыша̀, предл.-ышу̀, зват.-ы̀шу, мн. ч.-шы̀-шоў-шом-шоў-шамі-шох*—лжец. Дз. *См. мань, маньцель, манюка.*

•**маню́ка**-*юкі, общ.*—лгун, лжец. МГсл.; Дз.; Шсл. *Маніш ты, манюка!* Ст.

•**мароз**-*озу, предл. и зват.-озе, мн. ч.-зы̀-зоў-зом-зы-замі-зох, м.*—мороз. Ар. *Павёзшы быў вяпрука на продаж, узімку, у самыя маразы.* Вышынскі: Хата пад ліпою(Беларус, Но. 155). *Каб я застаўся тутка, дык зьгінуў бы ад вялікіх маразоў.* Шакун: Сьлед, 12.

•**марока I**-*окі-оцы, ж.* **1.** медленность, остановка. Нсл. 290. *За табою марока толькі.* Нсл.

**2.** *общ.*—медлитель-ница. Нсл. 290. *Мароку куды ні пашлі, забавіцца.* Нсл.

•**марока II**-*окі-оцы, ж.* **1.** помрачение (ума, С.). Нсл. 290. *Якаясь марока на мяне напала, што я забыўся ў дварэ кашэль.* Нсл.

**2.** попрошайка, докучливый проситель. Нсл. 290. *Адчапіся ад мяне, марока!* Нсл. *Марока гэты, гэтая праходу не даець, усе просе а мароча.* Нсл.

**●мароканьне**-ня, *предл.-ню, мн. ч.-ні-няў* —проволочка времени, медлительность. Нсл. 290. *З мароканьням тваім ня борзда ты скончыш сваю работу.* Нсл.

**●марокаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** медлить. Нсл. 290. *Паўдня на дварэ, а ты ўсё марокаеш, не зьбярэшся йсьці.* Нсл.

**2.** медленно делать что-л. Нсл. 290. *Пакуль ты будзеш марокаць із сваёю работаю.* Нсл.

**●марочаньне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў,* **1.** безотвязная просьба. Нсл. 290. *Марочаньням сваім здурыў мне галаву.* Нсл.

**2.** омрачение(затемнение, С.). Нсл. 290. *Марочаньне на цябе нейкае напала.* Нсл.

**●марочыць**-*чу-чыш-ча, несоверш., перех.* **1.** обманывать. Нсл. 290. *Што ты мяне марочыш?* Нсл. *Соверш.* **абмарочыць**—обмануть. Нсл. 290.

**замарочыць**—омрачить обманом, плутнями. Нсл. 175. *Што ты мяне замарочыў? Я ж яшчэ ня згубіў памяці.* Нсл.

**2.** просить неотступно, надоедать безотвязною просьбою. Нсл. 290. *Мароч, не мароч, ня дам. Соверш.* **вымарачыць.** Нсл. 290. *Вось такі вымарачыў грошы.* Нсл.

**3.** *безлич.* **мароча,** *соверш.* **абмарочыла** —помрачение ума, рассудка находит. Нсл. 290. *Каб цябе марочыла!* Нсл. *Абмарочыла мяне, што я перадаў лішку.* Нсл. *Прич.* **марочаны, 1.** выпрошенный с трудом. Нсл. 290. *Марочаны хлеб гаркі.* Нсл.

**2.** омраченный. Нсл. 290. *Марочаны ты чалавек!* Нсл. *Марочаная твая галава, куды ты лезеш.* Нсл.

**●марочыцца**-*чуся-чышся, несоверш., возвр.* —омрачаться, терять ум. Нсл. 290. *Марочышся, Бог ведае чаго!* Нсл. *Соверш.* **абмарочыцца.** Нсл. 290. *Абмарочыўся, ня ўзяў здатку ад Жыда. Соверш.* **замарочыцца**—потерять внимание. Нсл. 175. *За вашым крыкам, гоманам замарочыцца чалавек.* Нсл. *Чыста галава мая замарачылася.*

**●мара́**-*ры̀, общ. от марыць*—надоедало, досаждающий морочением. Нсл. 289; Іг. *Мара гэты дадзеў імне.* Нсл. *Адкасьніся ты, мара праклятая!* Нсл.

**●мара**-*ры, ж.*—гибель. ПНЗ.

**●маразя́нка**-*нкі-нцы, ж.*—продукт поливаемого водой навоза, помещенного в старое решето. *"Маразянка"* служит детям для катания. НК.: Игры, 30.

**●маразяны**-*ная-нае*—морозный. Ар. *Што ж мне застаецца рабіць, калі надыходзе маразяная зіма?* Шакун: Сьлед, 1. *Маразяная студзенская ноч,* Нязнаны.(Бацьк., Но. 36-37/115-116) получившийся от мороза. *Балонкі ў маленькіх аконцах пазамярзалі на цэлую цалю, ажно маразяны хлоп вісіць.* Гарэцкі: Песьні, 41.

**●маракава́ць І**-*ку́ю-ку́еш-ку́е, несоверш.* — медленно что-л. делать, по не твердому знанию предмета, или по несмелости, или неохоте. Нсл. 290. *Што тут маракава̀ць, рабі сьмела.* Нсл. *Не маракаваў бы так, калі б была ахвота.* Нсл.

**маракаваць**—сетовать. Еўлічы. *Не маракуй на свое цяжкое жыцьцё.* Тм.

**●мараканíна**-*ны-не, ж.*—замедление, замедливающее препятствие. Нсл. 290. *Ні ў тым, ні ў сім сядзім за гэтаю мараканінаю.* Нсл. *Мараканіну нам зрабіў.* Тм.

**●маракава́ць ІІ**-*ку́ю-ку́еш-ку́е, несоверш.* **1.** иметь неудовольствие, роптать, жаловаться, Нсл. 290. сетовать. *Ён даўно даўна маракуе на мяне за гэта.* Нсл.

**2.** жить незавидно, скучно, кое-как переживать горе. Нсл. 290. *Маракуем на сьвеце; ня жывем а цьмеем.* Нсл.

**●маравíк**-*ікà, предл.-ку, зват. маравіча; мн. ч. маравікі̀-оў-ом, мн. ч., предл.-ох, м.* —моряк. Смаленшч.

**●маравы́**-*вàя-вое*—морской. Смаленшч. *Твае коні на сінім моры ядуць траўку шаўковую, а п'юць ваду маравую.* Дсл.

**●маргéлка**-*лкі-лцы, ж.*—белая войлочная шляпа, имеющая вид низко усеченного конуса, с завороченными вверх небольшими краями, НК.: Очерки, 113. поярковая шляпа. Растсл.; Гсл. Другой вид *"маргелкі"* уже более не встречающейся напоминает скуфью с округлыми сторонами; она не имела загиба, а была с ровно отрезаными краями. НК.: Очерки, 113.

**●маргéль,** *маргялà, предл.-гялю̀, зват.-гèлю; мн. ч.-лі̀-лёў-лём-лі̀-лямі-лёх, м.*—название рябого быка, вола. Ар.

**●мардалы́сы,** *лаянка,*—имеющий очень редкую бороду. Нсл. 289. *Мардалысы чорт.* Нсл.

**●мардапы́шыцца**-*шуся-шышся, несоверш.* —делаться спесивым. Нсл. 289. *Не мардапышся, мы цябе знаем.* Нсл.

**●мардапы́шка**-*кі, общ.*—напышенный-ная; спесивец-вица. Нсл. 289. *Зьбіць трэба рогі гэтаму, гэтай мардапышцы.* Нсл. *Дзеўка добрая, але мардапышка.* Тм.

**●мардáсы**-*саў, единств. ч. нет., презр.* **1.** нос, губы, НК.: Игры, Но. 22. иногда все лицо, НК.: Игры, Но.22. харя. Нсл. 289. *Мардасы сваe выставіў.* Нсл. *Па мардасах заробіш, ня лезь!* Нсл.

**●марзакí,** *-коў-ком, мн. ч., предл.-ках, единств. ч. нет.*—губы, говор. презрительно. Нсл. 290. *Марзакі паб'ю.* Нсл. *Па марзаках заробіш.* Нсл.

**●марзáць**-*дю-дèш-дèе, повел.-дай-дайма, несоверш., перех.*—бить по лицу, по зубам. Нсл. 290. *Марзай, марзані яго добра, каб крывёй умыўся!* Нсл. *Однкр.* **марзану́ць**-*ну̀-нèш-нèць-нем-ніцè.* Нсл. 290. *Соверш.* **памарзаць**—нахлестаць по лицу. Нсл. *Намарзаў добра неслуша гэтага.* Нсл.

•**маркота**-*оты-оце, ж.*—меланхолия, МГсл. меланхолия, грусть. Ар.; МГсл. *У вaднастайнасьць маркоты ўбіваюцца звонку не гарманічныя звонкія гукі.* Дзьве Душы, 49. *Скрозь а скрозь гарота, дзе ні глянь — маркота.* Гарун: Сын. *Спавіты сьвет маркотай.* Гарун(ст. "Навука"). *Лёгка так. Ня маеш дум... Прочках дзесь маркота.* Гарун(ст. "Начлег"). *У маркоце завяў.* Салавей: Сіла, 44. *Падпеpажы маркоты хвалі!* Тм. 51. *Хто ж так спахмурыў іх(астры) маркотай?* Тм. 57. *Гмур і маркота, ці талань?* Тм. 66.

•**маркотнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —находящийся в меланхолии, грусти, Ар. *находящийся в тоске.* Нсл. 280. *Трэба пацешыць чым нашага маркотніка.* Нсл. *Уменьш.* **маркотнічак**-*чка, предл. и зват.-чку, м.* Нсл. 280. *Маленькі маркотнічак тужа па матцы.* Нсл. *Уменьш.* **маркоцік**-*іка, предл.-іку.* Нсл. 280.

•**маркотніца**-*цы-цы, ж.*—находящаяся в меланхолии, грусти, Ар. находящаяся в тоске. Нсл. 280.

•**маркотны**-*ная-нае*—склонный меланхолии, грустный, Ар. мрачный, скучный. Нсл. 280. *Маркотнае тут жыцьцё.* Нсл. *Дзяўчынка вельмі маркотная.* Іванск Чаш. (Ксл.). *Дзянькі мае маркотныя чаму?* Гарун(ст. "Ноктурно").

**маркотна,** *нареч.*—печально, Растсл. грустно, Ар.; Шсл. печально, грустно. Нсл. 280. *Не'к маркотна імне сягодня.* Ст. *Ага! маркотна бяз жонкі.* Нсл.

•**маркоціць**-*очу-оціш-оце, несоверш., перех.* НК.: Піт., Но.12—наводить грусть, Ар. печалить, приводить в мрачное расположение духа. Нсл. 280. *Не маркоць яго, кажучы яму гэта.* Нсл. *Соверш.* **амаркоціць,** *перех.*—опечалить. Нсл. 363. *Амаркоціў ты яго, сказаўшы, што жонка хворая.* Нсл. *Прич.* **амаркочаны**—опечаленный. Нсл. 363. *Амаркочаны і робіць ня весела.* Нсл.

•**маркоціцца,** -*очуся-оцішся, несоверш., возвр.*—грустить, Ар.; Шсл. печалиться, предаваться грусти, Нсл. 280. скучать, НК.: Піт. Но.12. грустить, скучать. Нсл. *Па табе я ня буду маркоціцца.* Нсл. *Годзе табе ўжо маркоціцца: бяжы на вуліцу, пагуляй.* Ст. *Ён дужа маркоціцца.* Лук'янова Сян. (Ксл.). *Соверш.* **замаркоціцца.** Нсл. 280. *Бяз жонкі замаркоціўся.* Нсл. *Соверш.* **узмаркоціцца**—скоро, внезапно или сильно загрустить, Ар. заскучать, предаться скуке. Нсл. 54. *Узмаркоціўся на чужой старане.* Нсл.

•**маркату́н**-*унà, предл.-унỳ, зват.-ỳне, мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—горюн (С.). Нсл. 280. *З маркатуном гэтым і разгаварыцца ня можна.* Нсл.

•**марка́ч**-*ачà, предл.-ачỳ, зват.-àчу, мн. ч. маркачы̀-оў-ом-ы̀-àмі-ох, м.*—баран производитель. Заронава Куз. (Ксл.); Шсл.; Баран.; Вілнш.; Горадзенш.; Менш.(Нсл. 280). *Ну й худыя ж бараны маркачы.* Раўнапольле Сьміл. (Шсл.).

•**мармы́ль**-*ылѝ, предл.-ылю̀, зват.-ы̀лю, мн. ч.-лі̀-лёў-лём-лёў-ля̀мі-лёх, м.*—литер. ворчащий медведь. Нсл. 290. *Сядзіць, надзьмуўшыся, як мармыль.* Нсл.

2. ворчун, брюзга. Нсл. 290. *Ад мармыля нашага добрага не пачуеш слова.* Нсл. *Уменьш.* **мармылёк**-*лькà, предл.-лькỳ, зват. мармы̀льку, мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—говор. о капризном ребенке, упрямчик. Нсл. 290. *Мармыльку гэтаму ня борзда ўгодзіш.* Нсл.

•**мармыта́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к мармытаць 1, 2, 3.*,—ворчание, как медведь, ( С.), бормотание, показывание неудольствия разговариванием сквозь зубы. Нсл. 290. *Не баюся я твайго мармытаньня.* Нсл.

•**мармыта́ць,** *мармычỳ-чаш-ча, несоверш.*
1. ворчать, свойственно медведю. Нсл. 290. *Мядзьведзь мармоча, замарматаў.* Нсл. *См. мурматаць. Соверш.* **замармыта́ць** —начать мармытаць.
2. говорить невнятно, бормотать. (Гсл., Шсл.); Нсл. 290. *Мармыча сабе пад нос.* Міколск М.(Демид: Веров, 1896, II, 141). *Мармыча нешта сабе пад нос, як мядзьведзь.* Ст. *Хто цябе знаець, што ты мармочаш?* Нсл. *См. мармы̀ль.*
3. роптать, наказывать неудоволствие, бармоча. Нсл. *Не гляджу я на тое, што ты маркочаш, а вось мармачы яшчэ!* Нсл. *Соверш.* **памармытаць**—мармытаць так некоторое время. *Соверш.* **прамармыта́ць,** *перех.*—пробормотать, сказать невнятно, с выражением неудовольствия. Нсл. 526. *І дзякуй не прамарматаў.* Нсл. *Прамарматаў нешта пад нос.* Тм.

•**марне́ць**-*èю-èе*—хиреть. Дсл.; ПНЗ.
**змарне́ць**-*èю*—захиреть. ПНЗ.

•**маршалковіч**-*іча, предл.-ічу, мн. ч.-ічаў, м.*—сын маршала, Ст. Акты. сын предводитель дворянства. Нсл. 281. *Маршалковіч палюець.* Нсл.

•**маршалкоўскі,** -*кая-кае*—свойственны предводителю дворянства, Нсл. 281. свойственный маршалу.

•**маршалкоўства**-*ва, ср.*—должность уездного(и губернского, С.) предводителя дворянства, Нсл. 281. должность маршала. *З маршалкоўства ськінулі.* Нсл.

•**маршалка**-*лкі-лку, вин.-лку, твор.-лкам, предл. и зват.-ку,* .— маршал. Ст. акты.
2. председатель важных государственных или муниципальных учреждений. *Маршалка сойму.*
3. предводитель дворянства.
4. старший *"пакосьнік"* на свадьбе.

•**маршалкава́ць**-*кỳю-куеш-куе, повел.-кỳй-кỳйма, нск.*—председательствовать в важных государственных или муниципальных учреждениях. *А маршалкаваў на Сойме наш Ліцьвін, князь Болька Сьвірскі.* Ст. Акты.

•**маршча́к**-*чака̀, предл.—аку̀, зват.-ача, мн. ч., -чакі̀-коу̀-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* —морщина. Віл.

•**мару́да**-*ды, общ.*—мямля, медленный, вялый. Растсл.

•**марудзіць**—медлить. МГсл.

•**марцовікі**-*каў(один марцовік)*—цыплята, родившиеся в марте. НК.: Очерки, 408.

•**марыі́ць**-*рў, морыш-ра, несоверш., перех., заст.* **1.** морить отравою, травить. *Марыць бацы. Соверш.* **памары́ць, а)** поморить, уморить всех, многих. *Стварыцель усё мае памарыць.* Кіт. 127а3, **б)** орить некоторое время.

**2.** морить, доводить до истощения и знеможения; изнурять. *Марыць голадам.* Ар.,—морить, приводить в полное изнеможение. *Лявона пачынаў марыць сон.* Дудзіцкі("Бацьк.", Но. 1-2/437-438.) *Соверш.* **змары́ць.** Ар. *Сон яго змарыў.* Ар.

•**мары́цца**-*рўся, морышся, несоверш.*—уставать. Ар. *Соверш.* **замары́цца**—устать, Гсл.; Ар. утомиться. *Чыста замарыўся, сякучы дровы.* Ст. *Назьбіралі шмат, аж механоша замарыўся.* Ст.(Шсл. 159 *под міханоша*). *Замарыўся аб табе censatаў-шы: ня йдзець за цябе ніякая жонка.* Дсл. 244. *Соверш.* **змары́цца**—(очень) устать. *Змарыўся за працаю.* Ст. *Змарыўся за дзень.* Ст. *Соверш.* **умары́цца**-*рўся, уморышся*—крайне утомиться. Ар. *Я умарыўся, цягнуўшы яе дамоў.* Ржэўскі пав. (Афанасьев, I, 1897 г., 182).

•**масол**-*сла̀, предл.-сьле, зват. мосьле, м.* —кость, Растсл. толстая, большая кость.

**масо́л**-*сла̀, прост.*—кость преимущ. бедренная а также вообще выступаючая кость говяжья, баранья или свиная. Акад.

•**масоленьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ.* **1.** глодание коло кости. Нсл. 291. *Пакінь масоленьне каля косьці, ды бяры мяккое.* Нсл.

**2.** возня с чем-л. Нсл. 291. *Не работа, а масоленьне каля работы.* Нсл.

•**масоліць**-*лю-ліш-ле, несоверш., перех.* **1.** глодать(кость, **С.**). Нсл. 291. *Масоліць косьць.* Нсл.

**2.** марать, пачкать во что-л. слизистое. Нсл. 291. *Масоліць губы косьцю.* Нсл. *Соверш.* **абмасоліць**—замарать(слизистым, **С.**). Дсл. *Абмасоліў увесь кулёк.* Дсл. *Прич.* **абмасолены**—запачканный, грязный. Дсл. *Не бярыся за яду абмасоленымі рукамі.* Дсл. *Соверш.* **замасоліць**—запачкать, Дсл. 244. замуслить. Нсл. 175. *Еж асьцярожна, не замасоль сарочкі.* Нсл. *Замасолілі дзеўкі нейдзе сарочкі.* Дсл. *Прич.* **замасолены**—замусленный, засаленный. Нсл. 175. *Белая сарочка, а ўжо замасолена.* Нсл. *Соверш.* **умасоліць,** Нсл. 291. совершенно замарать чем-л. слизистым. *Умасоліць сарочку смаркачамі.* Нсл. *Умасоліўшы губы, бегаець.* Нсл.

**масолены, 1.** *букв.* оглоданный. Нсл. 291. *Масоленую косьць ізноў узяў масоліць.* Нсл.

**2.** *перен.*—бывший в руках, в употреблении. Нсл. 291. *Гэта рэч масоленая, масолена дый кінена.* Нсл.

•**масоліцца**-*люся-лішся, несоверш., возвр.* **1.** пачкаться чем-л. слизистым. Нсл. 291. *Пакуль ты будзеш масоліцца косьцю.* Нсл. *Соверш.* **абмасоліцца**—обмазаться чем-л. масленым или скользким. Нсл. 350. *Дзяцё абмасолілася кашкаю.* Нсл. *Соверш.* **замасоліцца**—замуслиться. Нсл. 175. *Дзецянё замасолілася смаркачамі.* Нсл. *Соверш.* **умасоліцца.** Нсл. 291. *Умасоліўся смаркачамі.* Нсл.

**2.** возиться с каким-л. предметом. Нсл. 291. *Толькі масолішся з работаю, а ня робіш.* Нсл.

**3.** подседать к кому, ища расположения. Нсл. 291. *Не масолься, не па табе масол, дарма прымасоліўся.* Нсл. *Соверш.* **прымасоліцца.** Нсл. 291.

•**маскоўскі**-*кая-кае,* **1.** московский.

**2.** русский. Нсл. 291. *Годзе горкае долі аб'едкі на маскоўскім стале падбіраць!* Случчанік("Каласкі", Но. 60-61, 1958 г.). *Разлучыла нас ні месяц, ні зара, разлучыла маскоўская слабада.* Жукова Імгл.(Косіч 25). *Маскоўская хустка.* Нсл. *Маскоўская сарочка, намётка.* Нсл. *Маскоўскія рукавы.* Нсл.

•**Масковец**-*оўца, предл.-оўцу, зват.-оўча, м.*—русский(в знач. сущ.). МГсл.

•**Маскоўка**-*ўкі-ўцы, ж.* **1.** русская женщина. Нсл. 291. *У нашага пана якаясь Маскоўка служыць.* Нсл.

**2. маскоўка**—топор русского изделия. Нсл. 291. *Маскоўку купіў.* Нсл.

•**маскоўшчына**-*ны-не, ж.* **1.** холст русского изделия. Нсл. 291. *Маскоўшчыны набрала на рукавы.* Нсл.

**2.** вообще русский товар. Нсл. 291. *Маскоўшчына лінуча.* Нсл.

**3.** совокупность всего подлинно русского. *Маскоўшчынаю пахне, сьмярдзіць.* Смл.

•**маскале́ць**-*ею-ееш-ее, несоверш.*—русеть. *Соверш.* **абмаскале́ць**—обрусеть. *Прич.* **абмаскале́лы**—обрусевший.

•**маскалёнак**-*нка, предл.-нку, м.*—солдатский сын или кантонист. Нсл. 290. *Маскалёнак б'ецца.* Нсл. *Маскалёнкаў павезьлі.* Тм.

•**маска́ліць**-*лю-ліш-ле, каго-што, несоверш.*—руссифицировать. *Соверш.* **абмаска́ліць**—обрусить. *Прич.* **абмаска́лены** —руссифицированный. *Отгл. имя сущ.* **абмаска́леньне**-*ня, ср.*—руссификация(обрусение, **С.**). Нсл.

•**маска́ль**-*аля, предл.-алю, мн. ч.-лі-лёў-лём-лёў-лямі, лёх, м.,* НК.: Пос. 99—русский, великорусс. Навікі Віц. (Ксл.). *У тым баку Маскалі жывуць.* Сураж (Ксл.); Равы, Аш. *Сына Маскаль за нівошта забіў.* Гарун;

Жабрачка. *Спаткаліся з Маскалямі.* Зь вершу "Кінуўшы, рынуўшы паўстаньне"....з часу паўстаньня 1863 г. (Беларусь, 148). *З Маскалём не із сваім братам!* *Поговор.* НК.: Пособ., 137. *Тату, тату, лезе чорт у хату. Дарма, сынку, абы не маскаль.* *Послов.* *На нашы землі наплылі чырвоненькія Маскалі.* Кл.: Каліна, 30. *Гарыць на Случчыне паўстаньне на бой сьмяротны з Маскалямі.* Тм.

**2.** *в общ. знач.* **маскаль**—солдат русской армии, солдат. Растсл.; Нсл. 290.
*Маскалёў найшло поўну хату.* Нсл. *Наш дзядзька служыў у маскалёх.* Ст. *Мы старожу паставім на чатыры стараны па чатыры маскалі. Маскалікі заснулі. Прыехаў пан — ня гулі.* Росуха Імгл.(Косіч, 51). *Уменьш.* **маскалік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча*—солдатик. Нсл. 290. *Маскалікі, ідучы, пяюць.* Нсл.

**3.** *перен.*—пустой, прямо стоящий колос ржи, пшеницы и т. п.

**4.** плохой, непослушный с разбойническими замашками мальчик, парень. *Увелич., презр.* **маскалю́га, а)** русский, **б)** солдат., *презр.* Нсл. 291. *Маскалюга гэты злодзей вялікі.*

●**Маскв́а**-*вы, ж.* **1.** Москва.

**2.** Россия. *Масква сьлёзам ня вера.* НК. Пасоб., 137.

**3.** русский(москвитянин, великорос). Нсл. 291. *Пан Маскву наняў на будынак.* Нсл. *А што ж, Масква, ня купіш барышоў?* Тм. *Маскву адурніў.* Нсл. *Ах ты Масква дурная, ня хочаш браць таго, што даюць.* Тм. *Ня дурні Масквы, яна й так дурная.* Тм., *собир.*—русские. *Масква стала адступаці, рэчку невялічку праклінаці.* Зь песьні праз перамогу на маскоўскім войскам пад Воршаю 1514 г.

●**м́асла**-*ла-ле, ср.*—масло, получаемое из молока домашних животных. Ар. *Уменьш.* **м́аселца**-*ца, предл.-цу*—маслище. Нсл. 281. *Хлеба з маселцам зьеж.* Нсл. *Пястунку хлеба з маселцам, а без масла ня возьме.* Нсл. 542(*под* *пястунок*).

●**маст́ак**-*ка, предл.-кў, зват. мастача; мн. ч. мастакі-оў-ом-оў-амі-ох, м.* **1.** искусный и опытный в каком-л. деле человек, искусник. *На яду мастак а на работу так-сяк.* *Послов.* Рапан. 12.

**2.** художник. МГсл.; БГсл.

●**мастаўнічы**-*чага, в см. сущ.*—заведующий мостом. *Во дей тых пенезей мастаўнічаму не аддаваў.* Квятк. 150.

●**мастацкасьць,** -*ці, ж.*—художественность. БГсл.

●**мастацкі**-*кая-кае,* **1.** искусный, сделанный, выполненный с большим умением и тонкостью, мастерски.

**2.** художественный.

●**мастацтва**-*ва, предл.-ве, ср.* **1.** искусство. МГсл.

**2.** художество, *устар.* БГсл.

●**масткі,** *единств. ч. нет.,-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—тротуар. МГсл.

●**масьлёнка**-*нкі-нцы, ж.*—молоко, которое остается после сбивания масла. Шсл. *Дзяцём дай масьлёнку, хай ядуць з хлебам.* Ст.

●**масьлякі**-*коў-ком, мн. ч., предл.-кох*(*один масьляк*)—грибы с покрышкой кирпичного цвета, обыкновенно снимаемой в виде плевы, появляются вблизи молодого сосняка. Иногда их называют *"казьлякамі"*. НК.: Очерки, 472.

●**масьлянка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** (посуда в виде чашки с крышкой для подачи на стол сливочного масла, С.) — *масьлёнка.* МГсл.; Косіч 232.

**2.** *област.* — *масьлёнка.* Ар.

●**масьлíноўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—ситцевый цветной платок. Бяжышча Беш. (Ксл.).

●**масьніца**-*цы-цы, ж.*—доска пола, половица. Нк.: Очерки, Но. 478; Растсл.; ПНЗ; Нсл. 291; Пск.(Иеропольский). *Грыўня падкацілася пад масьніцу.* Нсл. *Масьніцы прарыпелі.* Лойка: Л. песьня. *Узноў прарыпелі смолкія масьніцы.* Тм. *Спрабавалі масьніцы, вадзілі далонямі па шпалерах.* Сядняў: Корзюк. *Уменьш.* **масьнічка**-*чкі-чцы.* Нсл. 291. *Масьнічка ў сьвяліцы праламілася.* Нсл. *Единств. ч.* **масьнічына**-*ны-не, ж.*—половица, доска в полу. Сухарукава Аз. (Ксл.); НК.: Очерки, Но. 478. *Зрабі ў хаце масьнічыну залатую.* Пск. Пушк.(Ч. 89).

**масьнічынка**-*нкі-нцы, уменьш. к масьнічына.* НК.: Очерки, Но. 478.

●**масьнічны**-*ная-нае*—вымощенный. НК.: Очерки, Но. 478.

●**масьнічны**-*ная-нае*—досчатый(о полу). Ксл. *У нас масьнічны мост, а ня з гліны.* Лазаватка Сур. (Ксл.).

●**масьціць,** *машчу, мосьціш-це, несоверш., перех.*—настилать мост или пол. Ксл., настилать пол в новом(в каждом, **С.**) строении. Нсл. 291. *Юры гвозьдзе, а Мікола мосьце.* *Послов.* Ст. *Будзем масьціць свае сенцы.* Ст. *Хату борзда масьціць будзець.* Стаішча Чаш. (Ксл.). *Саўва мосьце, а Мікола гвозьдзе.* *Послов.* Косіч 54.(Сьвята Саўвы 5-га, а Міколы 6-га сьнежня).

**2.** устраивать сиденье в телеге. Шсл. *Масьці добра седава, каб мякка было ехаць.* Ст.

**3.** ставить, укладать какой-л. предмет в тесноте. Шсл.

**намасьціць,** *соверш. к масьціць 1, 2. Прич.* **намошчаны**—намощённый. *Сярэдзіна яго намошчана любоўю.* П. П. 3. 10 (Кніг 12 Б.). *Соверш.* **замасьціць, 1.** замостить. Нсл. 291.

**2.** заделать дыру в мосту или деревянном полу. Нсл. 174.

**3.** (*перен.*)—замазать подарками. Нсл. 174. *Як мага замасьці гэту паганую справу.* Нсл.

•**масьціцца,** *машчуся, мосьцішся, возвр.* **1.** помещаться(в тесноте, С.). Нсл. 291. *Тут табе ня дзела масьціцца, бачыш старшыя сядзяць.* Нсл. *Я пачаў масьціцца на духу.* Мікольск Н.(Демид: Веров. 99).
**2.** подседать. Нсл. 291. *Куды ты мосьцішся? Старому сьмешна масьціцца да маладое жанчыны.* Нсл.

**прымасьціцца**-*машчуся, мосьцішся, соверш.*—поместиться, устроиться где-л., где не очень удобно. *См. прыснасьціцца. Соверш.* **прымасьціцца,** *возвр.* **1.** присоединиться к кому-л. в тесноте(присесть, прилечь). Войш.
**2.** подсесть.
•**масьць**-*ці, мн. ч.-цяў, ж., фарм.*—состав для прастыра, маз. Нсл. 181, мазь. МГсл.; Ар.; Шсл.; Карачэўск.(Будде: Тула-Орел, слов.).
*Хвэльчар даў жоўтае масьці.* Ст. *Масьць ад скулкі.* Нсл.
**2.** состав, употребляемый для прививания черенков. Нсл. 281. *Садовая, прышчэпная масьць.* Нсл.
**3.** масть, цвет шерсти животных(лошадей, коров). Ар.; Шсл. *Жарабок сівое масьці.* Ст. *Якое масьці ваша карова?* Ст.
•**масьцюк**-*юка, предл.-юку; мн. ч.-кі-коўком, мн. ч., предл.-кох, м.*—мастер. Кур. (Даль). *Адгадлівы дзяцюк, такі масьцюк заданьні адгадаць.* Дсл. 547(*под адгадлівы*).
•**масыўны**-*ная-нае*—массивный. МГсл.
•**машнарэз**-*эза, предл.-эзу, зват.-эзе, м., бранное*—мошенник, отрезывающий карманы, карманщик. Нсл. 292. *Машнарэза такога ў некруты аддаць.* Нсл.
•**машта**-*шты-шце, ж.*—мачта.
•**маштавік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—матрос, несущий службу на мачте; мачтовой.
•**маштавы,** *прилаг. к машта*—мачтовый.
•**машурга**-*ргі-рзе, ж.*—блёстки, мишура. Зьверавічы Красьн. (Дсл.).
•**машыраваць**-*рую-руеш-руе, повел.-руй-руйма, несоверш.*—маршировать. Шсл.; Нсл. 283. *Вунь маскалі машыруюць.* Ст. *Соверш.* **памашыраваць**—пойти, маршируя. Нсл. 464. *Жаўнеры памашыравалі да места.* Нсл.
•**маток**-*тка,-тком, и* **матушка**-*шкі-шцы, ж.*—связка кольцеобразных предметов, нанизанных на повязь, и прядь ниток на мотовиле, или снятая с него, но пока что не разрезанная. НК.: Очерки, 122, Но. 262.
•**мата,** *маты, маце, ж.*—циновка(всякая, С.) из соломы, пучки которой перевязаны веревочками; зимой навешивается на окна и на двери. Шсл. *Сплёў на вокны мату.* Ст. *На вокны пляціце маты, каб ня клаў мароз сьляды.* Колас.
•**матаўня**-*ні-ні, ж.*—мотовило. НК.: Бабы; Но. 51. *С просьня ніткі зьвіваюць на матаўню.* НК.: Бабы; Но. 51.
•**маталыга**-*гі, общ.* **1.** бродяга. Нсл. 291. *Маталыгу злавілі дый здалі ў некруты.* Нсл. *См. матлыга.*
**2.** плут. Нсл. 291. *Маталыга ты, скруціў мае грошы.* Нсл. *Уменьш.* **маталыжка**-*жкі.* Нсл. 291. *З малку маталыжкаю быў ён.* Нсл. *каю быў ён.* Нсл.
•**маталыжнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* — *маталыга.* Нсл. 291. *Ня вер гэтаму маталыжніку; ён усё круціць і маніць.* Нсл.
•**маталыжнічаць,** *-аю-аеш-ае,*—плутовать, жить обманом. Нсл. 292. *Цэлы век свой матылыжнічаеш.* Нсл.
•**мата**-*нька-чка,—см. под* *маці.*
•**мат**-*ка-ухна-уля-улька... —см. под* *маці.*
•**матэрыя**-*ыі, дат., предл.-ыі, ж.*—вещество. МГсл.
•**маца**-*цы-цы, ж.*—маца. Ар.; Нсл. 283.
*Жыды мацу пякуць.* Нсл.
•**мацая**-*аі-аі, ж.*—крепость. Нсл. 292. *Якая ў калку будзе мацая, калі ён згніў?* Нсл.
**2.** помощь; складчинное дело, НК.: Дудар, Но. 20. предприятие сообща с другими. Дзьвінск п. *Пойдзем у мацаю ў заклад. Кінем на жэрабя ў мацаю.*
•**мацака,** *нареч.*—ощупью. ПНЗ.
•**маці,** *в единств. ч. не склоняется; мн. ч. нет* —мать. МГсл.; Войш.; Шсл. *Вельмі былі радыя, асабліва маці.* Н.(Афанасьев, 1, 1913, 212). *Маці хоча, каб дачку замуж аддаць.* Ст. *Папрасі, хай маці дасьць есьці.* Ст. *Пара, маці, жыта жаці — каласок сьхіліўся. Пара, маці, дачку 'ддаці — галасок зьмяніўся.* ПНЗ, 46.

**матка**-*ткі-тцы, ж.* **1.** матка (животных). Ар.
**2.** пчелиная самка(матка, С.). Нсл. 281; Ар. *Матку злавіў.*
**3.** мать(женщина по отношению к рожденным ею детям, С.). Ар.; Нсл. 281; Войш. *Якая матка, такое й дзіцятка.* *Послов.* Нсл. *Ніхто так не дагледзіць свайго дзіцяці, як родная матка.* Ст.

**матка падхрэсная**—крестная мать. НК.: Старцы, Но. 42. *Ласкат.* **матанька**-*нькі-ньцы, говорится и не о матери*—матушка. Нсл. 282. *Матанька мая, пусьці на нач.* Нсл. *Пажалей мяне, матанька мая.* Нсл. *Уменьш.* **матачка**-*чкі-чцы. А мае ж вы матачкі, што ж гэта будзе?* Ст. *Ласкат.* **матухна**-*ны-не. Ой ты, матухна!* Крапіўнае(ПНЗ. 43). *Гэта ж матухна твая зьвяла на мяне.* Нсл. 282. *Матухна мая, калі ж табе памагала гэта зрабіць?* Тм. *Матухны мае вы, куды ж вы гэта дзелі?* Нсл. *Ласкат.* **матуля**-*лі-лі,* (Вост., Даль) **1.** маменька. Нсл. 282. *Матуля мая пакінула мяне сіратою.* Нсл. *Ой, чаму ж, матуля, жыцьцё-йскрыпку дала?* Гарун(ст. "Матчын дар"). *Другая — матуля.* Гарун(ст. "Ноктурно"). *Цеш матулю.* А. Зязюля(Зьніч 1953, Но. 24). *Родны краю! Матуля дарагая!* А. Змагар (Прыйсьце, Но. 1)
**2.** матушка. Нсл. 282. *Матуля мая, куды ж ты глядзела?* Нсл.

3. *общ.*—употребляется не только к матери, но даже и к мужчине. Нсл. 282. *Чым я ўгнявіла цябе, матулю майго.* Нсл.
4. говорится и к дитяти. Нсл. 282. *Матулю майго дарагенькага пакінулі аднаго.* Нсл. *Чалом, чалом, ацец-татулька! Не сярдуй, што к табе прышоў. Не падзіві і ты, матулька няўцейкам я сюды зайшоў.* Із здаровальнага верша протоерэю, выдрукаванага ў "Маяку" 1843 г., т. IX, кн. XУII, разьдз. У, 33-35.
5. маменька. *Матулька йшла і матульку пазнала.* Н.(Афанасьев, IУ, 1914, 85); Нсл. 282. *Матулечка мая родная!* Нсл. *Ласкат.*
**мату́люхна**-*ны-не*—матушка. Нсл. 282. *Матулюхна мая, нашто ж табе так шмат хлеба?* Нсл. *Матулюхны мае, куды ж вы гэта дзенеце?* Нсл.
•**матка**-*ткі-тцы, ж.* **1.** потолочная балка. Ксл. *Хадзі цягнуць матку на сьцяну.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.).
**2.** *См. под* *маці.*
•**матля́цца**-*яецца-яюцца, несоверш.* *Шэрыя нагавіцы матляюцца на худых ногах.* Цялеш: Дзесяць, 28.
•**матля́цца**-*яюся-яешся, повел.-яйся-яймася, несоверш..........* *Гарыць дзьябальская душа. Гарыць! — скрыгатаў Гужэвіч, гледзячы, як матляецца чалавек пад бліскучым парасонам.* Дудзіцкі("Бацьк.", Но. 1-2/437-438).
•**матлы́га**-*гі, м.* (*общ.* **С.**)—мот ( **С.**), плут. Ксл. *Мяне быццам што карціла не пазычаць яму грошай, аж яно так і вышла. Зматлыжыў матлыга.* Глебаўск Сян. (Ксл.). *См.* *круцель, маталыга.*
•**матня́**-*ні, ж.* **1.** суета(хлопоты), (Растсл.) суетня.
•**ма́тухна,**—*см. под* *маці.*
•**мату́з,**—*см. под* *мотуз.*
•**мату́зны**-*ная-нае,* **1.** *прилаг. к* *"матуз".* НК.: Очерки, 107.
**2.** имеющие *"матуз".* НК.: Очерки, 107. *Матузныя порткі.* НК.: Очерки, 107.
•**мату́л**-*ечка,—см. под* *маці. Уменьш., ласкат.*
**мату́лька**-*лькі-льцы, ж.* **1.** почтительное название жены сьвященника(матушка, **С.**). Нсл. 282. *Няхай жа й матулька прыдзець із татулям.* Нсл.
**матулечка**-*чкі-чцы, уменьш. к* *матулька,* **1.** матушка (о жене священника). Нсл. 282.
•**мату́лька,**—*см. под* *маці.*
•**мату́люхна,**—*см. под* *маці.*
•**мату́с-ечка,**—*см. под* *маці. Ласкат.* **мату́ся**-*сі-сі*—название жены священника или монахини. Нсл. 282. *Прыедзь і к нам, матуся, у каляду.* Нсл. *Ласкат., уменьш.*
•**мату́сечка**-*чкі-чцы, ж.*—жена священника; матушка. *Ня ведаю, чым прыняць матусечку.* Нсл.
•**ма́тчын**-*ына-ына*—материн. Ар.
•**ма́тчына**-*ны, ж.*—наследственное по матери имущество. Нсл. 282. *Сядзіць на матчыне.* Нсл.
•**ма́тчынны,** -*ная-нае*—наследственный по матери. Нсл. 282. *Матчынная маемасьць.* Нсл.
•**матыль I** - *ыля̀, предл.-ылю̀, зват.-ы̀лю; мн. ч.-лі-лёў-лём-лі-лямі-лёх, м.*—бабочка (насекомое). Ар. *Уменьш.* **матылёк**-*лька̀, предл.-льку̀, зват.* *маты̀льку, мн. ч., дат.-ком, мн. ч., вин.-кі, мн. ч., предл.-кох.* Ар.
•**маты́ль II,** *отглаг. частица,* **1.** означает быстрое движение чем-л. Нсл. 292. *Матыль пугаю.* Нсл.
**2.** нечаянный удар, шарах. Нсл. 292. *Матыль лейцамі па сьпіне.* Нсл. *Матыль хвастом па аччу.* Нсл.
•**маўкліня́**-*ні-ні, ж.*—молчание. *На ўзьбярэжжы мора маўкліня і пуста.* Кавыль (Блр. Думка, Но. 2). *Кандраценя ўсьміхнуўся і паглядзеў на Рамана, але ягоны ўсьмех адразу ж пахаладзеў ад Раманавае маўкліні а насупленасьці.* Корзюк. *Маўкліня, і сьвечка ледзь іскрыцца.* Кавыль: Пад зорамі, 14. *Маўкліня ў далінах.* Тм. 51.
•**маўклі́ва,** *нареч.*—молчаливо. *Досыць маўкліва прыняў ён даўно нябачанага госьця.* Дзьве Душы.
•**маўклі́васьць**-*ці, ж.*—молчаливость.
•**маўклі́вы**-*вая-вае*—молчаливый. Лук'янова Сян. (Ксл.). *Жыве зь ім толькі нейкая маўклівая бабулька.* ЗСД. 40. *Паўстане супроць маўклівага закону.* Тм. 166. *Сонца ўстае з маўклівага гняздоўя.* Лойка: Л. песьня.
•**маўляць,**—*см. под* *мовіць.*
•**маўча́к**-*ака̀, предл.-аку̀, мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* **1.** молчание. Нсл. 286. *Маўчаком ніколі справы не папсуеш.* Нсл. *Маўчака даў*—зн. смолчал. Тм.
**2.** *в знач. междометия*—молчи, молчать. Нсл. 286. *Кажуць маўчак!* Нсл.
•**маўчанка**-*нкі-нцы, ж.*—молчание. НК.: Очерки, 332; МГсл. *Маўчанка ніколі ня псуець.* Нсл. *Маўчанка ня пушыць, але гнеў тушыць. Послов.* Нсл. *Гэтую маўчанку Раман ледзь перамагаў.* Сяднёў: Корзюк.
**2.** пауза. *Скарыстаўшы гэту маўчанку, устаў раптам Халіма.* ЗСД. 27. *На колькі часінаў запанавала маўчанка.* ЗСД.
•**мац,** *отглаг. частица от* *мацаць*—щуп, хвать. Нсл. 283. *Мац, ажно там грошы.* Нсл.
•**мацава́ць**-*цу̀ю-цуеш-цуе, повел.-цу̀йцу̀йма, несоверш., перех.* **1.** крепить, укреплять. Смл. (Даль.). *Мацуем шчоглы, каб узьняць сьцягі.* Кавыль: Думы, 7. *Соверш.* **змацаваць,** (Нсл. 292)—закрепить. БНсл. *Гэта шула трэба замацаваць у зямлі, каб ня хісталася.* Варсл. *Соверш.* **умацаваць,** *перех.* **а)** укрепить. Шсл.; Нсл. *Умацаваў шула на сто год.* Ст. *Умацаваць за дзяцьмі сваю маемасьць.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **умацава́ньне**-*ня, предл.-ню*—укрепление. Нсл. 659. *Умацаваньне павеці, клеці.* Нсл.
**б** завязать крепко. Нсл. *Умацаваў рукі злодзею.* Нсл. *Соверш.* **прымацаваць**—при-

крепить. Шсл. *Прич.* **прымацава́ны**—прикрепленный.
**2.** бороть, преодолевать(напрягать, С.). Нсл. 292. *Мацаваў яго, пакуль змацаваў.* Нсл. *Соверш.* **змацава́ць**—побороть, преодолеть. Нсл. 292.
●**мацава́цца**-*цу́юся-цуешся, несоверш., возвр.* **1.** укрепляться, получать крепость. Нсл. 292. *Піва мацуецца, умацавалася.* Нсл. *Соверш.* **замацавацца.** Варсл. *Ён добра замацаваўся на гэтай рабоце.* Варсл. *Соверш.* **умацавацца**—укрепиться чему-л., войти в силу. Шсл. *Умацаваўся тут ды сядзіць ужо год зь пяць.* Ст. *Квас добра ўмацаваўся.* Ст.
**2.** *взаим.*—бороться, измерять силы, Нсл. 292. меряться силами. *Будзем мацавацца, хто каго змацуе.* Нсл.
●**ма́цаць,** *-аю-аеш-ае, несоверш.* (Растсл.) —щупать, ПНЗ; Нсл. 283; Шсл. ощупывать. *Мацаець, як нявісны.* Нсл. *Чаго ты тут мацаеш?* Нсл. *Няма чаго мацць, і так відаць.* Ст.
**мацнуць**-*ну́-нёш-нёць-нём-ніце,* **1.** *однкрат. к* *мацаць.* Нсл. 283. *Мацнуў, аж няма нічога.* Нсл.
**2.** мазнуть, ударить. Нсл. 283. *Мацні яго па мордзе.* Нсл. *Мацнуць па губах.* Тм. *Соверш.* **пама́цаць**—пощупать. Нсл. 283. *Ён падыйходзе да хворага, памацаў яго за галаву і за грудзі.* Чартовічы Сур. Север.(Шэйн, II, 418). *Памацаў па відзе.* Нсл. *Соверш.* **абма́цаць**—ощупать. Гсл.; Шсл.; Нсл. 349; Ксл. *Ганна, абмацай смаліну там на печы!* Ст. *Ці не абмацаў ён тут грошы.* Нсл. *Каго я тут у пацёмку абмацаў?* Нсл. *Ён абмацаў усё навокал.* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Прич.* **абма́цаны.** Нсл. 349. *Абмацаныя ў пацёмках грошы.* Нсл.
●**ма́цацца**-*аюся-аешся, несоверш., взаимн.* —щупаться, Шсл. щупать друг друга.
●**маціліньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—тонкая, лёгкая, как паучина, ткань, Шсл. газ, шелковая прозрачная ткань. *Гэта матыліньне ня будзе цябе грэць.* Ст. *Людзкага чаго яна набрала: нейкага матыліньня.* Ст.
●**мацін**-*на-на*—материн. *Гэта ж тая самая маціна сукня.* Дудзіцкі(Бацькаўшчына, Но. 36-37).
●**маціца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—матка. Нсл. *Маціца не на месцу.* Нсл.
●**мацне́ць**-*ёю-ёеш-ёе, повел.-ёй-ёйма, несоверш.*—укрепляться, становиться сильнее, Нсл. 292. крепнуть, крепчать. *Мароз што дзень мацнее.* Нсл. *Тата мацнее, памацнеў просьле хваробы.* Нсл. *Соверш.* **памацнець.** Нсл. 292—окрепнуть(несколько?)
●**мацніня́**-*ні-ні, ж.*—крепость.
●**мацніць**-*ню, моцніш-не, несоверш., перех.* —смягивать, укреплять, Нсл. 292. крепить. *Мацні балей, умацні добра рукі, калі б не разьвязаўся.* Нсл. *Соверш.* **умацніць.**

**замацняць**-*яю-яеш-яе, повел.-яй-яйма, несоверш., перех.* — закреплять. Нсл. 175. *Замацняць, замацніць вузёл.* Нсл. *Соверш.* **замацніць**-*ню, перех.*—закрепить. Нсл. 175. *Замацніць вузёл.* Нсл. *Прич.* **замоцнены**—закрепленный. Нсл. 175. *Замоцнены вузёл.* Нсл.
**змацня́ць**-*яю-яеш-яе, повел.-яй-яйма, несоверш., перех.* **1.** покреплять. Нсл. 212. *Змацняць умову подпісам, сьветкамі.* Нсл.
**2.** давать вспомоществование. Нсл. 212. *Яго змацняем, а ён таго й жджэць толькі, каб змацнілі, а сам ня рупіцца ні аб чым.* Нсл.
**змацніць**-*ню-ніш-не, перех., соверш. к* *змацняць, в обоих значениях.* Нсл. 212. *Прич.* **змоцнены**—подкрепленный помощью. Нсл. 212. *Ты цяпер змоцнены ўвусім.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **змацненьне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў*—подкрепление, вспоможение. Нсл. 212. *На змацненьне твае каня табе дарую.* Нсл.
**памацня́ць**-*яю-яеш-яе, несоверш., перех.* —делать более крепким, усиливать. *Соверш.* **памацніць**—сделать более крепким, усилить.
●**мацніцца,** *возвр., несоверш.*—укрепляться. Нсл. 292. *Мацнюся патроху.* Нсл. *Мацніся як магà, пакуль будзе адкуль помач.* Нсл. *Соверш.* **змацніцца.** Нсл. 212.
**змацня́цца,** *-яюся-яешся* —подкрепляться силами, вспомоществованием. Нсл. 212. *Людзі то тым, то сім змацняюцца, а ты ня можаш змацніцца нічым.* Нсл.
●**мацну́ць,**—*см. под* *мацаць.*
●**мацць, мець,** *маю, маеш, мае, маем, маеце, маюць; прош. вр.* *маў, мàла, мàлі;* **меў,** *мèла, мелі; повел.* *май, майма, несоверш., перех.* **1.** владеть чем-л. на правах собственности, иметь. *І на кабылу старублёвую май ружжу гатовую.* НК.: Очерки, 383. *Што маю, тое й даю.* Ст. *Тады маю, калі ў руках трымаю.* *Послов.* Нсл.
**2.** обладать, располагать кем-чем-либо, иметь. *Ня май сто рублёў, а май сто сяброў.* *Послов.* Рапан. 134. *Плаці, як час маеш.* Кіт. 87б16. *Людзёў слухай, а свой розум май.* Рапан. Прык. 179. *Маеш галаву, дык май і розум.* Рапан.: Прык. 180.
**3.** *о домашнем скоте*—держать. *Надабе мацць гусі.* Дз. *Прич. наст. вр.* **ма́ючы** —имеющий. *Ужануць усіх кафіраў (араб., нявернікаў), ня маючых іману (араб. веры) да пекла палюшчага.* Кіт. 54б16.
**4.** получай. Гсл. *Вось, яны твае грошы - маеш!* Гсл.
**5.** быть должну. *Тую віну гаспадарыні караліцы заплаціці маець.* (1527 г.). Квятк. *Калі ся ў мяне вывучыў і колька лет меў мі за то служыці.* Гордз. Акты, XVII, 4. *На мэйіта (араб., нябожчыка) маеш узлажыць два саваны, а болей класьць ня*

**заніѓдзьбець, 1.** *соверш. к* **нідзьбець** *1.*—изныть. Нсл. 339.
**2.** *соверш. к* *нідзьбець 2.*—истомиться от нужды. *Дзяцё бяз маткі занідзьбела.* Нсл. 177.
•**ніз,** *нізу, предл. нізе, м.* **1.**—низовье. *Ішоў зь нізу чалавек.* Боўдзіна(Ч. 176).
**2.** один из видов оврага. Жучкевіч 15.
•**нізовы**-*вая-вае,* **1.** низовой, относящийся к низовью. Смоленщ.
•**ніза́нка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** ожерелье, снурок, на который нанизаны бусы, стеклярус или кораллы и проч. Нсл. 339. *Кралі ў тры нізанкі.* Нсл.
**2.** связка(из нанизанных подряд на нитку и т.п. каких-л. предметов, С.) Гсл.; Нсл. 339. *Нізанка лыкаў.* Нсл. *Дзьве нізанкі баравікоў укралі.* Тм.
•**ніза́шта,** *в см. нареч.*—никак, Нсл. 339. ни за что, ни за какую цену. *Нізашта не аддам грошы.* Нсл. *Нізашта ня хоча йсьці адзін.* Нсл.
•**ніза́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.* **1.** низать, Нсл. 339. нанизывать. Гсл. *Нізай, панізай кралі.* Нсл. *Соверш.* **нанізаць**—нанизать. *Нанізала грыбы на нітку.* Гсл.( *под* *нітка*).
**2.** сечь до кровавых знаков. Нсл. 339. *За што ты так яго нізаеш?* Нсл. *Соверш.* **зьніза́ць, 1.** *соверш. к* *нізаць 2. Сьпіну зьнізаю, калі ня зробіш на рок.* Нсл.
**2.** соединить, нанизывая на нить, проволоку и т.п., снизать.
**3.**( *перен.*)—подобрав, соединить друг с другом каким-л. образом, снизать(слова, рыфмы). *Словы зьнізаны каралямі.* Крушына: Лебедзь 28. *Прич.* **зьнізаны.** Нсл. 216. *Табе скура будзе зьнізана за гэта.* Нсл. *Соверш.* **панізаць**—снизать много чего-л. *Соверш.* **пранізаць**—проколоть(пронзить, С.) Шсл. *Хай яно прагарыць: гэта ж я чыста ўсю нагу на гвозд пранізаў!* Ст. *Соверш., возвр.* **пранізацца**—проколоться. Шсл. *Конь персямі на плот пранізаўся.* Ст.
•**нізіна́**-*ны̀, мн. ч. нізіны-наў, ж.* **1.** (низина, С.), низменность. Ар.; Шсл.; Ксл.; МГсл. *Самая нізіна̀, дык і замачыла жыта.* Ст.
•**нізкое кланеньне**—низкопоклонство. *Нізкое кланеньне не заўсюды праўдзівае.* Нсл. 236.
•**нізкосьць на вочы**—близорукость. *См.* *нізкавокасьць, панікліваcьць.*
•**ні́зка I**-*зкі-зцы, ж.*—связка(нанизанные на нитку, проволоку какие-л. однорадные предметы, С.). Гсл. *Насушылі тры нізкі добрых грыбоў.* Ст. *Купіла нізку краляў.* Ст. *Цэлую нізку краляў рассыпала.* Нсл. 339.
•**нізка II,** *нареч. к нізкі*—низко. *Увелич.* **нізю́сенька**—низёхонько. Ар.; Нсл. 339. *Нізюсенька табе пакланюся, калі пазычыш.* Нсл. *Ласкат.* **нізю́хна.** Нсл. 339.
•**нізкавокасьць**-*ці, ж.*—близорукость. *См.* *панікліваcьць, нізкосьць на вочы.*

•**нізкавокі**-*кая-кае*—близорукий. Іг.; Ар.
•**нізкі**-*кая-кое*—низкий. Ар. *Ср. ст.* **ніжшы**—ниже, более низкий. *Прев. ст.* **найніжшы**—самый низкий, нижайший. *Уменьш., люб.* **нізенькі.** Ар. *Увелич.* **нізю́сенькі**—низёхонький. Ар.; Нсл. 339. *Нізюсенькі аддай паклон.* Нсл.
•**нізкі на вочы**—близорукий. Іг.; Ар. *См.* *нізкавокі, панікліві.*
•**ніжэць**-*эю-эеш-эе*—снижаться.
•**ніжы**—тоже. ПНЗ.
•**ні́жыць**-*жу-жыш-жа; повел. ніж, ніжма, ніжча, несоверш., перех.*—понижать. Нсл. 339. *Ня ніжча хаты.* Нсл.
**зьніжа́ць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., перех.* **1.** понижать. Нсл. 216. *Зьніжаць, зьніжыць голас.* Нсл.
**2.** делать что-л. ниже надлежащего. Нсл. 216. *Ня зьніжай хаты.* Нсл.
**3.** унижать. Нсл. 216. *Другіх зьніжаў, а Бог яго зьніжыў.* Нсл.
**зьні́жыць** (Стт. IX, арт. 21)-*жыш-жа, соверш. к ніжыць, зьніжаць 1, 2, 3.* Нсл. 216. *Зьніжыў павець.* Нсл. *Прич.* **зьні́жаны**—пониженный. Нсл. 216. *Зьніжаная цана.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **зьніжэньне**-*ня, предл.-ню*—понижение(снижение, С.) Нсл. 216. *Зьніжэньне цаны.* Нсл.
**зьніжоны,** *прилаг. из прич.* **1.** пониженный. Нсл. 216. *Цана зьніжона на пшонку.* Нсл.
**2.** сделанный ниже надлежащего. Нсл. 216. *Хата зьніжона троху.* Нсл.
**зьніжа́цца**-*аюся-аешся, несоверш.* **1.** понижаться, упадать. Нсл. 216. *Цана на збожжа зьніжаецца, зьніжылася.* Нсл.
**2.** делаться ниже. Нсл. 216. *Хата зьніжылася, падгніла.* Нсл.
**3.** унижаться. Нсл. 216. *Ня зьніжайся перад ім.* Нсл. **зьні́жыцца**-*жуся-жышся, соверш. к зьніжацца 1, 2, 3.* Нсл. 216. *Як быў вялікі, так зьніжыўся.* Нсл. 216.
**паніжа́ць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.*—унижать. *Хто бы гнявіў сірату, якобы гнявіў, паніжаў Пана Бога.* Кіт. 12а13. *Хто бы паніжаў наўчонага, якобы паніжаў прарока, якобы паніжаў Бога.* Кіт. 14а13. *Соверш.* **паніжыць, 1.**—понизить. Нсл. 339. *Троху паніжылі хату.* Нсл.
**2.** унизить. *Хто бы паніжаў Пана Бога, паніжыць яго Пан Бог самога.* Кіт. 306б7. *Прич.* **пані́жаны**—сделанный ниже. *Хата паніжана.* Нсл. 467.
**паніжоны,** *прич. в см. прилаг.* **1.** пониженный. Нсл. 467. *Паніжоным загукаў галасам.* Нсл.
**2.** унижный, униженный. *Паніжоны на сьці.* Нсл. 467.
**3.** унизительный. *Нагатаваў Пан Бог муку пеклянуую, паніжоную.* Кіт. 13а7. *Отгл. имя сущ.* **паніжэньне**-*ня, предл.-ню*—унижение. МГсл.

•**нійдзе,** *нареч.*-нигде. Няўзорава Стдуб.(Косіч 61); Нсл. 339. *Нійдзе няма лепшага за цябе.* Нсл. *Ад гэтага ёлупа нійдзе нічога не схаваеш.* Нсл. 151(под *ёлуп*). *Усі куты перападала я, шукаючы ключыка; нійдзе не знайшла.* Нсл. 741(под *перападаць*). *Ад вас, як не хавай, нійдзе не схаваеш нічога.* Нсл. 68(под *хаваць*). *На работу нійдзе ня возьмуць.* Дзьве Душы 68. *Ад падклетніка гэтага нійдзе не схаваешся.* Нсл. 442(под *падклетнік*). *Развалснасьць нійдзе ня псуець.* Нсл. 565. *Усі лісты перагартаў, а нійдзе не знайшоў.* Нсл. 401(под *перагартаць* ).

•**ні к сьвету,** *в см. нареч.*—очень дурно. Нсл. 340. *Ні к сьвету пашыта сьвітка.* Нсл.

•**нік, нік!**—междометие от гл. *нікаць.* *"Туды нік, сюды нік і дзень не вялік."* Косіч 257.

•**нікога,** *род. пад. от местоим. "ніхто"* —никого. Ар.; Гсл. *Увелич.* **нікагу́сенька, нікагусенькі,** *склоняется только в падежах единств. числа*: решительно (совершенно, С. никого. Нсл. 340. *Нікагусенька няма ў хаце.* Нсл. 340. *Нікагусенькаму не кажы.* Тм. *Нікамусенькім не пасьветчыўся.* Тм.

•**ніколі,** *нареч.*—никогда. МГсл.; Ар.; Прусаўкі Аз. (Ксл.); Шсл.; Нсл. 340; Гсл. *Прарок сам таго не апушчаў ніколі.* Кіт. 88а7. *Ніколі дамоў ня позна.* Ст.

**на сьвятыя Ніколі**—Вознесение, когда будет оно в воскресение, т.е. никогда. Ар.

•**нікому,** *дат. падеж к ніхто. Уменьш., ласкат.* **нікоменькаму.** *Я, браце, нікоменькаму спуску ня дам — адкрышыла яго, як быць надабе.* Дсл.(под *адкрышыць*).

•**нікагу́сенька**-*кі*—*см. под нікога.*

•**ні ка́ліва, ні ка́ліўка**—*см. под ані каліва.*

•**ні̂каць** (ПНЗ; Растсл.)-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, нв.* **1.** наклонить голову. Нсл. 340. *Вуткі нікаюць галавамі.* Нсл.

**2.** укрываться по углам, прятаться. Нсл. 339. *Чаго ты нікаеш ад мяне?* Нсл.

**3.** высматривать, искать, быстро вертя головой. *Вось дзяўчына навучылася ад маці нікаць!* Крамяні Пух. (Шсл.). *Так і нікае ўсюдых.* Даўгое Беш. (Ксл.).

**4.** ходить, бродить, слоняться, всюду заглядывая. *Нікаў, нікаў на рынку, каб знайсьці што купіць.* Міх. *Пачалі засьціць сонца пракудніцы-хмаркі дый няўпрыцям згубілі яго ў сваёй грамадзе — пачалі потым шукаць, нікаць плоймаю на небе, зазіраць.* ЗСД 321. *А хлапец усе нікаў каля столу і тож заганы шукаў.* Зарэцкі: Радасьць(Калосьсе, Но. 1, 1935 г., стр. 24).

**нікну́ць**-*ну́-нёш-нёць, однократ. к нікаць 1.* **1.** наклонить голову. Нсл. 339. *Усі людзі нікнулі перад сьвятымі тайнамі.* Нсл. 340.

**2.** *соверш. к нікаць 2*—скрыться, спрятаться за чем-л. Нсл. 339. *Некуды нікнуў.* Нсл. *Соверш.* **абні̂каць**-*аю-аеш-ае*—обойти высматривая. *Соверш.* **паабні̂каць**—обойти многих, многия места, высматривая. *А пачалі потым нас шукаць. Усе лясы паабнікалі, усе разлогі.* ЗСД 296.

**пані́ка́ць**-*а́ю-а́еш-а́е; повел. панікай-а́йма, несоверш.*—приседать, Ксл. снижаться, опускаться ниже. *Пшчала ляціць паніка́ючы.* Стрэлка Беш. (Ксл.). *Соверш.* **пані̂ка́ць**-*аю-аеш-ае; повел. пані̂кай-айма. Панікаў, панікаў па кутках, але нічога не знайшоў.* Ст.

**прыні́ка́ць,** *несоверш. к прынікці,*—поникать.

**прыні̂кці**-*кну-кнеш-кне, соверш.*—наклониться головою вниз, поникнуть. Нсл. 506. *Прынікнуўшы да зямлі, усі стаяць.* Нсл.

**выні́ка́ць** (Скар. Ц.)-*а́ю-а́еш-а́е, несоверш.* **1.** нечаянно появляться, показываться из чего-л. Нсл. 88. *Чэрві вынікаюць, вынікл і із зямлі, з раны.* Нсл.

**2.** высовываться. Гсл.

**3.** *происходить.* Нсл. 88. *Ад цябе ўсё ліха вынікае, вынікла.* Нсл.

**4.** уходить потихоньку. Нсл. 88. *Вынікай барждзжэй ад бяды.* Нсл.

**5.** избегать. Гсл.

**выні̂кці**-*ну-неш-не-не, соверш. к вынікаць 1, 2, 3.* Нсл. 88. *Агонь вынік зпад страхі.* Нсл. *Вынікл і.* Скар. ц. *Ночкай вынікнуць стажары.* С. Музыка 19. *Отгл. имя сущ.* **вынікне́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў,* **1.** появление наружу. Нсл. 88. *Вынікненьне чарвей.* Нсл.

**2.** избежание. Нсл. 88. *Вынікненьне ад няшчасьця.* Нсл.

**узьні́ка́ць**-*а́ю-а́еш-а́е, повел.-а́й-а́йма, несоверш.*—возникать. Гсл.; Нсл. 654. *Ад цябе ўсё ліхаўзьнікае, узьнікла.* Нсл. *Чэрві ў жыце ўзьнікаюць.* Тм. *Соверш.* **узьнікці**-*кну-кнеш-кне*—возникнуть. Нсл. 654. *Халера ўзноў узьнікла.* Нсл.

•**ні̂кбіць,** *нікблю-біш-бе, несоверш., перех.* **1.** губить, на зло употреблять. Нсл. 340. *Бацькава дабро нікбіць.* Нсл.

**2.** истреблять. *Ср. вынікбіць. Соверш.* **вы́нікбіць**-*блю-біш-бе, перех.*—истребить. Нсл. 88. *Хвароба ўсю радзіму вынікбіла.* Нсл. *Соверш.* **зьні̂кбіць**-*блю-біш-бе*—уничтожить, довести до ничтожества. Нсл. 735. *Аканом зьнікбіў нас сусім.* Нсл.

•**ні̂клы**-*лая-лае*—поникший. Гсл.

•**нікну́ць**—*см. под ні̂каць.*

•**ні̂кнуць, ні̂кці**—изчезать. Нсл. 340; Гсл. *Блашчыцы ўдзень нікнуць, а ночы іх поўная пасьцеля.* Нсл.

**зьні́ка́ць**-*а́юеш-а́е, повел.-а́й-а́йма, нв.* —исчезать. Гсл.; Нсл. 216. *Пры ўсходзе сонца зоранька зьнікае, зьнікла.* Нсл. *Дзе ты зьнікаеш?* Нсл. *Сьнег зьнікае, зьнікнуў.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **зьніканьне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў, ср.*—исчезание. Гсл. *Соверш.* **зьні̂кці**-*кну-кнеш-кне*—исчезнуть. Нсл. 340. *Здароўе зьнікнула.* Нсл. 216. *Чэрві зьнік лі.* Нсл. 340. *Отгл. имя сущ.* **зьнікненьне-**

*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў*—исчезновение. Гсл. (*Увосень*) *нейкай млявасьцю старэчай аддавала ад луга. Жыцьцё ўнікла, бы ў жалобе, неба цьмілася, зямля.* С. Музыка 41.

•**нікýды,** *нареч.*—никуда. МГсл.; Ар.; Гсл.; Ст.; Нсл. 340. *Нікуды не пайду.* Нсл.

•**нікці**—*см. под* **нікаць.**

•**нінáшта,** *в см. нареч.*—никуда, ни к чему. Нсл. 340. *Нінашта ня згодна твая работа.* Нсл.

•**ні пык,** *в см. нареч.*—нимало(нисколько, ничуть, С.) Нсл. 340. *Ні пык ня ўчыўся.* Нсл. *Ні пык ня ўмее.* Нсл.

•**ніпрошта,** *нареч.* **1.** как будто. Нсл. 340. *Пахаджае, ніпрошта яго білі.* Нсл.

**2.** как будто не. Нсл. 340. *Ніпрошта таго было.* Нсл. *Ніпрошта ён тут быў,* т. е. как бы его не было здесь. Нсл.

•**ні росачкі, ні расінкі**—*решительно ничего.* Нсл. 340. *Ні росачкі вады няма.* Нсл. *Ні расінкі не падобны.* Нсл.

•**ніскýль,** *нареч.*—ниоткуда. Ар.

•**ністожыць,** *-жу-жыш-жа, несоверш.* —уничтожать. *Соверш.* **зьністожыць** —уничтожить. Сакуны 8.

•**ністуль-нісьсюль,** *нареч.* — *ніадтуль-ніадсюль.* Ар.

•**нíшкам,** *нареч.*—молчаливо, без голоса. *І мухаммед прароча, ня пей голасам нэмаз*(*араб., малітву*) *ані тэж нішкам, а бяры сабе межы тымі сярэдні голас, то ест пошапкам пей.* Кіт. 42б15. *Экінды нэмаз нішкам пей.* Кіт. 8lб6.

•**нішто,** *нічога, нічому, нічы̀м, на нічы̀м, местоим.*—ничто. Ар.; МГсл.; Нсл.; Ржэўскі п.(Грынькова: Тудовляне). *Нішто табе не паможа.* Нсл. *Не бяры нічога, ня бойся нікога. Послов.* Нсл.

•**нішто**—ничего себе. Гсл. *Як жывеш? — Нішто сабе.* Гсл.

•**нішчэмны**—.... *Быў надта замершы, нішчэмны, худы-патык шчэпка.* Уселюб Н. 1896, II, 144.

•**нішчэць**-*эю-эеш-эе, несоверш.* **1.** разоряться. *Што год нішчэем за няўродамі.* Нсл. 341. *Сам вельмі зьнішчаў* ( старая форма) *і ня дуж з тэй зямлі дані даваці.* Гордз. Акты XVII, 3. *Соверш.* **зьнішчэць** —разориться. *Сусім зьнішчэлі за няўродамі.* Нсл. 341.

**2.** уничтожаться. *Ад пяцьця шайтан нішчаець*(*старая хорма,* **С.**). Кіт. 1, 14. *Ад гэтых чатырох рэчай шайтан нішчаець.* Кіт. 1, 15.

•**нішчы́мнік**-*іка, предл.-іку, зват. Уменьш.* —бедняк, питающийся сухоядением(незаправленной пищей, С.). Нсл. 340. *Нявідаўся ты нішчымніка!* Нсл. *Нішчымнік, а высяваець.* Тм.(?).

•**нішчы́мніца**-*цы-цы, ж.* **1.** незаправленная пища. Ксл.; Косіч 256. *Яны ўжо два месяцы церпяць нішчымніцу.* Русінава Сян. (Ксл.). *Усю сядзьміцу ні мяса, ні малака, апрача толькі нішчымніцы.* Л. Нч. 44. *Нішчымніцаю нас корміш.* Нсл. 340. *Нішчымніцы наварыла.* Тм. *Было некалі блага: ня хата-хата ў вайну згарэла, — а хібарка, а ў хібарцы — нішчымніца.* Марціновіч(Беларус, Но. 59). *Яны ядуць адну нішчымніцу.* Зямковічы Сян. (Ксл.).

**2.** женщина, питающаяся *"нішчымніцаю".* Нсл. 340. *Ср. нішчымнік.*

•**нішчы́мнічаць,** *-аю-аеш-ае*—питаться *"нішчымніцаю". Цэлы пост нішчымнічаем.* Нсл. 340.

•**нішчы́мны,** *-ная-нае*—незаправленный (о еде). Н. *Зварыла квасу нішчымнага.* Ст. *Капуста нішчымная і есьці ня хочацца яе.* Ст. *Цяпер нішчымны тыдзень.* Косьцева Выс. (Ксл.). *Нішчымны крупнік.* Нсл. 340. *Бульба ды тая нішчымная.* Севершч.(Косіч 19). *Усе бульба ды бульба дый тая нішчымная.* Севершч.(Косіч 19). *Нареч.* **нішчы́мна**—без всякой приправы. Нсл. 340. *Нішчымна зварана.* Нсл.

•**нíшчыць**-*чу-чыш-ча, несоверш., перех.* **1.** уничтожать, истреблять, губить, разорять. Гсл.

**2.** умалять. Гсл. *Соверш.* **зьнішчыць**-*чу-чыш-ча*—уничтожить, ПНЗ. истребить, разорить. *Отгл. имя сущ.* **зьнішчэньне**-*ня, предл.-ню*—истребление, Гсл. уничтожение. МГсл.

•**нішчыцца**-*чуся-чышся, несоверш.* **1.** уничтожаться, истребляться, губиться, разоряться. Гсл.

**2.** умаляться. Гсл. *Соверш.* **зьнішчыцца.**

•**ніт, нíта(ніту,** Шсл.), *предл.-це, зват.-це, м.* **1.** часть ткацкого станка из двух палочек(толстых Міх.) и ниток, через которые продеваются нити основы перед бёрдом. *"Ніт"* служит для образования зёва, в который просовывается челнок. Міх.; Ксл.; Шсл.—нити, принадлежащие к ткацкому станку, посредством которых передвигаются основные пряди, Нсл. 341. часть ткацкого станка. Шсл. *Кляда, зьбегай к Настулі й папрасі шыршы ніт.* Макеенкі Аз.(Ксл.). *Прытачыла ніт на тры пасмы.* Ст. *Ніт парваўся.* Нсл. *Ніт мышы патачылі.* Тм.

**2.** *мн. ч.* **ніты̀**-*оў-ом, мн. ч., предл.-ох, м.*—железный болт. Шсл.; Нсл. 341. *Булькі на нітох.* Нсл. *Сьцены нітáмі ўмацаваны.* Тм. *Бальку ўзялі на ніты, каб не паськяпалася.* Ст. *У калёсы даў добрыя ніты.* Ст.

•**ні то, ні сё, 1.** ни то, ни другое. Нсл. 341. *Ні таго, ні сяго ня хоча.* Нсл. *Ні тым, ні сім не здаволіўшыся.* Тм.

**2.** *в см. нареч.*—кое-как, Нсл. 341. посредственно. *Жывем ні то, ні сё.* Нсл. *Варыва ні то, ні сё, ясі пасаля.* Нсл.

•**нітотуды,** *нареч.*—никак. Нсл. 341. *Я яму колькі разоў казаў гэта, а ён нітотуды і слухаць ня хоча.* Нсл.

•**нітавáньне**-*ня, предл.-ню*— клёпка, заклёпка(действие).

**•нітава́ць**-*тую-туеш-туе, несоверш., перех.* —клепать, заклепывать, скреплять металлические части заклепками; соединять, металлические части, загибая края и сплющивая их. *Бляхар наш нітуе добра.* Нсл. 341. *Соверш.* **занітава́ць**—запаять. Нсл. 177; БНсл. *Бляхар ня ўсі дзіркі занітаваў у бляшаніку.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **занітаваньне,** *предл.-ню; мн. ч.-ні-няў*—запайка. БНсл. *Прич.* **занітаваны**—запаенный. БНсл. *Соверш.* **зьнітава́ць**-*ту̀ю-ту̀еш-ту̀е, каго-што*—скрепить железными гвоздями или болтами. Шсл., заклепать. *Каб зьнітаваць абруч, дык яшчэ дзяржаў бы.* Ст. *Зьнітаваць ключ, пярсьцёнак.* Нсл. *Прич.* **зьнітава́ны**—заклёпанный. *Зьнітаваны пярсьцёнак.* Нсл. *Зьнітаваныя завушнічкі.* Нсл. 216.

**прынітаваць**—заклепать, приклепать. *Бляхар добра прынітаваў ручка да карца.* Нсл. 341.

**•нітава́цца**-*ту̀юся-туешся,* **1.** плотно соединяться. *Радасьць бязь слёзаў ня родзіцца. Яны йдуць упоруч, нітуюцца і жыць ня могуць адно без аднаго.* Дудзіцкі (Бацькаўшчына, Но. 376-377). *Далёкае блізка, сз сучасным нітуецца шчыльнаістота.* Дуб.: Наля, 17. *Соверш.* **зьнітава́цца.** *Векавечныя тайны ў вадзін зьнітаваліся подых.* Дуб.: Наля 28.

**2.** *страд. к* нітаваць.

**•ні́ты**-*таў*—приспособление в ткацком станке для перевода нитей. Гсл.; Міх. *См.* *ніт 1. См.* *ні̇чальніцы.*

**•нівогля̀дзя,** *нареч.*—без оглядки, Ксл. *Як яму задалі яму страху, дык ён пабег нівоглядзя.* Сьвярдлы Беш. (Ксл.).

**•ні водны, ні водзін**-*нага*—ни один. Гсл.; Ар. *Ні водзін не пайшоў.* Нсл. 339. *Ні воднага зь іх там ня было.* Тм. *Ні водная каса ня годзіцца.* Тм. *Ласкат.* **ні водненькі.** Ар. *Увелич.* **ні аднюсенькі.** Нсл. 339. *Ні аднюсенькага дня не прапусьціў.* Нсл.

**•ні̇ва**-*вы, дат., предл.-ве, ж.*—нива, пашня (вспаханное поле, С.) Шсл. *Каб ніва радзіла, трэба яе добра ўрабіць.* Ст. *Ужо ніва пачала радзіць добрае збожжа.* Лалыкі Аз. (Ксл.). *Уменьш.* **ні̇ўка**-*ні, дат., предл. ні̇ўцы, ж.*—небольшая пахотная полоса. Нсл. 339. *Ніўка, ніўка, аддай маю сілку.* 3 Север. (Косіч 30).

**•ніц 1.** *нареч.*—ничком (Шсл.; Гсл.), лицом (вниз, С.) Нсл. 341. *Ніц паў на зямлю.* Нсл. *Пакладзі жупан ніц, няхай ня пыліцца добры бок.* Нсл. *Дзяцё кінулася ніц.* Ст. *Упаў перад ім ніц.* Ст.

**•ніц II,** *ніцу, предл.-цу, м.*—изнанка. Нсл. 341. *Ніц ляпей выглядае, чымся добры бок.* Нсл. 341. *См. благі бок( под бок).*

**•ніцалаза́**-*зы̀, ж.*—ива ползучая. [Salix repens L.] Шсл. *Зь ніцалазы — добрыя венікі.* Дуброўка Пух. (Шсл.). *Собир.* **ніцалозьзе**-*зя, предл.-зю, ср.* Іг.

**•ніцава́ць**—*цу̀ю-цу̀еш-цу̀е; повел.-цу̀й-цу̀йма, несоверш., перех.* **1.**—переворачивать на изнанку. Гсл. переворачивать, перешивать одежду внутрь лицевой стороной ткани, Нсл. 341. лицевать, перелицовывать. *Пара ўжо сьвітку ніцаваць.* Нсл. *Прич.* **ніцава́ны**—перевернутый лицевой стороной ткани внутрь. Нсл. 341. *Сукно на шапцы ніцаванае.* Нсл. *Сукно на шапцы ніцаванае.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **ніцава́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў*—переворачивание на изнанку. Гсл.; Нсл. 341. *Сьвітка падзерлася сусім і на ніцаваньне ня годзіцца.* Нсл. *Соверш.* **пераніцаваць**—перевернуть на другую сторону, Нсл. 406. перелицевать. *Пераніцаваць верх хутра.* Нсл. *Прич.* **пераніцаваны**—перелицованный. *Пераніцаваны каптур.* Нсл. 406. *Пераніцаванае сукно.* Тм. *Отгл. имя сущ.* **пераніцава́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў*—переворачивание на изнанку. Нсл. 406. *Пераніцаваньне сьвіткі.* Нсл. *Соверш.* **выніцаваны.** *Застаўся быццам выніцаваны Гаршчок, варочаў у потных палцах манэту і чуў немую прыкрасьць.* Дзьве Душы 74.

**2.** *неперех.*—хитрить, лукавить. Нсл. 341. *Ты ўсё ніцуеш, а не па праўдзе робіш.* Нсл.

**•ні̇ціцца,** *ніціцца, ніцяцца*—рвется нитка в *"ніту".* Міх.

**•ні̇цма,** *нареч.* **1.** лицом вниз, ничком. Ар. *Ніцма прыпасьці к вадзе ручаіны.* Радарны (Каласкі, Но. 54-55, стр. 16). *Піў, прыпаўшы ніцма да ручая.* Гілевіч(Б. Голас, Но. 71). *На абочыне дарогі ляжаў ніцма чалавек.* Ю. Жывіца("Прыйсьце", Но. 1). *См. ніц I.*

**2.** стремглав. Шсл. *Дзеці кінуліся ніцма да дому.* Голацак Сьміл. (Шсл.).

**•ні̇цы**-*цая-цае,* Смл. (Даль). **1.** склонившийся, ходящий с опущенным взором, сгорбившийся, как будто провинившийся. Гсл. *Ходзе, як ніцы, людзёў баіцца.* Гсл.

**2.**(очирее)—внутренний. Нсл.341;Ксл. *Каб цябе ніцая скула спаліла!* Купіна Віц. (Ксл.). *Гадзі яму, як ніцай скуле.* Нсл.

**3.** скрытый(притворный, Растсл.) Нсл.; Растсл.

**4.** хитрый, лукавый. Нсл. 341. *Ніцы чалавек! Ніцая твая душа! адно гаворыш, а другое думаеш.* Нсл.

**5.** (*перен.*)—низкий, низменный.

**6.** плакучий, с отвислыми ветвями, Ксл. имеющий длинные свисающие ветви.

**ніцая бяроза**—плакучая берёза. ПНЗ.

**ніцая лаза**—плакучая ива, Іг. вербейник [Naumburgia thzrsiflora Keich] Ксл. *Ніцае лазы вецьце.* Сураж. (Ксл.). *Ля ніцых бярэзаў іх злавіў.* Котава Сур. (Ксл.). *Хадзіла каза па ніцых лозах, па вербалозах.* Красьневічы Сур.(Сержпут.; Отчет, 12). *Хіліцеся ніцыя лозы, куды вецер павее.* ПНЗ 47. *Дык тугу — на ніцы лозы.* Дуб. *Вербалозы ніцыя.* Кавыль: Ростань, II. *Тваё ня раз умела вуха лавіць*

*размову ніцых лоз.* Кл.: Каліна, 10. *А ў ніцае вярбы*(*у паводку*) *мокне доўгі ценкі волас.* Р. Кут, 28.

•**ніцю́к,** *нареч.*—нимало(ничуть, С.) Нсл. 341. *Ніцюк ня ведае.* Нсл. *Ніцюк не парадзіў.* Тм.

•**нічога,** *род. пад. местоим. нішто,*—ничего. Ар.; Гсл. *Яшчэ нічога ня было, стварыў сьветы, людзі.* Кіт. 10763. *Нічога няма.* Ар. *Ласкат.* **нічогенька**—ничего в самых мелочах. Гсл.

**нічаге́нька** — *нічогенька.* Гсл. *Увелич.* **нічагу́сенька**-*кі, только в падежах единств. числа,* **1.** решительно ничего, Нсл. 340; Ар. ровно ничего, Нсл. абсолютно, совершенно ничего. *Нічагусенька ня еў.* Нсл. *Нічагусенькаму гэтаму ня веру.* Тм. *Нічагусенькім не накрыла дзяцё.* Тм. *У яго ж нічагусенькі няма.* Яноўшчына Беш. (Ксл.). *Круп нічагусенькі не засталося.* Ст. *У мяне ніколі нічагусенька ня гніець.* Косіч 38.

**2.** *ср. ст.* ( *от нічога,* С.)—хорошо. Шсл. *А дарма: болька загоіцца і нічагусенькі будзе.* Ст.

**нічагуткі**—*нічагусенькі.* Шсл. *Усё перавялі — нічагуткі няма, хоць зубы на паліцу кладзі.* Ст. *Нічагуткі — па гэтай бядзе жыў будзеш.* Ст.

•**нічогасьць**-*ці, ж.*—ничтожество. МГсл.

•**нічогенька, нічаге́нька**—*см. под нічога.*

•**нічагу́сенькі, нічагутанькі**—*см. под нічога.*

•**ні́чальніца**-*цы-цы, ж.*—толстая нитка, из которой делают ниты. Міх.

•**ні́чальніцы**-*цаў, мн. ч.*—часть ткацкого станка, нитяные петли между двух поперечных жержочек, для подъёма нитей основы, через одну, педалью, чем образуется зёв для пропуска челна; бердо ходит впереди нитов, Ар. приспособление в ткацком стане для перевода нитей. Гсл.

•**нічым**—нежели. МГсл.

•**нічым-чагенька**—совершенно ничего. Гсл.

•**нуд**-*ду, предл. и зват.-дзе. м.*—зуд, нечистоплотность. НК: Дудар, Но. 3.

•**нудосна,** *нареч.*—печально, грустно. Горадзеншч., Меншч. (Нсл. 342). *Нудосна зрабілася на сэрцу.* Горадзеншч., Меншч. (Нсл.).

•**нудосны**-*ная-нае,* **1.** грустный. Нсл. 342. *Нудоснае жыцьцё.* Нсл. *А мой жа ты Пракопачка, ня будзь так нудосен.* Из песни, Нсл.

**2.** досадный, наводящий тоску. Нсл. 342. *Які ж ты нудосны чалавек.* Нсл.

•**нудота(нудата́,** Даль)-*оты-оце, ж.* **1.** нечистота на теле и на голове; вши. Нсл. 342.

**2.** нужда. Нсл. 342. *Нудота імне з табою.* Нсл.

**3.** тоска, скука, апатия, Гсл. тоска, нойка сердца; томление, скука. Кур. (Даль).

**4.** дурнота, тошнота. Кур. (Даль).

•**нудотны**-*ная-нае — нудотны 1, 2.* Магілеўшч., Віцебшч. Нсл. 342.

•**нуда́**-*ды̀, ж.*(Скар. II, 24) **1.** нужда, (Ксл.) лишение, НК: Дудар, Но. 3. нищета, голод. Нсл. 342. *Мой знаёмы жывець у вялікай нудзе.* Прыстоі Чаш. (Ксл.). *Нуду церпім.* Нсл.

**2.** нечистота на теле и на голове; вши, Нсл. 342. загрязнение тела, вызывающее зуд. НК: Очерки, Но. 620. *Нуда заела.* Нсл.

**3.** скука, тоска, МГсл.; БНсл. тоска, скука, апатия, Гсл. тоска, Ксл.; Шсл.; Нсл. 342. нандра. БНсл. *Заела яго нуда.* Шарыпіна Беш. (Ксл.). *Напала нейкая нуда на яго, нічога есьці не бярэ.* Ст. *З нуды аж вошы пайшлі па ім.* Ст. *Нуда бярэць, гледзячы на яго.* Нсл. *Будзь ты дуж, як вада, як зялеза цьвярды, калі ж нойдзе нуда, ты ня зможаш нуды.* Купала. *Вышаўшы з гатэлю, Абдзіраловіч ня ведаў, куды яму дзецца да вечара, пачуў нуду й пусьціню ў настрою.* Дзьве Душы. *Далей была зіма, наборы некрутаў і запасных на новыя гады, надышла вясна, другое лета, — і здавалася, канца гэтай нудзе ня будзе.* Гарэцкі: Песьні, 79.

**4.** (*бранное*)—беспокойный(докучливый, С.), досадитель. Нсл. 342. *Нуда ты, нуда, чаго ты прычапіўся да мяне?* Нсл.

**5.** тошнота. МГсл.; БНсл.

•**нудзьга́**-*гі̀-зѐ, ж. — нуда.* Гсл.

•**ну́дна,** *нареч.* **1.** бедно. Нсл. 342. НК: Дудар, Но. 3. *Нудна жывець, расьсям трасець.*

**2.** скучно, скука берет, Нсл. 342. скучно, тоскливо, БНсл. тоскливо. Шсл. *Нудна жыць аднаму.* Нсл. *Ведама дзяўчына маладая: нудна ёй цэлы дзень у хаце сядзець.* Ст. (*Дзеці*) *успомніце толькі, як нудна сядзець, як з хаты мароз ня пушчае.* Гарун (ст. "Добрыя дзеці").

**3.** тошно, тошнит. *Мне стала нудна ад гарачых бліноў.* Ар.

•**ну́днік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** бедняк. Нсл. 342. *Бачылі мы такіх нуднікаў.* Нсл. *Нуднік ты, нуднік, што ў цябе ё?* Нсл.

**2.** докучник, Нсл. 342. надоедливый, навязчивый. *Адкасьніся ты, нудніча!* Нсл.

•**ну́дніца**-*цы-цы, ж. к нуднік 1, 2.* Нсл. 342. *Адкасьніся ты, нудніца!* Нсл.

•**нудны**-*ная-нае,* НК: Дудар, Но. 3.—бедный, скудный. Нсл. 342. *Нудны кавалак хлеба.* Нсл.

**2.** хилый, *Ксл.* тщедушный. *Які твой нудны хлопчык!* Дзямідавічы Чаш. (Ксл.).

**3.** скучный, Нсл. 342. тоскливый, Ксл. скучный, тоскливый, БНсл. *Ледзь пражыла нудны дзень.* Выдра Выс. (Ксл.). *Нуднае нам тут жыцьцё.* Нсл. *І ўсё ў бараку становіцца нейкім звычайным, нудным.* Ільляшэвіч: Сон.

**4.** докучливый. Нсл. 342. *Нудны ты чалавек, перастань дакучаць імне.* Нсл. *Хатыль і амуніца да нуднага болю гнялі яго.* Гарэцкі: Песьні 86. *Ад яе верацяна ільлецца нудны, зьвінячы й слабы, як камарыны гук.* Гарэцкі: Песьні 33.

•**нудзе́ць**-*е́ю-е́еш-е́е, несоверш.* **1.** беднеть. НК: Дудар, Но. 3.

**2.** (скучать, С.), тосковать. Ксл. *Ён дужа пачаў нудзець.* Семянцова Беш. (Ксл.).

•**ну́дзіць**-*джу-дзіш-дзе, несоверш.* **1.** (скучать, тосковать, С.) Нсл. 342. *Чаго ты нудзіш па ім? валей няхай ён па табе нудзіць.* Нсл. *Багатая ня думае, што бедненькі нудзіць, багатая ды думае, як дзяцюкоў гудзіць.* Из песни, Нсл. *Буду пець, ня буду нудзіць.* Турла II. *Соверш.* **прану́дзіць** —проскучать. Нсл. *Пранудзіў я тут, седзячы без работы.* Нсл.

**2.** томить. Гсл. *Соверш.* **прану́дзіць.** *перех.* —перетерпеть с горем(в нужде, С.) Нсл. *Перанудзілі мы зіму бяз хлеба.* Нсл.

**3.** допускать до телесной нечистоты. НК: Дудар, Но. 3.

**ну́дзіць**[ *соверш.* **зану́дзіла** Нсл. 342], *безлич.* **1.** тошнит. НК: Дудар, Но. 3; Гсл.; Ар.; Шсл.; Нсл. 342. *Нудзіць стала.* Нсл. *Стала нудзіць: мусіць нешта ізьеў гнюснае.* Ст. *Ці не ад грыбоў гэтых мяне нудзіць.* Ст. *Яго нудзіць ад гарэлкі.* Бешанковічы(Ксл.). *Соверш.* **зну́дзе, зну́дзіла, 1.** стошнит, стошнило.

**2.** зудит. НК: Дудар, Но. 3.

**зану́дзіць**-*джу-дзіш-дзе, соверш.* **1.** допустить до нечистоты телесной. Нсл. 177. *Недаглядам зануджаеш, занудзіла дзеці.* Нсл.

**2.** изнурить, допустить до тоски, Нсл. 177. измучить. Дсл. 246. *Занудзілі дзеўку работаю.* Дсл. *Прич.* **зану́джаны**—замореный, Гсл. доведенный до изнурения. Нсл. 177. *Дзеці зануджаныя ад недагляду.* Нсл. *Статак зануджаны ад голаду.* Тм. *Несоверш.* **зануджа́ць**-*а́ю-а́еш-а́е, повел.-а́й-а́йма,* **1.** допускать до нечистоты телесной. Нсл. 177.

**2.** изнурять, (Гсл.) допускать до тоски. Нсл. 177.

**зануджоны,** *прилаг. из прич.*, печальный, предавшийся тоске. Нсл. 177. *Яму зануджонаму нічым не развяжыш.* Нсл.

**зну́дзіць,** *соверш. к* знуджаць *1, 2. Отгл. имя сущ.* **знуджэньне**-*ня, предл.-ню*—изнурение, тоска. Нсл. 217. *Знуджэньне церпім ад гэтага жыцьця.* Нсл. *Прич.* **знуджаны** —допущенный до крайней нужды. Нсл. 217. *Знуджонае дзяцё.* Нсл. *Несоверш.* **знуджа́ць**-*аю-аеш-ае,* **1.** наводить на кого-л. скуку, беспокойство частыми просьбами. Нсл. 217. *Знуджаеш, знудзіў мяне сваімі дакукамі.*

**2.** допускать кого-л. терпеть нужду. *У карэлай кашульцы знуджаеш, знудзіла дзяцё.* Нсл.

•**нудзі́цца(ну́дзіцца,** Нсл.)-*джуся-дзішся, несоверш.* **1.** жить бедно, терпеть нужду. Нсл. 342. *Ну́дзіцца чалавек, б'ючыся із сваей беднасьцю.* Нсл.

**2.** тосковать, Ксл. тосковать, горевать (печалиться, Нсл.) Шсл.; Нсл. 342. *Перастань нудзіцца.* Шчарбакі Куз. (Ксл.). *Бяз бабы стаў нудзіцца чалавек.* Ст. *Нудзіцца па жонцы.* Нсл.

**3.** печалиться. Нсл. 342. *Добра, што зьеў... А я ўсё нудзілася, што галодны ляжаш спаць.* Капыловіч: Хлеб.

**4.** скучать. Гсл. *Чаму з бабамі сядні не пашла? Вось бы ня нудзілася!* Дзьве Душы 130. *Нудзіўся ад дзяньгубства й развағжаў, што рабіць.* Дзьве Душы 105. *Соверш.* **прынудзілася,** *безлич.*—(несколько, С.) соскучилось, Нсл. прискучилось. *Прынудзілася імне жыць тут.* Нсл.

**5.** чувствовать тошноту. Гсл.

**занудзі́цца( зану́дзіцца,** Нсл.), *соверш.* **1.** *к нудзіцца 1*—обеднеть. Нсл. 342. *Занудзіліся мы тут жывучы.* Нсл.

**2.** *соверш. к* нудзіцца *2.*—затосковать. Шсл. *Занудзілася маладзіца па свойму чалавеку.* Ст.

**3.** зачахнуть, изнуриться. Гсл.

**занудзі́ўшыся,** *прич. прош. вр. к* занудзіцца *1, 2, 3. Соверш.* **пазанудзі́цца,** *говорится о многих,*—изнуриться, тоскуя. Нсл. 742. *Пазанудзіліся мы безь цябе, пакуль ты прыехаў.* Нсл.

**зну́дзіцца, 1.** *соверш. к* знуджацца. *Знудзіўся я тваею гаворкаю.* Нсл. 217.

**2.** стосковаться. *Знудзілася маладзіца па свойму чалавеку.* Ст. *Знудзіўся па жонцы.* Нсл. 342. *Соверш.* **знуджа́цца**-*а́юся-а́ешся,* **1.** тяготиться чем, Нсл. 217. терпеть скуку, надоедание. *Ні ў тым, ні ў сім, а толькі знуджаецца чалавек, чакаючы няма ведама чаго.*

**2.** изнуряться. Нсл. 217. *Знуджаецца, плачучы па матцы.* Нсл.

•**ну́мар**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—номер. Ар.

•**нура́**-*ры́, ж.* **1.** тоска. Нсл. 342. *Нура на цябе напала.* Нсл. *Ці сякіра, ці сэрцу нура.* Дуб.

**2.** изнурение. Гсл.; Нсл. 342. *Набраўся нуры, пакуль даехаў да двара.* Нсл.

•**нурэньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—изнурение, истомление. Нсл. *Нурэньне голадам.* Нсл.

•**нурэц**-*рца́, предл.-рцу́, зват.-рча; мн. ч.-рцы́-рцоў-рцом-рцоў-рцамі-рцох, м.* —водолаз, нырок.

**даць нурца́**—быстро окунуться с головой в воду. Ар. *Колькі разоў ты даў нурца?* Ар. *Бач, Іванка, як даў нурца, лепей, хіба, на'т за цябе.* Васілёк(Калосьсе, Но. 3-16, 1938 г., стр. 133). *Ну, хлопцы, будзем даваць нурца!* Ар.

•**нуры́ць**-*ру́-рыш-ра, несоверш., перех.*—изнурять. Нсл. 342. *Ня нуры ты нас, доўга дзержачы.* Нсл. *Соверш.* **знурыць**—изнурить. Нсл. 342. *Знурыў маладзіцу журбою ды работаю цяжкою.* Нсл. *Соверш.* **пану-**

**рыць,** *перех.*—поизнурить, Нсл. изнурить многих. *Пануры́ў коні голадам.* Нсл.

**пануроныя,** *говорится о многих*—изнуренные. Нсл. *Сядзім тут пануроныя голадам.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **панурэньне**—*ня, предл.-ню*—изнурение. Нсл. *Панурэньне церпім.* Нсл.

**занура́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, повел.-а̀й-а̀йма, несоверш. к занурыць, перех.*—изнурять. Нсл. 177. *Соверш.* **занурыць**—изнурить. Нсл. 177. *Занурыўшы коні, не далёка праедзеш.* Нсл. *Прич.* **зану́раны**—изнуренный, (БНсл.) истощенный, истомленный. Нсл. 177. *На зануранын каню не паедзеш борзда.* Нсл.

**вынураць**-*аю-аеш-ае; повел.-а̀й-а̀йма, несоверш., перех.*—вымаривать, Нсл. лишать жизни при помощи отравы, морить. *Вынураць мурашкі, краты.* Нсл. *Соверш.* **вынурыць**-*ру-рыш-ра*—выморить. Нсл. *Прич.* **вы́нураны**—выморенный. *Отгл. имя сущ.* **вынурэньне**-*ня, предл.-ню,* **1.** истребление. Нсл. *Вынурэньне блашчыц, прусоў, мышэй.* Нсл.

**2.** изнурение, измор. Гсл.

●**нуры́цца**-*ру̀ся-рышся, несоверш.*—изнуряться, тосковать. Нсл. 342. *Толькі нурымся, чакаючы яго.* Нсл. *Соверш.* **зну́рыцца**—изнуриться, стосковаться. Нсл. 342. *Знурыліся мы над работаю.* Нсл. *Соверш.* **пануры́цца**—поизнуриться, Нсл. изнуриться многим. *Панурыліся мы ждучы цябе.* Нсл.

**занура́цца**-*а̀юся-а̀ешся, несоверш.*—изнуряться. Нсл. 177. *Коні зануракоцца бяз пошару пад цяжкімі вазамі.* Нсл. *Соверш.* **занурыцца**—изнуриться. Нсл. 177; Шсл. *Занурыўся бягучы.* Нсл. *Да званьня занурыліся коні.* Ст.

**вынура́цца**-*а̀юся-а̀ешся, несоверш.*—вымариваться, издыхать. Нсл. *Ад багуну блышчыкі вынураюцца, вынурыліся.* Нсл. *Соверш.* **вынурыцца.** Нсл.

●**нутр**-*ра̀, предл.-ру̀, зват. ну̀тру, м.*—внутренности, внутренные органы человека или животного. *Шайтан у нутр мой укінуў скупасьць.* Кіт. 19а15. — *Шайтане, цябе у персьці, у нутр твой ражном хто прабівае? — Мяне тыя людзі нутр мой ражном прабіваюць, каторыя да нэмазу(араб., малітвы) барзьдзяць.* Тм. 59б14, 15; 109а1. *Душою, нутром і языком пяючы.* Тм. 2а2. *Страхам нутр мой няхай ня паліць.* Тм. 127б6,—пространство внутри чего-л., внутренность, нутро; то, что находится внутри чего-л.; содержимое, содержание.

●**нутраны**-*на̀я-ное*—внутренний. МГсл.; Ар.; НК: Очерки 307. *Бог ест вядомы нутраных і тайных умыслаў а языкоў усіх зналы.* Кіт. 85б. *Голас Ірын, лагодны, густы, нутраны, дрыжэў у вушшу.* Дзьве Душы 179. *Нявольнікам нутраной турмы крыху палягчэла на душы.* Караньдзей (Бацьк., Но. 1-2/437-438). *І заплакала матуля плачам ціхім нутраным.* С. Музыка 265. *Нутраны замок.* НК: Очерки 307.

●**нутрэц,** *нутрыца̀, предл. нутрыцу̀, м.*—жеребец со скрытым внутри одним яйцом, или у которого осталось одно яйцо после кастрирования. *Нутрэц пазаядаў усіх чыста коні.* Ст.

●**нуціць,** *нучу, нуціш*—..... *У той час рыбакі нуцілі ракі, усе па плаціцы далі Уладыцы.* Ствял. калядка(Б. Шляхам).

●**ны́гаць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма*—перебирать еду(быть недовольну едою, считать невкусной, С.), тыкать в нее. Шсл. *Яечні яму дала, а ён ныгае, ня хоча есьці.* Ст. *Парасяты ня ядуць, а толькі ныгаюць.* Ст. *Соверш.* **паны́гаць**—поперебирать, потыкать пищу. Шсл. *Парасюк паныгаў, паныгаў цеста і ў рот ня ўзяў.* Ст. *Ядун із цябе: паныгаў толькі мачаньне, а й крошкі ня зьеў.* Ст.

●**ны́днік**-*іка, предл.-іку, зват.-ічu, м.*—скаредник(скаред, скряга, С.) Нсл. 342. *Давялося ныдніку гэтаму верх над намі браць.* Нсл.

●**ныдніца**-*цы-цы, ж.*—скаредница(скареда, скряга, С.) Нсл. 342. *Плюнь у вочы ныдніцы гэтай.* Нсл.

●**ны́дзець**-*ею-ееш-ее; повел.-ей-ейма, несоверш.*—паршиветь, худеть. Шсл. *Ныдзеюць нешта парасяты, сусім блага ядуць.* Ст. *Ныдзела, ныдзела сьвінка дый здохла.* Ст. *Соверш.* **заны́дзець**—истомиться от тоски. Шсл. *Заныдзела дзеўка па сваім заручэнцу.* Ст.

●**ны́дзьвець**-*ею-ееш-ее; повел.-ей-ейма, несоверш.*—изнывать, чахнуть. Гсл.; Нсл. 342. *Ня жывець, а ныдзьвее.* Нсл. *Соверш.* **заныдзьвець.** Нсл. 342,—изныть, зачахнуть. БНсл. *Заныдзьвеў, ня маючы ніадкуль помачы.* Нсл.

●**ны́рка**-*ркі-рцы, ж.*—почка. Ар.; Ксл.; Нсл. 343. *У яго ныркі баляць.* Гарасімова Куз. (Ксл.). *Купаецца, як нырка ў сале.* Нсл.

●**ны́рпаліць**-*лю-ліш*—быстро бросать взгляды, высматривая. *Як нырпаліць яна ачыма па куткох!* Крамяні Пух. (Шсл.).

●**нюх,** *нюху, предл. нюсе, зват. нюша, м.* **1.** обоняние. МГсл.; Ар.; Нсл. 343. *Нюхам чуе, дзе гарэлку п'юць.* Нсл.

**2.** щепотка мелко истертого вещества (обыкновенно нюхом табаку, С.), сколько. можна потянуть носом(понюшка, С.) Нсл. 343. *Дай табакі на адзін нюх.* Нсл. *Нюху табакі пажалеў.* Тм. *Нюху табакі ня варт.* Тм. *Ні за нюх табакі.* *Послов.*—ни за что. НК: Игры, Но. 48. *Уменьш.* **нюшок**-*шка̀, предл.-шку̀, зват. нюшку*—щепоточка, Нсл.; Ксл. щепотка, т.е. сколько берется нюхательного табака для единовременного употребления. НК: Очерки, Но. 591. *Табакі ані нюшка.* Нсл. *Дай нюшок солі.* Пясочак Куз. (Ксл.).

●**ню́хальны,** *-ная-нае*—нюхательный(табак). Гсл.

●**нюханка**-*кі, дат., предл.* *нюханцы, ж.* —нюхательный табак. Ксл. *У табакерцы шчэ была нюханка.* Падрэзы Чаш. (Ксл.).

●**нюхаўка**-*ўкі-ўцы, ж., насмешл.*—нос. Шарыпіна Беш. (Ксл.); Шсл. *Паб'ю ўсю нюхаўку табе.* Ст.

●**нюхаць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш., перех.* **1.** вдыхать через нос какой-л. запах; обонять, Ар. вдыхать в нос(лекарственное, наркотическое и т.п. средство). *Пахушчымі харошымі пахамі нюхаць.* Кіт. 29а17. *Однократ.* **нюхнуць**—вдохнуть запах. *І нюхнула, ведама: пах ценкі(хлеба), без гарэлінкі.* Міська: Хлеб(Беларус, Но. 174). *Соверш.* **зьнюхаць, 1.** почувствовать обонянием. Ар. *Сабака штось зьнюхаў.* Ар.

**2.** *перен., презр.*—пронюхать, разузнать или проведать под рукой. Ар. *Прич.* **зьнюханы, 1.** почувствованный обонянием. Ар.

**2.** *перен., презр.*—пронюханный, разузнанный, или проведенный под рукою. Ар. *Соверш.* **панюхаць.** Ар. *Панюхай, як пахне кветка.* Ар.

●**нюхацца**-*аюся-аешся, несоверш. зь кім,* **1.** *о животных,*—обнюхивать друг друга. Ар.; Нсл. 343. *Сабакі нюхаюцца.* Нсл.

**2.** *перен., презр.*—заводить тайное знакомство. *Яны нешта нюхаюцца мяжсоб.* Нсл.

**3.** делать тайный сговор друг с другом. Нсл. *Штось Жыд із нашым аканомам нюхаецца дужа.* Нсл.

**4.** *перен., презр. о людях,*—знакомиться.

**5.** *чым,*—опрыскиваться духами, одеколоном. *Пахучымі рэчамі нюхаўся.* Кіт. 29б1.

**панюхацца, 1.** *соверш.( к нюхацца ,1)* —нюхать друг друга(о животных). Ар. *Каты панюхаліся.* Ар.

**2.** *соверш.(к нюхацца, 2), перен., презр.*—завести тайное знакомство. Нсл. *Яны даўно панюхаліся.* Нсл.

**3.** *соверш.(к нюхацца, 3),*—сделать тайный сговор друг с другом. Нсл. *Відаць яны мяжсоб панюхаліся, што ў вадно гавораць.* Нсл.

**4.** *соверш. к нюхацца, 5.*—опрыскивать себя духами, одеколоном, надушиться.

**зьнюхацца, 1.** *соверш. к нюхацца, 4.* —понюхав друг друга, сблизиться(о животных). *Сабакі зьнюхаліся.* Нсл.

**2.** *перен., презр. о людях.*—познакомившись, сблизиться, слюбиться. (Шсл.). *Зьнюхаўся з гэтаю нягодніцаю ды валэндаецца зь ёю.* Ст.

●**нюшок**—*см. под нюх.*

●**нюшэц**-*шца, предл.-шцу, зват.-шча; мн. ч.-шцы-шцоў-шцом, мн. ч., предл.-шцох, м.* —нюхальщик. НК: Очерки, 128.

# П

●**по,** *поставленное перед им. прилагательным или наречием, придает им значение*: немного более или немного меньше следуемого, ожидаемого.

●**помалы**-*лая-лае*—маловатый. Нсл. 464. *Помалы гаршчок купілі да кашы.* Нсл.

●**повісака,** *нареч.* (Нсл. 247)-немного выше следуемой высоты. *Повісака паднялі* **хату.** Нсл.

●**повісак, повісакі**-*кая-кае* (Нсл. 427)—немного выше нормальной высоты. *Паркан повісак.* Нсл.

●**поэта**-*ы, общ.*—поэт, поэтесса. *Поэта Дубоўка ўважліва ўслухаўся.* Глыбінны (Прыйсьце, Но. 1). *Такую поэзю добра ахарактарызаваў адзін поэта.* Паляніч, тм. *Рамановіч — поэта.* Кавыль(Бацьк., Но. 1-2/437-438). *Нашто ачарняць слаўнага поэту?* Тм. *У кажнага поэты ёсьць тое ці іншае запэўневаньне.* Тм. *Гэты дзед — поэта ў душы.* Гарэцкі: Песьні 12. *Я не поэта, о крый мяне Божа!* Купала. *Апэлюем памагчы ў вадшуканьню тэкстаў поэты(Гаруна).* Бацьк., Но. 46-47/530-531. *Беларускі поэта Алесь Гарун.* Зімёнка (Беларусь 166). *Табе, поэта, дадзен талент.* Гурла, 10. *Машара — поэта.* Ускалось, Но. 7, 17. *Ён — поэта.* Тм. *Быў поэта й няма поэты.* Бацьк., Но. 20-21/456-457.

●**побак**-*побач.* Шсл.

●**побач,** *нареч.* **1.** рядом, Шсл.; МГсл. рядом, сбоку. (Свалы Смал. п., Раст.: Смоленск 138); Ксл.; Ар.; Гсл. *Пабачыла вашэцю ляжачага, а побач — скалу.* Ю. Жывіца("Прыйсьце", Но.1). *Мне б сядні сесьці побач, спытацца пасяброўску.* Гілевіч: Равесьніку(Г. Радзімы, Но. 4).

**2.** параллельно.

**3.** *предлог с род. падежом*— подле, Нсл. 422. рядом с, возле, подле. *Побач царквы.* Нсл. *Воўк пабег побач дарогі.* Сянно (Ксл.).

●**побачная**-*ае, мат.*—параллель.

●**побачны**-*ная-нае*—параллельный.

**простыя побачныя**—прямые параллельные.

●**поблуд**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.*—умопомрачение. *Поблуд пайшоў на людзёў.* Ар.

●**погаласка**-*скі-сцы, ж.*—слух, Шсл. мова. МГсл.; Ар. *Пусьціў погаласку, што дачцэ дае вялікую пасагу, хаця каб сваталіся.* Ст. *Я ня ведаю, але такая погаласка ё.* Ст.

●**погань**-*ні-ні, ж.* **1.** пакость, (Шсл.) мерзость, (Шсл.), гадость, Гсл. нечистота, скверность. Нсл. 435. *Завaліце дзьверцы, каб погань якая ўступіць на надворак ня сьмела!* Ст.

**2.** дрянная вещь. Нсл. 435. *Кінь гэту погань касу, а вазьмі лепшую.* Нсл.

**3.** дурной человек. Нсл. 435. *Калі б чалавек у Бога, а то погань.* Нсл.

**4.** *собир.*—презренное общество. Нсл. 435. *Не вяжыся гэтаю поганьню.* Нсл.

●**погатаві,** *нареч.* **1.** неиначе, тем более. Нсл. 437, *Калі табе, дык імне погатаві трэба.* Нсл. *Ср. гатоў.*

**2.** в готовности. Нсл. 437. *За гадзіну каб вы ўсі былі погатаві.* Нсл.

●**погаць**-*аю-аеш-ае*—жадно и много пить(говорится презрительно о людях). Ар. *Погае ваду, малако.* Ар. *Соверш.* **напогацца[напу́гацца,** Іг.]—жадно и много выпить чего-л.

●**пограбель**-*бля, предл. и зват.-блю; мн. ч., род.-бляў, м.*—грабли. Ксл. *Пограблямі грабуць.* Сахны Сян. (Ксл.).

●**похлы**-*лая-лае*—пухлый. Нсл. 487. *Похлае відзеньне.* Нсл. *Похлыя рукі.* Нсл.

●**похва**-*вы, дат., предл.-ве, ж.* **1.** ножны. Ксл.; Ар.; Гсл.; Нсл. 486. *Палаш у зялезнай похве.* Нсл. *У похву палажы сваю шабельку.* Падрэзы Чаш. (Ксл.).

**2.** футляр, кобура, Гсл. футляр для хранения письменных принадлежностей, портфель. Нсл. 486. *Кніжкі, рэестры схавай у похву.* Нсл. *Уменьш.* **похвачка**-*чкі-чцы, ж.*—футлярчик для хранения мелких вещиц. Нсл. 486. *Пакладзі алавік і пяро ў похвачку.* Нсл.

**3.** .....? *Хто бы меў каня, каторы бы біў, тагды павінен званок на ім на похвах альбо на назе меці, для таго, абы, то відзячы, не наяжджалі.* Стт. 475.

●**похват**-*ту, предл.-це, м.*—рикошет. *Куля ўзяўшы похват(пахват?* **С.**), *зраніла.* Стт. 407.

●**похці(похнуць,** Нсл.), *похну-неш-не, прош. вр. пох, похла. несоверш.*—пухнуть, опухать. Нсл. 487. *Рукі похнуць.* Нсл. *Каб ты пох!* Нсл. *Соверш.* **апохці**—опухнуть. Нсл. 365. *Апохні ты із сваім дабром.* Нсл. *Апох, як шклянка.* Нсл. *Сьвіньня апохла.* Ар. *Соверш.* **напохці**-*ну-неш-не*—опухнуть. Нсл. 315. *Многократ.* **напаха́ць**-*даю-даеш-дае*—опухать. Нсл. 315. *Ногі напахаюць, напохлі.* Нсл. *Соверш.* **паўпохці**—опухнуть (нескольким). Нсл. 430. *Вочы паўпохлі, глядзець цяжка.* Нсл. *Соверш.* **распохці( распохнуць,** Нсл.)—распухнуть. Нсл. 558. *Распох, як калода.* Нсл. 558. *Прич.* **распохлы**—распухший. Нсл. 557. *Распохлая рука, від.* Нсл. *Соверш.* **вы́пахці(выпахнуць,** Нсл.)—совершенно опухнуть, истощиться опухая. *Выпахнеш, пакуль я за цябе пайду.* Нсл. 487.

•**под,** *поду, предл.-дзе, м.* **1.** фундамент. *Уменьш.* **падок**-*дка; мн. ч.-дкі-дкоў-дком-дкоў-дкамі-дкох*—фундамент, настил на четырех столбиках под *"клець"*. Палесьсе (Сербов: Сакуны, стр. III).
**2.** помост под жерновами, имеющий квадратное построение и оганиченный четырьма вертикально поставленными досками, что придает *"поду"* вид низкого ящика, в средине которого покоятся жернова, НК: Очерки 327. подставка под жерновами. Ксл. *Я муку ад жарон не адгроб — засталася на подзе.* Сухарукава Аз. (Ксл.).
**3.** внутренная площадь, пол печи, Ксл. помост кирпичной печи, Шсл. настилка внутри печи, противоположная *"скляпеньню"* (своду). НК: Очерки 243; Гсл.,—под.
**4.** подошва(горы). Гсл.

•**подал**-*лу, предл. и зват.-але, м.* **1.** низ одежды вообще. Нсл. 445. *Подал у сьвіткі няроўны.* Нсл.
**2.** *род.-ла,*—нижняя часть женской рубахи. Нсл. 445. *Наша Тацянка швачка была, вышыла кашулю з падала.* Нсл.

•**подалека,** *нареч.* **1.** довольно далеко, МГсл. далековато, Ар. далеконько(несколько далеко, С.) Нсл. 438; Лутава на Чарнегаўшчыне(Курило: Матеріяли до укр. діялектол.). *Подалека ты ад нас жывеш.* Нсл.
**2.** несоответственно, далеко. Нсл. 438. *Подалека табе да мяне.* Нсл.

•**подаўга,** *нареч.* **1.** довольно долго, немного дольше, чем следует. *Маўчаць, подаўга маўчаць.* Дзьве Душы 115.
**2.** немного длиннее надлежащего. *Вопратка подаўга.* Дзьве Душы 151.

•**подаўна,** *нареч.*— довольно давно. Шсл.; Нсл. 438. *А подаўна ўжо, як пашлі нашы.* Ст. *Подаўна ты быў у нас.* Нсл. *Подаўна табе трэба было прыйсьці.* Нсл. *Подаўна час маленькаму канюшку прачхнуцца.* Гарэцкі: Песьні 56. *На ім(стале) — подаўна нямыты абрус.* Тм. 16.

•**подбег:** *рабіць із подбегам,жыць із подбегам*—с некоторым необыкновенным усилием. *Жывеш ты, чалавеча, з подбегам і няма табе ні дня, ні ночы.* Нязнаны(Бацьк., Но. 36-37/115-116)

•**подбегі**-*гаў, единств. ч. нет.*—хитрое ласкательство. Нсл. 439. *Ня трэба імне твае подбегі.* Нсл. *I подбегамі сваімі ня выграў.* Тм.

•**подбіўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—подкладка, материал подшитый с внутренней стороны одежды. Ар. *Подбіўка ў марынарцы яшчэ моцная.* Ар.

•**под'езьдзень**-*дня, предл. и зват.-дню, общ.*
**1.** льстец, льстица. Нсл. 450. *Под'езьдзень бабскі.* Нсл.
**2.** вмешивающийся-шаяся не в свое дело. Нсл. 450. *Под'езьдзень гэты ўсюдых пасьпее.* Нсл.

•**подка**-*дкі-дцы, ж.*—дно ячейки соту? *Аж ля подкі відаць блішчак.* Лядно Пух. (Шсл.).

•**подкід**-*ду, предл.-дзе, м.*—подброс. Дсл. 174.

•**подкідзь**-*дзі, ж.*—что-нибудь подброшенное. Міх. *Ці ня подкідзь гэта якая?* Міх.

•**подле,** *предлог с род.* **1.** по. *Ставы, млыны — подле важнасьці пажыткаў(цануюць пры ўвязаньню).* Стт. 277. *Навязаці вонага чалавека ад таго часу, як ад яго ўцекшы ў яго мешкаў, подле ўставы.* Пічата. *Подлі праўды кажу табе* ( *област. произношение*). Нсл. 443.
**2.** судя по. *Подле твае мовы яго праўда.* Нсл. 443.
**3.** по, в соответствии с чем-л. *Подле ставу грэбля.* Віцен-Дуб. 159.

•**подмазка**-*зкі-зцы, ж.*—мазок из тряпки и сала для подмазывния сковороды, когда пекут блины. Шсл. *Нешта не ўстаюць бліны; мусіць у подмазцы няма здору.* Ст. *См. мазка, падмазка.*

•**подпіс**-*су, предл.-се, м.*—подпись. Нсл. 446. *Папера бяз подпісу ня важная.* Нсл.

•**подплетка**-*ткі-тцы, ж.*—специальное костяное широкое шило для ковырания лаптя, при его подплетании. Шсл. *Подплеткаю толькі раскалупаў лапаць.* Ст.

•**подруб**-*бу, предл.-бе, зват.-бе, м.*—фундамент, ПНЗ. первое снизу бревно в строении. *См. падруб.*

•**подружкі** ( *одна* **подружка**)—девушки, принимающие участье в свадебном обряде невесты. Ар.; Вішнева Вал. *Подружкі ўбіраюць маладую.* Вішнева Вал.

•**подскакам,** *в см. нареч.*—подпрыгивая. Нсл. 447. *Подскакам дастаў яблык.* Нсл.

•**подсьвінак**-*нка, предл. и зват.-нку, м.*—молодая, еще не приводившая поросят, свинья; молодой кабанчик. Шсл. *Аднаго подсьвінка закалолі, а другога яшчэ будзем карміць.* Ст.

•**подсьцілка,** (Ар.; Шсл.), **падсьцілка** (Нсл.; НК)-*лкі-лцы, ж.* **1.** подстилка, солома, мох и тп., подосланная под ноги скота, Ар.; Нсл. 448; Гсл. подстил для скота. Шсл. *На подсьцілку каровам прынёс вязку саломы.* Ст. *У сьвіней мокра, аж нельга ступіць — трэба ізноў даць подсьцілку.* Тм. *Пакладзі саломы на падсьцілку каровам.* Нсл.
**2. падсьцілка**—листья, подосланные на лопате под хлеб при сажении его в печь. *Лапата, каторай садзяць хлеб у печ, мае падсьцілку, каторай бываюць кляновыя лісты.* НК: Очерки 40.
**3. падсьцілка**—сапожная стелька. Нсл. 448. *Падсьцілка ў чаравіках адліпла.* Нсл.
**4.** тряпица, подкладываемая под дитя. Нсл. 448. *Падсьцілка мокрая пад дзяцём.* Нсл.

●**подвязка**-*зкі-зцы, ж.*—узкий поясок для привязывания *"калош"*—обмоток, обыкновенно бывают в паре. Шсл. *Кароткія мае подвязкі: нельга добра падвязаць калошаў.* Ст. *Згубілася адна подвязка, трэба новую выткаць.* Ст.

●**подвязкі**-*зкаў(-зак), мн. ч.*—короткие шнурки, пришитые по паре к концу каждой *"калашы"*—штанины для завязывания ее. Ар. *Подвязка адарвалася ад калашы.* Ар.

●**подум**-*уму, предл. и зват.-уме, м.*—помысел, помышление, (*устар.*). *Як колер гэтых кветачак, так подум твой.* Гарун: Блр. марш.

●**подцелак**-*лка, предл. и зват.-лку, м.*—телёнок. Шсл. *Маю дзьве каровы і аднаго подцелка.* Ст.

●**подцмык**-*ыка, предл.-ыку, зват.-ыча, м.*—приспособление для вытаскивания сена из болотного сенокоса; состоит из длинной палки, на которую накладывается копна сена и увязывается верёвкою; к более свободному концу палки прикрепляется валик с постромками для впрягания лошади. Шсл. *З возам нельга было ўехаць, дык подцмыкам выцягаў сена.* Ст.

●**поедзь**-*дзі, ж.* **1.** поядение. Нсл. 492. *Усяго было ня ў поедзь.* Нсл. *См. паедзьдзе I.*
**2.** остатки хлеба на потравленном поле. Нсл. 492. *Поедзі жаць ня можна, хіба пакасіць.* Нсл. *См. паедзьдзе, 2.*

●**пояс**-*са, предл. и зват.-се, мн. ч.-сы-саў-самсы-самі-сах, м.*—пояс. Ар.; Ксл. *Харошыя паясы ткуць.* Сяло Куз. (Ксл.).

●**позем**-*у, м.*—арендная плата(за землю, С.) Гордз. Ак. XУII, стр. XII.

●**позірк**-*ку, предл.—ку, м.*—мимолётный взгляд. *Сёдня позірк горда бліскае.* Крушына: Лебедзь 28.

●**позна,** *нареч.*—поздно. Ар.; БНсл. *Прышоў дамоў позна.* Ар. *Позна я вышаў з дому, хаця каб пасьпець.* Ст.

**да пазна́,** *нареч.*—до позднего времени (особенно ночью) Ар. *Ср. ст.* **пазьней**—позже. Ар. *Прев. ст.* **найпазьней.**

●**позны**-*ая-ае*—поздний. Шсл.; БНсл. *Позны авес яшчэ ляпей удаўся за раньні.* Ст. *Час ужо позны.* Луцк.: Эвангеля подле Мацьвея 14: 15. *Пара ўжо позная.* Тат. Эванг., стр. 83, в. 15. *Позная касьба.* НК.: Очерки, 463. *Зімовая ноч, з познымі вечарамі.* Гарэцкі: Песьні 33. *Хто ж ідзець тут позным часам?* С. Музыка, 251. *Я познаю парою прыйшоў.* Крушына: Творы, 59. *Позным вечарам разрастаецца вусьціш.* Тм. 37. *Ср. ст.* **пазьнейшы**—более поздний. *Прев. ст.* **найпазьнейшы**—самый поздний. Ар.

●**позшы,** Нсл. 456—сравн. степень к *позны.*

●**пожань**-*жані; мн. ч. пожані-няў, ж.*—луг. Ксл. *Хай конь ходзе па пожані.* Пушкары Сян. (Ксл.). *См. пожня, сенажаць, луг.*

●**пожня**-*ні, дат., предл.-ні, ж.*—луг, Ксл.; МГсл.; Дз.; НК.: Очерки, 456-7. сенокосный луг. Нсл. 452. *Калі будзем касіць пожню?* Прудок Віц. (Ксл.). *См. пожань, сенажаць, луг. Уся сям'я на пожні, хто косе, а хто грабець.* Нсл. *Ідзе расьцець званец, там пожні канец. Послов.,* Дз. *Сакавітыя пожні мурожныя не адменіш нічым і нідзе.* Ставер (Г. Радзімы, Но. 49/1006). *У сьмеху на пожні так жвава бяжыць, матылька здаганяе.* Жылка, 29. *Статак, як пайшоў на пожню, дык ляпей стаў пад'ядаць.* Ст. *Уменьш.* **пожанка**-*нкі-нцы.* НК.: Очерки, 457.

●**поісткам,** Нсл., **пайстком,** Ксл. *нареч.*—по порядку. Нсл. 456; Ксл. *Раскажы імне поісткам, як гэта было.* Нсл. *Я табе, паночку, усё поісткам раскажу.* Нсл. *Я табе пайстком раскажу, як гэта вышла.* Русінава Сян. (Ксл.).

●**поіва**-*ва, ср.*—пойло, приготовляемое для коров, с примесью отрубей или муки. Нсл. 456. *Чаму ня будзе малочна жыдоўская карова, калі яе поівам пояць.* Нсл.

●**пойма**-*мы, дат., предл.-ме, ж.* **1.** заливной луг, МГсл. пойма.
**2.** сено, скошенное на таком месте, которое пред кошеньем залито было водой, выступившей из берегов. Нсл. 456.

●**пойм,** *паймa̓, м.*—поимка. Нсл. 456. *Нашы паехалі ў пойм некрутаў: ня зробяць пайма, самых здадуць.* Нсл. *Некрут із пайма ўцёк.* Тм.

●**пойсаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** отделять мякину от зерна, Ар. веять.
**2.** *перен.*—бить, колотить. Ар.

**спойсаць,** *соверш. к пойсаць 1, 2. Як спойсалі яго.* Ар.

●**пок,** *междомет.* **1.** звук от чего-л. лопнувшего, лоп. Нсл. 460. *Струна пок! і няма на чым граць.* Нсл.
**2.** отголосок удара по чем-л. надутому. Нсл. 460. *Пок па жываце.* Нсл.

●**покае,** *соверш.* **успокала,** *безлич.*—раздувает, говорится о гневливом. Нсл. 456. *Цябе сядні покае, успокала дужа.* Нсл.

●**показь**-*зі, ж.* **1.** указание, совет или замечание, разъясняющие что-л., указывающие, как действовать. *Ср. прыказь.*
**2.** указатель (надпись, веха, стрелка и т.п.), служащий для указания чего-л.
**3.** прибор показывающий, указывающий что-л., указатель.

●**покала**-*лы, общ.*—прожора. Нсл. 457. *Покалу гэтага нічым ня ўкорміш.* Нсл.

●**покараткі**-*кая-кае*—немного короткий, коротковатый. Ар.

●**покат**-*та, предл.-це, м.* **1.** телега. НК.: Пасоб., Но. 41.
**2.** лежание один подле другого, вповалку. *Ляжча ў покат.* Нсл. 458. *Дужа вялікі на ўсю хату покат разьвялі.* Тм.

●**покатам,** *нареч.*—вповалку. Ар.; Ксл.; Нсл. 458. *Палажыла яна яго (лес-маладнік) покатам.* Крамушоўка Н. (Демид.: Веров, 93 *Покатам ляжча дзеці на зямлі.* Нсл.

*Покатам усіх паклаў.* Нсл. *Покатам ляжаць усі.* Клюі Куз. (Ксл.). *Уся радзіма покатам ляжыць.* Міх.

•**покаўка**-*укі-ўцы, ж.* **1.** хлопушка. Нсл. 458. *Покаўку парву, ня покай.* Нсл.

**2.** урчание в животе. Нсл. 458. *Каб табе покаўка покала па жываце.* Нсл.

**3.** почка ?. *За акном зялёныя покаўкі.* Дальны (Калосьсе, 2, 1935 г., стр. 84).

•**покаць**-*аю-аеш; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** трескать, ПНЗ; Шсл. (от сильного расширения, давления давать трещины, разрываться, разламываться, С.), лопаться, Шсл.; Нсл. 457. лопаться, издавать звук лопанья. НК.: Очерки, Но. 57. *Што гэта такое: нешта ўсё покаюць у нас камінкі?* Ст. *Паварозы покаюць.* Нсл. *Зіма, сьцюжа, куты ў будынках покаюць ад лютага марозу.* Гарэцкі: Песьні, 41. *Однкрат.* **покнуць**-*ну-неш-не*—лопнуть, треснуть. Нсл. 458; Шсл. *Струна покнула.* Нсл. *Абруч покнуў.* Тм. *Покнеш, пакуль возьмеш мяне.* Тм. *Яйцо покнула.* Ст. *Соверш.* **прапокнуць**—лопнуть. Нсл. 527. *Скула прапокнула.* Нсл.

**2.** надрываться, надсаживаться (от смеха, С.) Нсл. 457. *Ад сьмеху ўсі покаюць.* Нсл. *Безлич.* **распокала**—раздуло (о гневливом). Нсл. 557. *Сядні цябе нешта распокала.* Нсл. *Безлич.* **успокала**—разгневило. *Ужо нашу гаспадыню ўспокала.* Нсл. 73.

**3.** *перен., презр.*—неумеренно есть и пить. Нсл. 457. *Покай, яшчэ ня ўсё папокаў.* Нсл.

**папокаць,** *соверш. к покаць 1, 2, 3.*

•**покацца**-*аецца, несоверш.* **1.** трескаться, лопаться, Шсл. лопаться, разрываться. Нсл. 457. *Абручы покаюцца, папокаліся.* Нсл. *Скура покаеца на целе ад нуды.* Тм. *Жываты покаюцца ад сьмеху.* Тм. *Скура каля болькі пачала покаца.* Ст. *Яйцы покаюцца.* Воўсішча Сян. (Ксл.). *Соверш.* **распокнуцца, а)** лопнуть, разорваться. Нсл. 557. *Мех туга набіты, распокнуўся.* Нсл.

**б)** *ад каго, бранное*: пропасть. *Распокніся ты ад мяне.* Нсл. 557. *Соверш.* **напокацца,** *презр.*—наесться, напиться много. Нсл. 314. *Калі ты напокаешся, покаючы так шмат?* Нсл.

**2.** трескаться, расщеливаться. Нсл. 457. *Печ так нацеплена, аж покаецца, напокалася.* Нсл.

**3.** *перен.*—разражаться гневом. *Покаецца ад злосьці.* Нсл. 457. *Соверш.* **распокацца**—разразиться гневом. *Чаго ты сядні распокаўся?* Нсл. 557. *Соверш.* **успокацца**—с силой разразиться гневом. *Гаспадар наш успокаўся.* Нсл. 73.

**покнуцца**-*нуся-нешся, однкрат. к покацца 1, 3. Глядзі ня покніся ад злосьці.* Нсл. 458.

**папокацца,** *соверш. к покацца 1, 2.*

•**поклад**-*да* ( Шсл.), *-ду* ( Ар.; Ксл.; Нсл.), *предл. и зват.-дзе; мн. ч. пакладѝ-доў-дом-дыдамі-дох, м.*—яйцо, подкладываемое в гнездо несущейся курицы, чтобы она неслася в таком гнезде. Ар.; Шсл.; Ксл.; Нсл. 458. *Не забяры толькі зь яйцамі й поклада.* Ст. *Зоська, палажы пад курыцу поклад.* Шухвосты Куз. (Ксл.). *У гнязьдзе аж два пакладыі.* Ст. *Бяз покладу курыца не нясецца борзда.* Нсл.

•**покладам,** *нареч.*—вповалку. Ксл. *Як стаў іх шабляю калоць — усі покладам.* Пяцігорск Беш. (Ксл.). *См. покатам.*

•**покут**-*ута, предл.-уце, м.*—красный угол в избе, **покуць** (Растсл.)—почётное место в углу под образами за столом. Нсл. 460. *Сядзь, татульку, на покуце.* Нсл. 460. *Сеў сабе на покуце, як поп.* Тм.

**на покуці**—в красном углу. *На покуце за шумлівым сталом сядзелі госьці.* ЗСД 281. *Пусьці, Божа, зь неба да дому, паглядзеці ды на сваё дзяцё, на покуці ці пасаджана.* Северщ. (Косіч 239). *Дзімка глянуў на покуць.* Капыловіч: Хлеб. *Хоча паставіць стрэльбу на покуць.* Крамушоўка Н. (Демид.: Веров, III). *Пасадзілі чэрці музыку на покуць.* Демид.: Веров, I, 103.

•**пол,** *полу, на палу, зват. поле, предл.*—нары, Гсл.; Ар.; НК.: Очерки, 236, Но. 99; Ксл.; Навасільск. у (Будде: Тул.-Орл. слов.) полата, Ксл.; Ар.; Шсл.; Наавасільск. у.(Будде: Тул.-Орл. слов.) род кровати. Растсл.; ПНЗ. *Ад печкі да праціўнае сьцяны насланы дошкі, што служа спальняю і завецца ў вусей Расіі* "полатями" *а тут* (*у Смаленшчыне*) *"полам".* Максимов: Смоленщина, 457 (Жив. Россия).—досчатый помост, в роде неподвижной широкой кровати, простирающийся от боковой стороны печи до стены. Делается довольно высоко. Он служит отпочивальным местом для хозяев с детьми. Нсл. 463. *Пасярод полу кладзіся.* Нсл. *Чорная морда... зірнула з-пад полу...* (*А гэта авечцы дакучыла там і захацелася выйсьці з-пад полу на волю*). Гарэцкі: Песьні, 57. *Сьветач вісіць на шосьце ля полу.* Тм. 32. *Правы бок ныў ад цьвярдога полу.* Акула: Птушка, 140. *Бурдынкнула дзяцё з полу.* Нсл. 39. *Матка сядзіць на палу і маўкліва прадзець.* Гарэцкі: Песьні, 32. *На палу паселі бабы і гамоняць аб драбніцах жыцьця свайго.* Тм. 56. *Сьпіць ён у сваёй хаце, на палу ля сьценкі.* Тм. *Мы сьпім на палу.* Падрэзы Чаш. (Ксл.). *Арэш на валу, сьпі сьмела на палу.* *Послов.* *У Вераб'ёвых дык сьпяць на ложку й на палу.* Ст. *Ідуць у хату й кладуць прынесеныя зьвязкі на пол.* Наш Край, 1928 г., Но. 6-7, 58. *Уменьш.* **палок**-*лка.* Ар. *Старая зьнярухомела ля палка — так і не пасьпела заслаць яго.* Вышынскі: Хата пад ліпою (Беларус, Но. 155).

•**полах**-*аху, зват.-аша, м.*— испуг, Ксл., тревога. Гсл.; Нсл. 462. *Полах на вас напаў.* Нсл. *З полаху ўсі выскачылі з хаты.* Тм. *Во, полаху на іх нагнаў!* Шаркі Куз. (Ксл.). *Паланіца у1 небе зоркі пагасіла. Полах б'е.* Крушына: Лебедзь, 17.

•**полаз**-*за, предл.-зе; мн. ч. палазы̀-оў-ом-ы-а̀мі-ох, м.* **1.** полоз в санях. Ар.; Лятоўшчына Куз. (Ксл.). *Выбраць можна добрыя, здаровыя палазы.* Нсл. 462,

**гбаць палазы, 1.** гнуть полозья.

**2.** сгибать ноги лежащего человека — чисто атлетическая забава взрослых. НК.: Игры, Но. 29. *Гбаць палазы. Собир.* **палозьзе**-*зя.* Север. (Косіч 83); Нсл. 462. *Палозьзя шмат на таргу.* Нсл.

•**полак**-*лку, предл. и зват.—лку, м.*—полка у ружья. Нсл. 462. *Пасып пораху на полак.* Нсл.

•**полямя**-*мені, ср.*—пламя. Шсл. *Полямя аж у юшку шыбае!* Ст. *Полямя шыбае.* Нсл. 462. *З двара ветрам, з хаты дымам, зь печы полямям. Послов.* Тм. *Полямям падыймешся.* Тм. *Запаляцца полямям пякляным.* Кіт. 1064. *Зіркім полямям гарыць такая любоў у душы, грэе яе, асьвячае дарогу ў жыцьцю.* Цётка: Шан. род. слова.

•**поле**-*ля, предл.-лю; мн. ч.-лі-лёў-лём, палі-лямі-лёх, ср.*—поле. *Згубіла долю ў шырокім полю.* Гарун: Два каханьні. *Ласкат.* **палейка**-*ку, ср. Апранулася палейка ў краскі.* Гарун(ст. "Салавейка").

•**полешня**-*ні-ні, ж.*—лесной участок, пригодный для охотничьих с собакою надобностей. НК: Очерки 469.

•**поліва**-*ва, предл.-ве, ср.*—полотье. Ар.; Шсл.; Ксл.; Гсл.; НК: Очерки 419; Нсл. 461. *Поліва было благое, што трава паказалася.* Нсл. *У нас яшчэ шмат ёсьць поліва.* Тм. *Надабе брацца за поліва — грады зарасьлі дужа.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Поліва гэтага ў нас — аж не абабрацца!* Ст.

•**поліўка**-*ўкі-ўцы, мн. ч., род. полівак(-ўкаў), ж.* **1.** суп, состоящий из жидкости, без гущи. Ар. *Ад поліўкі ножкі тоненькі. Поговор.* Рапан.: Прык. 30. *Звары, мама, поліўкі.* Асіпова Аз.(Ксл.).

**2.** жижа. Ад., жижка в бульёне. Шсл. *Адна поліўка.* Ад. Усю бульбу пацягалі, а імне адна поліўка засталася. Ст.

**3.** кислый суп, состоящий из кваса, бурачного рассола, кислой сыроватки, жидкой овсяной цежи, приправленных *"закалотай"*, НК: Очерки 12. кислый суп на квасу или овсяной цеже. НК: Старцы, Но. 67.

**4.** похлёбка. Нсл. 461. *Рыбная поліўка.* Нсл. *Дзякуй за клёцкі, поліўка ў зубы навязла. Послов.* Тм. *Уменьш.* **полівачка**-*чкі-чцы*—ушица. Нсл. 461. *Полівачка смачная.* Нсл.

•**полік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—питейная мера в бутылку. Нсл. 461. *Купі полік гарэлкі.* Нсл. 461. *Уменьш.* **полічак**-*чка, предл. и зват.-чку.* Нсл. 461. *Адзін толькі полічак купіў на шасьцярых.* Нсл.

•**полк,** *полку, м.*—полк. *Дайшлі да штабу полку.* Гарэцкі: Песьні 86.

•**полка**-*лкі-лцы, мн. ч., род. полкаў(полак), ж.* **1.** кусок материи, из которых(кусков) сшивается юбка. Ар. *Спадніца шырокая, аж у пяць полак.* Ст. *У спадніцу не стае аднае полкі.* Ст.

**2.** пелёнка. Ксл. *Полкі ейнага дзіцяці, а во! памыла.* Кляшчыно Беш. (Ксл.).

•**полудніца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—время в летнюю пору между пригонм скота с поля перед обедом и выгоном скота в поле после обеда, бывает различной длины в зависимости от того, насколько сильная жара, но приблизительно от 10 час. утра до 3 час. после обеда.

•**полудзень**-*дня, предл.-дні, м.* **1.** обед. Шсл. *На полудзень жнеям хлеба ня станець.* Нсл. 463. *На полудзень уставіла куцьці із затаўкаю.* Ст. *Па полудні паедзем па снапы.* Ст.

**2.** полдень. Нсл. 463. *На дварэ полудзень, а ты агіляешся ехаць.* Нсл. *См. палу̀дзень, 1, 2.*

•**полька**-*кі*—полька, очень быстрый по темпу танец(по происхождению национальный чешский танец).

•**польны I**-*ная-нае,* **1.** полевой. *Зьвярата польныя плакалі.* Кіт.

**2.** пасущийся в поле. Нсл. 463. *Сьвіньня ня польная скаціна, не ганяем у поле.* Нсл.

•**польны II**-*ная-нае, прилаг. от пол.* НК: Очерки 237.

•**полы,** *единств. ч. нет.*—пламя. Ужываюць у проказі: *Полы шугаюць(у печы і інш.)* Ар.

•**полымя**-*мя, ср.*—пламя. Нсл. 463. *Адзін із агнём, другі з полымям. Послов.* Нсл. *См. полямя.*

•**помала,** *нареч.*—маловато. МГсл.; Нсл. 463; Ар. *Помала ты даў імне за работу.* Нсл. *Помала прышлося на маю часьць.* Тм. *Аб ім(сяле) тут, у месьце так мала гўкаюць, і так помала пішуць.* Дзьве Душы 149. *Што ты кажаш? — спытаўся Абдзіраловіч парушаным, але такім голасам, у якім сам помала чуў патрэбнага пачуцьця і зганіў сябе за гэта.* Дзьве Душы 158.

•**помаракі**-*каў, единств. ч. нет.*—рассудок. Гсл. *Гэтак удырыў, што й помаракі адбіў.* Гсл.

•**помач**-*чы, ж.*—помощь. Шсл.; Гсл. *Помачы ад сыноў я мала бачу.* Ст. *Калі ты, Пан мой, мне ласкі і помачы сваей ня ўчыніш, як тваё адзіноства знаць маю?* Кіт. 46. *Чы да паклонаў маіх ад мяне помачы жадаеш?* Тм. 463. *Пан Бог яго ізь неба зышле мусульманам на помач.* Тм. 96б17. *Браць грошы за помач чалавеку — грэх.* Север.(Косіч 252). *Хадзі к нам на помач.* Расуха Імгл.(Косіч 237).

**ісьці(ехаць) помачы**—за помощью.

**помач даваць**—оказывать помошь. *Урад ку пайманьню таковага помач даваці маець.* Стт. 206. *Тым непрыяцелям помач даваў.* Стт. 67.

•**помачнае**-*нага, сущ.*—гонорар. *Дыкжэ гонорар — "помачнае" — гэта пэўная пазнака таго, што радзілася адумысловая юрыдычная профэсэя людзёў, што,*

*наймаючыся, вядуць на судзе чужыя справы.* Барысёнак: Адвакатура, 117.

•**помнага,** *нареч.*—многовато. Нсл. 464. *Помнага просіш за свой тавар.* Нсл.

•**помнець**-*ню-ніш-не; прош. вр. помнеўнела-нелі, каго-што, несоверш.*—помнить. *Соверш.* **папомнець** (Гсл.)-*ніш-ніць*—будешь, будет долго помнить(угроза). Ар. *Папомніш ты мяне!* Ар. *Не гамзі ты ў балота новую адзежыну. Калі ты заўсёды так гамзіш, дык папомні маё слова — ані разачку ня будзе чаго ў людзі адзець.* Юрсл.(под *гамзіць*).

**выпамнець**-*ню-ніш-не, прош. вр.-неўнела-нелі*—удержать в памяти. Нсл. 90. *Выпамнець усё гэта цяжка.* Нсл.

**прапомневаць,** *-нюю-нюеш-нюе*—забывать нечаянно. Нсл. 527. *Ты часта прапомнюеш тое, што надабе зрабіць.* Нсл. *Соверш.* **прапомнець**-*ню-ніш-не.* Нсл. 527. *Апрапомнеўшы баязьнь Божую, пакаяньне сваe ўзрушыў.* Кіт. 65а2. *Я прапомнеў сказаць яму гэта.* Нсл. *Прич.* **прапомнены** —забытый. Нсл. 527, *Прапомненую крыўду ўспомнеў.* Нсл.

**прыпомнець,** *соверш.*—припомнить. Ар. *Несоверш.* **прыпаміна́ць.**

**прыўпамяну́ць**-*нў-нёш-нёць-нём-іцё, соверш.* (слегка, С.) напомнить. Нсл. 498. *Ня гневайся, што я прыўпамяну, што пара доўг аддаць.* Нсл. *Хоць бы ты імне прыўпамянуў аб гэтым.* Нсл. 519. *Несоверш.* **прыўпаміна́ць,** *-аю-аеш-ае*—часто(слегка С.) припоминать. Нсл. 498. *Я табе аб гэтым ня першы раз прыўпамінаю.* Нсл.

**успомнець,** *соверш.*—вспомнеть. *Я(Бог) вас успомню збавеньням.* Кіт. 7а8. *Несоверш.* **успаміна́ць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма* —вспоминать. *Успамінайце мяне Бога малітвамі.* Кіт. 7а7.

•**помнецца**-*іцца-яцца, несоверш. каму* —помниться. *Соверш.* **адпомнецца**-*нюсянешся*—припомнеть себе. Войш. *Я забылася песьні, але заўтра адпомнюся.* Войш.

**прыпамяну́цца**-*нўся-нёшся, соверш. к прыпамінацца.* Нсл. 508. *Несоверш.* **прыпаміна́цца**-*аюся-аешся*—домогаться чего-л. напоминаниями. Нсл. 508. *Даўно ўжо я табе прыпамінаюся аб доўгу: сядні прыпамяніся табе, а ты заўтры й забудзешся.* Нсл. *Несоверш.* **прыўпаміна́цца** —часто (слегка, С.) требовать отдачи чего-л. Нсл. 498. *Не прыўпамінайся яму, то ён сам не аддасьць.* Нсл.

**прыўпамяну́цца**-*нўся-нёшся, соверш.*— (слегка, С.) потребовать отдачи чего-л. Нсл. 498. *Раз прыўпамянуўся яму аб доўгу, дык ён нято туды.* Нсл.

**успомнецца**-*іцца-яцца, каму*—вспомниться. *Несоверш.* **успаміна́цца**-*аецца каму.*

•**помнік**-*ка, предл.-ку, зват. помніча, м.* —памятник. МГсл. *І будзем на зямлі, ты, любы лесе, мне помнікам на доўгія гады!* Лойка: Л. песьня. *Даруйце, дзяцюкі, што помніка вам дагэтуль не паставілі.* Пархута: Размова з братамі. *Ды толькі помнік — крыж пахілы — жыцьцю дзядоў і іхным мукам, стаяў адзін, як сьветка ўнукам, край зарослае магілы.* Клімовіч(В. Каліна). *Часта надзе падарожных да сябе магутны помнік.* Крушына: Лебедзь 58. *Застаўся помнікам дом адзін.* Е. Лось. *Я сустрэў Кунцэвіча... ля помніка.* В. Адамчык(Маладосьць, Но. 7, 1967 г., стр. 547).

•**помны**-*ная-нае*—памятный. *Усіх памерлых сваякоў вылічаюць наймя і ў канцы кажуць — "помныя й няпомныя".* Демид.: Веров., 1896 г, II, 138.

•**помпа**-*пы, дат., предл.-пе, ж.*—насос. Ар.; Падбярэзьзе Віц. (Ксл.).; Нсл. 465. *Помпаю гарэлку пераліваюць із бочкі ў бочку.* Нсл.

•**помста,** *-ты, дат., предл. помсьце, ж.* —месть. МГсл.; Гсл. *Помста ад Бога.* Нсл. *Помсту імне зарабіў.* Тм.

•**помсьлівасьць**-*ці, ж.*—мстительность. *Ср. помсьлівы.*

•**помсьлівы**-*вая-вае*—мстительный. *Цэлая гама помсьлівых пачуцьцяў перадавалася абодвымі майстрамі.* Глыбінны (Прыйсьце,, Но. 1), *См.* **памстлівы.**

•**помсьнік,** *-іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —мститель.

•**помсьніца**-*цы-цы, ж.*-мстительница.

•**помсьціць (памсьціць,** Нсл.), *соверш.* —отомстить. Нсл. 466. *Памсьціў мяне ён.* Нсл. *Помстилъ естъ.* Скар. II ц. *Помстиш цяп.* Ск. 2 адз. Тм., III ц., *помшчу* Тм. III Ц. *Хадзіў ён помсьцячы за зьдзекі.* Лойка: Л. Песьня. *Як памсьціць за зьдзек із Маці?* Крушына: Творы 155. *Жаданьне памсьціць ворагу.* Глыбінны: Доля блр. культуры пад Саветамі, 99.

**памсьці́цца,** *соверш.*—отомстить. Гсл.; Мгсл.; Нсл. 292. *Ты імсьціўся мне, дый я табе памшчуся.* Нсл. 292. *Во калі ён табе памсьціўся.* Гсл. *Памсьцімся за ўсіх.* Гарэцкі: Блр. марш. *За яго памсьцяцца горы.* Крушына: Лебедзь 60. *Многократ.* **памшча́цца** —мстить при удобном случае хотя бы через долгий промежуток времени. Гсл.

•**помут**-*уту, предл. и зват.-уце, м.*—мутность, возмущенная влага. Нсл. 466. *Ходзе, як рыба ў помуце.* Нсл. *Помуту ў вадзе нарабіў.* Нсл.

•**помысл**-*слу, предл. и зват.-сьле, м.*—намерение, помышление, Нсл. 466. помысел. *І ў помысьле ў мяне таго ня было.* Нсл.

•**понаж,** *панажа́, предл.-жу́; мн. ч. панажы́-оў-ом-амі-ох, м.*—педаль, Ксл.; Ар. педаль в кроснах. Шсл. *Понаж надабе новы.* Сьвярдлы Беш. (Ксл.). *Пашукай якое вяровачкі прывязаць понаж.* Ст. *Дзе ён дзеўся: ня відаць нешта аднаго панажа?* Ст.

•**поначы,** *нареч.*—в ночное время. Север. (Раст.: Северск. 77).

•**попаўзкам,** *нареч.*—ползком. Нсл. 471. *Попаўзкам падышоў, прыцікаўся.* Нсл.

•**попаўзень**-*зьня, предл.-зьню, зват.-зьню; мн. ч.-зьні-зьнёў-зьнём, зьні-зьнямі-зьнёх, м.*—пресмыкающееся.

**•попел**-*лу, предл. и зват.-ле, м.*—пепел, Гсл. пепел, зола. Ар.; Косіч 75; Нсл. 470. *Золата і ў попеле відаць. Послов.* Нсл. *У печы шмат попелу, дык дровы блага гараць.* Ст.

**•попелка**—пепельница. МГсл.

**•попіхам,** *нареч.*—толкая. Нсл. 471. *Попіхам давялі да двара.* Нсл.

**•попіс**-*ісу, предл. и зват.-ісе, м.*—перепись. Нсл. 471. *Попіс народу.* Нсл.

**•попа**-*пы-пе, ж., дет.*—больное место на теле. Ар.

**•поплавы**-*ваў*—заливной луг. Жучкевіч, 16; Сакуны, стр. 5.

**Поплавы**-*ваў*—название улицы в г. Вильне, проходящей вдоль реки Вилейки.

**•поплаў**-*аву, предл. и зват.-аве; мн. ч. поплавы-ваў, м.*—заливной(поёмный, **С.**) луг, Шсл.; Растсл.; ПНЗ. берег реки, заливаемый весной водой. Цымборскі. *Сена прывезьлі з поплаву.* Ст. *Лукашонак зышоў з мосту і пабрыў поплавам.* Вышынскі: Хата пад ліпой(Беларус, Но. 155). *Во ў Мялешкі — знаеце таго, што на паплавох? хрэсьбіны сядні.* Тм. *Разам бегалі на поплаў ірваць кветкі.* Марціновіч(Беларус, Но. 159). *Крынічны плёск на росных паплавох сялацкія люляе думы-песьні.* Пушча(Калосьсе 2, стр. 93).

**•поплеч,** *нареч.*—рука-об-руку, рядом, Гсл. рядом, НК: Старцы 78. плечом к плечу. Шсл.; Растсл.; ПНЗ; Заазер'е Сян. (Ксл.). *Якія ж гэта пайшлі сялом два хлопцы поплеч?* Ст.

**•попрадкі**-*дак, единств. ч. нет.*—посиделки(с прядением, **С.**) Шсл. *Пайду к нашым на попрадкі.* Ст. *Я дома болей напраду, як на попрадках.* Ст.

**•попрыг,** *нареч.*—порознь, отдельно. Нсл. 472.

**•попыт**-*ту, м.*—спрос, осведомление. Гсл.

**•порах**-*аху, предл.-асе, зват.-аша, м.* **1.** порох. Ар.

**2.** *област.*—прах, пыль. Нсл. 475. *Порахам запала скрынка.* Нсл. *На порах пагніло ўсё.* Тм.

**3.** *област.*—земля. Нсл. 475. *Патуль буду помнець, пакуль порахам вочы не засыпець. Поговор.* Нсл.

**4.** *род. пораха*—малейшее количество. Нсл. 475. *Ні пораха не засталося імне.* Нсл.

**•пораты,** *прич. к пароць* —распоротый. Нсл. 474. *Поратая сарочка.* Нсл. *Шытае й поратае знае. Послов.* Нсл.

**•пораваццa**-*уюся-уешся, несоверш.*—хлопотать по хозяйству. Растсл.

**•пораўня,** *нареч.*—рядом. *Ягоныя пачуцьці былі далёка ад Ванды, хоць ішоў із ёй пораўня ды дзяржаў пад руку.* Шакун: Сьлед 14.

**•порхаўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—гриб дождевик, который, когда высохнет, бывает наполнен самой мелкой пылью. Ар.; Нсл. 476. *Раздушыў нагою порхаўку.* Ст.

**•поркала**-*лы, общ.*—копотун. *На красні бурkліва прымошчаваліся вечныя поркалы-шчамялі.* ЗСД 172.

**•порканьне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.* **1.** *отгл. имя сущ. к* *поркаць, поркацца.*

**2.** шарение, искание чего-л. Нсл. 474. *Дадзеў ты сваім порканьням.* Нсл.

**3.** медленный сбор куда-л. Нсл. 474, копошение. *Пакуль будзе гэта тваё порканьне? Людзі зьберліся даўно, а ты ўсё поркаешся.* Нсл.

**•поркаць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** шарить, искать чего-л., роясь. Нсл. 474. *Досіць табе поркаць тут.* Нсл.

**2.** ковырять. Міх. *Ср. папоркаць 1. Соверш.* **напоркаць, а)** напороть, Шсл. ковыряя, наделать дырочек. *Напоркай уперад дзірачак у скурацe, а тады шый.* Ст.

**б)** мало сделать(медленно и неискусно работая, **С.**) Шсл. *Што ты тут напоркаў — адны ганькі ўзараў.* Ст.

**3.** пороть, тревожить. Шсл. *Узяў кій ды поркае ў гняздо.* Ст. *Соверш.* **прапоркаць** —провертеть(прорвать насквозь, **С.**) Нсл. 527. *Сьвіньня прапоркала мех.* Нсл.

**4.** будить, толкать. Нсл. 474. *Поркай, распоркай яго пад бок, няхай устане.* Нсл. *Соверш.* **прыпоркаць**—частыми побуждениями заставить приняться за работу. Нсл. 508. *Цябе ніяк ня прыпоркаеш да работы.* Нсл. *Соверш.* **распоркаць** —разбудить, толкая. *Распоркай яго; пакуль ён будзе спаць.* Нсл. 557. *Дзеці, рана распорканыя, дрэмяць. Соверш.* **успоркаць** —разбудить от кркпкого сна. Нсл. 73. *Ня борзда яго ўспоркаеш,* Нсл. *Прич.* **успорканы**—разбуженный толканием. Нсл. 73. *Дзеці рана ўспорканы.* Нсл. *Соверш.* **паўспоркаць**—растолкать от сна(многих). Нсл. 430.

**папоркаць, 1.** *соверш. к поркаць, 1, 2*—поковырять. *Ён тут не ўзараў, а толькі папоркаў.* Міх.

**2.** *соверш.* **к** *поркаць 3*—пороть, распарывать некоторое время.

**•поркацца**-*аюся-аешся, несоверш.* **1.** рыться. Нсл. 474. *Чаго ты тут поркаешся з лучынаю?* Нсл. *Соверш.* **паўспоркацца** —начать искать чего-л.(о многих); засуетиться, ища чего-л. Нсл. 430. *Чаго вы тут паўспоркаліся з агнём? Каб не заранілі іскры, з лучынаю паўспоркаўшыся.* Нсл.

**2.** копошиться с работою, Ар.; Шсл. заниматься медленно, неспешно работать. Нсл. 474. *Пакуль ты будзеш поркацца із сваей работаю?* Нсл. *Поркаецца цэлы дзень чорт ведае з чым?* Ст. *До табе поркацца ў гэтым рызьзю!* Любашкова Выс. (Ксл.). *Поркайся бардзей; цябе ждуць, а ты ўсё поркаешся.* Нсл. *Соверш.* **прапоркацца**—промедлить, суетливо собираясь в путь или на работу. Нсл. 527. *Цэлую гадзіну прапоркаўся, пакуль зьберся.* Нсл.

•**порсканьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к порскаць*—фыркание. Нсл. 475. *Порсканьне каня.* Нсл. *Ср.* *пырсканьне.*

•**порскаць**-*ае, несоверш.*—фыркать подобно лошади. Нсл. 475. *Конь порскае, порснуў, зьвера чуе.* Нсл. *Однократ.* **порснуць**—фыркнуть. Нсл. 475. *Ср. пырснуць.*

•**порсткі**-*кая-кае,* **1.** быстро выражающий неудовольствие, Шсл. вспыльчивый. *Надта порсткі гэты Сідар: нічога й не скажы яму!* Ст.

**2.** скоро растущий. *I здаецца, было чуваць, як мякка ўстае скрозь на канаве прыбітая дажджом порсткая трава.* Адамчык: Арж. колас.

•**порсь,** *междомет.*—означает мгновенное фыркание лошади. Нсл. 475. *Конь порсь! паглядзім, аж воўк бяжыць.* Нсл.

•**поршні**-*няў, мн. ч.*—род кожаной обуви, по форме сходной с лаптями. *У лапціпоршні ногі ўрасьлі.* Вольны.

•**поршчаць,** *поршча, несоверш.*—издавать особый, легкий треск, и так треск получается при поджаривании, когда получаются брызги. НК: Очерки, Но. 678.

•**поршы**-*шаў, единств. ч. нет.*—парши. Нсл. 476. *Поршы завяліся ў галаве.* Нсл.

**абмыў свае поршы**—из бедного стал богатым. Нсл.

•**порт,** *порту, предл. и зват. порце, м.*—льняное, в противоположность суконному, Ар.; Ксл. льняная ткань, Шсл. посконная и льняная вообще нить. Нсл. 476. *Порт накш гаворыць.* Чарніца Сір. (Ксл.). *Шмат порту ў сукне.* Ст. *Сукно портам паткана.* Нсл. *Сярмяга з портам папалам.* Нсл.

**2.** тканина, холст, холстина. Ар.

•**порставы**-*вая-вае*—портяный. Нсл. 475. *Портавая смаліна пахне.* Нсл.

•**порткі**-*аў, единств. ч. нет.*—штаны. Ар.; Раст.:Смоленск. 149. *Стаяў у падлапленых портках і босы.* Адамчык: Арж. колас.

**порткі споднія**—подштанники. Ар.

•**порва**-*вы-ве, ж.* **1.** разорвание. Нсл. 474. *Порву чужой вяроўкі нічым не паправіш, хіба сваю аддласі.* Нсл.

**2.** порча внутренностей от напряжения. Нсл. 474. *Гэткі цяжар — порва каню.* Нсл.

**3.** *надрыв от смеха.* Нсл. 475. *Порва бярэць, як ён скача, гавора.* Нсл.

•**порваны**-*ная-нае*—схваченный. Нсл. 475. *Ляжыць порваны трасцаю.* Нсл.

•**поруб....**—подвал. Гсл.

•**порубель**-*бля, предл.-блю. зват.-блю, м.*—топор. Ксл. *Порублям сякуць.* Сахны Сян. (Ксл.).

•**поруч,** *нареч.*—рука-об-руку, рядом. Растсл.; Гсл.

•**поручань**-*чня, предл. и зват.-чню, м.*—ручка(в кресле). *Правая рука выпусьціла поручань.* Нязнаны(Бацьк., Но. 36-37/115-116).

**2.** *мн. ч.* **поручні**-*няў*—перила. МГсл. *Ізноў за поручні бяруся.* Салавей: Сіла 82.

•**порца**-*цы-цы, ж.*—порция. Шсл. *Ты ж ізьеў сваю порцу ды яшчэ лезеш!* Ст. *Уменьш.* **порцайка**-*йкі-йцы.* Шсл. *Імне лучыла маленькая порцайка.* Ст.

•**порце**-*ця, собир.*—белье. Л.

•**посах(пасох?)**-*оха, предл.-асе, зват. посаша; мн. ч.-хі-хоў-хом-хамі-хох, м.*—посох. *Кажнаму зь іх па чатырыста пасахоў ударaньня.* Кіт. 1612. *Маюць яго пасахамі сто раз пасашыць.* Тм. 65а11.

•**посайка, пасойта** — *пачопка*(у ведра). А. Станкевіч(Калосьсе, Но. 3/20, стр. 177).

•**посарам,** *нареч.*—стыдновато. Нсл. 481. *Табе посарам гэта гукаць.* Нсл.

•**посестра**-*ры-ры, ж.*—подруга, товарка. Смл. (Даль). *См.* *пасёстра, 3.*

•**посік**-*ка, предл.-ку, м., анат.*—мужеский половой член. Ар.; Валожына.

•**посілка**-*лкі-лцы, ж.*—веревочка для носки воды, Шсл. веревочная, проволочная и т.п. ручка ведра, корзины. *На вядро пачапіў новую посілку — не парвецца.* Ст. *Агата засіліла конаўкаю вады зь вядра з посілкаю.* Дудзіцкі(Бацькаўшчына, Но. 376-377). *Падыйшоў да вядра із старою пянчанаю посілкаю, засіліў вады конаўкаю.* Тм.

•**поскудзь**-*дзі, ж.* **1.** гадость. *Яна хоча адкінуць гэту поскудзь(п'яўкі, яшчаркі, рапухі).* Я. Г-кі: Казкі, Но. 2, стр. 5.

**2.** дрянная, негодная вещь. Нсл. 479. *Даў нейкую поскудзь.* Нсл.

**3.** нечистота. Нсл. 479. *Сьвітку запэцкаў, ходзячы каля гэтае поскудзі.* Нсл.

**4.** дрянное общество. Нсл. 479. *Няхай бы людзі былі, а то поскудзь.* Нсл.

•**послух**—послушание, МГсл. послушание, исполнение воли старшего. Нсл. 480. *Послуху няма ад дзяцей.* Нсл.

•**посны**-*ная-нае*—постный. Ар.; Ст.

•**поспа**-*пы, дат., предл.-пе, ж.* **1.** мука, коей задабрывается корм животным. Віц.(НК: Очерки, Но. 85); Ксл. *Поспы і ў жорнах можна намалоць.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

**2.** мучной отвар с мелом для побелки стен. Растсл.

•**поспал(посполу,** Скар ІІІЦ.),**1.** совместно, вместе,(сообща, **С.**) Нсл. 481. *Поспал ідзіце к пану.* Нсл.

**2.** пополам. Нсл. 481. *Поспал дзяржаць зямлю.* Нсл.

•**поспаль,** *нареч.*—совместно, пополам. Гсл.

•**пост,** *посту, предл. и зват.-посьце, мн. ч. пасты-тоў-том-ты-тиамі-тох, м.* **1.** пост. Ар.; Ст. *Хлеба свайго стала да Вялікага Посту.* Ст.

**2.** сама постная пища. Шсл. *Ядуць яны круглы год із постам.* Ст.

•**поставаць**-*тую-туеш-туе, повел.-туйтуйма, несоверш.*—постить-иться. Нсл. 482; МГсл. *Наша гаспадыня па панядзелках пастуе.* Нсл. *Соверш.* **прапоставаць,** *перех.*—провести пост, пропоститься. Нсл. 527. *Хвала Богу, бяз рыбы прапоставалі Вялікі Пост.* Нсл.

•**постаўка**-*укі-ўцы, ж.*—нижняя часть женской рубахи(из более грубого полотна), Нсл.; Ксл. от пояса. Раст.: Смоленск. 149; Растсл.; Ксл.; Нсл. 482. *Сарочка кужэльная, а постаўка пасконная.* Нсл. *Аўдоцьця прышыла малую постаўку.* Кокшына Куз. (Ксл.).

•**постаць**-*ці, мн. ч.-ці-цяў, ж.*—место(участок) жней на полосе, Гсл. узкая полоса, которую занимает , жнет, одна жнея, Ар.; Сьвеча Беш. (Ксл.) протяжение, занимаемое жницами(с одною жницею, С.) поперек полосы, Нсл. 482. место, где стоит жнея. Растсл.; ПНЗ.

•**пострык**-*ыка, предл.-ыку, зват.-ыча, м.*-длинный шест скрочком для подавания снопов в *"азярод".* Шсл. *Кароткі пострык; ніяк не падаць снапа.* Крамяні Пух. (Шсл.). *См. падавальня.*

•**посуд**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.* 1. посуда. Гсл.; Нсл. 483. *Вазьмі із столу посуд дый памый.* Нсл.

2. сельскохозяйственные машины и приборы, Гсл. собрание вообще хозяйственных приборов или орудии, как то гуменных, земледельческих и проч. Нсл. 483;Дсл. *Арба скончылася; посуд забраць трэба на месца.* Нсл. *Бяз посуда на гаспадарку ня сядзеш і гаспадаром ня станеш: бабыль быў і будзеш. — Конь жа ёсьць! А! конь канём, а кабыла хвастом.* Дсл.

3. судно(плавающее сооружение для транспортных, промышленных и военных целей) Смоленщ.

•**посьнік**-*іка, предл. и зват.-іча, м., област.* —пост. *Хто фітрэ(араб., род падачкаў) аддасьць — посьнік і нэмаз(араб. малітву) Пан Бог прыйме.* Кіт. 18а16. *Посьнік межы неба і зямлі завешан будзе.* Тм. 18а12.

•**посьнікаваць,** *-кую-куеш-куе(-каваю - каваеш-кавае), област.—посьнікаць. Прич.* **посьнікавалы,** *област.*—постившийся. *Усе людзі посьнікавалыя адпосьнікаваліся.* Кіт. 94б8.

**адпосьнікавацца**-*куюся-куешся, несоверш., област.*—разговляться. *"Няхай адну гадзіну стрываю" і сам не адпосьнікаваўся: "Няхай матка ачхнецца, за една адпосьнікаемся."* Кіт. 94б5. *Отгл. имя сущ.* **адпосьнікаваньне**-*ня, предл.-ню*—разговление. *Іса прарок для адпосьнікаваньня на карэньне траўное пашоў.* Кіт. 94а3.

•**посьнікаць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш., перех., област.*—поститься. *Посьнікайце месяц рэмэзан.* Кіт. 6617. *Нэмаз (араб., иалітву) пеў і посьнікаў.* Тм. 13б14. *І матка, ноч перайшла, знову посьнікаць час.* Кіт. 95а2. *Соверш.* **адпосьнікаць**-*аю-аеш-ае, област.*—поститься вместо тех дней, которые во время поста не постил. *Хто бы быў у дарозе, няхай есьць, а так веле дзён іншых адпосьніікаць.* Кіт. 15а3. *Соверш.* **адпосьнікацца**-*аюся-аешся, област.*—разговеться. *Дзень у дзень посьнікалі, а ў вечар адпосьнікаліся траўным карэньням.* Кіт. 94а2.

•**посьніца**-*цы-цы, ж.*—постная пища, отсутствие жиров, молочного. Ар.; Шсл.; Ксл. *У нас даўно посьніца.* Зарэчча Гар. (Ксл.). *Цэлае лецечка посьніца, і скварачкі няма сала.* Ст.

•**посьцілка**-*лкі-лцы, ж.*—простыня. МГсл. *Зрывалі посьцілкі зь дзяўчат.* Кавыль: Ростань 42. *См. пасьцілка.*

•**посыпка**-*кі, дат., предл. посыпцы, ж.*—мука, коей задабривается корм животным. Гард.(НК: Очерки, Но. 85). *См. поспа.*

•**пошапкам,** *нареч.*—шепотом. *І Мухаммэд прароча, ня пей голасам нэмаз(араб., малітву), ані тэж нішкам, а бяры сабе межы тымі сярэдні голас, то ест пошапкам пей.* Кіт. 42б15; 81б14; 15. 17.

•**пошар**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—фураж. Ар.

•**пошасьць**-*ці, мн. ч.-ці-цяў, ж.*—эпидемия, МГсл.; ПНЗ; Растсл.; Ксл. повальная болезнь. Шсл.; Гсл. *Пайшла нейкая пошасьць сярод людзёў.* Макарова Віц. (Ксл.). *Ходзе па людзёх нейкая пошасьць; усе хварэюць на галавы ды на жываты.* Ст. *Пошасьць нейкая; усі жаляцца на жываты, на вочы.* Нсл. *Пошасьць на каровы.* Нсл.

•**пошта**-*ты, дат., предл.-це, ж.*—почта. Ксл. *Сядні пошты ня было.* Кавалёўшчына Беш. (Ксл.).

•**пошта,** *нареч. вопрос.*—зачем. *Пошта ты тут ходзіш?* Нсл. *См. нашто.*

•**пошчак**-*аку, предл.-аку, зват.-ача, м.*—.... *Пошчак — сьпеў салаўя заліваецца.* А. Змагар. *Пошчак салаўіны змоўк, прыціх. замер...* А. Салагуб.

•**пот,** *поту, предл. и зват. поце, м.*—пот. Ар.

•**потка**-*ткі-тцы, ж.*—тайный уд вообще. Нсл. 484.

•**поткі**-*кая-кае*—потный. Ксл.; Нсл. 484. *Рукі поткія, не бярыся за хусты.* Нсл. *Уй, якія ў яго поткія рукі.* Бель Выс. (Ксл.).

•**потым,** *нареч.*—потом, Ар.; Раст.:Северск. 135; Ксл.; Мокрая Карачэўск.(Б:Т.-Арл. 75) потом, после. Нсл. 486. *Потым да мечыці пашоў.* Кіт. 29б1. *Потым прыдзеш.* Нсл. *Будзь першы паслухачым, а потым павядачым.* Нсл. 480(под *паслухачы*). *Потым я зраблю сваю работу.* Сяркуці Сян.(Ксл.).

•**потырч,** *нареч.*—вниз головою, стремглав. Шсл. *Потырч так і паляцеў.* Матарова Сьміл. (Шсл.).

•**повад**-*да, предл.-дзе, мн. ч. павады-оў-омамі-ох, м.*—короткий ремень или веревка, одним концом привязываемый к узде лошади, другой конец в упряжи привязывают к дуге. Ар., повод(у лошади). Шсл. Ксл. *Конь парваў повад.* Ст. *Повад парваўся й конь уцёк.* Сьпіжана Беш. (Ксл.).

•**повалач**-*чы-чы, ж.*—.... *Падыходзіла пад Вялікдзень. Жураўлі цягнулі на поўнач свае повалачы.* Каласкі, 1955, Но. 27-30, 10.

•**повен**—*см. под поўны.*

•**поверху,** *нареч.*—поверх на поверхности. Нсл. 425. *Поверху вада пайшла.* Нсл.

•**поверак**-*рка, предл. и зват.-рку, м.*—шест, коромысло, на средину которого привешено ведро, или другая посудина, даже узелок, когда их несут вдвоем. НК: Под. пос., Но. 16.

•**поверка**-*ркі-рцы, ж.*—водонос или кол, посредством которого несут вдвоём что-л. тяжелое. Нсл. 434. *Поверкаю прынясіце ўдваіх вады.* Нсл. *Вазьміце на поверку гэты цяжар.* Тм. *Зачапіце за поверку бунт пянкі дый нясіце.* Нсл. *На поверку лягчэй несьці.* Тм.

•**повесель,** *нареч.*—навеселе. Нсл. 426. *Прышоў двору повесель.* Нсл.

•**повечар,** *нареч.*—вечером, когда стемнеет. Нсл. 426. *Повечар прыдзеш.* Нсл.

•**повечару,** *нареч. — повечар.* Нсл. 426.

•**повіцьце**-*ця, см. віць.*

•**поўх**-*хà, предл.-ху, м.*—пощечина, Нсл. 486; МГсл. оплеуха. МГсл. *Дай яму паўха, няхай ня лезе.* Нсл. *Адваліў яму паўхоў зь пяток.* Нсл. *Глядзі паўха заробіш.* Нсл. 431. *См. поўха.*

•**поўха**-*хі. дат., предл. поўсе, ж.*—удар кулаком по уху, пощечина. Ксл.; Ар.; Шсл. *Добрую поўху даў!* Падрэзы Чаш. (Ксл.). *Даў яму дзьве поўхі.* Ст. *Даў яму поўхі на закуску.* Ст. *См. поўх.*

•**поўху,** *нареч.*—по ушам. Нсл. 486. *Дай яму поўху.* Нсл.

•**поўз**—*см. под паўз.*

•**поўзаньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к поўзаць.* Нсл. 426; Ар. *Поўзаньне чарвей.* Нсл.

**поўзаньне па нагах**—поклоны до ног. Нсл.

•**поўзаць**—*см. под паўзьці.*

•**поўна,** *нареч.* **1.** ровно с краями. Нсл. 427. *Поўна насыпай.* Нсл.

**2.** очень много чего-л., полно. *Дзьве стараны ангелаў поўна было.* Кіт. 11465. *Яго ўсюдых поўна.* Нсл. 427. *Поўна, роўна і к верху дном. Послов.* Тм. *Нашто ж гэтак поўна набраў, што не падняць?* Ст.

•**поўнае**-*нага, в см. сущ.*—полнолуние. Нсл. 427. *На поўным, пад поўнае пасеяў.* Нсл. *См. поўната, поўня.*

•**поўнасьць**-*ці, ж.*—полнота. Нсл. 427. *Поўнасьць віду.* Нсл. *Аддаю ў поўнасьці.* Тм.

•**поўната**-*ты, дат., предл.-це, ж.*—полнолуние. Ксл. *Ужо поўната настала.* Запрудзьдзе Куз. (Ксл.). *См. поўнае, поўня.*

•**поўнач**-*чы, ж.* **1.** полночь. Ар.; Сянікі Беш. (Ксл.); Шсл. *Аж да поўначы мужчыны таўкліся ў хаце.*

**2.** север. Ар.; Шсл. *Вецер завярнуўся з поўначы.* Ст.

•**поўненькі**—*см. под поўны.*

•**поўня**-*ні-ні, ж.*—вторая четверть луны, полнолуние. Гсл.; Ар.; Шсл. *Ужо падбіраецца пад поўню.* Ст. *Месяц у поўні.* Ар. *См. поўнік.*

•**поўнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—вторая четверть луны,(полнолуние, **С.**) Шсл. *Ці ня ведаеш ты, калі будзе поўнік?* Скрыль Пух. (Шсл.). *См. поўня, паўната, поўнае.*

•**поўніца**-*цы-цы, ж.*—полнота какой-л. меры. Нсл. 427. *Поўніцу лубку даў каляды.* Нсл. *Поўніцаю хапаеш.* Тм. *Па поўніцы цягаеш.* Тм. *Каровы ядуць па поўніцы.* Ар.

•**поўны**-*ная-нае,* **повен,** *поўна-на,* **1.** —полный и (книжн. устар.) полн, полно, полно. Нсл. 427; Ар. *Поўны, повен двор гасьцей.* Нсл. *Поўнае вядро выпіў конь.* Нсл. *Плывець човен, вады повен, каб ён не разьліўся.* Ар. *Поўна хата людзёў.* Нсл. *Поўна бочачка вінца, ні дзірачка, ні канца(яйцо).* Ар. *Повен то шчасьця, то жаласьці, плачу.* Гарун.

**2.** полный, упитанный, в меру толстый. *Ласкат.* **поўненькі.** Ар. *Поўненькую кішаню насыпаў арэхаў.* Нсл. 427. *Поўненькі хлопчык.* Тм. *Поўненькае дзяцё.* Тм. *Увелич.* **паўнюсенькі, паўнютанькі**—полнёхонький. Ар.; Нсл. 427. *Паўнюсенькая, паўнютанькая царква людзёў.* Нсл.

•**паўн**-*юсенькі-ютанькі—см. под поўны.*

•**поўпрыца**-*цы-цы, ж.*—попурышка. Шсл. *Удалася яна маленькая, як поўпрыца.* Крамяні Пух. (Шсл.).

•**поўсьць**-*ці, ж.*—мелкая шерсть(коровы, лошади и т.п.) Ар.; Ксл.; Міх. *Якая чорная поўсьць!* Бараўляны Куз. (Ксл.). *З каня набралася шмат поўсьці.* Ст.

•**поўшыць**-*шу-шыш, несоверш., каго*—наносить удары кулаком по уху(давать затрещину, пощечину, **С.**) Шсл. *Згроб яго загрудкі ды давай поўшыць.* Ст. *Соверш.* **адпоўшыць**—надавать затрещин. Шсл.

•**поцем**-*му, предл. и зват.-ме, м.*—темнота? *Поўнач схавае мяне, цемрадзі поцем густы.* Салавей: Сіла 31.

•**поцемна,** *нареч.*—темновато. Нсл. 488;Ар. *Поцемна ў хаце, пара сьвятло даць.* Нсл.

•**поценка,** *нареч.*—тонковато. Нсл. 488; Ар.

•**поцераб, пацяроб**-*бу, м.*—сенокос, очищенный от кустов. Шсл. *Пойдзем касіць на пацяроб.* Амельна Пух. (Шсл.). *З пацяробу прывёз каласьнічок сена.* Ст.

•**поцераб**-*бу, предл. и зват.—бе, м. — поцерабы.* Ксл. *У поцераб вядзі каня.* Палуянава Гар. (Ксл.).

•**поцерабы**-*баў, единств. ч. нет.* **1.** место, очищенное совсем от леса, мелколесья, или с прореженным лесом. Ар.

**2.** лес с отрубленными сучьями(?) внизу. Ар. *Прабег скрозь усі поцерабы.* Сакуны 74.

•**поцесна,** *нареч.*—тесновато. Ар.; Нсл. 488. *Вам тут жыць поцесна.* Нсл.

•**поцесь**-*сі, мн. ч.-сі-сяў, ж.*—прялка(? **С.**) Віленшч. (Нсл. 488). *Дзеўкі з поцесямі зьберліся на супрадкі.* Нсл.

●**поцяг**-*га, предл.* *поцязе, зват.* *поцяжа, м.*—сапожный ремень. Гсл.; Нсл. 488. *Пацягні яго поцягам, няхай ня дурэе тут.* Нсл.

●**поцяга**-*ягі-язе, ж.*—влечение. *Як каго сустрэнеш першы раз, а душа не пачуе да яго поцягі, то зь ім не сябруйся, бо так будзе, як із маладымі, каторых душы ня чулі к сабе ніякае поцягі, а бацькі іх павянчалі; іх жыцьце будзе такое, як жыцьце сабакі з катом.* Рэч.(Пет. II, 260).

●**поціск**—*пожатие руки.* Гсл.

●**початка**-*пкі-пцы, ж.*—веревка, дужка у ведра. Ар. *Закруціўшы почапку, каб не ўвалілася вядро, глыбака топе яго з канцом вагі.* Гарэцкі: Песьні, 66. *См.* *пачопка.*

●**почапка**-*пкі-пцы, ж.*—верёвочка для подвешивания чего-л. Шсл.—*пачопка I.* Ар. *Дай імне гэту почапку павесіць клубок.* Ст. *Ср.* *пачопка.*

●**почасьць**-*ці, мн. ч., род.-цяў, ж.* **1.**—почитание, почёт.

**2.** угощение. Нсл. 489. *Не вялікая там была почасьць.* Нсл. 489. *Уменьш.* **почастка,** (Ксл.; Нсл.), **пачостка** (Шсл.)-*ткі-тцы,*— угощение, Маламер'е Аз. (Ксл.); Шсл. угощение с закуской и вином. Нсл. 489. *Почасткі ніякае ня было, а так бавіліся.* Нсл. *На вясельлю была добрая пачостка.* Сьміл. (Шсл.).

●**почат(почыт,** МГсл.)-*ату, предл. и зват.-аце, м.*—однообразие, сходство, образец. МГсл.; Нсл. 489. *Боты не адным початам пашыты: адзін большы, другі меншы.* Нсл. *На почат гэтага зрабі.* Нсл. *Не аднаго почату рукавіцы.* Тм. *Даўно гэта было і аб парабкох ня стала ні слуху, ні духу, ні почату, бы й ня было іх на сьвеце.* Лынькоў: Воўчы Лог (Калосьсе, Но. 2, 1935, стр. 98).

●**почут**-*уту, предл. и зват.-уце, м.*—слух о ком. Шсл. *Тых людзёў тут і почуту няма.* Ст.

●**па, 1.** *предлог с винит., предл. и род. падежами, всегда без ударения.*

С винит. падежом, **а)** употребляют, указуя на лицо, животное или вещь, которые нужно получить, привести и т.п.: за (с твор. падежом). Гсл.; Ар.; Нсл. 421. *Паеду па тую Лукірку красную.* Водзьвінка Імгл. (Косіч 240). *Я па цябе прышоў.* Нсл. *Срала мая, страла! Па што прышла? Ці па мёд, ці па гарэлачку, ці па красную дзевачку?* Из песни, Нсл.

*Посла по Ростислава брата своего.* Радз. лет.(Ганцов, 235). *Стукнулі, грукнулі на дварэ, паглядзі, мамухна, ці не па мяне.* Росуха Імгл.(Косіч 248). *Па мяне прышлі.* Гсл. *Прышоў па лапату.*

**па што**—зачем. *Па што, воўча, йдзеш? — А па апошняе.*

**б)** употребляют для указания предела расширенного действия: по (с винит. падежом). *Па поясу у вагню стаяць.* Кіт. 12964. Употребляют для указания размера, величины чего-л.: по (с винит. падежом). *Трава па калена. Па вушы.*

**г)** в союзе с числ. (кроме *"адзін"*) для указания количества, припадаемого каждому, цены каждого: *Купляць, прадаваць па чом*:

*па пяць, па шэсьць, па сем, па восьмі, па дзевяць, па дзесяць, па адзінанцаць, па дврананцаць, па трынанцаць, па чатырнанцаць, па дваццаць, па трыццаць, па сорак, па пяцьдзясят, па семдзясят, па асьмідзясят, па дзевяцьдзясят, па сто*). *Па дзесяць раз.* Кіт. 17а9. *Цытрыну прадавалі па сем грашоў. Цукер куплялі па шаснанцаць капеяк хунт. Па два* (*дзьве*), *па тры, чатыры, па дзьвесьце, па трыста, па чатырыста*—по(с винит. падежом: по два, по три, по четыре, по двести, по четыреста).

**па двое, па трое**—по двое, по трое.

**па пяцьсот, па шасьцьсот, па сямсот, па асьмісот, па дзевяцьсот**—по пятисот, по шестисот, по девятисот.

**па паўтара, па паўтары**—по полтора, по полторы.

**2.** *с предл. падежом,* **а)** *по наружности*: по ( в дат. падежом). *Хмары плывуць па небе. Ня лазь па лесьвіцы. Нягодна йсьці па гэтых сходах.* Вял.

**б)**, *в пределах чего-л.*— по.

**хадзіце па масткох**—ходите по тротуару. Імсьц.

**па ўсім сьвеце**—по всему свету. *Хадзіла па ўсіх пакоях.* Н.(Афанасьев, ІУ, 1914, 286). *Хадзіла каза па ніцых лозах, па вербалозах.* Красновічы Сураск (Сержп., Отчет, 12). *Брыдзем па балоце.* Нсл. 421.

**г)** *в разных местах,*—по (с дат. пад.) *Па школах, па хвабрыках, па ўрадах хадзілі спэктары. Расьселіся па кутох.*

**г)** *от одного пункта к другому,*—по (с дат. падежом). *Акцызьнік хадзіў па крамах.*

**Б.** *с им. числ. "адзін",*—по (с дат. падежом). *разумеўся*—по (с дат. пад.).

**па адным**—по одному. *Імаму па чырвоным залатым прыходзіла ад галавы.* Кіт. 17а16. *Пеў па разу.* Кіт. 17а8. *Маці з локаць, бацька з сажань, а дзеці па палцу.* Рапан., Прык. 334.

**Г.** *употребляют, указуя на лицо, предмет, о котором скучают, плачут.*—по (с дат. пад.), о (с предл. пад.). *Зажурыўся мой татухна родны па маёй горкай дольцы.* Гараны Імгл. (Косіч 28).

**Х.** *при указании родства,*—по (с дат. пад.). *Мая бабуля па матцы звалася Ясапата.*

**Д.** *Пазнаў па голасе, па шапцы*—узнал по голосу, по фуражке.

**Е.** *в знач. временном*: *после какого-л. действия или события*—после. *Па вясельлю паехалі да тога палацу.* Н. (Афанасьев. ІУ, 1914, 287). *Па нас ня будзе нас.* *Послов.* Нсл. 421.

**па абедзе**—после полдня. Ар.

**па вячэры**—после ужина. Ар. *Па ўходзе (сьвятара) із сьвятымі дарамі да аўтара, моў гэтую малітву: малітва па перанясеньню сьвятых дароў.* Малітва пры сьвятой літургії 1695 г.(Б. Шляхам, Но. 6, 1970 г.). *Па абедзе клаўся супачыць.*

**3.** *с дат. падежом,* **А.** *с им. сущ. в ед. числе (устар.?). Употребляют, показуя на время действия.* (*Ён паказуе імне, хочучы*) *ў маей зямлі быці па краснай вясьне й па ціхому лету.* Яўрэінаўскі летапіс.

**Б.** *в соединениях, отн. к наречиям:* *павялікалітоўску*—по великолитовски; *палюдзку*—по-человечески; *папольску*—по-польски.

*Пабеларуску няцца хочуць.* МГсл., перадмова, IУ. *Калі вучыш, як мае абракаціся, калі пататарську ня ўмее, то парускy няхай абракаецца.* Кіт. 87а1. *То... кур — парускy певень ест.* Кіт. 119б1. *Лепш зрабі ты пахрысьцянску.* Гарун: Кан. Паўлючонка.

**плакаць па загінулых**—плакать о погибших. *Па табе плача гай.* ЧЧ: Песьні 75.

•**па...** *прироcток*, **1.** *употребляют при создавании глаголов:* **А.** *означает приобретение свойства или качества. Например:* *паблажэць, пахудаць, падаражэць, падужэць, патанець, пачырванець.*

**Б.** *доведение действия к какому-л. результату, напр.:* *пагаліць, паправіць, параіць, пасадзіць.*

**Ґ.** *действие одним приемом:* *паглядзець падзякаваць, пакланіцца.*

**Г.** *означает совершенное действие, происходящее обыкн. короткое время.Напр.:* *паграць, пагўкаць, пагуляць, падзьмухаць, пакалыхаць, палётаць, папсаваць, папрадàць, папрацаваць, пасядзець, павазіцца, пачытаць.*

**Х.** *начало действия, напр.:* *пабегчы, пагнацца, паляцець.*

**Д.** *указует на неоределенную продолжительность времени или состояния, которые происходят с перерывами и ослабленно, напр.:* *пагдядаць, пахаджаць, пазіраць.*

**Е.** *осуществление действия в немножко меншем размере, напр.:* *пазалаціць, памазаць, патрусіць, пацярушыць.*

**Ё.** *расширение действия на все или многие предметы, напр.:* *паглухці, пахаваць, паквіцець, памерзьці, пасьлепці.*

**Я.** *означает действие, которое происходит медленно, не сразу, или на несколько приемов: , напр.:* *падаганяць, панакідаць, папрывыкці, парасклaсьці, папакалаціца, папаплакаць.*

•**паабгледзіцца**—*см. под глядзецца.*

•**паабедаць**—*см. под абèдаць.*

•**паабéднешні**-*няя-няе*—бываемый, после или в конце обедни, литургии. Нсл. 468. *Паабеднешняя малітва.* Нсл.

•**паабедзены**-*ная-нае*—послеобеденный. Нсл. 468. *Паабедзеная воддыш.* Нсл.

•**паабéруч,** *нареч.*—по обеим рукам, по обеим сторонам, (МГсл.) как и *павобач.* Нсл. 468. *Паaберуч мяне селі.* Нсл.

•**паабірáць**—*см. под браць.*

•**паабнікáць**—*см. под нікаць.*

•**паагýльна,** *нареч.*—оптом, гуртом. Нсл. 468. *У раздробіцу не прадасьць, а паагульна.* Нсл.

•**паахотне,** *нареч.*—охотно, добровольно. Нсл. 469. *Паахотне пайшоў у некруты.* Нсл.

•**пааддавáць**—*см. под давàць.*

•**пааджымáць**—*см. под жмаць.*

•**паадкідáць**—*см. под кìдаць.*

•**паадноўчы,** *нареч.*—по одному разу. Нсл. 468. *Сядні паадноўчы толькі прывезьлі дроў.* Нсл.

•**паапрыч,** *нареч.*—порознь. Нсл. 469. *Паапрыч жывуць, сядзяць.* Нсл.

•**паасоб,** *нареч.*—отдельно. Нсл. 469. *Ідзе гэта бачана, каб кажнаму паасоб даваць есьці?* Нсл.

•**паасобі,** *нареч.*—отдельно. Нсл. 469. *Браты паасобі жывуць, купчуюць.* Нсл. *См. паасобіцы.*

•**паасобіцы,** *нареч.*—отдельно. Нсл. 469. *Паасобіцы зарабляюць, тый сабе, а тый сабе.* Нсл. *См. паасобе.*

•**паасобку,** *нареч.*—в отдельности, отдельно, Ксл. отдельно, МГсл.; Нсл. 469. порознь, врозь. Ар.; МГсл. *Звары паасобку, а потым зьлі.* Альшанікі Беш. (Ксл.).

•**паасобнасьці,** *нареч.*—отдельно. Нсл. 469. *Паасобнасьці зарабляем, брат сабе і я сабе.* Нсл. *Кладзі паасобнасьці.* Тм.

•**паáцець**—*см. под àцець.*

•**пабожаму,** *нареч.*—по-божески, Шсл. взругая(?) на Бога; милосердно, Нсл. 422. справедливо. *Надабе мець сумленьне, надабе рабіць пабожаму!* Ст. *Пабожаму пастyпай, дзіцятка, нікога ня крыўдзячы.* Нсл.

•**пабожны**-*ная-нае*—набожный. МГсл.

•**пабоіч**-*іча, предл.-ічу, м.*—бондарский инструмент для натягивания обручей. Міх.

•**паболець**—*см. под болець.*

•**паболìць**—*см. под боліць.*

•**пабольшаць**—*см. под большаць.*

•**пабольшыць**—*см. под большыць.*

•**пабор**-*ру, предл. и зват.-ру, м.* **1.** взимание, сбор(налогов).
**2.** (призыв, С.) набор (в армию, С.) Гсл.; Нсл. 422. *Нèкруці пабор.* Нсл.

•**пaборац**-*рца, предл.-рцу, зват.-рча, м.*—сборщик податей. Гсл.; Нсл. 422. *Паборца прыслалі выбіраць падаткі.* Нсл. *См. паборца.*

•**паборны,** -*ная-нае*—принадлежащий, относящийся к рекрутскому набору. Нсл. 422. *Паборныя грошы.* Нсл.

•**паборшчына**-*ны-не, ж.*—рекрутщина; сбор денег для расходов при сдаче рекрутов. Нсл. 422. *Паборшчына сёлета вялікая накладзена.* Нсл.

Ст. *Павадырамі Сумона(нявіснага ўбогага) былі розныя асобы.*
**2.** проводник. Гсл. *Вядзі мяне павадыр, дзе пампушкі даюць.* Гсл.
**павадырок**-*рка, предл.-ркỳ, зват. павады́рку; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, уменьш. к павадыр 1, 2. Малец мой у павадыры наняўся.* Нсл.
•**павадыронак**-*нка, предл. и зват.-нку*—сын "*павадыра*". *Гỳкаеш, як павадыронак.* Нсл. 428.
•**павады́рскі,** -*кая-кае*—свойственный "*павадыру*" *1, 2. Паспытаўся павадырскага хлеба.* Нсл. 428.
•**павады́рства**-*ва, предл.-ве, ср.*—занятие, профессия "*павадыра*" *1, 2. Апрача "павадырства" павадыр Сумонаў памагаў яму ў "сьпевах".* НК: Старцы 77.
•**паває́нны**-*ная-нае*—послевоенный.
•**пава́дзіць,**—*см. под вȁдзіць.*
•**пава́дзіцца,**—*см. под вȁдзіцца.*
•**павазі́ць,** *паважỳ, павозіш-зе, несоверш., перех.* **1.** быть кучером, возить в качестве кучера. Нсл. 428. *Пяты год як паважу пана, а ніколі пан не зацеміў нічога благога.* Нсл.
**2.** *соверш.*—покатать. Нсл. 428. *Павазі дзеці на сваім каню.* Нсл.
•**паважа́ты**-*тага, в см. сущ.*—исполняющий должность кучера в свадебном поезде, родственник невесты. *Паважатага добрага маеш.* Нсл.
•**паважа́ць**-*ȁю-ȁеш-ȁе, повел.-ȁй-ȁйма, несоверш., перех.*—уважать. Нсл. 424; Гсл.; Ар.; Грозьба Меж. (Ксл.); Шсл.—почитать. *Хто з моладу старых паважае, таго самога пада старасьць паважаць будуць.* Нсл. *Старога кажнага шануй і паважай.* Кіт. 13а8. *(Спадар Бог) у тых днёх набажэнства вельмі паважае.* Тм. 2769. *Будучы пры дварэ нашым, а не паважаючы нашага майстату, сьмеў таго ся важыці а на каго другога на палацу нашым таргнуць.* Стт. 72. *Гэткага чалавека ўсе паважаюць.* Ст. *Бацькоў любі, старых паважай. Послов.* Рапан. 72. *Прич.* **паважа́ны**—уважаемый. *Отгл. имя сущ.* **паважа́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—действие от глаг. "*паважаць*" — уважение.
**паважа́цца,** *завис.* **1.** быть уважаему. Нсл. 424. *На ўсім сьвеце старыя паважаюцца.* Нсл.
**2.** иметь уважение к кому или к чему. Нсл. 424. *Гаворачы гэта, паважайся хоць хлеба-солі.* Нсл. *Паважаючыся добрых людзёў.* Нсл.
•**пава́жлівасьць**-*ці, ж.*—почтительность.
•**пава́жлівы,** -*вая-вае*—почтительный. *Нечым зграшыла дзіцятка рахманае. Ціхі ж, паважлівы быў.* Гарун: Жабрачка.
•**пава́жна,** *нареч. к паважны 2.*—почтительно. *Гỳкай паважна, калі пан слухае.* Нсл. 424.

•**пава́жнасьць**-*ці, ж.*—почтительность. *Паважнасьць Божая над відам яго.* Кіт. 2а8. *Абы ў гаспадарстве нашым хрысьціянскім усякая усьцівасьць і паважнасьць, пагукȁньню хрысьцянскаму належачая, была захавана.* Стт. 438. *Май паважнасьць да старшых.* Нсл. *Паважнасьць і шанаваньне тым зацным днём чыніце.* Кіт. 27а9.
**чыніць паважнасьць**—оказывать почтение, относиться почтительно. *Сссылаю ангелаў усім людзём, Кедыр ноч паважнасьць чынячым.* Кіт. 16б11. *Пан Бог паважнасьць чыніць тым днём... і пятніцы і Байраму.* Тм. 2565.
•**пава́жны**-*ная-нае*—почтительный, уважительный, Нсл. 424. относящийся с уважением к кому,-чему-л., почтительный. *Паважны дзяціна.* Нсл. *Уменьш., ласкат.* **пава́жненькі.** Нсл. 424. *Паважненькі хлапец.* Нсл. *Паважненькая жоначка.* Нсл. *Ср. ст.* **пава́жнейшы,**—повежливее, пообходительнее. Нсл. 424. *Твой брат, хоць меншы, але паважнейшы за цябе.* Нсл. *Прев. ст.* **найпава́жнейшы.**
•**патрус-і́ць-і́цца,**—*см. под трусі́ць, трусі́цца.*
•**паважне́ць,**—*см. под важнѐць.*
•**пава́жыцца,**—*см. под вȁжыцца II.*
•**пава́л**-*лу, предл. и зват.-ле, м., собир.*—деревья, упавшие на землю. НК: Очерки, 470. *См. павала.*
•**павалодаць,**—*см. под валодаваць.*
•**павалочка**-*чкі-чцы, ж.*—покрышка. Нсл. 428. *Хутра ня вельмі добрае, але павалочка добрая.* Нсл.
•**павала**-*лы-ле, ж.* **1.** поваленное бурей дерево. Шсл. *Ср. павал. Един. ч.* **пава́ліна.** Шсл. *Выцягнулі з балота паваліну.* Войстрава Сьміл. (Шсл.).
**2.** *перен.*—лежебок. Шсл. *Павала гэта ляжыць цэлы дзень.* Ст. *Ляжыць, як павала.* Ст.
•**па́валака**-*кі, дат., предл. пȁвалацы, ж.* **1.** плева, Ксл. тонкая плева на поверхности воды или на чем-л. жидком. Нсл. 389. *Ля таго берагу павалака ваду зацягнула.* Даўганы Беш. (Ксл.). *Павалака плавае па вадзе. Павалакаю зацягнулася студня.* Нсл.
**2.** тонкая гнойная плева на глазу, препятствующая зрению. Нсл. 389. *Павалакаю завалакло вочы.* Нсл.
**3.** покрывало, простыня. Нсл. 389. *Павалака белая на ложку.* Нсл.
**4.** волокно от льна или пеньки. Нсл. 389. *Павалака цягаецца ў цябе за лапцям.* Нсл.
•**павалака́ць,** *несоверш., перех.*—покрывать верхнюю одежду какой-л. материей. Нсл. 428. *Ня варта павалакаць гэтае хутра.* Нсл. *Соверш.* **павалачы́ць.** Нсл. 428. *Павалачыць хутра сукном.* Нсл. *Прич.* **павалочаны.** Нсл. 428. *Хутра павалочанае сукном.* Нсл.

•**павалаводзіць,**—*см. под валаводзіць.*
•**павалачы́,**—*см. под валачы.*
•**павалачы́цца,**—*см. под валачыцца.*
•**павалэндацца,**—*см. под валэндацца.*
•**паваліць,**—*см. под валіць.*
•**павалі́цца,**—*см. под валіцца.*
•**павалту́зіць**-*жаны,*—*см. под валтузіць.*
•**павальне́ць,**—*см. под вальнець.*
•**пава́лч-ыць**-*ыцца,*—*см. под валчыць.*
•**паварозка**-*кі, дат., предл.* паварозцы, *ж.* —тесемка, Раст. тесемка, шнурок, ПНЗ. всё в роде веревки или тесьмы, чем можно что-л. привязать.
•**паварот**-*ту, предл.-це, м.*—возврат. МГсл.
•**паваротка**-*кі, дат., предл.* паваротцы, *ж.*—возврат. МГсл.
•**паваротны**-*ная-нае*—обратный. МГсл.
•**паварýшыць,**—*см. под варушыць.*
•**паве́даміць**-*млю-міш-ме, соверш., каму,* 1.—уведомить кого.
2. известить, МГсл. сообщить. *Отгл. имя сущ.* **паведамленьне**-*ня, предл.-ню*—уведомление. МГсл. *Несоверш.* **паведамля́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма, каму*—уведомлять кого.
•**паве́даньне, павяда́ньне** (Нсл.)-*ня, предл.-ню, ср., отгл. имя сущ. к паведаць*—рассказ, Нсл. 434. повествование. *Па твойму павяданьню яны яшчэ ня скора будуць.* Нсл. *Твайго павяданьня не разьбярэш.* Нсл.
•**паве́даць,** *соверш., што*—рассказать. *Паведай мі, што палюбіла душа мая.* П.П., 1:7(Из 12 книг Б.). *Вельмі хацела паведаць старому радасную тайну сваю.* Дзьве Душы 24. *А паведай мне, хто тут граў?* С. Музыка 164. *Прич.* **паве́даны**—рассказанный. *Гэта ўжо ня раз паведаная справа.* Нсл. 434. *Рабі так, як табе паведана.* Тм. *Несоверш.* **павяда́ць**-*дю-деш-де*—рассказывать.
•**паве́ялка**-*кі, дат., предл.* павеялцы, *ж.* —ресница. Вял. *См. вейкі.*
•**паве́-яны**-*яць,*—*см. под веяць.*
•**паве́к,** *нареч.*—во всю жизнь, Растсл.; Ар. вечно, (Нсл. 434) во век. Шсл. *Павек не забудуся твае ласкі.* Нсл.

•**павенава́ты**-*тага, в см. сущ.(от вена)* —лицо, принадлежащее к свадебному поезду и имеющее особенное поручение надзирать за приданым невесты. Нсл. 434. *Павенаватыя паехалі.* Нсл.
•**паве́р**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—кредит. МГсл.; Гсл.—дача в долг. Нсл. 434.
**на павер,** *нареч.*—в кредит. Гсл. *На павер ня дам.* Нсл. 434. *У краме даюць імне на павер.*
•**павера-дзіла**-*дзіць, павярэджаны,*—*см. под верадзіць.*
•**паве́рх,** *нареч.*—сверху, над. Ксл. *Паверх лесу гледзячы, жывець.* Брыды Меж. (Ксл.). *Ня йдзець паверх гразі, а ўсе гразьне ды гразьне.* Мікольск М.(Демид.: Веров. 105).
•**паве́сма**-*ма(-мы,* Нсл.)-*ме, ср.* 1. связка или куль вытрепанного льна и пеньки, горстей в 10-12. НК: Очерки, Но. 298; Нсл. 434. 10-12 *"ручэяк"* льна составляет *"павесма".* Міх. *Чатыры павесмы лёну спрала.* Нсл.
2. вычесанный и следов, готовый к пряже лен и пенька. НК: Очерки, Но. 298.
**паве́смачка, паве́самка,** *уменьш. к* павесма *в обоих см.* НК: Очерки, Но. 298.
•**паве́сьць**-*ці, мн. ч., род.-цяў, ж.*—повесть. Дз.
•**паве́т**-*ту, предл.* павеце, *зват.-це, м.*—уезд. Ксл. *Мы Сяньскога павету былі.* Сахны Сян. (Ксл.).
•**паветавы**-*вая-вае*—уездный.
•**паве́т-ачка**-*ка,*—*см. под павець.*
•**паве́тны**-*ная-нае*—к навесу относящийся. Нсл. 434. *Паветнае кручча паадламалася.* Нсл.
•**паве́тра**-*ра, предл.-ру, ср.* 1. воздух. Гсл.; Ар. *Учынкі іх межы неба й зямлі на паветру завешаны будуць.* Кіт. 20а17.
2. поветрие. *І мая ж гэтак сама выдумае нейкую паветру ды носіцца.* Ст. (Шсл. *под мой*). *Увелич.* **паве́трышча**-*ча, предл.-шчу*—губительная сила поветрия, Нсл. 434. поветрие. *Паветрышча яго ведае, куды ён пайшоў.* Нсл. *Паветрышча яго вазьмі.* Нсл.
•**паветраная**-*ая, в см. сущ.*—губительная сила поветрия, Нсл. 434. поветрие. *Паветраная яго вазьмі.* Нсл. *Паветраная яго панесла туды.* Тм.
•**паве́траны**-*ная-нае*—воздушный. МГсл.
•**паве́трышча,**—*см. под паветра 2.*
•**паве́трыцца**-*ышся-ыцца, несоверш.*—быть истребляему поветрием, перен. пропадать. Нсл. 434. *Паветрыся, запаветрыся гэта праклятая работа!* Нсл. *Соверш.* **запаве́трыцца,** *перен.*— пропасть, Нсл. 434; Гсл. погибнуть от мора, поветрия. Шсл. *Куды ён запаветрыўся?* Нсл. *Запаветрыўся ён ад мяне.* Нсл. 180. *А каб яно запаветрылася з такім надвор'ям!* Ст. *Дзе ён запаветрыўся? як пашоў, дык няма й няма.* Гсл.,—где он пропал? *Ср. у Даля: запаветрыў ты!*—пропади ты! Смл. *Куды ён запаветраў*—девался? Тм.

●**павéў**-*ву, предл. и зват.-ве, м.*—влияние, воздействие мыслей, идей,—веяние. *Мяшчанства... яшчэ можа згуляць ролю першых дужалёў у змаганьню зь нясходаным праклятым русыфікачным павевам.* Дзьве Душы 122.

●**пáвечарня**-*ні-ні, ж.*—малое повечерие. Нсл. 389. *Павечарня адышла.* Нсл.

●**пáвечарніца**-*цы-цы, ж., церков.*—повечерие. Нсл. 389. *Спавяднікі слухайце павечарніцу.* Нсл.

●**павядáльны**, -*ная-нае*—повествательный.

●**павядáць**,—*см. под* **павèдаць**.

●**павядáч**-*чà, предл.-чỳ, зват.* **павядàчу**; *мн. ч., род.-чоў, дат.-чом, предл.-чох, м.*—рассказчик. Нсл. 434. *Які павядач, такое яго й павяданьне. Послов.* Нсл.

●**павядáчы**-*чага, мн. ч.-чыя, сущ., м.* **1.** рассказчик. Нсл. 434; Гсл. 17. *Будзь першы паслухачым, а потым павядачым.* Нсл. *Шмат такіх ёсьць павядачых, як ты.* Нсл.

**2.** повествователь.

●**павядзéцца, павялося**, *безлич.,—см. под вядзѐцца.*

●**павялічáльны**, -*ная-нае*—увеличительный.

●**павялічáць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—увеличивать.

**павялічыць**, *соверш. к павялічаць 1, 2. Я цябе ў ласца сваей Божай павялічу.* Кіт. 8161. *Што табе даў, нікому таго ня даў, прарокі ня ведалі, а стварэньне цябе павялічыў.* Тм. 10961.

**2.** увеличивать, усиливать.

●**павялічáцца**-*чыцца, несоверш.*—увеличиваться. *Соверш.* **павялічыцца**—увеличиться.

●**павялічэньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к павялічыць*,—увеличение.

●**павялічэньнік**-*іка, м., электротехн., неол.*—усилитель.

●**павялічыць**,—*см. под павялічаць.*

●**павялічыцца**,—*см. под павялічацца.*

●**павярнéньне**-*ня, предл.-ню, ср.* **1.** поворот (действие, **С.**) Нсл. 425. *Павярненьне галавы.* Нсл. *Павярненьне сонца.* Тм.

**2.** возвращение. Нсл. 425. *Павярненьне да дому.* Нсл. *Павярненьне грошы.* Тм.

●**павяршáць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.*—оканчивать, довершать. Нсл. 425. *Павяршай дзела, як знаеш.* Нсл. *Соверш.* **павяршыць**—окончить, довершить. Нсл. 425. *Я свае дзела борзда павяршыў.* Нсл. *Вытнем па руках і павяршым нашу змову.* Тм.

●**павяршыць**,—*см. под павяршàць.*

●**павятрáнка**-*нкі-нцы, ж.*—быстрая, проворная девушка. Міх.

●**павіхорыць**-*ру-рыш-ра, соверш., перех.*—взлохматить, завить. Ксл. *Яна павіхорыла валасы.* Янавічы Сур. (Ксл.).

●**павідлівасьць**-*ці, ж.*—завистливость.

●**павідлівы**-*вая-вае*—завистливый. Шсл. *Ай, які ж ён павідлівы: што абачыць, усё каб яму!* Ст. *Павідлівая яна жонка.* Ст.

●**павіднéць**,—*см. под віднèць.*

●**павідзелася**, *безлич.*—показалось. Нсл. 426. *Табе гэта павідзелася, сусім няпраўда.* Нсл.

●**павіліца**-*цы-цы, ж.*—шерошница цепкая, подмаренник, *раст.* повилика. Гсл.

●**павінен**, -*нна-нна*—должен, должна, должно. Гсл.

●**павіннасьць**-*ці, мн.ч., род.-цяў, ж.*—долг, МГсл. обязанность. Кіт. 6610.

●**павінýць**,—*см. под вінуць.*

●**павінуцца**,—*см. под вінуцца.*

●**павіньнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—признающий себя виновным, винов ник(тот, кто виновен в чем-л., **С.**) Нсл. 426. *Я павіньнік твой, паночку, карай і мілуй.* Нсл.

●**пáвіны**-*ная-нае*—павлиный. Нсл. 289. *Павінае пяро.* Нсл. *Павіны голас.* Тм.

●**павітáцца**,—*см. под вітàцца.*

●**павітýха**-*ỳхі-ỳсе, ж.* **1.** повивальная бабка. Ст.

**2.** акушёрка.

●**павівáнка**-*нкі-нцы, ж.*—свитый кнут, обвитый еще отдельно свитой бечёвкой.

**пуга-павіванка** — *павіванка. Справіў сабе пугу-павіванку.* С. Музыку, 16. *См. дратаваная пуга(под пуга).*

●**павіца**-*цы, дат., предл.-цы, ж.*—пава, самка павлина. *За павіцу — тры капы грошай.* Стт. 470.

●**павýк**-*укà, предл.-кỳ, зват.-ỳча; мн. ч.-кікоў-ком-кі-камі-кох, м.* **1.** паук. Гсл.; Ар.; Нсл. 389; Шсл. *Вундзяка павук злавіў муху ды смокча яе.* Ст. *Увелич.* **павучышча**-*чы, дат.-чу, вин.-чу, предл.-чу, м.* Нсл. 289. *Павучышчу забіў.* Нсл.

**2.** павлин. Нсл. 289; Шсл.; Гсл. *Павук крычыць.* Нсл. *У дукоры ў радгасьце вядуцца павукі.* Ст.

●**павуковы**-*вая-вае*, **1.** пауку принадлежащий. Нсл. 289. *Павуковыя ногі.* Нсл.

**2.** павлину принадлежащий. Нсл. 289. *Павуковае пяро.* Нсл.

●**павучына**-*ны-не, ж.*—паутина. Гсл.; Ксл.; Нсл. 289. *Надабе абмесьці павучыну.* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Единств. ч.* **павучыніна**-*ныне.* Гсл. *Собир.* **павучыньне**-*ня, предл.-ню*—паутина. Ар.; Еўлічы; Шсл. *У хаце шмат павучыньня вісіць.* Ст.

●**павучыны**-*ная-нае*—паучий. Нсл. 289. *Павучынае гняздо.* Нсл.

●**павыдрэць**,—*см. под выдрэць.*

●**павызваляць**,—*см. под вызвалàць.*

●**павысхлы**-*лая-лае, о многих*—высохший. Нсл. 432.

●**павышэць**,—*см. под вышэць.*

●**паў**, *пàва, предл.-ве, зват.-ве, м.,* —павлин. *За пава — тры капы грошай.* Стт. 470. *См. павук 2.*

**•паў...**, — первая часть составных слов, которые значением отвечают слову *"палавіца"*.
**1.** употребляют в словах, во второй части которых есть имя сущ. в род. падеже ед. числа, напр.: *паўгадзіны, паўрубля, паўсяла, паўкапы.*
**2.** употребляют в словах, во второй части которых есть имя числ. в род. падеже ед. числа: *паўтарà, паўгадà, паўшастà, паўасьмà*—полвторого, полшестого, полдесятого.

**паўтара людзкога**—о человеке отрицательного значения, мало имеющем или вовсе неимеющем положительных человеческих качеств. Ар.

**•паўабток**-*ку, предл.-ку, м.*—полуостров. *Галіны садоў хавалі жаролы артылеры, што неўзабаве мела зьмяніць мапу Апэнінскага паўабтоку.* Акула 395. *Людзкое мора плыве на сонечныя берагі Апэнінскага паўабтоку.* Акула 307. *См. паўатока.*

**•паўгодкі**-*дкаў, единств. ч. нет.*—полугодие. Гсл.; Нсл. *Наняўся на паўгодкі.* Нсл.

**•паўгоні**-*няў, мн. ч.*—половина *"гоняў"*. Ар.; Шсл. *Паўгоні ўзараў.* Ар.

**•паўгонкі**-*нак, единств. ч. нет.*—половина *"гоняў"*. Нсл. 425. *І паўгонак не ўзараў.* Нсл. *Уменьш.* **паўганькі**-*оў-ом, мн. ч., предл.-ох.* Шсл. *Паўганьке пакінуў канюшыны на сяўбу.* Ст.

**•паўгоньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—тоже, что *"паўгонкі"*, но большее пространство. Нсл. 425. *Паўгоньне засеяў лёнам.* Нсл.

**•паўгадзіна**-*ны-не, ж.*—полчаса. Нсл. 425. *За паўгадзіну(-ны? С.) прыдзем.* Нсл. *Паўгадзіна ёсьць, як паехаў.* Нсл. *Вялікая твая паўгадзіна!* Тм. *Паўгадзінаю пазьней прышоў за мяне.* Нсл. *Уменьш.* **паўгадзінка**-*нкі-нцы*—полчасик. Нсл. 425. *Пажджж паўгадзінку, паўгадзіначку.* Нсл.

**•паўхеніч**-*ча, предл.-чу, м.*—удар по уху, пощечина. Нсл. 486. *Паўхеніча заробіш, не чапайся.* Нсл. *Накарміў паўхенічамі.* Нсл. *Як даў я яму паўхеніча, дык ён і закруціўся.* Нсл. 431.

**•паўдня**-*ня, на паўдні,* **1.** средина дня, приблизительно между 11-14 часами. Ар., полдень. Нсл. 125; МГсл. *Паўдня на двары, а ён яшчэ не ўставаў.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Паствіш у паўдня.* П. П: 7(Из 12 книг Б.). *А паўдні выйшаў на работу.* Нсл. *Ужо паўдня, а вы яшчэ пасіце.* Ар.
**2.** юг. Ар. *Гусі лятуць на паўдня.* Ар.

**•паўднявы**-*вая-вае*—южный. Ар.

**•паўдзеньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—средина дня. приблизительно между 11-14 часами. Ксл. Паўдзеньне на дварэ. Нсл. 425. *Прыгналі статак на паўдзеньне.* Аскрысенец Беш. (Ксл.). *См. паўдня, палудніца.*

**•паўдзеньнік**-*іка, предл.-іку, м.*—меридиан

**•паўдзён** — *паўдня в обоих значениях. На паўдзён прыгналі статак у двор.* Астроўна Віц. (Ксл.).

**•паўдзёнкі**-*нкаў, мн. ч.*—время от зари до полудня. Нсл. 425. *На паўдзёнкі гоняць статак.* Нсл. *Па паўдзёнках косім яму сена, а то сабе.* Нсл.

**•паўз** *или област.* **поўз,** *местоим. с род. или вин. падежом*—вдоль; подле и вдоль, Гсл. возле, Растсл.; ПНЗ. по. Употребляется при обозначении предмета, места, пространства, вдоль которого совершается или проявляется действие. *Ідучы поўз лесу, глядзі грыбоў.* Гсл. *Ідзі так паўз плот.* Ст. *Радоўка аж за вугол закруцілася, хвастом віляла паўз сьцяну і ўпаўзала ў магазын.* Капыловіч: Хлеб.

**•паўзгаліцца,**—*см. под гàліцца.*

**•паўзень,** *паўзьнà, предл.-ню, зват.* *поўзьню; мн. ч.-зьні-зьнёў-зьнём-зьні-зьнямі-зьнёх, м.*—танк.

**•паўзяць,** *соверш., перех.*—возыметь(вознамериться, С.). Нсл. 426. *Паўзяць сьмеласьць.* Нсл. *Паўзяць ахвоту да службы.* Тм.

**•паўзяцьце,** *предл.-ню, ср.*—смелость, дерзость. Нсл. 426. *Адкуль у цябе ўзялося паўзяцьце такое?* Нсл.

**•паўзяцца,** *соверш.* **1.** возыметь быструю сноровку в роботе. Нсл. *Наш малец паўзяўся малаціць, касіць, шыць боты.* Нсл.
**2.** зазнаться, возыметь смелость до дерзости. Нсл. 426. *Адкуль ты такі паўзяўся?* Нсл.

**•паўзуха**-*ўхі-усе, ж.* **1.** плуг(употребляемый более в Минской губ.), отличающийся от сохи, называемой *"дрында"*. Нсл. 426.
**2.** ползающая девушка. Ар.

**•паўзун**-*унà, предл.-уну, зват.-уне; мн. ч.-ны-ноў-ном-ноў-намінох, м.* — ползающий мальчик. Нсл. 426. *Глядзі ня ступі на паўзуна, паўзунка свайго.* Нсл. *Уменьш.* **паўзунок**-*нкà, предл.-нку, зват. паўзунку, мн. ч., дат.-нком, мн. ч., предл.-нкох.*

**•паўзьдзяржаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—удержание, удержка. Нсл. 426. *Паўзьдзяржаньня каню няма, так і махае.* Нсл. *Хлапец без паўзьдзяржаньня дурүе.* Тм.
**2.** воздержание. Нсл. 426. *Надабе мець у ўсім паўзьдзяржаньне.* Нсл.

**•паўзьці**-*паўзу-зеш-зець-зем-зіце, несоверш.*—ползти. Ар.; Шсл. *Мурашка ўчапілася за вялікую саломіну, аж ня можа паўзьці.* Ст. *Дзяцё паўзе пад ногі.* Ст. *Соверш.* **папаўзьці** (Ар.), **папоўзьць** (Нсл.) —поползти. Ар.; Нсл. 426. *Сабака папоўз пад вуткі.* Нсл.

**поўзаць**-*аю-аеш-ае, многократ. к паўзьці* —ползать. Нсл. 426; Ар. *Ракі поўзаюць.*

**поўзаць па нагах**—кланяться до ног. *Гадзіну цэлую поўзаў па нагах, пакуль адмаліўся.* Нсл. 426. *Соверш.* **папоўзаць** —поползать. Ар.

**дапаўза́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, несоверш.* **1.** доползать. Нсл. 140; Ар.
**2.** с трудом дотаскиваться. Нсл. 140. *Па гэтым балоце не дапаўзеш да двара.* Нсл. *Як-колечы дапаўзайце.* Тм.

**дапаўзьці,** *соверш. к дапаўзаць 1, 2*—доползти. Шсл.; Нсл. 140. *Хай жа ўжо сюды дапаўзе дзяцё.* Ст.

**запаўза́ць,** *несоверш.*—заползать. Нсл. 180. *Куды ты запаўзаеш, запоўз на самы кут.* Нсл. Нсл. *Соверш.* **запаўзьці,** (Шсл), **запоўзьць,** (Нсл.)—заползти. Нсл.; Шсл. *Аж куды запаўзло дзяцё.*

**напаўза́ць,** *несоверш. к напаўзьці. Соверш.* **напаўзьці**—наползти. Шсл.; Ар. *І трэба гэтым мурашкам напаўзьці сюды!* Ст.

**перапаўза́ць,** *несоверш. к перапаўзьці* —переползать. Ар.

**перапаўзьці,** *соверш.*—переползти. Ар.

**прапаўза́ць,** *несоверш. к прапаўзьці*—проползать. *Соверш.* **прапаўзьці**—проползти. Ар.

**прыпаўза́ць,** *несоверш.* **1.** припалзывать. Нсл. 508.
**2.** *перен.*—придвигаться(притаскиваться, С.). Нсл. 508. *Прыпаўзаў к двору.* Нсл.

**прыпаўзьці,** (Ар.), **прыпоўзьць,** (Нсл.), *соверш. к прыпаўза̀ць 1, 2.* Нсл. 508. *Прыпоўз к двору.* Нсл.

**выпаўза́ць,** *несоверш.*—выползать. Шсл. *Гадзіна выпаўзае грэцца на сонца.* Ст. *Соверш.* **выпаўзьці**—выползти. Шсл.; Ар. *Вожык ня можа выпаўзьці зь ямы.* Ст.

**упаўза́ць,** *несоверш.*—вползывать. Нсл. 68. *Ну баржджэй упаўзай.* Нсл. *Соверш.* **упаўзьці**—вползти. Нсл. 68; Ар. *Не ўпаўзу.* Нсл.

**успаўза́ць,** *несоверш.*—всползать. *Мурашка хоча ўспаўзьці на грудку.* Ст. *Малы ўспоўз на стол.* Тм.

•**паўзьціся,** *паўзецца, зав. к паўзьці. Добра яму тут паўзецца. Многократ.* **поўзацца,** *страд. к поўзаць.*

**распоўзацца**-*аюся-аешся, соверш.*—расползаться, начать много и долго ползать. *Чаго вы тут распоўзаліся, як ракі; тут і бяз вас цесна.* Нсл. 557.

**распаўза́цца**-*а̀ецца, несоверш.* **1.** расползаться. Нсл. 557. *Бі блышчыкі, бо распаўзуцца, распоўзуцца.* Нсл.
**2.** разрываться от ветхости или дурной работы. *Соверш.* **распаўзьціся**-*зѐцца,* **1.** расползтися. Нсл. 557. *Ракі распаўзьліся.* Нсл.
**2.** разорваться от ветхости или дурной работы. Нсл. 557. *Сарочка на целе распаўзлася.* Нсл.

•**паўжы́дак**-*дка, ж.*—полуеврей. Ар.

•**паўка́ры**-*раў, единств. ч. нет.*—вид телеги. Ксл. *Зрабі мне паўкары вазіць гной і на млын.* Шчыпцы Беш. (Ксл.).

•**паўкручок**-*чка̀, предл.-чку̀; мн. ч.-чкі-чкоў-чком-чкі-чкамі-чкох, м.*—половина крючка — 1/200 ведра водки — около 0.06 литра. Шсл. *Паўкручка выпіў, дык і цяплей стала.* Ст.

•**паўлоньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—полоханки. Шсл. *Паўлоньне травы назьбірала парасятам.* Ст. *Паўлоньне бацьвіньня наламала.* Нсл. 427. *Кажны дзень па паўлоньню прыносе сабе цыбулі.* Тм.

•**паўморга**—половину морга — 0.35 гкт. — 1/3 десятины. Шсл. *У людзёў дастаў на часьць паўморга сенажаці.* Ст. *Пасеяў паўморга выкі.* Ст.

•**паўмі̇сак**-*ска, предл.-ску, м.*—глубокая тарелка. Ксл. *Зьелі паўмісак сарапені.* Варашылы Куз.( Ксл.).

•**паўналі̇к**-*і̇ку, предл.-і̇ку, зват. -і̇ча, м.* —комплект. БНсл.

•**паўнамачні̇к**-*іка̀, предл.-іку̀, зват.-іча; мн. ч.-кі̇-коў-ком-камі-кох, м.*—уполномоченный, доверенный(в знач. сущ.). *Ср. памачні̇к.*

•**паўнамачні̇ца**-*цы-цы, ж.*—уполномоченная. *Ср. памачні̇ца.*

•**паўніня́**-*ні-ні, ж.*—полнота. *Перажываюць у цэлай паўніні трагеду.* "Бацьк.", Но. 38-39/573-574. *Усе мастацкія асаблівасьці... выступаюць у гэтай казцы ў цэлай паўніні.* Калосьсе, Но. 3-16, 1938 г., стр. 152. *У паўніні душы такая моц.* Жылка, 97.

•**паўне́ць**-*ѐю-ѐеш-ѐе; повел.-ѐй-ѐйма, несоверш.*—полнеть. Нсл. 427. *Месяц паўнее.* Нсл. *Соверш.* **папаўне́ць.** Нсл. 427. *Месяц паўнее, папаўнеў.* Нсл.

**спаўне́ньне**-*ня, ср.*—исполнение. МГсл.

•**паўні̇ць**-*ню̀, поўніш-не, несоверш., каго-што,* **1.** насыпать или наливать что полно, Нсл. 427. наполнять. *Паўні лубку.* Нсл. *Соверш.* **напоўніць**-*ню-ніш-не*—наполнить. *Напаўняюць жываты свае агнём.* Кіт. 10б14.
**2.** исполнять. Нсл. 427. *Кажан павінен паўніць сваё дзела.* Нсл. *Соверш.* **супоўніць,** *перех.*—исполнить. *Зычэньне твае я супоўніў.* Нсл. 222. (*под зычэньне*). *Соверш.* **выпаўні̇ць**-*ню-ніш-не*—исполнить, Шсл. осуществить, совершить полностью(что-л. задуманное или порученное). *Выпаўніў усё, што загадалі.* Ст.

**спаўня́ць**-*я̀ю-я̀еш-я̀е*—исполнять. Гсл.; Ксл. *Слухаюць, але не спаўняюць.* Мянюцева Сян. (Ксл.).

**спаўняючы,** —исполняющий(исполнительный). Гсл.

**спаўняцца**—исполняться. *Прич.* **выпаўнены**—исполненный. Нсл. 90. *А гдзе бы апісу свайму досыцьчыніці не хацеў, і ў чом із ь яго выступіў або ня выпаўніў, тагды ў усе подле запісу свайго ўпадаець.* Стт. 326.

**дапоўніць,** *соверш.*—дополнить. *Несоверш.* **дапаўняць**-*яю-яеш-яе*—дополнять.

•**паўпохці,**—*см. под похці.*

•**паўпівацца,**—*см. под піцца.*

•**паўпляйм-іць**—*см. под пляйміць.*

•**паўпляшка**-*кі, дат., предл.-цы, ж.*—пол бутылки. Воўсішча Сян. (Ксл.).

•**паўпрыца**-*цы-цы, ж.* **1.** какая то часть жернова, кажется, железо внизу дырки жернова, валик жернова. Міх.
**2.** вал на котором что-л. вертиться.
**3.** ось. Бягомля.

•**паўпурык**-*ыка, предл.-ку, м.*—мера весом 1 пуд 10 фунт. Ксл. *Паўпурык жыта адпусьці й купіш сабе сарочку.* Вяжышча Беш. (Ксл.).

•**паўрубель**-*бля, м.*—50 копеек, полтинник. Ар.; Шсл. *На паўрубля купіў солі.* Ст.

•**паўрублёвік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—полтинник. Нсл. 430. *Паўрублёвіка даў за яго.* Нсл.

•**паўсамагук**-*ку, м., грамм.*—полугласная буква, дифтонг.

•**паўсаракі**-*коў, мн. ч.*—20-тый день после смерти кого-л.; поминки в этот день по нем. *У тую нядзелю будзем спраўляць па бацьку паўсараке.* Ст.

•**паўспоркаць,**—*см. под поркаць.*

•**паўспоркацца,**—*см. под поркацца.*

•**паўспадацца,**—*см. под падацца.*

•**паўспароць,**—*см. под пароць.*

•**паўспароцца,**—*см. под пароцца.*

•**паўстанец,** *предл.-нцу, зват.-нча, м.*—повстанец.

•**паўстанка,** (Нсл. 430)-*нкі-нцы, ж.*—женщина повстанец.

•**паўстанскі**-*кая-кае*—повстанческий. Ар.

•**паўстаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—восстание. Гсл.; Ар. *Я яшчэ быў малы, як было паўстаньне.* Ст.

•**паўставаць,**—*см. под стаяць, стаць.*

•**паўстаць,**—*см. под стаяць, стаць.*

•**паўструг**-*уга, предл.-узе, зват.-ужа, м.*—небольшой *"струг". У Вяліжу будаваліся вялікія судны-барліны, стругі, паўстругі.* Віцьбіч("Бацьк., Но. 49-50/435-436).

•**паўсьцяк**-*яка, предл.-яку, зват.-яча; мн. ч.-кі-коў-ком-кі-камі-кох, м.*—негодный клочек кудели. Адзельск Ск.
**2.** пустяк. Адзельск Ск.

•**паўторы**-раў, *единств. ч.*—шоры. Шсл. *Надабе спраўляць каню новыя паўторы.* Голацак Сьміл. (Шсл.).

•**паўштаба**-*бы-бе, ж.*—железная полоса несколько тоньше *"штабы", употребляется при оковке экипажей.* НК: Очерки, Но. 645.

•**паўшуронак**-*нка, м.*—половина шурки 1/6 сажни дров. Шсл. *Нарэзалі паўшуронак дроў.* Ст.

•**паўтора**-*ры, дат., предл.-ры, ж.*—повторение. Смоленск.

•**паўторны**-*ная-нае,* **1.** вторичный. Нсл. 431.
**2.** второй. Нсл. 431. *Першая просьба была аб тым, а паўторную слухай.* Нсл.

•**паўтара**—полтора. Нсл. 431. *Мая кішка не паўтара мяшка. Послов.* Нсл.

•**паўтараваць,** *-рую-руеш-руе, несоверш.*—вторить, акомпанировать.

•**паўтарачка**-*чкі-чцы, ж.*—доска толщиной 1 1/2 дюйма. Шсл. *Паўтарачак нарэзалі на Масьніцы.* Ст. *См. паўтарнік.*

•**паўтарнік**-*ка, предл.-ку, зват. паўтарніча; мн. ч. паўтарнікі-коў-ком-кі-камі-кох, м.*—доска толщиною 1 1/2 дюйма. Ксл. *Паўтарнікі добрыя вышлі!* Лукашоўка Беш. (Ксл.).

•**паўтраця**—два с половиной. Шсл.; Ар. *Зарабіў паўтраця рубля.* Ст.

•**паўтраці**—две с половиной. Ар. *Выпіў паўтраці бутэлькі малака.* Ар.

•**пац I,** *паца, на пацу, м.*—крыса. *См. бац. Уменьш.* **пацук**-*ка, предл.-ку; мн. ч.-кі-коў-ком-камі-кох*—крыса. Ксл.; Шсл.; Нсл. 395. *У каморцы завяліся пацукі.* Ст. *Пад памостам завяліся пацукі.* Вульлянавічы Сян. (Ксл.). *См. бацукі под бац.*

•**Пац**-*ца, предл. Пацу, м.*—известный великолитовский(белорусский) аристократ времен объединенного великолитовского(белорусского) государства (Великого Княжества Литовского).

•**пац II,** *паца, предл. пацу, м.*—пощечина (удар по щеке ладонью, С.) *Ня лезь, бо паца па мордзе заробіш.* Нсл. *Даў паца, выцяў поўху.* Гсл.

•**пац III,**—междометие, означающее быстрый удар в щеку или по руке. Нсл. 395. *Пац яго па шчаццэ, па руццэ.* Нсл. *См. бац II.*

•**пацалаваць,**—*см. под цалаваць.*

•**пацалуйка**-*кі, общ.*—любящий целовать или целоваться, особенно дитя, надоедающее поцелуями. Нсл. 488. *Пасадзі ты гэтага пацалуйку, бо ён не дае табе шыць.* Нсл.

•**пацалуйкі**-*уек, единств. ч. нет.*—день, в который в Могилевской и Витебской губ. собираются к повивальным бабкам все принятые ими девицы, каждая с подарком для своей повивальной бабки. День поцелуек сопровождается пиршеством и бывает более весною в неделю Пасхи. Нсл. 488.

•**пацяпешка**-*кі, дат., предл. пацяпешцы, ж.*—корзинка. Ксл. *Набраў пацяпешку грыбоў.* Валкі Сур. (Ксл.).

•**пацаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—бить по щеке. Нсл. 395. *Так і пацае яго па мордзе.* Нсл. *Соверш.* **пацнуць**-*ну-неш-не.* Нсл. 395. *Пацну, аж крывёй умыешся.* Нсл.

●**пацеха**-*ехі-есе, ж.*—(утеха, С.), утешение, Шсл.; Гсл. удовольствие. Нсл. 488. *Да добрых і радасных пацех прышоў.* Кіт. 80а1. *Вось паслухмяныя дзеткі — адна пацеха зь іх!* Ст. *Пан Бог такім людзём значыў пацехі і раскошы райскія.* Кіт. 226в. *Іман(араб., вера) наша Пацеха й карона.* Тм. 40а12. *Мусульманін зайдзе з гэтага сьвету на той вячысты сьвет да раскош і пацех райськіх.* Тм. 55б10. *Мая ўся ў гэтым пацеха.* Нсл. *Ён у конях пацеху мае.* Нсл. *Пацеха, як зь меха.* *Послов.* Нсл. *Мечка зычыў гаспадыні здароўя й пацехі зь дзетак.* Сіндрэвіч(Беларус, Но. 169). *Уменьш.* **пацешка**-*шкі-шцы.* Нсл. 488. *Цацку купіў на пацешку дзяцём.* Нсл.

●**пацепаваць,** *-пую-пуеш-пуе, несоверш.* —пожимать(плечами), время от времени. *Ср.* *сьцепаць.* *Ты вось нават і не апранаешся каля дому, — пацепуючы ад думкі пра холад, сказала Андрэіха.* Кулакоўскі: Дабрасельцы.

**сьцепаць**-*аю*—пожимать(плечами). Сло. *Ён сьцепае плячыма.* Тм. *Чаго ты сьцепаеш плячыма?* Тм. *Ср.* *пацепаваць.* *Ён выцягнуў з ботаў рукавіцы й сьцепануўся, зьнячэўку пачуўшы стук.* Вышынскі: Хата пад ліпой.(Беларус, Но. 155). *Однократ.* **сьцепануцца**-*нуся.* *Рубрыя? — спытаў, сьцепануўшыся на ўспамін, што Рубрыя была вясталкай.* Тат.: Кво вадыс, 222.

●**пацемнік**-*ка, предл.-ку, зват.* *пацемніча, м.*—мелкий лес, оставшийся на месте вырубленного леса, густо разросшийся. Ксл. *Ён заблудзіўся ў пацемніку.* Велашковічы Лёз. (Ксл.). *Пацемнікам троху пакурала, дык із ь яго ні духу, ні хуху.* Вядрэнь Чаш. (Ксл.).

●**пацепнік**-*іка, предл.-ку, зват.* *пацепніча, м.*—мелкий лес, оставшийся на месте вырубленного леса, густо разросшийся. Ксл. *Знайшоў сваю карову ў пацепніку.* Глебаўск Сян. (Ксл.). *См.* *пацемнік.*

●**пацеркі**-*рак,-ркаў( адна* *пацерка*), *област.* —бусы. Ар.; Шсл.; Ксл. *Купіла дзьве нізкі пацерак.* Навікі Беш. (Ксл.).

●**пацеры**-*раў, единств. ч. нет.*—молитвы(у католиков), состоящие из Молитвы Господней, Богородицы и Верую. Гсл.; Ар. *Падышла пад акно і пачала гаварыць пацеры.* Н.(Афанасьев, III, 1914, 105).

●**пацерці,**—*см. под* *церці.*

●**пацешнасьць**-*ці, ж.*—утешительность.

●**пацешны**-*ная-нае*—составляющий утешение, удовольствие. Нсл. 488, утешительный. *Пацешнае дзяцё.* Нсл.

●**пацешыць,** *пацяш-аць-эньне,* ·,—*см. под* *цешыць.* *Соверш.* **наспацешыцца**—нарадоваться. Нсл. 319. *Не наспацешыцца, гледзячы на дзеці.* Нсл.

●**пацець**-*ею-ее; повел.-ей-ейма, несоверш.* —потеть. Ар. *Соверш.* **папацець**—попотеть. Ар. *Соверш.* **спацець**—спотеть, вспотеть. Ар.

**спацелы**-*лая-лае*—вспотевший. *Пачаў выціраць густа спацелы від.* ЗСД 182. *Соверш.* **упацець**(очень, совершенно, С.) вспотеть, МГсл. спотеть. Нсл. 663. *Коні ўпацелі ад борздае язды.* Нсл.

●**пацяг**-*яга, предл.-ягу, зват.* *яжа, м.*—тот, кто потягивается. *Вось пацяг: пацягуецца ды пацягуецца.* Крамяні Пух.

●**пацяганка**-*нкі-нцы, ж.*—потаскуха, Ксл. потаскунья. *А чаго ты, пацяганка, бязь дзела бадзяешся?* Вульлянавічы Сян. (Ксл.).

●**пацягавіч**-*ча, предл.-чу, м.*—специальная палка, которой пользуются при навивании пряжи на *"навой". "Пацягавіч"* вкладывают то в одну то в другую дырку *"навоя"*, вертя его, и пряжа навивается. Аш.; Міх.; Ксл. *Пацісьні пацягавіч, каб тужэй кросны сталі.* Русінава Сян. (Ксл.).

●**пацягацца,**—*см. под* *цягацца.*

●**пацяглівы**-*вая-вае*—растянутый, медленно произнесенный(звук, слово, речь). Вк. *Пацяглівая гутарка.* Вк.

●**пацягнуць,**—*см. под* *цягаць, цягнуць.*

●**пацягнуцца,**—*см. под* *цягацца, пацягацца.*

●**пацягушкі**-*шак, единств. ч. нет.*—потягивание, позыв потягиваться. Нсл. 488. *Пацягушкі нешта бяруць цябе.* Нсл. *На ката пацягушкі, а на дзяцё растушкі.* Нсл.

●**пацяжка**-*жкі-жцы, ж., област.*—поленце. Шсл. *Падай імне順 ценшую пацяжку падкласьці на комінак.* Крамяні Пух. (Шсл.).

●**пацяроб,**—*см. под* *поцяраб.*

●**пацярэбнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м., област.*—потребитель съестных припасов. С. Нсл. 488. *Пацярэбнікаў у нас шмат, але работнікаў мала.* Нсл. *Ср.* *пацерабіць 2( под* *церабіць*). *Уменьш.* **пацярэбнічак**-*чка, предл. и зват.-чку.* Нсл. 488. *Ды прыехалі пацярэбнічкі, ды цярэбяць, цярэбяць зубочкі.* Из песни, Нсл.

●**пацярэбшчына**-*ны, дат., предл.-не, ж.* —эпидемия. Барс.

●**пацярпеньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—терпение, воздержание. Нсл. 488. *Надабе ў усім мець пацярпеньне.*

●**пацяруха**-*ухі-усе, ж.*—мелкие растительные остатки, Гсл. измельченные остатки корма: сена, клевера и пр., Шсл. труха. *Ад сена асталася адна пацяруха.* Гсл. *Прынясі каровам хоць якое пацярухі.* Ст.

●**пацярушыць,**—*см. под* *цярушыць.*

●**пацярушыцца,**—*см. под* *цярушыцца.*

●**пацяшэньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—утешение. Нсл. 488. *Пацяшэньня ад дзяцей ніякага ня відаць.* Нсл.

●**пацяшыцель**-*ля, дат., предл. и зват.-лю; мн. ч., род.-ляў, м.*—утешитель. Нсл. 488. *Ты адзін у мяне пацяшыцель.* Нсл. *Апасталаве... чакалі Пацяшыцеля Духа Сьвятога.* Малітвы(Б. Шляхам, Но. 125).

●**пацяшыцелка,** *-кі, дат., предл.-цы, ж.* —утешительница. Нсл. 488. *Будзь маею пацяшыцелкаю.* Нсл.

●**пацячы,**—*см. под* *цячы.*

•**паціху,** *нареч.* **1.** потихоньку, тихо, Шсл. тихо, потише, Нсл. 488. негромко. Гсл. *Паціху гукай.* Нсл. *Паціху ты гукай, ня крычы так!* Ст.
**2.** не спеша. Гсл. *Не ляці ж ты, паціху едзь!* Ст.
**3.** осторожно. Нсл. 488. *Паціху хадзі тут, каліб не пакаўзнуцца.* Нсл. *Ласкат.* **паціхеньку**—потихоньку, Нсл. 488. втихомолку. МГсл. *Паціхеньку плача.* Нсл. *Увелич.* **паціхусеньку.** НК. Піт. 84—тихохонько. Нсл. 488. *Паціхусеньку шэпчуць.* Нсл. *Хто ў полю паціхусеньку гукае? Там Тацянка свае мамкі шукае.* Нсл.
•**паціні́к**-*ка, м.* — *панікель.* Міх.
•**паці́рка,** -*ркі, дат., предл.* *пацірцы, ж.* —тряпка, полотенце посудное. Прусаўка Аз. (Ксл.).
•**паціс-ка́ць**-*нуць,—см. под цiснуць.*
•**па́цнуць,**—*см. под пацаць.*
•**пацу́к,**—*см. под пац.*
•**пацьв-е́леваць**-*яліць,—см. под цьвяліць.*
•**пацьвераззе́ць,**—*см. под цьверазець.*
•**пацьвілевацца**—... *Тут пасьмееваўся з малога і пацьвільваўся над ім.* С. Музыка 131.
•**пацьвісьці,**—*см. под цьвісьці.*
•**пацы́ркаць,**—*см. под цыркаць.*
•**пачок,**—*см. под пак.*
•**пачом,** *нареч., вопрос.* **1.**—почём, какой стоимости, по какой цене? Ар. *Пачом селядцы куплялі?* Ар.
**2.** *уст.*—почем знать. *Калі спытае:"Бога чы знаеш?", ты моў "знаю". Калі скажа "Пачом знаеш?"* Кіт. 37614. *См. пачым.*
•**пачопка**-*пкі, дат., предл.*-*пцы, ж.* **1.** веревка, дужка у ведра( корзины, Ар.) ПНЗ; Растсл.; Гсл.(*под "перавясло"*). Дсл. 7.(*под "Алдокея"*) Нсл. 490., веревочная, переволочная ручка ведра, корзины, Глебаўск Сян. (Ксл.) ручка у ведра. Раст.:Смоленск 49. *Пачопкі ў вядзёр благія.* Нсл.
**2.** веревка или пояс, привязанный к люльке для качания ребенка, НК: Очерки 324. каждая из веревок, на которых вешают колыбель. Нсл. 490. *Пачопкі ў калыбцы ня роўныя.* Нсл.
**3.** вешалка(у одежды, С.) Гсл.; Ксл.
**пачопачка**-*чкі-чцы, уменьш. к пачопка 1, 2, 3*, веревочка, прицепленная к чему или привязанная обоими концами, особенно к лукошку, колыбели и т.п. Нсл. 490. *Пачопачка ў лубцы парвалася.* Нсл.
•**пачопнік**-*іка, предл.*-*іку, зват.*-*іча, м., неол.*—полка или стойка с крючками для вешанья платья и головных уборов.
•**пачостка,**—*см. под почасьць.*
•**пачосы**-*саў, единств. ч. нет.*—пакля, очески. Гсл.
•**па́чай,** *нареч.*—лучше. Шсл. *Баба а робе пачай мужчыны.* Ст.
•**пачака́нка**-*нкі-нцы, ж.*—остановка в ожидании чего-л. Нсл. 489. *Пачаканка твая вялікая, даўгая.* Нсл.
•**пачака́ньне**-*ня, предл.*-*ню, ср.*—обождание. Нсл. 489. *Ты ўсе мяне пачаканьням корміш.* Нсл.
•**пачака́ць,**—*см. под чакаць.*
•**пачапе́нь**-*пня, предл.*-*пню; мн. ч. пачапні-ёў-ём-і-ямі-ёх, м.*—коромысло. Ксл. *Зачапі пачапень да бараны.* Крывіна Беш. (Ксл.).
•**па́часаваць**-*сую-суеш-суе* **1.**—чесать лён. Ксл. *Трэба лён пачасаваць.* Бешанкавічы (Ксл.). *Ср. пачасьсе.*
**2.** *перен.*—хлестать. Шсл. *Ня варта імне пачасаваць яе: у суд валей падам.* Ст.
•**па́часкавы**-*вая-вае,* **1.** *прилаг. к "пачаскі". См. пачасны.*
**2.** сделанный из *"пачасак". Пачаскавыя ніткі.* Нсл. 395.
•**па́часкі**-*сак, единств. ч. нет.* — *пачась. Палатно з пачасак.* Нсл. 395.
•**па́часны**-*ная-нае, прилаг. к пачась, пачасьсе.* НК: Очерки, 148, 168. *Пачаснае палатно.* НК: Очерки, 168.
•**пачастава́ць,**—*см. под частаваць.*
•**па́часЬ**-*сі, ж.*—вычески, следующие за *"вярхоўкамі"* и более высокого качества, нежели эти. НК: Очерки 146. *См. пачасьсе.*
•**па́часьсе**-*ся, предл.*-*сю, ср.*—второй сорт льняной пряжи, Гсл. очески льна(волокно льна, вычесанного щеткой, Ксл.) Ксл.; Шсл. *См. пачась. Напрала хунтаў зь дзесяць пачасься.* Ст.
•**пача́так**-*тку, предл. и зват.*-*тку, м.*
**1.**—начало. МГсл.; Ар.; Шсл.; Нсл. 489; Ксл. *Пачатак гэтае дарогі ля гэнага лесу.* Ар. *Я прышоў на пачатак сходу.* Забор'е Сян. (Ксл.). *Яшчэ на самы пачатак пасьпеў.* Ст. *Ты зрабіў пачатак, а мы за табою.* Нсл. 489.
**на пача́тку** (Скар. II. Ц.)—в начале. МГсл. *На пачатку году.* Ар.
**2.** почин, инициятива.
**за пачаткам**—по почину. *Тое забіўства ня ўмысьле, але за пачаткам вонага забітага і ў вабароне ўчыніў.* Стт. 406.
**на пачатак,** Гсл.—на почин. Шсл. 169. *На пачатак скосім за ракою.* Ст. *На пачатак набярэм большага каменьня.* Ст.
**3.** веретено большого размера, на которое переводят пряжу с малого веретена, называемого чайкою. *"Пачаткам"* это веретено называют потому, что находящаяся на ним нить служит как бы основою для холста. Нсл. 489. Три или четыре *"ручайкі"* пряжи, переведенной на большое веретено, составляют *"пачатак".* Нсл. 569(*под ручайка*).
**пачатачак**-*чка, уменьш. к пачатак 1, 2, 3. Да прыстань, Божа, прыстань да нашага пачатачку.* Из свад. песни, Нсл. 489.
•**пачаткава́ць**-*кую-куеш-куе; повел.*-*куй-куйма, несоверш.*—полагать начало. Нсл. 488. *Ну пачаткуй, ты старшы за нас.* Нсл.
•**пача́ткавы**-*вая-вае,* **1.** начальный. Гсл.; Ар.
**пачаткавая школа**—начальная школа.

2. *прилаг. к* *пачатак 3.* Нсл. 489. *Пачаткавыя ніткі.* Нсл.

●**пачáтны**-*ная-нае* (НК)—первоначальный первичный.

●**пачáць,** *пачнỳ, пачнèш-нèць; прошл. вр. пачàў, пачалà, пачало, пачалі,* **1.** *начать.* Ар.; Кcл.; Нсл. 489; Шсл. *Работу мы разам пачалі, разам і скончылі.* Ст. *Пачаў ім расказаваць пра ўсё.* Мікольск(Демид.: Веров. 1896, Но. 1, 96). *Пачаў жыта браці.* Гордз. акты, XУII, 2. *Прич.* **пачáты**—начатый. Шсл.; Ар.; Нсл. 489. *Крой пачатую булкую, а ня цэлую.* Ст. *Работа пачатая ляжыць.* Нсл. *Буката хлеба пачатая.* Нсл.

2. как вспомагательный глагол с инфинитивом. Входит в состав сложного выказуемого; указует начало действия: стать. *Узяў кнігу й пачаў чытаць. Коні пачалі ірзаць.* Воўсішча Сян. (Ксл.). *Прарок пачаў пісаць.* Кіт. 41а2. *Адам абрадаваўся і за тое Пану Богу хвалу даваць пачаў.* Кіт. 78а12. *Кадзе пачаў дрымаць.* Нсл. 489.

**начало,** *безлич.* *Начало зарэць.* Ст. (*под зарэць*). *Несоверш.* **пачынáць**-*аю-аеш-ае; повел.-àй-àйма*—начинать. Ар.; Нсл. 489; МГсл.; Шсл. *Не пачынаў яшчэ работы.* Нсл. *Разам пачынайма.* Ст.

●**пачáцца,** *пачнèцца, прош. вр. пачàўся, пачалàся-лося, соверш.*—начаться. Ар.; Нсл. 489. *Месяц маладзік пачаўся.* Нсл. *Несоверш.* **пачынáцца**—начинаться. Нсл.; Ар. *Няма ведама, адкуль тут пачынаецца клубок; канцоў няма.* Нсл.

●**пачэсны**-*ная-нае,* **1.**—почетный. Гсл.; Нсл. 489. *На пачэсным месцу селі права й закон.* Купала.

2. почтенный(достойный уважения, почтения, С.) Нсл. 489. *Пачэсных людзей прасіў за сьветкі.* Нсл. *Я чуў гэта ад людзёў пачэсных і праўдзівых.* Нсл.

●**пачэсьлівы**-*вая-вае,* **1.** почтенный. *Дабарародныі і пачэсьлівыі нашы мілые суседзі.* Ліст полацкі (";!. Станг: Полацк, 73). *Парсуну пачэсьлівую, згодную... маем даваці.* Прывілей Вял. Князя Казімера.

2. гостеприимный(хлебосольный, С.) Ксл. *Яны пачэсьлівыя гаспадары.* Луб'ева Аз. (Ксл.).

●**пачканос**-*оса, предл. и зват.-осе, м.*—лилия пёстрая, царские кудри [Lilium Martagon L.] Самі Пух. (Шсл.).

●**пачубі́ць,**—*см. под чубіць.*

●**пачýхаць,**—*см. под чỳхаць.*

●**пачунéць,**—*см. под чунèць.*

●**пачурáцца,**—*см. под чурàцца.*

●**пачувáньне**-*ня, предл.-ню, ср.— отгл. имя сущ. к пачувàць-аццa*—чувствование. Нсл. 490. *Пачуваньне сумленьня мае троху.* Нсл.

●**пачувáць**-*àю-àеш-àе; повел.-àй-àйма, несоверш., перех. или с доп.* **1.**—чувствовать, признавать. Нсл. 490. *Сам пачуваю, што я вінен.* Нсл.

2. предчувствовать. Нсл. 490. *Не пачуваў я на сябе гэтае бяды.* Нсл.

**пачýць**-*ỳю-ỳеш-ỳе, соверш.* **1.**—почувствовать(признать, Нсл., почуять, Шсл.; Нсл. 490; Шсл. *Ён пачувае, пачуў сваю віну.* Нсл. *Пачуў на сябе бяду — ды ўцекі!* Ст.

2.—*см. под чуць.*

●**пачувáцца**-*àюся-àешся, несоверш.*—чувствоваться(в каком-л. положении, Нсл.) Шсл.; Нсл. 490. *Як жа пачуваешся ты: у баку не баліць?* Ст. *Больш не магу піць; я ўжо й так пачуваюся, пачуўся.* Нсл. *Соверш.* **пачýцца**—почувствовать себя(в каком-л. положении, Нсл.) Шсл.; Нсл. 490. *Пачулася маладзіца, што стала ўцяжку.* Ст. *Жонка мая пачулася, зн. стала цяжарнай.* Нсл.

●**пачýць,**—*см. под пачуваць, чуць.*

●**пачуцьцё**-*ця, предл.-цю; мн. ч.-ці-цяў, ср.*—чувство. Гсл. *Пачуцьцё мае кране слова.* Крушына: Лебедзь, 28.

**пачуцьцё собскае годнасьці**—чувство собственного достоинства.

●**пачыкры́жыць,**—*см. под чыкры̀жыць.*

●**пачым,** *нареч.*—почему, Нсл. 489. почём. *Пачым імне знаць гэта?* Нсл. *Пачым пазнаць Ляха? — што на чэраве бляха.* Нсл.

●**пачы́нак**-*нка, предл. и зват.-нку, област., м.*—веретено пряжи несколько "ручаек", смотанных на одно веретено, Гсл. большое веретено ниток, снятых с двух "адкідзічаў". Шсл. *См. пачатак. Пакладзі за комін пачынкі, хай там прасохнуць.* Ст. *Яна напрала пяць пачынкаў нітак.* Асінаўка Сян. (Ксл.).

●**пачынáльнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** начинающий что-л. Гсл.

2. зачинатель.

3. зачинщик. Гсл.; Нсл. 489; МГсл. *Пачніце з пачынальніка!* Нсл. *Пачынальніку або першая чарка, або першая палка., Послов.* Нсл.

4. инициатор. *Куды гэта цябе, Андрэйка? — пачуўся бас Сёмкі, каторага мелі на хваброцы за пачынальніка.* Васілёк (Калосьсе, Но. 3-16, 1938 г„ стр. 133).

5. запевало. Нсл. 489. *Пачынальніку чарку гарэлкі.* Из волоч. песни, Нсл. *Уменьш.* **пачынальнічак**-*чка, предл. и зват.-чку.* Нсл. 489. *Пачынальнічкам ды капу яец.* Из волоч. песни, Нсл.

●**пачынáльніца**-*цы-цы, ж. к пачынальнік 1-5.* *Ты кажнаму ліху пачынальніца. — Ад цябе ўсі зводні.* Нсл. 489.

●**пачынáльны**-*ная-нае*—тот, которым что-л. начинается. *Пачынальны калочак* (*у снуйні*). НК: Очерки, 157.

●**пачынáцца,**—*см. под пачацца.*

●**пачынáць,**—*см. под пачаць.*

●**пэза**-*зы-зе, ж.*—пирожек, начиненный салом. Нсл. 543.

●**пэйсы**-*саў* (*один* **пэйс**)—волосы на висках у евреев. Нсл. 543; Шсл. *Пэйсы табе за гэта вырву.* Нсл. *Пэйсы табе паабрываю за твае хітрыкі!* Ст.

•**пэкаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** неумело, неразборчиво читать. Шсл. *Не вялікі ён чытар: пэкае, пэкае — ледзь разьбярэць.* Ст.
**2.** курить трубку. Шсл. *Сядзіць сабе на ґанку, пэкае піпку.* Ст.
•**пэнся**-*сі-сі, ж.*—жалование. Шсл. *Жывець на пэнсі, дык лацьвей яму.* Ст.
•**пэрлы** ( *одна* **пэрла**)-*лаў*—перлы, жемчуг. Гсл.
•**пэўнасьць**-*ці, ж.* **1.** верность, несомненнота. Ар.
**пэўнасьць вока**—верность глаза.
**2.** уверенность.
•**пэўне, пэўне ж,** *нареч.*—верно. Шсл. *Ну пэўне гэта яго работа!* Ст. *Пэўне ж яно гэтак і было.* Ст. *Пэўне пасланец Божы праўдзівы Мухемэд прарок.* Кіт. 6613.
•**пэўніць, пэўніць,** Нсл.-*ню-ніш-не, несоверш. каго ў чым* **1.** уверять крго-л. в чём-л. Нсл. 395; МГсл. *Пэўніш мяне ў тым, чаго сам добра ня ведаеш.* Нсл. *Соверш.* **запэўніць,** *каго ў чым*—уверить. Ар.; Шсл. *Міне запэўнілі, што ўсе добра будзе.* Ст.
**упэўніць,** *соверш. каго ў чым*—уверить. Нсл. 396; Гсл.
**2.** исполнять. Нсл. 395. *Так ты пэўніш, спэўніў свае слова!* Нсл. *Соверш.* **спэўніць.** Нсл. 395.
•**пэўніцца**-*нюся-нішся, несоверш.*—уверять себя. *Перабіраў у памяці розныя часіны жыцьця свайго, асабліва дзяцінных год, і пэўніўся цяпер, што ніколі ня меў ён такога сыньняга чуцьця да старога пана Абдзіраловіча.* Дзьве Душы, 106. *Соверш.* **запэўніцца**—положиться на чье-л. удостоверение. Нсл. 178. *Я запэўніўся на тваe словы, дый час згубіў.* Нсл. *Соверш.* **дапэўніцца**—удостовериться. Шсл. *Трэ' добра дапэўніцца, як яно там было.* Клятное Пух. (Шсл.).
•**пэўны**-*ная-нае,* **1.** верный (, надежный). Растсл.; Ар.
**2.** уверенный. Ар.
•**пэц,** *отглаг. частица* — *пац.* Нсл. 453, *Пэц яго па морзах, аж крывёй заліўся.* Нсл.
•**пэцкаль**-*ля, предл.-лю, зват.-лю; мн. ч.-лі-ляў, м.* **1.** пачкун. Ар.; Нсл. 543; Ксл.; Гсл. *Ах ты пэцкаль!* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Напэцкаў тут, не казаў бы пэцкаль.* Нсл. *Даў пэцкалю, дык і спэцкаў.* Нсл.
**2.** портач, Шсл. неумелый или небрежный работник, бракодел, халтурщик. Ар. *Пэцкаль ты із сваею работаю!* Ст.
•**пэцканьне**-*ня, предл.-ню, ср.* **1.** пачкание, Нсл. марание. Ар.
**2.** неуклюжая работа. Нсл. 543. *Работа твая падобная да пэцканьня.* Нсл.
•**пэцкаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., перех.*—пачкать, Гсл.; Растсл. пачкать, марать (, грязнить, С.) Шсл.; Нсл. 543; Ар. *Ня пэцкай ты палцаў у мачаньне.* Ст. *Работу пэцкаць.* Нсл. *Адзежу пэцкаеш каля гліны.* Нсл. *Соверш.* **абпэцкаць**—запачкать. Нсл. 351. *Абпэцкаў дзгцям сьвітку.* Нсл. *Прич.* **абпэцканы**—запачканный. Нсл. 351. *Ходзе з абпэцканаю мордаю.* Нсл. *Соверш.* **запэцкаць**—запачкать, Шсл.; Ар. замарать, МГсл. загрязнить. Ар. *Чыста ўсю адзежу запэцкаў.* Ст. *Прич.* **запэцканы**—запачканный. Ар. *У цябе шчака запэцкана ў тук.* Ст. *Соверш.* **напэцкаць**—напачкать. Ар. *Напэцкаў глінаю па усей печы, а не размазаў добра.* *Соверш.* **выпацкаць**—вымарать, Шсл. выпачкать. Ар. *Выпацкаў усе рукі ў цеста.* Ст. *Соверш.* **упэцкаць**—опачкать, Шсл. очень загрязнить. Ар. *Сабака ўпэцкаў морду ў цеста.* Ст. *Прич.* **упэцканы.** Шсл.; Ар. *Рукі ўпэцканыя ў гной, а ён хлеб бярэць.* Ст.
•**пэцкацца**-*аюся-аешся, несоверш., возвр.*—*пачкаться* (, *мараться,* Нсл.) Ар.; Нсл. 543. *Пэцкаецца, ходзячы па балоце.* Нсл. *Соверш.* **абпэцкацца**—запачкаться, Нсл. 351. *Абпэцкаўся глінаю.* Нсл. *Соверш.* **запэцкацца**—запачкаться. Шсл.; Нсл. 543. *Запэцкаўся каля гліны.* Нсл. *Прич.* **запэцкаўшыся.** *Дзяцё запэцкаўшыся.* Ар. *Соверш.* **выпацкацца**—выпачкаться. Нсл. 92. *Выпацкаўся ў балота.* Нсл. *Соверш.* **упэцкацца**—опачкаться, Шсл. очень загрязниться, запачкаться. Ар. *Прич.* **упэцкаўшыся.** *Дзеці былі ўпэцкаўшыся.* Ар.
•**пэцнуць**-*ну-не-не, однкрат., перех.* **1.** ударить, производя звук. *Пэцні яго па мордзе, каб крывёй умыўся.* Нсл.
**2.** бросить чем-л. липким в твердое вещество. Нсл. 543. *Пэцнуць глінаю ў сьцяну.* Нсл.
**3.** упасть. Нсл. 543. *Пэцнуць у балота.* Нсл.
•**пэцнуцца**-*нуся-нешся, возвр.*—удариться или упасть. Нсл. 543. *Пэцнуўся галавою аб печ.* Нсл. *Пакаўзнуўся й пэцнуўся ў балота.* Нсл.
•**пхануць,**—*см. под пхаць.*
•**пханьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к пхаць-ацца,*—толкание (с небольшой силой, Ар.) Нсл. 540; Ар. *Ня пхайся, я й бяз пханьня выйду.* Нсл.
•**пхаць,** *пхаю, пхаеш-ае, несоверш., перех.* **1.** толкать, тиснуть, втискивать. Гсл. *Пхаць каго ў шыю.* Нсл. 540. *Прич.* **пханы**—толканный. Нсл. 549. *Выйдзі валей ня пханы.* Нсл. *Соверш.* **адапхаць, а)** *"пхаючы"* отстранить, отодвинуть. *Прыкасаўся к імне, ледзь адапхала яго ад сябе.* Нсл. **б)** отодвинуть нажимом. *Адапхнуў адну дошку, адапхай ужо й гэтую.* Нсл. 376.
**2.** тиснуть, втискивать, Нсл. 540. совать. *Пхай сена ў мех.* Нсл. *Усё пхае ў сваё горла.* Ст. *Соверш.* **запхаць, а)** затолкать. Нсл. 182. *Запхалі сусім малца.* Нсл. **б)** засунуть. Гсл.; Нсл. 182. *Куды ты запхаў маю сьвітку?* Нсл.
**напхаць, 1.** набить что-л. Нсл. 314; Шсл. *Напхаць мех сенам.* Нсл. *Мех сенам напханы.* Нсл. 316. *Яго людзі напхалі дурнымі мысьлямі.* *Соверш.* **упхаць,** Ар.—втиснуть. Нсл. 540; Ар. *Усю адзежу ўпхаў у кубел.* Нсл.

●**пылассáч**-*чá, предл.-чý; мн. ч.-чы́-чоў-чом, мн. ч., предл.-чох, м.*—пылесос.

●**пылі́-пылі́-пылі́**, *междомет.*—возглас, которым призывают цыплят. Шсл. *Пылі, пылі, пылі!* Ст.

●**пылі́ць**-*лю́-ліш-ле, несоверш.*—пылить, поднимать пыль. Нсл. 541. *Ня пылі, мятучы хату: хусьце запыліш. Курыў і пыліў дожджык-брызок.* Гарэцкі: Песьні 82. *Соверш.* **запылі́ць.** Нсл. 541.

●**пылі́цца**, *-люся-лішся, несоверш., возвр.* —покрыватьсмя пылью(пылиться, С.) Нсл. 541. *Соверш.* **запылі́цца**-*люся, запы̀лішся, соверш., возвр.*—запылиться, покрыться пылью.

●**пыль! пыль! пылі́нкі**—возглас, которым манят цыплят. Гсл.

●**пы́лька**-*лькі-льцы, ж., дет.*—курица. Гародзькі Вал. *На, падзяржы пыльку, пашкадуй яе!* Ст.

●**пылянё**-*няці; мн. ч.-няты, ср., дет.*—цыплёнок. Гародзькі Вал.; Шсл. *Пыляняты згубіліся ад курыцы.* Ст. *Уменьш.* **пылянётка.** Шсл. *Прапала адно наша пылянётка.* Ст.

●**пыня́лка**-*лкі-лцы, ж.*—палка для перенимания(перехвата, С.) катаемого круга (*"кацелкі"*). Шсл. *Пынялкаю пераняў кацелку.* Крамяні Пух. (Шсл.).

●**пыні**, *частица,* **1.** мол, де, Гсл. то вот де. Нсл. 541. *Я пыні не такоўскі.* Нсл.

**2.** приятель, сударь. Нсл. 541. *Табе, пыні, можна гэта сказаць.* Нсл. *Хаваючыся адзін перад адным, усё шчытней лезуць у дружбу Асмолаўцы з Лугвенеўскімі шынкарамі, кажучы ім у хмялю: "Ат, пыні, і вашая доля ня лепшая".* Гарэцкі: Песьні, 9.

●**пыні́ць**-*ню́-ніш-не, несоверш., перех.*—быстро что-л. делать, производить, совершать. Ар. *Жнеі пы̀няць жыта*( скоро жнут рожь): *баяцца, што дождж пойдзе.* Ар. *Соверш.* **спыні́ць, 1.** скоро что-л. сделать, совершить, окончить. Ар.

**2.** остановить(что-л. находящееся в движении, кого-л. движущегося, что-л. совершающего, С.) Ксл. *Спыніў яго бацька.* Гарнакі Сян. (Ксл.).

**3.** прекратить. (*Ты людзіна*) *спыняеш бег грымотны горных рэк, а сам сябе ня ўпыніш да магілы.* Кавыль(Конадні, Но. 5-6, 10). *Соверш.* **упыні́ць,** *перех.*—унять. Віленшч., Меншч., Нсл. 663. *Ледзь упынілі яго.*

**запыня́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма, несоверш., перех.*—преграждать, запружать, преграждать. *Хлапцы запыняюць ручай.* Ар. *Нашто было запыняць цурок?* Ар. *Соверш.* **запыні́ць.** Ар. *Вада ў ручаю паднялася, бо ніжэй запынілі.* Ар. *Запыніць дарогу.* Нсл. 182. *Хлапцы запынілі цурок, каб была вада большая.* Ар.

**запыніць кроў**—остановить кровотечение. *Прич.* **запынены, 1.** которому сделана преграда. Ар. *Запыненая рака.* Ар. **2.**(о крови)—приостановленный. *Кроў запынена.*

**перапыня́ць**, *несоверш. к перапыніць* —прерывать. МГсл. *Соверш.* **перапыні́ць**-*ню-ніш-не,* **1.** вмешавшись в разговор, речь и т.п., перебить, остановить кого-л. *Гаварыў бы яшчэ доўга, каб гаспадыня не перапыніла яго.* Гарун: Пан Шаб.

**2.** прервать, прекратить или приостановить какое-л. действие, течение, ход, развитие чего-л. *Як прыносіў мне палудзень, дык не пайшоў адразу да хаты, а на капцы, — перапыніў Зеньку Яхім.* Цэлеш(Ярылаў агонь).

**прыпыні́цца.** *соверш.*—задержаться где-л. на короткое время. *Васіль прасіў, што ён часова хацеў бы толькі прыпыніцца.* Кл.: Каліна, 60.

**спыні́цца**, *возвр.*—остановиться(прекратить, окончить движение, С.) Ксл. *Спыніўся конь.* Клятчыно Беш. (Ксл.). *Конь спыніўся, стаў, чакае.* Гарун: Шчасьце М.

●**пы́пкала**, *общ. — пыкала 1.*

●**пы́пкаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—заикаться. Нсл. 541. *Пыпкае, пакуль слова скажа.* Нсл. *Однократ.* **пы́пнуць**-*ну-неш-не.* Нсл. 541. *Ані пыпнуў.* Нсл.

●**пы́пла**-*ла; мн. ч.-лы, ср.*—типун у птиц. Нсл. 541. *Надабе зьняць пыпла ў курыцы.* Нсл.

●**пы́пленьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к пыпліць,*—медленность в работе. Нсл. 541. *Пыпленьне адно, а не работа!* Нсл. *Ня борзда ты скончыш работу із сваім пыпленьням.* Тм.

●**пы́пля**-*лі, общ.*—медлитель, не скорый, не решительный. Нсл. 541. *Ах ты пыпля! Чаго ж тут думаць?* Нсл. *Пакуль ты будзеш пыпліць із тваею работаю? Чаго тут пыпліць? садзіся дый едзь. Даўно б зрабіў, калі б ня пыпліў.* Тм.

●**пы́пліць**-*лю-ліш-ле, несоверш.*—медлить, медлденно приниматься за что-л., Нсл. 541. делать что-л. копотко, мешкотно. Вост. (Даль). *См. пыпніць.*

●**пы́пніць**, *-ню-ніш-не, несоверш.*—запинаться, останавливаться, делать небрежно, лениво, Віленшч., Нсл. 541. делать что-л. копотко, мешкотно. Вост. (Даль). *Глядзець ня люба, як ты пыпніш.* Нсл.

●**пы́пнуць,**—*см. под пыпкаць.*

●**пыр**, *междомет.*—звукоподражание при взмахивании крыльями птички. Шсл. *Пыр, пыр верабейчык — ды паляцеў.* Ст.

●**пы́ра**-*ры-ры, ж., дет.?*—ласкательное название курицы, курочка. Нсл. 541. *Пыра мая кока зьнесла.* Нсл. *Уменьш.* **пы́рка**-*ркі-рцы, ж.*—курочка. Гсл.; Нсл. 541. *Пыркі, пырачкі есьці хочуць.* Нсл.

●**пырх**, *междомет.*—порх. Нсл. 541. *Птушачка пырх із рук!* Нсл.

•**пырханьне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—порхание. Нсл. 541. *Пырханьне вераб'ёў.* Нсл.

•**пырхаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.**—порхать(свойственно маленьким птичкам, Нсл.; легко перелетать с места на место птице, бабочке и т.п., С.) Гсл.; Ксл.; Нсл. 541; Шсл. *Сінічка пырхае ў клетцы.* Ст. *Жаваранка пырхала ў бок ад дарогі і садзілася йзноў.* Адамчык: Арж. колас. *Маладыя верабейкі ня лётаюць, а толькі пырхаюць.* Нсл. *Однократ.* **пырхнуць**—порхнуть. Нсл. 541. *Чыжык пырхнуў з рук і паляцеў.* Нсл. *Яна(птушка) пырхнула ўгару.* Я. Г-кі: Казкі, Но. 2, стр. 6.

**2.** *перен.*—легко и быстро лететь. *Во ўжо пырхаюць сьняжынкі.* Селядцова Беш. (Ксл.).

•**пыркаць**-*аю-аеш-ае*—порхать. Ар.

•**пырнік**-*іку, предл.-іку, зват.-іча, м.*—пырей, Гсл.; Ар.; Нсл. 541. пырей ползучий. Шсл. *Поле пырнікам зарасло.* Нсл. *На папары ўзяўся пырнік.* Ст. *Нарвала лясёнку пырніку.* Ст. *Уменьш.* **пырнічак**-*чку.* Нсл. 541. *Сена адзін пырнічак.* Нсл.

•**пырнікавы**-*вая-вае*—пырейный. Нсл. 541. *Пырнікавае карэньне.* Нсл.

•**пырнуць**-*ну-неш-нець*—толкнуть, Растсл. ударить чем-л. остроконечным?

•**пырск**-*ку, м.*—брыга. *Ад пырскаў ішоў халадок.* Я. Васілёнак("Полымя", 1967 г., Но. 12, стр. 192). *Скрыпяць палазы, сьнежны пыл ляціць з-пад капытаў, аддае цябе пырскамі.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, 2, 1935, стр. 95).

•**пырскалка**-*кі, дат., предл.* *пырскалцы, ж.*—лейка. Іг.

•**пырсканьне I**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к пырскаць*—брызгание. Ар.; прыскание. Нсл. 541. *Пырсканьням абліў мяне ўсяго.* Нсл.

•**пырсканьне II**-*ня, предл.-ню, ср.*—порскание.

•**пырскаць I**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.*— брызгать, Ар.; БНсл.; Шсл.; Нсл. 541. кропить, Ар. прыскать. Нсл. 541; МГсл. *Пырскае маленькі дождж ык.* Ст. *Дождж ык пырскае.* Нсл. *Пырскалі з-пад ног казельчыекі.* Адамчык: Арж. колас. *На хату пырскалі іскры.* Цэлеш(Ярылаў агонь). Однократ. **пырскануць**-*нў-нёш-нёць-нём-ніцё*—брызнуть(сильно). *Пырскануў вадою ў вочы.*

**пырскнуць, пырснуць**-*ну-неш-не-нем-неце,* *одн. к пырскаць I,* Нсл. 541., брызнуть. Ар. *Вада пырснула на стол.* Ст. *Пырсьні мне ў вочы гарэлкаю.* Нсл. *Дождж ык толькі пырснуў.* Тм. *Сьлёзы пырснулі з воч і абпяклі яго руку.* Дзьве Душы 4. *Соверш.* **запырскаць**—забрызгать (начать брызгать, С.) Шсл.; Ар. *Во й дождж ык запырскаў.* Ст. *Соверш.* **напырскаць**—набрызгать, напрыскать. *Соверш.* **убырскаць** (из *упырскаць,* С.)всё, всех (или сильно, С.). Шсл. *Спадніцу ўбырскала ў балота.* Ст.

**апырскаваць**-*кую-куеш-куе, несоверш., перех.*—обрызгивать. Ар.; Шсл. *Маці апырскуе капусту на гародзе, каб чэрві ня елі.* Ст. *Соверш.* **апырскаць**—обрызгать. Ар.; Шсл. *Апырскай добра рой, дык тады ня ўцячэць.* Ст. *Прич.* **апырсканы**—обрызганный. Ар.

**папырскаваць**-*кую-куеш-куе, несоверш.* —покрапывать. Нсл. 473. *Дождж ык папырскуе.* Нсл. *Соверш.* **папырскаць, 1.** покрапить. Нсл. 473. *Дождж ык папырскаў толькі зямлю.* Нсл.

**2.** побрызгать. *Прич.* **папырсканы**—побрызганный. Нсл. 473. *Хусьце дажджом папырскана.* Нсл.

**распырскаваць**-*кую-куеш-куе; повел.-куй-куйма, несоверш., перех.*—разбрызгивать. Ар. *Соверш.* **распырскаць**—разбрызгать. Ар. *Прич.* **распырсканы**—разбрызганный.

•**пырскаць II**-*аю-аеш-ае,* **1.** внезапно разражаться смехом, Нсл. 541. порскать, фыркать. *Пырскаць, пырснуць із сьмеху.* Нсл. *Однократ.* **пырснуць.** Нсл. 541,—порскнуть, фыркнуть от смеха и вообще. *Коні паціху й асьцярожна пераступалі па дарожнаму лесавому карчэўю, вадзілі вушмі і чуючы пырскалі.* Дзьве Душы 4. *Нехта із селакоў пырснуў із сьмеху.* ЗСД 142. *Соверш.* **запырскаць**—запорскать. Нсл. 182. *Запырскаць із сьмеху.* Нсл.

**2.** сердиться, показывать неудовольствие или капризы. Нсл. 541. *Ты сядні ўсё пырскаеш: то табе тое ня добра, то таго не хачу.*

•**пырскацца**-*аюся-аешся, несоверш.* **1.** брызгать на кого-л. Ар. *Ня пырскайся, тату скажу.*

**2.** брызгаться, брызгать друг на друга. *Хлапцы пырскаюцца.*

**3.** прыскаться, брызгать на себя чем-л. *Соверш.* **распырскацца, 1.** разбрызгаться. Ар.

**2.** расчихаться. Нсл. 558. *Нешта ты распырскаўся, ці не дастаў катару?* Нсл.

**распырскацца, 1.** раскапризиться, при предложении чего-л. Нсл. 558. *Табе хараша гаворaць, а ты распырскалася.* Нсл.

**2.** *с упреками:* расплакаться. Нсл. 558. *Распырскалася, як бы яе білі.* Нсл. *Соверш.* **убырскацца,** *возвр.*—обрызгаться (сильно, С.). Шсл. *Ішоў па вадзе, дык увесь убырскаўся.* Ст.

•**пыркі**-*каў( один пырск)*—брызги. ПНЗ; Растсл.; Ар.; Шсл. *Крываныя пыркі высушыць.* Ускалосьсе, Но. 10, стр. 18. *Аж пыркі лятуць на ўсе бакі.* Ст. *З пырскамі вады вырвалася з асакі цэлая чарада крыжноў.* Цялеш: Дзесяць.

•**пырснуць,**—*см. под пырскаць.*

•**пырсь I,** *глаг. частица,*—означает быстрый брызг. Нсл. 541; Ар. *Пырсь у вочы гарэлкаю!* Нсл.

●**пырсь II,** *глаг. частица,*—означает порскание от смеха. Нсл. 541. *Як сказаў, усі пырсь ізь сьмеху.* Нсл.

●**пыршчэць**-*чыць, несоверш.*—брызгать(о дожде). Шсл. *Ледзь, ледзь пыршчыць дожджык.* Ст.

●**пыск**-*ку, предл.-ку, м.*—морда рогатого животного. Ар.; Дз.

●**пы́сы**-*с, мн. ч.*—конец морды с губами(о скоте, С.) Шсл. *Ня бі каня па пысах.* Ст. *У белай каровы чорныя пысы.* Ст.

●**пы́шанны**-*ная-нае*—гордый, неприступный. Нсл. 542. *Пышанны пан, нікога не дапушчае к сабе.* Нсл. *Пышанны конь, да яго прыступіцца боязна.*

●**пы́шка**-*шкі, общ.*—гордец, гордячка. Нсл. 542. *Якая яна пышка, ласкавага слова ні зь кім ня скажа.* Нсл. *Пышка дурны, крукам носу не дастанеш.* Тм.

●**пышне́ць**-*ею-ееш-ее, несоверш.*—становиться гордее, Нсл. 542. становиться гордым, напышенным. Гсл. *Што багацее, то пышнее.* Нсл. *Соверш.* **запышне́ць**—сделаться спесивым. Нсл. 182. *Як надзеў боты, дык і запышнеў, ні зь кім гукаць ня хоча.* Нсл. *Соверш.* **папышне́ць**—стать более гордым. *Пабагацеў і папышнеў.* Нсл. 542.

●**пышнёха**-*ёхі-ёсе, ж.*—гордячка. *Пастой, пышнёха, аддам жа я табе ў бацькі на дварэ.* Гсл.

●**пышні́цца**-*нюся-нішся, несоверш.*—гордиться. Нсл. 542. *Што табе перад намі пышніцца.* Нсл.

●**пы́шны**-*ная-нае*—заносчивый, МГсл. гордый, неприступный. Нсл. 542. *Чатыры рэчы шайтану гожыя ест: ... трэці, пышны, горды, убогіх ня любіць.* Кіт. 1а8. *Пан Бог ня любіць, хто ест пышны і сам сябе выхваляе.* Тм. 13а1. *Пышны дужа стаў, і прыступу няма.* Нсл. *Пышна цешча, пышна, што к зяцю ня вышла.* Из свад. песни, Нсл. *Баба тады пышна, як замуж вышла.* Рапан. 73.

●**пы́шыцца**-*шуся-шышся, несоверш.*—держать себя преувеличенно важно, надменно, высокомерно. *Чым ты пышышся?* Нсл. 542.

●**пы́таль**-*тлю, предл. и зват.-тлю; мн. ч., род.-тляў, м.* **1.** лучшего сорта помол предварительно очищенного зерна. Шсл. *Засыпаў пшонку на пыталь.* Ст.
**2.** машина для очищения зернового хлеба от верхней плевы. *Пшонку абдзерлі на пыталь.* Нсл.
**3.** строгий, резкий выговор, внушение; проборка. *Даў сваёй бабе пытлю, цяпер будзе маўчаць!* Ст.

●**пыта́льнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** тот, кто спрашивает. *Прыйдуць страшныя пытальнікі.* Кіт. 34б4.
**2.** *грам.*—знак вопроса. Гсл.

●**пыта́льны,** -*ная-нае*—вопросительный. *Пятронь у вадказ на пытальны позірк цэсараў адазваўся.* Тат.: Кво вадыс, 266.

●**пы́там,** *нареч.*—служит для усиления глаг. *"пытаць"*—спрашивать. *Жадом жадала, пытам пытала.* Горадз.(Ром-Мат. Гр. 1, 217).

●**пыта́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—обращение к кому-л., требующее ответа и т.п., вопрос.

**нацанальнае пытаньне**—национальный вопрос.

**сялацкае пытаньне**—крестьянский вопрос. **ралейнае пытаньне**—аграрный вопрос.

**гасподняе пытаньне**—жилищный вопрос.

**бяз пытаньня**—без разрешения, без спроса. *Бязь лічбы ўвойдуць да раю, бяз пытаньня.* Кіт. 3а1.

●**пыта́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш. у каго, каго* **1.**—спрашивать. Ар.; Нсл. 541; Шсл.; ПНЗ. *Заяца ясьмі пытаў, есьлі-бы на то сьвядом'е меў.* Гордз. АКты ХУІІІ, 8. *Хворага пытаюць, а здароваму даюць.* *Послов.* Нсл. *Прич.* **пыта́ны**—спрашиванный(спрашиваемый, С.). Нсл. 541. *Пытанага няма чаго другі раз пытаць.* Нсл. *Соверш.* **спыта́ць**-*аю-аеш-ае каго-што,*— спросить. Нсл. 541; Ксл.; Вят., Вост.(Даль). *Слугі Мае а мне Богу спытаюць.* Кіт. 15а2. *Трэба спытаць, дзе ён напіўся.* Лалыкі Ксл.
**2.** *у каго праз што*—спрашивать у кого-л. о чем-л., Нсл. 541. спрашивая, узнавать чье мнение о чем-л. *Як пыталі ў імама: "Хто ест райськія?"* Кіт. 8а2. *У прарока пыталі.* Тм. 9а1. *Імам пытаў у яго.* Тм. 18б15. *Хто пытае, тый ня блудзе.* *Послов.* Нсл. *У людзёў пытай, дык скажуць.* Ст. *Соверш.* **папыта́ць** *у каго праз што*—спросить. Ар.; Шсл.; Ксл. *Папытала б ты ўв Арыны!* Навікі Віц. (Ксл.). *Папытай у другога войска.* Погар(Афанасьев, ІІ, 1914, 195). *Дзевачкі, галубачкі, папытайце ў маёй дачушкі, чаго яна так плача.* Харобічы Горадн.(Косіч 239). *Папытай у сына.* Касьцюковіцкі р. Калінінскае акругі(Наш Край, 1928, Но. 6-7, 44). *Не пасьмею у бабусечкі папытаці, ці тут будзе начаваці.* Вядзьмінка Імгл.(Косіч 254). *Усе запісуюць, а што яны запісуюць, каб папытаць.* Віцебш.(Наш Край, 1929, Но. 8-9, стр. 65). *Прышоў у вадно сяло, папытаў: "Ці няма тут Чарнышовага?".* Дзяніскавічы НЗ(Шэйн, ІІ, 162). *Я пайду і папытаю.* Гарун: Шчасьце М. *Папытай дарогі.* Нсл. 473.

**апы́таваць**-*тую-туеш, несоверш. к апытаць.* Нсл. 366.

**апыта́ць**-*аю-аеш-ае, соверш., перех.*—распросить, (Нсл. 366) разузнать, Шсл. выспросить, найти, Ксл. обратиться ко многим с вопросом с целью получения сведений. *Апытуй, апытай людзёў, калі імне ня верыш.* Нсл. *Надабе ў людзёў апытаць, каб дзе дастаць пастушка сабе.* Ст. *Апытаў каня, але грошай не стаець.* Астроўна Віц. (Ксл.). *Прич.* **апыта́ны, 1.** спрошенный, Нсл. 366. опрошенный,

выспрошенный. *Людзі апытаны, але нічога такога не сказалі.* Нсл.
**2.** явившийся чрез розыск(опросом, С.), разысканный. Нсл. 366. *Украдзеныя мае коні апытаны.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **апыта́ньне**-*ня, предл.-ню*—спрос(опрос, С.), обследование, разузнание. Нсл. 366. *Пашлі чалавека да апытаньня, ці праўда гэта.* Нсл.

**напы́таваць**-*тую-туеш-туе; повел.-туй-туйма, несоверш., перех.*—отыскивать посредством распросов у других. Нсл. 316. *Напытаваць, напытаць майстроў, работнікаў.* Нсл. *Соверш.* **напыта́ць.** Нсл. 316. *Прич.* **напы́таны**—отысканный посредством распросов. Нсл. 516. *Напытаны работнік.* Нсл.

**прапы́таваць**-*тую-туеш-туе; повел.-туй-туйма, несоверш., перех.*—проведывать чрез распросы. Нсл. 528. *Прапытуй, ці не прапытаеш часам украдзеныя коні.* Нсл. *Надабе дзе далей прапытаць. Тут, мусіць ня бачылі нашых коні.* Ст. *Соверш.* **прапыта́ць.** Нсл. 528. *Каб дзе прапытàць у людзёў пасьпешкі пасадзіць з асьміну.* Ст. *Прич.* **прапытаны**—проведанный чрез распросы. Нсл. 527. *Коні ўкрадзеныя прапытаны.* Нсл.

**прыпы́таваць**-*тую-туеш-туе; повел.-туй-туйма, несоверш., перех.*—прискивать, спрашивая у других. Нсл. 508. *Прыпытаваць, прыпытаць сабе работніка.* Нсл. *Соверш.* **прыпыта́ць.** Нсл. 508. *Прич.* **прыпытаны**—приисканный чрез распросы у других. Нсл. 508. *Прыпытаныя коні надабе спагнаць.* Нсл.

**распы́таваць**-*тую-туеш-туе, несоверш.*—распрашивать о чем-л., разведывать. Нсл. 558. *Распытуй, распытай у людзёў, ці ня бачылі бягучага паражнём каня.* Нсл. *Каб стаў распытаваць людзёў, дык мо' хто й сказаў бы.* Ст. *Соверш.* **распыта́ць.** Нсл. 558. *Ты ж добра распытай яго, дзе ён быў, што ён бачыў.* Ст. *Прич.* **распы́таны**—разведанный по распросам. Нсл. 558. *Дарога распытаная.* Нсл. *Прапалыя коні распытаны.* Тм.

**выпы́таваць**-*тую-туеш-туе; повел.-туй-туйма, несоверш., перех.* **1.** допрашивать.
**2.** выспрашивать. Шсл. *Папалі малога, ды давай выпытаваць яго пра ўсё.* Ст.

**вы́пытаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** *соверш. к выпытаваць 1,*—допросить. *Комся перавярнула ў Менску ўсё дагары нагамі. Выпытала адміністрацу, але нічога не дабілася.* Зямёнка (Беларусь, 153).
**2.** *соверш. к выпытаваць 2,*—выспросить. Шсл. *У яго праўды выпытаю.* Жукова Імгл. (Косіч 34). *Няўпрыцям так і выпыталі ў яго, што хацелі.* Ст.

•**пыта́цца**-*àюся-àешся у каго праз што, несоверш.*—спрашивать, Шсл. осведомляться, Нсл. 541. спрашивать у кого. НК.: Очерки, 553; Гсл. *Ня буду ні ў кога пытацца, бо й сам узумею зрабіць.* Ст. *Пытаўся каравай у перапечы, кудэй тут дарога да клеці.* Из свад. песни, Нсл. *Ня пытаца ў навучоных навукі.* Кіт. 67а10, 6762. *Соверш.* **папыта́цца**—спросить. Нсл. 473; Ар.; Ксл. *Папытайся, куды тут дарога.* Нсл. *У людзёў папытайся, калі сам ня ведаеш.* Ст. *Гэта будзе хата Рамана Скрылевіча? — папытаўся .* Дудзіцкі (Бацькаўшчына, Но. 376-377). *Што? папыталася жонка.* Дудзіцкі (Бацьк., Но. 1-2/437-438). *Папытайся ў яго, ці ня любе ён каго.* Сукрэмна Сян. (Ксл.). *У людзёў папытайся, калі сам ня ведаеш.* Ст. *Пра вяпрука? — засьміяўшыся, папыталася Д.* Кулакоўскі: Дабраселцы.

**апы́тавацца**-*туюся-туешся, несоверш.* **1.** разузнавать-(опрашивая издалека, С.) Нсл. 366; Дсл. *Апытуйся па дарозе, ці не знайшоў хто сьвіткі.* Нсл. *Пачалі яны, прайшоўшы лес, апытавацца.* Дсл.
**2.** проявляться, оказываться через розыск (путем опрашивания, С.) Нсл. 366. *Коні мае ўкрадзеныя апытуюцца, апыталіся.* Нсл.

**апыта́цца**-*àюся-àешся, соверш. к апытавацца 1, 2.* Нсл. 366. *Прич. прошл. вр.* **апытаўшыся.**

**дапы́тавацца**-*туюся-туешся, несоверш.*—настойчиво расспрашивать, Шсл. выспрашивать. *Вазьмі схавай, ніхто й дапытавацца ня будзе.* Ст. *Соверш.* **дапыта́цца**—настойчиво расспросить, Шсл. выспросить. Гсл. *Ні ў кога не дапытаца, дзе мой тапор дзеўся.* Ст.

**напы́тавацца**-*туюся-туешся, несоверш.*—узнавать о чем-л. посредством расспросов (издалека, С.) Нсл. 739. *Соверш.* **напыта́цца**-*дюся-дешся.* Нсл. 739. *Напыталіся мы із сынам, зь Міколам, што ў павеце ёсьць суд на пісара.* Пшчолка, Бацьк. Но. 51-52/333-334.

**прапы́тавацца**-*туюся-туешся, несоверш.* **1.** расспрашивать чрез расспросы. Нсл. 528. *Прапытўся па дарозе, ці не прапытаешся згубы.* Нсл.
**2.** *страд. к прапытаваць,*—быть выведываему. Нсл. 528. *Коні нашы прапытуюцца, прапыталіся.* Нсл.

**прапыта́цца,** *соверш. к прапытавацца 1, 2.*

**прыпы́тавацца**-*туюся-туешся, несоверш.* **1.** расспрашивая, узнавать. Нсл. 508. *Прыпытуйся па дарозе а прапалым каню, можа й прыпытаешся ў каго.* Нсл.
**2.** открываться по расспросам. Нсл. 508. *Конь мой прыпытуецца, прыпытаўся.* Нсл.

**прыпыта́цца,** *соверш. к прыпытавацца 1, Калі дачка ягоная каму патрэбная, дык тый і сам "прыпытаецца".* НК.: Бабы, 30.

**распы́тавацца**-*туюся-туешся, несоверш.* **1.** *каго,*—расспрашивать, Шсл. разведывать (, расспрашивая, С.) Нсл. 558. *Абачыў дзядзька мяне, ды давай распытавацца, як мы жывем.* Ст. *Так доўга распытаваўся, а нічога добрага не распытаўся.* Нсл.

**2.** *у каго. Калі сам ня знаеш дарогі, то распытуйся, распытайся ў другіх.* Нсл. 558.

**распыта́цца,** *соверш. к* *распытавацца 1, 2. Распытаўся ў дзяцюкоў, хто набіў майго Васіля.* Ст. *Распыталіся, куды людзі ходзяць.* Косіч, 230.

**выпы́тавацца**-*туюся-туешся, несоверш. чаго*—разузнавать о чем (, выспрашивая, С.) Нсл. 92. *Выпытуйся, выпытайся ў яго праўды.* Нсл. *Соверш.* **вы́пытацца.** Нсл. 92.

●**папыта́ць,**—*см. под* *пытаць 2.*

●**папыта́цца,**—*см. под* *пытацца.*

●**пытлёўка**-*ўкі-ўцы. ж.*—пеклеванная мука. Шсл. *Зьмяшаў пшонкі троха, ячменю ды зьмялю пытлёўкі на бліны.* Ст.

●**пытлява́ць**-*люю-люеш-люе; повел.-люй-люйма, несоверш. што*—пеклевать. Шсл.; Нсл. 541. *Павязу пытляваць пшонку ў Ноўбяла; там добра пытлююць.* Ст. *Прич.* **пытлява́ны**—пеклёванный. Шсл.; Нсл. 541. *Скачковы дык ядуць хлеб пытляваны.* Ст. *Соверш.* **спытлява́ць**—спеклевать. Шсл. *Спытляваў троха ячменю з пшонкаю на зацірку.* Ст. *Прич.* **спытлява́ны.** Нсл. 611. *Спытляванае жыта.* Нсл.

●**пытль**-*лю, предл. и зват.-лю, м.*—пеклеванная мука. Ксл. *Расьцерлі зярняты на пытль.* Іванск Чаш. (Ксл.).

●**пыці̑!— пыці̑,** *междомет.*—возглас, которым призывают кур. Ар.

# Р

**•роблены,**—*см. под рабіць.*

**•рог,** *рогу, з рогам, на розе, зват. рожа; мн. ч. рогі, рог( рогаў), рагамі,* **1.** рог животных. Ар.; Нсл. 564. *Добра зрабіў Бог, што ня даў сьвіньні рог; яна б увесь сьвет пабала. Послов.*—бодливой корове Бог рог не дает. Ар. *Пшчала сядзіць у каровы на розе.* Ар. *Карове трэба рогі сьпілаваць.* Ст. *Уменьш.* **ражок-кà,** *мн. ч. рожкі-каў.* Ар.; Шсл. *У баранчыка яшчэ маленькія рожкі.* Ст.

**2.** *твор. рогам, на рагу; мн. ч. рагі-гоў*—угол чего-л.(с внешней стороны, вершина угла, **С.**). Ар.; Нсл. 564; Ксл.; Шсл.; Гсл. *Хомка прыстоіў за рогам будкі.* Гарэцкі: Песьні 71. *Удырыўся лобам аб рог столу.* Нсл. *Пакладзі на рагу пуні.* Слабодка Куз. (Ксл.). *Уменьш.* **ражок,** *мн. ч. ражкі-коўком.*

**3.** *род. рогу, на рагỳ, твор. рогам, мн. ч. рагі-гоў, рагом, рагі, рагамі, на рагох*—угол улицы, образуемый пересечениям ея другой. Нсл. 564; Ар. *Жывець на рагу гэтае вуліцы.* Нсл. *Ад рогу другі двор.* Нсл. *Ваша хата на рагу.* Гсл. *Дом на рагу.* Смл. (Даль). *Ідзі к таму Абраму, што жывець на рагу.* Ст. *На тым рагу жывèць.* Віцебск (Ксл.).

**зьбіць каму рог(рогі),** *о людях*—укротить кому-л. гордость. *Зьбіў яму рог.* Нсл. 564.

**уцерці рогі**—тоже. Нсл.

**•рогат-***ату, предл. и зват.-аце, м.*—хохот. МГсл.; Ар.; Ксл. *Рогат зь яго справілі.* Кузьміно Сян. (Ксл.). *Рогату нарабілі зь яго — вуй колькі!* Ст. *Адтуль ізноў прыляцелі гукі карагодных песьняў, рогат дзяцюкоў.* ЗСД. *Хлапцы з дружным рогатам браліся ізноў за патрэт.* ЗСД. *Рогатам сваім разбудзілі дзецянё.* Нсл. 562.

**2.** ржание. Нсл. 562. *Конскі рогат чуцен.* Нсл.

**•рохаць-***аю-аеш-ае, звукоподр.* **1.** о свинье: хрюкать, сзывая поросят. Нсл. 567. *Сьвіньня рохае, парасяты гукàе.* Нсл.

**2.** выражать заметными знаками сильное расположение к кому, или вздохами тоску по ком. Нсл. 567. *Так і рохае па ім дзеўка.* Нсл. *Над дзецьмі так і рохае.* Тм. *Досіць табе рохаць па дзяцяці.* Тм.

**рохнуць-***ну-неш-не,* **1.** хрокнуть. Нсл. 567. *Штось сьвіньня рохнула ў пуньцы.* Нсл.

**2.** быть влюблену, быть привязану, показывать знаки привязанности. Нсл. 567. *Так і рохне па ёй.* Нсл. *Рохнуць па дзяцёх, па матцы.* Тм.

**•рохкаць-***ае, несоверш.*—хрюкать. Ар.; Гсл.; Шсл. *Сьвіньня галодная рохкае на дварэ.* Ст. *Рохкае сьвіньня ў сьвінарніку.* Гарэцкі: Песьні 61.

**•род I,** *роду, предл. роду, зват. родзе, м.* **1.** род. *Увелич.* **родзішча-***ча, собир., ср.*—родня. Нсл. 564. *Які ён сам, такое яго й родзішча.* Нсл. *Зьгінь ты з цэлым сваім родзішчам!* Нсл.

**2.** происхождение. МГсл. *Наш пан значнага роду.* Нсл. 565.

**3.** родственники, родные: отец, мать, братья и проч. Нсл. 565. *Ці ёсьць у цябе род? Няма ў мяне роду.* Нсл. *Уменьш.* **радочак-***чку*—родня, семейство. Нсл. 465. *Далёка жыву ад свайго радочку.* Нсл. *Радочка свайго ніколі не абачу.* Тм.

**4.** группа предметов, явлений, понятий и т.п., объединенных общими существенными признаками; род.

**5.** *грам.*—род. *Род мужчынскі, жаноцкі, ніякі.*

**род людзкі**—род людской, человеческий.

**род войска, зброі**—род войск, оружия.

**•род II,** *роду, предл. и зват.-дзе, м.*—урожай. Нсл. 565. *Сёлета род на пшонку.* Нсл.

**•родам,** *в знач. нареч.* **1.** по происхождению.

**нія́кім родам**—ни коим образом. Дсл. 486(*под "никакой"*). *Ніякім родам ня прылàдзішся.* Дсл.

**•родны I-***ная-нае,* **1.** родной. Ар.; Шсл.; Гсл.; Нсл. 564. *Родныя браты, а гэтак сварацца.* Ст. *Чаму, дзевачка, не вячэраеш у роднага татачкі?* ПНЗ, 41. *Міл жа мне мой родны брахнейка.* Навасёлкі Стдуб.(Косіч 246).

**2.** родственный. Нсл. 564. *Толькі сваіх родных зваў да сябе.* Нсл. *Усі родныя субраліся к яму.* Тм. *Ласкат.* **родненькі.** *Татухна мой родненькі, ці пяюць свацьці песьні?* Бародзінка Стдуб.(Косіч 238). *Увелич.* **раднюсенькі.** *Татачка мой раднюсенькі, бачыла я сон дзіўнюсенькі.* Навасёлкі Стдуб. (Косіч 239).

**•родны II, 1.** крупный(хорошего роста, **С.**). Нсл. 564. *Родныя парасяты.* Нсл. *Родная пшонка.* Тм.

**2.** плодовитый. Нсл. 564. *Родная сьвіньня па дванаццацера парасят прыводзіць.* Нсл.

**3.** плодородный.

**•родзіна-***ны-не, ж., собир.*—родственники. Нсл. 564; Ксл. *Ён зазваў усю родзіну ў госьці.* Кулі Куз. (Ксл.). *З усёю родзінаю сваёю прыцягнуўся.* Нсл. *Уменьш.* **родзінка-***нкіницы.* Нсл. 564. *Зводу няма на гэту родзінку.* Нсл. *Гэта ж твая родзінка так папрыяла табе.* Тм.

●**родзіч**-*ча, предл.-чу; мн. ч., род.-чаў, м.*— соплеменник. *Харужых накшых ня маем устанаўляці, толькі людзей зацных, годных, родзічаў таго гаспадарства.* Стт. 103. *Таковы ўрад у том вайводзтве й павеце аселаму, родзічу Вялікага Княства даваці маем.* Стт. 262(282). *Туташняга гаспадарства Вялікага Княства Літоўскага родзічам мы з ласкі нашае гаспадарскае... абяцуем іх дастойнасьцямі й урады апатроваці і да служб нашых на двор наш прыймаваці.* Стт. 133. *Маскоўскі акупант... дужэе коштам мілёнаў нашых няшчасьлівых родзічаў.* Акула 7.

**2.** соотечественник. *І то ўсе патомкі нашы вялікія князі Літоўскія даваці будзем павіньні толькі Літве, Русі, Жамойці, родзічам старажытным і ўраджэнцам Вялікага Княства Літоўскага і іных земль, таму Вялікаму Княству належачых.* Стт. 129.

●**розгалас**-*асу, предл. и зват.-асе, м.*—эхо, отзвук. Шсл. *Як крыкнуў — толькі розгалас пайшоў па лесе.* Ст.

●**розка**-*зкі-зцы, ж.*—розга. Гсл. *На гэтага распусту ня трэба жалець розак.* Нсл. 558(*под распуста*). *Уменьш.* **розачка**-*чкі-чцы. Розачкаю ня сьцёбалі.* Дсл. 6(*под акафист*).

●**розьмін** — *разьмін.*

●**розна,** *нареч.* **1.** отдельно, врозь(порознь, **С.**). Нсл. 565; Гсл.; Ксл. *Розна жывуць, па адным.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Жывуць браты розна.* Нсл. *Пакладзі розна*—в разные стороны, врозь. Тм. *Прыехаў мой міленькі позна, параськідаў падушачкі розна.* Зь песьні, Ар.

**2.** различно, различным образом. Нсл. 565; Гсл. *Аб гэтым розна гавораць.* Нсл. *Дык вось розна людзі казалі.* ЗСД.

**3.** о произношении—отчетливо, разборчиво. *Пара, маці, дачку аддаці — галасок зьмяніўся. Галасочак на лясочак; ціха мова, розна.* ПНЗ, 46.

●**рознасьць**-*ці, ж.*—разность, различие. Нсл. 565. *Меж нашымі паясамі ніякае рознасьці няма.* Нсл.

●**розны**-*ная-нае,* **1.** разный, (Косіч 73) неодинаковый. Нсл. 565. *Розныя шапкі.* Нсл. *Мой розны пояс ад твайго.* Тм. *І жылі-былі па розных месцох.* Каменская в., Навасілск. п.(Будде: Тула-Орел, 14).

**2.** всякий, разнообразный, различный. МГсл.; Нсл. 565. *Рознага хлеба надаваў.* Нсл. *Розныя, розныя мукі відзець будзе.* Кіт. 112бб.

**3.** о произношении: отчетливый, разборчивый. *Ср. розна 3.*

●**розваль**-*лі, ж.*—довольство. Нсл. 565. *З розвалі перабіраць стаў.* Нсл. *Наеўся ў розваль.* Тм.

●**розум**-*му, предл. и зват.-ме, м.*—ум, разум. Нсл. 565; Ар.; Калышкі Лёз. (Ксл.); Шсл. *Людзёў слухай, а свой розум май.* *Послов.* Тм. *Чужога розуму лыкам ня мерай.* *Послов.* Дукора Сьміл. (Шсл.). *Зь лядашчыкам спазнаўся, з розуму спаўся.* *Послов.* Нсл. *Бяз розуму робіш.* Тм. *Не вялікі тут трэба розум.* Тм.

**добры розум**—благоразумие, рассудительность. *Ня гневайся, мая мамка, што гуляю позна. Ой, я хаджу, я гуляю, добры розум маю.* ПНЗ.

**дурны розум**—неблагорозумие. *Малада дзяўчына дурны розум мае, па садочку ходзе, ручанькі ламае.* З нар. песьні. Ар.

**адходзіць ад розуму**—лишаться ума. *Мар'яма із страху яго ад розуму адышла.* Кіт. 94аб.

**адходзіць ад розуму**—сходить с ума. *Каторыя бы ад розуму адходзілі, ня могуць дастамэнтаў чыніці.* Стт. 388.

**адысьці ад розуму**—сойти с ума.

**розум адходзе**—оставляют умственные способности. *Ад срогасьці твае шлонкі мае трасуцца, розум адходзіць.* Кіт. 94а8.

●**розьніца**-*цы-цы, ж.*—различие, (Нсл. 565) разница. Гсл. *Вялікая розьніца меж ім і табою.* Нсл. *Ну, якая тамацькі розьніца?* Карма Куз. (Ксл.).

●**розьніцца**-*нюся-нішся, несоверш. ад каго,* **1.** отделяться. Нсл. 565. *Ня розьніся ад нас.* Нсл. *Соверш.* **выразьніцца,** *ад каго*—отделиться от общего, целого(выделиться, **С.**), отстать. Нсл. 93. *Вы ад нас выразьніліся, дык вам і дзела да нас няма.* Нсл.

**2.** *зь кім,*—приходить в несогласие, ссориться. Нсл. 565. *За што вам розьніцца міжсоб?* Нсл.

**парозьніцца**-*нюся-нішся. Деепр. наст. вр.* **парозьніўшыся, 1.** *соверш. к розьніцца І,*—отделиться. Нсл. 565. *Падводы парозьніліся ў дарозе.* Нсл.

**2.** *соверш. к розьніцца.*

**3.** прийти в несогласие, поссориться. Нсл. 565. *Нізашта парозьніліся.* Нсл.

**4.** разниться, Гсл. отличаться, различаться, расходиться, не совпадать.

**адрозьніцца**—стать различным, не одинаковым, не совпасть.

●**розьніць**-*ню-ніш-не, несоверш., перех.* **1.** разделять(отделять одного или одно, **С.**) от другого парного(и не только парного, Ксл.). Нсл. 565, разъединять. *Парыстую рэч розьніш.* Нсл. *Бацька пайшоў бабкі розьніць: лепшыя на гэты воз будзем класьці.* Слабодка Куз. (Ксл.). *Соверш.* **выразьніць(вырозьніць)**—отделить от других (отделить часть от целого, **С.**). Нсл. 93, выделить что-л., находящееся до того вместе, в соединении с чем-л. *Старшага брата пан выразьніў ад нас.* Нсл. *Выразьніць цяляты ад стады.* Нсл. *Деепр. наст. вр.* **вырозьнены**—отделенный, поставленный врозь от других. Нсл. 93. *Вырозьнены сын, брат.* Нсл.

**2.** приводить в несогласие, Нсл. 565. приводить в раздор. Ксл. *Нашто ты іх розьніш?* Стасева Выс. (Ксл.). *Розьніць мужа із жонкаю.* Нсл.

**парозьніць, 1.** *соверш. к розьніць I,* —разъединить. *Парозьніў рукаўкі.* Нсл. 565.

**2.** *соверш. к розьніць 2,*—привести в несогласие(раздор, **С.**). Нсл. 565. *Парозьніць бацьку із сынам.* Нсл. *Деепр. наст. вр.* **парозьнены, 1.** отделенный от пары, Нсл. разъединенный. *Парозьненыя каткі, боты, рукаўкі.* Нсл. 474.

**2.** живущий отдельно. Нсл. 474. *Браты парозьненыя жывуць кажны сабе.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **парозьненьне.** *Парозьненьне ў мысьлях нашых.* Нсл. *Мяж імі якоесь парозьненьне сталася.* Нсл.

**адрозьневаць**-*нюю-нюеш-нюе, несоверш.* —распознавать, отличать, различать. *Соверш.* **адрозьніць-ню-ніш-не**—распознать, отличить, различить.

•**розьвіны**-*аў, единств. ч. нет., област.* — *рэзьгіны.* Ксл. *Прынёс двое розьвінаў саломы.* Пятніцкая Беш. (Ксл.).

•**розыгра**-*ры-ры, ж.*—розыгрыш. Нсл. 565. *Я розыгру зрабіў.* Нсл. *Пакінем да разыгры.* Тм.

•**рожа**-*жы-жы, мн. ч., род.-жаў, ж.* **1.** роза. Шсл.; Нсл. 565; Гсл.; Войш.; Сакуны 74. *Рожа межы церням.* П. П.2:2 (З 12 кніг Б.). *Мілосьнік... пасьвіцца ў рожах.* Тм. 2:16. *У цэркаўку йдзець, як рожа квіцець. У цэркаўку ўвыйшла, як зара ўзышла.* (Жив. Старина, 1909, 1, 86). *Наша сястра гожа, як чырвоная рожа.* Нсл. 26(*под благі*). *Вырву я рожу кветку і пушчу на ваду.* Из песни, Войш. *Рожы пахне квет.* ЧЧ (Б. Студзіс II-I, 1969, 75). *Тая дзяўчыначка, як поўная рожа, як поўная рожа, дзевачка прыгожа.* М. Погар Стдуб.(Косіч 70). *У гародзе ні дуб, ні бяроза, чырвоная рожа, пад рожаю дзеўка сядзела, з рожай гаманіла. Рожа, мая рожа, захавай мяне Божа!* Гараны Імгл. п.(Косіч 235). *Зачырванелася, як рожа чырвоная.* Нсл. *У расадніку цвіцець рожа.* Ст. *Калі-б ты сам а дзеці цьвілі як красна рожа ў цьвеці.* Верш у "Маяку" 1843 г. (Карскі, III-3, 25). *Ні рута, ні мята, ні рожа чырвоная.* Пісараўка Імгл.(Сержп.: Отчет, 7). *Ганначка хадзіла, з рожаю гаварыла.* Козіна Пуців.(Халанскі, 138). *Рожы цьвітуць.* Гарун: Варажба. *Ласкат.* **рожухна**-*ны. Красная дзевачка па садзе хадзіла, рожу сеяла. Рожу сеяла, краскі садзіла. Ой ты, рожухна, ой ты матухна.* Крапіўнае(ПНЗ, 43).

**2.** рожистое воспаление(рожа, Ар.). Шсл.; Ар. *Рожа, ражыца, добрая ты маладзіца... замаўляю цябе калядными словамі!* Із замовы, Навасёлкі Пух. (Шсл.). *У Міхалкі на назе рожа.* Сьвеча Беш. (Ксл.). *Жабі квок ад рожы памагае.* Нсл. *Рожаю разнесла нагу.* Нсл. 565. *Рожаю разнесла нагу, шчаку.* Тм.

•**рожавы**-*вая-вае*—розовый. МГсл. *Аліўныя карчы тлеліся пад рожавым прыскам.* Тат.: Кво вадыс, 180. *За платарожавы летны месяц.* Дальны(Калосьсе, 2, стр. 85).

•**роіла(ройла,** Растсл.; ПНЗ)-*ла, ср.* **1.** беспорядок. ПНЗ; Растсл. *Памеж тугаваротнае масы салдацкіх шынэляў, памеж роіла клумкаў а торбаў вучанікі шмыгалі.* ЗСД. 53. *Занурыліся яны ў будлівы вір людзкіх целаў, аплецены роілам гвалту.* ЗСД. 228.

**2.** хаос.

•**роілам,** *в знач. нареч.* **1.** в беспорядке. Гсл. **2.** хаотично.

•**рой,** *рою, предл. и зват. рою; мн. ч. раї, раёўём, раї, раямі, раёх, м.*— Гордз. акты, XУII, I. Гордз. акты, XУII, I.

•**рок,** *року, у року, м.*—срок,

**злажыць рок**—определить срок. *Заплаце злажыў ясьмі рок.* Гордз. акты, XУII, Но. 19. *Я ясьмі архімандрыту рок злажыў ліст палажыці на сьвятога Пётру.* Тм. 4.

**заложаны рок**—назначенный, предусмотренный, установленный срок для рассмотрения дела в суде. Ст. 1529, сл.

**завіты рок**—окончательный срок для рассмотрения дела в суде. Этот срок нельзя уже было перенести, и в случае неявки в суд сторона проигрывала дело. Ст. 1529, Сл. *Рок, які прызначыў суд старанам "ку гранічэньню", мае быць "забіты", значыцца канчальны.* Барысёнак: Адвакатура, 125. *Моц рокаў завітых у суду земскага такую хочам меці, іж кажнага стану чалавек, будучы пазваны на рок завіты ня можаць ся на року завітым большымі справамі ў іншых павецех і некаторымі іншымі прычынамі вымаўляціся.* Стт. 218. *Вольна будзець учасьнікаў сваіх да суду земскага на рок завіты пазваці.* Стт. 364.

**рок праву паложаны**—срок, назначенный для рассмотрения дела в суде. Стт. 1529.

**рок з права заложаны**—срок установленный судом. Стт. 1529.

**рок глядзець**—придерживаться срока. Стт. 1529.

•**рокі**-*каў, единств. ч. нет.*—сесия. *Даем моц судзьдзі й падсудку на рокі зложаныя судовыя запазваных перад іх судзіці.* Стт. 166. *Уменьш.* **рочкі**-*чкаў. Хто бы за недасьпехам сваім ня мог бы за чатыры нядзелі перад пачацьцям рочкаў пазваці, тагды й тыдзень у рочкі рок прыймаван быці маець.* Стт. 203.

•**рондаль**-*ля, предл. и зват.-лю, м.*—каструля(посуда, **С.**). Ар.; МГсл.; Шсл. *Зварылі вішні ў рондалі.* Ст. *Уменьш.* **рандэлік**-*іка, предл.-ку, м.*—небольшая кастрюля. Ксл. *Падай мне рандэлік із малаком.* Гуліна Сян. (Ксл.). *Уменьш.* **рандэльчык**-*ка, предл.-ку, м.* — *рандэлік. Малако стаіць у рандэльчыку.* Ст.

•**росказ,** (Нсл.; Ксл.), **раска́з,** (Кіт.)-*зу, предл. и зват.-зе, м.*—приказание, Нсл. 566. приказ. Ксл. *Семсот тысяча ангелаў перад ім стаяць, усе яго расказу трымаць гато-*

*вы.* Кіт. 125а1. *Гаспадарскага роскаґу трэба слухаць.* Нсл. 120(*под гаспадарскі*). *Росказу твайго ня слухаю і слухаць не хачу.* Нсл. *І росказу яго ня слухалі.* Дубнікі Сян. (Ксл.).

•**росны**-*ная-нае*—росистый. Ар.; Гсл.; Шсл.; Нсл. 567. *Роснае раньне.* Нсл. *У ягонай памяці сьвіталі росныя раніцы.* Шакун: Сьлед, 16. *Сонца ўстае ізь сьцежак росных.* Лойка: Л.Песьня. *Ня раз я сьняжынкаю роснай дадому ішла на сьвітаньню.* Г. Новік. *Росная сягодня раніца.* Ст. *Расьхінуліся росныя сенажаці.* ЗСД. 172. *Крынічны плёск на росных паплавох сялацкіх люляе думы-песьні.* Трыча(Калосьсе 2, стр. 93). *Аб тых начах смалістых і росных я ніяк не магу расказаць.* Івэрс(Калосьсе, Но. 3/20, стр. 141). *Нареч.* **росна**—росисто, МГсл. мокро от росы. Шсл. *На раніцы сядні было росна.* Ст.

•**роспарка**-*ркі-рцы, ж.* **1.** разрез у пояса штанов. Полесье 113.
**2.** разрез у пояса юбки. Полесье 113.

•**роспуск**-*ку, предл.-ку, м.*—развод, расторжение брака. Гсл. *См. роспуст.*

•**роспускі**-*каў, единств. ч. нет.*—дроги, повозка, сани без кузова для возки бревен и досок, Ар. телега для возки мешков. Ксл. *Запражы роспускі й едзь у ток.* Вейна Сян. (Ксл.).

•**роспуст**-*сту, предл. и зват.-сьце, м.*—развод, расторжение брака. Гсл. *См. роспуск.*

•**ростані**-*няў, единств. ч. нет.*—распутье, перекресток дорог. Гсл. распутье, МГсл. перекрестки. НК.: Очерки. 471. *См. растàньні. Уменьш.* **ростанкі**-*аў*—место, где расходятся дороги, Растсл. распутье, перекресток дорог. Еўлічы; Нсл.; Ксл. *См. растанкі*(*под растаньні*). *Я спытаў Янку на самых ростанках.* Пясочак Куз. (Ксл.). *Пахавалі пры ростанках.* Нсл. *Каб цябе на ростанкі вынесьлі,*—зн. чтоб лишен был погребения на кладбище. Нсл. *Ідзі ты ад мяне на ростанкі.* Нсл. *Ласкат.* **ростанькі**-*каў*—пересечение двух дорог (улиц, Косіч 18), перекресток. Косіч 18; Іг.

•**ростань**-*ні, мн. ч.-ні-няў, ж.*—разлука. Еўлічы. *Пяялі голасна аб ростані.* Крушына (Зьніч, 1952, Но. 18). *Ростань гэта, калі растаюцца на даўгі час або на заўсёды.* Еўлічы. *То спатканьне, то раптам ростань.* Дуб. *Мабыць мілы сад пазаростаны, спахмурнеў, як я, доўгай ростані.* Крушына: Лебедзь, 14.

•**роступ**-*упу, предл. и зват.-упе, м.*—расступание(пропуск через народ или скот, Нсл.). Нсл. 565; Ксл. *Во, народу — роступу няма.* Сянно (Ксл.). *Дайце роступ праехаць.* Нсл.

•**рось**-*сі, ж.*—мгла, туман, мельчайший дождь, Гсл. мгла, в виде очень мелкого дождя, падающая на землю, Нсл. 567. дождь мельче брызка. Лепле. *Рось на дварэ.* Нсл.

•**росьля**-*лі-лі, мн. ч., род.-ляў, ж.*—росток (стебель растения в самом начале его развития из семени, корневища, клубня, луковицы, С.). Ксл. *Бульба пусьціла росьлі.* Пачаевічы Чаш. (Ксл.).

•**рошча**, -*чы-чы, ж.*—растительность. МГсл.; Горадзенш.

•**рот**, *рота*(*роту*), *дат., предл. роту, твор. ротам, у роце; мн. ч. раты̀-оў-ом-ы̀-àмі-ох, м.*—рот. Ар.; Нсл. 567; Сакуны 70.
*Чатырыста ратоў разьдзярэ.* Кіт. 168. *У роце сьліна — вада жывушчая.* Тм. 123а2. *Багат мой брат, вось толькі лапці раты разявілі.* *Послов.* *Не разявай тут рота* (*зн. будзь асьцярожны*). Нсл. *Разявіўшы раты слухаюць.* Нсл. *Язык у роце, мялі, што хоця.* *Послов.* Тм. *З рота цячэць сьліна.* Сакуны 70. *Калі ня кусанік, дык з рота цячэць сьліна.* Сакуны 70. *Калі ня кусанік, дык з рота ня валіцца.* *Послов.* Рапан 254. *Усе раты паразяўлялі, што чалавек аправі́ўся ды троха ляпей стаў жыць.* Ст. *Глядзі вачыма, а ня ротам.* Рапан 191.

**ротам і носам хапаюся**, *послов.*—беру во все тяжкие, очень тороплюсь с какой-л. работой. Старадуб(Раст.-Северск, 82). *Язык у роце, як чорт у балоце.* *Послов.* Рапан. 279. *Уменьш.* **раток**-*ткà; мн. ч., дат.-тком, мн. ч., предл.-ткох*—ротик. Ар.; Нсл. 567. *Як верабейка, разяваець раток.* Нсл.

**раточак**-*чка, уменьш. к раток.* Нсл. 567; Ар.

•**роў**, *рову*(*рова*, Нсл.), *з ровам, на рове, мн. ч. равы-воў-вом-вы-вàмі-вох, м.*— ров. Ар.; Шсл.; Гсл.; Нсл. 564. *Вада парабіла равы.* Ст. *Гэтага рова мы з возам, мусіць, не пераедзем.* Ст. *Дарога каля рова.* Нсл. *Па гэтай дарозе равоў шмат.* Нсл. *Уменьш.* **равок**, *раўкà, предл.-кỳ, мн. ч. раўкі̀-оў-ом-àмі-ох, м.*—ровик. Нсл.; МГсл.; Ар; Нсл. 564. *Невялічкі равок, а каня ледзь не ўтапіў.* Нсл.

•**роўнасьць**-*ці, ж.* **1.** равенство. МГсл.; Нсл. 563; Ксл. *Да роўнасьці мяхі давядзі.* Альгова Віц. (Ксл.). *Меж іх ніякае роўнасьці няма, ні ў сіле, ні ў росьце.* Нсл.
**2.** равнина, плоскость(ровная, плоская поверхность чего-л. без возвышенностей и углублений, С.). Нсл. 563.

•**роўня**-*ні-ні, ж.*—уровень. МГсл. *Баюся я гаспадара сваяго цара, іжа ўгатаваў еству вашу і піцьцё ваша — іжа чаму відзяцца ліца вашы палены ніжлі іншых дзяцей роўні вашай? Да павінаваціце галаву маю цару.* Зь перакладу Старога Закону XУ стг. (Крымсий: Мова 170).

**вышыня над роўняю мора**—высота над уровнем моря.

**жыццявая роўня**—жизненный уровень.

**быць на аднэй роўні**—стоять на одном уровне.

**на роўні**—в уровень.

•**роўнядзь**-*дзі, мн. ч., род.-дзяў, ж.* **1.** плоскость. Ксл. *Вялікая роўнядзь тамацька.* Машчоны Сян. (Ксл.). *См. раўнядзь.*
**2.** плошчадь(поверхности).

•**роўніца**-*цы-цы, ж., техн.*—уровень, ватерпас.
**2.** горизонталь(в топографии).
•**роўны**-*ная-нае*—равный(ровный, Ар.). Нсл. 563; Шсл. *Абодвым спасеньне роўнае.* Кіт. 1368. *Роўны роўнага шукае.* Слопішча Шацк. (Шсл.). *Ср. ст.* **раўнейшы.** *Прев. ст.* **найраўнейшы**—самый равный, самый ровный. Ар. *Уменьш., ласкат.* **раўненькі.** Ар. *Увелич.* **раўнюсенькі.** Ар.
**роўна,** *нареч.*—равно, (Нсл.) ровно. Шсл.; Ар. *Роўна ты цягай пілу, у бок ня крыві.* Ст. *Бог ня роўна дзеле. Послов.* Нсл. 563.
**уся роўна**—всё равно.
•**роцька**-*кі, общ.*—ротозей. Ксл. *Роцька ты, ня бачыш?* Стралкі Беш. (Ксл.).
•**рабоха**-*охі-осе, ж.*—имя рябой коровы. НК.: Очерки, 357.
•**работа**-*оты-оце, ж.*—работа. Ар.; Шсл. *Абы здароўе ды рукі а работы стане. Послов.* Запярыньне Пух. (Шсл.).
•**работа**-*оты, ж.* **1.** работа(действие).
**2.** (что должно быть сделано)-работа. *Прызначыць на работу.***3.** (качество или способ какой-л. работы)-работа. *Во гэта работа!*
**здўжаць работу**—одолеть(исполнить, закончить) работу. НКП. 148.
**прыганяць да работы**—понукать к работе-то. Ар.
**туравіць на работу**—тоже. НКП. 154. *Ласкат.* **работанька**-*нькі, дат., предл.* *работаньцы, ж. Да работанькі няма ахвотанькі. Послов.* Рапан. 118.
•**работашна,** *нареч.*—много работы. Дсл. *У такім месцу работашна, ну й плоцяць добра.* Дсл.
**работашна дый горача**—много работы и работа спешная. Дсл.
•**работнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—рабочий. Гсл.; Ар.; Шсл. *Дамагацца разам волі й шчасьця — сабе, бацьку, маці, сялянам, работнікам.* ЗСД. 304. *На касьбу ўзялі двух работнікаў чужых.* Ст. *Я работнік ёмкі.* Гарун(ст. "Муляру").
**просты работнік**—чернорабочий. МГсл.
•**работніца**-*цы-цы, ж.*—женщина рабочий. Ар.; Шсл. *Агата ёмкая работніца: работа ў руках ейных аж гарыць!* Ст.
•**работніцкі**-*кая-кае*—рабочий. *Работніцкі зьвяз. Работніцкая кляса. Работніцкая кляса. Работніцкае селішча.*
•**рабочы**-*чая-чае,* **1.** работающий, рабочий. Ар.; Ксл. *У Пётры на вайне куля адарвала рабочы палец.* Санікі Беш. (Ксл.). *Рабочы конь.*
**2.** работящий, Шсл. трудолюбивый. Нсл. 563. *Ён рабочы чалавек: ня згуляе табе й часіны.* Ст. *Не глядзі бяла, абыб рабоча была. Послов.* Нсл.
•**раба́**-*бы̀, ж.*—рябая корова. Ар. *Уменьш., ласкат.* **рабу́шка**-*шкі-шцы,*—пёстрая курица, пёстрая корова. Нсл. 571. *Курка рабушка зьнясі яечка. Поговор.* Нсл. *Была ў іх курка рабушка.* Мл. *Ласкат.* **рабу́лька**-*лькі-льцы, ж. Успомне кароўку Рабульку.* Гарун: Варажба.
•**рабаце́ньне,** (Іг.), **рабаці́ньне,** (Ар.)-*ня, предл.-ню, собир.*—пятна от оспы, а также веснушки и пятна от загара. Шсл.; Ар. *Увесь від пакрыўся рабаціньням.* Ст. *Ад малых год мае Геня поўны від свой рабаценьня.* Швэд: Сьцежкі, 86. *Спыніла вочы на пакрытым рабаціньням відзе.* Акула, 294. *См. шарыньне, шароцьце.*
•**рабаце́ць**-*ее, несоверш.*—пестреть. *Ср. зарабацець, пярэсьціцца. Соверш.* **зарабаце́ць**—запестреть. *Гляджу, як зоркі ў цемені бясконцай зарабацелі роям залатым.* Рунь, 40. *См. запярэсьціцца.*
•**рабача́й**-*ая, предл.-аю, зват.-а̀ю; мн. ч.-а̀і-аёў-аём-аёў-аямі-аёх, м.* **1.** работяга. Ар.; Вял.
**2.** тот, кто много и усердно трудится, труженик. МГсл.; Ар. *См. працавень.*
**рабача́йка**-*йкі, дат., предл. и зват.-а̀йку, уменьш. и ласкат. к рабачай 1, 2.* Ар.
**рабачаечка**-*кі, уменьш. к рабачайка. Мой муж, мой муж рабачаечка.* Из песни, Ар.
•**рабачайка**-*йкі-йцы, ж.* **1.** женщина работяга. Ар.
**2.** труженица. Ар.
•**рабе́ц**-*бца̀, предл.-бцу̀, зват. ра̀бча; мн. ч. рабцы̀-оў-ом-ы̀-а̀мі-ох, м.*—рябчик. Ксл.; Гсл. *Рабца забіў тамацькі.* Папкі Гар.
•**рабзонка**-*нкі-нцы, ж.*—рябая от оспы женщина. Нсл. 571. *Дзеўка рабзонка.* Нсл.
•**рабзу́й**-*уя̀, предл.-ую̀, зват.-у̀ю; мн. ч.-уі̀-уёў-уём-уёў-уямі-уёх, м.*—рябой, с лицом покрытым оспой. Ксл. *Ах ты рабзуй!* Забалотнікі Куз. (Ксл.).
•**рабізна**-*ны, дат., предл. рабі̀зьне, ж.* **1.** пёстрое домотканое (это не обязательно. С.) полотно. Ксл. *З рабізны гэта пашыта.* Чарніца Сір. (Ксл.).
**2.** яминки на лице от оспы. Нсл. 571; Ксл. *Рабізна ў яго якая!* Бель Выс. (Ксл.). *Няхай Бог бароне, якая ў яго на відзе рабізна.* Нсл.
•**ра́бік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—пестрая юбка. Ксл. *Будзем і мы ткаць такія рабікі, як у Салюціне.* Макеенкі Аз. (Ксл.).
•**ра́бін**-*на, предл.-ну, зват.-не, м.*—раввин. Ар.; Шсл.; Нсл. 544; Гсл. *Рабін у Дукорах дык вельма навучны.* Ст. *Пойдзем да рабіна, няхай табе прысягу дасьць.* Нсл.
•**рабінава ноч**—грозовая ночь. Шсл. *Адзін год часта былі рабінавыя ночы: дождж, як ізь вядра, льле, пярун, маланка — проста страх!* Ст.
•**рабі́ць**-*блю-біш-бе, област.* **робіць**-*блю, несоверш., без доп.* **1.** работать. Растсл.; Ар.; Гсл.; Шсл. *Рабі да поту, зьясі ў вахвоту. Послов.* Ст.
**2.** *што,*—делать. Гсл.; Растсл.; Ар.; Шсл.; Ксл. *Работу рабіць.* Кіт. 33б11. *Мусульманін кажны работу рабі, але ў пятніцу без немазу(араб. малітвы) не рабі.* Тм. 34б13. *Не рабі ты людзём блага, дык і табе ніхто нічога ня зробе.* Ст. *Ня ведаю, што*

*робіць.* Лясьнікі Сян. (Ксл.). *Соверш.* **абрабіць (абробіць,** Ксл.; Шсл.)—испачкать. Ксл. *Абрабіў порткі.* Стаішча Чаш. (Ксл.). *Так абробіў боты, што й не дачысьціцца.* Ст. *Соверш.* **зрабіць, ізрабіць**(Харобрычы, Курило, 40)—сделать(сработать, **С.**). Ар.; Шсл. *Деепр. наст. вр.* **зроблены(ізроблены)**—(сделанный, Ар.) сработанный. Нсл. 219. *Боты, імне зробленыя, прадаў другому.* Нсл. *Як зрабіў, так і добра.* Ст. *Зробіш ты, чалавеча, так, што будзе ні ў пяць, ні ў дзесяць.* Ст. *Соверш.* **нарабі́ць**-*блю, наробіш-бе,* **а)** наделать чего-л. Ар.; Шсл. *Сам нарабіў усялякага судзьдзя.* Ст. **б)** напроказничать, натворить беды, Шсл.; Ар. наделать что-л. ко вреду. Нсл. 317. *Будзе табе, нарабіў бяды!* Ст. *Што ты нарабіў?*

**2.** о земле: возделывать, обработывать. Ар. *Соверш.* **урабіць, а)** возделать, обработать(землю). Ар. *Во калі добра ўрабіў зямлю, дык і радзіць стала.* Ст. **б)** обпачкать. Ар.; Шсл. *Урабіў рукі ў дзёгаць.* Ст. *Деепр. наст. вр.* **уроблены, а)** о земле: возделанный. Ар.; Шсл. *Людзкое поле ўжо даўно ўроблена.* **б)** обпачканный. Ар.; Шсл. *Кажух уроблены ў цеста.* Ст. *Многократ.* **урабля́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма*—возделывать, обрабатывать(землю). Ар.; Шсл.; МГсл. *Адным канём урабляем сваю палавіцу няўпрыцям.* Ст. *Деепр. наст. вр.* **урабляны, а)** возделываемый. Ар. *Даець на працэнты поле урабляное цяпер.* **б)** возделыванный. Ар. *Із загонаў відаць, што парасло лесам поле ўрабляное.* Ар.

**роблены,** *деепр. наст. вр. к рабіць 2,* деланный, Ар. сделанный, сработанный. Нсл. 563. *Робленую рэч папсаваў.* Нсл. **б)** о земле—возделыванный, обработыванный.

**рабеньне**-*ня, предл.-ню,* **1.** *отгл. имя сущ. к рабіць 1,* работа(действие).

**2.** *отгл. имя сущ. к рабіць 2,* делание. Ар. *Благое твае рабеньне грабель, хіба на адзін дзень.* Нсл. 563.

**3.** возделывание, обработка земли. Ар.

**абрабі́ць**-*блю-біш-бе, соверш., перех.*—обработать, Шсл. отделать. МГсл. *Деепр. наст. вр.* **аброблены**—обработанный, Шсл. отделанный. *Многократ.* **абрабля́ць**—обрабатывать, Шсл. обделывать. *Што самы абрабляем, а што наймаем.* Ст.

**адрабі́ць**-*блю-біш-бе, соверш., перех.* **1.** сделать противоположение совершенному кем-л. для уничтожения его последствий. *Ты зрабіў ліха, цяпер маеш адрабіць.*

**2.** уничтожить силу чародейства. Нсл. 379. *Так паддаў, што ніхто не адробіць.* Нсл.

**3.** отработать за долг. Ар.; Шсл.; Нсл. 379; Ксл. *Надабе Вінцэсю адрабіць за каня.* Ст. *Адробіў яму за пожню.* Берашаўцы Беш. (Ксл.).

**4.** окончить работу. Ар.; Шсл. *Бацька ўжо адрабіў сваё.* Ст.

**адроблены,** *деепр. наст. вр. к адрабіць 1, 2, 3, 4. Яшчэ даўг твой не адроблены.* Нсл. 379.

**адрабляць,** *несоверш. к адрабіць 1, 2, 3.*

**дарабі́ць**-*блю-біш-бе, соверш., перех.* **1.** докончить, Гсл. доделать, Шсл. докончить (окончить, **С.**) что-л. Ар.; Нсл. 141.

**2.** взять за живое, Гсл. надоесть, досадить. Нсл. 141. *Як даробе ліха, прарэжуцца й зубы.* *Послов.* Гсл. *Дарабі яшчэ во гэта ды канчай.* Ст. *Яшчэ трэба у зуслону дарабіць ножкі.* Ст. *Деепр. наст. вр.* **дароблены.** Шсл.; Ар. *Несоверш.* **дарабля́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма*—доделывать, (Шсл.) доканчивать работу чего-л. Ар.; Нсл. 141. *Дарабляў, хацеў дарабіць, ды не дарабіўшы пакінуў.* Нсл. *Деепр. наст. вр.* **дарабля́ны**—доделанный. Нсл. 141. *Дарабляны хамут.* Нсл. *Дарабляныя ручкі да калёс.* Тм. *Дарабляны каток.* Тм.

**дарабля́ньне**-*ня-ню*—действие по глаг. *дарабляць, дарабляцца,* —доделывание. Нсл. 141. *Непрашу дарабляньня твайго, сам дараблю.* Нсл.

**зарабі́ць**-*блю-біш-бе, соверш.* **1.** *перех.* —закрыть отверстие, забив, заложив чем-л.; заделать. Ар.; Нсл. 183. *Надабе зарабіць дзіру ў паркане.* Ар. *Пацяплела ў хаце, як зарабілі адно акно.* Нсл 183.

**2.** заработать. Шсл.; Ар.; Нсл. 183; Гсл. *Зарабіў, як пан Заблоцкі на мыле.* *Послов.* Ст. *Ні заслужыць, ні зарабіць.* *Поговор. нищих.* Нсл.

**3.** *перен.*—получить нагоняй, потасовку, Шсл. быть биту, наказанну. Ар. *Глядзі, бо борзда ты ў мяне заробіш па вушшу.* Ст. *Гэй заробіш на абаранкі,*—т.е. получишь наказание. Нсл. 182. *Деепр. наст. вр.* **зароблены, 1.** заделанный. Ар.; Нсл. 183. *Заробленая ў сьцяне дзірка.* Нсл.

**2.** заработанный. Ар.; Шсл.; Нсл. 183. *Маім мазалём заробленая капейка.* Нсл. *Зароблены працаю рубельчык.* *Несоверш.* **зарабля́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма,* — заделывать, зарабатывать. Ар.; Шсл. *Чым хочаш тут зарабляй і жывіся.* Нсл. 183. *Цяпер людзі шмат зарабляюць падводамі да Рудзенску.* Ст. *Дай імне сілы зарабляць.* Гарун: Белр. марш.

**надрабі́ць**-*блю, надробіш-бе, соверш., перех.*—добавить, присоединить, приделать, (Нсл. 305) к чему-л. сделанному, готовому. *Надрабіць панчошку.* Нсл. *Деепр. наст. вр.* **надроблены.** *Надробленая панчаха.* Нсл. 305. *Несоверш.* **надрабля́ць**-*яю-яеш-яе. Ня так надрабляеш; папсуеш калёсы, надрабляючы.* Нсл. 305.

**падрабі́ць**-*блю, падробіш-бе, соверш., перех.* **1.** подделать. Шсл.; Ар.; Нсл. 446. *Сам падрабіў ключык да замка.* Ст.

**2.** подделать, исправить подделкою чего-л. снизу. *Ср. падроблены 2. Деепр. наст. вр.* **падроблены, 1.** подделанный. Шсл.; Ар.

●**сачэўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—чечевица настоящая или посевная [Ervum Lens L.] Шсл. *Наварылі сачэўкі з бульбаю.* Ст. *См. сачыўка.*

●**сачывіны**-*наў,* НК: Очерки, Но. 568—чечевичная солома. Ксл. *Сачывінамі падсьцялі каровы.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.).

●**сачыўка**-*ўкі-ўцы, ж.* НК: Очерки, 454, Но. 568—чечевица. Ксл.; Гсл. *Сачыўка любе гліністую зямлю.* Вядрэнь Чаш. (Ксл.).

●**сачыўкавы**-*вая-вае*—чечевичный.

●**сачыць**-*чў, сочыш, соча, несоверш., перех.* —следить(наблюдать за кем-чем-л. с целью уличения в чем-л., разоблачить, поймать, Ар.) Шсл.; Ксл.; Ар., выслеживать (раскрывать слежкой. Ар.). Гсл. *Сачыць курыцу, дзе яна нясецца.* Нсл. 602. *Сядні трэба за чорнаю курыцаю сачыць, каб ня згубіла яйца.* Ст. *Сачы, куды курыца пойдзе.* Запрудзьдзе Куз. (Ксл.). *Яны адчувалі, што за імі сочаць.* ЗСД. 133. *Пачаў із шчыраю трывогаю сачыць за вянкамі.* ЗСД 134. *У лябараторы стаіць ён у белым запоне й уважліва соча за сіпеньньям у прабірцы.* Кальны(Калосьсе, кн. 1, 1935 г, стр. 15). *Сочым за кажным сваім сігнём.* Васілёк (Калосьсе, кн. 1, 1935 г., стр. 15). *Сочым за кажным сваім сігнём.* Васілёк(Калосьсе, Но. 3-16, 1938 г., стр. 130). *"Соча за імною", — думаў Хведар.* В. Вольскі. *"Ходзе па пятах. Соча, ці што?"—узноў падумаў Хведар.* Тм. *Отгл. имя сущ.* **сачэньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—действие по глаголу*"сачыць",* —слежка. Ар. *Соверш.* **абсачыць, асачыць** —окружить(выслеживая, С.) Дсл. *На аблаве абсачылі ваўкі.* Дсл. *На паляваньне хадзілі, зьвера асачылі.* Красьн. (Дсл.).

**асочаваць,** *несоверш.*—окружать изв. местность с целью поймать, убить кого. Дсл. *Пачалі лес асочаваць — уцекачоў лавіць.* Дсл. *Соверш.* **асачыць**(*к сачыць*)*каго-што*—выследить(раскрыть слежкой, Ар.; Ксл.) Гсл. *Асачыў гняздо вароны.* Ар. *Выслаць людзёў асачыць ваўкі.* Нсл. 369. *Надабе пайці асчыць воўчае гняздо.* Азярэцк Сян .(Ксл.). *Прич.* **асочаны**—выслеженный, раскрытый слежкой. *Асочаных у лесе зладзеяў пералавілі.* Нсл. 369. *Ваўчыца з ваўчанятамі асочана.* Нсл. *Асочаную квакуху зь яйцамі перанесьлі ў хату.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **асачэньне**-*ня, ср.*—открытие слежкой. *Абяцуем словам нашым гаспадарскім, іж на жаднага чалавека выданьне або асачэньне яўнае... вініці й караці ня маем.* Стт. 66. *Асачэньне разбойнікаў.* Нсл. 369. *Асачэньне ваўкоў.* Тм. *Соверш.* **адсачыць,** *юр.*—отвести от себя след. Любавский: Очерк 156.

**дасачыць,** *каго, што*—выследить. Гсл.; БНсл.

**насачыць,** *соверш. каго-што,*—напасть на след. *Насачыў ваўкі.* Нсл. *Насачыў курыцу на яйцах у сене.* Нсл. *Соверш.* **пасачыць,** *каго-што,* **1.** поискать. *пасачы далоўках, мо' дзеці закінулі.* Шпакова Гар. (Ксл.).

**2.** выследить. *Станавы, стражнікі туды-сюды дый пасачылі(разбойнікаў) па гумнах.* Жгунь Гом.(Сержп.: Ответ, 15).

**3.** вырасти, воспитаться на кого. Ахобні Пост. *Сын пасачыў бацьку.* Ахобні Пост. *Каго ён пасачыў?.*

**прысачыць,** *соверш.* **1.** выследить(раскрыть слежкой, С.) Ксл., тоже, что *"асачыць"*, но произвести менее основательно. *Ср. прыкрыць, прычыніць. Прысачыў ваўкі, надабе наказаць у Фатынь, каб аблаву ўладзіць.* Красьніна Чаш. (Ксл.).

**2.** подстеречь. Нсл. 511. *Прысачыць курыцу.* Нсл. *Я цябе прысачу, куды ты бегаеш.* Нсл. *Прич.* **прысочаны, 1.** выслеженный слежкой. *А есьлі... ліцо ў дому найдзена альбо сьледам прысочана, а то маець быці суджана подле Статуту.* "99.

**2.** подстереженный лично. Нсл. 511. *Курыца прысочана, ідзе нясець яйцы.* Нсл.

**усочаваць**-*чую-чуеш-чуе; повел.-чуй-чуйма, многократ., перех.*—выслеживать слежкой. *Усочуй, высачы, куды курыца ходзе несьціся.* Нсл. 666. *Соверш.* **усачыць,** *каго-што*—выследить(слежкой). *Усочуй, усачы, куды курыца ходзе несьціся.* Нсл. 666. *Прич.* **усочаны**—выслеженный слежкой. *Курыца ўсочаная на яйцах.* Нсл. 666.

**сачыцца,** *сочыцца, безлич., несоверш.*

**дасачыцца**—выследить. Гсл.

●**сэнс**-*су, предл.-се, м.* **1.** смысл. Ксл.; Нсл.; МГсл. *Які з гэтага сэнс?* Дубнікі Сян. (Ксл.). *Бяз сэнсу гаворыш.* Нсл. *Гэта другі сэнс.* Нсл.

**2.** толк. Нсл. *Вось сэнс, дык сэнс!* Нсл.

**3.** дело, стать. Нсл. *Да сэнсу гаворыш.* Нсл. *Да сэнсу прышлося.* Нсл.

●**сэрна**-*ны-не, ж.*—серна.

●**сэрні**-*няя-няе*—относящийся, свойственный серне. *Падобен казельчыку сэрняму.* П.П. 2:17(з 12 кніг Б.).

**казельчык сэрні**—детёныш серны. *См. сарнячы.*

●**сэрца**-*ца, предл.-цу; мн. ч.*-**цы**-*цаў,* **1.** —сердце. Ар.; Шсл.; Нсл.; Ксл.; ПНЗ 16. *Нашто думаеце благое ў сэрцах сваіх?* Луцк.(Евангеля ад Мацьвея 9:4). *Шчырым і пакорным сэрцам сурэй(араб., радок якога тэксту) перапеў.* Кіт. 266. *Сымон учыніў малітаўку ад сэрца сухоты.* НК: Старцы, 81. *Атрута ты майго сэрца!* Гуліна Сян. (Ксл.). *Толькі аж сэрца кіпіць ад тае злосьці!* Ст. *Мне нешта баліць пад сэрцам.* Нсл. *Гарэлка за сэрца хапіла.* Нсл. *Ласкат.* **сэрданька**-*ка, ср..* Ксл. *Мужычок, мужычок — мае сэрданька, а ня сей канапель, ані зернянька.* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.).

**2.** сердцевина(дерева, стебла). Ар. *См. асяродак I.*

●**сход**-*ду, м.* **1.** собрание. Шсл.; Ар.; Хмяльнік Беш. (Ксл.).; Гсл. *Загадуюць на сход ісьці. — мусіць нехта ізь Сьмілавіч прыехаў.* Ст.

**2.** ущерб луны, Нсл. третья фаза луны, Ксл.; Гсл. *Каля сходу, на сходу пасеяў.* Нсл.

*Сход настаець.* Сянно (Ксл.). *Я ня ведаю, калі тый сход, калі маладзік.* Севершч. (Косіч 38).

•**сходаць,**—*см. под ходаць.*

•**сходні**-*няў, мн. ч.*—ступеньки. Гсл.; Ксл. *Я йшоў па сходнях да ракі.* Мазалава Куз. (Ксл.). *См. сходцы.*

•**сходкі**-*каў, единств. ч. нет.*—лестница. МГсл.

•**сходы**-*даў, единств. ч. нет.*—ступени. МГсл.

•**сходцы**-*цаў, единств. ч. нет.*—ступеньки. Гсл. *См. сходні.*

•**схон**-*ну, м.* **1.** скат, наклонение, склон. *Сунуўся далей па схоне, гатовы кажную часіну скаціцца ў ручай.* ЗСД 335. *Узгор'е было перасечана такімі вялізарнымі крутымі разлогамі, схоны якіх абрасьлі.* ЗСД 330.
**2.** откос.

•**сховы**-*ваў*—хранилица, НК: Старцы, 101. хранение. Гсл. **1.** сохранение чего-н. Растсл.; Нсл. *Аддай свае грошы мне ў сховы.* Нсл.
**2.** место, где прячут. ПНЗ. *Каб сховы ніхто не падгледзеў.* Севершч.(Косіч 54).

**добрыя сховы**—сохранность. МГсл. *Пакідай ты сьмерці сховы мураваць.* Гарун(ст. "Муляру").

•**схоўня**-*ні-ні, ж.*—хранилище. БГсл.

•**схоў,** *схову-ве, м.* **1.** действие приберегающего, прячущего, НК: Старцы, Но. 282. хранение. Гсл.
**2.** сам предмет, подлежащий припрятыванию. НК: Очерки, Но. 282.
**3.** место, где прячут, Луні, хранилище. *Добры быў схоў, але знайшлі.* Луні.

•**схоўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—способ хранения. Гсл. *Добрая схоўка была, а злодзей пакраў.* Гсл.

•**схадзіць,**—*см. под хадзіць.*

•**схамянýцца**-*нўся-нèшся-нèцца, нèмся, соверш.*, Растсл.—спохватиться. Ксл. *Ён схамянуўся, бягучы*. Мамойка Беш. (Ксл.). *Схамянуўся ды заднімі днямі.* Нсл. 626. *Тагды дзеўка схамянулася, як у пузе страпянулася. Послов.* Нсл. *Як глянула ў хату, схамянулася — на полю дзяцё прызабылася.* Росуха Імгл.(Косіч 23). *См. ахамянуцца.*

•**схамінáцца**-*дюся-дешся, несоверш.*—опомниваться, приходить в память, в раскаяние, Нсл. 626. спохватываться. *Пачынае схамінацца.*

•**схáп-аваць**-*іць, схàпнуць,*—*см. под хàпаць.*

•**схáп-авацца**-*іцца,*—*см. под хапацца.*

•**схапіць,**—*см. под хапàць, хапіць.*

•**схапіцца,**—*см. под хапацца.*

•**схавáць,**—*см. под хаваць.*

•**схавáцца,**—*см. под хавацца.*

•**схвальшавáць,**—*см. под хвальшаваць.*

•**схудаць,**—*см. под худаць.*

•**схýкнуць,**—*см. под хỳкаць.*

•**сегалéтак**-*тка, м.*—жеребенок самец, переживающиий первое лето. НК: Очерки, 355.

•**сегалéтка**-*ткі, ж.*—жеребенок-самка, переживающая первое лето. НК: Очерки, 355, Но. 540.

•**сегасьвéтны**-*ная-нае*—сего мира. *Калі б з табою сегасьветны пан колька слоў вымавіў, то ты бы радаваўся.* Кіт. 5а3. *Сегасьветнага ядзеньня з табой ня трэба.* Тм. 110а1. *Сегасьветную роскаш за нішто маюць,* Тм. 61а13.

•**сéдава**-*ва, предл.-ве, мн. ч.-вы-ваў, ср.*
**1.**—седалище, место для сидения. Аш.
**2.** сидение в телеге, санях. Войш. *Чаго ты ўсё ёрзаешся? — Калі седава ў возе благое.* Войш.

•**сéдала**-*ла, ср.*—насест, Ксл. насест для кур. Шсл. *Куры ўжо пайшлі на седала.* Шыпы Сян. (Ксл.). *Намасьці курам пад паветкаю седала.* Ст.

•**сéдня**-*ні-ні, ж., мн. ч.-ні-няў, ж.* **1.** сидение. Гсл.; Ар.
**2.** *перен.*—праздная жизнь. Гсл.

•**сéдні**-*яў, мн. ч.*—сидни. Нсл. *У седнях пяць год сядзеў.* Нсл. *Ізь седняў яшчэ ня выйшаў.* Нсл. *Ср. седня. Дадзелі седні.* НК: Старцы, 85.

•**сéяць,** *сèю, сèеш, сèе; повел. сей, сѐйма, несоверш., перех.* **1.** разбрасывать семена на подготовленную для посева почву, сеять. *Сяўбіт сее жыта.* Ар.
**2.** просеивать. Ар. *А мужык мой муку сее, а я рада, што ўмее.* Из песни.

**адсеяць**—вторично засеять. Шсл. *У лагчыне вымакла жыта: надабе адсеяць, хіба, лёнам.* Ст. *Несоверш.* **адсявáць**-*аю-аеш-ае.*

**засéяць**-*èю-èеш-èе, соверш., перех.*—засеять. Шсл. *Несоверш.* **засявáць**-*яю-яèш-яèць*—засевать. Шсл. *Сядні засявалі жыта.* Ст.

•**сéдзень,** *-дня, общ.*—сидень. Гсл.; Нсл. —тот, кто сидит сиднем. ПНЗ. *Маю дзевачку седня: тры гады седням сядзіць.* Нсл.

•**сéдзіны**-*аў, единств. ч. нет.*—заседание.

•**сéджа**-*джы, ж.*—засада на волков, Ксл. засада на диких животных вообще. *Паляўнічыя хадзілі на седжу.* Вульлянавічы Сян. (Ксл.). *Седжу астравую — за капу грашэй(цанующь пры уІвязаньню).* Стт. 277.

•**села-палá!**—призывной клич, обращеный к курице, которую желательно поймать. НК: Очерки, Но. 839.

•**села-села!** — *села-пала.* Ар.

•**селавáя грамадá**—сельское общество.

•**селавы**-*вàя-воe*—сельский. Шсл. *Гэта ж селавыя коні ходзяць.* Ст.

•**селядоўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—сельдяная кадочка. Нсл. 77. *Селядоўка на капусту добрая.* Нсл. *См. селядзёўка.*

•**селядцоўка**-*ўкі-ўцы, ж.* — *селядзёўка.* НК: Очерки, 83.

•**селядзéц**-*дца, предл.-дцу, зват. сялѐдча, мн. ч., дат.-дцом, мн. ч., предл.-дцох, м.*—селадь, селедка. Ар.; Ксл.; Шсл.; МГсл.; Косіч 77; Растсл.;

Нсл. *Купілі два хунты селядцоў.* Ст. *У краму смачныя прывезьлі селядцы.* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Уменьш.* **сялéдчык**-*ыка, предл.-ыку, м.*—селедочка. Шсл. *А добра ізьесьці сяледичка з цыбулькаю.* Ст.

•**селядзёўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—сельдяная бочка. НК: Очерки, 83; Ар.; Шсл.; Ксл. *Насалілі цэлую селядзёўку гуркоў.* Ст. *Селядзёўка цячэць.* Гуліна Сян. (Ксл.).

•**селяпа́йла**-*лы, общ.*—проворно черпающий ложкою. Нсл. *Вытні ложкаю ў лоб селяпайлу гэтага, што ён, ня ждучы парадку, селяпае.* Нсл.

•**селяпа́ць**-*аю-аеш-ае, каго-што, несоверш.* **1.** проворно черпать, хватать, хлебать ложкой. Нсл. *Не селяпай так часта.* Нсл. *Соверш.* **заселяпа́ць**—зачерпнуть. Нсл. 184. *Заселяпаў нешта на дне.* Нсл. *Соверш.* **паселяпа́ць,** *каго-што.* Нсл. *Адзін паселяпаў клёцкі.* Нсл.

**2.** хлестать чем-л. гибким, как бы шелест производя. Нсл. *Не селяпай пугаю, часам па воку селяпнеш.* Нсл. *Однкр.* **селяпну́ць**-*нў-нѐш-нѐць-нѐм-ніцѐ.* Нсл. *Соверш.* **абселяпа́ць** *каго-што*—отхлестать. Нсл. *А што? Абселяпалі сьпіну!* Нсл. 577. *Вушы, плечы табе абселяпаю, калі ўпусьціш каня ў шкоду.* Нсл. 353.

•**сéлішча**-*ча, ср.* **1.**—место, где стоит, стояло селение, Ксл. селение. Гсл.; БНсл. *На старым селішчу будуемся.* Дабрамысьль Лёз. (Ксл.); НК: Очерки, 209.

**2.** место, где было поселение. Гсл.

•**сéліца**-*цы-цы, ж.*—лужок на краю усадьбы. Ксл. *Селіца парасла травою.* Навікі Віц. (Ксл.). *См. аселіца.*

•**сем,** *сямёх, сямём, сямà, на сямёх*—семь. *Як дайшоў сямёх гадкоў, пасьвіў авечкі.* Дзьве Душы 7. *Там было сямёх мужчын і сем жанок. Колькі вас? — Сямёх.*

•**сéменны**-*ная-нае,* **1.** плодовитый. Нсл. 630. *Семенная сьвіньня.* Нсл.

**2.** полный зрелых семян. Нсл. 630. *Семенны гарбуз.* Нсл.

•**сéменьнік**-*ка, м.* **1.** желтый, очень созревший огурец. Нсл. *Купіў ня гуркоў, а сѐменьнікаў.* Нсл.

**2.** человек, у которого есть взрослые(не обязательно взрослые, С.) дети. Нсл. *Добры сяменьнік, пяцёх сыноў мае.* Нсл.

**3.** человек, подающий надежду на потомство. Нсл. *Сын твой ня семеньнік: усе хварэе.* Нсл.

•**сéменьніца**-*цы-цы, ж.*—женщина и домашнее животное плодовитое. Нсл., *жен. к семеньнік 2. Жонка твая семеньніца, што год, то ўдод.* Нсл. *Сьвіньня семеньніца па двананцацёра паросе.* Нсл.

•**сéмя**-*мя, ср.* **1.** вообще семя хлебное и огородное. Нсл. 630. *І семя свайго не зьвярнуў.* Нсл. *Сваім семям засеяў, абыйшоўся.* Нсл.

**2.** (в особенности, С.) льняное семя. Нсл. 630; Шсл. *Сядні ізь семям шмат на таргу.* Нсл. *Дай мне свайго семя.* Пітрашаны Сян. (Ксл.). *Наабівалі шмат семя.* Ст.

**3.** *собир.* **сямéньне**-*ня—льняные семена.* Ар.; Войстама Вял.

**3.** племя. Нсл. 630. *Хвароба табе ізь семям тваім.* Нсл.

•**семя́ністы,** *-тая-тае*—многосемейный. Навасільск. п.(Будде:Т.-Орл. слов.).

•**семярое**—семерное(в семь раз большее, С.) Нсл. 577. *У мяне семярое ў галаве.* Нсл.

•**семяры́к**-*ыкà, м.*—двугривенный, составляющимй по старому счету на ассигнацию семь гривен. Нсл. *Дай, пане, за дровы тры семярыкі.* Нсл.

•**семяры́цца,** *безлич.*—всемеро представляться. Нсл. *У яго ў ваччу семярыцца.* Нсл.

•**сем-дзён**-*на,* **1.** семидневное животное. Нсл. *Жыды сем-дзёна цялё купілі дый зарэзалі.* Нсл.

**2.** шуточно, семидесятилетний старик. Нсл. *Сем-дзён маладзён. Послов.* Нсл.

•**сéміны**-*наў, единств. ч. нет.*—зерновой хлеб предназначенный для посева. НК: Старцы, Но. 6.

•**семдзясят**—семьдесят. Кіт. 98б12.

•**семдзясятсот**—*семьсот.* Кіт. 109а1.

•**семіны**-*наў, единств. ч. нет.*—хлеб и овощи предназначенные для посева. НК: Очерки, Но. 631.

•**сéміны**-*аў, мн. ч.*—семена. Ксл. *К вясьне аўсу засталося толькі на семіны.* Рымары Куз. (Ксл.).

•**семна́нцаць**—семнадцать. *Год семнанцацёх хлапец.* Клінцы(Косіч 63).

•**сена**-*на, ср.*—сено.

**аблогавае сена**—сено с широких межпашенных лужков, а также и прилегающих к пашням возвышенных луговин. НК: Очерки, 460.

**асаклі́вае сена**—сено, состоящее и͗ осоки. НК: Очерки, 461.

**дзятлівае сена**—трава с незначительною долею красного или белого клевера самородка. НК: Очерки, 459.

**камані́чнае сена**—сено пригодное только для овец и коз, которые любят его изза *"гаркавасьці каманіцы"*. Такая трава попадается выхватами на возвышенных сенокосных местах, в соседстве брусничника и плауна; в то же время тут и нахождение сухих с зеленым мхом *"купін"*. НК: Очерки, 461.

**ласі́ньнікавае сена**—сено, в котором встречается *"ласіньнік"*. НК.: Очерки 461.

**ля́давае сена.** НК: Очерки, 460.

**мядунічнае сена**—сено, получаемое из сырых, при-лесных мест, в тесном соседстве с известною медуницею, от которой сено воспринимат запах. НК: Очерки, 460.

**ніўнае сена**—сено с запущенной пахоты и нивы. НК: Очерки, 460.

•**сенажа́тны**-*ная-нае*—сенокосный. Нсл. *Сенажатныя лугі.* Нсл

●**сенажа́ць**-*ці, ж.* **1.** луг, (МГсл.) сенокос, Ксл. сенокосный луг. Нсл. 630; МГсл. *Я сваю сенажаць скасіў.* Пачаевічы Чаш. (Ксл.), *Добрую сенажаць адвялі.* Нсл. *Смаленскі князь Расьціслаў даў біскупу "азёра Нямікорская із сенажатмі... і на Сьверковых Луках сенажаці."* Устаўны ліст Расьціслава 1150 г. *Дзяржыць вон поле і сенажаць нашу.* Гордз. Ак., XУII, 6.

●**сенажаць**-*ці, ж.* **1.** сенокос, луг. Гсл.
**2.** время сенокоса. Нсл. *У самую сенажаць адарвалі мяне ад двара.* Нсл. *Пайду я да тых сенажацяў.* Салавей: Сіла, 46. *Уменьш., ласкат.* **сенажатка**-*ткі-тцы.* Гсл.; Ар. *Дзяржу я поле ў заставе, каторага поля дзядзька яго Некраш мне на шэсьць бочак із сенажаткаю заставіў.* Гордз. Ак. XУII. 6. *Уменьш.* **сенажа́тка**-*ткі-тцы, ж.* —сенокосный лужек, Нсл. лужек. *Сенажатку сваю запрадаў.* Нсл. *Куплю табе хатку, яшчэ сенажатку.*

●**сенава́ць**, *сяну̀ю-ну̀еш-ну̀е; повел.-нуй-нуйма, несоверш.*—производить уборку сена(косить, сушить, возить). Ар. *Пагодаю добра сенаваць.* Ар. *Прасіць стануць Божай Маці: каб жытцо было буйное, сенаваць каб пры пагодзе.* Турыновіч(Калосьсе, кн. I, 1930 г., стр. 31). *Отгл. имя сущ.* **сенава́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—сеноуборка. Ар. *Пашэнціла нам сёлета із сенаваньням.* Ар.

●**сенавя́з**-*зу, м.*—веревочная увязка для сена сзади телеги. Ксл. *Накладзі сена ў сенавяз.* Забуры Гар. (Ксл.).

●**се́начны**-*ная-нае*—сенный, к сеням относящийся. Нсл. 630. *Сеначныя дзьверы ня прыкутаюцца.* Нсл.

●**се́няшні**-*няя-няе*—сенный, относящийся к сеням. *Сядзяць на сеняшнім парозе.* Севершч.(Косіч 19).

●**се́ні**-*няў, мн. ч.*—сени. Ар.; Ксл. *Цераз сені і к нам у хату увыйдзеш.* Берасьні Беш. (Ксл.). *Уменьш.* **сенцы**-*цаў, сянѐц, мн. ч.* Шсл.; Нсл.; Ар. *Паставіў хату безь сянец.* Ст. *У сенцах пастаў ваду.* Ст. *У сенцах пастой.* Нсл. *Бабскія сенцы нідзе не стаяць. Послов.* Нсл.

**се́начкі**-*чак, уменьш. от* сенцы. Нсл. *Сеначкі нашы цесьненькія.* Нсл.

●**се́ніцца**-*іцца, несоверш.*—сохнуть, обращаться в сено(о траве). Шсл. *Трава пачала ўжо сеніцца.* Слопішча Шацк. (Шсл.).

●**серабрыць ваду**—предварительно купания новорожденного класть в купальное корыто какую-л. серебряную монету. НК: Бабы, 9.

●**се́рад**, *нареч.*—среди. Нсл. 578. *Серад лета адышоў работнік.* Нсл.

●**серадоха**—имя коровы, родившейся в среду. НК: Очерки, 357.

●**серадольны**-*ная-нае*—средний по возрасту. Нсл. 578. *Серадольнага брата ўзялі ў некруты.* Нсл. *Ці старшаму, ці малодшаму, ды ці Грышачку серадольшаму.* Из песни, Нсл. *Сравн. ст.* **серадольшы(серадульшы,** Шсл.; Н.)—старший из средних по летам. Нсл. *Серадольшага сына жаніў.* Нсл. *Гумно папала серадульшаму.* Ст. *Аўдоцьця — серадульшая сястра.* Ст. *На другую ноч пашоў серадульшы (сын).* Н.(Афанасьев. ІЭІ, 1914, 292).

●**серадова,** *нареч.*—посредственно, умеренно. Нсл. 578. *Серадова жывем, ні багата, ні бедна.* Нсл.

●**серадовы**-*вая-вае*(**серадавы,** Ксл.) **1.** относящийся к середе, середний. Нсл. *Серадовы хлеб.* Нсл. *Серадовага печыва.* Нсл.
**2.** средний между двумя противоположными качествами, Нсл. средний. Север. (Косіч 76); НК: Пособ. 94. *Серадовы хлеб ямо, ня чысты, дый ня пушны.* Нсл.
**3.** находящийся в средине, средний. НК: Пособ. 94. *Серадоваю дарогаю едзь.* Нсл. *Серадавы жыхар.* НК: Пасоб. 94.
**4.** средний по возрасту, Ксл. средних лет. НК: Под. пос, 32. *Ён быў яшчэ серадавы чалавек.* Мікалаёва Куз. (Ксл.). *Серадоў чалавек.* НК.

●**серада́**-*дъ̀-дзѐ, ж.*—среда(день). Ар.; Север(Раст.: Северск, 30); Гсл.

●**серадава́ць**, -*ду̀ю-ду̀еш-ду̀е, несоверш.* —жить умеренно, посредственно. Нсл. *Не шкадуе, хто серадуе. Послов.* Нсл.

●**серадаві́к**-*кà, м.*—средних лет. Нсл. *Каня серадавіка дастаў сабе.* Нсл.

●**серадня́,** *нареч.*—посреди дня, в полдень, около полдня. Ар.

●**се́ран**-*ну*(-*на,* Нсл.), *м.*—наст, снег, замерзший после оттепели, Нсл. 630; Ксл.; Гсл. оледенелая корка на поверхности снега. *Па серане йдучы, не правалюешся.* Нсл. *За ноч зрабіўся серан такі, што можна йсьці.* Аськершчына Беш. (Ксл.). *Уменьш.* **серанок**-*нкà.* Ксл. *Серанком добра ехаць.* Сянно (Ксл.). *Уменьш.* **сірынок**-*нка.* НК: Под. пос., Но. 96.

●**се́рань**-*ню, м.*—твердый снег. Ксл. *Ідзець серань.* Асінаўка Беш. (Ксл.).

●**сердаво**-*вà, ср.*—злоба. Ксл. *Сердаво яго дужа даўгое.* Даўгое Беш. (Ксл.).

●**сердава́ць,** *сярду̀ю-у̀еш-у̀е, несоверш. на каго-што*—сердиться(злиться, Ксл.) Шсл.; Нсл. 578. *Я дужа сярдую на сябе, што ня суздолю рабіць.* Сьліжыкі Куз. (Ксл.). *Ня варта надта ўжо сердаваць на мяне, калі й так мо' сказаў што.* Ст. *Досіць табе сердаваць на мяне.* Нсл. *Няхай дзед сабе сярдуе: я яму цяпер ня служка.* С. Музыка 118. *Отгл. имя сущ.* **сердава́ньне**-*ня*—действие сердящегося, гнев, Нсл. действие по гл. *сердаваць-цца. Пакінь сердаваньне, сердаваньням не паможаш.* Нсл. *Соверш.* **засердава́ць.** *Браты засердавалі.* Крамушоўка Н.(Демид.: Веров, 92). *Засердаваў на чарта.* Мікольск(Демид.: Веров. 186, I, 100). *Засердаваў Дзямян і пачаў біць іх.* Мікольск М.(Демид.: Веров. 112).

•**сердава́цца,** *сярду̂юся-у̂ешся на каго-што*—гневаться. Нсл. 78. *Ні зашта сярдуешся ты на мяне.* Нсл. *Соверш.* **засердава́цца.** Нсл.—начать сердиться, гневаться. *Ні зашта засердаваўся ты на мяне.* Нсл. *Тут Сымон усердаваўся ды стаў Хайма трасьці.* С. Музыка, 124.

•**се́рка**-*кі, ж.*—сера. Шсл. *Сярнічкі ізь серкі.* Ст. *Выкалупаў із вух серку.* Ст.

•**се́ркі**-*каў, мн. ч.*—спички. Ксл. *Загарэліся серкі й патухлі.* Шарыпіна Беш. (Ксл.).

•**се́рнік**-*ка, м.*—спичка. Гсл. *См. сярнічка.*

•**се́рніца**-*цы-цы, ж.*—маленькая чашечка с серой, служащая для вздувания огня. В серу обмакивают концы тонких лучинок и высушивают их. Такая лучинка, будучи приложена к тлеющему труту(*"цыр"*, С.), быстро воспламеняется. Сержпутовский (Жив Старина, 1909, I,

•**се́сьці,** *сяду, сядзеш, сядзе, соверш.* —сесть. Ар.; Навікі Беш. (Ксл.); Нсл. 630. *Несоверш.* **сяда́ць**-*дю-деш-де*—садиться. Нсл. 630. *Сядай, госьць будзеш. Поговор.* Нсл.

**сесьці кукярэчкі**—сесть на корточки. Ар.

**асе́сьці,** *асяду-дзеш-дзе,* **1.** опуститься к низу, Нсл. 371. осесть. *Хлеб у дзяжы асядае, асеў.* Нсл.

**2.** окружить, садясь вокруг кого-чего-л. Нсл. 371. *Пшчолы вулей аселі.* Нсл.

**3.** осесть, поселиться где-л. *То ў Сібір спачатку зьехаў, а цяпер вунь у Салігорску асеў.* Марціновіч(Беларус, Но. 159).

**асяда́ць,** *несоверш. к асесьці 1, 2.* Нсл. 371. *Няшчасьце асядае мяне.* Нсл.

**асе́сьціся,** *асядуся, асядзешся, соверш.* **1.** утратить решительность, самоуверенность. Дсл. *Мой сын сморгаўся ехаць на Украіну, а як бацька пряшпарта ня даў, асеўся.* Дсл.

**2.** *соверш. к асядацца.* Нсл. 371. *Несоверш.* **асядацца**—быть окружаему. Нсл. 371. *З моладу асядаецца, асеўся дзецьмі.* Нсл.

**абсе́сьці,** *-сядзе-сядзем-сядзеце-сядуць; прош. вр. -сеў-села,* **1.** обсесть, сесть кругом кого-чего-л. *Ці цябе, братка, дробны дзетачкі абселі.* Дсл.

**2.** *деепр. наст. вр.*—окружить, осадить, Нсл. 354. окружить в нападении. Ксл. *Абселі мяне і выйці няма куды.* Нсл. *Як абселі мяне сабакі ў Крынках — ледзь вырваўся.* Крынкі Выс. (Ксл.).

**абсяда́ць**-*де-дем-деце, несоверш. к абсесьці,* **1.** обседать.

**2.** окружать, осаждать, Нсл. 354; Дсл. окружать в нападении. Ксл. *З усіх месцаў абсядаюць мяне злыя людзі.* Нсл. *Абсядае Мар'ячку чужая радзіма.* Дсл. *Абсядаюць неба хмары су ўсіх бакоў.* Тм. *Соверш.* **абсе́сьціся, 1.** окружить себя чем, кем. Дсл. *Абсеўся дзецьмі, як у жыка навокал лапак.* Дсл.

**2.** угомониться, успокоиться. Дсл. *Варка па вуліцы брыкала — заручэнца шукала; цяпер абселася.* Дсл.

*Соверш.* **абсе́дзіцца**-*джуся-дзішся*—успокоиться, сделаться оседлым на более или менее продолжительное время. Дсл. *Абседзіўся рой на сосьне.* Дсл. *Абседзілася купленая курка.* Тм. *Абседзіліся мы ў вас.*

**адсесьціся, адсе́дзіцца**—отстать от долгого сидения в печи(о хлебе). Нсл. 381. *Скарынка ў хлебе адселася.* Нсл. 381. *Ср. адседзіцца 2. Несоверш.* **адсяда́цца**—отставать(о хлебе) Нсл. 381.

**2.** от долгого сидения в печи уждаться, терять хорошие качества. Нсл. 380. *Не давай хлебу адседжавацца: адседзіцца, саладкаў будзе і скарынка адхліпне.* Нсл.

**адседжавацца,** *несоверш. к адседзіцца 1, 2.*

**даседзіць**-*джу-дзіш-дзе, соверш.*—досидеть. Нсл. 143. *Даседжуй свой час, даседзь яшчэ гадзіну.* Нсл. *Несоверш.* **даседжаваць**-*джую-джуеш-джуе*—досиживать. Нсл 143. *Курыца даседжуе яйцы.* Нсл.

**даседзіцца**-*джуся-дзішся. соверш.*—досидеться. Ар. *Не даседзішся, пакуль ён прыдзе.* Нсл. 143. *Несоверш.* **даседжавацца**-*джуюся-джуешся*—сидеть до окончания чего или в ожидании чего. Нсл. 143. *Доўга ты даседжуешся.* Нсл.

**засе́сьці**—сесть, задержаться где-л. на более или менее продолжительное время. *Няго ж табе, кума мая, дома няма дзела, што ты з маім чалавекам у карчме засела. Несоверш.* **засядаць.**

**засесьці дарогу**—устроить на дороге засаду. Стт. 1529, чл. *Есьлі б каторы шляхціч каму іному дарогу засеў або заступіў... хочучы іх зраніць або злупіці або забіць.* Стт. 1529 г., УІІ, 16.

**заседзець,** *соверш. Курыца зьнесла колькі яец ды заседзела, а мы й не абачылі.* Малашкавічы Клім (Бясл.).

**засе́дзіцца,** *соверш. к заседжавацца.* Ар.; Нсл. 188. *Заседзішся, час за табой страцілі.* Нсл.

**засе́джавацца**-*джуюся-джуешся, несоверш. к заседзіцца.* Нсл. 188; Ар.

**ісьсе́сьці,** *ісьсяду, ісьсядзеш, ісьсядзе; прош. вр. ісьсеў, ісьсела- ісьселі; повел. ісьсядзь, ісьсядзьма, соверш. з каго, з чаго*—слезть с лошади. *Борзда ісьсеў із каня ў том часе на зямлю.* Кіт. 11262. *Несоверш.* **ісьсяда́ць**-*дю-деш-де*

**вы́седзіць,** *соверш.* **1.** высидеть, просидеть, пробыть где-л. какое-л. время.

**2.** высидеть птенцов. *Прич.* **вы́седжаны**-*ная-нае*—высиженный.

**высе́джаваць,** *-джую-джуеш-джуе* —высиживать. Ар.

**усьсе́сьці,** *усьсяду-дзеш-дзе, на каго, што, соверш., перех. к сядзець,*—воссесть, сесть веерхом. Ксл. *Быццам сам чорт усьсеў на яго.* Навікі Віц. (Ксл.) *Мужык і шляхціч на каня ўсьсядзе.* Верш Сыракомлі.

●**се́тка**-*кі, ж.* **1.** сеть. Ар.
**2.** вязанный женский платок. Ксл. *Дужа прыгожая сетка.* Вульлянавічы Сян. (Ксл.).
**уклеічная сетка**—прямая, ординарная сеть с густыми ячейками, лишь бы в них могла входить головка уклеи. НК: Очерки, 503. *Уменьш.* **се́тачка**-*чкі, ж.*.
●**се́ты**-*тая-тае*—сеянный. *Сета, сета на новае лета.* Росуха Імгл.(Косіч 59).
●**се́вер**-*ру, м.*—северный ветер. Ксл. *Па северу хадзіў— прахаладаўся.* Красьніца Чаш. (Ксл.). *Ср.* *сівер.*
●**Северанін**-*на,* **Северанка**-*кі, ж.*—мужчина, женщина северского племени белорускага народа. *Уменьш.* **Сяўру́к**-*ка, мн. ч.-кі. Сяўрук на вясельлю бываў, Сяўрук і гарэлку піваў.* Чартовічы Сур. Север.(Шэйн, II, 178).
●**се́вераць**-*аю-аеш-ае*—трескаться от ветра(о ногах, руках). *Ногі севераюць.* Ар. *Соверш.* **пасе́вераць**—потрескаться от ветра. Ар. *Рукі пасеверала.* Ар. *Лыткі пасевераўшы да крыві.* Я. Г-кі: Казкі, Но. 3, стр. 14.
●**сець-аднапрадка**—сеть, прядущаяся особенным образом. Дсл. *Закінулі сецьаднапрадку.* Дсл.
●**се́чанка**-*нкі-нцы, ж.*—рубленные овощные отбросы, для корма свиней и птиц. НК: Под. пос. 36.
●**се́чава**-*ва, ср.*—вид корыта. Ксл. *Папраў сечава, а то няма ў чым сьвіньням храп'я насячы.* Бешанковічы (Ксл.).
●**се́чка**-*чкі-чцы, ж.* **1.** резак, Шсл. тяпка, орудие с короткой рукояткой, употребляемое для рубки корнеплодов и травы. Ар. *Сечкаю пасячы бульбу.* Ст. *Прынясі сечку, насячы сьвіньням ахрап'я.* Краўцова Гар. (Ксл.).
**2.** мелко порезанная солома(клевер и т.п., Ар.) для корма скота. Ар.; Шсл. *Цэлы воз нарэзалі сечкі.* Ст.
●**се́чанка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** изрубленные *"сечкаю"* стебли огородных растений для корма свиней. Нсл. 631; НК: Очерки 81. *Сечанкаю прыкормлюем сьвіньні.* Нсл. *Дзеці за даўгі дзень насеклі з крапівы й макрыцы сечанкі сьвіньням.* Гарэцкі: Песьні, 12.
**2.** свиной корм из рубленных овощей. НК: Пособ., Но., 35.
**3.** изрубленная солома для кормления лошадей и коров, резка. Нсл. 631. *Сечанку падмешуем у вавес.* Нсл.
●**сёлета,**(Растсл.; ПНЗ; Цс. Католіна Росл. у. Рапст.: Смоленск 139)—в этом(в текущем, Ар.; Гсл.) году, Шсл.; Ар.; Гсл. этого года(текущего года), Ар.; Гсл. сего года. Ар.; Нсл. 577; Ар.; Гсл. *Сёлета надабе ждаць сухога лета.* Навікі Віц. (Ксл.). *Сёлета быў благі ўраджай.* Павульле. *Судзі, Божа, табе то, хоць ня сёлета, дык на толета.* Севершч. (Косіч 241). *Сёлета на жыта будзе ўраджай.* Раўнапольле Сьміл. (Шсл.). *Сёлета жарабілася кабыла.* Нсл.
●**сёлетак**-*тка*—самец животное(теленок, жеребенок, козленок) родившееся в текущем году. Ар. *Жарабок сёлетак.* Нсл.
●**сёлеташак** — *сёлетак.* Нсл. *Бычок сёлеташак.* Нсл. *Уменьш.* **сёлетачак**-*чка.* Нсл. *Жарабочак сёлетачак.* Нсл.
●**сёлетка**-*ткі, ж.*—родившаяся в этом году, Нсл. животное самка(телка, жеребенок, козленок, ягненок) родившееся в текущем году. Ар. *Цяліца сёлетка.* Нсл. *Сёлетка прапала ў лесе.* Лужасна Куз. (Ксл.).,—животное(обыкновенно телка) родившееся в этом году. НК: Очерки, Но. 40; Ар.
●**сёлеташка**-*шкі* — *сёлетка.* Нсл. *Цяліцу сёлеташку прадаў.* Нсл.
●**сёлеташні** — *сёлетні.* Нсл. *Сёлеташняя вясна ўся была дажджлівая.* Нсл.
●**сёлетні**-*няя-няе*—текущего года, Ар.; Ксл. относящийся к нынешнему году. Нсл.; Гсл. *Сёлетняе жыта неумалотнае.* Беліца Сян. (Ксл.). *Сёлетняга жніва.* Нсл.
●**сёмка**-*кі, ж.*—семерка в игральных картах. Нсл. *Кладзі званковую сёмку.* Нсл.
●**Сёмуха**-*хі. ж.* **1.** пятница седьмой недели после Пасхи, празднуемая простолюдинами как Духовская пятница. Нсл. *Сьвятая Сёмуха гнаі возе, гнаі возе ды Бога просе.* Из волоч. песни, Нсл.
**2.** праздник Св. Тройцы. Ар.; Шсл. *На Сёмуху буду жаніць сына.* Ст.
●**сёмы**-*мая-мае*—седьмой. Нсл.; Ар. *Сёмы дзень, як паехаў.* Нсл.
●**сёрб**-*бу; мн. ч. сярбы̀-боў-бом-бы̀-бамі-бох. м.* **1.** глоток(напитка, С.) Нсл. 577. *Адным сёрбам выпіў.* Нсл. *Гэта яму на адзін сёрб мала.* Нсл. *Пазваў да аднаго сёрбу.* Нсл. *Жарэць у сем сярбоў з аблізам.* Віраўляны Гар.(Ксл. *под абліз*).
**2.** звук при хлебании. Нсл. 577. *Еж бязь сёрбу.* Нсл.
●**сёрбаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., што*—хлебать. Ар.; НК: Очерки, 61, Но. 117; МГсл.; Ксл. *Сёрбай болей крупніку.* Ст. *Сёрбай, пакуль пойдзеш з торбай.* Аляксандрава Гар. (Ксл.). *Ня сёрбай ты так, ня хораша.* Рыбчына Сір. (Ксл.). *Однкр.* **сербану́ць** *-ну̀-нѐш-нѐць-нем-ніцѐ*—хлебнуть. Ар.; Ксл. *Сербані хоць крыху малака.* Машчоны Сян. (Ксл.). *Сербануў раз буракоў ды кінуў: гарачыя.* Ст. *Хачу сербануць пастаялачкі.* Гнілуша Сур.(Сержп.: Отчет, 14). *Соверш.* **засёрбаць,** (Нсл. 184)—начать хлебать. *Соверш.* **насёрбацца**-*аюся-аешся*—наесться жидкого, нахлебаться. *Насёрбаўся крупніку з малаком.* Ст. *Соверш.* **пасёрбаць** —похлебать. Ар.; Шсл. *Пасёрбаў крупнічку з малачком.* Ст.
●**сёстранька,**—*см. под* *сястра.*
●**ся!,** *междомет.*—ша!. Ар. *Ціха, ся! ня крычыце!* Ар.
●**сяброўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—женщина *"сябра",* Пархв. *Ён пайшоў да свае адзінае, добра знаёмае сяброўкі.* Корзюк. *Бачым,*

*стаіць сяброўка ля акна.* Гамолка. *Па сяброўках журыцца вярбіна.* Кавыль: Пад зорамі, 17. *Ну, заставайцеся здаровенькі, сяброўка! Не закідайце працы!* Дзьве Душы 186. *Адна сяброўка другой не пакіне.* Акула, 504.

•**сяброўства**-*ва, мн. ч.-вы-ваў, ср.*—состояние *"сябрам". У старыну мы вадзілі сяброўства.* Рвбчына Сір. (Ксл.).

•**ся́бра**-*ры, дат, вин., предл., зват.-ру; мн. ч. сяброве, мн. ч., дат.-ром, мн. ч., предл.-рох, м.* **1.** член(какой-л. организации, партии). МГсл.; БГсл. *Пленум... будзе весьці бараць-бу з усімі тымі... хто будзе прадаваць, навязаваць... масе сяброў антыпралетарскія тэзы.* Асьвета, 1929 г., Но. 10, стр. 9. *Я сябра партыі.* Макаёнак: Каб людзі... *Па іх пойдзе сябра.* М. Вольны(Б. Ускалось, Но. 6, 23). *Вось хто сябра мой.* Крушына: Творы, 128. *Твае вусны сакаўныя, як віно з гатункаў лепшых, што цячэ да майго сябры.* Тм. 131. *Хто ж усходзе, абапершыся на свайго каханка-сябру?* Тм. 132.

**2.** сотоварищ (Нсл. 631), соучастник в деле, работе, в общем имуществе; коллега. *Мы зь ім школьныя сябры. Мой сябра адзін уганяўся за музай.* Яз. Пушча. *Прышоўся ізь сябрамі сваімі.* Нсл. 631. *Колькананцаць учасьнікаў або сяброў у вадной рэчы адцягалася.* Стт. 171. *Як брацьцю нядзельную або ўчасьнікаў, то есьць сяброў пазываці.* Стт. 247. *Пятрок быў мой сябра, зь ім мы доўга сябравалі.* Рыбчына Сір. (Ксл.). *Яны сябры меж сабою, а я чужы.* Нсл. 631. *Мой цяжкі стан паправіў спагадлівы сябра.* Караньдзей(Бацьк., Но. 1-2/437-438). *Блізкі твой калымскі сябра.* Клішэвіч (Прыйсьце, Но. 1). *Імкні ж, імкні мой сябра верш.* Сяднёў(Б. Моладзь, Но. 18, 13). *Сядзеў сябра ягоны.* Гамолка. *Між іх знайшоў спакой сябра мой.* Салавей. *Старасьць ня радасьць, а поп ня сябра.* Рапан.: Прык. 68. *Адзін наш добры сябра паходзе з Грэску.* Бацьк., Но. 49(533). *Прыпамінаецца нам адзін сьв. памяці сябра.* Бацьк., Но. 3(538). *Я найлепшы сябра сонцу.* Салавей: Сіла, 10.

•**сябраны́**-*ная-ное,* **1.** принадлежащий двум, нескольким или многим членам( *"сябром"*), кооперативный, артельный. *Колька брацьці або ўчасьнікаў дзяржалі адно йменьне сябраное.* Стт. 247.

**2.** относящийся к сотоварищам, соучастникам, коллегам.

•**сябрава́ць**-*ру̀ю-ру̀еш-ру̀е; повел.-руй-руйма, несоверш. зь кім,* **1.** быть совместно в кем-л. членом какой-л. организации, партии. *Калісь мы зь ім сябравалі.* Рыбчына Сір. (Ксл.).

**2.** быть кому-л. сотоварищем, соучастником в каком-л. деле, работе, имуществе; быть коллегом. *Зь людзьмі сябруе, хату вартуе,, жывець пад ганкам, хвост абаранкам(сабака).* Рапан. 346.

**прысе́брыцца**-*руся-рышся, соверш., возвр.* —пристать со стороны к каому-л. делу, не имея никакого права. Нсл. 510. *І ты тут прысебрыўся! цябе тут не прасілі.* Нсл.

•**сябру́к**-*ука̀, предл.-уку̀, зват.-у̀ча; мн. ч.-укі̀-укоў-ком-коў-камі-кох, м.* **1.** член какой-л. организации, партии.

**2.** сотоварищ, соучастник в деле или работе(в имуществе, С.) Нсл. 631. *Субраліся сябрукі.* Нсл. 631. *См. сябра.*

•**сябры́ха**-*ыхі-ысе, ж.*—общественная земельная собственность(поле, луг, лес). Ар. *Калі будзем сябрыху касіць?* Ар.

•**сябрына́**-*ны̀-не, ж.*—артель, МГсл. кооператив.

•**сябры́ня**-*ні-ні, ж.*—женщина *"сябра"*. Сц. *См. сяброўка.*

•**сягодні,**—*см. под*—сегодня. Ксл.; Шсл.; Нсл. *Што сягодні рабілі, то й заўтра будзем рабіць.* Запярыньне Пух. (Шсл.). *Сягодні пайду на кірмаш.* Шарыпіна Беш. (Ксл.). *Сягодні сьцюдзена.* Нсл.

•**сяголета,** *нареч.*—в этом году, в текущем году. *Сяголета яму мутарна прышлося.* Севершч.(Косіч 233). *См. сёлета. Сяголета ліхі год.* Жукова Імгл.(Косіч 31),—этот год, Растсл. в этом году. Шсл. *Сяголета бульба не ўрадзіла.* Ст.

•**сяголетак**-*тка, м.*—жеребец или бычок (козел, баран) однолеток, Шсл.; Ксл. животное(теленок, жеребенок), родившееся в текущем году. Север.(Косіч 233). *Ягоны жарабок сяголетак, а выдаець на два гады.* Ст. *Сяголетка прадалі даўно.* Навікі Віц. (Ксл.).

•**сяголетка**-*ткі, ж.*—однолетка телка. Шсл. *Прадаў сяголетку цялушачку.* Ст.

•**сяголетні**-*няя-няе*—текущего, этого года. Шсл. *Змалоў ужо сяголетняга збожжа.* Ст.

•**сяга́ць**-*а̀-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* (Кур., Даль)—протягивать(руку с целью что-л. взять). *Рукамі сягаў на дзерава.* Кіт. 57а9. *Хмары сягалі сонца засланіць.* Салавей: Сіла; 34. *Да ідылі сягаем думкамі.* Тм. 48. *Сягаў выходзіць з хаты.* Жылка, 101.

**асяга́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, повел.-ай-айма, несоверш. каго, што,* **1.** букв., делая большие шаги, опереживать, Нсл., *перен.* превосходить кого в чем. Нсл. 371. *Маладзец і бацьку й майстру асягае, асягнуў.* Нсл.

**2.** достигнуть, достичь. *Асягнеш радасьці узьвіў.* Кавыль; Ростань, 36. *Соверш.* **асягчы́**-*ну̀-неш-не, перех.*—превзойти. Нсл. *См. асягаць.*

**дасяга́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е; повел.-ай-айма, несоверш. к дасягчы*—достигать. МГсл.; Гсл.

**2.** простираться. Гсл.

**дасяга́ньне**-*ня, ср.*—достижение. Гсл. *Соверш.* **дасягчы́**-*гну̀-гнеш-гне, повел.-гні-гні̀ма, прош. вр. дасяг-гла-глі,* **1.** достичь. Гсл. *Ты дасяг свайго.* Крушына: Лебедзь, 60.

**2.** достать до чего. *На кані стоячы, рукою дасягчы.* Радзів. лет., 86.

•**сяда́ш**-*ша́, м.*—насконник. Eupatorium cannabinum K. *Зарві, панюхай сядаша.* Цэпляні Сян. (Ксл.).
•**сяда́ць**-*а́ю-а́еш-а́е, несоверш.*—садиться. Вят., Вост.(Даль); Ар.; Нсл.; МГсл. *Сядай, госьць будзеш.* *Послов.* Нсл. 630. *Сядайце на коні.* Тм.
•**сядла́ць**-*а́ю-а́еш-а́е, несоверш., перех.*—седлать. *Соверш.* **засядла́ць**—оседлать. *Засядлаў каня й паехаў нейдзе.* Юркаўка Крыч. (Бясл.). *Засядлай каня ды зьяжджай з двара, ты ня мой, я не твая!* Из песни(Бясл.).
•**ся́дня,** *нареч.—сядні. Сядня дзядзька назваў ягонае жыцьцё амаральным.* Шанун: Сьлед, 18.
•**ся́дняшні**-*няя-няе*—сегоднешний. Ксл. *Прыдзі, прыдзі, мой міленькі, на сядняшні вячарок.* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.).
•**ся́дні,** *нареч.*—сегодня. Нсл.; Ксл.; Вост., Кал., Смл. (Даль). *Я цябе ня сядні знаю.* Нсл. *Мы сядні закапалі лехі.* Застадольле Сян. (Ксл.). *Вялікі кавалак шнюра ўзараў сядні.* Нсл. 226.( *под кавалак*).
•**сядні́к**-*ка́—сяньнік.* Шсл. *Вузкі мой сяднік — няма як і спаць на ім.* Дукора Сьміл. (Шсл.).
•**сядра́вы**-*вая-вае*—холодноватый. Ар. *Вецер сядравы павеяў над борам, хмарамі лісьця абсыпаў кусты.* Из одной национально-революционной белорусской песни 1917 г. *Сядзелі ля агню, грэючыся, бо ноч была сядравая, а хата досыць халодная.* Тат.: Кво вадыс, 178. *Вецер сядравы пранёсься над борам.* Гарун: Белр. марш. *У сядравым ветру ляжы душа.* Бацьк., Но. 34(740).
•**ся́драва,** *нареч.*—холодновато. Нсл. *Сядні сядрава на двару.* Тм.
•**сяду́н**-*уна́, предл.-уну́, зват.-у́не; мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.* **1.** калека, не могущий ходить.
**2.** (о ребенке), поздно начинающий ходить. *Доўга я ня мог хадзіць — да пятага году — ізвалі мяне сядуном.* Б. Шляхам, Но. 113.
**сяду́нчык**-*ыка, предл. и зват.-ыку, уменьш. к сядун 1, 2.*
•**сяду́ра**-*ры-ру, предл.-ру, общ.*—сидень. *Як я быў малады, то пабываў па ўсім сьвеце, ня так, як ты, сядура, баішся зь месца зрушыцца.* Слаўнае Імсьц.(Бясл. *под зрушыцца*).
•**сядзе́льня**-*ні, ж.*—сидение в телеге, в санях. Ксл. *Папраў сядзельню.* Гравы Сян. (Ксл.).
•**сядзе́нь**-*дзеня, общ.*—неповоротливый-ая, любящий-ая забавляться(засиживаться, С.) там куда, послали. Нсл. *Во! сядзеня Бог нам даў, куды не пашлі, то й заседзіцца.* Нсл.
•**сядзе́ньне**-*ня — сядзельня, седава.* Ксл.
•**сядзецца,** *седзіцца, безлич. несоверш.*—сидеться. *Табе штось не сядзіцца.*
•**сядзе́ць**-*джу́-дзі́ш-дзі́ць*—сидеть. Ар.; Н.(Афанасьев, I, 1913, 212). *На гранай нядзелі Русалкі сядзелі.* Росуха Імгл.(Косіч 14). *Соверш.* **усе́дзець**—усидеть. Ар.; ЗСД 149. *Хіба ж усёдзіш у хаце спакойна?* Марціновіч(Беларус, Но. 459). *Зь нецярплівосьці ня мог усёдзець.* Акула, 516.
**адсе́дзіць**-*джу-дзіш-дзе, соверш., каго, што,* **1.** окончить назначенное время сидения, Нсл. 380. отсидеть. *Кажан няхай сваё адседжуе, а я сваю ноч адседзіў.* Нсл.
**2.** отсидеть члены тела до онемения. Нсл. 380. *Усё на руках седзячы, рукі мне адседзіла дзяўчынка.* Нсл.
**3.** (о хлебу)—довести до пересидения. Нсл. 380. *Нядобрая ты гаспадыня, што хлеб у печы адседжуеш, адседзіла.* Нсл.
**адсе́джаны,** *прич. к адседзіць 1, 2, 3. Адседжаная букатка хлеба саладкава.* Нсл. 380.
**адсе́джаваць** *-джую-джуеш-джуе, каго-што, несоверш. к адседзіць,* **1.** оканчивать назначенное время сидения, Нсл. 380. отсиживать.
**2.** отсиживать члены тела до онемения. Нсл. 380. *Седзячы на нагах, ногі сабе адседжуеш, адседзіш ты.* Нсл.
**3.** (о хлебу)—доводить до пересидения. Нсл. 380.
•**сядзёр,** *м.*—сок. Барс., Пл., Лепл.
•**сядзёрысты**-*тая-тае*—сочный. Барс., Пл., Лепл.
**сядзёрысты сок, гарэлка**—довольно сильный. Бегамля(Юхн.). *Ср. сядравы вецер.*
•**сядзі́ба**-*бы, ж.*—усадьба. Шсл.; Ар.; Ксл. *На старой сядзібе жывець.* Забабуры Гар. (Ксл.). *Наша шырокая сядзіба.* Белае Пух. (Шсл.). *Сядзіба наша нявыгодная.* Нсл. 630. *На чужой сядзібе асяліўся.* Нсл. *Матузок падыймаецца, выходзе за сядзібу.* Цялеш: Дзесяць, 33. *См. сяліба.*
•**сядзі́бны**-*ная-нае*—усадебный. Ар. *Яны пасуць на сядзібнай.* Ар.
•**сядзючы**-*ая-ае*—сидящий. Нсл. 630. *У сядзючым палажэньню засьпеў яго.* Нсл. *Вырас ізь сядзючага сабаку.* Нсл.
•**сяк,** *нареч.*—этак. Нсл. *І так і сяк і прабаваў я рабіць.* Нсл.
•**сяк-так,** *нареч.*—кое-как. Шсл. *Кідаемся сяк-так памаленьку.* Ст.
•**сяка́нка**-*кі, дат., предл. сяканцы. ж.* **1.** суп из того же теста, что *"зацірка"*, мелкоизрубленного и завянувшего, даже засушенного; готовится подобно *"зацірцы"*, НК: Очерки, 17. кушание из мелко изрубленного теста,(Ксл.) жидкое кушание из мелких кусочков теста. Гсл. *Сяканку паставілі на стол.* Узнор Гар. (Ксл.).
**2.** крупа, сделанная из мелко изрубленного пшеничного теста. Нсл. 630. *Сяканкі на сьнеданьне звары.* Нсл.
•**сякаво,** *нареч.* (о чем-л. близком, С.) — таково. *Сякаво жывем.* Нсл.
•**сяка́ч,** *секача́, предл.-ачу́, зват. сяка́чу; мн. ч.-чы́-чоў-чы-чамі-чох, м.* **1.** железко на(длинном, С.) древке рубить траву,

клубнеплоды, Ар.; Ксл. резак. Шсл. *Бяры сякач і сячы храпу.* Жукава Аз. (Ксл.). *Бяры сякач і насячы каровам бульбы.* Ст. *Секані секачом, дык і расьсячэш.* Нсл. 630. *У тры секачы сякуць, аднаго рака пякуць. Послов.* Нсл. 630.
**2.** дровосек. Н. Рудня Вял. *Секачы сякуць лес.* Н. Рудня Вял. *Гэта(Кузьмы й Дзямяна) выдуманае сьвята, так званы Кузьма-сякач, каторы не шкадуючы пасячэць усе градам, калі ў гэты дзень рабіць.* Косіч 21.
**3.** лесоруб. Н. Рудня Вял. *Уменьш.* **сякáчык**-*ка, предл.-ку, м. Кіну крывуліцу чэраз тын на вуліцу, сякачыкі сякуць, Андрэй паварочавае(лыжка, язык, зубы).* Рапан. 324.
•**сякáчнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—работник, занимающийся рубкой капусты или овощных отбросов. НК: Под. пос. 35.
•**сякі́-такі́,** *местоим.*—кое-какой. Шсл. *Ат, сякі-такі парос ячмень.* Ст. *Сякі-такі мужчына, альбы дровы ды лучына. Прыпеўка.* Ст.
•**сякі́ра**-*ры-ры, ж.*—топор. Аль Кітаб 78а10.
•**сякéра**-*ры-ры, ж.*—топор. Ар.; Шсл.; Нсл.; Міхалі Куз. (Ксл.). *Ёмкая Цімакова сякера.* Ст. *Каткі сякераю пасяку, ня езьдзі па сенажаці.* Нсл. 630. *Уменьш.* **сякéрка**-*кі.* Нсл. 630; Шсл.; Ар. *Сякерку вытачыць.* Нсл. *Лясьнік адабраў у лесе сякерку і дровы ськінуў.* Ст.
**сякéрачка**-*чкі, уменьш. от сякерка.* Нсл. 630. *Лёгенькая сякерачка.* Нсл.
•**сякі́ра**-*ры, ж.*—топор с широкой клинообразной лопастью, с прямым лезом с плоским обухом, треугольным праухом и плоской, в конце изогнутой рукоятью. НК: Очерки, 345.
•**сялó**-*ла, мн. ч. сёлы,*— деревня. Шсл.; Ксл. *Пайду на сяло.* Лужышча Гальшанск. вол., Аш. *Няхай бацька па сялу паходзе.* Грц.(Кот. 204). *У сяле, як у сіле. Послов.* Ст. *Калі б без азану(араб., гуканьне пяцьцём на малітву) у каторым месьце, або ў сяле, азан ня пеўшы, нэмаз(араб. малітву) пелі б, вольна цэсару казаць тых людзей выцяць.* Кіт. 88а17. *Што ж мы вашэці скажам, простыя ж зь сяла дзяўчаты?* ЧЧ.(Б. Студіс, II-I, 1969 г, стр. 70). *"Ловаў зьвярыных нікаторых нет, адно акалічныя села, гонячы, зьвер да іх з прыгоды запудзяць."* Даўгяла: Сьвіслацкая воласьць у 1560г.(Наш Край, 1927 г., XII, стр. 30). *Каля сяла цячэць рака.* Вульлянавічы Сян. (Ксл.). *Прышоў у вадно сяло.* Дзяніскавічы НЗ.(Шэйн II, 162). *Была адна баба ў сяле.* Дубровічы Н.(Демид.: Веров. 101). *У нашым сяле пяюць харошыя песьні.* Косіч 66. *Якубе, пойдзем на сяло!* Шарыпіна Беш.(Ксл.). *Жыў сабе ў ...*
•**сёстранька**-*кі, ж.—ласкат. к сястра, сястрыца. Разлучылася я із сваею сёстранькаю.* Нсл. 578.
•**сястры́ца**-*цы,* **1.** *уменьш., ласк. от сястра,* Ар. *Да душы ж, мая сястрыца, праўда!* Чаш. (Ксл.).
**2.** обычное обращение к сверстнице, неродственнице, соответствующее подобному же обращению мужчин, когда те употребляют слова: *"брат, браток, братулька, брацiня, браханька, братанька"* и др. НК: Очерки, Но. 350.
•**сястрýхна**-*ны-не, ж.* Нсл. 578 *ласк. от сястра.*
**сястрýля**-*лі, ж., ласк от сястра.*
**сяструлька**-*лькі, ж., уменьш. от сяструля. Сяструлька мая, жыва ты будзеш пс самую сьмерць.* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.).
•**сястры́чыч**-*чà, предл.-чỳ; мн. ч.-чы-чаў, м.*—сын сестры. *Сястрычыч Міндоўгаў.* П.С.Р. лет. II, 201,—племенник по сестре. *Ср. сястрычна. Ср. братаніч,* сын брата.
•**сястры́чна**-*ны-не, ж.*—дочь сестры. *(Прасіў Вітаўта Ягайла пасватаць за яго) у князя Сямёна сястрычну яго меншую Софію, іжбы яе за сябе паняў... А тыя сястрычны князя Сямёна былі дачкі князя Андрэевы Альгімонтавіча Гальшанскага.* Летапісец Быхаўцаў, стр. 518. *Ср. братанічна.*
•**сявáлка**-*лкі-лцы, ж.—сяўня, сявенка.* НК: Очерки, 85.
•**сявалка**-*лкі, ж.* **1.** кузов для рассеивания зерна, (Шсл.) сеялка; лукошко, из которого сеют зерновый хлеб. Нсл. 630. *Дзед сплёў сявалку.* Беш. (Ксл.) *Увесь ячмень расьсеяў, у сявалцы засталося ўсяго якая жменя.* Ст. *Поўную сявалку насыпаў бобу.* Нсл. 630.
**2.** *бранное,*—толстобрюхий мужчина, женщина. *Сявалка ты, барзьдзей кратайся!* Ст.
•**сяўбá**-*бы̀, ж.* **1.** посев, ПНЗ; Растсл. действие по глаголу *сеяць.* Ар.; Гсл. *Сяўба ўжо скончана.* Шчарбакі Куз. (Ксл.). *Я сваю сяўбу скончыў.* Нсл. 630.
**2.** время сева, посев. Ар.; Шсл. *Цяпер самая сяўба аўсу.* Нсл. 630. *Адыйдзе сяўба, тады будзем каля дому ўпраўляцца.* Ст.
**3.** зерна для посева. *Пайду сеяць, дзе сяўба?* Войстама Вял. *Вольна будзець пану Варпехаўскаму яго тую сяўбу пажаць.* Квятк. 158.
•**сяўбі́т**-*ітà, предл.-ітỳ, зват.-іце; мн. ч.-тытоў-том, мн. ч., предл.-тох, м.*—сеятель. НК: Очерки, Но. 378, Б. 443; НК: Под. ппос. 32. *Наш бацька сяўбіт на ўсё сяло.* Беш. (Ксл.).
•**сяўкі́**-*кàя-кое*—такой, которым малым на вес количеством можно много засеять(о семенах). Аш.
•**сяўня́**-*нì, ж.*—лукошко, из которого сеют. Мяжа(Ксл.)—*сявалка. Мер сяўнёю!* Нсл. 630. *Сяўні дзьве ня стала дасеяць грэчкі.* Войстрава СьМіл.(Шсл.); Гсл.; Ар. *Заўтра яго возьмуць падносіць сяўню.* Дзьве Душы 38.
**сявéнька**-*кі-цы, ж. уменьш. от сяўня,* лукошечко, из которого сеют. Ар.; Шсл.

*Пара ўжо браць сявеньку ды сеяць памаленьку.* Ст. *Сявеньку канапель даў.* Нсл. 630.

**сяве́нка**—сеялка. Гсл.; Ар.

•**Сяўру́к,**—*см. под Севяранін.*

•**сячонае мяса**—котлета. НК: Очерки, 96.

•**сячонка**-*нкі-нцы, ж.*—дробь, изготовляемая рассеканием обыкновенной пули. НК: Очерки, Но. 969.

•**сячка́рня**-*ні-ні, мн. ч., род.-няў, ж.*—соломорезка. Гсл.

•**сячы́,** *сяку̀, сячэш-чэць-чэм-чыцѐ, каго-што. несоверш.*—сечь. *Дзяўчына сячэць буракі.* Ар. *Секачы сякуць лес.* Н. Рудня Вял. *Сякучы дровы, пасек сабе нагу.* Нсл. 630. *Соверш.* **пасячы́**—порубить. Ар. *Шайтане, цябе на штукі хто пасячэ? Мяне на штукі пасякуць тыя людзі, каторыя ўсягды Пана Бога хваляць.* Кіт. 59611. *Прич.* **пасечаны**—..... *Буракі пасечаны.* Ар.

**пасячоны**-*ная-нае*—порубленный, изрубленный. *Палеглі... з пасячонымі плячыма.* Гарун: Зь песьняў няволі.

**абсяка́ць**-*аю-ае, каго-што, несоверш.* **1.** об-(от)рубливать.

**2.** говорить резко(и метко, С.) в опровержение доказательств чьих-л., обрезывать(меткими, С.) возражениями, Нсл. обрезывать, осаживать, Гсл. прерывать, останавливать, резко опровергать. *Ты яго троху абсякай, бо баўтае няма ведама што.* Дсл. *Добра ты яго абсякаеш і гукаць яму няма чаго.* Нсл. *Соверш.* **абсячы́,** *абсяку̀, абсячэш-чэць-чэм-чыцѐ, абсякуць,* **1.** обрубить. Ар.; Шсл.; Гсл. *Хіба каб лёд абсячы, ато можна кінуцца ў студню.* Ст. *Надабе абсячы суччa на гэтым дзерве.* Лужасна Куз. (Ксл.).

**2.** обрезать, осадить. *См. абцяць, под цяць.*

**адсяка́ць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш. к адсячы, перех.* **1.** отсекать. *Отгл. имя сущ.* **адсяканьне**-*ня, ср.*—отсечение, отрубание. *Адсяканьне канцоў.* Нсл.

**2.** отстранять, отлучать. *Не адсякайце, братцы, мяне ад сябе.* Нсл. 381.

**3.** резко, дерзко(остро, метко, С.) отвечать. *Ну, добра ты яму адяскаеш, адсек.* Нсл. *Соверш.* **адсячы́(адсеч,** Ксл.)-*ку̀-чэш-чэць-чэм-чыцѐ-куць,* **1.** отрубить, отсечь. Ар.; Гсл.

**2.** вырубить(несколько, С.). *Імне далі адсеч толькі поў сажня дроў.* Азярэцк Сян. (Ксл.).

**3.** отстранить, удалить, отлучить. *Малодшага брата ад сябе адсек, у прыстані аддаў.* Нсл. 381.

**4.** прекратить разом(внезапно, вдруг, С.) какое-л. действие. Дсл. *Як палаяліся із суседкаю, яна адгэтуль адсекла да мяне хадзіць.* Дсл.

**асяка́ць,** *каго-што, несоверш.*—обрезывать, осаживать. Гсл. *Соверш.* **асячы́,** *каго-што*—обрезать, осадить.

**расьсяка́ць,** (Скар. Ц.)—разрубать. Ар. Крапіва. *Соверш.* **разрубить.** Ар.

**высяка́ць**-*аю-аеш-ае, каго-што, несоверш.*—вырубать. МГсл.; Ар.

**усьсяка́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш. к усьсеч (усьсячы).*

**усьсе́ч,** *усьсяку̀-сячэш-чэць-чэм-чыцѐ, усьсякуць*—зазубрить о что-л. твердое косу или топор. *Усьсек касу аб камень.* Пожынкі Сян. (Ксл.).

•**сячы́ся,** *сяку̀ся, сячэшся,* **1.** *страд. к сячы* — сечься. *Дровы сукаватыя, ня добра, ня борзда сякуцца.* Нсл. 630.

**2.** *взаимн.*—сильно ссориться. *Зуб за зуб сякуцца.* Нсл. 630.

**3.** огрызаться, отражать нападение многих. *Зубаты на ліха, сячэцца не паддаючыся.* Нсл. 630. *Соверш.* **сьсячыся зь кім**—срезаться. *Сьсекся дужа зь імі.* Нсл. 630. *Сьсекліся міжсобку.* Нсл.

**4.** о тканях: рваться, ломаться, сечься. *З таўстога палатна нагавіцы сякуцца.* Ар.

**абсяка́цца,** *зав. к абсячы.*

**абсячыся**-*куся-чэшся, возвр., соверш., перех.* **1.** быть резко(и метко, С.) изобличену в своих неосновательных суждениях. *Ага, сам абсекся! ужо ня тое загукаў, як уперад.* Нсл.

**2.** попасться вследствие своих слов, проговориться. *Ага! гаварыў на нас дый абсекся.* Нсл. 354.

**3.** потерпеть неудачу в своих предположениях; потерпеть в чем-л. неудачу; прервать неудачное действие. Дсл. *Абсекліся мы ў гэтым нашым падарожжу.* Нсл. *Езьдзіў Галавень на ўлу̀сы, а тапер абсекся, як праўчыў пан.* Дсл.

**адсяка́цца,** **1.** *страд. к адсякаць,*—отсекаться, быть отсечену.

**2.** отделяться. *Сястрыца наша ад нас адсякаецца.* Нсл.

**3.** (быстро, метко, С.) отражать от себя нападение других или чью-л. брань. *Хлапец наш майстра адсякацца.* Нсл. *Соверш.* **адсячыся,**— *страд. к адсячы,* —быть отрублену, отделиться (*ад каго*). *Сястрыца наша ад нас адсеклася ўжо.* Нсл., *ад каго*—(остро, метко, С.) отразить от себя на падение других или чью брань. *Хлапец наш хоць ад чарта адсячэцца.* Нсл.

**асяка́цца,** *возвр., несоверш.*—обрезываться на слове или поступке, ошибаться. Гсл. *Соверш.* **асячы́ся, 1.**—обрезаться на слове или поступке, ошибиться, неожиданно оборвать речь; запнуться. *А што, асекся твой язык?* Гсл.

**2.** о прекращении удачи, счастья в чем-л. *Во як зраньня йшла на вуду рыба, а па паўдні як асеклася.* Дсл.

•**Сібі́р**-*ру, предл.-ру, зват.-ру, м.*—Сибирь. *Мусіў у далёкім Сібіру цярпець кару.* Бацьк., Но. 38-39(573-574). *Зьгінула ў далёкім Сібіру.* Гарун: Сьвята.

●**сіг,** *сіга, м.*—шаг. МГсл.; Гсл. *Адным сігам дастану.* Нсл. *Толькі яны ступілі колькі сігоў, як блізюхтанька з варот пасыпаліся леварвэрныя стрэлы.* Дзьве Душы 92.

●**сіга́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е.* Арл., Кал., Тамб. (Даль) —шагать. Растсл.; ПНЗ; Гсл. *Адважна сігаў па лужынах.* ЗСД 22. *З табою ня згонішся, як ты сігаеш.* Нсл. *Цені далёка сігалі пераз вуліцы, запаленыя сьвятлом.* Сяднёў: Корзюк. *Однкр.* **сігнуць**-*ну-неш-нець-нем-ніцѐ.* Арл., Кал., Тамб. (Даль)—шагнуть. Гсл. *Тут не далёка; разы тры сігнуць.* Нсл. *Однкр.* **сігану́ць**—шагнуть. *Вунь заяц пабег, а то воўк сігануў ад дарогі, бач, на сажань скочыў.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, 2 из 1935 г., стр. 96). *Соверш.* **засіга́ць**—начать шагать, зашагать. *Засігаў, па хаце ходзячы.* Нсл. *Андрэй сярдзіта ўстаў і засігаў па пакою.* ЗСД 200. *Соверш.* **пасіга́ць** —пошагать. *Пасігаў далей.* ЗСД 32. *Мароз махнуў рукой, угнуў галаву і вàгкім сігам пасігаў да школы.* Вышынскі: Хата пад ліпою.

**асіга́ць.** *несоверш.*—обгонять, превосходить. Дсл. *Сын бацьку ў п'янстве асігае.* Дсл. *Соверш.* **асігнуць**—превзойти. *Бацька быў п'яніца, а сын бацьку асігнуў.* Дсл.

●**сіге́нь**-*гня, м.*—шаг. Растсл.; ПНЗ.

●**сігнуць,**—*см. под сігаць.*

●**сікі**-*каў, единств. ч. нет.*—моча. Ар.

●**сіку́ха**-*ухі-усе, м.* **1.** мочащаяся под себя. Ар.

**2.** *перен.*—нервная, скоро раздражающаяся.

●**сіку́н**-*унà-унỳ, зват.-ỳне; мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—мочащийся под себя. Ар.

●**сіло**-*ла̀, ср.*—силок, Ар.; Шсл.; Гсл. западня. Ксл. *Паставіў Мікола сіло і ўляцеў верабей.* Санікі Беш. (Ксл.). *У сяле, як у сіле.* Ст. *Хоць лезь ты ў сіло.* Сяднёў(Бацьк., Но. 46-47/530-531).

●**сі́ла**-*лы-ле, ж.* **1.** сила, Ар. мощь. МГсл.

**2.** верх, власть. *Сілу ˇзяў над намі.* Нсл. *Сілу мае не дазволіць табе гэтага.* Нсл. *Уменьш.* **сілка**-*кі, ж.*—силушка. *Сілку сваю згубіў.* Нсл. *Якая сілка, такая й ськібка.* *Послов.*, Нсл. *Ніўка, ніўка, аддай маю сілку, што я цябе жала, сілку раняла.* Дсл. 235(*под зажын*).

●**сіламоц,** *нареч.*—насильно. МГсл.

●**сілава́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—усилие. *Ср. сілавацца.*

●**сілава́цца**-*лỳюся-лỳешся*—стараться с усилием. *Сілуешся адабраць; як ні сілуйся, не адбярэш.* Нсл. 579.

●**сіля́ць**-*я̀ю-я̀еш-я̀е, каго-што, несоверш.* **1.** черпать. Растсл.; ПНЗ. *Ты вялікія кавалкі сіляеш, а на другіх не ўважаеш.* Нсл. 579.

**2.** ловить, посредством силка или уду, удить. Мокрае; Гародзькі Вал.; Кацельня Пц. *Сіляць птушкі.* Мокрае. *Сіляць рыбу вудою.* Нсл. 579. *Сядзіць вудаль на ляду, падпер кіям бараду; сілявачку сіляе, на вячэру зьбірае.* Из песни, Нсл. 579.

**3.** зацеплять. НК: Старцы, Но. 51. (*Убогі*) *Сумон сіляе пугай дзеці, дый кладзець у торбу.* НК: Старцы 84. *Ляціце вы, апеканы, на тую душу, сіляйце ж вы яе пад скабы круччам.* Дсл.( *под апекан*).

**4.** закидывать, набрасывать петлю, надевать что-л. посредством петли. (Нсл. 184). *Соверш.* **абсіляць**-*яю-яеш-яе*—обвешать. Дсл. *Абсіляў жонку кралямі.*

**5.** нанизывать(на нитку, Гсл.) НК.: Старцы, 51; Гсл. *Соверш.* **насілі́ць**—нацепить, навесить, нанизать. НК: Под. пос., Но. 21. *Я у мора зьнясу гора, я й камень насілю.* НК: Под. пос, стр. 38.

**6.** вешать(за шею, на виселице) *Хто віно п'е, душу сваю сіляе.* Кіт. 114а4.

**засілі́ць**-*лю-ліш-ле, соверш., каго-што,* **1.** зачерпнуть. Мокрае. *Засілю я з крыніцы халоднай вадзіцы.* Сяднёў. *Засіліў поўную ложку клёцак.* Нсл. 184.

**2.** поймать в силок, Растсл. поймать удою. *Засіліў вялікую рыбіну.* Нсл. 184.

**3.** зацепить. Гсл.

**4.** набросить петлю, надеть что-л. посредством петли. *Засіліць каня.* Нсл. 184. *Засіліць торбу на шыю.* Тм.

**5.** повесить(за шею, на виселице).

**высіліць,** *каго-што, соверш.* **1.** вычерпать, исчерпать. *У студні ўсю ваду высілілі.* Мокрае.

**2.** выудить. Кацельня Пц. *Высіліла рыбу сілом.*

●**сіля́цца**-*я̀ецца. несоверш., страд. к* сіляць. *Рыба тут добра сіляецца.* *Соверш.* **абсіля́цца**-*я̀юся-я̀ешся чым*—обвешаться. *Паляўнічыя йдуць із паляваньня зайцамі абсіляўшыся.* Дсл.

●**сілітаваць,** *-тую-туеш-туе, несоверш.* —спешить(? С.). *Ён сілітуе гаварыць.* Краснае Сяло Беш. (Ксл.).

●**сі́ліць**-*лю-ліш-ле, каго-што, несоверш.* —принуждать. *Ня сіль яго, калі ня хоча піць.* Нсл. *Соверш.* **зьнясі́ліць,** *каго-што* —обессилить. *Зьнясіліла цябе гэта хвароба.* Скобраўка Пух. (Шсл.). *Яны мяне, якую лёс зьнясіліў, запрацаваным хлебам накармілі.* Дуб.: Чые рукі прыгожшыя? *Соверш.* **перасі́ліць.** *Прич.* **перасілены.** *Трахім быў здаровы мужчына, але цяпер перасілены.* Ст.

**бясьсі́ліць,** *несоверш.*—обессиливать, лишать силы. БНсл. *Соверш.* **зьбясьсі́ліць** —обессилить.

**насі́ліць, 1.**—усильно упрашивать сделать что-л. против желания. *Не насіль дачку выходзіць за яго.* Нсл. 318. *Соверш.* **знасі́ліць.** *Насіліш, знасіліў яго выпіць.* Нсл.

**2.** изнасиловать. *Ён і хацеў, але не задалося яму знасіліць дзяўчыну.* Бяседавічы Хоцім.(Бясл.).

**прысіля́ць**-*я̀ю-я̀еш-я̀е,* **1.** неволить(принуждать, С.). Гсл.

**2.** усиленно потчивать. Гсл.

**3.** привязывать, прикреплять. Гсл. *Соверш.* **прысі́ліць,** *каго-што*—принудить. Шсл. *Прысілілі лішняе выпіць.* Нсл. 579. *Ніяк не хацеў, але прысілілі выпіць.* Ст. *Мяне ня прысіляць, калі я не хачу.* Нсл. 510. *Прич.* **прысі́лены**—силою приведенный к чему, принужденный. *Прысілены выпіў.* Нсл. *Прысіленая вышла замуж.* Тм. *Не давала рады прысіленая набожнасьць дзядоў і бабулек.* Гарэцкі: Песьні, 80.

**высіля́ць**-*я́ю-я́еш-я́е, нв., каго-што* —выжимать, насильно прижимками отнимать. *Апошнія грошы высіляюць.* Нсл. *Соверш.* **вы́сіліць,** *каго-што*—выжать, насильно прижимками отнять. *Апошнія грошы высілілі.* Нсл. 94. *Прич.* **вы́сілены, 1.** силою притеснениями отнятый. *Высіленым грошам не разжывешся.* Нсл.
**2.** истощенный. *Зусім высіленыя хлопцы ў вас.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Высіленым канём не пацягнеш дужа.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **высіле́ньне**-*ня, ср.* **1.** истощение сил чрез напряжение, истощение. Гсл. *Не падымай да высіленьня.* Нсл. 94. *Працаваць да высіленьня.* Тм.
**2.** изнурение. МГсл.

**высілёны,** *прилаг.,*—тоже, что *"высілены"* в обоих значениях, но берется как прилагательное. *Гэта высілёныя грошы.* Нсл.

**•сі́ліць**-*лю́-ліш-ле, каго-што, несоверш.* —подкреплять пищею силы. *Сілі, куме, дзеткі свае.* Нсл.

**засіля́ць, -я́ю-я́еш-я́е, каго-што, нв.** —подкреплять. Нсл. *Пан засіляе нас па троху.* Нсл. 184. *Засіляй пшчолкі мёдам, будзеш мець раёў.* Нсл. *Соверш.* **пасі́ліць,** *каго-што*—подкрепить пищею силы чьи-н. *Пасілі дзеткі свае на дарогу.* Нсл.

**•сі́ліцца**-*люся-лішся, возвр.*—усиливаться, домагаться, насильно что-л. хотеть сделать; насиливаться. Шсл. *Ср. сі́ліць.* —делать какое-л. усилие, пытаться сделать что-л. *Няма чаго сі́ліцца аднаму, я памагу.* Ст. *Куды ты сілішся ўлезьці сюды? бачыш народу сіла, не пралезеш.* Нсл. *Ён сіліўся перабіраць у памяці ўсё пераж ытае.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 1-2/437-438). *Соверш.* **засі́ліцца**-*люся-лішся, возвр.* **1.** зацепиться. Гсл. *Засіліўся колам за плот.* Чарнагосьці Беш. (Ксл.).
**2.** повеситься. *Ён нешта ўзімку хацеў засіліцца.* Навасёлкі Сян. (Ксл.). *Думаў чамусьці аб тым, на якой яблынцы ляпей за ўсё было б засіліцца.* ЗСД 181. *Ажаніўся, як засіліўся.* Нсл. 184. *Соверш.* **перасі́ліцца**-*люся-лішся*—подорвать силы. Шсл. *Перасіліўся падыймаючы бярвіно, дык жывот баліць.* Ст. *Прич. прош. вр.* **перасіліўшыся.**

**бясьсіліцца**-*люся-лішся, несоверш.*—обессиливаться, терять силу. БНсл. *Соверш.* **зьбясьсіліцца**—обессилиться.

**высіля́цца**—брать сверх сил, истощаться в силах вообще. *Высіляецца дарма над гэтаю касьбою.* Лужасна Куз. (Ксл.) *Ня высіляйся над гэтым цяжарам.* Нсл. *Соверш.* **вы́сіліцца**—истощиться в силе, Нсл. 94. истощиться, лишиться сил. Гсл. *Высіліўся, апошкі аддаў.* Нсл.

**усіля́цца,** *-яюся-яешся*—употреблять усилие к достижению чего-л. *Усіляйся, ня ўсіляйся, ня возьмеш.* Нсл. 665. *Соверш.* **усі́ліцца,** *-люся-лішся. Усіліўся такі ехаць.* Нсл. 665.
**2.** *возвр. у што,*—попасть в силок. *Птушка ўсі́лілася.* Гародзькі Вал.

**•сілі́цца,** *несоверш., возвр.*—подкрепляться едою. *Сіліся, куме, на дарогу.* Нсл. *Вазьмі ў палцы відзёлку, калупай мяса дый сіліся.* Сакуны 76. *Соверш.* **пасілі́цца,** *возвр.* —подкрепиться едою. *Зойдзем у карчму, пасілімся.* Нсл.

**•сілком,** *нареч.*—насильно. МГсл. *Абаўець сілком рукамі за шыю.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, Но. 2, 1935 г., стр. 97).

**•сілкава́цца**-*ку́юся-ку́ешся, возвр., несоверш.* —подкрепляться едою. Гсл.; Шсл.; Нсл. *Сілкуйцеся, мужчынкі, ды йзноў за работу!* Ст. *Сілкуйцеся, сваточкі!* Вал. *Сілкуйся, мая свацька, сілкуйся!* Губіца Сір. (Ксл.). *Не кажы нічога, сынку, адно сілкуйся аладкамі.* Цэлеш: Ярылаў агонь. *Соверш.* **падсілкава́цца,** *возвр.*—подкрепиться пищею. Шсл. *Я падсілкаваўся на ўсю раніцу.* Ст. *Отгл. имя сущ.* **падсілкаваньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—подкрепление. МГсл.

**пасілкава́цца,** *возвр.*— подкрепиться пищею, Шсл.; Вал. подкрепляться, особенно пищею. Нсл. 478. *Вы тут сілкуйцеся, пасілкуйцеся, пакуль я збвярнуся.* Нсл. 579. *Пасілкаваўся троха: скварку сала з блінам ізьеў.* Ст. *Пасілкуйцеся з дарогі.* С. Музыка 91. *Пасілкуйцеся на дарогу.* Нсл. 478. *Як хлапец пасілкаваўся, яна яму кажа.* Каласкі, Но. 29-30, стр. 5. *Соверш.* **усілкавацца,**
**1.** набраться сил, усилиться. Гсл.
**2.** подкрепиться. Гсл.

**•сіне́льня**-*ні, ж.*—красильня, красильная фабрика. *Завезьці сукно ў сінельню.* Нсл.

**•сіне́льнік**-*ка, м.*—красильщик(делающий набойки, Ксл.). *Сукно завязі да сінельніка, няхай пахварбуе зялёна.* Нсл. *Сінельнікам доўга быў.* Ісачкова Аз. (Ксл.).

**•сіне́ньнік**-*ка*(**сінельнік,** МГсл.), *м.*—красильщик. МГсл.

**•сьсіне́лы**-*лая-лае*—ссиневший. *Дрыжэлі парасьці сьсінелых.* Крушына(Зьніч 1952 г., Но. 20, 5). — *пасінелы. Глядзелі на пасінелы тварык малога.* ЗСД 347.

**•сіня́к**-*ка̀, м.*—синяк на теле, Шсл. синий знак на теле от удара, синево. Ар. *Сінякоў нарабіў на целе.* Нсл. *Так зьбіў яго, што сінякі паўсхопляваліся на плячо* Ст. *См. сіняўка.*

•**сінявод,**—*см. под конікі.*
•**сіня́вы**-*вая-вае*—синеватый. Гсл. *У яго сінявых ачох срабрысты адліў.* Дальны (Калосьсе, кн. I, 1935 г., стр. 14).
•**сіня́ўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—синее пятно на теле от удара; синево, синяк. *Цела ўсе ў сіняўках.* Нсл.
•**сіняці́на**-*ны-не, ж.* **1.** крашенное в синий цвет полотно(сукно, Нсл.). *Ізь сіняціны спаднік пашыла. Сьляпцы Гар.(Ксл.). Андарак із сіняціны.* Нсл.
**2.** верхняя одежда из домашнего(или фабричного, С.) синего сукна. *Апрані сіняціну.* Нсл. 579. *Уменьш.* **сіняці́нка**-*нкі-нцы, ж.* Нсл. 579.
•**сі́ні**-*яя-яе*—синий. Ар. *Ласкат.* **сі́неньки.** *Уменьш.* **сіня́вы**—синеватый. *Сінявая пляма.* Нсл. *Сінявае палатно.* Тм. *Сінявая вада.* Тм. *Увелич.* **сіню́сенькі**—синёхонький. Ар. *Рука сінюсенькая.* Нсл. *Сравн. ст.* **сі́ньшы**—посинее. *Тваё сіньшае сукно чымся маё.* Нсл. *Прев. ст.* **найсі́ньшы.**
•**сінь**-*ні-ні, ж.*—синева. Гсл.
•**сі́нька**-*нькі-ньцы, ж.*—лазурь, употребляемая для подсинивания белья(при стирке, Ар.; Шсл.). Нсл. 519. *Купі сінькі на хусьце.* Нсл. *Сінькі перадала — хусьце будзе брыдкое.* Ст. *Паедзеш да места, купі там сінькі.* Хмары Куз. (Ксл.).
•**сінь**-*ні-ні; мн. ч.-ні-няў, ж.* **1.** синяя ткань. НК: Очерки, Но. 344.
**2.** синева. Гсл. *Сінь азёраў.* Салавей: Сіла, 84. *Вадаводы дзесяткі міляў за Сыднэям ляжаць зьверху на зямлі пад адкрытым небам, на якім не абачыце ні воднае хмаркі — суцэльная сінь.* Сьцяблевіч(Бацьк., Но. 1-2/437-438). *І лыне ў грудзі... неба сінь над галавой.* Жылка, 99. *Зь зяленіваў зямных, з вышынных сіняў, беляў тут гутарыў з імной развважлівы .*
•**сінь-порах,** *сіня-пораха*—малейшая часть, пылинка. *На сінь-порах усё пабраў, нічога не заставіў.* Нсл. *Сіня-пораха ня было ў роце.* Нсл. *Ані сінь-порах не пачынаў рабіць.* Нсл.
•**сіньце́ж**-*жы-жы, ж.*—сено, скошенное по верху льда, плохого качество. *Сіньцежы накасіў з вазок.* Русаковічы Пух. (Шсл.).
•**сіньцю́га**-*гі, ж.*—верхняя одежда из фабричного цветного сукна или из окрашенного домашнего. *У сіньцюгу ўбраўся, дык і пан вялікі стаў.* Нсл.
•**сіню́ха**-*хі-се, ж.*—лучина, приготовленная из верхнего слоя дерева; не дымит. *Засьвяцеце вялікую сінюху.* Крамяні Пух. (Шсл.).
•**сіпонька**—*нькі-ньцы, ж., област.*—супонь. Ксл. *У хамуце сіпонька парвалася — надабе новая.* Косы Віц. (Ксл.). *См. супоня.*
•**сіпала**-*лы, общ.*—сиплый-ая, с сиплым голосом. Гсл.
•**сіпа́та,** *нареч.*-сипло. Гсл.
•**сіпа́ты,** -*тая-тае*—сиплый. Гсл.; Нсл.; МГсл. *Сіпаты голас.* Нсл. *Сіпатая курыца.* Нсл.
•**сіпа́ць**-*ае, несоверш.*—говорить сиплым голосом. Шсл. *Застудзіў горла, дык сіпае.* Ст.
•**сіпе́ць**-*плю-піш-піць,* **1.** говорить сиплым голосом. Нсл. 579. *Ад крыку сіпіць.* Нсл.
**2.** шипеть. Гсл.; Косіч 88; Гбр.; Нсл. *Зьмія сіпіць.* Нсл. *Гусь сіпіць.* Нсл.
**3.** *перен.*—злиться, показывать негодование. Нсл. *Кажан дзень сіпіць на мяне.* Тм. *Я кажан дзень сіплю на яго, што ён у карчму ходзе.* Нсл. *Дзед , Апанас сіпеў.* Крушына("Зьніч", 1952, Но. 18). *З грыменьням налятаў поезд на масты, паціху сіпеў пад гару.* Дзьве Душы. Что касается глагола *"сіпець"*, то его употребление разнообразное и причудливое; *зьмія сьвякрова "сіпіць"*, простудившийся *"сіпіць"*, сырые дрова *"сіпяць"* в печи и проч. НК: Очерки, Но. 222. *Отгл. имя сущ.* **сіпе́ньне**—шипение. Гсл. *Соверш.* **засіпе́ць, 1.** начать хрипло говорить. *Ад кашлю дзеўка засіпела.* Нсл.
**2.** зашипеть. Нсл. 579. *Гусь засіпела.* Тм.
**3.** начать злиться, показывать негодование. Нсл.; Дсл. *Чаго ты засіпеў на мяне?* Тм. *Як толькі чалавек крануўся зь месца, як усё тое гадаўё, што было ў торбе, засквірлася, засіпела.* Вымеа Віц.("Крывіч", Но. 1, 1926 г., стр. 68). *Чаго крычыце?—засіпеў.* Люціч(Бацькаўшчына, Но. 41-32, 1953 г., стр. 6). *Засіпела вада.* Сакуны 74. *Засіпела сьвякрывя на нявестку.* Дсл.
**4.** о вьюге, ветре. Дсл. *Соверш.* **прасіпе́ць, 1.** прошипеть.
**2.** выразить негодование. *Стары недалужна зморшчыўся й прасіпеў.* ЗСД III. *Рыштант! Сацаліст! Ідзі туды, адкуль прышоў, — раптам прасіпеў ён.* Дзьве Душы 71.
•**сі́пка**-*кі, ж.* **1.** сипота, Нсл. охриплость. НК: Очерки, Но. 222. *Сіпка ў горле стала.* Нсл.
**2.** дифтерит. Ар. *Дзеці хварэюць на сіпку.* Ар. *Сіпку дастаў.* Нсл.
•**сіпучка**-*чкі-чцы, ж.* **1.** шипучий напиток. НК: Очерки, Но. 222.
**2.** змея. НК: Очерки, Но. 222.
**3.** гневная женщина. НК: Очерки, Но. 222.
•**сі́пці**—*ну-неш-не*—сипнуть. *Соверш.* **асіпці**—осипеть. Шсл., осипнуть. *Нашто п'еш сьцюдзёную ваду? — хочаш асіпці?* Ст. *Асіпла ў горле.* Ст. *Я цяпер асіпшы.* Ст.
**асіплы**—осипший, осиплый. *Сноўдаўся "Карла", аддаючы загады грубым асіплым голасам.* ЗСД 165. *Захроп асіплы ад зморы паравік.* ЗСД 177.
•**сіроцкі**-*кая-кае,* **1.** свойственный сироте(относящийся к сироте, С.). Нсл.
*Сіроцкае жыцьцё — дзе дзень, а йдзе ноч.* Нсл.
**2.** о зимнем времени, не жестокий. Нсл. *Сіроцкая сёлета зіма.* Нсл. *Сіроцкія маразы.* Нсл.

•**сірочы**-*чая-чае*—принадлежащий сироте, сиротский. Нсл. *Сірочую часьць забраў.* Нсл. *На сірочае дабро намагаеш.* Нсл.

•**сіратá**-*ты̀*, *общ.*—сирота. Ар. *Уменьш.* **сіротка**-*кі*, *общ.*—сиротка. Ар. *Ласкат.* **сіротанька**-*кі*. Нсл. *Сіротанькам гэтым няма да каго прыгарнуцца.* Нсл. *Единств. ч.* **сірацїна**-*ны*, *общ.*, Нсл. 579. *Сірацїну ўзяў да сябе.* Нсл. *Уменьш.* **сірацїнка**-*нкі*, *общ.*—сиротка. Нсл. *Дзевачку сірацінку прыняла да сябе.* Нсл. *Ой па чым пазнаць красну дзевачку, што яна сірацінка?* Из нар. песни. *Засталася я мала сірацінка.* Новы песеньнік,

•**сірацїць**-*чу̀-ціш-це, каго-што*, *несоверш.* **1.** *букв.* делать кого-н. сиротою. Ар.; Нсл. *Аддаючы мяне ў некруты, дзеці мае сіроціш.* Нсл.

**2.** повергать в жалкое положение, лишая чего-л. необходимого. Нсл. *Як можна сірацiць так чалавека, апошнюю карову выводзячы на падаткі!* Нсл. *Соверш.* **асіраціць,** *каго-што.* Нсл.; Ар. *Хочуць казу забіць, дзеці асіраціць.* Росуха Імгл.(Косіч 57). *Прич.* **асірочаны**—оставленный сиротой. Нсл. 367. *Адзін сын і тый асірочаны маткаю.* Нсл.

**пасірацїць**-*чу̀-ціш*—осиротить многих. *Гэта твая маці так нарабіла, нашы дробны дзетачкі дый пасіраціла.* Шапачкі Імгл.(Косіч 23). *Міхале, Міхале, пасіраціш ты свае дзеці сваей адвагай.* Ар.

•**сірбалїны**-*наў*—черная малина. НК: Очерки, 480.

•**сірын**-*на*, *предл. и зват.-не*, *м.*—весенний снег с ледянистой корой. НК: Под. пос., Но. 96. *См.* *серан.*

•**сітá**-*ты-це*, *ж.*—среднеозерный *"адмен"*, поросший тростником или камышом. НК: Очерки, 489. *См.* *трыста.*

•**сїта**-*та*, *ср.*—сито.

•**сїтаваты**-*тая-тае*—ситовидный. Шсл. *Сітаваты дуб на шула ня годзіцца.* Ст.

•**сїтам,** *нареч.*—очень мелко, подобно, как мука сыплется из сита. Нсл. *Корабам сонца, сітам дождж. Поговор.* Нсл.

•**сїтнік**-*іка*, *предл.-іку*, *зват.-іча*, *м.* **1.** мастер по изделию сит. Шсл. *Сітнік бердніку не таварыш.* *Послов.* Самін Пух. (Шсл.).

**2.** **сітнік**-*ку*—полубелый, сытный хлеб. НК: Очерки 38, 84; Ксл. *Сітнік прыядаецца, а хлеб не.* Бель Выс.(Ксл.). *См.* *сітніца.*

•**сітнік II**-*ку*—речной и озерный камыш, НК: Очерки, Но. 35. камышовая заросль. Ксл. *У сітніку яе злавіў.* Лужасна Выс. (Ксл.).

•**сїтніца**-*цы*, *дат., предл.-цы*, *ж.*—полубелый, ситный хлеб. НК: Очерки 38; Ар.; Шсл. *На месьце купілі сітніцы й селядцоў ды папалуднавалі.* Ст. *Сітніцу прывезьлі з торгу дзяцём.* Нсл. 580. *Уменьш.* **сітнічка**-*чкі-чцы.* Нсл.

•**Сїтцо**-*цà*—созвездие Плояд, крестьяне по нему определяют время. Шсл. *Поўнач і наагул пару ночы пазнаюць у нас начлежнікі па групцы зорак, якую завуць Сітцо.* Вожа Брсл.(А. Красеневіч).

•**сїтца**-*ца*, *ср.*—сетка от пчел. Шсл. *Надзень сітца, каб пчолы не пакусалі.* Ст.

•**Сїтцы**-*цаў*—созвездие Плеяд. Ксл. *Сітцы ўжо высака.* Слабодка Куз. (Ксл.). *См.* *Сітцо.*

•**сіва-барáнкавы**-*вая-вае*—сделанный из сивых мерлушек. Нсл. *Сіва-баранкавая шапка, хутра.* Нсл.

•**сівагрáк**-*акà*, *предл.-аку*, *зват.-àча; мн. ч.-акї-акоў-аком-акі-акамі-акох*, *м.*—сивоворонка, птица. Гсл.; Нсл. 579.

•**сівагрáк**-*ка*, *м.*—сивая ворона. Гсл. *Страляй сівагракі; іх можна есьці.* Нсл.

•**сівáк**-*кà*, **1.** сивая лошадь. Нсл. *Запражы сівака.* Нсл.

**2.** шуточно, человек с седыми волосами. Нсл. *Сівак сіваком*—(т.е. седехонек). Нсл. *Уменьш.* **сівачок**-*чкà.* Нсл. *Хоць сівачок, ды жвавенькі.* Нсл.

•**сївер**-*ру*, *м.*—холодный северный ветер. Ар.; Ксл.; Шсл. *На дварь такі сівер, што ня ўтрываць.* Ст. *Сівер падзьмуў.* Макаравічы Беш. (Ксл.).

•**сївераць**-*аю-аеш-ае*, *несоверш.* **1.** подвергаться действию *"сівера"*, вообще ветра. Шсл. *Выкінь на двор гуньку, няхай сіверае.* Ст. *Соверш.* **прасівераць**-*аю-аеш-ае*—проветриться, побыть на свежем воздухе. Шсл. *Павешала ўсю адзежу на дварэ, каб прасіверала, бо моль есьць.* Ст.

**2.** сидеть в девах. Шсл. *Сіверае дзеўка ўжо каторы год; ніхто сватацца й ня думае.* Ст. *Соверш.* **вы́сівераць**—просохнуть от ветра. *Няхай хусьце добра высіверае на дварьі.* Ст.

•**сіве́ц**, *сіўцà*, *м.*—в вымокшей ржи растущая трава, от зерен котрой испеченный хлеб бывает черен, Нсл. белоус обыкновенный.[Nardis stricta L.] Шсл. *Жыта із сіўцом.* Нсл. *У жыце шмат урадзіла сіўца.* Нсл. *Урадзіўся сівец, жыту канец.* *Послов.* Нсл.

•**сіве́ц**—белоус, сорное растение. Гсл. *См.* *пясьцюк.* Гсл. *У лозцы добры сівец атрос.* Ст.

•**сївець**-*ею-ееш-ее.* Нсл. 578, **сіве́ць**-*èю-èеш-èе*, Нсл. 579; Ар.; Гсл.; Шсл., *несоверш.*—седеть. Нсл.; Ар.; Гсл.; Шсл. *Валей у дзеўках сівець, чымся за дурным мужыком паршывець.* *Послов.* Нсл. 578. *Старасьць ужо падходзе, валасы сталі сівець.* Ст. *Ад гора валасы сівеюць.* Нсл. 579. *Соверш.* **пасівець**—поседеть несколько. *Ад гора галава пасівела.* Нсл. 579. *Прич.* **пасівелы**—поседевший. *Коціцца пад нагамі стары, пасівелы Дняпро.* ЗСД 35.

**сьсіве́ць**—совершенно стать седым. *Галава твая сусім сьсівела.* Нсл. 220. *Прич.* **сьсівелы**—совершенно поседевший. *Валасы твае сусім сьсівелыя.* Нсл. 220.

•**сівїзна(сівізнá**, Ар.)-*ны-не*, *ж.*—седина. Гсл.

●**сіві́зна**-*ны*( **сівізна́**-*ны̀*) Ар.; Раст.: Северск. 135.—седина. Нсл.; Гсл.; Шсл.; Ар.; Север(Раст.: Северск. 135). *Сіві́зна ў бараду, а чорт у лядзьве.* *Послов.* Нсл. *Сівізна пайшла ў галаве.* Ст.

●**сівы́**-*вая-вое*( **сі́вы,** Нсл.)—седой. Нсл.; Гсл.; Ар.; Павульле Чаш. (Ксл.). *Сіваму ўсякі павера.* Нсл. *Мужык, сівая барада, купляй абаранкі.* Нсл. *Сіў, як лунь.* Нсл. *Ласкат.* **сівенькі.** Ар. *Увелич.* **сівю́сенькі**—седехонький. Ар.; Нсл. *Барада сівюсенькая стала.* Нсл.

●**сіўка-варонка**-*кі*—ракша, сизоворонка, Coracias garrula L. Імсьц., Касачы Лёз. (Ксл.). сивоворонка. Нсл. 578. *Во каб сіўкуваронку ўлавіць.* Тм. *Трупік сіўкі-варонкі.* ЗСД 281. *Сіўку-варонку паймаў.* Нсл. *Сіўкаваронка, далігойда, куды палуцела, далігойда.* Из песни, Нсл.

●**січаво**-*ва̀, ср.*—кусок стали для высекания огня. Ксл. *Ці ёсьць у цябе січаво?* Воўкасьць Лёз. (Ксл.).

●**скогат**-*ту, м.*—вой, вопль. Гсл.

●**скок,** *отгл. частица*—прыг. Нсл.; Ар. *Скок на лаўку.* Нсл. *Птушачка скок у пастку.* Нсл.

●**скок,** *скоку, предл. скоку, зват. скоча, м.* **1.**—прыжок. Гсл.; Ар.

**2.** скачка. Нсл. *Скок не харошы ў каня.* Нсл.

**3.** танец. Гсл.; Растсл.; Ксл. *Зоська із Сьцяпанам пайшла ў скокі.* Альшанка Чаш. (Ксл.). *Пачынаюцца скокі.* (Кот. 206). *Галабокі пашлі ў скокі.* Из песни, Нсл.

●**скокам,** *в см. наречия*—прыгая. Нсл. *То бокам, то скокам.* Нсл.

●**скокі**-*каў, единств. ч. нет.*—танец, НК: Игры, Но. 24. танцы, Гсл. пляска, танцы. МГсл. *Будуць карагоды й скокі.* ЗСД 280. *Ад скокаў хата аж гудзела.* Клімовіч: Каліна. *Гоман, граюць, гэтта скокі вырабляюць.* Гарун: Кан. Паўлючонка. *Кума пусьцілася ў скокі.* Кл.: Каліна, 13.

●**скокнуць,**—*см. под скакаць.*

●**скомчыць,**—*см. под комчыць.*

●**скон**-*ну, предл. и зват.-не, м.*—кончина, смерть. *Няхай да скону будзеш ты бяздомны... Куй на кавадле водгук доўгапомны.* Сал.

●**скончыць,**—*см. под канчаць.*

●**скорам**-*му, предл. и зват.-ме, м.*—мясное, Ар. пища, запрещенная во время поста. Нсл. 585. *Мала ўжо ў нас скораму.* Ар. *Яму ніколі скораму няма.* Нсл.

●**скорпаць**—*скарпаць.* Іг.

●**скоса,** *нареч.*—искоса. Ар.; Нсл.; Шсл.; МГсл. *Скоса паглядзеў на мяне.* Нсл. *Паглядае скоса, як бык.* Ст. *Скоса на мяне пазірае.* Козіна Пуців.(Халанскі, 128). *Глянуў скоса на хаціну.* Дуб.(Калосьсе, Но. 3/20, стр. 154). *Скоса ўсьміхнуўся Васіль.* Дзьве Душы 147.

●**скосу,** *нареч.*—искоса. Ксл. *Яна паглядзела на мяне скосу.* Бешанковічы (Ксл.).

●**скочка**-*чкі-чцы, ж.*—блоха. БНсл. *См. блыха.*

●**скочыць.**—*см. под скакаць.*

●**ска́ба**-*бы-бе, ж.* **1.** ребро, Нсл. 580. ребро у человека и животных. Ар.; Ксл. *Капуста, верашчака із скабамі.* Нсл. *Пакладзі скабу ў грэцкую кашыцу.* Тм. *Паламаў скабы.* Бачэйкава Беш. (Ксл.). *У яго чартова скаба, яго ня здужаеш.* Ар.—ребро у корзины. Ар. *У кашу моцныя скабы.* Ар.

**2.** заноза. Нсл. 580; Кур., Смл. (Даль). *Вымі імне з рукі скабу.* Нсл.

**3.** клин. Нсл. 580. *Загнаць трэба скабу.* Нсл.

**скабіна**-*ны, единств. ч. к скаба 1, 2, 3.* Нсл. 580.

**скабка**-*бкі-бцы,* **1.** *уменьш. к скаба 1,*—ребрышко. Ар.; Шсл. *У буракі ўкінула скабку.* Ст.

**2.** *уменьш. к скаба 2,*—заноза. Ксл.; Нсл. 580; Смл.; Кур. (Даль); Гсл.; ПНЗ; Растсл.; НК: Очерки, Но. 26. *Загнаў сабе ў руку скабку.* Мазалава Куз. (Ксл.). *Ад скабкі, скабачкі палец разгнаіўся.* Нсл.

**ска́бачка**-*чкі-чцы,* **1.** *уменьш. к скабка 1.*—ребрышко. Ар.

**2.** заноза. Нсл. 580; Смл. (Даль). *Хіба скабачка ў палцы.* Смл. (Даль). *Увелич.* **скабі́шча**-*чы*—большая заноза. Нсл. 580. *Скабішча якая залезла за ногаць.* Нсл.

●**скабардзіна́**-*ны̀, ж.*—кащей. Ксл. *Стаў, як скабардзіна.* Луб'ева Аз. (Ксл.).

●**скабёлак**-*лка, м.*—прут, ?. *Вазьмі гэты скабёлак ды абабі ігрушу.* Бяльсл.( *под абабіць*). *Ср. скаба*—ребро, заноза.

●**скабёлка**-*лкі-лцы, ж.*—согнутый нож, по концам которого приделаны поперечные ручки. НК: Очерки, 34.

●**скабялёк**-*лька*—"скабёлка", согнутая в кольцо и имеющая одну только ручку. НК: Очерки, 347.

●**скаб-іна**-*ішча-ка,*—*см. под скаба.*

●**ска́біць**-*блю-біш-бе, несоверш., перех.* **1.** занозить, Нсл. 580; Смл., Кур.(Даль); Ксл. всаживать занозу. *Рукі свае, паніч, скабіш, заскабіш, цягаючы дошкі, дор.* Нсл. *Скабіць, заскабіць руку.* Кур., Смл. (Даль).

**2.** (*руку*)—получать подкуп. Нсл. 580. *Ты часта каля нас скабіш свае рукі.* Нсл.

**заскабіць, 1.**—занозить. МГсл.; НК: Очерки, Но. 25; Растсл.; Нсл.; Ксл.; Смл., Курск (Даль); Юрсл. *Заскабіла я нагу.* Селішча Гар. (Ксл.). *Па ім калі й чорт пабяжыць, дык нагу заскабіць!* НК: Очерки, 5. *Прич.* **заска́бены**—заноженный. Нсл. 184. *Заскабены палец баліць.* Нсл.

**2.** (*руку*)—получить подкуп, Нсл. взять, приобрести вопреки праву. Юрсл. *Заскабіў руку, дык і пацягнуў на другую старану.* Нсл. *Глянь на брыгадзіра: заскабіў рукỳ каля сена, цяпер маўчыць як вады ў рот набраўшы.* Юрсл.

●**ска́біцца, 1.** *стр. к скабіць.*

**2.** *несоверш. к заскабіцца. Соверш.* **заскабіцца, 1.** занозиться. Юрсл. *Палец заскабіўся.* Юрсл.

2. *перен.*—*заскабіць 2.* Юрсл. *І сам заскабіўся, і бяз сына не абышлося.* Юрсл.

•**ска́бы**-*баў*—ребра, реберная часть туши. Гсл.; Ар. *Уменьш.* **скабкі**-*бак,-бкаў* —позвонковые и реберные части в порциях. НК: Очерки 36; Ар.

•**скаголеньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к скаголіць*—вопль, плач, особенно детский. Нсл. 580. *Ці ты глуха, што ня чуеш скаголеньне дзяцяці?* Нсл. *Пакінь ужо ты сваё скаголеньне; скаголеньням ня вернеш.* Нсл.

•**скаголіць**-*лю-ліш-ле, несоверш.*—вопеть. Нсл. 580; Гсл. *Дзяцё скаголе, есьці хоча.* Нсл. *См. ськіволіць. Соверш.* **заскаголіць(заскуголіць,** Дсл.)—начать вопить, завопить, Нсл. 580. звизжать, запищать жалобно. Дсл. 252. *Чаго ты скаголіш, заскаголіла на ўсю галаву, на ўсю хату?* Нсл. *Кінь работу, бяжы, нешта дзеці заскаголілі ў хаце.* Нсл.

•**скагата́ць**-*чў, скагочаш-ча*—вопить. МГсл.

•**ска́за, 1.** порча. Гсл.

2. искажение. Гсл.

•**сказа́на,** *безлич., соверш.*—приказанно. Нсл. 580. *Табе сказа́на маўчэць!* Нсл.

•**сказа́ць,**—*см. под казаць.*

•**ска́зіць,**—*см. под казіць.*

•**скака́льны**-*ная-нае*—танцевальный.

**скакальная песьня**—песня под которую танцуют. Сяло Трыкаўка, Карпачэўск. у., ц. с., Мужылава Акуліцкае вол. Бранск.(Будде: Тула-Орел, 85).

•**скака́ць,** *скачў, ска̀чаш-ча; повел. скачы,* **1.** прыгать. Гсл.; Нсл. 580; Ксл.; Ар. *Скачы на аднэй назе.* Рыбчына Сір. (Ксл.). *Каза не дарма ваўку скача. Послов.* Нсл. *На пахілае дзерва й козы скачуць. Послов.* Нсл. *Ну скачы здарова, з гусі вада, з Танькі худаба, ды не крактаць у мяне больш.* Север(Косіч 253). *Гэта казала бабуля лекарка(нявучаная).* *Однкр.* **скакану́ць**-*нў-нѐш-нѐць-нѐм-ніцѐ*—прыгнуть с силою (сильно, С.). Нсл. 580. *Скакануў і нагу зьвіхнуў.* Нсл. *Однкр.* **скокнуць**—прыгнуть. Ар. *Соверш.* **прыскокнуць(прыскакну́ць,** Нсл.)—припрыгнуть вдруг, неожиданно подбежать. Нсл. 510. *Ён прыскакнуў да мяне, дый выцяў па шчаццэ.* Нсл. *Соверш.* **скочыць**—прыгнуть. *Адным разам скочыў ад мяне.* Кіт. IIIaI. *Соверш.* **даскочыць** —быстро доехать до какого-л. места с нарочитой и экстренной целью. Дсл. 181. *Нашы да лесу даскочылі, а злодзеяў не заскочылі.* Дсл.

**адскочыць,** *соверш.* **а)** отскочить(скачком удалиться от кого-л., С.) Шсл. *Каб не адскочыў, дык і яму лучыла б.* Ст.

**б)** ударившись обо что-л., отлететь в обратном направлении, в сторону; отскочить. *Камень адскочыў ад дзерва.*

**в)** скоро отрости(о траве). Шсл. *Просьле дажджу, так і адскочыла трава.* Ст.

г) об отделении сливок от молока(свернуться, С.) Дсл. *Малако пачала̀ парыць — а яно адскочыла — як цяпер крупеню бяліць?* Дсл. *См. збрызгці( подбразгці).*

**адска́каваць**-*кую-куеш-куе; повел.-куй-куйма, несоверш. к адскочыць 1, 2, 3*—отскакивать. Шсл. *Ды давай усе барзьдзей адскакаваць у бок.* Ст.

**аска́каваць**-*ку-куеш-куе, несоверш., перех.* —нагонять со всех сторон. Дсл. *Аскакуюць ваўкі.* Дсл. *Соверш.* **аскочыць.**

**заска́каваць**-*кую,* **а)** заставать. Гсл.; Нсл. 184. *Другі раз не заскакую, не заскочыў пана ў двараэ.* Тм.

**б)** забегать вперед, Нсл. преграждать путь. *Соверш.* **заскокнуць, заскакну́ць, а)** попрепятствовать, помешать, Нсл. выйти на перерез. *Заскокнуў мне дарогу, сьцежку.* Нсл.

**б)** *несоверш.*—запасть. Нсл. *Клямка заскакнула сама.* Нсл. *Нешта тут заскакнула, ня можна адчыніць.* Тм. *Прич.* **заскокнуты** —нечаянно застигнутый, открытый. Ксл. *Злодзей заскокнуты ў клеці.* Тм. *Соверш.* **заскочыць, а)** застигнуть, Мгсл. застать. Дсл. 252. *Заскочыў ледзь паезд.* Дсл.

**б)** застигнуть на деле. Нсл. 185.

**заскачы́ць** (*кагось у клеці, на зладзейсьцьве*). Нсл. *Цябе ў гаросе заскачылі.* Тм. *Дождж заскачыў нас у дарозе.* Нсл. 185. *Прич.* **заскочаны, а)** прегражденный. Нсл. 185. *Нам заскочана туды дарога.* Тм.

**б)** застигнутый. Нсл. *Дзеці заскочаны ў гаросе.* Тм.

**выска́каваць,** -*кую-куеш-куе*—выпрыгивать. МГсл.; Ар. *Соверш.* **вы́скачыць.** *Як скача рыба ў сеці, так выскачыў з рук маіх.* Кіт. 111a2.

**2.** *перех.*—плясать, Ксл.; Гсл.; Нсл. танцевать, ПНЗ; Растсл.; Косіч 17; Ар.; Гсл.; Горц(Кот. 203); Нсл. 580. плясать. Арлоўск. п.(Будде:Т.-Орл. слов.); Гародна Давідгорадзк. п.(Полесье 64). *Ня я скачу, няволя; прынукаюць панове.* Нсл. *Дзеўкі панавучаваліся скакаць вальца.* Ст. *Яна дужа любе скакаць.* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Во дзе гуляка! ніхто гэтак ня ўмее скакаць.* Ст. *Грайце, дудачкі, голасна — скачча, дзевачкі хораша.* Нсл. 121. *Дзеўкі пайшлі скакаць мяцеліцу.* Ст.(Шсл. 162). *Узяўшы хустачку, Вэнэра пайшла мяцеліцу скакаць, — прыгожа, стройна церазь меру, пяром ня можна апісаць.* Тарас на Парнасе. *Скачы селядзенька, як маладыя скачуць.* Гарцава Стдуб.(Косіч 2). *Сталі дудкі іграці, іграці, сталі дзеўкі скакаці, скакаці.* Глюбскі(Наш Край, Но. 1, 1927, стр. 23). *Так скакалі... елі, пілі ўсю ноч.* Тапчэўскі: Пан. ігрышча. *За імі ўсе пайшлі ў скокі, нямог ніхто цяпер стаяць, — рукамі ўзяўшыся ў бокі, па хаце ўжо пайшлі скакаць, і за сыноў і за дачок шумеў па хаце "Крыжачок".* Клішэвіч: В. Каліна. *Пад іскрыпку а жалейку скакалі каля кастроў.* Цэлеш: Ярылаў агонь. *Пары пусьціліся скакаць пад ягоную музыку.*

Тм. *Ня ўпінайся ж і скачы нам, покуль сілы хваце, мо пачнуць і думкі нашы весялей скакаці.* Купала(ў вершу, пасьвечаным скакальнай трупе Буйніцкага). *Як граюць, так і скачуць. Послов.* Рапан. 279. *Скакаць, зь любай да зьнямогі.* Кавыль: Ч. лёд. Она (витебская Белоруска) *"скачыць"*, т.е. танцует под музыку. НК: Дудар, 196. *Пад чужую дудку скача. Послов.* Рапан., Прык. 151. *Дзе араты плача, там жонка скача. Послов.* Рапан., прык. 94. *Мужык у карчме скача, а жонка дома плача. Послов.* Тм. 97. *Хто ўвясну скача, той увосень плача.* Тм. 104. *Хоць ты плач, хоць ты скач — не паможаш. Послов.* Рапан., Прык. 52. *Га-га-га! Бач нага сама ўбокі скача.* Гарун("Вясельле"). *Граў ён доўга, а чэрці ўсё скакалі.* Демид.: Веров., 103. *Соверш.* **заіскака́ць**-*чў, каго-што*—исплясать(истоптать танцуя, Ар.), Ксл.; Ар. *Заіскакаў усі чаравікі.* Сянно (Ксл.). *Соверш.* **паскака́ць**-*чў*—потанцевать. Ар.; ПНЗ; Гсл.; Горц.(Кот. 203); Нсл. *Паскачы, Дарачка! — адгоцалася кумачка, няхай маладыя скачуць.* Дсл.

**3.** показывать вид удовольствия, торжествовать. Ар.; Нсл. *Ня доўга табе скакаці; паглядзім, ці паскачаш, ці паплачаш.* Тм.

**скака́ньне**-*ня,* **1.** пляска(танцевание, С.), Нсл. *Пацеха зь яго скаканьня.* Нсл.

**2.** прыгание. Нсл. *Скаканьне козаў, зайцаў.* Нсл.

•**скака́цца,** *скачацца, страд. к скакаць. Тут лёгка скачацца. Соверш.* **даскака́цца,** *даскачўся-ачашся*—допрыгаться, навлечь на себя какую беду прыганием или подобной шалостью. Нсл. 142. *Даскакаўся да свайго.* Нсл. *Во я такі казаў, што даскачашся, чалавеча.* Ст.

•**скаке́ль,** *выкл.*—прыг! ПНЗ.

•**скакі́ль,** *междом. в зн. сказуемого*—прыг. *Воўк пераз панадворак скакіль у гародчык ды на парасё.* Я. Г-кі: Казкі, Но. 2, стр. 18.

•**скаклі́вы: скаклівыя песьні**—песни под которые танцуют. *Скаклівыя песьні.* Козіна Пуцiв.(Халанскі, 162). *См. скакальная песьня.*

•**скаку́ха**-*хі,* **1.** веселая игра на скрипке, веселуха, плясуха. Нсл. 580. *Заграй скакуху.* Нсл.

**2.** женщина-мастерица плясать, плясунья, Нсл. плясунья, Гсл. танцовщица. Міх.; Ар. *Яна ў нас, пане, першая скакуха.* Нсл. 580.

**3.** женщина острого характера, настойчивая, упрямая, назойливая. Нсл. *Наскочыш на свайго, скакуха!* Нсл.

•**скаку́н**-*нá*—плясатель, танцор, Ар.; Міх. танцор. Гсл.

•**скакунка**—попрыгунья. МГсл.

•**скаку́шка**-*кі, ж.*—белка,[Sciurus vulgsris] Ксл. *Скакушка вун на суку.* Лапы Беш. (Ксл.).

•**скалоціны**-*наў*—солома смешанная с сеном. НК: Очерки, Но. 719. *См. трасянка.*

•**скалоць**—уколоть. МГсл.

•**ска́ла**-*лы-ле, ж.*—скала. Ар.

•**скалазу́б**-*ўба, предл.-ўбу, зват.-ўбе, м.* —зубоскал(насмиешник, С.). Ар.; ЗСД 69. *Сьміяліся тамашнія скалазубы із старога дырэктара.* Гарэцкі: Песьні, 20. *См. вышчарак, вышчарка.*

•**скалазу́бства**-*ва, ср.*—зубоскальство. Ар.

•**скаламе́сіць,**—*см. под каламесіць.*

•**скаламе́шаны,**—*см. под каламесіць.*

•**скалану́ць,**—*см. под калаціць.*

•**скалану́цца,**—*см. под калаціцца.*

•**скалатну́ць,**—*см. под калаціць.*

•**скалавацець,**—*см. под калавацець.*

•**скалаца́нка**-*кі, ж.* **1.** пахтание. Гсл.

**2.** екефир. Гсл.

•**скалаці́ць, 1.** сбить(масло). Гсл.

**2.** взболтать. Гсл.

•**скале́чыць,**—*см. под калечыць.*

•**скале́чыцца,**—*см. под калечыцца.*

•**ска́лка I**-*лкі-лцы, ж.* **1.** кремень, Гсл.; Нсл. 580. кремень для высекания огня. Ксл. *Гэта, здаецца, скалка.* Воўкасьць Лёз. (Ксл.). *Скалку ад стрэльбы згубіў.* Нсл. *Ср. скала.*

**2.** пятно жира на верху горячей(жидкой, Ар.) пищи. Ар.; Шсл. *Вось сытыя буракі — адны скалкі.* Ст. *Вір... Я ў віры! я русалка. А як пеніцца вада! Як гуляе на ёй скалка!* С. Музыка, 272.

•**ска́лка II**-*лкі-лцы, ж.*—рыболовный снаряд. Ксл. *Я із скалкаю на рыбу пайду.* Гарадок (Ксл.). *См. скалька.*

•**ска́лька**-*кі-цы, ж.*—вид рыболовной сети. Ксл. *Я пайшоў бы рыбу лавіць, але скалькі няма.* Зямцы Сір. (Ксл.).

•**скалыхну́ць,**—*см. под калыхаць.*

•**склыхну́цца,**—*см. под калыхацца.*

•**скаме́чаны,**—*см. под камячыць.*

•**скамяне́ласьць**-*ці, ж.*—окаменелость.

•**скамянелы**-*лая-лае*—окаменелый. *Глянула скамянелая.* Бярозка(Калосьсе, Но. 1, 1939 г., стр. 5). *Л. стаяў, як скамянелы.* ЗСД 264.

•**скамян-е́ць**-*іць,*—*см. под камянець.*

•**скамячы́ць,**—*см. под камячыць.*

•**скамячы́цца,**—*см. под камячыцца.*

•**скамурдзі́цца**-*джуся-дзішся, соверш., возвр.*—скривить рожу. Ксл. *Во, скамурдзілася, як налпа.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**скан-а́ньне**-*аць,*—*см. под канаць.*

•**скана́віць**-*ўлю-віш-ве*—изрыть канавами. Ксл. *У нас ужо зямлю сканавілі.* Вяжышча Беш. (Ксл.).

•**скапа́ць**—сколоть. Растсл.

•**скапа́ць**—колоть(лучину). ПНЗ; Растсл.

•**скапа́ч**-*чà, м.*—крюк для скапывания навоза. Ксл. *Вазьмі скапач і вязі гной у поле.* Вейна Сян.(Ксл.).

•**скапе́ц**-*пцà, м.*—кастрированный баран. Ксл. *У Мікалая прапаў скапец.* Русінава Сян.(Ксл.).

•**скапыва́ч**—крюк для скапывания навоза с телеги. Гсл.(под *капач*).

•**скапыцiцца,**—*см. под капыціцца.*

•**скарожыць,** *-жу-жыш-жа*—искривить, сомать. Ксл. *Скарожыла мае косьці.* Чараўкі Сян.(Ксл.).
•**скароміна**-*ны-не, ж.*—мясное.
**пражыць скароміну**—запекать мясо(в горшке, плошке). НК: П. 147.
**смажыць скароміну(ялавічыну, птушкі, каўбасы)**—зажаривать мясо. НК: П. 147.
•**скароміцца,** *-млюся-мішся, несоверш.* —есть в пост скоромное, скоромиться. Ар. *Баіцца скароміцца — пост дзяржыць.* Воўсішча Сян. (Ксл.). *Соверш.* **аскароміцца**—съесть в пост скоромного, оскоромиться. Ксл.; Ар. *Соверш.* **паскароміцца** —покушать скоромного. Шсл. *Забыўся, што сядні пятніца, узяў ды паскароміўся.* Ст.
•**скаромніна**-*ны-не, ж.*—мясное. Ксл. *Скаромніны ў нас ані няма.* Шляхоткі Сур. (Ксл.). *См. скорам, скароміна.*
•**скарабáціць,**—*см. под карабаціць.*
•**скарадá**-*ды̀-дзе, ж.* **1.** борона(со вставными зубьями. НК: Под. пос., Но. 4). НК: Очерки, 394; НК: Дудар, Но, 24.
**2.** *перен.*—упрямство. НК: Очерки, Но, 785.
**3.** *перен.* в укоризненном значении — упрямый, несговорчивый человек. НК: Дудар, Но. 24.
**4.** перен.—движение хмельного человека. НК: Очерки, Но. 785.
**5.** *перен.*—нравственная расшатанность. Очерки, Но. 785.
**бітая скарада**—борона, которой основу составляют средней толщины *"клібы"*, соединенные клеточками и на месте соединения переплетенные лозовыми *"круцёнкамі"*. Сюда, в здавленный четырехугольник продольгих и поперечных *"клібін"*, туго и несколько насискось вколачиваются *"клепы"*, с небольшими засечками при головках. НК.: Очерки, 396.
•**скарадзі́ць**-*джу̀-дзіш-дзе што, несоверш.* **1.** боронить. Ксл.; Растсл.; Нсл. 585; НК: Дудар, Но. 24; НК: Очерки 395; Навасільск. п.(Будде: Т.-Орл. слов.); Гсл.; ПНЗ, боронить озимую вспашку или паровое поле. Шсл. *Давай, тата, я буду скарадзіць.* Навікі Віц. (Ксл.). *Скарадзі барзьдзей гарод.* Нсл. *Скародзь як мак, а барануй абы як, — дык будзе ўраджай.* *Послов.* Навасёлкі Пух. (Шсл.). *Отгл. имя сущ.* **скараджэньне**-*ня, предл.-ню,* **а)** боронование. Нсл. *Скараджэньня гэтага твайго на цэлы дзень будзе.* Нсл.
**б)** боронованное поле. Ксл. *Бульбу садзілі на скароджаньню.* Сапегі Сян. (Ксл.). *Соверш.* **заскарадзі́ць.** Нсл. 585.—заборонить. Дсл. 252. *Нашы сёлета пазьней за людзёў заскародзілі.* Дсл.
**паскарадзі́ць,** (Нсл. 585) **а)** боронить некоторое время. *Як заскародзіш(сваё), то сусед просе паскародзіць ягоны гарод.* Нсл.
**б)** забороновать все, многое.
**3.** волочить, заплетать ноги, НК: Дудар, Но. 24. плестись, неправильно идти. НК: Под. пос., Но. 4.
**4.** делать что беспорядочно. Нсл. *Ня робіш добра, ня шыеш, а скародзіш.* Нсл. *Соверш.* **наскарадзі́ць**—сделать что-л. беспорядочно. Нсл. *Наскарадзіў тут нейкую ліхатню.* Нсл.
**5.** говорить вздор. Гсл.
•**скарадзьбі́т**-*іта̀, предл.-іту̀, зват.-і̀це; мн. ч.-ты̀-тоў-том, мн. ч., предл.-тох, м.*—боронильщик, НК.: Очерки, Но. 378, 395. работник боронующий пашню. Гсл.
•**скарадзьбá**-*бы̀-бе, ж.* **1.** боронование. *Не вялікая ў нас скарадзьба: ганькоў дзесяць.* Ст.
**2.** заборонованная пашня. Гсл.
•**скаралу́шча**-*чы-чы, ж.*—раковина. Ар. *У рацэ шмат скаралушчаў.* Ар. *Маўчаць — найлепшы спосаб бою, ды ці завем мы — барацьбою? Ці можа тою скаралушчай, дзе смоўж ад страху мацкі плюшчыць.* Б. Ускалось, Но. 6, 32.
•**скаральбá**-*бы̀-бé — скарадзьба.* Ксл. *Скаральбу скончылі.* Лятоўшчына Куз. (Ксл.).
•**скарамя́ка**-*кі, общ.*—едящий-ая в пост скоромное. Шсл. *Скарамяка ты, што ты ў пятніцу сала ясі?* Ст.
•**скарамя́ціна**-*ны, дат., предл.-не, ж.*—сальные и мясные консервы, НК: Очерки, 36. всякое скоромное кушание, преимущественно мясное. НК: Старцы, Но. 7.
•**скар-áньне**-*áны,—см. под караць.*
•**скарац-і̀ць**-*іцца, скарачэньне,—см. под караціць.*
•**скарáць,**—*см. под караць.*
•**скарáч**-*ача̀, предл.-ачу̀, зват.-а̀чу; мн. ч.-чы-чоў-чом, мн. ч., предл.-чох. м.*—полотенце без украшений, служащее обыкновенно для вытирания рук. Ар. *Перш па адным бліне раскладала яна на скарачу, што на ўслоне засланы быў.* Калюга: Заблоцкі.
•**скарэліць,**—*см. под карэліць.*
•**скарэць,**—*см. под карэць.*
•**скарэлы,**—*см. под карэць.*
•**скарб**-*бу, предл. и зват.-бе, м.* **1.** (государственная, Нсл.) казна. Нсл. 581; Гсл.; Ар. *Скарб багаты, багатшы за нас.* *Послов.* Нсл. *Падушнае падаць да скарбу.* Нсл.
**скарб гаспадарства**—государственное казначейство.
**міністэрства скарбу**—министерство финансов.
**2.** денежная сумма или имущество какого-либо общественного заведения. *Скарб царкоўны, шпітальны.* Нсл.
**3.** имущество частного лица. Нсл. 581; Ксл. *Гэтыя багатыры, каторыя давалі скарб на інтарэс.* Кіт. 130а. *Скарб панскі.* Нсл. *Гэтым ты ня зьнішчыш свайго скарбу.* Нсл. *Ён забраў свой скарб і пацёгся.* Іванова Куз. (Ксл.). *Ня ежча скарбаў сіроцкіх із сваімі скарбамі.* Кіт. 10а14. *Скарбу ім прычыню.* Тм. 121а3.

**4.** клад. Ар.; Ксл. *Івановы скарб у валатоўцы знайшлі.* Летцы Куз. (Ксл.). *Каліб лучыла каму знайсьці ў зямлі які скарб, грошы, золата, тагды маець таму скарб быці.* Стт. 373.
**5.** сокровище. Гсл.
•**скарбонка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** ящичек(металлическая коробка с отверстием в крышке для сбора денег, кружка, **С.**) с которым староста церковный ходит во время богослужения для испрошения подаяния в церковный доход. Нсл. 581. *Укінь тата ў скарбонку.* Нсл.
**2.** ящик, прибитый у дверей церковных для подаяния на богоугодные дела. Нсл. 581. *Скарбонка дзеля бедных.* Нсл.
**3.** (вообще, **С.**) сундучек, куда опускают деньги-лепту на церковь, сирот, инвалидов и т.п.(напр. во время уличного сбора, **С.**) Гсл.
**4.** копилка. *Уменьш.* **скарбоначка**-*чкі-чцы.*
•**скарбонкавы**-*вая-вае, прилаг. к скарбонка;*—кружечный(напр. сбор пожертвованый).
•**скарбовы**-*вая-вае, прилаг. к скарб 1,* —казенный(государственный, Нсл.). Ар.; Гсл.; Ксл.; Нсл. 581. *Скарбовыя людзі.* Нсл. *Скарбовыя падачкі.* Тм.
**2.** казначейский, принадлежащий или относящийся к казначейству. *Скарбовы ўрад. Скарбовыя ўраднікі.*
**3.** финансовый. Гсл.
**4.** фискальный.
**скарбовая каса**(**урад, С.**)—казначейство. МГсл.
**5.** относящийся к господскому имению, господский, Нсл. 581. принадлежащий имению. Шсл. *Скарбовы замак, статак.* Нсл. *Скарбовыя коні загнаў.* Нсл. *Тут уперад стаяла скарбовая карчма.* Ст. *Статак пасуць на скарбовым.* Ст.
•**скарбоціць,**—*см. под карабаціць.*
•**скарбец**-*бца, предл.-бцу, зват.-бча, м.* —ящик для хранения денег, Нсл. 581. ларчик, Гсл. ларец. *У скарбцу нічога не знайшлі.* Нсл.
•**скарбёнка**-*нкі-нцы, ж.*—кружка для сбора пожертвований. Шсл.; Ксл.—*скарбонка. У гэту нядзелю хадзілі па Сьмілавічах із скарбёнкамі — зьбіралі грошы на бедныя дзеці.* Ст. *Апусьціў у скарбёнку саракоўку на раненых.* Дужчына Куз. (Ксл.).
•**скарбнік**-*ка, предл.-ку, зват. скарбніча, м.*—казначей. МГсл.
•**ска́рбніца**-*цы-цы, ж.* **1.** кладовая, хранилище денег и драгоценностей. *У яго скарбніца поўная ўсякага дабра.* Нсл.
**2.** *ж. к скарбнік,* женщина казначей.
•**скарпа́ць,**—*см. под карпаць.*
•**скару́бка**-*бкі-бцы, ж.*—кусочек(сала). Ксл. *Было ў мяне скарубкі з тры сала.* Сялец Чаш. (Ксл.).
•**скару́за**-*зы, общ.*—упрямец, озорник. Ксл. *Бач ты скаруза!* Халамер'е Аз. (Ксл.).
•**скару́зіцца,** *-жуся-зішся*—упрямиться, капризничать. *Ча скарузішся?* Сухарукава Аз. (Ксл.).
•**скару́чыцца,** *-чуся-чышся*—скорчиться, согнуться. Растсл.
•**скарчэць,**—*см. под карчэць.*
•**Скары́на**-*ны-не, м.*—известный великолитовский(белоруский) ученый гуманист, доктор медицины, переводчик Библии на великолитовский язык в 1517 г. и первопечатник в Великолитве.
•**скары́на**-*ны-не, ж.*—верхняя или исподняя корка испеченного хлеба. Нсл. 585. *Скарыну паламай ды палажы ў капусту.* Нсл.
•**скары́нка**-*кі, дат., предл. скарынцы, ж.* —корка. Гсл.; МГсл.; Ар.
•**скары́нка**-*нкі-нцы, ж.*—корка(хлеба и т.п.) Ар.; Ксл.; Шсл. *Цэлы стол накідалі скарынак.* Ст. *Хлеба й скарынкі няма.* Ст. *Прынясі скарыначку хлеба сабаку.* Тм. *Уменьш.* **скарыначка.** Ар.; Севершч.(Косіч 79); Растсл.; ПНЗ, хлебная корка, корочка. Нсл. 585. *Дай убогаму скарынку.* Нсл. *Старому няма чаго даваць скарынку.* Нсл. *І скарыначкі паясі, калі захочаш есьці.* Нсл. *Уменьш.* **скары́начка**-*чкі-чцы*—корочка. Ар.; Шсл. *Як галодны, дык смачна й скарыначка з вадою.* Ст.
•**скарыста́ць,**—*см. под карыстаць.*
•**скарысьціць,** *скарышчу, скарысьціць-це, соверш. чаго*—использовать. *Маець на том прысягнуці, іж воных рэчаў не скарысьціў.* Стт. 336.
•**скары́ць** — *скараць.* Гсл.
•**скасав-а́ньне**-*а́ны-а́ць,—см. под касаваць.*
•**скасава́ць,**—*см. под касаваць.*
•**скасаву́рыцца,**—*см. под касавурыцца.*
•**скавародка**-*дак, единств. ч. нет.*—погремок большой, *раст.,* Гсл.
•**скава́ць,** *скую-скуеш-еЃць-ем, скуіцѐ каго кім, несоверш.*-травить собаками. Гсл.; Шсл. *Толькі сьвіньня памкнецца на двор, дык ён і скуець.* Ст.
**скаваць**—наускивать. *Отгл. имя сущ.* **скава́ньне**-*ня* **1.**—травля собаками. Гсл.
**2.** натравливание. Гсл. *Соверш.* **заскава́ць** *каго кім*—затравить собаками. Шсл. *Заскаваў парасё сабакамі.* Ст. *Соверш.* **наскава́ць** *каго кім*—натравить. Шсл. *Наскаваў сабакамі парасяты.* Ст.
•**скавыта́ць**—визжать по собачьи. Гсл. *Отгл. имя сущ.* **скавытаньне**—собачий вой. Гсл.
•**скаўрэлы**—заскорузлый. Ксл. *Ня купляй скаўрэлага парасяці.* Шуміліна Сір. (Ксл.).
•**скаці́цца,**—*см. под каціцца.*
•**скачок**-*чка́*—кузнечик. *Косы чыркалі здалеку квола, прымушана, і здавалася, што гэта нейдзе сусім блізка верашчаць скачкі.* ЗСД 172. *Скачкі рэзалі паветра моцным як мага верашчаньням.* Тм.
•**склон**-*ну, предл.-не, мн. ч. скланы-ноўном, мн. ч., предл.-нох, м., грамм.*—падеж. МГсл.

•**склад**-*ду,* **1.** складка(действие). Нсл. *Склад жыта з вазоў.* Нсл. *Склад сена.* Нсл.
**2.** состав. Гсл.

•**склад**-*ду, предл.-дзе, м.* **1.** слог. Гсл. *Чытай па складох.* Гсл.
**2.** *грамм.*—слог(слова). Ар.; Гсл.; Шсл.; МГсл. *Па складох чытае.* Ст. *Перайшоў ужо склады.* Ст.
**3.** слог речи, стиль; ход мыслей. *Складу няма ў яго мове.* Нсл.
**4.** привернутые при пахании одна к другой две "ськівы" земли. Ар.; Шсл. *Склад роўненька злажы, дык тады й арацца будзе добра.* Ст. *Гоні ўзараў у склад, а засталае ў роськідку.* Ст.
**5.** телосложение. Ар. *Ён харошага складу.* Ар. *Дзеўка відам харошая, але склад у яе не харошы.* Нсл. *Склад у жарабка добры, але няма ведама які нораў.* Ст.
**6.** место, кладовая для помещения разных вещей. Нсл.; Мгсл. *Палажы гэтыя рэчы ў склад.* Нсл.
**7.** вещи, товар, сложенные на сохранение.
**8.** состав. Гсл.; МГсл. *У склад таварыства ўходжу я.* Гсл.; МГсл.
**9.** *стар.*—договор, условие, сделка. Даль. *А тот склад дзяржаці на обе стораны ў Полацку і ў Рызе.* Даль.

•**складáн**-*анà, предл.-анè, зват.-àне; мн. ч.-ны-ноў-ном, мн. ч., предл.-нох, м., мат.* **1.** слагаемое.
**2.** то из чего слагается, составляется что-л.; составная часть какого-л. целого; слагаемое.

•**складáнасьць**-*ці, ж.*—сложность. *Нам надабе было ўжыцьцёвіць пераход пераз адкрыты космос із карабля "Зьвяз 5" на караб "Зьвяз 4". Мы добра разумелі складанасьць гэтага заданьня.* Г. Радзімы, Но. 1062, фев. 1969.

•**складáнік**-*ка, м.*—складной нож. Ксл. *Мой складанік ссорыўся(згубіўся).* Мікалаёва Куз. (Ксл.).

•**складáнка**-*нкі-нцы, ж.* **1.** складчина. Ар.; Нсл. 582. *Грашыная складчына.* Нсл. 122(*под грашыны*). *Складанку зрабілі на царкоўны звон.* Нсл. *Ты да складанкі нашае не належыш.* Нсл. *Сваты робяць складанку на гарэлку.* Ар.
**2.** складчина, вещь, купленая в складчину. Ар.

•**склáдань**-*ні, ж., печат.*—набор. *Складань гатова, цяпер карэктар будзе чытаць.*

•**складáньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср., мат.* **1.** сложение.
**2.**—*см. под класьці.*

•**складáньнік**-*ка, м.*—наборщик. Гсл.

•**складáнчык**-*ка, предл.-ку, м.*—перечинный ножик. Войш.; МГсл.

•**склад-áны**-*àць,—см. под класьці.*

•**складáны**—складной(ножик). Гсл.

•**складаны**-*ная-нае*—сложный. МГсл.

•**складáцца**-*àюся-àешся, несоверш.* **1.**—метить в цель, целиться. *См. лучаць. Соверш.* **злажы́цца,** *-жўся, зложышся*—прицелиться.
**2.**—*см. под класьціся.*

•**складковы**-*вая-вае, прилаг. к складка.* НК: Дудар, 199. *Складковыя грошы.* НК: Дудар, 199.

•**складнéць**-*èю-èеш-èе*—делаться стройнее. Нсл. *Дзеўка, што расьцець, то складнее.* Нсл. *Соверш.* **паскладнéць**—стать стройнее. Нсл. *Падрос хлапец і паскладнеў.* Нсл.

•**склáдны**-*ная-нае*—стройный, Нсл.; Ар.; Шсл. хорошо сложенный. Ар. *Складная дзеўка.* Ар. *Складны дзяціна стаў, як падрос.* Нсл. *Складны ягоны конік.* Ст. *У Пятроўку ўсе ня прыгожыя песьні, кароткія, ня складныя.* Северш.(Косіч 20). *Нареч.* **складна гаварыць**—стройно говорить(т.е. говорить так, чтобы получался хороший склад, С.) Ксл., красиво(говорить). Шсл. *Ён ужо складна гавора.* Воўсішча Сян. (Ксл.). *Так жа складна гавора, аж люба яго слухаць!* Ст.

•**склáдзены,**—*см. под класьці.*

•**склáдзісты**-*тая-тае,* **1.** складной. Нсл. *Складзісты нож.*
**2.** стройный. Нсл. *Складзісты мужчына.* Нсл. *Складзістая ягоная мова.* Нсл. *Складзістую сказаў ты казачку.* Нсл.

•**склáны,**—*см. под класьці.*

•**склапатáцца,**—*см. под клапатàць.*

•**склáсьці,**—*см. под класьці.*

•**склáсьціся,**—*см. под класьціся.*

•**склéзень**-*зьня, общ.* **1.**—малыш, карапуз, Ксл. дитя, особенно малое. Нсл. 583. *Ай ты склезень!* Мазалава Куз. (Ксл.). *Ты яшчэ сусім склезень.* Тм. *Ён яшчэ склезень, ня цяме нічога.* Нсл. *Які ты склезень, а кугаканьня на ўсю хату.* Нсл. 257(*под кугаканьне*).
**2.** малолеток. Нсл. *Ты склезень супроці мяне.* Нсл.
**3.** худощавый(слабосильный? **С.**). Нсл. 583. *Трох гэтых склезьняў мала мне на адну руку.* Нсл.

•**склеп**-*пу, предл.-пе; мн. ч. скляпы-поў-пом, мн. ч., предл.-пох, м.*—погреб. МГсл.; Ар.; Ксл. *Я зламіў яго, забіў рот, зьвязаў і сьцягнуў у склеп, ведаеце, робяць тут такія пад гаспадамі.* Дзьве Душы 183.

•**склеп**-*пу, м.* **1.** подвал. Гсл.
**2.** склеп. Гсл. *Кароль узяў пташку і казаў замкнуць да склепу.* Н.(Афанасьев: Сказки I, 1913, 209). *Палажы масла ў склеп.* Навасёлкі Сян. (Ксл.). *Вымуравалі склеп на бульбу.* Ст. *Яблыкі пахавалі ў склеп.* Ст. *Вінны, піўны склеп.* Нсл.

•**склеп**-*пу, предл. и зват.-пе, м.* **1.** сводчатое каменное(всякое) построение. НК: Очерки, Но. 505.
**2.** погреб. Ар.; НК: Очерки, 361. *Уменьш.* **склéпік**-*ка*—погребок. *Склепік маленькі, ды харошанькі.* Нсл.

•**склéшч-авацца**-*ыцца,—см. под клèшчыцца.*

•**скляньне**-*ня, собир.*—битое стекло. Растсл.

•**смок**-*ка, м.* **1.** насос, машина, употребляемая для перелива какой-л. жидкости. Нсл.; Гсл. *Смокам барзьдзей перацягнеш куфу, чымся цэдзячы.* Нсл.
**2.** железная(не обязательно)водосточная труба. Нсл.
**3.** пожарная труба. Нсл. *Смокам зараз можна заліць пажар.* Нсл.
**4.** водокачка.
**5.** радуга. МГсл.; Ар.
•**смок**—сказочный змей, страшное мифическое существо. Гсл.
•**смолка**-*кі, ж.* **1.** дрема клейкая(трава), МГсл.; Гсл. смоловка.
**2.** нежная смола из молоденьких сосновых шишечек; народной медициной рекомендуется от чахотки. Шсл. *Яму ад сухот параілі піць смолку із шышачак.* Ст.
**3.** молочной сок у коров перед телением. Шсл. *Карова зараз ацеліцца: у цыцках ё ўжо смолка.* Ст.
•**смолкавы**-*вая-вае*—к смолке относящийся. Нсл. 595. *Смолкавыя краскі ліпучыя.* Нсл.
•**смолкі**-*кая-кае*—смолистый. Гсл. *Ср. смаляны.*
•**смоль**-*лі, ж., соб.*—смольные дрова на камин(не только на камин, С.) Ксл. *Насек смолі на два вечары.* Казімірова Сур. (Ксл.). *На тыдзень насеклі смолі.* Ст.
•**смольны**-*ная-нае*—пропитанный смолою. Шсл. *Падлажы смольны корч.* Ст.
•**сморгаць**-*аю-аеш-ае* (Нсл; Ар.), **смарга́ць**-*а́ю-а́еш-а́е,* (Нсл.), *несоверш., перех.* **1.** дергать, производя при этом звук трением. Нсл. 595. *Ня сиоргай крэпка, абсморгаеш і паціхеньку вяроўку.* Нсл. *За што ты яго смаргаеш за валасы?* Тм.
**2.** обрывать что-н. во множестве(дерганием, С.) Нсл. *Сморгаць лісьце з пруціка.* Нсл. *Сморгаюць брушніцы.* НК: Очерки, 479.
**3.** выдергивать. Нсл. *Сморгаць сена з возу, ніткі з палатна.* Нсл. *Конь сена сморгае.* Нсл.
**насморгаць,** *каго-што, соверш.*—надергать. Нсл. *Насморгаць сена з возу, лісьця зь дзерва.* Нсл. *Сена насморгай толькі колькі каню даць.* Нсл. *Прич.* **насморганы**—надерганный. Нсл. *Падграбіць насморганае сена.* Нсл.
**вы́смаргаць,** *каго-што, соверш.*—выдергать. Нсл. *Сена высмаргай із стага.* Нсл. *Высмаргай гэтыя кончыкі.* Нсл. *Прич.* **вы́смарганы**—выдерганный. Нсл. *Высмарганае бярэма гароху.* Нсл. *Однкр.* **вы́смаргнуць, а)** выдернуть. Нсл. *Высмаргнуць шнюрок, вяроўку.* Нсл.
**б)** вытащить(быстро, С.) Нсл. *Злодзей высмаргнуў хустку зь кішані.* Нсл. *Прич.* **вы́смаргнуты, а)** выдернутый. Нсл. *Высмаргнуты шнюрок трэба ўзноў удзець.* Нсл.
**б)**(быстро, С.) вытащенный. Нсл.

**4.** дергать, трогать, Нсл. дергать за веревку, шнур и т.п. Шсл. *Ня сморгай ты за вяроўку, ато нельга завязаць.* Ст. *За што ты яго смаргаеш за валасы?* Нсл. *Смаргай вяроўку.* Нсл. *Смаргай, смаргні.*
**смаргану́ць,** (Нсл.; Гсл.)-*ну́-нёш-нёць-нём-ніцё,*(**сморгнуць,** Нсл.-*ну-неш*) *каго-што,* **а)** *однкр. к* смаргаць *4,*—дернуть. Нсл.; Шсл.; Вост. (Даль). *Наклаў воз як каню смаргануць.* Нсл. *Як смаргануў раз, дык вузёл і разьвязаўся.* Ст.
**б)** тронуть за одежду. *Смаргані яго, няхай замаўчыць.* Нсл.
**в)** удрать, уйти тихонько, Нсл. шмыгнуть, вскочить, кинуться куда опрометью. Вост. (Даль). *Ня ўгледзілі, як ён смаргануў адсюль.* Нсл. *Мы ў карчме сядзелі, а коні смарганулі двору.* Нсл.
**5.** *средн.*—шаркать. *Сморгаць ботамі.* Нсл.
**6.** втягивать возгри в нос. Нсл. *Досіць табе сморгаць.* Нсл.
**смарга́ньне**-*ня, отгл. имя сущ. к* смаргаць *1, 2, 3, 4, 5. Смарганьне вяроўкі. Дадзеў сваім сморганьням; чаму ня высмаркаеш носу, а ўсё сморгаеш.* Нсл.
**сморгнуць,** *однкр.* **1.** *к сморгаць 5,*—шаркнуть.
**2.** *однкр. к сморгаць 6.* Нсл. *Сморгні яшчэ раз, дык і заробіш.* Нсл.
**абсморгаць, 1.** *соверш. к сморгаць 1,*—трением смягчить, обгладить. Дсл.; Нсл. *Абсморгай вяроўку новую на крук.* Нсл. *Ня сморгай моцна, абсморгаеш і паціхеньку вяроўку.* Нсл. *Абсморгала андарак.* Дсл.
**2.** *соверш. к смаргаць 2,*—оборвать что-л. во.множестве(дерганием, С.) Нсл. 575, обдергать. Нсл. *Абсморгаць пруцік, розку.* Нсл.
**3.** *соверш. к смаргаць 3,*—обдергать. Нсл.; Дсл. *Абсморгай воз, каб сена не валачылася.* Нсл.
**4.** протереть. Нсл. *Узлакочуючыся на стол, борзда абсморгаеш локці.* Нсл. *Прич.* **абсморганы, 1.** обдерганный. *Абсмарганую прынясі розку.* Нсл. *Абсморганае пяро.* Нсл.
**2.** оборванный(трением, С.). Нсл. *Абсморганая сьвітка.* Нсл. *Ходзе з абсморганымі локцямі.* Нсл.
•**смарга́цца, сморгацца,** (Нсл.) **1.** драться от носки, от трения. *Локці ў сьвітцы сморгаюцца, абсморгаліся.* Нсл. 595. *Отгл. имя сущ.* **смарганьне**-*ня*—трение. Нсл. *Смарганьне адзежыны.* Нсл.
**2.** иметь привычку дергать других. Нсл. *Я цябе не чапаю, не смаргайся.* Нсл.
**3.** тереться, бегать, протираясь между людьми, свойственно мальчикам. Нсл. *Чаго ты тут смаргаешся?* Нсл. *Ідзі вон, не смаргайся тут.* Нсл. *Соверш.* **абсморгацца,** *возвр.* Нсл.
**рассмарга́цца, рассморгацца, 1.** перетереться. Нсл.552. *Вяроўка ў калыбцы рассмаргалася, борзда парвецца.* Нсл.

**2.** начать таскаться, тереться, производя шорох или скрип. Нсл. *Чаго ты тут рассморгаўся, то з хаты, то ў хату.* Нсл.
**3.** продолжать втягивать возгри; рассморкаться, расхаркаться. Нсл. *Стацьцё нейкае табе, што ты рассморкаўся так.* Нсл.
•**сморгнуць,**—*см. под* *сморгаць.*
•**смоўж,** *смаўжа̀, на смаўжу̀, зват. смоўжа; мн. ч.-жы̀-жа̀мі-жох, м.*—улитка. Гсл.; Нсл.; Шсл. *На лісьце смаўжа прынёс.* Нсл. *Смоўж ізьеў увесь карэнь капусты.* Ст. *Смоўж сядзеў на баравіку.* Пацкава Сян. (Ксл.). *См.* *смуж.*
•**смаголь**-*галя,* (**смогаль,** Вост. Даль)—головешка от смольного полена. Шсл. *Борада смогаль.* Вост. (Даль). *Ну й чорны як смогаль.* Голацак Сьміл. (Шсл.).
•**сма́га**-*а̀гі-азе, ж.* **1.** жажда. Ар.; Шсл.; Нсл. 493; МГсл.; Ксл.; Вост.(Даль). *Хаця каб глыток вады смагу прагнаць.* Ст. *Дай ты што смагу прагнаць.* Асіпова Аз. (Ксл.).
**прагон смагі**—утоление жажды. НК: Очерки, 480.
**2.** сухость во рту и на губах от душного ветра, внутреннего жара, при болезни или после сна, НК: Очерки, Но. 69. сухость губ от жары, беловатый налет на губах от жажды; гноеватая влага в углах сухих губ и во рту, пересохшем от жажды, Шсл. накипь на губах от жара, труда или болезни, Нсл. сухость губ, налет от жажды. Растсл. *Аж смага ў яго на вуснах — так піць хоча.* Ст. *Вусны смагаю пакрыліся, пачарнелі ад смагі.* Нсл.
**3.** *перен.* *Смага ты мая горкая, што ж гэта ты робіш?* Ст. *Вецер сядравы пранёсься над борам, смагаю жыцьця абвеяў лісты.* Гарун: Белр. марш.
**4.** мгла на горизонте в летнюю пору во время жары. Гсл. *Дасягнуць вун да таго ляску, што схаваўся ў смагу.* ЗСД 172.
**5.** загар. Гсл.
**праганяць, прагнаць смагу, смажку, смажачку**—утолить, утолять жажду, Ар.; Пск.; Смл.; Ксл.; Арл. (Даль) напиться или съесть чего-л. кислого, прохладительного. НК: Очерки, Но. 68. *На кваску! смажачку прагані.* Нсл. 593. *Дай вады смагу прагнаць.* Тм.
**сма́жка**-*жкі-жцы, уменьш. к* *смага 1, 2.* Нсл. 593. *У дзіцяці смажка на губках.* Нсл.
**сма́жачка**-*чкі, уменьш. к* *смажка.* Нсл. 593.
•**сма́гавы**-*вая-вае*—имеющий свойство накипи на губах или на зубах. Нсл. *Смагавая пена.* Нсл.
•**сма́гласьць**-*ці, ж.*—смуглость. Гсл.
•**смаглаўка**—смуглянка. Гсл.
•**сма́гці,** (Барс.), **смагнуць,** (Шсл.), *сма̀гнунеш-не,*—испытывать жажду. *Смагне цэлы дзень без вады.* Ст. *См.* *сьмягці. Даволі табе сьмягці па гэтай дзяўчыне.* Барс.
**2.** испытывать недостаток в какой-л.(жидкой, С.) пище. Шсл. *Смагнуць цэлае лецечка без каплі малака.* Ст.
**вы́смагці**-*гну-гнеш-гне. Высмаг водыр бацькаўскага дому.* Кавыль: Ч. лёд.
**засмагава́цца(засмагувацца,** Дсл. 252), **1.** покрыться потом. Дсл. 252.
**2.** накрыться(губам, С.) запекшейся слюной. Нсл. 252.
**3.** исстрадаться, истомиться. Дсл. 252. *А ўжо мая душанька засмагувалася.* Дсл.
•**сма́жыць**-*жу-жыш-жа, несоверш., перех.*—жарить, (Растсл.) в масле(в жиру, Шсл.; Ар.) Гсл.; Нсл. 593; Ар. *Смажыць рыбу.* Ст. *Смажыць рыбу, грыбы.* Нсл. *Соверш.* **засмажыць**—зажарить. Шсл.; Дсл. 252. *Засмажылі грыбкоў на вячэру.* Ст. *Засмажылі грыбы.* Дсл. *Соверш.* **насмажыць**—нажарить. Ксл. *Насмажылі грыбоў.* Яноўшчына Беш. (Ксл.). *Соверш.* **вы́смажыць**—выжарить. Растсл. *Соверш.* **усма́жыць,** *перех.*—изжарить. Ар.
**дасма́жаваць**-*жую-жуеш-жуе; повел.-жуй-жуйма, несоверш., перех.*—дожаривать. МГсл. *Соверш.* **дасма́жыць**—дожарить.
**прысма́жаваць**-*жую-жуеш-жуе, несоверш., перех.*—прижигать, поджаривая. Нсл. 510. *Ня прысмажуй, ня прысмаж цеста, рыбы.* Нсл. *Соверш.* **прысма́жыць**—прижечь, поджаривая. Нсл. 520. *Прич.* **прысма́жаны**—прижжённый, поджаривая. *Прысмажаная капуста.* Нсл. 510.
**2.** кипятить в меду или сиропе. Нсл. 593. *Смажыць яблыкі, вішні, дулі, рэдзьку і інш.* Нсл.
**смажоны**-*ная-нае*—жаренный в масле, вареный в меду. *Смажонае рэдзькі купі.* Нсл. *Смажоныя ў мёдзе ігрушы.* Тм.
**смажаны,** *прич. к* *смажыць 1, 2. Смажаная ў масьле рыба, бульба.* Нсл. 593. *Смажаныя ў валею грыбы.* Тм. *Каша із смажаным алеям.,* Тм.
**3.** курить не переставая. Ксл. *Толькі табаку смажыць.* Яноўшчына Беш. (Ксл.).
**4.** *безлич.*—томить жаждою. *Смажыць — піць хочацца.* Ст.
•**сма́жыцца**—жариться на масле. Гсл.
**смажаніна**—жаркое. Гсл.
•**смажэньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—(фрукты или ягоды, сваренные в сахарном сиропе, на меду или патоке, С.), варение. Нсл. 593; Радашкавічы Вял. *Кума розным смажаньням частавала мяне.* Нсл.
•**смак**-*а̀ку, предл.-а̀ку, зват.-а̀ча, м.*—вкус. ПНЗ; Растсл.; Ар.; МГсл.; Нсл. 594; Шсл.; Ксл. *У паклонах Богу чынячым смаку ня знаеш.* Кіт. 5а7. *Квас — адзін смак, аж ня ўесьціся!* Ст. *Смак паспытаць хацеў.* Стоішча Чаш. (Ксл.). *Смаку, як у печаным раку.* Нсл. *Чырвоны колер, вінны смак, каменна сэрца, чаму так? Загадка* (*вішня*). Ар.
•**смакам,** *нареч.*—по вкусу, вкусом. Нсл. 594. *Смакам добры.* Нсл. *Смакам яблык гаркавы.* Тм.

•**смакава́ць**-*кую-куеш-куе; повел.-куй-куйма, несоверш., перех.*—узнавать вкус, отведывать, пробовать на вкус. Гсл. *См. спытаваць. Соверш.* **абсмакава́ць**-*кую-куеш-куе,* **1.** полюбить вкус чего-л. Нсл. 353. *Еж на здароўіка, калі абсмакаваў нашу страву.* Нсл.
**2.** *перен.*—вообще полюбить что-л., найти вкус в чем-л. Дсл. *Дзяцюк абсмакаваў сабе дзеўку.* Дсл. *Абсмакаваў сабе пан меньне і купляе.* Дсл. *Абсмакаваў дзяўчыну.* Нсл. 353. *Абсмакаваў майго каня дый наваліўся купіць.* Тм. *Прич.* **абсмакава́ны, 1.** излюбленный по вкусу, Ксл. одобренный по вкусу. *Груца — мая ежа абсмакаваная.* Высачаны (Ксл.).
**2.** выбранный по вкусу. Дсл. *Дзеўка дзяцюком абсмакавана.* Дсл. *Соверш.* **засмакава́ць, 1.** отведать. Нсл. 185. *Засмакаваць страву.* Нсл.
**2.** полюбить. Нсл. 185. *Засмакаваў дзяўчыну дый жаніўся.* Нсл. *Соверш.* **прысмакава́ць**—полюбить вкус чего-л. Нсл. 510. *Чаму не прысмакаваць кашу з малаком? Поговор.* Нсл.
•**смакава́цца,** -*куюся-куешся, несоверш.* —услаждаться чем-л., иметь влечение к чему-л. Нсл. 594. *Чаму не смакавацца ў добрым.* Нсл. *Соверш.* **засмакава́цца**—влюбиться. Нсл. 185. *Засмакавацца ў дзяўчыну.* Нсл. *Соверш.* **рассмакава́цца.** Нсл. 594. *Дужа ты нешта рассмакаваўся на чужое.* Нсл. *Соверш.* **усмакава́цца**—войти во вкус.
•**смакта́ць**-чу-*чаш-ча, каго-што, несоверш., перех.*—сосать. Ар.; ПНЗ; Растсл.; Шсл.; Гсл.; Княжыца Куз. (Ксл.).; Вят., Вост., Кал. (Даль). Смокчуць то, что не может струиться, напр. сахар, конфекты(то, что струится —іссуць). *Дай дзяцяці драбок сукру, хай смокча.* Ст. *Досіць табе смактаць косьць, еж мяса.* Нсл. 595. *Отгл. имя сущ.* **смакта́ньне**-*ня, предл.-ню*—сосание(чего-л. немогущего струиться, С.). Гсл.; Ар. *Смактаньне цукеркаў.* Гсл. *Смактаньне мазкоў з косьці.* Нсл. 595. *Смактаньне тваё на ўсю хату.* Нсл. *Соверш.* **вы́смактаць**—высосать. Ар.; Шсл. *Прич.* **вы́смактаны**—высосанный. Ар.; Шсл. *Высмактаная костка.* НК: Пасоб. 101.
**абсмоктаваць**-*тую-туеш-туе, несоверш., перех.*—обсасывать. Шсл. *Соверш.* **абсмакта́ць,** (Шсл.), **асмакта́ць,** (Вят., Даль). *Дай малому костку абсмактаць.* Ст. *Прич.* **абсмакта́ны**—обсосанный. Ар.; Нсл. 740. *Абсмактаную косьць кінь сабаку.*
**насмакта́цца**—насосаться. Гсл.
•**смакаві́ты**-*тая-тае*—вкусный, аппетитный. *Пахне сьвежым хлебам, новым смакавітым.* Рунь 46.
•**смала́**-*лы-ле, ж.*—смола. Ар. *Прыстаў, як смала да кала. Поговор.* Ар.
•**смаля́к**-*ка́, м.* **1.** смольный пень, полено, Ксл. смолистый отрубок дерева, Нсл.; Ар. полено из смолистого корня. Шсл. *Смалякоў назьбіралі ў вагонь.* Лашнёва Беш. (Ксл.). *Падлажы пад трыножкі смаляк, ато цяпло згасьне.*
•**смаліна́**-*ны, единств. ч.* **1.**—одно короткое смолистое полено. Шсл. *Падлажы яшчэ адну смаліну.* Ст.
**2.** смолистая щепа. Нсл.; Ар. *Смаляком печ падтапіць.* Нсл.
**3.** вобще насыщенное смолою полено или бревно. Ар. *Смаляк ня борзда згніець.* Нсл. *Уменьш.* **смалячок**-*чка́,*—смолистый отрубочек. Нсл.; Ар. *Зьбяры смалячкоў, ночы паедзем у рыбу.* Нсл.
•**Смалянін**-*на, мн. ч. Смаляне*—белорус Смоленщины. Нсл. 595. *Купцы Смаляне з таварамі прыехалі.* Нсл. *См. Смальнянін.*
•**смалянка**-*нкі, ж. к Смалянін*—белоруска Смоленщины.
•**смаляну́ць,**—*см. под смаліць I.*
•**смаляны́**-*ная-ное,* **1.** смолистый(от природы смолу в себе содержащий, обильный смолою, С.). Нсл. 595. *Смаляная лучына.* Нсл. *Іх адзеньне смаляное.* Кіт. 1296б.
**2.** наполненный смолою или бывший с смолою, смоляной, Нсл. к смоле относящийся, смольный, смолевый. Міх. *Смаляная бочка ні на шта ня годзіцца, хіба на ўсыпішча.* Нсл. *Стаяла мяккая цішыня, насычаная цёплым смаляным пахам.* ЗСД 79. *На прыгон на сем дзён з торбачкай скураной, з пужкай смаляной, з сучкай рабой.* Міх.
**3.** сделанный из смолы. Нсл. *Людзі чаго ня скажуць і смаляную кабылу зложаць. Поговор.* Нсл.
**4.** липкий, как смола. Нсл. *У каханкі смаляныя лаўкі. Послов.*
**5. смаляное горла**—пьяница. Ар. *Рукі залатыя, але горла смаляное*—о мастере пьянице. Ар.
•**смаля́рня,** -*ні*(**смалярня́**-*ні,* Смаргоні) —смолокуренный завод. Шсл.; Ар.; Смаргоні Аш. *Пайду да смалярні шпігнару дастаць.* Ст.
•**смаля́чка**-*чкі*—смолистая лучина. Нсл. *Смалячкау запаліў ты, дужа яна курыць.* Нсл.
•**смалец**-*лца,* **1.** перетопленное сало, Растсл. стопленный птичий жир.
**2.** разум, сообразительность. Растсл.
•**сма́ліна**-*ны*—гарь, чад от тлеющего холста, или дерева, или шерсти, Нсл. паленный запах, пал. Вят., Вост. (Даль). *Смалінаю пахне! Штось гарыць. Паглядзеце, адкуль ідзець смаліна.* Нсл.
•**смалі́цаю,** *нареч.*—назойливо, как липкая смола. Шсл. *Смаліцаю прычапіўся чалавек дый годзе!* Ст. *Смаліцаю прыстаў да мяне, — чыстая бяда зь ім!* Ст. *Смаліцаю лезе ў вочы!* Ст.
•**смалі́ць I**(**сма́ліць,** Нсл.)-*лю, сма́ліш-ле,* **1.** обжигать, Растсл. обжигать что-л., особенно покрытое шерстью(пухом, **С.**) Нсл. 504; Вят., Вост. (Даль); Гсл.; Ар., обжигать

мелкую щетину на свинье, Шсл. обжигать шерсть на животном. Ксл. *Смаліць кабана, гусь, бараду, шулу.* Нсл. *Бацька смале парсюка на гародзе.* Ст. *Смаліць сьвіньню.* Гсл. *Хадзі памажы сьвіньню смаліць.* Вядрэнь Чаш. (Ксл.). *Соверш.* **засмаліць**—опалить(очистить огнем от волосяного покрова, ворса и т.п., С.), обжечь. Бясл. *Быў такі беленькі кіёчак, дык на табе, узяў ды засмаліў канец, бульбу вымаючы з агню.* Запольле Расьн. (Бясл.). *Соверш.* **абсма́ліць** (Нсл.; Ксл., **асмалі́ць,** Ар.; Шсл.; Даль**],** *соверш. к смаліць 1.* Нсл. 594. —опалить(очистить огнем от волосяного покрова, ворса и т.п., Ар.), обжечь, Шсл.; Нсл. 353; Вят., Вост.(Даль 279, 291) обжечь шерсть, щетину на животном. Ксл. *Асмаліць сьвіньню.* Вят., Вост.(Даль). *Абсмаліць кабана.* Нсл. *Ледзь не асмаліў сабе валасоў лучынаю.* Ст. *Асмалілі сьвіньню.* Ст. *Абсмаліць вяроўку, бараду.* Нсл. *Абсмаліць шулы сасновыя.* Тм. *Кабана ўборзьдзе абсмалілі.* Кашчава Беш. (Ксл.). *Прич.* **абсма́лены, асма́лены,**
а) обожжённый, Дсл. 512. опалённый(о чем-л. пушистом) Нсл. 353; Ар. *Бяжыць воўк, асмалены бок.* Дсл. *Абсмаленая барада.* Нсл. *Асмаленае парасё.* Нсл. *Бегае, як мыш абсмаленая.* *Поговор.* Нсл. *Парсюк асмалены.* Ар.

**абсмалі́ць каго-што**—залить смолой, осмолить. Нсл. 353. *Абсмаліць бочку на капусту.* Нсл. *Многократ.* **асмаля́ць**-*яю-яеш-яе, каго-што*—обжигать. Вят., Вост. (Даль). *Соверш.* **адсмаліць**—удачно ответить. Шсл. *Так адсмаліў яму, што той і ня ведае, што сказаць.* Ст. *Соверш.* **вы́смаліць.** *каго-што*—залить горячею смолою. Нсл. *Высмаліць бочку.* Нсл. *Соверш.* **вы́смаліць, а)** огнем совершенно очистить от шерсти, пуха и т.п. *Высмаліць кабана.* Нсл. 96.
б) (*вочы*)—подвергнуть большому стыду, пристыдить. *Высмаліць вочы.* Нсл. 96. *Ср. высмалены.* *Прич.* **высмалены**—пристыжённый. *Высмалены мне вочы за цябе.* Нсл. 96.
**2.** о солнце: сильно жечь. Ар.; Шсл. *Сонца аж смале.* Ст.
**3.** сильно действовать(о морозе, **С.**) Нсл. 594. *Мароз дужа смале.* Нсл.
**4.** (много, **С.**) курить. Шсл. *Смале ды смале гэтую няшчасную табаку.* Ст.
**5.** *перен.*—сечь, наказывать телесно. Нсл. 594. *Смаль яго, насмаль яму сьпіну, няхай ня пушчае коні ў шкоду.* Нсл. *Соверш.* **насмалі́ць**—наказать телесно. Нсл. 594.
**6.** упреками колоть. Нсл. 594. *Ты заўсёды мне смаліш гэтым вочы.* Нсл.
**7.** быть жестоку в обращении. Нсл. 594. *Такі злы, што агнём смале.* Нсл.
**8.** быстро итти, бежать, ехать. Шсл. *Смале, аж пыл курыць!* Ст.

**смаляну́ць**-*ну́-нѐш-нѐць-нѐм-нідѐ, однкр., перех.* **1.** ударить чем-л. гибким, так чтобы рубаха пристала к телу, как бы облитая горячею смолою. Нсл. 594. *Смалянуў яго аброцьцю, аж ськіпеў бедны.* Нсл.
**2.** сунуть кому-л. огнём или горячею лучиною. Нсл. 594. *Смалянуць каму ў вочы.* Нсл.
**3.** *перен.*, сказать кому-л. жестокий упрек. Нсл. 594. *Як смаляну табе, дык і замоўчыш.* Нсл.

**смальну́ць,** *однкр.*—*смалянуць 1, 2,* (но выражает действие, совершающееся с меньшей силою, **С.**) Нсл. 594.

**адсмалі́ць,** *соверш. к смаліць 5,* **1.** крепко побить(побить чем-л. гибким, **С.**) Шсл. *Ну адсмаліў жа яму дзягі!* Ст.
**2.** *соверш. к смаліць 3,*—быстро проехать или пройти. Шсл. *Як бачыш, адсмаліў пяць вёрстаў.* Ст.
**3.** удачно(и бойко, **С.**) ответить. Шсл. *Так і адсмаліў яму, што той і ня ведае, што казаць.* Ст.

**прысма́леваць(прысмаля́ць ? С.)**-*люю-люеш-люе, несоверш., каго-што,* Нсл. 510, —прижигать(говорится более о шерстяном, **С.**). *Сьвітку прысмалюеш, адыйдзі ад агню.* Нсл. 510. *Соверш.* **прысмалі́ць,** *каго-што,* **1.** прижечь. Шсл. *Лучына, дагараючы, прысмаліла сьцяну.* Нсл. 510. *Прысмаліў валасы.* Ст. *У паўдні сонца прысмаліла.* Ст.
**2.** слишком настойчиво пристать к кому. Шсл. *Як прысмалілі былі ваўкі, дык ледзь абараніўся.* Ст. *Прич.* **прысма́лены**—(несколько, **С.**) спаленный(прижжённый, **С.**), говорится о льняном и более о шерстяном. Нсл. 510. *Прысмаленая сарочка, сьвітка, кажух. барада.* Нсл.
•**смалі́ць II**-*лю, смоліш-ле, каго-што, несоверш.*—мазать, покрывать, натирать, пропитывать жидкой смолой, осмалевать. *Прич.* **смолены**—покрытый или облитый смолою. Нсл. 594. *Смоленая дратва. Смолены човен, смоленая бочка цячы ня будзе.* Нсл.
•**сма́ліцца,** *несоверш.* **1.** пригорать, говорится в особенности о чем-л. холстяном или шерстяном. Нсл. *Сьвітка твая смаліцца, а ты ня бачыш.* Нсл..
**2.** жечься(обжигаться, **С.**) Нсл. 594. *Ня смалься каля полымя стоячы.* Нсл. *Соверш.* **асмалі́цца**—ожечься. Шсл. *Увесь асмаліўся ў пажары ды ледзь не памер.* Ст.
**3.** глазеть в ожидании получения, увиваться. Нсл. 594. *Няма чаго табе тут смаліцца, табе не дадуць.* Нсл.
**4.** сгорать страстью к кому, ухаживать за кем. Нсл. 594. *Дарма ты смалішся, прысмаліўся каля дзеўкі, яна за цябе ня пойдзе.* Нсл. *Соверш.* **прысма́ліцца, прысмалі́цца.** Нсл. 594. *Прысмаліўся каля дзеўкі.* Нсл.

2. *соверш. к смаліцца 1*—пригореть. Нсл. 594. *Сарочка прысмалілася.* Нсл.
3. прижечься. Нсл. 510. *Адзежа твая прысмаліцца, адступіся ад печкі.* Нсл.
•**смаль**—гарь; запах гари, Гсл. запах гари или дымящегося чего-л. холстяного или шерстяного. Нсл. *Смальлю пахне.* (Ксл.). *Адкуль гэта смаль ідзець? Штось тлее.* Нсл.
•**смальля́нка**-*кі, ж.*—большая крыса с длинным хвостом. Нсл. *Каса твая, як у смальлянкі хвост.* Нсл.
•**Смальнянін**-*іна, предл.-іну, зват.-іне*—житель гор. Смоленска. *Рукою многагрэшнага дзяка Сенька, родам Смальняніна.* Мінея 1487 г.(Карский I, 372).
•**смальну́ць,**—*см. под смаліць 1.*
•**сма́льны,** *-ная-нае*—смолистый. Нсл. *Смальная лучына.* Нсл.
•**смарода**-*ды, ж.*—черная смородина. Гсл.
•**смарговы**-*вая-вае*—ясный среди лета, благоприятный для земледельцев. Нсл. 596. *Смарговы дзень прагуляў.* Нсл. *Смарговы дзень зьнядбайліў.* Нсл. 216.
•**смаргану́ць,**—*см. под сморгаць.*
•**смарга́ць,**—*см. под сморгаць.*
•**смарга́цца,**—*см. под сморгацца.*
•**смарге́ль,** *отгл. частица,* 1. быстрое дергание за что: дерг. Нсл. *Смаргель за валасы.* Нсл. *Смаргель мяне за рукаво.* Нсл. *Смаргель хустку з галавы, із шыі.* Нсл.
2. быстрый уход, — шмыг. Нсл. *Смаргель за дзьверы.* Нсл.
•**смарка́ць**-*а́ю-а́еш-а́е, несоверш.*—сморкаться. *Соверш.* **абсмарка́ць,** *каго-што,* 1. обрызгать возграми, сморкая. Нсл. 353; Ар. *Абсмаркаць сьвітку.* Нсл. *Прич.* **абсмарка́ны**—замаранный возграми. Нсл.; Ар. *Абсмарканыя рукавы.* Нсл.
2. высморкать. Дсл. *Абсмаркай нос.* Дсл. *Соверш.* **асмарка́ць**—запачкать соплями. Дсл. *Крысо сваё асмаркаў.* Дсл.
•**смарка́цца**-*а́юся-а́ешся, повел.-ай-айся, несоверш.*—сморкаться. Ар.
**абсмарка́цца,** *соверш., возвр.* 1. запачкать себя возграми. Нсл.; Ар. *Глядзець гідка, як ты абсмаркаўшыся ходзіш.* Нсл.
2. высморкаться. Дсл. *Абсмарка́йся — сапля́кі цякуць із носу.* Дсл. *Соверш.* **засмаркацца**—замараться возграми. Ар. *Соверш.* **вы́смаркацца**—высморкаться.
•**смарка́ч**-*ча́, м.*—возгривец. МГсл.; Ар.
•**смарка́ч**-*ча́, м.* 1. сопля. НК: Очерки, Но. 676.
2. мальчик, не утирающий своего носа. НК: Очерки, Но. 676.
•**смарка́чка**-*чкі, ж.*—девочка, не утирающая своего носа. НК: Очерки, Но. 676.
•**смаршчок**-*чка́, м.*—гриб сморчок. Шсл. *Смаршчкоў з тры падняў.* Ст.
•**сма́чна,** *нареч.*—вкусно. Ар.; Нсл. 594. *Хочаш смачна есьці, дык на печы не ляжы.* Ст.
•**смачны́**-*ная-ное*—вкусный. Вял.; Растсл.; Гсл. *Смачная саладуха́.* Асіпова Аз. (Ксл.). *Смачны прасны́к.* Войстрава Сьміл. (Шсл.). *Смачны жабе арэх, але зубоў Бог ня даў.* *Послов.* Віленш. *Сравн. ст.* **смачнейшы**—вкуснее. Ар. *Прев. ст.* **найсмачнейшы**—самый вкусный. Ар.
•**смэркаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—сморкать. Шсл. *См. смаркаць. Соверш.* **абсмэркаць**—обсморкать. Шсл. *Нашто ты імне бот абсмэркаў?* Ст. *См. абсмаркаць( под смаркаць).*
•**смэркацца**-*аюся-аешся, несоверш.*—сморкаться. Шсл. *Ня смэркайся на мост.* Ст. *См. смаркацца. Соверш.* **абсмэркацца**—обсморкаться. Шсл. *Вой як ён абсмэркаўся!* Ст. *См. абсмаркацца( под смаркацца).*
•**смэркі**-*каў, мн. ч.*—сопли. Шсл. *У цябе з носу смэркі цякуць.* Ст.
•**смуга́**-*угі-узе́, ж.* 1. полоса, черта, штрих. *Сінела смуга лесу.* Цэлеш: Дзесяць 39. *Кіляметры за паўтары сінела смуга лесу.* Тм. 42. *Ён сіліўся перабіраць у памяці усе перажыта... гады маленства, далёкага й цьмянога, як балацяная смуга.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 1-2/437-438). *Дождж абмыў із зямлі смугу, што засталася просьле сьнегу й паводкі.* І. Г.: Лемантар, 84. *Балотныя смугі вады крыжаваліся, перапляталіся мяжсобку.* Хмара(Калосьсе, Но. 1. 1939 г. стр. 7). *Сінія смугі веснавое вады яшчэ ляжалі на лагчынах.* Цэлеш: Ярылаў агонь *Раскалыханыя каласы густой паўдзённаю смугою.* А. Пысін. *Смугі раньняй мыглы былі парваныя на драбныя часткі й белымі цёнямі гінулі ў косках сонейка.* Вехі. Но. 29, 4. *Стала дзіўна: — гады гэтак шпарка прашумелі, бы ўвосень лісты, жоўтым лісьцям, прасадамі парку і ляглі, к смуга, на кусты.* Жылка, 49. *Прынёс смугу карпацкіх тумаоў гаючых.* Лойка: Л. песьня. *Мне сьняцца, акрытыя сонна́ю смугой, лясоў раськінутыя шаты.* Крушына: Творы, 162. *Што прыямней даляў гэтых, апавітых у туман, і лясоў, смугой адзетых?* С. Музыка 262.
2. плесень. Ксл. *Аж смуга чорная стала.* Сухарукава Аз. (Ксл.).
•**смуж,** 1. улитка. Гсл. *См. смоўж.*
2. слизистый червь на поверхности грибов. Гсл. *См. смоўж.*
•**смуніць**-*ню-ніш-не, несоверш., перех.* 1. водить клоком пакли, тряпкой взад и вперед по свитой бечевке, кнуту и т.п., чтобы смягчить витушку, НК: Очерки, 183.
2.—напрасно носить обувь, одежду, излишне употреблять сбрую. НК: Очерки, Но. 372.
•**смурод**-*ду, дат., предл.-дзе, м.* 1. дурной запах, смрад, (МГсл.) вонь; зловоние. Ар.; Нсл.; Шсл.; Ксл.; Гсл. *Высокага роду, ды нарабіў смуроду. Послов.* Рапан. 139. *Ад дзёгцю большы смурод.* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *У хаце смурод, аж нос верне. Ст.*

2. бранное: тот, кто портит воздух. Шсл. *Смурод ты, пайшоў вон адсюль!* Ст.
3. гадкий, презренный человек. Нсл. *Гэта смурод, а не чалавек.* Нсл.
•**смуродны**-*ная-нае,* **1.** смрадный, вонючий, имеющий дурной запах. Ар.; Нсл.; Гсл.
**2.** дурной по поведению. Нсл. *Смуродны чалавек.* Нсл. *Смуродная жанчына.* Нсл. *Нареч.* **смуродна,** *в зн. безл. глаг.*—воняет, Нсл. смрадно. *Смуродна ў хаце.* Нсл.
•**смуроды**-*даў, единств. ч. нет.*—черная смородина(куст). НК: Очерки, Но. 810.
•**смуродзіна**-*ны, ж.*—смородина черная [Ribes nigrum L.] С.; Ар.
•**смуродзіць,** -*джу-дзіш-дзе*—производить смрад, вонь, Нсл.; Ар.; Ксл. портить воздух. Шсл. *Смуродзе тут сваёй мазьзю!* Лужасна Куз. (Ксл.). *Ня смуродзь ты, чаго ты ўбіўся сюды!* Ст. *Соверш.* **абсмуродзіць** —наполнить смрадом. Дсл. *Хату, скварачы сала, абсмуродзілі.* Дсл. *Соверш.* **насмуродзіць, 1.** испортить воздух. Ар.; Шсл.; Нсл. *Ты тут смуродзіш, насмуродзіў толькі.* Нсл. 598.
**2.** *перен.*—напортить в работе, или мало сделать. Шсл. *Нарабіў ты! насмуродзіў ты, а не нарабіў!* Ст. *Соверш.* **усмуродзіць** —наполнить что-либо смрадом.
•**смуродзтва**-*ва. ср.*—пакость, вещь, производящая вонь, смрад. *Смуродзтва нанёс у хату.* Нсл.
•**смурыжыць**-*жу-жыш — смуніць.* НК: Очерки, Но. 372.
•**смутак**-*тку, м.*—печаль. Ар.; Нсл.; Ксл. *Вялікі маем на сэрцу смутак.* Нсл. *Смутак яго па Тацяне заеў.* Падбярозьзе Віц. (Ксл.). *Асеньні вечар над іржышчамі свой смутак атрасаў.* Крушына: Калыханка.
•**смутак,**—невеселье, грустное раздумье. Гсл. *Пей селэват, пойдзе ад цябе смутак.* Кіт. 132аб.
•**смуткаваць,** -*кую-куеш-куе, несоверш.* —предаваться печали. Нсл. 596. *Безь цябе смуткаваць ня будзем.* Нсл.,—грустить, печалиться, быть в меланхолическом настроении. Гсл. *Лес і гай зь ім смуткаваў.* С. Музыка 163.
•**смуткавацца** — *смуткаваць. Соверш.* **засмуткавацца**—погрузиться в глубокую печаль. Нсл. 185. *Засмуткаваліся па сыну.* Нсл.
•**смутліва,** *нареч.*—меланхолично. МГсл.
•**смутлівы**-*вая-вае*—склонный, расположение имеющий к печали. Нсл. *Яна ня смутлівая дзяўчына, ні чым не засмуцілца.* Нсл. *Смутлівая ходзіць яна — сына, сына шукае.* Салавей: Сіла, 26. *Смутлівы позірк маці.* Тм. 94.
•**смутна,** *нареч.*—меланхолично, печально. Нсл.; Ар. *Ён нешта смутна паглядае.* Нсл. 596. *Смутна ды ня весела.* Козіна Пуців.(Халанскі, 166). *Ласкат., уменьш.* **смутненька,** *увелич.* **смутнюсенька.,**
•**смутнагляд**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.*—пессимизм. НТ.
•**смутнець,** -*ею-ееш-ее*—задумываться, грустить. ПНЗ. *Соверш.* **засмутнець**—опечалиться. Бясл. *Пахаваўшы бацьку, дзеці засмутнелі.* Палуж Краснап. (Бясл.).
•**смутны, (***смуцен,* Скар. ІІЦ., *смутна,* Тм. ІІЦ., *смутные,* Тм.)-*ная-нае*—печальный, Ар.; Нсл.; Ксл., печальный, невеселый. Шсл. *То ест смутны дзень(праз судны дзень,* **С.)** Кіт. 33аб. *Яшчэ відзеў аднаго ангела страшнага, на крэсьле сядзеў смутны.* Тм. 117бб. *Смутная гаворка.* Нсл. *Смутная кумпаня.* Нсл. *Смутная галава.* тм. *А чаго ж ты, дзеўка, смутная?* Берашоўцы Беш. (Ксл.). *Смутны ён ходзе: баіцца суду.* Ст.,—грустный, невеселый, скорбный. Гсл. *Чаго, салавейка, смуцен, не вясёл?* Манюкі НЗ.(Косіч 43). *Увелич.* **смутнюсенькі**—совершенно печальный. Аро. *Ласкат., уменьш.* **смутненькі.** Ар.
•**смутуясіць,** -*шу-сіш-се*—сплетничать. Ксл *До табе смутуясіць.* Ракі Аз. (Ксл.).
•**смуціць**-*чу-ціш-це, несоверш. каго-што* —опечаливать. Нсл. 596. *Ня смуці яго такою весьцю.* Нсл.
•**смучаць**-*аю-аеш-ае, каго-што*—тоже, что *смуціць,* но с действием повторяемым. Нсл. *Сваймі весьцямі ты заўсёды нас смучаеш.* Нсл.
**засмуціць,** *каго-што, соверш.*—опечалить. *Ты нас засмуціў.* Нсл. 185. *Засмуціў ён нашу любу.* Гарун: Габруська.
**засмучоны,** *прилаг. из прич.*—опечаленный, огорченный. Гсл. *Васіль слухаў засмучоны.* Дзьве Душы 165. *Засмучоная мая дзяўчына суздром.* Крушына: Лебедзь 3. *Прич.* **засмучаны**—опечаленный. Нсл.; Шсл.; Ар. *Мы ўсі засмучаны тваім няшчасьцям.* Нсл. 185. *Ходзе ён нешта засмучаны.* Ст.
•**засмучэньне**-*ня, ср.* **1.** глубокая печаль. Нсл. 185. *Засмучэньне церпіш вялікае.* Нсл.,—печаль, МГсл. прискорбие, МГсл. грусть. МГсл.
**2.** огорчение. Нсл. *Кажны раз робіш нам засмучэньне.* Нсл. *Несоверш.* **засмучаць,** *каго-што*—причинять печаль, опечаливать. Нсл. 185. *Сваім смуткам і нас засмучаеш, засмуціў.* Нсл. *Іх(бацькоў) слухайце, не засмучайце.* Кіт. 11а7. *Навіны сталі замак засмучаць.* С. Музыка 233., —огорчать, МГсл. опечаливать, Гсл. омрачать. МГсл. *Соверш.* **прысмуціць**-*чуціш-це*—опечалить. Нсл. 511. *Прысмуціў ты нас гэтым сваім словам.* Нсл.
•**смуціцца**-*чуся-цішся, возвр.*—печалиться, предаваться печали. *Ня смуціся, усё Бог дасьць добра будзе.* Нсл. *Ляж, рэкруцік, ня смуціся.* Из песни. Нсл. *Чаго там ужо вельма смуціцца — за гэта не павесяць!* Ст.,—грустить. МГсл.
**засмуціцца,** *соверш., возвр.*—опечалиться. Нсл. 185; Ар.; Шсл.; Ксл. *Засмуціўся, беднянькі, па жонцы.* Нсл. *Засмуціўся, наш сынку.* Ст. *Засмуціўся хлапец па дзяўчыне.* Балдыкова Аз. (Ксл.). *Чаго вы, дзеткі, засмуціліся?* Крушына: Калыханка. *Дзяўчына*

*засмуцілася надоўга.* Дзьве Душы 146.

**прысмуціцца**-*чуся-цішся, возвр., соверш.* —предаться печали. Нсл. 511. *Прысмуціўся я безь цябе.* Нсл. *Многократ.* **смучацца.** Нсл.

**засмучацца,** *возвр.*—опечаливаться, предаваться печали. Нсл. 185. *Не засмучайся бяз нас.* Нсл.,—унывать. МГсл.

•**смуч-ацца**-*аць,—см. под смуціць.*

•**смуччыніна**-*ны,* **1.**—борона с зубьями из сучьев. Ксл. *Смуччыніну прыцягнуў у двор.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.)

**2.** смык. Гсл.

•**смык**-*ка, м.* **1.** смычок. Ар.; Ст. *З-за вуха рэжа смыкам.* тм.

**2.** худой (и одновременно тонкий, **С.**) *Вырабіўся хлопец у смык.* Тм.

**3.** борона с зубьями из сучьев. Пацкова Сян. (Ксл.). *На палядках можна скародзіць толькі смыкамі.* Тм.

•**смык**-*ыка, предл.-ыку, зват. ыча, мн. ч.-кі-коў-ком, мн. ч., предл.-ках, м.* **1.** борона из еловых плах, где сучья дают готовые зубья. НК: Очерки, Но. 693. *Дзяўчына ў вузкіх портках выглядае як смык.* Негнявічы Н.

**2.** относительно короткая, но широкая борона, у которой имеется впереди дуга, вполне заменяющая оглобли, к средине дуги прикрепляется валек. НК: Очерки, 396.

**3.** шерстобитная дужка с тетивою. НК: Очерки, Но. 693.

**4.** (у пилы) дуга, оба конца которой туго прилажены к ручкам. НК: Очерки, Но. 693.

•**смыкаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.. перех.*—дергать, выдергивать. Гсл. *Карова смыкае салому з куля.* Гсл. *Сядзіць на ўслончыку... смыча кудзелю.* Капыловіч: Хлеб(Беларус, Но. 157). *Однкр.*

**смыкнуць**-*ну-неш-не*—дёрнуть чем-л. *Куды размахаліся? Мароз смыкнуў плячыма, падняў вочы.* Вышынскі: Хата пад ліпою(Беларус, Но. 155).

•**смылець**-*іць,* **1.** прижигаться, Нсл. обжигаться волосам(и т.п., **С.**) Ксл. *Хахол сабе смыліць, а ён ня чуе.* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *Сьвітка твая смыліць, глядзі прысмылела, адыйдзі ад агню.* Нсл. *Твае валасы смыляць.* Нсл. *Пячэня смыліць.* Нсл. *Піпка дзедава смыліць.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, 1935 г., Но. 2, стр. 96).

•**смылець**—обжигать волосы, Гсл. быть обжигаему(о волосах, шерсти). Ар. *Соверш.* **абсмылець.** Нсл. 353.—прижечься. *Барада абсмылела.* Нсл. 353.

•**смыліць,** *соверш.* **прысмылела,** *безлич.* —прижигаться. *Смыліць нейдзе, прысмылела.* Нсл. *Соверш.* **прысмыліць.** Нсл. 596. *Чапяла прысмылела.* Нсл. *Блін прысмылеў.* Нсл. *Вусы прысмылелі ад папяросы.* Нсл.

**2.** яриться, пылать гневом. Нсл. *Нешта ён сядні смыліць, знаць шалёная муха ўкусіла за вуха.* Нсл.

•**смылікі**-*коў*—горелки. Ксл. *Пойдзем гуляць у смылікі.* Падрэзы Чаш. (Ксл.).

•**смыль**-*лі, ж.*—гарь. Нсл. *Смыль пахне ў хаце.* Нсл.

•**смычкоў перавоз, 1.** букв., перевоз чрез реку на связанных хворостинных пучках, вместо бревен, как бы перевоз на бороне, называемой *"смыкам".* Нсл.

**2.** *перен.*—чрезвычайная опасность. Гсл.; Нсл. *Ты яшчэ ня быў на смычковым перавозе.* *Послов.* Нсл.

•**сноп,** *снапа, мн. ч. снапы*—сноп. Ар. *Собир.* **снапоўе**-*ўя*—снопы. Нсл. 598. *Снапоўе пагубляў, вязучы.* Нсл. *Собир.* **сноп'е**-*п'я, ср.*—снопы. Ксл. *Як сонейка над захадам, дык пайду сноп'е вязаць.* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.).

•**снова**-*вы-ве, ж.*—основа(при ткании). НК: Очерки, 158. *Ручніковая снова.* НК: Очерки, 158.

•**сноўдацца**-*аюся-аешся*—шляться, сновать, таскаться без дела. Ар.; Ксл. *Што ты бясконца сноўдаешся, не даеш спакою?* Беліца Сян. (Ксл.). *Што табе работы няма — нешта ты сноўдаешся ўзад і ўперад.* Глебаўск. Сян. (Ксл.). *Яны сноўдаліся то з хаты, то на панадворак.* Юхневіч(Б. Моладзь, Но. 18, 13). *Сноўдаўся "Карла" аддаючы загады грубым, асіплым галасам.* ЗСД 165. *І людзі сноўдаліся па вуліцы.* Купала: Спадчына 113. *См. снудацца.*

•**сноўкі**-*каў*—приспособление для снования основы полотна. Верадава Мл. *См. асноўніцы.*

• **сноўніцы**-*цаў, единств. ч. нет. — асноўніцы.* Шсл. *Схадзі, дачушка, аснуй кросны, ато людзі адарвуць к сьвяту сноўніцы.* Харавічы Сьміл. (Шсл.).

•**снадны**-*ная-нае,*—выгодный. Нсл. *Снадны прыпадак упусьціў.* Нсл. *Нареч.* **снадна** —выгодно, удобно. Нсл. *Ср. ст.* **снадней,** *прев. ст.* **найснадней.** *Мне ня так снадна, а табе снадней гэта зрабіць.* Нсл.

•**снадзіва**-*ва; мн. ч.-вы-ваў, ср.*—инструмент. *См. снадзь.*

**музыцкае снадзіва**—музыкальный инструмент.

•**снадзіўны склон,** *грам, неол.*—творительный падеж.

•**снадзь**-*дзі; мн. ч., род.-дзяў, ж.*—инструмент. *См. снадзіва.*

•**снапавое**-*ога*—сноповая доля за засев чужой земли. Нсл. 598. *Снапавога прышлося чатыры двусоценныя копы.* Нсл.

•**снапаўшчына**-*ны — снапавое.* Нсл. 258.

•**снасьць**-*ці, ж.*—мертвый инвентар, Ксл.; Ар. различные земледельческие орудия и хозяйственные принадлежности. Шсл. *У каго снасьць добрая, таму й гаспадарыць добра.* Вяжышча Беш. (Ксл.). *Хто едзе па снасьці, а хто па шчасьці.* *Послов.* Ар. *Як па снасьці йдзе — дык і работа спорна.* Ст.

•**снасьціна**-*ны, единств. ч. к снасьць. Быў чалавек бедны, ня меў ні снасьціны, ні скаціны.* Н.(Афанасьев, У, 1914, 8).

•**снава́лкі**-*ак, мн. ч.* — *асноўніцы.* Шсл. *Трэба прыбіць снавалкі ды снаваць кросны.* Машарова Сьміл. (Шсл.).,

•**снава́льніцы,** *единств. ч. нет.* — *асноўніцы.* Шсл. *Прыбілі да сьцяны снавальніцы кросны снаваць.* Бор Сьміл. (Шсл.).

•**снава́ць,** (Ар.), **снува́ць.** (Нсл. 598) *сную, снуеш, снуець-уем-уіце, несоверш., перех.* —изготовлять основу ткани(сновать, Нсл.) Ар.; Шсл.; Нсл. 598; Гсл. *Соверш.* **аснава́ць.** *перех.*—изготовить основу ткани. Ар.; Шсл. *Хоўра ўчора аснавала кросны.* Войстрава Сьміл. (Шсл.). *Соверш.* **абаснава́ць**—исколесить, Дсл. *Заяц увесь лес абаснуваў.* Смл. (Дсл.).

•**сподкі,**—*см. под ісподкі.*

•**сподні,**—*см. под ісподні.*

•**спозьнены,**—*см. под пазьніць.*

•**сполах**-*аху, предл.* *споласе, зват.* *сполаша, м.*—испуг. *Заплюшчыў вочы ў споласе Заход.* Кавыль: Думы, 8. *Дрыжэлі ў споласе кусты.* Кавыль: Ростань, 40. *Ні сполаху, ні зьдзіўленьня, як чакаў, ня згледзеў на ім.* Вышынскі: Хата пад ліпой(Беларус, Но. 155). *Зьніклі сполахі лесу, супачывала вуха ад настарожанае цішыні.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, Но. 2, 1935, стр. 99). *См. спалох.*

•**спона**-*ны, ж.*—препятствие, препона (преграда, помеха, С.) Нсл. *Ніякае споны ня чыніце ім, няхай едуць.* Нсл.

•**спопеліць**—испопелить. Гсл.

•**спопрыску(спопырску,** Сакуны 41), *нареч.*— в торопях, в жару(как бы подсыпаный *прыскам,* т. е. горячею золою), Нсл. в торопях, сгоряча, (МГсл.); М.; Лепел.; Пц. в попыхах. *Спопрыску пабег.* Нсл. *Спопрыску кінуўся на яго.* Нсл. *Спопрыску ўскочыў.* Нсл. *Спопрыску ня вельмі там балбачы языком.* Пц. *Як ухапіўся ён спопрыску.* Сакуны 41.

•**спор**-*ру, предл. и зват.-ру, м.* **1.** свойство предмета при котором он медленно убывает или быстро прибывает. *Хто ўжывае хэром(арабізма: забароненае), спору ў даму мець ня будзе.* Кіт. 6565. *См. спорнасьць. Спор ім ад Пана Бога прыбудзе.* Кіт. 29а14. *Наступную песьню кажуць "годзіцца пець у доме, каб Бог пасылаў ураджай і спор усюды".* Косіч 68. *Спор у дзяжу! — Сто коп у машну!* Нсл. 606.

**2.** успех, Нсл. 607; МГсл. успешность. *Спору няма ў рабоце.* Нсл. *См. спорнасьць.*

•**спорна,** *нареч.*—(споро, Нсл. 607), успешно. Нсл. 607; Растсл.; Гсл. *У кучы спорна й ахвотна рабіць.* Нсл. *Спорна вам у рабоце!* Гсл. *Аднаму і ў кашы ня спорна. Послов.* Віцен-Дуб. *Спорна варушыліся ськівіцы.* Капіловіч: Хлеб. *Ср. ст.* **спарней.** *Работа пайшла яшчэ спарней, бо адны адных падганялі.* ЗСД 146. *Спарней работа пайшла, бо падрос сын.* Ст.

•**спорнасьць**-*ці, ж.* **1.** свойство предмета, при котором он медленно исчерпывается или быстро прибывает. *У гэтай муццэ спорнасьці мала.* Нсл. 607.

**2.** успешность. Нсл. 607. *Спорнасьць у рабоце.* Нсл. *См. спор.*

•**спорны**-*ная-нае,* **1.** спорый, Шсл. дающий из малого количества много, или медленно убывающий. Ар. *Спорная мука.* Нсл. *Спорны тавар.* Нсл. *Здаецца, так мала сыпала круп, а яны такія спорныя.* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.). *Куплёны хлеб "вельмі ня спорны".* Северщч.(Косіч 22).

**2.** быстро смачивающий землю(о дожде, снеге). *Спорны дожджык прайшоў.* Ст.

**3.** вместительный. Нсл. *Спорны мяшок, шмат лезе ў яго.* Нсл.

**4.** успешный. Нсл.; МГсл. *Спорная работа.* Ст. *Ня спорная ваша работа.* Нсл. *Ср. ст.* **спарнейшы.** *Прев. ст.* **найспарнейшы.**

•**споруч,** *нареч.*-сподручно, сручно. Нсл. *Мне ня споруч туды ехаць.* Нсл.

•**спосаб**-*бу, м.* **1.** средство. Гсл. *Ня маю спосабу палепшыць тваё жыцьцё.* Гсл.

**2.** образ. Гсл. *А якім жа ты тут спосабам?* Гсл.,—приспособление. Гсл. *Бяз спосабу калоды ня рушыш.* Гсл.

•**споведзь**-*дзі, мн. ч.-дзі-дзяў, ж.* **1.** исповедь. Ар.; Нсл.; Ксл.; МГсл. *Быць у споведзі.* Нсл. *Матка пайшла да споведзі.* Казаноўка Чаш. (Ксл.).

**2.** *перен.*—строгий выговор. Нсл. *І ад папа я такое споведзі ня чуў, як ад суседа.* Нсл.

•**споўніць, спаўняць,**—*см. под паўніць.*

•**спабыва́ць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш. каго-чаго,* Адзельск. *Соверш.* **спабыць,** *спабуду-дзеш-дзе*—лишить. Адзельск. *Прич.* **спабы́ты**—лишенный. Адзельск.

**спабыва́цца**-*аюся-аешся, несоверш. каго-чаго*—лишаться. Адзельск. *Соверш.* **спабы́цца,** *спабудуся-дзешся*—лишиться. Адзельск.

•**спагон**-*ону, предл. и зват.-оне,*—взыскание(долга и т.п). *См. сыск.*

•**спабыв-а́ць**-*аца,—см. под бываць.*

•**спаб-ы́ць**-*ыцца,—см. под бываць.*

•**спагоньнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —тот, который взыскивает(долг и т.п.) *См. зыскуючы.*

•**спагоньніца**-*цы-цы, ж.*—та, которая взыскивает(долг и т.п.). *См. зыскуючая.*

•**спага́д**-*ду, предл. и зват.-дзе* — *спагада.*

•**спага́да**-*ды-дзе, ж.*—сочувствие, сострадание. *Яны прынесьлі нялюдзкую злоснасьць, што шыбанула пераз усе краі,, растаптала, спагаду, давер, шчырасьць, сяброўства.* (Бацькаўшчына, Но. 36-37/115-116). *Не знайсьці сэрцу хвораму спагады.* Сноп("Моладзь", 1951, Но. 23). *Просе спагады у кагось.* Кавыль: Ростань II. *Хтось можа ўспомне спагаду шчырую.* (Калосьсе, Но. 1/20, стр. 130). *На вашы могілкі ня гляне ніхто з спагадаю, ніхто.* Дубоўка: Браніслава(Прыйсьце, Но. 1). *І цягнула дзень за днём без спагады, радасьці.* А. Змагар(Прыйсьце,

Но. 1). *Радакца складае ад Беларусаў выявы глыбокае спагады.* Бел. Голас, Но. 106. *Спагада квіцела на зямлі.* Крушына: Творы, 23.

•**спага́даваць**-*дую-дуеш-дуе па чым, несоверш.* **1.** быць сметливым, действовать, применяясь к обстоятельствам. Нсл. 60. *Спагадаваць па часе, па рабоце, па дастатках.* Нсл.

**2.** *каго-што*—подготовлять, приискивать. Нсл. *Спагадуй, спагадай сабе дзяўчыну.* Нсл.

•**спагада́ць**-*даю-даеш-дае,* **1.** *соверш. к спагадаваць 1.* Нсл. 605.

**2.** *соверш. к спагадаваць 2.* Нсл. 605. *Спагадаваць, спагадаць хлеба на зіму.* Нсл. *См. аглядаць.*

**3.** *каму, несоверш.*—сочувствовать. Ар.; Глебауск Сян. (Ксл.); Гсл. *Хто бедным спагадае, чыстае сумленьне мае. Послов.* Рапан.: Прык. 52. *Отгл. имя сущ.* **спагаданьне**-*ня*—сочувствование. Ар.

•**спага́длівасьць**-*ці, ж.* **1.** сметливость. Нсл. 604. *Хто мае спагадлівасьць, ня так борзда ашукаецца; а ты ні ў чым спагадлівасьці ня маеш.* Нсл.

**2.** сочувственность. *Трэба мець спагадлівасьць к бядзе другога.* Нсл.

•**спага́длівы**-*вая-вае,* **1.** рассудительный по обстоятельствам, сметливый. Нсл. *Трэба быць на ўсё спагадліваму: ня здарылася б таго, каб ты быў спагадлівы.* Нсл.

**2.** сочувственный. *Спагадлівы сусед кажнаму паможа.* Нсл. *Нареч.* **спага́дліва, 1.**—рассудительно по обстоятельствам. Нсл. *Спагадліва зрабіў, што ня шмат прадаў збожжа, а пакінуў сабе.* Нсл.

**2.** сочувственно. Ксл. *Мачыха да яго спагадліва адносіцца.* Ухлё Чаш. (Ксл.). *Можа ж табе йсьці куды трэба? — спагадліва папыталася гаспадыня.* Кулакоўскі: Дабрасельцы.

**спага́дны**—сострадательный, сочувственный. Гсл. *Хто цябе спагадным сэрцам да сябе прытуле?* Гарун("На чужыне").

•**спахваля́,** *нареч.*—исподволь, постепенно. Ксл. *Няхай цацэнь спахваля запякаецца ў печы, каб не згарэў.* Гравы Сян. (Ксл.). *Працуючы спахваля больш зробіш.* Беліца Сян. (Ксл.). *Ср. спакваля.*

•**спадоба: да спадобы, не да спадобы**—нравиться, не нравиться. *Лагоднасьць ваша не да спадобы ёй.* Дзьве Душы 170.

•**спад**—скат, сток. Гсл.

**спад вады**—сток. МГсл.

•**спадаба́ць**—полюбить. Гсл.

**я спадабаў яе**—она мне понравилась.

•**спадаба́цца**—понравиться, полюбиться, приглянуться. *Данілу спадабалася Наста.*

•**Спада́р**-*рà, тв.-ром, предл.-рỳ, зват.* *Спадàру* **1.**—Господь. *Спадàру Божа, чыстая вада твая, ачысьці цела мае грэшнае.* Кіт 71б17. *Божа Спадару естам зь пяску створоны.* Тм. 81а10. *Божа Спадару, я ізь пяску стварóны і зноў у пясок пайду і пяском буду абернены.* Тм. 81б12. *Вечны родзіцца нам сядні Спадар сусьвету бяздомны.* Малітаўнік "Голас Душы", стр. 214. *Наўкола зорыць ласкай Спадар Навышні із Свае Гасподы.* Салавей (Конадні, Но. 5-6, 16). *Зяленівам пышна прыбраны цьвіў сад сярод жывых далін, Яго вялікі, усім нам знаны Спадар — Гаспод наш пасадзіў. У кажны год Спадар нанова наведваў Свой чароўны сад.* Ев. Сьпеўнік, 38. *Тут гараднічы жалю поўны пачаў маліць Гаспадара: О, мой спадару, усяроўна дазволь яшчэ паспрабаваць.* Тм. 39.

**2.** господин. Пск.(Каринский: Пск., 86, 142, 188). *Хто есьць спадар?* 1489 г.(Карскі: Рус. Диалектология, 98). *Служыць сваім спадаром ку кажнай патрэбе.* Стт. 14. *Так, як сам спадар скажа.* Нсл. 605. *Спадàру княжа.* 1587 г.(О. Горбач, II). *Даруйце мне, Спадарыні і Спадары!* Бацьк., Но. 30(466).

•**спадарожнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—спутник. *Я. Купала ўходзе ў наша сьведам'е із самага маленства і становіцца нашым спадарожнікам на ўсё жыцьцё.* Івашын(Блр. Голас, жн. 1962).

•**Спадароў**-*ова-ова,* **1.** принадлежащий Господу или относящийся к Господу, Господний.

**2.** относящийся или принадлежащий господину, господинов.

•**спадарскі**-*кая-кае*—господский.

•**спадарства**-*ва—"Спадары"* и *"спадарыні"* вместе, господа. *Яго спадарства пагібнець а воінства.* Сказаньне а Сівільле (Варш. Ун. Изв. 1898). В *"Выпісах зь беларускае літаратуры"* Гарэцкага, Дзярзынскага, Каравая, ч. 1, стр. 207, это слово(в оригинале оно *сподарство*) заменено словом *"господарство"*, хотя даже древнее правописание в этих *"Выпісах"* вообще сохранено.

•**спада́рыня**-*ні-ні, ж.*—госпожа. *Спадарыня, соўнца, месяц, зьвездухна, дай крошку хлеба... Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зернетка, дай ложачку дзіцятку варыўца сырога.* Баркулабаўскі летапіс, надрукаваў Раманоў, Вільня 1910, стр. 39.

•**спада́рынін,** -*на-на*—принадлежащий госпоже.

•**спада́рыч**-*ча, предл.-чу, м.*—сын господина.

•**спада́рычна**-*ны-не, ж.*—барышня. *Ср. братанічна. сястрычна.*

•**спада́ць,**—*см. под падаць.*

•**спадкаемства**-*ва, ср.*—наследование.

•**спадкае́мца**-*цы, общ.*—наследник-ница, получающий-щая наследство. *На гэтых хундамэнтах ягоны спадкаемца Сталін*

*дабудаваў... турму народаў.* Бацьк., Но. 45(580). *Ср. дашаемца.*

●**спа́дкавасьць**-*ці, ж.*—наследственность.

●**спа́дкавы**-*вая-вае*—относящийся к наследству, наследственный. *Спадкавыя рэчы.* Нсл. *Спадкавы двор.* Нсл.

●**спадкі́**-*каў, мн. ч.*—деньги и имущество, перешедшие по наследству, по завещанию. НК: Старцы, Но. 91. наследство. Ксл.; Шсл. *Кавалішыны спадкі засталіся.* Навікі Віц. (Ксл.). *Ён яшчэ жывець дзедаўскімі спадкамі.* Ст. *Спадкі ад нябожчыка дзеда.* Нсл. 602.

●**спадлі́вы**-*вая-вае*—покатный. МГсл.

●**спадма́н**-*ну, м.*—соблазн, обольщение. Гсл.; Вал. *Сама нехарошая, харошага спадману.* Гсл. *У нас ня было ніякага спадману.* ЗСД 270.

●**спадману́ць,** *-нý-нèш-нèць-нèм-ніцè*—соблазнить, обольстить. Войш.; Ксл. *Яны нас спадманулі.* Селядцова Беш. (Ксл.). *См. падманіць, падмануць.*

●**спадма́нчык**-*ка*—соблазнитель. *Скуль узяўся той Іванчык, дзявоцкі спадманчык. Ён вытаптаў чорну сьцежку дзеўцы пад аконца. Як вытаптаў чорну сьцежку, перастаў хадзіці; як учыніў ліху славу, перастаў любіці.* Из песни, Войш.

●**спадня́к**-*якà, предл.-якý, зват.-ячa; мн. ч.-кі-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—юбка. Шсл. *Надзень суконны спадняк, бо на дварэ сядрава.* Ст. *См. спаднік.*

●**спадні́к**-*ікà, предл.-ікý, зват.-іча; мн. ч.-кі-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—юбка. Ксл. *Знасіўся спаднік.* Расна Сян. (Ксл.). *См. спадняк.*

●**спадні́ца**-*цы-цы, ж.*—юбка. Ар.; МГсл.; Шсл.; Нсл. 605; Косіч 227. *Набрала сабе на спадніцу ў кветкі.* Ст. *Спадніцу новую купіла.* Нсл. *См. спадняк, спаднік.*

**мушкаваная спадніца**—юбка из материи зеленого цвета с пришитыми на ней клочками красной шерсти в вершок длины. Косіч 227. *Уменьш.* **спаднічка**-*чкі-ччы*—юбочка. Ар.; Нсл. *У парванай спаднічцы прышла да нас.* Нсл.

●**спадзе́я**-*èі, ж.*—надежда. Нсл. 605. *Спадзеі няма на яго.* Нсл. *Спадзею маю, што ён будзе.* Нсл. *Уменьш., ласкат.* **спадзе́енка**-*нкі*—надежда, чаяние. Нсл. *Спадзеенкі няма, каб ён борзда вярнуўся.* Нсл. *Ласкат.* **спадзе́енька**-*кі*—надеюшка. *Нсл. І спадзеенкі ня было, каб ты прыехаў сядні.* Нсл. *Спадзеенькі няма.* Нсл.

●**спадзе́яцца,** *-дзяюся-дзяèшся-дзяèцца-дзяèмся-дзяіцèся*—питать надежду, уповать(надеяться, С.) Нсл. *На аднаго Бога спадзяюся.* Нсл. *Не спадзеяўся я, каб ты сядні прыехаў.* Нсл. 337( *под неспадзявацца*). *Отгл. имя сущ.* **спадзеяньне**-*ня* — *спадзяваньне.* Нсл. *Над спадзеяньне прыехаў.* Нсл.

●**спадзейнасьць**-*ці, ж.*—уверенность, надежность. Гсл.

●**спадзейны**-*ная-нае*—надежный, верный, Нсл. уверенный. Гсл. *Спадзейную мае дзяўчыну.* Нсл. *Не спадзеўны госьць.* тм. *Гэта спадзейны чалавек, можна верыць.* Нсл.

●**спадзе́ва**-*вы, ж.*—надежда. Нсл. *Спадзевы няма, ці будзе жыў.* Нсл. *Спадзеву страціў.* Нсл. *Шчодрасьць Вініцава пярэйдзе тваю спадзеву.* Тат.: Кво вадыс, 110.

●**спадзеўна,** *нареч.*—вероятно. МГсл.

●**спадзеўны**-*ная-нае*—... *І пяяцьме ўсё тое, што на сэрцу ляжыць: веснавое, сьвятое і спадзеўнае жыць.* Творы, 177.

●**спадзява́нікі**-*каў*—что-л. ожидаемое. Нсл. 605. *Выбачай на спадзяванікі, еж, што даюць.* Нсл. *Спадзяванікаў табе не прыгатавалі.* Нсл.

●**спадзява́нка**-*кі*—тоже, что *спадзева*, но не в важных предметах. Нсл. *Спадзяванкі ня было, каб ты сядні прыехаў.* Нсл.

●**спадзява́ць**-*дю-деш-де на што*—рассчитывать, полагать на что. Нсл. 605. *Дзеці спадзяюць на тваю помач.* Нсл. *На гэта больш не спадзявайце, ды самі раненька ўставайце, адно аднаго пабуджайце.*

●**спадзява́цца,** *-яюся-яешся-яецца-ямся; повел. спадзявайся-аймася на каго-што,* 1. надеяться(уповать, С.), питать надежду. МГсл.; Ар.; Ксл.; Шсл.; Нсл. *Ты на мяне дужа не спадзявайся.* Дрыкольле Куз. (Ксл.). *Няма мне на каго спадзявацца: трэба самому рабіць.* Ст. *Спадзяваўся дзед на мёд, а без вады спаць лёг.* *Послов.* Рапан. 47. *Адна дзевачка засталася, на каго яна спадзявалася?* Лупекі Стдуб(Косіч 246). *На Бога спадзявайся. дый сам старайся.* *Послов.* Рапан. 62. *На большае не спадзявайцеся, госьцікі; кажуць гаспадары пад канец чэсьці, просячы выбачэньня, што няма чым болей частаваць.* Нсл. 337. *Не спадзяваўся я, каб ты сядні прыехаў.* Тм.

**спадзявацца яго**—ожидать.

**спадзявацца на яго**—надеяться на него.

**неўспадзеўкі, зьнячэўку**—нечаянно.

2. *каго-чаго,*—ожидать того, что не бывает несомненно.

3. ожидать. *Ня зюкаў ёй праз каханьне, чаго Ванда спадзявалася.* Шакун: Сьлед, 14. *Спадзяемся гасьцей.* Нсл. *Прич.* **спадзява́ны**—ожиданный, чаянный. Нсл. *Твая спадзяваная дзяўчына за другога вышла.* Нсл. *На спадзяванага госьця шмат трэба.* *Послов.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **спадзява́ньне**-*ня*—ожидание, чаяние. Нсл. *Спадзяваньне маем, што борзда прыедзе двору.* Нсл. *Над спадзяваньне аддаў доўг.* Тм. *Соверш.* **заспадзява́цца** *на каго-што*—понадеяться. Нсл. 186. *Я на яго заспадзяваўся, дый здурнаваў.* Нсл.

●**спадзі́на**-*ны, ж.*—склон. Гсл.

●**спазаранку,** *нареч.*—с раннего утра, рано утром. *Спазаранку аж да вечара сядзеў у нас.* Нсл.

Несьвеж. *Вось сытыя буракі — адны скалкі!* Ст.(Шсл. *под скалка*). *Уменьш., ласкат.* **сы́ценькі.** Ар.; Шсл. *Сыценькае парасётка.* Ст. *Увелич.* **сыцю́сенькі**—совершенно жирный. Ар. *Ср. ст.* **сы́тшы**—более жирный. *Сытшага кабана выбірай.* Нсл. 630. *Надта худы, каб быў сытшы, дык начай было б.* Ар. *Чыньце курбаны*(*арабізм, аброкі*) *што налепшае і сытшае, як у каране піша.* Кіт. 26а11. *Мітрапаліт Пацей упікаў брацкім вучыцелям Зізаням і іншым, што яны "професара школьныя" з Ільвова а Берасьця, за гальлівасьцяй пагнаўшыся "да Вільні на сытшыя пірагі адбеглі".* *Прев. ст.* **найсытшы,**—жирнейший. Ар.

•**сыце́ць**-*ёю-ёеш-ёе; повел.-ей-ейма, несоверш.*—жиреть. Ар.; Шсл. *Слаба сыцее наш парсюк.* Ст.

•**сыціня́**-*ні-ні́, ж.*—тучность, жирность, упитанность. Ар.; Мал. *Бараны плацілі ад 8-ёх да 15-ёх залатовак, залежна ад сыціні й вялічыні.* Укропава Мал.

•**сыці́ць I,** *сычу́, сы̀чыш-ча, несоверш., перех.*—подслащивать воду,квас и т.п. медом или разводить мед водой; настаивать мед на чем-л. *Соверш.* **насы́ціць,** *перех.*—засластить воду медом. Шсл. *Насыцім міску вады ды будзем есьці з хлебам.* Ст.

**засы́ціць**-*ы̀чу-ы̀ціш-ы̀це, соверш., перех.* —засластить воду медом. *Во цяпер добра засыціў: салодка.* Ст. *Ср. насыціць.*

•**сы́ціць II,** *сы̀чу, сы̀ціш-це; повел. сыцьцьма, несоверш., перех.*—насыщать. Ар.; Гсл.

**сыць, Божа**—хлеб-соль; приятного аппетита! Ар.; Доры; Іг.

**сыць вам!**— пожелание, приветствие кушающим. Ксл. *Сыць вам, людцы!* Даўгое Беш. (Ксл.). *Соверш.* **насы́ціць**-*сы̀чу-чы̀ціш-сыце*—пропитать одно вещество другим; сделать содержащим что-л. в изобилии; насытить. *Прич.* **насы́чаны**—насыщенный. *Стаяла мяккая цішыня, насычаная цёплым, смаляным пахам.* ЗСД 79.

•**сыці́ць,** *сычу́, сыціш-це,* (*перен.*)—подслащивать воду, квас и т.п. медом или разводить мед водой.

•**сыць**—сытость, упитанность, дородство. Гсл. *А яшчэ ня выбегла нідзе з пад зямліцы траўка маладая — сымболь сыці.* Крушына: Лебедзь 41.

•**сыцьцё**-*ця, предл.-цю, ср.*—сытость; пищевое довольство, (Гсл.) вкусная и питательная еда. НК: Старцы, Но. 8.

•**сыцьце**-*ця, предл.-цю, ср.* **1.**—довольство в пище, сытость. НК: Под. пос., Но. 19. (*Наймiт*) *ня можа забыцца панскага а паповага сыцьця.* НК: Пособ., 148.

**2.** материальный достаток, общее довольство. Гсл.

•**сюдой,** *нареч.* — *сюдэй. Ты йдзі сюдой, а я пайду тудой.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**сюдою,** *нареч.*—этою дорогою. *Сюдою ляпей ехаць.* Нсл. *См. сюдэй, сюдэма.*

•**сюды́,** *нареч.*—сюда. Ар.; Шарыпіна Беш. (Ксл.). *Сюды павярні каня.* Нсл. *Ні ту̀ды, ні сю̀ды, мае мілыя ту̀ды. Поговор.* Нсл.

•**сю́каць**-*аю-аеш-ае, несоверш., детск.*—мочиться, *Сюкай, пасюкай на нач.* Нсл. 631. *Отгл. имя сущ.* **сюканьне**-*ня, предл.-ню, детск.*—испускание мочи. *Сюканьне тваё даўгое.* Нсл. 631. *Соверш.* **абсю́каць,** *детск.* —обмочить уриной. *Іванка абсюкаў.* Дсл. *Соверш.* **пасю́каць,** *детск.*—испускать мочу некоторое время. Нсл. 631.

•**сю́каца**-*аешся, несоверш.*—мочиться под себя(о детях). *Кажную ноч дзяцё сюкаецца, усюкаецца.* Нсл. 631. *Соверш.* **абсюкацца,** *детск.*—обмочиться(уриной, С.). *Іванка абсюкаўся.* Дсл. *Гэта ж ты абсюкаўся!* Нсл. 631. *Соверш.* **усю́кацца** —обмочиться уриной(о детях) Нсл. 631.

•**сю́сець**-*ею-ееш-ее, несоверш. — сюкаць. Дзяцё сюсее, пасюсела.* Нсл. 631. *Соверш.* **абсюсіць,** *детск.*—обмочить(уриной, С.). *Дзяцё матку абсюсіла.* Дсл. *Соверш.* **пасюсіць,** *детск.*—помочиться. Нсл. 631.

# Ш

**•шолах**-*ху, м.*—шелест, Нсл.; Ксл. шелест, шум(леса, травы), шорох. *Гсл. Шолах ад адзежы.* Нсл. *Прахадзіце бяз шолаху, бо тут сабакі злыя.* Тм. *Баяцца парушыць цішу нават ледзь чутным шолахам.* ЗСД. *Шолах у лесе страшыў мяне.* Макараўка Куз. (Ксл.). *Нейкім жалям павявала ад аголеных палёў, ад шнуроў тых, дзе бывала нёсься шолах каласоў.* С. Музыка 35. *Ходзіць ветрык на прывольлю, носе шолах многадумны.* Тм. 162. *Я чую твой голас у шолаху зёлак.* Тм. 188. *Напружаныя шолахі ночы зьніклі з усёй сваёй фантастыкаю.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, Но. 2, 1935, стр. 100). *Апошнім шолахам скрываўленыя раны хацела ліпа ўчора патушыць.* Іверс.

**•шолахаць**-*ае,. несоверш.* **1.** шатаь, колебать, шевелить, Нсл. 715. шелестеть. *Соверш.* **зашолахаць**—зашелестить. *Ня шолахай столу.* Нсл. *Однкр.* **шалахну́ць.** Нсл. 715. *На дварэ так ціха, што вецер і пяра не шалахнець.*

**2.** производить шелест, Нсл. 715. шелестеть *Нехта за намі адзаду шолахае, шалахнуў.* Нсл.

**•шолахацца**-*аецца, несоверш., возвр.*—колебаться, шевелиться. Нсл. 715, *страд. к шолахаць. Однкр.* **шалахну́цца**-*нёцца.* Нсл. 715. *Пяро ня шолахаецца, не шалахнулася.* Нсл. *Соверш.* **зашолахацца**—заколебаться, зашевелиться, зашелестеть. *Вада зашолахалася на возеру.* Нсл.

**•шолахны**-*ная-нае, прилаг. к шолах. Шолахнага золата ў садзе мы цяпер ня можам зразумець.* Крушына: Творы 79.

**•шолам**-*ма, м.*—каска, шлем. Радзівілаў летапіс, 191 адв.

**•шоргат**-*ату, предл. и зват.-аце, м.*—шорох с дерганием, с некоторым скрипом. *Ён сьцішыўся, слухаючы шоргат дажджу ў лістоце.* Карамазаў(Г. Радзімы, Но. 1066). *Хачу... паслухаць шоргат сініх шаратоў.* Ю. Сьвірка. *Узьлесак цінькае сініцамі пад шоргат сьпелых верасоў.* Тм. *Ср. шоргаць.*

**•шоргаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—производить шорох, шум дерганием. Ар.; Ксл. *Ня шоргай па сталe.* Ухлё Чаш. (Ксл.). *Ня шоргай ты нагамі.* Ст. *Однкр.* **шаргану́ць**-*ну-нёш-нёць-нём.* Ар.; Шсл. *Ішоў ды шаргануўся аб маё плячо.* Ст.

**•шоргацца,** *возвр.*—тереться(производя шум, **С.**) Шсл.; Ар. *Спакойна сядзі, ня шоргайся.* Ст.

**•шорхнуць**—дрожать, зябнуть, покрываться шероховатостью. Гсл.

**•шорык**-*ка, м.*—мочалка для мойки в ване. Растсл.

**•шорсткі**-*кая-кае*—жесткий, МГсл.; ПНЗ. шершавый. Растсл. *Шорсткі сівец, як шчаціньне.* Ст.

**•шостка**-*кі, ж.*—шестерка. МГсл.

**•шосты**-*тая-тае*—шестой. Гсл.; Ар.; Косіч 751; Нсл. 716; Арл., Карач.(Будде: Т.-Орл., слов.). *Шосты дзень у дарозе.* Нсл.

**•шоўк,** *шоўку, предл. шоўку, зват. шоўча, м.*—шелк. Ксл.; МГсл.; Нсл. 715. *Із шоўку пашыла спаднік.* Берасьні Беш. (Ксл.). *Купіць шоўку.* Нсл. *У даўгу як у шаўку.* Нсл.

**шоўкам лён**—приветствие треплющим лён. Ксл. *Шоўкам лён, сястрыцы!* Каверзіна Меж. (Ксл.).

**•шабадраны**-*ная-нае*—оборванный. *Хомачка цярэбе ў руках шабадраную, з аблезлымі штучнымі баранькамі, шапку.* Гарэцкі: Песьні, 56.

**•шабалдоўка**-*кі, ж.*—набалдашник. Ксл. *На палцы харошая шабалдоўка.* Сьвярдлы Беш. (Ксл.).

**•шабальбоны**-*наў, мн. ч.*—помидоры, томаты. Шсл. *Вялікія парасьлі шабальбоны, па кулаку.* Загай Пух. (Шсл.).

**•шабасава́ць,** -*сую-суеш-суе, несоверш.* —праздновать субботу свойственно евреям. Нсл. 703. *Соверш.* **зашабасава́ць** —начать праздновать субботу. *Жыды тут зашабасавалі.* Нсл.

**•ша́бля**-*лі-лі, ж.*—сабля, шашка, Гсл.; Ар. сабля. Ксл.; Ар.; Шсл.; Растсл. *Бяры войстру шаблю.* Плашкова Стдуб.(Косіч 41). *Шабля кляпаная(у жаўнераў).* Дсл.( *под "Арнадер"*). *І шаблю прычапіў.* Бачэйкава Беш. (Ксл.). *Жаўнер ідзе із шабляю.* Ст. *Шабляю ўдырыў каралевіча.* Н.(Афанасьев, I, 1913, 211). *Уменьш.* **ша́белька**-*лькі-льцы, ж.. Дам табе шабельку.* Яноўшчына Беш. (Ксл.). *Я й паходу не баюся, зараз убяруся. Я й боцікі на ножанькі, шабельку ў ручкі.* Кажамякі Імгл.(Косіч 43). *Собир.* **ша́бельле**-*ля, предл.-лю.* Гарэцкі: Песьні, 6.

**•шабу́ня**-*ні, ж.*—навес, сарай на столбах. Ксл. *Злажылі ўсю салому ў шабуню.* Прудок Віц. (Ксл.).

**•шабуня́ць***яю-яеш-яе, несоверш.* **1.** говорить. Варсл. *Там дзед на печы нешта шабуняе.* Варсл. *Соверш.* **зашабуня́ць**—начать *"шабуняць".*

**2.** шутить, забавлять. Гсл.

**3.** бушевать. Гсл.

**•шабунькава́ць**—шутить. Гсл.

**•шабу́нькі**-*каў*—шутки. *Майстра на жарты які, на хіхоты; як удаецца ў шабунькі, у залёты.* Гарун: Варажба.

●**шáга,** *шáгі, шáзе, ж.*—битое(при игре *"у бітκі",* **С.**) сваренное яйцо. Ксл. *У каго мая шага?* Спаская Сір. (Ксл.). *Я табе аддаў шагу за кацік.* Тм.
●**шах-мах,** *междомет.*—говорится о слишком поспешном образе действий. Гсл.
●**шахаўнíца, 1.** чрезполосица. Гсл.
**2.** шахматная доска. Гсл.
●**шáхва**-*вы-ве, ж.*—шкаф. Гсл.; Растсл.; Ксл.; НК: Очерки, Но. 278, стр. 323. *См. шапа. Ён зрабіў дужа харошую шахву.* Селядцова Беш. (Ксл.). *Уменьш.* **шáхвачка**-*чкі-чцы* —шкафик. НК: Очерки, Но. 278.
●**шáхвір**-*ра*—шафер. Ксл. *Мой пляменьнік быў за шахвіра.* Мясаеды Беш. (Ксл.).
●**шадрон**—гарус.
●**шадýха**-*ýхі-ýсе, ж.*—шерстяной самотканный платок. Ксл. *Яна выткала шадухі.* Нов. Сяло Беш. (Ксл.).
●**шáйнасьць**-*ці, ж.* **1.** уважание. Ксл. *Няма ў нас да іх шайнасьці.* Заронава Куз. (Ксл.).
**2.** присмотр. Ксл. *За імі была такая шайнасьць — затым яны такія нудныя.* Зямковічы Сян. (Ксл.).
●**шайтáн**-*нà, предл.-ну, зват.-не, м.*—сатана. *Збаўцу водзяць шайтаны, мярэжы.* Кавыль: Думы 15. *Сьлізой шайтана спражыў горла.* Тм. 20.
●**шаколы**-*лаў, единств. ч. нет.*—скорлупы, отделенные от зерен; получаются при обработке перловой и гречневой крупы, или также становятся выжатые овсяные высевки после настоя цежи. НК: Очерки, Но. 556.
●**шаковіны, шакíвіны,** *мн. ч.*—кожура от семени. Ксл. *Калі аддзерлі грэччыну, дык засталося шмат шаковін.* Сянно (Ксл.). *Нясі шаківаны ад ячменю.* Бель Выс. (Ксл.). *См. шаколы, шакіны.*
●**шакіны**-*наў, единств. ч. нет. — шаколы.* НК: Очерки, Но. 556.
●**шаќвіны,**—*см. под шаковіны.*
●**шал,** *шалу, м.* **1.** бешенство, НК: Игры, Но. 13; Нсл. 705. бешенство, водобоязнь. Ар.; Ксл.; Смл. (Даль). *Шал забраў сабаку.* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *Лек ад шалу.* Нсл.
**2.** бешенство(неистовство, **С.**), ярость. Гсл.
**3.** безумие, (МГсл.) дурь. Нсл. 705. *Шал у галаву запаў, у такіх гадох жаніцца.* Нсл.
**4.** шалость, буйство. Нсл. *У яго яшчэ шал із галавы ня вышаў. Нсл. См. шалы.*
**5.** в бранном смысле, НК: Игры, Но. 13. сумасшествие.
●**зашалохаць**—зашелестить. Нсл. 193. *нешта ў кустох зашалохала.* Нсл.
●**шалохацца,** *-аюся-аешся,*—шелестеть. МГсл.
●**шалахáн**-*на, м.*—ротозей, зевака. Ар.
●**шалахáніць**-*ню-ніш-не, несоверш.*—ротозейничать, зевать по сторонам, глазеть. *Паедзь із ім на кірмаш, ён табе нідзе ня будзе шалаханіць, але пры возе будзе.* Ар.

●**шалапýт**-*та, предл.-ту*—бестолковый, Ксл. ветрогон, безрассудный, сбалмочный. Смл., Кур. (Даль) бестолковый, беспутная голова. Гсл. *Яго дужа ня слухай. ён шалапут.* Пятніцкая Беш. (Ксл.).
●**шалапýтка,** *-ткі-тцы, ж.*—женщина *"шалапут".* Смл., Кур. (Даль).
●**шалапýціць**-*чу-ціш-це*—делать что-н. бестолково, опрометчиво, безрассудно, ветренно. Смл., Кур. (Даль). *Соверш.* **ашалапуцець**-*ею-ееш-ее,* — потерять на некоторое время способность реагировать на что-л. в результате переутомления или в связи с неожиданным случаем. Янк. І. *Крычаць "пажар", а я ашалапуцела і ізь сенцаў ня выйду.* Янк. І. *Соверш.* **ашалапуціць**-*пучу-пуціш,* **1.** лишить сознания. Войш. *Каб сабаку ашалапуціць, тады яго лягчэй забіць.* Войш.
**2.** обмануть. Ксл. *Ашалапуціў старога.* Астроўна Віц. (Ксл.).
●**шалавíна**-*ны-не, ж.*—жердь для привязки соломы на крыше. Ксл. *Шалавінаю тужэй прывяжы.* Гарадок (Ксл.).
●**шалбéрыць**—плутовать. Гсл.
●**шалгаўё**-*ўя, собир.*—жерди для привязывания соломы на крыше. Ксл. *Ідзі насячы шалгаўя.* Сінякі Аз. (Ксл.).
●**шалгунок**-*нка, предл.-нку, зват. шалгýнку; мн. ч.-нкі-нкоў-нком-нкі-нкамі-нкох, м.*—заплечный мешёчек. Пск.(Иеропольский).
●**шаленства**-*ва, ср.,* **1.** безумие. Гсл.
**2.** сумасбродство. Гсл.
●**шалéць**-*èю-èеш-èе, повел.-ей-ейма, несоверш.* **1.** (заболевать бешенством, Ар.), беситься. МГсл.; Ар.; Нсл. 705; Ксл. *Сьвіньні шалеюць, сабака, знаць, шалёны пакусаў.* Нсл. *Вось нешта зрабілася, пачалі сьвіньні на сяле шалець. Як падыйдзе маладзік, дык ён і шалее.* Ст.
**2.** бесноваться(неистовствовать, быть в состоянии крайнего возбуждения; буйствовать, **С.**) Гсл., сильно сердиться и ругаться. Шсл. *Крычыць, лаецца і сам ня ведае, як шалець!* Ст. *Шалее, ашалеў гэты чалавек, яму ўсё ні па чом.* Нсл. 705.
**3.** *па кім, па чым,*—сходить с ума(по ком-л.), безумно хотеть(чего-л.). *Шалее дзяцюк па дзеўцы.*
**4.** усердствовать слишком в работе. Шсл. *Людзі аж шалеюць, возяць снапы.* Ст.
**5.** шалить(шалость делать, Нсл.), баловаться, резвиться. Ар,; Шсл.; Нсл. 705. *Вучаньнікі шалеюць на пагулянцы.* Ар. *Дзеці шалеюць.* Ст. *Не шалейце, дзеці.* Нсл. *Соверш.* **нашалéць.** Нсл. 705. *Дзеці тут нашалелі шмат.* Нсл.
**ашалéць,** *соверш. к шалець 1,* **1.**—взбеситься(заболеть бешенством, водобоязнью, **С.**) Ар.; Нсл. 388; Ксл.; Дсл. *Ягоны сабака ашалеў.* Шыпы Сян. (Ксл.). *Сьвіньня ашалела.* Нсл. 388. *Ашалей ён ад мяне!* Нсл.
**2.** сойти с ума, обезуметь. Ксл. *Ці ты ашалеў, ці што?* Навікі Віц. (Ксл.). *Ашалеў, кідаецца біцца.* Нсл. 388.

**3.** придти в неистовство от какого-л. аффекта: гнева, любви, горя. Дсл. *Ашалеў ад гарэлкі.* Дсл.
**4.** *па кім, па чым, соверш. к шалець 3,*—влюбиться до безумия. Нсл. 388. *Дзеўка ашалела па дзяцюку.* Нсл.
**5.** о действии, выходящем из обычных границ, хотя иногда желательном. Дсл. *Просьле дажджу ашалела(расьці) трава.* Дсл. *Купцы просяць ашалеўшы.* Дсл.

**ашале́лы**-*лая-лае,* **1.** бешенный. Дсл. *Кідаецца з кулакамі як ашалелы.* Дсл.
**2.** поддавшийся чересчур какому-л. аффекту. Дсл.

**ашалява́ньне, 1.** действие по гл. *ашаляваць 1.*
**2.** действие неразумное, выходящее из обычных пределов: веселость, шалость, гнев. Дсл. *Дадзелі мне іх скокі, дадзела ашаляваньне.* Дсл. *Ашаляваньням п'яны ўсіх разагнаў з хаты.* Дсл.

**ашалява́ць,** *област.* **1.** делаться бешенным, швотным. Дсл.; Нсл. 388. *Сабакі ашаляваюць. Нсл. Ашалявай ён ад мяне.* Тм. *Сабакі пачалі ашаляваць.* Дсл. *См. шалець, 1.*
**2.** приходить в сильное разъярение. Нсл. 388. *За што ты ашаляваеш бяз памяці?* Нсл.
**3.** *област.*—поддаваться чересчур какой-л. страсти, аффекту: гневу, любви, горю и т.п. *Дсл. Ашалявае матка, пахаваўшы сына.* Дсл. *См. шалець 3.*
**4.** выступать из границ благопристойности, буянить. Нсл. 388. *Паўпіліся дый ашаляваюць.* Нсл.
**5.** влюбиться до безумия. Нсл. 388. *Дзеўка ашалявае, ашалела па хлапцу.* Нсл.
**6.** *област.*—задаваться каким-л. неуместным желанием. *Хачу схадзіць у карчму. — А не ашалявай ты!* Дсл.

**ашале́ць, 1.** *соверш. к ашаляваць, 1.* Нсл. 388. *Сьвіньня ашалела.* Нсл.
**2.** *соверш. к ашаляваць, 2.* Нсл. 388. *Ашалеў, кідаецца біцца.* Нсл.
**3.** *соверш. к ашаляваць, 3.*
**4.** *соверш. к ашаляваць 4, 5. Дзеўка ашалела па дзяцюку.* Нсл.

**5.** *соверш. к ашаляваць 6.*

**•шалёны**-*ная-нае,* **1.** бешенный(больной бешенством, Ар.) МГсл.; Кузьміно Сян.(Ксл.).; Нсл. 704; Шсл.
**2.** сумасшедший. Растсл. *Людзі шалёныя, каторыя за дапушчэньням Божым ад розуму адшэдшы, звыклі людзём раны задаваці.* Стт. 420.
**3.** горячий, буйный; страстный, неудержимый(отличный, удивительно хороший, Нсл. 704). *Шалёнага каня маець.* Нсл. 704.
**4.** ветренный, дерзкий. Нсл. 704. *Ён шалёны, на нікога не зважае.* Нсл.
**5.** назойливый, злой. Нсл. 704. *Шалёная муха ўкусіла за вуха. Послов.* Нсл. *Ель мая зялёная! Сьвякроў мая шалёная, загадала мне тры дзелы рабіць.* Из песни, Нсл.
**6.** чрезмерный. Нсл. 704. *Шалёныя грошы заплаціў ты за свайго каня.* Нсл. *Шалёны воз наклаў сена.* Тм.
**7.** чрезмерный по силе проявления. *Помнеў тую шалёную пацеху, што лятункамі ўздымала яго на вышыню ды паказавала шчасьлівую будучыню.* Шакун: Сьлед. 15.
**8.** отличный, удивительно хороший. Нсл. 704. *Шалёную стрэльбу купіў, на сто сігнёў бярэць.* Нсл. *Шалёны работнік, майстра.* Нсл.

**•шалёўка**-*кі-цы, ж.* **1.** тонкая доска для обшивки дома. Гсл.; Ксл.; Ар.; Козіна Пуців. п,—тёс, теснина, тесница. Вят. (Даль). *Як ператрасаў хату, дык я ўсю шалёўку злажыў пад хлевам у садзе; надовечы гляджу, аж там толькі тры дошкі засталося.* Вішкавічы Чаш. (Ксл.).
**2.** шаль. Ксл. *Тата, купі мне шалёўку!* Вішкавічы Чаш. (Ксл.).

**•шаляні́к**-*іка́, предл.-іку́, зват.-іча; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* **1.** крайне безрассудный человек, безумец.
**2.** сумасброд.

**•ша́ля**-*лі-лі, ж.*—чашка весов. Гсл.

**•шалява́ць,** -*люю-люеш-люе*—обивать *"шалёўкай".* Растсл.; ПНЗ.; Ар.,—обшивать досками стены снаружи, Ксл. обшивать тесницами. Вят. (Даль.). *Пойдзем да суседа дом шаляваць.* Лужасна Куз. (Ксл.).

**•шалява́ны,** *прич. прош. вр. от шаляваць,* —обшитый досками. Ксл. *Наўпроці будзе шаляваная хата Хведасёнкава.* Навікі Віц.(Ксл.). *Соверш.* **абшалява́ць**—обшить (тонкими, С.) досками стены снаружи. Ксл. *Абшалюю хату, дык яна сто год прастаіць.* Лёзна (Ксл.) *Соверш.* **ашаляваць,** *што*—обить *"шалёўкай".* Ар., окожурить, обшить тёсом, шелёвками. Кур. (Даль). *Соверш.* **зашаляваць**—обшить(тонкими, С.) досками. Шсл. *Яшчэ ў відным месцу надабе троха зашаляваць.* Ст.

**•ша́лі**—весы. Гсл.

**•шалік,**—*см. под шаль.*

**•шалі́нка**-*нкі-нцы, ж.*—шерстяной головной платок. Ксл. *Дачка за шалінку аддала тры рублі.* Альшанікі Беш. (Ксл.).

**•ша́ліпа**-*пы, ж.*—слякоть, мокрый снег. Ксл. *Во ўжо трэйці дзень на двары такая шаліпа.* Чарніца Лёз. (Ксл.).

**•шолудзі**-*дзяў*—кожная болезнь. Растсл. ,—парши, струпья на голове. Нсл. 715.

**•шалудзі́вець**-*ею-ееш-ее, несоверш.* **1.** паршиветь. Нсл. 715. *Галава ў хлапца шалудзівее.* Нсл. *Соверш.* **зашалудзівець.**
**2.** *перен.*—дурно жить. Нсл. 715. *Ня жывем, а шалудзівеем.* Нсл.

•**шалудзь**-*дзі, ж.*(-*дзя, м.* Ст.)—парша. Ксл.; Шсл.; МГсл. *Ці шолудзь ці плеш — усё адна пакраса.* Клімавічы Сян. (Ксл.). *Шалудзі ўпалі на яго.* Ст. *Абмыў свае шолудзі*—значит забыл свою бедность. Нсл.

•**шалудлі́вы**-*вага*—паршивый. Шсл. 308. *Шалудлівая галава ягоная, але разумная.* Слопішча Шацк. (Шсл.). *См. шалудзівы.*

•**шалуды́**—парши. Гсл.

•**шалудліве́ць**, -*ėю-ėеш-ėе*—паршиветь. Ксл. *Шалудліваюць нашы парасяты — надабе ляпей карміць.* Жэрына Чаш. (Ксл.).

•**шалудзі́вець**-*вею-вееш-вее,* **1.** паршиветь. Нсл. 715. *Галава ў хлапца шалудзівее.* Нсл.

**2.** *перен.*—дурно жить. Нсл. *Ня жывем, а шалудзівеем.* Нсл.

**зашалудзі́вець, 1.** покрыться струпьями. Нсл. 193. *Галава зашалудзівела.* Нсл.

**2.** *ирон.*—выходить несколько из бедного состояния. Нсл. *Зашалудзівеў троху і знаць ня хоча.* Нсл.

•**шалудзі́вы**-*вая-вае*—паршивый. Ксл.; Шсл.; МГсл. *І выбрала ж сабе дзяцюка нейкага шалудзівага!* Слопішча Шацк. (Шсл.). *Шалудзівае парасё.* Кляшчыно Беш. (Ксл.).

•**шалу́дзька**-*кі, общ.*—паршивец.

•**шалу́па**-*пы-пе, ж.*—скорлупа. Гсл. *См. шалупашка.*

•**шалупа́хі**-*аў*—скорлупа орехов или подсолнечника. Растсл.

•**шалупа́йка,** (Шсл.) **шалу́пка,** (Ксл.; Шсл.), **шалу́шка,** (Ксл.)-*кі, ж.*—кожица картофеля. Шсл.; Ксл. *Ён на'т шалупкі ня здыйме і так есьць.* Селядцова Беш. (Ксл.). *Звары сьвіньнячм шалушкі.* Лагавая Аз. (Ксл.). *Не скрабі гэтак бульбы, каб шалупайкі былі таўстыя.* Ст. *Шалупайкі аддала карове.* Ст. *Шалупкі высып у кашэль.* Крамяні Пух. (Шсл.).

•**шалупа́йкі**-*каў*—очиски. ПНЗ.

•**шалупашка**—скорлупа. Гсл. *См. шалупа.*

•**шалу́п'е**-*п'я, предл.-п'ю, ср., собир.*—картофельная шелуха. Ксл. *А шалуп'е ў кошыку.* Стаішча Сян. (Ксл.). *См. шалупайка.*

•**шалуп'ё**-*п'я, предл.-п'ю, ср., собир.*—скорлупа у яйца. Міх. *См. шалуп'е, шалупайка.*

•**шалупі́на**-*ны-не, ж.*—картофельная шелуха. Міх. *Уменьш.* **шалупі́нка**-*нкі-нцы.* Іг. *Собир.* **шалупіньне**-*ня, предл.-ню*—шелуха. МГсл. *См. шалуп'е, шалупайка.*

•**шалу́пка,**—*см. под шалупайка.*

•**шалушка,**—*см. под шалупайка.*

•**шаль,** *ша́ля, предл. и зват. ша́лю; мн. ч., род. шаляў, м.* **1.** шарф. Ар. *Завяжы шаль на шыю.* Ар. *Уменьш.* **ша́лік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—шарф, НК: Очерки, 17; МГсл.; Ар.; Ксл. кашне. Шсл. *Завязаў шалік каля шыі.* Ст. *Які ў цябе прыгожы шалік!* Петрычыха Аз. (Ксл.).

**2.** галстук. Шсл. *Надзеў манішку й шалік прычапіў.* Ст.

•**шальбабон**-*ону, предл. и зват.-оне, собир., м. — пасоля.* Ар.

•**ша́лькі**—маленькие весы. Гсл.

•**ша́лы**-*лаў, единств. ч. нет.* **1.** шалость. НК: Игры, Но. 13.

**2.** игра. НК: Игры, Но. 13.

•**шам**—му, *м.*—шорох, шелест, БНбр. тихий шорох, шелест. Нсл. *Ніякага шаму ня было, ня толькі што крыку, стуку,* Нсл. тихий шорох, шум. Гсл.

•**шам-шам,** *междомет.,*—означает шорох. Нсл.

•**ша́маньне,** *предл.-ню, отгл. имя сущ. к шамаць*—шорох, Нсл. шорох, шелестение. БНсл. *Шаманьне чутно ў сьвятліцы, ці не забраўся хто туды.* Нсл.

•**шамаце́ць**-*чў-ціш-ціць, несоверш.*—шуршать, шелестеть. Растсл.; Гсл.; БНсл. *Ужо блізка шамацеў гарбузьнік.* Капыловіч: Хлеб. Тоже, что *шамаць* с тем, что единицы шороха бывают мельче, но чаще повторяются. *Мышы ў кубле шамоцяць, зашамацелі.* Нсл. 705. *Зашамацелі асьцярожныя крокі.* ЗСД 130. *Паперы шамацяць у руках.* Цялеш: Дзесяць, 19. *Соверш.* **зашамацець**—зашуршать, зашуметь. Гсл.

•**шамаце́ць**-*ėю-ėеш-ėе, несоверш. к зашамацець. Соверш.* **зашамацець**—произвести шум платьем. Дсл. 260. *Зашамацелі адзецьцям.* Дсл.

•**ша́маць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—производить *"шам".* Гсл., шуршать, МГсл. производить шорох. Нсл.; Растсл. *Нехта шамае за вуглом.* Гсл. *Мышы шамаюць.* Нсл. **шамну́ць, 1.** *однкр. к шамаць. Вутачка дагадалася, у густы чэрат захавалася, травінкаю ды ня шамнула, крылачкамі ды не страпянула.* Семяшкава Стдуб.(Косіч 234). *Нехта ў клеці шамнуў.* Нсл. *Шамнулі вазочкі на дварэ. — Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?* Горц.(Кот, 207).

**2.** бесшумно шмыгнуть. Гсл.; БНсл. *Соверш.* **адша́маць**—прогнать шумом, треском. Дсл. *Адшамаў ад мяне зайца.* Дсл. *Соверш.* **заша́маць**—начать шуршать. Растсл.

•**шамшы́ць**-*шу-шыш-шыць,* **1.** — *шамаць.* Нсл. 705. *Соверш.* **зашамшыць.** Нсл. 705.

**2.** шептать. Нсл. 705. *А чым вы там шамшыце?* Нсл.

•**шаноўля**-*лі-лі, ж.*—.... *Вось якія цяперашнія дзеці, вось якая ў іх шаноўля да бацькоў.* Марціновіч(Беларус, Но. 159).

•**шанава́ньне**-*ня, предл.*—*ню, отгл. имя сущ. к шанаваць 1, 2, шанавацца 1, 2. Паважнасьць і шанаваньне тым зацным днём чыніце.* Кіт. 27а9.

•**шанава́ць**-*нўю-нўеш-нўе каго* **1.** уважать. Растсл.; ПНЗ.; Ар.; Ксл.; Шсл. *Не шануе ён сваіх бацькоў.* Ст. *Ого, як ён шануе!* Русінава Сян. (Ксл.).

**2.** беречь(хранить, **С.**); Ксл.; Шсл.; Ар., хорошо, бережно обращаться с кем, чем-л.; заботливо оберегать, предохранять от чего-л. Ар. *Шануй адзежыну ў хаце, дык яна пашануе цябе ў людзёх.* *Послов.* Віцен.-Дуб. *Шануй свае здароўе, а то яно й так слабое ў цябе.* Ст. *Наста шануе свае новыя ўборы.* Русінава Сян. (Ксл.). *Дагнала я*

*свае леты ў калінавым мосьце — вярніцеся, мае леты, хоць да мяне ў госьці! Хацелі б вярнуцца, ня маем да кога, — было табе шанаваці здароўейка свога.* Войш. *Соверш.* **пашанаваць.**

•**шанавацца**-*нуюся-нуешся;* (*перен.*)-*нуйся-нуймася, несоверш., возвр.* **1.** соблюдать достоинство, правила приличия, вежливости, Гсл. вести себя хорошо, Растсл.; Ар. беречь свою честь, свое доброе имя. Ар. *Шануйся дзяўчына!* Ар.—береги свою честь! *Будзеш шанавацца, дык будзеш чалавекам.* Ст.

**2.** беречься, Шсл. беречь свое здоровье. Ар. *Не шануешся, чалавеча, адразу хопіш кашаль!* Ст.

•**шанц**-*цу*—шанс. Койданава.

•**шанцава́ць**-*цую-цуеш-цуе,* **1.** удаваться, везти, счастливиться. Ар.; Ксл.; Шсл. *Не шанцуе яму на скаціну.* Ст. *Ну й шанцуе ж табе, як Заблоцкаму на мыле.* Машчоны Сян. (Ксл.).

**2.** благоприятствовать. Нсл. 706. *Сёлета надвор'е шанцуе сенаваць.* Нсл.

•**шанціць,** *соверш. пашанцілася, безлич.* —счастливиться(везет, С.) Нсл. *Табе пашанціла ў таргу, а мне ні ў чым не шанціць.* Нсл. *Соверш.* **зашанціць,** (БНсл., **зашэнціць,** Ар.)—посчастливиться. Ар.; БНсл.

**зашанціла,** *безлич.*—посчастливилось. Нсл. 193. *Зашанціла табе рыбы злавіць так шмат.* Нсл. *Ім шанцуецца.* З працы Іп. Пацея.

•**шанцуе**( *соверш.* **шанцавала**), *безлич.*—счастливиться(везет, С.) Нсл. 707. везет(счастье). Гсл.

**пашанцуе, пашанцавала,** *безлич,*—посчастливилось, посчастливится. Ар. *Табе сядні пашанцавала зарабіць на соль.* Нсл. 706.

•**шафір**-*ру, предл.-ру, зват.-ру, м.*—сапфир.

•**шапа**-*пы-пе, ж.*—шкаф. Ксл.; Варсл. *Гэта вялікая шапа толькі замінае ў хаце.* Варсл. *У шапе стаіць ручайнік.* Пожынкі Сян. (Ксл.).

•**шапавал**-*ла, предл.-лу, зват.-ле, м.* **1.** шерстобит, Гсл.; НК: Очерки, Но. 268; ПНЗ; Ксл.; Вост. (Даль) валяльщик, войлочник. Растсл. *Дрыбінскія шапавалы мне маргелку звалілі.* Гсл. *Нясі воўну да шапавалаў, яны табе зробяць валенцы.* Гарывецк Сян. (Ксл.).

**2.** шапочник, делающий войлочные шапки.

•**шапаваліць**-*лю-ліш-ле*—валять. МГсл.

•**шапацець,** *-ачу-аціш-аціць-ацім-аціце -ацяць.* Слапішча Шацк. (Шсл.). **1.** (тихо, С.) шептать. Гсл. *Прачхніся а прачхніся! — шапочуць яму кусточкі лазовыя.* Гарэцкі: Песьні 58.

**2.** шелестеть. ПНЗ. *На ёй адзежа аж шапаціць!* Слопішча Шацк. (Шсл.). *Шапацелі чырвоным сваім лістападам асілкі-дубы.* ЗСД 393. *Шапацеў чарот.* Крушына(Зьніч, 1952, Но. 20, 4). *Шапацяць каласы.* Змагар. *Ад гэтых сініх вод павінен я далёка падацца аж туды, дзе шапацяць лясы.* Грамыка (Апошняе "даруй"). *Ціха шапацеў пад ветрам вербалоз.* Хмара(Калосьсе, Но. 18, 1939 г., стр. 6). *Соверш.* **прашапацець**—прошептать. *Дзякую, — няёмка й ціха прашапцеў ён.* Дзьве Душы 144.

•**шапка**-*пкі-пцы, ж.* **1.** картуз(головный убор). Ар.

**2.** фуражка. Ар.; Шсл. *Справіў на лета лёгенькую шапку.* Ст.

**3. шапка зімовая**—шапка. Ар. *Купіў сабе шапку з вушамі.* Ст.

**4.** шляпка(гриба). Ар.

**5.** сноп, которым накрывают десять снопов ржи, поставленных в поле для просушки стоймя, колосьями вверх. Ар. *Будзе золатам адсьвечаваць іржышча, будуць стаяць дзесяткі, цямнець шапкі за грудам.* Адамчык: Арж. колас.

**шапачка**-*чкі-чцы, уменьш. к шапка, 1, 2, 3, 4.* Ар.

•**шапкава́ць**-*кую-куеш-куе; повел.-куй-куйма*—униженно просить с чем-л., Шсл. низкопоклонствовать; унижаться. *Уперад, бывала, дык шапкуем, просім пана, каб даў якую крыху сынажаці.* Ст.

•**шапран**-*ну, предл. и зват.-не, м., бот.*—шафран настоящий,[Crocus sativus L.]. *Сена — бы шапран, а ён усё сьвяткуе. Поговор.* Рапан.: Прык. 125. *Пірагі сьпяклі із шапранам, дык яны пахнуць, жоўценькія...* Ст.

•**шаптуха**-*ухі-усе*—знахарька. Бешанкавічы (Ксл.); Ст.; Шсл. *Шаптуха памагла ад грыжы.* Ст.

•**шаптун**-*на, м.* **1.**—знахарь. Навікі Віц. (Ксл.).; Шсл. *Дзяцё вазілі да шаптуна.* Ст.

**2.** наушеник. МГсл.

•**шапу-шапу,** *междомет.*—шу-шу. Гсл.; Гор.; БНбр.; Нсл. 709. *Мы тут сядзім а яны сабе шапу-шапу.* Тм.

•**шароцьце**-*ця, собир.*—веснушки. Ксл. У вясну шароцьце становіцца. Даўгое Беш. (Ксл.). *См.* рабаціньне, шарыньне.

•**шараханьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к шарахаць*—произведение шороха трением или точением железного орудия. Нсл. 706. *У лузе косяць; чутно шараханьне косамі.* Нсл.

•**шара́хаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** производить шорох трением. Нсл. 706. *Чым ты там шарахаеш, шарахнуў?* Нсл. *Соверш.* **адшара́хаць**—отогнать, прогнать шумом, треском. Дсл. *Сабака адшарахаў зайца.* Дсл. *Однр.* **адшара́хнуць**-*ну-неш-не,* — отрезать, Дсл. вырубить, хватить слишком много. Нсл. 385. *Адшарахнулі шмат палатна.* Дсл. *Адшарахнулі шмат хлеба.* Дсл. *Вам толькі дай волю, дык вы й адшарахніце лесу.* Нсл.

**2.** постепенно резать. Нсл. 706. *Шарахаць рэзь.* Нсл.

3. косить. Нсл. 706. *Мы не па вашаму шарахаем, за адзін дзень шарахнулі ўвесь луг.* Нсл. *Однкр.* **шара́хнуць, 1.** произвести шорох трением. Нсл. 706. **2.** отрезать. Нсл. 706. *Ладне шарахнулі вы сядні хлеба.* Нсл.
**3.** хватить. Нсл. 706. *Паў засека шара́хнулі жыта.* Нсл.
**4.** сделать много. Нсл. 706. *Сажні тры шарахнулі ў двух пасячы дроў.* Нсл. 706. *Колькі гоняў шарахнулі ўзараць!* Нсл. *Вазоў да сту шарахнулі вывезьці гною.* Тм.
**5.** ударить. *Як шарахну табе па мордзе, аж крывёй умыешся.* Нсл.
**6.** быстро кинуться, броситься. Нсл. 706. *Коні разам шарахнулі ў бок.* Нсл.
**нашара́хаць,**— нарезать рези. Нсл. 706. *Ідзі нашарахай травы коням на нач.* Нсл.

•**шарахцець,** *-хчу-хціш-хціць, несоверш.* —шуршить, издавать шорох. *Вале сьледам ён, як дым, толькі жыта шарахцела і ламалася пад ім.* С. Музыка 257.

•**шара́к**-*ака̀, предл.-аку̀, зват. шара̀ча; мн. ч. шаракі-коў-ком-кі-камі-кох, м.* **1.** серый заяц. *Сабакі выгналі з кустоў шарака.* Ст.
**2.** полусуконная юбка, Ксл. серая шерстяная юбка домашнего изделия. Шсл. *Надзявай на бульбу шарак, бо сьцюдзена.* Ст. *Які шарак ды шарак, а ня дрыліх.* Беліца Сян. (Ксл.).

•**шарамы́жнік**-*ка*—жулик. Ксл. *Янка злавіў шарамыжніка.* Астроўна Віц. (Ксл.).

•**шарáнéць**-*ѐю-ѐееш-ѐе; повел.-ей-ейма, несоверш.*—затвердевать, замерзать сверху(о снеге). Міх. *Як зашаранеў сьнег, дык дарога стала, як ток, хоць ты гармату вязі.* Варсл.

•**шаранча́**-*чы, собир.*—саранча. Ар.; Кляшчыно Беш. (Ксл.).

•**шараваньне,**(НК: Очерки, Но. 651), *отгл. имя сущ. к шараваць 1.*

•**шарава́ць**-*ру̀ю-ру̀еш-ру̀е; повел.-руй-руйма, несоверш., што,* **1.** при мойке натирать предмет песком, хвощой, мочалкою. НК: Очерки, Но. 651; Ар.; Гсл.; Ксл.; Шсл. *Валадар затокі — сам, плаўнікі сваe пяском пад кустом шаруе.* Калачынскі: Лясная казка. *Панясу на двор пяском шараваць судзьдзе.* Ст. *Памажы мне шараваць памост.* Бешанкавічы (Ксл.). *Соверш.* **адшарава́ць**—оттереть грязь, пятно, натирая песком, мочалкой, соломой. Шсл.; Ар. *Закарэў гаршчок — ніяк не адшараваць.* Ст. *Дзяцё паклала ў начоўку — і адшаравала.* Дсл. *Соверш.* **пашарава́ць** —почистить что-л. песком, золою. Ар.; Шсл. *На двары пашаравала лыжкі.* Ст. *Я табе пашарую плечы.* Вязаўка Аз. (Ксл.). Аз. (Ксл.).
**2.** *па чым*—тереть обо что. Ар.; Шсл. *Не шаруй нагамі па мосьце.* Ст.

•**шарэц**-*рца̀, предл.-рцу, зват. шэрча, м.* —болото с серым мхом. Жучкевіч, 14.

•**шарэцца**—ждать чего-л. особенного. Гсл.

•**шаргану́ць,**—*см. под шоргаць.*

•**шаргацéць,** *-ачу̀-аціш-аціць, несоверш.* —производить шорох, шум, скрип частым дерганием. *Гудзіць аўтабус, шаргацяць колы па шашы.* Марціновіч(Беларус, Но. 159).

•**шарх I,** *шарха, па шарсе, зват. шарша, м.*—род мужской одежды. Дсл.( *под одежда*), фарф.

•**шарх II,** *отгл. частица*: **1.** быстрый неловкий поворот. Нсл. 707. *Шарх рукавом і пляшка із столу воб зямлю.* Нсл.
**2.** быстрое разодрание. Нсл. 707. *Шарх паперу.* Нсл. *См. шарп.*

•**ша́рханьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к шархаць*—шаркание. Нсл. 706. *Шарханьне ботамі.* Нсл.

•**ша́рхаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** шаркать Нсл. 706. *Ботамі шархаць.* Нсл.
**2.** тереться, шататься. Нсл. 706. *Чаго ты тут шархаешся?* Нсл.
**3.** раздирать. Нсл. 706. *Шархаць хустку.* Нсл. *Соверш.* **адша́рхаць, а)** оторвать. б) сжать, скосить. Дсл. *Адшархалі мы палавіцу лугу.* Дсл. *Однкр.* **адша́рхнуць,**— отрезать. Дсл. *Кравец адшархнуў палатна.* Дсл. *Прич.* **адша́рхнуты**—отрезанный. Нсл. 385. *Адшархнуты кавалак палатна валяецца.* Нсл. *Соверш.* **расша́рхаць, расша́рхнуць**—разодрать. Нсл. 706. *Расша̀рхаць, расша̀рхнуць паперу папалам.* Нсл.
**4.** неуважительно поступать с кем или чем. Нсл. 706. *Што ж ты мяне так шархаеш?* Нсл.
**5.** марать, чернить в нравственном отношении. Нсл. 706. *Бацькава імя шархаеш.* Нсл

•**ша́рхнуць**-*ну-неш-не, однкр. к шархаць 1, 2, 3.* **1.** шаркнуть. Нсл. 706.
**2.** *однр. к шархаць 2,* Нсл. 706. *Шархнуў і гаршчок разьбіў.* Нсл.
**3.** разодрать. Нсл. 706. *Шархнуць хустку.* Нсл.

•**шарху́бель**-*бля*—вид рубанка, Ксл. *Пачысьці шархублям.* Стаішча Чаш. (Ксл.).

•**шархуны́**-*оў-ом, мн. ч., предл.-ох,*—бубенцы. Міх. *См. шорхаўкі. Уменьш.* **шархунéц**-*нца, предл.-нцу, дат., предл.-нцом, мн. ч., предл.-цох. м.*—бубенчик. *Залатая зара шархунцом шалясьцела да раньня...* Кавыль: Ростань, 31. *Уменьш.* **шархунцы́**-*цоў-цом, мн. ч., предл.-цох*—бубенчики. *Пад дугою шархунцы, коні вараныя...* Кавыль: Ростань, 7.

•**шарп,** *отгл. частица*—означает быстрое разодрание. Нсл. 706. *Шарп у злосьці хустку папалам!* Нсл.

•**шарпоцьце**-*ця, предл.-цю, ср.*—доношенная до крайней возможности одежда. НК: Очерки, 138.

●**шарпаніна**-*ны-не, ж.* **1.** букв. резня (кровопролитие, С.) Нсл. 706.
**2.** поспешная работа во время жатвы или сенокоса. Нсл. 706. *Сядні добрую зрабілі шарпаніну, цэлую палосу зжалі жыта.* Нсл.
**3.** кушание, приготовленное из разных съестных припасов или огородных овощей. Нсл. 706. *Шарпаніны наварыла буракоў з клёцкамі й бульбаю.* Нсл.

●**ша́рпаньне**-*ня, предл.-ню, Отгл. имя сущ. к шарпаць,*—драние, раздирание. Нсл. 706. *Шарпаньне адзежы, паперы.* Нсл.

●**ша́рпаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* **1.** рвать. Нсл. 706; Шсл. *Ня шарпай адзежыны, ходзячы тут.* Нсл.,—разрывать. Нсл. 70; Шсл. *Шарпаць, расшарпаць папалам паперу, хустку.* Нсл. *Ня шарпай полкі на драбныя кавалачкі, бо маленькія анучкі будуць.* Ст. *Шарпае пад лягкімі лапцікамі колкае і яшчэ поўнае соку іржышча.* Гарэцкі: Песьні 54. *Однкр.* **шарпану́ць, а)** разорвать, Нсл. 706. рвануть, дёрнуть. *Шарпануў хустку папалам.* Нсл. *За гвозд шарпануў рукавом.* Ст.
**б)** резануть. Нсл. 706. *Шарпануць сьвіньню нажом.* Нсл. *Соверш.* **абша́рпаць, аша́рпаць, абшарпа́ць,** *перех.*—оборвать, разорвать во многих местах. Нсл. 355. *Абшарпаў адзежу, лазячы па дзярэўю.* Нсл. *Прич.* **абша́рпаны, аша́рпаны**—оборванный. Нсл. 355; Ксл.; Дсл. *У вабшарпанай адзежы бегае.* Нсл. *Сорам табе дзеўцы абшарпанай хадзіць.* Нсл. *Ходзе ашарпаны наш жучок — усю скуру сабакі папарвалі.* Дсл. *Соверш.* **адша́рпнуць, а)**—оторвать. Дсл. *Адшарпнуў касою галаву вуткі.* Дсл.
**б)** о доведении какого-л. действия до значительного предела. Дсл. *Адшарпнулі парабкі хлеба.* Дсл. *Адшарпнулі касцы* Нсл. 384. *Вялікі кавалак палатна адшарпнуты ад сувою.* Нсл.
**2. шарпа́ць**—дергать. Горадз.(Нсл. 706). *Шарпаць ніткі з палатна.* Нсл.

●**ша́рпацца**-*аюся-аешся, несоверш.*—рваться, протираться. Нсл. 706. *Локці ў сьвіткі шарпаюцца.* Нсл. *Соверш.* **абшарпацца, аша́рпацца,** *возвр.*—быть оборвану, Нсл. 355. обноситься, изорвать одежду, Гсл. обноситься, оборваться. Ксл. *Ходзіць абшарпаўшыся.* Нсл. *Я сусім абшарпаўся, няма чаго адзець.* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Ашарпаліся мы, лазіўшы па кустох.* Дсл. *Ашарпаліся. Ходзім, як старцы.* Тм. **прашарпацца**—протереться. Нсл. 706. *Локці прашарпаліся.* Нсл. *Соверш.* **расшарпацца**—разорваться. Нсл. 706. *Рукаво расшарпалася на сук.* Нсл.

●**шарсьцін-а́,**-*ньне,—см. под шэрсьць.*

●**шарша́тка**-*ткі-тцы, ж.*—самая большая игла, Ар.; НК: Очерки, 182. толстая игла для шитья кожи и т.п. Шсл.; Ксл.; Ар. *Шаршаткаю дык добра падшый лапці.* Раўнапольле Сьміл. (Шсл.). *Я хацеў зашыць мех, ды зламіў шаршатку.* Клюі Куз. (Ксл.).

●**шару́н**-*унà, зват.-ýне, мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—оледенелая корка на поверхности снега, наст. БГсл.

●**шарыга**-*гі-зе, ж.*—жердь с острым концом для задерживания плотов. Калупайла.

●**шары́ньне**-*ня, собир.*—веснушки. Ксл. *Па абліччу драбное шарыньне. Сьвярдлы Беш. (Ксл.). См. рабаціньне, шароцьце.*

●**ша́рыць**-*ру-рыш-ра*—ища чего-н., ощуплевать что-н. твердое, особенно в потьмах, Ар. искать ощупью, шарить. *Што ты там шарыш на паліцы?* Ар. *Соверш.* **абша́рыць**—обыскать(таким образом С.) Ксл. *Усюдых абшарыў, але не знайшоў.* Стрэлкі Беш. (Ксл.). *Надабе добра абшарыць, дык знойдзем.* Ст.

●**шасна́нцаты,** -*тая-тае*—шестнадцатый. Н.; М.; Сянск. Сербаў 113; Лёсік: Пачат. граматыка, 103; Смл.

●**шасна́нцаць**-*цацёх, цацём, тв.-цацьмà, предл.-цацёх, числ.*—шестнадцать. Магілеўш. на граніцы із Смаленш.(Мат. Б., Но. 18); Сербаў, 113; Лёсік: Пачат. граматыка, 103; Вял.; Н.; Слц.; Белападляскі п.; Кобрынск.; Берасьцейскі. *Маей дзеўцы толькі шаснанцаць год.* Сербаў, 113.

●**шаснуць,**—*см. под шастаць.*

●**шаста́к**-*кà, м.*—3 копейки или 6 грошей. Варлыга: Назіраньні 38. *Шэсьць дзён малаціла, шастак зарабіла, а за таго шастака, ды купіла мужыка.* Из песни, М.

●**шаста́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к шастаць 1, 2, 3, 4. Ня люблю шастаньня вашага.* Нсл. *Шастаньне харошае адзежыны.* Нсл. *Шастаньне бацькавага дабра.* Нсл.

**шасну́ць**-*нý-нèш-нèць-нèм-ніцè,* **1.** *однкр. к шастаць 1.*
**2.** *однкр. к шастаць 2,*—метнуть.
**3.** резнуть. *Хацела ўжо шаснуць яго (нажом) па горле.* Уселюб Н.(Демид.-Веров, Н. I, 1896, 117).

●**ша́стаць**-*аю-аеш-ае, звукоподр. от шума,* **1.** трясти и шуметь чем в роде соломы (платья, С.) Шсл.; Ар., шуршать. *Нешта шастае ў саломе.* Ст. *Жыта блыталася й шастала нясьпелымі каласамі.* Адамчык: Арж. колас. *Гарась (кратаецца), шастае рукамі па гарачай галаве.* Цялеш: Дзесяць, 26. *Соверш.* **зашá́стаць**—зашелестеть колосьями, соломой или чем-н, подобным. Шсл. *Нешта зашастала ў сене.* Ст.
**2.** *што, букв.* мешать, бросать с шумом. Нсл. *Шастаць на асець снапоўе.* Нсл. *Шастай, шасьні адзежу ў вакно.* Нсл.
**3.** тереть, небрежно нося. Нсл. *Дарагую адзежыну ўсюдых шастаеш.* Нсл. **абшастаць, а)** *соверш. к шастаць 3. Харошы андарак борзда абшастала.* Нсл.
**б)** обворовать, очистить. Ксл.
**4.** брать неумеренно(расходовать). Нсл. 706. *Борзда вы шастаеце збожжа.* Нсл. *Однкр.* **адша́снуць**—взять против ожида-

ния в большом количестве, Нсл. 385. отхватить невероятно большое количество. *Мернік цэлы акраік лесу адшаснуў ад нашага сяла.* Дсл. *Шмат жа вы адшаснулі мёду з лазобкі.* Нсл. *Соверш.* **адшастаць, а)** взять неумеренно. Нсл. 706. *Адшасталі паў меха мукі.* Нсл.
б) быстро(и много, С.) отрезать. Ксл. *Паў букаткі хлеба адшастаў.* Пустынкі Сян. (Ксл). *Соверш.* **нашáстаць, а)** набрать неумеренно. *Шастаеш, нашастаў на бацькаву шыю.* Нсл.
б) навалить во множестве(чего-н. шелестящего: соломы, сена, одежды, С.) Нсл. *Нашастаў поўную пуню сена.* Нсл. *Мая мышастая мне нашастае.* *Послов.* Нсл.
**5.** таскать украдком. Нсл. *Нехта з вас у мяне шастае грошыкі.* Нсл. *Соверш.* **вы́шастаць.**
**6.** неблагоразумно разбрасывать, мотать. *Шастаеш так, борзда расшастаеш, што бацька зьбер.* Нсл. *Соверш.* **расшáстаць.**
**7.** *кім-чым,*—небрежно, неуважительно обращаться с кем. Нсл. *Што ж ты так шастаеш мною?* Нсл.
•**ша́стацца**—вертеться, тереться около чего-л. *Ня шастайся тут, замінаеш у рабоце.* Нсл.

**ша́снуцца, 1.** *однкр. к шастацца. Ён ужо тут шáснуўся.* Нсл.
**2.** упасть, оборвавшись. *Шаснуцца ў ваду.* Нсл. 707. *Однкр.* **абшáснуцца**—сунуться неосторожно, оступиться, упасть, Нсл. 707. оступиться, нечаянно упасть. Гсл. *Абшаснуўся з кладкі і паляцеў у ваду.* Нсл. *Не абшасьніся, кладка хістаецца.* Нсл. 354. *Абшаснуцца ў ваду*—оступиться, попасть нечаянно в воду. Дсл. *Соверш.* **абшáстацца**—оборваться, шатаясь везде. Нсл. 355. *Абшастаўся гарэй за старца.* Нсл.
**2.** оборваться(упасть) Дсл. *Абшастаўся дый у канаву зьляцеў.* Дсл. *Соверш.* **адшаснуцца,** *однкр.,*—отскочить. Нсл. 385; Дсл. *Каліб не адшаснуўся назад, дык бы й капут быў.* Нсл. *Замахнуўся на мяне сусед кіям, а я ледзь адшаснуўся.* Дсл. *Соверш.* **нашáстацца, 1.** *"нашастаць"* вдоволь.
**2.** натереться около чего. *Соверш.* **расшастацца, 1.** начать(часто, С.). *Чаго гэты Жыд расшастаўся тут?* Нсл.
**2.** начать производить неумеренные расходы. Нсл. *Знаць у цябе лішняя капейка муляе, што ты так расшастаўся.* Тм.
•**шась, шасьць,** *отгл. частица, значит:* **1.** быстрое движение. Нсл. *Шась, шасьць і выскачыў вон.* Тм. *Сякіра з рук шась ды паназе.* Нсл. *Шасьць, што Бог дасьць.* *Послов.* Нсл.
**2.** внезапное появление. Нсл. *Шась, шасьць, як тут быў.* Нсл. *Шась у камору, ажно там злодзей.* Тм. **Шась!,** *междомет.* —шмыг!.

•**шасьцéль**-*целі, ж.*—тюф(мешок, набитый соломой, сеном, волосом, служащий постелью, С.). Церабостынь ля Турца Стаўп.
•**шасьцéньне**-*ня, предл.-ню, ср., отгл. имя сущ. к шасьцець,*—шелестение. *Заграў на йскрыпцы ў маіх крозах шасьценьням жыта, шумам траў.* Крушына: Творы 144.
•**шасьцéць**-*ціш-ціць, несоверш.*—шелестеть.
•**шасьцёра,** *числ.*—шестеро. МГсл.; Ар. *Меў шасьцёра ён дзяцей.* Гарун: Шчасьце М.
•**шасьцяры́к**-*кá, м.*—шестёрка. МГсл.
•**шасьціны**—поминки в 40-ой день после смерти покойника. Гсл.
•**шасьць,**—*см. под шась.*
•**шасьдзясятны**-*ная-нае, прилаг. от числ. Шасьцьдзясяты*: *шасьцьдзясятная капа* — *"капа"*, содержающая 60 штук чего-л., т.е. *"капа"* обыкновенная. *Шасьцьдзясятная капа.* НК; Очерки, Но. 571.
•**шашок**-*шкá, предл.-шкý; мн. ч.-шкі-коў-ком-камі-кох. м.*—хорек, НК: Пасоб., Но. 63; Ар.; Ксл.; Гсл. хорь. *У нас пад печкай ё шашок.* Максімава Куз. (Ксл.).
•**шашá,** *-шы-шы; мн. ч. шошы-шаў, ж.* —шоссе. НК: Игры, 24; Войш.; Ар.; Ксл. *Пайшоў цьвярдою сярэдзінаю шашы.* Адамчык: Арж. колас. *Раскруціць шлях даўгі рулён шашы.* Салавей: Сіла, 20. *Гудзіць аўтабус, шаргацяць колы па шашы.* Марціновіч(Беларус, Но. 159). *Вось шаша загінае.* Рамановіч(Бацьк., Но. 49-50/435-436). *Матора панеслася па шашы.* Рудня Аз. (Ксл.). *На долю А. Вярыгі прыпала арганізаваць заслону і спыніць зносіны па шашы паміж Смаленскам і Віцебскам.* Васілеўскі(Полымя, 1929, VI, 193). *Мы сьціравaліся да шашы.* Цялеш: Дзесяць, 44.
•**шаткавáнка**-*нкі-нцы, ж.*—шинкованная капуста. Шсл. *Удалася смачная шаткаванка.* Ст.
•**шаткавáць,** *-кýю-кýеш-кýе, несоверш. што*—шинковать, мелко резать (резать так, чтобы получились узкие лепестки, С.) Растсл.; Ар.; Альшанікі Беш. (Ксл.); Шсл.; Гсл. *У Язэпчыкаў шаткуюць капусту.* Ар. *Шаткуем капусту.* Ст. *Прич.* **шаткавáны** —шинкованный. Ар.; Шсл. *Паставілі на зіму селядзёвачку шаткаванае капусты і селядзёвачку палуяк.* Ст. *Соверш.* **нашаткавáць**—нашинковать. Ар.; Шсл. *Нашаткавалі селядзёўку капусты.* Ст. *Соверш.* **сшаткаваць**—сшинковать. Ар. *Сшаткавалі троха капусты.* Ст.
•**шаткавáцца**-*кýецца*—шинковаться. Шсл. *Добра шаткуецца наша капуста.* Ст.
•**шатроўка**-*ўкі-ўцы, ж.* **1.** зерна со снятой шелухой. *Будуць шатроўку пушчаць, крупы рабіць.* Вішкавічы Чаш. (Ксл.).
**2.** мука из *"шатраванага"* зерна. *Нарабілі мы шатроўкі пудоў зь дзесяць.* Ст. *Пяць пудоў шатроўкі змалоў.* Лужасна Куз. (Ксл.).

●**шатрахом,** *нареч.*—не плотно, не прилегая друг к другу, беспорядочно. Ар. *Дровы ляжаць шатрахом.* Ар. *Ср. шатырыцца. Кніжкі, папера ляжыць шатрахом,* Ар. *См. рагацьцём.*

●**шатраваньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к шатраваць,*—снимание на мельнице шелухи с зерна. Ар.

●**шатраваць,** *-рўю-рўеш-рўе, несоверш.. што*—снимать шелухи с зерна на мельнице. Ар.; Кл.; Гсл. *Ячмень шатрую.* Лужасна Куз. (Ксл.). *Павязу шатраваць ячмень на бліны.* Ст. *Прич.* **шатраваны**—со снятой на мельнице шелухой. Ар. *Шатраваны ячмень.* Ар.

**шатраваная мука**—мука из *"шатраваных"* зерен. Ар. *Добра й шатраваная мука, усё ляпей, як так, ці на зацірку, ці на што.* Ст. *Соверш.* **абшатраваць**—очистить зерна от шелухи на мельнице. Ксл. *Абшатруем ячмень на крупы.* Лятоўшчына Куз. (Ксл.). *Соверш.* **ашатраваць** — *ашатраваць.* Ар.

●**шатў-батў,** *нареч.* означающее поспешность (приблизительно то же, что "бухты-барахты"). Гсл.

●**шатынка**-*нкі-нцы, ж.*—сатин. Шсл. *Набрала сабе шатынкі на спадніцу.* Ст. *См. сатына.*

●**шатырыцца**-*руся-рышся,* **1.** о травах и злаках: раздаваться в стороны при высыхании. Шсл. *Ячмень, як сохне, дык шатырыцца, тады яго блага й на воз класьці.* Ст.

**2.** о лошади: настораживаться при пугании. Шсл. *Конь шатырыцца, ці не ваўка ён у кустох чуе?* Ст. *Соверш.*

**нашатырыцца, 1.** раздаться в стороны, приподняться. Шсл. *Канюшына, як высахла, дык уся чыста нашатырылася, аж на воз нельга класьці.* Ст.

**2.** (о лошади и под. С.), насторожиться. *Нечага конь нашатырыўся ды ўсё ў бок пазірае.* Ст. *Прич.* **нашатыраны.** Шсл. *Цяпер ячмень нашатыраны, хай адляжа, тады будзем складаць.* Ст.

●**шаваліць**-*лю, шаволіш-ле, повел.-воль-вольма, несоверш., перех.*—шевелить. Гсл.; Нсл.; Ксл. *Не шаволь таго краю!* Альшанка Чаш. (Ксл.). *Ён нічога не гаворыць, толькі вусікам шаволіць.* Дсл. *Соверш.* **абшаволіць** —устроить что-л. тихо, и быстро обделать дельцо. Дсл. *Пагукалі сваты між собку і абшаволілі дзела.* Дсл.

●**шаваліцца**-*люся, шаволішся, прошл. вр. шаваліўся, несоверш., возвр.*—шевелиться. Нсл. 704; МГсл. *Не шаваліся, ато з возу зваlішся.* Нсл. *Расьхінуліся сенажаці, на каторых ужо памалу шаваліліся касцы.* ЗСД 172. *Шаволіцца, лезе.* ЗСД. 245. *Соверш.* **зашаавaліцца.** Нсл. 704. *Чэрві зашаваліліся.* Нсл. *Однкрат.* **шавальнуцца**-*нўся-нёшся-нёцца-нёмся.* Нсл. 704. *Спаў крэпка, не шавальнуўся.* Нсл.

●**шавец,** *шаўца, предл.-цў, зват. шэўча; мн. ч.-цы-цоў-цом-цоў-цамі-цох, м.*—сапожник. Ар.; Ксл.; Шсл.; Нсл. 708; Гсл.; ПНЗ; Растсл.; НК.: Очерки, 189. *Аддаў сына вучыцца за шаўца.* Ст. *Шавец шые боты.* Ранчыцы Беш. (Ксл.). *Ласкат.* **шэўчык**-*ыка, предл.-ыку.* НК.: Очерки, 184; Шсл. *Мікіта дарма сабе шэўчык: шые боты добра й танна.* Ст.

●**шавецкі**-*кая-кае,* **1.** сапожнический, Шсл. относящийся к сапожнику или сапожничеству. Ар. *Шавецкія звычаі.* Ар.

**2.** сапожный. *Каб дзе дастаць шавецкай смалы.* Ст. *Шавецкая майстроўня.*

●**шавецтва**-*ва, ср.*—сапожничество.

●**шаўковы**-*вая-вае*—шелковый. Косіч 84; Абарынкі Стдуб. (Раст.: Северск. 27); Ксл.; ЗСД 145. *Тата купіў імне шаўкловую хустку.* Купіна Віц. (Ксл.). *На тым лузе падушкі шаўковыя.* Погар (Афанасьев, I, 153). *Шаўкавыя павады.* Из нар. песни, Я. Г-кі: Лемантар, 48. (*У ката*) *шарсьціначкі шаўкавыя.* ("Каласкі", Но. 60-61, 1958).

●**шаўкаць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.* **1.** — *шамшыць.* Нсл. 704. *Шаўкае, шаўкнуў нешта, не разьбярэш яго.* Нсл. *Соверш.* **зашаўкаць.** Нсл. 704.

**2.** тихо говорить, шептать. Нсл. 704. *Ня чую, што шаўкае, шаўкнуў на вуха.* Нсл. **шаўкнуць,** *однкрат.* **1.** *к шаўкаць 1.*

**2.** *к шаўкаць 2.*

●**шаўлюга**-*гі, ж., увелич. от шэўля. Ён на сваёй шаўлюзе не завязець гэты воз.* Слабала Беш. (Ксл.). *Но. Буланы! Но, шаўлюга!* Гарун: Кан. Паўлючонка. *Уменьш.* **шаўлюжка**-*кі, дат., предл. шаўлюжцы, ж.* Гсл. *Н-но! Гані сваю шаўлюжку!* Гарун: Кн. Паўлючонка.

●**шаўл-юга**-*южка,—см. под шэўля.*

●**шаўцоў**-*ова-ова*—принадлежащий сапожнику. Ар.

●**шаўчынка**-*нк-нцы, ж.*—шелковая нитка. НК.: Бабы, Но. 18.

●**шаць**-*ці, ж.*—иней. Гайнін. *Белую шаць асыпаюць таполі.* Салавей: Сіла, 88.

●**шэйгіс**-*іса, предл.-ісу, зват.-ісе, м.*—вертлявый мальчик. Ар.

●**шэляг**-*га, м.*—грош, Растсл.; ПНЗ. старинная медная монета. *Яны таргуюць, таргуюць, ды ні шэляга не не даюць.* Пісараўка Імгл. (Сержп.: Отчет, 7).

●**шэндзіць, шэндзіла,** *безлич.*—счастливиться. везёт; удасться, удалось. Ксл. *Мне сядні ня шэндзіць добра ўзяць за дровы.* Жабіньцяі Сур. (Ксл.); НК.: Пасоб. Но. 57.

●**шэнце,** *безлич.*—счастливиться, везёт. Ар. *Яму штось сусім ня шэнціць.* Ст. *Ср. шанцаваць, шэндзіць. Соверш.* **пашэньціць, пашэнціла**—посчастливиться (повезёт, С.) Ар.; Шсл.; Мамойкі Беш. (Ксл.). *Але пашэньціла Юрку: зь лесу прыцёг калоду і ніхто не злавіў,* Ст.

●**шэпат**-*ату, предл. и зват.-аце, м.*—шелест. *Ср. шапацець.*

•**шугаве́я**-*ęі-ęі, ж.*—вьюга, метель. Нсл. 710. *Шугавея настала на дварэ.* Нсл. (*Сьнежань*) *зашумеў шугавеяю.* Салавей: Сіла 61.

•**шугаве́іна**-*ны, общ.*—расточитель-ница, мот, мотовка. Нсл. 718. *У шугавеіны ніколі нічога не завядзецца.* Нсл.

•**шугаве́іца**-*цы-цы, ж.* — *шшугавея.. Ці ліха мяне панясець ехаць у такую шугавеіэцу, шугавею!"* Нсл. *Зіма на шугавейных белых крылах шумела ўзмахамі.* Салавей: Сіла 72.

•**шугавы**-*вая-вае*—ветренный, непостоянный. Дсл.

•**шуга́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, звукоподр.* **1.** шибать бросать что с шумом на воздух. Нсл. 718. *Шугаць трэскаю.* Нсл. *Шугаць шыбнём на вераб'і.* Нсл.

**2.** (порывисто, Гсл.), сильно дуть(о ветре, Гсл.) Нсл. 718. *Вецер шугае.* Нсл. *На вуліцы шугае вецер.* Гарэцкі: Песьні, 33.

**3.** летать с шумом. Гсл. *Узносіш крыльле, а шугаць ня можаш.* Салавей. *Імкнуўся я парывы духу даць, каб ён шугаў да зораў панад стромы.* Тм.

**4.** колебать. *Зрэдку пыхала бліскаўка, і шугаў рабінаю вецер.* Гарэцкі: Песьні, 82. *Шугае лес.* Кавыль: Ч. лёд.

**5.** полыхать. Ар.; Шсл. *Полы шугаюць у печы.* Ар. *Агонь шугае.* Ар. *Агонь аж у неба шугае.* Ст. *Полымя дужа шугае.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.). *Полымя шугае.* Нсл. 718. *Хваля агню шугала што раз бліжэй.* Тат.: Кво вадыс, 291. *Конь спыніўся, стаў, чакае, з воч яго агонь шугае.* Гарун: Шчасьце М. *Однкр.* **шугану́ць**-*нү̀-нёш-нёць-нём-ніцё. Маланка зьнячэўку шуганула сярод поля.* Ар.; Вольскі: Паланянка.

**6.** провалиться с шумом(в снег). ПНЗ.

**7.** *перен. Тыя песьні да Шырын пераз мур шугалі.* Крушына: Лебедзь 61. *Ваша, сп. Рамановіч, ня хочаце поэтам даць волі шугаць у прасторах.* Галубіцкі("Бацькаўшчына", Но. 35/421). *Ня ўсім суджана шугаць.* Тм. *Шугайце, поэты!* Тм. *Мая душа — яна ня сьпіць — зялёным полымям шугае, чырвоным полымям гарыць.* Броўка(Літ. Маст. 17, 1971 г.).

**8.** *перех.*—мотать, расточать, как бы бросая на ветер. Нсл. 718. *Шугаў бацькава дабро, пакуль усё расшугаў.* Нсл. *Соверш.* **расшуга́ць**, *каго-што*—расточить, как бы бросая на ветер. Нсл. 718. *Шугаючы, расшугаеш борзда, а зьбіраючы зьбярэш.* *Послов.* Нсл. *Соверш.* **расшуга́цца**—стать тороватым(?) до расточительности. Нсл. 553. *Нешта ён расшугаўся, знаць пабагацеў.* Нсл.

**шугну́ць**-*нү̀-нёш-нёць-нём,* **1.** шибнуть, бросить что с шумом на воздух. Нсл. 718. *Шугнуць шыбнём у вераб'і.* Нсл.

**2.** *однкр. к шугаць 2*—дунуть. *Вось шугнуў за сьцяною вецер.* Гарэцкі: Песьні, 34.

**3.** полыхнуть. Шсл. *А цяпло як шугнець ды шугнець, аж у самы строп!* Ст.

•**шу́хля**-*лі, ж.*—совок для ссыпания зернового хлеба. Ксл. *На такаўні ляжыць шухля.* Чарнагосьці Беш. (Ксл.).

•**шу́ець**—накипь. Церахоўка Гомельск.(Наш Край, 1928, Но. 11, 48).

•**шука́ньнік**-*ка, м.*—искатель. МГсл.

•**шука́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к шукаць,*—искание, Нсл. 718; Ар. розыск. Мгсл. *Такое тваё было шуканьне, што не знайшоў.* Нсл.

•**шука́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е; повел.-ай-айма, несоверш., каго-чаго*—искать. НК: Дудар, Но. 52; НК: Очерки, Но. 49; Ар.; Нсл. 718; Растсл.; ПНЗ; Шсл.; Ксл.; Гсл. *Ня шукаючы, ня знойдзеш.* Нсл. *Шукай тут, яно сюды паляцела.* Ст. *Яны паляцелі шукаць таго каменя.* Погар (Афанасьев, II, 1914, 198). *Прич.* **шуканы**—искaнный. Нсл. 718; Ар. *Грошы тут ужо шуканы кімсь.* Нсл. *Соверш.* **адшука́ць**—отыскать. НК: Под. пос, Но. 20; Гсл. *Людзі добрыя, скажыце, а йдзе мора адшукаць?* НК: Под. пос. 38. *Шмат часу пайшло на адшуканьне патрэбнай паперы.* Гсл. *Соверш.* **пашукаць**—поискать. Гсл.; Ар.; Нсл. 718. *Соверш.* **прышукаць**—приискать. Нсл. 518. *Другі спосаб які надабе прышукаць да гэтага.* Нсл. *Соверш.* **зашука́цца**-*а̀юся-а̀ешся*—слишком долго искать. *Маці цябе там зашукалася, а ты сядзіш тут — бяжы да хаты.* Вярбоўка Расьн.(Бясл.). *Хадоска з пад вянца, зашукалася грабянца.* Гарэцкі: Нар. песьні. 19.

**адшу́каваць**-*кую-куеш-куе, каго-што*—обыскивать. Нсл. 356; Дсл. *Абшукуй, абшукай нас усіх, калі думаеш, што мы ўзялі.* Нсл. *Пачалі злодзея абшукаваць і знайшлі крадзеныя рэчы.* Дсл. *Соверш.* **абшука́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е каго-што* **1.** обыскать, Ксл.; Нсл. 356. обыскать вокруг. Шсл. *Абшукаў усе куткі і нідзе не знайшоў сякіры.* Ст. *Давядзецца абшукаць усіх, хто ёсьць — мо й знойдзем.* Дабрамысьль Лёз. (Ксл.).

**2.** обмануть. Шсл. *Хацеў абшукаць мяне, але не на таго нарваўся.* Ст. *Прич.* **абшука́ны**—обысканный. Нсл. 356. *Вазы й людзі ўсі абшуканы, пакражы не знайшлося.* Нсл.

**абшука́цца**, *соверш., возвр.*—обыскать самого себя. Нсл. 356. *Абшукайся сам, можа ў сябе самога знойдзеш.* Нсл.

**дашукавацца**-*куюся-куешся, несоверш.*—доискиваться. Шсл. *Позна ты стаў дашукавацца свайго. У мяне ён дашукуецца — у іншых папытайся, дзе твая піла.* Ст. *Пачаў вураднік дашукавацца — зразу выдалі,* Парадзіна Імсьц. (Бяльсл.). *Соверш.* **дашука́цца**—отыскать. МГсл.

•**шуло**-*ла, ср.* — *шула.* Шсл. *Згніло шуло ў пуні.* Бор Сьміл. (Шсл.).

•**шу́ла**-*ла, ср.* — *шула.* Шсл. *Дастаў пару дубовых шульцаў.* Ст.

●**шу́ла**-*лы-ле, ж.* **1.** колода, (Нсл. 718) толстый столб. Гсл. *Ляжыць, распохшы, як шула.* Нсл. *Цяліца ходзе наўкола шулы, як дурная.* Севершч.(Косіч 15). *Груд мужчын і баб, што сядзелі й гаманілі на бярвеньню й шулах, зьвезеных летась з панскага лесу, патроху рассыпаўся.* Дзьве Душы 109.
**2.** заборный столб, который в средине забора имеет пазы с обеих сторон, а в конце его в одной только стороне, прилегающей к пряслу, НК: Очерки, Но. 435. столб с пазами в строении или в ограде. Нсл. 719.
**3.** стойка(металлический или деревянный брус служащий опорой для чего-н. в механизмах, сооружении, конструкции, С.) Растсл.; ПНЗ.
**4.** столб в стене, заборе, в воротах, с пазами, Ксл.; Шсл. столб(вообще, С.) МГсл. *Аб'ехала шула*—зн. *"шула"* вошло в землю, подгнив. Ст. *Шулы падгнілі і замёт паваліцца.* Жабяньцяі Сур. (Ксл.). *Шула скрывілася.* Нсл. 719. *Хата без варот із аднэю шулаю.* Гарэцкі: Песьні, 6. *Ток наш забурàцца хоча: шулы й сохі сусім падгнілі.* Нсл. 733( *под забураваца*).
**5.** *перен.*—толстяк, толстячка. Нсл. 719. *Шула гэты, ледзь у дзьверы ўлез.* Нсл. *Шулу такую павярнуць цяжка.* Нсл.

**шуліна**-*ны-не, ж.*—одна *"шула"*. НК: Очерки, Но. 435; Ксл. *Шуліна павалілася ў вароцех.* Калышкі Лёз. (Ксл.). *Уменьш.* **шу́лка**-*лкі*—столбик с пазами. Нсл. 719. *Да прызбы шулка.* Нсл.

**шу́лачка**-*чкі, уменьш. к шулка*, столбичек с пазами. Нсл. 719. *Увелич.* **шу́лішча**-*ча*—толстое и довольно длинное бревно. *Шулішча гэта і параю коней не пацягнеш.* Нсл. *Собир.* **шу́льле**-*ля.* Ксл.( *под шуліць*).

●**шу́л-ішча**-*ка,—см. под шула.*

●**шула́к**-*кà, м.*—небольшой столбик для ограды или в постройке. Шсл. *Паваліўся шулак у плоце.* Ст. *Уменьш.* **шулачок**-*чкà.* Шсл. *З гэтага кавалка яшчэ выйдзе шулачок.* Ст.

●**шуля́к**-*кà*, **1.** не очень толстый столб с пазами. *Шулякі ў пуні падгнілі.* Нсл.
**2.** коршун. Milvus ater Gm. *Глядзі, каб шуляк куранят не пахапаў.* Бабінічы Віц. (Ксл.).

●**шуля́ты**-*т, единств. ч. нет.*—ядра у самца. Нсл. 719. *Шуляты выпусьціць трэба жарабку.* Нсл. *Схапіў яго за шуляты.* Нсл.

●**шу́ліць**-*лю-ліш-ле каго-што*—закладывать бревна в столбы с пазами — *"шулы".* Ксл. *Сьцяпан шуле сьцяну ў хлеве.* Сітна Лёз. (Ксл.).

●**шулі́ць**-*лю-ліш, несоверш.*—строить забор, укладывать *"замеціны".* НК: Очерки, Но. 435.

●**шулу́га**-*гі, ж.*—деревянный(не обязательно деревянный, С.) мячик. Ксл. *Мы гулялі ў шулугу.* Цаўі Сян. (Ксл.).

●**шулумейка**-*кі, дат., предл. шулумейцы, ж.*—голова, когда о ней говорится при кутеже. НК: Очерки, Но. 149.

●**шулупа́**-*пы̀, ж.*—шелуха. Ксл. *Ад бульбы засталася адна шулупа.* Зайцава Сур. (Ксл.). *См. шалупайка, шалуп'е, шалупіна.*

●**шум,** *шуму, м.* **1.** шум. Ар.
**2.** накипь в горшке при варке. Нсл. *Зьбяры шум із гаршкоў.* Нсл. *См. шумà 3, 4.*

●**шумоу́ка**-*ўкі, дат., предл.-ўцы, ж.*—ложка для снимания пены с горшка. НК: Очерки, 79.

●**шума́(шу́ма,** НК: Очерки; Вост., Даль) **1.** сор. Ксл.; Віцебск.; НК: Очерки, 231, 250. *Вынясі шуму з хаты.* Селядцова Беш. (Ксл.).
**2.** навоз из сухой мелкой соломы и пр. остатков на гумне, слегка подгнивших. Шсл. *На загон навазіў шумы.* Ст.
**3.** накипь в горшке при варке пищи, Шсл. предметы всплывающие на поверхность горшка. НК: Очерки, Но. 176. *Ськінь ложкаю гэту шуму.* Ст. *См. шум 2.*
**4.** мелкая мякина, как то бывает в крупе и под. НК: Очерки, Но. 176.

●**шумархаваць**—шуметь(о людях). Смоленщ.

●**шума́рхаць**—разбрасывать с шумом. Гсл.

●**шумава́ць***му̀ю-му̀еш-му̀е,* **1.** кипеть ключом, производя(выбивая, Нсл.) пену (пениться, С.) Шсл.; Нсл. 719. *Зацірка ў гаршку шумуе.* Ст. *Рыба шумуе.* Нсл. *Гаршкі шумуюць.* Нсл.
**2.** *перех.*—снимать с кипящего кушания пену, накипь. Нсл. 719; НК: Очерки, 79. *Шумаваць страву.* Нсл. 719; НК: Очерки, 79. *Я рыбку варыла, ды не шумавала; я мілага любіла, ды не шанавала.* Из песни, Нсл. *Соверш.* **зашумава́ць** —закипеть пенясь. Шсл. *Зацірка зашумавала.* Ст.

●**шумаві́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—накипевшая пена при варке. Ксл. *Зьнімі шумавіньне з гаршка.* Стасева Выс. (Ксл.).

●**шумаўё**-*ўя, предл.-ўю, ср.*—накипь в горшке при варке. Войш.

●**шумаце́ць,** *-ачу-аціш-аціць, несоверш.* —шуметь с большей частотой звуков шума. *Шумацяць лозы.* Гарэцкі: Песьні, 61. *Дзьве жмені, гнуткія, шумацяць, мятаюцца й мятаюцца.* Тм. 55.

●**шуме́тнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —мусорная яма, НК: Очерки 138; Гсл.; Ксл. место, где складывают мусор. Ксл. *Із шуметніку накапаў тры вазы шумы.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.).

●**шуме́ціць**-*чу-ціш-це*—сорить. МГсл.
**зашуме́ціць**—засорить. МГсл.

●**шуме́цьце**-*ця, предл.-цю, ср.*—сор. НК: Очерки, Но. 823; МГсл. *См. шума.*

●**шумлі́вы**-*вая-вае*—..... *Люблю шумлівы гай.* А. Русак(Б. Ускалось, 1954, Но. 4, стр. 28).

●**шумце́ць,** *шумчу̀, шумці̀ш-ці̀ць, несоверш.* —шуметь. Смоленщ. *О, зямля! Гэта ты, толькі ты жыцьцядайнаю казкай шумцела.* Салавей: Сіла 49.

•**шу́пачка**-*чкі, ж.*—не твердый, плохой качан капусты. Ксл. *Адны шупачкі парасьлі.* Даўгое Беш. (Ксл.).

•**шу́піць**-*плю-піш-пе, каго-што*—понимать, разуметь, Шсл.; Нсл. понимать, разбираться. Ксл. *Хоць малы, а троху шупіць.* Глебаўск Сян. (Ксл.). *І яно ўжо нешта шупіць.* Крамяні Пух. (Шсл.). *Ці шупіш ты, што яны кажуць?* Нсл. *Соверш.* **расшу́піць,** *каго-што*—понять. Ксл. *Во й расшупілі!* Даўгое Беш. (Ксл.). *Соверш.* **сшу́піць,** *каго-што*—понять. Нсл. *Нябось сшупіў тое, што зь яго жартуюць.* Нсл.

•**шуплацьця**—мелочь, ерунда. ПНЗ.

•**шупшына**-*ны-не, ж.*—шиповник, дикая роза. Растсл. *См. чупчыньнік.*

•**шур, шур!**—междомет. для подзывания овец. *Шур, шур, шур, шутачкі мае!* Гарадок (Ксл.).

•**шура́ць**—помыкать, гонять, как овцу. Гсл.

•**шургаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—шаркать. МГсл.

•**шурхну́ць**—взлететь с шумом. Гсл. *Верабейкі шурхнулі з плетня ў каноплі.* Гсл.

•**шурхну́ць**—прогнать, испугать. Гсл. *Шурхні авечкі з двара.* Гсл.

•**шу́рпа**-*пы-пе, ж.* **1.** курица и гусь, имеющие взъерошенные перья. НК: Очерки, Но. 802; Пархв.

**2.** *общ.*—нежное название кудрявого мальчика или девочки, кудрявчик. Нсл. 719. *Шурпа ты мой.* Нсл. *Уменьш.* **шурпачка** -*чкі.* Нсл. 719. *Шурпачка ты мой.* Нсл. *Хто маю шурпачку ўкрыўдзіў?* Нсл.

•**шурпа́**-*пы̀, общ.* **1.** гниль. Шсл. *Яна ўжо, як шурпа, зрабілася.* Крамяні Пух. (Шсл.).

**2.** *перен.*, сильно дряхлый-ая. Шсл.

•**шурпа́сты**-*тая-тае*—от природы шероховатый, имеющий взъерошенные перья, Нсл. 719. взъерошенный. *Шурпастая курыца.* Нсл.

•**шурпа́тасьць**-*ці, ж.*—шероховатость. Ар.; МГсл.

•**шурпа́тка**-*кі, ж.*—курица с взъерошенными перьями. Нсл. 719. *Шурпаткі нясушчыя.* Нсл.

•**шурпа́ты**-*тая-тае*—шероховатый, ПНЗ; Растсл.; Ксл.; Міх.; Барс., Пц., Лепл. шероховатый, не гладкий, шершавый. Нсл. 719; Ар. *Нешта гэта шкло шурпатае.* Пожынкі Сян. (Ксл.). *Шурпаты лёд.* Барс., Пц., Лепл. (Юхн.). *Шурпатыя аполкі.* Тм. *Шурпатыя пілоўкі(дошкі).* Тм. *Шурпаты мост(у хаце).* Барс., Пц., Лепл. (Юхн.). *У цябе ад працы шурпатыя рукі.* Тм. *Шурпатая дошка.* Нсл. *Шурпатыя твае рукі ад работы.* Нсл. *Шурпатая курыца.* Нсл. *Нареч.* **шурпата**—шероховато. Гсл.

•**шурпаце́ць**-*ею-ееш-ее, сяр.*—делаться шероховатым. Нсл. *Ад работы рукі шурпацеюць.* Нсл. *Соверш.* **зашурпа́цець,** *сяр.*—стать шероховатым. Нсл. 719. *Ад работы рукі зашурпацелі.* Нсл. *Соверш.* **пашурпа́цець,** *сяр.*—стать шероховатым. Нсл. 719. *Тваё сукно ад дажджу пашурпацела.* Нсл.

•**шурпа́ціць**-*чу-ціш-це, каго-што*—делать шероховатым. Ксл.; Нсл. *Нашто шурпаціць стол?* Чашнікі (Ксл.). *Чорнаю работаю ты рукі свае шурпаціш.* Нсл. *Ня трыся каля печы, паліто шурпаціш.* Нсл.

•**шурпа́цицца**-*чуся-цішся, возвр.*—делаться шероховатым. Нсл. *Ня трыся каля сьцяны, сукно шурпаціцца.* Нсл. *Соверш.* **абшурпаціцца,** *возвр.*—принять шероховатый вид. Нсл. 356. *Сукно абшурпацілася.* Нсл. *Соверш.* **зашурпа́ціцца,** *возвр.* **1.**—сделаться шероховатым. Нсл. 719; БНсл. *Ня трыся каля сьцяны, сьпіна зашурпаціцца.* Нсл. 719. *Рукі ад работы зашурпаціліся.* Нсл. 194.

**2.** начать ссору. Дсл. 261. *Нашы зашурпаціліся.* Дсл.

•**шурсьце́ць,** *несоверш. к зашурсьцець. Соверш.* **зашурсьцець**—о шорохе снега. Дсл. 261. *Сьнег зашурсьцеў пад нагамі.* Дсл.

•**шуршэць**-*шу̀-шыш*—шуршать. МГсл.

•**шу́ру-бу́ру,** *междомет.,*—означает приведение в беспорядок. Гсл.

•**шу́снуць,**—*см. под шустаць.*

•**шу́стаць**-*аю-аеш-ае, каго-што, звукоподр.* **1.** бросать, метать с шумом. Нсл. *Вецер шустае салому.* Нсл.

**2.** расточать, прогуливать. Нсл. *Ня доўга будзе шустаць, борзда расшустае бацькаўшчыну.* Нсл.

**3.** *в знач. ср.,*—от сильного напора производить шум, стремиться с шумом и силою. Нсл. *Вада шустае цераз стаў.* Нсл. *Вецер шустае дзярэўям.* Нсл. *Вада проста й шустае цераз заставы.* Ст. *Однкр.* **шу́снуць**-*ну-неш-не, каго-што,* **1.** бросить, метнуть с шумом. Нсл. *Шусьні ўсё гэта ў вакно.* Нсл.

**2.** стремительно и с шумом пасть вниз(и вообще устремиться с шумом и силою, С.) Нсл. *Страха ад ветру шуснула далоў.* Нсл. *Сьнег із страхі як шусьне,б дык я аж спалохаўся!* Ст. *Неяк ненарокам выняў затычку ў бочцы, дык газа як шусьне — уся й выляцела!* Ст. *Полямя шуснула цераз вокны.* Нсл. *Як шуснуў вецер, дык і зламіў дзерва.* Нсл. *Соверш.* **расшу́стаць,** *каго-што,* **1.** разбросать, разметать с шумом. Нсл. *Вецер расшустаў салому.* Нсл.

**2.** расточить, прогулять. Нсл. *Расшустае бацькаўшчыну.* Нсл. **абшу́снуцца,** *соверш.* **1.** осунуться стремительно вниз, упасть. Нсл. 356. *Сьнег із страхі абшуснуўся.* Нсл. *Лёд, мост абшуснуўся.* Нсл.

**2.** оборваться, упасть. Нсл. *Глядзі не абшусьніся ў ваду.* Нсл.

•**шу́стры**-*рая-рае*—проворный, быстрых движений. *На ўзьлесьсю з лужыны вады нап'ецца шустрая сініца.* Бялевіч.

•**шусьць!** — *шусь!* Шсл. *Шусьць яму пад ногі ды ўцёк!* Ст.

●**шусь!** *междомет.*—для обозначения или действия вообще с шумом. Шсл.; Нсл. *Заяц проста з пад ног шусь цераз дарогу!* Ст. *Шусь у ваду.* Нсл. *Шусь на яго вадою!* Нсл. *Страха шусь! і ўпала.* Нсл.

●**шу́шамець**-*ці,* *собир.*—проказничающая детвора, детская шатия. Ар.

●**шу́шкаць**-*аю-аеш-ае*—шушукать. МГсл.

●**шушпа́н**-*анà,* *предл.-анè; мн. ч., дат.-ном, мн. ч., предл.-нох, м.*—род мужской одежды. Дсл.( *под* одежда).

●**шут-шут!**, *междомет.* для подзывания овец. Шсл.; Нсл. *Шут-шут-шут! Авечка мая, авечачка!* Ст.

●**шу́та**-*ты, ж.*—ласкательное название овцы. Нсл. *Шуты бягуць двору.* Нсл. *Уменьш.* **шу́тка**-*ткі*—ласкательное название овцы. Нсл.; Шсл. *Шуткі мае, шутачкі! чаго вы пудзіцеся?* Ст. *Але сядні надта пудкі штось авечачкі былі. — Ну што з вамі, мае шуткі?* С. Музыка, 42. *Каму шуткі, а мне авечкі.* Рапан: Прык. 255.

**шу́тачка**-*чкі, уменьш. к* *шутка.* Нсл.; Шсл.; Ксл. *Шутачкі бягуць двору.* Нсл. *Шур-шур-шур, шутачкі мае!* Гарадок (Ксл.).

●**шу́тачкі**-*аў,* **1.** клевер полевой. Trifolim arvense L. Ксл. *Шутачкі ўжо цьвітуць.* Лужасна Куз. (Ксл.).
**2.** *уменьш. к* *шуты, шутка.*

●**шуве́іна**-*ны, общ.*—*ветреник-ица.* Нсл. *Шувеіна заўсёды ня помне, што робе.* Нсл.

●**шуве́йлівы**-*вая—вае*—несколько ветренный, несколько легкомысленный, склонный к непостоянству. Нсл. *Хлапец шувейлівы.* Нсл. *Ты пад старасьць стаў шувейлівы.* Нсл.

●**шуве́йны**-*ная-нае*—ветренный, непостоянный. Нсл. *Шувейны адно кажа а другое робе.* Нсл. *У шувейнага ў вадзін дзень сем перамен.* Нсл.

●**шу-у-гу!**, *междомет.*—оклик со взмахом на птиц, чтобы согнать их. НК: Игры, Но. 55.

●**шчодрасьць**-*ці, ж.*—щедрость. Нсл.; Ар.; МГсл. *Шчодрасьці яго мы яшчэ ня бачылі, а добры прыгляд бачым.* Нсл.

●**шчодры**-*рая-аре*—щедрый. Ар.; Нсл.; Бор.; Чаш. (Ксл.). *Ты шчодры чужым дабром: пакажы сваю шчодрасьць.* *Уменьш., ласкат.* **шчодранькі.** *Увелич.* **шчадру́сенькі.** Нсл.

●**шчодра,** *нареч.*—щедро. Гсл.; Ар.; Нсл. *Шчодра даець работнікам за работу.* Нсл. *Уменьш., ласкат.* **шчодранька,** *увелич.* **шчадру́сенька.** Ар.; Нсл.

●**шчокат**-*ту, м.*—щекотание, Ксл. щекотка. Ст. *Вось ён баіцца шчокату: проста*

●**шчокат**—стрекотание сороки.

●**шчокат**—стрекотание сороки.

●**шчабоўкнуць**-*ну-неш-не,* *повел.-ні-німа, соверш., однкр.*—упасть с шумом в воду, произвести звук *"шчабоўк",* Гсл. упасть с шумом, бултыхнуться в воду. БНсл. *См.* *шчубоўкнуць.*

**шчубоўкаць**-*аю-аеш-ае*—падать в воду с шумом. Растсл.; ПНЗ. *Однкр.* **шчубоўкнуць**-*ну-неш-не*—упасть с шумом, бултыхнуться в воду. БНсл. *См.* *шчабоўкнуць. Шчубоўкне ў ваду.* ЗСД 63.

●**шчага́ць**-*àю-àеш-àе*—изнуряться. Нсл. 720. *З голаду шчагаем за табою.* Нсл. *Соверш.* **зашчогнуць.** Нсл. 720. *Статак шчагне, зашчох без вады ўполю.* Нсл.

●**шчахлы**-*лая-лае*—несколько подсохший(о белье, платье). Из *"шчахлага"* никогда не каплет, но влажным оно остается. Ар.

●**шча́дасьць**-*ці, ж.*—пощада. Нсл. 720. *Бяз шчадасьці б'ець жонку.* Нсл.

●**шчаджа́ць**-*àю-àеш-àе;* *повел.-ай-айма, несоверш., перех.*— щадить, жалеть. Нсл. 720. *Не шчаджай хлапца, сьцёбай добранька.* Нсл. *Соверш.* **пашчаджаць**—пощадить. Нсл. 720. *Мы шчаджалі сабе дзеля сьмерці капейку, а нехта пабраў наша дабро.* Нсл. *Прич.* **шчаджоны**—любимый, береженный. Нсл. 720. *Гэта маё шчаджонае дзяцё.* Нсл.

●**шча́дна,** *нареч.* **1.** бережливо. Ксл. *Шчадна абыходзься ізь сенам.* Мішкава Куз. (Ксл.).
**2.** бережливо, нерасточительно. Нсл. 720. *Жывець шчадна, не раськінецца.* Нсл., —бережно. бережливо. Гсл.

●**шчадроўны**-*ная-нае*—относящийся к *"шчадроўнай куцьці"*, которая бывает наконуне Нового Года. *"Водзяць казу" пад Новы Год "на шчадроўную куцьцю".* Старадуб(Жив. Старина, 1909, I, 88).

●**шчадрава́ць**-*рỳю-рỳеш,* *соверш.* **пашчадрава́ць,**—ходить в Рождественское время с песнями *"шчадроўкамі". Шчадрую, шчадрую, дайце каўбасу, я ў двор панясу, дайце другую, я пашчадрую.* Росуха Імгл. (Косіч 56).

●**шчаджоны,**—*см. под* *шчаджàць.*

●**шчака́**-*акі̇-аццэ;* *мн. ч.* *шчокі-каў, ж.* —щека. Ар.; Ксл.

●**шчака́ліць**-*лю-ліш-ле*—щекотать. Ксл. *Хадзі, я ня буду шчакаліць.* Стаішча Чаш. (Ксл.).

●**шчаката́ць,** *шчакоча*—стрекотать посорочьи. Гсл. *Соверш.* **зашчакатаць.** БНсл.

●**шча́кі**-*каў,* *единств. ч. нет.*—моча. Ар. *См.* *моч.*

●**вышчаляць**—.... *Дзеўкі сталі вышчаляць зубы.* Дсл. 284.

●**шчаме́ль**-*мялѐ,* *предл.-мялю̀, зват.-мѐлю; мн. ч.,* *-мялі̇-лёў-лём-лі-лямі-лёх, м.* —шмель. Гсл.; Растсл.; Ксл. *Знайшлі шмат шчамялёў.* Нов. Сяло Беш. (Ксл.). *На краскі бурклівa прымошчаваліся вечныя поркалы-шчамялі.* ЗСД 172. *Горш за ўсіх шчамялём.* ЗСД 140.

●**шчамі́лка**-*лкі-лцы, ж.*—расщепленная с одного конца палочка употребляемая для своеобразного наказания собак и кошек. НК: Под. пос., Но. 58.

•**шчаміць**-*млю, шчэміш-ме, каго-што* **1.** щемить, сжимать, увязив в чем- Ар. *Шчаміць, зашчаміць рукі.* Нсл.
**2.** складывать плотно. Нсл. 720.
**3.** жать в руках. Нсл. 720. *Што ты чужы пірог шчэміш у сваіх руках?*
**4.** *перен.*—впрягать. Нсл. 720. *Нашто ты шчэміш сваю кабылку? з імною сядзеш і паедзем.* Нсл.
**5.** *перен.*—протягивать(всовывать, С.) Нсл. *У нашу дзялёнку й ты шчэміш сваю руку?* Нсл. *Соверш.* **сушчаміць, 1.** сложить плотно(сжать, Гсл.) Нсл. *Што ж ты, мая дзетка, губкі сашчаміла?* Гсл. *Як на лаўцы лягу, рукі сашчаміўшы, тады воля ваша, хоця на галаве хадзеце, мае дзеткі.* Гсл.
**2. [зашчаміць]**—прищемить. Шсл. *Як зашчаміў нагу ў зялезы, дык ледзь вырваў.* Ст. *Прич.* **зашчэмлены.** Шсл. *Палец зашчэмлены ў дзьверы.* Ст. **падшчаміць** —поджать. МГсл.
**3.** сжать в руках. Нсл. 720. *Пірог сашчаміў у сваіх руках.* Нсл. *Соверш.* **ушчаміць,** *каго-што,* **1.** впрячь. Нсл. *Ужо я ўшчаміў яе(кабылку).* Нсл. *Сошку з вышак сьцягнуў, кабыліцу ўшчаміў.* Купала: Спад. 8.
**2.** протянуть(всунуть). Нсл. *У нашу дзялёнку й ты ўшчаміў сваю руку.* Нсл.
**3. ушчаміць язык**—вмешаться в сплетни, в ссору и неприятный разговор. Нсл. *І ты тут ушчаміла язык свой.* Нсл.
**4. ушчаміць хвост —а)**стать хвост в тисках. Ар. *Хлапцы ўшчамілі кату хвост.* Ар. **б)** *перен.* подвергнуться ответственности. *І табе хочацца ўшчаміць тут хвост свой: адлезь валей ад іх.* Нсл.
**5.** ужалить. Нсл. *Пшчала ўшчаміла від.* Нсл. *Прич.* **ушчэмлены, 1.** ущемленный. Ар.
**2.** запряженный наскоро. Нсл. *Шаўлюжка ўшчэмлена ў калёсы.* Нсл.
•**шчаміцца,** *несоверш., возвр.* **1.** жаться, присоединяться. Нсл. 720. *Шчаміся бліжэй да нас.* Нсл. *Шчэміцца(сабака) пераз няшчытна зачыненыя дзьверы.* Гарэцкі: Песьні 67. *Соверш.* **прышчаміцца**—прижаться. Нсл. 720. *Прышчаміся бліжэй да нас, так каб не зваліцца з возу.* Нсл.
**2.** (жаться, Гсл.), лезть в тесноту. Гсл.; Нсл. 720. *Куды ты шчэмішся? Як ушчэмішся меж народу, то заціснуць.* Нсл. *Соверш.* **ушчаміцца**—влезть в тесноту. Гсл.; Нсл. *Як ушчэмішся між народу, то й заціснуць.* Нсл.
**3.** соединяться плотно. Нсл. 720. *Дошкі косыя на дзьверы ня шчэмяцца шчытна.* Нсл.
**4.** склещиваться. Нсл. 720. *Казяўкі шчэмяцца, сашчаміўшыся лётаюць.* Нсл.
**сушчаміцца**-*млюся-мішся,* **1.** *соверш. к шчаміцца 3,*—соединяться плотно. Нсл. 720. *Дошкі косыя, на дзьверы ніяк ня сушчэмяцца.* Нсл.
**2.** *соверш. к шчаміцца 4.* Нсл. 720. *Казяўкі сушчаміўшыся лётаюць.* Нсл.

•**шчанё**-*няці; мн. ч.-няты, ср.*—щенок. Ар.; МГсл.
•**шчанюк**-*юка, предл.-юку, зват.-юча; мн. ч.-кі-коў-ком-кі-камі-кох, м.* **1.** щенок (самец С.) Гсл.; Ар.
**2.** *бранн.*—щенок(о мальчике). Ар.
•**шчапляць,**—*см. под шчапіць.*
•**шчапіць**-*плю, шчэпіш-пе, несоверш., каго-што,* **1.** прививать(делать прививку, Шсл.) Нсл. 721; Ар.; Ксл. *Гароднік дулю шчэпе.* Бор Сьміл. (Шсл.). *Увясну шчэпяць яблыны й дулі.* Гравы Сян. (Ксл.). *Пайду да хвельчара воспу шчапіць.* Аўдзевічы Беш. (Ксл.). *Шчапіць дзічку.* Нсл. *Асьпянік прыехаў шчапіць дзяцём воспу.* Нсл. *Прич.* **шчэпены** —привитый. Нсл. 721. *Ня ўсі шчэпеныя дзічкі прыняліся.* Нсл. *Воспа яму шчэпена.* Нсл. *Многократ.* **шчапляць**-*я-яеш-яе каго-што*—прививать. Нсл. 721. *Ты яшчэ ня ўмееш шчапляць прышчэпы, дзічкі.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **шчапляньне**-*ня, предл.-ню*—прививание. Нсл. 721. *Хвельчара прывезьлі да шчапляньня воспы.* Нсл. *Соверш., многократ.* **нашчапляць** *каго-чаго*—привить во множестве. *Нашчапляць дзічак, прышчэпак.* Нсл. Многократ. **прышчапляць**—прививать. Гсл.; Нсл. 518. *Прышчапляюць яблынкі.* Нсл. *Соверш.* **прышчапіць**-*плю, прышчэпіш-пе, перех.* —привить. НК.: Очерки, 401; Ар.; Нсл. 518; Ксл.; Шсл. 233; МГсл. *Прышчапіць дзічку.* Нсл. 721. *Прышчапіў воспу.* Нсл. 518. *Малога трэба везьці да лячэльні воспу прышчапіць.* Ст. *Прич.* **прышчэплены**—привитый. Нсл. 518. *Яблынку прышчэпленую зламіў.* Нсл. *Воспа прышчэпленая прынялася.* Нсл.
**2.** складывать(о руках, С.) Нсл. 720. *На грудзёх рукі шчапі.* Кіт. 83а13. *Рукі шчэплячы, плача.* Нсл. *Соверш.* **ашчапіць**-*плю, ашчэпіш-пе*—охватить. Янк. І. *Ашчапіў за шыю і не адарвецъ(празь дзяцё).* Янк. І. *См. ашчаперыць, Соверш.* **сушчапіць,** *каго-што*—сложить(руки, С.) Нсл. *Рукі сашчаміўшы маліся Богу.* Нсл.
•**шчапленьне,**—*см. под шчапіць.*
•**шчарбатні,** *-нёў-нём-ні-нямі-нёх*—лапти с открытой головкой. *Патаптаў свае шчарбатні.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.).
•**шчарбаты**-*тая-тае,* — не имеющий зуба, выщербленный, Гсл. имеющий трещину(щербину, С.), зазубрину. Нсл. 721. *Шчарбаты гаршчок.* Нсл. *Шчарбаты зуб.* Нсл. *Ой гора таму дый не жанатаму, як таму гаршчэчку дый шчарбатаму.* Из песни, Нсл. *І мая капейка не шчарбатая.* *Послов.* Рапан.: Прык. 39.
•**шчарбацік**-*ка, м.*—глиняный сосуд с трещиною или выбитым краем. Нсл. *Гаршчэчкаў табе ня было, што ты шчарбацік купіў.* Нсл.

•**шчарбі́ць**-*блю, шчэрбіш-бе,* *несоверш., каго-што*—зазубривать Нсл. 726. *Не шчарбі, ня вышчарбі касы, каля кустоў косячы.* Нсл. *Соверш.* **нашчэрбіць**—получить(маленькую, **С.**) трещину. *Прич.* **нашчэрблены**(немного, **С.**) треснувший, имеющий(маленькую, **С.**) трещину, Нсл. 326. надтреснутый. *Нашчэрблены зуб баліць.* Нсл. *Нашчэрбленая латка, міска цячэць.* Нсл. *Соверш.* **вы́шчарбіць,** *каго-што*—зазубрить. Нсл.

•**шчарбі́цца,** *3-ее лицо* **шчэрбіцца,** *несоверш.*—зазубриваться. Нсл. 721. *Каса на пяшчаным лузе шчэрбіцца.* Нсл.

**нашчэрбівацца,** *несоверш.*—получать трещину, щербину(о глиняных, каменных и костяных предметах) Нсл. 326. *Зуб нашчэрбуецца.* Нсл. *Соверш.* **нашчэрбіцца.** Нсл. 326. *Гаршчок нашчэрбіўся.* Нсл. *Соверш.* **вышчарбіцца**—зазубриться. Нсл. 721. *Тапор вышчарбіўся, лучыў на гвозд.* Нсл.

•**шчарне́лы**-*лая-лае*—почерневший.

•**шчарне́ць,**—*см. под чарнець.*

•**шчасны**-*ная-нае*—счастливый. Ар.; Войш.; Нсл.; Алексінічы Сян. (Ксл.). *Не радзіся краснай, а шчаснай. Послов.* Войш. *У шчасны сас выехаў.* Нсл. *Не радзіся красны, а радзіся шчасны. Послов.* Нсл. *Нареч.* **шчасна**—счастливо. Гсл.

•**шчасьлі́вы**-*вая-вае*—счастливый. Нсл. *Доля яе шчасьлівая.* Севершч.(Косіч 241). *Будзь здароў а шчасьліў*(*прыгаворка пры расстаньню*). Нсл. *Шчасьлівы будзь.* Кіт. 11765. *Ср. ст.* **шчасьліўшы.** *Будзь здарова, маці міла! Каб ты мяне не радзіла, каб ты мяне не карміла, шчасьліўшая ты бы была.* П. Бахрым. *Прев. ст.* **найшчасьліўшы**—самый счастливый.

•**шчасьце**-ця, *предл.-цю, ср.*—счастье. Ар.

•**шча́сьціць,** *шча̀шчу, шча̀сьціш-це, сяр.*—служить к счастью. благоприятствовать. Нсл. *Ігра табе сядні шчасьце.* Нсл.

**шчасьць,** *повел. от шчасьціць*-благоприятствуй, дай счастья. Нсл.

**шчасьць, Божа, па дарозе!**—желание отъезжающему. Нсл. *Соверш.* **пашча́сьціць**—послужить к счастью. Нсл. *Дарога мне пашчасьціла.* Нсл. *Пашчасьце ў нечым.* ЗСД 125.

**шча́сьце,** *соверш.* **пашчасьціла,** *безлич.*—счастливиться, Нсл. благоприятствует счастье, удача, везёт. *Табе ў усім шчасьце, а мне ў гэтым не пашчасьціла.* Нсл. *Пашчасьціла неяк табе.* Нсл. 343( *под неік*).

•**шча́ўе(шчаўё,** Ар.)-*ўя, предл.-ўю, ср.*—щавель, Ар.; Лужасна Куз. (Ксл.); Шсл.; Гсл. щавельник. *Наварылі маладзенькага шчаўя.* Ст.

2. щи из щавеля.

•**шчаўёвы**-*вая-вае*—щавельный. Ар.

•**шчаўлю́к**-*юку̀, предл.-юку̀, зват.-юча, м.* **1.** щавель. Ксл.

**2.** щи из щавеля. Ксл. *Посны шчаўлюк.* Бараўляны Куз. (Ксл.).

•**шча́ўраць, шчаўрэць,**—*см. под чаўрэць.*

•**шчэзнуць,**—*см. под чэзнуць.*

•**шчэляна**-*ны-не, ж.*—челюсть. Ар.

•**шчэліна**-*ны-не, ж.*—щель, Ар. трещина. Ар. *См. шчэлка.*

•**шчэліць**-*лю-ліш-ле,* **1.** расщелять, щелить, колоть, образуя щель.

**2.** подсматривать, смотреть чрез ограду. Нсл. 720. *Ня ўчыся шчэліць на чужы двор; падумаюць, што ты ўкрасьці што выглядаеш.* Нсл. *Соверш.* **зашчэліць,** *каго-што*—подсмотреть. Нсл. 194, 720. *Калі б ён не зашчэліў, ніхто б таго ня ведаў.* Нсл. 194. *Зашчэліў сабе дзеўку.* Нсл. 720.

**нашчэлеваць,** -*люю-люеш-люе каго-што,* **1.** надкалывать. Нсл. 326. *Не нашчэлевай дошкі.* Нсл.

**2.** *перен.*—высматривать(как бы сквозь щель). Нсл. *Нашчэлеваць сабе жонку.* Нсл.

**нашчэліць,** *каго-што, соверш.* **1.** наколоть. Нсл. 326. *Неасьцярожна цюкнуў і нашчэліў дошку.* Нсл.

**2.** высмотреть(как бы сквозь щель). *Нашчэліў сабе дзеўку.* Нсл.

**3.** устремить взор. Нсл. *Куды ты нашчэліў свае вочы?* Нсл. *Прич.* **нашчэлены, 1.** получивший трещину, щель. Нсл. *Купіў нашчэленае карыта.* Нсл.

**2.** *перен.* высмотренный. Нсл. *Нашчэленая дзеўка.* Нсл. **расшчэліць,** *каго-што*—расшибить, расколоть(настолько, что бы получилась щель, **С.**) Нсл. 746. *Лоб табе расшчэлю кучулкаю, не чапай мяне.* Нсл.

**вы́шчаліць,** *соверш., каго-што,* **1.** вытаращить, как бы высунуть из глазных щелей. Нсл. 104. *Чаго ты вышчаліў на мяне вочы?* Нсл.

**2.** высмотреть, подсмотреть. Нсл. 194. *Ты хочаш вышчаліць, што ў нас дзеецца.* Нсл. *Прич.* **вы́шчалены**—вытаращенный. Нсл. 104. *Вышчаленыя вочы.* Нсл.

•**шчэліцца,** *возвр.* **1.** трескать, получать щель, Нсл. 720. *Дошкі, на сонцу лежачы, шчэляцца.* Нсл. *Соверш.* **расшчэліцца —** *соверш. к шчэліцца 1,*—получить щель. Нсл. 720. *Начоўкі шчэляцца, расшчэліліся.* Нсл.

**2.** всматриваться, как бы прищуриваясь. Нсл. 720. *Шчэлішся, ды не прызнаеш, хто я.* Нсл. *Соверш.* **прышчэліцца**-*люся-лішся*—присмотреться, прищурив глаза. Нсл. 518. *Прышчэліўся дый падгледзеў.* Нсл.

**3.** бросать косвенный взгляд. Нсл. 720. *Ня шчэлься, рэдчас вочы скасавурыш.* Нсл.

**нашчэлевацца,** *возвр.* **1.** накалываться, получать трещину. Нсл. *Ночвы нашчэлююцца.* Нсл.

**2.** *перен.*—устраиваться, иметь признаки, что дело начинается. Нсл. *У суседа вясельле нашчэлюецца.* Нсл. *Соверш.* **нашчэліцца,** *возвр.* **1.** получить трещину. Нсл. *Зуб нашчэліўся.* Нсл.

**2.** показать знак, что дело начинается. Нсл. *У суседа вясельле нашчэлілася.* Нсл.

**вышчэлеваацца,** *-лююся-люешся-люецца. Несоверш., возвр.*—высовываться, показаться. Нсл. 104. *Зоркі вышчэлююцца, вышчаліліся на мароз.* Нсл. *Соверш.* **вышчаліцца,** *возвр.*—высунуться, показаться. Нсл. 104. *Зоркі вышчаліліся на мароз.* Нсл.

●**шчэлка**-*лкі, ж.*—щель, пархв.; Ксл.; Нсл. щёлка. *Нехта ў шчэлку глядзіць на нас.* Нсл. *Із шчэлак тырчыць мох.* Чарніца Лёз. (Ксл.).

●**шчэлкі**-*ак,* **1.** *мн. ч. к шчэлка.*

**2.** *перен.*—глаза. Нсл. *Толькі шчэлкі пралупіў, а ўжо дай яму есьці.* Нсл. *Шчэлкі мае ўжо ня бачаць.* Нсл.

●**шчэнь**-*ні, ж.*—щенок. *Знайшлі тую шчэнь на паравіку.* ЗСД 44.

●**шчэпа**-*пы-пе, мн. ч., род.-паў, ж.*—прививка, Гсл. прищеп(привитое растение). *Ярыла, добры, у цёплыя полкі атуліў шчэпы маладыя.* Кавыль: Думы 24.

●**шчэпены,**—*см. под шчапіць.*

●**шчэрба**-*бы-бе, ж.* **1.** изъян, щербина. *Гаршчок із шчэрбаю.* Нсл.

**2.** зазубрина, (Гсл.) в чем-л. остром. Нсл. *Шчэрба ў касе, сякіры, зубе.* Нсл. *Уменьш.* **шчэрбачка**-*чкі,* **1.** щербинка. Нсл. *Гаршчэчак кіпіць, у шчэрбачку льлецца.* Из песни. Нсл.

**2.** зазубринка.

●**шчэрыць**-*ру-рыш-ра, несоверш., каго-што,* **1.** выставлять наружу, скалить, говорится о зубах. Нсл. 721. *Сабака шчэрыць зубы, каб ня ўкусіў.* Нсл. *Соверш.* **ашчэрыць**—оскалить. Ксл. *А ён зубы як ашчэрыць, ды хвігу імне пад нос!* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *Прич.* **ашчэраны**—осколенный. *Зірнуўшы на падвязаныя матузамі ашчэраныя падошвы безхалявак, зжаліўся.* Дудзіцкі(„Бацькаўшчына", Но. 45-46/431-432).

**2.** выпучивать, таращить. Нсл. *Чаго ты шчэрыш, вышчарыў на мяне вочы?* Нсл.

**вышчарыць**-*ру-рыш-ра,* **1.** (выставить наружу, Нсл.), оскалить. МГсл.; Нсл. 104; 721. *Вышчарыць зубы.* Нсл. *Сабака зубы вышчарыў, каб ня ўкусіў.* Нсл. *Воўк вышчарыў зубы.* Ст.

**2.** вытаращить. Нсл. *Вышчарыў на мяне вочы.* Нсл. *Ср. яшчарыць.*

●**шчэрыцца,** *возвр.*—оскаливаться, Нсл. скалить зубы. *Сабака шчэрыцца, кусіць хоча.* Нсл. *Шчэрыцца хіжа мінуласьці сьцень.* Дуб.: Наля 22.

**2.** злиться, яриться. *Ён даўно шчэрыцца на мяне.* Нсл. *Мароз шчэрыцца.* Нсл.

**ашчэрыцца,** *соверш.* **1.** оскалиться, оскалить зубы. Гсл.; Нсл. 721; Ксл. *Як ашчэрыцца ён на мяне, аж я спалохаўся.* Азярэцк Сян. (Ксл.). *Прич. прош. вр.* **ашчэрыўшыся.**

**2.** обозлиться. Нсл. *Няма ведама, за што ён ашчэрыўся.* Нсл. *Мароз ашчэрыўся.* Нсл.

**ашчыра́цца** *-дюся-дешся,* **1.** оскаливать зубы. Нсл. 389. *Сабака ашчыраецца, каб ня ўкусіў.*

**2.** злиться, говорится о человеке. Нсл. *Чаго ты ашчыраешся на мяне?* Нсл.

**3.** становиться жестоким. Нсл. *Мароз ашчыраецца.* Нсл.

*Соверш.* **ашчы́рыцца,** *общ.* **1.** оскалить зубы (оскалиться, Гсл.) Нсл. *Сабака ашчырыўся, каб ня ўкусіў.* Нсл.

**2.** обозлиться(о человеке). Нсл. *Чаго ты ашчырыўся на мяне, як бы ўкусіць хочаш?* Нсл.

**3.** стать жестоким. Нсл. *Мароз ашчырыўся.* Нсл.

**вышчара́цца(вышчыра́цца,** Ар.)-*дюся-дешся; повел.-айся-аймася, несоверш.*—оскаливать зубы, (Гсл.) смеяться. Ар. *Чаго ты вышчыраешся?* Ар.

**2.** балазурить. МГсл. *Соверш.* **вы́шчарыцца (вы́шчырыцца,** Ар.)-*руся-рышся,* **1.** оскалиться. МГсл.

**2.** устремить, напялить глаза. Шсл. *Чаго ты вышчарыўся, ня бачыў, ці што?* Ст.

**3.** гневно отозваться, с гневом обратиться на кого-л. *Вышчырыцца яна на яго, а ён толькі ліпае ачыма, трымціць, як асінавы ліст.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, 1935 г., Но. 2, стр. 97).

●**шчэтка**-*ткі, ж.*—конусообразная щетка из щетины для чесания волос, льна, Ксл. щетка для чесания волос. *Добра вычасалася шчэткаю.* Ст. *Пачашы галаву шчэткаю.* Гарадзец Сян. (Ксл.).

**2.** щётка для расчесывания волос, льна, пеньки. НК: Очерки, 129.

●**шчэць**-*ці, прилаг.-цяў, ср.*—щетина. Гсл.

●**шчуня́ць,** *-яю-яеш-яе, несоверш., перех.*—делать выговор за проступок, журить. Нсл. 722. *Я часта яго шчуняю за гэта, але ніяк ня ўшчуніш яго. Соверш.* **прышчу́нуць** *-ну-неш-не*—дать нагоняй. Шсл. *Прышчунуў дзеці, дык ціхенька сядзяць!* Ст.

**ушчу́неваць**-*нюю-нюеш-нюе; повел.-нюй-нюйма, несоверш., перех.*—строгим взысканием приводить в раскаяние. Нсл. 672. *Колькі разоў ушчуневалі яго, ніяк ня ўшчунілі нягоднага.* Нсл.

**ушчу́ніць**-*ню-ніш-не.* Нсл. 672; Сц.(Кавыль). *Цяпер сябе ўшчуню постам шчырым.* Кавыль: Думы 20. *Прич.* **ушчу́нены**—наказанный. Кавыль,—приведенный в чувство раскаяния строгим взысканием. Нсл. 672. *Тады адскочыш толькі ў неўздаўменьні, бы трапкачом строгім ушчунены ласун.* Кавыль: Думы 60. *Ня быў бы ён ушчунены, калі б не задалі добра.* Нсл.

●**ушчу́неваацца**-*нюся-нюешся, повел.-нюйся-нюймася, несоверш., возвр.*—исправляться от взыскания, приходить в чувство раскаяния. Нсл. 672.

**ушчу́ніцца**-*нюся-нішся, соверш. к ушчуневацца.* Нсл. 672. *Ужо якую гонку яму далі, а ён ня ўшчуніўся, ня ўшчуніўся, каб паправіцца.* Нсл.

●**шчуп**-*па, м.*—лом. Ксл.; Войш. *Прынясі свой шчуп падважыць камень.* Вяжышча Беш. (Ксл.).

•**шчупа́к**-*ка́, предл.-ку́, зват. шчупа́ча; мн. ч., дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.* **1.** щука. Вейна Сян. (Ксл.); Шсл.; Ар.; НК: Очерки, 493; Гсл. *Лыткі загаліў, а шчупака не злавіў. Послов.* Рапан. 201.
**2.** щука самец. Алтуш, Лукава Маларыцк.; Сварынь Дарагіч.; Альтуны Стол.; Канатоп Нараўл. (Крывіцкі: Полесье 174). *Злавіў пару шчупакоў.* Ст. *Шчупака злавіў.* Нсл. *Уменьш., ласкат.* **шчупачок**-*чка.* Ар.; Шсл. *Во гэта дык шчупачок: адзін заважыў хунтаў дзесяць!* Ст.
•**шчупком,** *нареч.*—ощупью. МГсл.
•**шчу́паць,** *-аю-аеш-ае, несоверш., перех.*- щупать. *Соверш.* **пашчу́паць**—пощупать. *Соверш.* **ашчу́паць**—ощупать. *Соверш.* **дашчупацца, 1.** узнать что-л. щупая.
**2.** узнать о чем посредством осторожных распросов. Дсл. 184. *Дашчупалася я, што імне будзе ліха.* Дсл.
•**шчупяну́цца**-*ну́ся-нѐшся, соверш.*—спохватиться. Гсл. *Я за вайну так атупеў, што да ўсякай хвальшы прызвычаіўся, — сказаў Абдзіраловіч і шчупянуўся, што пачуў сябе атупелым*(*дый то ня надта*) *толькі цяпер, сказаўшы гэтыя няшчырыя словы.* Дзьве Душы 190.
•**шчуплы**-*лая-лае*—тщедушный. МГсл.
•**шчы́гла**-*лы-ле, ж.*—щегол. Ар.
**шчыглянё**-*няці, тв.-нём; мн. ч.-няты, ср.*—птинец щегла, щеглёнок. Ар.
•**шчык,** *отгл. частица*—мгновенное ущипление, щип. Нсл. *Мурашка шчык, я яе й злавіў.* Нсл.
•**шчы́калатка**-*ткі-тцы, ж.* **1.** сустав на пальце с внешней стороны, мыщелок. Міх. anat. malleolus, *Каваль па'зьбіваў шчыкалаткі на руццэ.* Міх.
**2.** лодыжка, щеколотка, щиколка. Ар. Сукрэмна Сян. (Ксл.).
•**шчыка́ць**-*а́ю-а́еш-а́е; повел.-ай-айма, несоверш., перех.* **1.** щипать, Гсл. стискивать тело ногтями до боли. Нсл. 721.
**2.** срывать. Нсл. 721; Міх.; Барс.; Лепл. *Ня шчыкай яблыкаў, яшчэ яны зялёныя.* Нсл. *Однкр.* **шчыкну́ць**-*ну́-нѐш-нѐць каго-што.* Нсл. *Шчыкаць, шчыкнуць каго да крыві.* Нсл. *Однкр.* **адшчыкну́ць**-*ну́-нѐш-нѐць-нѐм, каго-што*—отщипнуть, сорвать, Ксл.; Нсл. 385; Міх.; Барс., Лепл. (Юхн.). оторвать плод, лист. Шсл. *Адшчыкні яблыкаў пяток.* Нсл. *Адшчыкні яблык.* Ст. *Адшчыкні цыбулі.* Барс., Лепл. (Юхн.). *Адшчыкні галоўку гвазда!* Барс., Лепл. *Адшчыкнуў ты вухнель?*(*пытаўся каваль, куючы каня*). Тм. *Адшчыкні ветачку мяты.* Нсл. 721. *Адшчыкні дуліну.* Навікі Віц. (Ксл.). *Зьбегай гароху адшчыкнуць.* Тм. *Прич.* **адшчы́кнуты**—отщипнутый, сорванный. Нсл. 385. *Гэта ня падаліцы, а адшчыкнутыя яблыкі.* Нсл.
•**шчыка́цца,** —иметь привычку или способность щипать других. Нсл. 721. *Мурашкі шчыкаюцца.* Нсл.

**зашчы́каць** *каго-што*—исщипать, искусать. Нсл. *Мурашкі зашчыкалі ўсё цела.* Нсл. *Прич.* **зашчы́каны**—исщипленный, искусанный(насекомыми, С.). Нсл. *Цела сашчыканае мурашкамі.* Нсл.
**нашчы́каць,** *каго-што, соверш. к шчыкаць*—снять, нарвать рукою, говорится о плодах. Нсл. 326. *Нашчыкаць сьпелых яблыкаў.* Нсл. *Прич.* **нашчы́каны**—соципанный, сорванный рукою, снятый, говорится о древесных плодах. Нсл. 326. *Яблыкі ня падаліцы, а нашчыканыя зь дзерва.* Нсл.
**нашчыка́ць,** *каго-што,* **1.** нащипать. Нсл. *Нашчыкалі кіпцямі цела.* Нсл.
**2.** накусать(насекомым, С.) Нсл. *Мурашкі нашчыкалі руку.* Нсл. *Прич.* **нашчы́каны, 1.** нащипанный.
**2.** накусанный каким-л. насекомым. Нсл. *Нашчыканая мурашкамі рука распухла.* Нсл. *Соверш.* **ушчыкну́ць,** *каго-што* —ущипнуть. Нсл. 721. *Рак ушчыкнуў.* Нсл.
•**шчыкну́ць,**—*см. под шчыкаць.*
•**шчыкры́жыць,**—*см. под чыкрыжыць.*
•**шчы́ліна** (**шчылі́на,** Нсл.), *-ны-не, ж.* —щель(трещина, Ксл.); Шсл.; Ксл. *Во шчыліна ў гэтым бярне!* Кляшчына Беш. (Ксл.). *Вось шчыліна ў хаце — па кулаку.* Ст.
•**шчы́льна,** *нареч.*—плотно. Ксл.; Шсл.; МГсл. *Шчыльна дзьверы прыстаюць.* Ст. *Шчыльна прыбіты дзьверы.* Дзямідавічы Чаш. (Ксл.).
•**шчы́льны**-*ная-нае*—плотный. Ар.; Ксл. *Шчыльныя дзьверы зрабіў.* Ксл.
•**шчыме́ць**-*млю-міш-міць*—болеть, болезненно ныть, Растсл. щемить. Ар. *Цар здрыгануўся. Сэрца млосна зашчымела.* Крушына: Лебедзь, 60. *Соверш.* **зашчыме́ць**-*млю,* **1.** чувствовать начинающую боль, занывать, щемить. Нсл. 721; Ар. *Зубы шчымяць.* Нсл. 721. *Сэрца шчыміць, зашчымела.* Тм. *Дзеля таго й шчыміць у такое надвор'е чалавечае сэрца ціхім смуткам.* ЗСД 107.
**2.** жужжать. Нсл. 721. *Пшчолы шчымяць, зашчымелі.* Тм.
•**шчымлівы**-*вая-вае*—начинающий болеть, занывающий, щемящий. *Шчымліва-радасны.* ЗСД 131.
•**шчы́нцаль,** *-ля*—карниз. Каралёва Куз. (Ксл.).
•**шчыпа́ць**-*па́ю-па́еш, несоверш., што* —срывать(фрукты, С.) Ар.; Ксл. *Будзеце яблыкі шчыпаць.* Стасева Выс. (Ксл.). *Соверш.* **абшчыпа́ць** *што*—оборвать(фрукты). *Абшчыпалі да аднае вішанькі.* Ст.
•**шчыпу́ля**-*лі*—козавка. Ксл. *Янку шчыпуля крэпка ўкусіла.* Лапы Беш. (Ксл.).
•**шчыра́к**-*ка́, предл.-ку́, зват. шчыра́ча; мн. ч. шчыракі́-коў-ком-кох, м.* **1.** искренный человек.
**2.** усердный к какому делу. Ар.; Міх.

●**шчы́расьць**-*ці, ж.* **1.** искренность. Ар.; Нсл.; Кпл.; Гсл. *Я к табе з усёю шчырасьцю, а ты ка мне з хітрасьцю.* Нсл. *Рада ад усяе шчырасьці.* Нов. Сяло Беш. (Ксл.).
**2.** усердие. Нсл.; Ар.; Мгсл.; Гсл. *Шчырасьці ў вашай рабоце ня відаць.* Нсл.
●**шчы́раць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—усердствовать. Нсл. 721. *Колькі ня шчыраю табе, ты ўсё ня верыш маёй шчырасьці.* Нсл. *Соверш.* **нашчы́раць.** Нсл. 721. *Няхай табе ў жывот, як ты мне шчыраеш, нашчыраў.* Нсл. *Соверш.* **няшчы́раць**—нерадеть, не усердствовать. Нсл. 339. *Ты ні ў чым імне няшчырыш.* Нсл. *Соверш.* **прышчырыць** —поусердствовать. Нсл. 518. *Прышчырылі ў рабоце, дык і скончылі борзда.* Нсл.
●**шчы́рацца,** -*аюся-аешся* —представлять себя усердным, искренным. Нсл. 721. *Я бачу, як ты шчыраешся мне; прышчырыўся добра, дзякуй!* Нсл. *Соверш.* **прышчы́рыцца.** Нсл. 721. *Прышчырыўся ты імне! Няма за што дзякуй сказаць.* Нсл.
●**шчыры**-*рая-рае,* **1.**—искренный. Ар.; Мгсл. *Уменьш.* **шчы́ранькі.** *Увелич.* **шчыру́сенькі.** *Шчыры чалавек.* Нсл. *Шчырая душа.* Нсл. *Шчырая праўда.* Нсл.,—закадычный. МГсл.
**2.** усердный. Ар.; Нсл.
**3.** чистый, открытый. Нсл.; Ар. *Шчыры бор.* Нсл. *Шчырае поле.* Нсл.
**4.** дорогой, очень близкий к сердцу. Шсл. *Браток ты мой шчыры!* Ст. *Дзядзенька міленькі, шчыранькі, ня біся!* Ст. *Ср. ст.* **шчыршы, 1.** более искренный. Нсл. *Шчыршага за цябе няма.* Нсл.
**2.** более усердный. Нсл. *Сын шчыршы, як пасынак.* Нсл. *Нареч.* **шчы́ра, 1.** искренне. Ар.; Нсл.; Ксл. *Я шчыра кажу.* Ар.
**2.** усердно. Ар.; Нсл.; Ксл. *Ён шчыра робе.* Крывое Беш. (Ксл.). *Ён шчыра глядзіць яе дзетак.* Алёхнава Сян. (Ксл.). *Шчыра працавалі мы табе.* Нсл.
**3.** сердечно. ПНЗ; Растсл.
●**шчыры грыб**—белый гриб. [Boletus edulis L.] З. Верас.
●**шчыт,** *шчы́ту,* **1.** ряд без промежутка, кладка одного подле другого. Нсл. *Кладзі ў шчыт роўна.* Нсл. *Шчытам роўна паложаны.* Нсл.
**2.** край в дне деревянного сосуда. Нсл. 721. *Шчыт у бочцы ня ровен.* Нсл. *У шчыце бочка працякае.* Нсл.
**3.** стык двухскатной крыши. Ксл. *У самым шчыце гняздо.* Ухлё Чаш. (Ксл.).
**4.** *архит.*—фронтон. Гсл.; Сакуны Б. ІУ.
**5.** защита. Нсл. *Бор нашаму сялу вялікі шчыт ад холаду.* Нсл.
**6.** вид печки. Ксл. *Надабе затапіць шчыт.* Мазалава Куз. (Ксл.).
●**шчы́тнасьць**-*ці, ж.*—плотность. НК: Очерки, Но. 436; Ксл. *См.* **зьнітнасьць.** *Няма ў гэтых дошках шчытнасьці.* Лазаватка Сур. (Шсл.).
●**шчы́тнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—чаща. *Закрыўшы рукамі від, і выставіўшы наперад локці, ён пашыўся ў густы шчытнік.* Адамчык: Арж. колас.
●**шчы́тны**-*ная-нае*—плотно прилаженный, пристающий друг к другу. НК: Очерки, Но. 436, **1.** плотный. *См. зьнітны. Тачок, хоць маленькі, але шчытненькі.* Нсл. 125( *под гуменца*). *Уменьш., ласкат.* **шчы́тненькі.** *Увелич.* **шчытню́сенькі,** плотный, без щелей, Ксл. плотно сложенный. Нсл. 721. *Шчытны мой ток.* Альшанікі Беш. (Ксл.). *Шчытны воз.* Нсл. *Шчытныя сьцены, і голка не пралезе.* Нсл. *Абора шчытная статку.* Нсл. 354( *под абора*). *Зялезная заслона такая шчытная, што нічога не даведаецца навет і той, хто адзержуе лісты.* Беларус, Но. 59. *Вокал яго вырасла шчытнае, роўнае кола сялян.* ЗСД 120. *Андрэй сам такі шчытны, крамяны.* Тм.
**2.** хорошо укрепленный. Нсл. *Шчытны дварок.* Нсл.
**3.** защищенный от внешнего влияния атмосферы. Нсл. *Шчытнае месца, можна тут пастаяць ад буры.* Нсл. *Шчытная столь.* НК: Очерки, 534.
●**шчы́тна,** *нареч.* **1.**—плотно. Гсл. *Уменьш., ласкат.* **шчы́тненька,** *увелич.* **шчытнюсенька.** Растсл.; Нсл. *Шчытна наеўся.* Нсл. *Шчытна злажы дошкі.* Нсл. *Дзьверы ня шчытна прыходзяцца.* Нсл. *Памажы Божа, Яначка, зрубіць каморку шчытненька.* Горц.(Кот. 209). *Паўзьлі па балоце, пасуваліся ў глыб, усё шчытней а шчытней сьціскалі бандытаў.* ЗСД 375.
**2.** нерасточительно. Нсл. *Шчытна жывець.* Нсл.
**шчыт у шчыт,** *в зн. нареч.*—плотно, без промежутков. Нсл. *Шчыт у шчыт складайце дошкі, каб шчытней ляжалі.* Нсл.
**шчыты**-*тоў, единств. ч. нет.*—боковые краи(стык, С.) сплоченных между собою дощечек в деревянной посуде. Нсл. *Шчыты ня роўна прыладжаны, скрозь шчыты вада йдзець.* Нсл. *У шчытох бочка працякае.* Нсл.
●**шчыцік**-*іка.*
●**шыбала**-*ла, мн. ч.-лы, ср.*—палка, которую бросают для отогнания домашних животных. Нсл. 709. *І шыбалам не адшыбаешся ад іх.* Нсл.
●**шыбавацца**-*буецца*—скоро двигаться, направляться. *Сьцежка ўлева забірае ды шыбуецца ўгару.* С. Музыка, 251.
●**шыба́ць**-*дю-деш-де чым, несоверш.* **1.** бросать. Растсл.; ПНЗ; Ксл. *Давайце шыбаць каменьням.* Навікі Віц. (Ксл.).
**2.** *перен.*—парить, установляться к возвышенным мыслям. *Думка ластаўкай шыбае.* Рунь 10.
**ашыба́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.* **1.** овладевать кем насильно. Дсл. 569. *П'янства ашыбае.* Дсл. *І пачаў яго сон ашыбаць.* Тм.

**2.** ругать, позорить, Дсл. 569. опорочивать. Нсл. 388. *Злодзеям ашыбае.* Дсл. *Тя мяне не славіў за руку, што ашыбаеш, ашыб злодзеям.* Нсл.
**3. ашыбаць парогі**—обивать пороги. Еўлічы. *Ён ашыбае парогі.* *Соверш.* **ашыбі́ць (ашыбці,** Нсл. 388) **1.** овладеть. *Ашыбіў яго сон.* Дсл. *См. апанаваць.*
**2.** опорочить. Нсл. 388. *См. ашыбаць 2.*

**падшыба́ць**-*дю-деш-де што*—подбрасывать (люльку, качели), ударить снизу под основание. Ар. *Соверш.* **падшыбнуць**-*ну-неш-нець*—подбросить, метнуть (люльку, качели), ударив снизу под основание. Ар. *Падшыбні калыбку.* Ар.

**пашыба́ць**—овладевать. *Страх, развага й сум сталі хлапца пашыбаць.* С. Музыка, 261.

●**шыба́цца**-*дюся-дешся, несоверш.*—бросаться. *Ён моцна шыбаўся дзідкаю.* Іванск Чаш. (Ксл.). *Соверш.* **ашыба́цца**-*дюся-дешся, несоверш.* *каля каго*—обиваться. Еўлічы. *Ён каля нас ашыбаецца.*

**адшыба́цца**-*дюся-дешся, несоверш. ад каго*—отгоняться. *І шыбалам не адшыбаешся ад іх.* Нсл. 709. *Соверш.* **адшыбіцца.**

●**шы́бенік,** Гсл.; Нсл., **шы́беньнік,** Ксл. —висельник (сорванец, повеса, Гсл.) Ксл.; Шсл.; Гсл., висельник, достойный виселицы, дерзкий шалун. Нсл. 709. *Шыбенік гэты борзда галаву сабе скруце.* Ст. *У, шыбеньнік гэткі!* Пожынкі Сян. (Ксл.). *Шыбеніку гэтаму ўходу няма.* Нсл. *Хлапца свайго пакінула на старую Арцюшыху, і ён расьцець шыбенікам.* Полымя, Но. 8, 1967, 242.

●**шы́беніца**-*цы, дат., предл.*-*цы, ж.* **1.** виселица. МГсл.; Гсл.; Нсл. 709. *Жадаюць за гэта на шыбеніцу падвесіць.* Юхн. (Узгоркі). *На шыбеніцу толькі яго.* Нсл. *Не сьпяшайся на шыбеніцу, яшчэ пасьпееш.* *Послов.* Рапан. 262.
**2.** *общ.*—дерзкий-ая шалун-нья. Нсл. 709. *Усадзі ты гэтага шыбеніцу, няхай ня дурэе.* Нсл.
**3.** насмешливое название человека высокого ростом. Нсл. 709. *Куды, як вырас шыбеніца гэты, страшна глядзець.* Нсл.

●**шыбе́нь**-*бня, предл.*-*бню, зват.* *шы́бню; мн. ч.*-*бні-бнёў-бнём, мн. ч., предл.*-*бнёх, м.* **1.** палка для сбивания чего-л. Еўлічы; Нсл. 709. *Ён шыбнём зьбіў ігрушу.* Еўлічы. *Шыбнём кінуў яго.* Нсл. *Шыбнямі зьбіваюць яблыкі.* Нсл.
**2.** палка, употребляемая в игре "рюхи". Нсл. 709.

●**шы́бка,** *нареч.*—быстро, Гсл. скоро. Ксл.; Ар. *Шыбка пашла.* Дзьве Душы, 134, *Ня надабе бегчы так шыбка.* Селядцова Беш. (Ксл.). *Ногі шыбка ступаюць.* Дальны (Калосьсе, І, 1935, стр. 14). *Ср. ст.* **шыбчэй** —скорее. МГсл. *Ласкат., уменьш.* **шы́бенька** —быстренько. Гсл.

●**шы́бкі**-*кая-кае,* **1.** быстрый. МГсл.; Ар.; Нсл. 709. *Шыбкі конь.* Нсл. *Далей падзеі раскаціліся шыбкім клубкам.* Дзьве Душы, 181.
**2.** быстро объемлющий умом. Нсл. 709. *Шыбкі розумам малец гэты: зараз ськеміць у чым справа.* Нсл.

**шыбшы,** *ср. ст. к шыбкі 1, 2. Гэтага каня купляй: у яго шыбшы бег, чымся ў другіх.* Нсл.

●**шыга́льле**-*ля, ср.*—иглы хвойных деревьев. Растсл.; ПНЗ.

●**шы́я,** *шыі, шыі, ж.*—шея. Гсл.; Ар.; Н. (Афанасьев, І, 1913, 211); Навікі Віц. (Ксл.); Шсл.; Карачэў (Будде: Тула-Орел. 66). *Абы галава, шыя будзе.* *Послов.* Ст. *Шыя забаліць.* Карачэў. *Уменьш.* **шыйка**-*йкі-йцы.* Ар.; Шсл. *Ценкая ў дзяцяці шыйка.* Ст.

●**шы́зы**-*зая-зае*—сизый. МГсл.; Гсл. *Адлігі шызы вецер круціць, гнець вішні.* Танк (Калосьсе, Но. 3/20, стр. 130). *І харашэе мак, узносячы тут а тут, густа па густым, шызым і квола-крохкім сьцябельліку буйныя і драбныя мачынкі і груд квету.* Гарэцкі: Песьні, 6.

●**шыла**-*ла, предл.*-*ле; мн. ч.*-*лы-лаў, ср.*—шило. Ар.

**шыла каваць**—праздновать 1 день Великого поста; празднование заканчивается пирушкою; праздник мужчин и женщин. Храпавічы Куз. (Ксл.). *Уменьш.*
**шы́лца**-*ца, предл.*-*цу; мн. ч.*-*цы-цаў.* Ар.

●**шы́льнік**-*іка, м.*—частуха водяная, *раст.* Гсл.

●**Шылывыты панядзелак**—*первый понедельник Великого поста.* НК.: Пасоб, Но. 34.

●**шып,** *шыпа*—деревянный клинок для скрепления досок. Ксл. *Вазьмі на шып — крапчэй будзе.* Бабінічы Віц. (Ксл.).

●**шыпшы́на**-*ны-не, ж.*—дикая роза, Гсл. шиповник. МГсл.; Ксл. *Пад акном расла шыпшына.* Вялрэнь Чаш. (Ксл.). *См. чупчыньнік, шыпшыньнік.* Гсл.

●**шырокі**-*кая-кае*—широкий. *Шырокі ліст на каліне, яшчэ шыршы на дубочку.* Водзьвінка Імгл. (Косіч 58).

**шы́ршы,** *ср. ст. к шырокі. Мяльлянаў загон шыршы за нас.* Ст.

**шырачэнны**-*ная-нае*—очень широкий. НК.: Очерки, Но. 174.

●**шырачэць**-*эю-эеш-эе*—делаться шире. Ксл. *Рака шырачэе.* Труханавічы Чаш. (Ксл.).

●**шырыня́**-*ні, ж.*—ширина (, широта, Ар.) МГсл.; Шсл. *Мерай удоўж і ў шырыню.* Ст. *У полю асьнежаным... прыгожая шырыня.* Лынькоў: Воўчы лог (Калосьсе, 2, 1935, стр. 95).

●**шыры́нка**-*нкі-нцы, ж.*—платок из простого холста, Гсл.; Растсл.; Навасільск., Будде: Тула-Орел сл.; Косіч 79. платок домашнего изделия. Касьцюковіцкі р. Калінінскае акр. (Наш Край, 1928, Но. 6-7, 48). *Дзеўкі завязуюць на галаву хустку, ценкае палаценца з вышыванымі канцамі. Гэта хустка, званая наагул у Беларусі "шырынкаю", найстаршая дзявоцкая хустка на гала-*

*Соверш.* **выткнуць**—высунуть. Нсл. 99. *См. вытыкаць.*

●**вы́тынкаваць,**—*см. под тынкаваць.*

●**вытырк-а́ць**-*аца-нуць-нуцца,—см. под тыркаць.*

●**вывальне́ньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—освобождение. Нсл. 79. *Вывальненьне ад прыгону.* Нсл. *Вывальненьне з турмы.*

●**выва́ротка**-*ткі-тцы, ж.*—увёртка, изворот. Нсл. 79. *Гэта твая толькі вываротка, а праўды ня кажаш.* Нсл. 7.

●**вы́варатка**-*ткі-тцы, ж.*—хозяйственный оборот, Нсл. 79. выход из стеснённого положения в хозяйственном обороте.

●**вы́варатня**-*ні-ні, мн. ч., род.-няў, ж.*—вывернутое ветром дерево. Ар.

●**вы́варацень,** -*тня*—вывернутое(обыкновенно ветром) с корнем дерево. Шсл. *Валяецца выварацень.* Ст. *См. вывараць. Чарнелі як вялікія вываратні падбітыя савецкія танкі на грэблі.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 49-50/435-436).

●**вы́вараць**-*ці, ж.*—вывернутое с корнем дерево. Шсл.; Лужасна Куз. (Ксл.). *Забраў на дровы вывараць.* Ст. *Баяліся медзьвядзя. Здавалася ім: вось зараз выскача з-за вываранці.* Цялеш: Дзесяць, 30. *Единств. ч.* **вы́вараціна**-*ны.* Казяны Сір. (Ксл.); Яцкава Вал.

●**вы́вед-аньне**-*аваць-аць,—см. под ведаць.*

●**вы́ведкі**-*дак(-дкаў), единств. ч. нет.*—разузнание, Нсл. 79. расследование. *См. выведаньне.*

●**вывет**-*ету, предл. и зват.-еце, м.* **1.** вычет. Нсл. 79; Гсл. *Дзякуй гаспадару, вывету не зрабіў за згубу.* Нсл.

**2.** исключение. Гсл.

**бяз вывету**—без исключения. Гсл.

●**вывязаньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—востановление в правах на владение. *А есьлі бы ся з ачавістага мовеньня стараны жалабнае з урадам тое няпраўнае сказаньне каторага ўраду паказала, тагды таковая сказьнь маець быці паднесена і на старану адложана і так укрыўджанаму маець быці вывязаньне дано, і вонае іменьне або грунт адсуджоны зася яму прывернен.* Стт. 244.

●**вывучыць,**—*см. под вучыць.*

●**вы́цаляваць,**—*см. под цаляваць.*

●**выце́кі**-*каў, единств. ч. нет.*—увёртки. Нсл. 100. *Выцекамі сваймі не ашукаеш нас.* Нсл.

●**выце́клы**—вытекший, лишенный необходимой влаги. Нсл. 100. *У яго выцеклыя вочы.* Нсл.

●**вы́цень,** *вытню, предл. и зват.-тню; мн. ч.-тні-тняў, м.*—удар. НК: Очерки, Но. 699. *Можа боль ад вытню праніка... заглушае тое няўтойнае, што ў грудзёх тугой пяе.* Крушына: Творы, 30.

●**вы́цепл-ены**-*іць-іцца,—см. под цепліць.*

●**вы́церці,**—*см. под церці.*

●**выцяг-а́ньне,** -*даць-дацца-нены-нуць,—см. под цягаць.*

●**выця́гласьць**-*ці, ж.*—выносливость. Гсл.

●**выця́глы**-*лая-лае*—надежный к перенесению трудных работ, Нсл. 102. выносливый. *Выцяглы конь, хоць які вялікі навалі воз, павязець.* Нсл.

●**вы́цякаць,**—*см. под цякаць.*

●**вы́цяміць,**—*см. под цяміць.*

●**выц-яты**-*яць-яцца,—см. под цяць.*

●**выцяўля́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма, несоверш.*—выделывать(шалить), Ксл. делать какие-л. выходки; шалить. *Што яны толькі не выцяўлялі!* Мікалаёва Куз. (Ксл.).

●**вы́ц-яць**-*інаць,—см. под цяць.*

●**вы́цяцца,**—*см. под цяцца.*

●**вы́цік**-*ка, общ.*—беспрестанно плачущий, воющий. Нсл. 101. *Выцік наша яшчэ не перастала выць.* Нсл.

●**выцін-а́ць**-*ацца,—см. под цяць.*

●**выціра́шка**-*шкі,* **1.** *общ.*—замарашка. Нсл. 101. *Ах ты выцірашка! ці можаш ты мне гэта гаварыць?* Нсл.

**2.** *ж.*—непотребная, порочная женщина. Нсл. 101. *Хто з гэтай выцірашкаю жэніцца?* Нсл.

●**выціркі**-*ркаў, единств. ч. нет.*—табачные остатки при терке нюхат. табака, состоящие из тонких жилочек табачных листков. НК: Очерки, Но. 661

●**выцмыга**-*гі, общ.*—пройдоха. Гсл.; Нсл. 101. *Выцмыга гэты ўвесь сьвет выцмыгаў.* Нсл.

●**вы́цмыгаць,**—*см. под цмыгаць.*

●**выць,** *выю, выеш, вые; повел. вый, выйма, несоверш.* **1.** выть. Ар. *Ваўкі выюць у лесе.* Нсл. 101.

**2.** горько плакать, Гсл. вопить. Нсл. 101; МГсл. *Чаго ты выеш? Завыла, выючы, разбудзіла дзяцё.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **выцьцё**-*ця, предл.-цю,* **1.** вой. МГсл.; Ар.

**2.** вопли, Гсл. плач в голос. Нсл. 101. *Што там выцьця было!* Нсл. *См. вык.*

●**выцьм-ець**-*яваць,—см. под цьмець.*

●**вы́цьвераз-ець**-*іць-іцца, выцьвераўжаны, —см. под цверазець, цьверазіць.*

●**вы́цьв-ілы**-*ісьць,—см. под цьвісьці.*

●**вы́цыбацца,**—*см. под цыбаць.*

●**вычаха́цца**-*аюся-аешся, несоверш.*—выдыхаться(терять запах, крепость, С.) Шсл. *Гэты лек борзда вычахаецца.* Ст. *Соверш.* **вы́чахнуцца, вычахціся**-*нуся-нешся, повел. -ніся-німася, прош. вр.* **вычахся, вычахлася, вычахліся**—выдохнуться(потерять запах, крепость, С.) *Хрэн ужо вычахся.* Ст.

●**вы́чазнуць,**—*см. под чэзнуць.*

●**вы́чапацца,**—*см. под чапацца.*

●**вы́часаваць,**—*см. под часаваць.*

●**вы́чаўраць,**—*см. под чаўраць.*

●**вы́чул-ены**-*іць,—см. под чуліць.*

# У

•у(ў), *предлог.* **1.** *с глаголами* *ісьці(пайсьці), ехаць(паехаць)* для собирания чего-л.; употребляют с винительным падежом (обычно мн. числа) того, что собирают: за. *Пайшлі дзеўкі ў ягадкі... ды ў чорную смуродзіну.* Барадзінка, Севершч. (Косіч 57). *Яшчэ, едучы на начлег, змовіліся-зрадзіліся йсьці ад коні ў ракі.* Гарэцкі: Песьні, 24. *Іду ў суніцы.* Кавыль: Думы, 14. *Хай устаець, у дровы сядні паедзем.* Гарэцкі: Песьні, 34. *Ідзець ізь іх сяла жонка з капачом у бульбу.* Н. Демид.: Веров., 97.

**2. у,** *предлог с винит. падежом для указания (тканного, вышиванного, черченного) узора.* *Выткалі пояс у елачку.*

**у ялушкі( узор)**—имеющий размещение линий, напоминающих размещение еловых листков на ветке. НК.: Очерки, Но. 253.

**саян у ялушкі,** НК.: Очерки, 117.—узор на ткани из ломанных горизонтальных линий, пересеканных на известном расстоянии прямыми вертикальными. Ар.; Сукрэмна Сян. (Ксл.). *Палатно на ручнікі выткала ў елачку.* Тм.

**3.** при названиях игор: *Біцца ў сьнежкі.* Ар.

**4.** *с винит. падежом*: во время. *Ня раз у вайну бліскаў пяткай Маскаль.* Каласкі, Но. 70-71.

**5.** *с предл. падежом*: в. *Восень клыгала ў гары.* С. Музыка, 34.

**6.** *с род. падежом*: у. *У яго матухна пытае.* Водзьвінка Імгл. (Косіч 240). *Як абачыла срэбны яблычак, дык пачала прасіць у яго, каб ён прадаў.* Н. (Афанасьев I, 1913, 210). —перед: *Божая Маці малітаўка ў Бога за нашы грахі.* Нсл. 288 ( *под малітаўка*). *Усі сьвятыя, малітаўнікі нашы ў Бога, няхай табе памагаюць.* Нсл. ( *под малітаўнік*).

•**убогі**-*гая-гае,* **1.** бедный. *А казалі сваты багаты, аж яны убогі, іх коні бязногі.* Яблынка Імгл.(Косіч 244). *Багатую(брат) пасадзіў на покуці, а убогую на прыпечку.* Жукова Імгл.(Косіч 34).

**2.** жалкий. МГсл.

**3.** *в смысле сущ.*—нищий-ая. Шсл.; МГсл.; Ксл. *У хату зайшоў убогі.* Ст. *Адзін піражок маці дала на ўбогіх.* Ст. *Дай убогаму хоць бцльбы.* Стралкі Беш. (Ксл.). *Чаму не прадалі гэтага алею за трыста дынароў і не раздалі ўбогім?* Луцк.: Яан, 12:5. *Убогія харошыя псалмы пяюць.* Нсл. 536( *под псалма*).

•**убоісты**-*тая-тае*—не боящийся битья. Ар. *Гэтая карова ўбоістая, ты яе бі, а яна ня слухае, не баіцца.* Ар. *Убоісты конь.*

•**убор**-*ру, предл. и зват.-ру, м.* **1.** церков. риза, облачение. Нсл. 647. *Сьвятар ужо ў усім убору.* Нсл.

**2.** *обычно в мн. ч.*: **уборы**—наряд, наряды. МГсл.; Ар. *Поўны купар убораў. Уборы дорага каштуюць.*

•**уборзьдзе,** *нареч.*—...... *Мы ўборзьдзе зажывем.* Гарун: Белр. марш.

•**убоства**-*ва, ср.*—убожество. Міх. *У вубостве жыць ды зь перцам есьці.* Міх.

•**убочны**-*ная-нае,* **1.** боковой, косвенный. Гсл.

**2.** побочный. Гсл.

•**убочына**-*ны-не, ж.* **1.** сторона предмета. Гсл.

**2.** косогор. Гсл.

•**убаёдаць,**—*см. под бяёдаваць.*

•**убайдосіць,**—*см. под байдосіць.*

•**убураніць**-*цца,*—*см. под бараніць.*

•**убаране́ць,**—*см. под баранець.*

•**убараніцца,**—*см. под бараніцца.*

•**убасьці,**—*см. под басьці.*

•**убасьцьвеньне**-*ня, ср.*—боготворение, Гсл. обожествление.

•**убачыць,**—*см. под бачыць.*

•**убга́ць,**—*см. под бгаць.*

•**убгацца,**—*см. под бгацца.*

•**убе́гі**-*гаў, единств. ч. нет.*—усиленное ухаживание, Гсл. ухаживание.

•**убе́г-чы**-*чыся,*—*см. под бегаць, бегчы.*

•**убе́л-ены**-*еваньне-еваць-евацца,*—*см. под бяліць.*

•**уб-е́рці**-*ірàць,*—*см. под берці.*

•**убесьп-яча́ць**-*èчыць,*—*см. под бясьпечыць.*

•**убесьп-яча́цца**-*èчыцца,*—*см. под бесьпячацца.*

•**убяг-аньне**-*àць-àцца,*—*см. под бегаць, бегчы.*

•**убяёд-аваць**-*авацца-аваны,*—*см. под бяёдаваць.*

•**убяёд-аць**-*аны,*—*см. под бяёдаваць.*

•**убял-іць**-*іцца,*—*см. под бяліць.*

•**убясьпе́чня**-*ні-ні; мн. ч.-ні-няў, ж.*—страховая каса.

•**убіра́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к убіраць I, убірацца*—наряжание. Гсл.; Ар. *Убіраньне маладое.* Ар.

•**убіра́ць I,**-*àю-àеш-àе, несоверш., перех.* **1.** наряжать. Ар.; Шсл. *Надта ж ён убірае сваю дачку.* Ар. *Жонку сваю ўбірае, убраў, як лябёдку.* Нсл. 647.

**2.** вбирать, впитывать. *Дняпро моўчкі ўбіраў у савё сьцюдзёнае ўлоньне.* ЗСД, 171. *Соверш.* **убра́ць I,** *убяру̀-рэш-рэць-рэм-рыцè-руць,* **1.** нарядить. Ар.; Шсл. *Убрала дзяцё, як у сьвята.* Ар. *І мы на сьвята сваю хату ўбралі.* Ст. *Убралі Ганну ў белейка, садзяць на пасадзе.* Жылка, 52.

*Прич.* **убра́ны**—наряженный. Ар. *Убраная да вянца маладая.* Нсл. 648. *Стаіць магутны лес ізноў убраны ў зялёны ліст.* Гарун("Ноктурно"). *Убранай у строй найноўшых модаў.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 49-50/435-436).

**убраншы,** *ср. ст. к убраны в зн. прилаг. Каторая ўбраншая за другія дзеўкі, тая маладая.* Нсл. 648.

**2.** вобрать, постепенно принять в себя (воздух, воду и т.п.), впитать.

**прыўбіра́ць**—принаряживать. Нсл. 518. *Маладую прыўбіраюць, прыўбралі да шлюбу.* Нсл. *Соверш.* **прыўбра́ць**-*бярў-бярэш-бярэць*—принарядить. Нсл. 518. *Прич.* **прыўбраны**—принаряжённый. Нсл. 518. *Маладая прыўбрана.* Нсл. *Хата прыўбрана, глядзець прыгожа.* Тм.

•**убіра́ць II,**-*дю-ееш-де, употребляемое очень редко,* **1.** *несоверш. к убраць II, 1, перех.* —убирать, снимать, удалять откуда-л. *Убірайце ўсё із столу.* Ст.

**2.** *соверш. к убраць II, 2.*

•**убра́ць II,** *убярў-рэш-рэць-рэм-рыцè-руць, очень редко употребляемое, соверш.* **1.** *перех.*—убрать, снять, удалить откуда-л. *Убраць із столу.* Ст.

**2.** *каму-чаму*(*чаго?* **С.**)—убрать, снять, изъять. *Я вам убраў прамове вуснамі.* Кіт. 67а13.

**убіра́цца**-*дюся-дешся, несоверш.*—наряжаться. Ар.; Шсл.; Гсл. *Убірайся, ўдовін сыну, заўтра паход будзе. Я й паходу не баюся, зараз убярuся: чабоцікі на ножанькі, шабельку ў ручкі.* Кажамякі Імгл. (Косіч 43). *Толькі любе ўсё ўбірацца.* Крамяні Пух. (Шсл.). *Караліца, убіраючыся, ізноў папыталася ў люстра.* Н.(Афанасьев, III, 1914, 106). *Соверш.* **убра́цца,** *убярўся, убярэшся-рэцца-рэмся-рыцèся,* —нарядиться. Воўсішча Сян. (Ксл.). *Дзяўчаты ўбраліся на вясельле.* Ар. *Убраўся ў боты.* Нсл. 31(*под* боты). *І даліны ўбраліся ў белі.* Гарун("Мае Думкі"). *Деепр. прошл. вр.* **убраўшыся**—наряженный(сам нарядился). Ар.

**прыўбіра́цца**-*дюся-дешся, несоверш., возвр.* —принаряжаться. Нсл. 518. *Прыўбіраецца, прыўбраўся, як панічок.* Нсл. *Соверш.* **прыбра́цца,** *-бярўся-бярэшся-бярэцца -бярэмся-рыцèся*—принарядиться. Нсл. 518. *Деепр. прошл. вр.* **прыўбраўшыся.**

•**убіва́ць,**—*см. под біць.*

•**убіва́цца,**—*см. под біцца.*

•**убіўства**-*ва; мн. ч.-вы-ваў, ср.*—убийство. Войш. *Старшыня "комбеду" быў засуджаны ў Маскве за ўбіўства.* Дзьве Душы, 157.

•**убіўца**-*цы, общ.*—убийца. Войш. *А вы, упыры, вы, крывапіўцы, мяне — зарваўшы з родных ніў — судзіць пасьмелі, як убіўцу, хоць я ваякам толькі быў.* Купала: Перад вісельняй.

•**убіць,**—*см. под біць.*

•**убіцца,**—*см. под біцца.*

•**у блізкасьці**—вблизи. МГсл.

•**убра́ць,**—*см. под браць.*

•**убрудзя́ніць,**—*см. под брудзяніць.*

•**убруіць,**—*см. под бруіць.*

•**убруіцца,**—*см. под бруіцца.*

•**убру́с**-*сà, мн. ч., дат.-сом, мн. ч., предл.-сох, м.*—скатерть. Ксл. *Убрус каштуе 10 рублёў.* Гарнова Сян. (Ксл.). *Як палажыла ўбрусы ў луг, дык яны й пабялелі.* Глебаўск Сян. (Ксл.). *См. абрус. Уменьш.* **убру́сак**-*ска, предл.-ску.* НК: Очерки, 141.

•**убрыкнуць,**—*см. под брыкаць.*

•**убуйніць,**—*см. под буйніць.*

•**убырскаць,**—*см. под пырскаць.*

•**убырыцца,**—*см. под бурыцца.*

•**убытак**-*тку, предл.-тку, м.*—убыль, убыток. *Дзе ёсьць прыбытак, там ёсьць і ўбытак. Послов.* Рапан. 219.

•**убыць,**—*см. под бываць.*

•**угодкавік**-*ка, предл.-ку, зват. угодкавіча, м.*—юбиляр.

•**угодкавы**-*вая-вае*—юбилейный.

•**угодкі**-*каў, единств. ч. нет.*—годовщина (юбилей, **С.**) Ксл.; МГсл.; Імсьц. *Трэба на ўгодкі гарэлкі купіць.* Сукрэмна Сян. (Ксл.). *"Нашай Ніве" на сёмыя ўгодкі.* Поэта А. Зязюля. *Нашы ўгодкі.* Полымя 1926, Но. 8, стр. 3. *Так званыя пятыя ўгодкі.* Полымя. *Ён выступіў на вечу з прычыны другіх угодкаў вываду ангельска-францускага войска із Суэзу.* "Бацьк.", Но. 1-2(437-438).

•**угоднік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** угождатель. Нсл. 650. *Не вялікі ты мне ўгоднік.* Нсл. *Уменьш.* **угоднічак**-*чка* —подлипало. Нсл. 650. *Угоднічак бабскі.* Нсл.

**2.** угодник, святой, угодившийся Богу безгрешной, непорочной жизнью. *Е бу Бэкір, угоднік Божы*(*мовіў*) Кіт. 2а10.

•**угодніца**-*цы-цы, ж.* **1.** угождательница. Нсл. 650. *Вялікая б ты была імне ўгодніца, калі б гэта зрабіла.* Нсл.

**2.** угодница, святая, угодившая Богу безгрешной жизнью.

•**угодзьдзе**-*дзя, ср.*—приволье, удобство. Гсл.

•**угожы**-*жая-жае,* **1.** годный, выгодный. Нсл. 46. *Хоць куды, на ўсе ўгож.* Нсл. *Ні на пса няўгожая рэч.* Тм. *На табе, нябожа, што мне няўгожа.* Тм.

**2.** выгодный, полезный. Нсл. 650. *Угожае дзела зрабіў.* Нсл. *Ср. ст.* **угожшы**—более способный(более удобный, **С.**), более выгодный. Нсл. 730. *Ты ўгожшую выбраў сабе касу, чымся я.* Нсл. *Угожшую касу выбраў.* Тм. 550.

•**уголас,** *нареч.*—вслух. МГсл. *Гужэвіч не зацеміў, як гэтыя думкі выказаліся ўголас.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 49-50/435-436). *Што гэта такое? — зьдзівілася ўголас.* Ю. Жывіца("Прыйсьце", Но. 1, 6). *Што дзедам моўчкі адпакутавана, уголас скажа ўнук.* Крушына(Зьніч, 1952, Но. 20, 5).

•**угорыч**-*ча, м.*—угорь. Ксл.; Бр. *Угорычы бяруцца на ўюна.* Падбярэзьзе Віц. (Ксл.).

●**уга,** *междомет.—.... Думаеце не хадзіла і ня ґукала? Уга, аж абрыдзела... Старшыня, як заўсёды адхінаецца.* Вышынскі: Хата пад ліпою(Беларус, Но. 155). *Ды так... Цяжка, бач, чалавеку. — Уга, удава і гады на зыходзе.* Тм.
●**уга́д-аваць**-*а́ць,—см. под гадаць.*
●**уга́дліва,** *нареч.*—предусмотрительно. МГсл.
●**уга́длівы**-*вая-вае*—догадливый, остроумный. Гсл.
●**уга́дна,** *нареч.*—впору(как раз, по мерке, С.) МГсл.
●**у гадзі́не,** *нареч.*—поздно, Смоленщ.; Бабр. после порядочного времени; порядочно времени прошло. Дсл. *Даўно Цішка пашоў на работу? Да ўжо ў гадзіне.* Дсл. *Ды ўжо ў гадзіне.* Смоленщ.; Бабр.
●**угадзі́ць,**—*см. под гадзіць.*
●**угала-дзіць**-*джэньне,—см. под галадзіць.*
●**уга́ліцца,**—*см. под галіцца.*
●**угамоўны,** -*ная-нае*—успокоительный. Гсл. *Дохтар даў угамоўнага леку.* Гсл.
●**угамав-а́ньне**-*а́ць,—см. под гамаваць.*
●**угамава́цца,**—*см. под гамавацца.*
●**уганя́ць,**—*см. под ганяць, гнаць.*
●**уганя́цца,**—*см. под гнацца.*
●**угар-оджаваць**-*адзі́ць,—см. под гарадзіць.*
●**угар-оджавацца**-*адзіцца,—см. под гарадзіцца.*
●**угар-а́цца**-*эцца,—см. под гарэць.*
●**угар-ну́ць**-*та́ць,—см. под гарнуць.*
●**угарну́цца,**—*см. под гарнуцца.*
●**угару́,** *нареч.* **1.** вверх. Гсл.; МГсл.; Ар. *Пусьціў камень угару.* Ст.(Шсл. *под гара*). *Глядзеў угару.* Цялеш: Дзесяць, 17. *Дым плыў угару.* Дзьве Душы 38. *Падкідаў ягады даланёю ўгару.* Гарэцкі: Песьні, 25. *То ўгару яны(гукі) памкнуцца, то зноў нікнуць на зямлі.* С. Музыка, 25. *Угару йдзець ад яе(лучыны) дым.* Гарэцкі: Песьні, 32. *Сьцежка ўлева забірае ды шыбуецца ўгару.* С. Музыка 25.
**2.** кверху. МГсл.
●**угары́,** *нареч.*—вверху. Гсл.; МГсл.; Ар.
●**угатові,** *нареч.*—в готовности. Нсл. 46. *У мяне ўсё ўгатові.* Нсл.
●**угатав-а́ны**-*а́ньне-а́ць,—см. под гатаваць.*
●**уратав-а́ны**-*а́ньне-а́ць,—см. под ратаваць,*
●**уратава́цца,**—*см. под ратавацца.*
●**угіб-а́цца,**—*см. под гбацца.*
●**угі́дзіцца,**—*см. под гідзіцца.*
●**угін**-*ну, м.*—вогнутость. Гсл.
●**угіна́ць, угну́ць,**—*см. под гнуць.*
●**угінацца, угнуцца,**—*см. под гнуцца.*
●**угі́раваць,**—*см. под гіраваць.*
●**угла́сты,** -*тая-тае*—многоугольный (относительно внешней стороны здания, С.) Нсл. 649. *Угластая царква.*
●**угле́дзіць,**—*см. под глядзець.*
●**угле́дзіцца,**—*см. под глядзецца.*
●**угляда́ць,**—*см. под глядзець.*
●**угляда́цца,**—*см. под глядзецца.*
●**углыбкі́,** *нареч.*—в глубину, Ск. вглуб, глубиною. МГсл.; Ар.
●**угн-оеваць**-*а́іць,—см. под гнаіць.*
●**угна́ць,**—*см. под гнаць.*
●**угна́цца,**—*см. под гнацца.*
●**угнесьціся,**—*см. под гнесца.*
●**угне́вацца,**—*см. под гневацца.*
●**угнёны,**—*см. под гнуць.*
●**угнявіць,**—*см. под гнявіць.*
●**угну́ць,**—*см. под гнуць.*
●**угра́зьці,**—*см. под гразьці.*
●**угр-ава́ць**-*эты-эць,—см. под грэць.*
●**угр-ава́цца**-*эўшыся-эцца,—см. под грэцца.*
●**угрэў(угрыў,** Дсл.)—место, которое более других доступно действию лучей весеннего солнца. Дсл.; Леск.: Инт. мужчины. *На ўгрыве дужа цёпла: і мухі, чырвоныя й жоўтыя мятлушкі лётаюць.* Дсл.
●**угру́бкі,** *нареч.*—в толщину. Гсл.
●**угруз-а́ць**-*ьці,—см. под грузьці.*
●**угру́зіць,**—*см. под грузіць.*
●**угру́злы**-*лая-лае*—завязший. БНсл.
●**угру́ням,** *нареч. — угрунь.* Ксл. *Падбяжым угруням.* Ганкавічы Беш. (Ксл.).
●**угрунт-ава́ць**-*а́ньне,—см. под грунтаваць.*
●**угрунтавацца,**—*см. под грунтавацца,*
●**угру́нь,** *нареч.*—бегом, Гсл.; МГсл.; Нсл. бегом, быстро, Ксл. вскачь. Сц. (Кавыль). *Ён пусьціўся ўгрунь.* Вішкавічы Чаш. (Ксл.). *Бяжы ўгрунь.* Нсл.,—очень быстро(бежать). Гсл.( *под грунь*). *Лятуць вятры вясёлыя, угрунь.* Кавыль: Думы, 24. *Кагосьці магутныя грудзі бурай рванулі, гукнулі угруні.* Кавыль: Пад зорамі, 32.
●**угу, 1.**—да(невнимательный ответ "да" через закрытый рот). Гсл.
**2. угу**—..... *З-за хмар нейдзе выглянула сонца. Угу, грэе, вясна падступае.*
●**уходаць,**—*см. под ходаць.*
●**ух-ту! ух-ту! ,** *междомет.*—обычный вздох при исполнении трудной работы, при переводе дыхания. НК: Под. пос., Но. 25.
●**уход**-*ду, предл.-дзе, м.* **1.** вход.
**2.** угомон, успокоение. Нсл. 670; Ар. *Уходу няма на старую.* Нсл. *Няма на яго ўходу.* Ар. *Вырвасу гэтаму ўходу няма.* Нсл. 93.
●**уходальнік**-*ка, м.*—тот, который совершил *"уходы".* НК: Сбяги, 14.
●**уходалы**-*лаў, единств. ч. нет.*(НК: Сбяги, 14)—уход, спешное удаление(со двора, С.) от предстоящей беды, НК: Бабы, Но. 27. спешный уход, при которм, однако, предполагается погоня. НК: Под. пос., Но. 119.
●**уходаліць**—совершить *"уходалы".* НК: Сбяги, 15.
●**уходнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—лицо, осуществляющее охоту и сбор натуральных продуктов на незанятых земельных пространствах. *Хтобы таковую пушчу разрабіў, даўніх уходнікаў ад борцей, азёр, сенажацей адбіваці ня маець.* Стт. 378.

•уходы-*даў, единств. ч. нет.*—манеры. *Налажыў галоўкаю за дзеўку, за яе ціхія ўходы, за яе нізкія паклоны.* Гсл.
•ухады́нец-*нца*—покой. Ксл., уход во 2-ом знач. *Няма яму ўхадынцу.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).
•уходзіны-*наў, единств. ч. нет.*—новоселье, празднество, устраиваемое по случаю переселения на новое место, в новое жилище. Ар. *См. уходчыны, улазіны.*
•уходзіць,—*см. под хадзіць.*
•уходчыны, *единств. ч. нет. — уходзіны.* Война.
•ухадзі́ць,—*см. под хадзіць.*
•уха́п-аваць-*іць,—см. под хапаць.*
•уха́п-авацца-*іцца,—см. под хапацца.*
•ухапі́ць,—*см. под хапіць.*
•ухапі́цца,—*см. под хапацца.*
•ухава́ць,—*см. под хаваць.*
•ухін-а́цца-*ўцца,—см. под хінуцца.*
•ухін-а́ць-*ўць,—см. под хінуць.*
•ухлю́паць,—*см. под хлюпаць.*
•ухлю́пацца,—*см. под хлюпацца.*
•у́хмылка-*лкі-лцы, ж.*—улыбка. НК: Дудар, Но. 27.
•ухвала-*лы-ле, ж.*—одобрение. МГсл.
•ухвал-я́ць-*іць,—см. под хваліць.*
•ухў́тацъ,—*см. под хутаць.*
•удоба-*бы, дат., предл.-бе, ж.*—наружность(внешность, внешний облик человека, С.) Растсл., Север.(Раст. Северск. 152). *Не упаваю я, міленькі, на твою худобу, спалюбіла я цябе за твою удобу.* М. Погар, Стдуб.(Косіч 69).
•удой, *удою*—количество молока от одной коровы, выдоенное за сутки, дойло. Ар. *Укрой — ня ўдой. Послов.* Ар.,—значит, что количество молока у коровы от дойки не уменшается, завтра надоиш столько же, но количество запаса мяса уменшается от его употребления.
•удома, *нареч.*—дома. *Удома даведаўся, што будзе выходзіць каралеўна замуж.* Н. (Афанасьев, II, 1914, 292). *На выгнаньнях, удома, на катаргах цешыліся ў ціхі сьвяты вечар пры ясьлях Дзіцятка!* Ліст Субору Япіскапаў БАПЦ.("Бацьк.", Но. 1-2/437-438).
•удостач, *нареч.*—вдосталь. Гсл.
•у досьвета, *нареч.*—на рассвете. Гсл. *Прачнуўся ён у досьвета.* Гарэцкі: Песьні, 32.
•у досьвіцьце, *в знач. нареч.*—в предрассветное время. НК: Очерки. 250.
•удосыць, *нареч.*—довольно, обильно, вволю, вдоволь. Вят., Вост., Смл., Пск. (Даль). *Я ж (сабака) брашу сабе удосыць.* Цёця Аліна(Каласкі, Но. 76, 1960г.).
•удовеселі, *нареч.*—навеселе. *Крыху ўдовеселі.* Нсл. 136, *под "довесель". См. надовеселі.*
•удоўж, *нареч.*—вдоль, вдлину. Гсл.
•удоўж, *нареч.*—вдлину. Шсл. *Удоўж пабаранаваў па два разы, а перак па разу.* Ст. *См. удаўжкі, удоўжкі.*
•удоўжкі, *нареч.*—в длину. Растсл.; Ксл. *Удоўжкі пяць сажняў, ушыркі дзьве.* Рыбчына Сір. (Ксл.). *См. удаўжкі, удоўж.*
•удабрыцца,—*см. под дабрыцца.*
•удагон, *нареч.*—вдогонку. Ксл. *Тарэнта пайшоў удагон за ім.* Вяжышча Беш. (Ксл.).
•удаіць,—*см. под даіць.*
•удака: на ўдаку—на удачу, вряд ли. Гсл.
•удакла́дніць-*ню-ніш-не, каго-што, соверш.*—уточнить. *Не ў лячэльні, пад прасокаю, — спакойна ўдакладніла жанчына.* Кулакоўскі: Дабраселцы.
•уда́ліна-*ны, дат., предл.-не, ж.*—дальняя страна. Смоленщ. *Адзін паехаў на Украіну, а другі — на ўдаліну.* Смоленщ.
•удаму́, *нареч.*—дома. МГсл.
•уда́рнік, *-ка*—род лечебной травы. *"Ударнік" — гэта лекавая трава.* Хведаровіч: Пісьменьнікі, 60.
•уда́рына-*ны-не, ж.*—часть ниток основы в ткацком станке, которая не вмещается в *"берда".* Шалёпіна Аз. (Ксл.).
•удаскана́леньне-*ня, ср.*—усовершенствование. Гсл.
•у дастатку, *нареч.*—изобильно(в изобилии, С.) МГсл.
•уда́тны-*ная-нае*—удачный, способный.
•удава́-*вы, ж.*—вдова. Гсл.
•удава́ньнік-*іка-іку, зват.-іча, м.*—доносчик. Ар.
•удава́ньніца-*цы-цы, ж.*—доносчица. Ар.
•удава́ць, *удаю, удаеш- удаець, удаем, удаіцё, несоверш., перех.*—доносить на кого, делать донос, имея при том желание вредить тому, на кого доносят. Ар. *Дурныя удаюць адны адных.* Ар. *Не заміляецца пан намі; ён і заміліўся б, ды ліхія людзі ўдаюць яму.* Нсл. 174( *под заміляцца*). *Отгл. имя сущ.* **удава́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—донос. Ар. *Соверш.* **уда́ць,** *удам, удасі, удасьць, удамо, удасьце, удадуць*—донести, сделать донос, желая при том вреда тому, на кого донес. Ар. *Ён мяне ўдаў.* Ар. *Людзі ўдалі, а Бог абязьвініў.* Нсл.( *под абязьвіняць*). *Отгл. имя сущ.* **уда́ньне**-*ня, предл.-ню*—донос.
•удава́цца, *удаваюся(удаюся), удавацца (удаецца),* 1. *несоверш. к удацца 1, 2*—удаваться.
2. *несоверш. к удацца 3.*
3. *у каго, несоверш. к удацца 4*—делаться похожим на кого-л.(рождаться, расти похожим на кого-л., С.) Нсл. 46. *Не ўдаваешся ў бацьку: твой бацька быў работнік, а ты гультай.* Нсл.
4. *у што, несоверш. к удацца 5*—углубляться, заходить далеко. Нсл. 651. *Не ўдавайцеся ў лес, а сячыце дровы з краю.* Нсл.
5. *у што, несоверш. к удацца 6*—пристращаться(предаваться чему-л., С,) Нсл. 651. *У вялікую любоў не ўдавайся.* Манюкі НЗ. (Косіч 29).
6. *у што, несоверш. к удацца 7*—полагаться на что-л. Нсл. 46.

**•удáцца,** *удàмся, удасìся, удàсца, удамося, удасьцёся, удадуцца,* **1.** протечь, пройти удачно, успешно, удаться. *Вячэра надта ўдалася.*—получиться, выйти удачным. хорошим. *Дзеці іхныя ўдаліся. Удаўся маляру патрэт.*

**2.** *у каго*—выйти, уродиться, вырасти похожим на кого-л. *Ой, Югая, Югася, у каго ж ты ўдалася, ці ўматулю, ці ў вайца?* Из песни, Ар. *І ў каго ўдаўся ён?* С. Музыка, 8. *І мой бацька такі маўся, і я ў яго ўдаўся. Послов.* Нсл. 46.

**3.** *безлич.* *каму, с инфин.*—посчастливиться, случиться, удаться. *Пётру ўдалося ўладзіцца на службе.*

**4.** уродиться, вырасти каким-л. *Удаўся нейкі нялюднік, што людзёў баіцца.* Ст.

**5.** *у што*—углубиться, зайти далеко. Нсл. 651. *Данель удаўся ў бор і заблудзіў. Косячы ты ўдаўся ў чужы луг.* Нсл.

**6.** *у што*—пристраститься к чему-л.(предаться чему-л. **С.**) Нсл. 651. *Удавацца, удацца ў п'янства, у распусту.* Нсл.

**7.** *у што*—положиться на что-л. *Ня ўдавайся ў яго словы; як удасіся, то ён цябе й ашукае.* Нсл. 46.

**•удавец**-*ўцà, м.*—вдовец. Гсл.

**•удавéцкі**-*кая-кае*—вдовий. Гсл.

**•удавіны**-*ная-нае*—вдовий. Нсл. 652.

**•удаўжкі(удоўжкі,** МГсл.), *нареч.*—в длину. Ар.; Ск.

**•удáўне,** *нареч.*—давно, Гсл. встарь. МГсл.

**•у даўніну**—встарину, встарь. МГсл.

**•удаўнíцца**—устареть. МГсл.

**•удáць,**—*см. под удаваць.*

**•удацца,**—*см. под удавацца.*

**•удáча**-*чы-чы, ж.* **1.** натура, характер. Гсл. *Знаю тваю ўдачу, табе абы ўкрасьці што.* Гсл.

**2.** успех.

**•удэчыць**-*чу-чыш*—всучить, обмануть какой-л. вещью. Ксл. *Вось удэчылі мне кабылу: сьлепа, кульгае задам, сьвішча ў бакі.* Ходцы Сян. (Ксл.). *Ср. задэчыць.*

**•у ваддаль: пушчаць у ваддаль**—медлить с чем-л. Ар. *Гэта пайшло ў ваддаль.* Ар.

**•удругарэдзь,** *нареч.*—вторично. Нсл. 47. *Удругарэдзь ты імне пашкодзіў.* Нсл.

**•удрýгава,** *нареч.*—вторично. Нсл. 47; Сакуны 78. *Удругава не скажу, не паеду.* Нсл. *Удругава прышоў.* Нсл.

**•удрýгі,** *нареч.* **1.** второй раз, Растсл. вторично, Гсл. во второй раз.

**2.** во-вторых. Гсл. *Першае, ці ж я ведаў? А ўдругі — усё роўна не паправіць.* Гсл.

**•у друзачкі(пабіць)**—на мелкие части. Іг.

**•удвору,** *нареч.* — *двору.* МГсл.; Гсл. *Пайшла яна ўдвору.* Міхайлаўка Стдуб.(Косіч 20).

**•удвая́,** *нареч.* **1.** вдвое, в два раза, в две части, доли. Ар. *Ведама, баба, калі лапоча языком, дык удвая больш зробе.* ЗСД. 145.

**2.** вдвойне. Шсл. *Удвая злупілі зь міне за работу.* Ст.

**•удваíх,** *нареч.* о детях или двух лицах разного рода:—вдвоем. Ар.; Ксл.; МГсл. *Удваіх ледзь паднялі.* Лёзна (Ксл.). *Застаўшыся ўдваіх, ня зюкаў ёй пра каханьне, чаго Ванда спадзявалася.* Шакун: Сьлед, 14. *Сякі-такі целяпей, а ўдваіх усе ж ляпей. Послов.* Рапан. 87. *Цяпер ён дзякаваў Богу, што ня даў маці павезьці гэтую вязку. Учора, як увязавалі ўдваіх сена, была загікнулася, што сама ўпражэцца ў далёкую дарогу.* Капыловіч: Хлеб(Беларус, Но. 157). *Удваіх жа весялей ісьці(дзяўчына й дзяцюк).* Макаль (Б. Ускалось, 1954, Но. 4, 28).

**•удварэ,** *нареч.*—дома. МГсл.; Растсл. 152.

**•удвары,** *нареч.*—дома. *Мая матка цяпер удвары. Сянно (Ксл.).*

**•удвýх,** *числ.*—вдвоем(когда два лица муж. пола, **С.**) Гсл.; Ар.; Чараўкі Сян. (Ксл.); Шсл. *Знайшлі ўдвух каберац.* Пск., Пушк.(Ч. 43).. *Ушлі нейкія ўдвух.* Ст.

**•удубéць,**—*см. под дубець.*

**•удукрыць**-*цца,*—*см. под дукрыць.*

**•у дум: прыходзіць, прысьці ў дум**—приходить, прийти на ум. Ар.

**•удýмлівы**-*вая-вае*—вдумчивый.

**•удýмліва,** *нареч.*—вдумчиво. *Удумліва й строга заміргала сваймі вочкамі.* ЗСД 323.

**•удурбáць сабе ў галавý**—вбить себе в голову. *Вось няма ведама што ўдурбаў сабе ў галаву.* Ар.

**•удыхáць,** *несоверш.*—вдыхать. МГсл.; Ар.

**•удымíць,**—*см. под дыміць.*

**•удыíмкі ткаць,**—*см. под дымка.*

**•удыíрыць**-*ру-рыш-ра, повел.-р-рма*—ударить. Ар. *Шруба чыгунная, удыр, дык і разаб'ецца.* Лун. *Удырылі казу ў левае вуха, і ляжыць каза нема і глуха.* Из песни(Ад.).

**•уéхаць,**—*см. под ехаць.*

**•уéдлівы**-*вая-вае,* **1.** слишком настойчивый. Гсл.

**2.** неотвязный, Гсл. неотвязчивый, говорится о собаках. Нсл. 672. *Сабакі суседнія уедлівыя, бяз палкі ня пройдзеш.*

**уéдліва,** *нареч.*—слишком настойчиво. *Вочы глядзелі пільна й уедліва.* ЗСД 89.

**•уéдны**-*ная-нае*—сытный. МГсл.

**•уедна,** *нареч.* — *наедна. См. наедны.* Гсл.

**•уéзьдзіць,**—*см. под езьдзіць.*

**•уéзьдзіцца,**—*см. под езьдзіцца.*

**•уéжна,** *нареч.*—сытно, Гсл. достаточно пищи. Войш. *Хоць ня ўежна, дык улежна. Послов.* Войш.—зн. хотя плохо с едой, но зато мало работы.

**•уéсьці,**—*см. под есьці.*

**•уé-сьціся,** *уядàцца,*—*см. под есьціся.*

**•уéчыцца**—упачкаться. Растсл.

**•уём: няма яму ўёму**—нет удержу. Гсл.

**•уёмісты**-*тая-тае*—объёмистый, вместительный. *Побач з уёмістай сваёй суседкай яна выдавалася вельмі ж худой.* Вышынскі: Хата пад ліпою(Беларус, Но. 155), —емкий. МГсл.

•**уеўдзіцца,** *-джуся-дзішся*—удаться, счастливо сойти с рук. Ксл. *Раз яму ўеўдзілася, дык у другі раз мо' ня ўеўдзіцца.* Ст. Беліца Сян. (Ксл.).
•**уядаць,**—*см. под есьці.*
•**уяўкі,** *нареч.*—наяву. Гсл.
•**удзел**-*лу, м.*—участие. МГсл.
•**удзельлівы,** *-вая-вае*—доброхотный, доброхотно одолжающий, Нсл. 652. отзывчивый(быстро и легко отзывающийся на чужие нужды, просьбы и т.п., всегда готовый помочь другому). *Удзельлівы сусед! Ніколі не адмове суседу.* Нсл.
•**удзельнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* **1.** участник. Ст.(Шсл. *под уводзіць*). *Няма чаго яму ўводзіць у вушы, што ён удзельнік.* Ст. (Шсл.).
**2.** соучастник. Ст. (Шсл.). *Які ты тут удзельнік — тут нічога твайго няма.* Ст. (Шсл.).
•**удзень,** *нареч.*—днем. Ар.; Шсл.; Ксл.; МГсл. *Удзень дык ён пяюн быў.* Лукашоўка Беш. (Ксл.).
•**удзял-яць**-*іць,*—*см. под дзяліць.*
•**удзерж-аваць**-*аць,*—*см. под дзяржаць.*
•**удзерж-авацца**-*ыцца,*—*см. под дзяржацца.*
•**удзячнасьць**-*ці, ж.*—благодарность. МГсл.
•**удзячны**-*ная-нае*—благодарный. Гсл. *Трэба ж, дзеткі, удзячнымі быць.* Гсл.
•**удзьвюх,** —вдвоем(когда два лица женск. пола, С.) МГсл.; Ар.
•**узораваць,**—*см. под араць.*
•**узорысты** *-тая-тае,*—узорчатый, узорный. Гсл.
•**узорыцца**-*руся-рышся, соверш.*—уставиться, не сводя глаз, неподвижно смотреть на кого-что-л., впалить глаза. Л.; Заўшычы; Халопенічы (Юхн.). *Вось узорыўся!* Л.
•**узабаль,** *нареч.*—вправду. Ксл. *Узабаль я хадзіў учора ў лес.* Лоўжа Сян. (Ксл.).
•**узаемны**-*ная-нае,* **1.** взаимный. МГсл.
**2.** обоюдный. МГсл. **Узаемны стан,** *грамм.* —взаимный залог.
•**узадзьмі**—вздуй(огонь). Гсл.
•**узайм**-*му, предл. и зват.-ме, м.*—взаимность. Нсл. 50. *Узайму не зрабіў.* Нсл. *Вытні яго на ўзайм.* Нсл.
•**узапар,** *нареч.* **1.** сразу, подряд, Ксл.; Гсл. один за другим без промежутка. Нсл. 653. *Прымусіў выпіць узапар тры чаркі віна.* Мянюцева Сян. (Ксл.). *Тры разы узапар лучыў у мэту.* Нсл. *Тры ночы ўзапар ня спаў.* Нсл.
**2.** вдруг, вместе, в одну пору. Нсл. 653. *Узапар усё вазьміце.* Нсл. *Узапар прыехалі госьці.* Нсл.
•**узапарны**-*ная-нае*—совершаемый сряду дважды. *Піцьцё рэдчас бывае ўзапарным, зн. выпіваюць па дзьве чаркі адразу.* НК: Очерки, 72.
**узапарнае** питье водки — выпиваются две или три рюмки сряду. НК: Піт. 75.
•**узапасіць,**—*см. под запасіць.*
•**узар-аны**-*аць,*—*см. под араць.*
•**узбоч,** *нареч.*—.... *Неяк узбоч усё яно пачыналася, ішло, узбоч і пярэйдзе, і скончыцца, думалася ўсім Асінаўцам.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 49-50/435-436).
•**узбага-ціцца**-*чаць-чэньне,*—*см. под багаціць.*
•**узбаламуціць,**—*см. под баламуціць.*
•**узбаламуціцца,**—*см. под баламуціцца.*
•**узбаламучавацца,**—*см. под баламуціцца.*
•**узброіць,**—*см. под зброіць.*
•**узбро-іўшыся**-*іцца,*—*см. под зброіцца.*
•**узбраеньне**-*ня, предл.-ню,* **узброеньне.** МГсл.—*см. под зброіцца.*
•**узбудзіць,**—*см. под будзіць.*
•**узбураваць,**—*см. под бурыць.*
•**узбуравацца,**—*см. под бурыцца.*
•**узбурдыліць,**—*см. под бурдыліць.*
•**узбурдыліцца,**—*см. под бурдыліцца.*
•**узбурыць,**—*см. под бурыць.*
•**узбурыцца.**—*см. под бурыцца.*
•**узбуўдырыць,**—*см. под буўдырыць.*
•**узгорак**-*рку,*( Скар. II Ц.), *м.*—пригорок, ПНЗ; Растсл. ХОЛМ, Ар.; Шсл.; Лужасна Куз. (Ксл.) бугор. МГсл. *Вятрак стаіць на ўзгорку.* Ст. *Уменьш.* **узгорачак**-*чка.* Ар.; Шсл.; Ксл. *Дажаліся аж да ўзгорачка.* Ст.,—небольшое возвышение на поверхности, пригорок. Гсл.
•**узгоцацца,**—*см. под гоцацца.*
•**узгад-овеваць**-*авць,*—*см. под гадаваць.*
•**узгад-ововацца**-*авацца,*—*см. под гадавацца.*
•**узгадаваньнік**-*ка, предл.-ку, зват. узгадаваньніча, м.*—воспитатель. МГсл.
•**узгад-аваць**-*аць,*—*см. под гадаць.*
•**узгагатацца,**—*см. под гагатаць.*
•**узгаліцца,**—*см. под галіцца.*
•**узгаманіць,**—*см. под гаманіць.*
•**узгарацца**-*эўшыся-эцца,*—*см. под гарэць.*
•**узгардзець,**—*см. под гардзець.*
•**узгарланіць,**—*см. под гарланіць.*
•**узгаўкацца,**—*см. под гаўкаць.*
•**узглабацца,**—*см. под глабацца.*
•**узгляд: мець узгляд на што, на каго** —принимать во внимание. *Хто бы меў узгляд і бачнасьць, убогіх людзей, сірот і нявольнікаў карміў, накорміць яго Пан Бог.* Кіт. 12а4.
•**узгалос**-*су, м.*—возглас. МГсл.
•**узгалоўе**-*ўя*—изголовье. Нсл. 653. *Узгалоўе паслала нізка.* Нсл. *Ключ пад узгалоўям.* Нсл. *Ласкат.* **узгалоўіка**-*іка.* Нсл. 653. *Дзяцінае ўзгалоўіка нізка.* Нсл.
•**узгаласіць,**—*см. под галасіць.*
•**узгалавашча**-*ча, ср.*—подушка в телеге. Ксл. *Во гэта добры кацюх на ўзгалавашча.* Улянавічы Сян. (Ксл.).
•**узглядам,** *нареч. с род. пад.* **1.** смотря на...(относительно, в отношении, С.) Нсл. 52. *Узглядам надвор'я можна было ўправіцца з работаю.* Нсл. *Узглядам гаспадаркі можна было б жыць, ды згоды няма памеж іх.* Нсл. *Тут просіма а*

*хлеб дваякі, узглядам таго, што й чалавек ёсьць дваякі, то ёсьць ад душы й ад цела.* Зізані: Толкование.
**2.** судя по. Нсл. 52. *Узглядам словаў тваіх, твая праўда.* Нсл.
**3.** касательно, что относится к. Нсл. 52. *Узглядам цябе я нядбаю.* Нсл.
•**уздойм**-*му, м.*—подъём. Гсл.
•**уздоймам,** *нареч.*—оптом. *А хто бы зь іншага города альбо места віно гарэлае да Смаленска прывёз, тот маець уздоймам тое віно прадаці тым жа карчмітом нашым.* Ліст Вял. Кн. Аляксандры 1498 (Ластоўскі: Гіст. крыўскай кнігі, стр. 603).
*Уставуем, іж вольна кажнаму меньня сваі... нясмотрачы трэцяе і дзьвюх часцей, але ўсі ўздоймам хто іх што маець... аддаці, прадаці, дараваці... ад дзяцей і блізкіх аддаліці.* Стт. 1588 г., УII, Арт. 2.
•**уздолец,**—*см. под долець.*
•**уздол-еньне**-*ець,—см. под долець.*
•**уход**-*ду, предл.-дзе, м.* **1.** вход.
**2.** угомон, успокоение. Нсл. 670; Ар. *Уходу няма на старую.* Нсл. *Няма на яго ўходу.* Ар. *Вырвасу гэтаму ўходу няма.* Нсл. 93.
•**укрýтаць,**—*см. под круціць.*
•**укру-ціць**-*чаваць,—см. под круціць.*
•**укрыжав-áньне**-*áны-áць,—см. под крыжаваць.*
•**укрывáла**-*ла, ср.*—то, чем укрываются, покрывало. Гсл.
•**укрывяніць,**—*см. под крывяніць.*
•**укрывяніцца,**—*см. под крывяніцца.*
•**укрыўдзіць, укрыўджаньне, укрыўджаны,**—*см. под крыўдзіць.*
•**укульміцца**—сосредоточиться, угулубиться. Луб'ева Аз. (Ксл.). *Як укульміўся, дык не адарваць.*
•**укупе,** *нареч.*—вместе. Гсл.
•**укýраць**—запылиться, задымиться. Гсл. *Ср. кур.*
•**укусіць,**—*см. под кусаць.*
•**укучы,** *нареч.*—вместе. Гсл.
•**уломак**-*мка, м.* **1.** отламок, кусок. Гсл.
**2.** обессилевший, изнемогший, немощный. Гсл.
•**улонак**-*нка, м.*—неполная охапка. Дсл. *Прынёс улонак дроў цепліць*( протопить) *печку.* Ельн. (Дсл.).
•**улонкі**-*каў, единств. ч. нет.*—сидение на руках, на коленях. *Дзяцё заўсёды на ўлонках, з улонкаў ня сходзе: калі ж рабіць?* Нсл. 60.
•**улоньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.* Раз. (Даль); Растсл. **1.** внутренность лона(чрева, груди).
**2.** лоно вообще. БНсл.; Гсл.; Нсл. 657; Шсл. *Любіў і я заснуць на ўлоньні Евы.* Кавыль: Думы, 20. *І п'ю я чад пацех агністага улоньня.* Змагар.
**на ўлоньне**—на колени. Север(Косіч 259); Шсл. *Узяла дзяцё на ўлоньне.* Ст. *Вазьмі дзяцё на ўлоньне.* Нсл. 657.
**сядзець на ўлоньню**—сидеть на руках, на коленях.
**3.** объятия. БНсл.; Гсл.; Нсл. 657.
**4.** недра или поверхность(воды, земли), лоно.
**5.** *улоньне. Расьцілаў сваё* **люстранае** *ўлоньне сівы Дняпро.* ЗСД 267. *Бяжыць куды-небудзь на ўлоньне прыроды.* ЗСД 214. *Вылучыла прырода Л. із свайго раскошнага ўлоньня.* ЗСД 321. *Можна выйсьці на ўлоньне*(*прыроды*) *нават ночы... Пачуеш такое, як прырода ўсю ноч працуе.* Карамазаў(Г. Радзімы, Но. 1066).
**6.** находящееся на лоне, пристающее к нему, охапка, Шсл. объем руками, охапка. Нсл. 60. *Прынёс у хату ўлоньне дроў.* Ст. *Цэлае ўлоньне бацьвіньня так танна аддала.* Нсл. 657. *Цэлае ўлоньне набрала бацьвіньня.* Нсл. 60,—сидение на руках, на коленах. *Дзяцё ўсё ўлоньня пілнуець.* Нсл. 60. *См. улонкі. Уменьш.* **улоньніка**-*ка, предл.-ку; мн. ч.-кі-каў, ср.*—отвечает всем значениям слова *"улоньне". Вазьмі дзяцятка на ўлоньніка.* Нсл. 657.
•**уловы**—охота. Гсл.
•**улагодзіць,**—*см. под лагодзіць.*
•**улагодзіцца,**—*см. под лагодзіцца.*
•**улагоджаны,**—*см. под лагодзіць.*
•**улагоджавацца,**—*см. под лагодзіцца.*
•**улáда**-*ды, предл.-дзе, ж.*—власть. МГсл.
•**уладз-іць**-*іцца,—см. под ладзіць.*
•**улáдж-аньне**-*аны-аваць,—см. под ладзіць.*
•**улáзіны**-*наў*—новоселье. Растсл.; Ксл.; Шсл. *Я добра пагуляў на ўлазінах.* Косы Віц. (Ксл.). *Кончым хату ды справім улазіны.* Ст.
•**улáзіць, улезьці,**—*см. под лазіць.*
•**уласцы,** *нареч.*—в добром расположении. Гсл.
•**улáшч-аны**-*áць,—см. под лашчыць.*
•**улашчáцца,**—*см. под лашчыцца.*
•**улáшчыць,**—*см. под лашчыць.*
•**улáшчыцца,**—*см. под лашчыцца.*
•**улавіць,**—*см. под лавіць.*
•**улéгласьць**-*ці, ж.*—прилежность, Нсл. прилежание. Гсл. *Улегласьць да работы.* Нсл.
•**улéгліві**-*вая-вае*—прилежный к работе. Нсл. *Работнік улегліві.* Нсл.
•**улéгцы,** *нареч.* **1.** налегке. Шсл.; Ар.; Нсл. 60; Ксл.; Гсл. *Завёз дровы, а стуль прыехаў улегцы.* Стралкі Беш. (Ксл.). *Улегцы едзеш, падвязі мяне.* Нсл. 60. *Улегца й паехалі дамоў, нічога не набралі.* Ст. *Іншыя выбіраліся ўлегцы.* ЗСД 350. *Противополож.* **з возам**—с поклажею, с грузом. Ар.
**2.** легкомысленно.
**улегцы мець**—пренебрегать. *Пятае, хтобы меў із учоных людзей аднаго без прычыны улегца мець; шостае, навуку Божую улегца мець.* Кіт. 138а9, 10. *Гэтыя мужоў ня слухалі, улегца мелі.* Тм. 12965. *Соверш.* **улегцы замець**—пренебречь.
•**улéжачку,** *нареч.*—лежа. НК; Очерки, Но. 301.

●**улёжна,** *нареч.*—много свободного времени. Войш. *Хоць ня ўежна, дык улежна,* *послов.*—хотя не хватает пищи, зато много свободного времени.
●**улéплеваць**—вклеивать. МГсл.
●**улéшку,** *нареч.*—невысоко над лесом. Ксл. *Як будзе сонца ўлешку — прыдзі да мяне, Тацянка.* Лужасна Куз. (Ксл.).
●**улетку,** *нареч.*—летом. Гсл.; ПНЗ; Растсл.; Ар.; Ксл.; Шсл.; МГсл. *Стаялі ў лесе ўлетку цыганы.* Кавыль: Думы, 29. *Улетку мы хадзілі купацца.* Раіны Аз. (Ксл.). *Улетку можна й босаму бегаць.* Ст.
●**у-леце,** *нареч.*—в год; в году. Гсл.
●**улéгчы,** *соверш. к улягаць во всех трех знач.*:
1. *Сабакі ўляглі за зайцам.* Ст. *Як улёг ды ўлёг за ім, дык і дагнаў.* Ст.
2. *Як улягу вось гэтак, дык, як пабачыш, скончу работу.*
3. *Як ён улёг за дзеўкаю!*
●**улёце,** *в знач. нареч.*—налету. Войш. *Няўжож ён дагоне яго ўлёце?* Войш.
●**улягáць**-*áю-áеш-áе*—прилежно, настойчиво что-н. делать.
1. упорно гнаться за кем-н., преследовать. Шсл. *І, як сарна, за каторай улягаюць ганчакі, бяжыць Ганна то разорай, то мяжой праз раўчакі.* С. Музыка 257.
2. усердно браться за работу. Шсл.
3. настойчиво ухаживать. Шсл. *Вельмі ж ён улягае за Тэкляю.* Ст. *Соверш.* **улéгчыся,** *улягуся, уляжашся.* Нсл. 656. *Улёгся на тым, каб яго пабілі.* Нсл.
**улягацца**—домогаться чего-н., настаивать на чем. Нсл. 656. *Улягаецца, каб канечна ехаць.* Нсл.
●**уляг: час улягу**—время итти спать. Смоленщ.
●**уляка́ньне**-*ня,—см. под лякаць.*
●**уляк-а́ць**-*нуць,—см. под лякаць.*
●**улячэньне**—исцеление. Гсл.
●**уліць,**—*см. под ліць.*
●**улучаць,**—*см. под луч.*
●**улучэньне**-*ня, ср.*—втягивание, вовлечение.
●**улюбéнец**-*нца, м.* 1. возлюбленный. Гсл.
2. любимец. Гсл.
●**улюбёнка**-*нкі-юнцы, ж.*—любимица. МГсл.
●**улюбёны**-*ная-нае*-любимый. Гсл.
●**у любі,** *нареч.*—в любви. Смоленщ. *Яны ў любі*—любятся. Смоленщ.
●**улюбіць,**—*см. под любіць.*
●**у мотлах**— в куски. ПНЗ.
●**умова**-*вы, дат., предл.-ве, ж.* 1. условие. Ар.; Ксл.; Гсл. *Умова была на дзесяць, а ён даець пяць!* Чашнікі (Ксл.).
2. договор. Ксл.; МГсл.; Ар.; Гсл.
3. контракт. МГсл.
●**умовіны**—заключение договора. Гсл.
●**умовіць,**—*см. под мовіць.*
●**умовіцца,**—*см. под мовіцца.*
●**умоўкнуць,**—*см. под моўкнуць.*
●**умоўлены,**—*см. под мовіць.*
●**умоўны**-*ная-нае,* 1. условный. Гсл.
2. сговорчивый. Гсл.
●**умах,** *нареч.*—вмиг, в один момент. Гсл.
●**умазголіць,**—*см. под мазголіць.*
●**умазголіцца,**—*см. под мазголіцца.*
●**умалот**-*оту, предл. и зват.-оце, м.*—вымолот, зерно полученное от посева, Гсл. количество обмолоченного зерна.
●**умалотны**-*ная-нае*—умолотный. Ар.
●**умаліць,**—*см. под маліць.*
●**умарыцца,**—*см. под марыцца.*
●**умасоліць,**—*см. под масоліць.*
●**умасоліцца,**—*см. под масоліцца.*
●**умаўл-éньне**-*яньне,—см. под мовіць.*
●**умаўляць,**—*см. под мовіць.*
●**умаўляцца,**—*см. под мовіцца.*
●**умацав-а́ньне**-*аць,—см. под мацаваць.*
●**умацава́цца,**—*см. под мацавацца.*
●**умацніць,**—*см. под мацніць.*
●**у мачынкі(узор),**—*см. под мак.*
●**умéрзьці,**—*см. под мерзьці.*
●**умесна,** *нареч.*—совместно. Гсл.
●**Умéсьце**-*ця-цю, ср., област.*—праздник Вознесения Христова. Смоленск., Дсл. 2( *под Абдотка*).
●**умéтнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—закром в гумне для крупной мякины из колосьев. Шсл. *З уметніка ўжо ўсё выбралі.* Ст.
●**умéці**-*цяў, единств. ч. нет.*—крупная мякина из колосьев. Шсл. *Гнілыя ўмеці: карова ня хоча есьці.* Ст. *Ср. умецьце.*
●**умéць**-*éю-éеш-ée*—уметь. Ар. *Калі па-татарску ня ўмее, то парускy няхай абракаецца.* Кітаб 87а.
●**умéцьце**-*ця, собир.*—мякина. Шсл. *Драбное, харошае наша ўмецьце.* Ст.
●**умясьціць,**—*см. под мясьціць.*
●**умясьціцца,**—*см. под мясьціцца.*
●**умяшча́ць**-*áю-áеш-áе, каго-што, несоверш.*—водворять. МГсл.
●**умілéнны**-*ная-нае*—умилительный. Гсл.
●**умільны**-*ная-нае*—..... *Усякая бывала цётка — то суровая, то крыклівая бяздайпрычыны, то раптам умільная.* Марціновіч(Беларус, Но. 159).
●**умірýшчае**—смертное. Гсл.
●**умірýшчы**-*чага*—смертный. Ксл. *Дзяцё ўмірушчае.* Стаішча Чаш. (Ксл.).
●**умітусь,** *нареч.*—в разные стороны головами. *Людзі паклаліся на траве ўздоўж і ўмітусь.* Рамановіч(Конадні, Но. 2, 14). *Сьвіньні ляжаць умітусь.*
●**умітуські,** *нареч.*—итти, ехать, ложить одни в одну сторону, другие в противоположную. *Людзі йшлі й ехалі. Адны — на заход, другія на ўсход. Ішлі й ехалі ўмітуські, куды вочы глядзелі.* Дудзіцкі (Бацьк., Но. 49-50/435-436). *Кулі ляжаць умітуські*—толстый конец одного к тонкому другому. Гсл.
●**умкнýць,**—*см. под мкаць.*
●**умýрз-аны**-*аць,—см. под мурзаць.*

●**умурз-аўшыся**-*аацца,—см. под мурзацца.*
●**умыкаць,**—*см. под мкаць.*
●**умыкацца,**—*см. под мкацца.*
●**умыкнуцца,**—*см. под мкацца.*
●**умлець,**—*см. под млець.*
●**умурзацца,**—*см. под мурзаць.*
●**умык-аньне**-*аць-аацца,—см. под мкаць.*
●**умысел**-*сла, предл. и зват.-сьле, м.* **1.** заранее обдуманное намерение. *Паслове земскія ўсіх земль Вялікага Князтва Літоўскага ў справах і патрэбах земскіх маглі згоднымі намовамі й умысламі на Сойм вялікі прыяжджаці.* Стт.
**2.** заранее обдуманное намерение(часто тайное и преимущественно предусудительное). *Сегасьветнымі умысламі ня баўся.* Кіт. 2669. *Хто гэтым чатыром кнігам ня верыць, той чалавек ест кафірын(араб. няевернік), абарані, Божа, ад такіх злых умыслаў.* Тм. 4165. *Пан Бог ведамы ўмыслаў нутраных.* Тм. 7569. *Пан Бог ведамых нутраных умыслаў а языкоў усіх зналы.* Тм. 856. *Хто, чуўшы ад наўчоных, ня слухае, сваім умыслам, што хоча, то справуе, такі чалавек, як быдля.* Тм. 4461. *Учынак з умыслу шайтанскага.* Тм. 63
●**умывацца,**—*см. под мыцца.*
●**умысьля,** *нареч.*—умышленно, преднамеренно. Сакуны 87; Ар. *Хтоб умысьле да дня ґусул ня браў або умысьле ня посьнікаў, таковы чалавек увойдзе да пекла.* Кіт. 15б11, 12. *Курбан(араб., аброк) чынячы трэба глядзець, штоб... ні на яком шлонку не абранена. Акром таго... умысьле рэжуць альбо значаць, тое ня вадзіць.* Тм. 2664. *Калі б адзін чалавек умысьле нэмаз(араб. малітву) ня кланяўся, то такія людзі не тае уммэты(араб. вернікі).* Тм. 29а9.
●**умысьліць,**—*см. под мысьліць.*
●**умыць,**—*см. под мыць.*
●**умыцца,**—*см. под мыцца.*
●**у ногі**—бежать. *Тыя разбойнікі, бачачы, што будзе блага, з-за стала дый у ногі, пераз акно.* Н.(Афанасьев. IУ, 1914, 287).
●**уносіць,**—*см. под насіць.*
●**уносіцца,**—*см. под насіцца.*
●**уносьнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—носовой платок. Ксл. *Ён узяў уносьнік і выцер нос.* Лоўжа Сір. (Ксл.). *См. насатка, уносьніца.*
●**уносьніца**-*цы-цы, ж.*—носовой платок. Ксл. *Купілі ўносьніцу.* Дзямідавічы Чаш. (Ксл.). *См. насатка, уносьнік.*
●**унада**-*ды-дзе, ж.*—повадка. Гсл.
●**унадлівы**-*вая-вае*—повадливый. Гсл.
●**унадзіць,**—*см. под надзіць.*
●**унадзіўшыся, унадзіцца,**—*см. под надзіцца.*
●**унатрус,** *нареч.* **1.** тонко, тонким слоем (что-л. посыпать). *Ср. трусіць.*
**2.** *перен.*—скупо. *Беларус багацьце слоў к любові шчырай бярэ ня скупа, не ўнатрус.* Крушына: Эрот. іскрыпка.
●**унесьці,**—*см. под несьці.*
●**унесьціся,**—*см. под насіцца.*
●**уняць,**—*см. под імаць.*
●**уняцца,**—*см. под няцца.*
●**унікліва,** *нареч.*—вникательно. *Ты ж гаворыш, бярэць дзіва, так, на сьвеце ўсяго многа, як размысьліш унікліва.* С. Музыка 101. *І мурашак бярэць дзіва, прыпаўзьлі сюды маўкліва, пазіраюць унікліва.* Тм. 66.
●**уніклівы**-*вая-вае*—вникательный.
●**у ніты,** *нареч.*—узором на подобие диагонали. Ксл. *У Проські кулёк у ніты, ад таго й блішчыць, як срэбра або хваля тая.* Ліпна Сян. (Ксл.).
●**унук,** *унука, предл.-ку, зват. унуча, м.* —внук. Ар. *Ці ты божы ўнук?*—говорят тому, кто желает себе привилегий, льгот. Ар. *Уменьш.* **унучык**-*чка.* НК: Бабы, 2. *Уменьш* **унучыца**-*цы-цы, ж.* НК: Бабы, 2.
●**унурына**-*ны, общ.*—плакса (угрюмый-ая? С.) Ксл. *Хто яе ведае па кім яна ўрадзілася такая ўнурына?* Новікава Сян. (Ксл.).
●**унурысты**-*тая-тае*—..... *Можа й на яго, во гэткага ўнурыстага, чакае свая жонка.* Дудзіцкі(Бацькаўшчына, Но. 376-377).
●**унутры,** *нареч.*—внутри. МГсл.
●**уныпіць вочы**—уставиться, не сводя глаз неподвижно глядеть на кого, что-л. *Падыходзяць пад вокны шэрыя ваўкі, шчэраць зубы, уныпяць вочы свае агнявыя ў няшчасную хату.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, Но. 2, 1935, 99). *См. уталопіць.*
●**уподзіў,** *нареч.*—удивительно. МГсл.
●**упой,** *упою, м.*—запой. МГсл.
●**упокат,** *нареч.*—вповалку, рядом(лежать, спать). НК: Очерки, Но. 295; Ксл. *Усі паляглі спаць упокат.* Шчыпцы Беш. (Ксл.).
●**упол,** *нареч.*—под мышку. Ар.; НК: Игры, 29. *Будзем дужацца, дай мне(узяць) упол. — Бяры ўпол.* Ар.
●**у попрыску,** *нареч.*—сгоряча. Гсл.
●**упор**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—упрямство. Нсл. 663; Стт. 1529, сл. *Бяз упору ты нічога ня робіш.* Нсл. *Супроць упору можна знайсьці лек.* *Послов.* Тм. *На ўпор пайшло.* Тм. *Таковы за тую сваю праціўнасьць у савітую заруку ўпадаець, а ўрад тот а том упору азнайміць нам маець.* Стт. 227.
●**упора**-*ры, общ.*—упрямец-мица. Нсл. 662. *Хоць ты пячы як упору гэтага, не паслухае.* Нсл.

●**упорлівасьць**-*ці, ж.*—упрямство. Нсл. 662. *Упорлівасьць твая не прывядзець цябе да дабра.* Нсл.
●**упорлівы**-*вая-вае*—упрямый. Нсл. 663. *Упорлівы хлапец.* Нсл. *Упорлівая каза ваўку карысьць.* *Послов.* Тм.
●**упорнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—упрямец. Нсл. 663. *Біць трэба упорніка гэтага.* Нсл.

•**упорны**-*ная-нае*—упрямый. *Есьлібы ся паказала на праве, іж той пан чыніў вонаму справядлівасьць, але вон яе упорам сваім ня прыняў... і то яго ку суду прыцягнуў, тагды таго рубля плаціці не павінен будзець, але яшчэ тот упорны сам вонаму тот рубль заплаціці маець.* Стт. 227. *А мы гаспадар таковага ўпорнага і ўраду нашаму непаслушнога-(будзем) казаць вывалаць з панств нашых.* Стт. 227. *А есьлібы тот жа так упорны быў і таму пасланцу нашаму спрацівіўся і адправы ўчыніці не дапусьціў, таковага горлам караці кажам.* Тм. ТМ. 273. *Чы той лепшы, каторы пастыроў сваіх слухаець, ці такія, каторыя свавольныя, упорныя імамаў сваіх ня слухаюць.* Кіт. 6668. *Дзіўна рэч чалавеку аплошнаму, што ня прыйдзе да баязьні Божай із жалям сэрца яго, жэ ня кажа яго назваць чалавекам добрым, багабойным мусульманінам, але такі палічоны межы грубымі і упорнымі прастакамі.* Кіт. 67а4.

•**упорына**-*ны, общ.*—упрямец-мица. Ксл. *Такі ўпорына, ніяк не ўгаварыць.* Стралкі Беш. (Ксл.).

•**упорыста,** *нареч.*—настойчиво. *Гаталіся мы рупліва й упорыста.* Сіндрэвіч (Беларус, Но. 169). *Ён вельмі ўпорыста намагаўся заняць месца архіварыуса.* А. Цьвікевіч(Полымя, 1927 г., Но.8, стр. 107).

•**упорыстасьць**-*ці, ж.*—настойчивость. *Ср. упорысты, упірысты.*

•**упорысты,** -*тая-тае*—настойчивый. *Упорыстыя хвалі ветру злосна тузалі гальлё асілкаў дубоў.* Шакун: Сьлед, 19. *Характар жа гэтае "місіі"— упорыстае нішчэньне ўсяго, што стаіць на перашкодзе расейскаму імпэрыялізму.* Бацьк., Но. 349. *См. упірысты.*

•**употай,** *нареч.*—тайно. Іг. *См. патай.*

•**употайку,** *нареч.*—тайно. *Толькі ўпотайку, ня хоча пан, каб ведалі, што яна жывая.* ЗСД 113.

•**упоўзіны**-*наў*—новоселье. ПНЗ.

•**упагатове,** *нареч.*—вготовности. МГсл. *Ср. у гатові.*

•**упаасобку,** *нареч.*—в частности.

•**упа́д**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.*— упадок, Гсл. упадок, несчастье. Ксл. *Хай у цябе ўпад упадзець!* Даўгое Беш. (Ксл.). *На ўпад(даваць заклад, заставу)*—отдача вещи в залог под угрозою ее утраты в пользу кредитора в случае не выкупа в срок. *Есьліб хто каму заставіў рухомую рэч на рок, на ўпад тае рэчы, а калібы рок прышоў, а тот, хто заставіў, ня выкупіў, тагды тот хто закупіў, апаведаўшыся ўраду, можаць тыя рэчы абярнуць куды хочаць ку сваей патрэбе на вечнасьць.* Стт. 334. *Есьлібы хто каму заставіў іменьне пад страчаньням і на ўпад, тагды, есьлібы рок прышоў, а тот, хто заставіў іменьне, на тот рок ня мог выкупіць, тагды тот, хто закупіў, па вонам року пры том іменьню застаці маець вечне.* Стт. 331. *Уменьш.* **упа́дак**-*дку, предл. и зват.-дку*—урон, убыток, Нсл. 660. упадок, понижение. Шсл. *Бяз упадку ў гаспадарцы не абыйдзешся.* Нсл. *Сядні ўпадак, а заўтра заработак.* Тм. *Маем статак, мусіць мець і ўпадак. Послов.* Тм. *У тым доме ўпадак.* Хмяльнік Беш. (Ксл.). *Каб на цябе ўпадак!* Ст.

•**упадаба́ць,**—*см. под* *падабаць.*

•**упадак,**—*см. под* *упад.*

•**упа́даваньне,**—*см. под* *падаць.*

•**упа́даваць, упада́ць,**—*см. под* *падаць.*

•**упадзе́нь**-*дня̀, предл.-дню, зват. упа̀дню, м.*—болезнь, несчастье. *Каб у цябе упадзень уваліў!* Слабодка Беш. (Ксл.).

•**у пазы́ку,** *нареч.*—взаймы. Гсл.

•**упа́ласьць**-*ці, ж.*—банкротство.

•**упа́лы**-*лая-лае,* **1.** пришедший в упадок. **2.** обанкротившийся. *Лісты зялезныя маем даваці купцом і іншым людзём упалым.* Стт. 93.
**3.** *в знач. сущ.* **упалы**-*лага*—банкрот.

•**упа́лая**-*ае, в зн. сущ.*—женщина банкрот. *Ср. упалы 2.*

•**упара́дкаваць,**—*см. под* *парадкаваць.*

•**упара́дчыць,**—*см. под* *парадчыць.*

•**упара́дчыцца,**—*см. под* *парадчыцца.*

•**упару́,** *нареч.*—вовремя, (Гсл.) своевременно. *Зьезд аказаўся скліканым вельмі ўпару.* А. Луцкевіч: За 25 год., стр. 26. *Паспароміўся ты ўпару прыйсьці.* Нсл. 607( *под спароміцца*). *Дождж упару ўсё роўна, што золата. Послов.* Н.(Л. Б. 2056) —дорого яичко к красному дню. *Калі дачка ў пары, не дзяржы ў двары. Послов.* Рапан. 78.

•**упа́р-ыўшыся**-*ыцца,*—*см. под* *парыцца.*

•**у па́стух,** *в знач. нареч.*—в поле под надзор пастуха. Шсл. *Цялё прагналі ў пастух.* Ст.

•**упасьпе́ху,** *нареч.*—впопыхах. МГсл.

•**у пасьпешцы,**—сторопях. МГсл.

•**упа́сьв-ены**-*іць,*—*см. под* *пасьвіць.*

•**упа́сьвіцца,**—*см. под* *пасьвіцца.*

•**упа́сьці,**—*см. под* *падаць.*

•**упа́сьціць,**—*см. под* *пасьціць.*

•**упасьціцца,**—*см. под* *пасьціцца.*

•**упаважаньне**-*ня, ср.*—удостоение вниманием. Гсл.

•**упаўза́ць,**—*см. под* *поўзаць, паўзьці.*

•**упаўзьці́,**—*см. под* *поўзаць, паўзьці.*

•**упацець,**—*см. под* *пацець.*

•**упэўніць,**—*см. под* *пэўніць.*

•**упэцкаць,**—*см. под* *пэцкаць.*

•**упэцкацца,**—*см. под* *пэцкацца.*

•**упхаць,**—*см. под* *пхаць.*

•**упха́цца,**—*см. под* *пхацца I.*

•**упхну́ць,**—*см. под* *пхаць, піхаць.*

•**упхну́цца,**—*см. под* *пхацца, пхнуцца.*

•**упе́рад,** *нареч.* **1.** *с прошл. вр. глагола*—прежде. Ар.; Север(Раст. Северск 135).
**2.** *с буд. вр. глагола*—впредь. *Нявольнікі ўперад ня маюць быць зь іншых прычын, адно палоненікі.* Стт. XII, 21.

●**упе́рак,** *нареч.*—впоперек. Ксл. *Цяпераціцкі ўперак зьмерай загон.* Брыды Меж. (Ксл.).
●**у пералуч,** *нареч.*—наперерез. Смл.
●**упе́рці,**—*см. под* *перці.*
●**упе́рціся,**—*см. под* *перціся.*
●**упе́таваціца,**—*см. под* *петаваціца.*
●**упяршыню,** *нареч.*—впервые. *Ціж мне ўпяршыню?* ЗСД, 106. *І разам із тым упяршыню паўстала ў сваёй поўнай значнасьці пытаньне.* ЗСД, 257. *Ср.* *пяршыня.*
●**упя-ты-***ць,*—*см. под* *пяць.*
●**упяцца,**—*см. под* *пяцца.*
●**упіха́ць,**—*см. под* *пхаць, піхаць.*
●**упіха́цца,**—*см. под* *пхацца, піхацца.*
●**упіхн-ёны-***нуць,*—*см. под* *пхаць, піхаць.*
●**упіка́ць,**—*см. под* *пікаць.*
●**упі́кі-***каў,* *единств. ч. нет.*—упреки. Ар. *У сваіх лістох Бурбіс рабіў упікі.* З. Жылуновіч(Полымя, 1927, Но. 2, стр. 190). *Мяне ня трывожаць дужа твае ўпікі.* Дуб.(Калосьсе, Но. 20, стр. 149).
●**упіра́цца,**—*см. под* *перціся.*
●**упірлі́вы-***вая-вае*—упрямый. Смоленщ.
●**упі́рысты-***тая-тае*—настойчивый. Ксл. *Маладухі часта бываюць упірыстыя.* Гравы Сян. (Ксл.). *См.* *упорысты. Гукаючы з упірыстымі, неадчэпнымі думкамі, Гужэвіч і сам не зацеміў, як гэтыя думкі выказаліся ўголас.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 435-436). *См.* *упорысты.*
●**упі́с-***су, предл. и зват.-се, м.*—запись(в книгу, в список). *Акін.*
●**упі́с-аваць-***аць,*—*см. под* *пісаць.*
●**упі́с-авацца-***аціца,*—*см. под* *пісацца.*
●**упіва́цца, упі́цца,**—*см. под* *піцца.*
●**упі́ць,**—*см. под* *піць.*
●**уплёт-***та, предл. и зват.-це, м.*—лента, вплетаемая в косу женщины. Касьцюковіцкі р. Калінінскае акр.(Наш Край, 1928, Но. 6-7, 56- 57). *Пляту касу да пояса, пляту ўплёты шаўковыя, дзяцінацы маладому.* Лупекі Стдуб.(Косіч II). *У Марылі прыгожая ўплётка.* Сьвеча Беш. (Ксл.). *Русую косачку брат прадаў, ідзе ж ты ўплёткі падзяваў?* Из свад. песни, Косіч 241.
●**уплётка-***ткі-тцы, ж.*—лента для кос. Ксл.
●**упляя́міць, упля́міць,**—*см. под* *пляйміць.*
●**упляя́міцца, упля́міцца,.**—*см. под* *пляміцца.*
●**уплі́гаць,**—*см. под* *плігаць.*
●**уплі́ск-аваць-***аць,*—*см. под* *пліскаць.*
●**уплі́ск-авацца-***аціца,*—*см. под* *пліскацца.*
●**уплыненьне-***нуць,*—*см. под* *плынуць.*
●**уплы́нь,** *нареч.*—вплавь. Гсл.; Ксл.; МГсл. *Конь пусьціўся пераз возера ўплынь.* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Кінуўся ўплынь.* Нсл. 419.
●**упл-ы́сьці-***ываць,*—*см. под* *плысьці.*
●**уплы́ў-***ву, м.*—влияние. Гсл.
●**упнуцца,**—*см. под* *пяцца.*
●**упрочкі,** *нареч.*—прочь. Гсл.; Ар.; Ксл.; Шсл. *Ці ня хочаш ты мяне выправіць упрочкі, што ясіся кажны дзень?* Ст. *Пайду сядні ўпрочкі, ня дасьць ён мне жыць.* Прусаўкі Аз. (Ксл.). *Упрочкі зьбірайся, а жыта сей.* Аш.
●**упражка-***жкі-жцы, ж.*—рабочий срок, по длине не превышающий сил рабочей лошади на пашне(пути, **С.**) НК: Под. пос., Но. 23, промежуток рабочего времени, предельными гранями которого служат *"запрог і адпрог"* лошади, вола. *Такіх упражак тры:***а**) *ад сьвітаньня да сьнеданьня,* **б**) *просьле яго — да абеду і* **в**) *просьле палудня — да заходу сонца.* НК: Очерки, Но. 106.—промежуток времени (работа с лошадью в течении времени, когда один раз запрягается лошадь, **С.**) Ксл. *Ідзі парабі ўпражку.* Прусаўкі Аз. (Ксл.). *Большую ўпражку ж ты адбыла.* Вяжышча Беш. (Ксл.).
●**упрас-і́ць, упраша́ць,**—*см. под* *прасіць.*
●**упра́шаць,**—*см. под* *прашаць II.*
●**аправ-і́ць-***іцца,*—*см. под* *правіць.*
●**упра́ўнасьць-***ці, ж.*—успех в работе. Гсл.
●**упрацав-а́ўшыся-***аціца,*—*см. под* *працавацца.*
●**упрэгчы-***гў-жэш-жэм-жыце каго, соверш.*—запрячь. Ксл. *Надабе добра ўпрэгчы каня, бо дарога вялікая.* Іванова Лёз. (*Ксл.*). *Піліпка, даражэнькі, упражы ты мне гэтага крывалапага.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 437-438).
●**упругасьць-***ці, ж.*—упругость. МГсл.
●**упрыя́зьніцца,**—*см. под* *прыязьніцца.*
●**упры́дзіцца,**—*см. под* *прыдзіцца.*
●**упры́меж,** *нареч.* **1.** между. Нсл. 69. *Упрымеж людзёў.* Нсл. *Упрымеж дзьвярэй палца не шчамі.* Нсл.
**2.** в промежуток. Нсл. *Упрымеж таго часу й ён прышоў.* Нсл.
●**упры́цем,** *нареч.*—(когда было темновато, **С.**), пользуясь темнотою. Нсл. 69. *Упрыцем прыцікаўся.* Нсл.
●**упрыця́м,** *нареч.*—заметно. Нсл. 69, 517. *Ня ціха, а ўпрыцям узяў.* Нсл. *Ср.* *цяміць, прыцяміць. Ці ўпрыцям табе было, як ён вышаў?* Нсл. 517.
●**упу́д-***ду, м.*—испуг(от которого бегут, **С.**) Ксл. *Яму здарыўся ўпуд.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.).
●**упу́дзіцца-***джуся*—испугаться, Семча ля Почапа(Сержп.: Отчет, 4). сильно испугаться и потому убегать.
●**упу́дзіцца-***джуся*—взбеситься, ичпугаться. ПНЗ.
●**упусьці́ць,**—*см. под* *пусьціць.*
●**упушчэнства-***ва, ср.*—шкода празь нядбаласьць, упущение. МГсл.
●**упы́н-***ну, м.* **1.** спокойствие. Гсл. *Няма яму ўпыну.* Гсл.
**2.** остановка. Гсл.
●**упы́нак-***нку, м.*—остановка. Гсл.
●**уроблены,**—*см. под* *рабіць.*

•**урод**-*ду, зват.-дзе, м.*—урожай. Еўлічы. *Каб на новы год ды добры ўрод.* Еўлічы. *Дзе ўрод, там і ўмалот. Послов.* Рапан.: Прык. 36.

•**урода**-*ды-дзе, мн. ч., род.-даў,* **1.** природа. Гсл.; МГсл.

**2.** урожай. Гсл.

**3.** рост. Гсл.

**4.** стан. Гсл.

**5.** осанка. Гсл.

**6.** красота. Гсл.

•**уродлівы**-*вая-вае,* **1.**—урожайный. Еўлічы; Гсл. *См. урадлівы.*

**2.** красивый(дородный). Гсл.

•**уроднасьць**-*ці, ж.*—статность. Нсл. 664. *Конь уроднасьцю добры.* Нсл.

•**уродна,** *нареч.*—урожайно. Гсл.

•**уродны**-*ная-нае,* **1.** статный, высокий. Нсл. 664. *Уродны мужчына.* Нсл. *Уродная баба.* Тм.

**2.** урожайный.

•**уроіцца**—неотступно преследовать. Гсл. *Уроілася ў галаву.* Гсл.

•**урокі**-*каў, единств. ч. нет.*—дурной глаз, сглаз, Гсл.; НК: Очерки, Но. 238; Ар. вредное действие глаза. Гсл. *См. суроцы.*

•**уроськідзь,** *нареч.* **1.** редко. Ксл. *Убрусы ткаць дужа добра ў роськідзь, а тады прасаваць.* Сяло Сян. (Ксл.).

**2.** вразброс. Ад.

•**урочлівы**-*вая-вае,* **1.** имеющий дурной глаз, взглядом причиняющий несчастье. Гсл.

**2.** склонный быть оглаженным, пострадать от дурного глаза. Гсл.

•**урочыста,** *нареч.*—торжественно. Гсл.

•**урочысты**-*тая-тае,* **1.** нарочитый, годовой. Гсл.

**2.** торжественный. Гсл.

•**ураб-і́ць**-*ляны-ляць,—см. под рабіць.*

•**ураб-і́ўшыся**-*іцца,—см. под рабіцца.*

•**ура́д**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.* **1.** ведомство, учреждение.

**2.** должность(служба, место, С.) Гсл., должность в присутственном месте. Нсл. 665. *З ураду ськівулі.* Нсл. *Уставуем, іж на тыя ўрады, яка на судзтва, на падсудзтва, на пісарства, ня маюць быці абіраны духоўныя асобы.* Стт. 165. *Гэта вялікі ўрад у дэпартамэнцкай герархіі.* Леск. т. УІІ, 426. *Гэты "урадом" быў* "начальник отделения", — должность. *Хто бы яго ў урадзе забіў.* Ст. 1529, XI, 2.

**3.** управление, правительственное место. Нсл. 665. *З ураду прышоў ліст.* Нсл.

**4.** ( *с дополнением* »**гаспадарства**», МГсл.) —правительство. Гсл.; МГсл.; Нсл. 71. *Няхай урад нас рассудзіць.* Нсл.

**5.** порядок(управа, МГсл.; С.) Нсл. 665. *Бяз пана ўраду няма меж намі.* Нсл. *Бяз ураду няма чаго брацца за работу.* Тм. *У карчомцы быў асобны і свой собскі жыцьця лад, свой рахунак брудна-дробны, права, звычаі і ўрад.* С. Музыка, 132.

**6.** распоряжение. Нсл. 71, 665. *Ніякага ўраду ня даў.* Нсл. 71.

•**урадова,** *нареч.*—официально.

•**урадовы, урадоўны**-*ная-нае*—должностный, официальный. Стт. *Урадовым парадкам.* Нсл. 71. *Урадовы чалавек.* Нсл. 665. *Урадоўным парадкам адабраў свайго каня.* Тм. *Урадовая справа.* Нсл. 71.

•**урадоўне,** *нареч.*—официально. Стт. 1529, сл. *См. урадне.*

•**урадав-аць**-*ацца,—см. под радавацци.*

•**урадаўні́к**-*іка́, предл.-іку́, зват.-іча, м.* —исполняющий служебные обязанности, находящийся на службе. *Каму што на ком урадаўнік прысудзіў, тагды тот маець заплату чыніці перад віжам, з ураду ўземшы.* Із старога судовага акту(Борисенок: Списки, 97).

•**урадлі́вы**-*вая-вае,* **1.** урожайный. Ксл.; Шсл. *Урадлівы гадок быў.* Касачы Лёз. (Ксл.). *Урадлівы сяголета год.* Ст. *Нашая бульба ўрадлівая.* Ст. *Было поле выраблёнае, урадлівае.* Нязнаны("Бацькаўшчына", Но. 36-37(115-116).

**2.** красивый(статный, С.) Ксл. *Ну, дзеўка ўрадлівая, не дарма дзяцюкі бегаюць.* Бабінічы Віц. (Ксл.). *Вялікі ёй даў сына малайца, дачку ўрадлівую.* Гарун: Жабрачка.

•**ура́дне,** *нареч.*—официально. Стт. 1529, чл. *См. урадоўне.*

•**ура́днік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—должностное лицо, Стт. 1529, сл. 228; Скарына Ц. чиновник. *Пан урадніка дзяржыць.* Нсл. 71. *Ідзі да ўрадніка.* Нсл. 665.

•**ура́дніцкі**-*кая-кае*—чиновничий, бюрократический. *Урадніцкі конь.* Нсл. 71.

•**ура́дніцтва**-*ва, ср.*—чиновничество.

•**ура́-ены**-*еваць-іць,—см. под ра́іць.*

•**урадзі́ць І, ураджоны,**—*см. под радзіць І.*

•**урадзі́ць ІІ, ураджаны,**—*см. под радзіць ІІ.*

•**урадз-і́ўшыся**-*іцца,—см. под радзіцца.*

•**ура́дзтва**-*ва, ср.*—правительственная(не только прав, С.) должность. Нсл. 665. *Спраўніка з урадзтва далоў ськівулі.* Нсл.

•**ураджа́й,** -*джаю, предл.-а́ю, м. област.* —урожай. Косіч 83; Ксл. *Не ўважай на ўраджай, а жыта сей.* Алексінічы Сян. (Ксл.).

•**ураджэньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—род(происхождение, С.) Нсл. 664. *Ты не дабароднага ўраджэньня, можаш рабіць.* Нсл.

•**ураз І,** *нареч.*—вдруг, сразу. Гсл.—друг. Нсл. 70. *Ураз прыду.* Нсл.

•**ура́з ІІ**-*зу, предл.-зе, м.*—чувство оскорбения, Нсл. 664. оскорбление. Гсл. *Гавары спакойна, без усякага ўразу.* Нсл.

•**ура́зіць,**—*см. под разіць.*

•**ура́з-і́ўшыся**-*іцца,—см. под разіцца.*

•**ура́зны**-*ная-нае,* **1.** оскорбительный, обидный. Нсл. 664. *Уразныя словы гаворыш.* Нсл.

**2.** поразительный. Нсл. 664. *Уразная весьць.* Нсл.

●**уразвáлку: хадзіць, ісьці ў развалку** —ходить переваливаясь, переминаясь. Гсл. *Ідзець у развалку, як мядзьведзь.* Гсл.
●**у развальле,** *нареч.* **1.** во всю, полным ходом. Гсл. *Печка цепліцца у развальле.* Гсл.
**2.** *См. у развалку.* Гсл. *Ідзець у развальле, як мядзьведзь.* Гсл.
●**урáзька**-*кі, общ.*—лицо, склонное к быстрому раздражнению. Нсл. 664. *Які ты ўразька, слова не скажы яму, зараз уськіпіць.* Нсл.
●**урáзьлівы**-*вая-вае,* **1.** оскорбительный. *Ср. уразьліва.*
**2.** разительный, непрятный для слуха. Нсл. 664. *Уразьлівы крык, голас.* Нсл.
**3.** обидчивый. *Дужа ты ўразьліў; слова не скажы табе, зараз уськіпіш.* Нсл.
**4.** впечатлительный. *Дзень пачаў граць сваю драму і ўжо ўцягнуў у яе Корзюка, як чулага й уразьлівага актора.* Корзюк. *Нареч.* **урáзьліва, 1.** оскорбительно, обидно. Нсл. 663. *Уразьліва гаворыш імне.* Нсл.
**2.** разительно. Нсл. 664. *Уразьліва крычыць, як бы рэжуць яго.* Нсл.
●**ураж-оны**-*аны-áць*-**эньне,**—*см. под разіць.*
●**уражацца,**—*см. под разіцца.*
●**ураїцца,**—*см. под раіцца.*
●**урáніць I,**—*см. под раніць I.*
●**урáніць II,**—*см. под раніць II.*
●**урáніцца,**—*см. под раніцца I.*
●**урáньні,** *нареч.*—утром. Гсл. *Ураньні бабух — грошы лістаноша прынёс: дачка прыслала.* Юрсл.( *под бабух*). *Ураньні над лугам плывуць туманы.* А. Бачыла. *См. нараніцы, област. Заўтра ўраньні стану(да Вас).* Дзьве Душы.
●**урастáць, урасьці,**—*см. под расьці.*
●**урас-їць**-*іцца,—см. под расіць.*
●**урасьцїць,**—*см. под расьціць.*
●**урашчáць,**—*см. под расьціць.*
●**уратав-áньне**-*áны-áць,—см. под ратаваць.*
●**уратав-áўшыся**-*áцца,—см. под ратавацца.*
●**ураўне,** *нареч.—наравне.* МГсл.
●**урачатавáць**-*тую*—окончательно уладить, приготовить, организовать. Глыбоччына; Бярэзіншчына(ля р. Бярэзіны, прытоку Дняпра). *Мы можам гэта вам урачатаваць.* Глыбоччына.
**урачатавáньне,** -*ня*—окончательное улажение дела. Тм.; Юхн.
●**урачы́,** -*кý-чэш-чэць-чэм-чыцè*—сглазить. Ар.; Ксл.; МГсл. *Уараклі нашага Іванку, вось ён і гіне.* Шарыпіна Беш. (Ксл.).
●**урачыстасьць**-*ці, ж.*—торжество. *І саступае перад дзядзькам кажны, ўрачыстасьцю крануты спакваля.* Лойка: Л. Песьня.
●**урэдку,** *нареч.*—изредка. Нсл. 71. *Урэдку бываеш у нас.* Нсл.
●**урэдкую,** *нареч.*—изредка. Нсл. 71. *Урэдкую бываеш у нас.* Нсл.
●**урэдзь а ўрэдзь,** *нареч.*—очень редко. Нсл. 71. *Урэдзь а ўрэдзь ходзе да царквы.* Нсл.
●**урэзак**-*зку, предл. и зват.-зку, м.*—сверток полотна трубкой. Ксл. *Я выткала пяць урэзкаў.* Пожынкі Сян. (Ксл.).
●**урэзаць,**—*см. под рэзаць.*
●**урэць**-*эю-эеш-эе*—сильно потеть. Сеўск (Преобр. 66); Гсл. *Соверш.* **аўрэць**—облиться потом,(Дсл.) истомиться. Нсл. 357. *Сусім аўрэў.* Дсл. *Аўрэў сусім, ісьці ня можна.* Нсл. *Соверш.* **уваўрэць, ваўрэць,** *област.* —сильно вспотеть, облиться потом. Гсл.
●**урвас** — *вырвас.* Гсл.
●**успол**-*лу, м.*—река ниже плотины. Ксл. *На ўсполе шчупакі б'юць васьцьмі.* Пятніцкая Беш. (Ксл.).
●**успол**-*лу, м.* — *іспол.* НК: Очерки, 544.
●**успомнець,**—*см. под помнець.*
●**успомнецца,**—*см. под помнецца.*
●**успаможнасьць,** -*ці, ж.*—благотворительность. Гсл.
●**успамаг-áць**-*áцца-чы́-чы́ся,—см. под памагаць.*
●**успамажэньне**-*ня, ср.*—вспомоществование. МГсл.
●**успамі́н**-*ну, предл. и зват.-не, м.*—вспоминание. Гсл.; Ксл., воспоминание. Ксл.; МГсл. *На ўспамін ёй пярсьцёнкі даваў.* Яноўшчына Беш. (Ксл.). *На ўспамін дала кветку.* Крушына: Творы, 21.
●**успамінаць,**—*см. под помнець.*
●**успароць,**—*см. под пароць.*
●**успаўзáць,**—*см. под поўзаць, паўзьці.*
●**успаўзьцї,**—*см. под поўзаць, паўзьці.*
●**успраўіць,**—*см. под правіць.*
●**успрýг**-*ýгу, предл.-ýзе, м.*—напряжение. Кавыль. *Зьнішчальны ўспруг разбойнага агната.* Кавыль: Думы, 35.
●**уссопак**-*пку, м.*—небольшой курган. *На тым уссопку сядзелі.* Казяны Сір. (Ксл.).
●**Ушэсьце**-*ця, ср.*—Вознесение Господне. МГсл.; Ар.
●**устоечку,** *нареч.*—в стоячем положении. НК: Очерки, Но. 112.
●**устойнасьць**-*ці, ж.*—устойчивость. *Калі ня маеш цярплівасьці, то й не бярыся за дзела, бо яго ня зможаш, а другі зьбезахвоціцца да гэтае справы, зьняверыўшыся ў сваю ўстойнасьць.* (Рэч.: Пет. II, 264). *Іншыя, бачыўшы, што Піліпава гаспадарка расьцець, сталі рабіць тое самае, але ніводзін не паказаў такое ўстойнасьці.* Тм. 265.
●**установа**-*вы-ве, ж.* **1.** учреждение, институция. Гсл.
**2.** постановление, устав. Гсл.
●**установы**—установления, учреждения. Гсл.
●**устаноўнік**-*іка, м.*—учредитель, основатель. Гсл.
●**устаноўчы,** -*чая-чае*—учредительный. Гсл.
●**устаноўчы сойм**—учредительное собрание. Гсл.
●**у старыну**—встарину, встарь. МГсл.

•**устáва**-*вы, ж.*—закон. МГсл. *З паручэньня гаспадара, караля Яго міласьці Жыгімонта, князь біскуп віленскій і панове рада, вайводы, княжата на том сойме нынешнем(1507 г.) тую ўставу ўставілі.* Пресняков: Лекц. по рус. истт., М. 1939, 182. *Адпушчаючы гатмана(1507)... Станіслава Пятровіча з войскам нашым, з паны-радамі нашымі ўставілі ясьмо такую ўставу, каторую бы ся меў пан гатман, князі і паны за ўсім рыцарствам і шляхтаю справаваці.* Пресняков: Лекц. по рус. ист. II, I, М. 1939, 185.

•**устáва**-*вы-ве, ж.*—устав. Карскі II-3, 23.

•**уставáць,** *несоверш.*—вставать. Ар.; Нсл. 666. *Госьці ўстаюць ад столу.* Нсл. *Пара ўставаць.* Тм. *Соверш.* **устáць,** *устáну-нешне*—встать. Нсл. 666; Ар. *Устаньце, дзеці, перад татулям.* Нсл.

**паўставáць, 1.** встать(многим, Нсл. 430). *Усі паўставалі, а ты сьпіш яшчэ.* Нсл.

**2.** *несоверш.*—возникать. МГсл.

**3.** *несоверш.*—зарождаться. МГсл.

**4.** *несоверш.*—восставать, возмущаться против кого-л.(о многих). Нсл. 430. *Што я вам такое зрабіў, што вы ўсі паўставаеце, паўсталі супроці мяне аднаго?* Нсл.

**5.** *несоверш.*—восставать, поднимать восстание. Гсл.

**6.** *несоверш.*—находить, наставать быстро (о погоде). Нсл. 430. *Вецер паўставае, паўстаець.* Нсл.

**паўстáць,** *соверш.* **1.** встать (многим). *Людзі із сваімі імамамі паўстануць і да раю пойдуць.* Кіт. 24а44. *На судны дзень із кафірамі(араб., няверными) паўстане.* Тм. 34б8.

**2.** *соверш. к паўставаць 5*—восстать, (Гсл.) поднять восстание. *Перад судным днём дэджджал(араб., нячысьцік) паўстане на мусульман.* Кіт. 95б15.

**4.** *соверш. к паўставаць 6*—настать быстро (о погоде). Нсл. 430. *Бура паўстала.* Нсл.

•**уст-авіць**-*аўляць,—см. под ставіць.*

•**уставічны**—постоянный. *Накольні былі багаты і што маглі даваць валасной люднасьці ловы "уставічныя" зьвярыныя, як вялікага тк і малога зьверу - тэж кунічныя і іныя ўсякія, пташыя й рыбныя, можна бачыць з наступных даных. Зьм. Даўгяла: Сьвіслацкая воласьць у 1560 г.(Наш Край, 1927, сьнежань, 30).*

•**уставічне,**—постоянно. (*Цяглыя людзі*) *павінны службу ўставічне служыці.* Ст. акты. *Усі падданы нашы, каторыі суць павіньні службу ўставічне служыці, то есьць людзі цяглыі.* Тм.

•**устáўня,** *нареч.*—постоянно. Міх. *Калі гэта было, што я заспаў? — А ўстаўня.* Міх.

•**устáць,**—*см. под стаяць.*

•**устрой**-*ою, м.*—устройство. Гсл.

•**устраміць**—вонзить. Гсл.

•**устравáць**—встрявать, впутываться. Гсл.

•**устрывáць**-*дàю-дàеш-дàе*—лезть всюду, принимать во всем участие. Ксл. *Так яму й надабе: няхай ня ўстрывае ўсюды.* Навікі Віц. (Ксл.).

•**устрывáць,**—*см. под трываць.*

•**устýп**-*пу, предл. и зват.*—*пе, м.*—вступление. МГсл.; Гсл.

•**уступаваці ў права**—судиться. *Тут ім у права ня ўступуючы, бяруся да караліцы яе міласьці.* Гордз. Ак. ХУІІ, І.

•**уступáцца**—заступаться. МГсл.

•**устýпец**-*пца, предл.-пцу, зват.-пча, м.* —лестничная и крыльцовая ступенька. НК: Очерки, Но. 355.

•**устýпец**-*пца*—ступенька. Ксл. *Кінь ты лазіць па гэтых уступцах у гэты касьцёл.* Крынкі Выс. (Ксл.).

•**уступіць,**—*см. под ступаць.*

•**уступны**-*ная-ное*—вступительный. Гсл.

•**устýркаць,**—*см. под туркаць II.*

•**устынка**-*нкі-нцы, ж.*—стынка. НК: Очерки, 493.

•**усухý,** *нареч.*—в сухом месте, не под дождем, снегом. Лепле; Ар. *Валей рабіць усухў.* Ар.

•**усьцуг** — *усьцюг.* НК: Очерки, 489.

•**уськідáць,**—*см. под кідаць.*

•**уськінуць,**—*см. под кідаць.*

•**усьміхнýцца,**—*см. под сьміяцца.*

•**усьпéрці,**—*см. под перці.*

•**усьпéрціся,**—*см. под* перціся.

•**усьп-éць**-*явàць,—см. под сьпець III.*

•**усьпірáць,**—*см. под перці.*

•**усьпірацца,**—*см. под перціся.*

•**усьсéсьці, усьсядаць,**—*см. под сесьці.*

•**усьсéч,**—*см. под сячы.*

•**усьвядоміць**—сделать сознательным, пробщить к идее. Гсл.

•**усьвяціццца,**—*см. под сьвяціць.*

•**ýсьвіца**-*цы-цы, ж.*—гладышка, Сакуны, 16. небольшой кувшин без ручки.

•**усьцерагчы,**—*см. под сьцерагчы.*

•**усьцяж,** *нареч.* **1.** вдоль. Ксл.; МГсл.; Гсл. *Усьцяж дарогі лес.* Падбярэзьзе Віц. (Ксл.).

**2.** цугом. Ксл.; НК: Игры, Но. 7. *Коні былі запрэжаны ўсьцяж.* Селяддова Беш. (Ксл.).

**3.** сплоть(без перерыва, на всем протяжении, С.) Ксл. *Усьцяж лесам паедзем.* Карма Куз. (Ксл.).

•**усьціхамір-аны**-*ыць,—см. под ціхамірыць.*

•**усьціна**-*ны-не, ж.*—.... *Быў у Гданску, у Каралеўцу плаваў на усьціне.* ЧЧ.: Песьні, 79.

•**усьцівы**-*вая-вае,* **1.** почтённый. *У Пана Бога ўсьцівая й харошая рэч розум.* Кіт. 136а13.

**2.** почтительный. *Гэты хлопец усьцівы: ён нікому навет благога слова ня скажа.* Варсл.

•**усьцівасьць**-*ці, ж.*—почтительность. *І Джабраілу, што табе цяпер усьцівасьц чыняць, а мне перад тым лепшую ўсьцівасьць чынілі й ляпей за цябе важылі мяне.* Кіт. 62а2.

•**усьціць,**—*см. под сьціць.*

•**усыпаць**—усеять. Гсл. *Усыпалася зоркамі неба.* Гсл.
•**усю́дах,** *нареч.*—везде, повсюду. Ксл. *Ты ўсюдах пападзеш.* Селядцова Беш. (Ксл.). *Усюдах абшарылі, але не знайшлі.* Пяцігорск Беш. (Ксл.). *См. усюдавах, усюдых, усюды.*
•**усю́давах,** *нареч.*—повсюду, везде. Ксл. *Усюдавах цябе досіць.* Кузьміно Сян. (Ксл.). *См. усюдах, усюдых, усюды.*
•**усю́ды,** *нареч.*—везде, всюду, повсюду. Ар.
•**усю́дых,** *нареч.*—везде, всюду. Нсл. 668; МГсл.; Троська(Асьвета, 1926, Но. 7, стр. 186); Сакуны 8, 92. *Птушша ўсюдых поўна.* Сакуны. *Усюдых цябе поўна.* Нсл. *Усюдых добра, дзе нас няма.* Нсл. *Нахадзіліся ж гэтыя ножачкі ўсюдых.* Шэйн: М. I, II, 679, Но.6. *Дарма што малое, а ўсюдых яно тдбе далезе.* Ст. (Шсл.), *Набрала ўсюдых, дзе крамы.* Віцебшч.(Наш Край, 1929, Но. 8-9, 70). *Ты ўсюдых зьневажаеш мяне.* Нсл. 215( *под зьневажаць*). *Жыгаець усюдых, як маланка тая.* Нсл. 288. *Як мітульга лётаець усюдых.* Нсл. 285( *под мітульга*). *Усюдых завёўся бруд.* Ст. *Куды ні глянь, усюдых бязладзіца.* Нсл.( *под бязладзіца*). *Мы ўсюдых перашуку рабілі, як няма, дак няма.* Нсл. 412( *под перашука*). *І думае: толькі й гутаркі аб беларушчыне, усюдых, заўсёды.* Дзьве Душы, 111.
•**ушалопаць**-*аю-аеш-ае, соверш., перех., оскорбительно* **1.** уразуметь. Шсл. *Добра ты не ўшалопаў ды кажаш потым няма ведама што.* Ст.
**2.** взять что на ум. Шсл. *Дурань што ўшалопае ды ляпае.* Ст.
•**ушалопацца**—опознаться. Шсл. *Ушалопаўся ў чужую каніну, узяў яе ды вядзе.* Ст.
•**ушанава́ць,**—*см. под шанаваць.*
•**Ушэсьце**—Вознесение. Гсл.
•**ушчоліць: я духам ушчоліў** — вострял. Халопенічы, Бегамля(Юхнавец)—вспрянуть. Прынятыя Полацка-Барысаўскія словы.
•**ушчалопак**-*пку,* **1.** небольшой бугор. *На гэтых ушчалопках кепска парасло жыта.*
**2.** пространство, входящее клином в другие пространства. Барс., Лепле (Юхн.). *Ушчалопак гароху пасеяў.* Тм.
•**ушчамі́цца**-*іць,*—*см. под шчаміць.*
•**ушчапі́ць,**—*см. под чапаць.*
•**ушчарэпіцца**-*плюся-пішся*—.... *Нашыя паганскія багі не захацелі самахоць здавацца, ушчарэпіліся за свае боскія пасады і пастанавілі прыняць бой.* ЗСД 132.
•**ушчэмлены,**—*см. под шчаміць.*
•**ушчэпнічак**-*чка, м.*—руки, сложенные вместе. Ксл. *Матка прышла к дачцэ з ушчэпнічкам.* Запрудзьдзе Сян. (Ксл.).
•**ушчэрбак**-*бку, м.*—ущерб. Гсл.
•**ушчу́хнуць,**—*см. под чухаць.*
•**ушчу́н-евацца**-*іцца,*—*см. под шчуняць.*
•**ушчука́ць,** -*аю-аеш-ае*—перестать(о дожде), Растсл. переставать.
•**ускла́сьці,**—*см. под класьці.*
•**усклі́каньне**-*ня, ср.*—восклицание. МГсл.
•**ускльі́ч-аны**-*ыць,*—*см. под клычыць.*
•**ускльі́чыцца,**—*см. под клычыцца.*
•**ускрабну́ць,**—*см. под скрабаць.*
•**ушчу́к**—перестал(дождь). ПНЗ.
•**ушчу́н-ены**-*еваць-іць,*—*см. под шчуняць.*
•**ушчува́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш.* — *шчуняць. Ня сьміяўся дзед з Сымонкі, ня ўшчуваў яго ні-ні.* С. Музыка I. *Як іх толькі ня ўшчуваюць: вараць іх чарты ў катлох, скуру кіпцямі зьдзіраюць.* С. Музыка 80.
•**ушчыкну́ць,**—*см. под шчыкаць.*
•**ушчыіп**—щипок. Гсл.
•**ушчырк,** *нареч.* **1.** ровно с краями. Нсл. 73. *Мераць ушчырк.* Нсл.
**2.** под меру. Нсл. 73. *Жаўнеры ўшчырк стаяць, адзін пад адзін.* Нсл.
•**ушчыркну́ць,**—*см. под чыркаць.*
•**ушыркі́,** *нареч.*—вширину, шириною. МГсл.; Ар.; Шсл.; Рыбчына Сір. (Ксл.). *Палатно ўшыркі будзе локці два.* Ст.
•**уто, утож,** *нареч., област.*—очень, вот. Ар. *Уто я гэтыя малыя цяляткі люблю.* Ар. *Утож добра!* Тм.
•**утойм**-*му, предл.*-*ме, м.*—успокоение. *Няма ўтойму узбуджанай крыві.* Кавыль: Думы, 4.
•**уток,** *утку, предл. утку, зват. вутча, м.*—уток, поперечные нитки в полотне. Ар.; Шсл.; Ксл. *Ня стала ўтку даткаць кросны.* Лятоўшчына Куз. (Ксл.). *Нітак стала толькі на адзін уток.* Ст.
•**утока**-*окі-оццы, ж.*—устье реки. Жучк.: Топонимика, 14; Варс. *Ср. затока, прытока.*
•**уторы**-*раў, мн. ч.* **1.** выемка, желобок в клепках бочки (и т.п., С.) для того, чтобы вставить дно. Гсл. *За ўторы падняў бочку.* Багушэвіч.
**2.** нижний венчик(глиняной, С.) посудине, края у дна. Горадна(Полесье 192).
•**утоўпіцца,**—*см. под тоўпіцца.*
•**утоўшкі,** *нареч.*—в толщину. Растсл.
•**уточка**-*чкі-чцы, ж.*—цевка с навитою на нее ниткою, т.е. готовая для помещения в челнок. НК: Очерки, Но. 363.
•**утайку,** *нареч.*—тайком. Нсл. 75; МГсл.
•**утаймя,** *нареч.*—тайком. Цс. Бароўскае Ельн. у.(Раст.: Смоленск 140).
•**уталопіцца**-*плюся*—уставиться, впериь взор на кого-либо или на что-либо. Войш.; Ар. *Чаго ты ўталопіўся?* Войш. *Ну, чаго ты ўталопіўся і глядзіш? Прыбег пытаюся?* Корзюк. *См. утаропіцца. Круглыя дзяціныя вочачкі ўталопяцца на вас.* Гарэцкі: Песьні, 17.
•**утаропіцца,** -*плюся-пішся*—возриться, Гсл. уставиться не сводя глаз, неподвижно смотреть на кого-л., что-л. Ар. *Рыжанькі зьвярок на суку ў гары сядзіць, утаропіўся, глядзіць.* Гэлевіч: Здарэньне ў варэхах. *Ну, куды ты ўтаропіўся?* С. Музыка, 8. *У яго*

*ачох жывых думка нейкая бліскала, утаропіцца. глядзіць.* Тм. 11. *Дзед у хлопца ўтаропіўся.* Тм. 195. *Васіль утаропіўся на Юлю, уражаны яе прыгажосьцяй.* Макаёнак: Каб людзі ня журыліся. *"Няўжо так і спала на печы?"(у кажусе) — утаропіўся Мароз на яе.* Вышынскі: Хата пад ліпою(Беларус, Но. 155). *См. уталопіцца. Усе хлопцы адразу утаропіліся на цябе.* Макаёнак: Каб людзі...

**•утарэпіцца**-*плюся*—вперить взор. Шсл. — *утаропіцца, уталопіцца. Чаго ты ўтарэпіўся, ці ты ня бачыў?* Ст. *См. утаропіцца.*

**•утаропіцца**—оторопеть. Гсл.

**•утамава́ць,**—*см. под тамаваць.*

**•утач-ы́ць**-*ы̀цца,—см. под тачыць.*

**•утрох,** *нареч.*—втроем(при 3-х сущ. мужск. р., С.) МГсл.; Ар.; Ксл. *Яны й пашлі ўтрох на паляваньне.* Пск., Пушк.(Ч. 318). *Утрох мы борзда зрабілі.* Глебаўск Сян. (Ксл.).

**•у тробу,** *нареч.*—в замешательстве, сгоряча, в суматохе. Гсл.

**•утра́я,** *нареч.*—втрое. Ар. *Дзень мінаў — разбою хвалі большалі ўтрая.* Салавей: Сіла, 22.

**•утраіх**—втроем(кажучы праз дзеці або калі роды розныя, С.) Ар.; Н.(Афанасьев, II, 1914, стр. 41.); МГсл.

**•утрапеньне**-*ня, ср.*—оторопь. МГсл.

**•утра́та**-*ты, ж.* **1.** потеря, Шсл. потеря, утрата. Ксл. *Нам гэта вялікая ўтрата.* Селядцова Беш. (Ксл.). *Вялікая ўтрата мне была з гэтаю купляю.* Ст.

**2.** убыток. Гсл.

**3.** расходы. Гсл.

**•утраве́ць,**—*см. под травець.*

**•утраціць,**—*см. под траціць.*

**•утрыва́ць,**—*см. под трываць.*

**•утвора**-*ры, дат., предл.-ры, ж.*—затор (хлеба и т.п.). НК: Очерки, 39, 40, Но. 75. *См. учына.*

**•утвора**-*ры-ры, ж.*—(смесь предназначенная ля брожения при приготовлении теста, кваса, водки, С.), затор(хлеба и т.п.). НК: Очерки, 39, 40, Но. 75. *См. учына.*

**•утварыць**—создать, образовать. Гсл.

**•утуп-іць**-*іцца,—см. под тупіць.*

**•уты́рк-аваць,** *-аны-аць-ну́ць,—см. под тыркаць.*

**•увоз**-*зу*—ввоз. МГсл.

**•увой**-*ою, предл. и зват.-ою, м.*—веревка, которой подплетают лапти. Ксл. *Прынясі імне ўвой, падплесьці лапці.* Дарожкава Сір. (Ксл.).

**•увонках,** *нареч.*—находиться вне избы, уйдя во избежание неприятности или по хозяйственной нужде. НК: Сбяги, 12. *См. вонкі.*

**•увосень,** *нареч.*—осенью. Ар.; Баркова Куз. (Ксл.); Шсл.; МГсл.; Дсл.( *под осень*). *Увосень той плача, хто вясною скача.* *Послов.* Дукора Сьміл. (Шсл.). *Увосень і верабей багаты.* *Послов.* Рапан. 49.

**•увоччу,** *нареч.*—в глазах. Нсл. 649. *Увоччу ўжэць, крадзець.* Нсл.

**•увабражаць**—воображать. МГсл.

**•увабражэньне**-*ня, ср.*—воображение. МГсл.

**•ува́га**-*а́гі-а́зе, ж.*—внимание. Гсл.; Ар.; Ксл. *Няма ў яго ніякае ўвагі — вецер ветрам.* Слабодка Куз. (Ксл.).

**узяць на ўвагу**—принять во внимание. Гсл.

**•уваходлівы**-*вая-вае*—взыскательный за свое(имущество, честь). Ар.

**•уваходзіць**-*джу-дзіш-дзе, несоверш. за што*—быть "уваходлівым", взыскательным за свое. Ар. *Ён за сваё дужа ўваходзіць.* Ар.

**•у вахвоту,**—*см. под ахвота.*

**•увадкот,** *нареч.*—с избытком. *Уперад часу не ставала з-за працы, цяпер было яго ўвадкот.* Нязнаны(Бацьк., Но. 36-37/115-116).

**•увадзіцца**—получать(женщине) очистительную молитву для входа в церковь после родов. Гсл.

**•увазярэдзіць,**—*см. под азярэдзіць.*

**•уважаньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—усмотрение.

**подле уважаньня**—по усмотрению. *А каторым бы рэчам цана ў Статуце ня была апісана, тагды возны із шляхтаю подле ўважаньня свайго шацунак і адправу на тых рэчах чыніці маюць.* Стт. 277.

**•уважа́ць**-*дю-деш-де; повел.-ай-айма, несоверш. на каго-на што,* **1.** обращать внимание. Нсл. 45, 648; Ар.; Шсл.; Ксл.; Гсл. *Не ўважай ты на мяне, што я раблю.* Ст. *Не ўважай ты на яе брахню!* Гараватка Меж. (Ксл.). *На ўраджай не ўважай, а жыта сей.* *Послов.* Ар. *Уважай на тое, што чытаюць.* Нсл. 45. *Ці ўважаеш, бацька, што сынок твой кажа?* Нсл. 45. *Ён і на што не ўважае.* Нсл. 648.

**2.** принимать в соображение. Гсл. *Соверш.* **ува́жыць**-*жу-жыш-жа, на каго, на што*—обратить внимание, Нсл. 45. уступить, оказать снисхождение. Шсл. *Ня ўважыў на маю працу.* Нсл. 45. *Уваж на маю старасьць.* Нсл. 648. *Трэба чалавеку ўважыць: ён не вінават.* Ст.

**3.** считать. *Не ўважай падупалага за ўпалага, а хату яго за баўдыр.* *Послов.* Лепле.

**•ува́жлівасьць**-*ці, ж.*—внимательность. Нсл. 648. *Уважлівасьць ня шкодзе.* Нсл.

**•ува́жлівы**-*вая-вае*—внимательный. Нсл. 648. *Будзь уважлівы да таго, што старыя кажуць.* Нсл. *Нареч.* **ува́жліва**—внимательно. *Уважліва ў возера зірні.* Клішэвіч ("Веда", 1951, ст. "Возера").

**•ува́жнасьць**—внимательность. Гсл.

**•ува́жны**-*ная-нае*—внимательный. Ар.; Ксл.; Нсл. 648; Гсл. *Уважны не паблудзіць.* Нсл. *Нареч.* **ува́жна**—внимательно. Ар.; Ксл.; Нсл. 648. *Глядзі ўважна, каб не прапусь-*

*ціць.* Доўжа Куз. (Ксл.). *Уважна рабі, чытай.* Нсл. *Ласкат.* **ува́жненька.** Нсл. 648. *Пакланіся пану ўважненька.* Нсл. *Слухай уважненька, што татулька гавора.* Нсл.

•**уважыць,**—*см. под уважаць.*

•**увалока**—земельная мера(от 12 до 30 десятин, в зависимости от качества земли, **С.**) Гсл., площадь земли(около 20 десятин). Ксл. *У яго дзьве ўвалокі зямлі.* Копцевічы Чаш. (Ксл.).

•**увамну́ць,**—*см. под мяць.*

•**увасабля́ць**-*яю-яеш-яе; повел.-яй-яйма, несоверш., перех.*—олицетворять. Гсл. *Отгл. имя сущ.* **увасабленьне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў*—олицетворение. Гсл.; ЗСД 146, 212.

•**увата́віць,**—*см. под атавіць.*

•**уваву́ліць**-*лю-ліш-ле, повел.-ль-льма, соверш.*—много за одним разом влить, всыпать. Ар.

•**уваўрэлы**-*лая-лае*—сильно вспотевший, облившийся потом. *Станіслаў (усьмяглы) уваўрэлы, але здаволіўшыся, варочаў у руццэ абгарэлы цыліндар (каб засіліць вады).* Рамановіч (Конадні, Но. 2, 16). *Ср. ваўрэць.*

•**уваўрэць,**—*см. под урэць.*

•**увачавідкі,** *нареч.* **1.** в глаза. Міх. *Ён увачавідкі маніць, а ты маўчы й спускай яму.* Міх.

**2.** на виду. Ксл. *Гэна мне зрабілася ўвачавідкі.* Гуліна Сян. (Ксл.). *Піпка ўвачавідкі дзесь зьгінула.* Демид.: Веров. 110.

•**увачч́у,** *нареч.* **1.**—в глазах, перед глазами(одного человека, **С.**) Шсл.; Гсл. *Вось так уваччу ён і стаіць.* Ст. *Уваччу палаў зялёны круг.* Пысін(Б. Голас, Но. 70). *Аж стала зелена ўваччу.* Гсл.

**2.** на глазах, на виду, Ксл. в глаза. *Тут жа ўваччу маніць.* Хацімшчына Куз. (Ксл.).

•**уве́д**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.*—испытание(? **С.**). Смоленщ.

•**уве́лькі,** *нареч.*—величиною. Імсьц.; Гсл. *Сабака ўвелькі з ваўка.* Імсьц.

•**увесял-я́ць-іць,**—*см. под весяліць.*

•**увесну,** *нареч.*—весной. *Увесну, як прыедзем к нам, я першы абыйму цябе.* Пушча(Калосьсе, Но. 18, 1939, стр. 19).

•**уве́сь, уся, усе**( *област.* **усё**), *мн. ч.* **усі**( *област.* **усе**), *местоим.*—весь. МГсл.; Ар. *Усе сырое мяса.* Н. (Демид.: Веров, 1896, II, 144). *Усяе было гэта яго малітвы.* Мікольск М.(Демид.: Веров. 105). *Паб'еш усе непрыяцельскае войска.* Н.(Афанасьев I, 1913, 211). *Будзьце здаровенькі усі.* НК: Піт., 77.

•**усенька, усенькі,**—*см. под увесь.*

•**усё чыста,** *мн. ч.* **усе́ чыста,** ( *уменьш., ласкат.* **чысьценька,** *увелич.* **чысьцюсенька**)—совершенно всё, абсолютно всё, все, все поголовно. Ар.; Ксл. *Бабаедаўскія шляхты пайшлі да касьцёла ўсе чысьценька ў брылёх.* Пацкава Сян. (Ксл.). *За тры дні ўсё чыста заваліў.* Ржэўскі п.(Афанасьев: Нар. рус. казки, I, 1897, 182). *Усё чыста (град) павымалаціў.* Севр(Раст.: Северск 157). *Будуць на яго ўсе чыста злаваць.* ЗСД 94.

•**уве́сь( уся, усё, усе) чы́ста**—совершенно весь. Ар.; Север(РСБ. 157). *Усё чыста павымалаціў.* Север(РСБ, 157). *Мы заўём вяночкі дый на ўсі сьвяточкі, дый на ўсі сьвятыя.* Севершч.(Косіч 13). *Усе чысьцюсенька пагніе.* Севершч.(Косіч 38).

•**уве́тласьць**-*ці, ж*—вежливость. *Ня дзівяцца із супакою нашага і дараванай адно ім уветласьці.* Узгоркі.

•**уве́тлы**-*лая-лае*—приветливый, вежливый. НК: Старцы, Но. 16.

•**уве́чары,** *нареч.*—вечером. Ксл.; Гсл. *Увечары забіў казу, наклаў цяпла, адрэзаў сьцягно, сьпёк і стаў есьці.* Дзяніскавічы(НЗ, Шэйн, II, 161). *Увечары вылі ваўкі, а ня ночы.* Кузьміно Сян. (Ксл.). *Глянуў увечары на ягнё.* Севершч.(Косіч 15). *Уменьш.* **увечарочку.** *Увечары, увечарочку гнала дзевачка каровы.* Барадзінка Імгл.(Косіч 29).

•**увяза́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—введение во владение. *Увязаньне ў вонае йменьне за рэч асуджаную паступіці.* Стт. 274. *Увязаньня табе жаднага не паступую.* Квятк. 150. *Урад наш судовы за суму пенязяй прысуджоную маець увязаньне даваці шацункам: за кажную дваццаць коп грошай — у службу або валоку людзьмі аселых.* Стт. 276. *Пак ліж бы і таковых грунтоў на ўвязаньне за суму прысуджоную не ставала, тагды і ў засеяньне... увязаньне давана быці маець.* Тм.

•**увя́заваць**-*зую-зуеш, несоверш.*—вводить во владение. *Соверш.* **увяза́ць,** *увяжу́-жаш-жа,* **1.** ввести во владение. *Пісаў яго міласьць гаспадар наш да мяне, абых я пана Марціна ў тыя сенажаці ўвязаў, і мы пана Марціна казалі ясьчмо ў тыя сенажаці ўвязаці.* Квятк. 150. *Апанаваўшы ўсе будаваньне, увязаці і старане падаці маець.* Стт. 276.

**2.**—*см. под вязаць.*

•**увяза́цца,** *увяжу́ся-жашся, общ.*—войти во владение. *Тот, хто ў іменьня такія шляхоцкія ўвяжацца, ня маець у тае шляхты іменяй адыймаці.* Стт. 276.

•**увя́зка**-*зкі-зцы, ж.*—кусок полотна, которым увязывают пищу в поле(вообще увязывают что-л.). Ксл. *Увязку пашукай, як я так гаршкі панясу?* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**увяжчае**-*ага, в зн. сущ.*—вознаграждение за введение во владение. *А пяці коп грошай сама ана аддала маршалку пана ваяводзіну ўвяжчага.* Літ. Мэтр. Кн. суд. дел УІ. а. 32(Барысёнак: Адвакатура, 174). *А за працу таму ўраду самоему ўвяжчага ад капы два грашы тот, каму адправу чыняць, плаціці маець.* Стт. 271.

•**увяжчы**-*ага, во знач. сущ., юрид.*—должностное лицо, осуществляющее ввод истца во владение имуществом ответчика, по поводу которого велось судебное дело. Стт. 1529, сл. *Тады тот увяжчы, каго будзець увязаваці, маець то чыніці зь людзьмі добрымі, староньнімі.* Стт. 1529, сл.

•**увяжчы ліст,**—*см. под ліст. Возны ад ураду нашага на ўвязаньне старане жалабнай прыданы, маець для таго ўвязаньня да йменьня стараны праціўнае ехаці і старану жалабную подле лісту ўвяжчага ўвязаці.* Стт. 270.

•**увяліцца,**—*см. под вяліцца.*

•**увярэньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—вера. *Імам што ест? — Увярэньне а Пана Бога адзінага.* Кіт. 39а7.

•**увярнуцца,**—*см. под вярнуць.*

•**увясну́,** *нареч.*—весною. Гсл.

•**увіх-а́цца**-*нуцца,—см. под віхацца.*

•**увіхны**-*ная-нае*—проворный. *Не паможа, не навуча знахар увіхны.* С. Музыка 255.

•**увінуць,**—*см. под вінуць.*

•**увішна,** *нареч. к увішны*—быстро, старательно, усердно. *Плывуць увішна хмараў караваны.* Кавыль: Думы 32. *Ціха і увішна, абы толькі вышла.* Сяднёў. *Ср. ст.* **увішней.** *Хадзілі увішней войстрыя штыхі.* Кавыль: Думы, 22. *З кажным днём сьмялей, увішней сонца палкія уколы.* Кавыль, Бацьк., Но. 496-497. *Ср. увіхацца( под віхацца).*

•**увішны**-*ная-нае*—быстрый, скорый, старательный, усердный. *Злосьць ейная праходзіла ўборзьдзе, і яна ізноў станавілася Ваяля прагнай, увішнай і пякляна ліпкай.* Корзюк. *Чакаць віна доўга не давялося; маладая, увішная кельнэрка ў вельмі хуткім часе прынесла кіліхі віна.* Ю. Жывіца("Прыйсьце", Но. 1). *Ср. віхацца, увіхацца.*

•**увітка**-*кі*—крученная ветвь для привязывания решетки на крыше, связывания кольев в заборе и т.п. Ксл. *Прыцягні там палеціну ўвіткай.* Азярэцк Сян. (Ксл.). *См. вітка.*

•**увів-а́ньне**-*аны-аць,—см. под віць.*

•**увыйсьці,**—*см. под хадзіць.*

•**увышкі,** *нареч.*—вышиною. Ар.

•**уцеха**-*хі, ж.* **1.** утешение. Шсл. *Дзеткі іхныя — адна ўцеха.* Ст.
**2.** отрада, удовольствие. Ксл. *Адна ўцеха глядзець на яго.* Селядцова Беш. (Ксл.).

•**уцеець,** *уцею*—понять, уразуметь. Гайнін. *Няўжо Вам здаецца, што гэткай простай рэчы ня можам уцеець?*

•**уцекі**-*каў, единств. ч. нет.*—бегство. *Навіны прыкрыя ляцелі барджэй за ўцекі жабракоў.* Кл.: Каліна, 49. *Уцекі злодзея.*

•**уцеклы**-*лая-лае*—убежавший. *Чэлядзь дворная або палоненая, уцеклая, маець быці запавядана й выдавана.* Стт. 459.

•**уцем-іць**-*іцца,—см. под цеміць.*

•**уцерпець,**—*см. под цярпець.*

•**цэрціся, уціра́цца,**—*см. под церці.*

•**уцёк**-*ёку, м.*—убежение, место, где можно укрыться, скрыться от кого-чего-л. Ар.

•**у цяжары**— в состоянии беременности. Хамінічы Сян. (Ксл.). *Мар'я ў цяжары ўжо тры месяцы.* Тм.

•**уцяжку́,** *нареч.*—в состоянии беременности. Гсл.

•**уцяка́ць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш. ад каго-чаго, скуль*—убегать, МГсл.; Ар.; Ксл. удирать. Шсл.; Ар. *Шайтан... уцякае ад голасу азаннага.* Кіт. I аII. *Уцякай барждэй, бо дадуць.* Селядцова Беш. (Ксл.). *Уцякайма, хлопцы, адгэтуль!* Ст. *Раман уцякаў ад людзёў.* Корзюк. *Ад жыцьця ня ўцякаў а нідзе.* Салавей: Сіла, 49.

**уцякае з памяці**—не удерживается в памяти. Каралішчавічы.

•**уцякаючы**-*ага*—убегающий. *На рынку раілася ад уцякаючых.* Тат.: Кво вадыс, 283. *Затыбра было поўнае ўцякаючага народу.* Тм. 288.

**уцяка́ючы**-*чая-чае, прич. наст. вр.*—убегающий. *Лучыла на дарозе... лесам уцякаючага злодзея паганіці.* Стт. 496. *Соверш.* **уцячы́,** *уцяку, уцячэш, уцячэць, уцячэм, уцячыцё*—убежать, удрать. Ар. *Баран уцёк на сяло.* Сташча Сян. (Ксл.). *Вось і папаўся — і ўцячы няма куды.* Ст. *Не магу ад яго ўцячы.* Кавыль: Пад зорамі, 8.

•**уцячы́,** *уцяку да каго*—убежать к кому. *Вон уцёк да пана Юр'я Храбтовіча.* Гордз. Ак. XVII, 4.

•**уцяка́ч**-*ача, предл.-ачу, зват.-ачу; мн. ч.-чычоў-чом, мн. ч., предл.-чох, м.*—беглец, беженец, Гсл. беженец. Ксл. *Ён усю вайну уцекачом быў.* Рыбчына Сір. (Ксл.).

•**уця́м-іць**-*іцца,—см. под цяміць.*

•**уцямне́,** *нареч.*—впотьмях. Нсл. 78. *Сьляпуючы, ды яшчэ і ўцямне.* Нсл.

•**уця́ты**—усеченный. Гсл.

•**уця-ць**-*цца,—см. под цяць.*

•**уці́рыш**-*ша, предл. и зват.-шу; мн. ч., род.-шаў, м.*—салфетка. Пск., Твер. (Даль). *Дзяўчынка бяліла ўцірыш.* Горбава Лёз. (Ксл.).

•**уці́ск**-*ку, предл.-ку, м.*—угнетение, МГсл. притеснение, гнет. Гсл.; МГсл.

•**уцісканьнік**-*ка, м.*—угнетатель. МГсл.

•**уціск-а́ны**-*аць-нуты-нуць,—см. под ціснуць.*

•**уціськненьне**-*ня, предл.-ню, ср.*—притеснение. *Уціськненьне... падданых ад стараст зямлі жамойцкае... цяжкімі работамі і няізьмернымі падачкі( устар. твор. падеж,* **С.)** Пресняков: Лекции по рус. ист. II, М. 1939, стр. 127.

•**уці́сьн-ены,**—*см. под ціснуць.*

•**уцішаць**—умиротворять, усмирять, успокаивать. Гсл.

•**уцішку́,** *нареч.*—втихомолку. МГсл. *Можа таксама плача ўцішку.* ЗСД 256.

•**у цьверазі,** *нареч.*—трезвый, Смоленщ. в трезвом состоянии. Тм. *Ён прышоў у цьверазі.* Смоленщ.

•**уцы́ркаць**-*нуць,—см. под* **цыркаць.**

•**учора,** *нареч.—вчера.* Ар.; Ксл.; Гсл. *Учора была пагода.* Улановічы Віц. (Ксл.). *См. учорах.*

•**учорах,** *нареч.*—вчера. Ксл. *Учорах ён быў у нас.* Цаўі Сір. (Ксл.).

•**учорашні**-*няя-няе*—вчерашний. МГсл.; Нсл. 77. *Аб учорашнім ані слова.* ЗСД 207. *Учорашняя капуста.* Нсл. *Учорашні хлеб, госьць.* Нсл.

•**уча́дзіць**-*іцца,—см. под* **чадзіць.**

•**учалопіць**-*плю-піш*—вбить себе в голову. *Мой хлопец учалопіў, што ён ужо вялікі, і давай яму боты.* Міх. *Учалопіў, што ён прэзыдэнт.*

•**учалопіцца**-*плюся-пішся*—взять в голову. Халоп. (Юхн.).

•**учамяра́ць**-*дю-деш-де, несоверш.*—внедрять. МГсл.

•**учамяра́цца**-*дюся-дешся, несоверш.*—внедряться. МГсл.

•**учамярыцца**—внедриться. Гсл.

•**учашча́ць**-*дю-деш-де; повел.-ай-айма, несоверш.*—часто бывать. *Дзе любяць — не ўчашчай, дзе ня любяць — ня бывай.* Рапан. 219. **1.** часто приходить, повадиться. Гсл.

**2.** уменьшать, отделять часть. Гсл.

•**учэпісты**-*тая-тае*—цепкий, способный цепляться и крепко держать что-л. *Кустоўе вунь якое глухое учэпістае.* Вышынскі: Хата пад ліпою.

•**учкýр**-*рá, предл.-рý, зват. учкýру; мн. ч.-ры́роў, мн. ч., предл.-рох, м.* **1.** шнурок, обрывок тасьмы. Гсл.

**2.** завязка у штанов. Полесье 113.

•**учýткі,** *нареч.*—вслух. БНсл.

•**учуць,**—*см. под* **чуць.**

•**учýцьце,** *ср.*—чувство, предчувствие. Гсл.

•**учы́н**-*ну, предл. и зват.-не, м.*—раствор муки на хлеб(затор, С.) Нсл. 671. *Мукі толькі на ўчын ёсьць, а на замес ня будзе.* Нсл. *См. учына, утвора,*—производство. Гсл.

•**учы́на**-*ны, дат., предл.-не, ж.*—затор (хлеба и т.п.). НК; Очерки, 39, 40, Но. 75. *"Утвора"* или *"учына"* делается часов за 10 перед печением хлебов. НК: Очерки, 39. *См. утвора.*

•**учы́нак**-*нку, предл. и зват.-нку, м.*—проступок, (Гсл.) (практическая деятельность, действие в противоположность мыслям, словам, С.) дело. Нсл. 77. *Добры, благі, хрысьцянскі ўчынак.* Нсл. 671. *Добрыя ўчынкі.* Нсл. 7., *На якія ты ўчынкі пусьціўся?* Тм.

•**учыня́ць**-*яю-яеш-яе, повел.-яй-яйма, несоверш., перех.* **1.**—причинять, учинять. Нсл. 671. *Учыняць, учыніць крыўду.* Нсл.

**2.** растворять, Нсл. 671; Ксл. заквашивать хлеб или блины, Шсл. заквашивать тесто, ставить тесто, приготовлять *"учыну",* Ар. заделывать хлеб, ПНЗ. приготовлять *"учыну",* НК: Очерки, Но. 5. учинять хлеб, пироги. Нсл. *Прынесьлі дзяжу й гаспадыня пачала ўчыняць хлеб.* Яноўшчына Беш. (Ксл.). *Заўтра йзноў давядзецца ўчыняць хлеб.* Ст.

**учыні́ць**-*ню́-ніш-не,* **1.** *соверш. к учыняць што*—сделать, учинить. *Яго вольным учыню.* Кіт. 3а8. *Запісы мяжсобку учынілі.* Нсл. 179( *под запіс*)

**2.** растворить, Ксл. заквасить хлеб или блины, Шсл. заквасить тесто, поставить тесто, Ар.; Растсл. приготовить *"учыну".* НК: Очерки, Но. 5. *Учыніць каравай.* Нсл. 671. *Трэба ўчыніць хлеб!* Альшанікі Беш. (Ксл.). *Учыніла цеста на хлеб.* Ст. *Учыніла бульбяных бліноў.* Ст.

**учыня́цца**-*яюся-яешся за каго,* **1.** вступаться, брать на себя ходатайство за кого, Нсл. 77. ходатайствовать. *Ніхто ня ўчыняецца, ня хоча ўчыніцца за беднага сірату.* Нсл. *См.* **прычыняцца 4.**

**2.** *несоверш. к учыніцца 2*—делаться чем за кого-л.

**учыні́цца**-*нюся-нішся,* **1.** *соверш. к учыняцца 1.* Нсл. 77.

**2.** *соверш. к учыняцца 2*—сделаться чем за кого-л. *Я за ўсіх вас курбаном учынюся.* Кіт. 79а3.

•**учын-іць**-*іцца,—см. под* **чыніць.**

•**учы́нны**-*ная-нае, прилаг. к учына.* НК: Очерки. 40. *Учынная мука.* НК: Очерки, 40.

•**уюн,** *уюна́, зват. уюне, мн. ч.-ны-ноў-номны-намі-нох, м.*—минога речная и ручьевая. НК: Очерки, 493.

•**уюшка**-*шкі-шцы, ж.*—сквозной цилиндр для наматывания нитей, НК: Очерки, 176. вьюшка.

•**уюшыцца,**—*см. под* **юшыць.**

# Ц

•**цоб,** *междомет.*—окрик на волов; на лево. Гсл. *Цоб-цябе!* Гсл.

•**цогаць**-*аю-аеш-ае*—(об одежде) — таскать, грязнить нося. Ар. *Соверш.* **зацогаць** —затаскать, заносить. Ар.; Варсл. *Як ты зацогаў каптан!* Ар. *Прич.* **зацоганы** —затасканный. Ар.

•**цокаць**-*аю-аеш-ае*—ударять, Растсл. о часах: тикать.

•**цоп,** *местоим.* **1.** быстрое падение в мокроту. Нсл. *Цоп у балота.* Нсл. Нсл.

**2.** удар ладонью. Нсл. *Цоп мяне па плячу.* Нсл.

**3.** шлеп. *Цоп і сеў.* Нсл.

•**цопаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** плескать, бить по чему-л. жидкому. Нсл. *Ня цопай па вадзе.* Тм. *Однкр.* **цопнуць**—плеснуть, ударить по чему-л. жидкому. Нсл. *Цопнуў, аж пырскі паляцелі.* Нсл.

**2.** итти по грязи или по болоту. Нсл. *Цэлы дзень цопаеш па гэтым балоце: няма ведама, ці дацопаеш сядні да двара.* Нсл.

**3.** бить кого-н. кистью руки. Нсл. *Цопай, цопні яго па мордзе, каб замоўчыў.* Нсл.

**4.** хлестать веником в бане. Нсл. *Цопай паціху дзяцё.* Нсл. *Соверш.* **пацопаць.** Нсл. *Пацопай мне сьпіну.* Нсл.

•**цопацца,** *возвр.* **1.** плескаться в воде. Нсл. *Дзеці цопаюцца ў лужы.* Нсл.

**2.** падать(в жидкое или мягким, С.) Нсл. *Малы часта цопаецца задком.* Нсл.

**3.** бродить по мокроте. Нсл. *Ня цопайся па балоце.* Нсл.

**4.** хлестаться веником в бане. Нсл. *Ня борзда ты цопаешся, пусьці другога парыцца.* Нсл.

**цопнуцца —** *однкр. к* цопацца *1, 2, 4. Асьцярожна йдзі па кладцы, ато цопнешся ў балота.* Нсл.

**нацопацца 1.**—набродить вдоволь(по мокрому, жидкому, С.) Нсл. *Нацопаўся я сядні досыць.* Нсл.

**2.** намучиться в топком месте. Нсл. *Нацопаўся, пакуль вылез із балота.* Нсл.

•**цопкацца, 1.** брести по грязи, производя брызги. Нсл. *Цэлы дзень цопкаліся мы па балоце, так наліло!* Нсл.

**2.** *соверш.* **зацопкацца**—неосторожно идя по грязи, пачкаться. *Ідучы па балоце, цопкаешся, зацопкалася па калені.* Тм.

**нацопкацца**—натоптаться(по мокрому, С.) Нсл. *Нацопкаліся па гэтай мокрай дарозе.* Нсл. *Ср.* *цёпкацца.*

•**цопуха**-*хі, ж.*—передняя, верхняя часть печи. Ксл. *Ручнік вісіць над цопухай.* Нов. Сяло Беш. (Ксл.).

•**цопуха** — *сопуха.* Гсл.

•**цот**-*ту, м.*—чот, чотное число. Ар.; ПНЗ; Шсл.; Кс.; Гсл. *Угадай, цот ці лішка?* Ст. *Два й чатыры будзе цот.* Пятніцкая Беш. (Ксл.).

•**цабе́**—окрик на волов: направо. Гсл.

•**цага́н,** -*нà,* (**цага́н**-*на,* Марцінкава Куз., Ксл.)—чугунный горшок, Шсл. котел. *Наварылі цаган бульбы.* Ст. *Уменьш.* **цага́нчык**-*ка, м.* Шсл. *У цаганчыку каша варыцца.* Ст.

•**цаге́льня**-*ні-ні, ж.*—кирпичный завод. Растсл.; Ар.; Русінава Сян. (Ксл.); Шсл.; Гсл.; НК: Очерки, 241. *У цагельні купіў паленае цэглы.* Ст. *Ён ня раз блукаў у гэтых аколіцах, яшчэ калі працаваў на цагельні.* Корзюк.

•**цаге́льнік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* —человек изготовляющий кирпичи. НК: Под пос. 46.

•**цаге́льны**-*ная-нае*—кирпичный. Ар.; Ксл. *У нас няма цагельнага складу.* Заронава Куз. (Ксл.).

**цагельны мур**—кирпичная кладка.

•**цагля́р**-*рà, м.*—мастер, делающий кирпичи. *Бацька ягоны цагляром служа.* Залужна Беш. (Ксл.).

•**цахоўка**-*кі, ж.*—кружка. Ксл. *Анiся, падай цахоўку.* Сяркуці Сян. (Ксл.).

•**ця́хна**-*ны, ж.*—пройдоха. Гсл.

•**цахна́р**-*арà, предл.-арỳ, зват.-àру; мн. ч.-рыроў-ром, мн. ч., предл.-рох, м.*—гира. Войш.

•**цадзі́лка**-*кі, ж.* **1.** тряпка для процеживания, цедило. Ар.; Север(Косіч 78); Пустынкі Сян. (Ксл.).; Гсл. *Цадзілка радкая: малако ня чыта цэдзіцца.* Ст.

**2.** фильтр.

**3.** *перен.*—скупой покупатель, медленно и понемногу добавляющий к предложенной сумме. Ар.

•**цалава́ньне**-*ня, ср.*—целование, поцелуй, поцелуи. *Устань, мілы, маё цалаваньне, ужо гатова табе умываньне.* Бегач Горадн. (Косіч 40).

•**цалава́ць**-*лỳю-лỳеш-лỳе; повел.-луй-луйма, несоверш. каго, у што,*—целовать. Ар. *Пацалуй дзядзіну ў руку.* Ар. *Ня дзікайся татульки, пацалуй у ручку, ён табе праскурку дасьць.* Нсл. 131 ( *под* *дзікацца*). *Соверш.* **абцалаваць**—расцеловать. Дсл. *Маці дзеці абцалавала.* Бельск. у. (Дсл.). *Соверш.* **пацалава́ць**—поцеловать. Ар. *Пацалаваў дзядулю ў руку.* Ар.

•**цалава́цца**-*лỳюся-лỳешся, несоверш., взаим.* —целоваться. Ар. *Соверш.* **пацалава́цца** —поцеловаться. Ар. *Даганяючы, не пацалуешся*—насильно мил не будет. *Послов.* Войш.

●**цалёўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—доска, толщиною в один дюйм. НК: Очерки, Но. 648; Ар.; Шсл.; Ст. Сяло Куз. (Ксл.). *См.* *цалька. На шалёўку нарэзалі цалёвак.* Ст.

●**цалява́ць**-*люю-люеш-люе*—соединять в целое, Ксл. сшивать кусочки пушного товара. Нсл. 693. *Колькі ні цалюй — усё чарапкі будуць.* Дубнікі Сян. (Ксл.). *Цаляваць крысо.* Нсл. *Соверш.* **пацаляваць.** Нсл. *Пацаляваць хутра.* Нсл. *Соверш.* **сцаляваць.** *Сцаляваў крысо.* Нсл. *Соверш.* **выцаляваць**—из кусочков составить целое. Нсл. 101; Гсл. *Выцаляваць хутра.* Нсл.

●**цаліць**-*лю-ліш-ліць*—хранить, исцелять. *Хай вас Бог усіх цаліць.* С. Музыка, 91.

●**цалком,** *нареч.*—целиком, Гсл. полностью. Ксл. *Цалком праглынуў такі кусок.* Рыбчына Сір. (Ксл.). *Цалком ізь мяне хочаш выссаць кроў.* Тм.

●**цалкі̇,** *-коў-ком-камі-кох*—неочищенный варенный картофель. Ксл. *Цалкоў наеўся з буракамі.* Бабінічы Віц. (Ксл.).

●**цаль**-*лі, ж.*—дюйм. Ар.; Ксл.; МГсл. *На дзьве цалі таўшчынёю надабе.* Купіна Віц. (Ксл).

●**ца́лька**-*лькі-льцы, ж.*—доска толщиною в один дюйм. НК: Очерки, Но. 648. *См.* *цалёўка.*

●**цальнёг**-*нягу̀, предл.-нязѐ, зват.-нѐжа; мн. ч. цальнягі̇-оў-ом, мн. ч., предл.-ох, м.* **1.** нетронутая человеком толща снега зимою, т.е. такой снег, по которому не ходили и не ездили. Ар. *Засопся па цальнягу саначкі цягаючы.* Войш.

**2.** *перен.*—земля никогда не паханная или уже задернелая, целина. *Вывозяць на сібірскія цальнягі.* Бацьк., Но. 456-457. *Ср.* *дзірван.*

●**цалыпаць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—цапать, хватать жадно. Нсл. 685. *Адзін ты цалыпаеш па поўнай ложцы, а другім нічога не застанецца.* Нсл. *Соверш.* **зацалыпа́ць.** Нсл. 685. *Зацалыпаў поўную ложку мёду.* Нсл.

●**зацям-іць**-*ляць,—см. под* *цяміць.*

●**цалып,** *отглаг. частица, зн.* **1.** быстрое похищение чего-л., хвать, цап. Нсл. 685. *Цалып у хатуль.* Нсл.

**2.** нечаянное схватывание. Нсл. 685. *Цалып за руку яго.* Нсл.

●**цанава́ць**-*нўю-нўеш-нуе; повел.-нуй-нуйма, несоверш.*—оценивать. Смоленщ. *Соверш.* **ацанава́ць**—оценить. Шсл. *Шкоду ацанавалі на тры рублі.* Ст. *Пазвалі панятых, каб шкоду ацанаваць ды на суд падаць.* Ст.( *под* *паняты*). *Соверш.* **расцанава́ць** —расценить, Смоленщ.; Сьп. критически отнестись кому, разбранить, как следует, отделать. Дсл. *Ну, ужо й расцанаваў яго пан.* Дсл.

●**цанава́цца**-*нўюся-нуешся, несоверш., возвр.* —торговаться. *Ніхто не падыходзіў, не цанаваўся зь Дзімкам за сена.* Капыловіч: Хлеб.

●**цап,** *междомет.*—хвать. Ар.; Ксл.; МГсл. *Ён толькі ў яблыкі, а я яго цап ззаду!* Капланы Сян. (Ксл.).

●**цапе́ліна** — *цапільно.* Ксл. *Зламілася цапеліна.* Веляшковічы Лёз. (Ксл.).

●**цапі̇ліна**-*ны-не, ж.*—рукоять цепа. НК: Очерки, 402. *См.* *цапільно.*

●**цапільно**-*нà; мн. ч.-ны-наў, ср.*—рукоятка цепа. Ар.; Гсл.

●**цапільна**-*на — цапільно.* Ксл. *Ты зрабіў крэпкае цапільна — ня зломіцца.* Русінава Сян. (Ксл.).

●**ца́пкі**-*каў*—приспособление, на котором сушится хлеб в снопах, или на котором в банях парятся. Ксл. *Як узьлезе на цапкі ды як уськіне коўш вады на печку, дык далавах ня стрываць.* Лазова Сян. (Ксл.).

●**цапня́к**-*кà, м.*—звездчатка злаковидная, *раст.* Гсл.

●**цапы́**-*поў-пом, мн. ч., предл.-пох*—барабан в молотилке. Шсл.; Ар. *Цапы няспраўныя ў малатарні.* Ст. *Ня сунь рукі ў цапы, бо сам сібе абязьвечыш.* Ст.( *под* *абязьвечыць*).

●**цар,** *цàра, предл. и зват. цàру; мн. ч. цары̀-роў-ром, мн. ч., предл.-рох, м.*—царь. *Хочуць, каб цàра ня было.* Ст.( Шсл. *под* *бунтаваць*).

●**царковішча**-*ча, ср.*—место, где стоит или стояла церковь. Ксл. *На царковішчу зірні — мо' тамацькі.* Лужасна Куз. (Ксл.).

●**царкоўнае**-*нага*—крест, хоругви из церкви, которые несут провожая покойника. Ксл. *Нехта ўмер — царкоўнае панесьлі.* Жукава Аз. (Ксл.).

●**царква́**-*вы̀, ж.*—церковь. Ар.; ПНЗ.

●**цары́зма**-*мы-ме, ж.*—царизм. *За царызмы бралі гліну ў трох месцах.* Горадна (Крывіцкі: Полесье, 177).

●**цата́ць**-*àю-àеш-àе*—играть в чот и нечет( — *у цот а лішку*). *Там Ганна гуляла і арэшкі цатала.* Северш.(Косіч 6.).

●**цаўё**-*ўя̀, предл.-ўю; мн. ч. цэўі-ўяў, ср.* —рукоять граблей, НК: Очерки, 401. рукоять некоторых предметов: ложки, долбни, молотка, косы, цепа и проч., НК: Очерки, Но. 166. рукоятка. МГсл.; Ксл. Каждый из упомянутых и под. предметов может, кроме этого общего, иметь и свое особое название, напр. *грабельна, цапільно, каіўё. Дзяржаньне ложкі*(*-лыжкі*) *завуць цаўё.* Варсл. *Трэба прырабіць цаўё да сярпа.* Гуліна Сян. (Ксл.). *Хто гэта ў лыжцы зламіў цаўё?* Шчыпцы Беш. (Ксл.). *Уменьш., ласкат.* **цавейца**-*ца, предл.-цу; мн. ч.-цы-аў. ср..* НК: Очерки, Но. 166.

●**ца́ца**-*цы-цы, ж.* **1.** игрушка, (Гсл.) забавляющий предмет, преимущественно доступный для удержания в детских руках. НК: Игры, Но. 3; Ар.; Ксл.; Шсл.; ПНЗ. *Ня плач, хлопча, на во цацу!* Ст. *Малому трэба якая небудзь цацка.* Ст. *Цаца, цаца ды ў кішэнь*( ворует, играя). Глебаўск Сян. (Ксл.). *Дай мне цацку.* Глушышча Сір. (Ксл.).

2. молодец(по отношению к детям для выражения похвалы). *О, Пятрусь мой цаца! Любім мы Пятруся.* Колас: У ночы.
3. *ирон.*—своенравный, капризный. Ар.; Шсл. *Ну й цаца наш сынок: тое дай — блага, а тое дай — не хачу!* Ст. *Уменьш.* **ца́цка**-*цкі-цццы, ж.*—игрушка. Ар.; МГсл. *Ласкат.* **ца́цанька**-*нькі-ньцы, ж.* НК.: Игры, 23. *Ласкат.* **цацу́лька**-*лькі-льцы.* НК.: Игры, 23. *кат.* **цацулька**-*лькі-льцы.* НК: Игры, 23.

•**цацэнь**-*цня̀, предл.-ню; мн. ч.-цні-цнёў-цнём, мн. ч., предл.-цнёх, м.*—лепешка. Ксл. — *асчэнь. Пакінь цеста на цацні.* Даргойкі Сян. (Ксл.).

•**ца́цкаць**-*аю-аеш-ае, повел.-ай-айма, несоверш., перех.*—забавлять при помощи игрушки(чаще — держать игрушку). НК: Игры, Но. 3., *перен.* служит укоризной обращающемуся с предметом. НК: Игры, 3.

•**ца́цкацца**—возиться, забавляться, тешиться, Гсл. забавляться, НК: Игры, Но. 3. играться. Растсл., *перен.* служит насмешкой и укоризной обращаемуся с предметом. НК: Игры, Но. 3. *Соверш.* **адца́цкацца**—отвязаться от чего-л. привлекательного. Нсл. 383. *Адцацкайся ты ад яе. Ты й безь яе знойдзеш добрую дзяўчыну.* Нсл.

•**цэбар**-*бра, предл. у цэбру*(*у цэбры*)*; мн. ч.-бры-броў-бром, мн. ч., предл.-ох, м.* 1. —ушат. МГсл.; Ар.; Шсл.; Ксл.; Горадна(Полесье 178). *Поўны цэбар памый.* Стрэлка Беш. (Ксл.).
2. резка, заправляемая картофелем, мукою и пр. и даваемая коровам или лошадям в *"цэбру".* Шсл. *Карове даем цэбар.* Ст. *Уменьш.* **цабэрак**-*рка*—небольшой ушат. Ар.; Ксл.; Шсл. *У цабэрку намачы сарочкі.* Ст. *Налі ў цабэрак.* Аськершчына Беш. (Ксл.). *Пад хлявом цабэрак у мякіне.* Кавыль: Пад зорамі, 17. *Уменьш.* **цабэрчык**-*ыка*—небольшой ушат. Ксл.; Шсл.; Шсл. *Купіў новы цабэрчык.* Ст. *Бандар зрабіў цабэрчык.* Цяпіна Чаш.(Ксл.). *См. цабэрак, цабэрчак — цабэрчык.*

•**цэгла**-*лы, мн. ч. нет, ж.*—кирпич. Ар.; МГсл.; Растсл.; Шсл.; Каралі Куз.(Ксл.). *На комін купіў паленае цэглы.* Ст. *Кажны цэглу класьці будзе.* Гарун:(ст. "Муляр"). *Единств. ч.* **цаглі́на**-*ны-не*—плитка кирпича. Гсл.

•**цэд**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.*—овсяное молоко. Ар.; Ксл. *Налі мне цэду.* Альшанікі Беш. (Ксл.).

•**цэлы**-*ая-ае*—целый. *Летанька цэлае працавалі, а нічога не далі за тое.* Нсл. 274.

•**цэп**-*па, тв. цэпам; мн. ч. цапы-поў-пом, мн. ч., предл.-пох, м.*—цеп. *Гопае цэпам па пустых снапом.* Ст.

•**цэра**-*ры-ры, ж.*—трут для высекания огня, добываемый с берез. Гсл.

•**цэсар**-*ра, предл. и зват.-ру; мн. ч., род.-раў, м.*—император. *Каліб без азану*(*араб. гуканьне на малітву*) *у каторам месьце, або ў сяле, азан ня пеўшы, нэмаз*(*араб. малітву*) *пелі, вольна цэсару казаць тых людзей выцяць.* Кіт. 88а17. *Калі цэсара ня будзе...* Тм. 28б15.

•**цэсарскі**-*кая-кае*—императорский. *Калі цэсара ня будзе і... намесьніка цэсарскага.* Кіт. 28б18.

•**цэтлік,** *уменьш.*—лоскуток. Гсл.

•**цэўка**-*ўкі-ўцы, ж.* 1. трубочка или полая палочка, на которую наматывают нитки для ткания. Ар.; Косіч 77; Ксл. *Падай мне цэўку.* Лоўжа Сір. (Ксл.). *Насукай мне цэўку, трэба ткаць зрэбніцу.* Сяркуці Сян.(Ксл.). *Насукаў тры цэўкі.* Ст.
2. катушка ниток на длинной трубке; навивается на *"сукальле".* Шсл.; Ар. *Насукаў тры цэўкі.* Ст.
3. часть руки между кистью и локтем (предплечье, С.) Ксл.; Ар. *Ён мяне ўдырыў па цэўцы.* Семянцова Беш. (Ксл.). *Рукі баляць у цэўках.* Ст.
4. *голенная кость.* МГсл.; Гсл.
5. ствол(ружья, дерева и т.п.). Гсл.

•**цеканьне**-*ня, предл.-ню, ср.*—произношение среднеязычного **ц**, происходящего из т в позиции перед **е, ё, і, ь, ю, я**( *цесла, ціха, цьмяны, цюцька, цямкі*). Одна из главных особенностей великолитовского("белорусского") языка.

•**це́каваць**-*куе*—требовать случки или иметь случку(о овцах, козах, **С.**) Ксл. *Авечка цекуе.* Сьвеча Беш. (Ксл.).

•**це́ла**-*ла, предл.-ле; мн. ч.-лы-лаў, ср.*—тело. Ар. *Уменьш.* **целца**-*ца, мн. ч.-цы-цаў*—тельце. Ар.

•**целяпа́йла**-*лы, общ.*—человек, хватающий что-л. из лакомого прежде других (подчеркнутое необязательно, **С.**) Нсл. — *селяпайла. Па руках трэба біць целяпайлу гэтага, каб не целяпаў перад другімі.* Нсл.

•**целяпа́ньне**-*ня, ср.*—хватание, как бы целою пястью, Нсл. торопливое брание пищи во время еды. *За тваім целяпаньнем другім нічога не застанецца.*

•**целяпа́ць I** спешно, алчно есть полужидкое кушание. НК: Пособ., Но. 43. *См. селяпаць.*

•**целяпа́ць II**-*дю-деш-де,* 1. черпать торпливо. Нсл. — *селяпаць в 1 зн. Целяпай кашу з малаком.* Нсл. *Не целяпай так шмат па цэлай жмені.* Нсл. *Однкр.* **целяпну́ць**-*нў-нёш-нёць-нём-ніце.* Нсл. *Целяпнуў, ды нічога ня выцягнуўя.* Нсл. *Соверш.* **зацеляпа́ць**—зачерпнуть торопливо. Нсл. *Зацеляпаў кавалак каўбасы.* Нсл. *Соверш.* **нацеляпа́ць,** *каго-што*—нахватать, натаскать. Нсл. *Ого! поўную торбу нацеляпаў ракоў.* Нсл. *Соверш.* **расьцеляпа́ць,** *каго-што*—расхватать что-л. съестное. Нсл. 560. *Усю кашу расьцеляпалі.* Нсл.

•**целяпа́ць II**-*дю-деш-де, каго-што* 1. —болтать что-л. подвешенное. Шсл. *Не целяпай клубка.* Ст.
2. бить, ударять, как бы целой пястью. Нсл. — *селяпаць во 2-ом зн. Нічога не скажы яму, так і целяпае па мордзе.* Нсл.

•**целяпа́цца,** *возвр.* **1.** болтаться чему-л. подвешенному, Шсл.; Ар.; Ксл. болтаться, мотаться, висеть и качаться. Вят., Вост. (Даль). *Целяпаюцца цыцылі нейкія.* Лятоўшчына Куз. (Ксл.). *Над франтонам "дому ўраду" неяк недарэчна целяпаліся вялізарныя боты й крысы "бацькі народаў", намалёванага на вялізарнай белай посьцілцы.* Няміга("Бацькаўшчына", Но. 115-116).

**зацеляпа́цца**—закачаться, заболтаться, повиснув туда и сюда. Вят., Кур. (Даль).

**2.** болтаться вообще. *Ён, як малы, заўсёды ў хвасьце целяпаецца.* Шаркі Куз. (Ксл.).

**нацеляпа́цца**—нахвататься, натаскать вдоволь. Нсл. *Нацеляпаўся чужога дабра, чаму ня жыць.* Нсл.

**расьцеляпа́цца**—позволить себе часто хватать с жадностью съестное. Нсл. *Няўвага! адзін ты расьцеляпаўся, на другіх ня гледзячы.* Нсл.

•**целяпе́й, целяпе́нь**-*пня, предл.-пню, м.* —неловкий, неуклюжий, не умеющий хорошо делать свое дело человек. *Сякітакі целяпей(недарэка), а ўдваіх усе ж ляпей. Послов.* Рапан. 87. *Гэтыя целяпні ня сьцямяць.* Полымя, Но. 6, 1967, стр. 247. *См. недарэка.*

**целяпка́цца**-*дюся-дешся — целяпацца.* Ксл. *Дакуль ты ўжо будзеш гэта целяпкацца з гэтым памостам?* Мошава Сян. (Ксл.).

•**це́льная**-*ае, прилаг.*—стельная(о коровах). Ар. *Падласка цельная, ужо значыць.* Ар.

•**це́мя**-*мені, ср.*—темя. Ксл. *Ён удырыў у цемя.* Раіны Аз. (Ксл.).

•**цемень**-*мені, ж.*—темнота. МГсл.

•**цемень**-*ні, ж.*—мрак. Ксл. *Якая сядні цемень!* Прусаўкі Аз. (Ксл.).

•**це́міць**-*млю-міш-ме,* **1.** примечать. *Соверш.* **заце́міць**—приметить, Пархв. приметить издали, Нсл. 192. заметить. Ксл.; Пархв. *Я ледзь-ледзь яго зацеміў.* Селядцова Беш. (Ксл.). *Далёка яшчэ яго зацеміў, што едзе.* Нсл. *Да рэчы тут будзе зацеміць.* Бацьк., Но. 437-438. *Прич.* **заце́млены**—примеченный, замеченный. *Соверш.* **сьце́міць, 1.** заметить издали или при темноте. Нсл. 627. *Сьцеміў, нехта там пабег.* Нсл.

**2.** вспомнить. Нсл. 627. *Сам ня сьцемлю, дзе я паклаў ключ.* Нсл.

**3.** смотреть в темную даль с напряжением. Нсл. 687. *Цемлю, ці ня нашы то едуць.* Нсл. *Соверш.* **прыце́міць, 1.** усмотреть кого-л. в дали. Нсл. 516. *Глядзі, ці ня прыцеміш, як ён будзе ісьці.* Нсл.

**2.** приметить, заметить. *Валя прыцеміла ягонае нятуташні, паўднявы від.* Корзун (Конадні, Но. 5-6, 22).

**уце́міць вочы**—вперить глаза. Гсл.; Нсл. 77. *Куды ты ўцеміў вочы свае?* Нсл.

**адце́міць**—отметить.

**адцямля́ць**—отмечать.

•**це́міцца**-*млюся-мішся, несоверш.*—присматриваться с напряжением в даль, Нсл. 687. всматриваться. *Цемлюся, ці ня едзе хто.* Нсл. *Цемся, ня цемся, не абачыш.* Нсл. *Соверш.* **прыце́міцца**—всмотреться. *Прыцемся, ці ня ён гэта ідзець.* Нсл. 516. *Соверш.* **уце́міцца**-*млюся-мішся*—вперить, устремить глаза, всматриваясь. Нсл. 77. *Во куды ён уцеміўся!* Нсл.

•**це́мна,** *нареч.*—тёмно. Сакуны, 87. *Цемна было, вочы сьветласьці ня відзелі.* Кіт. 108а5, 6. *Засьцяніў, цемна шыць.* Нсл. 187(*под засьцяняць*).

•**це́мнасьць**-*ці, мн. ч., род.-цяў, ж.*—.... Кіт. 34б5, 77б16, 78б10.

•**це́мны**-*ная-нае*—тёмный. Загорская в. Хомскага пав. Пскоўшчыны(Труды , Но. 12, стр. 135). *Прахадзіў ён па лесе аж да цемнае ночы.* Мікольск М.(Демид.: Веров, 98). *Людзі працавалі ад цямна да цямна.* Сьцяблевіч("Бацьк.", Но. 437-438). *Цепль ажыўляла жылачкі ягонага, змучанага сямідзённай хаднёй ад цямна да цямна цела.* Гарун: Пан Шаб. *Ногі пачалі прыставаць ад даўгое, ад самага цямна хадні.* Тм. *Мядзьведзіца ў цемным лесе цямнюсенькім.* Лупекі Стдуб. (Косіч 32). *Пахмурніца-цёмна ночка цямнюсенька.* Лупекі Стдуб.(Косіч 32).

•**це́мра**-*ры-ры, ж.*—тьма, БНбр.; Гсл. большая темнота, мрак. *Вось ён упінае зрок у вакно, у бяздонную цемру.* ЗСД 57. *Ср.* **цемрадзь.** *Зьгіне цемра.* С. Музыка, 270. *У ночнай цемры губляюцца сьцежкі.* М. Вольны. *Вучыцелям узяўшы... крыніцы і кветкі, і цемру.* Гарун(ст."Ідуць гады").

•**це́мрадзь**-*дзі, ж.*—большая темнота, Шсл. мрак. *Але ж такая цемрадзь на дварэ, што хоць ты палцам у вока сунь, дык нічога не абачыш.* Ст. *На трэйці дзень патануў сьвет у цемрадзі лютай.* Купала: Песьня аб палку Ігоравым. *З вогкай цемрадзі ці ня белыя гусі-лебедзі плывуць?* Крушына: Лебедзь, 3. *Ізноў край у цемрадзі астрожнай.* Змагар. *Людзём бліскучай зоркай у іх цемрадзі зазьзяюць.* С. Музыка, 74.

•**цемраны́**-*ная-ное, прилаг. к цемра*—мрачный. *Ён шукае тую ніць, каб заслону цемраную ёй адсунуць, адсланіць.* С. Музыка 268.

•**це́мрыва**-*ва, ср.*—совершенная темнота. *Што ён там (у шахтах) бача ў цемрыве?* Марціновіч(Беларус, Но. 159).

•**ценява́ць,** *цянюе, несоверш.*—выглядеть тенью. *А то, хлопча, кажаны, толькі зьмеркне на дварэ, — і цянюе рой паганы, нейкі рух яго бярэ.* С. Музыка, 206.

•**це́ніць**-*ню-ніш-не*—затенять. Ксл. *Ня надабе болей ценіць, стане гэтага.* Купіна Віц. (Ксл.).

•**цень,** *ценя, м.*—тень. Ар.; ПНЗ. 17.

•**це́нькі**-*кая-кае*—тонкий. Ар. *Не крануць хай слыху ценькага словы: Пэру, Парагвай.* Салавей: Сіла, 64. *Ляціць кіёк мой ценькі.* Я. Г.: Лемантар, 52.

●**це́перся,** *нареч.*—слишком давно, Шсл.; Ксл. *столько времени. Цеперся ён пайшоў і няма яшчэ!* Ст. *Цеперся яна ня сьпіць.* Воўсішчы Сян. (Ксл.). — *Колькі ж у цябе? — двое, старшы з бацькам да Горадна паехаў. А гэты во... цеперся ня сьпіць.* Адамчык: Арж. колас. *Ср. ціперся:*

●**це́першы,** *нареч.* — *цеперся.* Ксл. *Цепершы была на сяле.* Біклажа Беш. (Ксл.).

**ня цеперся,** *нареч.*—поздно. *Вось пасьцялі ды кладземся спаць: ужо ня цеперся.* Калюга: Заблоцкі.

●**це́пліць**-*лю-ліш-ле,* — топить. Шсл.; Нсл. 687; Ксл. *Цепліць печку.* Нсл. *Бацька пайшоў ёўню цепліць.* Ст. *Трэба цепліць лазьню: будзем мыцца.* Кашына Віц. (Ксл.). *Соверш.* **ацэ́пліць**—отопить. *Отгл. имя сущ.* **ацэ́пленьне**-*ня, предл.-ню, ср.*—отопление. Буда Кашалёва Гом. *Прич.* **ацэ́плены**—отопленный.

**зацеплеваць, 1.** затапливать. Нсл. 192. *Зацепліваць печ.* Нсл.

**2.** зажигать. *Ср. зацепліць.*

**заце́пліць, 1.** затопить. Нсл. *Зацепліць печ.* Нсл.

**2.** зажечь. *Сонца зацэпліла ў хаце прытульнасьць сямейную.* ЗСД 77. *Прич.* **заце́плены, 1.** затопленный. Нсл. *Пакоі зацеплены.* Нсл.

**2.** зажженный. *Соверш.* **падце́пліць**—подтопить. Нсл. 687; Шсл. *Падцепліць печку.* Нсл.

**расьце́плеваць,** -*люю-люеш-люе*—растапливать. Нсл. *Пара расьцеплеваць гумно.* Нсл. *Соверш.* **расьцепліць**—растопить. Нсл. *Расьцепленыя дровы.* Нсл. *Расьцепленую печку пакінуў без дагляду.* Нсл.

**вы́цепліць**—истопить. Нсл. 100. *Выцепліць печ, сьвятліцу.* Нсл. *Прич.* **вы́цеплены** —истопленный. Нсл. *Печ выцеплена.* Нсл. *Выцепленая сьвятліца адчынена наўсьцяж.* Нсл.

●**це́пліцца, 1.** топиться. Нсл. *Печкі ў пакоях цепляцца.* Нсл. *Асець цепліцца.* Нсл.

**2.** гореть. Нсл. *Сьвечка перад абразом цепліцца.* Нсл. *Лямпа цепліцца.* Нсл.

**заце́плевацца**—затапливаться, загоряться. Нсл. 192. *Дровы сырыя не зацеплююцца добра.* Нсл. *Соверш.* **заце́пліцца** —затопиться, загореться. Нсл.; Дсл. 255. *Дровы сырыя не зацепліваліся добра.* Нсл. *Ох і самы ж то званы зазваніліся, вясковыя сьвечкі зацяпліліся.* Дсл. *Потым ізноў зацеплілася ў нутры ранейшая гарэзасьць.* ЗСД. *Абраз Раісін сьмела ўварваўся ў тое зладнае, добрае, што зацеплілася ўдзень.* ЗСД 161. *Замест ранейшага гневу цяпер зацеплілася ў сэрцу Л. сымпатыя да Андрэя.* Тм. 170. *Соверш.* **падце́пліцца**—подтопиться. Нсл. *Асець падцеплілася.* Нсл.

**расьце́плевацца.** Нсл. *Соверш.* **расьце́пліцца**—растопиться. Нсл. *Дровы не расьцепліліся яшчэ.* Нсл.

**расьце́пленьне**-*ня, ср.*—растапливание. Нсл. *Расьцеплеваньне печкі.* *Соверш.* **сьцепліцца**—согреться. *Кацянё сьцеплілася ў яго пад бокам.* Гарэцкі: Песьні, 64. *Соверш.* **вы́цепліцца, 1.** истопиться. Нсл. 100. *Сядзі тут, пакуль печка выцяпліцца.* Нсл.

**2.** одеться легко при порядочном холоде (иронически, С.) Нсл. *Ты нешта выцепліўся на такі холад.* Нсл.

●**цепль**-*лі. ж.*—теплота. *Патыхнула смалістай, пахучай цеплю.* ЗСД 173. *Вуліцы места, поўныя сонца і араматнай веснавой цеплі, пярэсьціліся гаваркой таўпой.* ЗСД 263. *Вясна прынадна адкрыла перад ім ахінутыя новай цеплю прасьцягі.* ЗСД 244.

●**цепра**-ры, *ж.*—страсть(? С.) Барс. (Юхн.).

●**церабі́ць**-*блю-біш-бе,* **1.** очищать: дерево от сучьев, огородные овощи от ненужных листьев, сенокос или поле от заросли, Ар.; Шсл.; Ксл. срубать нижние ветви у деревьев в лесу, Ар. подчищать, срубать мелколесье при пашне и на лугу, НК: Очерки, Но. 511. вырубать кусты. *Церабі буракі.* Ст. *Пайду церабіць лазу, бо цэлы загон ёю зарос.* Ст. *Цераблю кусты.* Лятоўшчына Куз. (Ксл.). *Цярэбяць хвойку.* Ст. *Прич.* **цярэблены.** Ар. *Мая капуста не цярэблена.* Ар. *Соверш.* **працерабіць, а)** прочистить(в лесе), провести в лесе линию, просеку. Гсл.

**б)** *перен. Шлях працярэбім да людзкога жыцьця.* Гарун: Белр. марш.

**2.** (о животных)—очищать от паразитов. Ар. *Што ты міжджыш, як сабака бруха цярэбячы?* Ар. *Цярэбяць кагаркі крыльле.* Кавыль: Думы, 42.

**3.** тормашить. Шсл. *Уплёў яго ды давай церабіць за валасы.* Ст. *Парасюк вэнь цярэбе пасьцелку!* Ст. *Хомачка цярэбе ў руках абадраную, з аблезлымі штучнымі бараньками, шапку.* Гарэцкі: Песьні, 56.

**4.** есть, убирать. *Васіль церабіў пушанку з кансэрвамі.* Дзьве Душы 165.

**абцерабі́ць, 1.** *соверш. к церабіць, 1. Адзін і сьсек і абцерабіў увесь дуб.* Ст. *Пайду абцерабіць аборачак.* Юрсл.

**2.** *перен., юмор.*—отучить от некультурности в привычках, манерах. Юрсл. *Людзі абцярэбляць, як пойдзеш ад маткі.* Юрсл. *Прич.* **абцярэблены,**— обрубленный. Юрсл. *Абцярэблена бярозка да аднаго сучка.* Ст. *Абцярэбленая лагчынка.* Юрсл. *Абцярэблены дубок(* *перен., юмор*). Юрсл. *Няма чаго сказаць, вярнуўся із сьвету троху абцярэблены.* Юрсл.

●**церабі́цца**-*блюся-бішся, несоверш., страд. к церабіць 1.*

**2.** очищать себя от грязи, паразитов. Ар. *Сабака цярэбіцца.* Ар.

**3.** чесать зудящее место. НК: Очерки, Но. 511; Ар.

**4.** подергивать и перебирать перья птицами. НК: Очерки, Но. 511; Ар. *Гусі цярэбяцца.* Ар.

**абцерабіцца,** *соверш.* **1.** *страд. к абцерабіць.* Юрсл. *Абцерабілася пара сукоў.* Юрсл.
**2.** очистить себя от грязи, паразитов. Ар.
**3.** *перен., юмор.*—приодеться. Юрсл. *Паглядзі вун, абцерабіўся, троху да чалавека стаў падобны.* Юрсл.
**4.** отвыкнуть от некультурных привычек, манер. Юрсл. *Па людзёх пахадзілі, дык абцерабіліся.* Юрсл.
**5.** с трудом освободиться от неприятностей. Шсл. *Вось дзе нáпасьць: ледзь абцерабіўся ад гэтых судоў!* Ст.

**•цераз**( *без ударения,* **С.**), *предлог.*—через. Ст.; Ксл. *Цераз цябе, дурня, я папаўся.* Бікава Сян. (Ксл.). *Цераз рэчку ня едзь!* Тм. *Прахварэла цераз гэта тры гады.* Уселюб Н.(Демид.: Веров, 98).

**•цéрхці**-*ну-неш-не, прош. вр. церх, церхла, церхлі, несоверш.*—терпнуть, цепенеть, неметь. Ар. *Церхнуць ногі, дрыжаць рукі.* Гармановіч(Б. Шляхам, Но. 119). *Соверш.* **сьцерхці**—стерхнуть. Ар. *Сядзеў на назе, дык нага сьцерхла.* Ар.

**•цéрне**-*ня, предл.-ню, ср.*—терн, тёрн, терновник. *Рожа межы церням.* П. П. 2: 2(3 12 кніг Б.).

**•цéрніца**-*цы-цы, ж.* **1.**—мятая, непрямая солома. *"У церніцу"* поступает более нежная ржаная солома и вся яровая, за исключением соломы от пшеницы *"ля-доўкі"*, которая, как и прямая ржаная солома режется. НК: Очерки, Но. 557.,—мятая, перетертая, а часто и смешанная с сеном яровая солома, для корма коров, НК: Под. пос, Но. 11. мятая солома. Ксл. *Прынясі церніцы, а не акалотышаў.* Выс. (Ксл.).
**2.** льномялка. Ксл.; Шсл.
**3.** посуда цилиндрической формы для трения мака, конопли. Ар.

**•цéрці,** *тру, трэш, трэць, трэм, трыцè*—тереть. Шсл.; ЗСД. 189; МГсл.; Сакуны 87. *Заўтра будзем каноплі церці.* Ст.

**церці час**—зря, понапрасну терять время. Шсл. *Толькі будзеш за ім час церці — і нічога ня зробіш.* Ст. *Давялося церці ладную часінку.* НК.: Пасоб., 116.

**працерці час,** *соверш.. Моўчыкам прыдзе, пратрэць тутацька калі-ні-калі й ладную часіну, абцікавіць работу, струмèньціну якую.* НК.: Под. пос., 58.

**абцéрці,** *абатрỳ-трэш-трэць-трэм-трыце*—обтереть. Ксл. *Прич.* **абцéрты**—обтёртый. *Прич. прошл. вр.* **абцершы**—обтерев. *Несоверш.* **абцірáць**-*àю-àеш-àе*—обтирать. Ар.

**адцéрці,** *адатрỳ, адатрэш, адатрэць, адатрэм,* **1.** оттереть.
**2.** отделить, отпугать, Дсл. вытеснить, отстранить от чего-л. *Нашто шамаў — адцер ад мяне ліса.* Дсл. *Прич.* **адцéрты.**

**адцірáць,** *несоверш. к адцерці 1, 2.*

**дацéрці,** *датру-трэш-трэць,* **1.** *соверш. к даціраць 1, 2.*

**даціраць, 1.** *несоверш. к дацерці.*
**2.** *перен.*—донашивать старое платье, бельё, обувь. Дсл. *Даціраць бацькаў кажух.* Дсл.

**зацерці,** *тру-трэш-трэць-трэм*—затереть. Нсл. 192. *Хацелі справу зацерці.* Нсл. *Несоверш.* **заціраць**—унижать другого выставлением себя. Нсл. 192. *Што ты мяне хвастом сваім заціраеш, зацерла.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **заціраньне**-*ня, предл.-ню, мн. ч.-ні-няў,* **1.** унижение другого выставлением себя. Нсл. 192. *Я ня дамся нікому на заціраньне мяне.* Нсл.
**2.** уничтожение нечистоты. Нсл. 192. *Заціраньне крыві.* Нсл.

**нацéрці**—натереть. *Несоверш.* **націраць**—натирать. МГсл.

**нацéрці парогі,**—*см. под парогі.*

**перацéрці**—перетереть, перемолоть. *Давялося ўродаў нямала ім* (*жорнам*) *за век перацерці, змалоць.* Дукса.

**сьцéрці,** *затрỳ, затрэш, затрэць, затрэм, затрыцè, повел. затрỳ*—стереть. *Затры гэта сьціркаю.* Нсл. 192. *Імкнецца сьцерці знакі апрычонасьці.* Бацьк. Но. 3(439). *Несоверш.* **сьцірáць**—стирать. Ар.

**вы́церці,** *вы̀тру-траш-тра, соверш.*—вытереть. Ар.; Шсл. *Чысьцей трэба выцерці місу.* Ст.

**выцерці лысіну, 1.** вытереть лысину. Ар.
**2.** выражение, указывающее на область мелких сенокосных работ. НК.: Очерки, Но. 887. *Несоверш.* **выцірáць**—вытирать. Ар.

**уцéрці роги**—убавить спеси или самомнения. Мл.

**цéрціся,** *труся, трэшся, трэцца, трэмся, повел. трыся, трыцеся,* **1.** тереться. Шсл. *Ня спушчай нізка снапоў, бо будуць церціся аб калёсы.* Ст. *Лён сухі, дык добра трэцца.* Ст.
**2.** пропадать, изводиться. Шсл. *У гаспадарцы ўсё трэцца, прападае!* Ст.
**3.** ничего не делая, шататься. *Трэцца дзень пры дню па чужых людзёх, а дома нічога ня робе.* Ст. *Ведае толькі церціся.* Ст.

**абцéрціся,** *абатрỳся-трэшся,* **1.** обтереть себя о что-л.
**2.** вытереться. Ксл. *Ён абцёрся рукавом.* Дабрамысьль Лёз. (Ксл.).
**3.** усвоить манеры. обхождение, навыки, принятые в данной среде. *Несоверш.* **абціраццa.**

**зацéрціся**—затереться. Шсл. *Зацерся ручнік.* Ст. *Несоверш.* **заціраццa.**

**пацерліся ў кустох**—выражение, указывающее на область малых сенокосных работ. НК.: Очерки, Но. 887.

**вы́церціся**—вытереться. Шсл.; Ар. *Няма ручніка , чым выцерціся.* Ст.

**уце́рціся,** *утру́ся, утрэшся*—утереться. *Ручнікoм уцерся.* Пісараўка Імгл. (Сержп. Отчет, 8).
•**це́сьля**-*лі-лі, м.*—плотник. Гсл.
•**цесьць,** *сьця, сьцю, сьця, сьцём, сьцю, зват.* цѐсьцю; *мн. ч.* сьці, сьцёў, сьцём, сьцёў, сьцямі, сьцёх, м.—тесть. НК.: Пособ., Но. 28; Дудар, Но. 37. *Ёсьць у мяне сядзелачка, шчэ й вароны конь, толькі сесьць паехаць к свайму сьцю на двор. Ласкат.* **цешчухна.** Няўзорава (Раст.: Северск. 37). *Здароў, здароў, цешчухна! Цешча добры дзень!* Северщч. (Косіч 52).
**сьцёў,** *сьцёва, сьцёва*—тестев. *Узьехаў на сьцёў двор.* Сакуны, стр. IУ.
•**це́шча**-*чы-чы; мн. ч., род.-чаў, ж.*—тёща. Ар.; Няўзорава Север. (РСБ 37); Горцава, Загорская в. Хошскага пав. Пскоўшчыны (Труды, Но. 12, 135); Семяшкова Стдуб.(Косіч 234); Раст.: Северск. 37. *Цешча мне міла.* Косіч 69.
**це́шчухна,** *ласкат. к цешча.* Няўзорава Север. (Раст.: Северск. 37); Семяшкова Стдуб. (Косіч 234); Ар. *Малады ты Іванечка, ці быў ты у сваёй цешчухны?* Семяшкова Стдуб. (Косіч 234).
•**це́шыць**-*шу-шыш-ша каго, несоверш., перех.*—утешать, Нсл. 693. радовать. Гсл. *Сын цеша айца, калі добры.* Нсл. *Жаба квокча, сваю хваробу цеша. Послов.* Нсол. *Ізноў мы пойдзем па тых «сьцежжках узьлескам, полях, паплавох, каб свае сэрцы родным цешыць, каб захапляцца харастврм.* Крушына: Эрот. іскрыпка. *Соверш.* **пацешыць**-*шу-шыш-ша, перех.*—утешить. БНсл. *Там пабачу я сьвет новы, там пацешу свае вочкі.* С. Музыка, 117. *Бог дазваляе абачыць сваіх: пацяшала яна.* Гарун: Сьвята.
**пацяшэньне**-*ня, предл.-ню; мн. ч.-ні-няў, ср.*—утешение. Нсл. 488. *Пацяшэньня ад дзяцей ніякага ня відаць.* Нсл.
**суцяша́ць**-*аю-аеш*—утешать. *Лясьніцкі неяк яе суцяшаў.* ЗСД 64. *Суцяшаў наіўна ласкавымі словамі.* Тм. 214. *Суцяшаў яе.* Гарун: Белр. Марш. *Соверш.* **суце́шыць**—утешить. *Здолеў бы яе суцешыць.* ЗСД. 136.
•**це́шыцца,** *возвр.*—радоваться, Ар.; Ксл. утешаться. *Дарма цешышся, ня возьмеш.* Нсл. *Цешыўся старац, што пераэкыў марац; ажно ў маю панесьлі яго да гаю. Послов.* Нсл. *Цешыўся гаспадар із добрага збожжа.* Кузьміно Сян. (Ксл.). *Да суднага дня цешыцися із яго будуць.* Кіт. 5265. *Будуць ся цешыці.* Малітвы 1695 г.(Б. Шляхам, Но. 125).
**цешыцца нязвычайна**—ликовать. МГсл. *Соверш.* **суцешыцца**—утешиться. *І суцешыліся.* Юхнавец (Б. Ускалось, Но. 11, стр. 7).
•**це-це-це!**—возглас, которым призывают гусей. Ар. *Це-цеце, цежычкі.* Дсл.; Ар.
•**цецянёхаць**-*аю-аеш-ае*—няньчить, подбрасывать. Ксл. *До табе яго цецянёхаць!* Горбава Лёз. (Ксл.).
•**цецярлю́к**-*ка, м.*—тетерев. МГсл.
•**цецяру́к**-*ука̀, предл.-уку̀, зват.-ӯча; мн. ч.-укі̀-коў-ком-кі-камі-кох, м.*—тетерев. Гсл.; Ар.; Ксл. *Я цецярука бачыў.* Касачы Лёз. (Ксл.). *Тата забіў цецярука ў лесе.* Лук'янова Сян. (Ксл.).
•**цецява́**-*вы, ж.*—стебель корнеплодников. НК.: Очерки, Но. 782. *Ср. цяціўнік. Одна* **цецявіна**-*ны-не, ж.* НК.: Очерки, 419.
•**це́ча**-*чы, дат., предл.-чы, ж.*—течение, МГсл. течение, течь. Ксл. *На самой цечы дубіцу перавярнула.* Гунчанкі Сур. (Ксл.).
•**цёмінка**-*нкі-нцы, ж.*—канава, соединяющая болото с озером. Астроўна Віц. (Ксл.).
•**цёпкацца**-*аюся-аешся*—шлепаться. Ксл. *Досіць табе па дажджу цёпкацца.* Шарыпіна Беш. (Ксл.).
•**цёплае**-*лага, в знач. сущ.*—чай. Ксл. *Не няволь мяне цёплым.* Даўгое Беш. (Ксл.).
•**цёплы**-*лая-лае*—теплый. *Увелич.* **цяплю́сенькі.** Ар.; НК.: Очерки, Но. 426.
•**цёпша**-*шы*—медлительная. *Ці борзда, цёпша, памыеш?* Даргейкі Сян. (Ксл.).
•**цёрла**-*ла, ср.*—ставец для терки мака, конопли. Ксл.; Шсл. *Пабілася цёрла, мак тручы.* Рудзенск Сьміл. (Шсл.). *Затры мак у цёрле.* Спаская Сір. (Ксл.). *Купі новае цёрла, бо няма ў чым бабку сьпячы на Вялікдзень.* Бешанковічы (Ксл.). *Налівала й пералівала ваду зь вядра ў цёрла.* Дудзіцкі.
•**цёрніца**-*цы, ж.*—ставец для терки мака, конопли. Ар.; Ксл. *Усып каноплі ў цёрніцу.* Бешанковічы (Ксл.). *См. церніца 3.*
•**цяготна,** *нареч.*—тягостно. МГсл.
•**ця́га,** *ця̀гі, ця̀зе, ж.* **1.** сквозняк. Войш. *См. пройма.*
**2.** влечение. МГсл.
•**ця́гам,** *нареч.*—вытягивая. *Буракі, морхву, рэпу, рэдзьку а бручку выбіраюць із зямлі "цягам", чаму шмат памагае сьцябло.* НК.: Очерки, 423.
•**цягам,** *нареч.*—равномерно, с выдержкой. Гсл. *См. вагам.* Гсл.
•**цяганíна**-*ны, ж.*—волокита. Ар.; Ксл.; МГсл. *І нашто такая цяганіна?* Навікі Віц. (Ксл.).
•**цягата́**-*ты̀, ж.*—тягость. МГсл.
•**цяга́ць,**—*см. под цягці.*
•**цягло**-*ла̀, ж.* **1.** мера земли. Гсл.
**2.** лямка. Гсл. *Накульгаваў, бо нагу падцягнула ў цяглах.* Кулакоўскі: Дабраселцы.
•**цягці́(цягну́ць,** Нсл.)-*ну̀-неш-не, несоверш., перех.*—тащить, Шсл.; Ар.; МГсл.; Нсл. 694. тянуть(, волочить, С.) Ар.; Ксл. *Цягні к сабе вяроўку.* Нсл. *Цягні гэту жэрдку к плоту.* Ст. *Трэ' цягці да канца.* Сержп. II, 139. *Многократ.* **цяга́ць**-*аю-аеш-ае,*—таскать. Нсл. 694; Ксл.; Шсл.; Ар. *За што ты так яго цягаеш?* Нсл. *Нашто табе цягаць яго із сабою?* Нсл. *Цягай яго за хахол.* Новае Сяло Беш. (Ксл.). *Ня ёмка цягаць ваду із студні.* Ст. *Соверш.* **зацяга́ць, 1.** затаскать, заносить. Шсл. *Зацягаў пры рабоце новы жакет.* Ст.

**2.** утомить, таская что-л. или вообще работая. Шсл. *Зацягаў коніка.* Ст. *Соверш.* **нацягáць**—натаскать. Нсл. 325; Шсл.; Ксл. *Дроў нацягаў на цэлую зіму.* Нсл. *Нацягаў сена з пуні.* Нсл. *Усялякага дабра нацягаў ад людзёў.* Ст. *Нашто вы пакульля сюды нацягалі?* Лужасна Куз. (Ксл.). *Прич.* **нацягáны** —натасканный. Нсл. 325. *Будзе досіць коням сена, нацяганага із стогу.* Нсл. *Соверш.* **расьцягáць**-*дю-деш-де, перех.*—растаскать. Нсл. *Коні з капы расьцягалі снапы па полю.* Нсл.

**абця́гаваць** -*гую-гуеш-гуе и* **абцягáць**-*дю-деш-де, несоверш., перех.* **1.** обтягивать рукой или граблями висящие на возу или на стоге клочки сена или соломы. Шсл. *Шмат абцягаваць стога ня трэба.* Ст.

**2.** оправлять одежду. Шсл. *Соверш.* **абцягці́**-*ну-неш-не,* **1.** протащить вокруг, кругом, Гсл. обвести. Ксл. *Увесь сад абцягнулі дротам.* Дабрамысьль Лёз. (Ксл.).

**2.** *несоверш. к абцягаваць 1.*

**3.** обернуть (одежду), Гсл.; Ксл. оправить одежду. Шсл. *Абцягні спадніцу, каб ляпей вісела.* Ст. *Абцягні сарочку.* Лятоўшчына Куз. (Ксл.).

**адцягáць,** *каго-што,* **1.** оттаскивать. Нсл. 383.

**2.** оттягивать (напр. проволоку). *Соверш.* **адцягці́,** *каго,што,* **1.** оттащить. Нсл. 383; Ар.; Шсл. *Адцягай, адцягні мех із гэтага месца.* Нсл. *Адцягні гэту ламачыну ў бок.* Ст.

**2.** оттянуть (напр. проволоку, С.) Шсл. *Адцягні большы канец дроту.* Ст. *Прич.* **адцягнены, адцягнуты, 1.** оттянутый.

**2.** сделавшийся диннее от натягивания. Нсл. 383. *Адцягнуты рэмень падаўжэў.* Нсл.

**дацягаваць, дацягáць, 1.** дотаскивать, тянуть до крнца. Нсл. 144. *Дацягавайце, дацягніце бярвіно гэта на месца.* Нсл.

**2.** дотаскиваться, доезжать с тяжестями. Нсл. 144. *Дацягавай як-колечы.* Нсл.

**дацягці́**-*ну-неш-не, соверш. к дацягаваць,* **1.** дотащить. Шсл.; Ар.; Нсл. 144.

**2.** дотащиться. Нсл. 144. *Дацягні да двара.* Нсл.

**3.** дотянуть. Ар. *Каб як дацягці да вясны з хлебам.* Ст.

**зацягáць**-*дю-деш-де, несоверш., перех.* **1.** затягивать. Нсл. 192. *Зацягай, зацягні вяроўку.* Нсл.

**2.** затаскивать; таща, приносить куда-л.

**3.** завлекать. Нсл. 192. *Нашто ты зацягаеш яго ў карчму?* Нсл.

**4.** *несоверш. к зацягнуць 4,*—продевать. *Соверш.* **зацягці, 1.** затянуть. Нсл. 192. *Зацягні вяроўку.* Нсл.

**2.** затащить куда-л. Шсл.; Ар. *Куды гэта ты зацягнуў той кругляк?* Ст.

**3.** завлечь. Нсл. 192. *Нашто ты зацягнуў яго ў карчму?* Нсл. *Зацягні п'янога ў хату.* Нсл.

**4.** продеть. Ар. *Трэба зацягці дрот сьвіньні ў лыч, каб ня рыла.* Ар. *На, зацягні нітку ў голку.* Ст. *Прич.* **зацягнены, 1.** затянутый.

**2.** затащенный.

**3.** завлеченный. Ар.

**4.** продетый. Ар.

**нацягáць, 1.** натягивать. Нсл. 325; МГсл. *Нацягай, нацягні тужэй вяроўку.* Нсл. *На колы трэба новыя шыны нацягаваць.* Ст. *Адно кола нацягнуў.* Ст.

**2.** навлекать, напускать. Нсл. 325. *Не нацягай на сябе дуроты.* Нсл.

**нацягці́**-*ў-неш-не, соверш. к нацягаць 1, 2.* Нсл. 325. *Прич.* **нацягнены,** Ар. **нацягнуты,** Нсл.—натянутый. Ар.; Гсл. *Вяроўка не нацягнута добра.* Нсл.

**пацягáць**-*дю-деш-де, несоверш.* **1.** время от времени, понемногу, потягивать.

**2.** тянуть, брать чью-л. сторону. Нсл. 488. *За маё ж дабро, дый мяне ж пацягаюць.* Нсл.

**пацягці́,** *соверш. к пацягаць,* **1.** потянуть. Ар. *Пацягнуў адзецьця, штоб надзеў.* Кіт. 10969.

**2.** взять чью-л. сторону. Нсл. 488. *Ты на іх бок пацягнуў.* Нсл.

**3.** потащить. Шсл.

**расьцягае,** *соверш., расьцягнула, безлич.* —растягивает, говорится о сильно плачущем или с желанием гибели. Нсл. *Чаго цябе расьцягае, расьцягнула?* Нсл. *Каб цябе расьцягнула!* Нсл. *Расьцягні яго ад мяне!* Нсл.

**расьцягáць,** *каго-што,* **1.** растягивать. Нсл. *Расьцягай невад.* Нсл. *Расьцягнеце яго ды дайце дзесяткі два розак.* Нсл.

**2.** растаскивать(растащить, С.) Нсл.; МГсл. *Расьцягайце, расьцягнеце іх, ато яны пазаб'юцца.* Нсл. *Соверш.* **расьцягці.**

**расьцягнуты**—растянутый. *Сьвітка расьцягнутая па зямлі валяецца.* Нсл.

**сьцягáць**—стаскивать. *Соверш.* **сьцягці,** *сьцягну-неш-не*—стянуть. *Аднэй рукой баба сьцягла Гаршка за крысо, а другую адкінула голую.* Дзьве Душы 65.

**выцягáньне**-*ня,* **1.**—вытягивание. Нсл. *Выцяганьне адзежы з полымя.* Нсл. *Выцяганьне хворасту з кучы.*

**2.**—потягивание, лежа. Нсл.

**выцягáць**-*дю-деш-де; повел.-ай-айма, несоверш., перех.*—вытягивать, простирать. Нсл. *Бульбу трэба выцягаць із склепу, даволі ёй там ужо гнісьці.* Ст.(Шсл. *под гнісьці*). *Выцягаць палатно.* Нсл. *Стаў чорт выцягаць скуру, каб больш месца было.* Мікольск. М.(Демид.: Веров. 105).

**2.** вытаскивать. Нсл. *Выцягаць із склепу бочку, із студні ваду.* Нсл. *Соверш.*

**вы́цягаць** *каго-што*—повытаскивать в разное время. Нсл. *Клумачкамі ўсе жыта вы́цягаў у карчму на гарэлку.* Нсл. *Соверш.*

**выцягці**-*гну, прош. вр. вы́цяг*—вытянуть, Сержп.: Слуцак, 12; Ар.; Нсл.; Шсл. простереть.

Ар. *На цэлы локаць выцягнулі(палатно).* Нсл. *Ледзь выцяг ногі з балота.* Ст.

**вы́цягці ногі, 1.** протянуть ноги.
**2.** *перен.*—издохнуть. Ар. *Каб ты ногі вы́цягнула!* Ар. *Сеў ля воза і стаў бліны есьці. Тут і ногі выцягнуў.* Р. Кут. 24.

**•цягці́ся**-*нўся-нешся,* **1.** тащиться. Шсл.; Ар. *Цягнецца ззаду.* Ст.
**2.** плестись. Ар. *Цягнецца памалу.* Ар.

**•цяга́цца**-*дюся-дешся,* **1.** таскаться. Шсл.; Ар.; Ксл. *Цягаецца, як той хвасток, за мною.* Ст. *Цягаешся па сьвеце, бадзяўка!* Стаішча Чаш. (Ксл.). *Чаго вы за імною цягаецеся?* Нсл.
**2.** таскать друг друга. Нсл. 694. *Пятухі цягаюцца б'ючыся.* Нсл. *Соверш.* **зацяга́цца,** а) утомиться, таская что-л. или вообще работая, Шсл. изнуряться. Нсл. 192. *Чыста зацягаўся, носячы салому.* Ст. *Зацягаецца плачучы па мужу.* Нсл. 734.
б) заходить далеко. Нсл. 192. *Не зацягайцеся ў чужую старану.* Нсл.
**3.** волочиться. Нсл. 694. *Ніткі цягаюцца за лапцям.* Нсл.

**нацяга́цца,** *соверш. к* *цягацца,* **1.** натаскаться, намучиться, таская. Нсл. *Нацягацца мяхоў, бярвеньня, калодзьдзя.* Нсл.
**2.** натаскаться(находиться, С.) Шсл.; Ар. *Нацягаўся за дзень, аж ног не павалачы.* Ст.
**3.** нашататься. Нсл.; Ар. *Нацягаўся бедненькі па сьвеце.* Нсл.
**4.** навозиться. Нсл. *Нацягаўся зь ім, пакуль наўчыў араць.* Нсл. *Соверш.* **дацягнуцца**—дотащиться. Шсл.; Ар.; Нсл. 144. *Ледзь дацягнуўся з возам.* Ст. *Стамаваліся, пакуль дацягнуліся да начлегу.* Нсл.

**зацяга́цца, 1.** заходить далеко. Нсл. 192. *Не зацягайся ў чужую старану.* Нсл.
**2.** изнуряться от плача. Нсл. *Зацягаецца плачучы.* Нсл. *Соверш.* **зацягці́ся**—зайти далеко. *Во аж куды зацягнуліся каровы.* Ст.

**пацяга́цца**-*аюся-аешся,* *несоверш.*—потягиваться(расправлять уставшие от однообразного положения конечности, корпус, С.) Нсл. 488. *Няўвага! на людзёў пацягаешся, пацягнуўся.* Нсл. *Соверш.* **пацягці́ся, 1.** потянуться(расправить уставшие от однообразного положения конечности, корпус, С.) Нсл. 488.
**2.** потянуться, начать тянуться.
**3.** потащиться. Шсл. *Карова набралася, аж ледзь пацягнулася.* Ст.
**4.** поплестись. Ар. *Пацягнуўся дзядуля памаленьку да места.* Ар.

**прасьцяга́цца,** -*дюся-дешся,* *несоверш.* —простираться. *Соверш.* **прасьцягці́ся, 1.** простереться. *Грабовы дошкі сьціснулі ножкі, не магу прасьцягнуцца.* Рылавічы НЗ(ПНЗ, 41).
**2.** продлиться. *Масьляная, шчасьлівая, прасьцягніся да Вялікадня.* Хахлоўка НЗ (ПНЗ, 41). *Соверш.* **працягнуцца**—продлиться. *Масьлянка, палізуха, працягніся, масьлянка, хоць да духа.* Росуха Імгл.(Косіч 255).

**прыцяга́цца(прыцягавацца,** Нсл.), **1.** приходить, притаскиваться. Нсл. 516. *Ён да нас часта прыцягаецца.* Нсл.
**2.** приближаться с трудом по пути. Нсл. 516. *Прыцягавайцеся, прыцягніцеся нанач да сяла.*

**прыцягнуцца, 1.** *соверш. к* *прыцягацца 1,*—притащиться. Нсл. 516; Ар.; Шсл. *І ты сюды прыцягнуўся? цябе не прасілі сюды.* Нсл.
**2.** *соверш. к* *прыцягацца 2.* Нсл. 516. *Ледзь прыцёгся дамоў: так жа быў прыстаўшы!* Ст.

**расьцяга́цца, 1.** распростираться, лежа. Нсл. *Не расьцягайся тут, тут няма дзе табе.* Нсл.
**2.** растягиваться, тянуться. Нсл.
**3.** метаться, плача. Нсл. *Дзяцё расьцягаецца па табе, ідзі барзьдзей да яго.* Нсл.
**4.** *перен., презр.*—умирать. Нсл. *Расьцягайцеся вы ад мае галавы.* Нсл. *Соверш.*
**расьцягнуцца, 1.** распростереться, лежа. Нсл. *Ляжыць, расьцягаючыся, расьцягнуўшыся на пасьцелі.* Нсл. *Як упаў, дык і расьцягнуўся.* Нсл.
**2.** растянуться, протянуться.
**3.** расплакаться, метаясь. Нсл. *Дзяцё расьцягнулася па табе.* Нсл.
**4.** *перен., презр.*—умереть. Нсл. *Расьцягнецеся вы ад мае галавы.* Нсл.

**выцяга́цца, 1.** вытягиваться в длину. *Ніткі не выцягаюцца, а рвуцца.* Нсл.
**2.** тянуться изо всех сил, истощаться. Нсл. *Дзеля каго і дзеля чаго ты выцягаешся?* Нсл.
**3.** выезжать с тяжестями. Нсл. *Выцягайцеся, выцягнецеся раней у дарогу.* Нсл.
**4.** *перен.*—умирать. Нсл. *Не выцягаецца стары гэты зьмей.* Нсл.
**5.** плакать, рваться от плача. Нсл. *Выцягаючыся так, не падыймеш нябошчыка.* Нсл. *Соверш.* **вы́цягнуцца, 1.** вытянуться в длину. Нсл.; Ар. *Вяроўка выцягаецца, выцягнулася.* Нсл.
**2.** растянуться, распластаться. *Ляжыць выцягнуўшыся, як ня жывы.* Ст. *Ляжыць выцягнуўшыся.* Уселюб Н.(Демид.: Веров., 1896, II, 134).
**3.** вырость высоким. Ар. *Дачка так борзда выцягнулася.* Ар.
**4.** истощиться. Нсл. *Выцягнуўся сусім із сіл.* Нсл.
**5.** выехать с тяжестями. Нсл. *Непрыяцель выцягаецца, выцягнуўся ад нас.* Нсл.
**6.** *перен.* умереть(подохнуть), Нсл. подохнуть. Шсл. *Каб ты выцягнуўся барждэй!* Нсл. *Каб ты выцягнуўся!* Зямковічы Сян. (Ксл.).

**•цягуны́,** -*ноўном-намі-нох*—распаренная столовая свекла с луком(кушание). Шсл. *Увечары будзем есьці цягуны.* Харавічы Сьміл. (Шсл.).

●**цяжа**-*жы-жы, ж.*—тяжесть. Гсл.
●**цяжа́р**-*ру, м., ж.* **1.** тяжесть, Ксл.; МГсл. (бремя) Гсл. *Тры пуды невялікі цяжар.* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *Такую цяжар на сабе!* Навікі Віц. (Ксл.). *Вось чаму хочацца к сонейку яснаму — хоць бы пабачыць, тым цяжар зваліць.* Гарун: Думы ў чуж. *Вы — мая радасьць, цяжар.* Машара(Калосьсе, Но. 1, 1935 г., стр. 11). *Жыцьцё зваліла на мяне ўвесь свой цяжар.* Ю. Жывіца, Но. 1, 10.
**2.** груз. *Яцкава Вал. У мяне цяжар на возе.* Яцкава Вал.
**3.** беременность. Ксл. *Блага хадзіць у цяжары.* Сян. (Ксл.).
●**цяжарная,** -*нае*—беременная. Гсл. *Цяжарна* (тяжело), *будучы цяжарнай.* НК: Бабы а 12.
●**цяжарнасьць**-*ці, ж.*—беременность. МГсл.; Гсл.
●**цяжарні́к**-*іка̀, предл.-іку̀, зват.-і̇ча; мн. ч.-кі-коў-ком-кі-камі-кох, м.*—грузовик. *Ср. калясьнік, саньнік.*
●**цяжары́ць**-*ру̀-ры̀ш-ры̀ць, каго-што*—отягощать. Нсл. 686. *Не па сілах цяжарыш малца.* Нсл.
●**цяжа́рыць**—тяжелить. *Соверш.* **абцяжарыць,** *каго-што*—отяготить(обременить, С.) Нсл. 354. *Рознымі падаткамі абцяжарылі нас.* Нсл. *Іншае гора душу абцяжарыла.* Гарун: Думы ў чуж. *Прич.* **абцяжа́раны**—отягощенный, Нсл. обремененный. Ксл. *Людзі абцяжараныя падаткамі.* Нсл. *Янка быў абцяжараны вялікаю сям'ёю, а цяпер — адзін, як кол.* Падрэзы Чаш. (Ксл.). *Вялікарускія сяляне, нават будучы больш абцяжараныя павіннасьцямі, чымся беларускія, лепш аднак ставяцца да сваіх паноў.* "Полымя", 1928, Но. 8, стр. 105. *Мякка зваліцца сьнежны камяк із абцяжаранае яліны.* Лынькоў:" Воўчы лог(Калосьсе, Но. 2, 1935 г., стр. 96). *Соверш.* **ацяжары́ць,** *каго-што*—отяготить(обременить, С.], Нсл. 686. *Не па сілах ацяжарыў малца.* Нсл. 686. *Аканом ацяжарыў нас прыгонамі й падаткамі нямернымі.* Нсл. 387. *Прич.* **ацяжа́раны**—отягощенный, Нсл. 387. обремененный. Ксл. *Ня можна паправіцца нам ацяжараным лішнімі падаткамі.* Нсл. *Соверш.* **зацяжары́ць**—зачать, стать беременной.
**цяжары́цца,** *возвр.*—принимать на себя лишнюю тяжесть, отягощать себя. Нсл. *Соверш.* **ацяжары́цца.** Нсл. *Не цяжарыся, ацяжарыўшыся, борзда стомішся.* Нсл.
●**цяжэць**-*эю-эеш-эе; повел.-эй-эйма, несоверш.*—тяжелеть. Ар.
●**цяжба́**-*бы̀, ж.*—груз, тяжесть. *Ад цяжбы возу дуга зламілася.* Бязводзічы Імсьц.(Бяльсл. *под дуга*).
●**ця́жка,** *нареч.* **1.** тяжело.
**2.** трудно. *Цяжка мне тваё слова.* Кіт. 6163. *Цяжка саду без зязюлі, мне цяжэй жа без матулі. Цяжка быці, цяжка жыці на чужыне маладзіцы.* Из песни.
●**цяжкі̇**-*ка̀я-кое*—тяжелый. МГсл.; Ар.; ЗСД. 65; Нсл. 694. *Цяжкую рэч нашу.* Кіт. 1962. *Цяжкі воз, камень.* Нсл. *Ср. ст.* **цяжшы.** *Только в мн. ч.* **цяжкія**—печень. Ар.
●**цяжыць**-*жу-жыш-жа*—истязать. Нсл. 694. *Ня дай Маці Божая, як яго цяжылі, абцяжылі за гэта.* Нсл. *Соверш.* **абцяжыць.** Нсл. 694. *Прич.* **абцяжаны**—тяжело наказанный. Нсл. 355. *Абцяжаны ледзь устаў.* Нсл. *Соверш.* **зацяжы́ць**—засечь, истязать розгами. Нсл. 735. *Зацяжу̀, калі ня прызнаешся.* Нсл.
●**цякоміна**-*ны-не, ж.*—вещество, обладающее свойством течь и принимать форму сосуда, в котором оно находится, жидкость. Ластсл.
●**цякомы**-*мая-мае*—обладающий текучестью. Ластсл.
●**цякава,**—*см. под* цікава.
●**цяка́васьць,**—*см. под* цікавасьць.
●**цяка́віць,**—*см. под* цікавіць.
●**цяка́віцца,**—*см. под* цікавіцца.
●**цяка́вы,**—*см. под* цікавы.
●**цяка́ць,**—*см. под* цікаць.
●**цяку́н**-*на̀, м.* **1.** нехолощенный баран. Ар. *Ср.* цекаваць.
**2.** белая песковатая почва. Невель(Бузук: Невель II).
●**цяку́н, 1.** мак-самосейка,. Гсл.
**2.** плаун, *раст.* МГсл. *См.* дзераза.
●**цяку́чы,**—*см. под* цячы.
*Прич. наст. вр.* **цяку́чы**—текущий. МГсл. *Паток агародны̀ й калодзезь вод цякучых.* П. П. 4:15(з 12 кніг Б.). *Піць будуць сукравіцу, зь цел людзкіх цякучую.* Кіт. 64а12.
●**цяле́жкі**-*жак, единств. ч. нет.*—передок телеги с двумя передними колесами. Барс.; Ар.; Менск.; Ксл. *Прыцягні цялежкі.* Мікалаёва Куз. (Ксл.). *Уменьш.* **цяле́жачкі**-*чкаў.* Ар. *Міхалішка, Гаргалішка, сама сабе пані, прадала цялежачкі, купіла сані.* Ар.
●**цяле́ш**-*ша̀, предл.-шу, зват.* цялѐшу; *мн. ч.-шы-шоў-шом, на целяшох, м.*—пень, ствол дерева. *Гніем, бы з таго дубу целяшы.* Кавыль: Думы, 15. *Які цялеш, такі клін, які бацька, такі сын. Послов.*—яблоко от яблони не далеко котится. *Пайду ў лес, высяку цялеш, зраблю два карыты, адзін карэц і шыла канец.(— жалуд).* Рапан., Прык. 350.
●**цялё,** *цяляці-ці, вин.* цялё; *мн. ч. цяляты-ят(-ятаў)-ятам-яты-ятах, ср.*—телёнок. Ар. *Карова ходзе зь цялём*—корова ходит с телёнком. *Карова зь цѐлям*—корова стельная.
●**цялёпацца**—шлепать по грязи. Гсл.
●**цяля́тнік**—хлев для телят. НК: Очерки, 258.
●**цяля́тніца**-*цы-цы, ж.*—ухаживающая за телятами. НК: Под. пос., 43.
●**цяля́ціна**-*ны-не, ж.*—телятина. Ар.; Ксл. *Цяляціна смачная.* Альшанікі Беш. (Ксл.).

●**цяліцца**-*люся-лішся*—телиться. Ар. *Соверш.* **ацяліцца**—отелиться. Ар. *Наша карова ўжо ацялілася, — ацеліцца на гэтым тыдню.* Ст. *Отгл. имя сущ.* **ацяле́ньне** *-ня*—отел. Ар.

**на ацяле́ньню**—в скором времени отелиться. Ар. *Карова на ацяленьню.* Ар.

**цялу́шка**—телочка. Гсл.

●**цяльпу́х**-*уха̀, предл.-уху̀, зват.-у̀ша, мн. ч., дат.-хом, мн. ч., предл.-хох, м.*—круглый, толстый обрубок дерева. Ксл. *Ён ледзь прынёс асінавы цяльпух.* Русінава Сян. (Ксл.). *Але ж ты цяжкі, як цяльпух.* Тм. *Уменьш.* **цяльпушок**-*шка̀, предл.-шку̀, зват. цяльпу́шку, мн. ч., дат.-шком, мн. ч., предл.-шкох. Перакулі гэтыя цяльпушкі на іншае месца.* Нсл. 404( *под* перакуліць ).

●**цям: на цям ня прыходзе**—забываю, не припоминаю. Каралішчавічы.

●**ця́місты**-*тая-тае,* **1.** примечательный (заметливый, С.) Нсл. 694. *Нябось, ён хлапец цямісты.* Нсл.

**2.** легко примечаемый, Нсл.; Мгсл. заметный. Нсл. *Дарога цямістая, ня зблудзіш.* Нсл.

●**ця́міць,** (Скарына II Ц.) *цямлю, цяміш-ме, перех.* **1.** разуметь, смыслить, понимать, Вят., Вост., Тмб., Пск. (Даль); Гсл.; Нсл. 694; Ксл. разуметь, смыслить. Шсл. *Ён цяміць гаворку нашу.* Нсл. *Ані нічога ён ня цяме.* Ст. *Цяме ён добра!* Шыркі Куз. (Ксл.). *Ён цяме гаворку нашу.* Нсл. *Ці ня цяме твая галава, што ты вырабляеш?* Нсл. *Вы болей за ўсіх нас будзеце цяміць, што й як рабіць.* Дзьве Душы 117. *Соверш.* **уця́міць, а)** уразуметь, понять, Ксл. уразуметь. Шсл. *Ён добра ўцяміў дарогу.* Пожынкі Сян. (Ксл.). *Ніяк ня можа ўцяміць нічога.* Ст. *Адам ня ўцяміў, што рабіць.* Марціновіч(Беларус, Но. 159). *Я толькі аднаго не магу ўцяміць: чаму вас так парушаюць бычкі нашы?* Макаёнак: Каб людзі... *Так ён неяк, што не магу яго ўцяміць: як быццам за нас, як быццам не.* Дзьве Душы 97.

**б)** вперить, устремить. Нсл. 77. *Уцяміць вочы ў што.* Нсл. *См. уцеміць.*

**2.** соображать. МГсл.

**3.** помнить. Нсл. 694. *Ці цяме твая галава, што ты вырабляеш.* Нсл.

**4.** припоминать. Нсл. *Ты можа цяміш, прыцяміў гэта, што ён табе казаў.* Нсл.

**5.** примечать(замечать, С.) Нсл.; Гсл. *П'яны ты нічога ня цяміш, што яны каля цябе шамбераць(—сьмяюцца зь цябе,* **С.)** Нсл. *Соверш.* **вы́цяміць**—высмотреть, заметить, присматривая за чем. Нсл. 102. *Выцяміў ткі, калі ён вышаў і куды пайшоў.* Нсл.

**ця́міць,** *соверш.* **цяміла,** *безлич.*—надоумливает, надоумило, наводит, навело, подразумевается невидимая сила, добрая или злая. Нсл. *Цяміць, цяміла цябе, як хораша гэта робіш, зрабіў.* Нсл. *Няхай цябе цяміць, што ты тут панарабляў.* Нсл. *О! каб цябе цяміла за гэткую работу.* Нсл. *Цяміла вас паехаць гэтаю дарогаю, а то б разьмінуліся.* Нсл.

**нацяміць 1.**—заметить в уме(приметить, С.) Нсл. 739. *Я нацяміў сабе харошую дзяўчыну.* Нсл.

**2.** наметить.

**нацямлеваць**-*люю-люеш-люе, многократ. к цяміць, 2,* **1.**—насматривать, замечать в уме. Нсл. *Нацямлевай дарогу, калі б, адтуль едучы, ня зьбіцца.* Нсл.

**2.** намечать.

**прыця́міць, 1.** заметить, приметить. Ксл. *Прыцяміў, хтось шаволіцца.* Нсл. *Я ня прыцяміў, як ты прышоў.* Нсл. *Я ня прыцяміў, ці ён там быў, ці не.* Суднікі Куз. (Ксл.). *Ці ты гэтага ня бачыў, ня прыцяміў?* Вел. Куз. 196.

**2.**—привести на память, припомнить, Нсл. 517. вспомнить. Ксл. *Ня прыцямлю, калі й пры кім гэта было.* Нсл. *Ніяк ня прыцямлю, калі гэта было.* Лазок Куз. (Ксл.).

**прыця́млены**—замеченный. Нсл. 517. *Прыцямлены час, конь, куст, лес.* Нсл. *Несоверш.* **прыцямля́ць**-*я̀ю-я̀еш-я̀е; повел.-яй-яйма, многократ., перех.* **1.** примечать, НК: Дудар, Но. 10. внимательно посматривать, замечать. Нсл. 517. *Прыцямляй, прыцям, ці ня будзе хто ехаць.* Нсл.

**2.**—приводить на память, припоминать. Нсл. 517. *Прыцямляй, як гэта дзеялася.* Нсл.

**сьця́міць, 1.** понять. Нсл. *Ён сьцяміў гаворку нашу.* Нсл. 694. *Дзе схаваны іх прычыны — ня ўсім сьцяміць і згадаць.* С. Музыка 233.

**2.** сообразить. Шсл.; МГсл. *Ня сьцяміў адразу, у чым дзела.* Ст. *Я даўно сьцяміў, куды ён ходзе поначы.* Глебаўск Сян. (Ксл.). *Ніяк ня сьцямлю, што ён робе.* Слабодка Куз. (Ксл.). *Прич.* **сьця́млены, 1.** понятый.

**2.** соображенный.

**3.** примеченный издали. Нсл. 628. *Яны здалеку сьцямлены мною.* Нсл.

●**ця́міцца**-*млюся-мішся,* **1.** всматриваться в даль. Нсл. 694. *Куды ты цямішся?* Нсл.

**2.** присматриваться(вблизи, Нсл.) Ксл. *Цяміся й ты на рынку рыбы.* Мазалава Куз. (Ксл.). *Цямлюся, ці ня мой гэта конь.* Нсл. *Соверш.* **прыця́міцца, а)** всмотреться в даль. Нсл. 694. *Куды ты прыцяміўся?* Нсл.

**б)** напрячь взор и внимание, всмотреться. Нсл. 517. *Прыцямся да гэтага каня; здаецца ён наш, што ўкралі.* Нсл. *Прыцяміўся і пазнаў.* Нсл. 694.

**3.** запропаститься. Шсл. *А бадай ты цяміўся, які ж ты дурны, браце!* Ст.

**ця́мся яно!**—пусто ему, пропади оно! Гсл.

**уця́міцца**—сосредоточиться взором(и вообще, С.) Ксл. *Як уцяміцца ў што, дык не адарваць.* Луб'ева Аз. (Ксл.). *Было тое, мабыць, пад восень, бо добра ўцямілася хлопцу, як уланы абтрэсьлі і да апошняга яблычка падабралі ўвесь іхны і*

*суседнія сады, патапталі гароды.* Акула, 294.

**•ця́мка,** *нареч.* **1.** помнится. Нсл. 694. *Цямка імне, як ён гэта казаў.* Нсл.

**2.** заметно. *Ср. цямкі, 4. Ср. ст.* **цямчэй** —более заметно. *Сюды цямчэй ісьці.* Нсл. 695.

**3.** ловко, удачно(метко, С.) Нсл. 694. *Цямка хапіла стрэльба, тры вуткі забіла.* Нсл.

**•ця́мкі(цямкі́.** Пц.)*-кая-кае,* **1.** понятливый. Ксл. *Які цямкі — раз паглядзеў і ўжо навучыўся.* Падданы Сян. (Ксл.). *Ты, відаць, хлапчына цямкі.* С. Музыка, 182.

**2.** сообразительный. Шсл. *Цямкі ён хлопец: адразу ськеміў.* Ст. *Цямкі хлапец! зараз сьцяміць, што яму пакажаш.* Нсл. 694.

**3.** приметный(наблюдательный, способный замечать и запоминать, С.) НК: Очерки, Но. 454.

**4.** внимательно присматривающийся, подличающий что-нибудь; владеющий верным зрением. НК: Очерки, Но. 91.

**5.** заметный. Пц. *Гэта цямка̀я сьцюгавінка.* Пц.

**6.** памятливый. Нсл. 694. *Цямкі ты на ліха.* Нсл. *Цямкая справа.* Нсл. *Гэта ноч будзе цямкая нам.* Нсл. 694.

**цямшы,** *ср. ст.,* **1.** более понятливый, более сообразительный. *Ты цямшы за мяне.* Нсл. 695.

**2.** более заметный. *Пойдзем валей цямшаю дарогаю.* Нсл. 695.

**•цямкі́**-*мак, единств. ч. нет.*—глазомер. НК: Очерки, 219.

**браць, ісьці нацямкі**—делать наугад, напролом, итти напрямик. НК: Очерки, Но. 91.

**на цямкі́**—на глазомер. НК: Очерки, Но. 454. *Паехаў на цямкі.* Нсл. 687.

**•цямлівасьць**-*ці, ж.* **1.** понятливость. МГсл.

**2.** сообразительность. МГсл.

**•цямлівы**-*вая-вае*—понятливый. МГсл.; Ксл. *Ён хлопчык цямлівы, уцяміць яму як плюнуць.* Шыркі Куз. (Ксл.).

**•цямнота**-*ты, дат., предл.-це, ж.*—темнота. МГсл.; ЗСД. 131. *Прыціхла ў цямноце жыта.* Дзьве Душы 110. *Беднасьць, ціша й цямнота.* Гарун(ст. "Мае Думкі"). *Сілы ўсе страціў у бойцы зь цямнотаю.* Гарун: Думы ў чуж.

**•цямні́ца**-*цы-цы, ж.*—темное помещение. Ксл. *Нічога ня відаць у гэтай цямніцы.* Купіна Віц. (Ксл.).

**•цямні́ць**-*ню*—затемнять. Ксл. *Не цямні, ня відаць, як мыць.* Купіна Віц. (Ксл.).

**•ця́мны**-*ная-нае*—понятливый. МГсл.

**•ця́мна,** *в зн. безлич.*—памятно, приходит на память. Нсл. 694. *Цямна мне, што ты ня ўсі грошы аддаў, што пазычыў у мяне.* Нсл.

**•ця́мскі**-*кага*—очень заметный по продолжительности. Нсл. *Цямскі час ты там сядзеў, забавіўся.* Нсл.

**•цяні́ць**-*ню, соверш.* **пацяні́ць**—убавлять, убавить толщины чего-л., сделать потоньше, утон-ить-ять. Ар.

**•цянюці́ць**-*чу, соверш.* **пацянюціць**—тоже, что *цяніць*, но делая еще более тонким. Ар.

**•цянькі́**-*коў*—прямик. Ксл. *Пойдзем на цянькі.* Застадольле Сян. (Ксл.). *Цянькамі барждждэй будзем.* Лужасна Куз. (Ксл.).

**•цянькі**—ближайшая дорога. Гсл. *Пайшоў на-цянькі.* Гсл.

**•ця́паць**-*аю-аеш-ае, несоверш., перех.* **1.** хватать зубами, свойственно кусающимся животным. Нсл. 695. *Сабака ціхенька падыйшоў, дый цяпнуў за лытку, і ўкусіў; надабе набіць яго, каб ён ня цяпаў другі раз.* Нсл. *Однкр.* **ця́пнуць**-*ну-неш-не,* **а)** схватить. Ксл. *Хлопчык цяпнуў лыжку.* Чарнагосьці Беш. (Ксл.).

**б)** ударить. Ксл. *Цяпнуў дручком па галаве.* Гуліна Сян. (Ксл.). *Соверш.* **прыця́пнуць-неш-не,**—пришить наскоро. Нсл. 517. *Прыцяпні гэтыя рызманкі.*

**2.** медленно делать. Шсл. *Цяпае, як на заўтрае яму надабе.* Слопішча Шацк. (Шсл.).

**•цяпе́р, цяпе́рака,** *нареч.*—теперь. Ар.; Ксл. *Цяперака ўжо павінна быць цёпла.* Чашнікі (Ксл.).

**•цяпе́рашні**-*няя-няе,* **1.**—настоящий. Гсл.

**2.** нынешний. МГсл.

**•цяпе́рацька,** *нареч.* — *цяпер.* Ксл. *Цяперацька ты ня пойдзеш.* Чараўкі Сян. (Ксл.).

**•цяпера,** *нареч.*—теперь. *А цяпера і дзеці прыдбалі, і ад дзяцей ты адчураўся.* Дсл. *См. цяпер.*

**•цяпло**-*ла̀, ср.*—огонь, Нсл. 687; Дзяніскавічы НЗ.(Шэйн II) огонь в печи и разведенный на поле, вообще огонь не для освещения, Ксл.; Кацельня Пц. огонь, костер, Гсл. костер, Растсл.; ПНЗ. огонь вообще, под каковым именем, однако, нельзя считать пожарного огня, НК: Очерки, Но. 668. огонь. М. Туд(Гринькова, IУ). *Чаму цяпло ня паліце?* НК: Очерки, 332. *Запалі цяпло ў печы.* Санікі Беш. (Ксл.). *Яны раскладаюць цяпло на полю.* Бікложа Беш. (Ксл.). *Пастушкі расклалі цяпло.* Ст. *Узадзьміце цяпло.* Нсл. *Асьцярожна хадзі зь цяплом.* Тм. *Дудар падлівае масла ў вясельнае цяпло.* НК: Дудар, 170. *Прыгарні бульбу бліжэй к цяплу, хай добра выпякаецца.* Ст.(Шсл. *под прыгарнуць*). *Пададзьмі цяпло на комінку, бо нешта тухне.* Ст.(Шсл. *под пададзьмі*). *Забіў казу, наклаў цяпла, адрэзаў сьцягно, сьпёк і пачаў есьці.* Дзяніскавічы НЗ.(Шэйн II, 161). *Кладуць цяпло.* Кацельня Пц.

**раскладаць цяпло**—разводить огонь. *Любе дзед, расклаўшы цяпло пад асецьцю, грэць старыя косьці.* Гарэцкі: Песьні, 13. *Клаў пад лесам вялічэзнае цяпло й пёк бульбу.* Тм. *Раскладалі цяпло.* ЗСД 63. *Уменьш.* **цяпе́лца**-*ца, предл.-цу*—огонёк. Шсл.; Люц. *Якое вясёлае цяпелца!* Ст. *Бліснула цяпелца.* Ст. *Цяпелца нейдзе бліснь дый прапала.* Ст.

•**цяплосьць**-*ці, ж.*—теплота. *Ад цяплосьці не баляць косьці. Послов.*—пар костей не ломит. НС., стр. 123.

•**цяпліня́**-*ні-ні, ж.*—теплота. *Вабіла душу цяплінёю сваёю.* Васілёк(Калосьсе, Но. 16, 1938 г., стр. 132). *Падходзілі, ціснулі руку... І чулася цяпліня, глыбокая, нявымоўная лучнасьць душаў.* Васілёк(Тм., стр. 134).

•**цяпую́х**-*ха, общ.*—разиня. Ксл. *Эх ты цяпуюх, цяпуюх!* Глазамічы Сур. (Ксл.).

•**цяробкі**-*каў, единств. ч. нет.*—непригодные в пищу обрезки огородных овощей, употребляемые как корм животным. Ксл. *У ражцы ляжаць цяробкі.* Дабрыгары Беш. (Ксл.).

•**цярэхаўка**-*кі-цы, ж.*—мотылёк. Растсл. *См. цярэшка. Уменьш.* **цярэшка**-*кі*—мотылёк. Растсл.

•**цярэмшына**-*ны-не, ж.*—черемуховое дерево. Ксл.

•**цярпе́ньне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к цярпець*—страдание, МГсл. боль, перенесение боли. Нсл. 686. *Для суднага цярпеньне голаду за недаваньне фітрэ*(*араб.*) *будзе.* Кіт. 20а5. *Вялікае цярпеньне маю ў паясьніцы.* Нсл.

•**цярпе́ць**-*плю, цѐрпіш-пе, несоверш.* **1.** страдать. *То яшчэ хто ест, жэ так веле мукі цкрпяць?* Кіт. 129а9. *Гэтыя, што за дзівы чынілі, што так веле церпяць мукі?* Тм. 130а4.

**2.** *за каго-што, зь якое прычыны*—страдать, претерпевать муки, гонения, преследования из-за кого, чего-л. или во имя кого, чего-л. *Цярпець за ідэю, за пераканаьні.*

**3.** терпеть, безропотно переносить что-л.(лишения, неприятности и т.п.)

**4.** терпеть, мириться с наличием, существованием кого-чего-л.

*Соверш.* **сьцѐрпіць**-*плю-піш-пе*—снести, выдержать, Нсл. 627. стерпеть. *Колькі разоў я цярпеў ад цябе крыўды, а цяпер ня сьцерплю.* Нсл. *Я, кума, ня сьцерпіла — я пані агрызнулася.* Дсл.( *под агрызнуцца*). *Соверш.* **уцѐрпіць**-*плю-піш-пе*—вытерпеть. Ар.; Нсл. 77. *Ня ўцерплю, скажу.* Нсл. Ледзь уцерпіў. Нсл. *Такі жаль абгарнуў, што ня ўцерпіла маладзіца ды заплакала.* Ст. *Ня ўцерпіў, узьняўся бурай.* Гарун: Песьня.

•**цярпе́цца**, *цѐрпіцца, страд. к цярпець* —терпеться. *Соверш.* **ацѐрпецца**-*плюсяпішся*—свыкнуться с неприятным положением. Дсл.; Нсл. 387. *Ацерпіўся троху ў вадзе, а адразу дужа было сьцюдзена.* Дсл. *Як ацерпішся, то й жыць будзеш.* Нсл. *Соверш.* **нацѐрпецца**—натерпеться. Нсл.; Ар. *Нацерпеліся і голаду і холаду.*

•**цярплівосьць**-*ці, ж.*—терпеливость.

•**цярплі́вы**-*вая-вае*—терпеливый. Ар.; Ксл.; Шсл. *Я здэцца цярплівы.* Тат.: Кво вадыс, 241. *Якое цярплівае дзецянё: па марозе ў вадным рызьнячку ходзе.* Ст. *Я такога цярплівага й ня бачыў.* Гунчанкі Сур. (Ксл.).

•**цярплі́ва**, *нареч.*-терпеливо. Гсл.; МГсл.

•**цярту́ха**-*ўхі-ўсе, ж.* **1.** нюхательный табак. Слабодка Куз. (Ксл.). *Дабыў з табакай рагавень і храпы напіхаў цяртухай.* Тарас на Парнасе. *Ярэмка з Косьцям быў першым госьцям, сядзеў у куточку на палазочку, цяртуху нюхаў, музыкі слухаў.* Старавялл. калядка(Б. Шляхам).

**2.** кушание из (тёртого) картофеля после варки. Ксл. *Цяртухі аднэй наеўся.* Гарадок (Ксл.).

•**цярушы́ць**-*шу́-шыш-ша,* **1.** порошить. Шсл. *Цяруша маленькі сьняжок.* Ст.

**2.** рассыпать что-л. мелкое, Шсл. трусить. Ксл. *Не цярушы шумы*( ссора) *па хаце!* Ст. *Не цярушы тут сена!* Лужасна Куз. (Ксл.). *Соверш.* **ацярушы́ць**-*шу́-шыш-ша; повел.-шы-шыма*—отряхнуть. Шсл. *Шапку ацярушы ад сьнегу!* Ст.

**зацярушы́ць**—запорошить. Гсл.

**пацярушы́ць,** *чым и без доп.* —попорошить. Шсл.; Ксл. *Пацярушыў зьверху сенам і до.* Любашкова Выс. (Ксл.).

**зацярушы́ць** *каго-што,* **1.**—запорошить. Шсл.; Гсл. *Зацярушыў вока.* Ст.

**2.** затрусить, засыпать легко чем-н. Нсл. *Зацярушы сьвіньням сечыва мукою.* Нсл. 192. *Пушнога жыта насыпаў, а чыстым зацярушыў.* Нсл.

**3.** поморосить. Шсл. *Пацярушыў дожджык.* Ст. *Прич.* **зацяру́шаны, 1.** запорошенный. Шсл. *Нечым зацярушаны квас.* Ст.

**2.** затрушенный чем-н.. засыпанный легко тоненьким слоем. Нсл. 192. *Зацярушаны мукою.* Нсл. *Соверш.* **нацярушы́ць,** — напорошить, Шсл. натрусить, насорить. Нсл. 688. *Нацярушыў у хаце сенам.* Нсл. *На гумне нацярушыў саломы.* Ст. *У малако нацярушылася сьмецьця.* Ст. *Прич.* **нацяру́шаны, 1.** насоренный(натрушенный, **С.**) Нсл. *Падмяці нацярушаную сенам хату.* Нсл.

**2.** накрошенный(насоренный, **С.**) Нсл. *Падбяры нацярушаны хлеб.* Нсл. *Соверш.* **расьцяру́шыць,** *каго-што,* **1.** рассыпать изредка. Нсл. *Нясучы неасьцярожна, расьцярушыла каноплі із скварады.* Нсл. *Расьцярушыў сена па ўсім гумне.* Ст.

**2.** раскрошить(очень мелко, **С.**) Нсл. *Расьцярушы хлеба на рулі.* Нсл. *Прич.* **расьцяру́шаны, 1.** рассыпанный редко. Нсл. *Расьцярушаныя каноплі няхай куры падбяруць.* Нсл.

**2.** раскрошенный(очень мелко. **С.**) Нсл. *Расьцярушаны хлеб, пірог, усып у страву.* Нсл.

•**цярушы́цца**-*ы́цца*(*1-ого и 2-ого лица нет*), *несоверш.,* **1.** крошиться. Нсл. 688. *Хлеб мяккі не цярушыцца.* Нсл.

**2.** рассыпаться чему-л. мелкому, Шсл. просыпаться понемногу. Нсл. 688. *Цярушыцца мука зь меха.* Ст.

**ацярушы́цца**—отряхнуться. Шсл. *Ацярушыся ад сьнегу.* Ст. *Ср.* **ацярушы́ць.**

**зацярушыцца**-*шуся-шышся-шыцца,* **1.** запорошиться.
**2.** засориться, покрыться тоненьким слоем. Нсл. 192. *Мука зацярушылася пылам непакрытая.* Нсл.

**нацярушыцца,** *возвр.* **1.** напорошиться. Шсл.
**2.** натруситься, насориться.

**пацярушыцца,** -*шуся-шышся*—попорошить. Шсл. *Пацярушыўся невялічкі сьнег.* Ст.

**расьцярушыцца, 1.** рассыпаться изредка по неосторожности. Нсл. *Пшаніца скрозь дзірку расьцярушылася, а ты ня бачыш.* Нсл.
**2.** раскрошиться(очень мелко, **С.**). Нсл. *Піроґ у дарозе расьцярушыўся.* Нсл.

•**цясла**-*лы, ж.*—вид топора для выдалбливания дерева.•Ксл. *Карыта бяз скоблі й цяслы ня зробіш.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).

•**цясла**-*лы, ж.*—бочарный желобчатый инструмент. НК: Очерки, 346. *Цяслы цяслуюць, труну гатуюць.* Из песни, Виленщ.

•**цяснота**-*ты-це, ж.*—теснота. НК: Очерки, 227; Гсл.. *У цясноце як-ні-як пражывем.* НК: Очерки, 227. *Бегла назад у цясноту свайго пакойчыка.* Дзьве Душы 133.

•**цяцера**-*ры-ыры, ж.*—тетерев. Міх. *Цераз мой двор цяцера ляцела, ня судзіў імне Бог каго я хацела.* Из песни. Міх. *Уменьш.* **цяцерка**-*ркі-рцы.* Ар.; Ксл.; Траецкае Бранск. п.(Дурново: Раз. 97). *Цяцерку забіў.* Горбава Лёз. (Ксл.). *Забіць цяцерку ў чорных аборках*—приволокнуться, овладеть женщиной. НК: Очерки, 125.

**цяцеранё**-*няці, мн. ч.-няты*—птенец тетерева. Міх. *Цяцера ўзьляцела, а цяцераняты пахаваліся.* Міх.

•**цяціва**-*вы, ж.*—стебель. МГсл. *См. цецявà.*

•**цяціўе**-*ўя*(**цяціўё,** Ар.), *собир.*—стебли, ботва. Ар.; Ксл. *У бульбе парасло вялікае цяціўе.* Асінаўка Беш. (Ксл.).

•**цяціўнік**-*іка, м.*—.... *Бульбяны цяціўнік.* НК: Очерки, 422. *Ср. цецявà.*

•**цяць,** *тну, тнеш, тнець, тнем, тніцè, несоверш. и соверш.* **1.** рубануть, ударить, Нсл. 695. нанесть ловко удар. Шсл. *Цяць,* как и сложные: *уцяць, нацяць* и др. выражает действие быстрой получки; но *выцяць* обозначает стремительный однократный удар по живому телу. НК: Очерки, Но. 889. *Майстра зь Мірà, што цяў, то дзірà.* *Послов.* *Цяў абухом у лоб і капут кабану.* Нсл. *Цяў яму прутом па галаве.* Ст. *Дзе пярун тне, там шчасьце заьруіцца.* Кавыль: Думы, 5. *Дала гэта жонка яму цыцкі, дык дзяцё калі тне яе зубамі за цыцку.* Мікольск. М.(Демид.: Веров. 102). *Калі касьбіт забраўся ў вастравінку, дык ён можа цяць і колькі пластоў.* НК: Очерки, 456. *Мушка на аконку ў цымбалікі тнець.* Из песни. *Люты смутак душу тне.* Жылка, 81. *Соверш.* **уцяць**—резнуть, быстро срезать. — *А чыя ж іскрыпка гэта? зноў спытаўся гаспадар. — А яго! О, грацьён мэта. Ну, Сымоне, утні, браце.* С. Музыка, 88. *Прич.* **уцяты.** *У лесе ўцята, у хлеве ўзята, на руках плача*(*іскрыпка, загадка*). НК: Дудар, 199. *Ні цяць ні ўзяць* (Рапан. 45)—ни дать, ни взять, совершенно также, такой же и т.п. *Дасьць ён табе касішчу — во якую, сам возьме другую — ні цяць, ні ўзяць такую.* НК: Пасоб., 137.
**2.** тягу дать, Нсл. 695. *Цяў з усіх ног.* Нсл. *Ні ўцяць, ні ўзяць.* *Послов.* Рапан. 45. *Многократ.* **цінаць,** *каго-што*—сечь розгами. Нсл. *Цінай яго часьцей, дык і паправіцца.* Тм.

**абцяць,** *абатнў-нèш-нèць-нèм-ніцè, соверш.* **1.** обсечь, обрубить, Нсл. отрезать, отрубить. Дсл. *Абцяць сучча ў дзерва.* Нсл. *Я табе абатну крыльле.* Нсл. *Абцяў палцы сякіраю.* Дсл.
**2.** обрезать в разговоре. Шсл. *Так абцяў яго, што адразу змоўк.* Ст. *Прич.* **абцяты.** *У курыцы абцяты хвост.* Ст. *Абцятае сучча.* Нсл.

**абцінаць**-*аю-аеш-ае, каго-што*—обсекать, обрубливать. Нсл.; Дсл. *Абцінаць сучча ў дзерва.* Нсл. *Пачаў ён дубу гольле абцінàць.* Дсл. *Пачаў абцінаць камель.* Дсл.
**2.** срывать растение, откусывая острыми зубами. *Жарабётка абцінае сабе авес.* Ст.

**адцяць,** *адатнў-нèш-нèць-нèм-ніцè-нуць, соверш. к* *цяць, адцінаць, перех.* **1.** отрубить, Нсл. 383; Ксл. отрубить одним взмахом. *Яму брат у лесе сякіраю адцяў палцы.* Азярэцк Сян. (Ксл.). *Адцяць сухі сук ад яблыны.* Нсл.
**2.** (метко, **С.**) или язвительно ответить. *Добра ты адцяў яму.* Нсл. *Прич.* **адцяты.** Нсл. 383. *Адцятага ня прыклееіш.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **адцяцьце.** *Многократ.* **адцінаць** *каго-што,* **1.** отрубать. Нсл. 383; Гсл. *Адцінаць сухія сукі ад яблыны.* Нсл.
**2.** *в зн. непер.*—делать (меткие или, **С.**) язвительные ответы. Нсл. *Добра ты адцінаеш яму.* Нсл. *Мець бы кавалак зямелькі, гэтак зь дзясяцін зь дзясятак, — думае ўчуткі Алесь. А да іх: гаспадарачку, сваю хатку, жонку й дзеткі, — сьмяецца зь яго Васіль. — Не патвойму лепш цягацца гэтак і шукаць працы, як ізь сьвечкаю голкі,— адцінае той.* Машара: Хлеб(Калосьсе, 2, 1935 г., стр. 77). *Отгл. имя сущ.* **адцінаньне**-*ня, предл.-нню, мн. ч.-ні-няў, ср.* **1.** отсечение. Гсл.; Шсл. *Руку даю на адцінаньне, што гэта няпраўда.* Нсл.
**2.** обрубание. Гсл.

**аццяць,** *атнў, атнèш, атнèць, атнèм, атніцè, соверш.*—обрубить. Нсл. 387. *Аціцнаць, аццяць сучча.* Нсл. *Прич.* **аццяты**—обрубленный. Нсл. *Аццяты дубок расьцець вышэй.* Нсл. 387.

**аццінаць**—обрубливать. Нсл. 387.

**зацяло,** *безлич.*—.... *Рамана як зацяло!* Сяднёў: Р. Корзюк.

**зацяць,** *затну, соверш.*—зарубить. Нсл. 192. *Зацяць надабе мерку.* Нсл.

**зацяць,** *затнў—..... Марыля зірнула й зацяла дух.* Дудзіцкі(Бацькаўшчына, Но. 376-377). *Прич.* **зацяты.** *Сядзелі ўсе хмарныя ад зацятага ўнутры спачуваньня.* ЗСД 345. *Соверш.* **зацяць**-*тну-тнеш-нець-тнем-тніцё—.... Ніна сударгава зацяла вусны, каб схаваць свае ўзрушэньне.* ЗСД 344.

**зацяло, затнець,** *безлич.*—отняло, отнимет язык. Шсл. *Бачыш, цяпер маўчыць, зацяло яму.* Ст.

**зацінаць**—.... *Мімаволі кажны ўдалы рух ездакоў сустракалі спачувальнымі ўскрыкамі і цяжка заціналі дыханьне, калі той ледзь-ледзь дзяржаўся.* ЗСД. 144,—зарубать. Нсл. 192. *Зацінай з канца бярвіно.* Нсл., *перен.*—часто сечь розгами. Нсл. 192. *Я такі яго зацінаю, зацяў і яшчэ затну добранька.* Нсл.

**зацяць**-*тнў-тнёш-тнёць-тнём каго-што,* **1.** сделать нарубки, Нсл. сделать насечки. *Гэтае дзерва не нацяў, а яго можна сьсячы.* Нсл.

**2.** нарубить чего-л. тонкого. Нсл. *Прич.* **нацяты, 1.** нарубленный. Нсл.

**2.** назначенный(помеченный, **С.**) нарубкою. Нсл. *Сячэце нацятыя дзервы.* Нсл. *Многократ.* **націнаць, 1.** нарубливать, делать нарубки, Нсл. насекать, делать насечки. *Націнай усякае таўстое дзерва.* Нсл.

**2.** рубить что-л. тонкое. Нсл. *Націнай хвārасток.* Нсл. *Перацяў мне цень іх дарогу, не магу ад яго уцячы.* Кавыль: Пад зорамі, 8.

**працяць,** *пратнў-нёш-нёць-нём-ніцё, пратнўць, соверш. к працінаць,* **1.** пронзить. *Куля працяла.* Броўка (Літ. і Маст. 17.9.71).

**2.** пронять, произвести сильное впечатление. *Сэрцы пратну заранiцаю новых надходзячых дзён.* Жылка, 34. *Агонь сьвятарнага алею душу працяў да глыбіні.* Крушына: Эрот. іскрыпка. *Несоверш.* **працінаць**-*аю-аеш-ае*—пронимать, сильно действовать, производить сильное впечатление на кого-л. *Калі дзяржу я лусту хлеба, я ўсё адпомнюся часьцей, як вецер прадзімае зрэб'е і працінае да касьцей.* І. Калеснік: Смак хлеба. *Спад нізкіх далёкіх хмараў біў хвалямі вецер — проста працінаў цела.* Вышынскі: Хата пад ліпою. *Сьмех пякучым дакорам сэрца працінаў.* Кавыль: Ростань, 38. *Боль працінаў яго.* Вышынскі: Хата пад ліпою. *Будзе Муза з імною гаворачы, працінаць маладосьць да касьці.* Крушына:Лебедзь, 34. *Прич.* **працяты** —проникнутый чем-л. *Хто волю верна сьніць, працят лятункам аб вялікім, таго не спакусіць.* Жылка, 43.

*Колькі часінаў ён глядзеў на яе здалеку, працяты бязьмерным жалям.* ЗСД 170. *А зь берагу плыла на ваду стройная песьня, працятая трывожным смуткам.* ЗСД 133. *Працятая нейкім хваравітым жалям, яна кінулася ад вады.* ЗСД, 135. *Працяты глыбокай пяшчотай, ён шаптаў ёй скрозь ціхія пацалункі.* ЗСД 233. *Ізноў стары заплюскаў неўспадзеўкі і пацягнуўся да аччу насаткаю. А мы стаім працятыя пытаньням: "Чаго ж ты плачаш, добры чалавеча?"* Н. Гілевіч: Сьлёзы шчась. чалавека. *Працятая жахлівым страхам, дрыжыць Настулька.* М. Змагар: Лесавікі.(Б. Ускалось, Но. 6).

**прыцяць,** *прытнў-нёш-нёць-нём-ніцё, соверш., перех.* **1.** пресечь. Нсл. 516. *Чаму ты ня прыцінаеш, ня прытнеш языка сваей жонцы?*

**2.** о тесной одежде или обуви: прижать. Нсл. 516. *Бот у палцах прыцінае, прыцяў.* Нсл.

**3.** сделать резкий упрёк(упрёки). Нсл. 516. *Я добранька яму прыцяў.* Нсл. *Несоверш.* **прыцінаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** пресекать. Нсл. 516. *Ты імне дарогу прыцінаеш, прыцяў хадзіць туды.* Нсл.

**2.** о тесной одежде или обуви: жать. Нсл. 516. *Сарочка пад пахамі прыцінае.* Нсл.

**3.** делать резкие упрёки, укоризны. Нсл. 516. *Сам быўшы вінен, дый імне прыцінаеш.* Нсл. *Соверш.* **расьцяць,** *разатнў-тнёш-тнёць-тнём-тніцё*—рассечь. *Расьцяць тушу.* Нсл. *Разатні костку.* Нсл. *Прич.* **расьцяты**—рассеченный. *Расьцятае зялеза.* Нсл. *Многократ.* **расьцінаць,** *каго-што*—рассекать. *Расьцінаць бярвіно.* Нсл. 560.

**сьцяць,** *затнў, затнёш, затнёць, затнём, затніцё, соверш.* **1.**—быстро срезать. Ксл. *Сьцялі галаву.* Мяжа (Ксл.). *Сьцяў дубцом былінку.* Тм. *Касою сьцяла сьмерць.* Кавыль(Б. Моладзь, Но. 18, 20).

**2.** вообще быстро срезать, срубить. *Як га сьцяў хвою.* Гурло, 26. *Сьцяў кол аберуч.* Гарэцкі: Песьні, 59. *У балоце сьцяў*(—срубил), *у хлеве зьняў, на рукі ўзяў — плача.*(*іскрыпка, загадка*). НК: Дудар, 199.

**3.** быстро сомкнуть(о зубах, рту). *Гаў — і зуб сьцяў.* *Послов.* Рапан. 191. *Прич.* **сьцяты, 1.** срубленный, срезанный. *Сохла зельлейка сьцятае.* Гарун: Жабрачка.

**2.** (о людях)— обезглавленный. *Ні сьцяты, ні павешаны.* *Послов.*(о скверном, неопределенном положении). Ар. *Отгл. имя сущ.* **сьцяцьце**-*ця, предл.-цю; мн. ч.-ці-цяў,* **1.** срезание.

**2.** усекновение(головы). *Несоверш.* **сьцінаць**-*аю-аеш-ае—.... Абдзіраловіч слухаў, як загіпнотызаваны нечым сьмярдзючым, гібкім; быццам нешта ліпкае, жудаснае наліпае на яго, а ў горле сьцінае дыханьне.* Дзьве Душы 167.

**выіцяць,** *вытну-неш-не,* **1.** стремительно ударить гибким предметом. НК: Очерки, Но. 699. Обозначает стремительный однократный удар по живому телу. НК: Очерки, Но. 899.

2. вообще ударить. Ар.; Шсл.; Беліца Сян. (Ксл.). *За што ён мяне выцяў?* Тм. *Выцяў сабаку паленам.* Ст. *Баба гатуецца, каб качаргой выцяць па галаве.* Я. Г-кі: Казкі, Но.2, стр. 18. *Вытне ён сабаку палкаю.* Сакуны 73. *Вартаўнік памог мне, выцяўшы прыкладам у сьпіну.* Бацьк., Но. 435-436. *Выцяў яго кулаком мяж плеч.* Сакуны. *Ліквідаца прыгону моцна выцяла па капіталістычнай мануфактуры, падарвала й разбурыла яе.* Савецкая краіна, 1931 г., Но. 12, стр. 72.

•**ця́цца,** *тну́ся, тнѐшся, тнѐцца, тнѐмся, тніцѐся; повел. тніся*—удариться сильно. Нсл. *Цяўся аб вушак, аж іскры пасыпаліся з аччу.* Нсл. *Тніся сам галавою аб сьцяну, як ты мяне цяў.* Нсл.

**адця́цца,** *адатну́ся, адатнѐшся-ѐццанѐмся-ніцѐся,* **1.** *соверш. к* **адцінацца,** *1,2.*

**2.** отделаться от нападений и брани. Нсл. 377. *Ён зубаты, адатнецца.* Нсл.

**адціна́цца**-*а́юся-а́ешся,* **1.** отсекаться. Нсл. 383. *Сухое сучча цяжка адцінаецца.* Нсл.

**2.** *перен.,* С.—разлучаться. Нсл. *Ты, сястрыца, пойдзеш замуж, борзда ад нас адатнешся.* Нсл.

**3.** защищаться(давая меткие резкие ответы или удары, С.) Нсл. *Як ні адцінайся ад іх нападкаў, ніяк ня можна адцяцца.* Нсл.

**зацяцца,** *затнуся, затнешся, соверш.* **1.** заупрямиться. Дсл. 257. *Ты зацялася, кабыла — ня хочаш рабіць.* Дсл. *Несоверш.* **зацінацца.**

**2.** долго быть сердитым за обиду. Варсл. *Дзядзька зацяўся на Алёксу, што той пры дзельбе яго ашукаў.* Варсл. *Соверш.* **наця́цца,** *татнуся, натнешся, натнецца, натнемся, натніцѐся*—решительно приняться за что-н. Нсл. *Аканом націнаеца, нацяўся сядні дакасіць луг.* Нсл.

**націна́цца, 1.** решительно приниматься за что-н. Нсл.

**2.** упорно действовать вопреки. Нсл. *Не націнайся рабіць пасвойму! біты будзеш.* Нсл. *Соверш.* **наця́цца.** Нсл. *Конь нацяўся ня йсьці, хоць ты яго пячы.* Нсл.

**праціна́цца**-*на́юся, соверш.* **працяцца,** *пратнуся*—проникаться,-нуться. *Макрына раптам працялася безнадзейным спалохам.* ЗСД 144.

**сьця́цца,** *затнуся, затнешся,* **1.** покрыться тончайшим слоем льда. Ар. *Невялічкі марозік: вада ў лужы сьцялася.* Аш.

**2.** *перен.*—.... *Сьцялося сэрца, вочы засланілі сьлёзы.* Сачанка: Ліст да маці(Беларус, Но. 177).

*Соверш.* **вы́цяцца,** *вытнуся-тнешсятнецца*—ушибиться, Ар.; Нсл. 101. удариться. *У поцемку выцяўся лобам.* Нсл. *Выцяўся аб вугол.* Ар.

**выціна́цца**—ушибаться. Нсл. 101. *Каторы раз выцінаюся аб гэтую абсаду; дзьверы нізка пастаўлены.* Нсл.

**уцяцца,** *утнуся, утнешся*—отрезать, резко ответить. *Мужчыны падсьміхаліся з бабаў, зь іх дробнага, няспорнага завіханьня, тыя стараліся ўцяцца, каб мужчын перагнаць, каб асароміць, пасьміяцца зь іх.* ЗСД 146.

•**цячы́,** *цяку́, цячэш, цячэць,* **1.**—течь. Ар.; Шсл.; Ксл.; Гсл. *Із страхі цячэць брудная вада.* Гуліна Сян. (Ксл.). *Берка цячэць із бярэзіны.* Тм.

**2.**—протекать. Ар.; Шсл. *Кадушка ня годзіцца на капусту: будзе цячы.* Ст. *Вядро цячэць у дне.* Ст. *Соверш.* **нацячы**—натечь. Ар. *Прич.* **нацéклы,** (Нсл.)—натекший.

•**ці,** *област.* **чы.** Прéжде по большей части употреблялось *"чы"*; теперь решительно преобладает *"ці"*, а в литературном языке есть только *"ці"*, **1.** *распределительный союз* — или. Ксл.; Шсл.; Ар.; МГсл.,—или, при вопросе или без вопроса, когда два или несколько членов предложения взаимно себя исключают. Раст.: Северск. 129; Ар.; Ржэўскі п.(Гринькова: Тудовляне), **а)** при двух вопросах, взаимно исключающих друг друга: *Ці жыў ён, ці памер? Ці пойдзеш ты ці не?* Раст.: Северск. 129. *Чы мой лепшы, каторы пастыроў сваіх слухаець, ці такія, которыя упорныя, імамаў сваіх ня слухаюць?* Кіт. 6665-8. *А што, ці будзем біцца, ці мірыцца?* Погар(Афанасьев II, 1914, 195). *Сядні панядзелак ці другадзень? Не пасьмею ў бабусечкі папытаці, ці тут будзе начаваці, ці да дому паедзе?* Водзьвінка Імгл.(Косіч 254). *Гэта ці людзі табе казалі, ці ты сам змысьліў?* Нсл. 213., **б)** при сочетании исключающих друг друга понятий: *Ці п'яны, ці дурны, ці сусім здурэлы.* Раст.: Северск. 133. *Ці ты яму кажы, ці сьцяне, дык усяроўна.* Ст. *Ці куля раніла, ці мо' косьці ўжо стыгнуць.* Паперня М.("Нарысы", 333). *Ці вілы ў бок, ці сена клок.* Астроўна Віц. (Ксл.).

•**ці,** *област.* **чы II,** *частица вопросительная,* **1.** ли. Ар.; ПНЗ; Ксл.; Шсл.; Раст.: Смоленск 141. Одним из наиболее обычных способов выражения вопроса является употребление частицы *ці*, ставящейся в начале предложения, напр.: *Ці няма яго ў нас? Ці ня бачылі вы, куды ён пабег? Ці ня бацька твой здурэў?* Раст.: Северск., 129. *Татухна мой родненькі, выйдзі за вароты, ці шуміць лес-дуброва, ці стогне дарога, ці едуць баяркі?* Бародзінка Стдуб.(Косіч 238). *Папытаў: "Ці няма тут Чарнышовага?"* Дзяніскавічы НЗ.(Шэйн II, 162). *Адаме, ці баляць зубы ў мертвых?* Дсл.( *под Адам*). *Ці ня бачылі вы майго хлапца?* Ст. *Ці трэба табе саха?* Семянцова Беш. (Ксл.).

**2.** разве. Ар.; Ксл. *Ці ты ня бачыш?* Лужасна Куз. (Ксл.).

**ці ма́ла**—мало ли. МГсл.

**•ці што**—что ли. Ар.; Раст.: Северск. 134. *Даў бы яму рублі два ці што.* Север(Раст.: Северск. 134).

*ці-то*—то ли. Гсл.

**ці тое[ц. т.]**—то есть, т.е. Гсл.

**•ціха!**—тише. Ар.

**•ціхамі́рны,** *-ная-нае*—спокойный(мирный, Ксл.) Нсл. 689; Ксл., мирный(не склонный к вражде; чуждый волнений, С.), безмятежный. МГсл. *Ціхамі́рны чалавек з усімі жывець хораша.* Нсл. *Ён у нас нейкі надта ціхамірны, быццам дурны.* Шыркі Куз. (Ксл.). *Нареч.* **ціхамі́рна**—спокойно, безмятежно. Гсл.; Нсл. 689; Ксл. *У нас усе ціхамірна.* Нсл. *Я люблю жыць ціхамірна.* Навікі Віц. (Ксл.).

**•ціхамі́рыць**-*ру-рыш-ра; повел.-мір-мірма, несоверш., каго-што*—усмирять, успокаивать, Нсл. 689. умиротворять. *Ціхамір іх, няхай ня сварацца.* Нсл.

**засьціхамірыць,** *соверш., каго,* **сьціхамірыць**-*ру-рыш-ра; повел. -р-рма, соверш., перех.*—успокоить. *Сьціхамір дзеці.* НК: Старцы 83. *Соверш.* **усьціхамірыць,** *каго-што*—усмирить, успокоить, Нсл. 668. умиротворить. *Усьціхамір дзеці, дужа сваволяць.* Нсл. *Прич.* **усьціхамі́раны**—усмиренный, успокоенный, Нсл. 668. умиротворённый. *Народ усьціхаміраны.* Нсл.

**уціхамірыць**—успокоить, утишить.

**•ціхамі́рыцца,** *несоверш., страд. к ціхамірыць. Соверш.* **засьціхамірыцца, сьціхамірыцца**-*руся-рышся,* **1.**—успокоиться. Ксл.; Шсл. *Няхай сьціхамірыцца крыху надвор'е.* Ст. *Ці борзда вы ўжо сьціхамірыцеся?* Кузьміно Сян. (Ксл.).

**2.** присмиреть. МГсл. *Соверш.* **прысьціхамірыцца**-*руся-рышся*—присмиреть. Нсл. 513. *Наш гайсун прысьціхаміраўся.* Нсл.

**усьціхамірыцца,** *возвр.*—успокоиться, Нсл. 668; Ксл. умиротвориться. *Ну, усьціхамірыўся; хай высьпіцца.* Рыбчына Сір. (Ксл.).

**уціхамірыцца**—успокоиться, утихнуть. Гсл.

**•ціхачом,** *нареч.*—тишком, тихонько, Гсл. втихомолку. МГсл.

**•ці́хень**—слабый гром. чч.

**•ціхі́**-*хая-хое*—тихий, мирный. МГсл.

**ціха,** *нареч.*—тихо. *Ласкат.* **ціханька.** *Ходзе ціханька, а думае ліханька. Послов.* Рапан. Прык. 158.

**•ціхма́н**-*ана, предл.-ану, зват.-ане; мн. ч.-ныноў-ном-ноў-намі-нох, м.*—тихоня. Ар. *См. рахманіна.*

**•ціхманы**-*ная-нае*—тихий, смирный. *Ужо заўжды ціхманая — нацеча чырвонай хваляй б'ецца ў берагі.* Ар.; Вольскі: Паланянка. *Бяз дай прычыны ня ўбрыкнець — ціхманы і рахманы.* Г. Кляўко(Ускалось, Но. 13. 24). *Ня мог бы я ні дня пражыць, калі б хвоек карагод не хваляваў сонтравой ціхманай.* Лойка: Л. песьня.

**•ціхме́нь**-*ня*—тишина, безветрие. Слабодка Куз. (Ксл.).

**•ціху! ціхуце!** — *мн. ч. употребляется при обращению к многим* — молчать! тише!. Іг.

**•ціхцам,** *нареч.*—украдкой, тихонько. Гсл.

**•ці́хці**-*хну-хнеш-хне; прош. вр.* **ціх, ціхла,** *несоверш.*—становиться тише, слабее; смолкать, затихать.

**аціха́ць**-*ае, несоверш.*—утихать. Шсл. *Соверш.* **аціхці**-*не*—утихнуть. Шсл. *Няхай хоць трохy бура аціхне.* Ст. *Гулі не аціхаючы словы ейныя.* Вышынскі: Хата пад ліпою (Беларус, Но. 155).

**сьціха́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—стихать. *Соверш.* **сьціхці**-*хну-хнеш-не*—стихнуть.

**•ціж**—разве, неужели. Ар.; Шсл. *Ціж ты ня чуў, што я табе казаў?* Ст. *Ручкі белы, шэры вочкі, рабі, рабі, сіротачка, аж да цемнай ночкі. — А, Божа мой мілюсенькі, ціж я не рабіла, чаму мая работанька нікому ня міла?* Из песни.

**•ціка́ва(цяка́ва,** Нсл. 686,)—любопытно. Ар.; Нсл. *Цікава ведаць, чым гэта скончыцца.* Нсл.

**2.** интересно, Ар.; Ксл.; Шсл. занятно. *Цікава, што з гэтага ўсяго выйдзе?* Ст. *Цікава дужа пяялі.* Бешанкавічы (Ксл.).

**•ціка́васьць(цяка́васьць), 1.**—любопытство. Гсл.; Ар.; Нсл. 687. *Каб наўчыцца чаго, надабе мець цякавасьць.* Нсл. *Вось і малую цікавасьць бярэць.* Глебаўск Сян. (Ксл.). *Адкуль у яго такая цікавасьць бярэцца?* Ст.

**2.** интерес, Шсл.; Ксл.; НК: Дудар, Но. 14. любознательность.

**3.** диво, удивительная вещь. Нсл. 687. *Шмат цікавасьцяў там абачыў.* Нсл. *Гэта не вялікая цікавасьць.* Нсл.

**спагнаць цікавасьць**—удовлетворить любопытство. *Скажы мне, малое! Хачу я пазнаць, а дай залатое, цікавасьць спагнаць.* Гарун(ст."Нязнаны госьць").

**4.** *в зн. наречия,* **а)**—удивительно. Шсл. **б)**—любопытно. *Цікавасьць, што цяпер робіцца на сьвеце.* **г)**—интересно.

**•цікава́ць**-*кую-куеш-куе, несоверш.* **1.** любопытствовать, доискиваться, подсматривать. Гсл.

**2.** следить за кем или чем с интересом, Шсл.; Ксл. любопытствовать. Гсл. *Цікуе, што з гэтага далей будзе.* Ст. *Цікуй курыцу, бо яна зьнясецца няма ведама йдзе.* Гуліна Сян. (Ксл.). *Л. сустрэў звычайны хітравата-цікуючы блыск яе вачоў.* ЗСД 14. *Напару ён няўпрыцям кідаў цікуючы пагляд на Ніну.* ЗСД 191.

**3.** *на каго*—подстерегать кого-л. со злым умыслом. Шсл.; Ксл.; Ар. *Цікуе, куды яны пабягуць.* Ст. *Што ты ходзіш ды ўсё цікуеш?* Глебаўск Сян. (Ксл.). *На зайцы паляўнічыя з ганчакамі цікуюць.* Я. Г-кі: Лемантар, 53. *Тыя ж дзервы, быццам зданьні, пазіраюць грозна-срога, бы цікуюць на малога.* С. Музыка, 177. *Як жа Ён гаварыў ім гэта, фарызэі... пачалі вельмі прыставаць і засыпаць Яго пытаньнямі... цікуючы на Яго і стара-

*ючыся падлавіць нешта з вуснаў Ягоных.* Тат. Ванэлі, 305. *Мянтуз на вугрыцу пад кустом цікуе.* Калачынскі: Лясная казка. *Авадзень гудзіць дый цікуе сесьці хлопчыку на голую сьпіну.* Гарэцкі: Песьні, 26. *За кажным вуглом можа хто цікуе.* Полымя, Но. 8, 1967, стр. 242. (*Кот*) *узьдзерся на страху ды цікуе, дзе паварочваецца Даніла.* Каласкі, 1955, Но. 29.30, 10. *Ср. цякавіць* (*цікавіць*).

**прыцікава́ць,** *соверш.*—подстеречь. Шсл. *Як раз калі прыцікуе ды дасьць пуду, дык болей ніхто не палезе ў садок ягоны.* Ст.

•**ціка́віць(цяка́віць,** Нсл.)-*ўлю-віш-ве*—возбуждать в ком-н. любопытство. Нсл. 686. *Цякавіш толькі мяне, але не паказуеш, што там такое ёсьць у цябе.* Нсл. *Соверш.* **абцікавіць**—осмотреть с любопытством. НК: Под. пос., Но. 76. *Моўчыкам наглянднік прыдзе, абцікавіць работу.* НК: Под. пос, 58. *Соверш.* **даціка́віць(дацякавіць,** Нсл.)—подсмотреть из любопытства. Нсл. 144. *Не дацякавіў, як паехалі.* Нсл. *Соверш.* **зацікавіць(зацякавіць,** Нсл.), **1.** возбудить в комл. любопытство, Нсл. 686. заинтересовать, разжечь любопытство. Гсл. *Толькі зацякавіў мяне, а тут нічога няма цякавага.* Нсл. *Прич.* **зацікаўлены**—заинтересованный. Гсл.
**2.** заинтересовать. Гсл.

**пацікавіць,** *соверш.*—полюбопытствовать. Войш. *Вышла на вуліцу, пацікавіла.* Войш. *Угары крумкач дзярлівіць чорны, цікуе штось скрозь едкі дым.* Змагар. *Няхай.. ізноў цябе ў рабы цікуе змуса, — ты не пакінеш зорны шлях Ісуса.* Салавей: Сіла, 38.

•**ціка́віцца(цяка́віцца,** Нсл.), *цікаўлюся, цікавішся, несоверш.* **1.** любопытствовать, присматриваться из любопытства, Нсл. 686. интересоваться. Шсл. *Як ты цякавішся к маей рабоце! як бы наўчыцца хочаш.* Нсл. *Ён усім цікавіцца, дзе што робіцца.* Ст.
**2.** удивляться. Нсл. 686. *Не цякаўся, а то ўрачэш.* Нсл. *Соверш.* **дацікавіцца(дацякавіцца,** Нсл.)—узнать или увидеть наконец что посредством любопытства. Нсл. 144. *Дацікавіўся тыкі, што яны там робяць.* Нсл. *Соверш.* **заціка́віцца(зацякавіцца,** Нсл.), **1.** засмотреться любопытством. Нсл. 192.
**2.** заинтересоваться.

•**цікаўства**-*ва-ве, ср.*—любопытство. НК: Очерки 409; НК: Дудар, Но. 14.

•**ціка́вы(цякавы,** Нсл.)-*вая-вае,* **1.** интересующийся, ПНЗ.; Ар.; Ксл.; Шсл. любопытный. Ар. *Ён да ўсёга цікавы.* Навікі Віц. (Ксл.). *Які ён цікавы, усё хоча ведаць.* Ст.
**2.** интересный. Ар.; Ксл.; Шсл. *Цікавы іх быў суд!* Ст. *Акуляры ягоныя зваліліся з дулькі, і ён, няўзоркі, смокча сваю цікавую куплёную піпачку.* Гарэцкі: Песьні, 59.

**цікаўшы,** *ср. ст. к цікавы 1, 2. Цікаўшая "праўда" Іверса.* Белр. Голас, Но. 63, 1959 г. *Цікаўшыя рэчы ў зборніку.* Ускалось, Но. 7, 30. *Яшчэ цікаўшае скажу: на зьезд наўчоных за мяжу яго саветы пасылалі.* Кл.: Каліна, 86.

•**ціка́ць(цяка́ць,** Нсл.)-*аю-аеш-ае,* **1.** подсматривать, (Нсл. 687) подкрадываться. Гсл. *Цякай за ім, куды ён пойдзе.* Нсл.
**2.** *каго-што*—(высматривать, С.), искать. Нсл. 687. *Я цябе ўсюдых цякаў.* Нсл. *Соверш.* **дацікаць(дацякаць,** Нсл.)—подсмотреть, высмотреть. Нсл. 144. *Дацякаю, куды ён ходзе.* Нсл. *Соверш.* **націка́ць(нацяка́ць,** Нсл.)—найти след чей-л., Нсл. 324. найти след, напасть на след. Гсл. *Ня так борзда ты яго нацякаеш.* Нсл. *Соверш.* **сьціка́ць, 1.** подсмотреть, Нсл. подстеречь. *Не сьцякаў, як ён вышаў.* Нсл.
**2.** (высмотреть, С.), найти. *Я цябе ўсюдых цякаў, ледзь сьцякаў.* Нсл. *Соверш.* **выцекаць,** *каго-што*—заметить, высматривая. Нсл. 100. *Выцекаў свайго ўкрадзенага каня.* Нсл. *Выцекаў сьлед, куды ён ходзе.* Нсл.

•**ці́каць**—тикать. *Раман пачуў, як цікаў на сталe гадзіньнік.* Корзюк.

•**ціка́цца**-*аюся-аешся, несоверш.*—красться, Ар.; Міх. подкрадываться. Ар. *Кот цікаецца, каб злавіць мыш.* Міх. *Воўк цікаецца да авечак.* Варсл.

**цікаючыся,** *прич. наст. вр.*—крадясь. *Соверш.* **прыцікацца**—подкрасться. Ар. *Прыцікаўся й злавіў.* Ар.

•**ціліканьне**-*ня, предл.-ню, ср.*—чирикание. МГсл.

•**ціліп!** *междомет.*—означает быстрое, жадное едение супа. НК.: Пасоб., Но. 43.

•**ціноўка**-*ўкі-ўцы, ж.*—принадлежность ткацкого станка. Ксл. *Дай сюды ціноўку!* Гарадок (Ксл.).

•**ціна́ць,**—*см. под цяць.*

**выціна́ць**-*аю-аеш-ае*—изощряться в игре, пении ит.п., отчеканивать. Сьвярдлы Беш. (Ксл.). *Паслухай, як ён выцінае на йскрыпачцы.* Тм. *Птушка так і выцінае.* Тм. *Салавей выцінае руляды.*

•**ціпер.** *нареч.*—теперь. Шсл. *Раздурылі ката ў хату пушчаць — ціпер ня хоча на токісьці мышы лавіць.* Ст. *Апарыўся — ціпер насіся.* Ст. *Калі ня ціпер, дык у чацьвер. Поговор.* Ст.

**ціперашні**-*няя-няе*—теперешний. Шсл. *Дай мне ціперашняга малака.* Ст.

•**ціскаўка**-*ўкі, дат., предл. ціскаўцы, ж.*—тиски. МГсл.

•**ці́снуць**-*ну-неш-не*—жать. Ар.; Шсл. *Бот цісьне нагу.* Ст. *Ціснуць сыры. Многократ.* **ціскаць.** *Однкр.* **ціскану́ць**-*нў-нёш-нёць-нем-ніцё,* **1.** потиснуть. Нсл. *Ціскані яшчэ воз.* Нсл. *Цісканy цябе, і кішкі выцісну.* Нсл. *У царкве так ціскануў, аж як яго не задушылі.* Нсл.

2. сжать. Нсл. *Цісканўў маю руку, каб я дагадаўся.* Тм. *Мароз ціскануў ваду.* Нсл.

**адзьціска́ць,** *-аю-аеш-ае*—отдавливать. Шсл. *Палец баліць — дык ня трэ' было адзьціскаць.* Ст. *Соверш.* **адціснуць**—отдавить. *Соверш.* **адзьціснуць**—отдавить. Шсл. *Маці адзьціснула сыр у клінку.* Ст. *Адзьціснуў хвост кату.* Ст. *Надабе сыр адціснуць.* Вейна Сян. (Ксл.).

**заціснуць,** *каго-што*—зажать. Ар.; Шсл. *Моцна заціснуў вузёл.* Ст. *Прич.* **заціськнены**—зажатый. Ар.

**націска́ць**—натирать. МГсл.

**націснуць**—нажать. МГсл.

**паціска́ць**—пожимать(плечами, руку). Гсл.

**паціснуць**—пожать. Ар. *Ён моцна паціснуў палец.* Ар.

**прыціска́ць**—прижимать. МГсл.; Ксл.; Ар.; Шсл. *Ня прыціснуў надта, і так будзе дзяржацца.* Ст.

**прыціскаеньне**—стеснение. МГсл.

**прыціснуць,** *соверш.*—прижать. Ар.; Ксл.; Шсл. *Ну прыціснуў жа ты мяне!* Бабінічы Віц. (Ксл.). *Прыціснуў палец дзьвярмі.* Ст. *Прич.* **прыціснуты,**(Шсл.), **прыціськнены,** (Ар.)—прижатый. *Быў прыціснуты возам, дык і памер ад таго.* Ст.

**расьціскаць**—раздавливать. Дз.; Ар.; Воўсішча Сян. (Ксл.). *Соверш.* **расьціснуць**—раздавить. Дз.; Ар.; Ксл. *Расьціськні блышчыка.* Воўсішча Сян. (Ксл.). *Кола расьціснула жабу.* Дз.

**сьціскаць**—пожимать. МГсл. *Соверш.*

**сьціснуць**—сжать. *Грабовы дошкі сьціснулі ножкі.* Рылавічы НЗ (ПНЗ, 41).

**выціска́ць, 1.** вытеснять. Ар.; МГсл.

2. выдавливать. МГсл.

**уціска́ць**-*аю-аеш-ае, каго-што, несоверш.* 1. .... *Наклалі воз сена, цяпер яго ўціскаюць.* Ар.

2. угнетать, притеснять. МГсл. *Соверш.* **уціснуць**-*ну-неш-не каго-што. Добра ўціськні воз.* Ар. *Соверш.* **уціснуць, 1.** туго связать. Гсл. Гсл.

2. вдавить. Гсл. *Прич.* **уціснуты**—угнетенный. МГсл.

**ціснуцца,** *куды*—жаться. *Куды ты ціснешся?* Ар. *Многократ.* **ціскацца**—жать, толкать кого-н. Шсл. *Ня ціскайся ты тут!* Ст.

**заціснуцца**—зажаться дверью. Ст. *Пыляне заціснулася дзьвярмі.* Ст.

•**ціска́ньне**-*ня, ср.*—давление. МГсл.

•**ціша́**-*шы́, ж.*—великая тишина, тишь. Гсл.

•**ці́шаць**-*аю-аеш-ае*—понемногу успокаиваться, Нсл. 689. становиться тише, слабее, утихать. *Бура цішае.* Нсл. *См. ціша́ць. Соверш.* **паці́шаць**—немного успокоиться, Нсл. 689. стать несколько тише, слабее. *Вецер паціша́ў.* Нсл.

•**ціша́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—утихать. Шсл. *Вецер стаў ціша́ць.* Ст. *мн. ч. ціша́ць.*

•**цішэць**-*эю-эеш-эе*—становиться тише, Ксл. утихать. Нсл. 689. *Цішэе ў Сымона — расходзяцца, мабыць, людзі.* Лазукі Чаш. (Ксл.). *Дождж цішэе.* Нсл. *Соверш.* **пацішэць**—несколько утихнуть. *Дождж пацішэў.* Нсл. 689. *Соверш.* **прыцішыцца**—немного утихнуть, стать немного слабее. *Вецер прыціхнуў.* Нсл. 516.

•**цішком,** *нареч.* **1.** тихо, не громко, без шума.

2. незаметно, украдком, тайком.

•**цішыня́**-*ні-ні, ж.*—тишина. *Стала мяккая цішыня.* ЗСД 79. *Агарнула сьветлая цішыня.* ЗСД 173. *Адкурылася шырокая цішыня і смутак ночы.* Адамчык: Арж. колас. *Цішыню ірвалі стрэлы над Камароўкай на Зары.* Камароўскі(Думка, Но. 12-13, стр. 32). *Цішыня навокал.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе 2, 1935 г., стр. 95). *І як сон у цішыні... песьня коціцца ціха...* Трус(Калосьсе, Но. 1, 1935 г., стр. 21).

•**ці́шыць**-*шу-шыш-ша, несоверш. к уцішыць, перех.*—утишать. Нсл. 689. *Соверш.* **уцішыць,** (Нсл. 689)—заставить утихнуть. *Уціш дзеці, няхай ня дурэюць.* Нсл. 689. *Соверш.* **прыці́шыць**—заставить несколько успокоиться, утихнуть. *Хлапца надабе прыцішыць, бо ён нікога не баіцца.* Нсл. 689. *Прыціш дзеці, каб ня дурэлі, ня крычэлі.* Нсл. 516. *Прич.* **прыці́шаны.** Нсл. 516. *Дзеці прыцішаныя пазаснулі.* Нсл.

•**ціву́н,** (Ар.), **ці́вун,** (НК)-*на́, предл.-ну, зват.-не, м.* **1.** заведывавший(во время крепостничества) всеми местами хлебохранения, как и хозяйственными строениями. НК: Под. пос. 58.

2. помощник эконома в имении. Акін. 190. *Баяцца ня цівуна, а яго бізуна. Послов.* Рапан., Прык. 12.

•**ціў, ціў!,** *междомет.*—звукоподражание пискливому щебету птенцев. Шсл.; Ар. *Маленькія верабейчыкі ціўкаюць: Ціў, ціў!* Ст.

•**ці́ўкала**-*ла, н.*—ребенок, издающий подражательные говору звуки. Шсл. *Ах ты маленькае ціўкала, ужо нешта гаворыш!* Ст.

•**ці́ўкаць**-*аю*—пискливо щебетать. Шсл.; Ар. *Пыляняткі ўжо вывяліся, ды ціўкаюць.* Ст. *Верабейчыкі ў гнязьдзе ціўкаюць.* Ст. *Ціўкалі вераб'і.* Гарун: Пан Шаб.

**ціўканьне**-*ня, отгл. имя сущ.*—пискливое щебетание. Ар. *Жвавае ціўканьне на страсе вераб'ёў.* ЗСД 115,—чирикание. МГсл.

•**ціцеперся**—столько времени. *Ужо ціцеперся ў дарозе.* Дудзіцкі(Бацьк., Но. 435-436).

•**цкава́ць,** *цкую, цкуеш-ецъ-ем, цкуіце, несоверш. каго кім*—уськать, улюлюкать, травить. Гсл. *Ты мяне не чапай і ня цкуй сабакам.* Колас("Каласкі", Но. 60-61). *Отгл. имя сущ.* **цкава́ньне**-*ня*—травля собаками. Ар.,—травля. Гсл.,—уськание(травление, С.) Нсл. *Цкаваньне сабакі, сабакамі.* Нсл.

*Соверш.* **зацкаваць,** *каго кім*—затравить собаками. Ар.; Дсл. 259. *Яшчэ сабакаммі зацкуюць.* ЗСД 86. *Прич.* **зацкаваны**—затравленный. Ар. *Соверш.* **нацкава́ць,** *на каго*—натравить, науськать. Гсл.; Ар.

•**цмок,** *м.*—радуга. Гсл.; Нсл. *См. вясёлка, смок.*

•**цмок**-*ка*(*паганы цмок,* МГсл.)—сказочное животное в виде крылатого, огнедышащего змея, пожирающего людей, дракон. МГсл.

•**цмокаць**—чмокать. Гсл.

•**цмокаць**-*аю-аеш-ае,* **1.** чмокать губами и языком. Шсл.; Ар.

**2.** целовать. Ар.; Ксл.; Шсл. *Цмокае яму ў руку.* Ст. *Однкр.* **цмокнуць, 1.** чмокнуть губами и языком. Шсл.; Ар. *Цмокні на каня!* Ст.

**2.** поцеловать. Ар.; Ксл.; Шсл. *Цмокнуў у вадну руку ды ў другую!* Ст. *Як цмокнуў Ганну, дык яна згарэла ад сораму.* Канавалава Куз. (Ксл.).

**нацмокацца, 1.** насосаться(начмокаться, С.) Нсл. *Нацмокаўся досіць вашае крыві.* Нсл.

**2.** нацеловаться. Нсл. *Ці нацмокаецеся вы сядні?* Нсл.

•**цмыга**-*гі, общ.*—проныра, Гсл. человек, везде шныряющий. Нсл. 690. *Цмыгу гэтага пашлі, то ён усё праведае.* Нсл. *Ад гэтае цмыгі нійдзе нічога не схаваеш.* Нсл.

•**цмы́ганьне**-*ня, предл.-ню, отгл. имя сущ. к цмыгаць.*, бегание везде, шныряние. Нсл. 690. *За цмыганьням сваім полуднік страціла.* Нсл.

•**цмы́гаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., перех.* **1.** шнырять,(Гсл.; Ксл.) бегать по чужим домам. Нсл. 690. *Цмыгае па кутох, каб што злавіць.* Слабодка Куз. (Ксл.). *Не пасядзіш удварэ, а ўсё цмыгаеш: то туды, то сюды цмыгнеш.* Нсл. *Однкр.* **цмы́гнуць**-*ну-неш-не,* **а)** шмыгнуть, быстро пробежать.

**б)** тихонько уйти, улизнуть. Нсл. 690. *Хлапец тут быў, і ня угледзілі, як цмыгнуў за дзьверы.* Нсл. *Соверш.* **адцмы́гнуць**—отбежать тихонько от занятия. *Цмыгуха наша ўжо адцмыгнула некуды ад кудзелі.* Нсл. *Соверш.* **ацмы́гаць**—оббежать. Нсл. 387. *Усі двары ацмыгала, ішчучы яго.* Нсл. *Соверш.* **нацмы́гаць** —набегать. Нсл. *Нацмыгала сабе хваробу.* Нсл. *Соверш.* **нацмы́гацца**—набегаться вдоволь. Нсл. *Ненацмыгаўся яшчэ за дзень, і ўвечары цмыгнуў.* Нсл. *Соверш.* **пацмыгаць**—шнырять некоторое время, побежать. *Пацмыгаеш, як ня стане хлеба.* Нсл. 690. *Соверш.* **прыцмы́гнуць,** (быстро, С.), прибежать издалека. Нсл. 516. *Адкуль і куды прыцмыгнула, распустка гэта.* Нсл.

**2.** вытаскивать(что-л. тонкое, С.), соломинки из целого пучка. Гсл.

**3. цмыгаць каня**—таскать, гонять лошадь в работе. Шсл. *Цмыгае дзень пры дні сваю каняку, то ў лес, то ў Менск.* Ст. *Соверш.* **зацмы́гаць**—затаскать работой лошадь, человека. Шсл. *Зацмыгаў ён свайго каня.* Ст. *Зацмыгаў бабу работаю.* Ст. *Прич.* **зацмы́ганы**—затасканный(о рабочем скоте, человеке) Шсл. *Купіў нейкую зацмыганую кабылу.* Ст.

**вы́цмыгаць, 1.** бегом обойти, Нсл. 101. вышнырять, выбегать. (Гсл.). *Ты ўсё сяло выцмыгала, пайшоўшы на часок.* Нсл.

**2.** выбегать, вынюхать. Гсл.

**3.** выдергать, повыдернуть. Гсл. *Карова выцмыгала салому.* Гсл.

**вы́цмыгнуць,** (Нсл. 101) *однкр. к* цмыгаць *1,* выцмыгаць *1.* **1.** вдруг выбежать. *Не дарма дзеўка выцмыгнула вон; ці няма там каго?* Нсл.

**2.** *однкр. к* цмыгаць *2, 3.*—выдернуть. *Ідзе мае аборкі — хто іх выцмыгнуў?* Дараг. п.(Дсл.).

•**цнота**-*ты-це, ж.*—добродетель. Гсл.

•**цвол**[ *из русск.* ствол]—ствол (ружья). НК: Очерки, 520. *Ср.* *стваліна, рулька.*

•**цвы́лік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.*—четырехугольный кусок материи, вшиваемый в рубашку под мышкой. Ксл. *Дай ты імне гэты скуматок на цвылікі.* Спаская Сір. (Ксл.).

•**цвы́ркаць**-*ае, несоверш.*—сверчать, свойственно сверчку. Нсл. 586. *Соверш.* **зацвыркаць**—засверчать, затрещать(о сверчке). БНсл.

•**цвырку́н**-*на̀, м.*—сверчок. Шсл.; Ксл.; Нсл. 686. *У хаце ў пячуры завёўся цвыркун.* Роўнапольле Сьміл. (Шсл.). *Цвыркун забраўся ў хату.* Вішкавічы Чаш. (Ксл.). *Цвыркун залез у хату.* Кузьміно Сян. (Ксл.).

•**цыбу́ля**-*лі-лі, ж., област.* — *цыбуля.* Смл., Тв., Ржэўск. (Даль).

•**цу́дзіць**-*джу-дзі-дзе, несоверш., област.* **1.** достаточно пить, но только постепенно. Нсл. 690. *Ты тыкі добра цудзіш.* Нсл. *Соверш.* **абцу́дзіць,** *област.*—обмочить. Дсл., *Дождж абцудзіў — ні воднае сухое ніткі.* Дсл.

**2.** *перех.*—лить вдоволь, цедя. Нсл. 690. *Досіць табе цудзіць гарэлку; нацудзіў болей чымся паў вядра.* Нсл. *Соверш.* **нацу́дзіць.** Нсл. 690.

•**цукрава́ны гарох, боб**—сахарный, горох, боб. НК: Очерки, Но. 824.

•**цукрава́рня**-*ні-ні, ж.*—сахарный завод. Гсл.

•**цукры́сты**-*тая-тае*—курчавый. Ксл. *У хлапца цукрыстыя валасы.* Старына Выс. (Ксл.).

•**цуп,** *отгл. частица, значит.* **1.** быстрое хватание, хват. Нсл. *Цуп за абаранку, а я яго цуп за руку і злавіла.* Нсл.

**2.** мгновенное падение, бац. Нсл. *Цуп і сеў.* Нсл.

**часі́на**-*ны — часінà. Ладная часіна прайшла.* Нов. Сяло Беш. (Ксл.). *Каб выбраць добрую часіну ды паехаць сеяць.* Ст. *Уменьш.* **часі́нка**-*нкі*—минутка. Ар.; Шсл. *Зайдзі, куме, да мяне на часінку!* Ст. *Часінку выбрала, каб навесьці парадак.* ЗСД 77.

**ладная часінка, часініна**—повидимому, неточная протяжимость времени; но в быту деревлян такое время оформляется: **а**) проездом 8, па проходом 5 верст, и **б**) сроком отдыха среди работ, под которым понимается еда и сон после нея. НК: Очерки, Но. 451.

**часа́мі**—иногда, по временам, порою. Гсл.

**ча́сам,** *нареч.*—впору. МГсл.

•**часагля́д**-*ду, предл. и зват.-дзе, м.*—хроноскоп. БГсл.

•**часагля́дны,** *-ная-нае*—хроноскопический.

•**часаме́р**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—хронометр. БГсл.

•**часаме́рны,** *-ная-нае*—хронометрический.

•**часава́ць**-*су́ю-су́еш-суе, несоверш.* **1.** временить. Нсл. 695; Гсл. *Соверш.* **адчасава́ць,** *каго-што*—пробыть где-л. определенное, назначенное время вследствие установленной очереди. Нсл. 383. *Варту сваю я адчасаваў.* Нсл. *Соверш.* **ачасава́ць**—повременить. Нсл. 387. *Ачасуй тут крыху.* Нсл. *Соверш.* **дачасава́ць**-*сую-суеш-суе, несоверш.*—дождаться до известного времени. Нсл. 144. *Дачасавалі, пакуль пан прыехаў.* Нсл.

**зачасава́ць**—повременить. Нсл. 192. *Зачасуй троху, пакуль я зьвярнуся.* Тм. *Соверш.* **шчасава́ць**—повременить. Нсл. 695. *Чаго мы тут будзем часаваць далей, шчасавалі досіць.* Нсл.

**вы́часаваць**—выждать, провести в ожидании. Нсл. 102; Ксл. *Вычасавалі такі свой дзень.* Лужасна Куз. (Ксл.) *Вычасавалі мы тут даўгі час, чакаючы цябе.* Нсл.

**2.** *каго-што*—ожидать. Нсл. *Гадзіны тры мы часавалі цябе.* Нсл.

•**часа́ць**-*шу́, чэшаш, чэша,* **1.** тесать, (Гсл.),обтёсывать, Ар.; Ксл. обтёсывать. Шсл. *Вун тата бярно чэша.* Слабодка Куз. (Ксл.). *Сялівей чэша бярвеньне на хату.* Ст. *Соверш.* **абчасаць.** *Абчашы кол.* Гсл.

**хоць кол на галаве чашы**—выражение применяется к упрямому человеку. Шсл.; Ар. *Хоць ты яму кол на галаве чашы, дык усяроўна не паслухае.* Ст.

**2.** расчесывать(волосы). Ар. *Памалу ты чашы галаву мне, валасоў ня ірві.* Ст. *Соверш.* **адчаса́ць.** Нсл. 384. *Адчэсаваць, адчасаць валасы на косы.* Нсл.

**адчэсаваць**-*сую-суеш-суе,* **1.** отделять что-н. посредством чесания. Нсл. 384.

**зачаса́ць валасы**—причесать. МГсл.

**шчаса́ць**—хорошенько расчесать. *Зайдзі сынку, да доманьку, шчашу, змыю да буйну галованьку.* Кажамякі Імгл.(Косіч 43).

**3.** смело, громко читать что-н. Нсл. *Соверш.* **адчаса́ць.** Нсл. *Як ён хараша адчасаў часы!* Нсл. *Напамяць адчасаў малітвы.* Нсл.

**4.** быстро, старательно итти. Ар.; Шсл.; Нсл. 698. *Часаў, часаў пехатой, ледзь дамоў прышоў.* Ст. *Чэша, аж пыл курыць!* Ст. *На вуліцы курта брэша, а да мяне мілы чэша.*

**адчаса́ць,**— *соверш. к* часаць, *3*—пройти скоро. Нсл. *Бяз воддышы адчасаў вёрстаў пяць.* Нсл. *Соверш.* **пачасаць**—быстро, старательно пойти. *Пехатой чэша, пачасаў двору.* Нсл. 698. *Ягнеша сем сёл абрэша й назад прычэша.* Рапан., Прык. 161.

**5.** делать колкие ответы на чьи-н. выговоры. Нсл. *Соверш.* **адчаса́ць.** Нсл. *Глядзі, як ён адчэсуе, адчасаў свайму айчыму!* Нсл.

•**часа́цца,** *чашуся, чэшашся, несоверш.*—причесывать себе волосы, приводить их в порядок. *Соверш.* **адчаса́цца**—отстать от кого-н., прекратить связь с кем-н. Нсл. *Адчэсуйся, сынку, ад прыяцелства з гэтымі гулякамі.* Нсл. *Адчасаўся я ад яго.* Нсл.

**адчэсавацца,** *возвр.*—отставать от кого-н., прекращать связь с кем-н. Нсл. *Соверш.* **зачасацца**—причесаться.

•**часнок**-*наку́, предл.-наку́, м.*—чеснок. Ар.; Ксл. *Пасадзіла часнаку.* Альгова Віц. (Ксл.). *См.* чыснок.

•**ча́сны**-*ная-нае*—временный. *Паеду, матачка, у дарогу часную, па сваю дзевачку красную.* Пісараўка Імгл.(Сержп.: Отчет, 7). *Паеду, матухна, паеду, у тую дарогу часную, па тую Лукірку красную.* Водзьвінка Імгл.(Косіч 24).

•**частава́ць** (Скар. I Ц.)-*тую-туеш-туе; повел.-туй-туйма, несоверш., каго чым*—угощать. НК: Очерки, Но. 486, стр. 433; Ар.; Растсл.; ПНЗ; Гсл.; Ксл.; Шсл. *Байрамнага дня мусульманіна частаваў.* Кіт. 2613. *На дзявічках частуюць гарэлкай.* Косіч 237. *Любага госьця частуюць увясну мядком, а ўвосень малачком.* *Послов.* Нсл. 698. *Любе, каб яго другія частавалі, а сам дык нікога й ніколі.* Ст. *Прич.* **частава́ны**—угощенный. Нсл. 698; Ар. *Падружкі мае зазваныя, ды не частаваныя, устань мая матачка, пачастуй падружачкі.* Гарцава Стдуб.(Косіч 239). *Нічым не частаванага госьця адпусьцілі.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **частава́ньне**-*ня, предл.-ню, ср.*—угощение. Шсл.; Нсл. 698; МГсл. *Там частаваньня ніякага ня было.* Нсл. *Не хачу я яго частаваньня і не пайду да яго.* Ст. *Соверш.* **пачаставаць**—угостить. Ар.; Шсл.; Нсл. 698; Ксл. *Пачастуй татулю яечняю.* Нсл. *Мяне кум пачаставаў гарэлкаю.* Ст. *Там яго пачаставалі.* Воўсішча Сян. (Ксл.).

2. *ірон.*—угощать, ругать, бесславить, колотить. Нсл. 698. *Ці чуў ты, як зяць частуе свайго сьця.* Нсл.

•**частава́цца,** *возвр.*—угощаться. Шсл. *Зайшлі ў каморку ды пачалі частавацца.* Ст. *А ну, братка, частуйся!* Іванова Куз. (Ксл.).

•**часткаю,** *нареч.*—отчасти. МГсл.

•**ча́сткавы**-*вая-вае*—частичный. Гсл.

•**часьць**-*ці, ж.* **1.**—часть. Ар.; Шсл.; Альшанкі Беш. (Ксл.). *І будоўлю і зямлю падзялілі на тры часьці.* Ст. *Ён із свае часьці не пражывець.* Ст.

**2.** доля. МГсл.

**часьці́на**-*ны,* Ксл. *Ён узяў сваю часьціну.* Іванова Куз. (Ксл.).

**ча́стачка**-*чкі*—частичка. Ксл. *Невялічкую частачку й мне далі.* Жэрына Чаш. (Ксл.).

•**чашчаві́к**-*іка̀, предл.-іку̀, зват.-іча; мн.ч. , дат.-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—подберезовик. Ксл. *Пад бярозамі шмат чашчавікоў.* Сахны Сян. (Ксл.).

•**чата́ць**-*а̀ю-а̀еш-а̀е, област.*—считать. Растсл.

•**чата́цца,** *област.*—знаться. Растсл.; ПНЗ.

•**чатырна́нцаты,** *-тая-тае*—четырнадцатый. Сербов, 113; Лёсік: Пачат. граматыка, 103.

•**чатырнанцаць**-*ацёх-ацём, тв.-ацьма̀; мн. ч.-ацёх, числ.*—четырнадцать. Севершчына (Расторгуев: Севершчына, 12); Сербов, 113; Карскі, II-2; Лёсік: Пачат. граматыка, 103.

•**чаты́рнічак**-*чка, предл.-чку, м.*—..... *Чатыры чатырнічкі: на кажным чатырнічку па пяць пяцернечкаў* (*рукі, ногі*). Рапан. 328. *Чатыры чатырнічкі, пятая падушачка, шостая жывутачка* (*калыбка, дзяцё*). Тм.

•**чатыры**—четыре. Ар.; МГсл. *Любіў хлопец дзеўку чатыры гадочкі, і здалося хлопцу чатыры дзянёчкі.* ПНЗ., 45.

•**чаўхі́рка**-*ркі-рцы, ж.*—ковш, кружка для воды. Гсл.

•**чаўнок**-*нака̀, предл.-наку̀, зват.-ноча; мн. ч.-кі̀-коў-ком, мн. ч., предл.-кох, м.*—часть ткацкого станка в виде продолговатой овальной коробки или колодки с намотанной пряжей для прокладывания уточной нити; ткацкий челнок. Ар.; Семянцова Беш. (Ксл.).; Шсл. *Чаўнок ня коўзкі, вязьне ў зявох.* Ст. *Трэба пазычыць у каго чаўныка: свой пакалоўся.* Ст.

•**чаўпня́**-*ні-ні, ж.* **1.** действие по гл. *чаўпсьці, чаўпці.*

**2.** вздор. *Бачыны, пасьвячаныя грамадаўцам — плыткая чаўпня.* (Б. Ускалось, Но. 7, 31).

•**чаўпсьці́,** (Ар.; Міх.), **чаўпці**-*пу̀-пеш-пець-пем*—нести околесицу, говорить чепуху, вздор. Ар.; Міх.; Ксл.; Шсл. *Чаўпець чорт ведае што!* Ст. *Ня хочу й слухаць, што ён будзе чаўпці.* Ст. *Што ты чаўпеш дуба смалянога!* Міх. *Што ты там чаўпеш?* Дудзіцкі("Бацьк.", Но. 435-436). *Чаўпець няма ведама што?* Гарасімава Куз. (Ксл.).

•**ча́ўраць**-*аю-аеш-ае,* **1.** сохнуть, чахнуть (хиреть, С.) Нсл. 695; Гсл. *За табою мы бяз хлеба чаўраем.* Нсл. *Як пачала чаўраць, дык аж да сьмерці.*

**2.** черстветь. Гсл.; Нсл. 695. *На дварэ хлеб чаўрае, зачаўраў.* Нсл. *Соверш.* **шча́ўраць.** Нсл. 695; Ар.**, шчаўрэць.** Ксл.—высохнуть от болезни, Ксл. совершенно захиреть. *Ты ў карчме сядзіш, а мы тут, седзячы, шчаўралі.* Нсл. 695. *Соверш.* **вы́чаўраць** —высохнуть, исчахнуть. Нсл. 102. *Вычаўраў ад хваробы.* Нсл.

**зача́ўраць,** *соверш.* **1.** захиреть, Гсл.; Ар.; Растсл. очень исхудать, высохнуть. Дсл. 259. *Мой сват сусім зачаўраў. Зяленіва без дажджу зачаўрала.* Дсл.

**2.** *соверш. к чаўраць, 2*—стать черствым.

•**чаўрэць**-*эю-эеш-эе, несоверш.* **1.** — *чаўраць. Соверш.* **шчаўрэць.** *Так шчаўрэў; толькі скура ды косьці, хвароба нікога ня красе.* Амілянова Лёз. (Ксл.).

**2.** изнывать. *Даўно тугой чаўрэюць грудзі.* Крушына: Творы, 137.

•**чацьве́ртае,** *вставное слово*: употребляют при исчислении для определения четвертого пункта: в четвертых. *Пры справаваньню дастамэнту пячатнікамі й сьветкамі быці ня могуць тыя асобы ніжэй пазначаныя, то есьць: напервей — каторыя сваіх дастамэнтаў чыніць ня годні; другое — жонкі; трэцяе — экзэкуторове або апякунове таго дастамэнту; чацьвертае — і тыя быці ня могуць, каторым у дастамэнце што апісана.* Стт. 341.

•**чацьве́рты**-*тага*—четвёртый. ЗСД 5, 9, 19, 119. *Разьляглося.. чацьвертае выцьцё.* Лынькоў: Воўчы лог(Калосьсе, Но. 2, 1935 г., стр. 99). *Чацьвертая частка.* Варлыга: Назіраньні, 38.

•**чацьвёра,** *числ., собир.*—четверо. Ар. *Нарадзілася кацянят чацьвёра.* Ар.

•**чацьвяроха**-*охі-осе, ж.*—имя коровы, родившейся в четверг. НК: Очерки, 357.

•**чацьвёрка**-*ркі-рцы, ж.*—две копейки. Ск.

•**чацьвярток**-*тка̀, м.*—четверг. Ст. Слабада, Крывулькі і інш., *област.* Люц. пав.; Невельск.; Міх. *Четвъртъкъ.* Евангеля Астрамірава(Кульбакин: Грамматика церк. сл. 43). *Цару Хрысьце! Божа мілы, Ты ж есьць Ацец незлобівы! У чацьвярток вечару быўшу, Сьвет Жыдом сатварыўшу.* Рэл. песьня влл., ужываная ў XVIII стг., Карскі III-2, стр. 148-149.

•**чацьвярта́к**-*така̀*—четырехлетнее животное. *За казла чацьвяртака — сорак грошай.* Стт. 470.

•**чацьвяры́цай,** *нареч.*—на четвереньках, на карачках. Войш.

**стань чацьвярыцай**—стань на четвереньки.

**стаяць чацьвяры́цай**—стоять на четвереньках.

•**чачотка**—корельская береза. Но. 685; Ар.

•**чачэніцца**-*нюся-нішся,* **1.** гордиться. Нсл. 698. *Чым ты чачэнішся? што ў цябе ёсьць добрага?* Нсл. *Соверш.* **зачачэніцца**

—загордиться. Нсл. 698. *Зачачэніўся й гўкаць ня хоча з намі.* Нсл.
2. кобениться, выставлять себя перед другими, хвастаться. Нсл. 698. *Досіць табе чачэніцца перад намі!* Нсл. *Соверш.* **пачачэніцца.** Нсл. *Дай яму пачачэніцца.* Нсл.
3. употреблять ужимки, ломаться, отыскиваться. Нсл. 698. *Не чачэнься, выпі.* Нсл. *Не чачэнься, надзень стары кажушок на дождж.* Нсл.
•**чачэніцца,** *-нюся-нішся*—спесивиться, гордиться. Ксл. *Ён дужа чачэніцца.* Кавалькі Куз. (Ксл.).
•**чэхлік**-*ка, м.*—верхняя часть женской рубахи, преимущественно из коленкора, Растсл. верхняя часть женской рубахи до пояса, вышитая на рукавах. Раст.: Смоленск 149.
•**чэзлы**-*лага*—худосочный. Шсл. *Быў ён чэзлы такі, слабенькі, рос сабе цішком, ніхто яго ня бачыў, ніхто не чапаў.* ЗСД 109. *Парасяты нейкія худыя, чэзлыя і есьці не бяруць.* Ст.
•**чэзнуць(чэзьці,** С.)-*ну-неш-не; повел.-ні-німа, несоверш.* 1. исчезать, пропадать, Гсл.; Шсл.; Ар.
2. худеть(как бы медленно исчезая, С.) Шсл.; Ар. *Сьвіньні нешта ня ручаць: вось толькі купіш, дык адразу пачнуць чэзнуць і прападаць.* Ст. *Соверш.* **шчэзьці** —исчезнуть. Ар.; МГсл. *Соверш.* **вычазнуць** —передохнуть, постепенно худая. Шсл. *Усе нешта парасяты вычазьлі.* Ст.
•**чэлядзь**-*дзі, ж.*—дворня, прислуга. МГсл. *Чэлядзь у зборні, паны ў палацу.* Гарун: Варажба. *А у трэйція вароцечкі ды чалядачка бяжыць.* Бародзінка Імгл.(Косіч 254).
**чаля́дка**-*дкі-дцы, уменьш. от чэлядзь* —прислуга, Растсл. дворня.
**чалядачка**-*чкі-чцы, ж., уменьш. от чалядка.*
•**чаляднік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча, м.* 1. челяденец.
2. подмастерье(у портного, сапожника). Гсл.
•**чэмер**-*ру,* 1. горечь. Ксл. *Бадай цябе чэмер!* Застарыньне Беш. (Ксл.). *Шмат мінула дзён. атручаных горкім чэмерам ілжы.* Крушына: Лебедзь, 30.
2. острая желудочная болезнь у лошадей или рогатого скота. Беліца Сян. (Ксл.).
•**чэмраць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—продолжительно болеть, не в постели. Ар. *Колькі год яна чэмрала.* Ар.
•**чэп**-*па, предл. и зват.-пе; мн. ч. чапы,* (НК), **чэпы,** (Рудня, Вял.).—место в озере, или реке, где может что-л. зацепиться или задержаться. *"Чапы"* дают: камни, бугорки, затонувшие деревья, корневища, а также бревна и хворостины. НК: Очерки, 490.
•**чэпік**-*іка, предл.-іку, зват.-іча*—бекас. Ксл.; Гсл. *Чэпік лётае каля берагу.* Заронава Куз. (Ксл.).
•**чэпіль**-*ля, предл. и зват.-лю, мн. ч., род.-ляў, м.* 1. железный пробой для висячего замка. НК: Очерки, Но. 445.
2. крючек, за который заходит дверная ручка и *"клямка".* Ксл. *Чэпіль новы надабе ўбіць, а то не зачыніць дзьверы.* Стасева Выс. (Ксл.).
•**чэр,** *чэры, пшч., ж.*—стадия развития пчел в пчелиной семье от яичка до куколки, черва. *Ксл. Чэр у гэтай калодзе дужа добрая.* Лужасна Куз. (Ксл.).
•**чэрап**-*па, предл. и звпт.-пе; мн. ч.-пы-поў-пом, мн. ч., предл.-пох, м.* 1. черепок.
2. череп(скилет головы; поверхность, верхняя часть головы).
•**чэрат**-*ту, м.*—камыш. Растсл. *См. чарот.*
•**чэрава**-*ва, предл.-ве; мн. ч.-вы-ваў, ср., презр.*—брюхо. Гсл.
•**чэрня**-*ні-ні; мн. ч., род.-няў, ж.* 1.—черная краска. Ксл. *Купіла сабе чэрні ў Соркі.* Лук'янова Сян. (Ксл.).
2. чернило. *Чаму (поэта) глуміў паперу, чэрняй мазаў?* Салавей: Сіла, 83.
•**чэрствы**-*вая-вае*—чёрствый. Ар.; Шсл. *Хлеб чэрствы, аж ня ўкусіць.* Ст. *Скажэце, дзе... хоць хлеба чэрствага скарынка.* Салавей: Сіла, 82.
•**чэсьць,** *сьці, тсьці, цьсьці, чсьці, ж.* 1. честь. *Абяцуем, каму бы шло а чэсьць, неадвалочную справядлівасьць учыніці.* Стт. 93. *На сойме з рассудку нашага, гдзе ся то пакажаць, чэсьць і горла траціць.* Тм. 80. *Учынак віну адсуджэньня чсьці й горла за сабою цягнуў.* Тм. 74. *Гдзе бы было а якую рэч, што ся чсьці датыкаецца, тагды то аж на сойме... судзіць маем.* Тм. *Пей салават а сьці прарока.* Кіт. 133а3. *У ім няма ні чсьці, ні веры.* Нсл. 698.
2. почтение, уважение. Нсл. 698. *Ад дзяцей сваіх чсьці ня маем.* Нсл.
3. почёт. *Заслужыў на чэсьць і добрую славу.* Нсл. 698.
4. целомудрие, непорочность, девственность. Ксл. *Дзе ўжо яе чэсьць?* Ухлё Чаш. (Ксл.).
**на чэсьць** — в честь.
5. *род. пад. чэсьці*—угощение. Ст.; Нсл. 698; Касьцюковіцкі р. Калінінск. акругі(Наш Край, 1928, Но. 49), пир, пиршество. *Быць у каго на чэсьці.* Нсл. *Добрая ў іх была чэсьць.* Ст. *Ср. почастка( под пачэсьць)*—угощение, ласкавый приём. *Што з тае чэсьці, калі няма чаго есьці.* *Послов.* Ст. *Маці спрагла яму яечню, і Хомцы было надта сорамна, што яму такая чэсьць.* Гарэцкі: Песьні, 82.
**быць на чэсьці**—пировать.
**справіць чэсьць**—устроить пир.
•**чэўраць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.*—истощаться от голодования(недомагания, С.) Шсл. *Якое іх жыцьцё; як прыдзе вясна, дык крошкі хлеба няма, дзеці так і чэўраюць.* Ст.

•**чэчні**-*няў, мн. ч.*—шашни, (Нсл. 698) проделка. Гсл. *Яны чэчні водзяць мяжсобку.* Нсл. *Ён із чэрцямі мае чэчні.* Нсл.
•**чха́нка**-*нкі-нцы, ж.*—чихота, Нсл. чихание. *Чханка ўспала.* Нсл.
•**чхаць,** *чхàю, чхàеш, чхàе; повел. чхай-айма, несоверш.* **1.**—чихать. МГсл.; Ар.; Нсл.; Ксл. *Чхаць я на цябе хачу.* Пустынкі Сня. (Ксл.). *Што ты чхаеш на чалавека?* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **чха́ньне**-*ня*—чихание. Нсл. 703. *Чханьне на цябе напала.* Нсл. *Однкр.* **чхнуць**-*ну-неш-нець-нем*—чихнуть. Ар.; Нсл. 703. *Чхануў аж кроў пашла з носу.* Нсл.
**2.** выходить во множестве, выбрасываться. Нсл. 703. *Дым чхае з хаты.* Нсл. *Вада чхае, чханула.* Нсл. *Однкр.* **чха́нуць.** Нсл. —хлынуть. *Народ разам чхануў з царквы.* Нсл. *Полымя чханула зь печы.* Нсл. *Зь яго гарэлкаю чханула.* Нсл.
**начха́ць, 1.** начихать. Ар.
**2.** нахлынуть. Нсл. 325. *Вада начхала.* Нсл. *Начхала дыму поўную хату.* Нсл.
•**чма́ры**-*рая-рае*—краснобурый, черноватый. Нсл. 699; Гсл. *Чмары конь.* Нсл.
•**чма́рыць**-*ру-рыш-ра, каго-што*—больно до крови сечь розгами. Нсл. *Чмар яго добра за гэту работу.* Нсл. *Соверш.* **ачма́рыць,** *каго-што*—высечь розгами до багровых знаков. Нсл. 387. *Няміласэрна ачмарыў ты хлапца.* Нсл.
**начмарыць**—наказать строго, вздуть. Нсл. *Будзеш помнець, як начмараць сьпіну.* Нсл. *Прич.* **начма́раны**—букв. испещеренный, наказанный строго. Нсл. *Глядзі, сьпіна будзе начмарана.* Нсл. *Соверш.* **прычма́рыць**—излишне поджарить. *Троха прычмарыла сала на скварадзе.* Ст.
•**чмель,** *чмялѝ; мн. ч., чмялі̀-лёў, м.* —щмель. Ар.; Ксл.; Шсл. *Во чмель гудзе, лётае, каб дзе гняздо сабе зрабіць.* Ст. *Чмель на ўзьлеску па-над мядуніцай клопатна гудзе.* Лойка: Л. песьня. *Уменьш.* **чмялёк**-*лькà.* Ксл.; Шсл.; Ар. *Знайшоў чмялькі пад мяжою.* Ст.
•**чмя́каць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.*—чавкать(издавать при жевании характерные причмокивающие звуки или есть, издавая такие звуки, С.) Шсл. *Чмякае, як тая авечка.* Ст.
•**чмур**-*ра, м.* **1.** мрак, туман, обман. Нсл. 700. *Чмур пусьціў у вочы.* Нсл.
**2.** хмель в голове, опьянение, одурение. Вост., Пск. (Даль).
**3.** пустомеля, балагур, обманщик. Нсл. 700. *Ня вер ты гэтаму чмуру; мала што ён чмура табе.* Нсл.
•**чмура́**-*ры̀-ры̀, ж.*—чаща. Ксл. *Каровы ўвайшлі ў такую чмуру, што далей нельга йсьці.* Вейна Сян. (Ксл.).
•**чмурэлы**-*лая-лае*—одуревший, угоревший. Нсл. 700. *Сядзіць, як чмурэлы кот.* Нсл.

•**чмурэць**-*эю-эеш-эе*—дуреть, угорать. *Чмурэй ты із сваймі гаворкамі.* Нсл. *Соверш.* **ачмурэць**—одуреть, (Дсл.) угореть, Нсл. 700. одуреть, ошалеть от чаду, угореть; пасть в обморок, Пск., Тв. (Даль) одуреть, помрачиться; делать недопустильное, позволять себе поступки сумасшедшего. Гсл. *Ачмурэў ты! што ты робіш?* Нсл. *Ачмурэла баба: спаліла патрэбныя паперы.* Гсл. *Ці ачмурэла ты?* Дсл.
•**чмуры́ла**-*лы, общ.* **1.** балагур, Нсл.; Гсл. шут, гаер или проказник. Даль. *Чмурыла гэта начмурыла нам за вечар.* Нсл.
**2.** обманщик, льстец(соблазнитель, С.) Нсл. *Чмурыла гэты ачмурыў дзеўку.* Нсл.
•**чмуры́ць**-*рỳ-рыш-ра, каго-што,* **1.** дурачить. Нсл.; Ксл. *Ня чмуры ты галавы!* Чырв. Слабада Сян. (Ксл.). *Досіць табе чмурыць нас.* Нсл.
**2.** **чму́рыць**-*ру-рыш-ра*—ловить рыбу с помучиванием воды. Канатоп Нараўлянск., Даўляды(Крывіцкі: Полесье, 173).
**ачмура́ць**-*дю-деш-де, каго-што, нв. к чмурыць*—плутовски опутывать, дурачить. Нсл. 387. *Гаворкамі сваймі пустымі толькі ачмураеш нас, а не аддаеш, што трэба.* Нсл. *Не ачмурай яго.* Нсл. *Соверш.* **ачмуры́ць**—одурачить. Нсл. 700; Ксл. *Ачмурыў ты мяне.* Пустынкі Сян. (Ксл.), *Гаворкамі сваймі ачмурыў ты нас.* Нсл.
**ачмуроны,** *прилаг.*—одурелый, лишившийся ума. Нсл. *Ходзе, як ачмуроны.* Нсл. *Я ж не ачмуроны, каб даў табе гэта!* Нсл. *Прич.* **ачму́раны**—обмороченный, обманутый, приведенный в помрачение. Нсл. 387. *Ачмураны таргачамі.* Нсл. *Ачмураната гарэлкаю чаму не ашукаць.* Нсл. *Соверш.* **зачмуры́ць,** —обморочить, затьмить. Нсл. 193. *Зачмурыў мяне ты сваймі гаворкамі.* Нсл.
**2.** нести, говорить вздор, Нсл. 700. чудить, говорить и делать вздор; смешить людей. Даль. *Ня слухай яго, ён усё чмурыць.* Нсл. *Соверш.* **начмуры́ць.** Нсл. 700. *Начмурыў ты за цэлы вечар.* Нсл.
**3.** дурачиться. Гсл.; Ксл. *Кінь ты чмурыць!* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *А я буду чмурыці: зайшоў нехта курыці.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).
•**чмуры́цца,** *возвр.*—помрачаться, ошеломляться, сбиваться с толка. Нсл.
**ачмура́цца.** *А не ачмурайся ты гарэлкаю!* *Соверш.* **ачмуры́цца.** Нсл. *Ачмурыўся я, ня так палічыў, тераплаціў за тавар.* Нсл.
•**чмут,** *чмỳту,* **1.** туман, ложь. Шсл. *Ён такі чмут пусьціў, а ўсе думаюць, што праўда.* Ст.
**2.** *род. пад. чмутà*—надуватель, Вост.(Даль) пустомеля, обманщик. Нсл. *Усё хлусе гэты чмут.* Нсл. *Ці можна верыць чмуту?* Нсл.
**3.** проказник, Гсл. шутник. Ксл. *Чмут вялікі ён.* Лужасна Куз. (Ксл.).

●**чмуціла**-*лы, общ.*—шутник. Ксл. *Ён у нас вялікі чмуціла: во паслухайце.* Навікі Віц. (Ксл.).

●**чмуціць**-*чу́-ціш-це, несоверш., перех.* **1.** дурить кого(дурачить, МГсл., обманывать, **С.**) Шсл.; Гсл.; Навікі Віц. (Ксл.), врать, (Гсл.) обманывать, Нсл. 700. морочить. пускать пыль, надувать. Вост. (Даль). *Чмуціць ён людзёў дый толькі.* Ст. *Што ён кажа, усё чмуціць.* Нсл.

**2.** *без доп.*—шутить, Ксл. дурачить, забавлять кого-л. дурачеством, шутками. *Пачаў ён ужо чмуціць!* Навікі Віц. (Ксл.).

**3.** плохо делать что-н. Нсл. *Ня шые, а чмуце.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **чмучэньне**-*ня,* **1.** пускание пыли в глаза, обман(надувательство, **С.**) Нсл. *Ягоныя штукі ўсё чмучэньне.* Нсл.

**2.** пустословие. Нсл. *Чмучэньням сваім ачмуціў нашы галавы.* Нсл. *Соверш.* **ачмуціць**—одурманить; обойти хитростями, оплести интригами, Гсл. одурачить. Ксл. *Ачмуціў бабу.* Беліца Сян.( Ксл.). *Соверш.* **зачмуціць,** *перех.* **1.** затемнить. Нсл. 193. *Зачмуціў справу шкелямі.* Нсл.

**2.** обморочить. Нсл. 193. *Зачмуціў мяне сваймі гаворкамі.* Нсл. *Соверш.* **начмуціць** —наврать, наобманывать, надурить. Нсл. 700. *Калі прыдзе да нас, заўсёды начмуце.* Нсл.

●**чмыхаць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш.* **1.** *перех.*—обонять, нюхать, искать обоянием. Нсл. 700. *Сабака сьлед чмыхае, зачмыхаў.* Нсл. *Однкр.* **чмыхнуць.** Нсл. 700.

**2.** *перех.*—разузнавать. Нсл. 700. *Чаго гэтыя людзі тут чмыхаюць — некага ў некруты, знаць, хочуць прачмыхаць.* Нсл. *Соверш.* **прачмыхаць,** *перех.*—букв. узнать обонянием; проведать. Нсл. 533. *Нос твой прачмыхаў, ідзе гарэлку п'юць.* Нсл.

**3.** выражать неудовольствие резкими движениями головы, кашлем и т.п., Гсл. фыркать, брюзжать. Нсл. 700. *Чмыхаеш, нос твой гэтага ня любе.* Нсл. *Чмыхнуў носам дый пабег.* Нсл. *Соверш.* **зачмыхаць,** **1.** начать(для выражения пренебрежения, безразличия к кому, чему-л., **С.**) или ноздрями одувать. Нсл.

**2.** *перен.*—изъявить неудовольствие или несогласие на преложение. Нсл. 193. *Зачмыхаў, як сказалі яму гэта.* Нсл.

●**чва́рыць**-*ру-рыш-ра*—травить животное собаками. Шсл. *Вось дзе чалавек: сьвіньня толькі што ўзаткнулася на двор, а ён запер ды давай чварыць сабакамі.* Ст. *Соверш.* **зачва́рыць**—затравить собаками. Шсл. *Пастух зачварыў сьвіньню сабакамі.* Ст. *Прич.* **зачва́раны.** Шсл. *Да сьмерці зачварана парасё сабакамі.* Ст. *Соверш.* **начва́рыць**—натравить собаками. Шл. *Пастух начварыў сьвіньню сабакамі, каб не ўцякала дамоў.* Ст. *См.* *цкаваць.* *Соверш.* **прычварыць**—притравить животное собакой. Шсл. *Нехта прычварыў нашу сьвіньню — і вушы апусьціла.* Ст. **вычвара́ць...**

●**чвя́каць**-*аю-аеш-ае*—чавкать. Растсл. *См.* *чмякаць.*

●**чвір**-*ру, предл. и зват.-ру, м.*—крупный перемытый песок. Жучкевіч, 15. *См.* *жвір.*

●**чуб,** *чу́ба, м.* **1.** хохол(волосы). Нсл.; Ар.; Ксл.; Шсл.; Гсл. *Выгадаваў ты сабе чуб, — як біцца, дык добра будзе тузаць за яго.* Ст. *Надраў хлапчука за чуб.* Пятніцкая Беш. (Ксл.). *Чуб надзяру, калі ня зробіш, як трэба.* Нсл. *Уменьш.* **чубок**-*бка*—хохолик. БГсл.

**2.** драние за хохол. Нсл. *Дай яму чуба за гэта.* Нсл. *Чубы мяжсобку дзяруць.* Нсл.

●**чуба́йка**-*йкі-йцы, ж.*—хохол. Нсл. *Чубайку выдзяру, не чапайся.* Нсл. *Кулік чайку ўзяў за чубайку.* *Послов.* Нсл.

●**чуба́н**-*ана̀, предл.-ану̀, зват.-а̀не, мн. ч., дат.-нох. м.*—хохлач. Нсл. 700. *Чубана гэтага ё за што патрэсьці.* Нсл.

●**чуба́сіць**-*шу-сіш-се, каго-што*—драть за хохол. Нсл. *Яго ўсі беднага чубасяць.* Нсл. *Соверш.* **начуба́сіць** *каго-што*—надрать за хохол. Нсл. *Не чапайся зь ім, ато начубасіць.* Нсл.

●**чуба́сты**-*тая-тае*—с большим чубом. Нсл. 700. *Чубасты пятух.* Нсл.

●**чубатка**-*ткі-тцы, ж., бот.*—хохлатка. БГсл.

●**чубаты**-*тая-тае*—с чубом, хохлатый, (Нсл.) *Чубатая курыца.* Нсл. 700.

●**чубе́йка**-*йкі-йцы, ж. — чубайка.* Нсл. 701.

●**чубі́ць**-*блю-біш-бе, каго-што*—тоже, что *чубасіць*, только слегка. Нсл. 701. *Каго люблю, таго й чублю.* *Послов.* Нсл. *Однкр.* **чубну́ць**-*ну̀-нёш-нёць-нём, каго-што* —дернуть легко за волосы. Нсл. 701. *Чубні яго за гэта слова.* Нсл. *Соверш.* **начубі́ць,** *каго-што*—надрать за волосы. *Досыць ты начубіў яго.* Нсл. *Прич.* **начу́блены** —надранный за волосы. Нсл. *Яшчэ не начублена твая галава, што ты чапаешся з імною.* Нсл. *Соверш.* **пачубі́ць**—потаскать за волосы, за хохол. Нсл. 490. *Пачубіў ты яго досіць.* Нсл.

**чубі́цца,** *взаим.* **1.** драться с кем за волосы. Нсл. 701. *Соверш.* **пачубіцца, 1.** подраться за волосы. Нсл. 701. *Яны часта мяжсобку чубяцца; пагодзяцца ды ізноў пачубяцца.* Нсл.

**2.** иметь привычку драть, дергать других за волосы. Нсл. 701. *За якую прычыну ты чубішся?* Нсл.

**чу́бкі**-*каў(-коў),* *единств. ч. нет.* **1.** взаимная таска за волосы. Нсл. 701. *Хлапцы ў чубкі пайшлі; разьняць іх трэба.* Нсл.

**2.** игра, в которой проигравшего наказывают легким дерганием за волосы. Нсл. 701. *Я табе болей надаваў чубкоў, чымся ты мне.* Нсл.

●**Чухонец**-*нца, предл.-нцу, зват.-нча, м.* —Эстонец. *Ён Чухонец.* Дабрамысьль Лёз. (Ксл.). *См.* *Чухна̀.*

•**чу́хаць**-*аю-ае-ае, каго-што,* **1.** чесать (скрести ногтями, Вост.-Даль) Шсл.(у людей это бывает при некоторой заботе и нерешительности, **С.**). *Парасяткі любяць, каб іх чухаць.* Ст. *Соверш.* **зачу́хаць** —начать делать грубости. Нсл. 735. *Зачухай толькі яшчэ, то й дастанецца па лычу.* Нсл. *Соверш.* **пачу́хаць**—почесать, поскрести ногтями. *Сяляне пастаялі, пачухалі патыліцы.* ЗСД 100.
**2.** хрюкать(особенным образом, **С.**), свойственно свинье, когда она чутьем слышит для себя что-л. опасное. Нсл. 703. *Сьвіньня нешта чухае.* Нсл.
**3.** *перен.*—грубить. Нсл. 703. *Ня чухай ты так, ато па храпе заробіш, калі яшчэ чухнеш.* Нсл.
**4.** выходить клубами, выбрасываться, свойственно дыму или пламени. Нсл. 703. *Дым, агонь дужа чухае зь печы.* Нсл.
**5.** лить воду на раскаленные камни или на огонь. Нсл. *Ня чухай болей вады, і так горача.* Нсл. *Чухні вады на агонь.* Нсл.
**ушчу́хнуць,** *однкр. к чухаць, 5*—быстро полить. *Ушчухні троху на* ( раскаленную) *печ.* Нсл. 703.
**чу́хнуць**-*ну-неш-не, однкр. к чухаць, 1, 2, 3, 4.* **1.** хрюкнуть. Нсл. 703. *Сьвіньня нешта чухнула.*
**2.** хлынуть. Нсл. *Вада чухнула разам.* Нсл. *Полымя чухнула ў вакно.* Нсл. *Кроў чухнула з горла. См. чхануць.*
**адчу́хаваць**-*хую-хуеш-хуе, каго-што* —отливать водою омертвевшего, Нсл. 384. приводить в чувство вообще. *Адчухуйце яго вадою сьцюдзёнаю.* Нсл. *Соверш.* **адчу́хаць,** *каго-што*—отлить водою омертвевшего, Нсл. 384. привести в чувство вообще. *Я яго адчухаю не вадою, а лазою.* Нсл.
•**чу́хацца,** — свербеть, чесаться. Гарадзеншч.(Нсл. 703). *Як маё цела чухаецца.* Нсл.,—чесаться, Шсл. чесаться самому ногтями, или обо что-н., или с кем скрестись. Вят., Вост. (Даль). *Чухаецца: мусіць вошы яго кусаюць.* Ст.
**адчу́хавацца,** -*хуюся-хуешся*—приходить в чувство после обморока или опьянения, Нсл. 384. приходить в себя. *Учадзелы адчухуецца ад сънегу.* Нсл. *Соверш.* **адчу́хацца**—притти в чувство после обморока или опьянения, Нсл. 384. притти в чувство. *Чухніце на яго вадою, дык і адчухаецца.* Нсл.
**ачу́хавацца(ачуха́цца?),** -*хуюся-хуешся* —приходить в сознание, здороветь. Дсл. *Яна стала ачухавацца.* Ельн. (Дсл.). *Соверш.* **ачу́хацца**-*аюся-аешся,* **1.** опомниться, прийти в себя( в сознание, Дсл.) Ксл.; Шсл. *Ён яшчэ ад учарашняга не ачухаўся.* Сухарукава Аз. *Яшчэ ад хмелю не ачухаўся, а на паншчыну йдзі.* Дсл. *Ледзь ачухаўся ад гарэлкі.* Ст.
**2.** поправиться здоровьем. Дсл. *Дужа хварэла, а цяпер трошку ачухалася.* Дсл.
•**чухісь!,** *междомет.*, выражающее быстрое, неожиданное выливание жидкости. Нсл. *Чухісь на яго вадою, памыйкамі.* Нсл.
•**Чухна́**-*ны̀, общ.*—Эстонец. Ксл.; Ар. *Яны чухны.* Дабрамысьль Лёз. (Ксл.). *См. Чухонец.*
•**чухнї́,** -*нёў-нём-нì-нямі-нёх*—вязанные туфли. Ксл. *Падзерліся мае чухні.* Чарнагосьці Беш. (Ксл.).
•**чудосы**-*саў*—чудеса. Ск.; Дуброва Ск.; Люцыншчына, Пустыншчына, Дагда, Прыдруйшчына(беларускія мясцовасьці ў Латоўскай рэспубліцы, **С.**).
•**чудоўны**-*ная-нае,* **1.** чудотворный. Нсл. 701. *Чудоўны вобраз.* Нсл.
**2.** удивительный, чудесный. Нсл. 701. *Чудоўнае дзела, ідзе дзелася хустка.* Нсл. *Нареч.* **чудоўна**—чудесно, удивительно. Гсл.; Нсл. 701. *Чудоўна зроблена.* Нсл.
•**чуда**-*да, мн. ч. чудосы. Уменьш.*—чудо. *Над чудам чуда, над дзівам дзіва. Послов.* Нсл. 701.
•**чудасе́й**-*ѐя, предл. и зват.-ею, м.*—оригинал, странный человек.
•**чужазе́м**-*ѐма, предл.-ему, зват.-ѐме, м.* —иностранец. *Прыяжджаў з даўганогім сябрам-чужаземам князь.* Гарэцкі: Песьні. *"Пачакайце", казаў князь, лезучы з тым чужаземам на лавецкія калёсы.* Тм. 7.
•**чужазе́мец**-*мца, предл.-мцу, зват.-мча, м.*—иностранец. Ксл. *На парніку чужаземец нейкі прыехаў.* Бешанковічы (Ксл.).
•**чужазе́мка**-*мкі-мцы, ж.*—иностранка.
•**чужазе́мны**-*нага*—иностранный, Ксл. иноземный. МГсл. *Гэта чужаземная машына.* Сукрэмна Сян. (Ксл.).
•**чужа́ніцца**-*нюся-нішся, несоверш.*—чуждаться. *См. чужыніцца.*
•**чужапа́нец**-*нца, предл.-нцу, зват.-нча, м.*—крестьянин чужого *"пана". Хто п'яны тут, хто такоўскі, чужапанец, не шчарсоўскі.* ЧЧ.(Б. Студіс, II-I, 1969, 77).
•**чужаслоў,** *грамм.*—кавычки. МГсл.
•**чужастароньні,** -*няя-няе*—иностранный. Рэч.(Пет., II, 260). *См. чужаземны.*
•**чуж-чужанї́н**-*на, предл.-не, зват.-не, м.* —совершенно чужой, пришлый человек, не имеющий родни в данной среде. НК: Очерки, Но. 103.
•**чу́жка**-*жкі-жцы, ж.*—женщина-неродственница, не состоящая даже в свойстве и кумовстве. НК: Бабы, Но. 2.
•**чужнї́к**-*ікà, м.*—чужой человек. Ар.; Ксл. *Чужнік можа трапіцца.* Даўгое Беш. (Ксл.).
•**чу́жык**-*ка, предл.-ку, зват. чу̀жыча, м.* —чужой человек. НК: Очерки, Но. 103.
•**чужы́на**-*ны-не, ж.*—чужая сторона, земля, чужбина, (Гсл.). *Цяжка быці, цяжка жыці, на чужыне маладзіцы.* Из песни.
•**чужы́ніцца**-*нюся-нішся, несоверш.*—чуждаться. *См. чурацца, чужа̀ніцца.*
•**чуйкі**-*каў, мн. ч.*—вязанные туфли. Ксл. *Чуйкі не абувай — дождж.* Высачаны (Ксл.).

•**чука́васьць**-*ці, ж.*—чуткость, осторожность, Нсл. 702. бдительность. *У дарозе трэба чукавасьць мець.* Нсл.

•**чука́вы**-*вая-вае*—внимательный, осторожный, Нсл. 702. бдительный. *Чукавы не задрэме.* Нсл. *Чукавы гаспадар. Ён хоць п'ець, ды чукаў.* Нсл. *Ср. ст.* **чукаўшы.** Нсл. 702. *Твой сын чукаўшы за майго.*
*Нареч.* **чука́ва**—чутно, осторожно, Нсл. 702. бдительно. *Чукава сьцерагчы трэба.* Нсл. *Ср. ст.* **чукаве́й**—заботливее, осторожнее, быстрее, Нсл. 702. бдительнее.

•**чу́ла́**, *междомет.*—эй, слышишь! Горадзеншч.(Нсл. 702). *Чула-чула! пакажы, што прадаеш.* Нсл.

•**чу́ласьць**-*ці*—чувствительность, МГсл. нежность. Гсл.; Нсл. *Няма ў ім чуласьці, хоць што хочаш гавары яму.* Нсл. *Як не гадзі яму, а ён чуласьці на тое ня мае.* Нсл.

•**чу́лець**-*ею-ееш-ее, повел.-ей-ейма, несоверш.*—приходить в чувство. Гсл. *Соверш.* *ачулѐць. Цар ачулеў.* Крушына: Лебедзь, 60.

•**чулі́нда**-*ды-дзе, ж.*—неряха, (МГсл.) нескладный, чучело. Нсл. *Хто за цябе чуліндy пойдзе?* Нсл. *За добрым мужыком і чулінда жонка, а за благім і папоўна нявольніца.* Нсл.

•**чу́ліць**-*лю-ліш-ле, каго-што,* **1.** приводить в чувство. Нсл. 702. *Колькі ня чулілі яго, не ачулілі.* Нсл. *Як ты яго ня чуль, ніяк не рашчуліш.* Нсл.
**2.** приводить в чувствительность, в сострадание, Нсл. 702. трогать, действовать на чувство. Гсл. *Соверш.* **ачуліць,** *перех.*—привести в чувство. Нсл. 702. *Прич.* **ачу́лены**—приведенный в память, в чувство. Нсл. 587. *Ачулены тапельнік.* Нсл. *Ачулены ад чаду.* Нсл. *Прилаг. из прич.* **ачулёны**—приведённый в раскаяние. Нсл. 387. *Ачулёны ў сваіх ліхіх учынках, заплакаў.* Нсл.

**рашчулі́ць,** *соверш. к чуліць, 2*—растрогать, МГсл.; Гсл. умилить, привести в чувствительность, в сострадание. Нсл. 553. *Так рашчуліў яго, аж заплакаў.* Нсл. *Ні просьбаю, ні сьлязьмі яго не рашчуліш.* Нсл. 553. *Прич.* **рашчулены**—приведенный к раскаянию, разжалобленный, растроганный. Нсл. 553. *Рашчулены нашымі сьлязьмі, сам заплакаў.* Нсл. *Рашчулены словамі сьвятара, уздыхнуў і прызнаўся.* Нсл.

**вы́чуліць** *каго-што*—привести в чувство. Нсл. 102. *Ледзь вычулілі хлапца, так учадзіў.* Нсл.

•**чу́ліцца,** *возвр.* **1.** приходить в чувство после оцепения. Нсл. 702. *Чуліцца патроху.* Нсл.
**2.** приходить в раскаяние, трогаться состраданием к другому. Нсл. 702. *Як ні гавары табе, ты ня чулішся, што нягодна робіш.* Нсл. *Багабойлівы чалавек заўсёды чуліцца над бедным.* Тм. *Соверш.* **ачу́ліцца**—прийти в чувство. Нсл. 702. *Замлеў, ледзь ачуліўся.* Нсл.

**рашчу́ліцца,** *соверш. к чуліцца, 2*—растрогать состраданием к другому, Нсл. 702. расчувствоваться, растрогаться, (Гсл.) умилиться. *Пан рашчуліўся над нашаю бядою.* Нсл. 553. *Рашчуліўся да сьлёзаў.* Нсл. 702. *Отгл. имя сущ.* **рашчуле́ньне**-*ня, предл.-ню*—умиление, МГсл. растроганность.

•**чульлі́вы,** *-вая-вае*—чувствительный. *Нязвычайна чульлівая матка да грудзей сына туле бяз слоў.* Швэд: Сьцежкі, 3. *Быў сэрцам ён чульлівы.* С. Музыка, 31. *Пей аб супакою, як чульлівая жалейка раніцай ціхою.* А. Зязюля("Зьніч", 1953, Но. 24). *Акаліца аж зьвінела мэлёдыямі чароўных, то шчырачульлівых, то спаважна ўрачыстых беларускіх калядкаў.* Белр. каляд. гульні("Беларус", Ню Ёрк, 1953, Но. 22).

•**чу́лы**-*лая-лае, ср ст.* **чу́льшы, 1.** чувствительный, признательный(без последнего, С.) Нсл. *Хто ня чулы, таго нічым не рашчуліш.* Нсл. *Чым чульшы чалавек, тым жаласьлівейшы да другіх.* Нсл.
**2.** послушный(чуткий? С.) Нсл. *Чулы зараз паслухае, зробе, што кажуць.* Нсл. *Ты чульшага работніка маеш, як мой.* Нсл. *Нареч.* **чу́ла, 1.** чувствительно. Нсл. *Чула пяець, аж сьлёзы коцяцца.* Нсл.
**2.** чутко. Нсл. *Чула сьпіць.* Нсл.

•**чумі́чка**-*чкі-чцы, ж.*—кружка. Ксл. *Зачэрпні чумічкаю вады ў вядры і напіся.* Бабінічы Віц. (Ксл.).

•**чу́нець**-*ею-ееш-ее; повел.-ей-ейма, несоверш. без доп.*—чувствовать себя лучше, более в силах. Нсл. 702. *Бацька чу̀нее патроху, ачу̀неў просьле хваробы.* Нсл. *Соверш.* **ачу́нець**—почувствовать себя лучше, Нсл. 702. прийти в себя. Растсл.; Карачэўск. п.(Б.: Тула-Орел, 130). *Соверш.*
**пачуне́ць,** *-ѐю-ѐеш-ѐе*—выздороветь(поздороветь, С.) Ксл. *Яна ўжо просьле хваробы пачунела.* Слабада Чаш. (Ксл.).

•**чуня́ць**-*яю-яеш-яе, повел.-яй-яйма, несоверш.*—приходить в состояние выздоровления, Нсл. 702. выздоровливать. *Бацька, хвала Богу, чуняе, ачуняў.* Нсл.

**ачуня́ць,** *соверш.* **1.**—выздороветь. Ар.; Міх.; Гсл.; Шсл.; Нсл. 702; Смл. (Даль)—поправиться, выздороветь. Гсл. *Хлапец быў хворы, але ачуняў.* Ст.
**2.** выйти из плохого состояния, Гсл. приходить(прийти) в себя. ПНЗ. *Нейкая няўцямная сонная трывога сьціскала сэрца. і няма сілы ачуняць.* Гарэцкі: Песьні, 56. *Схапіла яго, пацалавала разоў колькі, агледзела з ног да галавы, што гэта ён. Потым ужо, крыху ачуняўшы, пачала завіхацца зь ежай.* Цэлеш: Ярылаў агонь.

•**чуні**—.....(Растсл.: Смоленск 149). *Расклаўшы на сьнезе чуні, стаялі й звалі да сябе ахвочых дзяды.* Капыловіч: Хлеб.

•**чупры́на**-*ны-не, ж.*—шевелюра. Нсл.; БГсл.; МГсл. *Дзеўкі дружка білі, чупрыну залупілі; хто йдзець, дык сьмяецца, што чупрына трасецца.* Из свад. песни, Нсл. 702.

•**чупчы́ньнік**-*іка, предл.-ку, зват. чупчыньніча, м.*—шиповник, куст дикой розы. Ар.
•**чура́цца**-*аюся-аешся, несоверш., перех.* —чуждаться. Ар.; Нсл. 702; Вят., Вост. (Даль); МГсл. *Ніхто сваіх дзяцей ня чураецца, а ты чураешся.* Нсл. *Гэта ня сын, калі ён чураўся бацькоў сваіх.* Ст. *Ня чурайся мяне старой.* Навікі Віц. (Ксл.). *Соверш.* **адчурацца** (ПНЗ), **1.** отречься. Нсл. 702; Растсл. *І свайго добрага адчураўся.* Нсл. *А цяпера і дзеці прыдбалі, і ад дзяцей ты адчураўся.* Смол. у. (Дсл.).
**2.** *ад каго*—отстать. Нсл. 384. *Адчурайся ты ад іх таварыства.* Нсл. *Адчурайся ты ад яе; ці табе другой ня будзе?* Нсл. *Соверш.* **ачура́цца, 1.**—отречься. Ксл.; Шсл. *Ачураўся й бацькі й маткі.* Ст. *Ачураешся ты й сваіх, як дам.* Ст. *Усяго гэтага ачураўся.* Яноўшчына Беш. (Ксл.).
**2.** сторониться, избегать кого.
**пачура́цца**—отречься многим или от многих, Ар. отречься. Ксл. *Усе яго пачураліся.* Шарыпіна Беш. (Ксл.).
•**чурба́лка**-*лкі-лцы, ж.*—толстая палка. Ксл. *Чурбалкаю мяне ўдырыў.* Гарадок (Ксл.).
•**чура́ць**-*аю-аеш-ае, несоверш.*—кричать "чур!". Нсл. 702. *Соверш.* **зачура́ць**—крикнуть "чур!". Нсл. 702. *Ня чурай! я знашоў і ўперад за цябе зачураў.* Нсл.
•**чу́рка**-*ркі-рцы, ж.*—что-л. ставшее неприкосновенным, будучи "*зачуравана*". *Мая дзірка чурка.* Ар.
•**чу́шка**-*шкі, чушцы, ж.*—столбик, знак при разделе земли. Ксл. *Пастаў там чушку.* Казяны Сір. (Ксл.).
•**чушня́**-*ні-ні, ж.*—вязанный лапоть из ниток. Ксл. *Надабе абуць чушні.* Лапы Беш. (Ксл.).
•**чу́та**—слышно(слышено? С.) Ксл. *Чута тутацька.* Лалыкі Аз. (Ксл.).
•**чу́тасьць**-*ці, ж.* **1.**—слышимость. *Моцы мець ня будзе: чутасьці ў вушах, ясносьці ў вочах ня будзе.* Кіт. 6б64.
**2.** слух.
•**чу́тка**-*ткі-тцы, ж.*—слух, молва. Ксл.; Шсл.; МГсл. *Дрэнная чутка йдзець пра нас.* Доўжа Куз. (Ксл.). *Я ня ведаю, як яно, але на сяле была такая чутка.* Ст. *Дзед пачаў павядаць пра справу з лукой, пра дзіўную, нечаканую чутку.* ЗСД 14.
•**чу́тка,** *нареч.*—слышно. Растсл.
•**чуткі́,** (Ар.), **чу́ткі,** (Нсл.), **1.** имеющий тонкий слух, Нсл. 703. (быстро и легко воспринимающий что-л. обоянием, слухом, С.), чуткий. Шсл.; Ар. *Наш Рабчык чуткі: здалеку пачуе, дзе хто йдзе.* Слопішча Шацк. (Шсл.). *Ты чутак, калі кажуць: на; а калі кажуць: дай, дык ня чуеш. Дый ты ня чутшы за мяне: ня вось дасі, калі просяць.* Нсл.
**2.** очень восприимчивый к различным впечатлениям, чуткий.

•**чу́тны**-*ная-нае*—слышный, Ксл. слышный, громкий. Нсл. 703. *Чутны яе праклёны.* Чарнагосьці Беш. (Ксл.). *Чутны голас.* Нсл. *Чутным голасам плакала.* Нсл. *Чутнаю кляцьбою кляла.* Нсл. *Чуцён голас Печкаў.* Кулакоўскі: Дабраселцы.
**чу́тна,** *нареч.* **1.** слышно, Ксл. громко, слышно, Гсл. громко, в голос. Нсл. 703. *Крычы чутна.* Нсл. *Я чутна сказаў.* Нсл. *Нічога ня чутна было.* ЗСД 289. *А што новага чутно?* Пушкары Сян. (Ксл.).
**2.** *в зн. безлич. глагола*—слышно. Нсл. 703. *Што чутна пра зямлю?* Растсл.: Северск., 156. *Чутна было, што грошы знашоў ты.* Нсл.
•**чува́ць,** *нареч.*—слышно. Ар.; Ксл.; Шсл.; Гсл. *Якія навіны ў вас чуваць?* Ст. *Ці чуваць у вас пра вайну?* Шарыпіна Беш. (Ксл.). *Нічога ня чуваць.* Гсл. *Добрае чуваць далёка, а благое яшчэ далей.* *Послов.* Нсл. 701.
•**чува́ць,**—*см. под* чуць.
•**чуці́ць,** *чучу, чу́ціш, чу́це; повел. чуці́, чуціма, несоверш., перех.*—приводить в чувство. *Ср. ачуціць. Соверш.* **ачуці́ць**-*чу́ціш-це; повел.-ці-ціма, каго-што*—привести в чувство после омертвения. Нсл. 388. *І туды і сюды торгаючы яго, не ачуцілі.* Нсл. 637( *под торгаць 2*). *Вялікае спасеньне ад Бога будзе, калі ачуціце.* Нсл. *Прич.* **ачучаны**—приведенный в чувство. Нсл. 388. *Ледзь ачучанага прынесьлі двору.* Нсл. *Многократ.* **ачуча́ць**-*дю-деш-де; повел.-ай-айма, каго-што*—приводить в чувство, (Дсл.) после омертвения. Нсл. 388. *Ачучайце яго барждждэй.* Нсл. *Ачучайце п'янога!* Дсл.
**ачу́ціцца,** *ачу́чуся, ачу́цішся*—прийти в себя, Янк. I получить признаки жизни после омертвения. Нсл. 388. *Устала з пасьцелі й не магу ачуціцца.* Янк. I. *Радкі тапельнік ачуціцца.* Нсл. *Несоверш.* **ачучацца**-*аеюся-аешся*—получать признаки жизни после омертвения, Нсл. 388. приходить в сознание после обморока. Дсл. *Тапельнік ачучаецца.* Нсл. *Хворы ачучаецца.* Дсл.
•**чуць,** *нареч.*—слышно. Ксл. *Чуць, за лесам пяюць.* Капланы Сян. (Ксл.). *Ды цыт ты, ня чуць нічога, не гамані.* Смл. (Даль). *Ну й лапацяць коні: аж тут чуць!* (Шсл. *под лапацець*).
•**чуць,** *чую, чуеш, чуе; повел. чуй, чуйма, несоверш., перех.* **1.** слышать. Нсл. 703; Гсл.; Ар.; ПНЗ; Шсл.; Ксл. *Ён усё чуе.* Кіт 7а4. *Уммэр сьвяты казаў, ад прарока чуў: посьнік завешан будзе.* Тм. 18а12. *Ці чуеш, ці чуў ты, што людзі кажуць?* Нсл. *Ты таго ня чуеш, што не па табе.* Нсл. *Пад ім конік брое, капыцікам зямлю крое, вышамі вайну чуе.* Из свад. песни. *Ці чулі вы, што гэта ён брэша на мяне?* Ст. *Я чуў пра яго.* Альгова Віц. (Ксл.). *Чуеш, наша карова равець у лесе.* Бараўцы Куз. (Ксл.). *Соверш.* **зачу́ць**—услышать о чем. *Як зачуў, пачуў большы сыночак. Зачулі мы, што коні*

*прадаюць. Прич. наст. вр.* **чуючы**—слышащий. *Пан Бог, у вялікасьці Боства сваяго, чуючы ўсяго, моцу сваею куран учыніў.* Кіт. 16а9. *Бог ест чуючы і ведамы.* Кіт. 161а16.

**2.** чувствовать, испытывать какое-л. чувство. Ар. *Чую сьцюжу.* Ар. *Чую смурод.* Ар.

**3.** чувствовать, воспринимать интуицией, чутьем и т.п. Ар. *Душа мая такі чула, што будзе бяда.* Ст.

**4.** чуять, распознавать чутьём(о животных). Шсл.

**5.** ощущать(чувствовать). Гсл. *Многократ.* **чува́ць**-*аю-аеш-ае, перех.*—слышать. Нсл. 700. *Мы части чуваем, чуваем гэта.* Нсл. **пачува́ць**—чувствовать. Гсл.

*Отгл. имя сущ.* **пачува́ньне**—чувствование. Гсл. *Соверш.* **пачуць,** *перех.* **1.** услышать. Ар.; Нсл. 703; Ксл.; Шсл.; Гсл. *Як пачула гэта, так і завыла.* Нсл. *Ні ад кога голасу не пачуе.* Кіт. 52а8. *Ай, каб заўтра пачуць пастуха!* Пустынкі Сян. (Ксл.). *Усё раскажа, дзе што пачуе.* Ст. *Як пачула стук, схавалася пад ложак.* Н.(Афанасьев, IУ, 1914, 286).

**2.** *соверш. к чуць, 3*—почувствовать, (Гсл.) воспринять интуицией, чутьем и т.п. *Пачуў на сябе бяду — ды ўцекі!* Ст. *Соверш.* **зачуць,** *перех.* **1.** заслышать(издалека уловить слухом какие-л. звуки, С.) Нсл. 193,—послышать, *устар.* Шсл. *Зачуў, што гамоняць.* Нсл. *Абы зачуў якую песьню, дык і пяе яе.* Ст. *Красная дзевачка сенечкі мяла, венічкам махне, цяжанька ўздыхне. Зачуў, пачуў яе татухна.* Гараны Імгл.(Косіч 235).

**2.** заслышать, получить известие, узнать о ком, о чем-л. *Зачуе цешчухна, гатавацца будзе.* Косіч 240. *Як зачула гэта, дык і завыла.* Нсл. 703. *А ўсім дзевачкам па вяночку, аднэй Ганьне вянка нет. Як зачуў, пачуў Іванечка: "Ня журысь, Ганначка, ня журысь, а я ўчора на таргу пабываў, я ж табе вяночак старгаваў"* Север. Сур.(Шэйн. I-2, 496).

**вы́чуць**—.... *І першы раз у гэтай песьні вычуў прастору зямлі расквіцелай-безгранічнай.* Танк(Калосьсе, Но. 29, стр. 134). *Соверш.* **учу́ць,** *каго-што, соверш.* **1.** услышать(быстро, скоро). *І ніхто мяне ня ўчуе, толькі маці мо пачуе, толькі маці адна.* Дубоўка: Браніслава(Прыйсьце, Но.1). *Калі ўчуеш азан, ідзіце да намазу(араб. малітвы).* Кіт. 32а4. *Як учуў тое, што на яго казалі, вельмі перад Панам Богам заўстыдаўся.* Кіт. 79б4. *Калі ўчуеш, рада будзе ўся душа.* Кіт. 108а1. *Хто бы навукаю забаўляўся, або куран пеў, забаўны быў, а ў том часе голас азанны ўчуў, то час трэба стаяць, азану павагу чыніць.* Кіт. 92б3. *Можа Ганна іскрыпку ўчуе.* С. Музыка, 270. *Іскрыпку ўчула, ня стрывала.* Тм. 98.

**2.** почувствовать. Гсл.

**недачува́ць,** -*аю-аеш-ае*—недослышивать. Нсл. *Як дай кажны недачувае.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **недачува́ньне**-*ня*—недослышка, глухота. Нсл. 330. *Калі ў цябе сталася гэта недачуваньне, што ты не дачуеш, калі гукаюць на работу?* Нсл. *Соверш.* **недачуць**—недослышать. Нсл. *Як дай, усякі недачуе.* Нсл. *Глухі чаго не дачуе, дык прылажа.* Нсл. *Прич.* **недачу́тны**—недослышанный. Нсл. 331. *Слова тваё недачутна.* Нсл. *Отгл. имя сущ.* **недачу́цьцеця**—недослышка. Нсл. 331. *Незразумеў, што ён сказаў, цераз недачуцьце.* Нсл.

**прачува́ць**-*аю-аеш-ае; повел.-ай-айма, несоверш., перех.*—узнавать по слухам, по молве. Нсл. 533. *Я каня свайго прачуваю, прачуў.* Нсл. *Соверш.* **прачу́ць**-*ую-уеш-уе.* Нсл. 533. *См. прачуваць. Прич.* **прачу́ты**—прослышанный. Нсл. 533. *Прачутыя коні надабе спагнаць.* Нсл.

•**чуцьцё**-*ця, предл.-цю; мн. ч.* **чу́цьці**-*цяў, ср.*

**1.** чувство. Гсл.

**2.** чутьё.

**3.** предчувствие. Ксл. *У яго было чуцьцё, што ён зьгіне.* Мішкава Куз. (Ксл.).

•**чуцца,** *чу́юся-чу́ешся*—чувствовать себя.

**дачу́цца**—услышать о чем-л. важном, интересном, Дсл. прослышать. Шсл. *Дачулася я, што мужа ў некруты аддаюць.* Ельн. (Дсл.). *Дачулася я, дачушка, якая пра цябе слава пашла.* Тм. *Потым дачуліся паны.* Тм. *Дачуўся, што ў другім сяле можна дастаць сена.* Ст. *Наш сусед дачуўся, куды ягонага сына завезьлі.* Варсл.

**чува́цца,** -*аюся*—чувствовать себя, слыть, жить. Нсл. 701. *Як ты маешся, ці добра чуваешся? — Ат! чуваемся патроху. Тата яшчэ чуваецца,*—зн. живет, здравствует. Нсл. *Соверш.* **начу́цца**—наслышаться. Нсл. 739. *Начуўся я досіць ад цябе гэтакае гаворкі, сваркі.* Нсл.

**дачува́цца,** *нв.* **1.**—узнавать по доносам или слухам(из доходивших слухов, рассказов, С.) Нсл. 144. *Мы ня ведаем, а людзі дачуваюцца, што нас на волю пусьцяць.* Нсл.

**2.** доходить(слухом). *Ня добрыя весьці дачуваюцца аб табе.* Нсл. *Соверш.* **дачуцца**—прослышать(узнать из дошедших слухов, рассказов, С.) Шсл., узнать по доносам или слухам, Нсл. 144. прослышать, узнать по слухам. Гсл. *Дачуецца пан, будзе нам ліха.* Нсл. *Дачуўся, што ў другім сяле можна дастаць сена.* Ст. *Дачулася пра гэта ўдава.* Мікольск М.(Демид.: Веров, 96). *Дачуўся пан, што недалёка жыве знахарка.* Мікольск М.(Демид.: Веров. II, 1896, 108.). *Як дачулася аб гэтым, горка плакала царыца.* Крушына: Лебедзь, 61. *Соверш.* **прачу́цца**-*уецца.* Нсл. 533. *См. прачувацца.*

**прачува́цца**-*аецца, несоверш.*—узнаваться по слухам, по молве. Нсл. 533. *Пакража мая прачуваецца, прачулася.* Нсл.

**прычува́цца**-*аецца*—слышаться. Нсл. 517. *Голас ягоны імне прычуваецца, прычуўся.* Нсл. *Глухому ўсё прычуваецца.* Тм. *Соверш.* **прычу́цца**-*уецца*—послышаться. Нсл. 517. *Імне прычулася гэта.* Нсл.

•**чыгу́н**-*ну́, м.* **1.** чугун. Ар.
**2.** *род. пад.*-*на̀*—чугунный котел. НК: Очерки, 77; Горадна Стол.(Полесье, 183). *Волава кладуць у чыгун і паляць на прыпеку ў печы.* Горадна Стол.(Полесье). *Зьеў чыгун парасячага булёну.* Заставін(Бацьк., Но. 435-436). *Уменьш.* **чыгунок**-*нка̀. Гэта быў чыгунок кадзе зваранае бульбы.* Кулакоўскі: Дабраселцы. *Паставіла на стол чыгун із бульбаю.* Капыловіч: Хлеб("Беларус", Но. 157). *Жанкі мітусіліся каля із із скварадамі й чыгункамі, варачы й смажачы.* Цялеш: Ярылаў агонь. *Уменьш.* **чыгу́нчык**-*ка, предл.*-*ку.* НК: Очерки, 78.

•**чыгу́нка**-*нкі*-*нцы, ж.*—железная дорога. Ксл.; Ар. *У нас нікалі ня бачылі чыгункі.* Вярхоўе Беш. (Ксл.). *З Багушоўкі да Віцебска йдзе чыгунка.* Гарывецк Сян. (Ксл.). *Чыгунка, як бы ўбегла да тунэлі.* Рунь, 52.

•**чыгу́нны**-*ная*-*нае*—чугунный. Ар.

•**чый,** *чыя̀, чыѐ(чыё); мн. ч. чые, чыіх, местоим.*—чей. МГсл.; Ар.; Гсл. *Чыйго ты народу?* Кіт. 37б13. *Пад лістотаю шумлівай чыясь заснула маладосьць.* Е. Лось: Дома.

•**чыйся,** *чыйсь, чы-гось*—чей-то. Севершч. (Раст.: Северск. 100).

•**чы́каць**-*ае, несоверш.*—тикать(о часах). Гсл. *Гадзіньнік чыкае. Отгл. имя сущ.* **чы́каньне**-*ня, предл.*-*ню*—тикание.

•**чыкільга́ць,** -*аю*-*аеш*-*ае*—итти(ковылять, С.) хромая. Шсл. *Антон чыкільгае да нас.* Ст. *Соверш.* **зачыкільга́ць**—заковылять. Шсл. *Як зачыкільгаў, толькі й бачылі яго.* Ст.

•**чыкры́жыць**-*жу*-*жыш*-*жа, перех.* **1.** точить свойственно мышам, Нсл. 699. точить, как мыши. Гсл. *Мышы так і чыкрыжаць жыта.* Нсл.
**2.** часто(тонко, С.) резать и есть(последнее не обязательно, С.) Нсл., мелко изрезывать. Гсл. *Дзеці чыкрыжаць хлеб.* Нсл.

**адчыкры́жыць, 1.** высечь. Дсл. *Адчыкрыжвлі розкамі.* Дсл.
**2.** отсечь что-л., отрезать, Дсл. отъесть, режа и кроша. Нсл. 384. *Паглядзі, мама, колькі дзеці адчыкрыжылі хлеба.* Нсл.
**3.** отстричь. Дсл. *Адчыкрыж нажніцамі.* Дсл. *Соверш.* **начыкры́жыць**—нарезать тонко, накрошить. Нсл. 325. *Начыкрыжылі дзеці хлеба.* Нсл. *Прич.* **начыкры́жаны**—(нарезанный тонко, С.), накрошенный. Нсл. *Ня годзіцца зьмяшаць пад стол начыкрыжанага хлеба.* Нсл.

**ачыкры́жаваць**-*жую*-*жуеш*-*жуе, несоверш.* **1.** обрезывать, обстригать(близко к телу, Нсл.), до гола, Дсл.; Нсл. 387. *І давай ён сакалу крылы ачыкрыжаваць.* Дсл.
**2.** кругом обгрызать. Нсл. 387. *Соверш.* **ачыкры́жыць, 1.** обрезать, остричь волосы близко к телу. Нсл. 387. *Нашто ты мне яго так ачыкрыжыў, як маскалёнка?* Нсл.
**2.** кругом огрызть. Нсл. 387. *Мышы ачыкрыжылі букатку хлеба.* Нсл. *Прич.* **ачыкры́жаны, 1.** кругом обстриженный(и особенно, Нсл.) близко к телу. Нсл. 387. *Ачыкрыжаная галава.* Нсл.
**2.** кругом обгрызенный.

**пачыкры́жыць,** *соверш. к* чыкрыжыць *1, 2. Мышы пачыкрыжылі салому.* Нсл.

**шчыкры́жыць,** *соверш. к* чыкрыжыць, *1, 2,*
**1.** (совершенно, С.) источить, свойственно мышам. Нсл. 699.
**2.** порезать на мелкие куски все количество чего-л. *Дзеці чыкрыжаць хлеб, паў букаткі шчыкрыжылі.* Нсл.

•**чы́мся,** *союз,*—нежели, Гсл. чем. Раст.: Северск., 134. *Чымся рабіць за такія грошы, дык валей на печы пралежаць.* Раст.: Северск., 134. *Чымся толькі ўзяць, дык валей дарма аддаць.* Гарывецк Сян. (Ксл.). *Выразьлівей, чымся ўперад.* ЗСД 238. *Няма чым хваліцца, калі забілі болей нявінных.* Дзьве Душы. *Ды няхай валей яна па маладчанках ідзець, а ня чымся тое!* НК: Сбяги, 9. *Бязбожнік ты! табе, значыцца, сьвятшы птушыны віск, чымся набожныя песьні, чымся Божае слова, што татулька чытае?* Рэч.(Пет. II, 265). *Справа разыгралася барждэжэй, чымся можна было чакаць.* Заставін(Бацьк., Но. 435-436). *Канвой падганяе тых, што астаюцца, змушаючы іх бегчы, што куды больш вычэрпуе чалавека, чымся калі ён ідзець увесь час аднолькавым тэмпам.* Караньдзей(Бацьк., Но. 437-438). *Падвязі, памай к нам ласку, чымся лаяць папаганску.* Гарун: Кан. Паўлючонка. *Прыхадней табе маладому ўступіць імне, чымсі, каб я стары ў ступіў табе.* Нсл. 516( *под* прыхадней).

•**чыноўкі**-*овак*—планки, дощечки, которыми перекладывается основа в ткацком станке. Макеенкі Аз. (Ксл.). *Ср. цыноўкі.*

•**чына́рка,** -*ркі*-*рцы, ж.*—бекеша, вид пальто. Ксл. *Куды яму да мужыкоў, калі ён чынарку надзеў.* Машчоны Сян. (Ксл.).

•**чыні́ць**-*ню̀*-*ніш*-*не, несоверш., перех.* **1.** делать(творить, С.) Нсл. 699, производить, совершать. *Ня чыні таго другім, што табе ня люба. Послов.* Нсл. *Што я маю чыніць із табою?* Нсл.
**2.** заключать(мир, союз).

**чыніць ласку,**—*см. под ласка.*

**чыніць павагу,**—*см. под павага.*

**чыніць дастамэнт,**—*см. под дастамэнт.*

**чыніць няславу,**—*см. под няслава.*

**чыніць аброкі,**—*см. под аброк.*

**чыніць паважнасьць,**—*см. под паважнасьць.*

**чыніць сьпевы**—петь. *Чыняць сьпевы на кантычках.* НК: Старцы. 86.

